# ЗАПІСЫ

**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

**BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES**

**ZAPISY 37**

**NEW YORK — MIENSK**

**2014**

Выдаецца пры фінансавай дапамозе Фундацыі
імя Пётры Крэчэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952—1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных у 1962—1970 гг. друкаваліся ў Мюнхэне. З 12-га (1974) па 24-ы (1999) том ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. З 2002 г. ЗАПІСЫ — супольны нью-ёрска-менскі праект.

**ADDRESS**
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166-34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A.
zapisybinim@gmail.com

## ЗЬМЕСТ

**Будучыя кнігі**



**Бібліяграфіі**



**Месца на мапе**



**Выданьні**



**Літаратура**



**Публікацыі**



**З гісторыі філялёгіі 1920-х гадоў**

## Архівалії



## Эміграцыязнаўчая сэкцыя IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі

**Угодкі**



**Вакол кнігі**



**Кніжная паліца**



**Хроніка**

# АД РЭДАКЦЫІ

У сёлетнім нумары „Запісаў БІНіМ“ атрымалася не адна, а адразу тры тэмы нумару. Першая — „Біяграфіі“ — не вычэрпваецца ўласна біяграфічным даведнікам „Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі“, але мае працяг і ў наступных разьдзелах, дзе зьмяшчаюцца матэрыялы, прысьвечаныя канкрэтным асобам эмігрантаў.

Другая важная тэма — беларуская прысутнасьць у Францыі. Гэтая дыяспара, што вядзе свой пачатак яшчэ ад XIX ст., застаецца надзвычай маладасьледаванай у айчынай гістарыяграфіі. Зьміцер Матвейчык у адпаведнай рубрыцы публікуе артыкул, прысьвечаны „Дзёньніку“ Юзафа Патрыкоўскага, разглядаючы яго як крыніцу па гісторыі эміграцыі ўдзельнікаў паўстаньня 1830—1831 гг. у Францыі. Астатнія тэксты разьдзелу датычаць эміграцыі ўжо пасьля Другой сусьветнай вайны. Ва ўнікальным ліставаньні Янкі Філістовіча зь Міколам Скабеем з 1948—1949 гг., падрыхтаваным Сяргеем Яршом, знайшлі адлюстраваньне асаблівасьці студэнцкага жыцьця маладога й актыўнага беларуса. Тэксты Тодара Цімафейчыка ды айца Льва Гарошкі ўтрымліваюць каштоўныя фактычныя зьвесткі пра беларускіх эмігрантаў у паваеннай Францыі. Адметныя дэталі справы невяртаньня архіву Міколы Абрамчыка публікуе ў гэтым нумары Лявон Юрэвіч. Таксама ў разьдзеле можна прачытаць лісты Ніны Абрамчык да Вольгі Запруднік зь сярэдзіны 1950-х гг. ды апісаньне творчай спадчыны Аўгена Кавалеўскага, што захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва.

Асобнай тэмай нумару зьяўляюцца й „Праскія беларусы“. Так, чытач можа пазнаёміцца як зь біяграфічнымі артыкуламі, прысьвечанымі асобам Пётры Крэчэўскага ды Васіля Захаркі, гэтак і з публікацыямі лістоў асобных беларускіх дзеячаў у Празе. Мікола Трус рэпрэзэнтуе „Сямейны альбом“ Уладзімера Жылкі, заснаваны на цікавых архіўных крыніцах. А Натальля Гардзіенка публікуе асобныя архіўныя матэрыялы з збору дасьледніка жыцьця праскіх беларусаў Уладзімера Калесьніка: раней не публікаваны верш Уладзімера Жылкі, лісты лекара ва Ўржуме пра апошнія дні паэта, лісты Жылкавай жонкі.

Рубрыка „Будучыя кнігі“ працягвае публікацыю артыкулаў Тамаша Грыба, гэтым разам з часопісу „Перавясла“, а ў наступным разьдзеле зьмешчаная бібліяграфія праскага беларуса, складзеная дасьледнікам Андрэем Бучам. Чэская тэма працягваецца і ў новай рубрыцы „Запісаў БІНіМ“ — „Месца на мапе“, дзе дактарант Карлавага ўнівэрсытэту Павал Котаў рэпрэзэнтуе беларускія мясьціны Прагі. У „Выданьнях“ прадстаўленая друкаваная Пётрам Крэчэўскім „Замежная Беларусь“, а завяршае тэму Макс Шчур зь ягоным творам „Упырхлікі“, прысьвечаным беларускаму жыцьцю ўжо ў сучаснай Празе.

У сёлетніх „Публікацыях“ Лявон Юрэвіч закранае праблему недасьледаванасьці беларускіх казак на эміграцыі. Ён жа, разам з Натальляй Гардзіенкай, крыху далей у разьдзеле „Ўгодкі“ ў тэксьце „Згадваючы Язэпа Пушчу“ публікуе цікавыя архіўныя матэрыялы, у тым ліку й лісты Язэпа Пушчы да дачкі Ўладзімера Жылкі з пачатку 1960-х гг. Да дзясятых угодкаў сьмерці Янкі Юхнаўца ў тойсамай рубрыцы публікуецца ягонае апавяданьне „Пасьля гутаркі“.

Новым у сёлетніх „Запісах“ зьяўляецца й разьдзел „З гісторыі філялёгіі 1920-х гг.“, дзе Ціхан Чарнякевіч распавядае пра захаваныя ў зборах Антона Адамовіча канспэкты лекцыяў з часоў навучаньня ў БДУ ды зьмяшчае з адпаведнымі камэнтарамі некалькі згаданых канспэктаў (Міхайлы Піятуховіча ды Яўгеніі Гальперынай).

Таксама новай стала рубрыка, што складаецца з дакладаў эміграцыязнаўчай сэкцыі IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі, які адбываўся 3—5 кастрычніка 2014 г. у Коўна (Летува). Прадстаўленыя далёка ня ўсе выступы, агучаныя падчас працы сэкцыі, аднак і тыя, што публікуюцца, адлюстроўваюць тэматычную разнастайнасьць і ўзровень сучаснага беларускага эміграцыязнаўства.

Разьдзел „Вакол кнігі“ рэпрэзэнтуе чатыры рэцэнзіі, напісаныя з нагоды выхаду аднае кнігі „Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы“ (Менск, 2013). Зьмешчаныя тут тэксты ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго й з розных бакоў ацэньваюць выданьне.

Дастаткова багатыя й сёлетнія „Кніжная паліца“ ды „Хроніка“. Знакавай падзеяй 2014 г. стала заснаваньне Цэнтру камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа пры БДАМЛМ у Менску.

Гэты выпуск „Запісаў БІНіМ“ традыцыйна рэпрэзэнтуе разнастайныя матэрыялы, прысьвечаныя мінуламу й сучаснасьці беларускай эміграцыі, маючы на мэце прадставіць як для дасьледнікаў, гэтак і для аматараў айчыннай гісторыі новыя факты й тэмы ў беларускім эміграцыязнаўстве.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ДЗЕЯЧЫ БЕЛАРУСКАЙ ПАВАЕННАЙ ЭМІГРАЦЫІ

**(біяграфічны даведнік)**

*Цягам апошняга дзесяцігодзьдзя даводзілася даволі часта рабіць біяграфічныя камэнтары або даведнікі для розных выданьняў. Назапасілася багата матэрыялу па прадстаўніках беларускай паваеннай эміграцыі й насьпела патрэба яго сыстэматызаваць ды абагульніць. З гэтага й атрымаўся пададзены ніжэй даведнік.*

*Выбарка асобаў тут хутчэй суб'ектыўная, абумоўленая маімі дасьледнымі цікавасьцямі ды тымі тэкстамі, якія даводзілася рыхтаваць да друку. Таму ў сьпісе можна заўважыць пэўную перавагу брытанскіх і аўстралійскіх беларусаў, у параўнаньні зь іншымі. Пераважная большасьць пазыцыяў датычыць народжаных у Беларусі эмігрантаў, што апынуліся на чужыне ў часе ці пасьля Другой сусьветнай вайны. Праўда, ёсьць і выключэньні, як, прыкладам, некаторыя царкоўныя ярархі (Аляксандар Іназемцаў ці Вэнэдыкт Бабкоўскі), што не былі беларускага паходжаньня, але зьяўляліся важнымі асобамі для нашай паваеннай эміграцыі.*

*Крыніцамі біяграфічнай інфармацыі былі разнастайныя архіўныя й друкаваныя матэрыялы, а таксама некаторыя менавіта даведнікавыя публікацыі, падрыхтаваныя таксама Алегам Гардзіенкам і Лявонам Юрэвічам.*

*Прадстаўлены тут даведнік мае своеасаблівы этапны характар — адлюстроўвае наяўныя біяграфічныя напрацоўкі й ставіць пытаньні пра напрамкі далейшай працы. Акрамя дапаўненьня пэрсаналіямі з паваеннай эміграцыі розных краінаў, на сёньня актуальным зьяўляецца храналягічнае й зьместавае яго пашырэньне. Так, застаецца дыскусійным пытаньне, ці варта ўключаць у даведнікі па беларускай эміграцыі асобаў, што нарадзіліся ў Беларусі, але зь бела-*

*рускімі асяродкамі на Захадзе ня мелі нічога супольнага, як тойсамы Марк Шагал. Або прыкладам спрэчнасьці ўключэньня можа быць такая біяграма:*

*„**АРАНСОН Рыгор** (1887, Санкт-Пецярбург, Расея — 1968, Нью-Ёрк, ЗША), удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, сябра Бунду, публіцыст. У 1921 г. арыштаваны за антысавецкую дзейнасьць і праз год высланы ў Нямеччыну. Ад 1940 г. жыў у ЗША. У 1922—1955 г. — сябра ЦК Бунду (у эміграцыі), а таксама замежнай дэлегацыі партыі меншавікоў. Дасьледаваў гісторыю масонства ў Расеі й Беларусі (пераважна Віцебску). Аўтар кніг „Раскол Бунда“ (1920), „Яўрэі ў Савецкай Расіі“ (1949), „Праўда аб уласаўцах“ (1949)“.*

*У прадстаўленым ніжэй сьпісе не было адмысловага адбору пэрсаналіяў паводле іх значнасьці для дыяспары. Прыкладам, па Вялікабрытаніі ўключаныя прозьвішчы ўсіх, хто быў зафіксаваны як удзельнік грамадзкіх ці царкоўных арганізацыяў. Гэта зроблена з увагі на звышзадачу па правядзеньні своеасаблівага перапісу беларускай паваеннай эміграцыі. Аднак гэткія ж зьвесткі па іншых краінах пакуль не апрацаваныя, хоць праца такая плянуецца.*

*Гэты даведнік не прэтэндуе ні на вычарпальнасьць, ні на абсалютную дакладнасьць. Запрашаю ўсіх зацікаўленых выпраўляць хібы ды прапаноўваць абавязковыя для ўключэньня пэрсаналіі. Заўвагі й дапаўненьні можна скіроўваць на адрэсу: nhardzijenka@gmail.com.*

**АБАБУРКА Кацярына** (04.11.1921, в. Морач Нясьвіскага пав. (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 29.08.1986, Манчэстэр, Вялікабрытанія), парафіяльная актывістка, жонка *Я. Абабуркі*. Пасьля Другой сусьветнай вайны разам з сынам Мікалаем засталася ў Беларусі. Пасьля сьмерці сына (1966 г.) у сьнежні 1967 г. выехала да мужа ў Вялікабрытанію. Была актывісткай парафіі Жыровіцкай Божай Маці Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (далей — БАПЦ) у Манчэстэры. Дапамагала мужу падчас багаслужбаў. Пахаваная ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**АБАБУРКА Рыгор** (03.05.1920 — 22.03.2013, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў Манчэстэры. Ад 01.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак хутка пакінуў арганізацыю. Ад 1950-х — парафіянін царквы Сьв. Мікалая ў Манчэстэры й рэгент царкоўнага хору. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**АБАБУРКА Янка** (01.09.1921, в. Морач Нясьвіскага пав. (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 23.09.2009, Манчэстэр, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса. Ад 1946 г. — у Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Браў актыўны ўдзел у грамадзкім і царкоўным беларускім жыцьці ў Манчэстэры. Ад 18.07.1947 — сябра Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1953 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. 13.10.1963 у Карлсруэ (Нямеччына) пасьвечаны ў сьвятары БАПЦ мітрапалітам УАПЦ Ніканорам (Абрамовічам). Ініцыятар набыцьця царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Апекаваўся прыходамі БАПЦ у Манчэстэры, Брадфардзе, Нотынгеме, Бірмінгеме, Лёндане, Кембрыджы, кіраўнік БАПЦ у Вялікабрытаніі. Ад сярэдзіны 1990-х гг. з-за слабога здароўя абмежаваў сваю сьвятарскую дзейнасьць. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**АБРАМАВА Надзея** гл. **ТЭАДАРОВІЧ Надзея**

**АБРАМЧЫК Мікола (малодшы)** (01.05.1922, Сычавічы Вялейскага пав. (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 20.03.2005, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, пляменьнік Прэзыдэнта БНР *М. Абрамчыка*. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1960-х гг. быў у кіраўніцтве Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Удзельнічаў у Згуртаваньні беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў у Нью-Джэрзі. Сябра рэдкалегіі газэты „Беларус“. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**АБРАМЧЫК Мікола** (06.08.1903, в. Сычавічы Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 29.05.1970, Парыж, Францыя), палітык, грамадзкі дзеяч, публіцыст, Прэзыдэнт Рады БНР (1947—1970). Ад 1921 г. браў удзел у нацыянальным руху, быў прадстаўніком Рады БНР на Вялейскую акругу, вучыўся ў Радашковіцкай беларускай гімназіі, на вышэйшых настаўніцкіх курсах у Вільні. Ад 1924 г. вучыўся ў Чэхіі: скончыў эканамічна-каапэратыўны факультэт Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах з дыплёмам інжынэра-эканаміста, а таксама факультэт гісторыі й сацыялёгіі Карлава ўнівэрсытэту ў Празе. Актывіст Аб’яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацый у Чэхаславаччыне. Па сканчэньні навучаньня разам з найбліжэйшым сябрам *Л. Рыдлеўскім* апынуўся ў Парыжы, дзе ў 1932 г. заснаваў першую беларускую арганізацыю ў Францыі „Хаўрус“ і пачаў выданьне яе пэрыёдыка „Рэха“. Ад 1941 г. перабраўся ў Бэрлін, дзе працаваў у Беларускім камітэце самапомачы, дапамагаў у выданьні газэты „Раніца“. Каля 1943 г. атрымаў ад Прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі тэстамэнт на перайманьне пасады кіраўніка БНР і архіву. У кастрычніку 1943 г.

быў арыштаваны гестапа й адпраўлены пад хатні арышт у Парыж. Ад 15.08.1945 быў старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтру. Ад 1946 г. працаваў у Эўропе па лініі *IRO*. У сьнежні 1947 г. афіцыйна аднавіў і ўзначаліў Раду БНР. Жыў у прыгарадзе Парыжу Вільпэнце, займаўся актыўнай антыкамуністычнай дзейнасьцю. Быў адным з ініцыятараў стварэньня ды ў 1954—1969 гг. нязьменным кіраўніком Лігі вызваленьня народаў СССР (Парыскага блёку). Пахаваны ў Парыжы на *Cimetière du Père-Lachaise*.

**АБРАМЧЫК Ніна** (дзяв. **Ляўковіч**, псэўд. **Ніна Раса**, 20.03.1916, в. Шані (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 27.01.2003, Парыж, Францыя), грамадзкая дзяячка, пісьменьніца, жонка Прэзыдэнта БНР *М. Абрамчыка*. Скончыла Віленскую беларускую гімназію, вучылася ў Віленскім унівэрсытэце. Была сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Увосень 1939 г. вярнулася на Пружаншчыну, дзе працавала настаўніцай. Ад 1941 г. была ў Бэрліне. Працавала ў Беларускім камітэце самапомачы й газэце „Раніца“, удзельнічала ў падрыхтоўцы й выданьні беларускіх кніг. У гэты час пабралася шлюбам з *М. Абрамчыкам*, разам зь якім у 1943 г. пераехала ў Парыж. Пісала апавяданьні. У 1947 г. выдала адзіны нумар часопіса Беларускага жаночага аб'еднаньня ў Францыі „Беларуска“. У 1955 г. нарадзіла сына Альгерда. Жыла ў прыгарадзе Парыжу Вільпэнце. Пасьля сьмерці мужа адмовілася аддаць беларускай грамадзе архіў Рады БНР. Працавала ў *Musée de l'Homme* ў Парыжы. Пахаваная ў Парыжы на *Cimetière du Père-Lachaise*.

**АБРЭМСКІ Юры** (? — 1969), рэлігійны дзеяч. У 1964 г. быў пасьвечаны ў сьвятарства ўладыкам *Васілём*. Адзін з актыўных удзельнікаў канфлікту парафіяльнай рады з уладыкам *Васілём* у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. У выніку быў пазбаўлены ўладыкам сьвятарскага сану. Пасьля некалькіх судовых працэсаў і трохгадовага супрацьстаяньня сышоў з парафіі й прычыніўся разам з *К. Мерляком* да заснаваньня новай беларускай царквы ў Нью-Ёрку.

**АДАМОВІЧ Антон** (26.06.1909, Менск — 12.06.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме. У 1928 г. паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Уваходзіў у літаб'еднаньне „Ўзвышша“. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюза вызваленьня Беларусі“ й высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937, вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Менск, працаваў у школе. Падчас нямецкай акупа-

цыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, „Беларускай газэце“, галоўным рэдактарам выдавецтва „Менск“, уваходзіў у Цэнтральную Раду Беларускай народнай самапомачы, выконваў абавязкі рэфэрэнта па справах прэсы й прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь. Увосені 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газэты „Бацькаўшчына“, яе рэдактарам. Радны БНР, у розныя часы ўваходзіў ва Ўрад і Раду БНР. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых прац. Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэньня СССР у Мюнхене. Працаваў на Радыё „Свабода“. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**АЗАРКА Янка** (15.11.1922, в. Гайдакоўцы Баранавіцкага пав. Наваградзкага ваяв. (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 09.04.2005, Сомэрсэт, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1941—1943 гг. вучыўся ў Баранавічах, пасьля быў мабілізаваны ў беларускі ахоўны батальён. Ад 1944 г. — у Нямеччыне, пазьней у Францыі, дзе ў 1945 г. у складзе беларускіх вайсковых фармаваньняў здаўся амэрыканцам. Працаваў пры амэрыканскай арміі генэрала Эйзэнхаўэра. У 1947 г. пераехаў у беларускі лягер *DP* у Міхельсдорфе, дзе працаваў у лягернай ахове. У 1949 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзі). Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у тым ліку старшынём Нью-Джэрзійскага аддзелу. Удзельнічаў у працы Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў у Нью-Джэрзі. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**АКАВІТЫ Ўладзімер** (20.10.1925, м. Косава (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 22.01.2005, Адэляйда, Паўднёвая Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў раместнай школе. Падчас нямецкай акупацыі служыў у беларускай паліцыі. Улетку 1944 г. выехаў на Захад. Па капітуляцыі Нямеччыны апынуўся ў францускай зоне акупацыі, быў камэндантам лягеру *DP*. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. Працаваў па кантракце на высьпе Тасманія, затым пасяліўся ў Адэляйдзе, дзе актыўна ўключыўся ў справу пабудовы беларускай царквы й наладжваньне беларускага рэлігійна-грамадзкага жыцьця. Доўгагадовы сябра парафіяльнай рады царквы сьв. апосталаў Пятра й Паўла. Браў удзел у дзейнасьці Беларускага аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі, у якім у розныя

гады займаў пасады сакратара, „паблік афіцэра“. Аўтар зацемак пра жыцьцё беларусаў у Адэляйдзе на старонках газэты „Беларус“.

**АКІНШЭВІЧ Леў** (25.01.1898, г. Санкт-Пецярбург, Расея — 07.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША), гісторык, публіцыст, крытык. Вучыўся на юрыдычным факультэце Кіеўскага ўнівэрсытэту, актыўны дзеяч беларускага жыцьця ў Кіеве. У 1918 г. прыняў грамадзянства БНР. У 1920-х гг. працаваў ва Ўкраінскай Акадэміі навук, супрацоўнічаў з Інбелкультам (потым БелАН). У 1928 г. абараніў дысэртацыю „Генэральная рада на Гетманшчыне“. Ад 1933 г. — прафэсар Нежынскага пэдынстытуту. Быў абвінавачаны ў беларускім і ўкраінскім нацыяналізме й звольнены. Уладкаваўся на працу юрыстам на Балхаскім прамкамбінаце ў Казахстане. Праз тры гады зь сям'ёй перабраўся ў Смаленск. З пачаткам нямецка-савецкай вайны быў мабілізаваны на фронт, трапіў у палон, вызваліўшыся адкуль выкладаў у Кіеўскім унівэрсытэце. Пераехаў у Львоў, адкуль скіраваўся далей на Захад. Выкладаў гісторыю ўкраінскага права ва Ўкраінскім вольным унівэрсытэце ў Празе, затым у Мюнхене, выдаў некалькі падручнікаў. Ад 1949 г. жыў у ЗША. У 1951—1954 гг. выкладаў у Калюмбійскім унівэрсытэце. Пазьней працаваў у Цэнтры вывучэньня СССР у Вашынгтоне, у 1954—1969 гг. — у бібліятэцы Кангрэса ЗША. Займаўся дасьледаваньнем праблемаў нацыянальных меншасьцяў, савецкай юрыдычнай сыстэмы, гісторыі Беларусі й Украіны XVI—XVII стст. Ад 1952 г. быў сябрам БІНіМу. Супрацоўнічаў з Украінскім навуковым таварыствам імя Т. Шаўчэнкі. Публікаваўся ў беларускіх і ўкраінскіх эміграцыйных выданьнях. Аўтар успамінаў „Пракляты стэп“ (ва ўкраінскай мове).

**АКСЮЧЫЦ Уладзімер** (22.07.1922 — 13.03.1965, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Адзін з актыўных удзельнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі (Аўстралія).

**АКУЛА Кастусь** (да эміграцыі **Аляксандар Качан**; 16.11.1925, в. Верацеі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв. (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 29.01.2008, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік. Падчас нямецкай акупацыі скончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім і настаўнічаў у в. Порплішча (Докшыцкі р-н). Ад вясны 1944 г. — курсант Менскай афіцэрскай школы БКА, разам з навучэнцамі якой улетку 1944 г. пакінуў Беларусь. Быў далучаны да 30-й дывізіі СС Зыглінга, перайшоў на бок саюзьнікаў, у складзе Другога польскага корпусу ваяваў супраць нацыстаў. У 1946—1947 гг. жыў у Вялікабрытаніі. Сябра Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У чэрвені 1947 г. пераехаў у Канаду. Адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў Канады й першы яго старшыня.

Жыўу Таронта. У 1948—1954 гг. рэдагаваў газэту „Беларускі эмігрант“. У 1974—1997 гг. выдаваў часопіс беларускіх вайскоўцаў „Зважай“. Аўтар раманаў „Змагарныя дарогі“ (1962), „Гараватка“ (1965—1981), *„Tomorrow is Yesterday“* (1968), „За волю“ (1991), ганаровы сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Пахаваны ў Таронта на *Pine Hills Cemetery*.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Віктар** (24.12.1921, Вялейшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны як *DP* прыехаў у Вялікабрытанію. Жыў у Галіфаксе, потым — у Нэльсане (Ланкашыр). Ад 12.02.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**АЛЕКСІЕВІЧ Бэрта** (1932 — 03.06.1968, Канада), грамадзкая дзячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Канадзе. Жыла ў Таронта. Належала да парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага, была ўдзельніцай Згуртаваньня беларускіх жанчын у Канадзе.

**АЛЕХНІК Алесь** (31.07.1929, уроч. Перунова, каля в. Лахва (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 03.12.2006, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Паходзіў зь сялянскай сям'і. Вучыўся ў Перуноўскай школе й польскай гімназіі ў Лахве. У 1944 г. разам зь сям'ёй выехаў у Нямеччыну, дзе жыў у лягеры Ізармос каля Дынгольфінгу, працаваў на заводзе. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны вучыўся на каморніцкіх курсах у Мюнхене. У 1947 г. перабраўся ў беларускі лягер Міхельсдорф. У сьнежні 1950 г. прыехаў у Аўстралію (Сыднэй). Працаваў на пабудове Сьнежнагорскай гідратэхнічнай сыстэмы. Хутка далучыўся да беларускага грамадзкага жыцьця. Быў сябрам і доўгагадовым сакратаром Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі, ад імя якога прадстаўляў беларусаў на разнастайных міжнацыянальных форумах у Аўстраліі (удзельнічаў у дзьвюх Аўстралійскіх грамадзянскіх канвэнцыях, быў назіральнікам у Парлямэнце й г.д.) і па-за яе межамі (на канфэрэнцыях Антыкамуністычнай лігі народаў Азіі й Сусьветнай антыкамуністычнай лігі). Пры канцы 1950-х гг. займаўся выданьнем Інфармацыйнага бюлетэню Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі „Новае Жыцьцё“. У 1969—1982 гг. — кіраўнік Краёвага штабу Беларускага вызвольнага фронту ў Аўстраліі. Аўтар кнігі ўспамінаў „Пад бел-чырвона-белым“ (Вільня, 1999). Ягоны архіў, у які ўвайшлі дакумэнты Беларускага аб'еднаньня й шматлікае ліставаньне, якое А. Алехнік вёў як сакратар арганізацыі, перахоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва (Менск). Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**АЛІФІРОВІЧ Рыгор** (04.11.1906 — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Арміі Андэрса. Ад 12.01.1947 быў сябрам ЗБВБ, але празь некаторы час пераехаў у Нідэрлянды.

**АЛЬХОЎСКІ Юльян** (02.06.1880, в. Матыкалы Берасьцейскага пав. Гродзенскай губ. (сёньня Берасьцейскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 14.06.1959, Патэрсан, Нью-Джэрзі, ЗША), праваслаўны сьвятар. У 1903 г. скончыў духоўную сэмінарыю ў Вільні. У 1905 г. атрымаў сьвятарскі сан. Да Першай сусьветнай вайны служыў у беларускіх губернях, падчас вайны — у Маскве. Пасьля рэвалюцыі 1917 г. вярнуўся на радзіму, служыў у розных заходнебеларускіх прыходах, быў выкладчыкам розных навучальных установаў. У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Заходняй Нямеччыне. Служыў у Заўльгаў, пасьля ў прыходах францускай акупацыйнай зоны. Уваходзіў у кіраўніцтва Нямецкай япархіі Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, потым атрымаў прыход у Патэрсане (Нью-Джэрзі). Ад 1958 г. быў старшынём Духоўнага суду Ўсходне-Амэрыканскай і Канадыйскай япархіі РПЦЗ.

**АЛЯКСАНДАР** (сьвецк. **Мікалай Іназемцаў,** 12.08.1889, Табольск (сёньня Цюменская вобл., Расея) — 09.02.1948, Мюнхен, Нямеччына), рэлігійны дзеяч, мітрапаліт. У 1914 г. скончыў Пецярбурскую духоўную акадэмію. Ад 1922 г. — япіскап Люблінскі, ад канца 1922 г. — япіскап Пінскі й Палескі (ад 1927 г. — архіяпіскап). Падтрымліваў набыцьцё аўтакефаліі Польскай праваслаўнай царквой. У 1942—1944 гг. — мітрапаліт Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ад красавіка 1944 г. — мітрапаліт (Палескі) Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. не падтрымаў рашэньня беларускіх япіскапаў аб пераходзе пад амафор Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Беларускімі палітыкамі, найперш групай *М. Абрамчыка*, разглядаўся ў якасьці кандыдатуры на кіраўніка БАПЦ. Загінуў у Мюнхене ў лютым 1948 г. пры нявысьветленых абставінах.

**АЛЯКСЕЕЎ Пётра** (19.01.1918, Ворша — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 12.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**АЛЯНЧУК Віктар** (18.10.1923, в. Чэрнішкі Браслаўскага пав. (сёньня Астравецкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой апынуўся пасьля вайны ў Вялікабрытаніі. Ад 1953 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**АЛЯСЮК Уладзімер** (26.08.1926, м. Воранава (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой апынуўся пасьля вайны

ў Вялікабрытаніі. Ад 11.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**АМЕЛЬЯНОВІЧ Уладзімер** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Ад 20.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але пасьля расколу арганізацыі далучыўся да Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Пэўны час жыў у Нямеччыне, але хутка вярнуўся ў Вялікабрытанію. У 1980-х гг. быў сябрам Гуртку беларускай незалежніцкай думкі „Васілёк".

**АМОР Якуб** (да эміграцыі **Кастусь Кадушка**, 11.06.1925, Дзісеншчына — пасьля 1975, Бразылія), грамадзкі дзеяч. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, адным з ініцыятараў і сталых аўтараў часопіса „Беларус на чужыне". Ад 1949 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў і Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё", адзін са стваральнікаў Беларускага незалежніцкага народна-хрысьціянскага руху. У 1952 г. выехаў для навучаньня ў амэрыканскай школе выведкі ў Нямеччыне. Рыхтаваўся для дэсантаваньня на савецкую тэрыторыю ў групе зь *Цімохам Вострыкавым*, аднак адмовіўся выконваць загад. Трапіў у турму, але быў вызвалены праз некаторы час і зьехаў у Бразылію. Пасяліўся на сталае жыцьцё ў Сан-Паўлу, падтрымліваў абмежаваныя кантакты зь беларусамі, якія абарваліся пасьля 1975 г.

**АНАНІЧ Анастасія** (1904 (?) — 05.10.1966, Гвэлф, Антарыё, Канада), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Канадзе. Была актывісткай Згуртаваньня беларусаў Канады й парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Жыла ў Гвэлфе (Антарыё). Пахаваная на мясцовым гарадзкім могільніку.

**АНДРУКОВІЧ Мацей** (23.10.1924, в. Сьнегі (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1944–1946 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой трапіў у Вялікабрытанію. Ад 1954 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**АНДРУСІШЫНА Юлія** (дзяв. **Каханоўская**), грамадзкая дзяячка, дачка *А. і Я. Каханоўскіх*. Ад 1944 г. — разам з бацькамі на эміграцыі. У 1945—1950 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. Ад 1950 г. жыве ў Нью-Ёрку. Майстрыха-вышывальніца.

**АНДРУШКЕВІЧ Аўген** (06.08.1914 — ?), грамадзкі дзеяч. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, потым служыў у 30-й дывізіі СС.

Пазьней далучыўся да 2-га Польскага корпусу. Ад 24.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**АНДРЭЙ** (сьвецк. **Аляксандар Крыт** 03.07.1901, в. Мархачоўшчына (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 21.05.1983, Кліўлэнд, ЗША), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. У 1924 г. скончыў Нясьвіскую гімназію у 1927 г. — настаўніцкія курсы ў Радашкавічах. Браў удзел у нацыянальным руху: быў сябрам БСРГ. У 1939 г. як жаўнер польскага войска трапіў у палон, быў вызвалены й уключыўся ў грамадзкае жыцьцё беларусаў у Нямеччыне. Увайшоў у склад управы бэрлінскага аддзелу Камітэту самапомачы ў Нямеччыне (ад 1943 г. займаў пасаду скарбніка), супрацоўнічаў з газэтай „Раніца“. У паваеннай Нямеччыне знаходзіўся ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), а ў 1948 г. прыехаў у Вялікабрытанію на працу. Ад 05.12.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1949—1950 гг. абіраўся на пасаду намесьніка старшыні арганізацыі. 25.06.1950 быў рукапакладзены ў сьвятары БАПЦ. Жыў у Брадфардзе. Стаў заснавальнікам структураў БАПЦ у Вялікабрытаніі. Выдаваў Бюлетэнь Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці. У 1961 г. зьехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. У 1968 г. быў рукапакладзены ў сан япіскапа БАПЦ, а ад 1972 г. стаў першагерархам БАПЦ. Пры канцы жыцьця прычыніўся да расколу царквы праз канфлікт зь япіскапам *Мікалаем* (Мацукевічам). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**АНІСЬКА Дамінік** (12.01.1888, в. Слойнікі Сакольскага пав. Гарадзенскай губ. (сёньня Падляскае ваяв., Польшча) — 28.12.1971, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. У 1906 г. скончыў школу ў Саколцы, увосень 1907 г. быў прыняты на вайсковую службу. Служыў у Горадні да 1909 г. У часе Першай сусьветнай вайны — у войску, быў на фронце на тэрыторыі Беларусі. Пасьля рэвалюцыі вярнуўся дахаты. Ад 1920 г. — у польскім войску. Пасьля сканчэньня курсаў падхарунжых у Быдгошчы адпраўлены на фронт у ваколіцы Львова. У 1923 г. звольнены ў рэзэрвы, працаваў у банку. Друкаваўся ў беларускім часопісе „Хрысьціянская думка“. У часе Другой сусьветнай вайны прызваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон, знаходзіўся ў Гразоўцы Валагодзкай вобласьці (Расея). Ад 1942 г. служыў у Арміі Андэрса. Да 1946 г. знаходзіўся ў Палестыне, дзе сярод іншага дапамагаў у выданьні польскамоўнага часопіса *„Tygodnik Katolicki“*. Пазьней правёў яшчэ год у Эгіпце, адкуль у 1947 г. перабраўся ў Вялікабрытанію. Ад 1949 г. асеў у Лёндане. Жыў у Беларускім доме, дапамагаў ім апекавацца. Памёр у Лёндане, пахаваны на могільніку *St. Pancras Cemetery*.

**АНТОНІК Сымон (Сямён)** (15.03.1913, каля Слоніму — пасьля 1986, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1936–1944 гг. служыў у Польскім войску. Ад канца 1940-х — у Вялікабрытаніі. Жыў у Бірмінгеме. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі (аддзел у Бірмінгеме), а таксама сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў ад 1950 г. У 1958 г. зьехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

**АНТУХ Мікола** (02.03.1924, м. Паставы (сёньня Віцебская вобл.) — ?, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў заможнай сялянскай сям'і. Падчас Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, дзе вучыўся ў гімназіі ў польскім лягеры каля Мюнхену. У 1949 г. прыехаў у Аўстралію, дзе спачатку працаваў на прадпрыемстве *Good Year*, а пазьней зрабіў пасьпяховую кар'еру ў сфэры гандлю нерухомасьцю. Жыў у Сыднэі. Ад сярэдзіны 1950-х гг. браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці Сыднэю. Быў сябрам Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі. Пазьней каля году быў кіраўніком арганізацыі „незалежнікаў“. Адзін з ініцыятараў аб'яднаньня беларускіх арганізацыяў дзеля набыцьця ўласнага грамадзкага цэнтру. У 1973—1975 гг. — першы старшыня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу й пасьля пастаянны сябра ўправы ды адзін з найбольш актыўных удзельнікаў.

**АНУФРЫК Пётра** (20.11.1923, Слонімшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ад 1955 г. — таксама й сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**АПАНАС (**сьвецк. **Антон Мартас**, 08.09.1904, в. Завітая Навагрúдзкага пав. Менскай губ. (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 03.11.1984, Буэнас-Айрэс, Аргентына), рэлігійны дзеяч, архіяпіскап. У 1927 г. пастрыжаны ў манахі пад імем Апанас (Афанасій). У 1930 г. скончыў багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту. Намесьнік Яблочынскага манастыру. У 1942 г. у Менску высьвечаны на япіскапа Віцебскага й Полацкага. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Разам зь іншымі беларускімі ярархамі ў 1946 г. перайшоў у юрысдыкцыю Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Адміністратар Паўночна-нямецкага вікарыяту Нямецкай япархіі РПЦЗ. Выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў зь беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў падручнік Старога Запавету па-беларуску. У 1950—1955 гг. — вікарны япіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргентыну. Япіскап (пазьней архіяпіскап) Буэнас-Айрэскі й Аргентынска-Парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу „Белорусь в исторической государственной и церковной

жизни“ (прадмова па-беларуску). У 1971 г. Сынод РПЦЗ забараніў чытаньне й распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасьці. Памёр у Буэнас-Айрэсе. Пахаваны на могілках Сьвята-Троіцкага манастыру ў Джорданвілі (ЗША).

**АПАНЧОНАК Вітольд** (08.09.1910, Браслаўшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.03.1951 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**АРСЕНЬНЕВА Натальля** (у шлюбе **Кушаль**, 20.09.1903, Баку, Азэрбайджан — 25.07.1997, Рочэстэр, ЗША), паэтка, грамадзкая дзяячка, жонка *Ф. Кушаля*. Нарадзілася ў рускай дваранскай сям’і. Ад 1905 г., з выняткам 1915—1919 гг., жыла ў Вільні. Скончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам *Францам Кушалем*. Жыла ў Польшчы. У 1940—1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Ўладзімерам знаходзілася ў высылцы на поўначы Казахстану. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. У 1942—1944 гг. працавала ў „Беларускай газэце“, перакладала лібрэта для Менскага гарадзкога тэатру. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцьці ў лягерах *DP*, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША. У 1952—1954 гг. рэдагавала газэту „Беларус“, потым працавала ў ньюёрскім офісе беларускай рэдакцыі Радыё „Свабода“. Была сябрам Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, управы БІНіМу. У 1967 г. пасьля сьмерці нявесткі, Натальлі Куліковіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Ўладзімера ў Рочэстэр. Аўтарка шэрагу паэтычных зборнікаў, а таксама словаў гімну „Магутны Божа“. Пахаваная ў Рочэстэры (штат Нью-Ёрк, ЗША).

**АРЦЮХ Мікола** (у ЗША **Артон,** 25.07.1924, в. Казловічы Слонімскага пав. (сёньня Зэльвенскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.02.1984, Дэтройт, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1943 г. быў сябрам СБМ. У 1944 г. навучаўся ў Менскай афіцэрскай школе БКА, разам з фармаваньнямі якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзьнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Ад канца 1944 г. знаходзіўся ў Другім польскім корпусе, у якім адслужыў чатыры гады, у тым ліку і ў Вялікабрытаніі. Ад 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1949 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1955 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі з ступеньню магістра эканамічных навук. Сьпяваў у Беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам *М. Равенскага*. Вярнуўся ў Вялікабрытанію, працаваў у турыстычнай фірме Тома-

са Кука. У ЗБВБ займаў розныя пасады, у 1956 г. — старшыня арганізацыі. Пры канцы 1950-х гг. выехаў у Канаду. Жыў у Таронта, адкуль перабраўся ў Дэтройт (ЗША). Працаваў у банку. Быў актывістам парафіі Сьв. Духа БАПЦ, сябрам управы Дэтройцкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, сябрам Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**АРЦЮХ Язэп** (? — 2013), грамадзкі дзеяч. Інжынэр паводле адукацыі. У 1959 г. заснаваў і стаў старшынём Лос-Анджэлескага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Быў сябрам Рэспубліканскага клюбу. У 1981 г. як старшыня Беларускага рэспубліканскага клюбу ў Каліфорніі атрымаў ад Прэзыдэнта ЗША Р. Рэйґана падзяку за заслугі перад партыяй. Ад 1989 г. — адзін з стваральнікаў і выдаўцоў англамоўнага часопіса *Belarusian Review*. Жыў у г. Торэнс (Каліфорнія).

**АРЦЮШЭНКА Рыгор** (20.10.1927, Хойнікі (сёньня Гомельская вобл.) — 10.05.2004, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Сын рэпрэсаванага. Ад 1943 г. разам зь сям'ёй апынуўся на эміграцыі. Пасьля сканчэньня Другой сусьветнай вайны быў у беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, браў удзел у скаўтынгу, быў адным з галоўных гульцоў беларускай валейбольнай каманды „Нёман“. У 1949 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). У 1953—1956 гг. быў старшынём Саўт-Рывэрскага аддзелу Аб'еднаньня беларуска-амэрыканскай моладзі. Адрадзіў у Саўт-Рывэры беларускую валейбольную дружыну „Нёман“. У 1970—1980-х гг. належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, дзе быў сябрам ураду. Актыўны парафіянін царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Цягам 12 гадоў узначальваў рэсорт „Белэр-Менск“. Ад канца 1980-х гг. разам з жонкай Соняй Арцюшэнкай дапамагаў дзецям-ахвярам Чарнобыльскай аварыі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**АРЭХВА Аркадзь** (01.05.1910, Глыбоцкі пав. — 27.02.1993, Спрынгфілд, Масачусэтс, ЗША), грамадзкі дзеяч, юрыст. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле судоў Менскай гарадзкой управы. Ад 1943 г. — пракурор Менскай акругі. Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі: спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Прыхільнік Беларускай Цэнтральнай Рады. Быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, арганізацыі Амерыканскія прыхільнікі БЦР. Меў дачыненьне да выданьня газэты „Беларускае слова“.

**АРЭХВА Вольга** (29.12.1918 — 05.02.2003, ЗША), грамадзкая дзяячка, навуковец, жонка *А. Арэхвы*. Скончыла Мюнхенскі ўнівэрсытэт. Працавала ва ўнівэрсытэце Паўднёвага Ілінойсу. Займалася дасьледаваньнем беларускай літаратуры. Апошнія гады жыла ў Сільвэр Спрынг у Мэрылэндзе.

**АРЭШКА Аляксей** (нар. 18.11.1923, в. Жарабковічы (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.)), навуковец-хімік, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ва ўнівэрсытэце *UNRRA* ў Мюнхене, дзе стаў адным з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага згуртаваньня. Удзельнічаў у выданьні часопіса „Студэнцкая думка“ (пазьней пераіменаваны ў „Крывіцкі сьветач“). У 1947 г. паступіў ва ўнівэрсытэт у Марбургу, адтуль перабраўся ў Лювэнскі ўнівэрсытэт (Бэльгія), дзе вучыўся на хімічным факультэце. Актыўны сябра Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1956 г. абараніў дысэртацыю й атрымаў ступень доктара хімічных навук. Ад 1957 г. працаваў у фармацэўтычнай фірме *Labaz* як кіраўнік групы хімікаў у галіне пошуку сінтэзу лекаў ад сардэчна-сасудзістых захворваньняў. Аўтар дзясятка навуковых артыкулаў у спэцыялізаваных бэльгійскіх і францускіх часопісах. Удзельнік шматлікіх міжнародных навуковых кангрэсаў. Заснаваў Аб’еднаньне беларускіх студэнтаў-выпускнікоў Лювэнскага ўнівэрсытэту *Academicus*, выпусьціў некалькі бюлетэняў з такой назвай. Ад 1983 г. — на пэнсіі. Жыве ў Бэльгіі.

**АСІПОВІЧ Павал** (19.11.1923, в. Беніца Маладэчанскага пав. Віленскага ваяв. (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 23.01.1997, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладэчанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе, Менскай афіцэрскай школе БКА, у складзе якой апынуўся на выгнаньні й быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзьнікаў і далучыўся да Другога польскага корпусу. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, там жа ў 1948 г. дэмабілізаваўся. Скончыў Польскую гандлёвую школу ў Глазга. Працаваў бухгальтарам у Вялікабрытаніі, Гане й Нігерыі. Пазьней пасяліўся ў Лёндане. Быў адным з найбольш актыўных беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 01.10.1946 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ва ўправе арганізацыі займаў розныя пасады. У 1953 і 1955 гг. быў старшынём ЗБВБ, а ў 1963—1996 гг. — скарбнікам. Ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’еднаньня „Жыцьцё“, ад 1949 г. — Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Адзін з заснавальнікаў Англа-Беларускага таварыства, дзе у 1964–1997 гг. быў скарбнікам, таксама быў скарбнікам Беларускай харытатыўнай сэкцыі. Ад імя ЗБВБ браў удзелу працы Эў-

рапейскай групы сувязі (*European Liaison Group*), дзе таксама доўгі час выконваў функцыі скарбніка. Паводле жаданьня жонкі, спаленыя парэшткі пахаваныя ў Лёндане пры касьцёле Андрэя Баболі.

**АСІПЧЫК Аляксандар** (01.04.1909, Слонім Гарадзенскай губ. (сёньня Гарадзенская вобл.) — 14.03.1990, Джэксан, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. У часе нямецкай акупацыі працаваў у рамеснай школы ў Слоніме, быў дырэктарам мясцовай бібліятэкі й Народнага дому. Быў прыхільнікам беларусізацыі праваслаўнай царквы, удзельнік Беларускага царкоўнага сабору 1942 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку шчыльна супрацоўнічаў зь беларускімі япіскапамі, а ў 1946 г. пасьля пераходу іх у склад Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае таварыства Жыровіцкай Божай Маці, што мела суполкі ў розных краінах. У 1948—1965 гг. выдаваў часопіс „Сіла веры“. У 1950 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, потым у Таронта (Канада), Чыкага, Кліўлэндзе. Ад 1950-х гг. быў зьвязаны з Рускім аб’яднаньнем таварыства ўзаемадапамогі (РООВА). Аўтар шматлікіх публікацыяў у эміграцыйных пэрыёдыках. Пахаваны ў Джэксане на могілках „Фармы РООВА“.

**АСОЎСКІ Альбэрт** (24.12.1920, Белавежа (сёньня Гайнаўскі пав. Падляскага ваяв. Польшчы) — 20.08.2004, Фултан, Джорджыя, ЗША), грамадзкі дзеяч, архітэктар. У 1941 г. быў удзельнікам Першага беларускага штурмовага зьвязу. Пасьля сканчэньня Другой сусветнай вайны апынуўся ў Нарвэгіі, адкуль трапіў у Швэцыю. У 1948—1949 гг. быў кіраўніком Беларускай грамады ў Скандынавіі, прадстаўніком Рады БНР у Швэцыі. Пасьля няўдалай спробы выехаць у Канаду, нядоўгага жыцьця ў Ірляндыі, перабраўся разам зь сям’ёй у ЗША, дзе спыніў кантакты зь беларускай грамадой.

**АСТРОЎСКІ Віктар** (28.08.1912, в. Засімавічы (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 31.08.1975, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч, інжынэр, навуковец, сын *Р. Астроўскага*. Вучыўся на факультэце права Віленскага ўнівэрсытэту, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, арганізацыі „Скарынія“. Скончыў агранамічны факультэт Пазнаньскага ўнівэрсытэту (інжынэр-аграном). У кастрычніку 1939 г. у Вільні быў арыштаваны й асуджаны на 8 гадоў лягераў, тэрмін адбываў у Варкуце (Расея). Ад канца 1941 г. — у Арміі Андэрса. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, працаваў у вугальных капальнях, потым цягам 20 гадоў — у друкарні апэратарам машынаў. Займаўся вывучэньнем картаграфіі Беларусі. Аўтар шэрагу кніг, прысьвечаных беларускай

картаграфіі й старажытным назвам Беларусі, а таксама публіцыстычных брашураў і артыкулаў па гісторыі XX ст. і скіраваных супраць апанэнтаў БЦР. Усе кнігі выдаваў за ўласны кошт. У 1960-х гг. займаўся выданьнем часопіса „Аб'еднаньне". Зьбіраў калекцыю мапаў, якая пасьля яго сьмерці была перададзеная ў Скарынаўскую бібліятэку.

**АСТРОЎСКІ Радаслаў** (06.11.1887, хут. Запольле Слуцкага пав. (сёньня Слуцкі р-н Менскай вобл.) — 17.10.1976, Бэнтан-Харбар, Мічыган, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог, Прэзыдэнт БЦР, бацька *В. Астроўскага*. У нацыянальным руху ад рэвалюцыі 1905–1907 гг. У 1917 г. стварыў у Слуцку першую беларускую гімназію. У 1924—1936 гг. — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адначасова ў 1930–1932 гг. — Беларускай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі імя Ф. Багушэвіча. У другой палове 1920-х гг. выконваў абавязкі старшыні Таварыства беларускай школы, быў віцэ-старшынём Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). Пасьля разгрому БСРГ — прыхільнік „палянафільскага кірунку" — супрацоўніцтва з польскімі ўладамі дзеля папулярызацыі беларускай культуры й школьніцтва. У 1936 г. быў высланы ў Лодзь (Польшча) настаўнікам матэматыкі й фізыкі. У 1939—1941 гг. — старшыня Беларускага камітэту самапомачы у Лодзі. У ліпені — верасьні 1941 г. быў старшынём Менскага намесьніцтва, потым арганізоўваў беларускую адміністрацыю ў Бранскай, Смаленскай, Магілёўскай акругах. Ад 21.12.1943 — Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Ад ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У верасьні 1945 г. з прычыны неспрыяльных палітычных абставін прыпыніў дзейнасьць БЦР. 30.12.1947 заснаваў Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва сусьветнай эміграцыі, а пасьля аднаўленьня Рады БНР 25.03.1948 аднавіў дзейнасьць БЦР. Жыў у Нямеччыне, у 1944—1948, 1950—1954 гг. — у Швайцарыі, у 1948—1950, 1954 гг. — у Аргентыне. У 1954 г. прыехаў у Вялікабрытанію да сына Віктара, пасяліўся ў доме, набытым для арганізацыі Хрысьціянскае аб'еднаньне беларускіх работнікаў (ХАБР). Заснаваў Беларускі вызвольны фронт. У 1962 г. з прычыны хваробы пераехаў у ЗША да дачкі й зяця *Галіны* й *Мікалая Мінкевічаў*. У 1962 г. прыпыніў дзейнасьць БЦР, аднавіўшы яе ў 1974 г. Ягоны ад'езд зь Вялікабрытаніі справакаваў крызіс і раскол у ХАБР. Памёр у мястэчку Бэнтан-Харбар (Мічыган (ЗША)), дзе жылі Мінкевічы. Паводле тэстамэнту, пахаваны ў Саўт-Рывэры на могільніку праваслаўнай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**АХРЭМЧЫК Янка** (28.11.1898, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад

29.12.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Прэстане (Ланкашыр).

**АЦУТА Сымон** (02.02.1923 — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Польскім войску на Захадзе, разам зь якім апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**Б'ЮМЭН Эмільян** (15.09.1921, Берасьцейшчына — 12.10.2003, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.12.1958 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў сябрам мясцовага Беларускага клюбу.

**БАБІК Тодар (Хведар)** (20.10.1901 — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у паліцыі, з падразьдзяленьнямі якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, далучыўся да Другога польскага корпусу. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў (ХАБР), уваходзіў у склад першай Галоўнай управы ХАБР, у 1953—1954 гг. — яе старшыня. Празь нязгоду з *Р. Астроўскім* выйшаў з ХАБР і далучыўся да Беларускага вызвольнага руху. Далейшы лёс невядомы.

**БАБРОЎСКІ Язэп (**1923 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Жыў у Таронта. Належаў да Беларускага нацыянальнага аб'еднаньня (БНА), быў ягоным сакратаром. Парафіянін царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Таронта. У 1963 г. перадаў дакумэнты БНА у Бібліятэку й архіў Канады ў Атаве.

**БАГДАН Антаніна** (18.06.1908—20.01.1983, Ашава, Антарыё, Канада), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Канадзе. Жыла ў Ашаве. Пахаваная на *Oshawa Union Cemetery*.

**БАГДАН Васіль** (02.07.1916, Маладэчаншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой апынуўся пасьля Другой сусьветнай вайны ў Вялікабрытаніі. Ад 19.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ад 1949 г. таксама сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1949 г. быў кіраўніком Камітэту дапамогі хворым беларусам ў Брадфардзе. У 1952 г. зьехаў у Аўстралію.

**БАГДАН Вера** (05.09.1931 — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 03.06.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1949 г. уваходзіла ў Галоўную ўправу арганізацыі. Пазьней перабралася ў Канаду.

**БАГДАН Ганна** (1904, в. Вулька на Піншчыне — 26.07.1995, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьвет-

най вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Манчэстэры. Была парафіянкай царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваная ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**БАГДАН Мікалай** (12.09.1903, в. Вулька на Піншчыне — 14.02.1994, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў парафіянінам царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**БАГДАН Мікалай** (30.11.1923, в. Баравая — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 25.05.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**БАГДАНОВІЧ Аляксандар** (1898, Капыль (сёньня Менская вобл.) — 04.04.1983, Сэнт-Пітэрсбэрг, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар. У 1928 г. скончыў мэдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту, пасьля чаго да 1931 г. меў мэдычную практыку ў Сыбіры. У 1931—1941 гг. працаваў у Менску ў клініцы нутраных хваробаў і выкладаў у мэдычным інстытуце. Таксама ў 1937—1941 гг. быў кансультантам у туберкулёзнай і псыхіятрычнай клініках. Абараніў дысэртацыю „Ўзьдзеяньне камфары на сардэчна-сасудзістую сыстэму чалавека“, атрымаў ступень доктара мэдычных навук. У 1941—1943 гг. працаваў у Магілёве, потым накіраваўся ў Польшчу, а адтуль у Нямеччыну, дзе ў паваенны час працаваў пры *UNRRA*. У 1950 г. пераехаў у ЗША, дзе працаваў у розных шпіталях у Нью-Джэрзі да выхаду на пэнсію у 1966 г. У 1959 г. атрымаў ліцэнзію на прыватную практыку й працаваў кіраўніком аддзяленьня ўнутраных хваробаў у шпіталі ў Овэрбруку. Пасьля выхаду на пэнсію перабраўся ў Флярыду. Браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Быў прыхільнікам Беларускай Цэнтральнай Рады.

**БАГДАНОВІЧ Станіслаў** (24.09.1924, Піншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане й Ковэнтры.

**БАГОВІЧ Станіслаў** (у манастве **Мікалай,** 14.09.1903 ў в. Вострава (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 17.08.1980, Лёндан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. У 1926 г. уступіў у закон марыянаў у Друі. Скончыў Друйскую гімназію й застаўся пры кляштары. У 1933 г. сьледам за а. *Я. Германовічам* выехаў у Харбін (Маньчжурыя), дзе дапамагаў у гаспадарцы харбінскага Дому, пры якім дзейнічалі гімназія й інтэрнат для хлопцаў расейскага паходжаньня. Тут прыняў усходні аб-

рад і імя Мікалай. У 1948 г., калі камуністычныя ўлады арыштавалі сьвятароў у Харбіне, здолеў выехаць у Рым, а адтуль у 1951 г. — у Лёндан. Пасяліўся ў Марыян Хаўзе, дзе выконваў абавязкі чытальніка ў царкве, агародніка й кухара, сьпяваў у хоры. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**БАДЗЕЙ Мікола** (23.08.1927, в. Глосевічы (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ёрку. Ад 12.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БАЕШКА Ермалай** (1890, Пухавіччына — 18.07.1965, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Выехаў у Канаду да Першай сусьветнай вайны. Жыў у Таронта. Пасьля Другой сусьветнай быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады. Пахаваны ў Таронта на *Prospect Cemetery*.

**БАКУНОВІЧ Аляксандар** (23.12.1918, в. Малыя Сьцяблевічы Лунінецкага пав. (сёньня Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.) — ?, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, брат *Л., М. і Ў. Бакуновічаў*. Нарадзіўся ў заможнай сялянскай сям'і. Ад 1944 г. — у Нямеччыне, дзе па сканчэньні Другой сусьветнай вайны жыў зь сям'ёй у беларускіх лягерах Рэгенсбург, Міхельсдорф, Віндышбэргердорф. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Ад 1973 г. быў сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу, у якім на працягу 17 гадоў працаваў на пасадзе скарбніка. Жыў у Сыднэі.

**БАКУНОВІЧ Антон** (15.09.1923, в. Ярэмічы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БАКУНОВІЧ Ліза** (у шлюбе **Грыцай,** нар. 11.11.1936, в. Малыя Сьцяблевічы Лунінецкага пав. (сёньня Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.)), грамадзкая дзяячка, сястра *А., М. і Ў. Бакуновічаў*. У часе Другой сусьветнай вайны разам зь сям'ёй бацькоў апынулася ў Нямеччыне. Пасьля капітуляцыі жыла ў беларускіх лягерах Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Віндышбэргердорфе, вучылася ў беларускай пачатковай школе й гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехала ў Аўстралію. Пасялілася ў Сыднэі. У 1958 г. пабралася шлюбам зь першым мужам (баўгарынам), зь якім мае сына й дачку, але праз некаторы час ўзяла развод. У 1974 г. выйшла замуж другі раз за ўкраінца Якава Грыцая. Ад 1989 г. — удава. Ад самага пачатку дзейнасьці ў 1970-х гг. Беларускага культурна-грамадзкага клюбу была ягонай сяброўкай. Актыўна ўдзельнічала ў працы Жаночага камітэту.

**БАКУНОВІЧ Мітрафан** (нар. 20.06.1921, в. Малыя Сьцяблевічы Лунінецкага пав. (сёньня Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, брат *А., Л. і Ў. Бакуновічаў*. У 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне, дзе па сканчэньні Другой сусьветнай вайны жыў зь сям'ёй у беларускіх лягерах Рэгенсбург, Міхельсдорф, Віндышбэргердорф. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Сыднэі. Быў сябрам Беларускага аб'яднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі й ягоным скарбнікам. Доўгі час быў адным з дырэктароў Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі.

**БАКУНОВІЧ Уладзімер** (10.12.1926, в. Малыя Сьцяблевічы Лунінецкага пав. (сёньня Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.) — 23.05.1992, Дэтройт, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат *А., Л. і М. Бакуновічаў*. Вучыўся ў польскай і савецкай школах. У 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне, дзе да канца Другой сусьветнай вайны працаваў у баўэра, а потым вучыўся ў гімназіі імя Я. Купалы ў беларускіх лягерах у Рэгенсбургу й Віндышбэргердорфе. У 1950 г. разам з бацькамі, братамі й сястрой выехаў у Аўстралію. У Сыднэі браў удзел у арганізацыі Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі. Пазьней апублікаваў на старонках газэты „Бацькаўшчына" нататкі пра першыя гады беларускай прысутнасьці на пятым кантынэнце. У 1954 г. паступіў на эканамічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, дзе ў 1963 г. атрымаў тытул доктара эканоміі. Пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзі). Быў сакратаром і сябрам управы Нью-Джэрзійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Ад 1968 г. жыў у Дэтройце (Мічыган), дзе працаваў як спэцыяліст у падаткавых справах. Доўгі час быў сакратаром управы Дэтройцкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1980-х — сябра Галоўнай управы БАЗА. Быў радным БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**БАЛАБАНОВІЧ Язэп** (25.09.1920, в. Сіняўская Слабада (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч, баксэр. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі, разам з фармаваньнямі якой улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі й ад 1948 г. належаў да Хрысьціянскага аб'яднаньня беларускіх работнікаў. Быў вядомым баксэрам. У 1950-х гг. пераехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Быў сябрам Беларускага нацыянальнага аб'яднаньня, парафіянінам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**БАНДАРОВІЧ Пётра** (08.07.1926 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Нямеччыну.

**БАНКЕТ Аляксандар** (1894—1993), грамадзкі дзеяч. Жыў у ЗША. Быў прыхільнікам Беларускай Цэнтральнай Рады, сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Старшыня царкоўнага камітэту парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**БАРАН Янка** (14.09.1923, в. Сьвіла (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 26.03.2004, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Ад 1944 г. жыў на эміграцыі. У 1948 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, парафіянінам царквы Сьв. Кірылы Тураўскага.

**БАРАНОВІЧ Генрык** (19.02.1916, хутар Крывуля (сёньня Ашмянскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 22.10.2002, Аўрора, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Барунах, а пазьней у Віленскай настаўніцкай сэмінарыі. У 1939 г. быў прызваны ў польскую армію, трапіў у нямецкі палон, адкуль вызваліўся ў 1940 г. намаганьнямі Беларускага прадстаўніцтва ў Нямеччыне. Перабраўся ў Бэрлін, дзе каля 1943 г. стаў супрацоўнікам аддзелу моладзі ў Міністэрстве акупаваных усходніх тэрыторыяў. 12.11.1943 быў прызначаны кіраўніком Працоўнай групы СБМ і ўпаўнаважаным на Нямеччыну. Выдаваў у Бэрліне часопіс „Малады змагар“. У 1945 г. трапіў у амэрыканскі палон, быў перададзены савецкай рэпатрыяцыйнай місіі, але ўцёк зь лягеру ў Заходнюю Нямеччыну. Ад 1948 г. жыў у Канадзе, у мястэчку Аўрора (*Aurora)* каля Таронта. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, у тым ліку ў 1959 г. — старшынём арганізацыі. Радны БНР.

**БАРАНОВІЧ Надзея** (дзяв. **Гобрык**; у першым шлюбе **Ганчарова**, 27.01.1917, Смаленшчына — 10.11.1984, Аўрора, Антарыё, Канада), грамадзкая дзеячка, жонка *Г. Барановіча*. Жыла ў Баранавічах. Улетку 1944 г. разам з маленькім сынам Уладзімерам (муж загінуў) пакінула Беларусь. Ад 1950 г. жыла ў Канадзе. У 1951 г. узяла шлюб з *Г. Барановічам*. Брала ўдзел у працы Згуртаваньня беларусаў Канады, належала да парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага.

**БАРАНОЎСКІ Браніслаў** (?, в. Шчадрын (сёньня Жлобінскі р-н Гомельскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 09.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БАРТАШЭВІЧ Жорж** (**Юрый, Георгій,** 1920 — ?), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле грамадзкага забесьпячэньня Менскай гарадзкой управы. Затым — у БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выехаў у ЗША. Жыў у Пасэйку (Нью-Джэрзі).

**БАРТУЛЬ Вера** (дзяв. **Касьцюкевіч**, 30.11.1922, в. Губічы Рагачоўскага пав. Гомельскай губ. (сёньня Буда-Кашалёўскі р-н Гомельскай вобл.) — 25.04.2006, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзячка, жонка *Ф. Бартуля*. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У 1945—1949 гг. жыла ў лягерах *DP* у Нямеччыне, удзельнічала ў беларускім скаўтынгу. У 1949 г. выехала ў Вялікабрытанію. Працавала ў шпіталі ў Брадфардзе, скончыла курсы мадэлек, дэманстравала ўзоры адзеньня. У студзені 1956 г. разам з мужам *Ф. Бартулем* пераехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Працавала як мадэлька, пазьней — як мэнэджар кампаніі модаў. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1960—1970-х гг. была старшынёй Жаночай сэкцыі арганізацыі. Сьпявала ў жаночым сэкстэце „Гоман“. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**БАРТУЛЬ Францішак** (15.11.1918в. Бярозкі (сёньня Латвія) — 04.12.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, муж *В. Бартуль*. У 1937 г. скончыў сярэднюю школу ў Дзьвінску (Даўгаўпілс). У 1940 г. мабілізаваны ў Чырвоную Армію, трапіў у нямецкі палон і апынуўся ў Штэтыне (Шчэцін, Польшча). Дзякуючы веданьню нямецкае мовы быў прызначаны перакладчыкам і адпушчаны на адпачынак у Дзьвінск, адкуль назад не вярнуўся. У 1943 г. скончыў Віленскую беларускую настаўніцкую сэмінарыю. У 1944 г. вучыўся ў Менскай афіцэрскай школе БКА. Ад ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку знаходзіўся ў Кёнігсбэргу, працаваў у Камітэце самапомачы. У 1944—1945 гг. вучыўся на філязофскім факультэце Мюнхенскага каталіцкага ўнівэрсытэту, пазьней — на філязофскім факультэце Грыгарыянскага ўнівэрсытэту ў Рыме. Адтуль перабраўся ў Вялікабрытанію, атрымаў спэцыяльнасьць тэхніка-дантыста. Ад 24.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ў 1949 г. быў абраны старшынём арганізацыі. Пазьней выконваў іншыя функцыі ў Галоўнай управе ЗБВБ. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Адзін са стваральнікаў Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’яднаньня „Жыцьцё“ й Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб’яднаньня „Рунь“. У 1956 г. разам з жонкай *В. Бартуль* выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, дзе меў дантыстычную майстэрню. Стаў актыўным ўдзельнікам беларускага жыцьця. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня й яго

Нью-Ёрскага аддзелу, сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус“. Ад 1982 г. — старшынём Рады дырэктароў Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Быў радным БНР. Памёр у Мангасэце на Лонг-Айлэндзе (штат Нью-Ёрк). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**БАРЫСАВЕЦ Ксавэры** (14.01.1908, Уладывасток, Расея — 11.04.1998, Саўт-Рывэр, ЗША), грамадзкі дзеяч, кампазытар. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Кіеўскага ўнівэрсытэту. У 1950-х гг. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі), дзе арганізаваў беларускі жаночы хор „Каліна“, які шмат гадоў выступаў на розных нацыянальных мерапрыемствах. Для хору апрацоўваў беларускія народныя песьні й пісаў музыку на словы беларускіх паэтаў. Быў прыхаджанінам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**БАРЫСЕВІЧ Васіль** (06.12.1923, м. Целяханы (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Польскім войску. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 01.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Выехаў у Бэльгію.

**БАРЭЙКА Вацлаў** (07.01.1919, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БАСЯЦКІ Ўладзімер** (25.08.1920 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Савецкай арміі, потым у беларускай паліцыі, Другім польскім корпусе, разам зь якім апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе, Манчэстэры. Ад 04.02.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1952 г. перайшоў у апазыцыю. Быў кіраўніком аддзелу Беларускага вызвольнага руху ў Манчэстэры. Потым далучыўся да Беларускага вызвольнага фронту й быў сакратаром аддзелу гэтай арганізацыі ў Манчэстэры. Памёр у Манчэстэры.

**БАХАР Міхась** (17.10.1929, в. Сьцюдзёнка (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 11.02.2007, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Улетку 1944 г. разам з бацькамі выехаў на эміграцыю. Па капітуляцыі апынуўся ў францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны. Вучыўся ў расейскай гімназіі ў Штутгарце. Ад 1951 г. жыў у ЗША. У1961 г. пасяліўся ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). Браў актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці, быў сябрам рэдкалегіі часопіса „Беларуская моладзь“. Быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у

1980-х гг.— яго віцэ-прэзыдэнт. Прыхаджанін парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Быў скарбнікам акруговай суполкі Рэспубліканскай партыі. Належаў да Амэрыканскай асацыяцыі інжынэраў-электрыкаў. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**БАЯРОЎСКІ Міхась** (05.05.1924, в. Пятрэвічы (сёньня Навагрупскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 05.04.2013, Бірмінгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі. У 1944 г. мабілізаваны ў БКА, вучыўся ў Менскай афіцэрскай школе БКА. З іншымі курсантамі быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, пасьля далучыўся да Другога польскага корпусу. У 1946 г. разам з жаўнерамі корпусу трапіў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Бірмінгеме. Ад 16.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, кіраваў аддзелам арганізацыі ў Бірмінгеме. Ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё", а ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. На пачатку 1990-х гг. разам з жонкай Нормай браў актыўны ўдзел у працы Камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі. Двойчы прывозіў разам з *а. А. Надсанам* лекі ў Беларусь.

**БЕЗЫМЕННЫ Янка** (11.02.1926, в. Зялешкі (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БЕЛАЕЦ Павал** (26.06.1923, в. Клачкі Шчучынскага пав. (сёньня Шчучынскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 20.12.1972, Мілтаўн, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Пазьней зьехаў у ЗША. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**БЕЛЬМАЧ Уладзімер** (21.09.1921, в. Пранчакі (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 21.06.1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1948 г. выехаў у Канаду. Пасяліўся ў Манрэалі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады.

**БЕЛЯК Язэп** (20.05.1908, в. Стараволя (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Кліфтан-апан-Тэм. Ад 29.01.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі.

**БЕЛЯМУК Міхась** (15.03.1924, в. Голя Берасьцейскага пав. Палескага ваяв. (сёньня Камянецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 31.10.2014,

Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч, выдавец, гісторык. У часе нямецкай акупацыі служыў у Беластоцкім батальёне самаахoвы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Здаўся саюзьнікам у Нарвэгіі. Некаторы час жыў у беларускіх лягерах *DP у* амэрыканскай зоне Нямеччыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Вучыўся на гістарычным факультэце ўнівэсытэту ў Каламбусе (Агаё). Быў адным з арганізатараў беларускага жыцьця ў Кліўлэндзе, стваральнікаў мясцовага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Ад 1954 быў старшынём Згуртаваньня беларускай моладзі ў Кліўлэндзе. У 1958 г. выйшаў з БАЗА. Ад 1991 г. — ініцыятар і выдавец гістарычнага часопіса „Полацак“. Аўтар шэрагу публікацыяў, у тым ліку на гістарычныя тэмы. Ад 1993 г. — ганаровы сябра Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі.

**БЕРАЗІНСКІ Эдвард** (09.03.1914, Вялейка (сёньня Менская вобл.) — 08.09.2005, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак выбыў зь Лёнданскага аддзелу арганізацыі ў 1950-х гг. У 1993 г. зноў стаў сябрам ЗБВБ.

**БЕСАРАБ Аўген** (01.11.1924, Валожыншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.10.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пазьней далучыўся да „Сьведкаў Еговы“ й перапыніў кантакты зь беларусамі ды беларускімі арганізацыямі.

**БІЛЬДЗЮК Мікалай** (25.10.1919 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.04.1948 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БІСЯКОЎ Васіль** (17.11.1909, в. Анісімавічы (?) — 09.02.1988, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дезяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў парафіянінам царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**БЛАЖЭВІЧ Станіслаў** (18.02.1906 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 04.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БОЛТУЦЬ Мечыслаў** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БОРТНІК Уладзімер** (18.01.1910, фальв. Мікалаёва (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 16.06.1988, Мюнхен, Нямеч-

чына), грамадзкі дзеяч, журналіст. Пры канцы Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Заходняй Нямеччыне. Працаваў у Чырвоным Крыжы. Пазьней быў выдаўцом газэты „Бацькаўшчына“, нязьменным старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Заходняй Нямеччыне. Жыў у Мюнхене. Пахаваны на мясцовых могілках *Perlacher Forst*.

**БРАЗОЎСКІ Анатоль** (21.07.1918 — 21.06.2010, Пэрт, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, доктар мэдыцыны. Вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту, скончыў адукацыю ў Нямеччыне. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Пасяліўся ў Пэрце, здолеў пацьвердзіць дыплём і працаваў па спэцыяльнасьці ў Дэпартамэнце аховы здароўя Заходняй Аўстраліі (з часам нават у кіраўніцтве гэтай арганізацыі). Актыўна ўдзельнічаў у грамадзкім жыцьці беларусаў Пэрту. Быў сябрам Беларускага аб’яднаньня ў Заходняй Аўстраліі. Дапамагаў у набыцьці Беларускага народнага дому. Браў удзел у нацыянальных сьвятах. Актыўна падтрымліваў беларускую эміграцыйную прэсу. Да канца жыцьця быў падпісчыкам газэты „Наша Ніва“. Пахаваны ў Пэрце ў *Pinnaroo Valley Memorial Park*.

**БРАЗОЎСКІ Міхась** (02.07.1918, м. Давыд-Гарадок (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 02.07.1974, Гленспэй, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі быў начальнікам Пажарнай аховы ў Давыд-Гарадку. Пасьля Другой сусьветнай вайны пасяліўся ў ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, але ў сярэдзіне 1960-х разам з групай *К. Мерляка* выйшаў з арганізацыі. Галоўны архітэктар і будаўнік беларускай царквы ў Рычманд Гіле (Нью-Ёрк). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**БРАЗОЎСКІ Хведар** (04.03.1913, м. Давыд-Гарадок (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1941—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 17.05.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**БРОКІНГ Кірыла** (1891 — 13.07.1968), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, іпадыякан. Жыў у Канадзе. Быў сакратаром парафіяльнай рады царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**БРУЦКІ Янка** гл. **ІЗЯСЛАЎ**

**БРУЦКІ Юзаф** (12.04.1909, в. Белавуша (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 25.05.1995, Стафард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабры-

таніі. Жыў у Стафардзе. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны на мясцовых могілках Стафарду.

**БРЫЛЕЎСКАЯ Лёнгіна** (22.02.1923, в. Брускаўшчына (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 08.07.2008, Галівуд, Флярыда, ЗША), грамадзкая дзеячка, жонка *Ў. Брылеўскага*. Пры канцы Другой сусьветнай вайны апынулася ў Ніжняй Саксоніі. Колькі гадоў жыла ў лягеры *DP*. Пры канцы 1940-х гг. выехала разам з мужам у ЗША. Жыла ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). Была адной са стваральнікаў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Брала ўдзел у разнастайных беларускіх мерапрыемствах у Нью-Джэрзі, Нью-Ёрку, Вашынгтоне. У 1976 г. разам з мужам перабралася ў Флярыду, але не спыняла сувязяў зь беларускімі арганізацыямі. Пахаваная ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**БРЫЛЕЎСКІ Ўладзімер** (16.08.1917, в. Лоск (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.) — 01.11.2002, Галівуд, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч, журналіст, муж *Л. Брылеўскай*. Скончыў афіцэрскую школу ў Дэмбліне, вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце ў Пулавах. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі быў начальнікам Смаргонскага, потым Жодзішкаўскага паветаў. Улетку 1943 г. арыштаваны, некаторы час утрымліваўся ў Вялейскай турме, затым адпраўлены ў канцлягер, аднак па дарозе ўцёк. Паўлегальна пераехаў у Рыгу, дзе працаваў карэктарам часопіса „Новы шлях“. Ад канца 1944 г. — у Нямеччыне. Арганізаваў беларускую школу ў Гановэры. Пры канцы 1940-х выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у нацыянальным руху, супрацоўнічаў з польскім часопісам „Культура“ (Парыж, галоўны рэдактар Ежы Гедройц). Надрукаваў у газэце „Беларус“ і часопісе „Беларуская думка“ ўспаміны пра дзеячаў беларускага нацыянальнага руху — В. Іваноўскага, *Р. Астроўскага*, В. Гадлеўскага, *Х. Ільляшэвіча*, *К. Езавітава*.

**БРЫСЮК Барыс** (14.03.1925, Маладэчна (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны трапіў у Вялікабрытанію. Ад 13.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БРЫЧКОЎСКІ Міхал** (15.03.1918 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БУДАРКЕВІЧ Павал** (нар. 14.08.1922, в. Турэц Стаўпецкага пав. (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у беларускай паліцыі парадку, у 1944 г. трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзь-

нікаў, потым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Лёндане. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі і ў 1948 г. стаў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Уваходзіў у Часовую управу, пазьней быў сябрам Галоўнай управы, рэгулярна абіраўся на пасаду скарбніка арганізацыі. Уваходзіў у рэдкалегію часопіса „Аб'еднаньне". Быў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане.

**БУДЗІЛОВІЧ Мікалай** (? — красавік 1945 г., Платлінг, Нямеччына), грамадзкі й вайсковы дзеяч. У савецкі час быў выкладчыкам лацінскай мовы Гомельскага пэдынстытуту. Часе нямецкай акупацыі быў кіраўніком аддзелу нацыянальнасьцяў пры БЦР. Ад 1944 г. — у Нямеччыне. Быў ініцыятарам стварэньня беларускай сэкцыі ўласаўскага Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Загінуў у часе бамбаваньня. Ягоны сын, Пётра Будзіловіч (нар. 1926), што вучыўся ў менскай прагімназіі, стаў вядомым дзеячам расейскай эміграцыі ў ЗША, адным з ідэолягаў і гісторыкаў рускай эміграцыі, шматгадовым кіраўніком у 1970-х гг. Кангрэсу рускіх амэрыканцаў.

**БУДЗЬКА Часлаў** (29.06.1913, Вільня — 15.08.1985, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог, сын *Э. Будзькі*, брат *Л. Бяленіс*. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, а ў 1938 г. — аддзяленьне гісторыі гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Браў удзел у нацыянальным грамадзкім руху, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. За актыўную грамадзкую дзейнасьць пазбаўлены права працаваць па спэцыяльнасьці. Уладкаваўся ў каапэратыўнае таварыства ў Варшаве, потым працаваў у Кельцах. Падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў беларускай гімназіі. У 1948 г. прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. Ад 13.12.1948 стаў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1951 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Быў актывістам Чыкагскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Займаўся грамадзка-асьветніцкай працай, гістарычнымі дасьледаваньнямі, праектаваньнем вышыванак і дываноў.

**БУДЗЬКА Эдвард (Адварды)** (22.03.1882, м. Будслаў Вялейскага пав. (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — 14.08.1958, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч, паэт, публіцыст, выдавец, бацька *Л. Бяленіс*, *Ч. Будзькі*. Вучыўся ў Рыскім палітэхнічным інстытуце. Друкаваўся ў газэце „Наша ніва". Удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу 1917 г. 08.06.1918 для каардынацыі дзейнасьці ў справе вяртаньня бежанцаў

быў скіраваны Народным сакратарыятам Беларусі ў Вільню. У 1918 г. быў адным з арганізатараў Будслаўскай беларускай гімназіі. Па яе закрыцьці ў 1919 г. займаўся арганізацыяй беларускай каапэрацыі. У 1921—1940 гг. жыў у Летуве й Латвіі. Заснаваў курсы беларусазнаўства. У часе нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у Менску й Баранавічах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

**БУДКЕВІЧ Сыльвэстар** (нар. 04.03.1924, в. Брацянка (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадзкі дзеяч. Ад 1942 г. вучыўся ў Навагрудзкай настаўніцкай сэмінарыі. Быў сябрам СБМ, курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА. У 1944 г. разам зь іншымі курсантамі быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, зь якой дэзэртаваў у Францыі й далучыўся да Другога польскага корпусу. У 1946 г. прыехаў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Ковэнтры. Скончыў тэхнічную школу й працаваў электрыкам. Ад 12.10.1946 стаў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, кіраваў аддзелам у Ковэнтры. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Актыўны ўдзельнік беларускага жыцьця ў Вялікабрытаніі.

**БУКАТА Адольф** (25.01.1902, в. Курылавічы (сёньня Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.) — 25.01.1977, Бірмінгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1930-х гг. выехаў у Францыю, дзе жыў да пачатку Другой сусьветнай вайны. Потым пераехаў у Бэрлін, дапамагаў *М. Абрамчыку* выдаваць газэту „Раніца“. Пасьля вайны знаходзіўся ў лягерах *DP* Нямеччыны, адкуль у 1949 г. прыехаў на працу ў Вялікабрытанію. Ад 20.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, удзельнікам аддзелу ў Бірмінгеме.

**БУКАТКА Бэрнард** (? — ?), грамадзкі дзеяч. У першай палове 1940-х жыў у Бэрліне, дзе працаваў у Беларускім прадстаўніцтве пры Міністэрстве ўнутраных спраў. Пры канцы 1940-х гг. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліфтане (Нью-Джэрзі). У 1957—1959 гг. быў віцэ-старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1960-х гг. адышоў ад беларускіх спраў.

**БУЛАЎСКІ Антон** (25.11.1910, каля Бабруйску — 1994 (?), Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Афіцэр Чырвонай Арміі. У часе Другой сусьветнай вайны камандаваў ротай самааховы, быў афіцэрам БКА. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. У 1948 г. выехаў у Аўстралію. Жыў у Сыднэі. У 1950-х гг. актыўна ўдзельнічаў у беларускім грамадзкім жыцьці. Быў сябрам Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі (прыхільнікаў БЦР). У 1955—1957 гг. — начальнік Краёвага штабу Беларускага вызвольнага

фронту ў Аўстраліі. Пазьней быў сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі.

**БУЛАШ Мікалай** (02.12.1921, Стаўпеччына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БУЛЫГА Мікола** (06.11.1923, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — 28.07.1991, Францыя), грамадзкі дзеяч. У 1945 г. прыбыў у Францыю. Жыў у мястэчку Ля Крэзо. Быў сябрам мясцовага аддзелу Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі.

**БУЛЫГА Міхась** (12.06.1924, в. Глосевічы (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. вучыўся ў Менскай афіцэрскай школе БКА, разам зь якой быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, уступіў у Другі польскі корпус. У 1946 г. прыехаў у Вялікабрытанію. Ад 06.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у другой палове 1950-х абіраўся на пасаду скарбніка арганізацыі. Ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'яднаньня „Жыцьцё“, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Некаторы час быў адміністратарам Беларускага дому ў Лёндане.

**БУЛЫКА Кастусь** (03.03.1920, Слонім (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БУЛЯК Мікола** (20.01.1915, Варшава (?), Польшча — ?), грамадзкі дзеяч. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У часе Другой сусьветнай вайны быў старшынём павету ў Наваградку. Ад студзеня 1944 г. — радны БЦР. Улетку 1944 г. выехаў на эміграцыю. У 1946 г. трапіў у Вялікабрытанію. Быў адзінай цывільнай асобай, хто браў удзел у Першым зьезьдзе Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі (18—19.01.1947). Ад 19.01.1947 быў сябрам ЗБВБ, адразу ж абраны віцэ-старшынём Галоўнай управы. Аднак у хуткім часе стаў на чале прыхільнікаў БЦР (апазыцыі ў ЗБВБ) і быў пазбаўлены сяброўства ў Згуртаваньні. Ад сакавіка 1948 г. узначаліў Часовую ўправу Хрысьціянскага аб'яднаньня беларускіх работнікаў. Спрычыніўся да заснаваньня часопіса „Аб'яднаньне“, аднак неўзабаве сур'ёзна захварэў (манія перасьледу), адышоў ад грамадзкай дзейнасьці й пакінуў Лёндан.

**БУНЧУК Янка** (на эміграцыі **Будзіч**, потым **Бунч,** 08.05.1923, каля Баранавічаў — ?), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі

служыў у паліцыі, разам з аддзеламі якой быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, далучыўся да Другога польскага корпусу. У 1946 г. прыехаў у Вялікабрытанію. Ад 08.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак у часе расколу выйшаў з арганізацыі. Жыў у Нотынгеме. Улетку 1956 г. быў прызначаны кіраўніком Краёвага штабу Беларускага вызвольнага фронту ў Вялікабрытаніі й актыўна заняўся разбудовай арганізацыі. Браў удзел у шматнацыянальных і міжнародных мерапрыемствах ад імя БВФ. Быў старшынём Нотынгемскага аддзелу Антыбальшавіцкага блёку народаў, сябрам выканаўчага камітэту Брытанскай лігі свабоднай Эўропы. Пры канцы 1979 г. у выніку непаразуменьняў зь Лёнданскім аддзелам БВФ адышоў ад справаў, ажаніўся з полькай і парваў усе сувязі зь беларусамі.

**БУРАК Анані** (нар. 14.08.1918), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 02.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі і ў траўні 1948 г. быў пазбаўлены сяброўства. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, потым стаў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане.

**БУРДЫЧКА Пётра** (23.03.1914, Менск — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БУРКЕВІЧ Янка** (01.01.1923, в. Казлы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 24.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БУРНОВІЧ Янка** (07.07.1922, Стаўпеччына — 16.02.1999, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1945—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ад 1953 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**БУРНОС Вольга** (дзяв. **Пашкевіч**, 19.10.1933, в. Вядо (Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 08.11.2003, Адэляйда, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *М. Бурноса*. Нарадзілася ў сялянскай сям'і. Падчас Другой сусьветнай вайны апынулася разам зь сям'ёй у Нямеччыне, адкуль у 1950 г. выехала ў Аўстралію. У Мэльбурне працавала па кантракце ў шпіталі, потым перабралася да бацькі ў Вайялу (Паўднёвая Аўстралія). Тут у 1952 г. пазнаёмілася зь *М. Бурносам*, зь якім і пабра-

лася шлюбам. Нарадзіла дзьвух дачок. У 1955 г. сям'я перабралася ў Адэляйду, дзе адразу ўключылася ў жыцьцё беларускай грамады. Удзельнічала ў зьбіраньні грошай на пабудову беларускай царквы. Сьпявала ў царкоўным хоры. Шмат займалася вышываньнем нацыянальнага адзеньня, ручнікоў і г. д. Для беларускіх песень мясцовага хору пісала музыку, якая была высока ацэнена спэцыялістамі. Была актыўнай удзельніцай і мерапрыемстваў беларускай парафіі, і Беларускага аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі. Пахаваная ў Адэляйдзе на праваслаўнай частцы могілак *Centennial Park*.

**БУРНОС Міхась** (12.10.1924, в. Лясок Карэліцкага пав. (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 07.09.2009, Адэляйда, Аўстралія), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, муж *В. Бурнос*. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, а пазьней у гімназіі імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Адзін зь першых беларусаў Адэляйды, што стварылі камітэт парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла. Доўгачасовы рэгент царкоўнага хору. Арганізатар і кіраўнік танцавальнай групы „Лявоніха“ (1979—1987). 04.01.1987 быў пасьвечаны ў сьвятарства й стаў настаяцелям парафіі БАПЦ у Адэляйдзе. Сябра Выканаўчага камітэту Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Стварыў аўстралійска-беларускі сэктар Чарнобыльскага фонду ў Адэляйдзе. Актыўна ўдзельнічаў у працы Беларускага аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі. У 1999 г. адышоў ад актыўнай сьвятарскай дзейнасьці ў парафіі й стаў старшынём Беларускага гістарычнага згуртаваньня Аўстраліі. Пахаваны ў Адэляйдзе на праваслаўнай частцы могілак *Centennial Park*.

**БУСЬКО Янка** (23.03.1920, Баранавічы — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**БУТА Алесь** (23.07.1923, в. Акунінава (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — жнівень 1998, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягерах *DP* у Нямеччыне. Атрымаў атэстат у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Быў кіраўніком беларускага скаўтынгу ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны, аб'яднанага ў штандар „Баварыя“. У 1948 г. у складзе „Дванаццаткі“ прыбыў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Быў старшынём прэзыдыюму Другога зьезду ЗБВБ, уваходзіў ва ўправу арганізацыі. У 1950-х пасяліўся ў Брадфардзе, быў актывістам мясцовага аддзе-

лу ЗБВБ. Стаў стваральнікам Беларускага юнацкага клюбу ў Брадфардзе, ініцыятарам правядзеньня летнікаў для беларускіх дзяцей у Лёндане. У сярэзіне 1960-х адышоў ад ЗБВБ, далучыўшыся да прасавецкай суполкі ў Брадфардзе. Стаў адным з аўтараў прасавецкага часопіса „Славянский голос“.

**БУТРЫМОВІЧ Уладзімер** (31.12.1922, в. Андрушы (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 27.06.1987, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Цягам трох гадоў служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Тут далучыўся да Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі й ад 1949 г. — да Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У пачатку 1950-х вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія), па сканчэньні якога вярнуўся ў Брытанію. Жыў у Лёндане. Уваходзіў у Галоўную ўправу ЗБВБ, а ў 1958, 1960—1965 гг. быў яго старшынём.

**БЫКОЎСКІ Алесь** (09.03.1922, Маладэчаншчына — ?), грамадзкі дзеяч. У 1944–1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1953 г. быў абраны на пасаду скарбніка ЗБВБ, быў сябрам Лёнданскага аддзелу арганізацыі. Аднак яшчэ ў 1950-х гг., на ўласнае жаданьне выйшаў з Згуртаваньня. Паводле некаторых зьвестак, зьехаў у БССР.

**БЯЛЕНІС Антон** (1906 — 1994), грамадзкі дзеяч, муж *Л. Бяленіс*. У часе нямецкай акупацыі быў супрацоўнікам менскай гарадзкой управы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Нямеччыне, Бэльгіі. Напрыканцы 1940-х пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Чыкага, дзе быў актыўным удзельнікам беларускага жыцьця.

**БЯЛЕНІС Людвіка** (дзяв. **Будзька**, 04.09.1911, м. Будслаў (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — 17.09.2002, Чыкага, ЗША), грамадзкая дзяячка, дачка *Э. Будзькі*, сястра *Ч. Будзькі,* жонка *А. Бяленіса*. Скончыла Віленскую беларускую гімназію, Віленскі ўнівэрсытэт, была сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Рабіла мастацкія вышыўкі, шыла нацыянальныя строі, рабіла лялькі. Калекцыя аформленых ёю велікодных яек была перададзеная Беларускаму музэю імя І. Луцкевіча (ад 1945 г. — у Летувіскім дзяржаўным музэі). Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне жыла ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. У 1948 г. прыехала ў Вялікабрытанію. Ад 12.12.1948 была сяброўкай Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У пачатку 1950-х гг. выехала ў ЗША. Пасялілася ў Чыкага, дзе ўзяла шлюб зь беларускім грамадзкім дзеячам *А. Бяленісам*. Мастацкія вышыўкі, беларускія

лялькі ды іншыя яе творы экспанаваліся на выставах, арганізаваных Канадыйскім музэем у Атаве, у Беларускім павільёне фэстывалю „Караван“ у Таронта ў 1970-х гг. ды на шматлікіх выставах у Чыкага.

**БЯЛОУС Мікалай** (20.08.1908, Горадня — 09.05.1974, Дэрбі, Вялікабрытанія), парафіяльны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Дэрбі. Быў парафіянінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Дэрбі на *Nottingham Road Cemetery*.

**ВАДЭЙКА Канстанцін** (1883—1963), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі ў Галоўным кіраўніцтве вайсковых справаў БЦР займаў пасаду справавода, затым намесьніка загадчыка й загадчыка мабілізацыйнага аддзелу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У 1949 г. быў настаўнікам беларускай пачатковай школы ў Шляйсгайме (Нямеччына). Пазьней выехаў у ЗША. Быў радным БНР.

**ВАЙТОВІЧ Янка** (26.11.1928, в. Шыпкі (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў каля Голт у Норфалку. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ВАЙЦЯХОЎСКІ Кастусь** (на эміграцыі **Кон Ворт**, нар. 23.07.1926, в. Стары Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, сын *Ксэнафонта Вайцяхоўскага*. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Баранавіцкім дарожна-будаўнічым тэхнікуме, настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы, сябра СБМ. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі: спачатку ў Судэтах, потым у Баварыі. У Заходняй Нямеччыне належаў да беларускага скаўтынгу, скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У верасьні 1949 г. разам з бацькамі выехаў у ЗША. Жыў у Арканзасе, працаваў на зьбіраньні бавоўны. У сьнежні 1949 г. прызваны ў амэрыканскую армію, служыў у вайсковай выведцы ў Карэі. Па дэмабілізацыі скончыў Ратгерскі ўнівэрсытэт, працаваў у ваеннай сфэры. У першай палове 1950-х належаў да моладзевых рухаў. У 1970—1980-х гг. уваходзіў у кіраўнічыя структуры Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у 1980-х — прадстаўнік БККА ў Сан-Хасэ (Каліфорнія). Ад 1993 г. выконваў абавязкі старшыні Каліфарнійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Жыве ў Сан-Дыега (Каліфорнія).

**ВАЙЦЯХОЎСКІ Ксэнафонт** (27.08.1899, Стары Свержань — 15.05.1986, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, бацька *Кастуся Вайцяхоўскага*. У 1930-х гг. арганізоўваў беларускае жыцьцё на Стаўпеччыне. У часе нямецкай акупацыі быў супрацоўнікам беларускай

самапомачы, цывільнай адміністрацыі. Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. Па сканчэньні вайны — у беларускім лягеры *DP* у Рэгенсбургу. У траўні 1948 г. браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у Эльвангене. У верасьні 1949 г. выехаў у ЗША. У штаце Арканзас працаваў на зборы бавоўны. Праз некаторы час пераехаў у Саўт-Рывэр. Браў удзел у жыцьці мясцовай парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, належаў да кіраўнічых структураў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У другой палове 1950-х — пачатку 1960-х гг. узначальваў Злучаны беларуска-амэрыканскі дапамаговы камітэт, уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса „Беларуская думка“. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ВАЙЦЯШУК Янка** (13.03.1923 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ВАЛЫНЕЦ Кастусь** (03.04.1915, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у беларускай паліцыі парадку, потым у 30-й грэнадэрскай дывізіі СС і Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 20.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ВАЛЮКЕВІЧ Іван (**1888, в. Залесьсе (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 1964, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны жыў у беларускім лягеры *DP* у Остэргофэне. Пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Быў сябрам Кліўлэндзкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Brooklyn Heights Cemetery*.

**ВАРАВА Аркадзь** (21.03.1918, в. Вялікія Жухавічы Нясьвіскага пав. Менскай губ. (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 13.05.1966, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, пасьля якой трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, уступіў у Другі польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасьля дэмабілізацыі жыў у Лёндане. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі і ў 1948 г. быў пазбаўлены сяброўства. Быў адным з арганізатараў Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў, у 1950—1952 гг. абіраўся на пасаду старшыні арганізацыі, пазьней выконваў функцыі сакратара Галоўнай

управы. Уклаў уласныя грошы ў набыцьцё Дому ХАБР у Лёндане. Дапамагаў у тэхнічнай справе выданьня часопіса „Аб'еднаньне“. У 1950 г. прызначаны старшынём Дэлегатуры БЦР у Англіі. Быў сакратаром Беларускага праваслаўнага камітэту ў Лёндане. Пахаваны ў Лёндане на *Greenford Cemetery*.

**ВАРВАШЭВІЧ Васіль** (08.11.1897, в. Разьдзялавічы Лунінецкага пав. (сёньня Ганцавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 09.10.1978, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ВАРВАШЭВІЧ Ганна** (05.06.1900, Палесьсе — 17.06.1980, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была прыхаджанкай царквы Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ВАРГАН Васіль** (15.08.1896, Мір (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 11.05.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1949 г. — таксама сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Адзін з тых, на каго першапачаткова быў запісаны Беларускі дом у Лёндане.

**ВАРЛЫГА Адам** гл. **ГЛАДКІ Язэп**

**ВАРОНКА Язэп** (04.(17).04.1891, в. Кузьніца (сёньня Сакольскі пав. Падляскага ваяв. Польшчы) — 04.06.1952, Чыкага, ЗША), палітычны дзеяч, журналіст, выдавец. У пачатку 1910-х гг. жыў і вучыўся ў Пецярбургу, займаўся грамадзкай дзейнасьцю, працаваў журналістам (псэўданім — **Юры Вегаў**). Уваходзіў у склад Часовага савету Расейскай Рэспублікі (Перадпарлямэнту). У лютым —ліпені 1918 г. быў першым старшынём Народнага Сакратарыяту БНР. Ад канца 1918 г. жыў у Коўна. Быў прыхільнікам арыентацыі на незалежную Летуву як саюзьніка Беларусі, да красавіка 1920 г. — міністар беларускіх справаў ва ўрадзе Летувы. Ад 1923 г. жыў у Чыкага (ЗША), дзе спрычыніўся да заснаваньня беларускіх арганізацый: стварыў Беларускі нацыянальны саюз, у 1926—1932 гг. выдаваў газэту „Белорусская трибуна“, вёў беларускія й расейскія перадачы на радыё.

**ВАРЭНІК Генадзь** (22.02.1923, в. Гавязна (сёньня в. Вішнявец Стаўпецкага р-ну Менскай вобл.) — 01.02.1988, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў прыхаджанінам мясцовай

царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ВАРЭНІК Кастусь** (01.06.1917 — 03.10.2002, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1949 г. і да часу набыцьця Беларускага дому ў яго хаце месьцілася канцылярыя мясцовага аддзелу ЗБВБ, а таксама Беларускі клюб. Пазьней быў актыўным удзельнікам стварэньня й сябрам Беларускага клюбу ў Беларускім доме ў Манчэстэры, рэгулярна даваў пазыкі на яго рамонт. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ВАСІЛЕНКА Васіль** (15.10.1923, Лунінеччына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ВАСІЛЕНЯ Аляксей** (27.03.1899, в. Малая Бераставіца (сёньня Бераставіцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.07.1978, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і чыноўніка. Вучыўся ў Гарадзенскім рэальным вучылішчы. Падчас Першай сусьветнай вайны — у эвакуацыі. Скончыў рэжысэрскія курсы ў Новарасійску. Пасьля кастрычніцкага перавароту ваяваў у кавалерыйскім корпусе генэрала Дзянікіна. У 1921 г. вярнуўся на радзіму, працаваў у Беларускім аб'езным тэатры да моманту яго ліквідацыі польскімі ўладамі. У 1927—1928 гг. — сакратар Палескага аддзелу Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пазьней выконваў абавязкі сакратара беларускага пасольскага клюбу „Змаганьне". У часе нямецкай акупацыі — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, кіраўнік канцылярыі Галоўнага камандаваньня БКА, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, жыў у Бэрліне, займаў пасаду сакратара Прэзыдыюму Беларускай Цэнтральнай Рады. У лягерах *DP* рэдагаваў сатырычны часопіс „Смехам па галаве", у Гамбургу разам з *С. Хмарам* і *М. Паньковым* выдаваў сатырычны часопіс „Маланка". Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Актыўны ўдзельнік жыцьця беларускае грамады ў Сыднэі. Адзін з арганізатараў Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі, у якім займаў розныя пасады. Шматгадовы распаўсюднік беларускага друку й сталы прадстаўнік газэты „Беларус" у Сыднэі. Пахаваны у Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**ВАСІЛЕЎСКІ Аўгені** (13.02.1916, Крэва (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 19.12.1968, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч.

Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ВАСІЛЕЎСКІ Віктар** гл. **ВОЙТАНКА-ВАСІЛЕЎСКІ Віктар**

**ВАСІЛЬ** (сьвецк. **Уладзімер Тамашчык,** 15.06.1900, в. Вялікія Азяраны Гарадзенскага пав. (сёньня Сакольскі пав. Падляскага ваяв. Польшчы) — 09.06.1970, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійна-грамадзкі дзеяч, архіяпіскап БАПЦ. Паходзіў з заможнай сялянскай сям'і. У 1913 г. сям'я перабралася на нованабытую гаспадарку ў маёнтку Дубляны каля м. Вялікая Бераставіца. Вучыўся ў Вялікіх Азяранах, Горадні. У 1915 г. разам зь сям'ёю як бежанец трапіў у Омск (Сыбір), дзе скончыў сярэднюю школу. У 1921 г. сям'я вярнулася ў Дубляны. Ад гэтага часу далучыўся да беларускага руху, належаў да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У 1927 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі й асуджаны на тры гады турмы. Ад 1930 г. жыў у Чэхаславаччыне. Скончыў агранамічны факультэт Праскай палітэхнікі, працаваў асыстэнтам у Праскім інстытуце заалёгіі. Браў удзел у грамадзкім беларускім жыцьці. Некаторы час быў сакратаром старшыні Рады БНР *В. Захаркі*. З пачаткам Другой сусьветнай вайны пераехаў у Беласток. Быў намесьнікам рэдактара газэты „Новая дарога“, працаваў у Беларускім камітэце. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Быў абраны старшынём Беларускага цэнтральнага камітэту — галоўнай арганізацыі беларусаў у Нямеччыне ў 1945—1947 гг. У 1948 г. пастрыгся ў манахі пад імем Васіль, а ў 1949 г. вышэйшымі ярархамі Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўзведзены ў сан япіскапа БАПЦ. У 1951 г. скончыў Украінскую багаслоўскую акадэмію з дыплёмам магістра багаслоўя. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў япіскапат БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў ЗША. У 1951 г. узначальваў БІНіМ. Забіты невядомымі ў сваёй кватэры ў Нью-Ёрку. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ВАЎЧОК Уладзімер** (01.08.1922, в. Бобрына на Стаўпеччыне (?) — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у беларускай паліцыі парадку, у 1944 г. трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, уступіў у Другі польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі і ў 1948 г. стаў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Быў

сакратаром Касы самапомачы ХАБР. Ад 1952 г. уваходзіў у Беларускі вызвольны рух, быў кіраўніком канцылярыі паўнаважнага прадстаўніцтва Штабу БВР у Вялікабрытаніі. Пазьней, магчыма, зьехаў у Канаду.

**ВАШЧЫЛКА Кастусь** (13.10.1924, в. Глінішчы (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 26.06.2003, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Ад 10.08.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ВАЯВОДКА Ўладзімер** (01.02.1911, в. Кульнаі на Дзісеншчыне (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 27.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне.

**ВЕНЭДЫКТ** (сьвецк. **Васіль Бабкоўскі**, 28.02.(13.03)1876, г. Завалач Пскоўскай губ. Расеі — 21.08.1951, Мюнхен, Нямеччына), япіскап Рускай праваслаўнай царквы. У 1905 г. скончыў Пскоўскую духоўную сэмінарыю. У часы Першай сусьветнай вайны быў вайсковым сьвятаром. Ад 1918 г. — настаяцель катэдральнага сабору ў Наваградку. У 1937 г. прыняў манаства й быў прызначаны настаяцелем Жыровіцкага манастыру. Ад 1941 г. — япіскап Берасьцейскі, вікарый Менскай япархіі. Ад красавіка 1942 г. — архіяпіскап Гарадзенскі й Беластоцкі Беларускай праваслаўнай царквы, экзарх Усходняй Прусіі. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, дзе далучыўся да РПЦЗ. Ад 1950 г. — архіяпіскап Бэрлінскі й Нямецкі.

**ВЕРАБЕЙ Кастусь** (нар. 25.09.1931, в. Іванкавічы (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.), грамадзкі дзеяч. Паходзіў зь сялянскай сям'і. У 1944 г. разам зь сям'ёй выехаў ва Ўсходнюю Прусію. Па сканчэньні вайны апынуўся ў беларускім лягеры *DP у* Ватэнштэце. У 1951 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. Быў актыўным прыхаджанінам БАПЦ. Быў аўтарам зацемак у эміграцыйных пэрыёдыках. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1982—1993 гг. быў сябрам управы Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Доўгі час быў распаўсюднікам бюлетэня „Весткі й паведамленьні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА“.

**ВЕРАМЕЙКА Фёдар (Тодар)** (на эмігр. ***Wilson***, 09.04.1923, Любча (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, належаў да аддзелу ў Бірмінгеме.

Таксама ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Жыў у Сток-он-Трэнце.

**ВЕРАСАЎ Дзьмітры** (1909—1985), кампазытар. Ад 1944 г. жыў на эміграцыі. У ЗША кіраваў хорам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ВЕРЖБАЛОВІЧ (ВЕРБІЧ) Барбара** (1901 — 08.01.1967, Мюнхен, Нямеччына), опэрная сьпявачка, цётка *Г. Ганчарэнкі*. Мела добрую музычную адукацыю. У 1933 г. скончыла беларускі музычны тэхнікум. У 1933—1938 гг. вучылася ў беларускай кансэрваторыі. У 1938—1944 гг. — салістка беларускай опэры. Потым у Нямеччыне выступала ў складзе тэатральнай групы „Жыве Беларусь!“ (Беларускі тэатар эстрады). У 1950 г. прыехала ў ЗША, працавала на фабрыцы. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, першай кіраўніцай яго жаночай сэкцыі. У 1954 г. разам з пляменьніцай *Г. Ганчарэнкай* вярнулася ў Мюнхен, дзе працавала ў беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“ (пазьней „Свабода“). Памерла ад ранаў, атрыманых у дарожнай аварыі. Пахаваная ў Мюнхене на *Westfriedhof*.

**ВЕСЯЛКОЎСКАЯ Марыя** (дзяв. **Ахрыменя**, нар. 1933, в. Морач (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.)), жонка *Ю. Весялкоўскага*. У 1940 г. разам з бацькамі была вывезеная ў ваколіцы Архангельску (Расея). Пазьней таксама з бацькамі апынулася ў цывільных лягерах польскага войску ў Іране, адкуль была перавезеная ў Афрыку. У 1948 г. пераехала ў Вялікабрытанію. Спачатку жыла ў Стафардзе, потым у Манчэстэры. Сьпявала ў царкоўным хоры. Пасьля шлюбу з *Ю. Весялкоўскім* перабралася ў Лёндан. Сяброўка мясцовай парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ВЕСЯЛКОЎСКІ Юры** (нар. 02.01.1924, в. Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, рэдактар, выдавец. У 1942—1944 гг. вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы, быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА. Разам зь іншымі курсантамі апынуўся ў 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, потым — у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 01.10.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі і ў 1948 г. стаў сябрам Хрысьціянскага аб’яднаньня беларускіх работнікаў. Пасяліўся ў Лёндане. Доўгі час выконваў функцыі сакратара Галоўнай управы ХАБР, стварыў пры арганізацыі хор. У 1954—1962 гг. быў адным з рэдактараў часопіса „Аб’еднаньне“. У 1960-х гг. спрычыніўся да расколу ХАБР праз канфлікт вакол яго Дому.

У 1952 г. уваходзіў у Беларускі вызвольны рух. Належаў да парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане. У 1974—1976 гг. выдаваў часопіс „Званіца“, пазьней, у 1989—1996 гг., — часопіс „Голас часу“. Аўтар шэрагу кніг па беларускай і сусьветнай гісторыі („Дарогі рымскіх папаў на Ўсход“ (1992), „Беларусь у першай сусьветнай вайне“ (1995), „Па сьлядах Другой сусьветнай вайны“ (2002) і іншых), а таксама успамінаў „Няясна мроіліся новыя дарогі“ (1997). Жыве ў Лёндане.

**ВІНАГРАДАЎ Васіль** (20.05.1919, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Хадэрсфілдзе. Ад 08.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ВІНІЦКАЯ Кацярына** (дзяв. **Янцэвіч**, нар. 14.10.1929, Ліда (сёньня Гарадзенская вобл.)), грамадзкая дзяячка, жонка *Л. Вініцкага*. Скончыла 6 клясаў гімназіі. У 1947 г. як *DP* прыбыла на працу ў Вялікабрытанію. Ад 28.08.1947 была сяброўкай Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У пачатку 1950-х выехала ў ЗША. Жыве ў Каліфорніі (ЗША).

**ВІНІЦКІ Аляксей** (26.12.1891, в. Малева Слуцкага пав. Менскае губ. (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 23.11.1972, Каліфорнія, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог, бацька Л. Вініцкага. Пасьля заканчэньня Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі працаваў выкладчыкам. У часе Першай сусьветнай вайны ваяваў у царскім войску, даслужыўшыся да званьня капітана. Пасьля вайны вярнуўся ў родную вёску, дзе арганізаваў беларускую школу, якую неўзабаве зачынілі польскія ўлады. Настаўнічаў у польскіх школах, а з прыходам Саветаў стаў дырэктарам дзесяцігодкі. За немцамі ствараў беларускія школы й аднавіў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю. Пасьля Другой сусьветнай вайны ў Нямеччыне спрыяў стварэньню беларускіх лягераў *DP*. Ад 1949 г. — дырэктар Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, выкладаў геаграфію. У 1956 г. выехаў у ЗША. Займаўся грамадзкай і навуковай працай, быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Каліфарнійскага аддзелу. Радны БНР. Аўтар працы „Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох“ (Лос Анджэлес, 1968). Пахаваны на *Inglewood Park Cemetery*.

**ВІНІЦКІ Лявон** (29.03.1923, Нясьвіж (сёньня Менская вобл.) — 15.10.1993, Каліфорнія, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *А. Вініцкага,* муж *К. Вініцкай*. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны

працаваў у *UNRRA*. Ад 1949 г. вучыўся на факультэце палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльґія). Уваходзіў ва ўправы Беларускага студэнцкага згуртаваньня й Саюзу беларусаў Бэльґіі. Сьпяваў у студэнцкім хоры. У 1950-х гг. выехаў у ЗША. Жыў у Лос Анджэлесе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Каліфарнійскага аддзелу.

**ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКАЯ Юльяна** (дзяв. **Мэнке**, 12.12.1886, Вільня — 28.09.1969, Нюрнбэрг, Нямеччына), настаўніца, грамадзкая дзяячка, мастацтвазнаўца. Паходзіла зь сям'і віленскіх немцаў. У 1907—1913 гг. вучылася на Вышэйшых жаночых курсах у Пецярбургу, пасьля чаго здала дзяржаўны іспыт у Пецярбурскім унівэрсытэце. Ад 1915 г. у Вільні працавала ў Беларускім камітэце разам з Іванам Луцкевічам. Удзельнічала ў адкрыцьці першых беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў, Віленскай беларускай гімназіі, дзе затым сама выкладала пэдагогіку й нямецкую мову. Працавала разам зь Цёткай, Антонам Луцкевічам. У 1922 г. узяла шлюб зь Львом Дубейкаўскім. Ад 1941 г. жыла ў Нямеччыне. Спачатку ўтрымлівалася ў лягеры для перасяленцаў, потым апынулася ў Бэрліне, дзе працавала перакладчыцай у Беларускім аддзеле Міністэрства для патрэбаў вайны. Па сканчэньні вайны праз некаторы час выехала спачатку ў Малерсдорф, а пазьней — у 1951 г. — пасялілася ў пляменьніцы ў Нюрнбэргу. Аўтарка ўспамінаў пра І. Луцкевіча, Л. Дубейкаўскага, Цётку. Пахаваная ў Нюрнбэргу на *Westfriedhof*.

**ВІЦЕНЧЫК Міхась** (02.11.1921, в. Асмалавічы Нясьвіскага пав. (?) — 14.01.2003, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у беларускай самаахове, пазьней — у Арміі Андэрса, разам зь якой у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры, быў скарбнікам мясцовага аддзелу ЗБВБ. Таксама ад 1951 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў і Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці, выконваў функцыі скарбніка арганізацыі ў 1955 г. Як актывіст БАПЦ быў узнагароджаны адмысловай граматай ад імя мітрапаліта *Андрэя*. Адзін з ініцыятараў стварэньня Беларускага грамадзкага клюбу ў Манчэстэры, быў яго адміністратарам да 1969 г. Пераехаў у Брадфард. Працаваў у Беларускім грамадзкім клюбе „Сакавік“. У 1980-х гг. уваходзіў у Гурток беларускай незалежніцкай думкі „Васілёк“. У 1957—1970 гг. быў радным БНР. Пахаваны ў Брадфардзе.

**ВІЦЬБІЧ (СТУКАЛІЧ) Юрка** (сапр. **Сэрафім Шчарбакоў**, 02(15).06.1905, Веліж Віцебскай губ. (сёньня Расея) — 06.01.1975, Саўт-

Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і сьвятара. Вучыўся ў пэдагагічным тэхнікуме. У 1922—1933 гг. працаваў на хімічных заводах у Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб'еднаньне „Ўзвышша“, у 1939 г. прыняты ў Саюз пісьменьнікаў СССР. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі — „Вяліжскія паўстанцы“ й „Нацыянальныя сьвятыні“, выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртаваньня, рэдактарам часопіса „Ўзвышша“, адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб'яднаньне „Шыпшына“, выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі“, „БІС“, газэту „Беларускае слова“. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і расейскім пэрыядычным друку, у тым ліку „Новым рускім слове“. Супрацоўнічаў з радыё „Свабода“. Як пісьменьнік дэбютаваў у 1929 г. у часопісе „Ўзвышша“. Аўтар кніг прозы „Сьмерць Ірмы Лаймінг“ (1932), „Формула супраціўленьня касьцей“ (1937). У эміграцыі выдаў кнігу гістарычных нарысаў „Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман“ (Мюнхен, 1956) і зборнік артыкулаў на рускай мове „Мы дойдем“ (Нью-Ёрк, 1975). Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ВІШНЕЎСКІ Міхась** (1924, в. Кульмічы (сёньня Любанскі р-н Менскай вобл.) — 02.03.1992, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой перабраўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Манчэстэры. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, уваходзіў ва ўправу акруговага цэнтру ў Манчэстэры. У 1954 г. выйшаў з арганізацыі й стаў актывістам манчэстэрскага асяродку Беларускага вызвольнага руху, у 1958 г. выконваў абавязкі скарбніка арганізацыі. Быў адным з тых, на каго была запісаная нерухомасьць БВР, праз што ў 1960-х гг. быў уцягнуты ў судовыя разьбіральніцтвы. Актывіст парафіі Сьв. Мікалая ў Манчэстэры. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ВОЙТАНКА Марыя** (дзяв. **Хіневіч** (06.02.1917, Мір (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 12.05.1991, Дэтройт, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *В. Войтанкі-Васілеўскага*. Вучылася на гуманітарным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Удзельнічала ў кіраўніцтве Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі, у тым ліку яго жаночай сэкцыі. У 1972 г. пасьля сьмерці мужа *В. Войтанкі-Васілеўскага* разам з дачкой перабралася ў Дэтройт.

**ВОЙТАНКА Мікола** (20.03.1915 — 22.07.1996, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў радным БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ВОЙТАНКА-ВАСІЛЕЎСКІ Віктар** (06.11.1912, фальв. Мачульня Наваградзкага пав. — 25.04.1972, Самэрсэт, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, лекар, сын *С. Войтанкі*, муж *М. Войтанкі*. Скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Падчас нямецкай акупацыі быў бургамістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага царкоўнага сабору. Ад 1943 г. — акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. — доктар-інспэктар БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945—1949 гг. жыў у паўднёва-заходняй Нямеччыне (Бадэн-Вюртэмбэрг, француская зона акупацыі). 05.06.1948 удзельнік зьезду беларускіх сьвятароў і грамадзкіх дзеячаў, прыхільнікаў Рады БНР, на якім была аднаўлена БАПЦ. Ад 1950 г. жыў у штаце Нью-Джэрзі, ЗША. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Нью-Джэрзійскага аддзелу. Радны БНР. Пасьля сьмерці бацькі ў 1968 г. вырашыў стаць сьвятаром і быў высьвечаны 15.06.1969. Служыў у парафіі царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку (Нью-Джэрзі), заснаванай ягоным бацькам. Займаўся перакладам літургічных тэкстаў на беларускую мову. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ВОЙТАНКА Сьцяпан** (28.10.1886 — 26.06.1968, Нью-Джэрзі, ЗША), сьвятар, дзеяч БАПЦ, бацька *В. Войтанкі-Васілеўскага*. Зь сялянскай сям'і. У 1902 г. экстэрнам здаў іспыт на настаўніка пачатковых школаў і дыякана ў Гарадзенскай духоўнай кансысторыі. Падчас Першай сусьветнай вайны — у войску. Па сканчэньні Гарадзенскай гарадзкой гімназіі некаторы час настаўнічаў. У 1918 г. высьвечаны на сьвятара. Працаваў у парафіях Дварэц, Марозавічы (сёньня Дзятлаўскі р-н), Ястрэбель (Бярозаўскі р-н). У 1938 г. пад забаронай служэньня за супраціў палянізацыі праваслаўнай царквы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. 05.06.1948 браў удзел у зьезьдзе ў Канстанцы, дзе была аднаўленая БАПЦ. У 1950 г. выехаў у ЗША. Арганізаваў парафію Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку (Нью-Джэрзі). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ВОСТРЫКАЎ Цімох,** (на эміграцыі **Міхась**, 28.08.1922, в. Баршчоўка (сёньня Добрускі р-н Гомельскай вобл.) — 14.11.2007, Гомель), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Гомельскім пэдвучылішчы, настаўнічаў. У часе Другой сусьветнай вайны быў мабілізаваны ў Савецкую армію.

Трапіў у нямецкі палон і быў вывезены ў Нямеччыну, дзе працаваў на фабрыцы. Пасьля вайны скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У 1948 г. у шэрагах „Дванаццаткі" прыехаў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пры канцы 1949 г. выехаў разам зь сябрамі па „Дванаццатцы" на навучаньне ў Лювэн (Бэльгія). Праз паўтара гады навучаньня ў інстытуце фізычнай культуры выехаў у Нямеччыну для праходжаньня падрыхтоўкі для дывэрсійнай працы ў БССР. У верасьні 1952 г. быў закінуты ў складзе групы на беларускую тэрыторыю, дзе хутка арыштаваны. Больш за 20 гадоў адбываў зьняволеньне ў Дуброўлагу ў Мардовіі, пасьля 1975 г. вярнуўся ў Беларусь, жыў і памёр у Гомелі.

**ВОЎК-ДЗЕРАШ Казюк** (1907 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 17.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ВОЎНА Рыгор** (14.01.1920 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, адным са стваральнікаў другога Лёнданскага аддзелу арганізацыі, дзе выконваў функцыі сакратара. У 1950-х выехаў у Канаду.

**ВЫСОЦКАЯ Ядзьвіга** (01.05.1930, Слонімшчына — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Лёндане. Ад 14.04.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехала ў Канаду.

**ВЫСОЦКІ Базыль** (15.09.1902, Слонімшчына — 1988, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак у 1950-х зьехаў у Канаду. Пахаваны ў Таронта на *York Cemetery*.

**ВЫСОЦКІ Леў** (09.04.1913, Лібава (сёньня Ліепая, Латвія) — 31.03.2002, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *Х. Высоцкага*. Скончыў сярэднюю тэхнічную школу ў Ломжы, служыў марскім кадэтам у польскім войску. Падчас нямецкай акупацыі служыў у банку ў Стоўпцах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Быў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Доўгагадовы скарбнік і сябра ўраду Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ВЫСОЦКІ Хведар (Тодар)** (26.10.1887, Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 17.09.1976, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай незаможнай сям'і. Скончыў царкоўна-прыходзкую школу, вывучыўся на бухгальтара й рахункавода. Працаваў чыноўнікам на чыгунцы. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У 1949 г. прыехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Удзельнік Злучанага Беларуска-Амэрыканскага дапамаговага камітэту й Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Доўгагадовы стараста парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваны у Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ВЯЛІКІ Павал** (нар. 01.10.1925, в. Леніна (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.)), рэлігійны дзеяч. Разам з бацькамі жыў у Мікашэвічах. У 1940 г. сям'я была вывезена ў Сыбір. У 1942 г. уступіў у Другі польскі корпус, разам зь якім прайшоў праз Іран, Палестыну, Эгіпет, браў удзел у ваенных дзеяньнях у Італіі, бітве за Монтэ-Касіна. У 1947 г. дэмабілізаваўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. У 1957 г. быў пасьвечаны на дыякана, 23.04.1967 атрымаў сьвятарскія сьвячэньні. Належаў да юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха. Ад 1967 г. быў настаяцелем парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане, рэгулярна служыў у Сток-он-Трэнце, Сьвіндане, Манчэстэры. У красавіку 1973 г. перабраўся ў Канаду, дзе да 1998 г. служыў у праваслаўнай царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Таронта. У 1993 г. на запрашэньне мітрапаліта Менскага й Слуцкага Філарэта наведваў Беларусь. Ад 1998 г. — на пэнсіі. Жыве ў Бэры (Антарыё, Канада).

**ВЯЛОНДА Янка** (01.12.1922, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 28.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ВЯРБІЦКІ Аўген** (04.01.1922, м. Краснае (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 29.06.1986, Філядэльфія, Пэнсільванія, ЗША), грамадзкі дзеяч, навуковец, хімік. Пасьля Другой сусьветнай вайны вучыўся ва ўнівэрстытэце *UNRRA* у Мюнхене. Пазьней у ЗША скончыў біялягічны факультэт Ратгерскага ўнівэрсытэту (Нью-Брансьвік, Нью-Джэрзі). Атрымаўшы ступень доктара навук, пераехаў у штат Аёва, дзе спэцыялізаваўся ў хіміі мясной прадукцыі. Пазьней атрымаў пасаду галоўнага навукоўца ў ваеннай лябараторыі дасьледаваньняў ежы. Дасягнуў посьпехаў у галіне кансэрваваньня харчоў шляхам іррадыяцыі, стваральнік „касьмічнай ежы“, што выкарыстоўвалася ў палётах

амэрыканскіх астранаўтаў. Ягоныя заслугі былі адзначаныя, калі тыя прывезьлі зь Месяца месяцовую пароду, кавалачак якой атрымаў з рук Прэзыдэнта ЗША. Быў сябрам Нью-Ёрскай акадэміі навук, Амэрыканскага хімічнага таварыства, Амэрыканскага інстытуту тэхналёгіі ежы, Амэрыканскага таварыства мясной прамысловасьці. Ганаровы сябра Таварыства прагрэсу навукі. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1954—1957 гг. быў заступнікам старшыні Галоўнай управы арганізацыі. Быў сябрам БІНіМу.

**ГАВЕНЧЫК Янка** (11.11.1921, Беласточчына — ?, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Самапомачы на Беласточчыне. У 1950 г. прыехаў у Аўстралію. Жыў у Брысбэне (Квінслэнд), дзе спрабаваў наладзіць беларускае грамадзкае жыцьцё. Быў сябрам Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў. Каля 1954 г. перабраўся ў Сыднэй, увайшоў у склад Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. Ад часу заснаваньня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу быў адным зь яго дырэктароў.

**ГАЙДЗЕЛЬ Пётра** (14.07.1912, Браслаўшчына — люты 1988, Вісконсін, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў гімназію марыянаў у Друі. Вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту, дыплём лекара атрымаў у Марбурскім унівэрсытэце (Нямеччына) пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. У Сыднэі вымушаны быў здаваць іспыт на атрыманьне права лекарскай практыкі. Удзельнічаў у станаўленьні беларускага грамадзкага жыцьця ў Новай Паўднёвай Валіі. У сакавіку 1950 г. браў удзел ў першым зьездзе сяброў Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі ў Сыднэі. Пазьней — адзін з арганізатараў Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі й сябра Аўстралійскага сэктару Рады БНР. У 1957 г. разам зь сям'ёй пераехаў у ЗША, дзе таксама займаўся лекарскай працай. Апошнія гады жыў у штаце Вісконсін.

**ГАЛАВАЧ Лявон** (28.03.1913, Будслаў (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Быў чыгуначнікам па прафэсіі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 11.07.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГАЛКА Зьміцер** (11.10.1917, Піншчына — ?), грамадзкі дзеяч, муж Л. Галкі Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, належаў да акруговага аддзелу ў Ковэнтры. У пачатку 1950-х гг. выехаў у Бразылію.

**ГАЛКА Луцыя** (? — ?), жонка *З. Галкі*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 20.10.1947 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1950-х гг. выехала ў Бразылію разам з мужам.

**ГАЛОЎКА Мікола** (21.09.1926, в. Дарагляны (сёньня Мастоўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?, ЗША), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Слоніме, быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА. Разам з іншымі трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 06.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1949 г. далучыўся да Беларускага камітэту сяброўства ў Ёркшыры, дзе выконваў функцыі скарбніка. Аднак у 1949 г. вярнуўся ў ЗБВБ. Ад 1950 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1950-х гг. выехаў у ЗША.

**ГАЛУБІНКА Марыя** (дзяв. **Клус**, нар. ?, Століншчына), царкоўная актывістка. Дзяўчынкай трапіла разам з бацькамі ў Іран. Да канца Другой сусьветнай вайны знаходзілася ў лягеры для цывільных сваякоў польскіх жаўнераў у Тэнгеру (Танзанія). У 1947 г. прыехала ў Вялікабрытанію. Пабралася шлюбам зь Міхасём Галубінкам. Актывістка парафіяльнага камітэту Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане.

**ГАЛУМБОЎСКІ Янка** (17.05.1907, Берасьцейшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 12.03.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Валіі.

**ГАЛЯК Леанід** (31.10.1910, Вільня — 03.04.1980, Стамфард, Канэктыкут, ЗША), грамадзкі дзеяч, юрыст. У 1930—1935 гг. вучыўся на хімічным, а пазьней юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Менскай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944—1945 гг. быў супрацоўнікам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларускіх журналістаў на чужыне й выданьня „Летапіс беларускай эміграцыі“. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў ды першы рэдактар газэты „Беларус“ (1950—1951). Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1953—1956 гг. уваходзіў ва ўправу Стамфардзкага аддзелу арганізацыі. У 1955 г. выйшаў з Рады БНР, а ў наступным годзе й з БАЗА. Аўтар „Успамінаў“ (выдрукаваныя ў 2-х тамах у 1982—1983 гг.). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ГАНЧАРЭНКА Галіна** (**Грыбава, Руднік**; нар. 1931, Бабруйск), грамадзка-культурная дзяячка, журналістка, перакладчыца. Бацька быў рэпрэсаваны і ў 1937 г. расстраляны, а маці праз год выслана ў Сыбір. У 1944 г. выехала на эміграцыю разам са сваёй апякункай ведамай сьпявачкай *Б. Вержбаловіч*. У паваеннай Нямеччыне вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехала ў ЗША. У 1954 г. скончыла факультэт раманскіх моваў Нью-Ёрскага ўнівэрсытэту. Кіравала сьвецкім і царкоўным хорамі, працавала ў Арганізацыі беларускай моладзі. Была перакладчыцай у ААН. Пераехала на нейкі час у Мюнхен, дзе працавала на радыё „Вызваленьне“ / „Свабода“.

**ГАНЬКО Мікола** (23.05.1924, хут. Каледзіна (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 18.05.1999, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч, малодшы брат старшыні Саюзу беларускай моладзі Міхася Ганька. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладэчанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе. У 1944 г. скончыў курсы сярэдніх кіраўнікоў СБМ у Альбярціне. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945-1948 гг. жыў у Зальцбургу (Аўстрыя). Улетку 1948 г. выехаў у Канаду. Спрычыніўся да заснаваньня парафіі БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, быў шматгадовым кіраўніком Згуртаваньня беларусаў Канады, адным з заснавальнікаў дабрачыннага таварыства дапамогі дзецям — ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Яго жонка Марыя напісала ўспаміны „Каб сьведчылі пра Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Міколы Ганько“ (Менск, 2005). Пахаваны ў Таронта на *Pine Hills Cemetery*.

**ГАНЭЦКІ Пётра** (22.11.1909, Маладэчна (сёньня Менская вобл.) — 14.04.1992, Каліфорнія, ЗША), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі быў судзьдзём у Дзісьне, камандзірам батальёну БКА. На эміграцыі жыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, Стамфардзкага, а потым Каліфарнійскага аддзелаў арганізацыі.

**ГАРБАЦЕНКА Карп** (15.05.1908, м. Куранец (сёньня вёска ў Вялейскім р-не Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.12.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГАРБУС Давід** (05.09.1927, Віцебск — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГАРОШКА Леў** (26.02.1911, в. Трашчыцы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) —28.07.1977, Парыж, Францыя), рэлігійны дзеяч, пісьменьнік. У 1928—1931 гг. вучыўся ў Наваградзкай беларускай

гімназіі, потым у Львоўскай духоўнай акадэміі, у 1936—1937 гг. у Каталіцкім унівэрсытэце ў Інсбруку (Аўстрыя). 17.10.1937 быў рукапакладзены ў сьвятары ў Львове. У 1937—1939 гг. працаваў душпастырам у розных месцах Пінскай дыяцэзіі. У 1939 г. загадам Наваградзкага ваяводы быў выселены з памежнай паласы й жыў у Збуражы каля Маларыты. У 1939—1944 гг. працаваў ў Баранавічах, у тым ліку й выкладчыкам у мэдычнай школе. Ад лета 1944 г. — на эмігацыі. У 1945 г. арганізоўваў беларускае душпастырства ў Бэрліне й Мюнхене, потым пераехаў у Рым. У 1946 г. прызначаны Ўсходняй Кангрэгацыяй для душпастырства беларусаў у Францыі, пераехаў у Парыж. У 1946—1957 гг. быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. У 1946 г. выдаў малітоўнік „Божым шляхам“, а ў 1947—1957 гг. выдаваў рэлігійна-грамадзкі часопіс „Божым шляхам“. Пісаў пад псэўданімамі **Л. Дварэцкі**, **Анатоль Жменя**, **Л. Іскра**, **Пракоп Каваль** ды іншымі. Аўтар шэрагу брашураў рэлігійнай тэматыкі. У 1959 г. паступіў у навіцыят айцоў-марыянаў у Рыме. У 1960 г. быў пераведзены ў Лёндан, дзе быў прызначаны на пасаду рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. У 1962 г. прыняў манаства ў капліцы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Лёндане. Да 1969 г. заставаўся рэктарам Місіі ды ігуменам законнага Дому ў Лёндане. Быў адным з выкладчыкаў у школе-інтэрнаце імя К. Тураўскага. Далучыўся да Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у Галоўную ўправу, быў намесьнікам старшыні арганізацыі. Ад імя беларусаў выступаў у Брытанскай радзе дапамогі ўцекачам. У 1964 г. стаў першым старшынём Беларускай харытатыўнай сэкцыі (фонду). У 1965 г. атрымаў годнасьць архімандрыта. У 1970 г. перабраўся ў Рым, дзе кіраваў Беларускай сэкцыяй Радыё Ватыкану. Адначасова выконваў абавязкі рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. Памёр у шпіталі ў Парыжы, пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cementery*. Архіў дзеяча захоўваецца ў Скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане.

**ГАРОШКА Мікола** (05.05.1902, в. Трашчыцы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 11.02.1979, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, бацька *Р. Гарошкі*, стрыечны брат *Л. Гарошкі*. Вучыўся ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе. У 1948 г. прыехаў у ЗША. Адзін са стваральнікаў і кіраўнік Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў 1949—1952 і 1965—1967 гг. Першы старшыня Фундацыі імя П. Крэчэўскага (1964—1979). Быў сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус“. Ад 1970 г. быў сакратаром Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Нью-Ёрку. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ГАРОШКА Расьціслаў** (нар. 1938 (?)), грамадзкі дзеяч, сын *М. Гарошкі*. У 1948 г. прыехаў з бацькамі ў ЗША. У 1967 г. у Калюмбійскім унівэрсытэце ў Нью-Ёрку абараніў дысэртацыю й атрымаў ступеню доктара фізычных навук. Актыўны ўдзельнік беларускага рэспубліканскага руху. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1960-х гг. быў у кіраўніцтве Нью-ёрскага аддзелу, а ў 1971—1975 гг. — старшынёй Галоўнай управы БАЗА. Быў сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус“. У 1975 г. выйшаў з арганізацыі й пачаў выдаваць газэту „Беларускі час“ („*Byelorussian Time*“). Жыве ў Нью-Ёрку.

**ГАСЬЦЕЕЎ Юрка** (04.07.1924, Клецк (сёньня Менская вобл.) — 27.12.1991, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Францыі. Быў сакратаром Аб’еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі. У 1957 г. перабраўся ў ЗША. У 1970-х гг. быў актывістам Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Агаё. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Кіраваў Кліўлэндзкім аддзелам Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**ГАТКОВІЧ Алесь** (16.08.1925, Маладэчаншчына — 29.09.2007, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны вучыўся ў гандлёва-адміністрацыйнай школе ў Маладэчна. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце браў удзел у арганізацыі літаратурна-мастацкіх вечароў. У Вялікабрытаніію прыехаў як *DP*. Жыў у Лідсе. Уваходзіў у склад першай управы Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў. У 1949 г. быў адным з ініцыятараў стварэньня Акруговага цэнтру ХАБР у Ёркшыры. Быў ініцыятарам заснаваньня беларускага скаўтынгу ў Вялікабрытаніі й адным з аўтараў ды выдаўцоў часопіса „Да мэты“ (1948—1949). Пазьней — сябра Беларускага вызвольнага фронту, намесьнік начальніка Краёвага штабу БВФ на Вялікабрытанію.

**ГАТОЎКА Станіслаў** (23.05.1925, Піншчына — 28.02.1999, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 29.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Жыў і памёр у Брадфардзе.

**ГАХОВІЧ Мікола** (06.08.1924, Стоўпцы (сёньня Менская вобл.) — 03.05.1992, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, быў курсантам Менскай афіцэр-

скай школы БКА. Разам з іншымі курсантамі трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, пасьля служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 26.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але далучыўся да апазыцыі й ад 1948 г. быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Уваходзіў у кіраўніцтва Акруговага цэнтру ХАБР у Ланкашыры. Актывіст парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане, старшыня парафіяльнага камітэту.

**ГЕЛІН Кастусь** (08.11.1920, в. Паляўковічы пад Клецкам (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак у хуткім часе зьехаў у Францыю.

**ГЕНАЎ Зьміцер** (21.05.1921, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) —?), грамадзкі дзеяч. Чыгуначны майстар. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 26.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГЕРМАНОВІЧ Язэп** (20.02(04.03).1890, в. Гальшаны (сёньня Ашмянскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.12.1978, Лёндан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч, пісьменьнік, пэдагог. Вучыўся ў гарадзкой школе ў Ашмянах, а потым — у Віленскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі, якую скончыў у 1913 г. і атрымаў сьвятарскія сьвячэньні. Служыў на Беласточчыне. У 1920 г. перабраўся ў Слонімскі павет, а ў 1924 г. уступіў у ордэн марыянаў. Пераехаў у Друю, выкладаў закон Божы й лацінскую мову ў друйскай гімназіі. Друкаваўся ў беларускіх выданьнях „Крыніца“, „Хрысьціянская думка“, пісаў пад псэўданімам **Вінцук Адважны**. Ад 1932 г. працаваў у Харбіне ва Ўсходняй місіі. У 1936 г. вярнуўся ў Вільню, дзе стаў кіраваць Домам марыянаў, аднак у 1938 г., пасьля закрыцьця ўстановы, зноў праз Рым выехаў у Харбін. У 1948 г. быў арыштаваны кітайскімі камуністычнымі ўладамі й выдадзены Саветам, асуджаны на 25 гадоў прымусовых лягерных работ. Адбываў пакараньне ў лягерах Сыбіры. Па вызваленьні ў 1955 г. выехаў у Польшчу, адтуль у 1959 г. пераехаў у Рым і далей у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане ў Марыян Хаўзе. Ад 1962 г. быў цягам некалькі гадоў дырэктарам школы-інтэрнату Сьв. К. Тураўскага. У 1964 г. аднавіў выданьне рэлігійна-грамадзкага часопіса „Божым шляхам“, рэдактарам якога заставаўся амаль да сьмерці. Пісаў байкі, быў аўтарам успамінаў „Кітай — Сыбір — Масква“, выдадзеных на шасьці мовах. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*. Архіў дзеяча захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны.

**ГІЗУЛ Мікола** (19.08.1919, Баранавіччына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГІЛІБРАНД (ПАШКОЎСКІ) Канстанты** (10.06.1922 — 05.12.1987, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Чэстэрфілдзе. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая ў Нотынгеме. Пахаваны ў Чэстэрфілдзе на *Spital Cemetery*.

**ГІНЬКО Ўладзімер** (06.05.1925, в. Маркі (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 19.09.2005, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.10.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў ва ўправу Манчэстэрскага аддзелу. Таксама ад 1951 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Падтрымліваў БАПЦ у Вялікабрытаніі. Быў кіраўніком аддзелу Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры, потым уваходзіў у парафіяльны камітэт царквы Жыровіцкай Божай Маці. Доўгія гады выконваў абавязкі адміністратара Беларускага дому ў Манчэстэры. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ГІТЛІН Масей** (18.07.1896 — 10.01.1969, ЗША), пратэстанцкі прапаведнік, місіянэр, публіцыст. Нарадзіўся ў сям'і беларускіх габрэяў, вучыўся ў хэдары, але перайшоў у хрысьціянства. Быў на місійнай працы ў Польшчы, Аргентыне, Канадзе, ЗША. На запрашэньне пастара *Т. Сайкі* далучыўся да перакладу Сьвятога Пісаньня на беларускую мову. Гісторыю перакладу апісаў у брашуры *A Brief History of the Translation of the Bible into Whiterussian* (*Cleveland, 1964*).

**ГЛАДКІ Язэп** (псэўданім **Адам Варлыга,** 04.10.1890, в. Міхалкавічы Барысаўскага пав. Менскай губ. (сёньня Лагойскі р-н Менскай вобл.) — 28.07.1972, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог, выдавец, этнограф, мовазнаўца. У 1912 г. быў мабілізаваны ў царскае войска. Па сканчэньні фэльчарскай школы браў удзел у ваенных дзеяньнях часоў Першай сусьветнай вайны. Кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў. Браў удзел у Першым зьездзе беларускіх вайскоўцаў і Першым Усебеларускім кангрэсе. Ад 1921 г. актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі беларускага школьніцтва на Лагойшчыне, дзе настаўнічаў да 1930 г., калі быў звольнены з працы. Каб пазьбегнуць рэпрэсіяў, перабраўся ў Менск, дзе ў 1936 г. скончыў Вышэйшы пэдагагічны інстытут і працаваў у Інсты-

туце школьнай пэдагогікі пры Наркамаце асьветы. У 1941 г. вярнуўся настаўнічаць у родную вёску, аднак, у 1943 г., ратуючыся ад партызанаў, зноў прыехаў у Менск, дзе працаваў у выдавецтве школьных падручнікаў. Ад 1944 г. — у Нямеччыне. У лягерах *DP* настаўнічаў ды займаўся выданьнем падручнікаў (каля 10 кніг), для чаго на ўласныя грошы заклаў выдавецтва „Заранка“. Пазьней перабраўся ў ЗША, дзе працягваў выдавецкую дзейнасьць, аднавіўшы выдавецтва „Заранка“. У 1950-х гг. выкладаў беларускую мову на беларусаведных курсах у Нью-Ёрку. Аўтар працаў „Прыказкі Лагойшчыны“ (Нью-Ёрк — Мюнхен, 1966), „Краёвы слоўнік Лагойшчыны“ (Нью-Ёрк, 1970), нявыдадзеных успамінаў „Чутае — бачанае — перажытае“. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ГЛЕБКА Віктар** (19.09.1919, Дзісеншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ГЛІНСКІ Кастусь** (08.02.1906, в. Прытычына Дзісьненскага пав. (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 14.06.1987, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Дзісенскай гімназіі, а потым на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Належаў да Беларускага студэнцкага саюзу, некаторы час быў яго старшынём, выдаваў часопіс „Студэнцкая думка“. Пазьней — старшыня Згуртаваньня беларускіх студэнтаў „Скарынія“, у 1931—1934 гг. выдаваў часопіс „Новая варта“. Па сканчэньні ўнівэрсытэту працаваў судзьдзём у Ашмянах. Увосень 1939 г. арыштаваны савецкай уладай і прысуджаны да 8 гадоў лягераў. У зьняволеньні знаходзіўся ў Анеглягу ў Архангельскай вобласьці. Ад кастрычніка 1941 г. служыў у Арміі Андэрса, працаваў пры вайсковым трыбунале. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 20.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак у выніку расколу пакінуў арганізацыю. Быў сябрам Беларускага вызвольнага руху, потым кіраўніком Лёнданскага аддзелу Беларускага вызвольнага фронту й ад 1969 г. ганаровым сябрам Галоўнага штабу гэтай арганізацыі. У 1974 г. стаў старшынём Дэлегатуры БЦР у Вялікабрытаніі. Адначасова выконваў абавязкі старшыні філіі Антыбальшавіцкага блёку народаў у Вялікабрытаніі. Удзельнік разнастайных міжнародных форумаў. У 1979—1981 гг. выдаваў часопіс „Званіца“. Аўтар англамоўнай брашуры, прысьвечанай Беларусі й яе гісторыі („*Byelorussia*“, 1982). Пахаваны ў Лёндане пры касьцёле Андрэя Баболі.

**ГОЙШЫК Віктар** (20.12.1921, Івацэвічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — 06.10.1976, Кембрыдж, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 09.09.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, выконваў функцыі скарбніка ў Кембрыдзкім аддзеле арганізацыі. Ад 1949 г. быў таксама сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Актывіст прыходу БАПЦ. Пахаваны ў Кембрыджы на *City Cemetery*.

**ГОХ Сяргей** (24.09.11, Санкт-Пецярбург, Расея — 30.08.1979, Оснабрук, Нямеччына), грамадзкі дзеяч. Пасьля Першай сусьветнай вайны разам з бацькамі праз Кітай, Сан-Францыска вярнуўся на Гарадзеншчыну. Скончыў у Львове палітэхніку, вучыўся ў польскай афіцэрскай школе. Удзельнічаў у польска-нямецкай кампаніі, быў у нямецкім палоне, потым — ваяваў у нямецкай арміі. Пасьля вайны жыў у Нямеччыне, падтрымоўваў сувязі зь беларусамі.

**ГРАБІНСКІ Баляслаў** (03.08.1899, в. Урачыншчына Раманаўскае вол. Сакольскага пав. Гарадзенскае губ. (сёньня Падляскае ваяв., Польшча) — 20.08.1991, Лонгвуд, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар. У 1920-х гг. атрымаў спэцыяльнасьць лекара-дантыста. У 1930-х — пачатку 1940-х гг. жыў у Вільні. Быў старшынём Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Заходняй Беларусі, намесьнікам старшыні Беларускага навуковага таварыства. Працаваў на катэдры анатоміі мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. У 1942—1944 гг. быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. У 1943 г. ледзь не расстраляны летувіскай адміністрацыяй. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне. Сябра Аб'еднаньня беларускіх лекараў на чужыне, аўтар артыкулаў у часопісе „Мэдычная думка“. У 1950-х гг. прыбыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, удзельнікам кіраўніцтва Чыкагскага аддзелу арганізацыі. Радны БНР, сябра БІНіМу.

**ГРАДЭ-КУЛІКОВІЧ Надзея** (? — 19.03.1984, Чыкага, ЗША), опэрная сьпявачка, другая жонка *М. Куліковіча*. У паваенны час жыла ў Чыкага, займалася актыўнай канцэртнай дзейнасьцю.

**ГРАЛЕЎСКІ Янка** (01.03.1912, Віленшчына — 06.09.1989, Кембрыдж, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Быў у 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, потым служыў у Другім польскім корпусе, разам зь якім прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 09.09.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, быў адным са стваральнікаў і неаднаразова абіраўся старшынём Кембрыдз-

скага аддзелу. Пазьней быў мужам даверу ЗБВБ у Кембрыджы й адным з заснавальнікаў парафіі БАПЦ у гэтым горадзе. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, старшынём дружыны ЗБК. Пахаваны у Кембрыджы на *New Market Road Cemetery*.

**ГРУША Аўген** (нар. 06.07.1935, в. Морач (Клецкі р-н Менскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, муж *Н. Грушы*. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У часе Другой сусьветнай вайны разам з бацькамі апынуўся ў Нямеччыне. Жыў у беларускім лягеры Мітэнвальд, дзе вучыўся ў беларускай школе й браў удзел у скаўтынгу. У 1949 г. разам зь сям'ёй пераехаў у Аўстралію. Першыя гады жыў з маці ў Новай Паўднёвай Валіі, а ў 1952 г. перабраўся ў Мэльбурн. Адразу далучыўся да беларускага грамадзкага жыцьця. Скаут зьвязу „Ўсяслаў Чарадзей“ у Мэльбурне, гуляў у беларускай футбольнай, а пасьля валейбольнай дружыне „Зубр“. Сябра Беларускага аб'еднаньня ў Вікторыі, а пазьней — Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі й ягоны прадстаўнік у Радзе паняволеных народаў. Актыўны ўдзельнік нацыянальных мерапрыемстваў. Адзін з ініцыятараў заснаваньня другой беларускай школы на пачатку 1970-х гг., для якой выдзеліў уласнае памяшканьне. Адзін з ініцыятараў Сустрэчаў беларусаў Аўстраліі. Ад 1985 г. нязьменны старшыня Выканаўчага камітэту Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі й адзін з найбольш дзейных сябраў беларускай грамады ў Мэльбурне.

**ГРУША Надзея** (дзяв. **Сасноўская**; 22.10.1937, г. Горкі Магілёўскай вобл. — 25.10.1999, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *А. Грушы*. Нарадзілася ў сям'і рэпрэсаванага. У 1943 г. зь сям'ёй апынулася ў Нямеччыне. У 1950 г. прыехала ў Аўстралію. Скончыла Стоц бізнэс каледж з дыплёмам сакратаркі-машыністкі ў Мэльбурне, працавала на пасадзе мэнэджара вялікай крамы, а пазьней — у кампаніі *General Motors Holden*. У Мэльбурне пазнаёмілася й у 1957 г. пабралася шлюбам з *А. Грушам*. Нарадзіла трох дзяцей. Актыўна ўдзельнічала ў жыцьці беларускай грамады Мэльбурну. Была сяброўкай Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі, доўгагадовай сакратаркай Беларускага жаночага камітэту. Пры канцы 1970-х гг. была сяброўкай Жаночай сэкцыі Рады паняволеных народаў. Сакратар сястрыцтва Парафіі Трох віленскіх пакутнікаў. Ад 1983 г. выконвала абавязкі сакратара, сакратара-скарбніка Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, удзельнічала ў выданьні Інфармацыйнага бюлетэня ФРБАА. Сяброўка Беларускага сацыяльнага клюбу ў Вікторыі. Дапамагала ў арганізацыі разнастайных нацыянальных мерапрыемстваў беларусаў

Мэльбурну, удзельніца беларускага мяшанага хору. Пахаваная ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**ГРЫНКЕВІЧ Станіслаў** (1912 — 18.04.1966, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. Выпускнік Віленскага ўнівэрсытэту, сябра Беларускага студэнцкага саюзу. Сябра рэдкалегіі часопіса „Калосьсе“. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Ад восені 1941 г. да восені 1943 г. быў сакратаром Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне, выкладаў на настаўніцкіх курсах пры камітэце. Пазьней — рэдактар пэрыёдыкаў „Раніца“ й „Беларускі работнік“. У 1950 г. перабраўся ў ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, удзельнікам кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Радны БНР.

**ГРЫНЮШКА Віктар** (11.02.1918, Віленшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ГРЫЦ Рыгор** (18.08.1921, Ліда (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 18.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГРЫЦКЕВІЧ Адам** (25.10.1904, в. Вялікія Чучавічы (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1952 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ГРЫЦКЕВІЧ Алена** (10.08.1925, в. Аброва (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 13.01.2003, Манчэстэр, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Манчэстэры, прыхаджанка царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахавана ў Манчэстэры на *Blackley Cemetery*.

**ГРЫЦКЕВІЧ Аляксей** (25.02.1922, Баранавіччына — 26.05.1980, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пахаваны ў Манчэстэры на могілках *Southern Cemetery*.

**ГРЫЦКЕВІЧ Грыгор** (27.01.1911 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 18.06.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГРЫЦКЕВІЧ Піліп** (07.09.1924, в. Вялікія Чучавічы (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГРЫЦКЕВІЧ Стэфан** (10.03.1899, в. Чучавічы (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 13.01.1984, Чэшыр, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Арклідзе ў Чэшыры. Прыхаджанін царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Чэшыры на *Wlaverham Cemetery*.

**ГРЫЦУК Аляксандар** (нар. 06.09.1928, в. Дуброва (сёньня Рэчыцкі р-н Гомельскай вобл.)), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, брат *П. Гуза*, муж *Т. Грыцук*. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Падчас нямецкай акупацыі пасьля забойства бацькі й спаленьня вёскі апынуўся ў лягеры Дахаў (Нямеччына), адкуль трапіў у Аўстрыю. Па капітуляцыі быў у лягеры *DP* Куфштайн (Аўстрыя), дзе ўдзельнічаў разам з братам *П. Гузам* у заснаваньні беларускага скаўтынгу. У 1949 г. разам з маці й братавай сям'ёй прыехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Мэльбурне, дзе быў адным з заснавальнікаў беларускага скаўцкага зьвязу „Ўсяслаў Чарадзей". Сябра аддзелу Беларускага аб'яднаньня ў Вікторыі. Дапамагаў у выданьні часопіса „Новае жыцьцё" ў Мэльбурне. Удзельнічаў у фірме па будоўлі дамоў для беларусаў. Пазьней быў высьвечаны на сьвятарства япіскапам УАПЦ Данатам і на працягу 25 гадоў выконваў душпастырскія абавязкі. Адначасова належаў да Беларускага цэнтральнага камітэту й Камітэту набыцьця Беларускага дому (пазьней — Каапэратыву), плаціў складкі ў Беларускі нацыянальны фонд. Сябра Беларускага вызвольнага фронту й Беларускага сацыяльнага клюбу.

**ГРЫЦУК Аляксей** (03.07.1910, в. Міхнаўка (сёньня Падляскае ваяв., Польшча — 30.05.1976, Кінгстан, Антарыа, Канада), грамадзкі дзеяч, літаратуразнаўца, муж *В. Грыцук*. Завочна скончыў Варшаўскі ўнівэрсытэт са ступеньню магістра гісторыі. Удзельнік абароны Варшавы ў верасьні 1939 г. Трапіў у палон. У часе нямецкай акупацыі кіраваў школьным інспэктаратам на Беласточчыне. У 1944 г. — асьветны афіцэр у БКА. Чытаў лекцыі па гісторыі ў 1-м кадравым батальёне БКА ў Бэрліне. У паваенны час быў адным са стваральнікаў Беларускага камітэту ў Аўстрыі. У 1948 г. пераехаў у Канаду. Жыў у Таронта. У 1950-х — 1970-х гг. колькі разоў займаў пасаду старшыні Згуртаваньня беларусаў Канады. Абараніў доктарскую дысэртацыю, прысьвечаную творчасьці

М. Багдановіча, працаваў у Квінс-унівэрсытэце Кінгстану (Антарыё). Пахаваны ў Кінгстане на *Cataraqui Cemetery*. Жонка *В. Грыцук* напісала ўспаміны „Мы стваралі сваю Беларусь: Жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука“ (Менск, 2007).

**ГРЫЦУК Вольга** (дзяв. **Дуброўская,** нар. 29.10.1923, г. Дзісна (сёньня Верхнядзьвінск Віцебскай вобл.), грамадзкая дзяячка, жонка *Аляксея Грыцука*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Зальцбургу, дзе пазнаёмілася з будучым мужам. Працавала ў мясцовым Беларускім камітэце. Удзельнічала ў выданьні часопіса „Пагоня „й газэты“ Зь беларускага жыцьця“ разам з *М. Ганьком*, *А. Салаўём* і *А. Грыцуком*. У 1948 г. разам з бацькоўскай сям'ёй выехала ў Польшчу. Жыла ў Гдыні. У 1958 г. выехала ў Канаду й пабралася шлюбам з *А. Грыцуком*. Адна з заснавальніц і ў 1975—1993 гг. старшыня Згуртаваньня беларускіх жанчын у Канадзе. Жыве ў Кінгстане (Антарыё). Аўтарка ўспамінаў „Мы стваралі сваю Беларусь: Жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука“ (Менск, 2007).

**ГРЫЦУК Тамара** (нар. 1937), грамадзкая дзяячка, жонка *Аляксандра Грыцука*. Нарадзілася ў сям'і высланых на Ўрал беларусаў. У 1940 г. пераехала з бацькамі ў Глуск. У часе нямецкай акупацыі выехала зь сям'ёй у Нямеччыну, дзе вучылася ва ўкраінскай і нямецкай школах. У 1949 г. прыбыла ў Аўстралію. У Мэльбурне пазнаёмілася й пабралася шлюбам у 1954 г. з *Аляксандрам Грыцуком*. Далучылася да беларускай грамады Мэльбурну. Удзельнічала ў нацыянальных мерапрыемствах. Некаторы час была старшынёй Беларускага жаночага камітэту ў Вікторыі. Сяброўка Беларускага сацыяльнага клюбу. Жыве ў Мэльбурне.

**ГРЫШКЕВІЧ Рамуальд** (1925, Будслаў (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Ад 25.07.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ГРЭБЕНЬ Мікалай** (22.05.1922 — 23.03.2005, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Жыў у Фэніксьвіле (Пэнсыльванія). Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Прадстаўнік Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі на штат Пэнсыльванія. Пахаваны у Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ГРЭМЯКА Ўладзімер** (нар. 17.12.1922, Мір (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у паліцыі парадку, потым трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, уступіў у Другі польскі корпус. У 1946 г.

прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 01.10.1946 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі і ў 1948 г. стаў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. У 1952 г. навучаўся ў школе выведкі ў Бад-Вэрысгофэне (Нямеччына), аднак дэсантавацца на савецкую тэрыторыю адмовіўся й вярнуўся ў Вялікабрытанію. Быў кіраўнікім Лёнданскага аддзелу ХАБР. Актывіст парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане. Дапамагаў у выданьні часопіса „Голас часу".

**ГУБЭРТ Адольф** (20.09.1922, в. Горбач (сёньня Любанскі р-н Менскай вобл.) – 29.08.2006, ЗША), грамадзкі дзеяч. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Пад канец вайны апынуўся ў Аўстрыі (Зальцбург). У 1948 г. выехаў у Аргентыну. Ад 1959 г. жыў у ЗША. Браў удзел у дзейнасьці парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. У 2002—2005 гг. быў старшынём царкоўнай управы. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ГУЗ Павал** (15.08.1924, в. Дуброва (Рэчыцкі р-н Гомельскай вобл.) — 17.08.2003, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, брат *Аляксандра Грыцука*. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Разам з братам Аляксандрам прайшоў цераз Дахаў і па капітуляцыі нямеччыны апынуўся ў лягеры *DP* Куфштайн (Аўстрыя), займаўся арганізацыяй беларускага скаўцкага „Зьвязу імя Івана Луцкевіча". У 1949 г. разам з жонкай выехаў у Аўстралію. У часе паездкі пазнаёміўся зь *М. Зуем* і стаў сябрам Беларускай незалежніцкай партыі. У Мэльбурне адразу пачаў наладжваць беларускую грамадзкую дзейнасьць. Сакратар першага створанага ў Мэльбурне Беларускага клюбу, які арганізаваў у 1950 г. першае сьвяткаваньне ўгодкаў незалежнасьці БНР. Пазьней сябра ўправы й культурнаасьветны рэфэрэнт Беларускага аб'еднаньня ў Вікторыі. Дапамагаў у выданьні часопіса „Новае жыцьцё" ў Мэльбурне, займаўся тэхнічнай працай. Доўгагадовы сакратар-скарбнік, а ў апошнія гады жыцьця й старшыня Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Ад 1989 г. — сакратар Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Дэлегат на XIV—XIX Пленумах БЦР, спрыяў абраньню *М. Зуя* на пасаду Прэзыдэнта БЦР. Меў узнагароды ад БЦР. Падтрымліваў сувязі зь беларускімі эміграцыйнымі выданьнямі ў іншых краінах, друкаваў нататкі з жыцьця беларусаў у Мэльбурне й уласныя вершы пад псэўданімам **Паўлюк Дуброўскі**. Пахаваны ў Мэльбурне на *Fawkner Memorial Park*.

**ГУМЕН Мікола** (10.12.1906, в. Лінова (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 28.01.1984, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. быў арыштаваны й высланы ў Сыбір, адкуль трапіў у Армію

Андэрса. Удзельнічаў у бітве за Монтэ-Касіна. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 20.05.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, быў актывістам БАПЦ. У 1957 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў сябрам парафіяльнай рады царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлэндзе, сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня й Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Пахаваны ў Кліўлэндзе.

**ГУТКОЎСКІ Язэп** (сапр. **Ізыдар Плашчынскі**, 24.06.1908, Каралішчавічы Менскага пав. (сёньня Менскі р-н) — 25.02.1986, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, публіцыст, малодшы брат Я. Пушчы. У часе нямецкай акупацыі працаваў у „Беларускай газэце“. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне жыў у лягеры *DP* у Гановэры. Супрацоўнічаў з пэрыёдыкам „Вольнае слова“. У 1950-х гг. друкаваўся на старонках выданьняў Мюнхенскага інстытуту вывучэньня СССР, быў няштатным аўтарам беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“. Жыў у ЗША, у Нью-Ёрку. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ГУТЫРЧЫК Сяргей** (03.03.1923 — 03.02.1993, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі й вайсковы дзеяч. У часе нямецкай акупацыі служыў жаўнерам 13-га Беларускага батальёну. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Жыў у Нью-Джэрзі. Ад 1958 г. быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, доўгі час кіраваў Нью-Джэрзійскім аддзелам арганізацыі. Шматгадовы камандзір Нью-Джэрзійскага Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Браў удзел у пабудове Помніка беларускім героям у Іст-Брансьвіку. У 1980 г. быў пазбаўлены амэрыканскага грамадзянства праз абвінавачаньне ў службе ў Калдычаўскім лягеры. Абвінавачаньні абвяргаў. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ГУЦЬКА Язэп** (24.12.1883, в. Брацянка (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 08.07.1956, ЗША), вайсковы дзеяч. Удзельнік расейска-японскай вайны 1904—1905 гг. За баявыя заслугі быў узнагароджаны ордэнамі Сьв. Ганны 4-й ступені й Сьв. Станіслава 3-й ступені зь мячамі й бантам. У міжваенны час працаваў адвакатам у Навагрудку. Ад 15 ліпеня 1942 г. займаў пасаду начальніка Галоўнага штабу Корпусу беларускай самаахnewы. У траўні 1944 г. адмовіўся ад прапановы заняць пасаду начальніка штабу БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, а пазьней — у ЗША. Жыў у Спрынгфілдзе.

**ГУЦЬКО Ўладзімер** (25.12.1921,Нясьвіжчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай

вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, заснавальнікам і першым старшынём аддзелу ў Манчэстэры. Ад 1951 г. быў таксама сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1950-х гг. выехаў у Канаду, жыў у Вініпэгу. Быў кіраўніком мясцовай арганізацыі Беларускага вызвольнага фронту.

**ГУЦЭВІЧ Віктар** (23.02.1926 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.06.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ДАБРАВОЛЬСКІ Тодар** (07.07.1920 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ДАБРАВОЛЬСКІ Юры** (05.01.1923, Слонім (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 10.06.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак у выніку расколу ў 1948 г. далучыўся да Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Уваходзіў ва ўправу Акруговага цэнтру ХАБР у Манчэстэры, быў сакратаром Галоўнай управы арганізацыі. Ад 1952 г. быў сябрам Беларускага вызвольнага фронту.

**ДАМІНІК Ян** (10.02.1912, Клецк (сёньня Менская вобл.) — 25.01.1995, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Клецкай беларускай гімназіі, потым працягваў навучаньне ў Баранавічах і Вільні. У часе Другой сусьветнай вайны працаваў у беларускай адміністрацыі ў Клецку. Улетку 1944 г. выехаў на эміграцыю ў Нямеччыну, адкуль як *DP* прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане, гандляваў нерухомасьцю. Стварыў пасьпяховы ўласны бізнэс. Афіцыйна не належаў ні да якой беларускай арганізацыі, але падтрымліваў сувязь з рознымі зь іх. Быў сталым падпісчыкам часопіса „Аб'еднаньне". Уваходзіў у Раду апекуноў Скарынаўскай бібліятэкі, на якую пакінуў 10 тысяч фунтаў. У 1993 г. бясплатна перадаў амбасадзе Рэспублікі Беларусь у Лёндане адзін са сваіх дамоў. Пахаваны ў Лёндане на *Kensal Green Cemetery*.

**ДАНІЛОВІЧ Антон** (псеўд. **Янка Золак**, **Яз. Дольны** ды інш. 01(14).11.1912, в. Лучнікі Слуцкага пав. (сёньня аграгарадок у Слуцкім р-не Менскай вобл.) — 30.12.2000, Мілтаўн, Нью-Джэрзі, ЗША), пісьменьнік, журналіст, выдавец, грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у „Газэце Случчыны". Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Заходняй Нямеччыне заснаваў саматужнае выдавецтва „Ніва". У

1950 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Джэрзі. Працягнуў выдаваць кнігі беларускіх пісьменьнікаў, а таксама друкаваныя насьценныя беларускія календары. Заснаваў Беларускае культурна-мастацкае й навуковае таварыства. У 1960—1983 гг. — галоўны рэдактар часопіса „Беларуская думка“. Удзельнік кангрэсаў беларусаў Амэрыкі, адзін з кіраўнікоў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1979—1981 гг. выйшлі два тамы яго „Твораў“. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ДАНІЛОВІЧ Браніслаў** (20.11.1908, Ашмяншчына — 29.09.2003, Нью-Брансьвік, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1930-х гг. вучыўся у Барунскай настаўніцкай сэмінарыі. У гады навучаньня далучыўся да беларускага руху, быў сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У пошуках працы пераехаў у Латвію, адкуль перабраўся ў Нямеччыну. Як перакладчык удзельнічаў у вызваленьні ваеннапалонных беларусаў (былых жаўнераў польскага войска) зь нямецкіх лягераў. Служыў у 1-м Беларускім штурмовым зьвязе, пазьней — у цывільнай адміністрацыі на Смаленшчыне, адкуль у 1943 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну. Адзін з актыўных удзельнікаў аднаўленьня Рады БНР. Ад канца 1940-х гг. жыў у ЗША. Адзін з стваральнікаў Нью-Джэрзійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, сябра рэдкалегіі й шматгадовы распаўсюднік газэты „Беларус“. Пахаваныў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ДАНІЛЮК Барыс** (05.03.1923, в. Старыя Дзявяткавічы (сёньня в. Старадзявяткавічы Слонімскага р-на Гарадзенскай вобл.) — 28.01.2011, Сомэрсэт, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *Х. Данілюка*. У 1935—1939 гг. вучыўся ў польскіх гімназіях у Слоніме й Баранавічах. У часы нямецкай акупацыі працаваў сакратаром і школьным інспэктарам у Слоніме, таксама ў структуры Беларускага камітэту самапомачы, кіраваў самадзейнасьцю, быў спартовым інструктарам СБМ, служыў перакладчыкам пры 48-м Беларускім батальёне. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Апынуўся ў францускай зоне акупацыі Нямеччыны. Вучыўся на інжынэра-будаўніка ва ўнівэрсытэце ў Мюнхене. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім студэнцкім жыцьці, сябра Беларускага студэнцкага згуртаваньня й рэдкалегіі часопіса „Студэнцкая думка“ (пазьней — „Крывіцкі сьветач“). У 1950 г. пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Джэрзі. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Ёрскага й Лонг-Айлэндзкага аддзелаў арганізацыі. Сябра рэдкалегіі газэты „Беларус“. У 1960—1970-х гг. выкладаў Закон Божы ў нью-ёрскай беларускай школе. У 1970-х гг. — скарбнік і старшыня Беларуска-Амэры-

канскага рэспубліканскага клюбу ў штаце Нью-Ёрк. Ад 1996 г. сакратар Кансісторыі БАПЦ, выдавец бюлетэня „Царкоўны пасланец“. Аўтар успамінаў „Азіраючыся расою выетымі вачыма“ (Менск, 2012). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ДАНІЛЮК Хведар** (12.08.1887, в. Сурынка (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 29.07.1960, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар, бацька *Б. Данілюка*. Удзельнік Першай сусьветнай вайны. У 1919—1920 гг. служыў у войску Літоўскай рэспублікі, Беларускай вайсковай камісіі. Браў удзел у Слуцкім паўстаньні 1920 г. Прыняў сьвятарскае пасьвячэньне ў 1921 г. У часе нямецкай акупацыі ў 1942 г. браў удзел у саборы БАПЦ. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, выконваў абавязкі ад'ютанта камандзіра 30-й (беларускай) дывізіі войск СС. У жніўні 1950 г. пераехаў у ЗША, быў настаяцелем прыходу БАПЦ у Брукліне, а пазьней настаяцелем катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Пахаваныў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ДАРАШЭВІЧ Мікола** (08.07.1898 — 06.02.1974, Мангасэт, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, першы скарбнік арганізацыі. Сябра БІНіМу. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ДАСЮКЕВІЧ Баляслаў** (02.01.1922, в. Копцевічы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ДВАРЭЦКІ Пятро** (26.03.1922, в. Краснае (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, потым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане, дзе атрымаў спэцыяльнасьць тэхніка-дантыста. Ад 30.03.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Цягам 1950—1956 гг. рэгулярна абіраўся на пасаду сакратара Лёнданскага аддзелу арганізацыі. Быў адным зь першых ахвярадаўцаў на Беларускі дом у Лёндане, у якім потым жыў і быў адным з арганізатараў дантыстычнай майстэрні. У 1956 г. зьехаў у ЗША.

**ДВАРЭЦКІ Янка** (06.03.1924, Лебедзева (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.)— ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, аднак хутка зьехаў зь Вялікабрытаніі ў Аўстралію.

**ДЗЕЙКА Сяргей** (25.12.1925, Баранавіччына — ?, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у паліцыі, разам з падраздзяленьнямі якой быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Пазьней быў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, у 1970-х–1980-х гг. быў старшынём парафіяльнага камітэту. У 1995 г. стаў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі разам са сваёй жонкай-англічанкай Джоан. Уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі. Быў сакратаром Беларускага харытатыўнага фонду.

**ДЗІМІТРУК Павал** (28.11.1924, Случчына (?) — ?), грамадзкі дзеяч. З паваеннай Нямеччыны ў складзе „Дванаццаткі" як *DP* прыехаў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1949 г. выехаў на навучаньне ў Лювэнскі ўнівэрсытэт, зь якога пазьней перавёўся ў тэхнічную школу ў г. Льеж. У 1956 г. выехаў у ЗША (штат Мічыган), пасьля чаго страціў сувязь зь беларусамі.

**ДЗІМІТРЫЕЎ Тодар (Хведар)** (11.09.1903, Случчына — ?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі. Быў удзельнікам Слуцкага паўстаньня. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.11.1971 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1970-х выконваў абавязкі гаспадара й кухара ў школе-інтэрнаце Сьв. К. Тураўскага. Жыў у Лёндане, пазьней выехаў у Польшчу.

**ДЗЮБАЙЛА Ўладзімер** (07.06.1924, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ротэргаме. Ад 27.08.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ДЗЯДЗЮЛЯ Лявон** (1930 (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Аўстраліі. У 1960-х гг. далучыўся да беларускай грамадзкай дзейнасьці, калі стаў сябрам Беларуска-аўстралійскага незалежнага аб'еднаньня, якім доўгі час кіраваў. У 1976—1977 гг. — старшыня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі.

**ДЗЯМІДАЎ Мікола** (10.12.1888 — 23.06.1967, Ласінг, Ілінойс, ЗША), вайсковы й грамадзкі дзеяч, публіцыст. Удзельнік Першай сусьветнай вайны, у 1918 г. займаўся ў Вільні арганізацыяй беларускіх вайсковых адзінак. Улетку 1920 г. уступіў у армію С. Булак-Балаховіча, арганізаваў асобны беларускі батальён, які ўдзельнічаў у паходзе 1920 г. Ад 1923 г. у Латвіі на чале таварыстваў „Беларуская хатка" й

„Рунь“. У 1940 г. арыштаваны й этапаваны ў Маскву, але неўзабаве вызвалены. У 1941 г. кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзьвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў інспэктарам Генэральнага камісарыяту, потым рэфэрэнтам па школьных справах. Удзельнічаў у фармаваньні лідзкага батальёну БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, пазьней выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага, уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады, вёў беларускія радыёперадачы. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў у Ілінойсе, парафіяў Сьв. Юр’я і Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Пахаваны ў Чыкага

**ДЗЯМІДЗІК Міхась** (21.09.1904, Беласточчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Кембрыджы. Ад 22.06.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1951—1955 гг. — старшыня Кембрыдзкага аддзелу ЗБВБ. Ад 1949 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Выехаў з Кембрыджу й страціў сувязь зь беларусамі.

**ДЗЯМКОВІЧ Тодар** (21.06.1910, м. Моталь (сёньня Іванаўскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.12.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў зь Вялікабрытаніі ў ЗША.

**ДЗЯХЦЯР Пілiп** (28.09.1926, в. Логавінцы (сёньня Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.) — 09.09.1960, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У паваеннай Нямеччыне вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе. Разам зь іншымі сябрамі „Дванаццаткі“ ў 1948 г. як *DP* прыбыў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. На навучаньне ў Бэльгію не паехаў, а застаўся ў Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Брадфардзе, дзе ажаніўся з італьянскай эмігранткай. Быў актывістам мясцовага аддзелу ЗБВБ, а таксама парафіі Сьв. Спаса БАПЦ. У 1957 г. узначальваў мясцовы аддзел Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці. Скончыў жыцьцё самагубствам і пахаваны ў Брадфардзе.

**ДРАБОВІЧ Анатоль** (04.05.1915 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 21.07.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ДУБАНЕВІЧ Аляксандар** (07.05.1915, Вялейшчына — 08.02.1989, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у палон. У 1949 г.

прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывістам Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**ДУБІНА Сьцяпан** (1904—1979), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. У 1949 г. стаў кіраўніком управы мясцовага Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, пазьней займаў ва ўправе розныя пасады, у тым ліку сакратара. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ДУБКО Аляксандар** (06.02.1914, Полацк — 12.02.1991, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Ад 25.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ДУБКО Феня** (14.11.1914, Віцебск — 06.01.1992, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме, была парафіянкай царквы Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ДУДЗІЦКІ Ўладзімер** (сапр. **Гуцька**, на эміграцыі **Гіцкі**, 08.01.1911, в. Дудзічы (сёньня Пухавіцкі р-н Менскай вобл.) — пасьля 1976), літаратар, публіцыст, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме ў Менску, потым працаваў стыль-рэдактарам у газэце „Савецкая Беларусь" і перакладчыкам у Навукова-тэхнічным выдавецтве ды вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце Вышэйшага пэдагагічнага інстытуту. На пачатку 1930-х падрыхтаваў зборнік паэзіі „Песні і думы", канфіскаваны падчас арышту ў 1933 г. Паводле прысуду калегіі НКУС СССР, быў прысуджаны да трох гадоў зьняволеньня. Адбываў пакараньне у Новасібірску, Марыінску. Па вызваленьні жыў у Ташкенце, працаваў у газэце „Фізкультурнік Узбэкістана". Пасьля 1937 г. вярнуўся ў Беларусь, жыў у Віцебску, дзе нейкі час працаваў настаўнікам беларускай мовы. Але ў 1939 г. быў афіцыйна адхілены ад настаўніцкай дзейнасьці. У часе нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле культуры й асьветы Менску й Менскай акругі. Супрацоўнік „Беларускай газэты", школьны інспэктар у Барысаве. Уваходзіў у склад БЦР, быў сябрам Беларускага культурнага згуртаваньня, дзе ўзначальваў аддзел прапаганды, рэдагаваў часопіс „Беларус на варце". Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у Вэнэсуэлу, дзе заснаваў Згуртаваньне беларусаў у Вэнэсуэле. Працаваў у інстытуце сельскай гаспадаркі. У 1956—1962 гг. — кіраўнік беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне". У 1962 г. выехаў у ЗША. Некаторы час жыў

у Нью-Ёрку, пазьней перабраўся ў Індыяну, дзе ў 1976 г. бяссьледна зьнік.

**ДУНЕЦ Ева** (дзяв. **Яраховіч,** ?, х. Голы Бор (сёньня в. Вулька-2 Лунінецкага р-ну Берасьцейскае вобл.)), грамадзкая дзяячка, дачка *С. Яраховіча*, жонка *У. Дунца*. У беларускім лягеры *DP* у Остэргофэне належала да скаўцкае дружыны. Потым апынулася ў ЗША. Жыла ў Кліўлэндзе. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Брала ўдзел у дзейнасьці хору й танцавальнага гуртку. Як прафэсійная кухарка брала ўдзел у гатаваньні пачастунку на імпрэзы кліўлэндзкай калёніі. У 1972—1980 гг. жыла ў пав. Орандж на поўдні штату Каліфорнія, дзе далучылася да мясцовага аддзелу Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1981—1993 гг. жыла ў „Полацку“ пад Кліўлэндам.

**ДУНЕЦ Уладзімер** (03.01.1930 — 01.01.1998, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў беларускай гімназіі ў Віндышбэргердорфе. У 1950-х прыбыў у ЗША. Шмат працаваў з моладзьдзю, быў старшынём Згуртаваньня беларускай моладзі, сакратаром беларускай суботняй школы, кіраваў танцавальнымі калектывамі; сьпяваў у хоры. У 1950-х гг. быў прадстаўніком газэты „Бацькаўшчына“ ў Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва арганізацыі й яе Кліўлэндзкага аддзелу.

**ДУРЭЙКА Мацей** (11.12.1915, в. Каралеўцы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 01.08.1965, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У пачатку Другой сусьветнай вайны служыў у польскім войску, трапіў у савецкі палон і быў вывезены ў Сыбір. Трапіў у Армію Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Ад 23.01.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў ва ўправу Манчэстэрскага аддзелу. Быў актывістам БАПЦ, сябрам Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ДЭЙНЭКА Юры** (01.07.1922, в. Астроўск на Піншчыне (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 02.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ДЭМША Аўген** (03.07.1905 — 12.02.1987, Саўт-Рывэр, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША. Быў прыхільнікам БЦР. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЕВЕЦ Аркадзь** (03.06.1904, в. Каўшова (сёньня Мастоўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 03.07.1985, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША. Быў кіраўніком беларускага хору ў Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЁВІЧ Пётра** (01.01.1917, в. Краснаволя Лунінецкага пав. (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Вулвэргэмптане. Ад 29.04.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЕЗАВІТАЎ Канстанцін** (05.11.1893, Дзьвінск (сёньня Даўгаўпілс, Латвія) — 23.05.1946, Менск), вайсковы й грамадзкі дзеяч. У Першую сусьветную вайну праводзіў актыўную тлумачальную й арганізацыйную працу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту, быў абраны намесьнікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу ў сьнежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камэндант Менску. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У 1919—1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі. У 1921—1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб’яднаньне ў Рызе. У часе Другой сусьветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У часе Другога Ўсебеларускага кангрэсу быў абраны ў склад БЦР, у 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзелу БЦР. Затрыманы СМЕРШам у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай вэрсіі, памёр падчас сьледзтва ад сухотаў і дыстрафіі, паводле іншых зьвестак, расстраляны.

**ЁКША Міхась** (15.05.1914—18.08.1984, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў сябрам Хрысьціянскага аб’яднаньня беларускіх работнікаў, старшынём Акруговага цэнтру арганізацыі ў Манчэстэры, аднак у 1954 г. пакінуў пасаду ў знак пратэсту супраць стаўленьня *Р. Астроўскага* да Беларускага вызвольнага руху. Ад 1952 г. быў сябрам Беларускага вызвольнага руху, пазьней, у часе расколу арганізацыі, быў сябрам Камітэту БВР *С. Шчэрбы*. Быў адным з удзельнікаў судовых працэсаў адносна маёмасьці БВР у Манчэстэры.

**ЁЛАП Сьцяпан** (23.03.1919 — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у паліцыі, летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым слу-

жыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЕРМАЧОНАК Васіль** (10.03.1919 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЕРМАЧЭНКА Іван** (13.05.1894, в. Капачоўка (сёньня Барысаўскі р-н Менскай вобл.) —25.02.1970, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч. У часе Першай сусьветнай вайны — афіцэр расейскай арміі, у 1919—1920 гг. — у арміі генэрала Ўрангеля. Ад 1922 г. жыў у Чэхаславаччыне. Скончыў мэдычны факультэт Праскага ўнівэрсытэту (1929), заснаваў прыватную лекарскую практыку, якая была вельмі пасьпяховай. Браў дзейсны ўдзел у беларускім студэнцкім руху й працы беларускай эміграцыі ў Чэхаславаччыне. Заснаваў прыватнае выдавецтва ў Празе, узначальваў мясцовы камітэт самапомачы (1940—1941), фінансаваў розныя беларускія культурныя праекты. Ад кастрычніка 1941 г. — у Менску. У кастрычніку 1941 — красавіку 1943 гг. быў старшынём Беларускай народнай самапомачы. Спрычыніўся да аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы. Спрабаваў пры падтрымцы В. Кубэ дамагчыся беларускай аўтаноміі. Праз канфлікт зь нямецкімі паліцыйнымі ўладамі ў красавіку 1943 г. пазбаўлены пасады й высланы зь Беларусі ў Прагу пад нагляд гестапа. Ад 1946 г. жыў у ЗША, працаваў лекарам. Адзін з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту ў Саўт-Рывэры.

**ЕЎЛЕЎ (Ёўлеў) Міхась** (20.09.1920, в. Лагішын (сёньня Пінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 25.09.1972, Бірмінгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, дзе далучыўся да беларускага руху. У 1948 г. як *DP* прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Бірмінгеме, дзе меў цырульню. Ад 25.05.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, актывіст аддзелу ў Бірмінгеме, потым муж даверу ЗБВБ. Ад 1950 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, адзін з заснавальнікаў парафіі БАПЦ, кіраваў царкоўным хорам. Пахаваны ў Бірмінгеме.

**ЕЎСА Кастусь** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША. Ад 1957 г. быў старшынём Амэрыканска-Беларускага культурна-дапамаговага аб’яднаньня ў Кліўлэндзе.

**ЕЎШЭЛЬ Мікалай** (14.02.1916 — 14.08.1986, Лёндан, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваны ў Лёндане на *Greenford Park Cemetery*.

**ЕФІМОВІЧ Уладыслаў** (11.02.1904 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЖАБАВУХА Базыль** (14.02.1922, в. Лахва (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Ад 17.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЖАМОЙДА Сымон** (1915, в. Княгінін (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — 2008, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Служыў у польскім войску, трапіў у нямецкі палон, быў вызвалены. У 1941—1944 г. жыў у Бяла-Падлясцы, быў рэфэрэнтам у справах асьветы Беларускага камітэту. У 1944—1945 гг. арганізоўваў беларускае школьніцтва ў Баварыі сярод дзяцей, вывезеных на прымусовыя працы. Ад 1950 г. — у ЗША, жыў у Пасэйку, уваходзіў у склад управы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, быў сябрам Беларускага клюбу ў Пасэйку, уваходзіў у царкоўны камітэт мясцовага праваслаўнага прыходу. Пасьля стварэньня прыходу ў Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк) у 1969 г. цягам 30 гадоў кіраваў там царкоўным хорам. Уваходзіў у арганізацыю вэтэранаў. Захапляўся товай эспэранта, меў вялікую карэспандэнцыю.

**ЖАРТУН Васіль** (20.08.1913, Слуцк (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Ковэнтры, пазьней перабраўся ў Манчэстэр, дзе далучыўся да мясцовага Беларускага вызвольнага руху (групы *С. Шчэрбы*) і ў 1970-х гг. быў сакратаром мясцовага камітэту БВР.

**ЖАЎНЯРОВІЧ Віктар** (27.08.1913, Чыта, Расея — 27.02.2005, Францыя), мастак, сьпявак, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і чыгуначнага служачага, нараджэнца Друі. У 1922 г. з маці вярнуўся ў Беларусь. Вучыўся ў гімназіі імя Л. Сапегі ў Друі, пазьней у Кансэрваторыі імя М. Карловіча ў Вільні па класе опэрнага вакалу. Адначасова займаўся маляваньнем, удзельнічаў у выставах Таварыства незалежных мастакоў. Другая сусьветная вайна перапыніла навучаньне. У 1945 г. апынуўся ў Францыі, працаваў на складзе паліва звычайным рабочым. Паступіў у Парыскую кансэрваторыю, дзе вучыўся пад кіраўніцтвам прафэсара Бэрнаці, аднак немагчымасьць атрымаць стыпэндыю змусіла адмовіцца ад навучаньня. Сьпяваў і маляваў прыватна. З часам стаў удзельнікам найважнейшых мастацкіх выставаў, што ладзіліся ў

Парыжы, атрымоўваў узнагароды. Меў пэрсанальную выставу, ладжаную БІНіМам у Нью-Ёрку.

**ЖДАНКОВІЧ Алена** (13.08.1901, в. Касьцюкі (Шаркаўшчынскі р-н, Віцебскай вобл.) — 02.07.1989, Лёндан, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка, маці *А. Жданковіча*. У 1962 г. прыехала ў Вялікабрытанію да сына й дачкі Сэрафіны. Жыла ў Лёндане. Была прыхаджанкай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваная ў Лёндане на *Greenford Park Cemetery*.

**ЖДАНКОВІЧ Аляксандар** (24.08.1924, в. Касьцюкі (Шаркаўшчынскі р-н, Віцебскай вобл.) — 17.05.1996, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч, сын *Алены Жданковіч*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 16.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі й выйшаў з арганізацыі. Ад 1948 г. быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, уваходзіў у Часовую ўправу арганізацыі, быў першым старшынём Лёнданскага акруговага цэнтру. Цягам усяго існаваньня ХАБР уваходзіў у Галоўную ўправу. У 1962 г. стаў стваральнікам беларускай школкі ў Лёндане. Ад 1956 г. уваходзіў у Краёвы штаб Беларускага вызвольнага фронту, у сярэдзіне 1960-х гг. спрабаваў адрадзіць дзейнасьць лёнданскага асяродку БВФ. У 1972 г. вярнуўся ў ЗБВБ, пастаянна абіраўся ў Галоўную ўправу, быў намесьнікам старшыні, сакратаром, у 1995 г. абраны на пасаду старшыні. Пахаваны ў Лёндане на *Greenford Park Cemetery*.

**ЖОЙДЗІК Васіль** (14.01.1910, Дзісеншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ Вінцэнт** (10.02.1903, м. Будслаў (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — 14.02.1989, Бэры, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч, пэдагог, муж *Р. Жук-Грышкевіч*. Скончыў факультэт славянскай філялёгіі й гісторыі Карлава ўнівэрсытэту ў Празе. Выкладаў беларускую мову й гісторыю ў Віленскай беларускай гімназіі, беларускую мову ў Праваслаўнай духоўнай сэмінарыі й Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні. У 1939—1942 гг. быў у савецкай высылцы, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Служыў на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Італіі. У 1945—1948 гг. выкладаў гісторыю й псыхалёгію ў вайсковых польскіх школах у Італіі й Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі й першым старшынём гэтай арганізацыі (1947—1948). Пры канцы 1947 г. увайшоў у кіраўніцтва Рады БНР. Заснавальнік Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё". У студзені 1950 г. выехаў у Канаду. У Атаўскім

унівэрсытэце абараніў доктарскую дысэртацыю „Лірыка Янкі Купалы“. У 1954—1956 гг. — першы кіраўнік беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“. Вярнуўся ў Канаду, разам з жонкай *Раісай Жук-Грышкевіч* пасяліўся ў Бэры (Антарыё). Стаў адным з заснавальнікаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады. У 1970—1982 гг. — старшыня Рады БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ Раіса** (дзяв. **Жукоўская**; 22.10.1919, Пружаны (сёньня Берасцейская вобл.) — 02.04.2009, Бэры, Антарыё, Канада), грамадзкая дзяячка, жонка *В. Жук-Грышкевіча*. Вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі. Ад 1939 г. працавала настаўніцай у Пружанах. У 1942 г. выехала ў Нямеччыну, працавала ў „Вінэце“. Па вайне апынулася ў Беларускім лягеры *DP у* Ватэнштэце, брала ўдзел у скаўтынгу, пазьней вучылася на дантыстку ў Марбургу. У 1949 г. пераехала ў Канаду. Скончыла Таронцкі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці „дантыстыка“. У 1953 г. узяла шлюб з грамадзкім дзеячам *В. Жук-Грышкевічам*. Актыўная сяброўка Згуртаваньня беларусаў Канады. У 1965 г. заснавала й узначаліла Згуртаваньне беларускіх жанчын у Канадзе. У 1973 г. як прадстаўнік ад беларускай этнічнай групы ўведзена канадыйскім урадам у Кансультацыйную раду ў пытаньнях шматкультуралізму. У 1993 г. напісала й выдала кнігу „Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча“. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ЖУРАЎЛЕВІЧ Адам** (? — ?, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Магчыма, меў настаўніцкую адукацыю. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Аўстраліі. Адзін з пачынальнікаў беларускага грамадзкага жыцьця ў Мэльбурне на пачатку 1950-х гг. Сябра ўправы аддзелу Беларускага аб’еднаньня ў Вікторыі. Рэдактар часопіса „Новае жыцьцё“ ў часе ягонага друкаваньня ў Мэльбурне. Адзін са стваральнікаў і настаўнік першай беларускай школы ў прадмесьці Сэнт-Албанс. Пасьля нечаканай сьмерці жонкі адышоў ад актыўнага ўдзелу ў беларускім грамадзкім жыцьці.

**ЖУРНЯ Фэлікс** (20.06.1913, в. Зарэчча (сёньня Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.) — 11.12.1982, Лёндан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. У 1927 г. паступіў у гімназію марыянаў у Друі. У 1933 г. уступіў у закон марыянаў і па сканчэньні гімназіі быў накіраваны ў Вільню на вышэйшыя філязофскія й багаслоўскія студыі. У 1938 г. разам зь іншымі марыянамі зь Вільні выехаў у Варшаву. У 1943 г. атрымаў сьвятарскія сьвячэньні. Цягам наступных 23 гадоў жыў у Польшчы, пад-

трымліваў сувязь зь беларускімі арганізацыямі, у тым ліку зь Беларускім грамадзка-культурным таварыствам. У 1966 г. здолеў выехаць у Вялікабрытанію, дзе пасяліўся ў Марыян Хаўе ў Лёндане. Некаторы час (да 1974 г.) быў кіраўніком Беларускай харытатыўнай сэкцыі (фонду). Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**ЖУРОМСКІ Аляксандар** (24.03.1923 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 26.05.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1949 г. быў сябрам управы Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Ланкашыры.

**ЖУЧКА Янка** (15.04.1928, в. Лучыцы (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 16.11.2010, Бэльгія), інжынэр, журналіст, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў школе ў Сіняўцы, падчас Другой сусьветнай вайны — у тэхнічнай школе ў Клецку. Быў сябрам СБМ. Пасьля вайны апынуўся ў беларускім лягеры ў Рэгенсбургу, вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1948 г. у складзе „Дванаццаткі" прыбыў як *DP* у Вялікабрытанію. Працаваў на вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1949 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Уваходзіў у Беларускае хрысьціянскае акадэмічнае аб'еднаньне „Жыцьцё". У 1950 г. выехаў на вучобу ў Бэльгію. Скончыў палітэхнічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту з дыплёмам будаўнічага інжынэра. Пасяліўся на сталае жыцьцё ў Бэльгіі, працаваў у галіне сталёвых канструкцый, ад 1968 г. у інфармацыйным цэнтры па выкарыстаньні сталі ў будаўніцтве. У 1968–1985 гг. працаваў у рэдакцыі міжнароднага часопіса *Acier–Stahl–Steel*. Аўтар мноства артыкулаў у галіне сталёвых канструкцый. Ад 1985 г. займаў пасаду дарадцы ў сваёй спэцыяльнасьці, чытаў лекцыі й праводзіў канфэрэнцыі для інжынэраў і архітэктараў. Браў актыўны ўдзел у беларускім жыцьці. У 1954 г. увайшоў у склад управы Беларускага студэнцкага згуртаваньня, у 1957—958 гг. — яго старшыня. Стаў сябрам Саюзу беларусаў Бэльгіі, а праз некаторы час — яго кіраўніком. Быў радным БНР.

**ЖЫВУЛЬКА Ян** (27.11.1910 — 15.10.1978, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў сябрам ўправы мясцовага акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ЖЫЗЬНЕЎСКІ Нікодым** (28.09.1926, в. Сабары Глыбоцкага пав. Віленскага ваяв. (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 01.12.2002, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. прыбыў у ЗША.

Напачатку жыў у горадзе Пэорыя, дзе заснаваў аддзел Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Працаваў на трактарным заводзе „Катэрпіляр“, браў удзел у Карэйскай вайне. Скончыў унівэрсытэт Брэдлі па спэцыяльнасьці „інжынэр індустрыі“. У ліпені 1959 г. пераехаў у Чыкага. У сакавіку заснаваў беларускую радыёпраграму „Радыё Нёман“, якую вёў да 2002 г. Пахаваны ў Чыкага на *Irving Park Cemetery*.

**ЖЫЛІК Аркадзь** (1927 — 25.01.1985), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Жыў у *Аўквіле*. Уваходзіў у Наглядную раду Згуртаваньня беларусаў Канады, парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага.

**ЖЫНГЕЛЬ Вольга** (дзяв. Мароз, нар. ?, Століншчына), царкоўная актывістка, дачка *З. Мароз*, сястра *Ў. і М. Марозаў*, жонка *Х. Жынгеля*. У 1940 г. была вывезеная зь сям'ёй бацькоў у Архангельскую вобл. Расеі. У 1942 г. апынулася ў Іране, адкуль трапіла ў лягер для цывільных сваякоў польскіх жаўнераў у Танганьіцы. У 1948 г. прыбыла ў Вялікабрытанію. Жыве ў Лёндане. Прыхаджанка царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Ад 1997 г. — сябра Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЖЫНГЕЛЬ Хведар (Тодар)** (05.04.1922, Дзісеншчына — 25.06.2003, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч, муж *В. Жынгель*. У 1940 г. быў дэпартаваны. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Лёндане. Парафіянін прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Сябра Царкоўнага Камітэту. Ад 1995 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Лёндане на *Gunnersbury Cemetery*.

**ЖЫТКА Янка** (?, Ляхавіччына — ?, Канада), грамадзкі дзеяч. Вучыўся на хімічным факультэце Львоўскай палітэхнікі. У часе нямецкай акупацыі працаваў у беларускіх установах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. Вывучаў хімію ў Марбургу, потым у Лювэне (Бэльгія), дзе атрымаў дыплём інжынэра-хіміка. Актыўна ўдзельнічаў у студэнцкім грамадзкім жыцьці й працы Саюзу беларусаў Бэльгіі, быў некаторы час яго старшынём. Быў старшынём Беларускага антыбальшавіцкага фронту. Па сканчэньні навучаньня некаторы час жыў у Мюнхене, а потым выехаў на сталае жыцьцё ў Канаду. Жыў у Манрэалі, працаваў у шпіталі. У сярэдзіне 1990-х гг. парваў сувязі зь беларусамі.

**ЖЫХАРАЎ Аляксандар** (23.03.1926, Глыбоччына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі (выйшаў на ўласнае жаданьне).

**ЗАБАЛОТНАЯ Марыя** (?, м. Гарадок (сёньня Віцебская вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 13.08.1947 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗАБАРОНАК Міхал** (10.10.1918, в. Саколі Вугал (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лемінстэры. Ад 18.06.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗАБАЎСКІ Анатоль** (05.08.1920, в. Турэц (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне.

**ЗАБАЎСКІ Мікола** (15.01.1921, в. Ярэмічы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1952 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЗАВАДЗКІ Васіль** (22.09.1911, в. Любішчыцы (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 25.10.1987, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі быў начальнікам пастарунку паліцыі ў Ляхавічах, потым у Косаве. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 25.03.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1952 г. пасьля трэнінгу ў ладжанай Беларускім вызвольным рухам з дапамогай брытанскай выведкі школе пад Лёнданам быў перакінуты разам з *А. Петрашам* у Нямеччыну, а потым для дывэрсійнай працы ў Польшчу. Па выкананьні заданьня ў тым жа 1952 г. вярнуўся праз Нямеччыну ў Вялікабрытанію, дзе й застаўся на сталае жыхарства. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ЗАВІСТОВІЧ Расьціслаў** (01.09.1928, Случчына — 28.11.2000, Вашынгтон, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. прыбыў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у моладзевым руху, быў сябрам Аб’еднаньня беларуска-амэрыканскай моладзі. У першай палове 1950-х гг. служыў у амэрыканскай арміі ў Нямеччыне. Пасьля дэмабілізацыі вучыўся ў Ратгерскім унівэрсытэце (Нью-Джэрзі), па сканчэньні якога пераехаў у Вашынгтон. Быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, перакладаў яго звароты на ангельскую мову, рыхтаваў тэксты, прысьвечаныя беларускай тэматыцы, для *Congressional Record*. Ад сярэ-

дзіны 1960-х гг. на пэўны час адышоў ад актыўнай грамадзкай працы, вярнуўшыся толькі ў 1990 г., калі ўзначаліў БККА. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЗАЗУН Васіль** (26.12.1916 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗАЛЕЎСКІ Міхась** (02.05.1926, Барысаў (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Гэрфардзе. Ад 28.06.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗАЛОГА Мікола** (нар. 15.09.1924, Берасьцейшчына), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у беларускай паліцыі ў Косаве. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане. Ад 07.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі й ад 1948 г. стаў сябрам Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў. Быў сакратаром Лёнданскага акруговага цэнтру арганізацыі. Пазьней стаў сябрам Беларускага вызвольнага фронту, быў кіраўніком Лёнданскага цэнтру арганізацыі, уваходзіў у кіраўніцтва Краёвага штабу БВФ у Вялікабрытаніі. Быў аўтарам тэкстаў у арганізацыйным часопісе „Барацьба“ (Нямеччына). Стаў сябрам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане, сябрам царкоўнага камітэту.

**ЗАМОРСКІ Мікола** (15.03.1924, Буда-Кашалёўскі р-н Гомельскай вобл. — 18.06.1989, Мангасэт, Нью Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Паходзіў з шляхты. У 1949 г. прыбыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Меў уласную сьлясарную майстэрню. Фінансава падтрымліваў розныя беларускія праекты. Быў скарбнікам Рады дырэктароў Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ЗАНКОВІЧ Анатоль** (нар. 11.05.1925, в. Сіўцы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.)), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу, матуральны экзамэн здаваў у 1946 г. у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе. У гэтым жа годзе пачаў вучыцца на хімічным факультэце Тэалягічна-філязофскай вышэйшай школы ў Рэгенсбургу, з другога сэмэстру перавёўся на мэдычны факультэт Мюнхенскага ўнівэрсытэту. Быў заснавальнікам і старшынёй Рэгенсбурска-

га аддзелу Згуртаваньня беларускіх студэнтаў у Нямеччыне. Ад 1949 г. вучыўся на медычным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія), дзе ў 1954 г. атрымаў дыплём доктара мэдыцыны. Перабраўся ў ЗША. Жыве ў Нью-Ёрку.

**ЗАНЬКО Ануфры** (1923—1991, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў сябрам мясцовага Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў і пры канцы 1950-х уваходзіў у яго ўправу. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ЗАПРУДНІК Вольга** (дзяв. **Харытончык**, 18.01.1928, Нясьвіжчына — 30.09.1987, Мангасэт, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Я. Запрудніка*. Паходзіла зь сям'і слуцкага паўстанца Юркі Харытончыка. Улетку 1944 г. разам зь сям'ёю выехала ў Нямеччыну. Пасьля Другой сусьветнай вайны ў лягерах *DP* у Рэгенсбургу й Міхельсдорфе вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Удзельнічала ў беларускім скаўтынгу. У 1950—1953 гг. вучылася ў Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія). Удзельнічала ў танцавальным гурце пры хоры *М. Равенскага*. У 1954 г. пабралася шлюбам з *Я. Запруднікам* і выехала зь ім у Мюнхен. У 1957 г. прыехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1970—1980-х гг. была сакратаркай Галоўнай управы арганізацыі. Актывістка Жаночага згуртаваньня. Прыхаджанка БАПЦ, сьпявала ў царкоўным хоры. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ЗАПРУДНІК Янка** (да эмігр. **Сяргей Вільчыцкі,** нар. 09.08.1926, м. Мір (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, гісторык, публіцыст. Падчас Другой сусьветнай вайны вучыўся ў гандлёвай школе ў Баранавічах, быў сябрам СБМ, запісаўся ў дапаможную службу Люфтвафэ й апынуўся ў Нямеччыне. Пасьля капітуляцыі апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Рэгенсбургу, вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1948 г. з „Дванаццаткай" выехаў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г.— сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Удзельнічаў у Беларускім хрысьціянскім акадэмічным аб'еднаньні „Жыцьцё". У 1950 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. У 1954 г. скончыў гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту. У 1954—1957 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне" ў Мюнхене, супрацоўнічаў з газэтай „Бацькаўшчына". У 1957 г. выехаў у ЗША, дзе да 1991 г. працаваў у ньюёрскай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне" („Свабода"). У 1981—1995 гг. быў

галоўным рэдактарам газэты „Беларус“. У 1969 г. у Калюмбійскім унівэрсытэце (Нью-Ёрк) абараніў доктарскую дысэртацыю „Палітычная барацьба за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906—1917)“. У 1967—1975 гг. чытаў курс гісторыі Беларусі ў Куінз-каледжы Нью-Ёрскага ўнівэрсытэту, а таксама Калюмбійскім унівэрсытэце. Аўтар 7 кніг, 11 брашураў і сотняў артыкулаў па гісторыі Беларусі. Сярод іншага выдаў кнігі, прысьвечаныя гісторыі „Дванаццаткі“ й беларускім фэстывалям у Нью-Джэрзі. Уваходзіць у кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня й Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, Прэзыдыюм Рады БНР, управу Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

**ЗАРЭЧНЫ Людвік** (сапр. **Галубовіч**, 17.05.1915, Ратамка (сёньня Менскі р-н Менскай вобл.) — 15.09.1964, Мюнхен-Гладбах, Нямеччына), вайсковы й грамадзкі дзеяч. Праз хваробу бацькі мусіў кінуць школу і ў 16 гадоў пайсьці працаваць. Уладкаваўся на сакратарскую працу ў трэсьце „ЛесБел“. Пазьней, магчыма, працаваў у іншых установах цягам чатырох гадоў. Атрымаць вышэйшую адукацыю не пасьпеў. У 1935 г. быў асуджаны на шэсьць гадоў зьняволеньня, аднак праз пяць гадоў вызвалены й працаваў у Хабараўску. У Беларусь вярнуўся ў 1941 г. і хутка быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Трапіў у нямецкі палон, зь якога быў вызвалены ўвесну 1942 г. Працаваў у структуры Вэрмахту. Займаў становішча інспэктара пры 9-й Арміі па наглядзе за дзейнасьцю мясцовых аддзелаў паліцыі, а таксама працаваў на іншых пасадах. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны больш за два гады знаходзіўся пад арыштам. Аднак па вызваленьні навязаў кантакты з Брытанскай адміністрацыяй у Нямеччыне і ў 1949—1953 гг. працаваў у сыстэме Брытанскай кантрольнай камісіі на Нямеччыну на становішчы дарадчыка ў пытаньнях савецкай сыстэмы й яе органаў. Здолеў зацікавіць Брытанскую выведку справай арганізацыі беларускага збройнага супраціву ў БССР, ладзіў навучаньне дывэрсійных групаў. У 1952 г. пры падтрымцы *Р. Астроўскага* заснаваў арганізацыю беларускіх вайскоўцаў на эміграцыі Беларускі вызвольны рух, які дэкляраваў сваю цесную сувязь з антысавецкім падпольлем у Беларусі. У 1955 г. адышоў ад справаў арганізацыі й беларускага жыцьця наогул. Праз некаторы час стаў падпісвацца як *„ксёндз Людвік Тытулярны Пастар Копыльскага Рэфармаванага Каталіцкага Кальвінскага Касьцёлу“*.

**ЗАСЛАЎСКАЯ Ліна** (20.07.1913 — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 14.04.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗАСЛАЎСКІ Сьцяпан** (13.09.1907, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся

ў Вялікабрытаніі. Ад 14.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗАХАРКЕВІЧ Васіль** (12.09.1910, в. Сітніца (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 02.07.1986, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Служыў у польскім войску, потым працаваў на фанэрнай фабрыцы. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у лягерах *DP* Міхельсдорф, Розэнгайм і інш. У 1951 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, прыхаджанінам царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. У 1965 г. разам з *К. Мерляком* пакінуў шэрагі БАЗА й заснаваў Беларуска-Амэрыканскага аб'яднаньне ў штаце Нью-Ёрк, а ў 1968 г. — адзін з ініцыятараў заснаваньня прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Ад 1969 г. браў удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, належаў да ўправы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

**ЗАХАРЭВІЧ Часлаў** (09.03.1922, Вільня — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў каля Кроўлі у Сасэксе, пазьней у Лёндане. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗАЯЦ Павал** (10.04.1925, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у беларускай паліцыі ў Міры. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗДАСЕВІЧ Уладзімер** (15.09.1909, в. Субачы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 31.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗМАГАР Алесь** гл. **ЯЦЭВІЧ Аляксандар**

**ЗМАГАРКА Ніна** гл. **ПАНЬКОВА Марыя**

**ЗУБКОВІЧ Эльза** (дзяв. **Пілеман**, 1895, Менск — 04.06.1983, Нью-Ёрк, ЗША), сьпявачка, піяністка, кампазытар, пэдагог. Нарадзілася ў сям'і мэдыка. У 1914 г. скончыла Менскую музычную школу, навучаньню ў кансэрваторыі перашкодзіў пачатак Першай сусьветнай вайны. Засталася працаваць у Менскім шпіталі, дзе бацька займаў пасаду галоўнага лекара. Пазнаёміўшыся з прафэсарам Варшаўскае кансэрваторыі Георгіем Жураўлёвым, прыватна за чатыры гады прайшла поўны курс кансэрваторыі для фартэпіяна, адначасна беручы ўдзел у канцэр-

тах. Працягвала канцэртную дзейнасьць і ў 1920 г., пад польскай акупацыяй. Адзін з арганізатараў, польскі лекар Урштэйн, параіў ехаць навучацца ў Бэрлін да вядучага прафэсара-тэарэтыка тамтэйшае кансэрваторыі, кампазытара Паўля Юона. З дапамогай Урштэйна дамаглася ад польскіх уладаў дазволу на выезд і ў 1920 г. прыехала ў Бэрлін, дзе пачала навучаньне. Але ў сувязі са сьмерцю бацькі здала экстэрнам экзамэны ў Штутгарцкай кансэрваторыі і ў 1922 г. з дыплёмам піяністкі вярнулася ў Менск, дзе працавала ў музычнай школе, а пасьля — у тэхнікуме й кансэрваторыі. Выйшла замуж, нарадзіліся дзьве дачкі. Па вайне апынулася зь сям'ёй у Нямеччыне, пахавала мужа, а потым эміґравала ў ЗША, дзе працягвала пэдагагічную дзейнасьць. У 1972 г. выйшаў зборнік рамансаў *„Осенние падают листья“*, напісаны на вершы эміграцыйнай расейскамоўнай паэткі Ірыны Сабуравай, таксама народжанай у Беларусі. У 1972 г. выйшаў новы зборнік рамансаў „Край мой васільковы“ — на вершы Я. Коласа, А. Гаруна, *М. Кавыля, Н. Арсеньневай.*

**ЗУБОВІЧ Антон** (12.06.1928, Магілёў — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Тамуартс у Стафардшыры. Ад 02.08.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗУЙ Міхась** (23.10.1909, в. Вялікае Сяло (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 24.04.1995, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У 1932 г. арганізаваў у вёсцы асьветны гурток „Кола беларускай моладзі“. Ад 1942 г працаваў у Беларускай народнай самапомачы, павятовы кіраўнік Шаркаўшчынскага павету. Сябра Беларускай незалежніцкай партыі. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 гг. — на эміграцыі. Быў у складзе Дальвіцкага беларускага батальёну. Пазьней перабраўся ў лягер *DP* у Ватэнштэце. Ад жніўня 1949 г. жыў у Аўстраліі. Удзельнік Першага зьезду сяброў Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі ў сакавіку 1950 г., пазьней — стваральнік і нязьменны старшыня БАА (БЦРаўскага кірунку). Ад імя гэтай арганізацыі рэпрэзэнтаваў беларусаў на мерапрыемствах аўстралійскіх грамадзкіх і ўрадавых арганізацыяў. У 1950—1960-х гг. — арганізатар і кіраўнік беларускага драматычнага гуртку ў Сыднэі. Кіраўнік Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. У 1978 г. — старшыня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі. У 1977—1978 гг. — старшыня Выканаўчага камітэту Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. У 1987 г. на XIX Пленуме БЦР прызначаны й зацьверджаны на Прэзыдэнта БЦР. Пахаваны у Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**ЗЫБАЙЛА Пётра** (10.10.1911, в. Яблонка (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 03.10.1998, Гленспэй, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. У Беларусі працаваў лясьніком. У 1950 г. апынуўся ў ЗША. Быў актывістам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня й прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. У 1965 г. разам з *К. Мерляком* пакінуў шэрагі БАЗА й заснаваў Беларуска-Амэрыканскае аб’яднаньне ў штаце Нью-Ёрк, а ў 1968 г. стаў адным з ініцыятараў стварэньня прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Ад 1969 г. браў удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, уваходзіў ва ўправу Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Ад 1974 г. жыў у Гленспэй, недалёка ад беларускага адпачынкавага цэнтру „Белэр-Менск“, у Раду дырэктароў якога ўваходзіў. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЗЬВІЦЭВІЧ Вацлаў** (06.03.1920, в. Заастравечча (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЗЯНЬКО Мікалай** (?, Валожын (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ІВАНЕЦ Грыгор** (17.04.1921, Вялейшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ІВАНОЎСКІ Віктар** (08.02.1924, в. Загора (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лестэры. Ад 21.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**ІВАШКА Іван** (15.01.1923, в. Грыцавічы каля Клецку (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 30.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ІГНАТОВІЧ Міхаіл** (?, Глыбокае (сёньня Віцебская вобл.) — ?, Пасэйк, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям’і сьвятара. Вучыўся ў Празе. У паваеннай Нямеччыне быў камэндантам беларускага лягеру *DP* у Міхельсдорфе, калі ў ім перанялі кіраўніцтва прыхільнікі *Р. Астроўскага*. У 1948 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Пасэйку (Нью-Джэрзі), адзін з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амэ-

рыканскага дапамаговага камітэту. Разам зь беларусам Вішнеўскім заснаваў фабрыку вырабу вокнаў.

**ІЗЯСЛАЎ** (сьвецк. **Янка Бруцкі** 22.01.1926, в. Белавуша (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 27.11.2007, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. Скончыў польскую пачатковую школу. Увесну 1943 г. вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Ад 1947 г. жыў у Канадзе, у 1954 г. скончыў унівэрсытэт Манітобы (Вініпэг). У 1954—1962 гг. працаваў як інжынэр дарог у правінцыі Антарыё. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, у тым ліку ў 1957 г. — старшынём арганізацыі. У 1962 г. пераехаў у ЗША, жыў у Дэтройце й Лос-Анджэлесе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, кіраваў Каліфарнійскім і Дэтройцкім аддзеламі арганізацыі. У 1969 г. пераехаў у Кліўлэнд (штат Агаё), браў актыўны ўдзел у беларускім рэлігійным жыцьці, быў сябрам Кіраўнічай рады БАПЦ. 29.04.1979 пасьвечаны ў сан дыякана мітрапалітам Андрэем, а 26.08.1979 — у сан ярэя ўладыкам Мікалаем. 22.02.1981 г. хіратанісаны мітрапалітам Андрэем у япіскапа, прыняў імя Ізяслава. У 1984 г. на Саборы ў Манчэстэры (не прызнаным часткаю БАПЦ) прызначаны на мітрапаліта БАПЦ, што замацавала раскол у царкве. 30.08.2003 на „аб’яднаўчым“ Саборы зноў ачоліў БАПЦ. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ІЛЫН Мікалай** (10.05.1925, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — 14.04.1994, Манчэстэр, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ІЛЬЛЯШЭВІЧ Хведар** (17.02.1910, Вільня — 07.11.1948, Ватэнштэт, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст, пісьменьнік. Скончыў гістарычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі — у Беластоку, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік „Новая дарога“. У ліпені 1944 г. выехаў у Бэрлін, працаваў у рэдакцыі газэты „Раніца“. У 1944 г. выдаў восем кніг з сэрыі „Народная бібліятэчка“. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны жыў у лягеры Ватэнштэт, настаўнічаў у мясцовай беларускай гімназіі, апекаваўся беларускім скаўтынгам. Аўтар кніг: „Навагоднія запросіны“ (1946), „У Купальскую ноч“ (1946), „Песьні выгнаньня“ (1947), „Апавяданьні“ (1948). Рэдагаваў часопіс „Шляхам жыцьця“ (1946—1948), бюлетэнь „Апошнія весткі“ (разам з *М. Шылам*). Загінуў у аўтакатастрофе. Пахаваны на могілках у Галенсдорфе. У 1981 г. выйшла кніга „Недапетая песьня. Жыцьцё і творчая спадчына Хведара Ільляшэвіча“.

**ІНАЗЕМЦАЎ Мікалай** гл. **АЛЯКСАНДАР**

**ІСКРА Аляксандар** (29.05.1923, Слонімшчына — ?), грамадзкі дзеяч. У 1944–1945 гг. служыў у войску. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1952 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ІСКРЫЦКІ Міхась** (нар. 23.01.1923, в. Пухічын Азарыцкага р-на Палескай вобл. (сёньня Акцябрскі р-н Гомельскай вобл.)), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны працаваў на гаспадарцы, потым служыў у паліцыі, ад 1943 г. — у батальёне Арлоўскай паліцыі на чале з палкоўнікам Паніным. Разам з гэтым батальёнам, дзе служыў і брат Кастусь Іскрыцкі, праз Польшчу й Нямеччыну адступіў у Італію, дзе здаўся амэрыканскім войскам і трапіў у Другі польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Лёндане, потым у Манчэстэры. Ад 1952 г. належаў да Беларускага вызвольнага руху, быў удзельнікам расколаў арганізацыі ў 1954 г. і 1958 г., калі на зьезьдзе ў Манчэстэры быў абраны старшынём Галоўнай управы БВР. На ягонае імя была запісаная маёмасьць БВР у Манчэстэры, што пазьней пацягнула за сабой працяглыя судовыя разьбіральніцтвы. Быў актывістам прыходу БПЦ Сьв. Мікалая ў Манчэстэры. У 1964 г. быў высьвечаны на сьвятарства ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха й перабраў пад сваё кіраўніцтва прыход. Аўтар кнігі „З майго жыцьця Мітрафорнага Пратаярэя Міхаіла Іскрыцкага“ (Манчэстэр, 2005).

**КАБУШКА Ўладзімер** (13.12.1910, в. Малахоўцы (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 21.07.1959, ЗША), грамадзкі дзеяч. Падчас Першай сусьветнай вайны знаходзіўся ў эвакуацыі. У пачатку 1920-х вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Ад 1926 г. вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1928 г. разам з іншымі вучнямі арыштаваны польскай паліцыяй і асуджаны на восем гадоў турмы. Пакараньне адбываў у Грудзёнскім астрогу. Па вызваленьні пераехаў у БССР, дзе таксама быў зьняволены. Падчас нямецкай акупацыі некаторы час жыў у Кёнігсбэргу. На пачатку 1950-х прыбыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, радным БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КАБЫЧКІН Аляксей** (16.03.1891, Случчына — 25.03.1958, Кан, Францыя), грамадзкі дзеяч. Скончыў гімназію ў Слуцку й юрыдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Удзельнік Слуцкага паўстаньня. Пасьля яго жыў у Вільні. Удзельнічаў у выданьні розных беларускіх пэрыёдыкаў, прыкладам, „Наша думка“. У часе нямецкай акупацыі праца-

ваў суддзём у Лідзе. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягеры *DP* у Куфштайне (Аўстрыя). У 1956 г. перабраўся ў Францыю.

**КАБЫШ Сымон (Сямён)** (да эмігр. **Кандыбовіч**, 20.07.1890, в. Старыца Слуцкага пав. (сёньня Капыльскі р-н Менскай вобл.) — 17.09.1971, Мюнхен, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, гісторык. Ад 1926 г. быў сябрам ЦК КП(б)Б, у 1931—1933 гг. — кіраўніком справаў СНК БССР, у 1935 г. — начальнікам Наркамхарчпраму СССР пры СНК БССР. Падчас Другой сусьветнай вайны быў сябрам Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, Беларускай Цэнтральнай Рады (кіраўнік фінансавага аддзелу). Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. У Нямеччыне быў у Беларускім нацыянальным камітэце. Ад 1954 г. працаваў у беларускай сэкцыі Радыё „Вызваленьне“ („Свабода“), ад 1963 г. — у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене. Дасьледаваў пытаньні эканамічнай гісторыі. Ад 1956 г. быў рэфэрэнтам Сакратарыяту Рады БНР па пытаньнях народнай гаспадаркі. Пахаваны ў Мюнхене на *Westfriedhof*.

**КАБЯКА Мікола** (29.07.1904, в. Басянкі Дзісенскага пав. Віленскай губ. (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 19.07.1978, Уолдбара, Мэн, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў Дзісенскую гарадзкую вучэльню. У часе нямецкай акупацыі займаўся беларусізацыяй мясцовай адміністрацыі на Дзісеншчыне. У 1944 г. разам зь сям’ёй выехаў у Нямеччыну. Пазьней перабраўся ў ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Пазьней перабраўся ў штат Мэн. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КАВАЛЕЎСКІ Аўген** (07.01.1921, Масква — 1963, Руаян, Францыя), актор, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Скончыў сярэднюю школу № 45 у Менску. Пазьней вучыўся ў школе пры беларускім Дзяржаўным драматычным тэатры. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Жыў у лягерах *DP* у Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Остэргофэне. Арганізаваў з прафэсійных актораў на эміграцыі ансамбаль песьні й танца „Жыве Беларусь!“, пазьней ператвораны ў Тэатар эстрады, які езьдзіў з гастролямі па розных лягерах. У 1947 г. у Міхельсдорфе выдаў адмысловы „Кароткі курс навучаньня актора“. Пісаў апавяданьні, фэльетоны, п’есы, якія публікаваліся на старонках эміграцыйных пэрыёдыкаў, а таксама выходзілі асобнымі выданьнямі. У 1949 г. перабраўся ў Францыю, дзе быў вымушаны працаваць у парыскай кравецкай майстэрні. Быў сябрам Аб’еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, а таксама сакратаром і кіраўніком аддзелу культуры Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі.

**КАВАЛЕЎСКІ Янка** (07.08.1921, в. Кругліца (сёньня Чашніцкі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 02.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАВЕЛІЧ Уладзімер** (12.12.1923, в. Загор'е (сёньня в. Загор'е Сеньненскае Наваградзкага р-ну Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай гімназіі. У 1941—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны трапіў у Вялікабрытанію. Ад 01.10.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У пачатку 1950-х гг. выехаў у Аўстралію.

**КАВЫЛЬ Міхась** гл. **ЛЕШЧАНКА Язэп**

**КАДУШКА Кастусь** гл. **АМОР Якуб**

**КАЖАН Віталь** (09.10.1916, в. Балбекі (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 17.01.2004, Канэктыкут, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай афіцэрскай школе, у 1939—1941 гг. настаўнічаў. У жніўні 1942 г. скончыў афіцэрскія курсы ў Менску, камандзіраваны ў Браслаў весьці падафіцэрскія курсы Самааховы. Працаваў у Глыбокім сакратаром, заступнікам акруговага старшыні Беларускай народнай самапомачы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Бэрліне працаваў у Беларускай Цэнтральнай Радзе. У лістападзе 1944 г. — ад'ютант *Ф. Кушаля*. Па капітуляцы Нямеччыны быў заступнікам камэнданта (ліпень 1946 — люты 1948) лягернай паліцыі ў Шляйсгайме (Баварыя). Пасьля пераезду ў лягер Остэргофэн выконваў абавязкі адміністратара газэты „Бацькаўшчына", ад лістапада 1948 г. — абавязкі камэнданта лягернай паліцыі. Быў сакратаром Беларускага нацыянальнага камітэту на амэрыканскую акупацыйную зону Нямеччыны, настаўнікам ангельскай мовы ў беларускім лягеры *DP* у Розэнгайме. Ад кастрычніка 1949 г. і да самае сьмерці быў галоўным скарбнікам Рады БНР. У 1950 г. прыбыў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, потым перабраўся ў Стамфард (Канэктыкут). Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, сакратаром Стамфардзкага аддзелу арганізацыі. У 1970-х гг. — старшыня Беларуска-Амэрыканскага клюбу ў Канэктыкуце. Уваходзіў у кіраўніцтва Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

**КАЖАНЕВІЧ Хведар (Тодар)** (14.02.1926, в. Любельполь (сёньня Любель-Поле Пінскага р-ну Берасьцейскай вобл.) — 27.02.2007, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1940 г. разам з баць-

камі быў дэпартаваны ў раён Архангельску (Расея). Ад 1942 г. служыў у Арміі Андэрса, удзельнік бітвы за Монтэ-Касіна. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Першыя гады жыў у Брадфардзе, потым перабраўся ў Манчэстэр. Быў актывістам і доўгагадовым старшынём аддзелу ЗБВБ у Манчэстэры. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Адзін з арганізатараў беларускай суботняй школкі ў Манчэстэры, старшыня бацькоўскага камітэту. Адзін з ініцыятараў стварэньня Беларускага клюбу ў Манчэстэры, выконваў абавязкі яго скарбніка. Быў сябрам Рады БАПЦ у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Манчэстэры.

**КАЖУРА Дзьмітры** (06.04.1908 — 13.11.1990, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. прыехаў у Аўстралію. Ад 1954 г. быў заступнікам старшыні й скарбнікам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў у Вікторыі. Ад самага стварэньня беларускай парафіі Трох Віленскіх Пакутнікаў у Мэльбурне браў актыўны ўдзел у рэлігійным жыцьці, доўгі час быў старастам царквы. Ахвяраваў грошы на выданьне кнігі „Каціхізіс, або навука веры“ (1960) для беларускіх вернікаў.

**КАЖУРА Пётра** (20.06.1913, в. Карпавічы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 15.08.1992, Гайлэнд-Парк, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. З пачаткам Другой сусьветнай вайны быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон, адкуль яго адпусьцілі як беларуса. Пасьля Другой сусьветнай вайны ствараў беларускія лягеры *DP* у Нямеччыне. У 1949 г. прыехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Джэрзі, пачаткова ў Саўт-Рывэры, пазьней пераехаў у г. Нью-Брансьвік, затым у Гайлэнд-Парк. Дапамагаў беларусам зь лягераў Нямеччыны перасяліцца ў ЗША. Удзельнічаў у набыцьці будынку царквы (Беларускага грамадзкага цэнтру) і царкоўнага дому ў Гайлэнд-Парку. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі.

**КАЗАК Рыгор** (псэўд. **Рыгор Крушына**, 13.12.1907, в. Бязьверхавічы (сёньня Слуцкі р-н Менскай вобл.) — 27.03.1979, Вашынгтон, ЗША), паэт, празаік, крытык, грамадзкі дзеяч. Скончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Слуцку (паводле іншых зьвестак, Белпэдтэхнікум і Маскоўскі інстытут кінематаграфіі). Быў сябрам „Маладняка“. Першыя творы пачаў публікаваць у другой палове 1920-х гг. Быў арыштаваны па справе Ю. Лістапада. У часе нямецкай акупацыі жыў у Менску, друкаваўся ў беларускіх выданьнях. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне друкаваўся ў пэрыёдыках „Раніца“, „Беларускі работнік“ і інш. У 1950-х выехаў у ЗША. Быў сябрам Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня і кіраўніцтва Нью-Ёрскага аддзелу арганіза-

цыі. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу, адзін з выдаўцоў часопіса „Конадні“. Пры канцы 1950-х вярнуўся ў Нямеччыну, дзе працаваў на Радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхене. У 1960-х вярнуўся ў ЗША. Ад 1966 г. — сябра Міжнароднага ПЭН-клюбу. Аўтар кніг: „Лебедзь чорная“ (1947), „Выбраныя творы“ (1957), „Хвіліна роздуму“ (1968), „Вясна ўвосень“ (1972), „Дарогі“ (1974), „Сны і мары“ (1975). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КАЗАК Якім** (05.05.1906, в. Пятровічы (сёньня Іванаўскі р-н Берасьцейскай вобл. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Мілтрапе каля Прэстану. Ад 29.08.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАЗІМІРОВІЧ Мікола** (08.05.1924, Койданава (сёньня Дзяржынск Менскай вобл.) — ?), мастак. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.10.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАЗУШЧЫК Юры** (29.11.1925, в. Старажоўшчына Косаўскі пав. (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**КАЗЬЛЯКОЎСКІ Міхась** (10.08.1933 — 27.10.2005, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КАЗЬЛЯКОЎСКІ Ян** (13.12.1894, в. Калауравічы (сёньня Пінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 24.03.1991, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Доўгі час быў старшынём царкоўнай управы прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Як сябра Беларуска-Амэрыканскага аб’яднаньня браў удзел у Кангрэсах беларусаў Амэрыкі. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КАЙГАРОДЦАЎ Кастусь** (25.12.1911, Дзьвінск (сёньня Даўгаўпілс, Латвія) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 21.05.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак выступіў на ўласную просьбу. Некаторы час жыў у Беларускім доме ў Лёндане.

**КАЛБАСА Янка** (17.05.1925, в. Пуціца Наваградзкага пав. — 04.04.2002, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў

школе ў Карэлічах. Быў сябрам СБМ. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Рэгенсбургу, потым жыў у Міхельсдорфе. Як *DP* прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. Жыў у Галіфаксе, потым у Брадфардзе. Ад 05.12.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Актывіст аддзелу ў Брадфардзе, быў доўгі час яго старшынём. Адзін са стваральнікаў Беларускага клюбу „Сакавік“, сакратар клюбу. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, і ад 1951 г. — яго старшынём. У 1970—1980-х гг. быў падстаўніком беларусаў у Камітэце паняволеных народаў у Брадфардзе. У 1980-х гг. стварыў Клюб беларускай незалежніцкай думкі „Васілёк“. Цягам доўгіх гадоў быў карэспандэнтам газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“, куды пісаў допісы пра падзеі ў Брадфардзе пад псэўданімам **Янка Крушына**. Актывіст БАПЦ, доўгія гады быў сакратаром Рады БАПЦ у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Брадфардзе на *Undercliffe Cemetery*.

**КАЛЕНІК Міхась** (01.12.1924, в. Клепачы (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — ?, ЗША), грамадзкі дзеяч. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, потым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 02.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак перайшоў у Хрысьціянскае аб’яднаньне беларускіх работнікаў. У 1949 г. выехаў у Аргентыну, адтуль — у ЗША. Пасяліўся ў Чыкага, дзе быў актыўным сябрам беларускай праваслаўнай парафіі.

**КАЛЕСЬНІКЕВІЧ Мікола** (11.06.1924, в. Заканічы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 26.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Францыю.

**КАЛЕСЬНІКОВІЧ Вера** (дзяв. **Арцямюк**, нар. 06.09.1935, в. Парцава Бельск-Падляскага павету (сёньня Падляскае ваяводства, Польшча)), грамадзкая дзяячка, жонка *Ў. Калесьніковіча*. Скончыла сямігодку й вучылася на курсах, пасьля якіх працавала ў Беластоку на баваўнянай фабрыцы. На пачатку 1960-х гг. на запрашэньне сваякоў прыехала ў Сыднэй, адкуль перабралася ў Адэляйду. Тут пазнаёмілася з *У. Калесьніковічам*, зь якім ў 1966 г. пабралася шлюбам. Некаторы час працавала на фабрыцы. Брала актыўны ўдзел у жыцьці беларускай грамады ў Адэляйдзе — сьпявала ў хоры, дапамагала ў арганізацыі нацыянальных мерапрыемстваў беларускай парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ды Беларускага аб’яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі.

**КАЛЕСЬНІКОВІЧ Уладзімер** (нар. 28.11.1926, в. Ліпнікі (сёньня Пінскі р-н Берасьцейскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, муж *В. Калесьніковіч*. Нарадзіўся ў сям'і лесьніка, які працаваў у валоданьнях графа Радзівіла (пазьней — у графа Патоцкага). Вучыўся ў польскай і савецкай школах. У 1942 г. разам зь сям'ёй перабраўся ў Лагішын, а ў 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Знаходзіўся ў лягеры Голстынг у Кёнігсбэргу, пазьней — у маёнтку баўэра каля г. Швэд. У 1946—1947 гг. — у польскім лягеры, а пазьней ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, зь якога ў 1950 г. пераехаў у Аўстралію. Да 1956 г. жыў у Тайлем-Бэндзе, адкуль перабраўся ў Адэляйду, дзе далучыўся да жыцьця беларускай парафіі БАПЦ. Браў актыўны ўдзел у пабудове царквы. Сьпяваў у царкоўным хоры, а ў 1987—1999 гг. — быў рэгентам гэтага хору. У 1986—1999 гг. выконваў абавязкі скарбніка парафіяльнай рады, а таксама ў 1981—1987 і 1989—1993 гг. — скарбніка ў Беларускім аб'яднаньні ў Паўднёвай Аўстраліі.

**КАЛІНКА Анатоль** (14.02.1912, Горадня — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Данкастэры. Ад 24.12.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАЛКОЎСКІ Ўладзімер** (07.01.1918, в. Дудкі (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 04.07.1994, Лёндан, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваны ў Лёндане на *Chiswick Cemetery*.

**КАЛОДКА Аляксандар** (14.12.1911, в. Церабостынь (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 15.11.1985, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў гарадзкое вучылішча ў Ярэмічах (Карэліцкі р-н) і ў 1926 г. паступіў у Віленскую беларускую гімназію. У 1928—1932 гг. вучыўся ў польскай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Вільні. Супрацоўнічаў з газэтамі „Беларускі дзень“ і „Сялянская ніва“. У 1938 г. скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту з дыплёмам магістра права. Працаваў у юрыдычным аддзеле грамадзкага забесьпячэньня. У 1940—1941 гг. настаўнічаў у Вільні. Ад верасьня 1941 г. працаваў надзвычайным упаўнаважаным гэбітскамісара ў Вялейцы, дзе займаўся беларусізацыяй адміністрацыі. У 1943 г. арыштаваны вялейскім гестапа. Быў вязьнем канцэнтрацыйных лягераў у Асьвенціме, Біркенаў, Бухенвальдзе й інш. Па сканчэньні вайны працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце, супрацоўнічаў зь беларускай прэсай, Арганізацыяй былых вязьняў нямецкіх канцэнтрацыйных лягераў. Сябра Рады БНР ад яе аднаўленьня ў 1947 г. У траўні

1948 г. прыехаў у Аўстралію, працаваў на цукровых плянтацыях у Квінслэндзе, а пазьней — рабочым ў Мэльбурнскім порце. Арганізатар Сэктару Рады БНР у Аўстраліі, першага Беларускага клюбу ў Мэльбурне. У 1950 г. стаў адным з заснавальнікаў апалітычнага Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі, якое аднак праз год пакінуў. Сябра Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі, Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, Каардынацыйнага камітэту беларускіх арганізацый у Аўстраліі, Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Сталы аўтар зацемак пра жыцьцё беларусаў Мэльбурну ў газэтах „Бацькаўшчына" й „Беларус". Сябра Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**КАЛОША Аляксандар** (1905, в. Заямнае (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 1985, Чэхаславаччына), грамадзкі дзеяч. Ад канца 1920-х жыў у Чэхаславаччыне. У 1940—1942 гг. — намесьнік старшыні Праскага аддзелу Камітэту самапомачы. У 1942—1945 гг. кіраўваў беларускім аддзелам Арбайтсфронту („Рабочага фронту") у Бэрліне. У сакавіку 1944 г. быў абраны старшынём Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне. У жніўні 1944 г. быў уведзены ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады. У 1945 г. вярнуўся ў Прагу. 20.01.1949 быў вывезены з Прагі ў СССР і асуджаны на 25 гадоў лягераў. 20.09.1955 вызвалены па амністыі й перададзены чэхаславацкім уладам. Арышт прызналі беспадстаўным, 01.07.1956 быў вызвалены.

**КАЛОША Кастусь** (25.02.1924, в. Нагорная (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 2004, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. скончыў Баранавіцкую гандлёвую школу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне — у беларускіх лягерах *DP* у Рэгенсбургу й Розэнгайме. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе й Віндышбэргердорфе. У 1950 г. выехаў у ЗША. Па сканчэньні ўнівэрсытэту штату Мічыган у Лэнсінгу пераехаў у Кліўлэнд. Быў актывістам мясцовай суполкі Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, парафіі Жыровіцкай Божай Маці.

**КАЛТУНОВІЧ Міхал** (07.09.1898, в. Аброва (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл. — 10.03.1978, Манчэстэр, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**КАЛУБОВІЧ Аўген** гл. **КАХАНОЎСКІ Аўген**

**КАЛЬКО Аляксандар** (11.02.1917, в. Яновічы Нясьвіскага пав. (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 30.09.1991, Брадфард, Вялікабры-

танія), грамадзкі дзеяч. Служыў у польскім войску ў 1933—1939 і 1942—1947 гг., разам зь якім апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.03.1951 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, актывіст аддзелу арганізацыі ў Брадфардзе. Ад 1951 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Некаторы час кіраваў Беларускім грамадзкім клюбам „Сакавік". Быў прадстаўніком беларусаў у Брадфардзкім Камітэце паняволеных народаў. Пахаваны ў Брадфардзе.

**КАЛЯДА Ірэна** (у шлюбе **Сьмірноў**, 11.11.1937, в. Падкасоўе (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадзкая дзяячка, дачка *К. Каляды*. Ад 1944 г. з бацькамі — на эміграцыі ў Нямеччыне. Вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Пазьней выехала ў ЗША, дзе атрымала эканамічную адукацыю. Пасялілася ў Кліўлэндзе. Сяброўка Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, была сакратаром управы Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Радная БНР. Займалася вакалам; сьпявала ў царкоўным і сьвецкім хорах; грала ў тэатральных пастаноўках, выкладала ў беларускай суботняй школе ў Кліўлэндзе. Ад 1992 г. займаецца дабрачыннай дзейнасьцю, дзеля чаго стварыла Дабрачынны фонд „Этнічны голас Амэрыкі".

**КАЛЯДА Клаўдзія** (дзяв. **Жарыч,** у другім шлюбе **Чэрнік**, 24.03.1908 — 17.08.1990, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкая дзяячка, маці *І. Каляды*. У 1937 г. хутка па нараджэньні дачкі страціла мужа. Трымала краму й сыраварню, якія ў 1939 г. былі канфіскаваныя Саветамі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне працавала на будоўлі тэлефонных лініяў. У лягерах *DP* разам зь *Я. Каханоўскай* і *З. Станкевіч* зладзіла першую выставу беларускага народнага мастацтва. Пазьней пераехала ў ЗША. Пасялілася ў Кліўлэндзе. Была адной з арганізатараў беларускай суботняй школы. Была сяброўкай Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Кліўлэндзкага аддзелу. Стваральніца й шматгадовая старшыня Беларускага жаночага згуртаваньня. Пахаваная ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**КАМАРОЎСКІ Васіль** (20.09.1914, Наваградчына — 28.09.1953, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч, журналіст. Ад 1941 г. быў сакратаром Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне. У 1945 г. разам з *С. Хмарам* ды інш. заснаваў Літаратурную сустань „Баявая ўскалось". Пісаў пад псэўданімам **Васіль Вярбіна**. Ад 1950 г. жыў у Таронта. Належаў да Беларускага нацыянальнага аб'еднаньня. Загінуў у аўтакатастрофе.

**КАМАРОЎСКІ Мікалай** (10.10.1921, Стоўпцы (сёньня Менская вобл.) — 20.01.1990, Брадфард, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у

Брадфардзе. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Спаса. Пахаваны ў Брадфардзе на *Schoolmoor cemetery*.

**КАМІНСКІ Барыс** (? — 22.06.1969, Мэльбурн, Аўстралія), рэлігійны дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, дзе пры канцы 1940-х гг. атрымаў сьвятарскі сан, пасьля чаго выехаў у Аўстралію. Першыя гады жыў у Квінслэндзе, а ў сярэдзіне 1950-х перабраўся ў Заходнюю Аўстралію. У 1956 г. з блаславеньня архіяпіскапа *Сяргея* арганізаваў прыход БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Пэрце й быў адным зь ініцыятараў пабудовы тут беларускай царквы. Аднак хутка па прыезьдзе на сталае жыхарства арх. *Сяргея* ў Пэрт выехаў у Мэльбурн, дзе праз некаторы час пачаў служыць у грэцкай праваслаўнай царкве. Часам браў удзел ў службах для беларускіх вернікаў. Загінуў у няшчасным выпадку. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**КАМІНСКІ Ігнат** (12.10.1908, в. Казлы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 29.01.1967, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецка-польскай вайны 1939 г. трапіў у палон і застаўся ў Нямеччыне. У 1951 г. пераехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай і сябрам Беларускага нацыянальнага аб'яднаньня.

**КАМІНСКІ Міхал** (09.06.1921, Ільля (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікбрыытаніі.

**КАНАНЧУК Антон** (20.07.1914, в. Патока Беластоцкага пав. Гарадзенскай губ. (сёньня Падляскае ваяв., Польшча) — 13.04.1991, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. На пачатку Другой сусьветнай вайны быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у палон да немцаў. Пасьля вайны быў у польскім лягеры *DP* Гогенфэльц, потым у беларускіх лягерах Віндышбэргердорф ды Розэнгайм. У 1951 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, потым адным зь першых беларусаў пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Браў удзел у пабудове мясцовай царквы БАПЦ і цэнтру „Полацак“. Быў старшынём парафіяльнай рады БАПЦ. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**КАНАШОНАК Сьцяпан** (20.08.1908, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАНДРАТОВІЧ Аляксандар** (11.12.1908 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАНДРАЦЮК Сьцяпан** (24.12.1924, в. Багушава (сёньня Пінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 21.01.1953 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**КАНДРУСІК Галіна** (нар. ?, Беласточчына), грамадзкая дзяячка. Жыве ў Адэляйдзе (Аўстралія). Актыўная ўдзельніца беларускай парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла. Доўгія гады сьпявае ў царкоўным хоры. Сяброўка Беларускага аб’яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі, а ў 1988—1997 гг. займала пасаду скарбніка гэтай арганізацыі.

**КАНДЫБОВІЧ Сымон** гл. **КАБЫШ Сымон (Сямён)**

**КАПАЧ Уладзімер** (01.12.1924, в. Вераскава (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 02.05.1966, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі. У 1944—1948 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Нотынгеме й стаў лідарам мясцовага беларускага асяродку, адным са стваральнікаў парафіі Сьв. Мікалая. Ад 1954 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пахаваны ў Нотынгеме.

**КАПЛЯРЧУК Ільля** (12.01.1922, Клецк (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАПТУРОВІЧ Андрэй** (? — 08.12.1985, Рочэстэр, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, музыка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягерах *DP* у Нямеччыне. Адтуль пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывістам Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Кіраваў аркестрам, што ўдзельнічаў беларускіх мерапрыемствах, дырыгаваў царкоўным хорам сабору БАПЦ у Брукліне. З часам выехаў у Рочэстэр.

**КАРАНЕЎСКАЯ Аўгіньня** (дзяв. **Воўк-Левановіч**; 06.01.1919, маёнт. Ясны Лес (сёньня вёска ў Бабруйскім р-не Магілёўскай вобл.) — 30.03.1983, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *М. Каранеўскага*. Нарадзілася ў сям’і нашчадкаў баярскага роду. У 1920 г. разам з бацькамі пераехала ў м. Мядзьведзічы (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскае вобл.). У 1937 г. скончыла Віленскую беларускую гімназію, паступіла на хімічны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1939 г. вяр-

нулася ў Мядзьведзічы, дзе стала працаваць настаўніцай беларускай мовы ў мясцовай школе. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічала ў Баранавічах. Дэлегатка ад Баранавіцкай акругі на Другі Ўсебеларускі кангрэс. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1946 г. пабралася шлюбам з інжынэрам *М. Каранеўскім*. Ад 1949 г. — у Аўстраліі. Жыла ў Сыднэі. Доўгі час была старшынёй Сэктару Рады БНР у Аўстраліі, распаўсюджвала беларускую прэсу, была сталай аўтаркай газэты „Беларус“. Сябра Беларускага культурна-грамадзкага клюбу. Спрабавала стварыць асобную беларускую жаночую арганізацыю ў Сыднэі, але няўдала. Актыўна дапамагала ў арганізацыі нацыянальных мерапрыемстваў, выставаў. Чытала лекцыі для сябровак Аўстралійскай гільдыі вышывальніц па беларускіх вышыванках. Ад 1976 г. супрацоўніца Беларускага радыёвага камітэту ў Сыднэі. Пахаваная ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**КАРАНЕЎСКІ (КАРЖАНЕЎСКІ) Арсені** (?, Валынь — ?, Лідс, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. Быў высланы Саветамі ў Сыбір. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Лідсе. Быў рукапакладзены ў праваслаўныя сьвятары. У Лідсе арганізаваў сваю парафію. Нейкі час апекаваўся беларускімі вернікамі ў Сток-он-Трэнце, Манчэстэры, Болтане. Пахаваны ў Лідсе.

**КАРАНЕЎСКІ Кастусь** (25.05.1912, в. Лістапад на Валожыншчыне (?) — 10.08.1998, Садбуры, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. арыштаваны савецкімі ўладамі й высланы ў Сыбір. Служыў у Арміі Андэрса, браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У чэрвені 1947 г. прыехаў Канаду. Жыў у Садбуры. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады, прыхаджанінам царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**КАРАНЕЎСКІ Мікалай** (25.07.1916 — 23.05.1973, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *А. Каранеўскай*. Вучыўся ў Варшаўскай палітэхніцы, Львоўскім палітэхнічным інстытуце (1940—1941), аднак дыплём інжынэра атрымаў ужо па заканчэньні Другой сусьветнай вайны ў Мюнхене. Ад 1949 (?) г. жыў у Аўстраліі. Спачатку ў Мэльбурне, дзе ўдзельнічаў у арганізацыі беларускай грамады. Пры канцы 1950-х гг. перабраўся зь сям’ёй у Сыднэй, дзе актыўна ўключыўся ў грамадзкую дзейнасьць. У 1966—1973 гг. быў старшынём Беларускага аб’еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. Адзін з арганізатараў Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі. Доўгі час займаўся распаўсюдам беларускай літаратуры й фундаваў беларускую выдавецкую справу. Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**КАРАСЬ Леанід** (20.11.1923, в. Дзямідзенкі Дзісенскага пав. (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 07.09.1954, Мюнхен, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст. Працаваў настаўнікам. Ад лета 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. У беларускім лягеры *DP* у Міхельсдорфе працаваў у лягернай ахове й вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Разам з іншымі сябрамі „Дванаццаткі“ ў 1948 г. як *DP* прыбыў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1948 г. — сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’еднаньня „Жыцьцё“, ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1950 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. Вучыўся на агранамічным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. У пачатку 1954 г. пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“. Загінуў пры нявысьветленых абставінах — цела з адзнакамі катаваньняў знайшлі ў рацэ Ізар. Паводле адной з вэрсіяў, да гэтага мела дачыненьне савецкая выведка.

**КАРДАШ Піліп** (17.07.1915, в. Саўцавічы на Наваградчыне (?) — 08.09.1957, Бірмінгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Бірмінгеме. Ад 02.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пахаваны ў Бірмінгеме.

**КАРЗЯНОК Веньямін** (01.03.1924, в. Лісіцы (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАРНІЛОВІЧ Сяргей** (04.11.1929, в. Таргуны (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 29.10.1993, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай школе. У 1943 г. быў вывезены на працу ў Нямеччыну, дзе быў паранены ў часе бамбаваньня. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры *DP у* Рэгенсбургу, дзе скончыў гімназію імя Я. Купалы, удзельнічаў у скаўтынгу. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Працаваў у малочнай індустрыі. Быў актывістам Арганізацыі беларуска-амэрыканскай моладзі, дзе колькі гадоў быў старшынём. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, старшынём Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Цягам 14 гадоў быў старшынём парафіяльнай рады царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Кліўлэндзе. Адзін з заснавальнікаў і шматгадовы кіраўнік Беларускага грамадзкага цэнтру „Полацак“. Браў удзел у дабрачыннай дзейнасьці на карысьць ахвяраў Чарнобылю. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**КАРНІЛОВІЧ Уладзімер** (25.11.1923, в. Таргуны (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — кан. 1980-х — пач. 1990-х, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.01.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Быў старшынём дружыны ЗБК у Бірмінгеме.

**КАРПОВІЧ Алесь** (02.07.1909, Горадня — 1992, ЗША), кампазытар, музыказнаўца, пэдагог, грамадзкі дзеяч. Музычную адукацыю атрымаў на гісторыка-тэарэтычным факультэце Маскоўскай кансэрваторыі. Працаваў як загадчык навуковай часткі й дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі ў Менску. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Заходняй Нямеччыне, дзе працаваў як выкладчык у музычнай школе ў Ольдэнбургу. Пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам БІНіМу.

**КАРЫБА Лявон** (05.08.1926, в. Губы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 26.11.1981, Кітчэнэр, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі — у беларускіх вайсковых фармаваньнях. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Даніі. У 1949 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта, працаваў краўцом. Быў царкоўным старастам парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага. Пахаваны ў Кітчэнэры (Антарыё).

**КАСАК Язэп** (?, Лынтупы (сёньня Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.) — 05.11.1965, Парыж, Францыя), грамадзкі дзеяч. У міжваенны час прыехаў на заробкі ў Францыю, дзе й застаўся да канца жыцьця. Быў сябрам беларускай арганізацыі „Хаўрус“.

**КАСЕНКА Ўладзімер** (05.08.1920, в. Саха (сёньня Драгічынскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 14.05.1992, Брайтан, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. У часе нямецкай акупацыі браў удзел у нацыянальным руху. Пазьней праз Заходнюю Эўропу прыбыў у Італіі, дзе ўступіў у Армію Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў парафіянінам прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваны ў Брайтане.

**КАСМОВІЧ Дзмітры** (21.09.1909, Нясьвіж (сёньня Менская вобл.) — 23.04.1991, Штутгарт, Нямеччына), вайсковы й грамадзкі дзеяч. Скончыў гімназію ў Радашкавічах, вучыўся ў Бэльгіі, Польшчы й Югаславіі. Браў удзел у студэнцкім руху. Служыў у польскім войску. У 1940—1941 гг. вучыўся ў Менскім палітэхнічным інстытуце. З пачаткам нямецкай акупацыі кіраваў аддзелам забесьпячэньня Менскай управы й менскай паліцыяй. У 1941—1943 гг. выконваў абавязкі інспэктара дапаможнай паліцыі прыфронтавай зоны групы армій „Цэнтар“. Браў ак-

тыўны ўдзел у беларускім руху, удзельнічаў у паседжаньні, на якім было абвешчана аб утварэньні аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, Царкоўным саборы, Другім Усебеларускім кангрэсе. Быў адным зь лідараў Беларускай незалежніцкай партыі. Ва Ўсходняй Прусіі служыў у дэсантным батальёне „Дальвіц“, які займаўся падрыхтоўкай дывэрсійных сілаў для барацьбы з савецкай уладай. Ад кастрычніка 1954 г. прызначаны прадстаўніком БЦР у ЦК Антыбальшавіцкага блоку народаў (АБН). У 1954 г. узначаліў Беларускі вызвольны фронт. Жыў у Штутгарце. Пакінуў кнігу ўспамінаў „За вольную і сувэрэнную Беларусь“ (Вільня, 2006). Пахаваны ў Штутгарце.

**КАСТРЫЦКІ Арсень** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1948 г. быў заснавальнікам аддзелу ЗБВБ у Кроўлі.

**КАСЬПЕРСКІ Леанід** (1907, в. Угрын Слонімскага пав. Гарадзенскай губ. — 1993, ЗША), рэлігійны дзеяч. Скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю, пасьля гістарычны й багаслоўскі факультэты Варшаўскага ўнівэрсытэту. У 1929 г. рукапаложаны ў сьвятары. У 1930-х гг. быў дырэктарам і сябрам праўленьня навуковага інстытуту з рэзадэнцыяй у Горадні па перакладзе царкоўных праваслаўных тэкстаў на польскую мову. Пасьля Другой сусьветнай вайны працаваў у лягерах *DP* у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у Канаду, пасьля перабраўся ў ЗША. Служыў у цэрквах Ванкувэру й Сан-Францыска.

**КАСЬЦЮКЕВІЧ Аляксандар** (20.04.1923, в. Навасёлкі (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Кетэрынгу. Ад 01.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КАСЬЦЮКЕВІЧ Аляксандра** (05.05.1907, Ляхавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Лёндане. Ад 20.08.1947 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехала ў Канаду.

**КАСЬЦЮКЕВІЧ Вячаслаў (Віктар)** (16.06.1925, в. Літоўцы (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 1993, Канада), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1952 г. выехаў у Канаду. Быў старшынём і намесьнікам старшыні Згуртаваньня беларусаў Канады.

**КАСЬЦЮШКА Вячаслаў (Вацлаў)** (06.05.1913, Слонім (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Меў вышэйшую адукацыю.

Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пазьней быў сябрам Беларускага вызвольнага руху ў Манчэстэры й адным з удзельнікаў судовых разьбіральніцтваў адносна маёмасьці арганізацыі.

**КАСЯК Іван** (01.11.1909, в. Гіры (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 13.03.1989, Рывэр-Форэст, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат Л. Касяка. У 1941 г. скончыў палітэхнічны факультэт Львоўскага ўнівэрсытэту са спэцыяльнасьцю інжынэра. Падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, актыўны прыхільнік абвяшчэньня аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, адзін з арганізатараў Царкоўнага сабору БПЦ у 1942 г. У 1944 г. — намесьнік Прэзыдэнта БЦР на Глыбоцкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне быў адным з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб'еднаньня. Не прызнаў аднаўленьня БАПЦ пад кіраўніцтвам *Сергія (*Ахатэнкі) і аднаўленьня Рады БНР пад кіраўніцтвам *М. Абрамчыка*. У траўні 1948 г. узяў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР, у 1948—1951 гг. узначальваў Сакратарыят БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, затым ад 1978 г. — у Рывэр-Форэсьце (Ілінойс). У 1957—1989 гг. быў старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Быў сябрам Беларускага вызвольнага фронту, браў удзел у антыкамуністычных канфэрэнцыях у розных краінах сьвету, куды езьдзіў за ўласны кошт. Аўтар кніг „З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу“ (1956), „Byelorussia: historical outline…“ (1989), „Другая сусьветная вайна на Беларусі і паваенны час“ (выдрукавана ў кнізе „Беларусь учора і сяньня“, Менск, 1993). Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**КАСЯК Лявон** (на эмігр. **Касоўскі**, 10.01.1920, в. Гіры (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 29.11.2008, ЗША), брат *І. Касяка*. Вучыўся ў Вялейцы, а потым у Віленскай беларускай гімназіі. У часе нямецкай акупацыі ўзначальваў Маладэчанскую павятовую паліцыю. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Скончыў Лёнданскі ўнівэрсытэт з дыплёмам інжынэра-мэханіка. Пераехаў у ЗША, дзе атрымаў таксама дыплём інжынэра ва ўнівэрсытэце Дрэксэля ў Філядэльфіі. У сярэдзіне 1950-х гг. ажаніўся з дачкой а. *Мікалая Лапіцкага* Лёляй. Працаваў як інжынэр у кампаніі *Trans-America Delaval*. Падтрымоўваў беларускія арганізацыі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**КАХАНОЎСКАЯ Іна** (дзяв. **Рытар**, у першым шлюбе **Сеўрук**, псэўд. **Аляксандра Саковіч**, 27.12.1906, Адэса (сёньня Ўкраіна) — 08.01.1997, Кліўлэнд, ЗША), пісьменьніца, грамадзкая дзяячка, другая жонка *А. Каханоўскага*. Ад 1921 г. жыла ў Менску, вучылася ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме, скончыла гістарычнае аддзяленьне пэдфакультэту БДУ. Працавала выкладчыцай беларускай мовы й літаратуры. Першы муж (ажаніліся ў 1930 г.) быў высланы на Калыму. З малой дачкой вярнулася ў Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі жыла на радзіме бацькоў у Ярэмічах (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.), настаўнічала, была выкладчыцай у Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў беларускім лягеры *DP* у Рэгенсбургу, выкладала нямецкую й ангельскую мовы ў беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Тут у выніку трагічнага выпадку загінула дачка. У 1950 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку, брала ўдзел у нацыянальным грамадзкім жыцьці, уваходзіла ў Галоўную ўправу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, управу БІНіМу. У 1955 г. узяла шлюб з *А. Каханоўскім* і пераехала ў Кліўлэнд. Выкладала ў беларускай суботняй школцы, займалася літаратурнай творчасьцю. У 1986 г. выйшаў збор твораў „У пошуках праўды“. Пахаваная ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**КАХАНОЎСКАЯ Яніна** (дзяв. **Шабуня**, 26.11.1905, Менск — 16.07.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, пляменьніца Івана й Антона Луцкевічаў, першая жонка *А. Каханоўскага*, маці *Ю. Андрусішынай*. Скончыла Менскую польскую гімназію й агульнаадукацыйныя курсы, працавала мэдычнай лябаранткай. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Пасялілася ў Нью-Ёрку. Брала ўдзел у дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, была сакратаром Галоўнай управы, уваходзіла ў кіраўніцтва жаночых структураў арганізацыі, а таксама ва ўправы Нью-Ёрскага й Мангэтанскага аддзелаў. Сябра рэдкалегіі газэты „Беларус“ і БІНіМу. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КАХАНОЎСКІ Аўген** (да эмігр. **Калубовіч**, 05.03.1912, в. Ціхінічы (сёньня Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл.) — 25.05.1987, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык, муж *І. Каханоўскай* і *Я. Каханоўскай*. У 1930 г. скончыў Бабчынскі пэдтэхнікум, быў асуджаны за „беларускі нацыяналізм“ і высланы на тры гады ў Сыбір. У 1934—1939 гг. выкладаў у Менску й вучыўся ў Менскім пэдагагічным інстытуце. Пасьля працаваў кансультантам-мэтадыстам у Наркамасьветы БССР. З пачаткам нямецка-савецкай вайны мабілізава-

ны ў армію, трапіў у нямецкі палон пад Масквой. Вызваліўшыся, жыў у Менску, кіраваў аддзелам культуры Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў Беларускае культурнае згуртаваньне. Падчас Другога Ўсебеларускага кангрэсу — аўтар асноўнага дакладу „Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквой і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах“, па выніках якога была прынята рэзалюцыя, якая ў завуаляванай форме абвяшчала незалежнасьць Беларусі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў беларускую мову й літаратуру ў беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Ад 1947 г. быў кіраўніком Ураду БНР. Ад 1950 г. жыў у ЗША, спачатку ў Нью-Ёрку, а ад сярэдзіны 1950-х гг. — у Кліўлэндзе. Быў адным зь лідараў беларускага жыцьця ў Кліўлэндзе. У 1953 г. стаў старшынём Злучанага беларускага камітэту ў Кліўлэндзе, выдаваў яго „Бюлетэнь“. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1952—1955 гг. — старшыня Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. У сярэдзіне 1950-х гг. выйшаў з Рады БНР і БАЗА. Аўтар шэрагу прац па гісторыі й культуры Беларусі. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**КАЧАН Аркадзь** (13.05.1921, в. Барсукі (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 04.12.1982, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *В. Качан*. Нарадзіўся ў сям’і настаўнікаў. Вучыўся ў Дзісенскай польскай гімназіі, у 1941 г. скончыў дзесяцігодку ў Маладэчне. Пазьней працаваў сакратаром суду ў Глыбокім. Па сканчэньні курсаў каманднага складу Беларускай самааховы ў Лебедзеве каля Маладэчна кіраваў ротай у Вялейскай акрузе. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, некалькі гадоў правёў у лягеры *DP* у Розэнгайме. Ад 1950 г. жыў у Аўстраліі. Адзін з заснавальнікаў і доўгагадовы сакратар Беларускага аб’еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. Сябра Рады БНР, Беларускага культурна-грамадзкага клюбу й Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Пры канцы 1970-х гг. — беларускі прадстаўнік у Выканаўчым камітэце Этнічнай рады ў Новай Паўднёвай Валіі. Адзін са стваральнікаў і каардынатар беларускага радыё ў Сыднэі. Сталы фундатар беларускіх выданьняў і ўстановаў на эміграцыі. Дасылаў беларускую літаратуру ў бібліятэкі аўстралійскіх унівэрсытэтаў. Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**КАЧАН Вольга** (дзяв. **Сьвідэрская**; нар. 23.07.1928, Пачаеў (сёньня Цярнопальская вобл., Украіна)), грамадзкая дзячка, жонка *А. Качана*. Нарадзілася ва ўкраінскай сям’і. Вучылася ў Варшаве ва ўкраінскай школе імя Лесі Ўкраінкі, затым — у Чэхаславакчыне. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны працавала перакладчыцай ва

ўстановах *UNRRA* і *IRO* у Нямеччыне. У 1950 г. пераехала ў Аўстралію, дзе пабралася шлюбам з *А. Качаном*. Скончыла гуманістычны факультэт Сыднэйскага ўнівэрсытэту, дзе ад 1966 г. працавала выкладчыкам псыхалёгіі. Прафэсар, ганаровы сябра ўнівэрсытэту, спэцыялізуецца на псыхалінгвістыцы, мае ўзнагароду як выдатны выкладчык. Удзельніца розных украінскіх, аўстралійскіх і міжнародных навуковых канфэрэнцыяў і арганізацыяў. Першая кіраўніца Аб'еднаньня праваслаўных сястрыцтваў Аўстраліі й Новай Зэляндыі. Разам з мужам падтрымлівала шчыльныя сувязі зь беларускай грамадой Сыднэю. У 1980 г. на канфэрэнцыі ў Канбэры выступала з рэфэратам па гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. Аўтар артыкула пра беларусаў у Аўстраліі ў энцыкляпэдыі *The Australian People: an Encyclopedia of the Nation, its People and their Origins*. Актыўна ўдзельнічала ў працы Беларускага культурна-грамадзкага клюбу, а таксама падрыхтоўцы беларускіх радыёпраграмаў у Сыднэі. Рэгулярна перадавала беларускія часопісы ў бібліятэку Сыднэйскага ўнівэрсытэту. Ахвяравала сродкі на падтрымку беларускіх эміграцыйных выданьняў.

**КАЧАН Уладзімер** (27.03.1918, в. Грылеўшчына Вялейскага пав. (?) — ?), вайсковы дзеяч. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у нямецкі палон, супрацоўнічаў зь нямецкай выведкай. У 1941 г. быў прызначаны кіраўніком разьведвальна-дывэрсійнай школы ў м. Ламсдорф (цяпер Польшча). 22.06.1941 дэсантаваўся на чале групы дывэрсантаў на тэрыторыю БССР. У часе нямецкай акупацыі служыў у менскай паліцыі парадку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У студзені 1945 г. уступіў у штурмавую брыгаду „Беларусь". Пазьней служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Празь некаторы час выехаў у Францыю.

**КАЧАНОЎСКІ Базыль** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КВІСЮК Аркадзі** (16.08.1916, в. Сяўкевічы Лунінецкага пав. (?) — 31.05.1974, Маркет-Харбар, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Маркет-Харбары. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Маркет-Харбары на мясцовых могілках.

**КВЯТКЕВІЧ Антон** (03.08.1920, в. Кузьмічы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.03.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КЕДРЫК Васіль** (або Барыс) (20.07.1925, Менск— ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у хостэле ў Брыджтаўне. Ад 14.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1950-х гг. уваходзіў ва ўправу Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Ланкашыры.

**КЕНДЫШ Васіль** (16.03.1908, в. Чарапы, Нясьвіскі пав. (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 01.10.2003, Спрынгфілд, Масачусэтс, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. У 1929 г. скончыў Клецкую беларускую гімназію. Працаваў мэліяратарам, арганізоўваў беларускі хор і драматычныя гурткі. Потым пераехаў у Пятркоў у Польшчы, дзе дапамагаў дзядзьку ў працы на млыне. Па павароце з акупаванай немцамі Польшчы быў арыштаваны бальшавікамі й інтэрнаваны, але па пэўным часе адпушчаны. Вярнуўшыся дадому, працаваў у Горнаўскай сямігадовай школе настаўнікам, а пасьля дырэктарам. У гэты час ажаніўся з Марыяй Яскевіч, якая таксама працавала настаўніцай у гэтай школе. Пераехаўшы ў Стоўпцы, далей працаваў настаўнікам і скончыў Настаўніцкі інстытут у Беластоку. Браў актыўны ўдзел у працы беларускіх адміністрацыйных структураў падчас нямецкай акупацыі. Працаваў на розных пасадах у Баранавічах, Нясьвіжы, Клецку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягерах *DP* у Нямеччыне. Быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэту на амэрыканскую зону акупацыі. Актыўны ўдзельнік аднаўленьня БАПЦ. Вясною 1949 г. выехаў у ЗША. Адзін з актыўных арганізатараў беларускага жыцьця й беларускай нацыянальнай царквы. 10.01.1968 у Гайлэнд-Парку быў рукапакладзены ў сьвятары. У 1972 г. на Другім Саборы БАПЦ быў абраны сакратаром Кансысторыі. Пазьней ачольваў парафіі Сьв. Маці Жыровіцкай у Гайлэнд-Парку й Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, дзе заставаўся да 1981 г. У 1990 г. выйшаў на заслужаны адпачынак. Пахаваны ў Спрынгфілдзе.

**КІПЕЛЬ Вітаўт** (нар. 30.05.1927, Менск), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, сын *М. і Я. Кіпеляў*, муж *З. Кіпель*. У 1933—1942 гг. разам з бацькамі жыў у Расеі. Потым вучыўся ў Менску, пакуль у 1944 г. ня выехаў з бацькамі ў Нямеччыну. У 1945—1948 гг. вучыўся ў беларускай гімназіі імя Я. Купалы, займаўся скаўтынгам. Потым паступіў на мэдычны факультэт Цюбінгенскага ўнівэрсытэту. У 1953 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт са спэцыяльнасьцю геоляга, а ў 1955 г. атрымаў ступень доктара мінэралёгіі. Быў заступнікам старшыні Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Пра-

цаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтымарскім унівэрсытэце (штат Мэрылэнд). У 1959—1985 гг. — у Дасьледным цэнтры навукі й тэхналёгіі Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі (у т. л. на пасадзе выканаўчага дырэктара). У 1962—1963 гг. вучыўся ў Ратгерскім унівэрсытэце (Нью-Джэрзі) па спэцыяльнасьці бібліятэказнаўства. Лідар беларускага рэспубліканскага руху. Пры канцы 1960-х гг. выкладаў у беларускай школе ў Брукліне. У 1960—1980-х гг. супрацоўнічаў з Радыё „Свабода“. У 1972—1982 гг. — старшыня Фэдэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клюбаў. У 1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай фэдэрацыі штата Нью-Джэрзі. Рэдактар газэты нью-джэрзійскіх рэспубліканцаў *Heritage Review*. Заснавальнік і дырэктар беларускіх фэстываляў у Нью-Джэрзі (1976—1979). У 1972 г. у Вашынгтоне абраны на заступніка старшыні Нацыянальнай канфэдэрацыі амэрыканскіх этнічных груп. У 1975 г. узнагароджаны мэдалём Паняволеных народаў Эйзэнхаўэра. У 1978—1982 гг. — старшыня Этнічнай рады штату Нью-Джэрзі. Ад 1982 г. — старшыня БІНіМу. Аўтар працы „Беларусы ў ЗША“ (1993 г.; англамоўнае выданьне 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у т. л. артыкулаў беларусазнаўчай тэматыкі ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**КІПЕЛЬ Зора** (дзяв. **Савёнак**, 01.07.1927, Менск — 14.04.2003, Нью-Джэрзі ЗША), грамадзкая дзяячка, бібліёграф, літаратуразнаўца, дачка *А.* і *Л. Савёнкаў*, жонка *В. Кіпеля*. У 1936—1941 гг. у сувязі з высылкай бацькі жыла з маці ў Крычаве. Па вяртаньні ў Менск вучылася ў беларускай школе, потым у настаўніцкай сэмінарыі. Працавала ў „Беларускай газэце“ й газэце „Голас вёскі“. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1945—1948 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, потым на мэдычным факультэце Цюбінгенскага ўнівэрсытэту. Арганізатарка беларускага дзявочага скаўтынгу ў амэрыканскай зоне, стваральніца беларускіх бібліятэк у Міхельсдорфе й Остэргофэне. У 1949—1954 гг. вучылася на хімічным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту, які скончыла з дыплёмам магістра. Сябра Саюзу беларусаў Бэльгіі, удзельніца Беларускага студэнцкага хору. У 1955 г. прыехала ў ЗША. Спачатку працавала ў Балтымары ў лябараторыі Дж. Хопкінса. У 1956 г. пабралася шлюбам з *В. Кіпелем* і пазьней пераехала ў Ратэрфорд (Нью-Джэрзі). У 1966 г. скончыла Ратгерскі ўнівэрсытэт (Нью-Джэрзі) са ступеньню магістра бібліятэказнаўства й інфармацыйных тэхналёгій і пачала працу ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы (*NYPL)*. Была адной з ініцыятараў увядзеньня кампутарнай каталягізацыі ў бібліятэчнай сыстэме ЗША. У 1982 г. заняла пасаду намесьніка кіраўніка Славянска-

балцкага аддзелу *NYPL*. У 1986г. — скончыла факультэт параўнальнага літаратуразнаўства Ратгерскага ўнівэрсытэту. Сябра Амэрыканскай асацыяцыі славістаў. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1979—1983 гг. — сакратаром Галоўнай управы арганізацыі. У 1980—1990-х гг. была рэдактарам і сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус". Радная БНР, сябра БІНіМу. У 1998 г. разам з мужам перадала на захаваньне ў *NYPL* унікальную калекцыю беларускай эміграцыйнай пэрыёдыкі, на падставе якой была складзеная й выдадзеная грунтоўная „Бібліяграфія беларускага і беларусаведнага друку на Захадзе" (першае выданьне: 2003—2004 гг., дзьвюх другое — 2006 г.). Аўтарка больш як дзьвюхсот беларусаведных публікацыяў у шэрагу навуковых выданьняў, найперш у галіне беларускай літаратуры й крыніцазнаўства, складальніца шэрагу бібліяграфіяў. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КІПЕЛЬ Марыя** (дзяв. **Зубкоўская**, 14.01.1904, Менск — 14.12.1992, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Я. Кіпеля*, маці *В. Кіпеля*. У 1927—1931 гг. вучылася на літаратурна-лінгвістычным факультэце Беларускага дзяржаўнага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту. У 1933—1942 гг. жыла ў Расеі, куды паехала сьледам за асуджаным мужам. Працавала настаўніцай. У 1942 г. вярнулася з мужам і сынам у Менск, адкуль у 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Пасьля Другой сусьветнай вайны працавала настаўніцай у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе. У 1949 г. выехала ЗША. Жыла з мужам у Нью-Джэрзі. Пахаваная ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**КІПЕЛЬ Яўхім** (12.10.1898, в. Байлюкі Бабруйскага пав. (сёньня Глускі р-н Магілёўскай вобл.) — 27.07.1969, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, бацька *В. Кіпеля,* муж *М. Кіпель*. У часе Першай сусьветнай вайны — паручнік царскай арміі, ваяваў на Румынскім і Паўднёвым франтах. У 1918—1921 гг. — у Чырвонай Арміі. Ад 1921 г. жыў у Менску, быў сябрам Тэрміналягічнай камісіі Наркамату асьветы, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Арыштаваны ў 1930 г. па справе Саюзу вызваленьня Беларусі й высланы на пяць гадоў у Вяцкую вобласьць, у 1935 г. арыштаваны паўторна й высланы на Далёкі Ўсход. У 1942 г. вярнуўся ў Менск, працаваў у Галоўным школьным інспэктараце, рэдакцыі газэты „Голас вёскі", займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Браў удзел у грамадзка-палітычным руху, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газэту „Беларускае

слова“, быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Стварыў Асацыяцыю былых палітвязьняў савецкіх лягераў. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**КІРКА Барыс** (нар. у 1928 г., в. Валокі (сёньня Хойніцкі р-н Гомельскай вобл.), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Цягам дзесяці гадоў быў старшынём царкоўнай рады парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**КІРКА Вольга** (дзяв. **Жаўняк**, 03.10.1902, в. Валокі (сёньня Хойніцкі р-н Гомельскай вобл.) — 19.01.1985, Садбуры, Кадана), царкоўная актывістка, маці *Б. Кіркі*. Пры канцы 1920-х гг. сям'я была раскулачаная. У 1943 г. выехала ў Нямеччыну. У 1951 г. прыехала ў Канаду. Жыла ў Садбуры, Таронта. Належала да парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**КІРКЕВІЧ Аўген** (13.12.1905 — 10.10.1978, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў прыхільнікам БЦР.

**КІРЫЛІК Сьцяпан** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны быў у Нямеччыне. У беларускай гімназіі ў Остэргофэне выкладаў фізічнае выхаваньне. Адзін зь лідараў беларускіх скаўтаў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1950-х гг. пераехаў у ЗША.

**КІСЕЛЬ Піліп** (?, Ляхавічы (сёньня Берасьцейская вобл. — 14.02.1966, Вулвэргэмптан, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Вулвэргэмптане. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Бірмінгеме. Пахаваны ў Вулвэргэмптанс на могілках *Jeffcock Road Cemetery*.

**КІСЛЫ Канстанцін** (25.05.1898, г. Ленчыца (сёньня Лодзінскае ваяв., Польшча) — 08.01.1980, Беласток, Польшча), грамадзка-культурны дзеяч, хормайстар. У часе Першай сусьветнай вайны эвакуяваўся зь сям'ёй у Марыупаль (паўднёвая Ўкраіна), вучыўся, а затым выкладаў сьпевы й кіраваў хорам у Марыупальскай настаўніцкай сэмінарыі. Некаторы час жыў у Турцыі, каля Стамбулу. Ад 1921 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Кіраваў хорам слонімскай царквы. Ад 1933 г. жыў у Беластоку, быў рэгентам царкоўнага хору й хору Таварыства беларускай школы. У 1939 г. арыштаваны савецкай уладай, сядзеў у лягеры. З пачаткам нямецка-савецкай вайны вярнуўся ў Беласток, супрацоўнічаў зь мясцовым Беларускім камітэтам, кіраваў Ансамблем беларускай песьні й танцу. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, ад 1948 г. — у Бэльгіі, працаваў у вугальных капальнях. Пасьля сьмерці кіраўніка

лювэнскага Беларускага студэнцкага хору *М. Равенскага* быў запрошаны дырыгаваць хорам. У траўні 1956 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Кіраўнік беларускіх музычных калектываў і драматычнага гуртку ў Кліўлэндзе. Увосень 1976 г. выехаў да дачкі ў Польшчу. Жыў у Беластоку.

**КІСЛЫ Янка** (05.11.1915, в. Есманоўцы каля Вязыні (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл) — ?), грамадзкі дзеяч. Ад 07.08.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**КІТ Барыс** (нар. 06.04.1910, Санкт-Пецярбург, Расея), навуковец, грамадзкі дзеяч. Скончыў фізыка-матэматычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. Быў выкладчыкам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, у 1939—1941 гг. — дырэктарам Наваградзкай беларускай гімназіі. У 1943—1944 г. – заснавальнік і дырэктар Маладэчанскай гандлёва-тэхнічнай школы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У студзені 1948 г. пасяліўся ў ЗША, спачатку жыў у Саўт-Рывэры, у 1949—1950 гг. узначальваў Злучаны беларуска-амэрыканскі дапамаговы камітэт. У 1950 г. выехаў у Лос-Анджэлес (Каліфорнія), дзе стварыў аддзел ЗБАДК. У 1951—1955 г. быў другім віцэ-старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У сярэдзіне 1950-х, зь пераездам у Вашынгтон, адышоў ад актыўнай грамадзкай дзейнасьці. Працаваў у амэрыканскай касмічнай прамысловасьці. У 1972 г. пераехаў у Нямеччыну. Жыве ў Франкфурце.

**КЛІМОВІЧ Уладыслаў** (03.05.1923, Глыбокае (сёньня Віцебская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.01.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У тым жа годзе выехаў у Аргентыну.

**КЛІНЦЭВІЧ Даніла** (22.12.1905, в. Макуці Ашмянскага пав. Віленскай губ. (сёньня Іўейскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.10.1967, ЗША), вайсковы й грамадзкі дзеяч, пляменьнік *М. Абрамчыка*. Да беларускага руху далучыўся ў міжваенны час. У часе нямецкай акупацыі служыў у 13-м батальёне СД. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1959—1960, 1961—1964 гг. — старшынём Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Сябра Згуртаваньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Адзін з ініцыятараў выданьня газэты „Беларус“. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КЛІШЭВІЧ Уладзімер** (12.03.1914, в. Краснадворцы (сёньня Салігорскі р-н Менскай вобл.) — 14.11.1978, Лос-Анджэлес, ЗША),

пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Па заканчэньні настаўніцкіх курсаў працаваў настаўнікам у Слуцку, ад 1933 г.— студэнт Менскага пэдагагічнага інстытуту. У 1936 г. быў рэпрэсаваны, сасланы на Калыму. У жніўні 1940 г. вернуты на дасьледаваньне ў Менск. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Слуцку, рэдагаваў „Газэту Случчыны“. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Ад 1948 г. жыў у ЗША. Друкаваў вершы ад 1931 г. Выдаў зборнік вершаў „Далячынь“ (1965) і паэму „Васіль Каліна“ (1965). У Менску быў выдрукаваны зборнік „Сняцца сны мне залатыя“ (1973).

**КЛУНІЦКІ Ўладзімер** (20.05.1912, Менск (?) — 27.08.1974, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, выдавец. Меў адукацыю агранома. У 1948 г. прыехаў у Аўстралію, дзе адразу стаў адным з актыўных арганізатараў беларускага жыцьця. Удзельнічаў у стварэньні першага беларускага клюбу й агульнага Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі (пазьней перайменаванага ў Беларускае аб'еднаньне ў Аўстраліі). У межах дзейнасьці гэтых арганізацыяў наладзіў выданьне часопіса „Новае жыцьцё“ і ўдзел беларусаў у першых міжнацыянальных выставах „новых аўстралійцаў“. Пасьля расколу Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі ў 1952 г. далучыўся да Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі, але хутка выйшаў з гэтай арганізацыі й стварыў групу „незалежнікаў“, афіцыйнай структурай якіх праз некаторы час стала Беларуска-аўстралійскае незалежнае аб'еднаньне. Падтрымліваў сувязі з *С. Хмарам* у Канадзе й ягонымі выданьнямі „Беларускі голас“ і „Баявая ўскалось“, на старонках якіх рэгулярна друкаваўся. Быў ідэолягам „надпартыйнасьці“ ў Аўстраліі. У 1954 г. выдаў брашуру „Першыя крокі“, прысьвечаную пачаткам беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Аўстраліі й падзеям расколу. У 1955—1956 гг. спрабаваў аднавіць выданьне ўласнага часопіса пад назвай „Да перамогі“, але выйшлі толькі два нумары.

**КЛЫБІК Лаўрын** (23.10.1928, в. Хадзявічы (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 09.01.2005, Бэльгія), грамадзкі дзеяч, навуковец, спэцыяліст у галіне фармакалёгіі й гамэапатыі. Вучыўся ў беларускай школе ў Слоніме. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, адкуль трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, потым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 01.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, абіраўся ў Галоўную ўправу арганізацыі ў 1952 г. Ад 1949 г. быў таксама сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У Лёндане вучыўся на вечаровых курсах у Фінчлі-каледж і, атрымаўшы атэстат аб сярэдняй адукацыі, выехаў на навучаньне ў Бэльгію. У 1958 г. скончыў фармацэўтычны факультэт

Лювэнскага ўнівэрсытэту з дыплёмам аптэкара. У 1962 г. здаў дадатковыя экзамэны й стаў працаваць кіраўніком аптэкі ў Брусэлі, потым ў Мэхелене, а ў 1966 г. адчыніў уласную аптэку. У 1977 г. пастуліў на курсы гамэапатычнай школы ў Брусэлі і ў 1981 г. адчыніў яшчэ й сваю лябараторыю. У 1991 г. абараніў дысэртацыю „Кава й яе ўзьдзеяньне на чалавечы арганізм“ і быў прыняты ў Асацыяцыю гамэапатаў Бэльгіі. Праца выклікала вялікую цікавасьць у Бэльгіі й за мяжой, была апублікаваная ў спэцыялізаваных часопісах Бэльгіі, Францыі й Беларусі. Таксама аўтар працы „Прапаліс і дзеяньне радыяцыі на жывы арганізм“. У 1994 г. прыяжджаў у Беларусь. Наладзіў супрацоўніцтва зь беларускімі мэдыкамі для апрабацыі гамэапатычнага сродку супраць хваробаў, выкліканых радыяцыяй на тэрыторыі Беларусі, забруджанай радыянуклідамі ў выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**КЛЮТКО Мікалай** (01.09.1922—03.04.1992, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў кіраўніком аддзелу Беларускага вызвольнага фронту ў Нотынгеме. Актывіст мясцовай парафіі Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме.

**КЛЯЙНОЎ Бэнэдыкт** (14.03.1926, Наваельня (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 17.07.1985, Лідс, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Навагрудзкай беларускай гімназіі. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, зь якой трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, а адтуль у Другі польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, кіраваў прэзыдыюмам Першага зьезду арганізацыі, пазьней быў сябрам Галоўнай управы. Атрымаў дыплём будаўнічага інжынэра ў Манчэстэрскім унівэрсытэце. У 1949 г. быў адным з ініцыятараў стварэньня Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, кіраваў дружынай у Манчэстэры. Потым перабраўся ў Брадфард. Уваходзіў ва ўправу Беларускага грамадзкага клюбу „Сакавік“. Быў актывістам БАПЦ, кіраваў Вікарыяльнай управай БАПЦ у Вялікабрытаніі й быў старшынём парафіяльнага камітэту прыхода Сьв. Спаса ў Брадфардзе. Памёр у шпіталі Сьв. Якава ў Лідсе, пахаваны ў Брадфардзе.

**КОЙКА Алесь** (01.02.1923, в. Гаўрыльчыцы Лунінецкага пав. (сёньня Салігорскі р-н Менскай вобл.) — 29.06.1987), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Уваходзіў у Беларускі камітэт сяброўства, Акруговы цэнтар Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Ёркшыры. Аднак у 1952 г. стаў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, быў скарбнікам аддзелу ў

Брадфардзе. Ад 1951 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, уваходзіў у дружыну ў Брадфардзе. Пазьней, верагодна, зьехаў у ЗША.

**КОЛЕС Мікола** (да эмігр. **Калесьніковіч**, нар. 12.05.1932), грамадзкі дзеяч, малодшы брат *У. Калесьніковіча*. У 1946—1947 гг. вучыўся ў польскай школе лягеру Маервік каля Фленсбургу, пасьля чаго ўся сям'я перабралася ў беларускі лягер Ватэнштэт, дзе скончыў 4 клясы беларускай гімназіі. У 1950 г. пераехаў у Аўстралію. У Адэляйдзе далучыўся да грамадзкага жыцьця. На працягу 1987—1999 г. быў старшынём Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі. Спрыяў адкрыцьцю беларускай экспазыцыі ў Этнічным музэі ў Адэляйдзе, а таксама пабудове сумесна з харватамі і ўкраінцамі хастэлю Сьв. Ганны (дому для старых асобаў).

**КОЛЬБА Тамара** (дзяв. **Стагановіч**, псэўд. **Ст. Тамара,** нар. 15.11.1930, в. Нясутычы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.)), мастачка, грамадзкая дзяячка, дачка *А.* і *М. Стагановічаў*. Вышэйшую адукацыю ў мастацтве атрымала ў Вэстэрн коледжы ў Оксфардзе (штат Агаё) і Калюмбійскім унівэрсытэце ў Нью-Ёрку. Вывучала літаграфію й графіку ў Лізе студэнтаў-мастакоў. Удзельнічала ў беларускіх выставах і фэстывалях у ЗША. У 1994 г. мела пэрсанальную выставу ў Менску.

**КОМАР Анатоль** (1902, Менск — ?), інжынэр, грамадзкі дзеяч. У 1920-х гг. быў сябрам гуртку беларускай моладзі „Хата". У 1930-х гг. — дацэнт Менскага палітэхнічнага ўнівэрсытэту, быў рэпрэсаваны й высланы ў Сыбір. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадзкой управе. Пасьля забойства В. Іваноўскага ў сьнежні 1943 г. прызначаны бургамістрам Менску. 05.04.1944 быў прызначаны намесьнікам БЦР на горад Менск. Браў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Удзельнічаў у бэрлінскіх паседжаньнях БЦР, падтрымліваў супрацоўніцтва з А. Уласавым, увайшоў у Беларускі камітэт пры Камітэце вызваленьня народаў Расеі. Нейкі час меў кантакты з БНР, браў удзел у Зьездзе беларускай эміграцыі ў Парыжы (1948) і стварэньні Сусьветнага аб'еднаньня беларускай эміграцыі (САБЭ). Эміграваў у Бэльгію, дзе адышоў ад беларускай дзейнасьці, ушчыльную заняўшыся радыёвынаходніцтвамі. Затым пераехаў у Канаду, зьмяніў прозьвішча, меў некалькі патэнтаў.

**КОНАН Вячаслаў** (02.06.1922, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у паліцыі парадку, потым у 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, а пазьней ў Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 11.08.1947 быў сябрам Згурта-

ваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выступіў на ўласнае жаданьне. Ад 1949 г. быў сябрам управы Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Ланкашыры. Пазьней, магчыма, выехаў у Аўстралію.

**КОНЮХ Пётра** (08.03.1910, в. Турэц (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 14.07.1994, Канада), грамадзкі дзеяч, сьпявак. У 1940 г. рэпрэсаваны й вывезены ў Сыбір. У 1941 г. далучыўся да Другога Польскага корпусу. Ваяваў у Палестыне, Паўночнай Афрыцы, Італіі, браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У 1945 г. атрымаў стыпэндыю для навучаньня ў Рымскай акадэміі мастацтваў, якую скончыў у 1951 г. Потым выступаў у Італіі, езьдзіў з гастролямі па Эўропе й Амэрыцы. Удзельнік хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам С. Жарава. Пераможца Міжнароднага конкурсу маладых вакалістаў у Рыме. Ад сярэдзіны 1950-х гг. жыў у ЗША. Выступаў з канцэртамі, опэрнымі арыямі. Пры канцы жыцьця перабраўся ў Канаду. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КОПКА Мікалай** (20.10.1915, Ліда (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выступіў на ўласнае жаданьне.

**КОТ Аляксандар** (04.05.1922, Мір (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КОЎШ Сьвятаслаў** (07.01.1917, Вільня (паводле іншых зьвестак — мястэчка Ільля (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 05.11.1997, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар. Скончыў факультэт права Віленскага ўнівэрсытэту, сябра Беларускага студэнцкага саюзу. У 1938 г. высьвечаны на дыякана. У 1938—1939 гг. быў псаломшчыкам у Засульлі (Стаўпецкі р-н), у 1939—1941 гг. працаваў тамсама настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам Клецкага павету. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў камэндантам беларускага лягеру *DP* у Ватэнштэце. У 1949 г. выехаў у ЗША. Адзін з ініцыятараў стварэньня беларускай праваслаўнай парафіі ў Саўт-Рывэры. У 1951—1957 гг. быў віцэ-старшынём Галоўнай управы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1969—1976 гг. — настаяцель парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, у 1976—1986 гг. — парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Па сьмерці а. *М. Лапіцкага* — ад 1976 г. — быў адміні-

стратарам беларускіх (кананічных) парафіяў у Паўночнай Амэрыцы. Аўтар кніг: „Тры легенды“ (1946), „Запавет бацькі“ (1948), „Лягер Ватэнштэт“ (1976), „Русальчына бальляда“ (1980), „Беларускі лягер у Ватэнштэт“ (1981). Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**КРАСКОЎСКІ Сэрафім** (?, Віленшчына — ?, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. Стаў праваслаўным сьвятаром яшчэ да Другой сусьветнай вайны. Быў высланы ў Сыбір, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Служыў капэлянам 2-й Варшаўскай танкавай дывізіі. У 1947 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад сакавіка 1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Спрабаваў арганізаваць праваслаўную беларускую парафію ў Брадфардзе, аднак мясцовыя беларусы не пажадалі належаць да юрысдыкцыі ПАПЦ. У хуткім часе быў пазбаўлены сяброўства ў ЗБВБ. Захварэў. Скончыў жыцьцё ў шпіталі для псыхічна хворых.

**КРАСНОЎСКІ Сьцяпан** (?, Ліда — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 08.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак у знак пратэсту супраць расколу ў арганізацыі выйшаў зь яе.

**КРАЎЦОЎ Віктар** (18.09.1926, Рагачоў (сёньня Гомельская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 10.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**КРАЎЦЭВІЧ Мікола** (22.12.1921 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 03.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КРАЎЦЭВІЧ Ніл** (25.09.1900 — 23.04.1967, ЗША), грамадзкі дзеяч. Удзельнік Сабора ў Канстанцы ў 1948 г., дзе была адноўлена БАПЦ. Пазьней выехаў у ЗША. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**КРАЎЧЫК Мікола** (?, в. Янаў на Піншчыне (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у *Bluntisham, Hunt's*. Ад 25.05.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**КРУКОЎСКІ Язэп** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апы-

нуўся ў Вялікабрытаніі. Ад сьнежня 1946 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КРУПІ Стэфан** (15.10.1910, в. Глебава (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КРУШЫНА Рыгор** гл. **КАЗАК Рыгор**

**КРЫТ Аляксандар** гл. **АНДРЭЙ**

**КРЫЎКО Сяргей** (09.06.1921, в. Восьцевічы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 10.09.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Выехаў у ЗША.

**КУДАРЭНКА Анатоль** (29.04.1923, Беласточчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУДАСАЎ Аўген** (09.05.1922 — 04.07.1983, ЗША), грамадзкі дзеяч, інжынэр. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**КУДРУК Янка** (14.04.1914—20.05.84, Мэльбурт, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Капітан БКА. У 1949 г. зь Нямеччыны разам зь сям’ёй пераехаў у Аўстралію. Актыўны ўдзельнік грамадзкага жыцьця беларусаў у Мэльбурне. Адзін з заснавальнікаў і першы кіраўнік Беларускага аб’еднаньня ў Вікторыі. Удзельнік стварэньня ў Мэльбурне арганізацыі Беларускага вызвольнага руху ў 1953 г. Аднак па канец 1950-х гг. адышоў ад актыўнага ўдзелу ў грамадзкай дзейнасьці беларусаў з прычыны непрыманьня міжгрупавой барацьбы. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**КУЖАЛЕВІЧ Аляксандар** (21.03.1922, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 08.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУКЕЛЬ Часлаў** (17.01.1915, засьц. Маркі каля Прыдруйску (Латвія) —20.04.1977, Бон, Нямеччына), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў беларускай гімназіі ў Дзьвінску, потым у 1942—1943 гг. — у Беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Вільні, а пасьля яе — каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Вільні. У 1944 г. разам з сэмінарыяй быў эвакуяваны ў Баварыю, а пазьней — у Рым. Скончыўшы курс філязофіі пакінуў сэмінарыю, перабраўся ў Вялікабрытанію. Ад 10.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1947 г. уваходзіў у Галоўную ўправу арга-

нізацыі. Браў удзел у выданьні часопіса „На шляху“. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Адзін з заснавальнікаў Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’еднаньня „Жыцьцё“, а пазьней Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб’еднаньня „Рунь“. У пачатку 1950-х выехаў на навучаньне ў Лювэнскі ўнівэрсытэт, аднак ня скончыў яго й перабраўся ў Заходнюю Нямеччыну. Працаваў ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы ў Боне. Памёр у шпіталі ў Боне, пахаваны на могілках у Сьвісталь-Міль.

**КУКЛІНСКІ Янка** (01.03.1916, в. Кавалёўцы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУЛАКОЎСКІ Аляксандар** (25.03.1925, в. Тулічава (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 18.03.2010, Мэльбурн, Аўстралія), рэлігійны дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, адкуль у 1949 г. эміграваў у Аўстралію. Пасяліўся ў Мэльбурне, дзе браў удзел у арганізацыі Парафіі Трох віленскіх пакутнікаў БАПЦ у 1958 г., дзе ад пачатку працаваў рэгентам. На пачатку 1963 г. узьведзены ў дыяканы, а пры канцы таго ж года высьвечаны на сьвятарства й стаў на чале беларускай парафіі ў Мэльбурне. На гэтай пасадзе заставаўся нязьменным да самай сьмерці. Ініцыятар набыцьця беларускай дзялянкі на мэльбурнскім могільніку *Fawkner Memorial Park*, пабудовы на ёй помніку „На вечны ўспамін спачылых усіх ведамых і няведамых Беларусаў“, а таксама ўласнага будынку для царквы. Ад 1964 г. да 1992 (?) г. працягнуў выданьне „Беларускага праваслаўнага календара“ для вернікаў парафіі.

**КУЛЕШ Ніна (**дзяв. **Бітус**, 27.11.1917, Любча (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 05.04.1993, Гардынэр, Мэн, ЗША), грамадзкая дзяячка. Скончыла любчанскую пачатковую школу й Наваградзкую беларускую гімназію. У 1944 г. выехала зь сям’ёй у Нямеччыну. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў беларускім лягеры *DP* у Рэгенсбургу. У 1951 г. выехала ў ЗША. Пасялілася ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). У 1954 г. узяла шлюб з *П. Куляшом*. Была сяброўкай Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў Нью-Джэрзі. Вучыла моладзь беларускім танцам. З часам перабралася з мужам у штат Мэн.

**КУЛЕШ Павал** (15.07.1913, в. Скалбішча (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 29.11.1998, Рычманд, ЗША), грамадзкі дзеяч. Паводле адукацыі аграном. У часе Другой сусьветнай вайны трапіў у палон, дзе дапамагаў шмат каму з суродзічаў, бо працаваў польска-нямецкім перакладчыкам. У 1950 г. пасяліўся ў ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Быў

сябрам управы Нью-Джэрзійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.

**КУЛЕШ Уладзімер** (15.06.1922, в. Скалдаўшчына (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУЛЕШ Філіп** (16.02.1920, в. Жамойдзь каля Баранавіч (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУЛІКОВІЧ Мікола** (сапр. **Шчаглоў,** 04.04.1893, Смаленшчына — 31.03.1969, Чыкага, ЗША), кампазытар, музыка, музыказнаўца, грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансэрваторыі. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Менскім гарадзкім тэатры. Аўтар опэраў „Кацярына" (1939 ці 1941), „Лясное возера" (пастаўлена ў 1942 г.), „Усяслаў Чарадзей" (пастаўлена ў 1943 г.), апэрэты „Ў вырай". Ад студзеня 1944 г. — кіраўнік музычнага аддзелу пры БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатар эстрады, які гастраляваў па лягерах *DP*. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазьней перабраўся ў Кліўлэнд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага й кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста-Збаўцы. Аўтар шэрагу музыказнаўчых публікацый. Сябра БІНіМу. Багаты архіў пасьля сьмерці быў перададзены ў Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

**КУМЕЙША Мікола** (15.11.1920, в. Вялікае Падлесьсе Баранавіцкага пав. (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 15.10.1992, Дэтройт, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. паступіў у Беластоцкі настаўніцкі інстытут, па сканчэньні якога ў 1940 г. працаваў настаўнікам фізыкі й матэматыкі ў Ляхавічах. Падчас нямецкай акупацыі быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Працаваў на вугальных капальнях у Бэльгіі. У 1956 г. выехаў у ЗША. Жыў у Дэтройце. Браў удзел у працы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, быў актывістам парафіі Сьв. Духа. Пахаваны ў Троі (Мічыган), на *White Chapel Memorial Park Cemetery*.

**КУНЦЭВІЧ Анатоль** (псэўд. **Анатоль Сумны**, 14.04.1912, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — 1960-я гг. (?), Сыднэй, Аўстралія), рэлігійны дзеяч, паэт. Спачатку вучыўся ў Ялаўцы Ваўкавыскага пав., дзе бацька быў праваслаўным сьвятаром. У 1924—1930 гг. вучыўся ў Віленскай духоўнай сэмінарыі, у 1930—1935 гг. — у Варшаўскім унівэрсытэ-

це. У 1936 г. паступіў на вайсковую службу ў Берасьці. У 1938 г. у Пінску быў пасьвечаны ў сьвятарства. У 1942 г. разам зь сям'ёй апынуўся ў Нямеччыне, дзе ў паваенны час далучыўся да БАПЦ. Паэт, сябра Літаратурнай сустані „Баявая ўскалось". Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Удзельнік Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі ў першыя гады яго існаваньня. Дапамагаў у багаслужбах для беларусаў Сыднея на працягу 1950-х гг. Пазьней адышоў ад грамадзкай і сьвятарскай дзейнасьці.

**КУНЦЭВІЧ Мікалай** (02.01.1907 — 28.09.1985, Санкт-Пецярбург, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне. Выкладаў ангельскую мову ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950-х гг. пераехаў на сталае жыцьцё ў ЗША. У 1957—1959 гг. быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Быў ініцыятарам стварэньня (разам з *Г. Паланевічам*) і сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус". Ад 1982 г. — рэдактар бюлетэня „Весткі й паведамленьні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА".

**КУРАГА-СКРАГА Браніслаў** (на эмігр. **Янка Пілецкі,** 31.12.1906, Докшыцы (сёньня Віцебская вобл.) — ?, БССР), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Наваградзкай гімназіі, потым настаўнічаў. У 1929—1930 гг. вучыўся ў артылерыйскай школе запасу. Працаваў у Гарадзішчы пад Баранавічамі, у Нясьвіжы. У 1936 г. выехаў у Францыю, аднак, ня здолеўшы ўладкавацца на працу, перабраўся ў Гішпанію. Праз тры гады зноў вярнуўся ў Францыю, працаваў на сельскагаспадарчых плянтацыях і фэрмах. У 1944 г. перабраўся ў Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане, дзе ўладкаваўся перакладчыкам. Ад 05.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, старшынём Лёнданскага аддзелу арганізацыі. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Аўтар артыкулаў у брытанскіх беларускіх пэрыёдыках, падпісваўся імем **Янка Пілецкі**. У 1956 г. разам з жонкай выехаў у БССР. Жыў у Менску. Працаваў рэфэрэнтам-перакладчыкам у Акадэміі навук БССР. Аўтар кнігі „Восем год у нацыяналістычным балоце" (Менск, 1958), прысьвечанай жыцьцю ў Лёндане і ўдзелу ў нацыянальных арганізацыях.

**КУРАЦ Аляксандар** (12.08.1923, в. Беражок (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1943—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 02.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1951 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, належаў да дружыны ў Манчэстэры.

**КУРБАТ Тамаш** (02.02.1915, в. Пупкі (?) — 1984, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1946 г. прыбыў у Канаду. Адзін з актыўных сябраў Згуртаваньня беларусаў Канады. Быў першым старшынёй парафіяльнай рады царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**КУРЫЛА Аліна** (22.07.1928, Вялейшчына — ?, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Ў. Курылы*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Лёндане. Ад 06.05.1951 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехала ў ЗША.

**КУРЫЛА Ўладыслаў (Уладзімер)** (01.06.1922, каля Радашкавіч (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч, муж А. Курылы. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Потым служыў Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1951 г. уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі. Меў спэцыяльнасьць тэхніка-дантыста й быў адным з заснавальнікаў дантыстычнай майстэрні ў Беларускім доме ў Лёндане. Выконваў таксама абавязкі адміністратара Беларускага дому. Быў адным з ініцыятараў стварэньня й старшынём Згуртаваньня беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’еднаньня „Жыцьцё“ й Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб’еднаньня „Рунь“. У сьнежні 1954 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.

**КУРЫЛОВІЧ Вячаслаў** (10.03.1925, в. Азета (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 17.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУХАРОНАК Ганна** (05.08.1898, Беразіно (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 29.03.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУХАРОНАК Лідзія** (14.09.1931, Беразіно (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 29.03.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУЦЬКА Янка** (07.07.1921, Берасьцейшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**КУЦЬКО Аляксандар** (25.11.1917, в. Моўчадзь (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 15.02.1994, Брадфард, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся

ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе, быў парафіянінам прыходу Сьв. Спаса. Пахаваны на *Schoolmoor Cemetery*.

**КУШАЛЬ Натальля** гл. **АРСЕНЬНЕВА Натальля**

**КУШАЛЬ Францішак** (16.02.1895, Пяршаі (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.) — 25.05.1968, Рочэстар, Нью-Ёрк, ЗША), вайсковы й грамадзкі дзеяч, муж *Н. Арсеньневай*. У 1915—1917 гг. служыў у царскім войску. У 1919—1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася стварэньнем беларускіх вайсковых адзінак у складзе польскага войска. У 1924—1939 гг. — кадравы афіцэр польскага войска. Увосень 1939 г. трапіў у савецкі палон, у красавіку 1941 г. выпушчаны пад нагляд НКВД. У 1941—1943 гг. займаў розныя вайсковыя пасады ў Менску: быў кіраўніком афіцэрскіх курсаў, начальнікам штабу Самаахловы. У лютым 1944 г. стаў камандзірам БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стаў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Браў актыўны ўдзел у працы Рады БНР, Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня (у 1952—1954 г. — старшыня арганізацыі). У 1967 г. пераехаў з жонкай да сына ў Рочэстэр. Пахаваны ў Рочэстэры.

**ЛАБАНОК Мікалай** (15.02.1900 — 29.05.1981, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Да Другой сусьветнай вайны працаваў настаўнікам у сярэдняй школе ў Менску. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але потым перайшоў у шэрагі апазыцыі. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'яднаньня беларускіх работнікаў, прапаноўваўся на кіраўніка Дэлегатуры БЦР у Вялікабрытаніі. Быў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, уваходзіў у царкоўны камітэт. У 1980 г. выдаў ратагарным друкам брашуру „Жыцьцё працоўных у г. зв. першай сацыялістычнай краіне“. Пахаваны ў Лёндане на *Kensal Green Cemetery*.

**ЛАБАЧ Ігнат** (? — ?, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пераехаў у ЗША ўжо ў міжваенны пэрыяд. Жыў у Чыкага. Быў адным з найбольш актыўных дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША ў перадваенны час. У 1935 г. быў адным з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага задзіночаньня, у 1941 г. — Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады.

**ЛАБЭЦКІ Андрэй** (27.10.1923, Калодзішчы (сёньня Менскі р-н) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1940 г. скончыў друкарскую школу ў Менску, працаваў друкаром. З прыходам немцаў працягваў працу пры выданьні „Беларускай газэты“. У 1943 г. уступіў у шэрагі Беларускай самааховы. У

1944 г. разам з бацькамі эвакуяваўся ў Польшчу, дзе быў забраны немцамі ў войска й скіраваны ў Нідэрлянды. Здаўся ў палон брытанцам, але пазначыў сваю нацыянальнасьць як нямецкую й як ваеннапалонны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Шатляндыі. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У пачатку 1950-х гг. выехаў у Канаду.

**ЛАГЕЗА Ян** (15.09.1918, Слонімшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛАЗАРЭВІЧ Уладзімер** (02.05.1902 — 1965, ЗША), грамадзкі дзеяч. Быў афіцэрам польскага войска. У 1941—1944 г. жыў у Менску, працаваў у гарадзкой управе загадчыкам аддзелу ўліку насельніцтва. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1948 г. стаў адным з заснавальнікаў Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва ў Нямеччыне. Пазьней выехаў у ЗША. Скончыў жыцьцё самагубствам.

**ЛАЗОВІК Аляксей** (?, в. Узлавы Стан Вялейскага пав. (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 03.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛАЗОВІК Мікола** (13.05.1920, в. Палікі Дзісенскага пав. (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 02.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЛАЗОЎСКІ Антоні** (16.03.1916, Кобрын (сёньня Берасьцейская вобл.) — 28.02.1983, Манчэстэр, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на могілках крэматорыя *Blackley Crematorium*.

**ЛАЗОЎСКІ Міхась** (16.06.1923, в. Загор’е Сеньненскае (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 07.08.1977, Дэнвэр, Каларада, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў два курсы настаўніцкай сэмінарыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.05.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Быў сакратаром дружыны ЗБК у Сток-он-Трэнце. У 1956 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў

Дэнвэры (Каларада), дзе скончыў каледж і працаваў на інжынэрную кампанію. Пахаваны ў Дэнвэры на мясцовым могільніку.

**ЛАЗОЎСКІ Нікадым** (24.09.1908, в. Мікалаева Дзісенскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Кроўлі (*Crawley*) у Сасэксе. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛАЗОЎСКІ Язэп** (05.01.1921, Сьмілавічы (сёньня Чэрвеньскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1939—1941 гг. служыў у авіяцыі ў Савецкай арміі. У 1943—1944 гг. — у нямецкай арміі. Ад 1944 г. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1952 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЛАМАН Міхась** (03.06.1912, в. Рудня (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 20.06.1991, Букгарст-Гіл, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскую армію. Потым вярнуўся дахаты, але ў 1940 г. быў вывезены разам з бацькамі ў Сыбір. Ад 1942 г. служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой у 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.06.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваны ў Букгарст-Гіл (Эсэкс) на могілках *Saint John Cemetery*.

**ЛАНКЕВІЧ Мікола** (24.07.1923, в. Пагарэлая Баранавіцкага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Аргентыну.

**ЛАПІЦКІ Мікалай** (31.12.1907, в. Грэлікі (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 08.08.1976, Глэн-Спэй, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар, пэдагог. Скончыў тэалягічны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту, абараніў магістарскую дысэртацыю „Праваслаўе ў ВКЛ у часы вялікага князя Ягайлы“. Працаваў у прыходах у Ашмянах, Стэфанпалі Дзісенскага павету. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Менску, быў актыўным прыхільнікам БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Настаяцель царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу — першай беларускай царквы на Захадзе. Выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Арганізаваў парафію Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры й быў яе настаяцелем цягам 1950—1976 гг. У 1960—1970-я ўзначальваў Злучаны беларуска-амэрыканскі дапамаговы камітэт, браў удзел у кангрэсах беларусаў

Амэрыкі, увaходзіў у кіраўнічыя структуры Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЛАТУШКІН Мікола** (да 1945 г. **Уладзімер Гарэлік**, 14.01.1922, Сіпайлы (сёньня Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл.) — 06.01.2006, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў сярэднюю школу ў Галоўчыне. Мабілізаваны ў Чырвоную Армію, служыў у савецкай Латвіі (Вентспілс), дзе скончыў вайсковую школу ў ранзе лейтэнанта. З пачаткам вайны трапіў у палон, вызвалены, скончыў курсы прапагандыстаў у Вустраве. Накіраваны ў Менск, дзе пазнаёміўся з Ф. Акінчыцам, скончыў курс вышэйшых кіраўнікоў СБМ. У чэрвені 1943 г. прызначаны ад'ютантам шэфа-правадніка СБМ (Міхася Ганько), адначасова кіраваў службай унутранай бяспекі Кіраўнічага штаба СБМ, пісаў для часопіса „Жыве Беларусь!“ Летам 1944 г. эвакуяваўся, быў у штабе СБМ у Тропаў. У студзені 1945 г. выехаў у Бэрлін, дзе быў прызначаны кіраўніком юнацкага лягеру Арганізацыі Тодт Шварцзээ каля Фалькенбургу на Памор'і. Пасьля сканчэньня вайны вучыўся ў вэтэрынарных школах у Карсфілдзе й Рэгенсбургу. У жніўні 1950 г. прыбыў у ЗША, жыў некаторы час у Філядэльфіі ды Кліўлэндзе. Абраны прадстаўніком БЦР на штат Агаё. У 1956 г. пераехаў у Чыкага, браў актыўны ўдзел у жыцьці часткі беларускай грамады, што трымалася платформы БЦР. Быў прадстаўніком БЦР на штат Ілінойс, а таксама прадстаўніком Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, актывістам парафіі Сьв. Юрыя ў Чыкага, шматгадовым сакратаром управы.

**ЛАХНОВІЧ Аляксандар** (12.10.1897, Меншчына — 15.06.1987, Манчэстэр, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ЛАШКЕВІЧ Пётра** (30.10.1918, в. Кавалі на Маладэчаншчыне (?) — 24.01.1967, Прэстан, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Прэстане. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Прэстане на *Penwortham Cemetery*.

**ЛАШУК Аляксандар** (11.11.1909, в. Паграбішча каля Ільлі (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 03.03.1997, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Скончыў польскую сямігодку ў Ільлі, працаваў у гміннай адміністрацыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гаспадарчым аддзеле раённай адміністрацыі. У 1944 г. выехаў на эміграцыю.

Трапіў Другі польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Займаў розныя пасады ў ЗБВБ, у тым ліку быў сакратаром, скарбнікам, заступнікам старшыні. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Шмат гадоў быў старшынём Сэктару Рады БНР у Вялікабрытаніі. Складаў картатэку зьвестак пра беларускіх эмігрантаў на Захадзе. Займаўся продажам беларускіх кніг. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**ЛЕБЯДЗЕЎСКІ Іван** (20.10.1923, в. Баяры Пінскага р-ну (?) — 29.07.1980, Лёндан, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, сябрам Царкоўнага камітэту. Пахаваны ў Лёндане на могілках *Mortlake Crematorium*.

**ЛЕМЯШОНАК Тодар** (13.05.1915, в. Лагезы на Маладэчаншчыне (?) — 30.10.2000, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Перад пачаткам Другой сусьветнай вайны служыў у польскім войску. У 1939 г. трапіў у палон і быў вывезены ў Нямеччыну. Па сканчэньні вайны апынуўся ў беларускім лягеры *DP*, адкуль у 1947 г. выехаў на працу ў Вялікабрытанію. Першапачаткова працаваў на сельскай гаспадарцы. Потым пасяліўся ў Брадфардзе. Ад 19.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, актывістам аддзелу ў Брадфардзе, у 1976—1991 гг. — старшынём аддзелу. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Радны БНР у Вялікабрытаніі. Выконваў абавязкі скарбніка Беларускага грамадзкага клюбу „Сакавік“, а таксама шмат гадоў быў адміністратарам Беларускага дому ў Брадфардзе. Пахаваны ў Брадфардзе на *Scholemoor Cemetery*.

**ЛЕНКАВЕЦ Дзьмітры** (01.01.1918, в. Лактышы з-пад Ганцавічаў (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.02.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЛЕНКАВЕЦ Янка** (01.01.1922, в. Лактышы з-пад Ганцавічаў (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.05.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЕСАВЕЦ Ксенія** (1890, в. Дродзін на Палесьсі (?) — 22.12.1966, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была прыхаджанкай царквы Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ЛЕСАВЕЦ Міхал** (23.05.1890, в. Старое Сяло на Палесьсі (?) — 17.07.1972, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ЛЕСАВЕЦ Ян** (1925, Столін (сёньня Берасьцейская вобл.) — 12.05.1990, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ЛЕШЧАНКА Язэп** (псэўд. **Міхась Кавыль** нар. 01.12.1915 в. Пакрашава (сёньня Слуцкі р-н Менскай вобл.), пісьменьнік, рэдактар, грамадзкі дзеяч. У 1930—1933 гг. — вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме. Быў сябрам „Маладняка“. 23.02.1933 арыштаваны й асуджаны на тры гады. Пакараньне адбываў на Далёкім Усходзе. У канцы кастрычніка 1935 г. датэрмінова вызвалены. Жыў у Варонежы (1935—1938), вучыўся ў пэдагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (1936—1938), працаваў настаўнікам. У 1941 г. — у Чырвонай Арміі, трапіў у нямецкі палон, праз некаторы час быў вызвалены. Скончыў прапагандысцкія курсы ў Вустраве пад Бэрлінам, на якіх рыхтавалі будучых кіраўнікоў СБМ, працаваў у аддзеле прапаганды ў Менску. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у Бэльгіі. У 1950 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Першы рэдактар газэты „Беларуская трыбуна“. У 1950-х гг. браў актыўны ўдзел у працы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Ад 1983 г. быў сталым рэдактарам часопіса „Беларуская думка“. Выдаў зборнікі паэзіі „Ростань“ (Рэгенсбург, 1947), „Пад зорамі белымі“ (Нью-Ёрк, 1954), „Першая рана“ (Манчэстэр, 1960), „Цяжкія думы“ (ЗША, 1961), „Міжагнёўе“ (Нью-Ёрк, 1990).

**ЛІВОШКА Янка** (05.06.1910, м. Торчын, Польшча — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛІМАНОЎСКІ Янка** (09.03.1896 — 30.05.1989, Рыхтан Парк, Ілінойс, ЗША), пісьменьнік, літаратуразнаўца. У часе Першай сусьветнай вайны служыў у царскай арміі. У 1920-х гг. працаваў у Наркамаце земляробства БССР. Быў сябрам „Маладняку“ й БелАППу. У 1929 г. стаў дырэктарам Другога беларускага тэатру. Потым — намесьнікам кіраўніка Інстытуту літаратуры й мастацтва АН БССР. Праз выкрыцьцё зьвестак аб шляхецкім паходжаньні быў выключаны з партыі й зьняты з

пасады. Працаваў на катэдры замежных моваў у Палітэхнічным інстытуце. Падчас нямецкай акупацыі — загадчык літаратурнай часткі Менскага гарадзкога тэатру. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Чыкага. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. У 1952 г. выехаў у Нью-Ёрк. Быў сябрам Рады БНР. У 1952—1954 гг. — дырэктар БІНіМу. У 1954 г. перабраўся ў Мюнхен для працы ў беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“, аднак працаваў там нядоўга. Вярнуўся ў Чыкага. Праз канфлікт з *В. Тумашам* адышоў ад БІНіМу. Быў сябрам Крывіцкага навуковага таварыства імя Праньціша Скарыны. З часам абарваў кантакты зь беларусамі.

**ЛІПКОЎСКАЯ Нэлі** (дзяв. **Навіцкая,** 1933 — 02.11.1967, Канада), грамадзкая дзяячка. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Вучылася ў Беларускай гімназіі ў Ватэнштэце. Разам з бацькамі пераехала ў Канаду. Жыла ў Таронта, потым перабралася ў Вініпэг (Манітоба). Брала ўдзел у працы Згуртаваньня беларусаў Канады.

**ЛІТАРОВІЧ Віктар** (1923, Барысаўшчына — 21.06.1967, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат *Л. Літаровіча*. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у адміністрацыі на Барысаўшчыне. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны знаходзіўся ў брытанскай акупацыйнай зоне, настаўнічаў у беларускай пачатковай школе ў Ганоўэры. У канцы 1940-х разам з бацькамі й братамі пераехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Адзін з арганізатараў Беларускага праваслаўнага царкоўнага камітэту ў Амэрыцы, заснавальнікаў парафіі ў Саўт-Рывэры. Браў удзел у Другім кангрэсе беларусаў Амэрыкі ў якасьці ганаровага госьця. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЛІТАРОВІЧ Леанід (Лявон)** (16.08.1928, Барысаўшчына — 12.08.1998, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат *В. Літаровіча*. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне жыў у лягеры *DP* у Ганоўэры. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у грамадзкім жыцьці беларусаў, быў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Належаў да кіраўнічых органаў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1968 г. увайшоў у склад будаўнічага камітэту новага будынку царквы (быў скарбнікам). Браў удзел у Першым Зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЛІТВІНКА Ўладзімер** (15.08.1931, в. Морач (сёньня Салігорскі р-н Менскай вобл.) — 10.01.1977, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзеяч. У

1951 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Служыў у амэрыканскім войску, працаваў паліцыянтам. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Граў на акардэоне, кіраваў аркестрам „Палесьсе“, а ад 1975 — царкоўным і сьвецкім хорамі. У 1950—1960-х гг. быў актывістам Задзіночаньня беларускай моладзі ў Амэрыцы. У 1970-х удзельнічаў у працы Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў штаце Агаё. Пахаваны ў Кліўлэндзе на могілках парафіі Сьв. Феадосія.

**ЛІШЧОНАК Баляслаў** (10.07.1919, в. Недаль (сёньня Барысаўскі р-н Менскай вобл.) — 12.07.1990, Ашава, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч, музыка, сын *Я. Лішчонка*. У 1944 г. разам з бацькамі пакінуў Беларусь. Некаторы час жыў у Вялікабрытаніі, адкуль на пачатку 1950-х перабраўся ў Канаду. Працаваў у прадстаўніцтве кампаніі „Джэнэрал Мотарз“. Жыў у Ашаве. Заснаваў аркестар „Ашава Мэлёды“, які ўдзельнічаў у розных, у тым ліку беларускіх, мерапрыемствах. Браў актыўны ўдзел у працы Згуртаваньня беларусаў Канады, парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага.

**ЛІШЧОНАК Язэп** (25.12.1893, в. Недаль (сёньня Барысаўскі р-н Менскай вобл.) — 04.12.1964, Ашава, Антарыё, Канада), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі. У 1952 г. пераехаў у Канаду. Жыў у Манрэалі, Ашаве. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады.

**ЛОБУСЬ Аляксандар** (15.02.1919, в. Гаўрыльчыцы Лунінецкага пав. (сёньня Салігорскі р-н Менскай вобл. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 24.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛОНЬСКІ Мікола** (20.09.1920, в. Лонскія Браслаўскага пав. (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Кембрыджы. Ад 30.12.1951 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЛОСЬ Гіпаліт** (20.01.1910, в. Белькішкі (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч, публіцыст. Ад 1928 г. быў карэспандэнтам „Хрысьціянскай думкі“, пісаў таксама ў „Беларускую крыніцу“ й „Шлях моладзі“. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1941 г. і вывезены ў Сыбір. Апынуўся ў Арміі Андэрса, ваяваў на Блізкім Усходзе, у Эгіпце. У 1948 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 10.08.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛУЖЫНСКАЯ Надзея** (05.12.1924, в. Брусы (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — 27.02.2000, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *М. Лужынскага*. Нарадзілася ў сям'і рыбакоў. Атрымала пачатковую асьвету й вучылася на краўчыху. У 1944 г. паехала ў Нямеччыну шукаць вывезеных немцамі бацькоў. У беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце пазнаёмілася й пабралася шлюбам з *М. Лужынскім*. У 1950 г. выехала ў Аўстралію. Жыла ў Сыднэі. Разам з мужам актыўная ўдзельніца беларускай грамады Сыднэю. Ад заснаваньня сяброўка Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі, а пазьней і Беларускага культурна-грамадзкага клюбу. Некаторы час была старшынёй Жаночага камітэту. Актыўная ўдзельніца беларускіх нацыянальным мерапрыемстваў, выставаў. Дапамагала ў падрыхтоўцы беларускіх радыёпраграмаў. Пахаваная ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**ЛУЖЫНСКІ Міхась** (16.01.1926, в. Кабылкі (сёньня в. Зоранька Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 17.07.2011, Санкт-Пецярбург, Расея), грамадзкі дзеяч, муж *Н. Лужынскай*. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў польскай школе ў Гарадку, а ў 1942 г. паступіў у Гандлёвую школу ў Маладэчне. Сябра СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе па сканчэньні вайны апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. Ад 1950 г. разам з жонкай выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Сыднэі, дзе далучыўся да беларускага грамадзкага жыцьця. У 1952 г. — першы старшыня асобнай арганізацыі прыхільнікаў Рады БНР Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. У 1953—1954 гг. рэдактар крывіцкага варыянту часопіса „Новае жыцьцё". Пазьней — сакратар Беларускага культурна-грамадзкага клюбу, а ў 1982—1986 гг. і ад 1988 г. да 2011 г.— яго старшыня. Ад 1976 г. быў сябрам Беларускага радыёвага камітэту, а ад 1983 г. на працягу дзесяцігодзьдзя быў фактычна адзіным стваральнікам беларускіх радыёпраграмаў у Сыднэі. У 1976—1980 гг. сакратар Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Памёр у часе турыстычнай паездкі. Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**ЛУКАШЫК Васіль** (11.08.1911, Беласток (сёньня Польшча) — 17.03.1975, Швэцыя), грамадзкі дзеяч, выдавец. Вывучаў паліталёгію ў Віленскім унівэрсытэце. Быў удзельнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Беластоку. У 1939—1941 гг. арганізоўваў беларускія школы на Беласточчыне, працаваў загадчыкам дзіцячага дому ў Беластоку. На пачатку нямецкай акупацыі стаў бургамістрам Беластоку. Па даносе быў арыштаваны гестапа, апынуўся ў канцлягеры Асьвенцім.

Здолеў уцячы ў Варшаву, адкуль быў вывезены на прымусовыя работы ў Нарвэгію. Разам з групай беларусаў у 1944 г. уцёк у Швэцыю. У 1948 г. арганізаваў Беларускую грамаду ў Скандынавіі. Быў сябрам Камітэту вольнай Беларусі, Фэдэрацыі вольных беларускіх журналістаў.

**ЛУКАШЭВІЧ Віктар** (10.08.1931, в. Краснаволя (сёньня в. Чырвоная Воля Лунінецкага р-ну Берасьцейскай вобл.) — 10.05.1990, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *Я.* і *М. Лукашэвічаў*. Пасьля Другой сусьветнай вайны ў лягеры *DP* вучыўся ў беларускай школе. У 1951 г. прыбыў у ЗША. Служыў у амэрыканскай артылерыі, у 1952 г. быў на Карэйскай вайне. Жыў у Кліўлэндзе. Быў заўзятым спартоўцам-футбалістам, браў удзел у танцавальным і драматычным гуртках. Актывіст Арганізацыі беларуска-амэрыканскай моладзі, Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва яго Кліўлэндзкага аддзелу. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**ЛУКАШЭВІЧ Марына** (дзяв. **Грудзька**, 07.07.1911, в. Краснаволя (сёньняв. Чырвоная Воля Лунінецкага р-ну Берасьцейскай вобл.) — 08.04.1994, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Я. Лукашэвіча*, маці *В. Лукашэвіча*. У 1951 г. зь сям'ёй прыехала ў ЗША. Пасялілася ў Кліўлэндзе. Была сяброўкай Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Жаночага згуртаваньня Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Прыхаджанка мясцовай царквы БАПЦ. Пахаваная ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**ЛУКАШЭВІЧ Міхась** (24.09.1903, в. Табола (сёньня Лідзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 12.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛУКАШЭВІЧ Янка** (07.01.1911, в. Краснаволя (сёньняв. Чырвоная Воля Лунінецкага р-ну Берасьцейскай вобл.) — 06.03.1980, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч, муж *Марыны Лукашэвіч*, бацька *В. Лукашэвіча*. У 1951 г. разам зь сям'ёй прыбыў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Адзін з будаўнікоў першай мясцовай беларускай царквы. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва яго Кліўлэндзкага аддзелу. У 1970-х гг. быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Агаё. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**ЛУК'ЯНОВІЧ Янка** (25.08.1925 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛУК'ЯНЧЫК Аляксандар** (20.08.1909, в. Волька Берасьцейскага пав. Гарадзенскае губ. (сёньня ў межах Берасьця) — 31.08.1994, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч, бацька *Анатоля Лук'янчыка*. Паходзіў зь вялікай сялянскай сям'і. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у лягерах *DP у* Аўсбаху, Остэргофэне, Розэнгайме. У 1951 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Працаваў на вытворчасьці цэмэнту. Падтрымоўваў беларускую суботнюю школу. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва яго Кліўлэндзкага аддзелу. Уваходзіў у парафіяльную раду мясцовай царквы БАПЦ, сьпяваў у царкоўным хоры. Быў радным БНР, сябрам Задзіночаньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Працаваў на прадпрыемстве сына *Анатоля Лук'янчука*. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**ЛУК'ЯНЧЫК Анатоль** (1932, в. Волька Берасьцейскага пав. Гарадзенскай губ. (сёньня ў межах Берасьця) — 11.10.2011, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *Аляксандра Лук'янчыка*. У 1951 г. разам з бацькамі прыбыў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. З юначых гадоў удзельнічаў у беларускіх моладзевых арганізацыях, у танцавальнай і спартовай групах. Сьпяваў у хоры „Васілёк" і хоры пры царкве Жыровіцкай Божай Маці. Быў прэзыдэнтам кампаніі *Lukjan Metal Products, Inc.* Аказваў грашовую дапамогу ў арганізацыі беларускіх мерапрыемстваў, а таксама ў рэканструкцыі Мірскага замка, Жыровіцкай сэмінарыі. Некалькі разоў наведваў Беларусь з дапамогай для ахвяраў Чарнобылю. Ад 1997 г. быў старшынём грамадзка-культурнага цэнтру „Полацак". Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**ЛУЧЫЦ Міхась** (05.05.1908, в. Аброва (сёньня Іванаўскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.02.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЫСАЎ Барыс** (22.06.1913, в. Леанполе (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЫСУХА Мікола** (1928 — 05.03.1981, Францыя), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўсяў Францыі. Быў сябрам Парыскага аддзелу Аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі.

**ЛЫСЮК Аўген** (?, в. Навасёлкі, Піншчына — чэрвень 1968, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1940 г. разам зь сям'ёй быў высланы ў Сыбір. У 1943 г. бацькоўская сям'я далучылася да Арміі Андэрса. У

1953 г. апынуўся ў ЗША. Быў старшынём Нью-Джэрзійскага аддзелу Згуртаваньня беларуска-амэрыканскай моладзі, арганізатарам моладзевага танцавальнага гуртку ў Нью-Джэрзі. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, рэфэрэнтам моладзевых спраў у Галоўнай управе.

**ЛЮБАНСКІ Васіль** (05.12.1925, в. Чучаў Пінскага пав. (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 09.10.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЮБАЧКА Іван** (01.05.1915, Полацкі пав. — 20.07.1977, Мурай, Кентукі, ЗША), гісторык, пэдагог. Скончыў матэматычны факультэт Віцебскага пэдагагічнага інстытуту. У 1940—1941 г. быў у Чырвонай Арміі, трапіў у нямецкі палон, быў выпушчаны, працаваў на бацькоўскай сялянскай гаспадарцы. У 1943 г. вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Па вайне працаваў настаўнікам ў беларускіх школах у лягерах *DP*. На пачатку 1950-х прыехаў у ЗША. Скончыў Калюмбійскі ўнівэрсытэт са ступеньню доктара гісторыі. Працаваў у Блумінгтонскім і Мурайскім унівэрсытэтах. Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі Беларусі, у т. л. англамоўнай „Беларусь пад савецкай уладай, 1917—1957“ (*„Bielorussia under Soviet Rule, 1917—1957“*, 1972). Заснавальнік стыпэндыяльнага фонду (Фонд імя І. Любачкі) для падтрымкі беларусазнаўчых дасьледаваньняў.

**ЛЮХТА Кастусь** (20.08.1910, Баранавічы (сёньня Берасьвейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 21.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак падтрымаў апазыцыю й выйшаў з арганізацыі. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Стваральнік і старшыня гуртку ХАБР у Літл-Адынгтан у 1948 г.

**ЛЯВІЦКІ Мікалай** (14.09.1907, Палесьсе — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЯЎКОВІЧ Віктар** (26.05.1917, Мір (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 10.06.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЯЎКОВІЧ Ніканор** (17.10.1922 — 01.08.1995, Мюнхен, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, брат *Н. Абрамчык*. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Мюнхене. Супрацоўнічаў з выдавецтвам „Бацькаўшчына“. Пахаваны ў Мюнхене на *Ostfreidhof*.

**ЛЯХАЎ Ян** (09.12.1920, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЯШКЕВІЧ Ігнат** (27.02.1925, в. Старынкі (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЛЯШКЕВІЧ Пётра** (30.10.1918, в. Кавалі (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**МАЖЭЙКА Сяргей** (09.02.1920, Лебедзева (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Скончыў тры клясы беларускай настаўніцкай сэмінарыі. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у аддзел у Бірмінгеме. Ад 1951 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, быў старшынём дружыны ЗБК у Бэрсьлеме (Сток-он-Трэнт). У 1956 г. выехаў у ЗША.

**МАЗУРА Тодар** (03.05.1921 — пасьля 1990 г.), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны вучыўся ў Рыме. Пазьней прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'еднаньня „Рунь". Выехаў у БССР.

**МАЗУРА Юрка** (1916 (?), Полацк (сёньня Віцебская вобл.) — 04.02.1990, Дэтройт, ЗША), грамадзкі дзеяч. Ад 1928 г. жыў з бацькамі ў Наваградку. Служыў у польскім войску. У часе нямецкай акупацыі быў камандзірам зьвязу ў Наваградзкім беларускім швадроне. Пазьней быў лейтэнантам спэцыяльнага беларускага аддзелу ў Дальвіцкай выведчай школе. Па сканчэньні вайны вучыўся музыцы ва ўнівэрсытэце Філіпа ў Марбургу (Нямеччына). Стварыў беларускі студэнцкі хор, кіраваў ім, сьпяваў, апрацоўваў і пісаў песьні. У 1950-х прыехаў у ЗША. Жыў у Дэтройце. Працаваў у аўтамабілебудаўнічай кампаніі. Кіраваў хорам. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, першым старшынём Дэтройцкага аддзелу арганізацыі. Радны БНР. Браў удзел у стварэньні беларускай праваслаўнай парафіі ў Дэтройце. Пахаваны на стараверскіх могілках у прадмесьці Дэтройту.

**МАЗУРА Янка** (07.01.1923, Ракаў (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.) — 01.06.1990, Скантарп, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч.

Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, зь якой трапіў ў 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, служыў Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыехаў у Вялікабрытанію. Ад 04.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1953 г. — намесьнік старшыні Галоўнай управы арганізацыі. Ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё". Скончыў жыцьцё самагубствам. Пахаваны ў г. Скантарп (*Scunthorpe*) на *Woodlands cemetery*.

**МАК Станіслаў** (да эміграцыі **Яроцкі,** 27.03.1922, каля Нясьвіжу — 20.06.1983, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай гімназіі ў Нясьвіжы. Падчас нямецкай акупацыі быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 28.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. На пачатку 1950-х гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія) на факультэце паліталёгіі й сацыялёгіі. Сьпяваў у Беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам *М. Равенскага*. Па сканчэньні навучаньня вярнуўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Брадфардзе. У 1958—1969 гг. — сакратар аддзелу ЗБВБ. Актывіст прыходу БАПЦ. Быў беларускім прадстаўніком у мясцовым Камітэце паняволеных народаў. Уваходзіў ва ўправу Беларускага грамадзкага клюбу „Сакавік". У 1980-х гг. быў удзельнікам гуртку беларускай незалежніцкай думкі „Васілёк". Пахаваны ў Брадфардзе на *Scholemoor Cemetery*. У ягоны гонар была ўсталяваная памятная шыльда ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Мачэстэры.

**МАКАРЭВІЧ Мікалай** (21.02.1908, Берасьцейшчына — ліпень 1963, ЗША), рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Віленскай сэмінарыі, потым у 1930—1936 гг. вывучаў тэалёгію ў Парыжы. У часе Другой сусьветнай вайны быў капэлянам у Арміі Андэрса (у 5-й карпацкай дывізіі), разам зь якой апынуўся пазьней у Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 29.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Апекаваўся праваслаўнымі беларусамі ў Лёндане. Пасьля сьмерці арцыбіскупа Савы займаўся справамі яго спадчыны. У 1953 г. выехаў у ЗША. Ад 1956 г. пасяліўся ў Кліўлэндзе, дзе стаў заснавальнікам прыходу Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**МАКАРЭВІЧ Янка** (26.07.1909, Берасьцейшчына — 18.10.1995, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, паэт. Служыў у польскім войску. У часе вайны апынуўся ў Нямеччыне. Як паэт друкаваўся на старонках

часопіса „Баявая ўскалось“. У 1949 г. прыехаў у Аўстралію. Жыў у Сыднэі. Браў удзел у дзейнасьці Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі. Стаў адным з ідэолягаў „незалежнікаў“, уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-аўстралійскага незалежнага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі й некаторы час рэпрэзэнтаваў яго ў Фэдэральнай радзе беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**МАЛАХА Аляксандар** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Першы старшыня Лёнданскага аддзелу ЗБВБ. Далучыўся да апазыцыі Галоўнай управе й быў пазбаўлены сяброўства. Падтрымаў Хрысьціянскае аб'еднаньне беларускіх работнікаў. Удзельнічаў у выданьні часопіса „Аб'еднаньне“.

**МАЛЕЦКІ Язэп** (12.01.1906, в. Якузы (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 06.06.1982, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, лекар. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў гімназію ў Друі, а пазьней — мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі — Віленскім беларускім камітэце, дырэктарам Мэдычнай школы ў Баранавічах, быў намесьнікам Прэзыдэнта БЦР на Вялейскую акругу. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Здолеўшы пацьвердзіць пасьля дадатковага навучаньня дыплём мэдыка, атрымаў права лекарскай практыкі, якой займаўся ў Сыднэі на працягу доўгіх гадоў. Далучыўся да беларускага грамадзкага жыцьця. Актыўны сябра ўправы Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі, а ў 1960—1961 гг. — ягоны старшыня. Адзін з дырэктароў Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі. Старшыня Аўстралійскага сэктару Рады БНР. Адзін з ініцыятараў стварэньня й старшыня Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі ў 1979—1980 гг. Сталы карэспандэнт розных беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў (пісаў таксама пад псэўданімам **Я. Лаўрыновіч**). Аўтар аўтабіяграфічнай кнігі „Пад знакам Пагоні“ (Таронта, 1976). Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай частцы *Rookwood Cemetery*.

**МАЛЬКО Ўладзімер** (09.09.1910, Вільня — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАМОНЬКА Сьцяпан** (07.07.1910, Наваградчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.04.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАНЬКОЎ Палікарп** (19.02.1910, Слуцк (сёньня Менская вобл.) — 1999, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1939—1941 гг. служыў у Савецкай арміі, трапіў у палон. У 1942—1943 гг. працаваў у слонімскім гебітскамісарыяце. Ад чэрвеня 1943 г. узначальваў СБМ у Слуцкай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, потым у ЗША.

**МАНЬКОЎСКІ Пётра** (1916, г. Таропец (сёньня Цьвярская вобл., Расея) — 2002, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, публіцыст. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўнівэрсытэтах Вільні, Мюнхену, Нью-Ёрку. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. У 1980—1990-х гг. быў скарбнікам Кансысторыі БАПЦ, пасьля *М. Міцкевіча* рэдагаваў часопіс „Голас царквы“. Пра сябе расказваў мала й неахвотна, бо хварэў на манію перасьледу. Хвароба рэзка абвастрылася ў пачатку 1990-х. Жыў адзін, а таму яго накіравалі на мусовае лячэньне й дагляд у Дом для старых у *Wayne, NJ*, дзе й памёр. Сабраная ім багатая бібліятэка й архівы зьніклі.

**МАРГОВІЧ Алесь** (05.07.1927, Глыбокае (Віцебская вобл.) — 11.11.1967, Мюнхен, Нямеччына), журналіст, грамадзкі дзеяч, выдавец. У часе Другой сусьветнай вайны настаўнічаў. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў беларускім лягеры ў Рэгенсбургу. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва „Крыніца“, дзе выходзіў часопіс „Напагатове!“. У 1948 г. разам зь іншымі сябрамі „Дванаццаткі“ прыбыў у Вялікабрытанію для працы ў вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў сакратаром Другога зьезду гэтай арганізацыі. Ад 1949 г. таксама быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1950 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. Скончыў факультэт паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту. Працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене. Рэдагаваў „Беларускі зборнік“ і *„Belorussian Review“*, выдаваныя Інстытутам. Супрацоўнічаў з газэтай „Бацькаўшчына“ й беларускай рэдакцыяй Радыё „Вызваленьне“. Пахаваны ў Мюнхене.

**МАРДАС Піліп** (12.12.1909, в. Мардасы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 25.03.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАРКА Пётра** (15.06.1926, в. Галынка (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАРКЕВІЧ Антон** (14.10.1925, Горадня — 09.11.2009, Ашава, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У 1946—1955 гг. жыў у Мюнхене. У 1955 г. перабраўся ў Канаду. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, у тым ліку ў 1958 г. быў абраны на пасаду старшыні арганізацыі, пазьней доўгі час быў яе сакратаром. Разам з *К. Акулам* арганізаваў выдавецкі клюб „Пагоня“. Быў сябрам рэдкалегіі старонкі „Весткі з Канады“ газэты „Беларус“. Шматгадовы актывіст царкоўнай рады царквы Сьв. Кірылы Тураўскага. Жыў у Ашаве. Дамогся, каб штогод на 25 сакавіка каля мэрыі ўздымаўся беларускі сьцяг. Заснаваў паўгадзінныя беларускія радыёперадачы на станцыі *CHWO* ў гарадку Оўквіл.

**МАРОЗ Алесь** (16.08.1918, в. Кацяўшчына (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.) — 08.11.1989, Пэрт, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. прыехаў у Аўстралію. Ад 1954 г. — сябра аддзелу Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў у Пэрце. Пазьней займаў розныя пасады (у тым ліку й старшыні) у Беларускім аб’еднаньні ў Заходняй Аўстраліі. Адзін з ініцыятараў і галоўны будаўнік Беларускага народнага дому ў Пэрце. Ад 1984 г. — радны БНР. Доўгачасовы прадстаўнік беларускай прэсы ў Заходняй Аўстраліі. Пахаваны ў Пэрце на *Pinnaroo Valley Memorial Park*.

**МАРОЗ Аляксандар** (1922, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Шэфілдзе. Ад 01.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАРОЗ Зіновія** (24.06.1897, Столінскі пав. — 10.09.1980, Лёндан, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка, маці *Мікалай, й У. Марозаў* і *В. Жынгель*. Перад вайной жыла зь сям’ёй у в. Струга Столінскага пав. (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.). У 1940 г. была дэпартаваная разам зь сям’ёй ў Архангельскую вобл. Расеі. У часе мабілізацыі ў 1942 г. сьледам за сынам *Мікалаем* апынулася зь дзецьмі ў Іране, а пазьней трапіла ў лягер для цывільных сваякоў польскіх жаўнераў у Танганьіцы. У 1948 г. прыбыла ў Вялікабрытанію. Жыла ў Лёндане. Была парафіянкай прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**МАРОЗ Мікалай** (20.02.1923, в. Струга (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 16.08.1949, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч, сын *З. Мароз*, брат *У. Мароза* й *В. Жынгель*. У 1940 г. быў вывезены разам з бацькамі ў Архангельскую вобл. (Расея). Служыў у Арміі Андэрса, быў удзельнікам бітвы за Монтэ-Касіна. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 23.10.1947 быў сябрам

Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Памёр ад ранаў, атрыманых яшчэ ў вайну.

**МАРОЗ Міхась** (27.04.1915, в. Жодзішкі (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл) — 14.04.1979, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч. У даваенны час дабіваўся ўвядзеньня беларускай мовы ў дадатковыя набажэнствы ў каталіцкіх храмах, праз што кантактаваў з кс. Вінцэнтам Гадлеўскім. У пачатку Другой сусьветнай вайны быў у польскім войску, трапіў у нямецкі палон. Наладзіў сувязь зь Беларускім камітэтам у Бэрліне, заснаваў у лягеры для ваеннапалонных беларускі гурток. У 1947 г. выехаў у Вялікабрытанію. Ад 19.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Брадфардзе, арганізаваў аддзел ЗБВБ. Яго дом стаў на пэўны час галоўнай сядзібай аддзелу й месцам правядзеньня сходаў беларусаў. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1955 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Чыкага. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Ілінойсе. Пахаваны ў Чыкага.

**МАРОЗ Уладзімер** (19.12.1932, в. Струга (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 04.08.1994, Лёндан, Вялікабрытанія), цакроўны актывіст, сын *З. Мароз*, брат *Мікалая Мароза* й *В. Жынгель*. У 1940 г. быў разам з бацькамі вывезены ў Архангельскую вобл. (Расея). Ягоны брат *Мікалай* служыў у Арміі Андэрса, сям’я прыехала ў Іран у якасьці цывільных сваякоў і трапіла ў лягер у Танганьіцы ў Афрыцы. У 1948 г. разам з маці й сястрой прыехаў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў, сьпяваў у хоры, заснаваным гэтай арганізацыяй. Вучыўся на сьвятара й атрымаў дыяканскія сьвячэньні. Дапамагаў у багаслужбах у царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане. Пахаваны ў Лёндане на *North Sheen Cemetery*.

**МАРТАС Антон гл. АПАНАС**

**МАРТЫНАЎ Васіль** (07.05.1903 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 31.05.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАРЦІНКЕВІЧ Барбара** (дзяв. **Сяляўка,** па другім мужы **Мідэйла,** 06.12.1901, в. Буйкі (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 24.10.1973, Лёндан, Вялікабрытанія), маці *А. Міхалюк*. У часе Другой сусьветнай вайны апынулася ў Нямеччыне, дзе пазьней жыла ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. У 1947 г. прыехала ў Вялікабрытанію. Жыла ў Брадфардзе, пазьней — у Лёндане. Пахаваная ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**МАРЧАНКА Васіль** (нар. 29.08.1932, Рэчыца (сёньня Гомельская вобл.)), грамадзкі дзеяч. У 1948 г. прыехаў у Аўстралію. Пасяліўся

ў Сыднэі. Далучыўся да прыхільнікаў БЦР, уваходзіў у Беларускае аб'яднаньне ў Аўстраліі. З часу арганізацыі Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ўваходзіў у лік сябраў і доўгія гады быў ягоным гаспадаром.

**МАСКАЛІК Генавефа** (03.01.1930 — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 03.06.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАСКАЛІК Кастусь** (28.05.1918, Гарадзея (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 12.04.2010, Лёндан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. Служыў у Чырвонай Арміі, потым у Арміі Андэрса. У 1947 г. паступіў у рымскі езуіцкі калегіюм *Russicum*. 10.04.1955 атрымаў сьвятарскія сьвячэньні й праз паўгоду прыехаў у Лёндан, дзе стаў памочнікам пры Беларускай каталіцкай місіі. У 1958 г. выехаў у Парыж на пасаду кіраўніка Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. У 1962 г. быў пераведзены ў Рым як памочнік а. *П. Татарыновіча* ў працы на Ватыканскім радыё. З часам вярнуўся ў Лёндан, дзе зноў стаў жыць як сьвятар місіі. Ад 1993 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**МАСКАЛІК Міхась** (18.03.1903, Гарадзея (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 25.09.1965, Гільдэсгайм, Нямеччына), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, каталіцкі сьвятар усходняга абраду. У 1927—1931 гг. вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце. Пасьля зьехаў на навучаньне ў Тэхнічнай школе ў Бэрліне, адкуль праз два гады перабраўся ў Мюнхен, дзе ў калегіюме Сьв. Андрэя стаў вывучаць тэалёгію на стыпэндыю ад мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. У 1933 г. заснаваў Саюз беларусаў у Нямеччыне. 17.07.1938 быў пасьвечаны ў сьвятары. У часе Другой сусьветнай вайны выконваў абавязкі сьвятара ў лягерах ваеннапалонных польскай арміі ў Баварыі. У 1943 г. быў арыштаваны й цягам некалькіх месяцаў знаходзіўся ў лягеры Заксэнгаўзэн, адкуль вызвалены дзякуючы захадам Папскай місіі ў Нямеччыне. У пасьляваенны час жыў у г. Госьляр (Нямеччына). Быў ініцыятарам і кіраўніком Беларускай харытатыўнай службы. Праводзіў душпастырскую дзейнасьць у парафіях Радэборн, Оснабрук і Гільдэсгайм. У 1959 г. у Мюнхенскім унівэрсытэце абараніў доктарскую дысэртацыю па беларускай літаратуры „Янка Купала — пясьняр беларускага народу“ (*„Janka Kupala. Der Saenger des weissruthenischen Volkstum“*), якая ў 1961 г. выйшла ў Мюнхене на нямецкай мове.

**МАСКЕВІЧ Віктар** (15.05.1915 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Вэйкфілдзе

ў Ёрксе. Ад 22.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Магчыма, вярнуўся ў БССР.

**МАСЮК Сьцяпан** (07.04.1926, Маларыта (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Быў вывезены ў Сыбір, адкуль трапіў у Армію Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**МАХНАЧ Ванда** (дзяв. **Чарнэцкая**, 1918—2007), грамадзкая дзяячка. Вучылася ў Віленскім унівэрсытэце, была сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Працавала настаўніцай у Ляхавічах. У часе нямецкай акупацыі — дзяячка СБМ. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1950 г. перабралася ў ЗША. Жыла каля Чыкага.

**МАХНОЎСКІ Аляксандар** (24.09.1902, Дзьвінск (сёньня Даўгаўпілс, Латвія) — 19.10.1967, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. У часе Першай сусьветнай вайны разам з бацькамі быў у бежанстве ў Курску, дзе й вучыўся. Пасьля вайны вярнуўся ў Дзьвінск, дзе скончыў Беларускія настаўніцкія курсы і ў 1923 г. атрымаў атэстат першага выпуску Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. Працаваў настаўнікам у Пустынскай 6-класавай школе, а пазьней — у Прыдруйшчыне. У 1940—1941 гг. займаў пасаду дырэктара школы ў Ілукшчыне. Адначасова быў прадстаўніком беларускага настаўніцтва ў Дзьвінскай павятовай управе. У 1942—1944 гг. быў інспэктарам беларускіх школаў у Дзьвінскім, Луцынскім і Ілукштанскім паветах. У 1944 г. разам зь сям'ёй выехаў на Захад. У 1949 г. пасяліўся ў ЗША. Быў радным БНР, заступнікам Прэзыдэнта БНР *М. Абрамчыка*. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**МАЦКЕВІЧ Эдвард** (15.06.1927, Радашкавічы — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але падтрымаў апазыцыю й пакінуў арганізацыю на ўласнае жаданьне. Ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё". Пазьней сябра Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Жыў у Лідсе, Брадфардзе. Ягоная дачка Юлія ў 1964 г. узначальвала Беларускі юнацкі клюб у Брадфардзе.

**МАЦУК Мікола** (20.07.1920 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МАЦУКЕВІЧ Андрэй** (05.10.1914, Моталь (сёньня Іванаўскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 03.01.2003, Лонг-Айлэнд, Нью-Ёрк, ЗША),

грамадзкі дзеяч, стрыечны брат мітрапаліта *Мікалая*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Доўгі час жыў у Гіксвіле.

**МАЦУКЕВІЧ Мікалай** (30.10.1916, в. Вароніна (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 26.10.1991, Дэрбі, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Дэрбі. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Дэрбі на *Nottingham Road Cemetery*.

**МАЦУКЕВІЧ Міхась** гл. **МІКАЛАЙ**

**МЕЛЬЯНОВІЧ Васіль** (28.08.1934, в. Азярніца (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 06.10.2004, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *П. Мельяновіча*. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. прыехаў у ЗША. У 1954—1956 гг. служыў у амэрыканскім войску ў Панаме. У 1963 г. скончыў гарадзкі ўнівэрсытэт Нью-Ёрку з бакаляўрскай ступеньню інжынэра, у 1972 г. — унівэрсытэт Джорджа Вашынгтана (магістар мэнэджмэнту). Працаваў у тэлефоннай кампаніі *AT&T*. Жыў у г. Оўінгс-Мілз (Мэрылэнд). У 1961—1963 гг. быў старшынём Згуртаваньня беларуска-амэрыканскай моладзі. У 1960—1980-я гг. — прадстаўнік Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі на штат Мэрылэнд, быў першым старшынём Рады этнічных арганізацыяў штату Мэрылэнд. У 1979 г. выбраны старшынём Фэдэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клюбаў ЗША. Быў знаёмы з амэрыканскімі Прэзыдэнтамі Р. Рэйґанам і Дж. Бушам-старэйшым. У часе прэзыдэнцкай кампаніі 1988 г. быў нацыянальным старшынём акцыі „Беларусы за Буша“. Быў сябрам Рады дырэктароў беларускага адпачынкавага цэнтру „Белэр-Менск“. Працаваў беларускамоўным гідам на амэрыканскіх выставах у Менску (1989) і Берасьці (1991). Першым зь беларусаў ЗША атрымаў дыпляматычны пашпарт. У 1990-х пераехаў у Кліўлэнд, працаваў у гандлёвай кампаніі „Стэйплз“, браў удзел у жыцьці беларускай грамады ў Кліўлэндзе. Паводле тэстамэнту, пахаваны ў в. Азярніца Лунінецкага р-ну.

**МЕЛЬЯНОВІЧ Пётра** (10.09.1914, в. Азярніца (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 05.11.1990, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, бацька *В. Мельяновіча*. Сям’я была перасьледаваная Саветамі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягеры *DP* у Віндышбэргердорфе. У 1950 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага

задзіночаньня, актывістам яго Нью-Ёрскага аддзелу. Як прыхільнік *К. Мерляка* выйшаў з БАЗА. Збудаваў іканастасы царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**МЕРЛЯК Кастусь** (25.12.1919, в. Дзетамля (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 25.11.2006, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў курсы крэдытных інспэктараў Дзяржбанку СССР у Беластоку, працаваў бухгальтарам, старшым крэдытным інспэктарам на Наваградчыне. Падчас нямецкай акупацыі — у беларускай адміністрацыі, Самапомачы. У 1944 г. быў інтэндантам у Наваградзкім беларускім швадроне *Б. Рагулі*. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Знаходзіўся ў Італіі, дзе быў інтэрнаваны амэрыканскімі войскамі. У 1947 г. выехаў у Аргентыну, дзе стварыў і ўзначаліў мясцовае Згуртаваньне беларусаў. У 1954 г. пераехаў у ЗША. Быў радным БНР. У 1959—1964 гг. быў старшынём Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1965 г. выйшаў з арганізацыі й заснаваў Беларуска-Амэрыканскае аб'еднаньне ў Нью-Ёрку. У 1968 г. разам з аднадумцамі стварыў парафію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Ад 1969 г. браў удзел у дзейнасьці Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, уваходзіў у яго кіраўнічыя структуры, у 1970-х гг. некаторы час быў віцэ-прэзідэнтам БККА. У сярэдзіне 1990-х адышоў ад актыўнай грамадзкай дзейнасьці. У 1992 г. выдаў успаміны „Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі“. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**МІГАЙ Міхайла** (23.09.1904 — 28.01.1978, Таронта, Канада), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар. Рукапакладзены ў сан мітрапалітам *Аляксандрам*. У 1950 г. арганізаваў у Таронта прыход Беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у юрысдыкцыю экзарха канстанцінопальскага патрыярха. У 1954 г. прыняты ў БАПЦ і прызначаны ў дапамогу ўладыку *Мікалаю* на парафію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Пахаваны ў Таронта на *York Cemetery*.

**МІКАЛАЙ** (сьвецк. **Міхась Мацукевіч,** 21.05.1917, хут. Суяцін Самарскай губэрні Расеі — 20.06.2002, Таронта, Канада), рэлігійны дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. Нарадзіўся на хутары, дзе сям'я знаходзілася ў бежанстве. У 1921 г. разам з бацькамі вярнуўся ў Моталь (сёньня Іванаўскі р-н Берасьцейскай вобл.). У 1939 г. прызваны ў польскае войска, паранены, вярнуўся да бацькоўскай гаспадаркі, на якой працаваў у час нямецкай акупацыі. У красавіку 1944 г. быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну (зямля Паўночны Рэйн-Вэстфалія). Па вызваленьні

амэрыканскімі войскамі ў сакавіку 1945 г. прыехаў у Шатляндыю, працаваў на фэрме пад Глазга. Ад 09.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1949—1951 гг. жыў Беларускім доме ў Лёндане. У жніўні 1951 г. пераехаў у Таронта (Канада), а пазьней — у Вініпэг, дзе вучыўся ва Ўкраінскай багаслоўскай акадэміі (калегіі). 02.05.1952 рукапакладзены ў дыякана, а 06.05.1952 — у сьвятара. 04.10.1954 адслужыў у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта першую літургію. Быў настаяцелем гэтага прыходу, наведваў беларускія асяродкі ў Садбуры, Манрэалі, Лёндане, Кітчэнэры, Гвэлфе, Бэры, Брантфардзе, Атаве, Алістане ды інш. Паспрыяў заснаваньню парафіі БАПЦ Сьв. Духа ў Дэтройце (ЗША). 10.03.1968 у Адэляйдзе (Паўднёвая Аўстралія) хіратанісаны галавой БАПЦ Сергіям у япіскапа Турава-Пінскага й Таронцкага з імем Мікалай. У 1973 г. на Саборы БАПЦ узначаліў Канадзка-Эўрапейскую япархію БАПЦ. Удзельнік расколу БАПЦ у 1980-х, калі на Надзвычайным саборы БАПЦ у Кліўлэндзе (Агаё, ЗША) у 1983 г. быў абраны першым ярархам БАПЦ (паўторна абраны таксамаў 1984 г. на III Саборы БАПЦ). Спрычыніўся да пераводу багаслужбаў і літургічных кніг на беларускую мову. Выдаў „Праваслаўны малітоўнік“ (1966), „Службоўнік“ (1980). Аўтар успамінаў, якія рыхтуюцца да друку. Памёр у Таронта, пахаваны ў Іст-Брансьвіку (ЗША) на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**МІКУЛІЧ Аляксей** (07.04.1908 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МІКУЛІЧ Пётра** (12.08.1922, в. Бараўцы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 23.08.1981, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Па сканчэньні шасьцігадовай пачатковай школы вучыўся на вячэрніх курсах для дарослых, дзе асабліва зацікавіўся музыкай і сьпевамі. Пры канцы Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Інгальштаце (Нямеччына), адкуль у 1948 г. выехаў у Аўстралію. Адзін з ініцыятараў заснаваньня Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў, сакратар падсэктару Рады БНР у Мэльбурне, скарбнік каапэратыву Беларускага дому, скарбнік Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Доўгі час быў рэгентам царкоўнага хору парафіі БАПЦ у Мэльбурне, а таксама арганізаваў і да апошніх дзён жыцьця кіраваў беларускім мяшаным хорам. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**МІНКЕВІЧ Галіна** (дзяв. **Астроўская**, 19.05.1908 – 19.01.2004, ЗША), доктар мэдыцыны, дачка *Р. Астроўскага*, жонка *М. Мінкевіча*. Скончыла Віленскі ўнівэрсытэт. Пабралася шлюбам зь вядомым дзеячам нацыянальнага руху, старшынём Беларускага студэнцкага саюзу Ігнатам Гагалінскім, зь якім потым разышлася. Узяла шлюб з *М. Мінкевічам*. Падчас нямецкай акупацыі займалася прафэсійнай дзейнасьцю. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў Нямеччыне, Аргентыне, ад студзеня 1955 г. — у ЗША.

**МІНКЕВІЧ Мікалай** (08.04.1909, Лунінец (сёньня Берасьцейская вобл.) — 29.04.1980, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар, муж *Г. Мінкевіч*, зяць *Р. Астроўскага*. Паходзіў зь сям'і праваслаўнага сьвятара. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Вучыўся на мэдыцынскім факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У 1942 г. скончыў унівэрсытэт у Коўна. Ажаніўся з дачкой *Р. Астроўскага*. У 1942—1944 гг. працаваў лекарам у Баранавічах, дырэктарам Баранавіцкай мэдычнай школы, ад сакавіка 1944 г. — галоўны лекар БКА. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў лекарам пры *UNRRA* і *IRO* у брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны, браў удзел у грамадзкім жыцьці беларусаў у лягеры *DP* у Ватэнштэце. У 1949 г. выехаў зь сям'ёй у Аргентыну, дзе працаваў галоўным лекарам пры шпіталі ў Сан-Луісе. У студзені 1955 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у шпіталях у штатах Ілінойс, Агаё, Місуры, Індыяна, Мічыган. У 1976 г., пасьля выхаду на пэнсію, пераехаў у Флярыду. У 1977 г. на XVIII Пленуме БЦР быў абраны віцэ-прэзыдэнтам БЦР. У 1970-х гг. уваходзіў ва ўправу Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Ягоны архіў захоўваецца ў зборах пры царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры.

**МІРАНОВІЧ Алег** (? — ?), рэлігійны дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі (аддзелу у Брадфардзе), стваральнікам беларускага хору. У 1949 г. далучыўся да Беларускага камітэту сяброўства й сышоў з ЗБВБ. 05.05.1954 у грэцкай праваслаўнай царкве ў Лівэрпулі пасьвечаны ў сьвятары. Стваральнік Беларускай (кананічнай) праваслаўнай царквы ў Вялікабрытаніі (у юрысдыкцыі канстантынопальскага патрыярха), прыходы якой арганізаваў у Манчэстэры (Сьв. Мікалая), Нотынгеме (Сьв. Мікалая). Ад сярэдзіны 1950-х гг. быў настаяцелем царквы Сьв. Мікалая ў Манчэстэры. Пасьля расколу ў прыходзе захаваў частку прыхаджан, а таксама апеку над прыходам у Нотынгеме. У 1963 г. выехаў у Чыкага (ЗША), дзе стаў настаяцелем прыходу Сьв. Юрыя ў канстантынопальскай юрысдыкцыі. Быў удзельнікам беларускіх цар-

коўных зьездаў у ЗША. Ад 2000 г. — на пэнсіі — жыў у Элмвуд-Парку (штат Ілінойс).

**МІХАЙЛОЎСКІ Бэнэдзыкт** (19.04.1921, в. Дылевічы (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МІХАЛЬЧЫК Янка** (10.05.1925, Косаўскі пав. (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, належаў да дружыны ў Бірмінгеме.

**МІХАЛЮК Алена** (дзяв. **Марцінкевіч,** нар. 15.05.1930, в. Лонскія Браслаўскага пав. Віленскага ваяв. (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.)), грамадзкая дзяячка, дачка *Б. Марцінкевіч*, жонка *Я. Міхалюка*. Вучылася ў польскай і беларускай школах. У часе Другой сусьветнай вайны разам з маці апынулася на працах у Нямеччыне. Пазьней трапіла ў беларускі лягер *DP* у Ватэнштэце; вучылася ў беларускай гімназіі, брала ўдзел у скаўтынгу. У 1947 г. прыехала на працу ў Вялікабрытанію. Працавала на тэкстыльнай фабрыцы. Пасялілася ў Брадфардзе, дзе ў 1949 г. пабралася шлюбам зь *Я. Міхалюком*. Ад 28.07.1947 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1960-х гг. аддала трох сыноў у беларускую школу-інтэрнат імя Сьв. К. Тураўскага ў Лёндане й сьледам за імі разам з мужам пераехала ў брытанскую сталіцу. У 1965–1970 гг. працавала гаспадыняй у гэтай школе-інтэрнаце. Актыўна падтрымоўвала БАПЦ у Вялікабрытаніі. У 1982 г. была прынятая ў сябры Рады БНР. Сябра Англа-Беларускага таварыства. Пасьля сьмерці мужа ў 1995 г. пераехала зь Лёндану ў Манчэстэр. У 1997—2013гг. займала пасаду старшыні ЗБВБ.

**МІХАЛЮК Янка** (22.10.1922, в. Пузічы Лунінецкага пав. Палескага ваяв. (сёньня Салігорскі р-н Менскай вобл.) —31.03.1995, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай школе. У часе Другой сусьветнай вайны ўступіў у шэрагі СБМ, быў кіраўніком гэтай арганізацыі на Лунінецкую акругу. Улетку 1944 г. у часе бамбардаваньня быў паранены й вывезены ў шпіталь у Варшаву, а потым у Нямеччыну. Далей трапіў у Італію, дзе ўступіў у шэрагі Другога польскага корпусу, разам зь якім пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 27.12.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад-

ным з заснавальнікаў беларускага жыцьця ў Брадфардзе. Пазьней уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага камітэту сяброўства й рэдкалегію часопіса „Патрыёт“, быў сябрам Хрысьціянскага аб’яднаньня беларускіх работнікаў. У 1951 г. выйшаў з ХАБР і вярнуўся ў ЗБВБ. Ад таго часу быў пастаянным сябрам управы Акруговага аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе, у 1955 г. — яго старшыня. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Актывіст БАПЦ у Брадфардзе, адзін са стваральнікаў мясцовай парафіі Сьв. Спаса, уваходзіў у Вікарыяльную ўправу БАПЦ у Вялікабрытаніі. Ад 1957 г. — радны БНР. У 1965 г. разам зь сям’ёй пераехаў у Лёндан. Быў пастаянным сябрам Галоўнай управы ЗБВБ, і ў 1970—1995 гг. — нязьменным старшынём арганізацыі. Належаў да кіраўніцтва Англа-Беларускага таварыства, займаўся распаўсюдам часопіса *The Journal of Byelorussian Studies*. Уваходзіў у Раду апекуноў Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**МІЦКЕВІЧ Аляксандар** (нар. 1919, в. Мікалаеўшчына (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, пляменьнік *М. Міцкевіча*, брат *В. Міцкевіча*. *У* 1950-х гг. прыехаў у ЗША. Жыве ў Нью-Ёрку. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі, кіраўніцтва Нью-Ёрскага аддзелу. Ад 1965 г. быў сябрам рэдкалегіі ды распаўсюднікам газэты „Беларус“. У 1980—1990-х выдаваў бюлетэнь „Весткі й паведамленьні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА“. Радны БНР.

**МІЦКЕВІЧ Валянцін** (03.09.1918, в. Мікалаеўшчына (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 19.08.2005, Нью Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, пляменьнік *М. Міцкевіча*, брат *А. Міцкевіча*. У 1939 г. быў прызваны ў польскае войска. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Францыі. Вучыўся ў Парыжы, уваходзіў у рэдкалегію часопіса „Моладзь“. У 1961 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**МІЦКЕВІЧ Міхась** (псэўд. **Антось Галіна**, 13.07.1897, в. Мікалаеўшчына (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 25.10.1991, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, пісьменьнік, пэдагог, наймалодшы брат Якуба Коласа, дзядзька *А.* і *В. Міцкевічаў*. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Удзельнічаў у Першым Усебеларускім кангрэсе. Працаваў школьным інспэктарам, зарганізоўваў беларускае школьніцтва. Ад верасьня 1939 г. быў настаўнікам, потым — дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з арганізатараў

беларускага лягеру *DP у* Рэгенсбургу. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне, а таксама Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, дзе працаваў настаўнікам. Аўтар чатырох чытанак для дзяцей. У 1950 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывістам Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. У 1950-х гг. быў сябрам рэдкалегіі, а ў 1962 г. рэдактарам газэты „Беларус“. Выкладаў у беларускай школе ў Нью-Ёрку. У 1970—1981 гг. пасьля сьмерці ўладыкі *Васіля* займаўся выданьнем часопіса „Голас царквы“. Перакладаў на беларускую мову кананічныя й службоўныя тэксты. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**МІЦКЕВІЧ Франц** (01.09.1924, Лепель (сёньня Віцебская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне.

**МОНІД Арсень** (15.08.1925, в. Хатуцічы (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 28.07.2005, Канада), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладэчанскай адміністрацыйна-гандлёвай школе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Францыі, дзе браў удзел ў працы Аб’еднаньня беларускіх работнікаў, быў рэфэрэнтам Галоўнай ўправы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі. У 1948 г. быў удзельнікам Зьезду беларускай эміграцыі ў Парыжы. Радны БНР. У сярэдзіне 1950-х гг. перабраўся ў Канаду. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады.

**МОНІД Мікола** (19.12.1913, м. Новая Вялейка (сёньня Летува) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 01.07.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МРОЧКА Аляксандар** (01.01.1924, в. Зарэчча Слонімскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.04.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**МУКАСЕЙ Уладзімер** (10.05.1927, в. Шчорсы (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лідсе. Ад 20.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МУРАШКА Юстын** (27.07.1890 — 30.10.1952, Эдмантан, Альбэрта, Канада), грамадзкі дзеяч. Да беларускага руху далучыўся ў 1917 г., быў сябрам Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, у 1918 г. ува-

ходзіў у якасьці яе прадстаўніка ў склад Рады БНР. Учэрвені 1919 г. быў выбраны сакратаром прэзыдыюму Беларускай рады Віленшчыны й Гарадзеншчыны. Сябра Беларускай вайсковай камісіі. У 1920—1930-х гг. займаў адміністрацыйныя пасады — войт, начальнік павету — на Ашмяншчыне й Вялейшчыне. У 1928 г. балятаваўся ў сойм са сьпісу *Я. Станкевіча*. Быў фармальным старшынём Беларускай сялянскай партыі. У лістападзе 1941 г. прызначаны бургамістрам Ашмянаў. Пазьней быў бургамістрам у Валожыне. Арыштоўваўся нямецкімі ўладамі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Заходняй Нямеччыне, Францыі. Браў удзел у першым Сусьветным зьезьдзе беларускай эміграцыі. У 1950 г. разам зь сям'ёй выехаў у Канаду. Жыў у Эдмантане, дзе й пахаваны на каталіцкім могільніку.

**МУХА Іван** (03.12.1912, м. Ахроміевічы Карукоўскага р-ну (сёньня Чарнігаўская вобл. Украіны) — 03.02.1982, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў сярэднюю школу й тэхнікум. Вучыўся ў настаўніцкім інстытуце ў Нежыне. Працаваў настаўнікам матэматыкі й фізыкі. У 1939 г. быў мабілізаваны ў армію, трапіў у танкавую школу ў Гомелі. У 1942—1945 гг. працаваў настаўнікам у Нясьвіскай сэмінарыі. Двойчы быў арыштаваны, больш як месяц праседзеў у Баранавіцкай турме. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, у лягерах *DP* у Розэнгайме, Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, працаваў настаўнікам матэматыкі й фізкультуры ў гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Ад часу набыцьця адпачынковага цэнтру „Белэр-Менск" дапамагаў праводзіць спартовыя гульні. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**МШАР Дзьмітры** (01.10.1904, в. Стрыгінь (сёньня Бярозаўскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 16.06.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МШАР Уладзімер** (08.02.1923, Чыкага, ЗША — ?), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў беларускай сям'і. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ўорчэстэры. Ад 10.06.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МЫЧКО Аляксандар** (18.03.1919, Пружанскі пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МЫШКОЎСКІ Янка** (25.05.1923, в. Драбоўшчына на Браслаўшчыне (?) — 01.03.1970, Канада), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусь-

ветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Жыў у Таронта, Ашаве. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады.

**МЫШЭПУД Дзьмітры** (10.09.1920, Столін (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 15.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МЯДЗЕЙКА Нікандар** (28.08.1914, в. Панькі (сёньня Івейскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.12.1987, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Барунах да яе ліквідацыі ў 1932 г. Скончыў гімназію ў Вільні. У 1936—1939 гг. служыў у польскім войску. У 1939—1941 гг. працаваў настаўнікам беларускай мовы й літаратуры ў Маладэчне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў школьным інспэктарам у Маладэчанскім павеце, затым — у Лідзкай акрузе. Ад лістапада 1942 г. да верасьня 1943 г. кіраваў акруговай управай Беларускай народнай самапомачы ў Глыбокім. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне (француская зона акупацыі) скончыў унівэрсытэт *UNRRA* з дыплёмам інжынэра меліярацыі. У лютым 1948 г. пераехаў у Францыю, дзе быў кіраўніком Дэлегатуры БЦР. У красавіку 1954 г. разам зь сям'ёй выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансьвіку (Нью-Джэрзі). 04.09.1954 прызначаны першым віцэ-прэзыдэнтам БЦР. Быў скарбнікам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1977—1987 гг. быў Прэзыдэнтам БЦР. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**МЯЛЕНЦЬЕЎ Алімп** (? — 1964), кампазытар і дырыжор. Расеец паводле паходжаньня, да вайны працаваў ва Ўкраіне. У часе нямецкай акупацыі апынуўся ў Нямеччыне, дзе далучыўся да сьпеўна-танцавальнай групы „Жыве Беларусь!“, разам зь якой гастраляваў па лягерах *DP*. Па сканчэньні вайны ўдзельнічаў у працы Беларускага тэатру эстрады, дапамагаў у арганізацыі беларускіх мерапрыемстваў у лягерах *DP*. Ягоная жонка Марыя, сьпявачка, удзельнічала ў беларускіх мерапрыемствах разам зь ім. Пазьней сям'я пераехала ў ЗША, жыла ў Лос-Анджэлесе.

**МЯТЛА Павал** (12.06.1921, Дзісна (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 15.07.1991, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Адтуль прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Сярэдняй Англіі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**МЯЦЕЛІЦА Аляксандар** (10.09.1903, в. Радзюкі (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой

сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Рэдынгу. Ад 02.06.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**НАБАГЕЗ Уладзімер** (20.10.1919, в. Сялец (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 11.01.2011, Уолдэн, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар. Вучыўся ў польскай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Навагрудку. У 1939 г. быў прызваны ў польскае войска, трапіў у палон. Вызвалены ў 1941 г. Жыў у Кёнігсбергу, Данцыгу (Гданьску). Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны вучыўся на мэдычным факультэце Марбурскага ўнівэрсытэту, пазьней перайшоў у Лювэнскі ўнівэрсытэт (Бэльгія), які скончыў з дыплёмам доктара мэдыцыны. Сябра Беларускага студэнцкага таварыства. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Працаваў у Нью-Ёрскім шпіталі, пазьней распачаў прыватную практыку ў г. Уолдэн (штат Нью-Ёрк). Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1963—1968 гг. — кіраўнік яго Нью-Ёрскага аддзелу.

**НАВАГРОДЗКАЯ Ганна** (15.12.1900, в. Кавалі на Палесьсі (?) — 08.05.1980, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была парафіянкай прыходу Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Carlton Cemetery*.

**НАВАГРОДЗКІ Ян** (03.08.1900, в. Кавалі на Палесьсі (?) — 19.09.1980, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Быў парафіянінам прыходу Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Carlton Cemetery*.

**НАВАК Язэп** (09.08.1921 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Шатляндыі. Ад 22.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**НАВАРА Павал** (17.09.1927, в. Купіск (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 24.05.1983, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1942—1944 гг. вучыўся ў Навагрудзкай настаўніцкай сэмінарыі. Ад вясны 1944 г. быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС. У верасьні 1944 г. разам з калегамі здаўся ў палон амэрыканцам ля в. Клэрваль (Францыя) і пазьней далучыўся да Другога польскага корпусу. Па сканчэньні падафіцэрскай школы ў Сан-Базыліё на поўдні Італіі браў удзел у баявых дзеяньнях на поўначы Апэнінаў. У жніўні 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію, дзе стаў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі й рэгулярна абіраўся ў Галоўную ўправу арганізацыі. Ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'ед-

наньня „Жыцьцё“, ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1952 г. скончыў факультэт матэматыкі, хіміі й фізыкі Лёнданскага ўнівэрсытэту. Працаваў хімікам у лёнданскіх лябараторыях. У 1954 г. быў адным з ініцыятараў стварэньня Англа-Беларускага таварыства. У Галоўнай управе ЗБВБ часта абіраўся на пасаду старшыні, а таксама доўгі час ў 1970-х быў сакратаром арганізацыі. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**НАВІЦКАЯ Натальля** (дзяв. **Тупік**, 17.2.1920, в. Рэмель Столінскага пав. (?) — ?), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Канадзе. Шматгадовая ўдзельніца царкоўнага хору пры парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) у Таронта.

**НАВІЦКІ Валер** (12.11.1920, в. Дубейкі (сёньня Капыльскі р-н Менскай вобл.) — 15.06.2001, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. У пачатку 1930-х бацькоўская сям’я была раскулачаная. Скончыў Слуцкі пэдтэхнікум, працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі — старшы зьвязовы СБМ (Грэскі раён). Ад лета 1944 г. — на выгнаньні. Быў у дывізіі Зыглінга. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Быў сябрам рэдкалегіі газэты „Беларускі эмігрант“. Супраць яго, а таксама і супраць *К. Акулы* як рэдактара той самай газэты, быў скіраваны пазоў *С. Хмары* й *В. Камароўскага*. Пахаваны ў Таронта на *York Cemetery*.

**НАВІЦКІ Ўладзімер** (16.02.1910, в. Бобрына каля Баранавіч — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 17.01.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**НАВУМЧЫК Сьцяпан** (31.03.1933, Заастравечча (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 27.02.2006, Саўт-Рывэр, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. разам з бацькамі выехаў на эміграцыю. Па капітуляцыі Нямеччыны знаходзіўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, належаў да беларускіх скаўтаў. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Служыў у амэрыканскай арміі ў Нямеччыне. Жыў у Саўт-Рывэры. Працаваў у кампаніі *Johnson & Johnson*. Браў актыўны ўдзел у жыцьці парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. У 1980-х гг. належаў да рады Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**НАГОРНЫ Браніслаў** (20.04.1924, в. Дурневічы (сёньня в. Лугавая Баранавіцкага р-ну Берасьцейскай вобл.) — ?, Францыя), грамадзкі дзеяч. У 1945 г. прыбыў у Францыю. Жыў у мястэчку Ля Крэзо. Быў сябрам мясцовага аддзелу Аб’еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі.

**НАДМАНСКІ Міхась** (07.10.1922, в. Журкаўшчына Браслаўскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Шэфілдзе. Ад 10.09.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**НАДСАН Аляксандар** (сапр. **Бочка**, нар. 08.08.1926, в. Гарадзея (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.)), рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Скончыў курсы малодшых кіраўнікоў СБМ у Альбярціне. У чэрвені 1944 г. стаў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе ў Італіі, дзе браў удзел у баявых дзеяньнях і быў паранены. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, рэдактар яго часопісаў „Беларус на чужыне“ й „На шляху“, старшыня арганізацыі ў 1951—1953 гг. Быў адным са стваральнікаў Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’еднаньня „Жыцьцё“, Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб’еднаньня „Рунь“, а таксама Беларускага незалежніцкага народна-хрысьціянскага руху. Скончыў матэматычны факультэт Лёнданскага ўнівэрсытэту. Увосень 1953 г. паехаў вучыцца ў Грэцкую калегію ў Рыме. 23.11.1958 атрымаў сьвячэньні сьвятара ўсходняга абраду. У ліпені 1959 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Нотынгеме й ажыцьцяўляў душпастырскую дзейнасьць у Цэнтральнай і Паўночнай Англіі. Ад 1961 г. стаў адным з кіраўнікоў беларускай школы імя К. Тураўскага ў Лёндане. Ад 1971 г. кіруе Беларускай бібліятэкай-музеем імя Ф. Скарыны. Актыўна ўдзельнічаў у працы ЗБВБ, Харытатыўнай сэкцыі, Англа-Беларускага таварыства. У 1981 г. стаў на чале Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. 30.06.1986 быў прызначаны на пасаду апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы. Стваральнік і кіраўнік Камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі. Аўтар шэрагу перакладаў літургічных тэкстаў на беларускую мову, публікацыяў з гісторыі беларускай царквы й культуры. Ганаровы доктар Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту.

**НАЙДЗЮК Часлаў** (28.08.1915, в. Бойдаты (сёньня Ваўкавыскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.03.1995, Пасадэна, Каліфорнія, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат *Я. Найдзюка,* муж *Ю. Найдзюк*. Адвакат паводле адукацыі. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Вялейцы на пасадзе міравога судзьдзі, узначальваў акруговую ўправу Беларускай народнай самапомачы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў

Нямеччыне. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Лос-Анджэлесе, узначальваў мясцовы аддзел Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту, быў прадстаўніком Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі на штат Каліфорнія. Пахаваны на *Forest Lawn Hollywood Hills Cemetery*.

**НАЙДЗЮК Юзэфа** (дзяв. **Брэчка**, 01.02.1927, в. Мазуркі (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 19.11.2004, Пасадэна, Каліфорнія, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Ч. Найдзюка*. У часы нямецкай акупацыі вучылася ў Баранавіцкай гандлёва-адміністрацыйнай школе, была сябрам СБМ. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў лягерах *DP* у Розэнгайме й Шляйсгайме. У 1945—1947 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, была адной з кіраўнічак беларускіх скаўтаў. Працавала ў тэхнічным аддзеле беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“. У 1956 г. прыбыла ў ЗША. Пабралася шлюбам з *Ч. Найдзюком* і пераехала ў Каліфорнію. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай яго Каліфарнійскага аддзелу. Пахаваная на *Forest Lawn Hollywood Hills Cemetery*.

**НАЙДЗЮК Язэп** (12.05.1909, в. Бойдаты (сёньня Ваўкавыскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 14.02.1984, Інаўроцлаў, Польшча), грамадзкі дзеяч, выдавец, друкар, брат *Ч. Найдзюка*. У 1926—1941 гг. быў дырэктарам Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны ў Вільні. Належаў да Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Рэдагаваў часопіс „Шлях моладзі“, які быў ліквідаваны польскімі ўладамі, а сябры рэдакцыйнай калегіі — арыштаваныя й зьняволеныя (вызвалены ў верасьні 1939 г.). У часе нямецкай акупацыі ў Менску працаваў у школьным інспэктарацe й тэхнічным кіраўніком Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску, супрацоўнічаў зь менскімі газэтамі. Пасьля вайны пераехаў у Польшчу, дзе жыў у Інаўроцлаве пад імем Юзафа Александровіча. Аўтар папулярнага гістарычнага нарысу „Беларусь учора і сяньня“.

**НАРКЕВІЧ Леанід** (16.2.1925, Вялейка (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1947 г. прыбыў у Канаду. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады, аддзелу ў Садбуры.

**НАРУШЭВІЧ Вольга** (дзяв. **Воўк-Левановіч**; 1924, м. Мядзьведзічы Баранавіцкае акругі — ?, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, сястра *А. Каранеўскай*. Пачала навучаньне ў Віленскай беларускай гімназіі, але скончыць не пасьпела. Вучылася ў Баранавіцкай мэдычнай школе пад кіраўніцтвам *Я. Малецкага*. Пазьней з паваеннай Нямеччыны паехала студыяваць фармацэўтыку ў Львэне. У 1952 г.

сьледам за бацькоўскай сям’ёй пераехала ў Аўстралію. У Сыднэі пабралася шлюбам з інжынэрам *С. Нарушэвічам*. Была сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу. Дапамагала ў падрыхтоўцы нацыянальных выставаў. Няспынны ахвярадаўца на беларускія эміграцыйныя выданьні й розныя грамадзкія ініцыятывы.

**НАРУШЭВІЧ Станіслаў** (23.05.1913, Браслаўшчына — 2001, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. працаваў у беларускай сэкцыі Бэрлінскага радыё. Па сканэньні Другой сусьветнай вайны скончыў горны ўнівэрсытэт у Боне (Нямеччына) з дыплёмам інжынэра. У лістападзе 1947 г. прыехаў у Аўстралію. Працаваў на Сьнежнагорскай гідраэлектрычнай сыстэме. Адзін са стваральнікаў Беларускага аб’еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі й яго апошні старшыня ў 1972—1980 гг. Быў таксама некаторы час старшынём аўстралійскага сэктару Рады БНР. Сябра Беларускага культурна-грамадзкага клюбу.

**НАЎМЕНКА Антон** (01.02.1925, в. Раманаўка на Мазыршчыне (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ковэнтры. Ад 14.03.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**НАЎМОВІЧ Міхась** (1922, в. Рамашкевічы, Наваградчына — 08.03.2004, Парыж, Францыя), мастак, грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Францыі. У 1953 г. скончыў факультэт скульптуры Нацыянальнай вышэйшай школы мастацтваў у Парыжы. Браў удзел у беларускім нацыянальным жыцьці, спрычыніўся да стварэньня Беларускага незалежнага аб’еднаньня моладзі, выдаваў часопіс „Моладзь“. Радны БНР.

**НАЎМОВІЧ Тодар** (04.10.1920 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**НЕРАД Аляксандар** (08.07.1923, в. Спудвілы Гарадзенскага пав. (сёньня Бераставіцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Зь Вялікабрытаніі выехаў у Канаду, але вярнуўся назад і з дапамогай мясцовага Згуртаваньня беларусаў уладкоўваўся зноў у Брытаніі. Жыў у Манчэстэры. Ад 20.11.1952 быў сябрам ЗБВБ і Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**НЕСЬЦЕРАЎ Пахом** (15.05.1910, в. Лявонпаль (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 20.11.1971, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Ад 25.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у

Вялікабрытаніі. Прыхаджанін БАПЦ. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Cemetery*.

**НІКАН Лідзія** (дзяв. **Бешанкоўская**, 25.10.1921 — 23.10.1973, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *М. Нікана*. У часе Другой сусьветнай вайны была вывезеная ў Нямеччыну, пазьней на прапанову Міжнароднага Чырвонага Крыжа працавала ў Швэцыі. Перабралася ў Лёндан, дзе ў 1950 г. пабралася шлюбам з *М. Ніканам*. Была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1952 г. выехала разам з мужам у Аўстралію, дзе таксама далучылася да беларускага жыцьця. Пахаваная ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**НІКАН Мікола** (03.01.1908, Варшава, Польшча — 16.06.1999, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, брат *Ю. Нікана*, муж *Л. Нікан*. Нарадзіўся ў сям'і беларусаў. Меў вышэйшую адукацыю. У 1929 г. служыў у польскім войску, пасьля — настаўнічаў у Беларусі ў польскай школе й на настаўніцкіх курсах у Горадні. У 1939 г. быў арыштаваны савецкімі ўладамі й высланы ў Варкуту. У 1942 г. далучыўся да Арміі Андэрса. У шэрагах Другога польскага корпусу прайшоў праз Сырыю, Эгіпет, удзельнічаў у ваенных дзеяньнях у Італіі. У 1947 г. у Вялікабрытаніі дэмабілізаваўся ў рангу капітана. Ад пачатку 1948 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі і ў 1950–1951 гг. — старшынём арганізацыі. Таксама ад 1948 г. быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё“, ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1952 г. пераехаў на сталае жыхарства ў Мэльбурн (Аўстралія), дзе адразу далучыўся да беларускага грамадзкага жыцьця. Быў сакратаром Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі, сакратаром Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Доўгі час быў прадстаўніком БЦК у Камітэце паняволеных народаў. Выкладаў беларускую мову й геаграфію ў беларускай школе ў Мэльбурне. Быў адным з ініцыятараў набыцьця Беларускага дому, падтрымаў ідэю арганізацыі Сустрэчаў беларусаў Аўстраліі. Доўгія гады распаўсюджваў беларускую прэсу ў штаце Вікторыя й быў сталым карэспандэнтам з Мэльбурну для розных эміграцыйных выданьняў. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**НІКАН Юры** (1909 — 06.03.1983, Лёндан, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч, брат *М. Нікана*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Жыў у Лёндане (Антарыё). Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады.

**НІХАЁНАК Янка** (06.03.1920, Вэрмонт, ЗША — 04.01.1986, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Бацькі, беларускія эмігранты ў ЗША, на

пачатку 1920-х гг. вярнуліся ў в. Лебедзева Маладэчанскага пав. Віленскай губ. (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.). У часе Другой сусьветнай вайны настаўнічаў. У 1944 г. апынуўся ў Францыі. У чэрвені 1947 г. як амэрыканскі грамадзянін меў магчымасьць адным зь першых прыехаць у ЗША. Спачатку вярнуўся ў Вэрмонт, потым пераехаў у Чыкага, дзе скантактаваўся зь дзеячамі Рады БНР *Я. Варонкам* і *Я. Чарапуком-Змагаром*. У 1948 г. перабраўся ў Саўт-Рывэр (Нью-Джэрзі), дзе выдаваў першы паваенны беларускі пэрыёдык у ЗША — „Беларус у Амэрыцы“. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, першы сакратар Галоўнай управы арганізацыі. Ад 1949 г. жыў у Нью-Ёрку. Дапамагаў у выданьні першых нумароў газэты „Беларус“. Пазьней быў адным з рэдактараў моладзевага часопіса „Віці“. У 1950-х гг. быў бібліятэкарам БАЗА. Як амэрыканскі грамадзянін удзельнічаў у легалізацыі беларускіх арганізацыяў у ЗША.

**НОР Кастусь** (11.08.1918, Горадня — 29.03.1992, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Напярэдадні Другой сусьветнай вайны скончыў электрычны ліцэй у Вільні. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 28.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, старшынём Першага зьезду арганізацыі ў 1947 г., сябрам Галоўнай управы. У часе расколу ЗБВБ пакінуў арганізацыю й стаў сябрам Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў. Доўгі час быў сябрам Галоўнай управы ХАБР. Памёр у шпіталі Чэрынг-Крос, Хамэрсьміт (Лёндан).

**НОРЫК Мадэст** (27.03.1892, Наваградчына — 05.03.1974, ЗША), грамадзкі дзеяч. Да 1917 г. быў афіцэрам царскай арміі. У 1944 г. — асьветны афіцэр БКА ў Наваградку. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**НЯДЗЬВЕДЗКІ Пётра** (16.03.1918, в. Вераб’і (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — 02.09.2000, Эшвіл, Паўночная Караліна, ЗША), грамадзкі дзеяч, паэт, мастак. Падчас нямецкай акупацыі быў намесьнікам акругова кіраўніка СБМ на Вялейшчыну. Аўтар некалькіх патрыятычных песень, у тым ліку — „Ідуць жаўнеры-беларусы“. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягеры *DP* у Ватэнштэце, браў удзел у беларускім жыцьці. Быў кіраўніком мужчынскага хору „Рэвэлерсы“. Пры канца 1940-х прыехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры, пасьля — Іст-

Брансьвіку. Працаваў тэхнічным лябарантам на фармацэўтычнай фабрыцы. Належыў да БЦР. Ад 1997 г. жыў у Паўночнай Караліне.

**НЯДЗЬВЕЦКІ Сьцяпан** (30.04.1922 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 03.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**НЯМЧЭНЯ Васіль** (27.02.1916 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лідсе. Ад 21.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**НЯПОМНІК Сяргей** (05.05.1925, Пухавічы (сёньня Менская вобл.) — 08.03.1991, Рочдэйл, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Жыў у Рочдэйле. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Рочдэйле на мясцовых могілках.

**НЯРОНСКІ (НАРОНСКІ) Іван** (1909 — ?), ад’ютант *Р. Астроўскага*. У 1941—1944 гг. быў памочнікам *Р. Астроўскага* падчас працы ў Бранскай і Смаленскай адміністрацыях, у 1944 г. — яго ад’ютант і кіроўца. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны жыў у Браўншвайгу (Ніжняя Саксонія).

**ОКУНЬ Канстанты** (09.05.1913, в. Обрына (сёньня пас. Першамайскі Карэліцкага р-ну Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Беларускай паліцыі парадку, потым трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, а пазьней ў Армію Андэрса, разам з жаўнерамі якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.06.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ОРСА Аляксандар** (24.07.1896, в. Нягневічы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 02.11.1959, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог, брат *П. Орсы*, муж *Н. Орсы*, бацька *Г. Орсы* й *А. Орсы-Рамана*. У 1913 г. скончыў наваградзкае гарадзкое вучылішча, потым — двухгадовыя настаўніцкія курсы. Мабілізаваны ў царскае войска, скончыў школу прапаршчыкаў і быў накіраваны на фронт. У 1918 г. вярнуўся на радзіму, настаўнічаў. У 1923—1929 гг. вучыўся ў Празе ва Ўкраінскім пэдагагічным інстытуце, потым у Карлавым унівэрсытэце. Доктар прыродазнаўчых навук. У 1929—1934 гг. выкладаў прыродазнаўства ў Наваградзкай беларускай гімназіі. У 1938 г. разам зь сям’ёй прымусова выселены ў этнічную Польшчу, аднак з пачаткам Другой сусьветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў, працаваў школьным інспэктарам у Наваградзкай акрузе. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу, Міхельсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў лябарантам у шпіталі. Арганізоўваў першыя беларускія школкі ў ЗША. Адзін з

заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня й БІНіМу. Старшыня Нью-Ёрскага сэктару Рады БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ОРСА Галіна** (15.02.1930, в. Нягневічы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.04.1984, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, дачка *Н.* і *А. Орсаў*, сястра *А. Орса-Рамана*. Ад лета 1944 г. разам з бацькоўскай сям'ёй на эміграцыі. У 1949 г. скончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Віндышбэргердорфе. Пазьней прыехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня й Жаночага згуртаваньня. Актыўная парафіянка прыходу БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ОРСА Натальля** (дзяв. С**азановіч,** 19.08.1903, в. Сланеўская Воля (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 18.01.1990, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, пэдагог, жонка *А. Орсы*, маці *Г. Орсы* й *А. Орса-Рамана*. Скончыла наваградзкую гімназію, а ў 1927 г. — Украінскі пэдагагічны інстытут у Празе. Працавала выхавацелькай дзявочага інтэрнатуў Наваградзкай беларускай гімназіі, а таксама выкладала беларускую мову й літаратуру, у тым ліку і ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі ў часы нямецкай акупацыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. У 1949 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіла ва ўправу й кіравала жаночай сэкцыяй Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Радная БНР. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ОРСА Пётра** (21.06.1898, в. Нягневічы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 13.05.1990, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат *А. Орсы*. У 1920-х гг. скончыў агранамічны факультэт у Празе, быў спэцыялістам у галіне малочнай індустрыі. У часе нямецкай акупацыі ўзначальваў аддзел сельскай гаспадаркі Беларускай Цэнтральнай Рады, удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў спачатку ў Нямеччыне, а пазьней у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры, быў радным БЦР, сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, прыхаджанінам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ОРСА-РАМАНА Ала** (нар. 14.05.1936, Наваградак (сёньня Гарадзенская вобл.)), грамадзкая дзяячка, доктар хімічных навук, дачка

*А.* і *Н. Орсаў*, сястра *Г. Орсы*. У 1945—1949 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, удзельнічала ў скаўцкім руху. У 1949 г. разам з бацькамі прыехала ў ЗША. У 1957 г. скончыла Нью-Ёрскі гарадзкі ўнівэрсытэт. Ад 1970 г. была прафэсарам хіміі гэтага ўнівэрсытэту. У 1950-х гг. заснавала танцавальны гурт „Васілёк“, які прыяжджаў у тым ліку й Беларусь. Уваходзіць у кіроўныя органы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 2000 г. заснавала Фундацыю свайго імя. Кіруе царкоўным хорам пры беларускай царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Уваходзіць у Прэзідыюм Рады БНР.

**ПАДГАЙСКІ Іван** (15.03.1908, в. Жарава Пастаўскага пав. — 1957, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, Згуртаваньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў.

**ПАДЗЯВА Тамаш** (06.02.1906, в. Перхулёва Друйскай парафіі — 02.10.1975, Лёндан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. У 1926 г. уступіў у навіцыят марыянаў у Друі. У 1929 г. скончыў гімназію й выехаў на навучаньне ў Рым. У 1931 г. атрымаў ступень доктара філязофіі, а ў 1935 г. — ліцэнцыята тэалёгіі. 23.12.1934 атрымаў сьвятарскія сьвячэньні. У 1935 г. выехаў у Харбін, дзе быў выхавальнікам у ліцэі Сьв. Мікалая, а таксама выкладчыкам рэлігіі. Публікаваўся ў „Каталіцкім весьніку“. У 1938—1939 гг. быў магістрам навіцыяту. У 1948 г. разам з іншымі сьвятарамі быў схоплены кітайскімі жаўнерамі, перададзены НКУС і вывезены ў турму ў Чыце. Асуджаны на 25 гадоў лягераў. Пакараньне адбываў у Тайшэтлягу. У 1955 г. быў вызвалены, атрымаў магчымасьць выехаць у Польшчу, дзе нейкі час выкладаў у сэмінарыі, актыўна друкаваўся. У 1969 г. выехаў у Рым, а адтуль — у Лёндан пад апеку біскупа *Ч. Сіповіча*. Шмат друкаваўся на старонках часопіса „Божым шляхам“. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**ПАДЛАЗЬНІК Мікалай** (на эмігр. **Партлезьнік**, 04.01.1904, Менск — 1983, Пасэйк, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны трапіў у палон. Вызвалены, далучыўся да Арміі Ўласава, уваходзіў у Беларускі камітэт пры Камітэце вызваленьня народаў Расеі. У лягерах *DP* у Нямеччыне далучыўся да беларускага руху. У 1946—1947 гг. разам зь *Я. Кіпелем, С. Шаўцовым, С. Жамойдам, М. Сьцяпанавым* заснаваў Беларускую народную партыю. Увайшоў у Арганізацыю беларускіх вэтэранаў, створаную *Ф. Кушалем*. У канцы 1940-х гг. пераехаў у ЗША. Жыў у Пасэйку (Нью-Джэрзі). Браў удзел у беларускіх арганізацыях, у тым ліку Згуртаваньні беларускіх вэтэранаў, Беларускім кангрэсавым камітэце Амэрыкі. Пахаваны ў Пасэйку на гарадзкіх могілках.

**ПАЗЬНЯК Язэп**, (да эмігр. **Вайніловіч,** 25.01.1925, Случчына — 10.12.1989, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч, унук фундатара менскага Чырвонага касьцёла Эдварда Вайніловіча. У часе Другой сусьветнай вайны быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Пазьней уступіў у шэрагі Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1951 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. Вывучаў інжынэрыю ў Лювэнскім унівэрсытэце. У 1954 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Тут уваходзіў у Галоўную ўправу ЗБВБ, а таксама ў кіраўніцтва Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'еднаньня „Рунь“. У другой палове 1950-х гг. выехаў у ЗША. Тут быў старшынём Нью-Ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Меў уласны бізнэс — мэханічную майстэрню. Пахаваны ў Флярыдзе.

**ПАЛАНЕВІЧ Гіпаліт** (псэўд. **Няміга,** 23.07.1907, Міншчына — 24.10.1997, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзка-культурны дзеяч, пэдагог, гісторык. У 1932 г. скончыў Ленінградзкі пэдагагічны інстытут. Быў рэпрэсаваны і ў 1936—1940 гг. адбываў пакараньне ва Ўхта-Іжэмскім лягеры (Комі АССР). Пасьля вызваленьня вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне, кіраваў тэатральным гуртком. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. У 1962 г. атрымаў унівэрсытэцкі дыплём у галіне бібліятэказнаўства. Працаваў па спэцыяльнасьці. Быў стваральнікам газэты „Беларус“ разам з *М. Кунцэвічам*. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі Беларусі. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ПАЛЮХОВІЧ Міхась** (18.10.1925, Сэрнікі, Палесьсе — 01.08.1994, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Па заканчэньні вайны апынуўся ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце, браў удзел у грамадзка-культурным жыцьці й скаўтынгу. Пры канца 1940-х гг. прыехаў у Паўночную Караліну, потым пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Быў сябрам будаўнічага камітэту парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, старшынём царкоўнага хору, скарбнікам часопіса „Беларуская думка“. Належаў да ўправы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ПАЛЯГОШКА Пётра** (09.07.1893 s 19.10.1961, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1930-х г. быў рэпрэсаваны. Падчас нямецкай акупацыі — працаўнік

беларускай адміністрацыі ў Смалявічах і Рудзенску. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У 1968 г. у Нью-Ёрку выйшлі ягоныя мэмуары „Ўспаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу“. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ПАНІЧ Сяргей** (16.08.1922, Клецк (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 11.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПАНУЦЭВІЧ Вацлаў** (да эмігр. **Папуцэвіч**, псэўд. **Мікола Волаціч**, 1910, в. Малая Альшанка Гарадзенскага пав. (сёньня Гарадзенскі р-н) — 25.08.1991, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог, муж *К. Пануцэвіч*. У 1936—1939 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Уваходзіў у склад Беларускага інстытуту навукі й гаспадаркі, быў сябрам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэньні Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939—1941 гг. настаўнічаў у Горадні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1946 г. кіраваў Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў на чужыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Быў актывістам мясцовага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Займаўся дасьледніцкай дзейнасьцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэка-каталіцкай парафіі Сьв. Хрыста-Збаўцы ў Чыкага. Рэдактар часопісаў „Беларуская царква“, „Літва“.

**ПАНУЦЭВІЧ Клара** (25.06.1910 — 29.09.2003, Чыкага, ЗША), грамадзкая дзяячка, дачка *Э. Будзькі*, жонка *В. Пануцэвіча*. Скончыла Віленскую беларускую гімназію, Віленскі ўнівэрсытэт. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Настаўнічала ў Беларускай гімназіі імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. У канцы 1940-х пераехала ў ЗША, жыла ў Чыкага. Брала ўдзел у нацыянальным жыцьці. Сябра Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады. Адна з арганізатарак парафіі Сьв. Хрыста-Збаўцы ў Чыкага.

**ПАНЬКОВА Марыя** (дзяв. **Найдзюк**, 21.06.1904, Дзьвінск (сёньня Даўгаўпілс, Латвія — 15.09.1991, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *М. Панькова*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў ЗША. Пісала пад псэўданімам **Ніна Змагарка.**

**ПАНЬКОЎ Мікола** (12.06.1911, Люцын (сёньня Лудза, Латвія) — 07.01.1995, ЗША), грамадзкі дзеяч, бібліёграф, публіцыст, муж

*М. Паньковай*. Вучыўся ў Дзьвінскай беларускай гімназіі. У міжваенны час — сябра партыі эсэраў. У 1926 г. арыштаваны латвійскімі ўладамі й асуджаны да пяці гадоў турмы. Па вызваленьні супрацоўнічаў зь беларускімі пэрыёдыкамі ў Заходняй Беларусі й Латвіі. У часе нямецкай акупацыі працаваў на чыгунцы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У лягеры *DP* у Ольдэнбургу заснаваў Беларускую бібліяграфічную службу: зьбіраў і апісваў беларускія выданьні. Уклаў „Слоўнік замежных словаў беларускай мовы“, уклаў і надрукаваў шэраг непэрыядычных выданьняў. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Ад 1952 г. — старшыня Саюзу беларускіх журналістых. Падрыхтаваў даведнікі „Хто ёсьць хто на эміграцыі“, „Мартыралёгія беларускага народу“, „Беларуская прэса на эміграцыі“.

**ПАСЕВІЧ Аляксей** (15.09.1914, в. Мураванка Нясьвіскага пав. (сёньня Шчучынскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 27.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у невялікі аддзел у Гэмптан-Ловэт. Ад 1949 г. таксама быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ПАСЕВІЧ Уладзімер** (19.10.1923 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 02.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**ПАТАПЧУК Васіль** (26.07.1925, в. Плотніца (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПАЎЛОЎСКІ Пётра** (12.07.1922, Слуцк (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Настаўнік паводле адукацыі. У 1943—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Брадфардзе. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, уваходзіў у дружыну ў Брадфардзе, у 1954 г. быў яе старшынём. Ад 28.09.1951— сябра Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Належаў да акруговага аддзелу ў Ёркшыры. У 1956—1962 гг. быў яго старшынём. Пасьля ад'езду а. Аляксандра Крыта ў 1961 г. некаторы час быў адміністратарам Беларускага дому ў Брадфардзе. Быў адным з ініцыятараў і асноўным настаўнікам у беларускай нядзельнай школе ў Брадфардзе. Каля 1963 г. выехаў у Нямеччыну.

**ПАЦУКЕВІЧ Міхась** (03.08.1923 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай

вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПАШКЕВІЧ Валянціна** (дзяв. **Жукоўская**; 05.02.1916, Казельск (сёньня Калужская вобл., Расея) — 25.03.2004, Таронта, Канада), грамадзкая дзяячка, пэдагог, сястра *Р. Жук-Грышкевіч,* жонка *М. Пашкевіча.* У 1935 г. скончыла польскую гімназію імя А. Міцкевіча ў Пружанах, вучылася ў Віленскім унівэрсытэце. Падчас Другой сусьветнай вайны жыла ў Бэрліне, працавала ў перакладчыцкім бюро „Вінэта". Па капітуляцыі Нямеччыны апынулася ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), апекавалася беларускім скаўтынгам. У ліпені 1949 г. пераехала ў Таронта. Брала актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці, арганізавала танцавальны гурток. Кіравала беларускай суботняй школкай пры Царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Выдала „Першую чытанку пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў" (Кліўлэнд, 1968), англамоўны падручнік „Беларуская мова — *Fundamental Byelorussian*" (1974, 1978). Падрыхтавала „Англа-беларускі слоўнік" (30 тыс. словаў і формаў), які выйшаў улетку 2006 г. у Менску.

**ПАШКЕВІЧ Міхась** (10.03.1915, Ашмяны, Гарадзенская вобл. — ?, Канада), грамадзкі дзеяч, муж В. Пашкевіч. У 1946 г. быў адным зь першых прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі ў Канадзе й заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў Канады. Пазьней належаў да Беларускага нацыянальнага аб'еднаньня.

**ПЕЛЯСА Ўладзімер** (01.05.1918, Ліда (сёньня Гарадзенская вобл.) — 24.04.2004, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у структурах Беларускай народнай самапомачы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Заходняй Нямеччыне браў удзел у грамадзкім жыцьці, беларускім скаўтынгу. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў апэратарам машынаў у кампаніі „Атланта-Карпарэйшн". Узначальваў Нью-Ёрскі аддзел Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту, уваходзіў ва ўрад Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Належаў да Амэрыканскіх прыхільнікаў БЦР і Амэрыканскіх прыхільнікаў АБН. Актывіст парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. У 1950-х гг. заснаваў уласнае выдавецтва, у якім выдрукаваў за ўласны кошт некалькі кніг беларускіх пісьменьнікаў-эмігрантаў. Пахаваны ў Маспэце ў Нью-Ёрку на праваслаўным могільніку. Ягоны архіў перададзены ў царкву ў Саўт-Рывэры.

**ПЕТРАШ Аляксандар** (06.09.1926, в. Кісялі Баранавіцкага пав. (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 1988, Вялікабрытанія),

грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі служыў у паліцыі ў Баранавічах. Потым быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, разам зь якой апынуўся ў Францыі й трапіў у палон да саюзьнікаў. У 1945 г. добраахвотна ўступіў у Другі польскі корпус. Ад 1946 г. жыў у Брытаніі. Ад 12.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак у часе падзеяў расколу далучыўся да апазыцыі й выйшаў з арганізацыі. У 1948 г. браў удзел у стварэньні аддзелу Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Лёндане, а ў 1949 г. ужо ўваходзіў ва ўправу Акруговага цэнтру ХАБР у Ланкашыры, дзе выконваў абавязкі скарбніка. У 1952 г. пасьля спэцыяльнай падрыхтоўкі ў Брытаніі й Нямеччыне быў засланы на тэрыторыю Польшчы. Нягледзячы на тое, што польскія спэцслужбы даволі хутка выкрылі яго, здолеў выйсьці з-пад іх кантролю й вярнуцца ў Вялікабрытанію, дзе пасяліўся на сталае жыцьцё ў Брайтане. Стаў правобразам галоўнага героя кнігі Энтані Рычардсана „Няма, дзе скласьці галаву“ (*Anthony Richardson. No Place to Lay My Head*), выдадзенай у Лёндане ў 1957 г. У 1981 г. зноў уступіў у шэрагі ЗБВБ.

**ПЕТРУКОЎСКІ Мікалай** (20.02.1925, Любча (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 27.09.1995, Дэрбі, Вялікабрытаніі), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі служыў у паліцыі парадку. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Дэрбі. Ад 1954 г. належаў да Беларускага вызвольнага фронту. Пахаваны ў Дэрбі на *Nottingham Road Cemetery*.

**ПЕЦЬКА Пётра** (29.06.1903, х. Гнілыя Балоты (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 25.11.1986, Стэмфард, Канэтыкут, ЗША), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны быў у самаабароне ад савецкіх партызанаў. Ад 1944 г. — у Нямеччыне, у складзе дывізіі „Беларусь“. Трапіў у амэрыканскі палон, але быў вызвалены. Жыў у лягеры *DP* у Остэргофэне. У 1950 г. прыбыў у ЗША. Пасяліўся ў Стэмфардзе. Да выхаду на пэнсію ў 1972 г. працаваў на фабрыцы, у гаспадарчым аддзеле. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Стэмфардзкага аддзелу да 1967 г. Як прыхільнік *К. Мерляка* пасьля разьвязаньня Стэмфардзкага аддзелу БАЗА належаў да парафіі ў Рычманд — Гіле. Пахаваны ў Стэмфардзе на *Woodland Cemetery*.

**ПІНЧУК Янка** (28.08.1913, в. Драбоўшчына Нясьвіскага пав. (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.)— ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПІТУШКА Язэп** (07.04.1912, в. Аксютава (сёньня Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.) — 25.02.1984, Таронта, Канада), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Браў удзел у стварэньні Згуртаваньня беларусаў Канады. Пазьней разам з прыхільнікамі *С. Хмары* стварыў Беларускае нацыянальнае аб'еднаньне. Пахаваны ў Таронта на *Park Lawn Cemetery*.

**ПЛЕСКАЧЭЎСКІ Анатоль** (28.02.1911, Глыбокае (сёньня Віцебская вобл.) — 31.03.1980, Лексінгтан, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат *Б. Плескачэўскага*. Скончыў глыбоцкую гімназію, у 1932 г. — Сельскагаспадарчую школу ў Грудзёндзы з дыплёмам жывёлавода-агранома. У 1932—1939 гг. працаваў жывёлаводам-аграномам павету Вільня — Трокі. У 1940—1942 гг. жыў на тэрыторыі Летувы. У 1944 г. быў ад'ютантам Прэзыдэнта БЦР *Р. Астроўскага*. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў у сакратарыяце БЦР у Бэрліне. У пасьляваенны час вучыўся ва ўнівэрсытэце *UNRRA* ў Мюнхене, потым — ва Ўкраінскім тэхнічна-сельскагаспадарчым інстытуце на спэцыяльнасьці „вэтэрынарыя". У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у штаце Нью-Джэрзі. Працаваў на хіміка-фармацэўтычных фабрыках, затым — у аддзеле антыбіётыкаў фірмы *Pinick* (Ньюарк, Нью-Джэрзі). Займаў пасаду віцэ-прэзыдэнта Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, віцэ-прэзыдэнта Амэрыканскіх прыхільнікаў АБН. Прыхаджанін царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Пахаваны на могілках у Баунд-Брук (Нью-Джэрзі).

**ПЛЕСКАЧЭЎСКІ Барыс** (19.07.1902, Вільня (сёньня Летува) — 06.06.1982, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), царкоўны актывіст, брат *А. Плескачэўскага*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў актывістам прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ПЛЕХАН Іван** (15.07.1921, Піншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 28.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПЛЯСКАЧ Васіль** (16.02.1916, Наваградак (сёньня Гарадзенская вобл.) — 19.03.2006, Дэтройт, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскі ўнівэрсытэт з дыплёмам юрыста. Падчас нямецкай акупацыі працаваў міравым судзьдзём у Наваградку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў зь сям'ёй у Швайцарыі, потым у Нямеччыне. У 1949 г. прыбыў у ЗША. Жыў спачатку ў штаце Масачусэтс, потым перабраўся ў штат Мічыган (Дэтройт). Працаваў на заводах „Джэнэрал Мотарз" у аддзеле дызайну.

Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў ЗША, стварэньні структураў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ).

**ПЛЯТУН Рыгор** (01.05.1926, в. Амлынцы (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Беларускай паліцыі парадку ў Нясьвіжы, пазьней трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, а далей апынуўся ў Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПОКЛАД Сяргей** (16.09.1910, в. Ігольнікі Наваградзкага пав. (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1939—1946 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 12.10.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ПОПКА Андрэй** (1893, в. Пашкоўцы Слуцкага пав. Менскай губ. (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскае вобл.) — 09.10.1965, Джэрзі-Сіці, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Ляхавічах, потым у Варшаве ў арганнай школе. Пасьля Першай сусьветнай вайны жыў у Ляхавічах, дзе займаўся агароднíцтвам і служыў арганістам пры мясцовым касьцёле. Быў актывістам хрысьціянска-дэмакрычнага руху, належаў да мясцовага гуртку Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры. У 1939 г. пачаў настаўнічаць. За часамі нямецкай акупацыі стаў афіцэрам БКА, затым уваходзіў у склад дывізіі „Беларусь". Пасьля Другой сусьветнай вайны быў камэндантам лягеру *DP* у Вільдфлекене, вёў культурніцкую працу ў беларускім лягеры ў Віндышбэргердорфе. Пазьней пераехаў у ЗША.

**ПОПКА Юры** (07.10.1912, хут. Высокі Груд Пружанскага пав. — 29.04.1990, Ляймэн, Нямеччына), літаратар, выдавец, грамадзкі дзеяч. Пачаў друкавацца ў 1938 г. на старонках заходнебеларускіх пэрыёдыкаў. У 1942 г. пасьля паездкі ў Беласток і знаёмства з *Х. Ільляшэвічам* стаў пісаць для „Новай дарогі". У 1943 г. стварыў і ўзначаліў у Пружанах аддзел Беларускага аб'еднаньня, займаўся арганізацыяй беларускіх школ. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне захварэў і да 1950 г. лекаваўся ў розных шпіталях і санаторыях. Пазьней пасяліўся ў Ляймэне. Выдаваў шэраг беларускіх пэрыёдыкаў: „Беларуская праўда" (1965—1988), „Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады — Жыве Беларусь!" (1976—1986), „Весткі інстытуту беларусаведы" (1986—1993). Быў кіраўніком палітычна-прапагандысцкага аддзелу Галоўнага штабу Беларускага вызвольнага фронту. Стварыў беларускі музей. Аўтар кніг: „Сын" (1950), „Празь сьлёзы" (1951), „Песьня салаўя" (1955, 1963), „Аднагалось-

се“ (1961), „Кошык“ (1961), „Расказы“ (вып. 1—3, 1961), „У санаторнай белі“ (1961), „Журавель“ (1962), „Па чужых кутках“ (1962), „Сын“ (1962), „Сьвеціць у тумане“ (вып. 1—3, 1962), „Умелы падыход“ (1962), „Зь вінтоўкай у руках“ (1963), „Пушча шуміць“ (1963), „Новая хата“ (1964), „Носьбіт ідэі“ (1964).

**ПРАДУХА Пётра** (05.09.1923, Гарадок (сёньня Маладэчанскі р-н) — ?), грамадзкі дзеяч. Скончыў 4 клясы беларускай гімназіі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПРАКАПЕНЯ Павел** (1910, Пружаншчына — 1976, ЗША), беларуска-польскі сьпявак. У маладосьці працаваў пасыльным у Наваградзкай ваяводскай управе, дзе быў заўважаны й адпраўлены на вучобу ў Варшаву. Сьпяваў песьні па-беларуску, па-польску й па-руску. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў на эміграцыі ў ЗША.

**ПРАКАПУК Янка** (20.11.1925, в. Войневічы (сёньня Дзятлаўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 09.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне.

**ПРОТАС Аляксандар** (1909, Лужкі (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 27.09.1984, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Браў актыўны ўдзел у працы Згуртаваньня беларусаў Канады, дзейнасьці парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**ПРОТАС Аўген** (28.08.1915, Забалоцьце Дзісенскага пав. Віленскай губ. (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 02.06.1995, Стэмфард, Канэктыкут, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1937 г. скончыў гімназію ў Дзісьне, пасьля чаго адбыў тэрміновую службу ў польскім войску, кароткі час працаваў у мясцовай адміністрацыі, перад самай Другой сусьветнай вайной зноў мабілізаваны. Трапіўшы ў нямецкі палон, працаваў у баўэраў ва Ўсходняй Прусіі, потым вярнуўся дамоў. Пры канцы вайны апынуўся ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Стэмфардзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, старшынём ўправы Стэмфардзкага аддзелу арганізацыі. Пахаваны ў Стэмфардзе на *Woodland Cemetery*.

**ПРОХАР Грыгор** (18.04.1907 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПРОШКА Міхась** (25.12.1911, Браслаўшчына — 08.11.1997, Бірмінгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Бірмінгеме. Ад 30.07.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, належаў да дружыны ў Бірмінгеме. Пахаваны ў Бірмінгеме на *Brandwood Cemetery*.

**ПРУСКІ Мікола** (01.01.1927, в. Мікалаеўшчына (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 22.01.2014, Дэтройт, ЗША), грамадзкі дзеяч, выдавец, сын стрыечнай сястры Якуба Коласа. Пасьля Другой сусьветнай вайны прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Дэтройце. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Дэтройцкага аддзелу арганізацыі. У 1960—1970-х гг. — актывіст Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Дэтройце. Выдаў дзясяткі беларускіх кніг. Рэдактар і выдавец пэрыёдыкаў „Беларускі сьвет“ (1971—1989), „Беларускі дайджэст“ (ад 1993 г.).

**ПРЫМА Мікалай** (16.11.1922, в. Малюшычы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.11.1954 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ПРЫСТАЎКА Васіль** (10.01.1897, в. Радзюкі (сёньня Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобл.) — 06.10.1981, Садбуры, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Жыў у Садбуры. Належаў да парафіі мясцовай украінскай царквы, але падтрымліваў кантакты з парафіяй Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**ПУГАЧОЎ Кастусь** (19.10.1910, Беласток (сёньня Польшча) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПУДНОЎСКІ Вячаслаў** (24.09.1922, Беласточчына — ?), грамадзкі дзеяч, мастак. Меў сярэднюю адукацыю. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 09.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак хутка зьехаў у Аргентыну.

**ПШАНІЧНЫ Ян (Іван)** (01.02.1911, Ліда (сёньня Гарадзенская вобл.) — 22.12.1982, Манчэстэр, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ПЯКАРСКІ Янка** (12.11.1923, в. Сурынка (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 12.01.1993, Стывэнэдж, Вялікабрытанія), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой у 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 02.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў адным са стваральнікаў аддзелу ў Кембрыджы, яго доўгачасовым сакратаром. Таксама ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, належаў да дружыны ў Кембрыджы. Пазьней пераехаў у Стывэнэдж (на поўнач ад Лёндану), і працягваў актыўную дзейнасьць у шэрагах ЗБВБ і БАПЦ. 29.08.1971 у Брадфардзе быў рукапакладзены ўладыкам *Андрэем* у дыяканы БАПЦ, а 4.09.1971 у Манчэстэры — у сьвятары. Апекаваўся парафіямі ў Бірмінгеме (пазьней у Вулвэргэмптане), Кембрыджы, Лёндане, Стывэнэдж і асяродкам у Лэнглі. У 1980 г. быў двойчы прыняты ў Лёндане экзархам канстантынопальскага патрыярха. У 1980-х быў віцэ-прэзыдэнтам Рады БАПЦ у Вялікабрытаніі. Быў старшынём Беларускай харытатыўнай сэкцыі, уваходзіў у Раду апекуноў Скарынаўскай бібліятэкі. Пахаваны ў Стывэнэдж на *Almond Lane Cemetery*.

**ПЯСЕЦКІ Ігнат** (28.01.1915, Косава (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі служыў у паліцыі. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ПЯТРОЎ Дзьмітры** (08.11.1910, Полацак (сёньня Віцебская вобл.) — 15.01.1981, Брадфард, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Спаса БАПЦ. Пахаваны ў Брадфардзе на *Schoolmoor cemetery*.

**ПЯТРОЎСКІ Ян** (07.01.1905, Слуцк (сёньня Менская вобл.) — 19.01.2001, Гейнсвіл, Флярыда, ЗША), рэлігійны й грамадзка-культурны дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік, выдавец, літаратар, перакладчык. У міжваенныя гады быў прыхільнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, служыў у польскім войску. Напрыканцы 1920-х далучыўся да царквы мэтадыстаў. У 1930—1931 гг. вучыўся ў біблійнай школе мэтадыстаў, потым быў пастарам у Варшаве й Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н Гарадзенскай вобл.). У 1941 г. выехаў у Нямеччыну. Браў удзел у працы Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне, працаваў на радыё „Вінэта“. У 1945—1953 гг. жыў у Лінцы (Аўстрыя), дзе займаўся прапаведніцкай дзейнасьцю. У 1953 г. выехаў у ЗША. Жыў у Флярыдзе. У

1976 г. заснаваў Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд. Напісаў і выдаў некалькі дзясяткаў кніг, у тым ліку пераклады з Плятона, Марка Аўрэлія, „Клясычны грэцка-беларускі слоўнік“.

**ПЯЧОНКА Лявон** (18.03.1911, в. Багута (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Хонітане ў Дэване. Ад 04.06.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РАВЕНСКІ Мікола** (05.12.1886, в. Капланцы Ігуменскага пав. (сёньня Бярэзінскі р-н Менскай вобл.) — 09.03.1953, Лювэн, Бэльгія), кампазытар, хормайстар. У 1903—1914 гг. — кіраўнік хору пры мужчынскім манастыры ў Менску. У 1915 г. скончыў рэгенцкія курсы ў Маскве, у 1930 г. — Маскоўскую кансэрваторыю. У 1930-х выкладаў у Менскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансэрваторыі. У 1938 г. быў выключаны з Саюзу кампазытараў. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў align="left" рознарабочым на тартаку ля Мюнхену. У 1950 г. пераехаў у Лювэн (Бэльгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювэнскім унівэрсытэце. Аўтар музыкі гімну-малітвы „Магутны Божа“ (словы *Н. Арсеньневай*).

**РАВЯКА Васіль** (23.04.1921, в. Малышы каля Баранавічаў — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.11.1952 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**РАГАЖЭЦКІ Мечыслаў** (сапр. **Мікалай Перагуд-Пагарэльскі**, 1894, Случчына — 18.12.1964, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Скончыў матэматычны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту. Працаваў настаўнікам. У часе нямецкай акупацыі нядоўгі час працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Гандлёвай школе ў Баранавічах. У Нямеччыне выкладаў матэматыку ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Пазьней перабраўся ў ЗША. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РАГЕЛЬ Сяргей** (26.01.1916, в. Лазавічы (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 30.11.1974, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Яшчэ ў даваенны час служыў у польскім войску, скончыў падафіцэрскую школу ў рангу капрала. Падчас нямецкай акупацыі служыў у БКА. Пазьней апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Остэргофэне, дзе належаў да Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў. У 1948 г. выехаў на працу ў капальнях у Бэльгію, адкуль празь некаторы час перабраўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Манчэстэры. Ад 01.07.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, актывістам аддзелу ў Манчэстэры. Ад 1951 г.

належаў да мясцовай дружыны Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Быў адміністратарам Беларускага дому ў Манчэстэры, належаў да мясцовага Беларускага клюбу, быў яго скарбнікам. Быў актывістам мясцовай парафіі БАПЦ. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**РАГІЎСКАЯ Дар'я** (28.11.1923, в. Новая Мыш (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Брадфардзе. Ад 09.10.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшла з арганізацыі на ўласнае жаданьне.

**РАГУЛЯ Барыс** (01.01.1920, в. Турэц Наваградзкага пав. (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 21.04.2005, Лёндан, Антарыё, Канада), вайсковы й грамадзкі дзеяч, муж *Л. Рагулі*. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у нямецкі палон. Уцёкшы з палону, працаваў настаўнікам у Наваградку. Арыштаваны органамі НКУС, але з пачаткам нямецка-савецкай вайны ўцёк з-пад варты. У часе нямецкай акупацыі працаваў выкладчыкам у Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, перакладчыкам акружнога камісара. Адзін з акружных кіраўнікоў СБМ і Беларускай народнай самапомачы, намесьнік БЦР і камэндант БКА. Арганізаваў і ўзначаліў паліцэйскі батальён №68. Адзін з кіраўнікоў разьведвальна-дывэрсійнай школы ў Дальвіцы, маёр 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку быў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, ад 1949 г. — у Бэльгіі. Займаўся справамі беларускіх студэнтаў у Заходняй Эўропе. У 1954 г. пераехаў у Канаду. Пасяліўся ў Лёндане (Антарыё). Працаваў як мэдык, быў вядомым у краіне спэцыялістам па ракавых захворваньнях. Сябра Згуртаваньня беларусаў Канады. Ад 1971 г. — намесьнік Прэзідэнта Рады БНР, адначасова ў 1973—1989 гг. старшыня Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады.

**РАГУЛЯ Васіль** (28.07.1879, в. Ачукевічы Наваградзкага пав. (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 16.06.1955, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, публіцыст, дзядзька *Б. Рагулі,* бацька *М. Рагулі*. У 1900 г. скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў. Удзельнік Першай сусьветнай вайны. У 1917 г. уступіў у Расейскую дэмакратычную партыю. Удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу. У часе польскай акупацыі ўваходзіў у Расейскую аб'яднаную радыкальна-дэмакратычную групу. Улетку 1920 г. — у Чырвонай Арміі. У 1922 г. абраны дэпутатам польскага сойму, увайшоў у Беларускі пасольскі клюб. Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускага сялянскага саюзу. У 1928 г. абраны сэнатарам, але неўзабаве зьняволены польскімі ўладамі

(1928—1930). У чэрвені 1941 г. арыштаваны НКУС, уцёк з-пад варты. У часе нямецкай акупацыі — бургамістар Дзятлаўскага раёну. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у Бэльгіі. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Быў сябрам першай рэдкалегіі газэты „Беларус“. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РАГУЛЯ Людміла** (дзяв. **Гутар**; 12.02.1925, Навагрэдак — 20.02.2014, Лёндан, Антарыё, Канада), грамадзкая дзяячка, жонка *Б. Рагулі*. У 1943—1944 г. была кіраўнічкай юначак СБМ на Навагрэдзкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Разам з мужам у 1950-х гг. прыбыла ў Канаду. Была актывісткай Згуртаваньня беларусаў Канады, прыхаджанкай царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**РАГУЛЯ Міхась** (06.08.1914, в. Ачукевічы (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.07.2002, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *В. Рагулі*, стрыечны брат *Б. Рагулі*. У 1933 г. скончыў Навагрэдзкую беларускую гімназію. Вучыўся ў Варшаўскай палітэхніцы, уваходзіў у кіраўніцтва Асьветнага таварыства беларусаў. У 1940 — 1941 гг. вучыўся ў Львоўскай палітэхніцы. Улетку 1941 г. вярнуўся ў Беларусь, працаваў загадчыкам аддзелу культуры й асьветы Віцебскай гарадзкой управы. Сябра ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, рэдактар падпольнага „Бюлетэню БНП“. У жніўні — кастрычніку 1944 г. выкладаў у вайсковай школе „Дальвіц“. У канцы 1940-х скончыў Мюнхенскую палітэхніку. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Зрабіў кар’еру ў сфэры будаўніцтва фабрычных печаў. У першыя гады жыцьця ў Нью-Ёрку браў актыўны ўдзел у беларускай грамадзка-культурнай працы, уваходзіў у склад рэдкалегіі газэты „Беларус“. Быў радным БНР, але выйшаў з арганізацыі праз нязгоду з палітыкай *М. Абрамчыка*. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РАДЗІОН Васіль** (03.07.1925, Клецк (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 11.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РАДЗІОН Міхась** (25.12.1920, Клецк (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Фаўлмэры каля Ройстана. Ад 30.12.1951 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**РАЕЦКАЯ Вера** (па айчыму **Кавалевіч**; 07.07.1932, Ленінград (сёньня Санкт-Пецярбург, Расея) — 19.07.1995, Пэрт, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *М. Раецкага*. Нарадзілася ў сям’і чыгуначнага працаўніка. У часе вайны разам з бацькамі была вывезена на працы

ў г. Любэк у Нямеччыне. Адтуль у 1950 г. пераехала ў Аўстралію. Жыла ў Пэрце, дзе пазнаёмілася і ў 1953 г. пабралася шлюбам з *М. Раецкім*. Садзейнічала пабудове Беларускага народнага дому. Была сяброўкай Беларускага аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі, актыўна ўдзельнічала ў нацыянальных мерапрыемствах, антыкамуністычных дэманстрацыях, сьпявала ў царкоўным хоры. Была адным з ініцыятараў заснаваньня беларускіх радыёпраграмаў у Пэрце. Пахаваная ў Пэрце на беларускай сэкцыі *Karrakatta Cemetery*.

**РАЕЦКІ Міхась** (02.11.1927, Менск — 22.10.2003, Пэрт, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *В. Раецкай*. 22.10.1950 прыехаў у Аўстралію, дзе працаваў у *Government of Western Australia's Water Corporation*. Быў адным з заснавальнікаў і першым старшынём аддзела Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў у Кэльмскот (Пэрт). Ад 1958 г. займаў пасады старшыні, скарбніка, сакратара Беларускага аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі. Ініцыятар і доўгачасовы кіраўнік Беларускага радыёвага камітэту ў Пэрце, стваральнік і вядучы беларускіх радыёпраграмаў. Аўтар зацемак пра жыцьцё беларускай грамады ў Заходняй Аўстраліі ў газэце „Беларус". Пахаваны ў Пэрце на беларускай сэкцыі *Karrakatta Cemetery*.

**РАЕЦКІ Янка** (21.05.1918, Любча (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 20.08.1973, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой у 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Ад 20.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Належаў да парафіі Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Cemetery*.

**РАЖАНЕЦ Аляксандар** (11.09.1921, Случчына — 28.10.2014, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Скончыў дзесяцігодку ў Слуцку. Потым паступіў у Менскі пэдагагічны інстытут. У 1940 г. быў прызваны ў Савецкую армію, служыў у Беластоку. Пасьля пачатку нямецка-савецкай вайны вярнуўся ў Слуцк. Служыў у паліцыі. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім Польскім корпусе ў Італіі. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію, працаваў ткачом. Жыў у Брадфардзе. Ад 20.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, належаў да аддзелу ў Брадфардзе. У 1948 г. далучыўся да Камітэту беларускага сяброўства, удзельнічаў у выданьні часопіса „Патрыёт", быў выключаны з ЗБВБ. Далучыўся да Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, аднак ужо ў 1951 г. вярнуўся ў шэрагі ЗБВБ. У 1954—1955 гг.

быў сакратаром аддзелу ў Брадфардзе. Ад 1951 г. быў таксама сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пазьней перабраўся ў Лёндан.

**РАЙЦЭЎСКІ Мацей** (05.08.1921, Касьцюковічы (Магілёўская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў артылерыйскім вучылішчы Чырвонай Арміі й потым тры гады служыў у артылерыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 26.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1950 г. сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Належаў да дружыны ў Брадфардзе. У 1950-х выйшаў з ЗБВБ і далучыўся да прасавецкай арганізацыі ў Брадфардзе.

**РАК Юліян** (15.10.1907 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 18.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РАКОВІЧ Янка** (13.01.1923, в. Краснаволя (сёньня в. Чырвоная Воля Лунінецкага р-ну Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1930—1936 гг. вучыўся ў школе ў роднай вёсцы. У 1939 г. паступіў у Лунінецкую чыгуначную вучэльню. У 1941 г. быў арыштаваны бацька. У 1943—1945 гг. — на прымусовых працах на ваенным прадпрыемстве ў Нямеччыне. Пазьней жыў у лягерах *DP*, у Віндышбэргердорфе працаваў у *IRO*. У 1949 г. скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Працаваў на вытворчасьці. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі й кіраўніцтва яе Кліўлэндзкага аддзелу. Быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Агаё.

**РАМАНОЎСКІ Аляксандар** (09.03.1915, Віцебск — 12.10.1955, Сыднэй, Аўстралія), мастак. Нарадзіўся ў сям'і працоўных. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум, працаваў настаўнікам малюнку, мастакомдэкаратарам тэатру. У 1940 г. — мабілізаваны ў армію й накіраваны на фінскі фронт. У 1941 г. трапіў у нямецкі палон. Па Другой сусьветнай вайне працягнуў мастацкую дзейнасьць у Нямеччыне, адкуль у 1949 г. выехаў на эміграцыю ў Аўстралію. У грамадзкім жыцьці беларускай грамады Сыднэю пасьля расколу пачатку 1950-х гг. актыўнага ўдзелу ня браў, спасылаючыся на нежаданьне станавіцца на адзін з бакоў канфлікту. Але працягваў актыўную творчую працу, значная частка якой была прасякнутая тэматыкай падсавецкай Беларусі. Ягоныя карыкатуры-скэтчы друкаваліся на бачынах газэты „Бацькаўшчына“, часопіса „Конадні“, некаторых расейскіх пэрыёдыкаў. У 1955 г. у Сыднэі выйшаў

асобны сшытак з 14 скэтчаў *„Under the Iron Curtain“*. Неаднаразовы ўдзельнік разнастайных мастацкіх выставаў. Апошняя зь іх, што аб'ядлала творы 30 найвыдатнейшых аўстралійскіх мастакоў, адбылася ў Сыднэі ў верасьні 1955 г., за два месяцы да трагічнай сьмерці мастака.

**РАМУК Вера** (дзяв. **Жызьнеўская,** 06.09.1931, Сабары (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 05.05.2010, Чыкага, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Вітаўта Рамука*. Вучылася ў польскай і савецкай школах. Ад 1944 г. разам з бацькамі на эміграцыі. У 1949 г. прыехала ў ЗША. Пасьля нядоўгага побыту ў Нью-Ёрку перабралася ў горад Пеорыя (штат Ілінойс). Скончыла мясцовы ўнівэрсытэт. У 1956 г. пабралася шлюбам з *В. Рамуком*. Ад 1963 г. жыла ў Чыкага. Была актыўнай дзяячкай мясцовай беларускай грамады. Уваходзіла ў кіраўніцтва Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага.

**РАМУК Вітаўт** (15.07.1914, Екацярынаслаў (сёньня г. Днепрапятроўск, Украіна) — 09.03.2010, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч, муж *Веры Рамук*. У 1922 г. разам з бацькоўскай сям'ёй вярнуўся ў в. Ліпнішкі каля Ліды. У 1926—1930 гг. вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Пасьля вучыўся ў польскай гімназіі ў Пінску. У 1938 г. паступіў у Віленскі ўнівэрсытэт на факультэт біялёгіі, пазьней перайшоў на мэдыцыну. У 1941—1944 гг. працаваў перакладчыкам у цывільнай адміністрацыі ў Лідзе. У 1944 г. выехаў у Чэхаславаччыну, адкуль у 1945 г. перабраўся ў Рэгенсбург у Нямеччыне, дзе арганізоўваўся беларускі лягер. У 1946 г. паступіў на мэдычны факультэт унівэрсытэту ў Мюнхене. У 1949—1953 гг. вучыўся на мэдычным фалькутэце Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія). Выехаў у Вялікабрытанію, жыў у Лёндане. Стаў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі і ў 1954 г. быў абраны на пасаду намесьніка старшыні арганізацыі. Аднак хутка вярнуўся ў Бэльгію, адкуль у 1956 г. выехаў у ЗША. Тут пасяліўся ў Чыкага й стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцьця, сябрам Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага.

**РАСІМОВІЧ Янка** (01.03.1920, в. Шчорсы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.07.1976, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 26.03.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Брадфардзе на *North Bierley Municipal Cemetery*.

**РАТКЕВІЧ Станіслаў** (02.02.1930, Пінск — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.06.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РАТКЕВІЧ Язэп** (02.01.1908, в. Малое Запрудзьдзе (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.) — 27.10.1981, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон і быў вывезены ў Сыбір. Уступіў у Армію Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытані. Жыў у Лёндане. Ад 19.04.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ў 1970-х гг. стаў парафіянінам БАПЦ. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**РАЧЫЦКІ Мечыслаў** (27.02.1922, в. Параф'янава (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 22.06.1972, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Да 1939 г. вучыўся ў Дзісненскай гімназіі, за Саветамі — у Глыбоцкім сельгастэхнікуме. Пасьля сканчэньня настаўніцкіх курсаў у Глыбокім (верасень 1942 — красавік 1943 г.) некаторы час працаваў у школе. У ліпені 1943 г., паводле загаду акруговага камісара, прайшоў курс СБМ у Менску, вярнуўся ў Глыбокае як старшы зьвязовы, быў прызначаны раённым кіраўніком СБМ і намесьнікам Глыбоцкага акруговага кіраўніка моладзі Яўгена Мацюшонка. У лютым 1944 г. адбыў курс для вышэйшых кіраўнікоў у Менску, у траўні ўдзельнічаў у экскурсіі юнакоў у Нямеччыну, а ў чэрвені — у Другім Усебеларускім кангрэсе. У 1944 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну, дзе быў накіраваны як апякун юнакоў у лягер Арганізацыі Тодт Шварцзээ I каля Фалькенбургу на Памор'і, а ў лютым 1945 г. з групай малодшых юнакоў у лягер на Шпандаў-Вэст у Бэрліне. У 1945 г. — быў арыштаваны амэрыканскай ваеннай паліцыяй, адсядзеў 18 месяцаў у розных лягерах, восеньню 1946 г. адпушчаны на волю. У 1949 г. эміграваў у Канаду. Жыў у Таронта. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў Таронта, быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, прыхаджанінам царквы Сьв. Кірылы Тураўскага.

**РАШКО (РОШКА) Адам** (10.12.1919 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РОДЗЕВІЧ Усевалад** (11.09.1916, Піншчына — 17.07.1998, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага вайсковага сьвятара. Вучыўся ў польскай гімназіі ў Пінску, пазьней — у Гандлёвай акадэміі ў Львове. Мабілізаваны ў польскую армію й у 1939 г. трапіў у нямецкі палон. Па вызваленьні з палону з падачы гестапа зноў трапіў у канцэнтрацыйны лягер у Трыры. Адтуль здолеў вярнуцца ў Беларусь і стаў ад'ютантам Прэзыдэнта БЦР *Р. Астроўскага*. Лейтэнант БКА, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Па вайне некаторы час жыў у Мюнхене, а ў 1949 г. разам зь сям'ёй выехаў у Аўстра-

лію. Пасяліўся ў Сыднэі. Быў сябрам Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі, узначаленага *М. Зуем*. Пазьней удзельнічаў у нацыянальных мерапрыемствах,ладжаных Беларускім культурна-грамадзкім клюбам. Меў намер напісаць мэмуары, але не пасьпеў.

**РОДЗЬКА Філарэт** (27.01.1890, в. Вераскава (сёньня Навагрдзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 05.03.1977, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог, бацька *Г. Русак*. Скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю. Настаўнічаў у в. Грычынавічы (сёньня Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.). У 1915 г. мабілізаваны ў царскае войска, скончыў афіцэрскую школу, ваяваў на фронце, быў паранены. У 1918 г. вярнуўся на Палесьсе, далучыўся да арміі генэрала С. Булак-Балаховіча. У 1921 г. вярнуўся ў в. Вераскава, дзе працаваў кіраўніком школы. У часе нямецкай акупацыі выкладаў у Навагрдзкай настаўніцкай сэмінарыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры, потым перабраўся ў Сомэрсэт, дзе гуртаваў прыхільнікаў Рады БНР. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, старшынём аддзелу арганізацыі ў Нью-Джэрзі. Арганізаваў беларускую суботнюю школу, браў удзел у стварэньні парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку, доўгі час быў рэгентам царкоўнага хору. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РОЗМЫСЛ Сяргей** (29.09.1905, Санкт-Пецярбург, Расея — 28.08.1969, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і паштара з Гарадзеншчыны, якая ў 1922 г. вярнулася ў Беларусь і пасялілася ў Гудзінішках на Лідчыне. Удзельнік БКА. Дэлегат на Другі Ўсебеларускі кангрэс ад Лідзкай акругі. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, адкуль у 1950 г. адзін безь сям'і — у Аўстралію. Адзін са стваральнікаў аддзелу Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі ў Мэльбурне, у якім займаў розныя пасады, у тым ліку й старшыні. У другой палове 1950-х гг. быў удзельнікам Беларускага школьнага камітэту ў Мэльбурне. Сябра царкоўнай рады парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай (БПЦ) у Мэльбурне. Удзельнік Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Сябра Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. Трагічна загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Пахаваны ў Мэльбурне на *Springvale Botanical Cemetery*.

**РОЛСАН Янка** (сапр. **Гадзіцкі**, 01.08.1912, в. Вялень Ігуменскага пав. (сёньня Пухавіцкі р-н Менскай вобл.) — 23.01.1994, Адэляйда, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, літаратар. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце ў Менску й у тэхнікуме цяжкай прамысловасьці ў Харкаве (Украіна). Працаваў на ваенным заводзе

ў Ніжнім Тагіле (Сьвярдлоўская вобл., Расея). Скончыў авіяшколу ў расейскім Ржэве. У якасьці авіямэханіка служыў у 5-й эскадрыльлі, а зь верасьня 1939 г. — на „польскім фронце“. Па дэмабілізацыі ў студзені 1941 г. працаваў на менскім заводзе імя Варашылава. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі на Пухавіччыне, ад сакавіка 1944 г. — афіцэр БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Мюнхене, дзе быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэту. У 1950 г. прыбыў у Аўстралію. Актыўна ўдзельнічаў у грамадзкім і рэлігійным жыцьці беларусаў Адэляйды. Займаў розныя пасады ў царкоўнай управе: быў старшынём, скарбнікам, сакратаром, рэфэрэнтам вонкавых сувязяў. У 1975—1987 гг. — першы старшыня Беларускага аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі (пакінуў пасаду з прычыны хваробы). Сябра Выканаўчага камітэту Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Аўтар шматлікіх паэтычных твораў, якія публікаваў пад псэўданімамі **ВЭР**, **Крапіва-Жыгучка**. У 1980 г. быў выдрукаваны паэтычны зборнік „Кліч“ (перавыдадзены ў 1982). Сталы карэспандэнт газэты „Беларус“ (пісаў пад псэўданімам **Янка Яр**). Аўтар апублікаваных у 1984 г. успамінаў „З глыбінь мінулага“.

**РУДЗІНСКІ Ўладыслаў (Уладзімер)** (21.01.1925, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?, Манчэстэр, Вялікабрытаніі), грамадзкі дзеяч. У 1942—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. Ад 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1953 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**РУДЗЬ Максім** (20.12.1910, в. Сычавічы (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 13.02.1979, Бэдфард, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Скончыў Радашкавіцкую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 06.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Актыўны ўдзельнік беларускага жыцьця ў Брытаніі. Памёр у Бэдфардзе. Частку сваёй маёмасьці пакінуў Скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане. Пахаваны ў Лёндане на могілках *Mortlake Crematorium*.

**РУДЗЬ Сьцяпан** (?, в. Сычавічы (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — ?, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, сябрам рэдкалегіі часопіса „Аб'еднаньне“.

**РУДЗЯК Аляксандар** (12.09.1909, Міжэва (сёньня Мастоўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў каля Лідсу. Ад 11.03.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РУДНІЦКІ Аляксандар** (04.04.1924, в. Ільля (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РУДОВІЧ Сяргей** (28.08.1920, в. Ракітна Лунінецкага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 27.03.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**РУЖАНЦОЎ Аляксандар** (12.08.1893, Вязьма (сёньня Расея) — 23.07.1966, Дэнвіл, Ілінойс, ЗША), вайсковы дзеяч, літаратар, бібліёграф. Удзельнік Першай сусьветнай вайны. Быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, у рангу камандзіра палку перайшоў у 1919 г. на бок Летувіскай рэспублікі. У 1920 г. узначаліў Беларускі асобны батальён. У 1921 г. узначаліў Цэнтральную вайсковую бібліятэку ў Коўне. Заснавальнік і віцэ-старшыня Таварыства бібліятэкараў Летувы, загадчык справаў Інстытуту бібліяграфіі. У часе нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Пэўны час жыў у лягерах *DP* у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Дэнвіле (штат Ілінойс), працаваў рабочым у супэрмаркеце. У вольны час займаўся справамі Летувіскай бібліяграфічнай службы, якую сам узначальваў, удзельнічаў у выданьні Летувіскай энцыкляпэдыі. Быў сябрам БІНіМу, складаў бібліяграфіі некаторых беларускіх пэрыёдыкаў. Займаўся перакладамі беларускіх твораў на летувіскую мову.

**РУСАК Аляксандар** (13.07.1907, Баранавіччына — 07.03.1957, Гарфілд, ЗША), грамадзкі дзеяч, інжынэр. У 1934 г. скончыў Пазнаньскі ўнівэрсытэт. У 1939—1941 гг. быў заснавальнікам і старшынём Беларускага камітэту ў Познані. Улетку 1941 г. арганізаваў Беларускі нацыянальны камітэт у Горадні. У 1942 г. у Баранавічах заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвую школу й стаў яе першым дырэктарам. Заснаваў Арганізацыю гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў. У 1943 г. — бургамістар Баранавічаў, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў арганізатарам Беларускага лягеру ў Рэгенсбургу. Спрычыніўся да арганізаванага выезду беларусаў у ЗША й стварэньня беларускага асяродку ў Саўт-Рывэры. Ад 1948 г. быў старшынём Галоўнай управы Цэнтральнага

прадстаўніцтва беларускай эміграцыі, удзельнік аднаўленчага Пленуму БЦР. У першым Урадзе БЦР — міністар замежных справаў і аддзелу фінансаў БЦР. Ад 25.11.1952 — старшыня Калегіі БЦР, а ад 15.12.1953 быў старшынём Выканаўчага воргану БЦР і кіраўніком замежных справаў арганізацыі. Улетку 1949 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Гарфілдзе (Нью-Джэрзі). Адзін з ініцыятараў стварэньня Кангрэсу беларусаў Амэрыкі й Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1955 г. праз хваробу паступова адышоў ад усіх беларускіх справаў. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Ягоны архіў захоўваецца ў зборах пры царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры.

**РУСАК Васіль** (14.11.1923, Наваградзкае ваяв. — 20.10.2000, Сомэрсэт, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, муж *Галіны Русак*. Пасьля Другой сусветнай вайны апынуўся ў францускай зоне акупацыі Нямеччыны, у польскім лагеры *DP* у Равенсбургу. Вучыўся ва ўнівэрсытэце *UNRRA* ў Мюнхене, унівэрсытэце Філіпа ў Марбургу. Пры канцы 1940-х гг. прыехаў у ЗША. Быў сябрам Згуртаваньня беларускай моладзі ў Амэрыцы, Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, БІНіМу. Прыхаджанін царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку. Радны БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РУСАК Васіль** (1896 — пасьля 1946), палітык, выдавец. Удзельнік Першага й Другога Ўсебеларускіх кангрэсаў. Адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну, камісар Другога Грозаўскага палку. Ад 1922 г. жыў у Празе, адзін з кіраўнікоў беларускага руху ў Чэхіі, фундатар часопіса „Іскры Скарыны“. У 1945 г. арыштаваны савецкімі ўладамі й праз год асуджаны да 10 год лягероў. Далейшы лёс невядомы.

**РУСАК Галіна** (дзяв. **Родзька,** 24.05.1928, в. Вераскава (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 14.09.2000, Сомэрсэт, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкая дзяячка, мастачка, дачка *Ф. Родзькі,* жонка *В. Русака*. Вучылася ва ўнівэрсытэце *UNRRA* ў Мюнхене. Пазьней пераехала ў ЗША. Працавала дырэктарам Мастацкай бібліятэкі Ратгерскага ўнівэрсытэту (Нью-Брансьвік). Экспанавала свае жывапісныя працы ў прэстыжных мастацкіх галерэях ЗША. Сталая ўдзельніца этнічных выставаў. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі, сябра яе жаночых стуктураў. Радная БНР. Сябра БІНіМу. Старшыня Беларускай культурна-адукацыйнай асацыяцыі. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РУСАК Ганна** (дзяв. **Лукашэвіч**, 18.07.1919, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — 27.11.2004, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *У. Русака*. У 1939 г. скончыла польскую гімназію ў Баранавічах і паступіла на фізыка-матэматычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, аднак навучаньню зашкодзіла Другая сусьветная вайна. Да чэрвеня 1944 г. жыла разам з мужам *У. Русаком* у Баранавічах, пасьля чаго выехала на эміграцыю. У 1946 г. паступіла ва ўнівэрсытэт *UNRRA* у Мюнхене, але навучацца не змагла. У 1949 г. прыбыла ў ЗША. Працавала на швачнай фабрыцы. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі, а таксама жаночай сэкцыі. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РУСАК Уладзімер** (19.11.1913, в. Сьвяцілавічы Наваградзкага пав. (сёньня ў межах г. Баранавічы) — 06.02.2009, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, муж *Ганны Русак*. У 1935 г. скончыў Віленскую тэхнічную школу, потым школу падхарунжых у Замброве. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у францускай зоне акупацыі Нямеччыны, у лягеры *DP* у Шляйсгайме. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Браў актыўны ўдзел у дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, кіраваў Нью-Ёрскім аддзелам арганізацыі, уваходзіў у рэдкалегію газэты „Беларус“. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**РУСАК Уладзімер** (20.04.1929, в. Любішчыцы Косаўскага пав. Гарадзенскай вобл. (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?, Ньюкасл, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў польскай, потым ў савецкай школе. У часе Другой сусьветнай вайны разам з бацькамі апынуўся ў Нямеччыне, а па капітуляцыі празь некаторы час жыў у беларускім лягеры *DP* у Міхельсдорфе, дзе вучыўся ў беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Адтуль у 1950 г. пераехаў у Аўстралію. Працаваў у Ньюкасьле, потым перабраўся на некаторы час у Сыднэй, але зноў вярнуўся ў Ньюкасл пры канцы 1960-х гг. Нягледзячы на гэта, трымаў сувязь зь беларусамі Сыднэю. У 1965 г. быў адным з галоўных ініцыятараў стварэньня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу й набыцьця для яго памяшканьня, а пазьней доўгія гады быў сябрам Клюбу й рэгулярна прыяжджаў за 300 км на нацыянальныя мерапрыемствы.

**РУСАКОЎ Павал** (10.08.1904, в. Студзянец (?) — 21.02.1982, Дукінфілд, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Дукінфілдзе. Быў пры-

хаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Дукінфілдзе на мясцовых могілках.

**РУЦЬКО Антон** (27.11.1926, в. Ярэмічы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1943—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 21.12.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**РУЧАЙ Янка** (19.03.1913, Пружаншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.04.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**РЫБАЧАК Антон** (05.05.1907, в. Калесьнікі (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 03.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РЫБІЧОНАК Сяргей** (21.01.1919— ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РЫДЛЕЎСКІ Лявон** (02.10.1903, в. Ульянавічы Магілёўскай губ. (сёньня Сеньненскі р-н Віцебскай вобл.) — 24.10.1953, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Каля 1908 г. пераехаў з бацькамі ў Слуцк. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі. У 1920 г. далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Пасьля раззбраеньня паўстанцаў на польскай тэрыторыі, у 1921 г. жыў у Вільні, дзе вучыўся на настаўніцкіх курсах. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1923 г. пераехаў у Прагу. У 1928 г. скончыў Палітэхнічны інстытут з дыплёмам інжынэра. У 1929 г. разам з *М. Абрамчыкам* выехаў у Францыю. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусьветнай вайны быў у шэрагах францускага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэньні Аб’еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, выданьні „Беларускіх навінаў“, быў сакратаром Прэзыдыюму Рады БНР. У сувязі з рэзкім пагаршэньнем здароўя (рак) і цяжкім матэрыяльным становішчам пераехаў у Лёндан пад апеку а. *Часлава Сіповіча*, дзе неўзабаве памёр. Пахаваны ў Лёндане на *Hampstead Cemetery*.

**РЫЖЫ-РЫСКІ Ўладыслаў** (1925 (?), в. Латыгаль (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 02.03.1978, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі й

рэлігійны дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны працаваў у структурах Беларускай народнай самапомачы ў Глыбоцкай акрузе, быў сакратаром аддзелу моладзі БЦР. Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, потым вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія). На пачатку 1950-х выехаў у Рым, дзе нядоўгі час вучыўся ў Папскім унівэрсытэце. Адтуль перабраўся ў Мадрыд, дзе заснаваў фантомны Інстытут беларусаведы імя Л. Сапегі. У 1958 г. выехаў у ЗША, дзе вучыўся ў Прынстанскім унівэрсытэце. Заснаваў уласную рэлігійную структуру „старакаталіцкую субожню“ й ад студзеня 1960 г. усклаў на сябе абавязкі апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў. Выдавец шэрагу беларускіх пэрыёдыкаў. Сябра „Баявой ускалосі“. Аўтар зборніка вершаў „Маці маёй роднай“ (1962).

**РЫЛЛО Язэп** (22.11.1924, в. Круты Бераг (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Бірмінгеме. Ад 01.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**РЫТАР Іна** гл. **КАХАНОЎСКАЯ Іна**

**РЭШЭЦЬ (РЭШАЦЬ) Язэп** (20.07.1890, в. Рушчаны (сёньня Падляскае ваяв. Польшчы) — 15.02.1958, Лайл, Ілінойс, ЗША), рэлігійны дзеяч, пэдагог. Скончыў Папскі Грыгарыянскі інстытут, Папскі Ўсходні інстытут у Рыме са ступеньню доктара тэалёгіі й філязофіі. У 1917 г. высьвечаны ў сьвятары. Выкладаў філязофію й апалягетыку на тэалягічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У 1925 г. падпісаў ліст пратэсту беларускага каталіцкага сьвятарства супраць канкардату паміж Польшчай і Апостальскай сталіцай. Высланы на Беласточчыну, перасьледаваўся польскімі царкоўнымі ўладамі за спрыяньне беларускаму нацыянальнаму руху й стварэньне суполак Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры. У 1938 г. выехаў у ЗША. Уступіў у бэнэдыктынскі кляштар у Лайле. У 1941 г. быў адным з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады.

**САБАЛЕЎСКІ Юры** (24.04.1889, Стоўпцы (сёньня Менская вобл.) — 30.12.1957, Кірхэн унтэр Тэк, Нямеччына), грамадзкі дзеяч. У 1922—1926 гг. быў паслом польскага сойму, у 1924—1926 гг. — сябрам і адным з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бургамістра Баранавічаў. Ад лета 1943 г. да студзеня 1944 г. — старшыня Беларускай самапомачы. У студзені 1944 г. стаў віцэ-прэзідэнтам БЦР. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, ЗША, ад 1955 г. зноў у Нямеччыне. Рэдагаваў газэту „Беларускае

слова“. Браў актыўны ўдзел у грамадзка-палітычным жыцьці. Быў актывістам БЦР. У 1956 г. разам з *І. Касяком, Л. Галяком, Л. Савёнкам, М. Паньковым* стварыў Камітэт незалежнай Беларусі.

**САБІЛА Тодар** (15.12.1917, в. Сівіца (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Беларускай паліцыі парадку, потым трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, а пазьней — у Армію Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 27.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1950-х гг. быў сябрам управы акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Ланкашыры.

**САВЁНАК Апалёнія** (дзяв. **Раткевіч**, 08.10.1901, Лагойшчына — 10.04.1982, Памон, Нью-Джэрзі, ЗША), пэдагог, пісьменьніца, жонка *Л. Савёнка*, маці *З. Кіпель. Ад* 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Была выкладчыцай у беларускай гімназіі ў Остэргофэне. Аўтарка некалькіх падручнікаў для дзяцей. Ад пачатку 1950-х жыла ў ЗША, у Нью-Джэрзі. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**САВЁНАК Лявон** (26.06.1897, в. Вялец (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 21.02.1974, Памон, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, журналіст, муж *А. Савёнак*, бацька *З. Кіпель*. Вучыўся ў Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі, якую скончыў, калі ўстанова эвакуявалася ў Смаленск. У 1920 г. прыехаў у Менск. У 1920-х гг. працаваў у „Савецкай Беларусі“, адкуль быў звольнены за беларускі нацыяналізм. У 1933 г. арыштаваны на справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“, высланы на шэсьць гадоў у Сыбір, а пазьней — у Комі АССР. У 1939 г. вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у „Беларускай газэце“. Напісаў сатырычныя нататкі „Дзёньнік Ів.Ів. Чужанінава“. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў, быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Остэргофэне. Адзін з ініцыятараў аднаўленьня Рады БНР (пакінуў Раду праз канфлікт з *М. Абрамчыкам*). У 1948 г. увайшоў у Кансысторыю адноўленай БАПЦ. Ініцыятар заснаваньня газэты „Бацькаўшчына“. У 1950 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Памоне (Нью-Джэрзі), дзе займаўся сельскай гаспадаркай. Уваходзіў у склад рэдкалегіі газэты „Беларус“. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**САДОЎСКІ Янка** (15.02.1926, Стоўпцы (сёньня Менская вобл.) — 10.06.1982, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч, гісторык. Падчас нямецкай акупацыі браў удзел у нацыянальна-культурным руху на Стаўпеч-

чыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 08.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1948 г. прыняты кандыдатам у ордэн марыянаў, а ў 1949 г. з блаславеньня а. *Ч. Сіповіча* выехаў у Рым, дзе пасьля навіцыяту пачаў рыхтавацца да сьвятарства. У 1953 г. выйшаў з марыянскага закону й з дапамогай біскупа Б. Слосканса пачаў навучаньне ў Францускай калегіі ў Рыме. 17.12.1955 атрымаў сьвятарскія сьвячэньні й далей працягнуў навучаньне. У 1961 г. на загад а. *Ч. Сіповіча* вярнуўся ў Лёндан дапамагаць у працы Беларускай каталіцкай місіі й кіраваць інтэрнатам Сьв. Кірылы. Аднак праз два месяцы працы ў інтэрнаце адмовіўся ад сьвятарства й празь нейкі час выехаў у Канаду. Выкладаў расейскую мову й літаратуру ў Куінс-унівэрсытэце (штат Антарыё). Абараніў дысэртацыю, прысьвечаную кнігам Ф. Скарыны. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, БІНіМу ў Канадзе. Аўтар манаграфіі *„Byelorussians in Canada“* (1982).

**САЖЫЧ Барбара** (дзяв. **Мазура**; 17.12.1919, Укмэрге, Летува — 21.07.1978, Дэтройт, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Я. Сажыча*, сястра *Ю. Мазуры*. У 1928 г. разам з бацькамі пераехала на Навагрудчыну. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946—1949 гг. вучылася ва ўнівэрсытэце Філіпа ў Марбургу (Нямеччына). У 1949 г. прыехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, брала ўдзел у працы Дэтройцкага аддзелу арганізацыі. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**САЖЫЧ Язэп** (05.09.1917, в. Гарадзечна (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 19.11.2007, Эн-Арбар, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай пачатковай школе, Навагрудзкай беларускай гімназіі, а пасьля яе закрыцьця ў 1934 г. працягнуў навучаньне ў польскай гімназіі імя А. Міцкевіча. Мабілізаваны ў польскае войска, скончыў афіцэрскую школу. У часе нямецка-польскае вайны трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк ва Ўкраіну. У 1939—1941 гг. вучыўся ў Львове, пасьля чаго вярнуўся ў Беларусь. Улетку 1942 г. прызначаны камэндантам падафіцэрскай школы. У лютым 1943 г. у Лідзе арганізаваў і ўзначаліў Беларускі батальён чыгуначнай аховы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў камэндантам афіцэрскай школы 30-й (беларускай) дывізіі войск СС у Баварыі. Пасьля вайны вучыўся ва ўнівэрсытэце Філіпа ў Марбургу (Нямеччына). У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Дэтройце. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывістам Дэтройцкага аддзелу арганізацыі. Ад 1953 г. — радны БНР, сакратар у справах вэтэранаў. У 1982—1997 гг. — старшыня Рады БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**САЗАНОВІЧ Янка** (19.03.1922, в. Весялова (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак хутка выехаў у Аргентыну.

**САЗЫКА Міхаіл** (1895—1949), сьпявак і вайсковец. Быў актыўным дзеячам беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў другой палове 1940-х гг.

**САЙКА Тарас** (1906, Ліпск (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 26.09.1973), рэлігійны дзеяч, пратэстанцкі пастар. Служыў у польскім войску. Па сканчэньні службы пабудаваў у Ліпску малітоўны дом і ад другой паловы 1930-х гг. працаваў у ім пастарам. У часе Другой сусьветнай вайны быў на біблійных курсах у г. Відэнэст у Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Мінеапалісе. Быў заснавальнікам Біблійнага брацтва Вялікалітоўскага. Займаўся перакладам біблійных тэкстаў на беларускую мову.

**САКАЛОЎСКІ Андрэй** (11.10.1911, в. Нікашэвічы (?) Лунінецкага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**САЛАВЕЙ Алесь** (сапр. **Альфрэд Радзюк**, на эміграцыі **Альбэрт Кадняк**, 01.05.1922, в. Крысава Койданаўскага пав. (сёньня Дзяржынскі р-н Менскай вобл.) — 22.01.1978, Мэльбурн, Аўстралія), паэт, журналіст, грамадзка-культурны дзеяч. У 1938—1940 гг. вучыўся ў пэдагагічным вучылішчы ў Менску. Ужо ад 1937 г. ягоныя вершы зьяўляліся на старонках розных беларускіх выданьняў. Ад 1942 г. жыў у Рызе (Латвія), працаваў намесьнікам галоўнага рэдактара часопіса „Новы шлях“. Пры канцы Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Зальцбургу (Аўстрыя), удзельнічаў у выданьні газэты „Зь беларускага жыцьця“ й часопіса „Пагоня“. У 1949 г. прыбыў у Аўстралію. Першыя некалькі гадоў жыў у Адэляйдзе, у лютым 1950 г. удзельнічаў у арганізацыйным сходзе мясцовых беларусаў. Пазьней перабраўся ў Мэльбурн, дзе таксама далучыўся да грамадзкага жыцьця. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі, пазьней — культурным рэфэрэнтам Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі й сябрам Беларускае сэкцыі радыя *3ZZ* у Мэльбурне (1976—1977). Паэтычнай творчасьцю ў Аўстраліі займаўся мала. У 1982 г. ужо пасьля сьмерці паэта ў БІНіМе ў Нью-Ёрку выйшаў зборнік вершаў „Нятускная краса“, куды ўвайшлі й творы аўстралійскага пэрыяду ягонага жыцьця. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**САЛАВЕЙ Уладыслаў** (1918—1974), рэлігійны дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Заходняй Нямеччыне. У 1946 г. быў высьвечаны на сьвятара. У 1955 г. Апостальскі пасад прызначыў яго генэральным пастырам для беларусаў-каталікоў у Нямеччыне.

**САЛАНЕВІЧ Уладзімер** (18.11.1923, в. Пагост — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 02.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**САМКОВІЧ Уладзімер** (18.06.1919, Нясьвіж (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**САНКОЎСКІ Васіль** (08.11.1922, Ліда (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.11.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне.

**САРАЧЫНСКАЯ Ядвіга** (1926 — пач. 1960-х), грамадзкая дзяячка. Падчас нямецкай акупацыі працавала перакладчыцай у Слонімскім камісарыяце. У 1943—1944 гг. была кіраўнічкай юначак СБМ у Слонімскай акрузе. У пачатку 1944 г. разам зь іншымі слонімскімі дзеячамі эвакуявалася ў Заўльгаў (Нямеччына). Пасьля працавала ў францускай акупацыйнай адміністрацыі ў Нямеччыне. У 1949 г. выйшла замуж і пераехала ў Аўстралію. Жыла ў Пэрце й працавала ў мясцовым аэрапорце. Памерла падчас родаў.

**САСНОЎСКІ Міхал** (17.01.1924, х. Дужае Поле (сёньня Навагрудзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 12.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**САСУНКЕВІЧ Павал** (12.05.1925, в. Чучавічы (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 16.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**САЎКО Ўладзімер** (08.12.1906, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СЕЛЯЗЬНЁВА Ганна** (1882, в. Верацеі на Віцебшчыне — 19.12.1967, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Пасьля

Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была прыхаджанкай царквы Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**СЕЛЯЗЬНЁЎСКАЯ Марыя** (1913, в. Чышчываткі (?) на Віцебшчыне — 12.03.1996, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была прыхаджанкай царквы Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**СЕЛЯЗЬНЁЎСКІ Янка (Іван)** (03.03.1910, в. Чышчываткі (?) на Віцебшчыне — 12.01.1970, Нотынгем, Вялікабрытаніі), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Ад 29.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**СЕМЯНЧУК Васіль** (07.01.1899, в. Угалец Мазырскага пав. (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 25.01.1983, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1961—1962 г. быў заступнікам старшыні Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Кіраўнік Кліўлэндзкага падсэктару Рады БНР. Адзін з заснавальнікаў парафіі Жыровіцкай Маці Божай БАПЦ. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*

**СЕНЬКА Мікола** (на эмігр. **Яблоньскі** 1924, м. Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 19.07.2008, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Скончыў польскую школу, бухгальтарскія курсы ў Нясьвіжы. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Быў сябрам СБМ. У першай палове 1944 г. — курсант Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане, быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У часе расколу выйшаў з арганізацыі й далучыўся да Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. У 1989 г. вярнуўся ў ЗБВБ. Апошнія гады жыў у лёнданскім Беларускім доме. Пахаваны ў Лёндане.

**СЕНЬКА Міхась** (нар. 02.01.1922, Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.)), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі скончыў Баранавіцкую мэдычную школу, працаваў кіраўніком аптэкі ў Стоўпцах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэньні вайны знаходзіўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, дзе скончыў гімназію, браў удзел у скаўтынгу. У 1947—1949 гг. вучыўся ва Ўкраінскім тэхнічна-гас-

падарскім інстытуце ў Мюнхене. У 1949 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Працаваў на заводзе „Форд“. Ад самага пачатку браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў Амэрыцы. У 1950-х узначальваў Аб’еднаньне беларуска-амэрыканскай моладзі, уваходзіў у царкоўную ўправу беларускага прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Быў доўгі час сакратарам управы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

**СЕНЬКА Ўладзімер** (1918 — 1997, Нямеччына), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі ў Стоўпцах і Віленскім унівэрсытэце. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Скончыў школу афіцэраў рэзэрву ў Замброве й быў прыпісаны да Баранавіцкага палку пяхоты. У 1939—1941 гг. працаваў настаўнікам. Быў начальнікам паліцыі ў Стоўпцах. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Працаваў з прафэсарам фон Мэндэ ў Службе досьледаў Усходняй Эўропы. Быў настаўнікам у беларускай гімназіі лягеру *DP* у Ватэнштэце, а пасьля — яе дырэктарам і кіраўніком лягеру да канца яго існаваньня. Рэдагаваў пэрыёдык „Жыве Беларусь!“, а пасьля выдаваў „Інфармацыйныя сшыткі“ ў нямецкай мове аб палітычным і эканамічным жыцьці ў БССР. Служыў у бундэсвэры. У рангу маёра выйшаў на пэнсію.

**СЕРАДА Хведар** (10.03.1913, в. Залацеева (сёньня Зэльвенскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.03.1952 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СЕРГІЙ** (сьвецк. **Ягор Ахатэнка,** 12.03.1890, в. Малыя Гарошкі ў Житомірскім пав. (сёньня Ўкраіна) — 02.10.1971, Адэляйда, Аўстралія), рэлігійны дзеяч, архіяпіскап БАПЦ. Нарадзіўся ў сялянскай сям’і. У 1911—1921 гг. жыў у Богаяўленскім манастыры ў Житоміры, дзе ў 1919 г. прыняў манаскі сан. У 1925 г. высьвечаны на субдыякана, а ў 1932 г. — на архімандрыта. Працаваў у праваслаўных парафіях ва Ўкраіне, пакуль у 1937 г. ня быў арыштаваны савецкімі ўладамі. Вызвалены ў 1941 г. А 01.08.1943 на Кіраваградзкім катэдральным саборы высьвечаны ў япіскапы. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. Удзельнік Першага сабору БАПЦ 04—05.06.1948 г. у Канстанцы, на якім быў прызнаны архіяпіскапам і ўвайшоў у Часовую раду БАПЦ. У 1950 г. перабраўся ў Аўстралію. Кіраўнік БАПЦ на Аўстралію й Новую Зэляндыю. Да 1957 г. жыў у Сыднэі. Потым перабраўся ў Пэрт, дзе прычыніўся да збору сродкаў на пабудову беларускай царквы, а пазьней — у Адэляйду, дзе абслугоўваў некалькі грэцкіх парафіяў. Пахаваны ў Адэляйдзе на грэцкіх могілках.

**СЕРЫ Мікола** (01.10.1917, в. Петухоўшчына (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны

апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.10.1951 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**СІДАРЭВІЧ Віталь** (03.09.1926, Маладэчаншчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нэльсане ў Ланкашыры. У 1950-х уваходзіў у Хрысьціянскае аб'еднаньне беларускіх работнікаў.

**СІДЛЯРЭВІЧ Жэня** (дзяв. **Парэцкая,** нар. 22.05.1924, в. Люшча (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.)), грамадзкая дзяячка, жонка *У. Сідлярэвіча*. Вучылася ў польскай школе. У 1943 г. была вывезеная на працы ў Эрфурт (Нямеччына). Па вайне апынулася ў Польшчы, у той час калі бацькі выехалі з іншымі дзецьмі ў Аўстралію. У 1958 г. намаганьнямі бацькоў таксама пераехала ў Аўстралію, дзе ў 1960 г. у Мэльбурне пазнаёмілася з *У. Сідлярэвічам*. Ад гэтага часу далучылася да беларускай грамадзкай дзейнасьці. Сьпявала ў беларускім мяшаным хоры. Была сяброўкай Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі й апошнія гады ўзначальвала Беларускі жаночы камітэт у Вікторыі. Удзельніца Беларускага сацыяльнага клюбу.

**СІДЛЯРЭВІЧ Уладзімер** (20.09.1922, в. Праважа (сёньня Воранаўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 05.11.1999, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *Ж. Сідлярэвіч*. Скончыў сярэднюю школу ў Лідзе, пазьней атрымаў спэцыяльнасьць настаўніка й працаваў у пачатковай школе ў Васілішках. У 1944 г. уступіў у шэрагі БКА, быў дэлегатам на Другі Ўсебеларускі кангрэс ад Лідзкай акругі. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ангельскай зоне акупацыі Нямеччыны, у Гамбургу, дзе ў 1948 г. скончыў спэцыяльны каледж і атрымаў пасьведчаньне інжынэра будоўлі. У 1950 г. прыехаў у Аўстралію, дзе першыя два гады працаваў у Адэляйдзе. У 1952 г. перабраўся ў Мэльбурн, дзе адразу далучыўся да актыўнага грамадзкага жыцьця беларусаў. Сябра рэдакцыі часопіса „Новае жыцьцё". Адзін з ініцыятараў стварэньня й доўгагадовы старшыня Камітэту набыцьця беларускага дому (пазьней Каапэратыву). Быў настаўнікам беларускай школы, якая некаторы час знаходзілася ў ягонай хаце. Сябра аддзелу Беларускага вызвольнага фронту ў Вікторыі, трымаў цесную сувязь зь*Дз. Касмовічам*. На працягу 1970—1980-х гг. рэгулярна выбіраўся на пасаду старшыні Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Таксама быў старшынём Беларускага нацыянальнага фонду, заснаванага для фінансаваньня беларускіх дэлегацыяў на міжнародных канфэрэнцыях. У 1981 г. — старшыня арганізацыйнага камітэту чацьвёртай Сустрэчы беларусаў Аўстраліі. Ад 1985 г. і да канца жыцьця быў скарбнікам Фэдэральнай рады беларускіх

арганізацый ў Аўстраліі. Таксама быў старшынём Чарнобыльскага фонду, які зьбіраў грошы для дапамогі ахвярам Чарнобыльскай аварыі. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**СІЛЬВАНОВІЧ Андрэй** (15.09.1916, в. Цынцавічы (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 06.12.1951 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**СІЛЬВАНОВІЧ Мікола** (псэўд. **Мікола Вярба**, 09.04.1917, в. Вірадова (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 13.07.1975, Вініпэг, Канада), грамадзкі дзеяч, літаратар, філятэліст. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Празе, затым у Герэнбэргу каля Штутгарту (Бадэн-Вюртэмбэрг). Адзін са стваральнікаў у 1946 г. у Заходняй Нямеччыне творчага аб’еднаньня „Шыпшына“. Арганізаваў майстроўню беларускага мастацкага рамяства „Раніца“, вырабы якой карысталіся шырокім попытам і адзначаліся на выставах. У 1947 г. выдаў вядомую паштоўку да ўгодкаў 25 Сакавіка з выявай Пагоні й партрэтамі беларускіх нацыянальных дзеячаў — К. Каліноўскага, І. Грынявіцкага, Ф. Багушэвіча, П. Крэчэўскага, В. Захаркі. У 1949 г. выехаў у Канаду. Жыў у Вініпэгу, дзе спрычыніўся да заснаваньня Беларускага нацыянальнага камітэту й Беларуска-Канадыйскага нацыянальнага аб’еднаньня ў правінцыі Манітоба. Аўтар артыкула пра беларусаў у Канадзе ў дзесяцітамовай *Encyklopedia of Canada (1956—1957)*.

**СІНІЦА Міхал** (?, Горадня — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 27.01.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СІНІЦКАЯ Зося** (22.02.1929, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкая дзеячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 09.08.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СІПОВІЧ Часлаў** (08.12.1914, в. Дзедзінка (сёньня Мёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 04.10.1981, Лёндан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі біскуп. Вучыўся ў Друйскай гімназіі. У 1934 г. пастрыжаны ў манахі. Вучыўся на факультэце філязофіі й тэалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту. У 1938—1947 гг. жыў у Рыме, дзе скончыў Папскі Грыгарыянскі ўнівэрсытэт і Папскі Ўсходні інстытут. У 1944—1946 гг. апекаваўся беларускімі жаўнерамі Арміі Андэрса, раскватараванымі па ўсёй Апэнінскай паўвыспе. Праводзіў сярод іх дабрачынную й асьветніцкую працу. У 1947 г. прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі

бізантыйска-славянскага абраду ў Вялікабрытаніі. 09.04.1947 прыбыў у Лёндан. Ад 10.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1948 г. абіраўся на пасаду скарбніка арганізацыі. У 1948 г. стаў адным з ініцыятараў стварэньня Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё", а пазьней — Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'еднаньня „Рунь". 04.08.1960 пасьвечаны на біскупа, пазьней быў прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генэралам ордэну марыянаў, на гэтай пасадзе заставаўся да 1969 г. У Марыян Хаўзе заснаваў кляштар беларускіх марыянаў. Фактычна быў заснавальнікам Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру ў Паўночным Лёндане, часткай якога стаў інтэрнат Сьв. Кірылы для беларускіх хлапцоў, а таксама Беларуская бібліятэка й музэй імя Ф. Скарыны. Пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**СІТКОЎСКАЯ Алена** (06.05.1925, Докшыцы (сёньня Віцебская вобл.) — ?, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *К. Сіткоўскага*. У 1950 г. разам з мужам прыехала ў Аўстралію. Але праз два гады ўзяла развод. Выхоўвала прыёмных дзяцей. Актыўная ўдзельніца беларускай грамады Сыднэю. У 1973—1989 гг. была сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу. Скарбнік і некаторы час старшыня Жаночага камітэту. Актыўна дапамагала ў арганізацыі беларускіх мерапрыемстваў. Пазьней адышла ад грамадзкай дзейнасьці зь сямейных прычынаў.

**СІТКОЎСКІ Кастусь** (04.04.1923, Наваградак (сёньня Гарадзенская вобл.) — 26.05.1994, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *А. Сіткоўскай*. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, у 1944 г. скончыў Наваградзкую настаўніцкую сэмінарыю. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягеры Ватэнштэт, працаваў настаўнікам у беларускай пачатковай школе. Пры канцы 1949 г. прыбыў у Аўстралію. Жыў у Сыднэі, меў бізнэс у галіне гандлю дрэвам. Адзін са стваральнікаў, а ў 1954—1955 гг. — старшыня Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. Удзельнік Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі, у якім доўгі час выконваў абавязкі дырэктара. Загінуў у аўтамабільнай аварыі.

**СІТНІК Аўген** (04.07.1927, в. Валынка (?) — 29.08.1986, Адэляйда, Аўстралія), рэлігійны дзеяч. Падчас вайны апынуўся ў Нямеччыне як гастарбайтар. Пазьней эміграваў у Паўднёвую Аўстралію, дзе хутка ажаніўся з дачкой сьвятара *М. Шчурко* й далучыўся да беларускай грамады. Дапамагаў у пабудове царквы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе, выконваў функцыі скарбніка ў парафіяльнай радзе. У 1978 г. у зьвязку з раптоўным ад'ездам у Сыднэй а. Георга, тагачаснага

настаяцеля беларускай парафіі, даў згоду зрабіцца сьвятаром парафіі. 30.07.1978 архіяпіскапам БАПЦ *Мікалаем* рукапакладзены ў сьвятарскі сан. На пасадзе настаяцеля беларускай парафіі заставаўся да канца жыцьця.

**СІЦКІ Сьцяпан** (18.09.1902, Вільня — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 09.12.1951 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі .

**СІЦЬКО Мікалай** (нар. 1924, Рыга), грамадзкі дзеяч. Скончыў беларускую пачатковую школу й гімназію ў Рызе. Падчас вайны выехаў у Нямеччыну, вучыўся на хімічным факультэце Бэрлінскага ўнівэрсытэту. У 1946—1948 гг. выкладаў ангельскую мову ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе, працаваў перакладчыкам пры структурах *UNRRA*. Пры канцы 1940-х выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Адзін з актывістаў прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, уваходзіў у царкоўную раду. У 1960—1970-х належаў да ўраду Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

**СКАБЕЙ Мікола** (23.10.1905 — 07.12.1992, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. быў дэлегатам на Другім Усебеларускім кангрэсе, адразу пасьля якога выехаў зь Беларусі. Пасьля некалькіх гадоў у Нямеччыне, у 1948 г. прыехаў у Аўстралію. Некаторы час быў на чале Сэктару Рады БНР у Вікторыі. У 1950-х гг. стаў на чале Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі, а пасьля стварэньня агульнага Беларускага цэнтральнага камітэту стаў першым яго кіраўніком, і далей рэгулярна абіраўся на гэтую пасаду на працягу 1960—1980-х гг. Адзін з ініцыятараў набыцьця Беларускага дому й удзельнік управы Каапэратыву беларускага дому. Актыўна падтрымаў ідэю арганізацыі Сустрэчаў беларусаў Аўстраліі. Падтрымліваў цесныя сувязі зь беларускімі эмігрантамі ў іншых краінах сьвету, і ў прыватнасьці з *М. Абрамчыкам*. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park*.

**СКАПЕЦ Тамаш** (07.11.1895, Лоск (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.) —13.01.1978, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у царскай арміі падчас Першай сусьветнай вайны. У 1920 г. браў удзел у Слуцкім паўстаньні. У 1940 г. быў вывезены ў Сыбір, дзе ўступіў у Армію Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Лёндане. Ад 21.12.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, некаторы час уваходзіў у Галоўную ўправу, быў адміністратарам Беларускага дому ў Лёндане, актывістам БАПЦ. Пахаваны ў Лёндане.

**СКАРАХОДАЎ Аляксандар** (16.12.1913, в. Сіняўка (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл) — ?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў настаўніц-

кай сэмінарыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1950 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**СКЛІНАР Надзея** (27.02.1928, в. Масілавічы (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 01.12.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СКОРЫН Дзяніс** (15.08.1903, Віцебшчына — 27.12.1990, Ньюарк, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ньюарку. Ад 25.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Парафіянін царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Ньюарку на *Westborough Cemetery*.

**СКРЫНЬНІК Міхал** (08.05.1908, Рубяжэвічы (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 02.06.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, быў радным БНР. У 1951—1953 гг. быў кіраўніком Беларускага выдавецкага фонду ў Вялікабрытаніі.

**СКРЫЦКІ Віталь** (04.03.1924, Гародня — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СКУРАТ Яўхім** (29.12.1906 — 1992, Канада), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскі ўнівэрсытэт, аддзел францускай філялёгіі, у 1939 г. — аддзяленьне Парыскай Сарбоны. Абараніў дысэртацыю „Сымбалізм у раманах Ж. Радэнбаха“ (на францускай мове). Падчас нямецкай акупацыі займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Быў акруговым школьным інспэктарам у Глыбоцкай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Пры канцы 1940-х прыбыў у Канаду. Скончыў Тэхнічны інстытут электронікі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, Канадыйскага Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

**СКУРКО Ўладзімер** (09.09.1910, в. Навасёлкі на Пастаўшчыне — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 25.03.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СКУРСКІ Міхал** (18.02.1909, в. Забалаць (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СЛАДКОЎСКАЯ Марыя** (1902(3), Навагрздчына — 21.07.1971, Таронта, Канада), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Канадзе. Належала да парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Таронта. Пахаваная ў Таронта.

**СЛАДКОЎСКІ Барыс** (25.03.1916, Цырын (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 1992, Таронта, Канада), царкоўны актывіст. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1949 г. прыбыў у Канаду. Быў актывістам прыходу царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Таронта.

**СЛАНІМСКІ Аляксандар** (03.08.1921, в. Габруны Нясьвіскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у БКА, потым у Арміі Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Брадфардзе. Ад 21.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**СЛАНІЧЭНКА Генавефа** (25.08.1926, Смаргонь (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 23.08.1947 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СМАЙКЕВІЧ Алена** (12.06.1925 — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Лёндане. Ад 28.03.1949 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пазьней выехала ў ЗША.

**СМАЙКЕВІЧ Кастусь** (02.05.1923, Менск — ?), грамадзкі дзеяч. Сын менскага імама Смайкевіча. Падчас нямецкай акупацыі ўзначальваў Саюз татарскай моладзі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.03.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у Галоўную ўправу, выконваў функцыі скарбніка арганізацыі. Пасьля 1952 г. зьехаў у ЗША.

**СМАЙКЕВІЧ Людміла** (16.06.1928 — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Лёндане. Ад 28.03.1949 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СМАКТУНОВІЧ Ганна** (дзяв. **Шпаковіч,** 08.09.1899, в. Цераміскі (сёньня Бельскі пав. Беластоцкага ваяв. Польшчы) — 01.09.1982, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была прыхаджанкай царквы Сьв. Мікалая. Пахавана ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**СМАКТУНОВІЧ Канстанты** (26.06.1899, в. Цераміскі (сёньня Бельскі пав. Беластоцкага ваяв. Польшчы) — 01.01.1986, Нотынгем,

Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**СМАКТУНОВІЧ Янка** (14.02.1919, Беласточчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СМАЛЬ Аляксандар** (24.05.1912, Наваградчына — 19.03.1990, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў настаўніцкія курсы ў Вільні, настаўнічаў у Заходняй Беларусі. У 1946—1948 гг. выкладаў геаграфію ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе (Нямеччына). У 1948 г. прыбыў у Аўстралію. Адзін з арганізатараў Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі, першы рэдактар часопіса „Новае жыцьцё", які выходзіў у 1950-х гг. у Сыднэі. Пасьля расколу — сябра Беларускага аб'яднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі, а пазьней Беларускага культурна-грамадзскага клюбу. Актыўны й доўгагадовы ўдзельнік жыцьця беларускай грамады. Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай сэкцыі *Rookwood Cemetery*.

**СМАЛЬ Мікіта** (25.05.1907 ?, в. Хацíслаў (сёньня Маларыцкі раён Берасьцейскай вобл.) — 21.02.1967, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Ад 13.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Basford Cemetery*.

**СМАРШЧОК Аўген** (25.09.1914, м. Зэльва (сёньня Гарадзенская вобл.) — 05.10.1984, Бэльгія), сьвятар, пэдагог, перакладчык, муж *З. Смаршчок-Жалязоўскай*. У 1934 г. скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю, пасьля настаўнічаў. У 1939 г. мабілізаваны ў войска, браў удзел у абароне Варшавы, трапіў у палон. У 1940 г. вызвалены. Працаваў на фабрыцы ў Бэрліне, вучыўся ў Бэрлінскім унівэрсытэце, дзе вывучаў псыхалёгію. У 1950 г. скончыў факультэт псыхалёгіі й філязофіі ўнівэрсытэту Філіпа ў Марбургу. 03.09.1950 рукапакладзены ў ярэя БАПЦ ды пераехаў у Лювэн (Бэльгія) для абслугоўваньня рэлігійных патрэбаў мясцовых беларусаў. Стварыў парафію БАПЦ. Абслугоўваў ня толькі беларусаў, але й праваслаўных украінцаў, грэкаў, сэрбаў, расейцаў, праваслаўныя парафіі вугальных капальняў у Лімбургу, выяжджаў у Францыю. У 1955 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт са ступеньню магістар псыхалёгіі й філязофіі. У 1960-х навучаўся ў Вольным інстытуце філялёгіі й гісторыі ўсходніх славянаў Брусэльскага ўнівэрсытэту, атрымаў ступень магістра славістыкі. У 1965—1980 гг. выкладаў

расейскую мову ў Вышэйшай флямандзкай школе перакладчыкаў у Антвэрпэне. Пахаваны ў Гевэры (каля Лювэну) на мясцовых могілках.

**СМАРШЧОК (РЭПКАЎ-СМАРШЧОК) Мітрафан** (псэўд. **Анатоль Бярозка,** 15.02.1915, в. Падлесьсе (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 20.06.2008, Мантысэла, Мінэсота, ЗША), лекар, грамадзкі дзеяч, паэт. Вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У 1939 г. выехаў на працу на Берасьцейшчыну, працаваў у чыгуначным шпіталі ў Берасьці. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Баранавічах, быў дырэктарам мэдычнай школы. Быў вывезены ў Нямеччыну ў канцэнтрацыйны лягер. Каля 1950 г. прыехаў у ЗША на запрашэньне шпіталю ў Мантысэла. У мясцовым шпіталі працаваў на розных пасадах, удзельнічаў у яго разбудове, кіраваў домам для старых. Быў прафэсарам Унівэрсытэту Мінэсоты, займаўся дасьледаваньнем хваробаў сэрца. Сябра БІНіМу. Аўтар зборніка „Адзінаццаць вершаў“ (1989), а таксама кнігі „Анатоль Бярозка. Выбранае“ (Менск, 2004). Пахаваны ў Мантысэла на могілках царквы Сьв. Генрыка.

**СМАРШЧОК-ЖАЛЯЗОЎСКАЯ Зоя** (15.12.1922, в. Стараельня Наваградзкага ваяв. — 03.04.2010, Гевэр, Бэльгія), грамадзкая дзяячка, жонка *А. Смаршчка*. У часе нямецкай акупацыі была сябрам СБМ, а пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Нямеччыне. Паступіла ў Лювэнскі ўнівэрсытэт (Бэльгія), які скончыла з дыплёмам фармацэўта. Была сябрам Беларускага студэнцкага згуртаваньня, Саюзу беларусаў Бэльгіі. Ад 2002 г. дапамагала Беларускай грэка-каталіцкай парафіі ў Антвэрпэне. Пахаваная на мясцовых могілках Гевэру (каля Лювэну).

**СТАГАНОВІЧ Аляксандар** (25.01.1890, в. Нясутычы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.12.1988, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, муж *М. Стагановіч*, бацька *Л. Стагановіча* й *Т. Кольбы*. У часе Першай сусьветнай вайны знаходзіўся ў складзе Расійскага экспэдыцыйнага корпусу ў Францыі. У 1920 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. У 1925 г. уступіў у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду. У 1928 г. вылучаны дэпутатам ад Наваградзкай акругі ў польскі сойм па сьпісе „Змаганьня“, але за два дні да выбараў арыштаваны й зьняволены. Пасьля асабістага заступніцтва маршалка сойму вызвалены. У канцы 1928 г. адмовіўся ад дэпутацкага мандату ў знак пратэсту супраць супрацоўніцтва з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі. Праз некаторы час быў арыштаваны (паколькі пазбавіўся дэпутацкай недатыкальнасьці) і асуджаны на шэсьць гадоў турмы. Падчас нямецкай акупацыі — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы на Наваградзкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з ініцыятараў аднаў-

леньня Рады БНР, браў удзел у зьедзе ў Остэргофэне, дзе было заяўлена пра аднаўленьне дзейнасьці Рады. Пры канцы 1940-х гг. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў і Япархіяльнай рады БАПЦ. Ад 1957 г. — намесьнік Прэзыдэнта Рады БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ. Пакінуў падрабязныя ўспаміны, выдадзеныя ў Менску асобнай кнігай (2011).

**СТАГАНОВІЧ Леў** (01.07.1926, в. Нясутычы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 14.06.2008, ЗША), грамадзкі дзеяч, сын *А. і М. Стагановічаў*. Падчас Другой сусьветнай вайны быў сябрам СБМ, вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі. Ад 1944 г. разам з бацькамі — на эміграцыі. Скончыў два курсы мэдычнага факультэту Марбурскага ўнівэрсытэту. У 1950 г. выехаў у ЗША. Працаваў красьляром у фірме. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім праваслаўным жыцьці ў Амэрыцы. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СТАГАНОВІЧ Марыя** (13.11.1898, ф. Косава (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.07.1995, Нью-Брансьвік, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *А. Стагановіча*, маці *Л. Стагановіча* й *Т. Кольбы*. Каля 1912 г. вучылася на прафэсійных курсах у Менску. У 1922 г. пабралася шлюбам з *А. Стагановічам*. У 1944 г. разам з мужам і чатырма дзецьмі выехала зь Беларусі ў Нямеччыну. У 1950 г. прыбыла ў ЗША. Жыла ў Нью-Брансьвіку, брала ўдзел у беларускім жыцьці. Напісала ўспаміны, што пад назвай „Мае ўспаміны“ пабачылі сьвет у Менску ў 2012 г. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СТАГАНОВІЧ Тамара** гл. **КОЛЬБА Тамара**

**СТАЛЬМАШОК (СТАЛЬМАШЫК) Мікола** (04.03.1913, в. Краснае Сяло (сёньня пас. Красносельск у Ваўкавыскім р-не Гарадзенскай вобл.) — 17.10.1978, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1930-х працаваў кавалём у роднай вёсцы. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк. Вярнуўся на радзіму, быў арыштаваны Саветамі й высланы ў Мурманскую вобласьць. Ад 1942 г. служыў у Арміі Андэрса. Ваяваў на Блізкім Усходзе, у Паўночнай Афрыцы, Італіі. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У 1945 г. выехаў у Вялікабрытанію, а пры канцы 1940-х перабраўся ў Канаду. Жыў у Таронта. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады, парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага.

**СТАНКЕВІЧ Вячка** (нар. 15.09.1932, Вільня), грамадзкі дзеяч, сын *Я.* і *М. Станкевічаў*. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Спачатку пасяліўся ў

Кліўлэндзе. У 1951—1954 гг. служыў у амэрыканскім войску. Па вяртаньні жыў у Нью-Ёрку. У 1959 г. скончыў Нью-Ёрскі гарадзкі каледж з дыплёмам інжынэра. У 1968 у Ньюарскім інжынэрным коледжы (Нью-Джэрзі) атрымаў ступень магістра ў галіне электроннай інжынэрыі. Спартовец-футбаліст, гуляў за дзьве каманды — кліўлэндзкую „Пагоню“ й нью-ёрскую „Беларусь“. Быў актыўным сябрам Задзіночаньня беларуска-амэрыканскай моладзі, быў старшынём яго Нью-Ёрскага аддзелу. У канцы 1960-х гг. выкладаў геаграфію Беларусі ў беларускай школе ў Нью-Ёрку. Працаваў інжынэрам у карпарацыях *ITT* і *WesternUnion*. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва арганізацыі й яе Нью-Ёрскага аддзелу, уваходзіў у рэдкалегію газэты „Беларус“. У 1988—1998 гг. быў кіраўніком Беларускай службы радыё „Свабода“ ў Празе. Пасьля вярнуўся ў ЗША. Рады БНР.

**СТАНКЕВІЧ Зінаіда** (дзяв. **Сініцына**, 02.12.1909, Магілёў — 13.11.1988, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, пэдагог, жонка *С. Станкевіча,* маці *Р. Станкевіч*. Паходзіла зь сям’і царскага афіцэра. У 1918 г. сям’я пераехала ў Нясьвіж. У 1930 г. скончыла нясьвіскую польскую гімназію, а ў 1935 г. — матэматычна-прыродазнаўчы факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, атрымаўшы ступень магістра ў галіне батанікі. Настаўнічала ў Нясьвіжы, Шчучыне, Наваградку. У 1939 г. пабралася шлюбам з *С. Станкевічам*. У часе нямецкай акупацыі працавала ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Ад 1944 г.— на эміграцыі. У Нямеччыне працавала настаўніцай ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Супрацоўнічала ў газэце „Бацькаўшчына“, была рэдактарам дзіцячага дадатку „Каласкі“. У 1958 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Рэдагавала „Жаночую старонку“ ў газэце „Беларус“, выкладала ў беларускай школцы ў Нью-Ёрку. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіла ў кіраўніцтва Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі, кіравала Жаночай сэкцыяй. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СТАНКЕВІЧ Кастусь** (1925, м. Турэц (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 27.11.1989, Адэляйда, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям’і. Падчас нямецкай акупацыі вывезены на працы ў Нямеччыну, адкуль у 1949 г. эміграваў у Аўстралію. У Адэляйдзе вучыўся ў школе радыё- й тэлемэханікі, і, атрымаўшы дыплём, працаваў у фірме Філіпс, а потым арганізаваў уласны бізнэс. Адразу далучыўся да беларускай грамады, якая ў Адэляйдзе толькі арганізоўвалася. Актыўна дапамагаў у пабудове беларускай царквы й ад 1966 г. займаў розныя пасады ў парафіяльнай радзе, а ў 1974—1988 гг. быў яе стар-

шынём. Быў ініцыятарам пабудовы прыцаркоўнай залі, што ператварылася ў цэнтар беларускіх мерапрыемстваў. Добры мастак — стварыў партрэты Я. Купалы й Я. Коласа для беларускай залі. У 1984 г. (на працягу году) — старшыня Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Ад жніўня 1989 г. (апошнія месяцы жыцьця) выконваў абавязкі сакратара Беларускага аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі.

**СТАНКЕВІЧ Марыя** (дзяв. **Новак**; 20.10.1900, в. Чэскі Брод, Аўстра-Вугоршчына (сёньня Чэхія) — 05.05.1983, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Я. Станкевіча*, маці *В.* і *Ю. Станкевічаў*. У 1922 г. скончыла *Vassar College* ў Нью-Ёрку, потым — Карлаў унівэрсытэт у Празе. У 1926 г. разам з мужам пераехала ў Вільню. У 1941—1945 гг. разам з сынамі жыла ў Празе, пазьней у лягерах *DP* у Нямеччыне. Брала ўдзел працы розных беларускіх арганізацый, выкладала ў беларускай гімназіі імя Я. Купады. У 1949 г. пераехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, некаторы час была кіраўніцай жаночай сэкцыі Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СТАНКЕВІЧ Раіса** (нар. 23.11.1941, Наваградак (сёньня Гарадзенская вобл.)), грамадзкая дзяячка, дачка *С.* і *З. Станкевічаў*. Выехала зь Беларусі разам з бацькамі ў 1944 г. Жыла ў Мюнхене, дзе вучылася ў нямецкай школе. У 1958 г. пераехала ў ЗША. Была выхавальніцай у беларускім дзіцячым садку. У 1973 г. скончыла Ўнівэрсытэт Сьв. Яна ў Нью-Ёрку са ступеньню магістра біяхіміі. Шмат гадоў працавала ў дасьледнай лябараторыі Слоўн-Катэрынскага цэнтру вывучэньня раку ў Нью-Ёрку. Ад 1970 г. належала да Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіла ў Галоўную ўправу ды кіраўніцтва Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі, у рэдкалегію газэты „Беларус“. Была старшынёй Задзіночаньня беларуска-амэрыканскай моладзі, старшынёй рэдкалегіі часопіса „Беларуская моладзь“. Радная БНР. У 1987 г. скончыла факультэт русістыкі Гантэрскага каледжу Гарадзкога ўнівэрсытэту Нью-Ёрку, абараніўшы магістарскую працу на тэму, прысьвечаную гісторыі Беларусі пач. XX ст. Сябра Адміністрацыйнага камітэту Фундацыі імя *І. Любачкі*. Жыве ў Нью-Ёрку.

**СТАНКЕВІЧ Станіслаў** (23.02.1907, в. Арляняты, Ашмянскі пав. Віленскай губ. (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл. — 06.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец, муж *З. Станкевіч*, бацька *Р. Станкевіч*. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. скончыў гуманістычны

факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1936 г. абараніў доктарскую дысэртацыю „Беларускія элемэнты ў польскай рамантычнай паэзіі“. Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюзу, рэдагаваў часопіс „Студэнцкая думка“. У 1937—1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі й Баўгарыі. У 1939—1941 гг. — выкладчык у Навагрдзкай пэдагагічнай вучэльні. У 1941—1943 гг. быў бургамістрам Барысава, у 1944 г. — намесьнікам Прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 гг. у Нямеччыне рэдагаваў бэрлінскую газэту „Раніца“. Быў актыўным прыхільнікам аднаўленьня Рады БНР. Ад 1947 г. — радны БНР. У 1948—1962 гг. — рэдактар газэты „Бацькаўшчына“ (Мюнхен). Заснавальнік філіі БІНіМу ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене. У 1963 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у тым ліку ў 1963—1965 гг. — старшынём арганізацыі. Супрацоўнік Радыё „Свабода“. У 1963—1980 гг. рэдагаваў газэту „Беларус“ (Нью-Ёрк). Аўтар шэрагу навуковых літаратуразнаўчых прац, сотняў публікацый. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СТАНКЕВІЧ Юры** (18.03.1928, Вільня — 07.08.2014, Прага, Чэхія), грамадзкі дзеяч, сын *Я.* і *М. Станкевічаў*, брат *В. Станкевіча*. Пасьля Другой сусьветнай вайны вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. У 1949 г. выехаў у ЗША. Паводле адукацыі інжынэр-электрык. Быў актывістам шэрагу беларускіх моладзевых арганізацыяў, сябрам рэдкалегіі часопіса„Беларуская моладзь“. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Аўтар падручніка „Кароткі агляд гісторыі Беларусі“ (вытрымаў некалькі перавыданьняў), выдавец беларускіх кніг і пэрыёдыкаў, у тым ліку часопіса *„Belarusian Review“*. Ад 1999 г. жыў у Празе (Чэхія).

**СТАНКЕВІЧ Янка** (26.11.1891, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ. (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 16.07.1976, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, мовазнавец, журналіст, муж *М. Станкевіч*, бацька *В.* і *Ю. Станкевічаў*, стрыечны дзядзька *С. Станкевіча*. Вучыўся ў Віленскай духоўнай сэмінарыі, але быў выключаны за беларускія погляды. У пачатку 1914 г. працаваў у „Нашай ніве“, але з пачаткам Першай сусьветнай вайны быў мабілізаваны ў царскае войска. У 1917 г. апынуўся ў аўстрыйскім палоне. У 1918—1920 гг. — сябра Рады БНР. У 1926 г. скончыў Праскі Карлаў унівэрсытэт са ступеньню доктара славянскага мовазнаўства й гісторыі. Выкла-

даў беларускую мову ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Вільні й Варшавы. У 1928—1930 гг. — пасол польскага сойму. Выдаваў часопіс „Родная мова“ (1930—1931). У жніўні 1939 г. пасаджаны польскімі ўладамі ў турму. Пазьней, ратуючыся ад бальшавікоў, выехаў у Летуву, а далей — у Нямеччыну. Падчас нямецкай акупацыі вярнуўся ў Беларусь. Уваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, займаўся адукацыйнымі праектамі (школьніцтва, выдавецтва). У 1944 г. перабраўся да сям'і ў Прагу. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў у беларускіх лягерах *DP*, выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Стварыў Крывіцкае навуковае таварыства імя Праньціша Скарыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, пазьней у Нью-Джэрзі. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Выдаваў часопіс „Веда“. Уваходзіў у першы склад рэдкалегіі газэты „Беларус“, друкаваўся ў газэце „Бацькаўшчына“. Уваходзіў у склад Рады БНР, адкуль быў выключаны ў 1954 г. Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных прац, дзясяткаў артыкулаў, першага поўнага перакладу Бібліі (супольна з *М. Гітлінам*). Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэньня СССР у Мюнхене, пры якім быў выдадзены шэраг ягоных прац. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СТАР (СТАРАВОЙТАЎ) Карп** (25.05.1913 — 05.10.2006, ЗША), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар. Нарадзіўся ў беларускай сям'і. Бацька быў чыноўнікам у царскім войску, а маці — настаўніцай. Бацьку расстралялі ў 1930-х, а маці памерла праз некалькі гадоў пасьля сьмерці мужа. Пасьля вучобы працаваў дарожным майстрам на чыгунцы. Падчас акупацыі разам з жонкай і чатырма дочкамі быў эвакуяваны ў Нямеччыну. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Спачатку жыў у штаце Агаё, потым пераехаў у Нью-Джэрзі. У 1969 г. быў рукапакладзены ў дыякана, а праз некаторы час — у сьвятар. Служыў спачатку ў Гайлэнд-Парку, даўжэйшы час — у Бруклінскім катэдральным саборы БАПЦ, а затым — у Дораці.

**СТАСЕВІЧ Кастусь** (02.11.1923, в. Аўдзевічы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пазьней выехаў у ЗША.

**СТАСЕВІЧ Янка** (15.06.1913, в. Ляхава (сёньня Слуцкі р-н Менскай вобл.) —?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Дройтвічы. Ад 19.02.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**СТОМА Васіль** (04.03.1911, м. Лужкі Дзісенскага пав. (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 31.05.1992, Нью-Джэрзі, ЗША),

грамадзкі дзеяч, літаратар. Вучыўся ў школе ў Лужках. У часе нямецкай акупацыі працаваў у раённай адміністрацыі ў Дзісьне. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, адзін з заснавальнікаў Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі, быў сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус“. Выкладаў у беларускай суботняй школе ў Нью-Джэрзі, выступаў ініцыятарам школьных тэатральных пастановак. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ. Аўтар кнігі ўспамінаў „Маё мястэчка“, выдадзенай асобнай кнігай у Менску (2014).

**СТРАМКОЎСКІ Аўген** (20.01.1926, Гарадок (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 30.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СТРАПКО Лявон** (нар. 12.02.1926, в. Белін (сёньня Драгічынскі р-н Берасьцейскай вобл.)), грамадзкі дзеяч. У 1940 г. разам з бацькоўскай сям'ёй быў вывезены ў Архангельскую вобл. (Расея). Пазьней сьледам за братам, які пайшоў служыць у Армію Андэрса, з іншымі сваякамі апынуўся ў Іране, адкуль быў накіраваны ў лягер для цывільных сваякоў польскіх жаўнераў у Афрыцы. У 1944 г. быў прызваны ў Трэці польскі корпус, разам зь якім служыў у Палестыне й Эгіпце. У 1947 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.10.1954 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пазьней выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку.

**СТРАПКО Міхась** (29.10.1918, Варшава — 25.04.2011, ЗША), рэлігійны дзеяч. Бацькі паходзілі з Драгічыншчыны, бацька служыў паручнікам у царскім войску. У 1922 г. сям'я вярнулася на радзіму бацькоў, а пасьля перабралася на Пружаншчыну. Скончыў шэсьць клясаў у Пружане. У 1940 г. быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Трапіў у нямецкі палон і ўтрымліваўся ў Фінляндыі й Нарвэгіі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, жыў у беларускім лягеры *DP* у Остргофэне. Пазьней выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў актыўным удзельнікам жыцьця БАПЦ, адным з будаўнікоў „старой“ царквы ў Кліўлэндзе. У 1967 г. быў высьвечаны на сьвятара. У 1982—1999 гг. быў настаяцелем царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлэндзе. Актывіст Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі.

**СТРЭЛЬЧЫК Міхась** (03.02.1924, в. Грыцавічы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 25.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СТРЭЧАНЬ Андрэй** (09.07.1916, в. Чарабасава (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 02.10.1999, Кліўлэнд, ЗША), грамадзкі дзе-

яч, муж *В. Стрэчань*. Вучыўся ў роднай вёсцы. У міжваенны час служыў у польскім войску, за што з прыходам Саветаў у Заходнюю Беларусь перасьледаваўся й, каб уратавацца ад вывазу, мусіў перасяліцца з жонкаю ў м. Лахва. Ад 1944 г. зь сям'ёй жыў у Нямеччыне, працавалі каля Ляйпцыгу. У 1947—1948 гг. працаваў у вугальных капальнях Бэльгіі, непадалёк ад Льежу; тады ж улучыўся ў беларускае нацыянальнае жыцьцё. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Пасяліўся з Кліўлэндзе. Актыўны будаўнік першай кліўлэндзкай царквы БАПЦ і Беларускага грамадзкага цэнтру „Полацак“. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Шматгадовы прадстаўнік газэты „Беларус“ у Кліўлэндзе.

**СТРЭЧАНЬ Вольга** (дзяв. **Кот**, 18.02. 1922, в. Чарабасава (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкая дзяячка, жонка *А. Стрэчаня*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў ЗША. Пасялілася ў Кліўлэндзе. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Брала актыўны ўдзел у працы Жаночага згуртаваньня, царкоўным жыцьці.

**СТЭПАНОВІЧ Віталі** (17.07.1918, в. Лань (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 16.10.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СТЭПАНОВІЧ Міхась** (23.10.1922, в. Габрыны (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СУБАЧ Тамара** (дзяв. **Карп**, у першым шлюбе **Басарыновіч**; нар. 1943, Карэлічы (сёньня Гарадзенская вобл.)), грамадзкая дзяячка. Хутка па нараджэньні разам з бацькамі апынулася ў Нямеччыне, адкуль у 1949 г. прыехала ў Аўстралію. Вучылася ў аўстралійскай школе ў Мэльбурне. Працавала як адміністратар-мэнэджар. Разам з бацькамі ўдзельнічала ў жыцьці беларускай грамады, асабліва прыходу БАПЦ у Мэльбурне. Ад самага стварэньня ўдзельнічала ў беларускай танцавальнай групе. Пры канцы 1970-х гг. рэарганізавала групу пад назвай „Каліна“ й стала нязьменным яе кіраўніком. Актыўная працаўніца Сястрыцтва парафіі Трох віленскіх пакутнікаў у Мэльбурне.

**СУМІЧ Анатоль** (12.08.1923, Глыбокае (сёньня Віцебская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Ад 30.05.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СУПРУН Тамаш** (20.06.1923 — 23.05.1996, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў радным БНР. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СУПРУНЧЫК Марыя** (дзяв. **Сакава**, нар. 1931 (?), Старыя Дарогі (сёньня Менская вобл.)), грамадзкая дзяячка. Вучылася ў пачатковай школе пры Саветах. У часе Другой сусьветнай вайны апынулася разам з бацькамі ў лягерах *DP* у Нямеччыны. У 1950 г. разам зь сям'ёй пераехала ў Аўстралію. Спачатку жылі ў Заходняй Аўстраліі, потым перабраліся ў Сыднэй. Празь некаторы час спрабавалі пераехаць да бацькоў у ЗША, але хутка вярнуліся назад і настала пасяліліся ў Сыднэі. Працавала на фабрыцы. Далучылася да беларускай грамады. Была сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу й актыўнай удзельніцай Жаночага камітэту. Дапамагала ў арганізацыі нацыянальных мерапрыемстваў.

**СУРАВЫ Барыс** (15.09.1907, Стаўпеччына — сьнежань 1998, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскі ўнівэрсытэт. Падчас нямецкай акупацыі працаваў школьным інспэктарам, быў кіраўніком СБМ на Слонімскую акругу. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, адкуль перабраўся ў Вялікабрытанію, жыў у Лёндане. Ад 01.09.1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але за падтрымку апазыцыі пазбаўлены сяброўства. 15.03.1948 увайшоў у Часовую ўправу Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў (віцэ-старшыня), а таксама ў рэдакцыю часопіса „Аб'еднаньне" (пісаў пад псэўданімам **Старшы Праваднік**). У сьнежні 1948 г. быў абраны старшынём Галоўнай управы ХАБР. На гэтую пасаду абіраўся некалькі разоў (быў старшынём у 1948—1950 гг. і 1954—1966 гг., да зьнікненьня арганізацыі). У 1948—1953 гг. быў кіраўніком Прадстаўніцтва БЦР у Вялікабрытаніі. У 1960—1980-я гг. удзельнічаў у жыцьці лёнданскай парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пры канцы жыцьця быў паралізаваны. Памёр у Лёндане.

**СУРВІЛА Івонка** (дзяв. **Шыманец**, 11.04.1936, Стоўпцы (сёньня Менская вобл.)), грамадзкая дзяячка, мастачка, дачка *Ў. Шыманца*, жонка *Я. Сурвілы*. Вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе ў Парыжы. У 1959 г. скончыла філялягічны факультэт Сарбоны. У 1959—1969 гг. разам з мужам жыла ў Мадрыдзе. Выкладала францускую мову ў Францускім інстытуце ў Мадрыдзе, дапамагала рыхтаваць беларускія перадачы на Нацыянальным гішпанскім радыё. У 1969 г. пераехала ў Канаду. Працавала перакладчыцай у Фэдэральным бюро перакладаў краі-

ны. Узначальвала БІНіМ у Канадзе, управу Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады. Канадзкі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю. Ад 1997 г. — старшыня Рады БНР.

**СУРВІЛА Янка** (20.06.1925, в. Бялевічы (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 03.06.1997, Атава, Канада), грамадзкі дзеяч, муж *І. Сурвілы*. У 1943—1944 гг. працаваў у Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне. У паваеннай Нямеччыне жыў у лягеры *DP* у Ватэнштэце, выдаваў і рэдагаваў часопіс „Шляхам жыцьця“. У 1951 г. пераехаў у Гішпанію, дзе скончыў факультэт палітычных і эканамічных навук Мадрыдзкага ўнівэрсытэту. У 1952 г. заснаваў беларускую рэдакцыю Нацыянальнага гішпанскага радыё, сталыя перадачы на якой вёў ад 1958 да 1965 гг. У 1969 г. разам з жонкай выехаў у Канаду, працаваў у Міністэрстве занятасьці й эміграцыі. Быў прадстаўніком ад беларусаў у Канадзкай радзе паняволеных эўрапейскіх народаў, быў старшынём атаўскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў Канады. Пахаваны ў Олд Чэлсі на могілках касьцёла Сьв. Стэфана.

**СУХІ Ўладыслаў** (05.10.1918, в. Вяжэні (?) — 26.05.1986, Брадфард, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Спаса. Пахаваны ў Брадфардзе на *Schoolmoor Cemetery*.

**СЫРЫШКА Альжбэта** (12.09.1904, в. Старыя Пескі (сёньня Бярозаўскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 30.06.1992, Нотынгем, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была прыхаджанкай царквы Сьв. Мікалая. Пахаваная на *Wilford Hill Cemetery*.

**СЫРЫШКА Антаніна** (15.03.1885, Косава (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 28.02.1966, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Жыла ў Нотынгеме, парафіянка прыходу Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Carlton Cemetery*.

**СЫРЫШКА Рыгор** (24.09.1902, в. Старыя Пескі (сёньня Бярозаўскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 20.08.1975, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**СЫЧ Пётра** (18.01.1912, в. Батурына Вялейскага пав. (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 20.06.1964, Мюнхен, Нямеччына), пісьменьнік, журналіст, грамадзкі дзеяч. У 1929 г. скончыў гімназію ў Вялейцы, два гады правучыўся на філялягічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту й вымушаны быў кінуць навучаньне, уладкаваўся на

працу чыноўнікам. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі польскіх газэтаў у Вільні. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон. Уцёк, але зноў быў арыштаваны. У чэрвені 1940 г. быў пераведзены зь вялейскай у полацкую турму, асуджаны на 10 гадоў лягераў. Пакараньне адбываў у Комі АССР. Далучыўся да Арміі Андэрса, разам зь якой прайшоў праз Іран, Ірак, Сырыю, Палестыну, Эгіпет. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна, баях за Анкону й Балёнію. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 05.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў актыўным аўтарам і супрацоўнікам часопіса „Беларус на чужыне“. Ад 1949 г. таксама сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1951 г. пераехаў у Заходнюю Нямеччыну. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопіса „Шарсьцень“, супрацоўнічаў з газэтай „Бацькаўшчына“. Ад 1954 г. быў намесьнікам галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“. Пахаваны ў Мюнхене.

**СЬВІРЫД Павал** (1886 — 01.11.1948, Равенсбург, Нямеччына), адвакат, грамадзкі дзеяч. Зь сялянскай беднай сям'і. Скончыў Пецярбурскі ўнівэрсытэт (юрыст). Удзельнік Першай сусьветнай вайны (афіцэр). У 1920—1930-х гг.— адвакат у Наваградку. У ліпені 1941 г. стварыў і ўзначаліў Беларускі камітэт у Наваградку. Потым — галоўны судзьдзя на Заходнюю Беларусь. У 1943 — пач. 1944 гг. — судзьдзя Акруговага суду ў Баранавічах. Браў удзел у правядзеньні Ўсебеларускага Праваслаўнага Сабору ў 1942 г., быў прыхільнікам аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў Беларусі. У 1944 г. — радны Беларускай Цэнтральнай Рады. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у Равенсбургу (Заходняя Нямеччына).

**СЬЛЕСАРЭВІЧ Вольга** (дзяв. **Цьвірко**, 11.04.1922, в. Рудня (сёньня Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.) — 1990, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *Я. Сьлесарэвіча*. Нарадзілася ў сялянскай сям'і. На пачатку 1940-х гг. пабралася шлюбам зь *Я. Сьлесарэвічам*. У 1943 г. разам зь сям'ёй была вывезена ў Нямеччыну на працы. У 1949 г. выехала ў Аўстралію. Пасяліліся ў Мэльбурне, дзе адразу далучылася да жыцьця беларускай грамады. Удзельнічала ў працы Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Ініцыятарка й доўгагадовая старшыня Беларускага жаночага камітэту ў Вікторыі.

**СЬЛЕСАРЭВІЧ Язэп** (15.05.1913 — ?, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *В. Сьлесарэвіч*. У 1949 г. разам зь сям'ёй прыехаў у Аўстралію. Ад пачатку 1950-х гг. актыўна ўдзельнічаў у грамадзкім жыцьці беларусаў Мэльбурну. Сябра аддзелу Беларускага аб'еднаньня ў Вікторыі. У 1960-х гг. актыўны ўдзельнік стварэньня парафіі Сьв. Эў-

фрасіньні Полацкай у юрысдыкцыі канстантынопальскага партрыярха, ініцыяванага арх. *М. Яцкевічам*. Сябра Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі, актыўна спрыяў набыцьцю й рамонту Беларускага дому. У1970-х гг. спрабаваў арганізаваць беларускую моладзь Мэльбурну. Тады ж браў удзел у аднаўленьні дзейнасьці беларускай школы ў Мэльбурне, а таксама ў Сустрэчах беларусаў Аўстраліі.

**СЬПІЧОНАК Вінцэнт (Віктар)** (26.06.1915, в. Лаці Дзісенскага пав. Віленскае губ. (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 06.06.1981, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай пачатковай школе ў Докшыцах, Дзісенскай гімназіі, Віленскай тэхнічнай школе. Быў мабілізаваны ў 85-ы пяхотны полк польскага войска. У верасьні 1939 г. быў арыштаваны як польскі жаўнер, але неўзабаве адпушчаны, вярнуўся дамоў. Настаўнічаў у пачатковай школе ў в. Селішча й в. Гнязьдзілава-2. Пазьней атрымаў пасаду каморніка ў Дзісьне. У часе нямецкай акупацыі служыў сакратаром Параф'янаўскай гміны. Быў дэлегатам на Другі Ўсебеларускі кангрэс, але праз ваенныя дзеяньні на Кангрэс ня трапіў. Ад лета 1944 г. на эміграцыі, спачатку ва Ўсходняй Прусіі, пазьней у Бэрліне й Баварыі. У складзе беларускіх вайсковых фармаваньняў здаўся амэрыканцам. Пасьля вайны быў у ахове нямецкіх палонных. Пазьней выехаў у Парыж, далей — у Манрэалі (Канада). У 1959 г. прыбыў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Пахаваны ў Кліўлэндзе на *Riverside Cemetery*.

**СЬЦЕПАНОВІЧ Міхась** (23.10.1922, в. Габрыны (?) Нясьвіскага пав. Наваградзкага ваяв. — ?), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі служыў у паліцыі. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СЬЦЯПАН** (сьвецк. **Сямён Сеўба**, 1872, в. Цялуша (сёньня Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл.) — 25.01.1965, Зальцбург, Аўстрыя), рэлігійны дзеяч, праваслаўны ярарх. Скончыў Менскую духоўную сэмінарыю. У 1896 г. рукапакладзены ў сьвятары, служыў у Менскай япархіі. Пасьля падзелу Беларусі ў 1921 г. застаўся на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Быў зацятым праціўнікам аўтакефаліі ПАПЦ, за што падвяргаўся перасьледу, неаднаразова ўтрымліваўся ў турмах. У 1942 г. пастрыжаны ў манаства, пазьней узьведзены ў сан япіскапа Бранскага й Смаленскага. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Перайшоў у Расейскую права-

слаўную царкву за мяжой. Быў вызначаны япіскапам Венскім і Зальцбурскім. Памёр у Зальцбургу.

**СЬЦЯПАНАЎ Мікола** (1896 — 1972, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, доктар-оталярынголяг. Быў рэпрэсаваны. У 1943—1944 гг. — рэктар Магілёўскага мэдычнага інстытуту. Ад лета 1944 г.— на эміграцыі. Стаў сьвятаром пасьля асабістай трагедыі — сьмерці сына. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР (травень 1948), дзе быў прызначаны міністрам культуры й асьветы. Выехаў у ЗША. Працаваў у шпіталі на Лонг-Айлэндзе, чытаў лекцыі па Старым Запавеце ў духоўнай сэмінарыі РПЦЗ у Джорданвілі. Быў сьвятаром царквы Сьв. Мікалая ў Спрынгфілдзе (Масачусэтс), арганізаваў праваслаўны прыход у Пасэйку (Нью-Джэрзі).

**СЭЛЯХ Вячаслаў** (на эміграцыі **Качанскі**, часам пісаўся **Сэлях-Качанскі**, 15.12.1885, Лагойск (сёньня Менская вобл.) — 08.08.1976, Саўт-Рывэр, ЗША), опэрны сьпявак, тэатральны й грамадзкі дзеяч. Скончыў Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю. Вучыўся ў Пецярбурскай кансэрваторыі, сьпяваў у Марыінскім тэатры. У 1925 г. пераехаў у Менск, дзе працаваў выкладчыкам у музычным тэхнікуме й кіраваў музычнай сэкцыяй пры Інстытуце беларускай культуры. Паставіў першую опэру па-беларуску — „Русалка“. Ад 1927 г. быў дырэктарам БДТ-1 (сёньня Купалаўскі тэатр). У 1933 г. рэпрэсаваны. Па вызваленьні жыў у Ленінградзкай вобласьці. У 1943 г. вярнуўся ў Беларусь, працаваў кіраўніком аддзелу культуры й мастацтва пры Беларускай народнай самапомачы, потым узначальваў аддзел культуры ва Ўрадзе БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стварыў тэатральна-мастацкую групу „Жыве Беларусь“, зь якой гастраляваў па беларускіх асяродках. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**СЭРАФІНОВІЧ Сымон** (19.12.1910, Мір (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 1996?, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам паліцыі ў Міры. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, здаўся ў палон амэрыканцам і пайшоў добраахвотнікам ў Другі польскі корпус. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 19.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у склад першай Галоўнай управы. Падтрымаў апазыцыю ў ЗБВБ й быў пазбаўлены сяброўства. У красавіку 1948 г. увайшоў у Часовую ўправу Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў, а пры канцы 1948 г. заняў пасаду віцэ-старшыні арганізацыі.

Быў сябрам рэдакцыі часопіса „Аб'яднаньне". У 1952 г. прызначаны на пасаду прадстаўніка Штаба Беларускага вызвольнага руху ў Вялікабрытаніі (пазьней — начальнік Штабу БВР у Вялікабрытаніі). У 1954 г. стаў сябрам Беларускага вызвольнага фронту. У 1960—1980-х гг. быў парафіянінам лёнданскага прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. У 1990-х гг. супраць яго была распачатая крымінальная справа за ваенныя злачынствы. Аднак была спыненая з прычыны занадта сталага веку й хваробы абвінавачанага.

**СЯДНЁЎ Масей** (19.08.1913, в. Мокрае Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ. (сёньня Касьцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл.) — 05.02.2001, Глен-Коў, Нью-Джэрзі, ЗША), паэт, празаік. У 1933—1936 гг. вучыўся ў Менскім пэдагагічным інстытуце. Быў рэпрэсаваны й высланы на Калыму. У 1941 г. вернуты ў Беларусь на перагляд справы. З пачаткам вайны вярнуўся да бацькоў, працаваў на гаспадарцы. У 1943 г. разам з бацькамі выехаў на Захад. Жыў у Беластоку, працаваў карэктарам у „Новай дарозе", Беларускім камітэце. У 1950 г. выехаў у ЗША. Выкладаў рускую мову ва ўнівэрсытэце Індыяны. У1968—1983 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё „Свабода", быў яе кіраўніком. Аўтар кніг „На край сьвятла" (1947), „Спадзяваньні" (1947, 1948), „У акіяне ночы" (1947), „Цень Янкі Купалы" (1947), „Ля ціхай брамы" (1955), „Патушаныя зоры" (1975), „Раман Карзюк" (1985), „І той дзень надышоў" (1987), „А часу больш, чым вечнасьць" (1989). Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**СЯДУРА Ўладзімер** (псэўд. **Глыбінны,** 24.12.1910, Менск — 14.03.1995, Трой, Нью-Ёрк, ЗША), пісьменьнік, літаратуразнаўца, культуроляг. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднаньне „Маладняк". Ад 1931 г. сябра Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў (БелАПП), узначальваў яе моладзевае крыло (разам з Б. Мікулічам і С. Ліхадзіеўскім). Арыштаваны ў 1933 г. у Маскве, высланы на тры гады ў Сыбір, у 1935 г. датэрмінова вызвалены. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю „Максім Горкі як гісторык рускай літаратуры". У 1942—1944 гг. — галоўны рэдактар часопіса „Новы шлях" (Рыга). Друкаваўся ў „Беларускай газэце". Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Узначальваў катэдру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага палітэхнічнага інстытуту ў Троі (штат Нью-Ёрк). Аўтар кніг: „На берагох пад сонцам" (1964), „На Сьвятой зямлі" (1972), „Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу" (1979), „Пад лебядзіным знакам. Аповесьць пра Максіма

Багдановіча“ (1983), „Вялікія дарогі“ (1997). Пахаваны ў Джорданвілі (Нью-Ёрк) на могілках манастыру Сьв. Троіцы.

**СЯЛЯЎКА Дзьмітры** (25.05.1915, в. Пахомава Вялейскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пазьней выехаў у Канаду.

**СЯЛЯЎКА Яфім** (20.01.1920, в. Буйкі (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 27.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**СЯМЁНАВА Аляксандра (Шура)** (дзяв. **Заруцкая,** 03.10.1925, Стоўпцы (сёньня Менская вобл.) — 11.09.2011, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *Дз. Сямёнава*. У 1944 г. разам з бацькоўскай сям’ёй выехала зь Беларусі. Скончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе ў Заходняй Нямеччыне. Выйшла замуж за*Дз. Сямёнава*. У 1950-х выехала ў ЗША. Да выхаду на пэнсію працавала ў біялягічнай лябараторыі Ратгерскага ўнівэрсытэту недалёка ад месца жыхарства ў г. Эдысан каля Нью-Брансьвіку. Была актыўнай прыхаджанкай царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку. Удзельнічала ў беларускім культурным жыцьці, этнічным руху штату Нью-Джэрзі, беларускіх мастацкіх выставах і паказах народнага адзеньня. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СЯМЁНАЎ Дзьмітры** (11.06.1926, Менск — 29.09.1982, ЗША), грамадзкі дзеяч, муж *А. Сямёнавай*. У часе нямецкай акупацыі вучыўся ў Менскай фэльчарскай школе й працаваў у Краязнаўчым музэі пад кіраўніцтвам *А. Шукелойця*. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Жыў у беларускіх лягерах *DP*, удзельнічаў у беларускім скаўтынгу, дапамагаў *А. Адамовічу* ў выданьні „Ведамак“. На пачатку 1950-х прыбыў у ЗША. Вывучаў паліталёгію ў Ратгерскім унівэрсытэце. Працаваў хімікам. Аўтар „Дзёньніка“, які вёў у 1943—1947 гг. (выдадзены ў Менску ў 2012 г.). Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**СЯНКЕВІЧ Аляксей** (15.11.1904, Новы Свержань Менскага пав. (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 12.12.1991, Саўт-Рывэр, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1930-х гг. быў адным са стваральнікаў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі, якая дзейнічала ў Заходняй Бела-

русі. Напярэдадні Другой сусьветнай вайны быў вымушаны выехаць у Нямеччыну,кіраваў аддзелам Бэрлінскага беларускага камітэту ў Бялай-Падлясцы. У 1942—1943 гг. рэдагаваў менскую газэту „Голас вёскі". Ад вясны 1944 г. — афіцэр прапаганды БКА. Ад лета 1944 г. — на эмі–грацыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт–Рывэры, браў удзел у грамадзкім жыцці, быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады, актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**СЯНКЕВІЧ Віктар** (19.01.1926, в. Гірстуны (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч, гісторык, журналіст. У часе нямецкай акупацыі быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, пайшоў добраахвотнікам у Другі польскі корпус. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1947 г. быў абраны на пасаду сакратара Галоўнай управы арганізацыі. Жыў у Оксфардзе. У 1953 г. выехаў вучыцца ў Гішпанію. У 1958 г. скончыў філязофскі факультэт Мадрыдзкага ўнівэрсытэту, абараніў дысэртацыю „Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага". У 1958—1961 гг. працаваў у Беларускай сэкцыі Нацыянальнага гішпанскага радыё. Супрацоўнічаў зь Беларускай рэдакцыяй Радыё „Вызваленьне" й Радыё Ватыкана. Напісаў каля дзьвюх тысячаў гутарак-артыкулаў „Гаварыў Язэп Барэйка". Пісаў для беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў: „Зважай!", „Бацькаўшчына", „Беларус". Чытаў лекцыі ў Каталіцкім унівэрсітэце г. Памплона. Ад 1992 г. жыў у Сан-Францыска (ЗША). Зьнік бязь вестак.

**СЯНКЕВІЧ Генрык** (09.05.1923, Ляхавічы Баранавіцкага пав. (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч, брат *З. Сянкевіча*. У часе нямецкай акупацыі быў у Менскай афіцэрскай школе БКА, адкуль летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзьнікаў, служыў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Ковэнтры. Ад 12.10.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, на першым зьезьдзе быў абраны ў сябры Наглядной рады арганізацыі. Таксама ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Каля 1954 г. выехаў у ЗША. Жыў і памёр у Чыкага.

**СЯНКЕВІЧ Зыгмунт** (22.09.1925, Ляхавічы Баранавіцкага пав. (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 19.11.1992, Ковэнтры, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч, брат *Г. Сянкевіча*. На сканчэньні

Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Арміі Андэрса, разам зь якой у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Ковэнтры. Ад 24.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1955 г. выконваў абавязкі намесьніка старшыні Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'еднаньня „Рунь“.

**СЯНКЕВІЧ Янка** (28.11.1925, в. Станіславаў (?) на Стаўпеччыне — ?), грамадзкі дзеяч. Пры канцы Другой сусьветнай вайны апынуўся ў шэрагах Арміі Андэрса, разам зь якой у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 11.01.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**СЯНЬКОЎСКІ Юры** (06.05.1926, в. Залесьсе (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 13.02.1995, Мюнхен, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст. У часе акупацыі быў сябрам СБМ, потым служыў у батальёне „Дальвіц“. Па сканчэньні вайны апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. Актыўны ўдзельнік скаўтынгу, у 1949 г. прызначаны кіраўніком Беларускага скаўтынгу на чужыне. Сябра рэдкалегіі часопіса „Напагатове“. У 1950—1956 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце на эканамічным факультэце. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага згуртаваньня, удзельнік Беларускага хору, створанага *М. Равенскім*. Па сканчэньні ўнівэрсытэту пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“ / „Свабода“, а ад сярэдзіны 1980-х гг. быў яе кіраўніком.

**СЯЎКОВІЧ Янка** (01.04.1920, в. Хажоўшчына (?) Баранавіцкай акр. — 03.07.1992, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі, потым у БКА, разам з фармаваньнямі якой апынуўся ў 30-й грэнадэрскай дывізіі СС. Адтуль трапіў у Другі польскі корпус у Італіі, зь якім у 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ёркшыры. Ад 14.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, сакратаром Акруговага аддзелу ў Ёркшыры. Пры канцы 1948 г. увайшоў у Часовы Камітэт беларускага сяброўства і браў удзел у выданьні пэрыёдыка „Патрыёт“, праз што быў выключаны з ЗБВБ. Стаў сябрам Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Ёрксе (скарбнік). Аднак у 1951 г. афіцыйна выйшаў з арганізацыі й вярнуўся ў ЗБВБ. Таксама ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У пачатку 1950-х гг. перабраўся ў Лёндан. Стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцьця, пастаянным сябрам управы Лёнданскага аддзелу ЗБВБ, дзе займаў розныя пасады, у тым ліку у 1975—1990 гг. — старшыні аддзелу. Пахаваны ў Лёндане на *Gunnersbury Cemetery*.

**ТАМАШЧЫК Уладзімер** гл. **ВАСІЛЬ**

**ТАМАШЭЎСКАЯ Вольга** (01.01.1922, Мар'іна Горка (сёньня Менская вобл.) — ?, Аўстралія), грамадзкая дзяячка. Празь лягеры Нямеччыны ў 1950 г. апынулася ў Аўстраліі. Пасялілася ў Сыднэі. Далучылася да мясцовай беларускай грамады. Удзельніца Беларускага культурна-грамадзкага клюбу й доўгагадовая кіраўніца Жаночага камітэту. Актыўна дапамагала ў падрыхтоўцы нацыянальных мерапрыемстваў беларусаў Сыднэю.

**ТАМУШАНСКІ Робэрт** (03.07.1940, Нью-Ёрк, ЗША — 10.12.1996, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і нашчадкаў беларускіх эмігрантаў зь Беласточчыны. У 1958 г. па сканчэньні школы ўступіў у закон базыльянаў у Глен-Коў каля Нью-Ёрку. У 1960 г. паступіў ва ўнівэрсытэт у Атаве (Канада). З дапамогай *а. Ф. Чарняўскага* й біскупа *Ч. Сіповіча* паступіў у духоўную сэмінарыю ў Кенігштайне (Нямеччына). У кастрычніку 1965 г. атрымаў сьвячэньні дыякана, а 03.12.1966 — сьвятара. Пасьля гэтага перабраўся ў Лёндан, дзе займаўся пастырскай дзейнасьцю, а таксама дапамагаў у працы школы-інтэрнату Сьв. Кірылы Тураўскага й Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адначасова ў 1968—1971 гг. вучыўся ў Лёнданскім унівэрсытэце, дзе абараніў дысэртацыю на тэму „Нямецкія запазычаньні ў беларускай мове" й атрымаў ступень доктара філялёгіі. У 1971 г. выехаў у Рым для працы ў беларускай праграме Ватыканскага радыё, ад 1977 г. кіраваў гэтай праграмай. Адначасова вучыўся ў Папскім інстытуце арабскіх і мусульманскіх дасьледаваньняў і атрымаў дыплём у галіне сучаснай арабскай літаратурнай мовы. Пахаваны ў Рыме.

**ТАПОЛЯ Вольга** (сапр. **Зубко**, 1902 — ?), пісьменьніца. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў „Беларускай газэце", выдавецтве „Менск". Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў баварскім Лавінгене, пазьней у лягеры *DP* у Ватэнштэце. Друкавалася ў беларускіх эміграцыйных пэрыёдыках. Аўтар кніг: „Сьнягурка і мурка" (1946), „Маці" (1948). У 1948 г. вярнулася ў БССР. Друкавалася ў газэце „Голас радзімы".

**ТАРАНОВІЧ Вячаслаў** (1901 — 1995, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч. Пасьвечаны ў сьвятары ў 1929 г. Падчас нямецкай акупацыі знаходзіўся ў Беларусі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ладзіў багаслужэньні для праваслаўных вернікаў, у тым ліку й беларусаў Лёндану, Нотынгему ды іншых гарадоў. Ад 1973 г. стаў настаяцелем парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане. Афіцыйна лічыўся прыналежным і да юрысдыкцыі Беларускай праваслаўнай царквы ў Вялікабрытаніі, і да Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы за мяжой. Пахаваны каля Лёндану.

**ТАРАСЕВІЧ Сьцяпан** (25.12.1900, в. Слабада (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1917—1921 гг. служыў у расейскай арміі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 13.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ТАРАСКЕВІЧ Уладзімер** (23.05.1926 — ?), грамадзкі дзеяч. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў на ўласнае жаданьне.

**ТАТАРЫНОВІЧ Пётра** (02.06.1896, в. Гайнін Слуцкага пав. (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасцейскай вобл.) — 03.09.1978, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, пэдагог, перакладчык, публіцыст. У 1921 г. высьвечаны на сьвятара. Працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945—1949 г. вучыўся ў Рыме, абараніў доктарскую дысэртацыю, прысьвечаную Кірылу Тураўскаму. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс *„Źnič“*, які й рэдагаваў цягам 1950—1975 гг. Заснаваў беларускую рэдакцыю Радыё Ватыкану й быў галоўным яе супрацоўнікам.

**ТАЎПЕКА Максім** (02.02.1916 — 2005), грамадзкі дзеяч. Служыў у Другім польскім корпусе Арміі Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Канаду. У 1970-х гг. быў прызначаны настаяцелем парафіі Сьв. Духа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Дэтройце (ЗША). 25.04.1983 пакінуў парафію й пасяліўся на фарме Ўотэрфорд (Антарыё, Канада).

**ТВАРОЎСКІ Янка** (20.01.1914 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 14.04.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ТРОПЕЦ Кандрат** (05.05.1895, в. Струга (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 24.11.1968, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст, муж *М. Тропец*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нотынгеме. Быў прыхаджанінам царквы Сьв. Мікалая. Пахаваны ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ТРОПЕЦ Марыя** (06.07.1895, в. Струга (сёньня Столінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 30.03.1984, Нотынгем, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка, жонка *К. Тропца*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Нотынгеме. Была прыхаджанкаю царквы Сьв. Мікалая. Пахаваная ў Нотынгеме на *Wilford Hill Cemetery*.

**ТРУСАЎ Аўген** (на эмігр. **Трузо**, 16.12.1911, Фінляндыя — 20.01.1979, Моншана, Францыя), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў Фінляндыі, куды бацькі прыехалі перад Першай сусьветнай вайной, але ў

1920 г. сям’я вярнулася ў Беларусь. Быў вучнем Віленскай беларускай гімназіі, служыў у польскім войску, дзе атрымаў ступень афіцэра. У часе нямецкай акупацыі служыў у БКА, разам зь якой у 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. Пазьней пасяліўся ў Францыі, дзе працаваў на металюргічным заводзе ў Моншана. Быў стваральнікам аддзелу Аб’еднаньня беларускіх работнікаў Францыі ў Ля Крэзо.

**ТРУСЭВІЧ Лявон** (1924, в. Паланая Наваградзкага пав. (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 2000, Тампа, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч. За палякамі вучыўся ў роднай вёсцы, у Карэлічах, за Саветамі — у Наваградку. У 1942 г. скончыў настаўніцкія курсы, пасьля чаго ў якасьці настаўніка гісторыі й геаграфіі скіраваны на Лідчыну. З прычыны дзейнасьці Арміі Краёвай і савецкіх партызанаў мусіў вярнуцца ў Наваградак. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу й Міхельсдорфе. У 1946—1950 гг. вучыўся ва ўнівэрсытэце Філіпа ў Марбургу. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Рэдагаваў „Інфармацыйны бюлетэнь Беларускага студэнцкага таварыства ў ЗГА“. Старшыня Чыкагскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў у штаце Ілінойс. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Загінуў у часе пажару.

**ТРЫСМАКОЎ Парфіры** (17.11.1903, Гомельшчына — 08.01.1985, Адэляйда, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Працаваў выкладчыкам у Машынабудаўнічым інстытуце ў Гомелі, а потым — загадчыкам катэдры тэхнічнай матэматыкі Беларускага палітэхнічнага інстытуту ў Менску. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, зьяўляўся сябрам Беларускага навуковага таварыства. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. На працягу 1945—1949 гг. працаваў настаўнікам фізыкі й хіміі ў гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Эміграваў у Аўстралію, дзе ў Адэляйдзе далучыўся да беларускай грамады. Актыўны ўдзельнік жыцьця беларускай парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла, уваходзіў у царкоўную ўправу, быў дэлегатам на Епархіяльным зьезьдзе духавенства й вернікаў БАПЦ у Мэльбурне ў 1960 г. У 1974 г. — абраны дэлегатам на XIII Сэсію Рады БНР. Сябра Беларускага аб’еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі.

**ТУЛЕЙКА Міхась** (08.09.1915, Нясьвіж (сёньня Менская вобл.) — 06.03.1998, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1936 г. скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, адкуль адразу быў забраны ў польскае войска на падрыхтоўчыя афіцэрскія курсы. Працаваць настаўнікам пачаў у 1937 г. у Нясьвіжы, пазьней — у Снове. У 1939 г. быў зноў мабілізаваны, пад Варшавай паранены. Працаваў у Нясьвіжы — спа-

чатку настаўнікам, пасьля заступнікам дырэктара настаўніцкай сэмінарыі. Пазьней працаваў у Баранавіцкай настаўніцкай сэмінарыі. Кіраваў камітэтам Беларускай народнай самапомачы на Баранавіцкую акругу. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Бэрліне ў 1944 г. у рангу афіцэра быў далучаны да кадравага батальёну, што фармаваўся ў школе на *Lychenerstrasse*. У сфармаваны ў пачатку 1945 г. у Баварыі батальён, аднак, пасланы ня быў. Замест таго займаўся вярбоўкай добраахвотнікаў у беларускае войска. Студыяваў у Мюнхенскім унівэрсытэце *UNRRA* і Ўкраінскім вольным унівэрсытэце ў Рэгенсбургу. Заснавальнік Беларускага студэнцкага згуртаваньня. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў абраны першым старшынём Згуртаваньня беларуска-амэрыканскай моладзі. Уваходзіў у рэдакцыйную калегію часопіса „Віці“. Зарганізаваў першы беларускі скаўтынгавы атрад у Амэрыцы. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у тым ліку пэўны час кіраваў Нью-Ёрскім і Нью-Джэрзійскім аддзеламі арганізацыі. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пазьней, пераехаўшы ў Нью-Джэрзі, працягваў сваю грамадзка-рэлігійную дзейнасьць у Гайлэнд-Парку. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ТУМАШ Вітаўт** (20.12.1910, в. Сьпягліца, Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёньня в. Сьвяцілавічы Смаргонскі р-н Гарадзенская вобл.) — 27.04.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца), муж *К. Тумаш*. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1933—1938 гг. вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюзу й Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Па сканчэньні навучаньня працаваў у этнічнай Польшчы. Пасьля верасьня 1939 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве. У 1940—1941 гг. быў старшынём Беларускага камітэту ў Лодзі. З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўнікОм цывільнай адміністрацыі Менску. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, займаўся лекарствам, уваходзіў у рэдакцыі бэрлінскіх газэтаў „Раніца“ й „Беларускі работнік“, працаваў у бэрлінскім аддзеле Беларускай народнай самапомачы. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Меў лекарскую практыку, а ўвесь вольны час прысьвячаў грамадзкай і навуковай дзейнасьці. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, старшынём Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу й яго кіраўнік ў 1955—1982 гг. У 1979—1982 гг. быў старшынём Фундацыі імя

П. Крэчэўскага. Аўтар шэрагу навуковых прац, найперш скарыназнаўчай тэматыкі. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ТУМАШ Ксенія** (дзяв. **Грыгарчук**, 05.08.1913, в. Стойлы (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 25.09.1989, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *В. Тумаша*. Скончыла польскую гімназію імя А. Міцкевіча ў Пружане. Вучылася на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Належала да Беларускага студэнцкага саюзу. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны, у лягеры *DP* у Ватэнштэце. Самадзейная мастачка. У 1948 г. выехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывісткай Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. З прычыны цяжкое хваробы адышла ад грамадзкае дзейнасьці. Пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ТУР Васіль** (25.05.1920, в. Баранілавічы Ружанскага пав. (сёньня Пружанскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 07.04.1991, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1940 г. разам з бацькамі быў вывезены ў Казахстан. Уступіў у Армію Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 14.03.1948быў сябра Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі, ад 1949 г. — сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Памёр і пахаваны ў Лёндане на *St. Pancras Cemetery*.

**ТЭАДАРОВІЧ Надзея** (да эміграцыі **Абрамава**, красавік 1907 — 18.02.1979, Мюнхен, Нямеччына), грамадзкая дзяячка, лекар, навуковец-саветоляг. Вучылася на вечаровых курсах Менскага пэдагагічнага інстытуту, скончыла Беларускі мэдычны інстытут. У час нямецкай акупацыі працавала доктарам-псыхіятарам у псыхіятрычнай клініцы. Ад кастрычніка 1942 г. узначальвала дзіцячы сэктар Беларускай народнай самапомачы, а ад чэрвеня 1943 г. — службу юначак Саюзу беларускай моладзі. Была пастаянным супрацоўнікам рэдакцыі часопіса „Жыве Беларусь!“. Уваходзіла ў Беларускую Цэнтральную Раду. Брала ўдзел у Другім Усебеларускім кангрэсе. Ад 1944 г — на эміграцыі ў Нямеччыне. Працавала ў адноўленым Кіраўнічым штабе СБМ у г. Тропаў (сёньня Опава, Чэхія). Выдавала бюлетэнь „Вучэбны лісток“. 15.09.1944 была кааптаваная ў склад БЦР у Бэрліне. Пасьля вайны працавала ў Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене, займалася пытаньнямі рэлігіі й атэізму. Ад 1960-х гг. выдавала часопіс *„Религия и атеизм в СССР“*. Пахаваная ў Мюнхене.

**УРБАН Павал** (27.03.1924, в. Закаліўе (сёньня Лепельскі р-н Віцебскай вобл.) — 02.02.2011, Мюнхен, Нямеччына), гісторык, гра-

мадзкі дзеяч. У 1940 г. паступіў у школу фабрычна-завадзкога навучаньня ў Віцебску. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі ў Лепелі. У 1944 г. разам з аддзелам дапаможнай паліцыі пакінуў Беларусь, быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, знаходзіўся ў Францыі. Пазьней апынуўся ў Арміі Ўласава, па раззбраеньні якой трапіў у лягер *DP* у Інгальштаце. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1948 г. разам з сябрамі па „Дванаццатцы“ выехаў у Вялікабрытанію на працу ў вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Уваходзіў у Беларускае хрысьціянскае акадэмічнае аб'еднаньне „Жыцьцё“. У 1950 г. выехаў вучыцца ў Бэльгію. Вучыўся на гістарычным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. Быў сакратаром і скарбнікам беларускай студэнцкай арганізацыі ў Лювэне, а таксама сакратаром Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1954 г. абараніў дысэртацыю пра дзейнасьць вялікага князя літоўскага й польскага караля Аляксандра. Ад 1955 г. жыў у Мюнхене, працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР, пісаў матэрыялы для Радыё „Свабода“, быў сурэдактарам газэты „Бацькаўшчына“. Скарбнік і адміністратар выдавецтва „Бацькаўшчына“. У 1974—1989 гг. быў сталым супрацоўнікам беларускай рэдакцыі Радыё „Свабода“.

**ФІЛАФЕЙ** (сьвецк. **Уладзімер Нарко**, 21.02.1905, в. Занарач (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) або в. Ільля (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 24.09.1986, Гамбург, Нямеччына), рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і сьвятара. Скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю, тэалягічны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту, вучыўся ў грэцкай тэалягічнай школе ў Стамбуле (Турэччына). Атрымаў ступень магістра тэалёгіі. У 1934 г. пастрыгся ў манахі з імем Філафей. У 1941—1944 гг. жыў у Менску, выконваў абавязкі намесьніка мітрапаліта Панцеляймона. Неаднаразова падпадаў пад ціск грамадзкіх дзеячаў і нямецкіх уладаў. Ад лета 1944 г. — на выгнаньні. Далучыўся разам зь епіскапатам БАПЦ да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, быў вікарыем Нямецкай япархіі РПЦЗ. Памёр у Гамбургу.

**ФІЛІПОВІЧ Аляксандар** (20.01.1904, Наваградак— ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ФІЛІПОВІЧ Майк (Мікалай)** (20.09.1918, Кліўлэнд, ЗША — 1975, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1921 г. ягоныя бацькі вярнуліся на Вялейшчыну. У 1940 г. быў рэпрэсаваны, служыў у Арміі Андэрса, зь якой ў 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. У 1948 г. выехаў у ЗША. Быў адным

з першых прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі, што прыехаў у ЗША й пачаў запрашаць сюды беларускія сем'і. Адзін са стваральнікаў Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту. Быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у першым урадзе арганізацыі быў скарбнікам і рэферэнтам сацыяльнай апекі.

**ФІЛІСТОВІЧ Янка** (14.01.1926, в. Паняцічы (сёньня Вілейскі р-н Менскай вобл.) — 1953, ?, Беларусь), грамадзкі дзеяч, публіцыст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Францыі, дзе выдаваў часопіс „Моладзь“, быў адным зь лідараў Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі. Пазьней — удзельнік арганізаванага амэрыканцамі дэсанту на беларускую тэрыторыю для ажыцьцяўленьня падпольнай антысавецкай дзейнасьці.

**ФІНЬКОЎСКІ Ўладзімер** (13.02.1906, Гальшаны (сёньня Ашмянскі р-н Гарадзенскай вобл.) — пасьля 1960, Францыя(?)), рэлігійны дзеяч. У 1927 г. быў высьвечаны на сьвятара. Быў асабістым сакратаром архіяпіскапа Віленскага Феадосія. За супраціў паланізацыі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы перасьледаваўся ўладамі. У 1935 г. высланы зь Вільні. Працаваў у Пружанах. Першы сьвятар, што прыехаў у Менск пасьля пачатку нямецкай акупацыі. Заснаваў царкоўна-будаўнічы камітэт, які рамантаваў ацалелыя ў беларускай сталіцы цэрквы. Наведваў іншыя гарады й мястэчкі Ўсходняй Беларусі, дзе стварыў некалькі аналягічных камітэтаў. У 1942 г. праз канфлікт зь беларускімі дзеячамі выдалены ў Варшаву. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Заходняй Нямеччыне, Францыі. У 1960 г. пераехаў у ЗША, быў настаяцелем у царкве Сьв. Юрыя ў Чыкага. Браў удзел у беларускім нацыянальным руху. Праз канфлікт з парафіянамі пакінуў царкву й вярнуўся ў Францыю.

**ФІСЭНКА Андрэй** (30.08.1936, в. Галынка Косаўскага пав. (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ФІШЧАНКА Сьпірыдон** (25.09.1909, в. Завіньне (сёньня Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 02.07.1951 быў сябрам Згуртаваньнем беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ФУРСЭВІЧ Аляксандар** (1912, в. Язавец (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 15.03.1974, Галіфакс, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў

у Галіфаксе. Падтрымліваў сувязі зь беларускай грамадой у Брадфардзе. Пахаваны ў Галіфаксе на *Stoney Road Cemetery*.

**ФЯДКОВІЧ Якуб** (27.05.1922, в. Рудня Косаўскага пав. (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ХАВАНСКІ Канстанцін** (01.08.1910, Івацэвічы (сёньня Берасьцейская вобл. — 28.03.1984), грамадзкі дзеяч. Паходзіў зь сям'і нашчадкаў князёў Хаванскіх. Вучыўся ў гарадзкім вучылішчы, пазьней служыў у польскім войску й трапіў у нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. У 1950 г. прыехаў у Аўстралію, дзе спачатку працаваў па кантракце на фарме. У 1952 г. перабраўся ў Сыднэй і далучыўся да грамадзкага жыцьця беларусаў. Быў сябрам Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі й некаторы час займаў тут пасаду скарбніка. Ад стварэньня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ўваходзіў у лік ягоных дырэктароў. Актыўнай працы ад 1975 г. перашкодзіла цяжкая хвароба. Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай сэкцыі *Rookwood Cemetery*.

**ХАНЯЎКА Часлаў** (26.05.1909, Рыга, Латвія — 02.07.1988, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі й на агранамічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Браў актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Бэрліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленьнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-х выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, адзін з заснавальнікаў і сябра ўправы Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ХАРАВЕЦ Аркадзь** (20.02.1929, в. Хваросна (сёньня Пінскі р-н Берасьцейскай вобл.) — 10.04.1996, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Квэбэку, Таронта, Ашаве. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады.

**ХАРУЖНЫ Міхась** (14.11.1923, в. Хадакі Косаўскага пав. (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 07.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ХАХОЛКА Юрка** (1926, Глыбокае (сёньня Віцебская вобл.) — 03.07.1996, Лідс, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Бацьку й брата расстралялі немцы. Быў у „батальёне Радзюка“, потым у савецкіх партызанаў, адкуль уцёк. У паваеннай Нямеччыне апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, дзе актыўна займаўся спортам. У 1948 г. прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лідсе, дзе арганізаваў беларускую валейбольную каманду „Нёман“, якая пасьпяхова выступала да 1955 г. У 1956 г. стаў заснавальнікам першага ангельскага валейбольнага згуртаваньня й стваральнікам першай дзявочай сэкцыі валейболу ў Брытаніі. Пазьней працаваў са студэнтамі ўнівэрсытэту ў Лідсе. У 1977 г. зьбіраў ангельскую каманду для сусьветных валейбольных спаборніцтваў. Меў кваліфікацыю міжнароднага судзьдзі й наглядчыка за ангельскім валейболам. Ад самага прыезду ў Вялікабрытанію далучыўся да Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Удзельнічаў у мерапрыемствах Антыбальшавіцкага блёку народаў. Быў актывістам БАПЦ. Пахаваны ў Лідсе.

**ХВАЛЬКО Лявон** (23.03.1905, в. Грыбоўшчына (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 08.03.1995, Дарыен, Канэктыкут, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1943 г. быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Адтуль трапіў у Вялікабрытанію. Ад 29.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1948 г. стварыў аддзел арганізацыі ў Гэмптан-Ловэт. У 1950 г. стаў адным з заснавальнікаў і першым старшынём аддзелу ў Бірмінгеме, а потым быў сакратаром акруговага аддзелу ЗБВБ. У 1956 г. сакратар Галоўнай управы ЗБВБ. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, уваходзіў у дружыну ў Бірмінгеме. У 1958 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, потым у Стамфардзе (Канэктыкут). Памёр у доме састарэлых у Дарыене, пахаваны ў Стамфардзе на могілках *Woodland*.

**ХІХЛУША Іван** (?, Случчына — ?, ЗША), грамадзкі дзеяч. Паводле адукацыі — настаўнік. Падчас нямецкай акупацыі ўзначальваў Слуцкую акруговую ўправу Беларускай народнай самапомачы, ад 15.04.1944 быў намесьнікам Прэзыдэнта БЦР на Слуцкую акругу. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. У 1951—1955 гг. быў выканаўчым сакратаром Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

**ХМАРА Сяргей** (сапр. **Сіняк**, на эмігр. **Марыян Зіняк**, 25.05.1905, в. Казлоўшчына Слонімскага пав. (сёньня Дзятлаўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 04.09.1992, Таронта, Канада), паэт, публіцыст, грамадзкі дзеяч, выдавец. У час польскай акупацыі Заходняй Беларусі

працаваў настаўнікам. У 1927 і 1939 гг. арыштоўваўся дэфэнзывай. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Беларускай народнай самапомачыў Слоніме. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Бэрліне заснаваў палітычную суполку пад назвай „Двупагоня“. У 1948 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, потым Беларускага нацыянальнага аб'яднаньня. Выдаваў газэту „Беларускі голас“, часопіс „Баявая ўскалось“, таксама шэраг літаратурных і сатырычных выданьняў. Стваральнік Канадыйскага клюбу этнічных журналістаў і пісьменьнікаў. Аўтар кніг: „Аб багох крывіцкіх сказы“ (1946, 1948, 1986), „Сказы Бацькаўшчыны“ (1949), „Мы“ (1949). Пахаваны ў Таронта на *York Cemetery*.

**ХМЯЛЬНІЦКІ Павал** (05.03.1917, Бабруйск (сёньня Магілёўская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ХОМІЧ Янка** (09.10.1909, в. Дабраслонна (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Шэфілдзе. Ад 01.05.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ХОЦЬКА Баляслаў** (20.12.1923, в. Замосьце (сёньня Слуцкі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 04.10.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ХРЭНОЎСКАЯ Людміла** (дзяв. **Лявончык,** ? — 17.02.1971, Манрэаль, Квэбэк, Канада), грамадзкая дзяячка, жонка *Я. Хрэноўскага*. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Канадзе. Жыла ў Манрэалі. Належыла да парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**ХРЭНОЎСКІ Янка** (09.09.1903, Слонім (сёньня Гарадзенская вобл.) — 23.08.1973, Манрэаль, Квэбэк, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1920—1930-х гг. працаваў на тартаку, затым — майстрам па апрацоўцы будаўнічых матэрыялаў. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягеры *DP* у Норгайме, дзе разам з *А. Кунцэвічам* арганізаваў беларускую праваслаўную парафію. У 1950 г. пераехаў у Канаду, пасяліўся ў Манрэалі. Належаў на Манрэальскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў Канады й парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Пахаваны ў Манрэалі на *Mount Royal Cemetery*.

**ЦЕЛЕШ Мікола** (25.06.1900, в. Зазер'е Барысаўскага пав. (сёньня в. Заазер'е Лепельскага р-ну Віцебскай вобл.) — пасьля 1976 г.), літаратар, перакладчык. Вучыўся ў Бялыніцкай народнай вучэльні. Ад

1916 г. жыў на поўдні Расеі, працаваў на Данбасе. У 1919 г. уступіў у Чырвоную Армію, адкуль дэмабілізаваўся ў 1924 г. Ад 1929 г. пачаў друкавацца ў пэрыёдыках. Перад вайной працаваў у часопісе „Паляўнічы Беларусі“, выдаў чатыры кнігі прозы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Зарабляў фізычнай працай. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва яго Нью-Ёрскага аддзелу. У 1976 г. зьнік бязь вестак. Аўтар выдадзеных на эміграцыі кніг: „Дзесяць апавяданьняў“ (1965) і „Хмары над Бацькаўшчынай“ (1995).

**ЦЕЛЕШ Уладзімер** (01.06.1911, в. Краснае Сяло (сёньня пас. Красносельск у Ваўкавыскім р-не Гарадзенскай вобл.) — 08.04.1993, Таронта, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. арыштаваны Саветамі й высланы ў Сыбір. Уступіў у Армію Андэрса, у шэрагах якой ваяваў у Іране, Палестыне, Італіі, браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У 1952 г. прыехаў у Канаду. Быў старшынём парафіяльнай рады прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

**ЦЕХАНОВІЧ Уладзімер** (05.05.1906 — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 31.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЦІМАФЕЙЧЫК Тодар (Хведар)** (01.05.1924, в. Сянькоўшчына (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, адтуль трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзьнікаў. Паступіў у 5-ю крэсовую дывізію пяхоты Другога польскага корпусу. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 01.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1949 г. быў адным з ініцыятараў стварэньня Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага незалежніцкага народна-хрысьціянскага руху. У 1950-х гг. выехаў у Бэльгію. Вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. Быў стваральнікам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў у Бэльгіі. Па сканчэньні навучаньня выехаў у ЗША, дзе спыніў кантакты зь беларусамі.

**ЦІПКА Язэп** (15.08.1911, в. Казіняты (?) Вялейскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.08.1952 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у ЗША. Жыў у Каліфорніі.

**ЦІТОК Сьцяпан** (01.12.1914, в. Запольле Косаўскага пав. (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1937—1938

і 1941—1948 гг. служыў у польскім войску, разам зь якім апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЦІХАН Міхась** (18.09.1919, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — 2003, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Пасьля 1939 г. быў мабілізаваны ў Савецкую армію, удзельнічаў у ваенных дзеяньнях у Малдове, дзе патрапіў у нямецкі палон. Ад 1947 г. жыў у Аўстраліі. Удзельнік першага зьезду сябраў Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі ў сакавіку 1950 г. Адзін з арганізатараў беларускага аддзелу міжнацыянальнай выставы з нагоды 50-годзьдзя Аўстралійскага Саюзу ў 1951 г., за што быў спэцыяльна адзначаны дыплёмам ад аўстралійскага ўраду. Пасьля расколу ў беларускім асяродзьдзі Сыднэю быў сябрам БЦРаўскага БАА. Адначасова сакратар Беларуска-аўстралійскага незалежнага аб'яднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. Ад 1973 г. актыўны ўдзельнік Беларускага культурна-грамадзкага клюбу, у якім у 1987 г. на адзін тэрмін быў абраны на старшыню.

**ЦУПРЫК Янка** (18.02.1913, Слонім (сёньня Гарадзенская вобл.) — 21.09.1983, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Скончыў Наваградзкую беларускую гімназію, Варшаўскі ўнівэрсытэт. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэр (Нью-Джэрзі). Працаваў хімікам у аддзеле нуклеарнай мэдыцыны ў фірме „Сквіб“ у Нью-Брансьвіку. Быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, браў удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, належаў да парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЦЫБУЛЬКІН Аўген** (? — ?), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі быў рэдактарам „Газэты Случчыны“. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, а пазьней жыў у ЗША.

**ЦЫГАН Ніканор** (16.01.1913, в. Морач Нясьвіскага пав. (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у мэдычным корпусе Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Пасяліўся ў Манчэстэры. Ад 29.11.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Адчыніў дантыстычную майстэрню пры Беларускім доме ў Манчэстэры, але зь невядомых прычынаў яна доўга не праіснавала. Ад 1953 г. быў таксама сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЦЬВІРКА Ўладзімер** (да эмігр. **Вадзім Сурко,** 02.01.1928, в. Беражное (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 15.03.1992, Мюнхен, Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст. Жыў у Міры. У 1947 г. скон-

чыў гімназію імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе. Быў скаўтмайстрам у беларускіх лягерах *DP* у Герэнбэргу й Майнлёйзе. У 1948 г. разам зь іншымі сябрамі „Дванаццаткі“ прыбыў на працу ў вугальных капальнях у Вялікабрытаніі. Браў актыўны ўдзел у выданьні часопіса „Наперад!“ Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Сябра Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'яднаньня „Жыцьцё“. У 1950—1954 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. Ад 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхене. У 1959—1968 гг. — галоўны рэдактар беларускай службы Радыё „Вызваленьне“. Супрацоўнічаў таксама з рэдакцыяй газэты „Бацькаўшчына“. Пахаваны ў Мюнхене на *Westfriedhof*.

**ЦЯРПІЦКАЯ Жэня** (дзяв. **Ермалінская**, 05.08.1928, в. Сялец (?) — 11.02.1991, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкая дзяячка, жонка *В. Цярпіцкага*. Ад лета 1944 г. – на эміграцыі. У Нямеччыне жыла ў лягеры *DP* у Ватэнштэце, дзе вучылася ў гімназіі імя М. Багдановіча, брала ўдзел у грамадзкім жыцьці, скаўтынгу. У 1947 г. пераехала ў Вялікабрытанію, дзе працавала на тэкстыльнай фабрыцы ў Брадфардзе. Ад 09.10.1947 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. 14.10.1950 узяла шлюб з *В. Цярпіцкім*. У 1951 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). Брала актыўны ўдзел у беларускім грамадзкі жыцьці ў штаце Нью-Джэрсі, належыла да прыходу царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Пахаваная ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЦЯРПІЦКІ Віталь** (нар. 03.02.1923, Івянец (сёньня Валожынскі р-н Менскай вобл.)), грамадзкі дзеяч, муж *Ж. Цярпіцкай*. Вучыўся ў Віленскай рускай гімназіі імя Пушкіна, затым — у Наваградзкай гімназіі. У 1942—1944 гг. вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы. У чэрвені 1944 г. паступіў у Менскую афіцэрскую школу БКА. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, ва Ўсходняй Францыі разам зь сябрамі перайшоў на бок францускіх партызанаў. Пазьней далучыўся да Арміі Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Па дэмабілізацыі пасяліўся ў Брадфардзе. Узначальваў аддзел Хрысьціянскага аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Ёрксе. У лістападзе 1950 г. пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, уваходзіў у яго кіраўнічыя органы, быў сакратаром БЦР. У 1969—1972 гг. узначальваў будаўнічы камітэт па ўзьвядзеньні царквы для парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Жыве ў Саўт-Рывэры.

**ЧАБАТАР Алеся** (дзяв. **Бушма**, 1910, м. Далятычы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 23.01.1991, Альбані, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *К. Чабатара*. Ад 1929 г. — актыўная ўдзельніца самадзейнасьці беларускай моладзі. У 1932—1939 гг. — заступніца старшыні аддзелу Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры. За беларускую грамадзкую дзейнасьць зьведала перасьлед польскіх уладаў, арышты. Пасьля Другой сусьветнай вайны праз Нямеччыну апынулася ў Аўстраліі. Жыла ў Альбані (Заходняя Аўстралія), дзе пабралася шлюбам з *К. Чабатаром*. Удзельнічала ў мерапрыемствах, ладжаных аддзелам Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў у Пэрце й Беларускім аб'яднаньнем у Заходняй Аўстраліі, сяброўкай якога была доўгія часы. Шмат садзейнічала пабудове Беларускага народнага дому, для якога вышыла „Пагоню“.

**ЧАБАТАР Кастусь** (20.06.1914, м. Далятычы (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.11.1991, Альбані, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *А. Чабатар*. Вучыўся ў марыянаў у Друі. Пазьней — вайсковец, удзельнік БКА. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягерах *DP* у Нямеччыне, адкуль у 1948 г. выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Альбані ў Заходняй Аўстраліі. Падтрымліваў сувязі зь беларусамі Пэрту. Быў сябрам Беларускага аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі, рэгулярна ўдзельнічаў у яго мерапрыемствах і дапамагаў у набыцьці Беларускага народнага дому. Меў трывалыя кантакты зь беларускімі дзеячамі й выданьнямі ў іншых краінах. У 1960—1970-х гг. друкаваў свае нарысы пра жыцьцё ў Аўстраліі і ўспаміны ў часопісе „Божым шляхам“.

**ЧАБАТАРОНАК Ганна** (25.01.1926 — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Ковэнтры. Ад 10.02.1949 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЧАБАТАРЭВІЧ Віктар** (1907, Новы Сьвержань (сёньня Стаўбцоўскі р-н Менскай вобл.) — 07.10.1963, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, школу падхарунжых. Настаўнічаў на Віленшчыне, у заходняй Польшчы. У 1939—1941 гг. працаваў настаўнікам у Стоўпцах. У 1941—1942 гг. працаваў у Галоўным школьным інспэктараце, сакратаром Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы. У сакавіку 1944 г. узначаліў афіцэрскія курсы БКА, затым — Афіцэрскую школу БКА. Ад лета 1944 г — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Падтрымліваў прыхільнікаў БЦР, уваходзіў у склад Беларускага кангрэса-

вага камітэту Амэрыкі (быў яго віцэ-старшынём). Быў карэктарам газэты „Беларуская трыбуна“. У 1955—1956 гг. — адзін з ініцыятараў стварэньня Камітэту незалежнай Беларусі.

**ЧАЕЎСКІ Міхал** (01.05.1925, Вялейшчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ротэргаме. Ад 19.05.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЧАЙКОЎСКІ Зьміцер** (20.10.1912, Клецк (сёньня Менская вобл.) — 2002, Мюнхен, Нямеччына), мастак, вайсковы дзеяч. Вучыўся ў Клецкай беларускай гімназіі, у 1937—1939 гг. — у Кракаўскай акадэміі мастацтваў. У 1942—1943 гг. у ранзе лейтэнанта быў камандзірам роты Беларускага чыгуначнага батальёну ў Менску. Пасьля эвакуацыі зь Беларусі, у лістападзе 1944 г. атрымаў ранг надлейтэнанта. Да 27.11.1944 быў ад'ютантам камандуючага БКА *Ф. Кушаля*. Пасьля быў у 1-м Кадравым батальёне БКА ў Бэрліне у складзе афіцэрскай школы, сябрам Статутовай камісіі Галоўнага камандаваньня вайсковымі сіламі БЦР. Ад пачатку 1945 г. камандаваў 2-м стралковым батальёнам у 1-й грэнадзёрскай брыгадзе „Беларусь“. У канцы красавіка 1945 г. разам з брыгадай перайшоў праз фронт да амэрыканцаў. Выкладаў малюнак і фізычную падрыхтоўку ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Пасьля вайны жыў у Мюнхене. Працаваў у газэце „Бацькаўшчына“, на Радыё „Вызваленьне“ („Свабода“), быў сябрам БІНіМу. Вядомы майстра партрэту й сакральнага жывапісу. Яго палотны выстаўляліся на розных выставах у Эўропе й Амэрыцы.

**ЧАЙКОЎСКІ Пётра** (1915 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лідсе. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў.

**ЧАЛЕВІЧ Вінцук** (15.05.1909, в. Пад'язоўля пад Ляхавічамі (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Ковэнтры. Ад 29.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пазьней выехаў у ЗША.

**ЧАРАПУК Янка** (псэўд. **Змагар**, 24.08.1896, Новы Двор Сакольскага пав. Гарадзенскай вобл. (сёньня Падляскае ваяв., Польшча) — 16.11.1957, Чыкага, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбурскага ўнівэрсытэту. У 1918 г. — супрацоўнік Міністэрства замежных справаў Украінскай Народнай Рэспублікі, чалец Беларускай рады ва Ўкраіне. Ад канца 1918 г. — на Гарадзеншчыне, быў

сакратаром Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны й Гарадзеншчыны. Ад канца 1919 г. жыў у Рызе, працаваў сакратаром Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі, сябра Народнай Рады БНР. У 1922 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Адзін з ініцыятараў стварэньня Беларускага народнага камітэту ў штаце Ілінойс, Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю „Рыцары Калюмба“ (меў найвышэйшую ступень).

**ЧАРНАВОКІ Аляксей** (19.06.1921, в. Дзятлавічы (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.03.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Жыў у Брадфардзе.

**ЧАРНЕНЬКІ Сымон** (?, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЧАРНЭЦКІ Янка** (15.05.1895, Ляхавічы Слуцкага пав. — 16.07.1984, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Слуцку. У часе Першай сусьветнай вайны быў скіраваны ў афіцэрскую школу ў Маскву. У міжваеннай Польшчы жыў у Ляхавічах, супрацоўнічаў зь беларускімі хадэкамі, быў сябрам Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры. Падчас вайны ўзначальваў у Ляхавічах Беларускую народную самапомач, быў афіцэрам БКА. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе ў Рэгенсбургу быў адным з выдаўцоў газэты *„Adradžeńnie“*. Выехаў у Аўстралію, адкуль у 1957 г. — у ЗША. Жыў у Чыкага. Пахаваны ў Хілсайдзе на *Queen of Heaven Cemetery*.

**ЧАРНЯЎСКІ Францішак** (03.11.1893, в. Чухны Ашмянскага пав., Віленскай губ. (сёньня Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 31.05.1979, Амстэрдам, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, выдавец, дзядзька беларускага сьвятара а. Уладыслава Чарняўскага. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. У 1920 г. атрымаў сьвятарскія пасьвячэньні. У 1924—1927 гг. вучыўся ў Рыме ў Папскім Грыгарыянскім унівэрсытэце й Усходнім інстытуце. Ад 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях. Пераехаў у Бэльгію, у 1953—1955 гг. — у кляштары бэнэдыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь „Божае слова“. У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс „Сяўбіт“. Пахаваны ў Форт Эдвардзе (штат Нью-Ёрк).

**ЧАЎЛЫТКА Аўгені** (21.10.1921, в. Куранец (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны трапіў у Вялікабрытанію. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Валіі.

**ЧОРНЫ Язэп** (06.01.1924 — ?, Канада), грамадзкі дзеяч. Адукацыю настаўніка атрымаў у Беларусі. У 1949 г. прыбыў у Канаду. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады.

**ЧУДОЎСКАЯ Марыя** (24.07.1925, Віцебшчына — 08.01.2001, Рочдэйл, Вялікабрытанія), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Рочдэйле. Ад 05.07.1947 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пахаваная ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ЧУРЫЛА Адам** (07.05.1911 в. Круты Бераг (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 24.08.1972, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Да 1932 г. працаваў у бацькі на гаспадарцы, далей служыў у польскім войску. У 1939 г. удзельнічаў у польска-нямецкай кампаніі, пазьбегнуў палону й вярнуўся дадому. У 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне, адкуль у 1948 г. выехаў у Аўстралію. Актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі беларускага жыцьця ў Сыднэі на пачатку 1950-х гг., але падчас расколу на крывічоў і зарубежнікаў заняў прынцыповую пазыцыю супраць падзелу. Праз некаторы час далучыўся да арганізацыі „незалежнікаў" у Сыднэі. У 1967 г. падтрымліваў аб'яднаўчыя ініцыятывы й наступнае стварэньне Беларускага культурна-грамадзкага клюбу. Ня меў уласнай сям'і, але здолеў за час жыцьця ў Аўстраліі зашчадзіць добрыя грошы й, паводле тэстамэнту, пакінуў адзін са сваіх дамоў Беларускаму культурна-грамадзкаму клюбу. Пахаваны ў Сыднэі на беларуска-ўкраінскай сэкцыі *Rookwood Cemetery*.

**ЧЫГІРОВІЧ Янка** (31.01.1904 — 28.11.1990, ЗША), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША. Быў прыхаджанінам сабора Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ЧЫЖЫК Янка** (29.08.1902, в. Новая вёска (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 06.06.1968, Спрынгфілд, Масачусэтс, ЗША), грамадзкі дзеяч. Меў сьвятарскую асьвету, але да вайны працаваў настаўнікам у Заходняй Беларусі. У часе Другой сусьветнай быў афіцэрам БКА. Па вайне быў у Заходняй Нямеччыне, адкуль у 1949 г. пераехаў у ЗША. Браў актыўны ўдзел у аднаўленьні БАПЦ. У ЗША быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, парафіянінам БАПЦ. У кан-

цы 1967 г. стаў кіраўніком беларускай школы ў паселішчы Мір (Нью-Джэрзі). Памёр і пахаваны ў Спрынгфілдзе (Масачусэтс).

**ЧЫЖЭЎСКІ Антон** (08.11.1905, в. Ліпа (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 10.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1949 г. быў старшынём Часовай управы Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Ланкашыры й пазьней, у 1952 г., кіраваў управай гэтага цэнтру.

**ЧЫЧКО Янка** (12.01.1920, Нясьвіжчына — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**ЧЫЧЭЛІС Васіль** (06.01.1915, в. Канюхі (сёньня Маладэчанскі р-н Менскай вобл.) — 05.07.1973, Адэляйда, Аўстралія), рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага сьвятара. Вучыўся ў гімназіі ў Валожыне. Ад 1937 г. служыў у шэрагах польскага войску. Увосень 1939 г. трапіў у нямецкі палон, але хутка быў вызвалены. Працаваў у рэдакцыі беларускай газэты „Раніца“ ў Бэрліне. Ад ліпеня 1949 г. — у Паўднёвай Аўстраліі, дзе далучыўся да беларускай грамады. 27.12.1959 з рук архіяпіскапа *Сергія* прыняў манаскі чын. 19.11.1967 пасьвечаны ў сьвятары й да канца жыцьця заставаўся настаяцелем беларускай парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе.

**ЧЭРНІК Алена** (25.09.1900, в. Пабрэзьзе (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 02.05.1982, Маркет-Харбар, Вялікабрытанія), царкоўная актывістка. Жыла ў Маркет-Харбары. Парафіянка царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахавана ў Маркет-Харбары на мясцовых могілках.

**ЧЭРЫНКЕВІЧ Валя** (14.09.1924, Менск — ?), грамадзкая дзяячка. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Ад 09.08.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШАВЕЙКА Ўладзімер** (09.08.1924, Стоўпцы (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 24.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШАГУН Цімох** (25.05.1915, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў каля Лідсу. Ад 09.08.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШАЙПАК Вера** (дзяв. **Хлябіч,** 30.11.1930, Беласточчына — ?, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *Р. Шайпака*. Нарадзілася ў сялянскай сям'і. Да прыходу немцаў зь перапынкамі вучылася ў школе, а пасьля сьмерці ў 1942 г. бацькі, стала працаваць на гаспадарцы. У 1964 г. на запрашэньне цёткі прыехала ў Аўстралію, дзе пазнаёмілася й пабралася шлюбам з *Р. Шайпаком*. Далучылася да беларускай грамады Мэльбурну. Сьпявала ў беларускім мяшаным хоры. Была вучаніцаў *А. Салаўя* ў майстэрстве дэклямацыі. Была сяброўкай Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі й Беларускага жаночага камітэту. Актыўна ўдзельнічала ў падрыхтоўцы нацыянальных мерапрыемстваў. Сябра Беларускага сацыяльнага клюбу.

**ШАЙПАК Рыгор** (18.04.1918 — ?, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *В. Шайпак*. У 1950 г. прыбыў у Аўстралію. На працягу 1950—1960-х гг. жыў у Адэляйдзе, дзе дапамагаў у арганізацыі прыходу БАПЦ і будаўніцтве царквы. Пры канцы 1960-х пераехаў у Мэльбурн, дзе стаў сябрам Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі, Каапэратыву беларускага дому, а таксама ўваходзіў ва ўправу Беларускага дому й удзельнічаў у яго рамонце. Актыўна дапамагаў у арганізацыі Сустрэчаў беларусаў Аўстраліі ў Мэльбурне. Доўгагадовы прыхаджанін царквы Трох віленскіх пакутнікаў БАПЦ. Ад часу арганізацыі ў 1994 г. пры БАПЦ Беларускага сацыяльнага клюбу — нязьменны яго старшыня.

**ШАКУН Уладзімер** (02.11.1908, в. Адамполь (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.05.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШАМЯРЭЙ Іван** (27.05.1918 — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 02.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне.

**ШАПАРАЎ Уладзімер** (02.08.1924 — 1988, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. прыбыў у Канаду. Скончыў школу інжынэраў. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады. Старшыня Камітэту па збору сродкаў на адпачынковы цэнтар „Слуцак“ пад Таронта.

**ШАРАЕВІЧ Адам** (15.05.1904, в. Пухавічы (сёньня Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.) — 12.07.1984, Адэляйда, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, адкуль у 1950 г. разам зь сям'ёй выехаў у Аўстралію. Жыў у Адэляйдзе, дзе далучыўся да рэлігійнага жыцьця беларусаў. Актыўны ўдзельнік пабудовы беларускай царквы. Сябра парафіяльнай рады й доўгагадовы царкоўны староста.

**ШАРАФАНОВІЧ Пётра** (10.10.1916, в. Касута (сёньня Вялейскі р-н Менскай вобл.) — 23.12.1972, Гамільтан, Антарыё, Канада), грамадзкі дзеяч. Удзельнік нямецка-польскай вайны 1939 г. Трапіў у палон. Быў вызвалены й застаўся ў Нямеччыне. У 1945 г. прымусова прызваны ў Савецкую армію, уцёк у Заходнюю Нямеччыну. Пры канцы 1940-х выехаў у Вялікабрытанію. У пачатку 1950-х пераехаў у Канаду. Жыў у Гамільтане (правінцыя Антарыё).

**ШАСТАК Антон** (16.02.1910, Слоніма (сёньня Гарадзенская вобл.) — 19.04.1994, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1951 г. прыбыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, быў актывістам Кліўлэндзкага аддзелу. У 1976 г. уваходзіў у склад Фэстывальнага камітэту Першага беларускага фэстывалю ў штаце Нью-Джэрзі. Быў старшынём, скарбнікам, старастам рады царквы Жыровіцкай Божай Маці.

**ШАСТАК Міхась** (21.08.1923, в. Вераскова (сёньня Наваградзкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 31.03.1953, Пэнрыт, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. курсант Менскай афіцэрскай школы БКА. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у Другім польскім корпусе, разам зь якім прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 30.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Пэнрыт *(Penrith)*. Загінуў у выніку няшчаснага выпадку на працы. Пахаваны ў Пэнрыт на мясцовых могілках.

**ШАЎЦОЎ Сымон** (17.04.1911, Случчына — 08.05.1999, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У 1930-х гг. працаваў на машынабудаўнічым заводзе імя Варашылава ў Менску. У 1939 г. скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Настаўнічаў у в. Капцэвічы (Петрыкаўскі раён), потым служыў у Чырвонай Арміі й трапіў у палон. Пры канцы Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне. Настаўнічаў у беларускай школе лягеру *DP* у Мітэнвальдзе (Нямеччына). У 1949 г. прыбыў у Аўстралію. Падтрымліваў сувязі зь беларускімі арганізацыямі Сыднэю. Быў сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу. Аўтар кнігі „Мая Адысея“, што пабачыла сьвет у 1999 г. і ўтрымлівала нізку ўласных вершаў і аўтабіяграфічны нарыс зь невялікім апісаньнем абставінаў жыцьця ў Аўстраліі.

**ШАФАЛ (ШАФАЛОВІЧ) Сямён** (08.11.1923, Маладэчна (сёньня Менская вобл.) — 26.02.1983, Сток-он-Трэнт, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 04.02.1949 быў

сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Таксама ад 1951 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, уваходзіў у дружыну ў Бэрсьлеме, дзе быў сябрам управы. Пахаваны ў Сток-он-Трэнце.

**ШАЦЬКО Аляксандар** (05.09.1924, Нясьвіж (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1950-х гг. выяжджаў вучыцца ў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгію, але ня скончыў яго й вярнуўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Беларускім доме, быў яго адміністратарам. У ЗБВБ часта абіраўся ў Галоўную ўправу, у 1958 і 1960 гг. займаў пасаду старшыні арганізацыі. У 1960-х гг. таксама абіраўся на пасаду старшыні Лёнданскага аддзелу ЗБВБ. Быў сакратаром Беларускай харытатыўнай сэкцыі. У 1970-х адышоў ад беларускай грамады, абарваўшы ўсе кантакты.

**ШАШЫЛОЎСКАЯ Ганна** (30.10.1922, в. Маковічы (?) Палескай акругі — ?), грамадзкая дзяячка. У Беларусі працавала настаўніцай. У Брытаніі пасялілася ў Лёндане. Ад 29.04.1950 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, належыла да Лёнданскага аддзелу, дзе ў 1953 і 1956—1957 гг. выконвала абавязкі сакратара. Пазьней адышла ад беларускага жыцьця й абарвала кантакты зь беларусамі.

**ШВАЙЧУК Леанід** (06.04.1926, Вялейка (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Меў няпоўную сярэднюю асьвету. У паваеннай Нямеччыне жыў у Беларускім лягеры *DP* у Міхельсдорфе, дзе служыў у лягернай ахове. У 1948 г. разам з іншымі сябрамі „Дванаццаткі“ як *DP* прыбыў у Вялікабрытанію, працаваў на вугальных капальнях. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Вучыцца ў Бэльгію не паехаў, застаўся ў Вялікабрытаніі, але сувязі зь беларусамі страціў.

**ШВЭД Антось** (18.04.1915, в. Скарчава (сёньня Баранавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне ў 1950 г. Таксама ад 1949 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Жыў у Лёндане, пазьней выехаў у ЗША.

**ШВЭДЗЮК Міхась** (нар. 04.11.1926, в. Патапавічы (сёньня Іванаўскі р-н Берасьцейскай вобл.)), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай

школе. У 1940 г. быў вывезены з бацькамі ў Архангельскую вобл. (Расея). У 1942 г. апынуўся ў Іране пры польскім войску, адкуль скіраваўся ў Палестыну у польскую кадэцкую школу. Цягам 1942—1945 гг. працягнуў навучаньне ў польскай гімназіі, а пазьней да 1947 г. навучаўся ў польскім ліцэі ў юнацкім кадэцкім корпусе ў Палестыне. У 1947 г. выехаў у Эгіпет, адкуль разам з польскім войскам трапіў у Вялікабрытанію. У 1948—1951 г. вучыўся на інжынэра-электроншчыка ў Портсмуце, ад 1951 г. працаваў па спэцыяльнасьці, займаўся тэхнічнымі перакладамі. Ад 01.09.1947 — сябра Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Таксама зьяўляецца сябрам Беларускага харытатыўнага фонду. Сталы аўтар матэрыялаў пра беларускае жыцьцё ў Брытаніі для газэтаў „Беларус“, „Беларускі дайджэст“, „Рунь“. Жыве ў Конглэтане *(Congleton)* у Чэшыры.

**ШКЛЯНІК Пятро** (13.02.1921, в. Зубулевічы (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Ад 29.02.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў з арганізацыі на ўласнае жаданьне. Пазьней выехаў у ЗША.

**ШКЛЯРЭЎСКІ Ігнат** (19.12.1909, в. Жолчыцы (?) на Наваградчыне — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у хостэле *Letchworth*. Ад 12.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШКОДА Язэп** (08.06.1920, Нясьвіжчына — ?, Сыднэй, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. У 1948 г. прыбыў у Аўстралію. Удзельнік першага Зьезду сяброў Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі ў сакавіку 1950 г. Пасьля арганізацыйнага падзелу ў 1951 г. стаў на бок прыхільнікаў БЦР і застаўся ў БАА. Стваральнік і першы дырэктар Беларускага культурна-асьветнага клюбу ў Сыднэі (1950—1954). Ад 1973 г. сябра Беларускага культурна-грамадзкага клюбу, і на працягу некалькіх гадоў быў ягоным скарбнікам і дырэктарам.

**ШКУТКА Анатоль** (15.01.1908, Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1930-х гг. вучыўся ў Бэрлінскім унівэрсытэце й атрымаў дыплём інжэнэра. Старшыня Беларускага прадстаўніцтва ў Бэрліне. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны стварыў Беларускі камітэт у Брайншвайгу. У 1949 г. разам зь сям'ёй выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Брысбэне (Квінслэнд), дзе спрабаваў наладзіць ўласны бізнэс. Да канца 1950-х гг. падтрымліваў сувязі зь беларусамі Сыднэю. Быў удзельнікам арганізацыйнага сходу мясцовых беларусаў у сакавіку 1950 г. і заснаваньня агульнага Беларускага аб'яднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі (потым БАА). Пасьля расколу

арганізацыі стаў на бок прыхільнікаў БЦР і некаторы час выступаў як кіраўнік аддзелу БАА ў Квінслэндзе. Аднак ад канца 1950-х гг. зьвесткі пра яго дзейнасьць губляюцца.

**ШНЭК Алег** (07.02.1930, Ленінград (сёньня Расея) — 16.08.2005, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, сын *С. Шнэка*, брат *У. Шнэка*. Нарадзіўся ў сям'і беларускага вайскоўца *С. Шнэка* ў часе ягонага навучаньня ў Вайсковай акадэміі. Пасьля разам з бацькамі некаторы час жыў у Чыце, а ў 1939 г. прыехаў у Слуцк. У часе вайны быў дружыновым СБМ. Пазьней разам зь сям'ёй апынуўся ў Нямеччыне. У беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце — удзельнік Першага сьцягу беларускіх скаўтаў і Беларускага спартовага аб'яднаньня пры *YMCA*. У 1950 г. прыбыў у Аўстралію. У Мэльбурне далучыўся да беларускага скаўцкага зьвязу „Ўсяслаў Чарадзей". Удзельнічаў у арганізацыі футбольнай, а пазьней валейбольнай дружыны, быў сакратаром Спартовага клюбу Беларускага вызвольнага руху „Зубр". Актыўны сябра розных беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Мэльбурну, у тым ліку Беларускага вызвольнага руху (потым Фронту), у якім ад 1992 г. быў начальнікам Краёвага штабу, а ад 1993 г. і ўсяго БВФ. Сябра Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі, старшынём якога абраны ў 2003 г. Сябра парафіі БАПЦ ў Мэльбурне, удзельнік Беларускага сацыяльнага клюбу. Доўгагадовы ўдзельнік Выканаўчага камітэту Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, дэлегатам якой быў на Першым Зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску ў 1993 г.

**ШНЭК Сьцяпан** (12.10.1900, в. Лядна (сёньня Слуцкі р-н Менскай вобл.) —19.01.1952, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, бацька *А.* і *У. Шнэкаў*. У 1930—1936 гг. зь невялікім перапынкам вучыўся ў Вайсковай акадэміі ў Ленінградзе. Затым кіраваў домам палітпрасьветы ў Чыце Забайкальскай вайсковай акругі. У 1938 г. выключаны з партыі й звольнены з войска, пасьля чаго ўвосень 1939 г. вярнуўся на радзіму й пасяліўся зь сям'ёй у Слуцку. Працаваў настаўнікам у школе. Пазьней узначальваў слуцкую службу парадку, быў кіраўніком БКА на Слуцкую акругу. Увесну 1944 г. арыштаваны нямецкімі ўладамі разам з усёй сям'ёй, але выпушчаны дзякуючы заступніцтву *Р. Астроўскага*. Пасьля ад'езду зь Беларусі празь некаторы час быў прызначаны кіраўніком вайсковых справаў БЦР. Некаторы час працаваў у Францыі, потым разам зь сям'ёй жыў у лягерах *DP* у Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Спачатку працаваў у Новай Паўднёвай Валіі, трымаў сувязь зь мясцовымі беларусамі, а таксама беларускімі дзеячамі ў іншых краінах. Пісаў зацемкі ў эміграцыйныя пэрыёдыкі „Беларускае слова",

„Бацькаўшчына“ пад псэўданімам **Янка Нясьцерпны**. Пазьней пераехаў у Мэльбурн да астатняй сям'і, дзе й скончыў жыцьцё самагубствам. Пахаваны ў Мэльбурне на *Fawkner Memorial Park*.

**ШНЭК Уладзімер** (псэўд. **Случанскі**, 23.03.1927, Менск — 03.02.1995, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, сын *С. Шнэка*, брат *А. Шнэка*. Нарадзіўся ў сям'і вайскоўца *С. Шнэка*. Вучыўся ў Менскай афіцэрскай школе БКА. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягерах *DP* у Нямеччыне. У Ватэнштэце вучыўся ў беларускай гімназіі й актыўна ўдзельнічаў у скаўтынгу, надрукаваў першае апавяданьне ў лягерным часопісе. У 1950 г. прыбыў у Аўстралію. У 1958—1961 гг. завочна вучыўся ў Мастацкім інстытуце ў Мэльбурне, сябра Згуртаваньня мастакоў у Вікторыі. У 1969—1972 гг. скончыў Каралеўскі інстытут тэхналёгіі ў Мэльбурне й атроымаў дыплём мэханічнага чарцёжніка. Хутка па прыезьдзе ў Аўстралію далучыўся да беларускай грамады ў Мэльбурне, стаў сябрам аддзелу Беларускага аб'еднаньня ў Вікторыі, узначаліў скаўцкі зьвяз „Усяслаў Чарадзей“. Шмат займаўся літаратурнай дзейнасьцю, выдрукаваў у 1958—1960 гг. гістарычную аповесьць „Драбы“, а таксама ўласным коштам выдаў паэму Лявона Случаніна „Рагнеда“. Сябра Беларускага вызвольнага фронту, займаў розныя пасады ў гэтай арганізацыі ў Аўстраліі, выдаваў часопіс „На варце“ як орган Краёвага штабу БВФ, і гумарыстычны дадатак „Ёрш“. Ад 1982 г. у ранзе маёра БКА стаў кіраўніком Краёвага штабу БВФ, а ў 1986 г. ужо як палкоўнік вызначаны заступнікам начальніка Галоўнага штабу БВФ. Падрыхтаваў і выдаў альбом „Беларуская Краёвая Абарона“ (1984). Удзельнічаў у канфэрэнцыях Сусьветнай антыкамуністычнай лігі ў Тайпэі (1987, 1989), X Пленуме БЦР (1988). Ад 1990 г. — сакратар ўправы БЦК у Вікторыі. Удзельнік Першага Зьезду беларусаў сьвету ў Менску.

**ШОСТАК Аляксандар** (?, Палесьсе — ?, ЗША), грамадзкі дзеяч. Быў камэндантам беларускага лягеру ў Остэргофэне. Потым выехаў у ЗША. Быў прадстаўніком Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі на штат Дэлавер, жыў ува Ўілмінгтане. Амаль штогод дамагаўся, каб у штаце Дэлавэр на афіцыйным узроўні адзначаўся Дзень 25 Сакавіка.

**ШПАК Надзея** (27.11.1928, в. Масілавічы (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкая дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынулася ў Вялікабрытаніі. Жыла ў Хадэрсфілдзе. Ад 01.12.1948 была сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШПАКОВІЧ Віктар** (28.08.1923, в. Пялікі (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой

сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лідсе. Ад 03.08.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выступіў з арганізацыі на ўласнае жаданьне. Выехаў у ЗША.

**ШПІГАНОВІЧ Аляксандар** (15.05.1917 — 17.04.2003, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры. На пачатку 1950-х быў сябрам мясцовай арганізацыі Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, уваходзіў ва ўправу Акруговага цэнтру ў Манчэстэры. У 1954 г. выйшаў з арганізацыі ў знак пратэсту супраць дзейнасьці *Р. Астроўскага*. Застаўся сябрам Беларускага вызвольнага руху *Л. Зарэчнага*. Ад сярэдзіны 1950-х быў старшынём манчэстэрскага Краёвага камітэту БВР і актыўным удзельнікам усіх справаў арганізацыі. Адзін з тых, на каго была запісаная маёмасьць БВР у Манчэстэры, праз што пазьней быў уцягнуты ў працяглы судовы працэс. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ШУДЗЕЙКА Аляксей** (28.02.1913, Мітава (сёньня Елгава, Латвія) — 21.12.1969, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Варшаўскім унівэрсытэце, у 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Праз некаторы час вызвалены, займаў пасаду старшыні Беларускага прадстаўніцтва ў Торуні, затым працаваў дыктарам у беларускай сэкцыі радыё „Вінэта“. Па капітуляцыі Нямеччыны жыў у францускай зоне акупацыі. У 1949 г. пераехаў у ЗША, жыў ва Ўолінгтане (Нью-Джэрзі), браў актыўны ўдзел у працы парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры.

**ШУКЕЛОЙЦЬ Антон** (нар. 19.07.1915, х. Якелеўшчына (сёньня Ашмянскі р-н Гарадзенскае вобл.), грамадзка-культурны дзеяч. У 1935 г. скончыў Ашмянскую павятовую гімназію, дзе захапіўся сацыялістычнымі ідэямі. У 1935—1939 гг. вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце на спэцыяльнасьці этнаграфія й філялёгія. Належаў да Беларускага студэнцкага саюзу, старшыняваў у Таварыстве прыяцеляў беларусаведы, сьпяваў у беларускім студэнцкім хоры Рыгора Шырмы. Уваходзіў у Польскую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Ад 1939 г. працаваў у сыстэме адукацыі, у т. л. інспэктарам-мэтадыстам Ашмянскага р-ну, займаўся адкрыцьцём беларускіх школ. Ад 1940 г. быў дэпутатам Ашмянскага гарадзкога савету. 23.06.1941 арыштаваны НКВД і пасаджаны ў менскую турму. Пры пераводзе ў турму ў м. Крупкі змог вызваліцца. Працаваў у гарадзкой адміністрацыі Менску, адказваў за захаваньне гістарычных і архітэктурных помнікаў. Ад канца жніўня 1941 г. прызначаны дырэктарам Менскага гістарычнага музэю, пазьней таксама

загадваў аддзелам Беларускага культурнага згуртаваньня. Ад лютага 1944 г. працаваў у аддзеле краязнаўства й музэяў пры БЦР. Ад ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне працаваў у гаспадарцы баварскага баўэра. Па вайне два гады вывучаў археалёгію ва ўнівэрсытэце *UNRRA* і Вольным украінскім унівэрсытэце ў Мюнхене. У 1952 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. Працаваў тавазнаўцам пры Інстытуце тэхналёгіі моды, на прыняцьці тавараў у вялікім гандлёвым доме *Orbach*. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывіст і пэўны час старшыня Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Пры канцы 1960-х — на пачатку 1970-х гг. быў дырэктарам беларускай школы ў Нью-Ёрку. Доўгі час быў сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус". Радны БНР. Сябра БІНіМу.

**ШУНЬКО Станіслаў** (25.05.1925, в. Бакшты (?) — 03.06.1985, Манчэстэр, Вялікабрытаніі), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Манчэстэры, Стратфардзе. Ад 01.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1952 — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пахаваны ў Манчэстэры на *Blackley Cemetery*.

**ШУПШЫНА Янка** (21.03.1915, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, але выйшаў на ўласнае жаданьне.

**ШУСТ Мікола** (20.10.1921, в. Вашчанкі, Палесьсе — 18.07.1996, Канада), грамадзкі дзеяч, разьбяр, мастак. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады й парафіі царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Быў майстар вырабаў з саломы й іншых матэрыялаў, удзельнічаў у розных выставах.

**ШЧАГЛОЎ Мікола** гл. **КУЛІКОВІЧ Мікола**

**ШЧАРБАЧ Міхась** (25.03.1924, Маладэчна (сёньня Менская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 15.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШЧОРС Барыс** (26.06.1916, в. Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 06.06.1975, Саўт-Рывэр, ЗША), грамадзкі дзеяч, брат *М.* і *І. Шчорсаў*. У 1937 г. скончыў гімназію ў Стоўпцах, у 1940 г. — настаўніцкі інстытут у Беластоку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў камэндантам беларускага лягеру *DP* у Міхельсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры. У 1951 г. узначаліў Беларускае выдавецкае таварыства пры Злучаным беларуска-амэрыканскім дапамаговым камітэце, а потым быў сыбрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэ-

рыкі. Уваходзіў у склад рэдакцыі „Беларускай думкі“, у кіраўнічыя органы БККА. Адзін з ініцыятараў узьвядзеньня асобнага будынку парафіі ў Саўт-Рывэры. Ініцыятар пабудовы Беларускага грамадзкага цэнтру ў Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ШЧОРС Ігар** (25.08.1918, в. Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 12.10.1992, Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі начальнік менскай крымінальнай паліцыі, у 1944 г. — камандзір 27-га батальёну БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягеры *DP* у Міхельсдорфе, належаў да тэатральнай трупы „Жыве Беларусь!“ *В. Сэляха*. Ад 1949 г. пасяліўся ў ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Браў актыўны ўдзел у жыцьці парафіі й грамадзка-культурных арганізацыяў. Належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ШЧОРС Мікола** (1913, Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 22.12.1995, Даўнт-Мора, Флярыда, ЗША), грамадзкі дзеяч, лекар. Скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю. У 1935—1937 гг. — старшыня Беларускага студэнцкага саюзу. У 1939 г. выехаў у Варшаву. Ад 1940 г. — старшыня Беларускага камітэту ў Варшаве. Кіраўнік г. зв. „групоўкі Шчорса“, якая цесна супрацоўнічала зь нямецкім Абвэрам і разглядала падзеі будучай акупацыі як магчымасьць стварыць беларускую дзяржаву пад нямецкім пратэктаратам. На паседжаньні беларускага актыву ў Бэрліне 19.06.1941 быў выбраны старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтру, які разглядаўся як урад будучай Беларусі. Аднак праз тры тыдні, пасьля наведаньня Беларусі, адмовіўся ад палітычнай дзейнасьці. Вярнуўся ў Варшаву, дзе цягам пяці гадоў узначальваў Беларускі камітэт. Ад восені 1944 г. — у Нямеччыне. У 1946—1947 гг. узначальваў Беларускае праваслаўнае аб’яднаньне, падтрымаў аднаўленьне БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. У 1950—1951 гг. узначальваў Злучаны беларуска-амэрыканскі дапамаговы камітэт. Ініцыятар стварэньня Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, яго першы старшыня (1951—1955). У 1955 г. падаў у адстаўку з пасады старшыні. Быў адным са стваральнікаў Камітэту незалежнай Беларусі. У 1958 г. — адзін са стваральнікаў Беларуска-Амэрыканскага зьвязу. Пры канцы 1950-х адышоў ад актыўнай грамадзкай дзейнасьці, выехаў у Пляцбург (штат Нью-Ёрк), дзе меў клініку. Зьяўляўся віцэ-прэзыдэнтам Амэрыканскай асацыяцыі хірургаў. Пасьля выхаду на пэнсію пераехаў у Флярыду.

**ШЧОТКА Аляксандар** (20.12.1910, в. Госка Баранавіцкага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі Ад 16.04.1953 быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ШЧУРКО Міхась** (1907, в. Бялавічы (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 11.10.1972, Адэляйда, Аўстралія), рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў беларускай праваслаўнай сям'і. У 1948 г. быў адзін з ініцыятараў і ўдзельнікаў канфэрэнцыі ў Канстанцы (Нямеччына), на якой была адноўлена БАПЦ. Там жа быў рукапаложаны ў стан ярэя ўладыкам *Сергіям* (Ахатэнкам). 27.11.1949 разам зь сям'ёй прыбыў у Аўстралію. У 1950 г. удзельнічаў у першым сходзе беларусаў Паўднёвай Аўстраліі. З таго ж году пачаў весьці набажэнствы для беларусаў у лягеры Вудсайд (каля Адэляйды). Працягваў сьвятарскую дзейнасьць разам з украінскімі сьвятарамі ў Адэляйдзе. Вёў багаслужбы для беларускіх вернікаў у арэндаваных памяшканьнях, пакуль не была пабудаваная й пасьвечаная ў 1963 г. уласная царква Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла БАПЦ. На пасадзе настаяцеля беларускай парафіі заставаўся да канца свайго жыцьця.

**ШЧЭРБА Мікола** (15.05.1908, в. Дуброва (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі Жыў у Шатляндыі. Ад 16.06.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ШЧЭРБА Сяргей** (02.08.1918, в. Рушкава (?) з-пад Баранавічаў — ?), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі, разам з падразьдзяленьнямі якой улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў. Далучыўся да Другога польскага корпусу, разам зь якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 08.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, адзін з заснавальнікаў Акруговага аддзелу ў Ёркшыры. Аднак у выніку расколу ў 1948 г. далучыўся да Беларускага камітэту сяброўства й быў пазбаўлены сяброўства ў ЗБВБ. Быў адным з выдаўцоў часопіса „Патрыёт“. Пазьней далучыўся да Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, быў старшынём акруговага цэнтру „Ёркс“. Быў прадстаўніком Дэлегатуры БЦР на Ёркс. Ад 1952 г. актыўна ўключыўся ў дзейнасьць Беларускага вызвольнага руху. У расколе 1954 г. падтрымаў пазыцыю *Л. Зарэчнага* й быў абраны на пасаду генэральнага сакратара ЦК БВР. У выніку канфлікту з Манчэстэрскім асяродкам БВР у 1957 г. ініцыяваў новы раскол арганізацыі, частка якой цяпер непасрэдна падпарадкоўвалася яму. Гэтай арганізацыяй кіраваў і пры канцы 1960-х. Жыў у Д'юсбуры.

**ШЧЭЦЬКА Васіль** (15.03.1923, в. Апечкі (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 27.05.2011, ЗША), грамадзкі дзеяч. Ад 1942 г. вучыўся ў Мэдычнай школе ў Баранавічах. У 1944 г. выехаў на эміграцыю ў Нямеччыну. У 1947 г. скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. Працаваў сакратаром старшыні лягеру, актыўна займаўся скаўтынгам. У 1948 г. разам зь іншымі сябрамі „Дванаццаткі“ выехаў на працу ў вугальных капальнях у Вялікабрытанію. Ад 12.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Браў удзел у дзейнасьці Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня „Жыцьцё“. У 1950 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. У 1955 г. скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту. Выехаў у ЗША. У 1959—1988 гг. працаваў у бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту. Быў сакратаром Галоўнай управы БАЗА, належаў да кіраўніцтва парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. У 1965 г. разам з *К. Мерляком* і паплечнікамі заснаваў Беларуска-Амэрыканскае аб'еднаньне ў Нью-Ёрку, а ў 1968 г. — прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Як сябра БАА й парафіі браў удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, належаў да ўраду Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у 1980-х — прадстаўнік БККА на штат Нью-Ёрк. Жыў ў Мэнэлэпэне (*Manalapan*), штат Нью-Джэрзі. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

**ШЫБІЦКІ Кастусь** (27.09.1916, в. Сялявічы (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 22.12.1990, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У пачатку Другой сусьветнай вайны служыў у польскім войску, трапіў у савецкі палон і быў вывезены ў Сыбір. Далучыўся да Арміі Андэрса, браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Спачатку жыў у Брадфардзе, а потым перабраўся ў Манчэстэр. Ад 09.08.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, актывістам аддзелу ў Манчэстэры. Таксама ад 1951 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Актыўна падтрымоўваў БАПЦ, у 1955 г. быў старшынём аддзела Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ШЫБУТ Хведар** (26.06.1901 (паводле інш. зьвестак — 14.04.1900), в. Дунайчыцы (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 18.12.1990, Норт-Плейт, Нябраска, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1925—1926 гг. быў сябрам Беларускага сялянскага саюзу. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай цывільнай адміністрацыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. стаў кіраўніком бацькоўскага камітэту Беларускай гімназіі ў Рэ-

генсбургу. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў штаце Каларада (г. Пуэбла). Прыхільнік БЦР, прадстаўнік Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі на Каларада.

**ШЫКАЛЮК Сьцяпан** (02.11.1907, в. Радагосьць (?) — 17.12.1993, Вініпэг, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1928—1930 гг. служыў у польскім войску, потым працаваў у сельскай гаспадарцы. У 1943 г. вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. У канцы 1940-х выехаў у Канаду. Жыў у Вініпэгу, працаваў столярам-будаўніком.

**ШЫЛА Мікола** (1888 — 06.04.1948, Госьляр, Заходняя Нямеччына), грамадзкі дзеяч, журналіст. Дэлегат Першага й Другога Ўсебеларускіх кангрэсаў. У 1917—1920 гг. быў старшынём Партыі беларускіх эсэраў. У 1920—1930-х гг. браў удзел у заходнебеларускім нацыянальным руху. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Падтрымліваў БЦР і *Р. Астроўскага*.

**ШЫМАНЕЦ Лявон** (нар. 1937 г., Стоўпцы (сёньня Менская вобл.), грамадскі дзеяч, сын *У. Шыманца*, брат *І. Сурвілы*. У 1944 г. разам з бацькамі пакінуў Беларусь. Спачатку апынуўся ў Даніі, потым у 1948 г. прыбыў у Францыю. Пасяліўся ў Сартрувілі (*Sartrouville*) пад Парыжам, працаваў інжынэрам у фірме, што вырабляла электроніку для ваенных самалётаў, у 1982 г. стаў кіраўніком аддзелу. Быў сябрам „Хаўрусу“. Ад 1977 г. — у кіраўніцтве. У 1992—1995 гг. быў дырэктарам закладзенага на грошы Эўразьвязу ў Менску энэргацэнтру.

**ШЫМАНЕЦ Уладзімер** (15.05.1911, Рыга (Латвія) — 27.08.1977, Сартрувіль, Францыя)), грамадзкі дзеяч, інжынэр, бацька *Л. Шыманца* й *І. Сурвілы*. У 1932 г. скончыў Віленскую тэхнічную школу. Працаваў у Стоўпцах. Ад лета 1944 г. разам зь сям’ёй — на эміграцыі. Жыў у Капэнгагене, дзе арганізаваў Згуртаваньне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю. Ад 1952 г. жыў у Сартрувілі (*Sartrouville*) пад Парыжам, браў удзел у працы Аб’еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, дзейнасьці Ўраду БНР (міністар фінансаў).

**ШЫРКОЎСКІ Пётра** (10.10.1925, в. Новы Сьвержань (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — 23.12.2005, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой апынуўся ў 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў. Трапіў у Другі польскі корпус, разам зь якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Манчэстэры. Ад 02.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Адзін з заснавальнікаў аддзелу ў Манчэстэры, дзе ў розныя гады быў старшынём і сакратаром. Быў так-

сама ад 1951 г. сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Быў адміністратарам Беларускага дому ў Манчэстэры. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ШЫШ Аляксей** (03.03.1915, Наваградчына — 04.03.1959, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1938—1939 і 1944—1947 гг. служыў у польскім войску. Ад 1953 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, уваходзіў у дружыну ў Бэрсьлеме. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ШЫШ Міхал** (20.04.1920, Наваградчына — 28.02.2007, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Служыў у польскім войску. Ад 1952 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, выконваў абавязкі скарбніка дружыны ў Бэрсьлеме. Пазьней перабраўся ў Манчэстэр, дзе ўваходзіў ва ўправу Акруговага цэнтру Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ШЫШ Уладзімер** (15.05.1923 — 03.03.1989, Манчэстэр, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У 1942—1948 гг. служыў у Арміі Андэрса ў супрацьпаветранай артылерыі. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, у Акруговым цэнтры якога ў Ланкшыры займаў пасады сакратара, скарбніка, сябры ўправы. Быў старшынём аддзелу Беларускага вызвольнага руху ў Манчэстэры, а пазьней сябрам Беларускага вызвольнага фронту. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ШЭКА Міхась** (01.01.1926 — 08.11.1991, Джылёнг, Аўстралія), грамадзкі дзеяч. Меў тэхнічную асьвету й прафэсыю інжынэра. Лейтэнант (пазьней маёр) БКА. У часе Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, дзе пасьля яе заканчэньня быў выкладчыкам ангельскай мовы ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце. У 1950 г. прыехаў у Аўстралію. Першыя гады жыў у Мэльбурне й актыўна ўдзельнічаў у грамадзкім жыцьці беларусаў. Сябра аддзелу Беларускага аб'еднаньня ў Вікторыі. Удзельнік рэдкалегіі часопіса „Новае жыцьцё". У 1958 г. пераехаў зь сям'ёй у Джылёнг (мястэчка 100 км ад Мэльбурну). Нягледзячы на адлегласьць, імкнуўся трымаць сувязь зь беларускімі арганізацыямі. Сябра беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі, удзельнік Каапэратыву Беларускага дому. У 1980-х гг. пайшоў на пэнсію й аднавіў актыўны ўдзел у беларускіх мерапрыемствах. У 1982—1992 гг. — заступнік кіраўніка Краёвага штабу Беларускага вызвольнага фронту ў Аўстраліі. У 1983—1985 гг. — старшыня Выканаўчага камітэту Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Ініцыятар выданьня Інфармацый-

нага бюлетэню ФРБАА. У 1989 г. пераклаў і выдаў „Катэхізіс праваслаўнай царквы“. Пахаваны ў Джылёнге на мясцовых могілках.

**ЮЗЭФОВІЧ Генрык** (? — ?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі, а ў 1946 г. — у Рымскім унівэрсытэце. З Італіі перабраўся ў Вялікабрытанію. Ад 24.12.1946 належаў да Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’яднаньня „Жыцьцё“. У 1949 г. выехаў у Аргентыну, дзе належаў да беларускіх нацыянальных арганізацый. Адтуль у 1952 г. выехаў на навучаньне ў Гішпанію.

**ЮНАХ Павал** (?, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — 1996, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны быў у беларускай паліцыі на Стаўпеччыне, вучыўся на падафіцэрскіх курсах ва Ўрэччы. Улетку 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, ваяваў у складзе Другога польскага корпусу. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Хрысьціянскага аб’яднаньня беларускіх работнікаў ад 1948 г. Выконваў розныя абавязкі ў кіраўніцтве Лёнданскага акруговага цэнтру арганізацыі: быў скарбнікам, старшынём. Ад 1952 г. быў сябрам Беларускага вызвольнага руху, кіраўніком аддзелу ў Лёндане. Пазьней далучыўся да Беларускага вызвольнага фротну. У Краёвым штабе выконваў абавязкі сакратара, скарбніка, а пры канцы 1980-х стаў старшынём. Быў ўдзельнікам прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай ў Лёндане.

**ЮНЕЦ Уладзімер** (1906, Лідчына — 05.07.1976, Брадфард, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Брадфардзе. Належаў да БАПЦ. Пахаваны ў Брадфардзе на *North Bierley Cemetery*.

**ЮРГЕЛЬ Янка** (03.03.1925, в. Жырава (?) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.09.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЮРЦЭВІЧ Васіль** (25.10.1919, в. Азёрыца (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 29.10.1973, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Паходзіў зь сялянскай сям’і. Падчас нямецкай акупацыі — кіраўнік каапэратыву закупу й збыту на Лунінецкі р-н. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Чэхіі быў прымусова мабілізаваны ў Чырвоную Армію, але ўцёк (сям’я была вывезеная ў СССР). Па капітуляцыі Нямеччыны знаходзіўся ў лягеры *DP* у Хохенфэльцы, потым працаваў на вугальных шахтах у Бэльгіі. У 1950 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Ёрку. Належаў да прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й акруговага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1965—1968 гг. далу-

чыўся да Беларуска-Амэрыканскага аб'еднаньня й парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Як дэлегат БАА й парафіі браў удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, належаў да ўраду Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЮРЧЫК Пётра** (29.06.1924, в. Волька (сёньня Івацэвіцкі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 19.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЮРША Жэня** (дзяв. **Князюк**, у першым шлюбе **Дуданец**; нар. 22.10.1926, в. Трыбушкі (сёньня в. Мірная Слонімскага р-ну Гарадзенскай вобл.)), грамадзкая дзяячка. Нарадзілася ў сялянскай сям'і. У 1942 г. пасьля расстрэлу немцамі бацькоў была вывезена на працы ў Нямеччыну. Працавала ў Люфтганзе, а па сканчэньні вайны вучылася на курсах мэдсёстраў. У дэпартацыйным лягеры пазнаёмілася й пабралася шлюбам з Станіславам Дуданцом. Разам зь сям'ёй у 1950 г. прыехала ў Аўстралію. Пасьля некалькіх пераездаў у 1954 г. пасялілася ў Адэляйдзе. У 1964 г. страціла мужа, а на пачатку 1970-х гг. выйшла за Паўла Юршу. Ад 1967—1968 гг. наладзіла стасункі зь беларускай грамадою Адэляйды. Стала браць удзел у нацыянальных мерапрыемствах. Сяброўка Беларускага аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі, у якім у 1987—1988 гг. працавала на пасадзе сакратара.

**ЮРЫС Вячаслаў** (?, в. В. Абрына (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 13.10.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЮХНАВЕЦ Янка** (03.11.1921, в. Забродак Бягомльскага р-ну Барысаўскай акругі (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 06.01.2004, Нью-Ёрк, ЗША), літаратар, мастак. У часе нямецкай акупацыі быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Пасьля вайны вучыўся ў Вольным унівэрсытэце ў Мюнхене. Пачаў друкавацца ў 1947 г. у беларускіх пэрыёдыках. У 1949 г. выехаў у ЗША. Працаваў у галіне электронікі. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Нью-Ёрскага аддзелу. Аўтар кніг „Шорах моўкнасьці“ (1955), „Новая элегія“ (1961), „Калюмбы“ (1967), „Творы“ (Т. 1—3, 1987—1990), „Дань майго часу“ (1993), „Драматычныя начыркі“ (1996).

**ЯГАЎДЗІК (ЯГОЎДЗІК) Мікола** (15.02.1926, в. Галынка (сёньня Клецкі р-н Менскай вобл.) — 08.03.1989, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), гра-

мадзкі дзеяч. Скончыў тры курсы настаўніцкай сэмінарыі. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, адкуль трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС. Перайшоў на бок саюзьнікаў, быў у Другім польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 16.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. У 1951 г. выехаў у Бэльгію, дзе ў 1955 г. скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага студэнцкага згуртаваньня, у 1952—1954 гг. — яго адміністратар. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе, працаваў бухгальтарам. Быў сябрам Рэвізійнай камісіі Кліўлэндзкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Узначальваў Згуртаваньне беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Пахаваны ў Кліўлэндзе.

**ЯЗЕРСКІ Мікола** (07.05.1916 — 04.04.1982, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 05.07.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пахаваны ў Лёндане на *Greenford Park Cemetery*.

**ЯКУБЕЦ Янка** (17.04.1919, Себеж (сёньня Пскоўская вобл., Расея) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 29.07.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЯКУБІК Панас** (06.12.1925, в. Акалодзічы (?) каля Ваўкавыску — 24.09.1985, Нортвіч, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Нортвічы. Парафіянін царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Андэртане на *Wilton Cemetery*.

**ЯКУБІК Томаш** (04.03.1914, в. Акалодзічы (?) каля Ваўкавыску — 18.02.1983, Нортвіч, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Андэртане каля Нортвічу. Парафіянін царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры. Пахаваны ў Андэртане на могілках *Wilton Cemetery*.

**ЯКУБІК Ян** (03.03.1920, в. Акалодзічы (?) Ваўкавыскага пав. — 10.01.1984, Мідлвіч, Вялікабрытанія), царкоўны актывіст. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Мідлвічы ў Чэшыры, быў прыхаджанінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстэры, для якой у 1975 г. бясплатна зрабіў іканастас. Пахаваны ў Мідлвічы на мясцовых могілках.

**ЯКУБОВІЧ Аляксандар** (21.10.1919, в. Сашыца (сёньня Бярозаўскі р-н Берасьцейскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой

сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 28.12.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЯКУБОВІЧ Аўген** (25.10.1923, в. Збочнае (?) Слонімскага пав. — 18.07.1957, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам на Лідчыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 17.06.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Быў сябрам Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці. Раптоўна памёр. Пахаваны ў Лёндане на *Islington Cemetery*.

**ЯНЕЦКІ Алесь** (23.09.1922, Баранавічы (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 12.04.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Выехаў у Канаду.

**ЯНКОЎСКІ Міхась** (10.08.1927, в. Сялец (?) Ашмянскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 1950 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЯНКОЎСКІ Янка** (15.03.1922, Наваградак (сёньня Гарадзенская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.08.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЯНОЎСКІ Аляксандар** (? — ?), рэлігійны дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў сьвятаром парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку. Ягоны пазьнейшы перавод у Кліўлэнд спрычыніўся да далейшага паглыбленьня крызісу ў БАПЦ.

**ЯНСКІ Янка** (22.09.1920, в. Жыгалкі (сёньня Стаўпецкі р-н Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 26.09.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЯНУШКЕВІЧ-НЯДЗЬВІГА Лідзія** (дзяв. **Грыг,** ? — 1969), сьпявачка й акторка. Уваходзіла ў трупу Менскага Першага беларускага тэатру (БДТ-1). У 1944 г. у Бэрліне ўдзельнічала ў заснаваньні беларускай канцэртна-эстраднай групы „Жыве Беларусь“. Пазьней выехала ў ЗША, дзе працягвала сьпеўную дзейнасьць.

**ЯНУШЧЫК Янка** (19.03.1924, в. Пятровічы (?) на Баранавіччыне — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 20.03.1949 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЯНУШЭВІЧ Мікола** (13.07.1925, в. Сурынка (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 29.04.1992, Пянцюк, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч, літаратар. Вучыўся ў школе ў Жыровічах, пазьней — у гімназіі ў Слоніме. У часе нямецкай акупацыі трапіў пад перасьлед гестапа, але ўнікнуў арышту й перабраўся ў Менск. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, адкуль трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію СС, перайшоў на бок саюзьнікаў, Далучыўся да Другога польскага корпусу, разам зь якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 27.11.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1952 г. распачаў навучаньне ў Агранамічным інстытуце ў Лювэне (Бэльгія). Па сканчэньні навучаньня вярнуўся ў Вялікабрытанію. Жыў у Шатляндыі. Займаўся паэтычнай творчасьцю ў ангельскай мове. Памёр у мястэчку Пянцюк (*Pencuik)* у Шатляндыі. У 1997 г. пабачыў сьвет ягоны зборнік *Poems*.

**ЯНЦЭВІЧ Уладзімер** (12.10.1916, в. Янцэвічы (?) Нясьвіскага пав. — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.05.1950 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЯРАХОВІЧ Сымон** (14.09.1894, в. Волька-2 (сёньня Лунінецкі р-н Берасьцейскай вобл.) — 12.02.1965, Кліўлэнд, Агаё, ЗША), грамадзкі дзеяч, бацька *Е. Дунец*. З пачаткам Першай сусьветнай вайны быў мабілізаваны ў царскае войска, трапіў у палон. Пасьля вайны вярнуўся на радзіму, працаваў на зямлі, быў солтысам вёскі. У 1942 г. перабраўся зь сям'ёй ў Лунінец, а ў 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у лягеры *DP*. У 1949 г. выехаў у ЗША. У 1951 г. сям'я пераехала ў Кліўлэнд. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, актывістам Кліўлэндзкага аддзелу. Адзін з будаўнікоў першай царквы БАПЦ у Кліўлэндзе.

**ЯРАШ Кастусь** (20.10.1905, в. Вішава (сёньня Слонімскі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 06.01.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЯРОШКА Алекс (Аляксей)** (17.03.1904, Пінск (сёньня Берасьцейская вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 22.12.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, а таксама ад 1949 г. — сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, нягледзячы на тое, што на вайсковай службе ніколі ня быў. У пачатку 1950-х гг. выехаў у Нямеччыну.

**ЯСЬКЕВІЧ Міхась** (17.03.1926, в. Стаўпішчы (сёньня Нясьвіскі р-н Менскай вобл.) — 09.06.2002, Манчэстэр, Вялікабрытанія), гра-

мадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі скончыў два курсы настаўніцкай сэмінарыі. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой быў далучаны да 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзьнікаў. У 1944–1947 гг. служыў у Другім польскім корпусе, разам зь якім у 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Манчэстэры. Ад 01.10.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у аддзел у Манчэстэры, у кіраўніцтве якога шмат гадоў займаў пасаду сакратара, а часам абіраўся й на старшыню. Ад 1951 г. сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, кіраваў дружынай у Манчэстэры. Быў актывістам БАПЦ. У другой палове 1950-х быў старшынём Манчэстэрскага аддзелу Брацтва й сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці. У 1958—1961 гг. — настаўнік беларускай суботняй школкі ў Манчэстэры. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага клюбу ў Манчэстэры (сакратар). Доўгія гады быў карэспандэнтам газэт „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ у Манчэстэры, падпісваўся псэўданімам **Міхась Стаўпіскі**. Пахаваны ў Манчэстэры на *Southern Cemetery*.

**ЯСЬКО Даніла** (? — ?), пратэстанцкі прапаведнік. У другой палове 1940-х гг. жыў у Нямеччыне, пазьней выехаў у ЗША. Стварыў Беларускае эвангельска-баптысцкае брацтва. Выдаваў „Весьнік Беларускага эвангельска-баптысцкага брацтва“.

**ЯСЮК Эмануіл** (1906, в. Жухавічы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 10.12.1977, Пасэйк, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч. У 1930-х скончыў унівэрсытэт у Льежы (Бэльгія) з дыплёмам інжынэра. Падчас нямецкай акупацыі быў старшынём Стаўпецкага раёну. Дэлегат Усебеларускага царкоўнага сабору (жнівень 1942 г.) і Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Пасэйку (Нью-Джэрзі, ЗША). Быў саўладальнікам кампаніі „Крыс электронікс“. Займаўся грамадзкай дзейнасьцю, узначальваў арганізацыю Амэрыканскія прыхільнікі БЦР. Быў заснавальнікам арганізацыі беларускіх вэтэранаў у Пасэйку, віцэ-старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, парафіянінам і фундатарам парафіі царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Пахаваны ў Саўт-Рывэры на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

**ЯСЮЛЯ Янка** (08.07.1922, в. Лыкавічы (сёньня Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч. У 1943—1947 гг. служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 1952 г. быў сябрам Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

**ЯФІМІК Янка** (12.06.1920, в. Вуглы (?) на Слонімшчыне — ?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабры-

таніі. Ад 13.09.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

**ЯЦКЕВІЧ Данат** (06.05.1924(22?), Ліда (сёньня Гарадзенская вобл.) — 11.07.1969, Мэльбурн, Аўстралія), грамадзкі дзеяч, муж *Э. Яцкевіч*. Вайсковец, лейтэнант БКА. Ад 1944 г. — у Нямеччыне, дзе браў удзел у дзейнасьці беларускіх арганізацыяў. У 1949 г. прыбыў у Аўстралію. Актыўны арганізатар і ўдзельнік беларускага жыцьця ў Брысбэне. Адзін з ініцыятараў стварэньня Брацтва Сьвятога Юрага БАПЦ. Заснавальнік Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў і выдавец друкаванага органу гэтай арганізацыі пэрыёдыка „Лучнік". Доўгачасовы кальпартатар беларускае прэсы ў Брысбэне. У 1956 г. разам зь сям'ёй перабраўся ў Мэльбурн, дзе таксама актыўна далучыўся да жыцьця беларускай грамады, быў адным зь ініцыятараў набыцьця Беларускага дому. Займаўся выдавецкай дзейнасьцю. Пад псэўданімам **Данат Баян** друкаваў невялічкія п'есы для дзяцей.

**ЯЦКЕВІЧ Мадэст** (01.05.1894, Паставы (сёньня Віцебская вобл.) — 27.02.1971, Мэльбурн, Аўстралія), рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага сьвятара. У 1913 г. скончыў віленскую гімназію й падчас Першай сусьветнай вайны настаўнічаў на Віленшчыне. У 1921 г. рукапакладзены ў сан сьвятара й да 1939 г. працаваў у розных парафіях Віленскай япархіі. У часе Другой сусьветнай вайны — у кляштары Сьвятога Духа ў Вільні. У 1944 г. выехаў у Аўстрыю, а пазьней — у Аргентыну. У 1956 г. перабраўся ў Мэльбурн (Аўстралія), дзе у наступным годзе прыняў манаскі сан з рук архіяпіскапа БАПЦ *Сергія*. Адразу далучыўся да жыцьця беларускай грамады. У 1958 г. зарганізаваў у Мэльбурне парафію БАПЦ. Займаўся актыўнай выдавецкай дзейнасьцю: у 1960 г. апрацаваў і выдаў „Катэхізіс, або Навука веры", Стары й Новы Запаветы, нарыс „Даведкі з гісторыі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы", запачаткаваў выданьне часопіса „Наша царква" як друкаванага органу БАПЦ у Аўстраліі. У жніўні 1962 г. пасьля скандалу з удзелам арх. Сергія перайшоў пад юрысдыкцыю канстантынопальскага патрыярха й працягваў душпастырскую дзейнасьць у навастворанай беларускай парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Мэльбурне. Да самай сьмерці выдаваў часопіс „Праваслаўным шляхам".

**ЯЦКЕВІЧ Эўлалія** (03.09.1923, Віленшчына — ?, Аўстралія), грамадзкая дзяячка, жонка *Д. Яцкевіча*. У 1949 г. выехала зь сям'ёй у Аўстралію. Першыя гады жыла ў Брысбэне, дзе разам з мужам займалася актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, была старшынёй Згуртаваньня беларускіх жанчын ў Аўстраліі, створанага пры Задзіночаньні бела-

рускіх вэтэранаў. У 1956 г. разам зь сям'ёй перабралася ў Мэльбурн, дзе таксама актыўна ўключылася ў грамадзкую дзейнасьць. Была адным з арганізатараў і настаўніцай беларускай школы (і першай, і другой). Кіравала беларускім хорам пасьля сьмерці яго стваральніка *П. Мікуліча*. Была сяброўкай Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі й на працягу 1977—1980 гг. яго старшынёй. У 1976—1978 гг. ініцыятарка стварэньня й галоўная супрацоўніца беларускай рэдакцыі радыё ў Мэльбурне.

**ЯЦЭВІЧ Аляксандар** (псэўд. **Алесь Змагар,** 01.03.1903, в. Цароўка (сёньня в. Кірава Слуцкага р-ну Менскай вобл.) — ?), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстаньні й антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі, быў сябрам Рады БНР. У 1956 г. выехаў у ЗША. Быў актывістам Беларускага вызвольнага руху. Сябра Літаратурнай сустані „Баявая ўскалось“. Аўтар кніг: „Рэпка“ (1946), „Случчакі“ (1947), „Да згоды“ (1962, 1963), „Змагарны шлях“ (1962), „Дзень маці“ (1964), „Вызвольныя шляхі“ (1965), „Лесавікі“ (1973), „Мае ўспаміны“ (1985), „Случчына ў вагні“ (1986).

**ЯЦЭВІЧ Уладыслаў** (12.10.1916, Наваградак (сёньня Гарадзенская вобл.) — 26.09.1988, Галіфакс, Вялікабрытаніі), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Галіфаксе. Парафіянін прыходу Сьв. Спаса ў Брадфардзе. Пахаваны ў Галіфаксе на могілках *Park Wood*.

# БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦЫІ

*Ад часоў, калі Ганна Яраслаўна, унучка Рагнеды, стала французскай каралевай, да сёньня прысутнасьць нашчадкаў крывічоў у Францыі займела ўжо даволі багатую гісторыю. У XVIII ст. у магнацкіх колах Вялікага Княства Літоўскага, як і цэлай Рэчы Паспалітай, была нават мода на ўсё французскае: мову, літаратуру, мастацтва, адзеньне, а таксама й на падарожжы ў гэтую заходнеэўрапейскую краіну. З таго часу захаваліся, напрыклад, успаміны пра навучаньне ў Парыжы Алены Масальскай або рамантычна-трагічная гісторыя Разаліі Хадкевіч, што скончыла жыцьцё на гільятыне. У XIX ст. можна казаць пра першыя адносна колькасныя хвалі эміграцыі зь беларускіх земляў на французскія, што сталіся вынікам паўстаньняў. Сёньня, хоць і павольна, уключаюцца ў нацыянальны дыскурс дакумэнты, успаміны, ліставаньне таго часу, калі было створана Таварыства літоўскае і рускіх зямель, а выхадцы зь беларускіх тэрыторыяў на эміграцыі сталі вылучаць сябе ад палякаў.*

*Але найбольш багатая гісторыя беларускай прысутнасьці ў Францыі датычыць усё ж XX ст., калі ў краіне зьявіліся структуры дыяспары. Ужо ў міжваенны час тут друкаваліся пэрыёдыкі й дзейнічала Аб'еднаньне беларускіх работнікаў у Францыі „Хаўрус“. А пасьля Другой сусьветнай колькасьць арганізаваных асяродкаў і актыўнасьць беларусаў у іх стала даволі заўважнай у агульным калейдаскопе прысутнасьці суайчыньнікаў на Захадзе. Тут можна згадаць і дзейнасьць Рады БНР на чале зь Міколам Абрамчыкам, што жыў у Парыжы, і працу Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду на чале з а. Львом Гарошкам, і часопісы „Божым шляхам“ і „Моладзь“, і беларускія сьвяткаваньні ды багаслужбы 1950-х гг. Колькасьць беларусаў у паваеннай Францыі складала, паводле некаторых зьвестак, прыведзеных ніжэй, каля 4 тысячаў. Яны жылі ня толькі, і ня столькі ў Парыжы, колькі ў рэгіёнах, асабліва ў Паўночнай Францыі й Бургундыі.*

*Памяткі пра беларусаў у Францыі можна знайсьці і на старонках пэрыёдыкаў, і ў розных францускіх архівах. Тым ня менш да сёньня справа стварэньня гісторыі беларускай Францыі застаецца ня вырашанай. Абагульняльных працаў ды нават артыкулаў, якія б комплексна рэпрэзэнтавалі мінулае й сучаснасьць беларускай прысутнасьці ў гэтай краіне, так і ня створана. У выдадзеным у 2010 г. энцыкляпэдычным даведніку „Беларускае замежжа“, як і ў іншых даведніках, беларусы Францыі як самастойная зьява не прадстаўленыя.*

*Так, ёсьць асобныя артыкулы й публікацыі, прысьвечаныя некаторым сюжэтам ці асобам, але няма комплекснага дасьледаваньня. Сярод прычынаў гэтага можна назваць і раскіданасьць, а часам і недастатковую захаванасьць архіўных матэрыялаў, і адрознасьць эміграцыйных хваляў (эміграцыі ў Францыю XIX і XX стст. уяўляюць сабою зусім адрозныя фэномэны, кожны зь якіх патрабуе самастойнага сур’ёзнага вывучэньня). Пры гэтым сёньня жыцьцё эмігрантаў XIX ст., дзякуючы працам Вольгі Гарбачовай, Зьмітра Матвейчыка, вядомае ці ня лепш, як эміграцыя XX ст. У той жа час у архівах БІНіМу ды Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны захоўваюцца цікавыя матэрыялы да гісторыі беларусаў у Францыі, што і абумовіла зварот да такой тэмы ў сёлетніх Запісах.*

*Прадстаўленыя ў гэтым разьдзеле тэксты найбольш закранаюць менавіта паваенную эміграцыю, яе знакавыя постаці: Янку Філістовіча, Лявона Рыдлеўскага, Аўгена Кавалеўскага, а. Льва Гарошку, сям’ю Абрамчыкаў. З гісторыяў гэтых асобаў, іх актыўнасьці, магчыма, з часам і складзецца агульная карціна гісторыі беларускай Францыі.*

***Зьміцер Матвейчык***
*Менск*

# ДЗЁНЬНІК ЮЗАФА ПАТРЫКОЎСКАГА ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ ЭМІГРАЦЫІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПАЎСТАНЬНЯ 1830—1831 ГГ. У ФРАНЦЫІ

XIX стагодзьдзе грае адметную ролю ў жыцьці Эўропы. Яно стала часам, калі адны дзяржавы паўставалі, другія назаўжды зьнікалі. Неверагодныя зьмены на працягу стагодзьдзя ў палітычным ладзе эўрапейскіх дзяржаваў, разьвіцьці капіталістычных адносінаў у эканоміцы, філязофскім асэнсаваньні чалавечага існаваньня беспаваротна й імкліва зьмянялі аблічча Старога Сьвету. Гэтыя зьмены, што часта называюцца „мадэрнізацыяй“, хоць і ў розны ступені, але закранулі ўсе эўрапейскія народы без выключэньня.

Апускаючы характэрныя рысы „мадэрнізацыі“, варта згадаць пра адну, якая мае асаблівую карысьць для гісторыка, — пераход да ўсеагульнай адукацыі як адказ на пытаньне патрэбы новага грамадзтва ў кваліфікаваных кадрах на вытворчасьці (матэрыяльнай і нематэрыяльнай). І хаця ўласна ў XIX ст. „усеагульнасьць“ адукацыі яшчэ не была дасягнутая, але імкненьне да яе пашырэньня відавочнае. Вынікам гэтага стала зьяўленьне ў Эўропе, і ў Беларусі ў прыватнасьці, вялікай колькасьці пісьменных людзей. Тое, што цяперашняму чалавеку здаецца апрыёры зразумелай данасьцю — простае ўменьне чытаць і пісаць, — для чалавека XIX ст. было істотным дасягненьнем эўрапейскай цывілізацыі. І менавіта ў гэтым крыюцца карэньні такой цікавай гістарычнай зьявы, як (гэтак мы б сёньня сказалі) „бум“ мэмуарыстыкі й эпісталярыі ў XIX ст. Ні ў якую больш раньнюю эпоху не пісалася так шмат дзёньнікаў, ўспамінаў і лістоў. Зрэшты й сама зьменлівасьць эпохі стымулявала гэта, выклікаючы ў чалавека пэўны маральны шок і, адпаведна, жаданьне падзяліцца ўражаньнямі са сваімі сучасьнікамі ці з

наступнымі пакаленьнямі. Зь вялікай цяжкасьцю давядзецца шукаць у Эўропе больш-менш важную падзею, якая б не была адлюстраваная ў мэмуарах ці лістах.

Паўстаньні 1794, 1830—1831 і 1863—1864 гг. на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай за яе аднаўленьне — важныя падзеі для народаў, што насялялі гэтыя землі. Адпаведна яны нярэдка й нямала апісваліся сьведкамі-сучасьнікамі, ствараючы тым самым для гісторыка базу для правядзеньня дасьледаваньняў. І хаця створаныя апісаньні моцна розьняцца паміж сабой як глыбінёй, так і падрабязнасьцю (ад бягучых запісаў да ўспамінаў праз некалькі дзесяцігодзьдзяў), аднак яны ўсе фіксуюць і асобныя здарэньні й зьявы, і погляды аўтараў, і чалавечыя эмоцыі. На сёньняшні дзень ніводнае з аб'ёмных глыбокіх дасьледаваньняў грамадзка-палітычнага руху ў Беларусі ў XIX ст. ня можа абысьціся без звароту да мэмуараў удзельнікаў падзей.

Варта зьвярнуць увагу на яшчэ адну акалічнасьць мэмуарных крыніцаў па гісторыі Беларусі XIX ст. — іх шматмоўнасьць. І калі выкарыстаньне тэкстаў на рускай мове, якая ў цяперашні час зьяўляецца адной зь дзяржаўных у Рэспубліцы Беларусь, у дасьледаваньнях айчынных гісторыкаў асаблівых складанасьцяў не выклікае, то мэмуары ў іншых мовах (у першую чаргу ў польскай) да гэтага часу выкарыстоўваюцца ня ўсімі[1]. Варыянтаў выйсьця з гэтага бачыцца некалькі. Адзін зь іх — ак-

[1] Асабліва гэта характэрна для гісторыкаў т. зв. „заходнерусісцкай“ плыні. Напрыклад, адзін зь яе прадстаўнікоў Алег Карповіч, апісваючы склад і дзейнасьць „паўстанцкіх арганізацыяў“ Віцебскай губэрні ў 1863 г. (Гл.: Карпович, Олег Состав и деятельность повстанческих организаций 1863 г. в Витебской губернии // Віцебскія старажытнасці: матэрыялы навук. канф. / рэдкал.: Г.У. Савіцкі [і інш.]. Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2013. С. 62—65), нават не спрабуе выкарыстоўваць успаміны галоўнага паўстанцкага „адміністратара“ ў Беларусі й Літве вясны—лета 1863 г. — старшыні Аддзелу кіраваньня правінцыямі Літвы Якуба Гейштара, — дзе пералічваюцца (хаця й ня ўсе) асобы, што дзейнічалі ў Віцебскай губэрні напярэдадні й падчас выступленьня, а таксама даецца ім характарыстыка (Гл.: Gieysztor, J. Pamiętniki z lat 1857—1865. W 2 t. T. 1. Wilno, 1913. S. 254—256, 261). З польскамоўных выданьняў у гэтым артыкуле ўжываецца толькі адна праца Станіслава Ланеца, на якую ў тэксьце маецца толькі адна спасылка. Гэта разам зь недастатковым выкарыстаньнем і часта незразумелай інтэрпрэтацыяй архіўных крыніцаў і вызначыла шматлікія пропускі, факталягічныя памылкі й непацьверджаныя (некаторыя да анэкдатычнасьці) высновы, і як вынік — нізкую навуковую вартасьць усяго артыкула.

тывізацыя перакладніцкай дзейнасьці беларускіх філёлягаў і гісторыкаў, тым больш, што пэўныя посьпехі на гэтай глебе ў апошнія гады ўжо ёсьць. Напрыклад, Вольгай Гарбачовай перакладзеныя ўспаміны Ігната Клюкоўскага[2] й Яўстаха Янушкевіча[3], Ганнай Суднік-Матусевіч — лісты Адольфа Янушкевіча[4], Язэпам Янушкевічам — лісты Станіслава Манюшкі[5] й г. д. Аднак стварэньне цэлай „індустрыі“ перакладаў, чаго б патрабавалі сотні польскамоўных мэмуараў і эпісталярных комплексаў па гісторыі Беларусі XIX ст., з улікам цяперашняй сытуацыі застаецца толькі ў сфэры нязбыўных пажаданьняў. Таму больш рэалістычным бачыцца другі варыянт выйсьця — вывучэньне й веданьне польскай ды іншых замежных моваў айчыннымі дасьледнікамі гісторыі Беларусі XIX ст., бо ў адваротным выпадку іх працы будуць заставацца няпоўнымі й аднабаковымі. Аднак і першы, і другі варыянты не пазбаўляюць гісторыкаў абавязку выяўленьня і ўвядзеньня ў навуковы ўжытак раней невядомых мэмуараў ці пашырэньня зьвестак пра ўжо вядомыя для актывізацыі іх выкарыстаньня ў навуковых распрацоўках. Менавіта на дапамогу ў вырашэньні гэтай праблемы й скіраваны гэты артыкул.

Паўстаньне 1830—1831 гг. выклікала эміграцыю каля 9 тыс. яго ўдзельнікаў, зь якіх каля 1500—1700 чалавек паходзілі зь Беларусі й Літвы. Сярод іх знаходзілася вялікая колькасьць добра адукаваных людзей — чыноўнікаў, буйных памешчыкаў ці іх дзяцей, прадстаўнікоў г. зв. „інтэлектуальных“ прафэсіяў, вучнёўскай моладзі, у тым ліку студэнтаў Віленскага ўнівэрсытэту, і да т. п. Гэта стварала глебу для актыўнай мэмуарнай творчасьці па-за межамі радзімы ў былых паўстанцаў. Тым больш, што для гэтага меліся й такія перадумовы, як: папершае, кардынальнае зьмяненьне ладу жыцьця эмігрантаў, а зна-

---

[2] За вольнасць і веру. Ігнацій Клюкоўскі і яго ўспаміны пра падзеі паўстання 1830—1831 гадоў: На польскай і беларускай мовах / укл., перакл., камент. В. В. Гарбачовай. Мінск: Лімарыус, 2007. — 120 с.

[3] Янушкевіч, Яўстафій. Успаміны (1805—1831) / уклад., пер. з пол. мовы, уступ. арт., камент., паказ. В.В. Гарбачовай. Мінск: Лімарыус, 2011. — 256 с.: іл. — (Беларуская мемуарная бібліятэка).

[4] Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго Лісты з кіргіскіх стэпаў. Т. I / пер. з пол. мовы, прадм. і камэнт. Г. Суднік-Матусевіч. Мінск: Медисонт, 2008. — 208 с.

[5] Манюшка, Станіслаў. Ліставанне = Korespondencja : 1826—1851. укладальнік, [прадмова, пераклад, каментар, паказальнікі]: Язэп Янушкевіч. Мінск: Смэлтак, 2010. — 303 с., [4] л. іл.

чыць, эмацыйны ўсплёск; па-другое, наяўнасьць у іх вольнага часу, бо надзеі на хуткае ўзнаўленьне ўзброенай барацьбы аказаліся марнымі; і па-трэцяе, адсутнасьць у эўрапейскіх краінах жорсткай цэнзуры на пісьмовыя творы, што дазваляла выказвацца ў іх дастаткова свабодна.

Урадлівая глеба не прымусіла доўга чакаць плёну. Ужо напрыканцы 1831 г. Таварыства літоўскае й рускіх зямель (далей — ТЛРЗ), што ўтварылася ў Парыжы, пачало працу па падрыхтоўцы ўспамінаў пра падзеі паўстаньня 1830—1831 гг. на землях Беларусі, Літвы й Украіны. Вынікам стаў збор мэмуараў зь некалькіх дзясяткаў твораў, большая частка якіх была апублікаваная ў 1830—1840-х гг. Апрача гэтага, зборам мэмуараў пра паўстаньне займалася Гісторыка-літаратурнае таварыства. Шматлікія эмігранты стваралі й публікавалі свае мэмуары паводле ўласнай ініцыятывы[6].

Разьвіцьцё падзеяў вяло паступова да таго, што эмігранты ад апісаньня дзейнасьці падчас паўстаньня пераходзілі да дзёньнікаў і ўспамінаў пра сваё жыцьцё на чужыне. Менавіта такім чынам быў створаны новы пласт эміграцыйнай літаратуры, якая да цяперашняга часу зьяўляецца аб'ектам увагі з боку дасьледнікаў. Яго прадстаўнікамі былі такія вядомыя ўраджэнцы Беларусі, як Ігнат Дамейка („Мае падарожжы. Успаміны выгнаньніка“)[7], Юльлян Урсын-Нямцэвіч („Успаміны. Дзёньнік знаходжаньня за мяжой“)[8] і шматлікія іншыя. У гэтым шэрагу мэмуарыстыкі стаіць і дзёньнік Юзафа Патрыкоўскага „Блуканьне палякаў у Францыі“.

Перш чым перайсьці ўласна да самога дзёньніка, варта прыглядзецца да аўтара й прывесьці некаторыя біяграфічныя зьвесткі пра яго.

---

[6] Больш падрабязна пра эміграцыю ўдзельнікаў паўстаньня зь Беларусі й Літвы гл.: Матвейчык, Дз. Выгнаныя з роднага краю: Пасьлялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830—1870-я гады). Мінск: Лімарыус, 2011. — 200 с. : іл.; пра збор і публікацыю мэмуараў больш падрабязна гл.: Гарбачова, В. Мемуарная спадчына паўстанцаў 1830—1831 гг. // Arche Пачатак. 2014. № 1—2 (Гісторыя Беларусі XIX ст. у мемуарах). С. 130—151.

[7] Domeyko, I. Moje podróże. Pamiętniki wygnańca / wyd. E. H. Nieciowa. T. 1—3. Wrocław, etc.: Zakład Narodowy imienia Ossolińskich, 1962—1963; пераклад на беларускую мову гл.: Дамейка, І. Мае падарожжы: Успаміны / пер. з пол. З. Сіцько; прадм. К. Цвіркі. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. — 496 s.

[8] Niemcewicz-Ursyn, J. Pamiętniki. Dziennik pobytu za granicą. Od dnia 21 lipca 1831 r. do 20 maja 1841 r. T. 1—2. Poznań, 1876—1877.

Юзаф-Альфонс-Тэафіл[9] Патрыкоўскі нарадзіўся 14 сакавіка 1805 г. у в. Старынкі Слонімскага павету Гарадзенскай губэрні й быў сынам Алаізія ды Барбары Банклеўскай. Пра ягоныя дзіцячыя й юнацкія гады зьвестак не захавалася. Вядома, што напярэдадні паўстаньня хлопец вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце, дзе атрымаў ступеню кандыдата філязофіі. Пасьля таго, як паўстаньне выбухнула ў Варшаве і ўвесну 1831 г. пачало ўсё больш шырыцца па тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, Патрыкоўскі 2 красавіка пакінуў Вільню разам з атрадам студэнцкай моладзі, які складаўся зь некалькіх соцень чалавек і ўзначальваўся выкладчыкам унівэрсытэту, ураджэнцам Беларусі ды аднагодкам Патрыкоўскага Валерыянам Пяткевічам. Удзел Патрыкоўскага ў паўстаньні ня быў пасіўным. Ён удзельнічаў у сутычцы ля мястэчка Шадаў Ковенскага павету ды яшчэ некалькіх на тэрыторыі сучаснай Літвы. За сваю актыўнасьць Патрыкоўскі паступова павышаўся па службе — 12 красавіка атрымаў чын падафіцэра, 12 траўня — падпаручніка ў складзе літоўскіх паўстанцкіх атрадаў. У бітве ля горада Райгарад 29 траўня трапіў у палон да расейскіх войскаў, зь якога здолеў хутка й пасьпяхова ўцячы ды далучыцца да польскага рэгулярнага войска. У ім Патрыкоўскі служыў, пачынаючы ад чына шарагоўца, 9 чэрвеня атрымаў чын падафіцэра, 9 ліпеня — падпаручніка; удзельнічаў у бітвах за Вільню (19 чэрвеня), пад Плембаргам (5 ліпеня), пад Шаўлямі (8 ліпеня), дзе паранены куляй у правую нагу. 15 ліпеня з корпусам генэрала

---

[9] Наконт трэцяга імя ў гістарычнай літаратуры існуюць розначытаньні. У яго біяграфічным нарысе аўтарства Ганны Аўсінскай трэцім імем называецца Драгамір (Гл.: Owsińska, A. Józef Alfons Drogomir Potrykowski. Życie i działalność // Potrykowski, J.A. Tułactwo polaków we Francji. Dziennik emigranta / wstęp i opracowanie Anny Owsińskiej. T. 1. Kraków: Wydawnictwo literackie Kraków, 1974. S. 7—31). Аднак у больш позьнім „Біяграфічным слоўніку афіцэраў лістападаўскага паўстаньня“ Робэрта Бялецкага яго трэцім імем называецца менавіта Тэафіл, і пры гэтым яго стрыечны брат мае падвойнае імя Францішак-Драгамір (Bielecki, R. Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. T. 3. Warszawa, 1998. S. 331—332). У сувязі з тым, што „Слоўнік“ Бялецкага пісаўся ў больш позьні час і на падставе большага кола крыніц, у тым ліку й дзёньніка Патрыкоўскага, найбольш верагодна, што варта давяраць варыянту Бялецкага. Тым болей, што ў артыкуле Г. Аўсінскай у Польскім біяграфічным слоўніку Патрыкоўскі пададзены ўжо толькі з двума імёнамі — Юзаф-Альфонс (Гл.: Owsińska, A. Potrykowski Józef Alfons // Polski Słownik Biograficzny (далей — PSB). T. XXVIII. Wrocław, etc., 1984—1985. S. 240—241).

Дэзыдэрыя Хлапоўскага Патрыкоўскі перайшоў у Прусію й там быў інтэрнаваны. Ад таго часу пачаўся эміграцыйны этап ягонага жыцьця, які расьцягнуўся на некалькі дзесяцігодзьдзяў — да апошніх дзён[10].

Да канца 1831 г. Патрыкоўскі знаходзіўся ў ваколіцах Караляўца (Кёнігсбергу) разам зь вялікай колькасьцю іншых інтэрнаваных паўстанцаў. Адмовіўшыся ад царскай амністыі, 1 студзеня 1832 г. ён рушыў у Францыю ў спадзяваньнях, што хутка выбухне яе вайна з Расеяй, у выніку чаго барацьба за аднаўленьне Рэчы Паспалітай узновіцца й эмігранты змогуць вярнуцца на радзіму. Праз усю Нямеччыну ён перайшоў у Францыю, якая й стала новай краінай ягонага жыцьця. Спачатку ён быў паселены ў вялікай калёніі для эмігрантаў зь земляў былой Рэчы Паспалітай у горадзе Бэзансон у паўднёва-ўсходняй Францыі, у 1833 г. падчас расьсяленьня вялікіх калёніяў пераведзены ў горад Кан (*Caen*) дэпартамэнту Кальвадос ў Нармандыі. Верагодна, у 1837 г. ён перасяліўся ў Парыж, дзе жыў да канца жыцьця. У 1835 ці 1837 г. Патрыкоўскі ажаніўся ў Кане з француженкай Элізай Лепэер, зь якой меў некалькі дзяцей.

У Парыжы Патрыкоўскі паступіў на навучаньне ў Каралеўскую горную школу, якую скончыў 8 жніўня 1843 г.[11] з атрыманьнем прафэсіі „грамадзянскага горнага інжынэра“, аднак ніводнага дня не працаваў па спэцыяльнасьці. У гэтым жа 1843 г. ён выступіў з праектам пакінуць „польскім“ эмігрантам Францыю й заснаваць калёнію ў Паўночнай Амэрыцы й нават пісаў для яе праект канстытуцыі. Безумоўна, гэты праект застаўся не падтрыманым землякамі й нерэалізаваным.

Што тычыцца палітычных поглядаў Патрыкоўскага, то тут ён адназначна заставаўся рэспубліканцам. Пры гэтым свае пазыцыі захоўваў пасьлядоўна, у адрозьненьне ад шматлікіх эмігрантаў, якія пад уплывам матэрыяльных цяжкасьцяў ці маральных фактараў нярэдка зьмянялі сваю падтрымку таму ці іншаму палітычнаму лягеру. У „Маіх думках пра Польшчу“ ён пісаў у 1854 г. *„Я — рэспубліканец, і нічога мяне з гэтай дарогі, абранай доўгім вопытам і глыбокай развагай,*

[10] Удзел у паўстаньні менавіта на тэрыторыі сёньняшняй Літвы зьяўляецца найбольш верагоднай прычынай, чаму не ўдалося выявіць дакумэнты пра Патрыкоўскага ў сховішчах гістарычных архіваў у Беларусі — у Менску й Горадні.

[11] Konarska, B. Polskie drogi emigracyjne. Emigranci polscy na studiach we Francji. 1832—1848. Warszawa, 1986. S. 373; Pezda, J. Emigranci polscy na studiach we Francji w latach 1832—1848. Uzupełnienia i sprostowania biograficzne do książki Barbary Konarskiej „Polskie drogi emigracyjne“ // Akta Towarzystwa Historyczno-Literackiego w Paryżu. T. 1. Paryż: Biblioteka Polska, 1991. S. 160.

*зьвесьці ня здолее*“[12]. Яшчэ напачатку эміграцыі ў 1832 г. Патрыкоўскі выказаўся ў падтрымку Польскага нацыянальнага камітэту (*Komitetu Narodowego Polskiego*)[13], які ўзначальваў Яўхім Лялевель і ў склад якога ўваходзілі эміграцыйныя рэспубліканцы. У 1837 г. ён уступіў у Аб’яднаньне польскай эміграцыі (*Zjednoczenie Emigracji Polskiej*) — яшчэ адну арганізацыю зь Лялевелем на чале, і нават рэдагаваў яго орган — газэту „Карэспандэнт польскай эміграцыі“ (*Korespondent Emigracji Polskiej*), што выходзіла кароткі час. Аднак радыкалам Патрыкоўскі ня быў ніколі, наадварот, яго ўспаміны, асабліва за 1832—1834 гг., напоўненыя сарказмам і нелюбоўю да дэмакратаў, якіх ён часта малюе пустаслоўнымі крыкунамі, п’яніцамі, баламутнікамі й да т. п.[14]

З рэспубліканізмам і сталымі сувязямі з колам Яўхіма Лялевеля, якое не вылучалася ў эміграцыі наяўнасьцю значных фінансавых сродкаў, магчыма, зьвязана й сталае складанае матэрыяльнае становішча, у якім знаходзіўся Патрыкоўскі зь сям’ёй на працягу амаль усяго жыцьця ў Францыі. Напрыклад, дзёньнік за 1841 г. ён пачынае са словаў *„Новы Год, а я без ботаў, у цалкам парваных чаравіках я нават на крок не магу выйсці з жытла“*[15]; першы запіс за 1850 г. гаворыць пра такую ж сытуацыю: *„У доме ані гроша“*[16]. Зь нястачай зьвязана тое, што ён часта зьвяртаўся (пераважна, беспасьпяхова) па дапамогу да розных арганізацыяў і быў гатовы супрацоўнічаць нават зь некаторымі інстытуцыямі кансэрватараў, напрыклад, рабіў выпіскі для Таварыства навуковай дапамогі ці зьяўляўся карэспандэнтам кракаўскай кансэрватыўнай газэты „Час“ („*Czas*“). Увогуле, скаргі на адсутнасьць грошай сустракаюцца ў дзёньніку рэгулярна.

[12] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków... T. 2. S. 513.

[13] Całoroczne trudy Komitetu Narodowego Polskiego na dniu 8 grudnia 1831 r. we Francji zawiązanego. Paryż, 1831—1833. S. 209.

[14] Стэфанія Сакалоўска сьцьвярджае, што Патрыкоўскі ў 1840-х гг. уваходзіў у склад кансэрватыўнай эміграцыйнай арганізацыі Таварыства трэцяга траўня, і менавіта дзякуючы гэтаму ягоныя зборы трапілі ў Бібліятэку Чартарыйскіх (Гл.: Sokołowska, S. Młoda Polska. Z dziejów ugrupowań demokratycznych Wielkiej Emigracji. Wrocław: Wydawnictwo Polskiej Akademii Nauk, 1972. S. 5). Аднак тут яна памылкова ідэнтыфікуе, на падставе сьпісу сяброў Літоўска-рускага клюбу, Патрыкоўскага зь ягоным стрыечным братам Альфонсам, які сапраўды ў эміграцыі падтрымліваў лягер Адама Чартарыйскага (Гл.: Bielecki, R. Słownik biograficzny... T. 3. S. 331).

[15] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków... T. 1. S. 267.

[16] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków... T. 2. S. 8.

Магчыма таксама, што рэспубліканскімі поглядамі й сувязямі з французскай левіцай тлумачыцца яго часовае зьняволеньне. Невядома, калі ён туды трапіў, але ў 1848 г. быў вызвалены.

Першая палова 1850-х гг. была для Патрыкоўскага часам пэўнай матэрыяльнай стабілізацыі. Яму ўдавалася зарабляць як карэспандэнту розных польскамоўных выданьняў, а ад 1 студзеня 1854 г. ён стаў службоўцам Нацыянальнага банку ў Парыжы. Зь іншага боку, пачатак Крымскай вайны выклікаў спадзяваньні на пастаноўку „польскага“ пытаньня. Аднак другая палова 1850-х гг. прынесла новыя расчараваньні й беды. Заключэньне міру паміж эўрапейскімі дзяржавамі й Расеяй ставіла крыж на хуткім адраджэньні Рэчы Паспалітай, і ўвогуле пытаньне пра гэта адводзіла далёка не на першы плян сусьветнай палітыкі. Апрача таго, амністыя, абвешчаная Аляксандрам II у 1856 г. і прынятая значнай часткай эмігрантаў, у тым ліку стрыечным братам Альфонсам і двума сынамі ўжо памерлага стрыечнага брата Францішка-Драгаміра, ставіла пад сумнеў мэтазгоднасьць мінулага й цяперашняга знаходжаньня на чужыне. Да вышэй згаданага трэба яшчэ дадаць сьмерць стрыечнага брата Францішка ў лютым 1856 г., жонкі ў кастрычніку 1858 г. і цяжкую хваробу сына Вітальда, які ад нараджэньня быў паўсьляпы й таму ня мог знайсьці заробку. Апошнія запісы ў дзёньніку Патрыкоўскага датуюцца 1859 г. і напоўненыя пэсімізмам і безнадзейнасьцю. Ён памёр у жніўні 1863 г. у Парыжы, і ягоная сьмерць аказалася практычна не заўважанай землякамі. Увага эміграцыі была прыкаваная да падзеяў паўстаньня 1863—1864 гг.[17].

Тут жа неабходна згадаць пра яшчэ адну важную заслугу Патрыкоўскага. У эміграцыі ён зьяўляўся ня толькі мэмуарыстам, але й актыўным зьбіральнікам дакумэнтаў. Значная частка ягоных збораў дайшла да нашага часу й цяпер знаходзіцца ў Бібліятэцы Чартарыйскіх. Менавіта ў іх захаваўся адзін з рукапісаў Таварыства братэрскага аб’яднаньня (далей — ТБА), які трапіў да Патрыкоўскага ў сувязі з тым, што ён зьяўляўся сакратаром таварыства падчас апошняй спробы ўзнаўленьня ягонай дзейнасьці[18] (пра гэтага гл. ніжэй). Апрача таго, ім жа былі

[17] Больш падрабязна пра Юзафа Патрыкоўскага гл. біяграфічны нарыс аўтарства Ганны Аўсінскай: Owsińska, A. Józef Alfons Drogomir Potrykowski. Życie i działalność…

[18] Biblioteka Czartoryskich (далей — B. Czart.). Rkps 5331. Tułactwo Polaków we Francji. Rada Wojskowa, akta, ekspedycje, Towarzystwo Zjenoczenia w Besançon. 1832—1833. K. 477—531.

зробленыя (верагодна, ужо ў часе парыскага пэрыяду свайго жыцьця) копіі дакумэнтаў пасяджэньняў ТЛРЗ за першы год дзейнасьці[19]. Пры гэтым копія Патрыкоўскага значна бліжэйшая да арыгіналу ў параўнаньні зь іншай вядомай копіяй, створанай у пачатку XX ст. віленскім гісторыкам Людвікам Яноўскім, якая зьмяшчае некаторыя пропускі й недакладнасьці. Таму дзякуючы ў значнай ступені менавіта руплівасьці Патрыкоўскага да цяперашняга часу захаваўся пласт крыніцаў, на падставе якіх магчыма дасьледаваць спробы афармленьня г. зв. „ліцьвінскай плыні“ Вялікай эміграцыі.

Дзёньнік Юзафа Патрыкоўскага выдадзены Ганнай Аўсінскай у 1974 г. у Кракаве пад назвай „Блуканьне палякаў у Францыі. Дзёньнік эмігранта“[20]. Сам твор да таго часу не ўяўляў адзінага тэксту й быў складзены выдаўцом з васьмі рукапісаў нататак Патрыкоўскага, што захоўваюцца ў цяперашні час у Бібліятэцы князёў Чартарыйскіх у Кракаве. Апускаючы розныя акалічнасьці падрыхтоўкі рукапісу да выданьня (яны апісаны падрабязна ва ўступных артыкулах да публікацыі), варта адзначыць, што абраная для яго назва зьяўляецца арыгінальнай — менавіта так называюцца два з вышэй згаданых рукапісаў.

Храналягічныя межы дзёньніка — ад 1 студзеня 1832 г. да 24 лютага 1859 г. Аднак гэта толькі скрайнія даты, бо ў ім ёсьць шматлікія й працяглыя перапынкі — ад 1 красавіка 1834 г. да 1 траўня 1836 г., ад 3 ліпеня 1836 г. да 8 траўня 1848 г. (за выключэньнем 1 і 2 студзеня 1841 г.), ад 25 жніўня 1848 г. да 31 сьнежня 1849 г., ад 14 лютага 1850 г. да 31 сьнежня 1853 г. (за выключэньнем 12 сакавіка 1853 г.). Апрача таго, трапляюцца таксама прабелы часам да некалькіх месяцаў унутры

[19] B. Czart. Rkps. 5356. Organizacja Towarzystwa Litewskiego. Protokoły posiedzeń z lat 1831—1832. Менавіта гэты комплекс быў выкарыстаны прафэсарам Анджэем Новакам пры напісаньні аднаго з артыкулаў пра дзейнасьць ТЛРЗ: Nowak, A. Emigracyjne Towarzystwo Litewskie i Ziem Ruskich (1831—1833) w laboratorium rozpadu „przednowoczesnego“ narodu Rzeczypospolitej // Nowak, A. Od Imperium do Imperium. Spojrzenia na historię Europy Wschodniej. Kraków, 2004. S. 196—223. Больш падрабязна пра рукапісы ТЛРЗ і ТБА гл.: Матвейчык, Д. Рукапісныя дакументы Таварыства Літоўскага і Рускіх Зямель і Таварыства Братэрскага Аб’яднання ў бібліятэчных сховішчах Польшчы // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 8. Мінск: БелНДІДАС, 2008. С. 89—102.

[20] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków we Francji. Dziennik emigranta / wstęp i opracowanie Anny Owsińskiej. T. 1—2. Kraków: Wydawnictwo literackie Kraków, 1974.

апісаных храналягічных прамежкаў. Пры гэтым цяжка сказаць, адкуль узяліся такія значныя прабелы — запісы не вяліся Патрыкоўскім ці яны проста не захаваліся да нашых дзён. Верагодна, тут мае месца як адзін, так і другі фактар. Напрыклад, нататкі за 1850 г. пачынаюцца словамі: *„Прыпыненыя на доўгі час мае ўспаміны я пачынаю нанова з моцным намерам працягваць іх і ўтрымліваць, наколькі магчыма, у парадку“*, аднак пасьля 13 лютага яны раптоўна абрываюцца, прычым у апошніх запісах няма нават намёку на прычыны абрыву. Падобныя меркаваньні выказвала таксама й Ганна Аўсінска, якая ў камэнтары да адзінага запісу за 1853 г. пісала: *„Цяжка вызначыць, ці гэта рэштка загінуўшай партыі, ці асобная нататка“*.

Найбольш падрабязна апісаныя ў дзёньніку падзеі за 1832—1834 і 1854—1859 гг. Падзённыя запісы за гэтыя гады рэдка (у параўнаньні зь іншымі гадамі) перарываюцца й колькасьць зьвестак, якія падаюцца за адзін дзень, дастаткова значная.

Да дзёньніка падрыхтаваныя 13 дадаткаў, куды вынесеныя некаторыя публіцыстычныя творы аўтарства Патрыкоўскага й асобныя важныя дакумэнты, што згадваюцца ў тэксьце. Некаторыя зь іх маюць значны аб’ём, напрыклад, твор пад назвай „Мае думкі пра Польшчу. Год 1854“ займае 20 старонак. Агулам дадаткі складаюць істотную частку публікацыі й расьцягваюцца амаль на 100 старонак тэксту.

Да моцных бакоў публікацыі варта аднесьці яшчэ й праведзеную карпатлівую працу над навукова-даведачным апаратам. Дзёньнік забясьпечаны ня толькі грунтоўным уступным артыкулам з трох частак („Юзаф Альфонс Драгамір Патрыкоўскі. Жыццё і дзейнасьць“, „Дзёньнік Ю.А. Патрыкоўскага“, „Заўвагі выдаўца“), які займае агулам каля 40 старонак тэксту й мае ўласную навуковую каштоўнасьць, але й біяграфічнымі даведкамі пра шматлікіх згаданых у ім асобаў, у тым ліку й прадстаўнікоў эміграцыі, і заходнеэўрапейскіх палітыкаў і чыноўнікаў. Істотна аблягчае выкарыстаньне твора ў дасьледаваньнях наяўнасьць геаграфічнага й (яшчэ больш важнага) асабовага паказьнікаў (напрыклад, у асабовым паказьніку больш за 3 тыс. пазыцыяў).

Ганна Аўсінска зьвяртае асобную ўвагу на дзёньнік як на *„цікавы дакумэнт польскай мовы XIX стагодзьдзя“*, адной з асаблівасьцяў якой ёсьць *„пэўныя налёты віленскага дыялекту“*[21].

[21] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 41.

Зьмест дзёньніка дастаткова разнастайны. Апісаньне падзеяў, што адбываюцца вакол і сьведкам якіх ён быў, зьяўляецца для Патрыкоўскага важным. Тут і штодзённыя праблемы беднага выгнаньніка, і сямейныя акалічнасьці свае й сваіх землякоў, і палітычныя падзеі ў Францыі, прычым часам вельмі дробныя, і ўласныя думкі пра тыя ці іншыя захады ўладаў ці дзеяньні эмігрантаў, і разважаньні пра мінуўшчыну й будучыню Польшчы, і цытаты з пэрыядычных выданьняў, і шмат чаго іншага. Аднак сярод усёй разнастайнасьці зьместу, варта спыніцца на некаторых момантах, якія зьяўляюцца асабліва карыснымі для дасьледнікаў эміграцыі.

Увагі гісторыка заслугоўвае паведамленьне Патрыкоўскага пра прычыны эміграцыі такой вялікай, нябачанай раней колькасьці ўдзельнікаў антырасейскага змаганьня. У агульных развагах пра пераход былых паўстанцаў праз Нямеччыну ён піша: *„Мы выехалі з Караляўца ўсе вясёлыя, бо мы накіроўваліся ў Францыю, а нам казалі, што французы — у вайне з маскалямі, і што польскія легіёны павінны фарміравацца адразу пасьля нашага прыбыцьця. Таму мы сьпяшаліся ў гэтую Францыю стрымгалоў, і ніякая сіла, ніякая магутнасьць не былі здольныя затрымаць нас у адным месцы даўжэй, чым таго вымагала патрэба“*[22].

Для дасьледніка дзейнасьці былых паўстанцаў зь Беларусі й Літвы ў першую чаргу будуць цікавымі зьвесткі пра дзьве арганізацыі г. зв. „ліцьвінскай плыні“ — Таварыства братэрскага аб’яднаньня й Таварыства літоўскага й рускіх зямель — і пра супярэчнасьці паміж „ліцьвінамі“ й „караняжамі“ ў калёніі ў Бэзансоне.

Паведамленьні пра згаданыя супярэчнасьці цалкам адсутнічаюць у падрабязных падзённых запісах Патрыкоўскага падчас амаль двухмесячнага падарожжа праз Нямеччыну ў студзені — лютым 1832 г., але пачынаюць трапляцца ўжо ў першыя тыдні знаходжаньня эмігрантаў у Бэзансоне. Першая зь іх датуецца 13 сакавіка — усяго праз 10 дзён пасьля прыбыцьця ў калёнію: *„Усё большыя сваркі паміж старымі й новымі вайскоўцамі. Старыя, зьдзекуючыся, называюць маладых „паўсталыя“, а маладыя старых „палеглыя“. Такі ж самы разлад паміж ліцьвінамі й караняжамі*[23]. На працягу сакавіка й красавіка 1832 г. такія паведамленьні зьяўляюцца рэгулярна кожныя некалькі дзён: *„сваркі й нязгоды паміж караняжамі й палякамі з іншых правінцый усё большыя“* (15 сакавіка), *„гэтыя адозвы (ТЛРЗ — **З.М.**) былі дрэнна прыняты ў „калёніі“, асабліва караняжамі“* (24 сакавіка), *„пра-*

[22] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 80.

[23] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 97.

*вінцыяналізм закраўся паміж намі. Караняжы прасьледаваць пачалі ліцьвінаў, называючы іх „паўсталыя“, ліцьвіны ў адказ зьдзекавацца пачалі з караняжаў, называючы іх „палеглыя“*“[24] й *„пасьля збору калон Яновіч*[25] *стараўся адразу разьдзяліць на палякаў і ліцьвінаў, на старых і новых афіцэраў, на студэнтаў і вайскоўцаў, а праз гэта павялічваліся сваркі, нянавісьці й найбольшыя прасьледаваньні“* (абедзьве — падсумаваньне сакавіка), *„Кайсевіч*[26] *чытаў вершы пра разрозьненасьць у „калёніі“ паміж палякамі й ліцьвінамі“* (5 красавіка) і некалькі іншых. Аднак ужо пачынаючы ад траўня падобныя згадкі ўсплываюць рэдка й не ў такой эмацыйнай афарбоўцы, напрыклад, *„усё большыя непаразуменьні паміж караняжамі й ліцьвінамі“* (11 лістапада 1832 г.), *„сваркі няспынныя старых вайскоўцаў з пасьлярэвалюцыйнымі, караняжаў зь ліцьвінамі, афіцэраў са студэнтамі й інш.“* (падсумаваньне за верасень 1833 г.).

Пра дзейнасьць ТЛРЗ Патрыкоўскі згадвае ў некалькіх запісах за сакавік і красавік 1832 г. Першы зь іх — ад 24 сакавіка — зьмяшчае толькі кароценькае паведамленьне пра заснаваньне таварыства, пры ім — Літоўскага вайсковага камітэту, і прысылку акта заснаваньня, статута, адозвы й інш. у Бэзансон[27]. Больш цікавым зьяўляецца другое паведамленьне — ад 19 красавіка 1832 г. пра прыезд капітана Міхала Лісецкага, які быў высланы ў Безансон ад ТЛРЗ з мэтай пошуку падтрымкі для таварыства ў францускіх правінцыях і збору зьвестак пра „ліцьвінаў“ і „русінаў“, што там знаходзіліся. Пры гэтым паведамленьне Патрыкоўскага не супярэчыць справаздачы Лісецкага ў Парыжы пасьля вяртаньня і дапаўняе яе[28]. Цікава таксама апісаны Патрыкоўскім

[24] Частковы паўтор фразы тлумачыцца фарміраваньнем дзёньніка для выданьня зь некалькіх рукапісаў на падставе розных варыянтаў нататак Патрыкоўскага ў яго зборах.

[25] Палкоўнік Алаізі Яновіч зьяўляўся камэндантам калёніі эмігрантаў у Бэзансоне.

[26] Геранім Кайсевіч зьяўляўся аўтарам некалькіх паэтычных твораў на пачатку эміграцыі. У далейшым ён набыў вядомасьць як адзін з заснавальнікаў эміграцыйнага Таварыства ўваскрэшанцаў, куды ўваходзілі польскія сьвятары й якіх часам нават называлі польскімі езуітамі.

[27] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków... T. 1. S. 101—102.

[28] Пратакол ТЛРЗ са справаздачай гл.: Biblioteka Narodowa (далей — BN). Rkps. II.7871. Odpisy dokumentów Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich z lat 1831—1836. K. 109; B. Czart. Rkps. 5356. Organizacja Towarzystwa Litewskiego. Protokoły posiedzeń z lat 1831—1832. K. 99.

выпадак, калі ТЛРЗ стала нават прадметам, празь які адбыўся паядынак падпалкоўніка Вінцэнта Матушэвіча з афіцэрам Шылінгам[29]. Ня меншую ўвагу павінен выклікаць і запіс ад 1 студзеня 1834 г. пра вышэй згаданага Міхала Лісецкага й пра ягоную незадаволенасьць ТЛРЗ (калі таварыства ўжо ня дзейнічала): *„Лісецкі Міхал найбольш гневаўся на Таварыства Літоўскае (як ён называў), што дзейнічае без яго ўлады, гаворачы, што «і мы былі, гаварылі і дзейнічалі ў Літве. Цікава, чаму сёння нічога не ведаем»“*[30].

Дзёньнік зьяўляецца адной з трох крыніц, зь якога вядома пра публічнае паседжаньне ТЛРЗ 25 сакавіка 1833 г. з нагоды другой гадавіны паўстаньня ў Літве, Беларусі й Украіне[31]. Пры гэтым запіс Патрыкоўскага, падобны ў пераліку прамоўцаў ды прысутных і апісаньні агульнай хады мерапрыемства, адрозьніваецца ад артыкула Адама Міцкевіча[32] й пратаколу ТЛРЗ ад 31 сакавіка 1833 г.[33] Галоўныя адрозьненьні — дастаткова падрабязнае апісаньне прамовы дырэктара Вышэйшай гандлёвай школы ў Парыжы Адольфа Бланкі, чаго няма ў іншых крыніцах, і адсутнасьць крытыкі *„нязгодных з духам таварыства“* прамоваў ды парадку правядзеньня ўсяго мерапрыемства, што ў іншых крыніцах складае асноўную частку. Верагодна, Патрыкоўскі атрымаў зьвесткі ў дастаткова далёкім ад Парыжу Бэзансоне зь ліста кагосьці з удзельнікаў, высланага адразу пасьля правядзеньня, і ўжо пазьней зрабіў адпаведны допіс у дзёньнік.

У дадатках да дзёньніка зьмешчаны два дакумэнты — „Копія пратаколу арганізацыйнага паседжаньня Літоўскага вайсковага камітэту ад 18 сакавіка 1832 г. і „Абвяшчэньне Літоўскага вайсковага камітэту ў Парыжы па справе зацьверджаньня афіцэрскіх чыноў“ ад 21 сакавіка. Створаны сябрамі ТЛРЗ камітэт браў на сябе абавязак *„выданьня афіцыйных пасьведчаньняў, а таксама прызнаньня чыноў, атрыманых падчас рэвалюцыі 1831 г. усім тым, якія ня маюць на гэта аніякіх доказаў, але будуць зьвяртацца па іх у Камітэт“*[34]. Аднак дзейнасьць арганізацыі слаба вядомая з тае прычыны, што амаль усе яе дакумэн-

[29] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 180.

[30] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 243—244.

[31] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T 1. S. 196—197.

[32] Mickiewicz, A. O posiedzeniu Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich i o konstytucji powstańców // Pielgrzym Polski. № 5. 5 kwietnia 1833 г.; перадрукавана ў: Mickiewicz, A. Dzieła. T. VI. Warszawa, 1955. S. 109—112.

[33] BN. Rkps. II.7871. K. 202—204.

[34] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 2. S. 482—484.

ты, якія ў свой час трапілі ў зборы Польскага нацыянальнага музэю ў г. Рапэрсьвіль (Швейцарыя) і разам зь імі былі перавезены ў 1927 г. у Варшаву[35], загінулі падчас Другой сусьветнай вайны[36]. Гэта павышае гістарычную каштоўнасьць апублікаваных дакумэнтаў, як і караценькага паведамленьня ў запісе ад 19 траўня 1832 г.: *„У гэты дзень пад вечар прыбылі ў Бэзансон з Парыжу ад Літоўскага вайсковага камітэту дыплёмы на розныя афіцэрскія чыны для землякоў, якія служылі ў літоўскім паўстаньні ці рускіх зямель, у колькасьці амаль 20 дыплёмаў“*[37]. Гэта — адно з рэдкіх захаваных сьведчаньняў практычнай дзейнасьці камітэту.

Дзёньнік зьяўляецца адной з трох асноўных крыніцаў па гісторыі стварэньня й дзейнасьці Таварыства братэрскага Аб'яднаньня, якое намагалася дзейнічаць у 1832—1834 гг. Дзевяць з трынаццаці паседжаньняў таварыства апісаныя Патрыкоўскім адным ці двума абзацамі тэксту: 25 красавіка, 28 красавіка, 3 траўня, 12 траўня, 19 траўня, 27 траўня, 3 чэрвеня, 28 чэрвеня 1832 г., 9 студзеня 1834 г., яшчэ пра адно — 11 снежня 1833 г. — маецца дробная згадка. Пра тры паседжаньні — 10 і 12 лістапада 1832 г. і 28 снежня 1833 г. — дзёньнік ня згадвае.

Два іншыя комплексы крыніцаў — гэта рукапісы таварыства зь ягонымі праграмнымі дакумэнтамі, адозвамі, карэспандэнцыяй і г. д. Апісаньне ж яго дзейнасьці сьведкам, хоць і не чужым, а сябрам, засталося толькі ў спадчыне Патрыкоўскага. Дзёньнік апісвае паседжаньні падобным жа чынам, як і рукапісы з пратаколамі, часам нават з дакладнымі падабенствам словаў і выразаў (напрыклад, пастанова 8-га паседжаньня ад 27 чэрвеня 1832 г.). Аднак пэўныя адрозьненьні ў крыніцах усё ж назіраюцца. Напрыклад, у пратаколе 5-га паседжаньня выступ палкоўніка Залескага апісваецца наступным чынам: *„Прыбыўшы пал-*

[35] Каталёгі рапэрсьвільскіх збораў гл.: Katalog zbiorów Mickiewiczowskich znajdujących się w Muzeum Narodowem w Rapperswylu. Kraków, 1898; Lewak, A. Zbiory biblioteki rapperswilskiej. T. 1—3. Warszawa, 1929—1938; Więckowska, H. Źródła rękopiśmienne do dziejów powstania 1830/31 r. w Bibliotece rapperswilskiej // Księga pamiątkowa ku uczczeniu 25-letniej dzialaności naukowej profesora Marcelego Handelsmana. Warszawa, 1929.

[36] Пра пасьляваенныя страты гл.: Lewak, A. Straty biblioteki rapperswilskiej w zbiorach rękopiśmiennych // Straty bibliotek i archiwów warszawskich w zakresie rękopiśmiennych źródeł historycznych. T. 3. Warszawa, 1955; пра рапэрсьвільскія зборы гл. таксама: Матвейчык, Д. Уладзіслаў Плятэр і Раперсьвільскі музей // Спадчына. 2003. №4—5. С. 29—38.

[37] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków... T. 1. S. 141.

*коўнік Залескі пачаў прамову з розных навінаў, якія тычацца агулу й спосабу паводзінаў некаторых генэралаў, асабліва Бэма, зь землякамі“*[38]; у дзёньніку ж апісаньне больш падрабязнае: *„Ён публічна распавядаў на гэтай сэсіі пра паводзіны некаторых генэралаў, а асабліва генэрала Бэма, з палякамі, пра іх фанабэрыстасьць, пыху і пагарду да польскіх вайскоўцаў і цывільных“*[39]. Яшчэ адзін прыклад — рукапіс пратаколу апошняга паседжаньня ТБА захаваўся ня цалкам[40]; дзёньнік жа апісвае й ягоную заключную частку, хаця ня згадвае пра дыскусію наконт назвы таварыства ў яго пачатку[41].

Для беларускага дасьледніка Вялікай эміграцыі будзе таксама карысным апісаньне ад 23 студзеня 1834 г. высадкі ў г. Гаўр у Францыі пасажыраў карабля *„Wrouw Elisabeth“*, які ў канцы 1833 г. адплыў з Гданьску ў Паўночную Амэрыку й на якім сярод 152 былых паўстанцаў большую частку складалі былыя паўстанцы зь Беларусі й Літвы[42]. Ступеню даверу да прыведзеных зьвестак павышае той факт, што высадка й падзеі пасьля яе апісаныя на падставе сьведчаньняў відавочцы — палкоўніка Вінцэнта Матушэвіча, які езьдзіў у Гаўр адмыслова для сустрэчы зь землякамі.

Дзёньнік Патрыкоўскага мае дастаткова шмат іншых асаблівасьцяў. Ніжэй варта зьвярнуць увагу толькі на некаторыя зь іх. Збольшага яны вызначаныя прынцыпам, закладзеным аўтарам для сябе ў невялікім падсумаваньні пад назвай „Некалькі словаў пра знаходжаньне палякаў у Бэзансоне“, які пачынаецца з фразы: *„Гаворачы бескарысьлівую праўду пра жыцьцё нашых братоў у Бэзансоне, ня трэба — я спадзяюся — нічога хаваць як з нашага, так і з французаў боку, што толькі магло быць добрага ці дрэннага“*[43]. І Патрыкоўскаму ўдаецца трымацца гэтага прынцыпу на працягу амаль трох дзесяцігодзьдзяў.

Пачатковы пэрыяд знаходжаньня былых паўстанцаў у Францыі характарызуецца ў дзёньніку эвалюцыяй стаўленьня да рэчаіснасьці. Калі першыя ягоныя радкі напоўненыя спадзяваньнямі на хуткае ўзнаўленьне барацьбы з дапамогай Францыі, то ўжо першыя месяцы жыцьця ў Бэзансоне паказалі поўную марнасьць падобных меркаваньняў. У выніку, у дзёньніку пачынае панаваць пэсымізм і крытычнасьць.

---

[38] B. Czart. Rkps 5331. K. 7.

[39] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 139.

[40] B.Czart. Rkps 5331. K. 509.

[41] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 246.

[42] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 250.

[43] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 219.

Разам з тым, цікавымі ёсьць погляды на Францыю й французаў ды іх стаўленьне да эмігрантаў. У першыя месяцы часта сустракаюцца зьвесткі пра дзейнасьць франка-польскіх камітэтаў, якія ўтвараліся шмат у якіх гарадах Францыі для дапамогі эмігрантам, — напрыклад, пра дасылку імі адзеньня й грошай для жыхароў каленій. Аднак зь цягам часу такіх запісаў становіцца ўсё менш, і ўсё больш трапляюцца сьведчаньні пра канфлікты паміж гараджанамі й эмігрантамі. Прычыны гэтага Патрыкоўскі шукае, як правіла, у паводзінах саміх эмігрантаў, якія часта заўважаліся ў п’янстве, крадзежах, бойках і г. д. (пра гэта гл. ніжэй).

Са зьмяншэньнем памераў дапамогі, зь незацьвярджэньнем вайсковых чыноў шмат якім эмігрантам, з абмежаваньнем перамяшчэньняў і іншымі захадамі францускага ўраду зьмяняецца стаўленьне да Францыі ў цэлым. Патрыкоўскі ня раз сумна гіранізуе над францускай гасьціннасьцю, а пад уплывам заключэньня міру паміж Францыяй і Расеяй у 1856 г. яго нелюбоў даходзіць да словаў накшталт *„я ня бачыў у сьвеце падобных французам здраднікаў“*[44], *„Подлы ўрад. Подлы народ. Подлая краіна“*[45] й да т. п.

Для Патрыкоўскага характэрна падрабязнае, нават у пэўнай ступені дробязнае, апісаньне эміграцыйнай штодзённасьці. У дзёньніку ён падае — асабліва ў найлепей захаваных частках за 1832—1834 і 1856—1859 гг. — нават самыя малыя й нязначныя факты жыцьця эмігрантаў. У гэтым дзёньнік падобны да аналягічных твораў іншых жыхароў каленіяў у Францыі (напрыклад, на дзёньнік Яна Барткоўскага[46], які жыў у каленіі ў Буржэ, ці Шымана Канарскага[47], што жыў, як і Патрыкоўскі, у Бэзансоне) і моцна кантрастуе зь дзёньнікамі прадстаўнікоў найбольш заможнай часткі эміграцыі (напрыклад, Караля-Барталамея Гофмана[48], які жыў у Парыжы, ці Юльяна Ўрсына-Нямцэвіча[49], што

[44] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 2. S. 299.

[45] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 2. S. 309.

[46] Bartkowski, J. Wspomnienia z powstania 1831 r. i pierwszych lat emigracji / Wyd. E. Sawrynowicz. Kraków, 1966. — 627 s.

[47] Konarski, S. Dziennik z lat 1831—1834 / wyd. A. Barszczewska-Krupa. Warszawa, 1973. — 270 s. (Polska Akademia Nauk. Oddział w Krakowie. Materiały Komisji Nauk Historycznych. T. 23).

[48] Hoffman, K.B. Pamiętnik z emigracji / wyd. E. H. Nieciowa // Rocznik biblioteki Polskiej Akademii Nauk w Krakowie. R. 12. 1966. S. 231—350.

[49] Niemcewicz-Ursyn, J. Pamiętniki. Dziennik pobytu za granicą…; Niemcewicz-Ursyn, J. Dzienniki. 1839—1841 / red. nauk. I. Rusinowa. Pułtusk: ASPRA-JR, 2008. — 421 s.

апісвае сваю дзейнасьць у Лёндане й Парыжы). Апошнім ўласьцівыя частыя зьвесткі пра кантакты з прадстаўнікамі палітычнай эліты заходніх дзяржаваў, пра значныя грашовыя апэрацыі й ў цэлым пра жыцьцё эміграцыйных „вярхоў“. Патрыкоўскі ж уводзіць чытача ў эміграцыйныя „нізы“ зь беднасьцю, п’янствам, крымінальнымі злачынствамі й да т. п. Ягоны погляд на землякоў на працягу ўсяго часавага прамежку дзёньніка ня менш крытычны, чым стаўленьне да французаў. Трымаючыся прынцыпу аб’ектыўнасьці, ён не саромеецца апісваць усе заганы, характэрныя для эмігрантаў у Бэзансоне, Кане й Парыжы. Для прыкладу варта прывесьці падрабязнае апісаньне боек, што адбыліся з удзелам эмігрантаў 4 красавіка 1833 г.:

*„Увечары паручнік 4-га [палка] лінейнай пяхоты Булагін добра падпіў, а пазьней адбылася зь ім авантура. Паручнік Блажаеўскі Леапольд 4 палка ўланаў, Янсан 10 палка ўланаў, Есьман Людвік былі разам зь ім. Потым, паспрачаўшыся, узяліся за чубы й кулакі. Булагін, баронячыся, выпадкова зачапіў бляшаную трубу ад каміна, якая, сарваўшыся, ударыла па носе Блажаеўскага, нават добра яго прыклала. Праз гэта абодва бакі яшчэ жвавей узяліся й дайшлі да зацятай баталіі. Іх, аднак, пераканалі, што яны — афіцэры, якім нягодна біцца ў карчме, дзе ўсе зьбіраюцца (бо там палякі ў колькасьці некалькіх дзясяткаў харчаваліся на працягу году). Яны апамяталіся й, здавалася, спыніліся пасьля ўмяшаньня калегаў. Паміж сабой, аднак, не хацелі памірыцца, наадварот, былі чутныя пагрозы й помста. Праз хвіліну, выйшаўшы з гатэлю, Блажаеўскі, Янсан і Есьман чакалі, пакуль выйдзе Булагін, а калі й ён празь хвіліну выбраўся на кватэру, раптам схапілі яго на вуліцы й, нягледзячы на крык і супраціўленьне, зацягнулі да Янсана. Там баталія пачалася наноў. Янсану добра перапала, Есьман некалькі разоў атрымаў па твары. Нарэшце, перамогшы, кінулі Булагіна на зямлю ды вяроўкамі добра яго адлупцавалі.*

*У гэты ж дзень падпаручніка Сакалоўскага крэдыторка, злавіўшы на вуліцы, спачатку сарвала яму шапку з галавы, а калі той адбіраў, яна ўдарыла яго ў карак, а шапку кінула на зямлю, і калі той жа падымаў яе, сарвала зь яго плашч і ўцякла да сябе. З гэтага можна ўбачыць, як моцна нас шанавалі. Хаця зь іншага боку, некаторыя самі вінаватыя, што, маючы даўгі, не хацелі хутка іх пагашаць, а іншыя не маглі“*[50] .

Гэткія апісаньні трапляюцца ня кожны дзень, аднак у дзёньніку зафіксаваныя дзясяткі выпадкаў з бойкамі, п’яным хуліганствам, крадзя-

[50] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 205.

жамі эмігрантамі ў землякоў ці ў французаў, азартнымі гульнямі, дуэлямі, махлярствам, самазванствам і іншымі сьведчаньнямі амаральных паводзінаў. Адсюль вынікае агульны пэсымізм Патрыкоўскага адносна аўтарытэту выгнаньнікаў і іх будучыні. Добрай ілюстрацыяй тут ёсьць падсумаваньні, зробленыя ў дзёньніку амаль пасьля кожнага месяцу за пэрыяд жыцьця ў Кане — ад чэрвеня 1834 г. да ліпеня 1836 г., — у кожным зь якіх прысутнічае крытыка эміграцыі й пэсымістычныя настроі. Напрыклад, за лістапад 1833 г.: *„Увесь гэты месяц ня быў заслужаным для палякаў і прыемным для нашага жыцьця. Сваркі й спрэчкі пасьля жвавых і балючых дыспутаў адбіралі шмат хвілінаў… Публічныя більярдныя гульні нават на вялікія грошы сталі яшчэ больш распаўсюджаныя… Крыкі, сваркі й сутычкі з дэмакратамі таксама не заслугоўвалі пахвалы…“*[51]. Часам крытыка землякоў набывае асаблівую вастрыню: *„Словам, наконт даўгоў, карт і п'янства вартымі былі пагарды палякі“*[52].

Аднак дзёньнік Патрыкоўскага карысны ня толькі згадкамі заганаў эмігрантаў. У ім зьмяшчаецца вялікая колькасьць зьвестак пра штодзённыя праблемы й жаданьні былых паўстанцаў, а таксама пра функцыянаваньне іх органаў самакіраваньня. Напрыклад, менавіта тут пададзеныя падрабязнасьці больш чым 80 паседжаньняў Рады эмігрантаў у Бэзансоне, цытаты з афіцыйных адозваў камітэтаў і асобаў, што прэтэндавалі на прадстаўніцтва ўсёй эміграцыі; тут жа апісаныя гарачыя ўнутрыэміграцыйныя дыскусіі, рэакцыя эмігрантаў на распараджэньні францускіх уладаў адносна іх, на разнастайныя ініцыятывы (спробы прыцягнуць у склад Іншаземнага легіёну ў Алжыры, легіёнаў у Партугаліі, Гішпаніі, Турцыі й г. д.), на палітычныя падзеі ў Францыі (зьмены ўрадаў, паўстаньні й непарадкі, рэвалюцыі, войны) і шмат іншага.

Такая скрупулёзнасьць робіць дзёньнік адной з найбольш каштоўных крыніцаў пры складаньні біяграфічных нарысаў і слоўнікаў. Шматлікія зьвесткі так званага асабістага характару, якія падае Патрыкоўскі, больш нідзе ня выяўленыя альбо выяўленьне іх надзвычай складанае. Дзёньнік можа дапамагчы ў вызначэньні матэрыяльнага забеспячэньня таго ці іншага эмігранта, сямейнага стану (жонкі, у тым ліку француженкі, дзеці), месца жыцьця (часам нават з дакладным адрасам), перамяшчэньняў унутры Францыі й паміж рознымі дзяржавамі, удзе-

[51] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 237.

[52] Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków… T. 1. S. 221.

лу ў тых ці іншых грамадзкіх мерапрыемствах ці „вялікіх“ падзеях, а таксама агульнага стылю паводзінаў, характару, рэпутацыі й г. д. Тут жа зьмяшчаюцца важныя даты жыцьця эмігрантаў — шлюбаў, сьмерці іх саміх ці іх сваякоў, паступленьняў на службу ды інш. Напрыклад, запісы пра сьмерць эмігрантаў часта трапляюцца ў дзёньніку за 1850-я гг., калі эмігранты дасягалі сталага ўзросту й паміралі натуральным чынам; Патрыкоўскі браў тыя зьвесткі як з пэрыёдыкаў, гэтак і з асабістых назіраньняў. Для айчыннага дасьледніка ўсё гэта тым больш актуальнае, што францускія ды ўвогуле замежныя архівы, якія маглі б запоўніць прабелы ў біяграфіях эміграцыйных дзеячаў, як правіла, недаступныя зь фінансавых ці іншых арганізацыйных прычынаў.

Інфармацыйная насычанасьць дзёньніка зьяўляецца падставай таго, што ён шмат разоў трапляў у поле ўвагі дасьледнікаў. Адным зь першых выкарыстаў яго пры напісаньні гісторыі эміграцыі былы дырэктар Польскай бібліятэкі ў Парыжы Любамір Гадон. У сваёй трохтамовай працы „Польская эміграцыя. Першыя гады пасьля заканчэньня лістападаўскага паўстаньня“, выдадзенай у Кракаве ў 1902—1903 гг., жыцьцё эмігрантаў у Бэзансоне пададзенае амаль выключна на падставе дзёньніка. Пры гэтым апісаньне выглядае як ягоны кароткі канспэкт[53]. Дзёньнік згаданы ў біяграме Патрыкоўскага ў біяграфічным слоўніку сяброў Польскага дэмакратычнага таварыства (далей — ПДТ) аўтарства Мар'яна Тыровіча, хаця й ня быў вынесены ў агульны сьпіс літаратуры й ня ўжыты для складаньня біяграмаў іншых дэмакратаў[54]. Незадоўга да выданьня дзёньніка ягоным рукапісам актыўна карысталіся Марыя Страшэўска ў працы пра літаратурнае жыцьцё Вялікай эміграцыі[55] ды

[53] Gadon, L. Emigracja polska. Pierwsze lata po upadku powstania listopadowego. T. 3. Kraków, 1903. S. 152—184.

[54] Tyrowicz, M. Towarzystwo Demokratyczne Polskie. Przywódcy i kadre członkowskie. Przewodnik bio-bibliograficzny. Warszawa: Książka i Wiedza, 1964. S. 544. Трэба ўлічваць, што ў гэтай біяграме пераблытаныя зьвесткі пра двух Патрыкоўскіх — уласна Юзафа-Альфонса-Тэафіла й ягонага стрыечнага брата Альфонса. Апрача таго, у біяграме сьцьвярджаецца, што каля 1833 г. Патрыкоўскі ўступіў у шэрагі ПДТ, аднак зьмест дзёньніка прымушае сумнявацца ў гэтым. У 1832—1834 гг., як ужо было згадана вышэй, сам Патрыкоўскі шмат разоў выказваўся скептычна наконт сваіх землякоў-дэмакратаў, у тым ліку і ў саркастычнай ці востра крытычнай формах.

[55] Straszewska, M. Życie literackie Wielkiej Emigracji we Francji. 1831—1840. Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1970. — 482 s.

Стэфанія Сакалоўска ў дасьледаваньні дзейнасьці эміграцыйнай дэмакратычнай арганізацыі „Маладая Польшча“[56].

Тым ня менш варта пагадзіцца з Г. Аўсінскай, якая пры выданьні адзначала, што *„ня толькі дзёньнік, але й сабраныя аўтарам крыніцы толькі ў мінімальнай ступені былі распрацаваны зацікаўленымі гэтай эпохай дасьледнікамі“*[57]. Выкарыстаньне гэтай каштоўнай крыніцы да 1974 г. не было актыўным. Напрыклад, Аліна Баршчэўска-Крупа, якая пры напісаньні нарысу па гісторыі ТЛРЗ[58] актыўна карысталася кракаўскай копіяй ягоных матэрыялаў са збораў Патрыкоўскага ў Бібліятэцы Чартарыйскіх[59], нават ня згадвала пра дзёньнік, а таксама не ўжывала яго для складаньня камэнтароў пры выданьні дзёньніка іншага вядомага эмігранта з Бэзансону — Шымана Канарскага, — які выйшаў у 1973 г.[60]; Славамір Калембка ў сваёй манаграфіі па гісторыі Вялікай эміграцыі, надрукаванай у 1971 г.[61], таксама не працаваў зь ім, нават пры напісаньні разьдзелу „Штодзённыя клопаты й нештодзённыя жаданьні“.

Сытуацыя кардынальна змянілася пасьля апублікаваньня дзёньніка. Магчыма, гэтаму паспрыяла ўключэньне яго ў бібліяграфічны пералік выданьняў па гісторыі Польшчы XIX ст., які выйшаў у гэтым жа годзе[62]. Ад таго часу дзёньнік за рэдкім выключэньнем ужываецца ва ўсіх больш-менш значных працах па гісторыі пасьлялістападаўскай

---

[56] Sokołowska, S. Młoda Polska…

[57] Owsińska, A. Dziennik J. A. Potrykowskiego // Potrykowski, J. A. Tułactwo polaków we Francji. Dziennik emigranta… T. 1. S. 33.

[58] Barszczewska-Krupa, A. Rola Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich w popularyzacji wiedzy o Litwie i Białorusi na emigracji (1831—1836) // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Łodzkiego. Seria 1. Z. 53. Łodź, 1967. S. 45—67; перадрукавана ў: Barszczewska-Krupa, A. Emigracja i kraj. Wokyi modernizacji polskiej świadomości społecznej i narodowej. 1831—1863. Łodź, 1999. S. 89—111.

[59] Вышэй згаданы рукапіс: B.Czart. Rkps. 5356.

[60] Konarski, S. Dziennik z lat 1831—1834…

[61] Kalembka, S. Wielka emigracja. Polskie wychodztwo polityczne w latach 1831—1862. Warszawa, 1971. — 341 s. Цікава, што дзёньнік таксама ня выкарыстаны ў другім выданьні манаграфіі, хаця пры гэтым згаданыя шматлікія выданьні, што выйшлі ў сьвет пасьля 1971 г. (другое выданьне гл.: Kalembka, S. Wielka emigracja. 1831—1863. Toruń: Wydawnictwo Adam Marszałek, 2003. — 434 s.).

[62] Bibliografia historii Polski XIX wieku. T. 2. 1832—1864. Cz. III. Vol. I / pod red. W. Chojnackiego. Wrocław, etc., 1974. S. 90.

эміграцыі, напрыклад Анджэя Новака[63], Ёаны Новак[64], Норбэрта Каспарка[65], Аляксандры Кашнік[66], Ежы Казлоўскага[67], Ежы Скаўронка[68] ды шматлікіх іншых. Ён выкарыстаны пры падрыхтоўцы да выданьня іншых мэмуараў (напрыклад, Севярына Гашчынскага[69] ці Юзафа-Фэлікса Зялінскага[70]), ва ўсіх вядомых біяграфічных слоўніках, што адносяцца да тэматыкі эміграцыі — афіцэраў лістападаўскага паўстаньня Робэрта Бялецкага[71], ўдзельнікаў паўстаньня зь Беларусі Вольгі Гарбачовай[72], былых паўстанцаў на навучаньні ў Францыі Барбары Канарскай[73].

Добрым прыкладам карысьці выданьня дзёньніка стала ягонае актыўнае выкарыстаньне ў артыкулах для Польскага біяграфічнага слоўніка, напрыклад пры апісаньні жыцьця й дзейнасьці Вінцэнта Мігурскага[74], Цітуса Пяшынскага[75], Руфіна Пятроўскага[76] ды іншых.

---

[63] Nowak, A. Między carem a rewolucją. Studium politycznej wyobraźni i postaw Wielkiej Emigracji wobec Rossji. 1831—1849. Warszawa, 1994. — 370 s.

[64] Nowak, J. Władysław Zamoyski: O sprawę polską w Europie (1848—1868). Poznań: Wydawnictwo poznańskie, 2002. — 392 s.

[65] Kasparek, N. Żołnierze listopadowi w dniach klęski i internowania. 1831—1832. Olsztyn: Wydawnictwo Uniwersytetu Warmińsko-Mazurskiego, 2001. — 386 s.

[66] Kasznik, A. H. Między Francją a Algerią: z dziejów Emigracji Polskiej. 1832—1856. Wrocław, 1977. — 171 s. (Polska Akademia Nauk. Oddział w Krakowie. Prace Komisji Nauk Historycznych. T. 40).

[67] Kozłowski, J. Emigracja okresu schyłkowego Rzeczypospolitej szlacheckiej i porozbiorowa (do 1864 r.) // Emigracja z ziem polskish w czasach nowożytnych i najnowszych. Warszawa, 1984. S. 9—118.

[68] Skowronek, J. Adam Jerzy Czartoryski. 1770—1861. Warszawa: Wiedza Powszechna, 1994. — 609 s.

[69] Goszczyński, S. Dziennik Sprawy Bożej / oprac. Z. Sudolski [i in.]. T. 1—2. Warszawa: Instytut Wydawniczy „Pax", 1984.

[70] Zieliński, J. F. Wspomnienia z tułactwa / wyd. E. Wróblewska. Warszawa: Instytut Wydawniczy „Pax", 1989. — 649 s.

[71] Bielecki, R. Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. W 4 t. T. 1—3. Warszawa, 1995—1998.

[72] Гарбачова, В. Удзельнікі паўстання 1830—1831 гг. на Беларусі. Біябібліяграфічны слоўнік. Мінск: БДУ, 2004. — 400 с.

[73] Konarska, B. Polskie drogi emigracyjne...

[74] Łopuszański, B. Migurski Wincenty Maciej // PSB. T. XXI. Wrocław, etc., 1976. S. 50—51.

[75] Tyrowicz, M. Peszyński Tytus Henryk // PSB. T. XXV. Wrocław, etc., 1980. S. 666—667.

[76] Biernacki, A. Piotrowski Rufin // PSB. T. XXVI. Wrocław, etc., 1981. S. 503—506.

Для параўнаньня — у напісаных да 1974 г. артыкулах, напрыклад, пра значна больш вядомых за вышэй згаданых эміграцыйных дзеячаў, што жылі ў Бэзансоне, Міхала Ходзьку[77], Ежы Булгарына[78] ці Генрыка Калусоўскага[79] дзёньнік Патрыкоўскага не ўжываўся.

Усё вышэй прыведзенае яскрава пераконвае, што дзёньнік Юзафа Патрыкоўскага зьяўляецца каштоўнай крыніцай пры дасьледаваньні жыцьця й дзейнасьці ў Францыі былых удзельнікаў паўстаньня 1830—1831 гг. Зьмешчаныя ў ім зьвесткі могуць быць выкарыстаныя для распрацовак самых разнастайных кірункаў — ад паходжаньня тых ці іншых палітычных канцэпцыяў да матэрыяльнага стану й штодзённага жыцьця ў эміграцыі. Публікацыя Ганнай Аўсінскай адкрыла дзёньнік для шырокай грамадзкасьці. Ён мае фундамэнтальнае значэньне й зь цягам часу ня будзе губляць сваёй навуковай вартасьці, а значыць, дасьледнікі наступных пакаленьняў, няма ніякага сумневу, будуць зьвяртацца да яго ў сваіх працах. Не павінна гэта абмінаць і беларускіх гісторыкаў, тым больш, што выданьне было зроблена дастаткова значным накладам — 3000 + 283 асобнікаў, — а таму ня ёсьць асаблівай бібліяграфічнай рэдкасьцю й некалькі асобнікаў захоўваюцца ў цэнтральных айчынных бібліятэчных сховішчах — Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі й Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

[77] Rębalski, W. Chodźko Michał Borejko // PSB. T. III. Kraków, 1937. S. 388—389.
[78] Russjan, L. Bułharyn Jerzy // PSB. T. III. Krakow, 1937. S. 131—132.
[79] Tyrowicz, M. Kałusowski Korwin Henryk // PSB. T. XI. Wrocław, etc., 1964—1965. S. 505—507.

***Янка Філістовіч***

# „ЗА ВЕЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў ПАМЯЦІ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА — Я ЗГАДЖАЮСЯ АДДАЦЬ ДАЧАСНАЕ ЖЫЦЬЦЁ НА ЗЯМЛІ...“

**(лісты да Міколы Скабея 1948—1949 гг.)**

*У найноўшай гісторыі Беларусі шмат трагічных постацяў і мала гераічных, чыстых, не заплямленых. Да апошніх можна аднесьці, напрыклад, героя паваеннага антысавецкага Супраціву Расьціслава Лапіцкага (1928—1950). Янка Філістовіч (1926—1954?) зьявіўся ў Беларусі ўжо пасьля трагічнай гібелі Лапіцкага. Бяда Філістовіча была ў тым, што яго перакінулі на Радзіму з Захаду амэрыканскія спэцслужбы, а ён афіцыйна лічыўся іх агентам, мусіў выконваць заданьні. Супрацоўніцтва з ЦРУ, а таксама ранейшая служба ў 13-м беларускім батальёне — гэта тыя плямы, за якія дзясяткамі гадоў хапаліся савецкія ды згадваюць цяперашнія прапагандысты, друкуючы свае выкрывальніцкія артыкулы.*

*Янка Філістовіч быў прыкметнай постацьцю сярод дзеячаў беларускай паваеннай палітычнай эміграцыі. Беларуская нацыянальная сьведамасьць прыйшла, калі ён у першыя паваенныя гады пазнаёміўся зь беларускімі актывістамі ў Парыжы: Міколам Абрамчыкам, Лявонам Рыдлеўскім, Львом Гарошкам. Агонь беларускага патрыятызму загарэўся ў сэрцы, і ён спрабаваў запаліць яго і ў сэрцах іншых. Філістовіч зьдзіўляў сваёй актыўнасьцю, ахвярнасьцю, нібыта спрабаваў кампэнсаваць бязьдзейнасьць у тыя гады, калі „блукаў у цемры“.*

*Ад ліпеня 1948 г. Янка Філістовіч з групай сяброў пачаў выдаваць часопіс „Моладзь“*[1]*, які хутка набыў папулярнасьць сярод беларускіх эмігрантаў у розных краінах сьвету. Пазьней была заснаваная ў*

[1] **„Моладзь“** — беларускі часопіс, які ў 1948— 1954 гг. выдаваўся ў Парыжы. Рэдактары — Янка Філістовіч, Міхась Наўмовіч.

*Парыжы Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі, старшынём якой у сакавіку 1949 г. абралі Янку Філістовіча. Гэтая яго пасьпяховая дзейнасьць пры наяўнасьці мінімальных фінансавых рэсурсаў, магчыма, кагосьці й раздражняла са „старэйшых таварышаў“, ідэалягічных аднадумцаў, якія маглі пабачыць у маладым дзеячу патэнцыйнага канкурэнта. Можна ўявіць, як перажываў Янка, калі даведаўся пра пагалоску, якую распаўсюджвалі нядобразычліўцы, што ён... савецкі агент.*[2]

*Філістовіча ратавала гісторыя, якой ён захапляўся, шукаў усё, што датычыла Беларусі й яе мінуўшчыны, друкаваў артыкулы ў „Моладзі“. Навучаньне на гістарычным факультэце ўнівэрсытэту ў Сарбоне адкрывала перад маладзёнам пэрспэктывы навукоўца. Але ўзьніклі праблемы — атэстат Украінскай акадэміі, як высьветлілася, не пацьвярджаў атрыманьня сярэдняй адукацыі. Трэба было сыходзіць. Яшчэ да гэтага Філістовіч зьбіраўся пераехаць у Бэльгію, у Лювэнскі ўнівэрсытэт. І вось у сакавіку 1951 г. гэты праект быў рэалізаваны, ён стаў студэнтам 4-га курсу гістарычнага факультэту. Аднак Лювэн быў ня толькі месцам, дзе некалькі дзясяткаў маладых беларусаў атрымалі магчымасьць здабыць вышэйшую адукацыю, гэта яшчэ была й пляцоўка, на якой шукалі „жаўнераў халоднай вайны“.*

*Сябры Янкі Філістовіча (і, як выявілася, ня толькі сябры) ведалі пра ягоную мару — вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб паўдзельнічаць у яе вызваленьні. Праўда, ён хацеў гэта зрабіць на пачатку новай вайны — вольных краінаў Захаду супраць сталінскага СССР*[3] *. Маладому беларусу ж прапанавалі паляцець на Бацькаўшчыну яшчэ ў мірны*

---

[2] Пра гэта піша дасьледнік Алег Ліцкевіч. Гл.: Лицкевич, О. „Рух зусім незалежніцкі...“. Малоизвестные факты из жизни американского шпиона Янки Филистовича // Беларуская думка (Менск). № 8. Жнівень 2009, С. 75.

[3] *„Я ўздыхаю да вайны, як казак, гледзячы на каня, якога ён ня можа аб'езьдзіць“*, — пісаў Янка Філістовіч Міхасю Наўмовічу 17 верасьня 1950 г. (Гл.: Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса „Моладзь“ (1948—1954). Мінск: „Беларускі кнігазбор“, 2004. С. 386). Філістовіч у гэты час перапісваўся зь беларускім вайсковым дзеячам палкоўнікам **Францам Кушалем**, якому выказваў сваю засьцярогу наконт адсутнасьці арганізаванага беларускага вайсковага руху на выпадак пачатку Трэцяй сусьветнай вайны. Кушаль заклікаў Філістовіча й іншых маладых беларусаў да актыўнай арганізацыйнай працы: *„Дык да працы!... Арганізуйцеся і рыхтуйцеся!“* (Моладзь. № 10. 1949). А сам разам зь сям'ёй у 1950 г. зьехаў з Эўропы ў ЗША.



Янка Філістовіч, 1950 г.
Са збораў С. Ярша

*час, і ён пагадзіўся. Існуе нямала вэрсій, чаму Янка Філістовіч пайшоў на такі крок: нібыта быў шантаж, нібыта ледзь не гвалтам яго забралі ў школу амэрыканскай выведкі[4]. На наш погляд, гэта было ягонае рашэньне. Праўда, пад ціскам абставінаў, у якіх ён апынуўся, пад уплывам расчараваньня ў некаторых лідарах тагачаснай беларускай эміграцыі. Філістовіч ня змог зьмяніць сытуацыю на чужыне, але вырашыў паспрабаваць рэалізаваць некаторыя свае мары на Бацькаўшчыне.*

*Дэсант з амэрыканскага самалёту адбыўся ў верасьні 1951 г. Янка Філістовіч дзейнічаў у Беларусі на працягу году, быў арыштаваны. Беларускія эмігранты, а пасьля й Аляксандар Лукашук, распаўсюдзілі памылковую вэрсію пра расстрэл Філістовіча ў дзень сьмерці Сталіна, 5 сакавіка 1953 г. Насамрэч, судовы працэс пачаўся толькі 17 кастрычніка 1953 г., а скончыўся 5 лістапада. Янка Філістовіч быў асуджаны да расстрэлу. Прысуд мог быць выкананы 19 сакавіка 1954 г. Менавіта гэтая дата сьмерці Філістовіча была пазначаная ў лісьце польскага Чырвонага Крыжа, які ў красавіку 1959 г. атрымала ягоная сям'я[5].*

*Творчая спадчына Янкі Філістовіча, частка яго ліставаньня ўжо надрукаваныя альбо выкарыстоўваліся ў навуковых, навукова-папулярных працах[6]. Ліставаньне ж з Міколам Скабеем заставалася па-*

[4] Пра гэта піша ў сваіх успамінах **Аляксандар Яцэвіч** (Алесь Змагар). Гл.: Змагар, А. Успаміны пра беларускіх нацыяналістаў // Спадчына. № 4 (141). 2000. С. 180—181.

[5] Філістовіч, Галіна. За кожнай хвояй я бачыла брата (інтэрвію) // Беларускі рэзыстанс. № 1. 2004. С. 31—32.

[6] Лукашук, Аляксандар. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. Менск: Наша ніва, 1997. — 80 с.; Змагар, Алесь. Успаміны пра беларускіх нацыяналістаў // Спадчына. № 4 (141). 2000. С. 171—181; Панькоў, Мікола. Хроніка ⇨

*за ўвагай дасьледнікаў. Яго выявіла ў архіўных зборах Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане Натальля Гардзіенка. У адрозьненьне ад „афіцыйных“ лістоў да розных дзеячаў эміграцыі ці арганізацый, сваяку Міколу Скабею Янка Філістовіч давяраў нямала сваіх разважаньняў, перажываньняў, плянаў. Тым большая іх каштоўнасьць, тым большая да іх цікавасьць.*

*У лісьце да біскупа Часлава Сіповіча, заснавальніка Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны, Мікола Скабей 25 чэрвеня 1978 году пісаў: „Сябра Калодка паведаміў мяне, што рукапісы в. п. Алеся Салаўя і Янкі Філістовіча патрэбныя бібліятэцы-музэю“. Сярод дасланага з Аўстраліі ў Вялікабрытанію былі сем лістоў Філістовіча, напісаныя ад верасьня 1948 г. да сьнежня 1949 г. У іх дзеяч піша пра грамадзкія справы, выданьне часопіса „Моладзь“, розныя мерапрыемствы, сваё навучаньне. Скрозь усё ліставаньне праходзіць несуцішная туга па Радзіме. Янка Філістовіч спадзяецца на новую вайну, якая адкрые шлях для „павароту на Бацькаўшчыну“, гатовы ўзяць аўтамат і змагацца супраць савецкіх уладаў.*

*Пра асабістае жыцьцё Філістовіч піша няшмат, а аднойчы заяўляе: „Жыцьцё маё асабістае для мяне не існуе...“. Ягоная бліжэйшая мэта: „навучаньне і праца для Бацькаўшчыны“. І гэтаму ён аддае ўсе свае сілы. Дасьледнік Алег Ліцкевіч сьцьвярджаў, што Янка Філістовіч на эміграцыі адвярнуўся ня толькі ад польскасьці, але й ад рэлігіі[7]. Аднак ягоныя лісты да Міколы Скабея сьведчаць пра адваротнае: Філістовіч заставаўся шчырым вернікам.*

*Зьмяшчаем у гэтым нумары „Запісаў БІНіМ“ некалькі лістоў Янкі Філістовіча, якія, магчыма, дазволяць лепш зразумець матывы эмігранта, што наважыўся на рызыкоўны палёт за „жалезную заслону“.*

---

⇨ беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984). Мінск, 2001. С. 50; Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса „Моладзь“ (1948—1954). Мінск, 2004. — 444 с.

[7] Лицкевич, О. „Рух зусім незалежніцкі...“. Малоизвестные факты из жизни американского шпиона Янки Филистовича... С. 75.

*Sevres*[8] 28/9 — [19]48 г.

Дарагі Дзядзька Мікола!

Вельмі выбачаюся за гэтак доўгае маўчаньне. Зразумейце, што я заўсёды так заняты, што нат не магу дабраць часу на адпісаньне лісту. Але ўпярод буду старацца, каб гэта не паўтарылася. Калі б Вы маглі, я б Вас вельмі прасіў: прысылайце да нас артыкулы аб Вашым жыцьці і ўражаньні ў Аўстраліі, што мы будзем зьмяшчаць у нашым часапісе „Моладзь“, якога я зьяўляюся адказным рэдактарам. Разумею, што ён маіць вельмі шмат недахопаў, але той, хто зразумее, у якіх абставінах ён выдаецца — ня будзіць на гэтыя недахопы зьвяртаць вялікай увагі, бо будзіць разумець іх прычыну.

Вельмі мяне цешыць тое, што Вам у Аўстраліі жывецца нядрэнна, а ʻшчэ больш тое, што бальшыня з Вас *„застанецца добрымі беларусамі“*. Начай і быць ня можа, бо ʻшчэ бацька беларускага друку Ф. Скарына вучыў гэтаму.

Вашу просьбу адносна Камінскага[9] выканаю з ахвотаю. Аб рэзультатах напішу ў наступным лісьце.

Што адносіцца да мяне — як раней вучуся, вучуся і яшчэ раз вучуся, адно — туга не дае супакою, але гэта ʼшчэ лепш на мяне дзейнічае ў выглядзе падбадзёрваньня. Я веру, як у Бога, у нашу сьветлую будучыню. Таму я ўсялякую працу выконваю з азартам і ахвотна, ведаючы, што гэта мне прыдасца зь пераду.

„Вакансу“[10] я нямаю, вучуся фр[анцускай] мовы, матэматыкі, праца з журналам і наогул усебаковае навучаньне гэтак хутка забірае ў мяне час, што я сам не ўсьпяваю азірнуцца.

Даўно-ж гэта было, калі я ʻшчэ васемнаццацігадовым хлапцом быў у Вас у Вялейцы — я ўжо маю дванцц[ац]ь два гады. Але дзякаваць Богу я вельмі мала страціў надарма часу. Нат' і тое, што я месяцамі не вылазіў зь цягніка, а ўсё езьдзіў, не пашло надарма.

---

[8] ***Sevres*** — паўднёва-заходні прыгарад Парыжу.

[9] Не зусім зразумела, хто маецца на ўвазе. Сярод беларускіх эмігрантаў былі вядомыя двое Камінскіх. Адзін зь іх — Ігнат, які ад пачатку 1950-х гадоў жыў у Таронта, быў актывістам мясцовага Беларускага Нацыянальнага Аб'яднаньня, царкоўнага камітэта беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Другі — Барыс (пам. 1969), пры канцы 1940-х атрымаў сьвятарскі сан і выехаў у Аўстралію, дзе жыў у Квінслэндзе, а пазьней — у Заходняй Аўстраліі. Вядома, што дзявочае прозьвішча Камінская мела жонка Міколы Скабея Настасься.

[10] Маецца на ўвазе „вакацыяў“.

Сытуацыя ў нас становіцца штораз лепш аб нашай справе паваро-ту на Бацькаўшчыну. Зразумела, што не бяз аўтамату, але гэтага толькі нам і патрэбна[11].

Мая навука распачнецца толькі ў пачатку лістападу, так, што з мо-вай шмат падганю. Хоць я яе ўжо нядрэнна знаю, аднак, каб з рэзуль-татам студ'яваць мой прадмет, патрэбна яе знаць шмат ляпей.

Найлепшыя прывітаньні ўсім братом Беларусам у Аўстраліі з дум-кай у лепшаю долю нашай Бацькаўшчыны, як і Вам, застаец[ц]а Ваш

Янка

Жыве Беларусь!

*Sevres*, 10/XI 1948 г.

Дарагі дзядзь[ка] Мікола!

Ваш ліст з 24/X я атрымаў, вельмі рад і шчыра дзякую. З трох Ва-шых лістоў пісаных на мой стары адрыс, я атрымаў толькі адзін, вось таму і дайшло да непаразуменьня.

Цікава, што ёсьць там Сп. Калодкі[12] ліст, ён пішыць адносна ўпаў-наважаньня на Кангрэс[13]. Калі мы яго не атрымаем, тады Сп. Прэзы-дэнт[14] жадае, каб я Вас заступіў без яго, тым больш, што ён спадзяецца з Вашага боку адносна гэтага няма засьцярог. Ліст айцу Гарошку я пе-радаў, як і прывітаньне ад Вас яму і Сп. Прэзыдэнту, ад іх перасылаю прывітаньне. Адносна дырэктываў пагутару зь ім у пятніцу, калі ён мяне прымае адзін. Я зьяўляюся ў іх за свайго і перш быў штодня там, аднак бачучы чалавека пры працы, не магу перашкаджаць і таму ста-раюся выкарыстаць вольныя хвіліны. Вельмі шкада, што Вы гэтак за-гружаные і таму не можэце праводзіць належнае арганізацыйнай пра-цы, а бяз гэтага бальшыня нашай эміграцыі менш сьведамай можа

[11] У чэрвені 1948 г. пачаўся першы крызіс „халоднай вайны" — савецкая бляка-да Заходняга Бэрліну, якая працягвалася да траўня 1949 г. Уцекачы з краі-наў Усходняй Эўропы спадзяваліся, што неўзабаве распачнецца „гарачы" канфлікт і кантынэнт будзе вызвалены ад войскаў Савецкага Саюзу.

[12] **Аляксандар Калодка** (1911—1985) быў прадстаўніком Рады БНР на Аўст-ралію.

[13] У лістападзе — сьнежні 1948 г. у Парыжы прайшоў зьезд беларускіх эмі-грантаў — прыхільнікаў Рады БНР, на якім было заснаванае Сусьветнае аб'-яднаньне беларускай эміграцыі (САБЭ).

[14] Маецца на ўвазе Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.

прапасьці для беларускай справы. Але гэта не Вашая ў гэтым віна. І мо’ дась Бог — Вы зможаце ў гэтым напрамку штосьці парадзіць! У што мы верым, ведаючы Вашую адданасьць агульнай справе.

Напішэце калі ласка, хто з Вамі знаходзіцца разам, бо я знаю акрамя Вас ёсьць сп. Смаль [?][15] , а больш ня ведаю. Вельмі спачуваю Вашаму незавіднаму становішчу, у якім, як Вы, так і ўсе браты Беларусы, знаходзяцца ў Аўстраліі. Але як Вы ведаеце, я асабіста не вельмі распаложаны за далёкай эміграцыяй. І Ваш прыезд мяне толькі ўцешыць.

Шкада, што Вы не дасталіся ў Францыю. Тут бы мы Вас пастараліся ненайгорш устроіць. Але як гавораць, *„адсекшы галаву, па валасах не плачыць“*, так і тут, запозна. Думаю, што пакуль Вы зьберацёся прыехаць у Эўропу, дык наша Бацькаўшчына будзе ўжо вольная і незалежная і Яе сыном не патрэбна будзе шукаць кавалак хлеба дзесь на чужыне, а наадварот. Калі Наш край будзе ў добрых руках, у чым я не сумняваюся, ён будзе багаты і заможны. Паглядзіце Вы, колькі гэта „бедная“, „неўраджайная“ Берарусь карміла ўсялякай пошасьці прыблудаў, якія жывучы за яе пот і кроў, руйнуючы яе распускалі яшчэ розные басьні. Я веру, што ‘шчэ прыйдзе час, калі мы, дарагі дзядзька Мікола, спаткаемся няраз у зялёным пахучым Ляўкоўскім мурогу, і будзе ўсё перажытае нейкім немагчымым, туманным, далёкім — толькі мы будзем дыхаць на поўную шырыню грудзёў, удыхваючы пахучае мурожнае араматна-здаровае паветра сваёй зямлі. Дапраўды, якое гэта вялікае шчасьце быць неразьдзельным гаспадаром свайго загону, лугоў, лясоў — сваёй Бацькаўшчыны. І непатрэбна будзе хавацца ад лясьніка, каб назьбіраць кошык ягадаў ці грыбоў, у якія так багатыя нашыя лясныя абшары.

Дык жаж аддаць жыцьцё за гэта ўсё, за тое, каб не пагарджалі сялянскай сярмягай — ёсьць нічым іншым, як Божай ласкай. За вечнае жыцьцё ў памяці Народа Беларускага — я згаджаюся аддаць дачаснае жыцьцё на зямлі.

Не пішу гэта з паднятым настроем ці з фанатызму, які можа прайсьці, не. Пішу гэта з здаровага пераканньня. Да Вас жа, дарагі Мікола, зьвяртаюся з просьбай, як сын да бацькі, непакладайце рук і не прапускайце хвіліны ні нагоды для падгатоўчай працы нашай эміграцыі ў Аўстраліі. Асабліваю ўвагу зьвярніце на нашу няшчасную моладзь. Вы пішэце, што некаторые зь іх расьпіліся. Гэта-ж яны п’юць кроў, пот і сьлёзы сваіх бацькоў, братоў, матак і сясьцёр, якія на іх пакладаюць надзею. Скажыце ім, што яны будуць праклятыя на векі Богам

[15] Магчыма, маецца на ўвазе Аляксандар Смаль.

і людзьмі, калі меўшы нагоду не захочуць дапамагчы сваім родным, сваёй Радзіме. Гэта справа на Вашым дняўным парадку. Я спадзяюся дастаць кнігі Я. Купалы, якія вам перашлю і якія Вам у гэтым зробяць вялікую ўслугу. Праца гэтая, як кожная грамадзкая праца неўдзячная, можа не адзін сьпярша не захоча слухаць, але час і няўтомнасьць зробіць сваё. Маленькая кропля вады, капаючы сыстэматычна ў вадно месца, робіць дзірку нат' у найцьвярдзейшых мэталах.

Я абавязу[ю]ся з свайго боку дапамагчы Вам літаратурай і ўсім, чым змагу, а Вы пастарайцеся паставіць Бацькаўшчыне памятку хоць у выгадаваньні ёй некалькіх адданых сыноў-барацьбітоў. Гэта будзе Ваша найбольшая заслуга. Дык падымайце й вядзіце, а Бог Вам дапаможа!

Як я пісаў, буду Вам высылаць усё, што змагу дастаць. Выслаў Вам ужо 14аць кніжак. Ці Вы іх атрымалі? Украінцы нам ня толькі ў гэтым падстаўляюць „сьвіньню“, але і ў шмат іншых рэчах. Зь Берасьцям і Фр. Скарынам на чале, якіх яны, хоць і няўдала, стараюцца прысабечыць. Што-ж зрабіць, калі яны не дойдуць заўчасу па розум, скарыстае з гэтага толькі іх і наш вораг. Як відаць, мы з палякамі дагаварыліся хутчэй, як з братамі-прымітывамі украінцамі.

Што да вучобы, дык я ўжо яе распачаў, за першае паўгодзьдзе ж заліку не здаваў з-за таго, што распачаў у палавіне курсу, як і з-за няведаньня мовы. У працягу лета вучыўся фр. мовы, цяпер спадзяюся даць рады. Жывецца мне не дрэнна, як студэнту, тымбольш, што ў мяне стол завалены працай і кнігамі. А да таго ў мяне і бібліятэка „АБРФ[16]“. Падзяліўся б сваімі кнігамі з Вамі ахвотна, але гэта ці ў франц. ці ў рускім языку, навуковые кнігі. Як палучу стыпендыю 4 тыс. франкаў, а работнік найменей зарабляе 12 тыс. у месяц, пакуль даеду да дому, дык маю гурбу кніг і пусты кашалёк. Маю зь дзясятак вельмі цэнных гістарычных карт і кніг з нашай гісторыі, над чым я няўтомна працую. Цяпер в. заняты з часапісам, якога я рэдактар, карэктар, выдавец і наогул яго мушу зрабіць сам ад даскі да даскі. Таму ён бывае ў дрэнным выглядзе, што парегружаны на аднаго.

Сваё найлепшае пажаданьне здароўя і лепшай долі дасылае Вам Ваш

Янка Філістовіч.

Кангрэс адбудзецца 28.XI г.г.

Будуць з Англіі, Бэльгіі і Нямеччыны, між іншымі Лашук Алесь.

Жыве Беларусь!

[16] **АБРФ** — Аб'еднаньне беларускіх работнікаў у Францыі.



Мікола Скабей, Зіна Кадняк і Алесь Салавей, ваколіцы Мэльбурну.
Са збораў Н. Гардзіенкі

*Sevres*, 11/12 — 1948 г.

Дарагі дзядзька Мікола!

За абодва Вашыя лісты ад душы шчыра дзякую. Не адказваў таму, што быў вельмі заняты з ўзгляду на Кангрэс, як і таму, што меў у гасьцях Алеся Лашука[17], які таксама прыбыў на Кангрэс з Ангійскай дэлегацыяй, якая была ў ліку 4 асобаў. Нягледзячы на вельмі абмежаваны час, якога ў мяне ніколі не хапае, жадаючы пазнаёміць Алеся з Парыжам, паказваў яму ўсе яго асаблівасьці. Быў ён (Алесь) у мяне ў працягу 2-х тыдняў. Мы зь ім вельмі дружна жывём, сапраўды па-брацку.

Да справы. Кангрэс прайшоў надзвычайна добра, нягледзячы на цяжкія матар'яльныя абставіны. Аб пастановах і прабегу яго будзеце бачыць у рэзалюцыі і пастановах, зьмешчаных вышэй[18].

Аўстралійскі мандат на рэпрээнтаваньне тамашніх Беларусаў быў прысланы Сп[адару] Рыдлеўскаму, але як ужо было гаворана аб гэтым

[17] **Аляксандар Лашук** (1909 — 1997) пазнаёміўся зь Янкам Філістовічам ў 1942 г. у мястэчку Ільля на Вялейшчыне, з ваколіцаў якой ён паходзіў. Наступны раз яны сустрэліся ў 1948 г. у Парыжы.

[18] Янка Філістовіч дасылаў гэтыя дакумэнты Міколу Скабею.

раней і таму што як спадзяваліся, што яго атрымаю я — ён і быў перапісан Рыдлеўскім на мяне. Рыдлеўскі да таго рэпрэзэнтаваў Беларусаў у Францыі. Вы не рабеце з Калодкам ніякіх „тлумачэньняў“ ці таму падобнага [неразб.], адносна гэтага мандату я рахую [неразб.] зусім слушным, таму што ён мяне абсалютна ня ведае. Справаздачы з Кангрэсу я яму (Калодку) высылаю таксама.

Вашая думка адносна агітаваньня сьведамых Беларусаў да эміграцыі ў Аўстр[алію] зусім слушная. У гэтай справе я гаварыў са Сп[адаром] Прэзыдэнтам і ён тае самае думкі, што і Вы. Ваша думка зусім слушная адносна гэтага, але як Вам вядома ў нашых радох якраз і адчуваецца найбольшы недахоп інтэлігэнцыі і расьцярушваючы яе мы аслабляем нашы сілы. На мой пагляд, Ваша думка вельмі добрая і карысная, да гэтага патрэбна людзей безгранічна ахвярных і ідэйных, якія не памянялі б цярністага шляху змаганьня на асабістыя матарыяльныя выгады. А гэта вельмі вялікая спакуса і супраць яе змагацца сапраўды з рэзультатам мала хто патрапіць.

Маё жыцьцё прабягае маланкава, хутка так, што абсалютна не маю змогі агледзіцца кругом сябе. Адно, што мяне найбольш за ўсё цешыць гэта змога навучыцца, як і працаваць для Бацькаўшчыны. Я з сябрам мастаком-скульптарам Наўмовічам[19] — зь якім жыву ў адным пакоі ў тым-жа самым інтэрнаце, у які нам ужо ўдалося прыцягнуць яшчэ аднаго (3-га) беларуса[20] (інтэрнат гэты сарганізавала пратэстанцкая акцыя *C.I.M.A.D.E.*[21]*)*, маю змогу браць афіцыяльна 2-ва разы ў месяц удзел у студэнцкіх міжнародных зборках, гдзе мы знаёмім студэнтаў другіх нацыянальнасьцяў аб нашых балючках. У гэтым выпадку мне вельмі шмат дапамагаюць мае студыі гісторыі, ставячы вельмі часта „нашых“ суседзяў палякаў і літоўцаў, асабліва апошніх, у вельмі нявыгаднае становішча. Гэта мае тым большы эфэкт, што прыслухоўваецца гэтай крывавай праўдзе, так старанна хаванай маскалямі і палякамі, а дэмаскаванай праз нас, усе народы — студэнты, прадстаўнікі сваіх груп

[19] Маецца на ўвазе грамадзкі дзеяч у Францыі, мастак **Міхась Наўмовіч** (1922—2004), які пасьля ад'езду Янкі Філістовіча ў Бэльгію рэдагаваў часопіс „Моладзь“.

[20] Паводле наступнага ліста, гэта быў **Мар'ян Каранеўскі**, які ў ліпені 1950-га паехаў у Новую Зэляндыю. Пра тое ж пісаў і Міхась Наўмовіч. Гл.: Наўмовіч М. Мае ўспаміны // Месца выданьня — Парыж... С. 430.

[21] **Cimade** — Міжнародны экумэністычны цэнтар узаемадапамогі, няўрадавая некамэрцыйная арганізацыя. Займалася дапамогай уцекачам, перамешчаным асобам. У Францыі дзейнічала ад 1939 г.

цэнтральнай, усходняй і паўночнай, як і Заходняй Эўропы. Гэта ў будучыні шмат прычыніцца да дапамогі нашаму народу. І з гэтага мы стараемся як найбольш скарыстаць, зразумела, праўным і справядлівым шляхам. Спадзяюся, што прыдзець між намі і „суседзямі“ да сапраўдных закалотаў. Але я пэўны, што гісторыя дапаможа мне акадэмічна, навукова даказаць усе „праўные“ пасяганьні на нашу сьвятую праўду такімі, якія яны ёсьць у запраўднасьці.

Вашыя стараньні адносна заснаваньня Цэнтру Вашай арганізацыі[22] вельмі добрыя і заслугоўваюць на прызнаньне. Няхай дасьць Бог Вам найпамысьнейшых рэзультатаў у гэтым напрамку.

Гэта было б ўсё, з узгляду на тое, што не магу шмат перагружаць канвэрт, калі-ж авіён ‘шчэ не падыйме. Ды нічога асаблівага пакуль што ня маю.

Усяго найлепшага Вам і Вашым сябрам жадае Ваш

Янка

Жыве Беларусь!

Пішэце шмат і часта. Дзякую!

З надыходам Калядных сьвят жадаю Вам і ўсім братом-выгнаньцам у Аўстраліі вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году, каторы павінен вярнуць нашу Бацькаўшчыну.

Янка

Ж[ыве]. Б[еларусь].!

*Sevres*, 15.5.1949 г.

Дарагі дзядзька Мікола!

Выбачаюся за так доўгае маўчаньне — прычына толькі тая, што часу ня маю, хоць і вышэй [неразб.], я зрабіўся аўтамат.

Усе Вашыя лісты я атрымаў, шчыра дзякую, просьбу, лепш спраставаньне, зьмясьціў у часапісе № 7, які Вы, спадзяюся, атрымаеце незадоўга пасьля лісту. Толькі цяпер я высылаю зразу ў два асяродкі ў Аўстралію гэта да Вас і да Калодкі. Ад Калодкі атрымаў ліст, вельмі рад, што змог навязаць кантакт з так паважаным чалавекам як ён.

Вельмі цешуся, што Вашая апінія ў Аўстраліі вельмі выдатная, але Вы не павінны забывацца таксама на тое, што ёсьць людзі, якія нявар-

[22] Магчыма, маецца на ўвазе Беларускі клюб у Мэльбурне, які пасьля ператварыўся ў Згуртаваньне беларусаў у Вікторыі.

ты звацца людзьмі і таму перад імі не патрэбна надта азірацца, тым больш, што яны будуць біць на гэту чэснасьць, каб як найбольш зь яе скарыстаць. Працуйце, дбайце аб апінію, але не забывайцеся, што нам патрэбна максымальна зьберагчы сілы, энэргію і здароўе для Бацькаўшчыны, у якую мы, напэўна, хутка вярнемся. Запрацаваць грошы добрая справа, пасьля можна шмат чаго зрабіць для Бацькаўшчыны. Але практыка паказала, што бяднейшы больш ахвярны за заможных-мільянэраў, што можна назіраць зь беларусамі ў Амэрыцы. Чым больш чалавек закапаецца ў собскі інтарэс, тым-больш ён забываецца на акружаючы яго сьвет, і паволі памірае для грамадскасьці.

Пішу гэта не для Вас, лепш не ў адносінах да Вас, але я ўпэўнены, што не малы працэнт Бел[арусаў] у Аўстраліі так зробіць. Але трудна гэтаму запабегчы.

Маё жыцьцё гэта кінематаграфічная лента. Рана як я ўжэ ва ўнівэрсытэце, а таксама часта і па абедзе, пасьля бібліятэкі, у якіх я шукаю найлепшых і найбольшых матэрыялаў, адносячыхся да нашай Бацькаўшчыны, асабліва мінуўшчыны. Да рэчы я ўжо сабраў цікавы матэрыял адносна таго, што азначае Беларусь і скуль яна паявілася (сам назоў). Як выходзе ён ня наш, а ўсходняга паходжаньня. Стаўся тэндэнцыйна ўжывацца ў нас, накінуты палітыкай Масквы толькі ў XIX-ым стагодзьдзі. Але гэта зьмяшчу я пасьля ў Моладзі[23] . Таксама цікавы матэрыял маю адносна Грунвальдзкага бою, гдзе гаворыцца, што Палякі не зьяўляюцца той галоўнай сілай, якая выйграла гэты бой, тое, што яго выйграў Вітаўт зь Літоўцамі (Беларусамі).[24]

Шмат майго часу забірае часапіс, які я мушу выдаваць ад а — да я. Але што зрабіць, хоць за гэтым шмат церпяць мае студыі.

Жыцьцё маё асабістае для мяне не існуе, дык лічу непатрэбным Вам аб ім пісаць. Я жыву толькі духам, энэргіяй і сілай, якой супраціўставіцца, пакуль я буду жыць, нічога не можа. Гэта не значыцца у адносінах, да маіх справаў асабістых, а толькі закранае справу агульную, жыцьця ці сьмерці Бацькаўшчыны. І у гэтым выпадку я поўны веры ў будучыню.

[23] У 11-м нумары „Моладзі“ ў 1949 г. быў надрукаваны артыкул Янкі Філістовіча „Сучасны назоў нашае Бацькаўшчыны і ягонае паходжаньне“ пад псэўданімам Янка Люціч-Воўк.

[24] У 12-м нумары часопіса „Моладзь“ за 1949 год зьявіўся артыкул „1410 год — перамога над крыжакамі“, падпісаны крыптанімам „Я. Ф.“

Прывітаньні ад Сп. Прэзыд[энта], усіх суродзічаў і ад сябе пасылае Ваш пляменьнік

Янка Ф.

Жыве Беларусь!

*Sevres*, 19.V — 49 г.

Дарагі дзядзька Мікола!

Усе апошнія Вашыя лісты атрымаў. Вельмі дзякую за памяць і выбачаюся за неадпісаньне сваечасова. Прычына тая-ж самая, недахоп часу, ды да таго ня знаў як доўга Вы будзеце на старым мейсцы.

Вы пытаецеся, як маё здароўя і жыцьцё і вучоба. Здароўе маё як найлепшае, што мне шмат дапамагае ў працы, бо працую 14—16 гадзін у суткі, працы інтэлектуальная ды грамадзкая. Маё здароўе гэта скарб, зь якога чэрпаю ўсе сілы да працы і барацьбы за штодзённае існаваньне.

Маё жыцьцё ня дрэннае, нат можна казаць добрае, калі сапраўды можна сяньня гэтак выразіцца. Жыву ў інтэрнаце для студэнтаў, праўда, далекавата ад школы Сарбоны, бо будзе якіх 10 км. Жыву на прадмесьці Парыжа, але ад цэнтру, як пісаў, будзе каля 10-ці км. Вельмі нявыгадна, што 2 разы ў дзень мушу езьдзіць у Парыж на курсы і назад. Гэта дорага каштуе, а атрымоўваю толькі 4 тыс. фр. у месяц (Аўстр. даляр складае на франц. франкі 847,50 цэнтымаў), стыпэндыю гэтую атрымоўваю ад фр. самапомачы Унівэрсытэту. Перш, пакуль жыў на прыватнай кватэры, у вадным квартале, дзе і Унівэрсытэт, атрымоўваў гэтулькі ж ад Бел. Рэлігійн. Місыі, аж пасьля паўгода Айцу стыпэндыю стрымалі, тагды ад фр. самапомачы атрымалі 3 тыс. + 4 тыс ад Айца = 7 тыс. За кватэру 2 тыс., рэшту на пражыцьцё. Цяпер на рукі атрымоўваю 4 тыс., ад прыбытку [неразб.] адлічаюць за інтэрнат, а дзе маё памешканьне між іншым маю ня дрэнную бібліятэку, ежу і г. д.

Страваваньне ня дрэннае, як калі, але ж ніяк не магу прызвычаіцца есьці штосьці, што абы як прыготоўлена, на што вельмі рэагуе жывот, а гэта бывае як спатыкаецца, скажам, часьцяком. Кухняй загадваюць гішпанцы, дык уявіці сабе [неразб.].

Адно дрэнна, што дырэктар гэтага інтэрнату расеяц, былы царскі афіцэр, яму вельмі прыкра бачыць, што пад адной страхой жыве зь беларускімі нацыяналістамі, якія для абароны Бацькаўшчыны зробяць усё, ды ‘шчэ бачыць робляную канкрэнтую грамадзкую справу. Перш мы валкавалі зь ім доўгімі выступленьнямі, сяньня ўжо нас не кранаюць, бо ведаюць, што не дапаможа, а наадварот, але ў душы нам не

спрыяюць. Толькі мы мала гэтым пераймаемся. У канцы гэтага месяца еду за граніцу, мо ўдасца што паразьведаць [?] на Захадзе аб нас. Нас тут у інтэрнаце трох беларусаў. Адзін — Наўмовіч — скульптар, жыве са мной разам (у двух-радным пакоі), той ня дрэнны хлопец, толькі няма такога, каб скінуў апошнюю кашулю на тую валку, дзе валчыцца доля нашага Народу, другі Каранеўскі, хімік яшчэ слабаваты (першы з Наваградчыны, другі з Баранавіч), але як націсну „гайку“, ды з крыкам, стогнам ідзе, што бачыце з часапісу, праца ў якім ляжыць на мне. То калі Каранеўскага папрашу памагчы мне зьбіць гатовы часапіс, дык думае, што мне робіць ласку. Але нічога, уся нашая моладзь вельмі добрая, а як надыйдзе час брацца за зброю, будуць найлепшыя жаўнеры. Патрэбна толькі Суворава. Будучыня пакажа, мо' ён ёсьць у нас? Вось гэта што да майго жыцьця.

Навука мая ідзе ўперад, але ня так, як-бы пайшла тагды б, каб чалавек быў заняты толькі ёй. Я не магу заняцца выключна навукай, ды заставіць грамадзкую справу, бо знаю, што чалавек, які заставіць справу першае вагі на пасьля, на „некалі“, ня варт чалавечага імя. Хоць страшэнна люблю навуку, і калі зачытваюся гісторыяй, забываюся на момант аб усім, адчуваю асалоду жыцьця. За гэтых трох гадоў я зрабіў так велізарны крок уперад, што трудна нат сабе прадставіць. Ад колішняга прымітыўнага, неразьвітага хлапчука, якім я быў дома, сяньня стаўся дасьведчаны і ў пэўнай меры асьвечаны чалавек. Я ад колькіх гадоў меў непамыльнае пачуцьцё, зразуменьне справы, дый дар хуткай, натымястовай арыентацыі, сяньня гэта ўдасканалена як дасьведчаньнем, так і навукай. Думаю, што ўсё гэта прыдасца ўперадзе.

Я прашу Бога, каб даў мне сілы і вытрыманасьці ў бяскарыснай для сябе працы для Народу Беларускага да канца майго жыцьця. Толькі яно, здаецца, ня ёсьць такім доўгім, а які-б быў жаль, ня мець змогі аддаць усё на крывавы аўтар змагароў-мучаньнікаў, лепшых сыноў Беларусі ў змаганьні за сваю Радзіму. Доля — матчына так робіць, што людзі маюць ўсяго толькі адну і чыстую ўцеху, доўга ёй не карыстаюцца. Але на ўсё воля Божыя.

Часопіс буду Вам рэгулярна высылаць, як Вы прасілі 3ры экзэмпляры. Высланыя Вамі грошы на „Моладзь“ 6 і паў-фунты я атрымаў ад Алеся і шчыра Вам дзякую за жаданьне быць нам дапаможнымі. Калі-б кожны зь Беларусаў старанна і сумленна выконваў свой абавязак перад Бацькаўшчынай, нашая справа выглядала-б зусім інакш.

Я сапраўды ўдзячны Вам дзядзька за Вашае жаданьне мне дапамагчы матэрыяльна. Сапраўды я закрануты гэтым і застаюся Вам забавяза-

ны, толькі мне дапамога не патрэбная. Калі-б Вы былі ў Нямеччыне, а я ў Парыжу, ды ў сёньняшняй сытуацыі [неразб.] пагаджаўся-б прыняць ад Вас дапамогу, але Вы ў Аўстраліі як просты работнік, і тут трэба быць [неразб.], а не „папрашайкай“, каб карыстацца потам другіх. Сапраўды я не патрабую нічога, у нас народ прывык за стагодзьдзі быць „самавыстарчальным“, аб гэтым шмат прашу Вас ня думаць, што я не хачу ад Вас нічога прыняць. Мне нічога ня трэба, а працуйце, бо Вашая прапанова, за якую я вельмі ўдзячны, тое самае, як бы Вы мне і прыслалі болей. Бо калі-б Вы мне што прысылалі, я-б ім толькі карыстаўся, а так я маю задавальненьне, што Вы мне гатовы дапамагчы. Ведаеце, што калі душа чалавека багатая, а матэрыяльна ён бедны, дык ён у шмат разоў багацейшы і шчасьлівейшы за найбольшага мільянэра, які ня мае найбольшага дару Божага — мець вялікую, чуйную ды багатую добрымі ўчынкамі, сапраўды чалавечую душу. Вось таму сваёю прапановай дапамаганьня Вы, дарагі дзядзька, зрабілі болей для маёй душы, ні параўнальна больш, як тое, што Вы змаглі-б зрабіць для майго цела ды матэрыяльнай выгоды.

Дык яшчэ раз ад ўсяго сэрца дзякую за Вашую прапанову і прашу Вас не пераймацца мной, бо што варт той чалавек, ды ‘шчэ студэнт, які не парадзіць у сваім асабістым жыцьці, што тагды можа чакаць ад яго Народ і Бацькаўшчына.

Вестак з Бацькаўшчыны ня маю, і сяньня не стараюся іх мець, бо яны мне не прынясуць нічога добрага, а дрэннага мы маем даволі, тым больш, што ўсякае пісаньне толькі пагоршыць сытуацыю тых, за якіх баляць нашыя сэрцы. Чакайма і верма, і прыйдзе час, калі сонца загляне ў ваконца Беларускага Народу!

Жыцьцё без перажываньняў нецікавае. Чалавек, які хоча пазнаць усё жыцьцё да самай глыбіні — павінен перажываць, а не дажываць веку. Бо канец прыходзіць бяз нашага жаданьня. Мы ня першыя з тых, хто пачыналі *„карсіць у мокры пень“*, ды вытрывалі да канца, хоць агонь, які распачалі распальваць, загарыцца толькі пры нас і для нас, як і для тых, хто нас замене. Дык для нас зьняверра, ці нараканьне гэта рэчы, якія ня мусяць мець мейсца між намі.

За часапісы Вы-ж прыслалі, больш ніякага „доўгу“ за Вамі няма. Так што Вы дарэмна сябе трывожыце.

Віно і распуста губіць чалавецтва, але людзі „зажмурыўшыся“ ідуць да бяздоньня.

Гэтым, што „зарубежжа“ бярэць верх Вы не праймайцеся. Рабеце сваю справу ня гледзячы на ніякія другія, г. з. справу грамадзкую, для Народу. Як таксама не азірайцеся на нікога, а рабеце так, як дыктуе Вам




Ілюстрацыя да артыкула Я. Філістовіча пра Грунвальдзкую бітву ў часопісе „Моладзь“

Ваш здаровы розум. Толькі не паддавайцеся спакусам, якія існуюць, рознага характару. Мы не павінны забывацца, што войска нашае будзе дэзыдуючым чыньнікам у гэтай трагі-камэдыі, якую „заварылі“ нашыя дзеячы. Усе яны стануць у сваім часе перад Народным судом. І кожны з нас будзе адказваць за сябе, так што ні хмары не павінны нам засланяць сонца, ні грымоты нас палохаць. Нашая дарога вызваленьня Бацькаўшчыны ня толькі ад чужых тыраніяў, але мы мусім запабегчы і саваёй, якая ўжо рыхтуецца. Калі я буду жыў, Беларусь будзе такая, за якую паміраюць нашы браты. Створым мы гэткую саваёй крывёй, а не партфэлямі й цёплымі мейсцамі. Жадаю яшчэ раз — рабеце справу народную і не глядзеце на „жулікаў“ ды прайдзісьветаў. Цалей бяз аднэй.

Францускую мову я разумею добра, і таксама чытаю вельмі добра і разумею ўсё. Але ў навочнай гутарцы і ў пісьме яшчэ цяжкавата.

Гэта-б было ад мяне ўсё. Пішэце як Вы жывяце? Як хутка даходзіць да Вас часопіс ды ліст авіёнам? Наогул пішэце да мяне на ўсе тэмы, якія Вас цікавяць і баліць Вашае сэрца па чым, будзем дзяліцца ўсімі думкамі.

Перадавайце маё прывітаньне Калодку і другім Вашым знаёмым.

Пару тydняў ў Аўстралію ад'ехаў Салавей зь сям'ёй, той, што некалі быў у Ільлі — Кадняк Альбэрт. Перасылаў Вам і Калодку свае прывітаньні. Я зь ім часта перапісываўся.

Прымайце мае найшчырэйшыя пажаданьні ўсяго найлепшага,

Ваш пляменьнік Янка

Жыве Беларусь!

*Sevres*, 29.X.1949 г.

Дарагі дзядзька Мікола,

Маеце поўнае права на мяне рабіць „нагонку“, бо заслугоўваю на гэта, адказваю аж на трэйці ліст. Прычына заўсёды знойдзецца, Вы гэтак падумаеце, аднак яна сапраўды ёсьць. Мая паездка была не для „ваканса“ ў Англію, але для агульнае справы ў Мадрыд. Праўда, мушу прызнаць, што ня ўсё спадзяванае асягнуў, бо патрапіў у час кульмінацыйнага пункту агульнага крызісу, аднак шэсьць стыпэндыяў, атрыманых для нашых студэнтаў на вышэйшыя студыі ў Гішпаніі, гэтаксама нешта значыць.

Гэта была мая першая паездка. Другая — Бэльгія на Кангрэс студэнцкі[25] таксама забрала шмат часу ды грошы, зь якімі студэнт у вечнай нязгодзе. Ужо сам выхад у сьвет часапісу з чатырымесячным спазьненьнем сьведчыць аб тым, што сапраўды быў заняты. Вы ўжо будуеце якіясьці дагадкі, „задоўжанасьці“ ці іншае, тады калі гэта не бярэцца зусім пад увагу. Здаецца, што я „перакачую“ ў Бэльгію ці Гішпанію, каб прадаўжаць свае студыі. Найбольш падобна у гэту першую, бо ў Францыі ўсё-ж цяжкавата, тым больш, што той маскаль вельмі незадаволены маёй працай і жаліўся сп. Прэзыд[энту], што я вялікі нацыяналісты (!) ды шмат працую ў галіне палітычнай. Як бачыце, заганы вялікія мае Ваш пляменьнік!.. Ды наогул маючы хоць малую стыпэндыю дам сабе рады на прыватцы яшчэ ляпей, і буду чуцца вольным. Зьмяніць мейсца мне няшкодна з узгляду на студыі, калі-ж мяне не дапусьцілі да заліку, адказаўшы прызнаць бакалаўрат раўназначны францускаму, нягледзячы на двухгадовую спробу. Аднак яшчэ ёсьць

[25] Янка Філістовіч удзельнічаў у Трэцім агульным зьезьдзе Цэнтралі беларускіх студэнцкіх арганізацый на чужыне (ЦБСА), які прайшоў у кастрычніку 1949 г. у Лювэне. Агульны здымак удзельнікаў (а сярод іх і Філістовіча) зьмясьціў у кнізе сваіх успамінаў Барыс Рагуля. Гл.: Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996. С. 13 адв.

надзея атрымаць яго ў трэйці раз з дапамогай папераў, якія спадзяюся атрымаць зь Нямеччыны. З гэтымі дакумэнтамі, якія я маю, магу запісацца на любы ўнівэрсытэт у сьвеце, толькі не Сарбону, бо як яна старая, так старыя і яе правы, а як сама слаўная, так яны дурныя. Дыплёмам чалавека ня зьмерыш. У Бэльгію мяне цягнуць цудоўныя абставіны для студыяў і атмасфэра, у якой іх можна прадоўжваць. Будзе там нас Беларусаў да 40 студэнтаў.

Што датычыцца Кангрэса Студэнцкага ў Бэльгіі, дык ён прайшоў вельмі ўдала, амаль падспадзявана. Падрабязнасьці даведаецеся з прэсы. Старшынём Беларускага Акадэміцкага Згуртаваньня на чужыне астаўся стары старшыня Рагуля[26], хоць мелі да яго пэўныя засьцярогі з апазыцыі. Аўстр. фунт, высланы Вамі, я атрымаў, шчыра дзякую, але ня раю Вам раськідацца запрацаваным крывавым потам грошам. Я неяк дам сабе рады, хоць асабліва зімой цяжкавата, бо даходзе ‘шчэ цёплая вопратка, якую патрэба набыць. Але што-б з нас былі за людзі, калі-б мы, студэнты, з моладу не прызвычаіліся паконваць ўсялякія цяжкасьці. „Гора бывае паўночным ветрам, які робіць зь людзей герояў“!..

„Моладзь“ не я спыніў Вам высылаць, як Вы дагадваецеся, але яна спынілася выходзіць у працягу вакансы сілаю абставінаў. Ня знаю, як яна будзе выходзіць па маім выязьдзе, але буду старацца, каб яна не замёрла.

За вясёлую і сумную заразам вестку аб маёй сям’і шчыра дзякую. Пісаць ім ня буду, бо памагчы не памагу, а пашкодзіць — заўсёды. Дык лепш пачакайма разьвязкі. Вы абярэжна ўспамяніце аба мне, толькі вельмі зьлягка, каб ня даць бясплатнага білету ў Сібір ім бедным, што асталіся. Я з свайго боку магу за іх толькі памаліцца, што выконваю ў працягу двух год штодзённа. Вам таксама зашмат перапісвацца ня раю, вось ад часу да часу для ўтрыманьня кантакту. У вестцы Вы падалі... Вера, Оля і Анюта... Першая і апошняя (найстарэйшая і наймалодшая) былі, але Олі не было, была толькі празмерна малой, было толькі Сарафіна і Кацярына, гэта, як бачна, памылкова падана, таму няма ведама, як верыць у цэласьць справы.

Прывітаньні ад Прэзыдэнта ды моладзі ў Францыі перасылае Ваш пляменьнік

Янка

Жыве Беларусь!

[26] Маецца на ўвазе **Барыс Рагуля** (1920—2005).

*Sevres*, 30.XII.49 г.

Дарагі дзядзька Мікола,

Ліст Ваш з 10.12 г/г. атрымаў. Шчыра дзякую за памяць аба мне, як таксама за высланыя на Алеся[27] грошы. Сапраўды, мне вельмі прыкра, што замест таго, каб я Вам памагаў, як малады, ёсьць якраз адваротна. Мо' дасьць Бог калі зрэваншавацца.

Мая сытуацыя, цяпер, ня вельмі завідная, хоць яна ніколі не была добрай — што з аднаго боку добра, — бо дзякуючы стараньням, як у нас кажуць — „мядзьведжай услузе“ майго маскаля (дырэктара), мне адабралі стыпэндыю. Ён пераканаўся, што зь мяне янчара не зрабіць, бо ягоная „снасьць“ (якой ён стараўся мяне абрабіць) ляціць у дрэбязгі ад цьвярдзіні таго матэрыялу, зь якога я выкаваны. Цешыўся, бо думаў, што я прапаў. Аднак, як пабачыў, што я выяжджаю ў Бэльгію, гдзе быў на Кангрэсе студэнтаў нашых ды ўсё залагодзіў наперад, дык цяпер сам нярад, бо пабачыў, што мяне не зашакаваў, не вываляў, а ‘шчэ больш варожа наставіў да ўсяго, што зьвязанае з Масквой.

Прызнацца, крыўды, вялікай да яго я нямаю. Вядома, што вораг прафэсар, чалавек асьвечаны больш небясьпечны, беспараўнальна, як прымітыўны, работнік. Вось таму ён і кіраваўся гэтае лініі. Цяпер я чакаю на дазвол уезду ў Бэльгію *(Luvain)* на прадоўжаваньне студыяў[28]. (Так лёгка яму не ўдалося б мяне пазбыцца, каб не мае клопаты зь некаторымі фармальнасьцямі, г. з. прызнаньнем раўназначнасьці майго бакаляўрату з францускім. Атрымаць яго я атрымаў-бы, але на гэта патрэбны час, што не перашкаджае студыям, ён-жа скарыстаў з нагоды. Тым больш, што француженка, якая выплачвае стыпэндыі, і якая была за мяне, казала, што віна ў затрыманьні стыпэндыі толькі дырэктара).

Які рэзультат атрымаўся з Вашага зьезду? Спадзяюся, што найлепшы, бо іначай быць няможа.

Мне таксама, вельмі шкада Калодкі, і ад душы спачуваю ягонаму недамаганьню. Чалавек гэты, сапраўды, ужо даволі нацярпеўся[29].

---

[27] Верагодна, маецца на ўвазе Алесь Лашук.

[28] Як выглядае, у Бэльгію Янка Філістовіч пераехаў толькі ў сакавіку 1951 г., быў залічаны на 4-ы курс гістарычнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту. Гл.: Лукашук, Аляксандар. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. Менск: Наша ніва, 1997. С. 42.

[29] Аляксандар Калодка, прайшоўшы нямецкія канцэнтрацыйныя лягеры, прыехаў у Аўстралію ўжо хворым чалавекам. Ягоныя ўспаміны пра ⇨

Тое, што даўно ня маеце весткі ад родных, не павінна Вас палохаць, знаючы камунікацыю, наогул, у „райскім жыцьці“[30].

Жадаю шчыра Вам правесьці вясёла Каляды і спаткаць новы 1950 год, які, няхай будзе апошнім годам выгнаньня, ды прынясець Вам і нашаму народу зрэалізаваньне жаданага. Дай-жа Божа! Прывітаньне ад Прэз[ыдэнта] і сям'і ды Беларусаў з Францыі.

Ваш пляменьнік Янка

Жыве Беларусь!

*Прадмова Сяргея Ярша,*
*падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Сяргея Ярша й Натальлі Гардзіенкі*

---

⇨ лягеры былі апублікаваныя ў: Беларусы ў савецкіх канцэнтрацыйных лягерах у Нямеччыне // Бацькаўшчына. № 69. 31.08.1951. С. 4.

[30] Маецца на ўвазе Савецкі Саюз. У нэкралёгу па Міколе Скабею чытаем: *„Па капітуляцыі Нямеччыны, як толькі пачала працаваць пошта, наладзіў кантакт з сям'ёй, даведаўся, што ўсе здаровыя і што ім памагае ягоны брат зь Вільні. Вестка падтрымала на духу. Калі стала магчымым пасылаць пасылкі, памагаў, як мог“*. І ў далейшым Скабей дапамагаў сваёй сям'і, спадзяваўся, што жонка зможа атрымаць дазвол на выезд да яго, але ў 1968 годзе *„савецкі ўрад паведаміў жонцы, што дазвол на выезд ёй канчальна адмоўлены“* (гл.: Сьв. Пам. Мікола Скабей // Беларус. № 397. Студзень 1993). Сям'я Скабея жыла ў Вільні, восеньню 1951 г. яе наведваў Янка Філістовіч. Гл.: Смоленский, Л., Токарев, М. Как он стал агентом ЦРУ // Во славу Родины. 8 ліпеня 1993.

***Тодар Цімафейчык***

# ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСКУЮ ПАЎНОЧНУЮ ФРАНЦЫЮ

*Чалавеку, ня моцна заглыбленаму ў гісторыю айчыннай эміграцыі XX стагодзьдзя, можа падацца бадай неверагодным, што Францыя на сёньня адна з найменш дасьледаваных у гэтым пляне краінаў. Хоць-бы, здавалася, менавіта зь ёю павязаныя імёны Міколы Абрамчыка, Лявона Рыдлеўскага, Янкі Філістовіча, газэта „Беларускія навіны“, часопісы „Божым шляхам“ і „Моладзь“, Беларуская грэка-каталіцкая рэлігійная місія й Хаўрус. Але ўсё гэта — толькі адзін горад, хай сабе нават і Парыж. Нашыя веды пра жыцьцё беларусаў у краіне цалкам — мізэрныя.*

*Гэтым і тлумачыцца цікавасьць да параўнаўча невялікага тэксту Тодара Цімафейчыка, поўны назоў якога гучыць як „Справаздача з падарожжа ў паўночнай Францыі (Норд і Па-дэ-Кале) ад 13.9 да 28.9.52 (уключна)“*[1]*.*

*Колькі словаў пра аўтара. Тодар (калегі, па сьведчаньні Янкі Запрудніка, клікалі яго Хведзяй, Хвёдарам) Цімафейчык нарадзіўся 1 траўня 1924 г. у вёсцы Сянькоўшчына на Слонімшчыне. Ведама, што ў часы вайны быў кадэтам афіцэрскай школы БКА, пасьля — у 30-й грэнадэрскай дывізіі СС, адкуль перайшоў на бок саюзьнікаў і далей ваяваў у шэрагах 5-й крэсовай дывізіі Другога Польскага корпусу. Зь ім, як і немалая колькасьць беларусаў, у 1946 г. прыехаў у Вялікабрытанію, адкуль у красавіку 1950 г. выехаў на вучобу ў Любэнскі ўнівэрсытэт, каб студыяваць палітычныя навукі. Быў актыўным: зьяўляўся заступнікам старшыні Беларускага студэнцкага згуртаваньня, заснаваў Згуртаваньне беларускіх камбатантаў Бэльгіі; у 1954 г. выдаў першы (і адзіны) нумар часопісу „Камбатанцкі голас“.*

[1] Справаздача захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лёндане.



Тодар Цімафейчык

*Варта адзначыць, што памкненьне Тодара Цімафейчыка арганізаваць беларусаў Францыі мела некаторы працяг. Як паведамляла газэта „Бацькаўшчына", у горадзе Рубэ быў заснаваны аддзел Аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, а таксама мясцовая сэкцыя „Хрысьціянскага сындыкату работнікаў". Аўтар артыкула ў газэту, сакратар новаабранай акруговай управы Задзіночаньня Янка Лазута пісаў:*

*„Управа знаходзіцца ў цесным кантакце зь беларускімі студэнтамі ў Бэльгіі, якія з свайго боку аказваюць даволі вялікую помач у нашым арганізацыйным жыцьці, прысылаючы сваіх спэцыялістых у арганізацыйных справах. На асаблівую ўвагу заслугоўвае Згуртаваньне беларускіх камбатантаў у Бэльгіі, якое на апошнім сваім агульным зьездзе вынесла пастанову дапамагчы загранізавацца беларусам паўночнай Францыі. Старшыня гэтага згуртаваньня сп. Т[одар] Ц[імафейчык] асабіста ўзяў на сябе гэтае заданьне. Ён ахвяраваў для гэтае мэты пару апошніх тыдняў сваіх канікулаў, наведваючы асабіста работнікаў у іншых прыватных памешканьнях і арганізуючы зборкі. На працягу месяца пасьля залажэньня арганізацыі ён прачытаў у розных мясцовасьцях акругі тры даклады на беларускія гістарычныя тэмы й тэмы нашай сучаснасьці"[2].*

*Актыўнасьць беларусаў паўночнай Францыі сапраўды атрымала імпульс дзякуючы працы студэнтаў з Бэльгіі. Аднак імпэт мясцовых беларусаў аказаўся ня надта моцны і праз колькі гадоў зьвесткі пра беларускія мерапрыемствы ў рэгіёне зьніклі са старонак газэты „Бацькаўшчына". Магчыма, гэта было зьвязана і з тым, што зьехаў з Бэльгіі Тодар Цімафейчык.*

---

[2] Лазута, Я. Беларусы ў Паўночнай Францыі // Бацькаўшчына. №45—46 (124—125). 1952. С 6.

*Па заканчэньні навукі ён перабраўся ў ЗША, і вось тут штосьці адбылося. Чалавек, які ў 1945 г. у лісьце да ўладыкі Сіповіча пісаў: „Нягледзячы на тое, што лёс закінуў нас у чужую і ад веку варожую армію, мы заўсёды будзем адданыя прысязе, прынятай перад абліччам беларускага народу й нашага прэзыдэнта“[3], абарваў усялякія кантакты зь беларусамі. Адныя тлумачылі тое нейкімі асабістымі крыўдамі, другія грашылі на жонку, што летуцела пра арыстакратычныя колы й родавыя гэрбы на візытоўках, трэція вытлумачвалі сувязьзю з баптыстамі. Так ці інакш, беларуская справа страціла некалі няўрымсьлівага дзеяча, але застаўся тэкст, які адзіны цяпер можа распавесьці нам пра беларусаў на поўначы Францыі ў пачатку 1950-х гг.*

## Справаздача з падарожжа ў паўночнай Францыі (Норд і Па-дэ-Кале) ад 13.9 да 28.9.52 (уключна)

13.9.52.

Выехаў я ў Парыж дзеля спатканьня сп. інж Рыдлеўскага і сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка з мэтай атрыманьня некаторых інфармацыяў аб Беларусох у вышэйменаваных акругах. Атрымаў ад іх некаторыя адрысы больш знаных Беларусаў у гэтых акругах, як, напрыклад, Лазута Янка, Корсак Янка, Сыс Уладзімер, Нумароўскі Уладзімер, Яцкевіч Эльляш, Раманоўскі, Пацэвіч, Субач, Ткачоў Ракоп і Карадуцкі. Бальшыню з вымененых ня ведаў я асабіста. Дакладную справаздачу аб іх глядзі ў сп. Цьвіркі[4].

У дыскусіі із сп. інж. Рыдлеўскім выявілася, што ў гэтых акругах Беларусы амаль што страчаныя дзеля нашае грамадзкае справы. Сказаў ён, што мне цяжка верыць, што ім удасца сарганізаваць якую-небудзь беларускую арганізацыю, так як я вяду гэтую працу ў гэтых акругах ад 1945 г. і да гэтага часу не атрымаў ніякіх канкрэтных вынікаў.

Па маім прыезьдзе на мейсца дня 15.9.52 я сьцьвердзіў, што ў гэтых акругах знаходзіцца вельмі вялікая колькасьць беларусаў, як сп. Кашталян мяне паінфармаваў, што ўсіх беларусаў у гэтых акругах ёсьць прыблізна каля 600 чалавек. Аднак сьведамых беларусаў толькі пару

[3] Ліст захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лёндане.

[4] Маецца на ўвазе тагачасны студэнт Лювэнскага ўнівэрсытэту, а пазьней працаўнік беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“ Ўладзімер Цьвірка (1928—1992).

чалавек, а менавіта сп. Кашталян, Лазута. Гэтыя людзі працуюць над беларускай грамадзкай справай у гэтых акругах ад 1945 г., аднак да гэтых пор не асягнулі ніякіх канкрэтных вынікаў паміма іх вялікіх высілкаў і адданасьці беларускай справе (характарыстыку іх гл. у справаздачах сп. Цьвіркі).

Сп. Кашталян з сп. Лазута аказаліся вельмі дапаможнымі ў маёй місыі. Выкарыстоўвалі яны кажную вольную хвіліну часу, каб дапамагчы мне скантактавацца з паасобнымі беларусамі ў гэтым раёне. Прыходзілася мне падарожнічаць амаль што кажны дзень зь некаторым зь іх, так як яны менш-больш знали беларусаў у іх правінцыі.

Пасьля парудзённага майго падарожжа пераканаўся я, што беларусы ў гэтай правінцыі адносяцца да беларускай справы абыякава. Большасьць іх улягла польскім уплывам, знаходзячыся ў вялікім асяродзьдзі палякаў. Другія зноў, якія больш-менш стойкія й кансэрватыўныя ў беларускай справе (пераважна палешукі), цераз рэлігійнасьць і замілаваньне да праваслаўнай царквы папалі аўтаматычна цераз расейскую царкву, якое прыход знаходзіцца ў Ліль, а капліцы па ўсёй акрузе, пад расейскі ўплыў. Сьвятаром гэтае царквы ёсьць а. Кніжнікаў. Прышлося мне свайго часу наведаць гэтага сьвятара, у дыскусіі ён стараўся мяне пераканаць, што між расейцамі, беларусамі і ўкраінцамі няма ніякай розьніцы, гэта ўсё рускія. Вось пашыраючы такую ідэю, яму ўдалося ашукаць пэўную частку беларусаў у яго парафіі. Таксама ён езьдзіць да сямейных беларусаў, якія маюць дзяцей у школьным узросьце, з мэтай навучаньня праваслаўнай рэлігіі, дзе адначасова пашырае вышэйсказаную расейскую ідэю. Гэта я сям сьцьвердзіў у сем'яў сп. сп. Лагодзіча (які мае 5 дзяцей), Кавалевіча (3 дзяцей). Цераз нетактоўнасьць гэтага сьвятара ў некаторых беларусаў ён папаў у няласку, гэта толькі таму, што ня маючы рэлігійных праваслаўных кніжак, выдадзеных на эміграцыі, ён пашырае й распаўсюджвае кніжкі, выдадзеныя ў Савецкім Саюзе, у якіх ёсьць фатаграфіі Леніна й Сталіна, а таксама камуністычныя лёзунгі. Каб затушаваць гэтыя фатаграфіі й лёзунгі, ён пасклейваў карткі разам, аднак парафіяне выкрылі гэта й цяпер закідаюць яму, што ён ёсьць савецкі агэнт. Пад пакрыўкай расейскай парафіі праводзіцца там уся расейская палітычная й сацыяльная праца. Пры гэтым ёсьць створана арганізацыя рускіх камбатантаў і хрысьціянскі сіндыкат, на чале якога ёсьць нейкі Жукоўскі. Зь іхных камунікатаў даведаўся, што яны не агранічваюць дзейнасьці сваёй арганізацыі толькі да расейцаў, але, на вялікі жаль, стараюцца прыцягнуць да сябе беларусаў і ўкраінцаў, і ў выніку чаго ўжо ёсьць пэўная

колькасьць беларусаў у іхных арганізацыях. Па беларускіх справах, як а. Кніжнікаў мне сказаў, ёсьць спэцыяліст сп. Віньніков. (Характарыстыку аб ім глядзі ніжэй). Таксама царкоўным старастам гэтай царквы на Туркуан[5] зьяўляецца беларус сп. Кухто (які гутарыць цяпер выключна па-расейску, хаця ведае беларускую мову).

Паміма ўсіх уплываў расейцаў і палякаў на нашых грамадзян, з таго часу, як я зь імі скантактаваўся, большасьць зь іх зацікавілася беларускай вызвольнай справай (што праўда, займала мне гэта многа часу, каб ім кажнаму паасобку раз'ясьніць аб цяперашанім беларускім вызвольным руху і пераканаць у дачыненьні расейцаў і палякаў для беларускага вызвольнага руху).

Ня можна быць моцна зьдзіўленым, што гэтыя беларусы былі адарванымі ад нашага вызвольнага руху, так як з большасьцю зь іх ніхто зь беларускіх арганізацыяў зь імі не кантактаваўся, а таксама ад самага прыезду ў Францыю ня бачылі яны беларускае прэсы, напр.: наведаў я сорак розных адрэсаў, зь якіх толькі тры атрымоўвалі некаторую беларускую прэсу. На маю думку, гэта найбольшая памылка, якую нашы арганізацыі ў Францыі не дагледзілі, бо пасылалі яны прэсу таму, хто яе рэгулярна аплачваў. З свайго боку я прапанаваў-бы і намагаўся-бы, каб кажны беларус, нягледзячы на тое, ці ён будзе плаціць ці не за прэсу, павінен атрымоўваць беларускія газэты. З чаго ён атрымае ўсе інфармацыі аб нашым вызвольным руху, а гэтым самым безпасярэдня будзе ў кантакце з вызвольным рухам.

Таксама ўважаю, што неабходным было-б наладзіць сталы даезд і кантакт нашых беларускіх арганізацыяў у Францыі, або больш важным было-б наладзіць гэты даезд беларускіх студэнтаў з Бэльгіі і а. Смаршчка[6] (дзеля праводжаньня багаслужбаў). Уважаю, што асабісты кантакт прынясе найбольшую карысьць, так як я ўжо пераканаўся з майго двухтыднёвага аб'езду ў гэтай правінцыі. Я асабіста падымаюся вясьці гэтую акцыю аж да канчатковага зрэалізаваньня намечанае намі мэты, штоправда, будуць патрэбныя мне памочнікі да гэтае працы, а таксама адпаведныя сродкі на транспарт і ўтрыманьне. У сувязі з тым, што выдаткі на гэта падарожжа могуць быць на нашае паложаньне даволі

---

[5] **Туркуэн** (фр. *Tourcoing)* — камуна ў паўночнай Францыі ў дэпартамэнце Нор.

[6] А. Аўген Смаршчок сапраўды прыяжджаў колькі разоў, каб адведаць беларусаў паўночнай Францыі. Гл.: У.С. Беларусы ў Францыі арганізуюцца // Бацькаўшчына. №41 (120). 1952. С. 4.

высокія, я прапанаваў-бы купіць патрыманы джып, што бязумоўна-б зрэдукавала выдаткі і заашчадзіла час у аб'езьдзе па гэтай правінцыі.

Ніжэй падаю характарыстыку (у альфабэтным парадку) тых беларусаў, зь якімі я кантактаваўся;

Аляксеевіч Станіслаў: 125, рю Эдуард Осэль, Руба, Норд. Быў вывезены ў Сібір. Служыў у Арміі Андэрса. Нацыянальна слаба сьведамы. Працуе ў тэкстыльнай фабрыцы.

Адзінец Максым: рю дэ Пям, Курт Като, Туркуэн, Норд. Стары эмігрант (адрыс ягоны я дастаў з другога беларуса, асабіста ня быў у яго).

Бэнда Мікалай: 44 рю дэ ля Фос о Шэн, Рубэ, Н. Жанаты з украінкай капрал з польскае арміі. Служыў у КОП[7] на літоўскай граніцы. Нацыянальна зусім нясьведамы — прапольскі.

Буйко Язэп: 91 бульвар Фурма, Рубэ, Н[8]. Жанаты з полькай. Мае адно дзіця. Стары эміграннт. Быў агэнтам савецкай амбасады, вышукваў і высылаў савецкіх грамадзян у СССР. Браў за галаву па 12000 фр. франкаў. Цяпер скапіў капітал, купіў дом і два аўты.

Булык Міхась: 132 рю д'Альма, Кур 26 біс, Руба, Н. Нарадзіўся 1922 у Беларусі, р-н Дарагачын. Жанаты з украінкай. 3 дзяцей. Былы савецкі партызан, злоўлены й вывезены ў Нямеччыну. Апошнім часам робіцца прыхільным да беларускае справы.

Бысілак Піліп: 128 рю Нуэс Монд, Рубэ, Н. Нарадзіўся 1921 у вёсцы Варатыцке, Мотоль. Скончыў 6 кл. польскай пачатковай школы. Прарускі. Уплывае на яго Віньнікоў, так як ён яго швагер. Мае двух братоў пад гэтым адрысам: Уладзімер — 19 гадоў, Мікалай — 14 гадоў, сястра Марыя.

Бурачэўскі Масей: 12 рю Лянн, Рубэ, Н. Прыблізна 45 гадоў. Радзіўся ў Варатыцке, Мотоль. Пачатковая асьвета. Нацыянальна — слабы, але прыхільны. Мае сына Пятро — 19 гадоў, які працуе мэханікам, скончыў францускую пачатковую школу. Мае старых бацькоў.

Бародаўко Паўла: 148 рю Нэлярт, Рубэ, Н. Прыблізна 42 гады. Нарадзіўся ў Баранавічах. Быў высланы ў Сібір. У Арміі Андэрса. Асьвета пачатковая, Нацыянальна слаба сьведамы.

Чэрэпок Макары: Шэ м/Буфль, Ножон пар Асыён Мюльцьен, Уаз[9]. Прыблізна 45 гадоў. Жанаты зь беларускай. Паходзіць із Століна. Мае

[7] **КОП** — *Korpus Ochrony Pogranicza* (KOP) — корпус аховы памежжа.

[8] Тут і далей маецца на ўвазе дэпартамэнт Нор (фр. *Nord*).

[9] Маецца на ўвазе **Уаза** (фр. *Oise)* — дэпартамэнт на поўначы Францыі ў рэгіёне Пікардыя.

двох сыноў: аднаму 21 год, другому — 19. Сыны — Міхась і Ўладзімер. Дачка 10 гадоў. Нацыянальна слаба сьведамы. Прапольскі. (Атрымаў ягоны адрыс ад аднаго беларуса).

Ходорынэк Язэп: 7 рю Валенс, Марле, Ле Мін, П. д. К[10].

Чэрвінскі Міхась: прыблізна 50 гадоў. Паходзіць з акругі Менск. Служыў сэржантам у Арміі Булак-Балаховіча. Нацыянальна сьведамы, аднак не гаворыць добра па-беларуску. Стары эмігрант. Мае сына 15 гадоў: Рыгор. Адрыс: 84 рю Аршыман, Руба, Н.

Дабрынін Аляксандар: 2 рю Бэльфорт, Туркуэн, Н. Нарадзіўся ў 1923 г.. Падаецца, што паходзіць з-пад Баранавіч. Кончыў ваенную школу ў Ленінградзе. Малодшы лейтэнант савецкае артылерыі. У 1947 г. перайшоў да амэрыканцаў у ўніформе й са зброяй. Амэрыканцы яму не паверылі й прагналі назад у савецкую зону. Другі раз перайшоў ён як цывіль і падаўся па нацыянальнасьці палякам. Сказаў ім, што нарадзіўся ў Варшаве. Цяпер лічыць сябе беларусам. Ходзіць на вечаровы тэхнічны колеж. Працуе столерам (Д.П.[11]).

Філіповіч Міхась: нарадзіўся 1921 г. у Пінску. Жанаты зь беларускай, з дачкой Новіка. 2 дзяцей. Праўдападобна, быў у Маскве на нейкай школе. Служыў у 1-м польскім корпусе (Англія). Працуе ў тэкстыльнай фабрыцы.

Гарасімчак Язэп: Баракман 23 Б. Сэта дэ А. Ц. Ф. авэню дэ Бэн, Дзюнкерк. Стары эмігрант. Сям'я 6 асоб. 4 сыны, 2 блізьнюкі па 18 гадоў. Гавораць толькі па-француску. Адрыс атрымаў ад аднаго беларуса.

Гаўруковіч Казімір: 14 рю Мокелер, Туркуен, Н. 19 гадоў. Музыкант. Грае добра на акардыёне. Злажыў заяву на студэнта ў Бэльгію. Мае матку. Сам працуе ткачом у тэкстыльнай фабрыцы.

Казак Станіслаў: 28 рю Барб дэ Ор, Руба, Н. Быў вывезены ў Сібір. Служыў у Арміі Андэрса. Працуе сталяром. Нацыянальна слаба сьведамы. Асьвета пачатковая. Прапольскі.

Калясьнікевіч Мікола[12]: рю Левель, Кантын дэ ль Юзін Монбарт, Ольнуа. Нацыянальна сьведамы. Зь беларускай афіцэрскай школы ў

---

[10] Тут і далей маецца на ўвазе дэпартамэнт Па-дэ-Кале.

[11] Тут і далей маюцца на ўвазе перамешчаныя асобы *Displased persons*.

[12] Магчыма, маецца на ўвазе **Мікола Калесьнікевіч** (11.06.1924, в. Заканічы (?) — ?), што служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі, быў сябрам ЗБВБ, а потым выехаў у Францыю.

Менску. Служыў у Арміі Андэрса. Прыехаў у Францыю ў 1945 г.[13] Працуе ў мэталюргічнай фабрыцы.

Качан Уладзімер[14] : 30 рю Сант Эдуард, Лянс, П. д. К. Нарадзіўся ў 1917 г. Кавалер. Нацыянальна сьведамы. Дваюрадны брат Акулы[15] . Асьвета: 2 клясы польскай купецкай гімназіі. Далейшыя даныя гл.: вялікі апытальнік[16] .

Крыўко Мікола: рю Левель, Кантон дэ ль Юзін Монбарт, Ольнуе[17] . Прыблізна 40 гадоў. Быў вывезены ў Сібір. Служыў у Другім корпусе. Гаворыць па-беларуску заўсёды.

Князюк Мікола: 31 год. Асьвета пачатковая. Паходзіць з-пад Бабруйска. Праўдападобна, прарускі. Уплываў на яго салідарысты Жанкін. Ёсьць зь ім нейкі беларус Мікола (прозьвішча ня знаю), які скончыў 8 кл. савецкай школы, з-пад Оршы. Нацыянальна крыху сьведамы. (Дзеля адрысу кантактавацца із сп. Калясьнікевічам).

Лімашэвіч Мікалай: 128 рю Нуво Монд, Рубэ, Н. Выехаў зь Беларусі ў 1938 г. у Варшаву, ажаніўся з полькай у Лодзі. Нацыянальна слаба сьведамы. Ігнаруе беларускі вызвольны рух. Асьвета незакончаная пачатковая. Прапольскі.

Клетаніца Пётр: прыблізна 35 гадоў. Жанаты з полькай Адрыс — камунікавацца із сп. Субачам.

Кавалевіч Паўла: 26 рю дэ ля Вінь, Ватрэлё, Н. Паляшук. Жанаты з паляшучкай. 44 гады. Няпісьменны. Жонка — 6 клясаў пачатковай школы. Вельмі асьцярожныя. Мае 3 дзяцей. Старшая дачка — 15 гадоў, найменшаму сыну — 1 S года. Удома гавораць па-польску. Працуе ў тэкстыльнай фабрыцы.

Кухто Аўген: 39 рю Нюнжасар, Ватрэлё а Колі, Н. Прыблізна 35 гадоў. Вучыўся пры саветах на ўнівэрсытэце ў Львове. Скончыў карэспандэнцыйна студыі ў Францыі. Атрымаў дыплём інжынера. Жонка мае сярэднюю асьвету. Дачка папа. Гавораць толькі па-расейску, хаця знаюць беларускую мову. Нарадзіўся ён у Пінску. Царкоўны староста расейскае царквы на Туркуэн. Прарасейскі.

[13] Магчыма, Цімафейчык памыляецца, бо жаўнеры Арміі Андэрса спачатку ў 1946 г. былі перавезеныя ў Вялікабрытанію, і толькі пазьней дэмабілізаваныя.

[14] Маецца на ўвазе **Уладзімер Качан** (1918—?), былы жаўнер Арміі Андэрса.

[15] Маецца на ўвазе пісьменьнік **Кастусь Акула** (1925—2008).

[16] Дакумэнт ня выяўлены.

[17] Маецца на ўвазе **Альнуа-ле-Валансьен** (фр. *Aulnoy-lez-Valenciennes*) — камуна на поўначы Францыі ў дэпартаменце Нор.

Касьцяк Аляксандар: (адрыс атрымаў ад аднаго беларуса, хаця й недакладны) С. А. И., Ля Бурс, П. д. К.

Крыванос Валентын: нарадзіўся ў 1914 г.. З-пад Ліды. Жыў пад адрысам рю Аж'е, Рубэ, Н. Выехаў у правінцыю Дыжон. Пра адрыс трэба запытацца ягонага брата, які падаю ніжэй.

Крыванос Станіслаў: 17 рю Рож Салямбен, Ліс Лянуа, Н. 36 гадоў. Жанаты з украінкай. Каталік. Менш-больш сьведамы.

Клімашэвіч Міхась: Камп №2, Флін пар Раша, Н. Служыў у Арміі Андэрса. Быў у палоне ў Нямеччыне. Паходзіць зь Бярозы Картускай. Працуе ў капальні. Жанаты з украінкай. Мае двое дзяцей.

Кашталян Уладзімер: 11б рю дэ Альжэр, Рубэ, Н. (Характарыстыку глядзі ў справаздачы Цьвіркі).

Лагодзіч Міхась: 28 рю Ліль, Рубэ, Н. Жанаты зь беларускай. 2 малых дзяцей. Паходзіць з раёну Янава (Пінск). Нацыянальна слаба сьведамы. Вельмі рэлігійны, цераз гэта папаў пад уплыў расейцаў. Ёсьць сябрам расейскага царкоўнага камітэту.

Міхалоўскі Пятро; 225 рю Эдуард Осаль, Рубэ, Н. Быў вывезены ў Сібір. Служыў у Арміі Андэрса. Жанаты з італьянкай. Мае двое дзяцей. Асьвета пачатковая. Слаба сьведамы, аднак прыхільны.

Марзан Піліп: 65 бульвар дэ Пары, Рубэ, Н. Паходзіць з Мотоль. Сын яго Васіль жанаты з полькай. Сам няпісьменны й слаба сьведамы. Д. П.

Маркевіч Язэп: 64 рю Тосса, Туркуэн, Н. Прыблізна 40 гадоў. Жанаты з украінкай. 4 дзяцей. Дзеці гавораць па-польску. Стары беларускі дзеяч з часоў Грамады, за што папаў у вязьніцы НКВД, дзе сядзеў разам з палкоўнікам Міколам Аўсянікам, які цяпер знаходзіцца таксама дзесьці ў Норд. Нацыянальна сьведамы, аднак мае страх уступаць ува ўсе беларускія арганізацыі, гаворачы, што апёкся ў арганізацыях Грамады, так як многія зь яго сяброў былі агентамі НКВД. Грае прыгожа на акардыёне. Працуе ў тэкстыльнай фабрыцы.

Мацук Піліп: рю Курбат, Кур сэнт Люі №42, Рубэ, Н. Стары эмігрант. Прыехаў у Францыю па дакумэнтах свайго брата. Поўны камуніст. Жанаты з полькай. 2 дзяцей. сын — 26 гадоў, дачка — 18 гадоў. Прапольскі.

Новік: 44 рю Фос о Шэн, Рубэ, Н. Паляшук. Вялікая сям'я. Два сыны жанатыя, 2 дачкі замужнія і адна дачка 16 гадоў. Паходзяць з Варатыцке, Матоль. Адзін сын Цімох быў у беларускай паліцыі. Д. П.

Наумовец: жыве каля станцыі Рубэ. Жанаты з украінкай. Адрысу дакладнага ня знаю. Дазнаўся аб ім сп. Лагодзіча.

Олейнік Клаўдзя: 95 Шэмэн дю Шаляж, Марк Бароль, Н. Замужняя за ўкраінцам. Мае сына 16 гадоў, які ходзіць у школу і гаворыць толькі па-французку.

Омельяновіч: рю Нуво Монд, Рубэ, Н. Прыблізна 38 гадоў. З акругі Баранавічы. Нацыянальна слаба сьведамы. Прапольскі. Працуе ў тэкстылі. Д. П.

Піліпчук Аляксандар: 223 Эдуард Осэльле, Кур №5. Вывезены ў Сібір. Служыў у Арміі Андэрса. Менш больш сьведамы. Жанаты з полькай, мае 1 дзіцё.

Пагодзін Цімафей: 66 рю Люсыен, Моро, Базьер, Н. Прыблізна 38 г. Служыў 4 гады ў чужынецкім легіёне. Асьвета пачатковая. Нацыянальна слаба сьведамы. Працуе сталяром. Мае брата Сьцяпана 34 гады, які таксама служыў у легіёне. Апошні час ляжыць у бальніцы.

Русак Казімір: 14 рю Жан д'Арк, Ромба, Мозэль. Прыблізна 36 гадоў. З-пад Ліды. Быў у французкай арміі капралам, у польскай арміі сержантам. Слаба гаворыць па-беларуску, аднак вельмі любіць беларусаў. Кавалер. Асьвета пачатковая.

Русак Сьцяпан: (адрыс ягоны знае Субач).

Шчэсны Янка: нарадзіўся ў 1917/18. Служыў у 11-м корпусе. Слаба сьведамы. Прапольскі. Адрыс: Баракман рю дэ Леваль, Ольнуа, Н.

Стахэйко Андрэй: 128 рю Нуво Монд, Рубэ, Н. Прыблізна 45 гадоў. Нарадзіўся ў Горынь. Раён Столін, Пінская акруга. Мае 3 дзяцей. Працуе сталяром. Прапольскі.

Стэцько: 2 Шато Этранжэ, рю Фэтлерб, Мадэлен, Н. Прыблізна 45 гадоў. З раёну Брэсьць. Жанаты з беларускай. Мае 4 дзяцей. Дзеці гавораць па-польску. Сын 19 гадоў, дачка — 17. Быў вывезены ў Сібір. Служыў у Арміі Андэрса. Слаба сьведамы.

Шчарбіцкі Мікола: Сітэ Сэдрэф, 163, Баракман, Лібэркур, П. д. К. У арміі служыў шофэрам, дзе быў у асяродзьдзі беларусаў зь беларускай афіцэрскай школы, дзякуючы чаму нацыянальна ўсьвядомлены.

Сыс Міхась: 169 Сітэ дэ Буа, д'Эпінуа а Лібэркур, П. д. К. 19 год. Бацькі ягоныя старыя эмігранты, выехалі цяпер у БССР. Па-беларуску гаворыць слаба. Асьвета пачатковая. Мае двух братоў: Косьця — 21 год, жанаты з полькай, працуе ў капальні, згаласіўся на выезд у БССР у 1946 годзе, заехаў аж за Бэрлін, дзе яго пратрымалі ў падвале 10 дзён на дапросах, пасьля чаго выпусьцілі, і яму больш адхацелася ехаць у БССР, і ён уцёк назад. Брат Янка — 16 гадоў — скончыў пачатковую школу. Усе яны нацыянальна сьведамыя.

Шчарбук Янка: Этаблысман Казанов, Бэлін (Жэронд). Нарадзіўся ў Пінску ў 1922 г. Скончыў сярэднюю польскую ральнічую школу. Жа-

наты зь беларускай. Дзяцей ня мае. Працуе ў тартаку. Нацыянальна сьведамы.

Шылько Францішак: 31 рю д’Альжыр, Рубэ, Н. Прыблізна 27 гадоў. Із Старай Вялейкі. Жанаты з полькай, мае 2 дзяцей. Прапольскі.

Шымко Міхась: 163, Сітэ 6, Дрэв, Лібэркур. Прыблізна 36 гадоў. Кавалер. Хадзіў у гімназію. Нацыянальна сьведамы.

Ткачоў Пракоп: нарадзіўся ў 1908 г. у Вялейцы. Жанаты зь беларускай. Жонка Эўдакія — з 1911, таксама зь Вялейцы. Дзеці: Аўген — 1936, Аляксандар — 1938, Ніна — 1941, Марыя — 1944, Адр.: Кур Діжон №156, Острукур.

Урадзімскі Мікола: 19 рю дэ Морсо, Кур №5, Рубэ, Н. Нарадзіўся прыблізна ў 1921 г. Быў у нямецкай арміі, пасьля ў Чужынецкім легіёне. Жанаты з полькай. З асьветай слаба. Прапольскі.

Вінніков: 128 рю Нуво Монд, Шамбр 61, Рубэ, Н. Прыблізна 42 гады. Зь Віцебска. Вялікі салідарыст. Не пагаджаецца з нашым вызвольным рухам. Гаворыць, што Расеі падзяліць ня можна ні ў якім выпадку. Савецкі інтэлігент. Жыве з аднэй беларускай удавой, бяз шлюбу.

Вадзюцін Віталі: рю Очыль, Тэстэлен, 16 Ампас Вікур, Туркуэн, Н. нарадзіўся ў 1925 г. у Гомельшчыне. Асьвета: 9 клясаў савецкай школы. Служыў у нямецкай арміі радыстам. Цяпер працуе сталяром. Лічыць сябе беларусам, аднак чуе вялікую сымпатыю да расейцаў.

Ярошэвіч Янка: Стары эмігрант. Беларускі дзеяч з часоў Грамады, дзеля чаго быў змушаны выэміграваць у Францыю. Мае двох сыноў. Аднаму 26 гадоў, які ўжо ёсьць інжынэрам, а малодшы канчае ў гэтым годзе гімназію. Нацыянальна менш-больш сьведамы. Вельмі рэлігійны.

Агульныя заўвагі.

Так як я ўжо зазначаў вышэй, што ў гэтым раёне знаходзіцца вялікая колькасьць беларусаў і іх характарыстыка ўжо гаворыць за сябе, што там трэба ўлажыць вялікую працу над усьведамленьнем гэтых людзей. На маю думку, вельмі карысным было-б ладзіць беларускія вечарынкі, што змаглі-б згуртаваць беларускую моладзь, якая ў большыні апалячана або зрусыфікавана.

Таксама вельмі карысным было-б даць адзін канцэрт Беларускага студэнцкага ансамблю ў Ліль[18] або ў Туркуэн, што бязумоўна падтры-

[18] У газэце „Бацькаўшчына“ была абвестка, што на 6 сьнежня 1952 г. быў сапраўды заплянаваны выступ Лювэнскага студэнскага хору ў Рубэ. Гл.: Гадавіна Слуцкага паўстаньня ў Францыі // Бацькаўшчына. №47—48 (126—127). 1952. С. 8.

мала-б нашых грамадзян на духу, а таксама й пашыралася-б прапаганда сярод чужынцаў. Гэтым самым мы далі-б магчымасьць нашым беларусам верыць у нашую сілу й зарганізаванасьць.

У сувязі з маім падарожжам па гэтай акрузе большасьць беларусаў моцна зацікавілася нашай вызвольнай ідэяй, у выніку чаго прыбылі на Зьезд дня 28.9.52 у вялікай колькасьці. На зьезьдзе было прысутных разом з гасьцямі 60 чалавек. Зьезд адбыўся паводля парадку дня, які залучаю да справаздачы. На Зьезьдзе была выбрана ўправа на акругу Норд і Па-дэ-Кале ў наступным складзе: старшыня — сп. Раманоўскі, сакратар — сп. Лазута Янка, скарбнік і кальпартэр прэсы — сп. Кашталян Уладзімер. Наглядная Рада: старшыня — сп. Чэрвінскі, сябры — сп. Качан і сп. Калясьнікевіч[19] . Аб прабегу зьезду глядзі пратакол з гэтага зьезду. Па заканчэньні Зьезду дня 28.9.52 мая місыя скончана і я вярнуўся ў Львэн.

П. С. Аб інцыдэнце ў справе царквы будзе зьмешчаны артыкул у „Бацькаўшчыне“[20] .

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

[19] Пра гэтую падзею паведамлялася ў друку: У.С. Беларусы ў Францыі арганізуюцца // Бацькаўшчына. №41 (120). 1952. С. 4.

[20] Адпаведны матэрыял у газэце ня знойдзены.

***Айцец Леў Гарошка***

## [НА СЬМЕРЦЬ ЛЯВОНА РЫДЛЕЎСКАГА][1]

Разьвітацца на векі з інж. Рыдлеўскім вельмі балюча і цяжка. Ды яшчэ тым цяжэйшае гэта разьвітаньне, што яно адбываецца далёка ад роднае Бацькаўшчыны Беларусі, якую ён любіў усёю сваёю істотаю жадаў занесьці свае косьці на родную зямлю.

У асобе пакойніка адыходзіць ад нас чалавек, які ўсё сваё жыцьцё злажыў як ахвяру на аўтар Бацькаўшчыне, на службу беларускаму народу. Яшчэ юнаком пайшоў ён у рады слуцкіх паўстанцаў, і ад таго часу змаганьне за вызваленьне Беларусі стае ідэалам ягонага дачаснага жыцьця.

Пасьля задушэньня паўстаньня Лявон Рыдлеўскі стаецца вучням Віленскае беларускае гімназіі, і хоць сам ня мае гроша пры душы, знаходзіць яшчэ магчымасьць несьці помач сіратам у прытулку. Калі беларускія грамадзкія дзеячы ў Вільні патрабуюць людзей да нейкіх рыскоўных даручэньняў, дык ведаюць, што Рыдлеўскі ніколі не адмовіцца іх выканаць.

Скончыўшы гімназію, ён пераходзіць на зялёна чэхаславацкую граніцу й вучыцца ў Пражскай палітэхніцы і ў часе студыяў заўсёды знаходзіць час і ахвоту быць у радох тых, дзе вядзецца беларуская грамадзкая праца.

Атрымаўшы тытул інжынэра, ён разам з інж. Міколам Абрамчыкам накіроўваецца ў Францыю, каб весьці грамадзкую працу між сваімі суродзічамі на эміграцыі. Тут трэба было ператрываць цяжкі час беспрацоўя і яшчэ цяжэйшы наступ камуністычнае прапаганды між работнікамі, якая ў тагачасных умовах між работнікамі мела вельмі падатны грунт. Каб магчы ёй супрацьставіцца, ён разам з інж. Абрамчыкам

[1] Машынапіс захоўваецца ў архіве БІНіМу. Асаблівасьці мовы арыгіналу захаваныя.



Лявон Рыдлеўскі.
Францыя, травень 1945 г.

закладаюць першую беларускую арганізацыю ў Францыі „Хаўрус“. Аднак крайняя матэрыяльная цяжкасьць змушае яго выехаць на правінцыю, дзе здарылася атрымаць месца інжынера ў аднэй фабрыцы. Гэта былі гады 1937—1938 — адзіны кароткі час, які ў жыцьці пакойнага можна назваць спакойным. Але гэты час перарывае Другая сусьветная вайна. Інж. Рыдлеўскі кідае фабрыку і добра аплачаванае месца, бо трэба было бараніць беларускіх работнікаў, а калі Францыю займаюць немцы, сам ідзе ў рады рэзыстансу.

Пасьля вайны трэба было нанава наладжваць беларускае арганізацыйнае жыцьцё ў Францыі і адначасна весьці беларускую вызвольную справу ў міжнародным абсягу, і тут пакойны мусіць сапраўды разрывацца, каб выканаць усе тыя абавязкі, якія ўскладваюцца на ягоныя плечы. Як неадлучны й найбліжэйшы супрацоўнік прэзыдэнта інж. Абрамчыка ён ідзе ўсюды, дзе вымагае беларуская вызвольная справа й дабро беларускае эміграцыі.

У Парыжы арганізуецца ў 1945 г. Аб’еднаньне Беларускіх Работнікаў пры Хрысьціянскім Сындыкаце Работнікаў у Францыі — інж. Рыдлеўскі стае першым і доўгагадовым Гэнэральным сакратаром;

выдаецца першая пасьля Другое сусьветнае вайны ў 1945 г. беларуская газэта на эміграцыі „Беларускія навіны“ — інж. Рыдлеўскі быў яе адказным рэдактарам;

*IRO* ладзіць апеку над уцекачамі — інж. Рыдлеўскі стае беларускім прадстаўніком у Францыі;

арганізуецца ў Францыі сэктар Рады БНР — інж. Рыдлеўскі ў гэтым прыймае найбольшы актыўны ўдзел;

у 1948 г. арганізуецца Сусьветнае Аб’еднаньне Беларускае Эміграцыі — інж. Рыдлеўскі выбіраецца старшынёю;

у тым-жа часе паўстае міжнароднае аб’еднаньне журналістаў з-за зялезнае заслоны — інж. Рыдлеўскі стае сябрам управы;

утвараецца Міжнароднае Аб’еднаньне Хрысьціянскіх Сындыкатаў Работнікаў — інж. Рыдлеўскі выбіраецца намесьнікам старшыні;

калі беларускія работнікі ў Францыі маюць які клопат з дакумэнтамі, дык гэта так-жа інж. Рыдлеўскі, дзе можна знайсьці параду й помач.

Абавязкі збольшваліся з дня на дзень, яны ў некалькі раз перавышалі фізычныя магчымасьці аднаго чалавека, але вось трагедыя — адкуль узяць на пражыцьцё для гэтага чалавека? Беларуская калёнія ў Францыі была замалая, дый заробкі іхныя былі лішне нізкія, каб магчы ўтрымаць хоць аднаго платнага чалавека. Аднак інж. Рыдлеўскі ня кідаў узложаных на яго становішчаў; чаму? Адказ быў вельмі просты: няма кім заступіцца. Гэта сумны факт беларускага арганізацыйнага жыцьця на эміграцыі.

Пераладаваны абавязкамі, ня мог інж. Рыдлеўскі выканаць іх нават у частцы, бо гэта пераходзіла проста фізычныя людзкія сілы, дык ня раз на яго сыпаліся дакоры, але ён і іх прыймае, як яшчэ адзін цяжар больш.

Цяжкае, неспакойнае жыцьцё і яшчэ цяжэйшае матэрыяльнае палажэньне выснажыла перадчасна ягоныя сілы; зьявіліся трывожныя знакі, трэба было адцягваць ад абавязкаў, але помачы неадкуль было ўзяць. Толькі дзякуючы прэз. Абрамчыку і яшчэ пары ахвярных асобаў добрае волі робіцца апошні высілак, каб ратаваць пахіснутае здароўе, інж. Рыдлеўскі прыяжджае ў Англію, каб у зацішшы хоць крыху ачуняць, але тут хутка выяўляецца, што няўмольная хвароба пагражае жыцьцю і што дні ягонага жыцьця хутка дабягуць да канца.

Ён адышоў ад нас, не дачакаўшы тае сьветлае хвіліны, аб якой усьцяж лятуцеў. Ён закрыў на векі вочы, ня глянуўшы на вольную Беларусь, але мы верым і будзем горача маліць Бога, каб прыняў усе ягоныя ахвяры і яму самому даў вечны супакой, а для дарагое Бацькаўшчыны паслаў хутка волю й незалежнасьць, і там, на волі, яго будуць заўсёды ўспамінаць шчырым словам.

Сёньня ўжо званкі пры дзьвярах не ўзварушаць цябе, ня будзеш больш сьпяшацца па справах, ня будзеш больш глядзець на гадзіньнік, каб не спазьніцца на нейкае паседжаньне...

Хай Табе Бог дасьць сьветлы супакой для душы, а чужая зямля хай будзе пухам для спрацаванага цела.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

***Айцец Леў Гарошка***

# ТРЫЦЦАЦІГОДЗЬДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ДУШПАСТЫРСТВА Ў ФРАНЦЫІ (1946—1976)[1]

## Крыху гісторыі

Беларуская эміграцыя ў большай колькасьці зьявілася ў Францыі пасьля 1812 г. разам з адступаючаю напалеонаўскаю арміяю, але яны ня мелі свайго духавенства, і хоць у большай грамадзе жылі ў Ліёне, але не пакінулі па сабе ніякага сьледу.

Другая большая хваля беларускае эміграцыі зьявілася ў Францыі пасьля паўстаньня 1831 г. Тады нямала беларускае шляхты затрымалася ў Парыжы, але яны былі моцна спалянізаваны, і хоць між імі быў нават паэт Аляксандар Рыпінскі[2], які нават чытаў лекцыі аб беларусаведзе і выдаў іх асобнаю кніжкаю пад назовам „Białoruś“ (Парыж, 1840[3]), але ён разам зь іншымі зацерліся ў польскай грамадзе.

---

[1] Тэкст у выглядзе невялікай брашуры на 10 старонак быў выдадзены у Парыжы ў 1976 г. Пры публікацыі захоўваюцца адметнасьці мовы арыгіналу.

[2] **Аляксандар Рыпінскі** (1811 — каля 1900), паэт, фальклярыст, выдавец. Вучыўся ў Віцебскай базыльянскай гімназіі, а пазьней ў школе прапаршчыкаў у Дынабургу (сёньня Даўгаўпілс, Латвія). Браў удзел у паўстаньні 1830—1831 гг. Па задушэньні паўстаньня разам з атрадам перайшоў мяжу з Прусіяй. Ад 1833 г. знаходзіўся ў Парыжы, дзе пасябраваў з Адамам Міцкевічам. Быў сябрам французскай Акадэміі прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, рамёстваў і гандлю. У 1840 г. выдаў у Парыжы дасьледаваньне „Беларусь“, дзе ўпершыню сыстэматызаваў беларускую вусную народную творчасьць паводле жанраў і тэматыкі.

[3] Rypiński, Aleksander. Białoruś! Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji… Paryż, 1840. 228 s.

Шмат беларусаў з Заходняе Беларусі з-пад Польшчы выехала ў Францыю на працу пасьля 1925 г. Тады знайшоўся гурток сьведамых беларусаў у Парыжу, і яны пачалі стараньні, каб стварыць сваю арганізацыю. Да іх прыехала ў 1931 г. двох інжынэраў з Прагі, і ў 1931 г. была створана першая беларуская арганізацыя ў Францыі — Аб'еднаньне беларусаў у Францыі „Хаўрус". Але душпастырства для беларусаў і цяпер ня створана, хоць у тым часе ў Паўночнай Францыі быў сьведамы і актыўны беларускі каталіцкі сьвятар лацінскага абраду кс. Францішак Чарняўскі[4] . Ён якраз за сваю беларускасьць быў высланы зь Беларусі віленскім архібіскупам Ялбжыкоўскім[5] для працы між польскімі работнікамі ў Паўночнай Францыі і быў зьвязаны юрысдыкцыяю з польскаю місыяю ў Францыі. Ён жыў у добрых адносінах зь беларускімі дзеячамі, але дзеля свае залежнасьці ад польскае місыі ня мог арганізаваць беларускага душпастырства.

У тым часе ня толькі ў Францыі, але агулам нідзе беларусы на эміграцыі ня мелі сваіх душпастырскіх цэнтраў, ані праваслаўных, ані каталіцкіх, аж да часу Другое сусьветнае вайны. Самаю першаю спробаю арганізацыі беларускага душпастырства на эміграцыі было каталіцкае душпастырства ўсходняга абраду ў Бэрліне, запачаткаванае 30 жніўня 1944 г. І толькі пасьля гэтага ў наступным месяцы зьявілася ў тым-жа Бэрліне беларускае праваслаўнае душпастырства. Але яны праіснавалі нядоўга.

У Францыі ў часе Другое сусьветнае вайны ад часу нямецкае акупацыі Парыжу ўсе арганізацыі, у тым ліку й беларускія, былі разьвязаны. Але пасьля заканчэньня вайны дзейнасьць беларускае арганізацыі „Хаўрус" была адноўлена. А таму, што колькасьць беларусаў у Францыі збольшвалася і была патрэба юрыдычнае помачы работнікам, дык была створана беларуская сэкцыя пры Францускім хрысьціянскім сындыкаце работнікаў, але беларускага душпастырства і цяпер не было, хоць у грамадзе новых эмігрантаў быў беларускі праваслаўны сьвятар архімандрыт Уладзімір Фінькоўскі[6] , які жыў у Парыжу. На просьбу ўправы „Хаўрусу" ён адслужыў сьв. Літургію за Беларусь 25 сакавіка 1945 г., але далей справа не пайшла.

---

[4] Ксёндз **Францішак Чарняўскі** (1893—1979) працаваў у Францыі ад 1929 г.

[5] **Рамуальд Ялбжыкоўскі** (1876—1955), каталіцкі дзеяч, у 1926—1955 гг. — арцыбіскуп віленскі.

[6] **Уладзімер Фінькоўскі** (1906 — пасьля 1960), рэлігійны дзеяч, жыў у Францыі пасьля Другой сусьветнай вайны.

Але ад тады была больш адчувальнаю патрэба беларускага душпастырства ў Францыі. У тым часе ў Парыжу ўжо існавала некалькі місыяў для паасобных нацыянальных групаў эміграцыі і тварыліся новыя місыі; у 1945 г. створана душпастырства для маранітаў[7], у 1946 — для румынаў, чэхаў і славакаў. Дык кіраўнікі беларускіх арганізацыяў, парадзіўшыся з рэктарам украінскае грэка-каталіцкае місыі, зьвярнуліся да Апостальскага Пасаду лістом з 20 верасьня 1945 г. з просьбаю ўтварыць у Францыі каталіцкую беларускую місыю ўсходняга абраду.

Той ліст быў перасланы ў Кангрэгацыю для Ўсходніх цэркваў і быў для Кангрэгацыі неспадзяванкаю, бо да гэтага часу яны практычна не займаліся беларускім рэлігійным пытаньнем.

Уласьціва, у Канкгрэгацыі для Ўсходніх цэркваў беларусы былі добра ведамы з унійнага руху ў Заходняй Беларусі, з утварэньня грэка-каталіцкіх Экзархатаў і ў тым ліку для Беларусі, але тыя спробы былі зьнішчаны, а аб беларусах на эміграцыі мелі замала вестак. Таму тагачасны прэфэкт Кангрэгацыі для Ўсходніх цэркваў кардынал Тысэран[8] зьвярнуўся да ўкраінскага япіскапа Івана Бучко[9] і да некаторых беларускіх сьвятароў з просьбаю інфармацыі аб беларускай эміграцыі ў Францыі.

У міжчасе прыяжджаў у Рым (у лютым 1946 г.) парыскі кардынал Эмануэль Сюар[10], дык 25 лютага да яго зьвярнуўся а. Гарошка з прапановаю, каб ён даручыў душпастырства беларусаў у Францыі кс. Чарняўскаму. Аднак з тае прапановы нічога ня выйшла дзеля залежнасьці кс. Чарняўскага ад Польскае місыі.

Інфармацыі аб беларусах у Францыі, якія атрымала Ўсходняя кангрэгацыя, былі прыхільнымі для беларусаў, дык пастаноўлена выслаць у Францыю аднаго беларускага сьвятара ўсходняга абраду. У тым часе, гэта значыць у 1946 г., было ў Рыме трох беларускіх сьвятароў; адзін лацінскага абраду — кс. П. Татарыновіч, і двох усходняга абраду —

7 **Мараніцкая каталіцкая царква** — адна з шасьці ўсходніх каталіцкіх цэркваў, што маюць статус патрыярхату. Большасьць яе вернікаў жывуць у Ліване.

8 **Эжэн Тысэран** (1884—1972), францускі й італійскі кардынал, у 1936—1959 гг. — сакратар Сьвяшчэннай кангрэгацыі па справах Усходняй царквы.

9 **Іван Бучко** (1891—1974), украінскі грэка-каталіцкі япіскап, ад 1946 г. — Апостальскі візітатар украінцаў-каталікоў у Заходняй Эўропе.

10 **Эмануэль-Сэлестэн Сюар** (1874—1949), францускі кардынал, ад 1940 г. быў арцыбіскупам Парыжу.



Айцы Часлаў Сіповіч і Леў Гарошка каля кляштару лазарыстаў у Парыжы

а. Л. Гарошка і а. Ч. Сіповіч[11]. Яны абодва былі занятыя: а. Гарошка з даручэньня Рымскага вікарыяту быў апякуном над беларусамі ў італьянскіх лягерах для ўцекачоў, а а. Сіповіч канчаў свае студыі й працаваў над дактарскаю тэзаю. Але ад палавіны 1946 г. ужо Армія Андэрса пераяжджала з Італіі ў Англію, і таксама разгружаліся лягеры. Дык на нарадзе ва Ўсходняй Кангрэгацыі пастаноўлена выслаць у Францыю а. Л. Гарошка.

Ён адразу пачаў рыхтавацца ў дарогу. Якраз тады канчаўся друк малітоўніка „Божым шляхам“[12], але былі клопаты з дакумантамі. Ён прыехаў у Італію зь Нямеччыны бяз аніякіх дакумантаў дзякуючы Папскай камісыі, якая перавозіла зь Нямеччыны італьянскіх палонных, а ў Францыю так праехаць было немагчыма.

Але з дапамогаю прыйшоў Міжнародны Чырвоны Крыж. Там выставілі дакумэнт, на які французкі кансулят даў візу, і 25 кастрычніка

[11] **Часлаў Сіповіч** (1914—1981), будучы грэка-каталіцкі біскуп, у 1938 г. прыехаў у Рым для навучаньня ў Грыгарыянскім унівэрсытэце.

[12] Маецца на ўвазе: Божым Шляхам. Малітаўнік для беларусаў / уклад. а. Леў Гарошка. Рым, 1946. 176 с.

1946 г. а. Леў Гарошка прыехаў у Парыж як рэктар Беларускага каталіцкага душпастырства і затрымаўся ў манастары айцоў лазарыстаў[13] .

## Арганізацыя душпастырства

Тады ў Парыжу ўсе душпастырствы для нацыянальных групаў называліся місыямі, дык з прыездам а. Гарошка зьявілася ў Францыі Беларуская каталіцкая місыя ўсходняга абраду. Але яе трэба было арганізаваць даслоўна зь нічога. Беларусаў у Францыі было некалькі тысяч, але ў Парыжу і ў бліжэйшых ваколіцах было ўсяго 200 чалавек, у большасьці праваслаўных. Арганізацыйнае жыцьцё беларусаў тады было належна ўладжанае. Нягледзячы на шматлікія цяжкасьці, усе беларусы, якія прыяжджалі ў Францыю зь іншых краінаў, дзякуючы стараньням інж. Л. Рыдлеўскага, старшыні Беларускае сэкцыі Хрысьціянскага сындыкату французкіх работнікаў, уладжваліся на працу і знаходзілі памешканьні.

Але для душпастырства цяжка было знайсьці адпаведнае памешканьне. Рэктару душпастырства прыйшлося зьвярнуцца да Апостальскае нунцыятуры ў Парыжу. Тады нунцыем быў архіб. Ронкальлі[14] , пазьнейшы папа Ян XXIII. Ён з уласьцівай яму шчырасьцю зазначыў, што ў тым часе ўсюды былі цяжкасьці, дык няма іншае рады, як рабіць тое, што магчыма.

Пасьля доўгіх пошукаў рэктару душпастырства ўдалося знайсьці часовае памешканьне для багаслужэньняў у крыпце царквы Сан Сюльпіс[15] , і там адбылася першая сьв. Літургія для беларусаў 24 лістапада 1946 г.

А ў наступным месяцы адведаў беларускую грамаду біскуп Баляслаў Слосканс[16] , які ў тым часе з даручэньня Апостальскага Пасаду адведваў усе эўрапэйскія грамады беларусаў.

---

[13] **Лазарысты** — каталіцкая мужчынская кангрэгацыя, заснаваная ў XVII ст. сьв. Вікенціям дэ Полем. У Парыжы яшчэ ў 1632 г. гэтаму місіянэрскаму ордэну быў перададзены кляшчат Сэн-Лазар, адкуль і пайшла назва „лазарысты“.

[14] **Анжэла Джузэпэ Ранкалі** (1881—1963), каталіцкі дзеяч, у 1958—1963 гг. — рымскі папа **Ян XXIII**. У 1944 г. ён быў прызначаны папскім нунцыем у Францыі.

[15] **Царква Сэн-Сюльпіс** у Парыжы знаходзіцца паміж Люксэмбурскім садам і бульварам Сэн-Жэрмэн.

[16] **Баляслаў Слосканс** (1893—1981), каталіцкі ярарх. У 1926 г. прызначаны Папам Рымскім апостальскім адміністратарам Менскім і Магілёўскім,⇨



Беларусы Парыжу каля царквы Сэн-Сюльпіс. 29 красавіка 1947 г.

Адразу да душпастырскае дзейнасьці Беларускага душпастырства далучыліся шматлікія іншыя справы эміграцыйнага жыцьця. Трэба было памагаць моладзі знайсьці магчымасьць прадаўжаць асьвету, а старэйшым сямейным эмігрантам, якія мелі намер аставацца ў Францыі, шукаць матэрыяльнае помачы, а перадусім трэба было шукаць сваіх людзей у тых ваколіцах, дзе яны жылі без кантактаў з суродзічамі.

Рэктару душпастырства трэба было шмат езьдзіць. У траўні 1947 г. ён езьдзіў у Бэльгію ў справе магчымасьці студыяў для беларускіх студэнтаў у Лювэнскім унівэрсытэце, але сьцьвердзіў факт, што там перш мусіць быць хтосьці на мейсцы, каб уладзіць справу студыяў. А тымчасам яму ўдалося атрымаць для парыскіх студэнтаў аднагодную стыпэндыю для пяці студэнтаў на 1948/49 акадэмічны год. А ў наступных гадох удалося атрымаць стыпэндыі для беларускіх студэнтаў ад францускае арганізацыі, якая займалася студэнтамі зь іншых краінаў.

⇨ біскупам Менскай і Магілёўскай архідыяцэзій. За рэлігійную дзейнасьць перасьледаваўся савецкімі ўладамі. Адседзеў шэсьць гадоў у сталінскіх лягерах. У 1933 г. паводле абмену палітвязнямі выехаў у Латвію. Ад восені 1944 г. — на эміграцыі. У 1952 г. прызначаны Ватыканам апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў у Эўропе.




Беларускі кірмаш-выстава
ў Парыжы. 1—2 красавіка 1950 г.

Для кантактаў між усімі раскінутымі па сьвеце суродзічамі Беларускае душпастырства ў Францыі пачало выдаваць ад кастрычніка 1947 г. рэлігійны часапіс „Божым шляхам". Спачатку ён выходзіў як месячнік, а пачынаючы ад 1951 г. як двумесячнік[17].

Калі амэрыканскія дабрадзейныя ўстановы пачалі раздаваць ад 1949 г. розную помач для ўцекачоў, якія знайшліся ў Францыі, дык гэта помач ішла празь Беларускае душпастырства ў Францыі. Хаця тая помач складалася з паношанае вопраткі й харчоў, але яна была вельмі на часе, бо тады ўжо некаторыя беларусы пачалі купляць зямлю, каб будаваць свае дамы, дык для іх тая помач была ўпрост правідэнцыяльнаю. Варта заўважыць, што ў тым часе нават баўгары, якія ня маюць у Францыі свайго душпастырства, атрымалі помач праз Беларускае душпастырства для грамадаў у Парыжу й Ле Крэзо[18].

Ад 1949 г. да дзейнасьці Беларускага душпастырства ў Парыжу дайшла справа стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе. Хоць гішпанцы самі мелі цяжкасьці даваць помач сваім студэнтам, але не забываліся і аб уцекачох зь іншых краінаў. Спачатку было магчыма заладжваць гэтую справу лістоўна, але ў лістападзе 1952 г. трэба было езьдзіць у Мадрыд і там адначасна са справаю стыпэндыяў парушыць справу беларускіх радыёперадачаў. На просьбу Рэктара душпастырства было прызнана 5 стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў — гэта было нават больш, чым было кандыдатаў у Мадрыд.

Зразумела, што галоўнаю мэтаю Беларускага душпастырства была рэлігійная праца. А таму што гэтая праца адбывалася ў ненармальных

[17] **Часопіс „Божым шляхам"** выдаваўся ў Парыжы ў 1947—1956 гг., а ад 1964 г. адрадзіўся ў Лёндане.

[18] **Лё Крэзо** (фр. *Le Creusot)* — горад у цэнтральнай частцы Францыі, у дэпартамэнце Сона й Луара, у Бургундыі.



Парыскія беларусы на сьвяткаваньні ўгодкаў
Аб’еднаньня беларускіх работнікаў Францыі. 13 версьня 1955 г.

умовах ды ў чужым асяродзьдзі, дык не абходзілася бязь цяжкасьцяў. У крыпце царквы Сан Сюльпіс, дзе адбываліся нядзельныя багаслужэньні для беларусаў, пачалі раніцаю навучаць катэхізму школьных дзяўчат. Пакуль лекцыі катэхізму давалі сьвятары, дык усё ішло добра. Але калі потым тыя лекцыі пачалі даваць студэнты, падзяліўшы дзяўчат на малыя групы, дык лекцыі ператвараліся ў гутаркі, якія зацягваліся, і я ім мусіў напамінаць, што ўжо беларусы чакаюць на багаслужэньне. Гэта студэнтам не падабалася, і на іхнае дамаганьне парах касьцёлу Сан Сюльпіс казаў мне шукаць іншага месца для багаслужэньняў.

Прыйшлося абходзіць даслоўна ўсе бліжэйшыя парахвіі, але, на шчасьце, парах з касьцёлу Нотр Дам дэ Шамп дазволіў карыстацца капліцаю сьв. Людовіка пры вуліцы Монпарнас. Першая сьв. Літургія там адбылася 20.XI.1955 г.

Празь Беларускае душпастырства ў Францыі была добрая нагода ўдзельнічаць у міжнародным рэлігійным жыцьці, а тым самым беларусы станавіліся больш ведамымі ў сьвеце. Тымі нагодамі былі: зборкі рэктараў душпастырстваў, а ў Парыжы іх было ажно 33; розныя міжнародныя зборкі і міжнародныя паломніцтвы ў Люрд, Лісье і іншыя.

Парыж быў цэнтрам грамадзкага жыцьця для беларусаў у Францыі, дык рэктар душпастырства актыўна ўдзельнічаў у гэтым жыцьці. Калі ліквідавалася УНРА[19] (арганізацыя для апекі над уцекачамі) і на яе месца была створана іншая арганізацыя — ІРО[20] — дык даволі было старшыні Беларускае сэкцыі СФТС і рэктару Беларускага душпастырства пагаварыць са старшынёю ІРО ў Францыі капітанам Донзо, каб беларусам прызналі такія-ж правы, як іншым народам. Але ў чэрвені 1955 г. праўную апеку над уцекачамі ў Францыі пераняў спэцыяльны „офіс" для эмігрантаў і апатрыдаў пры Міністэрстве замежных справаў. І пры гэтым дзеля інтрыгаў некаторых асобаў, варожых да беларусаў, у тым „офісе" адмовіліся выдаваць даведкі аб беларускай нацыянальнасьці. Тады Беларускае душпастырства разам зь іншымі беларускімі арганізацыямі ў Францыі выступіла якнайбольш актыўна супраць тае адмовы і змагло знайсьці заступніцтва ў асобе віцэ-прэзыдэнта Сэнату Эрнэста Пэзэ. На ягоную энэргічную інтэрвэнцыю 8 лістапада 1955 г. беларускія дамаганьні былі задаволеныя.

### Пэрсанальныя зьмены ў душпастырстве

У тым часе ў Рыме ўжо двох маладых беларускіх сьвятароў атрымалі сьведчаньні, а трэці канчаў свае студыі. Дык паўстала думка зрабіць пэрсанальныя зьмены ў Беларускім душпастырстве ў Парыжу. Тады а. Л. Гарошка пастанавіў уступіць да айцоў марыянаў[21] і атрымаў на гэта дазвол ад Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў і ад парыскага

[19] Маецца на ўвазе **Адміністрацыя ААН па дапамозе і рэабілітацыі, анг.** *United Nations Relief and Rehabilitation Administration (UNRRA)* — міжнародная арганізацыя апекі над насельніцтвам вызваленых ад нямецкіх войскаў тэрыторыяў. Створаная на прапанову прэзыдэнта ЗША Франкліна Дэлана Рузвэльта ў 1943 г. і займалася пераважна дапамогай ўцекачам, апекай над лягерамі ўцекачоў і г.д. У Эўропе спыніла дзейнасьць у 1947 г.

[20] **Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў**, анг. *International Refugees Organization (IRO)* — адмысловая структура пры ААН, створаная 20 жніўня 1946 г. Паступова пераняла ад *UNRRA* клопат аб паваенных уцекачах. Займалася арганізацыяй выезду ўцекачоў на сталае месца жыхарства ў розныя краіны сьвету. Дзейнічала да 1952 г., пакуль не была ператорана ў службу пры Вярхоўным Камісары ААН па справах ўцекачоў.

[21] **Марыяне** — Супольнасьць марыянаў беззаганнага зачацьця Найсьвяцейшай Панны Марыі — каталіцкая мужчынская кангрэгацыя, заснаваная ў 1673 г. у Рэчы Паспалітай.



Пасьля паніхіды па Якубу Коласу ў Парыжы. 6 кастрычніка 1956 г.

кардынала Фэльтэна[22]. На ягонае месца назначана а. Кастуся Маскаліка[23]. 21.XII.1958 г. адбылося разьвітальнае багаслужэньне ў прысутнасьці парыскага вікарнага біскупа Яна Рюппа[24]. А пасьля багаслужэньня адбыўся ўрачысты супольны абед у салі Хрысьціянскага сындыкату з прынагоднымі прамовамі.

Але тая зьмена хутка прынесла нямала расчараваньняў. Дык на просьбу некаторых вернікаў біскуп Слосканс выслаў 8 лютага 1960 г. парыскаму архібіскупу кардыналу Фэльтэну ліст з прапановаю замены рэктара душпастырства, але тая прапанова не была прынятая. Аднак па некаторым часе Гэнэральны вікары для ўсходніх душпастырстваў у Парыжу сам выказаў патрэбу зьмены рэктара ў гутарцы з Апостальскім візытатарам для беларусаў біскупам Чаславам Сіповічам[25]. У зьвязку з гэтым біскуп Сіповіч выслаў ліст парыскаму архібіскупу з прапановаю

22 **Марыс Фэльтэн** (1883—1975), францускі кардынал, у 1949—1966 гг. быў арцыбіскупам Парыжу.

23 **Кастусь Маскалік** (1918—2010), рэлігійны дзеяч, у 1958—1962 гг. быў кіраўніком Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

24 **Жан Руп** (фр. *Jean Rupp,* 1905—1983), францускі каталіцкі біскуп, ад 1954 г. быў дапаможным біскупам ардынарыяту ўсходніх цэркваў.

25 Часлаў Сіповіч быў атрымаў сан біскупа ў 1960 г. Хутка пасьля гэтага ён стаў выконваць абавязкі Апостальскага візытатара для беларусаў за мяжой.

вярнуць на становішча рэктара Беларускага душпастырства а. Л. Гарошка. Прапанова была прынятая. Ад 16 верасьня 1962 г. а. Л. Гарошка зноў зьяўляецца рэктарам Беларускага душпастырства ў Францыі. Але ўмовы працы зьмяніліся дый колькасьць беларусаў зьмянілася — нямала выехала за акіян і нямала актыўных суродзічаў адышло на той сьвет.

## Сучасны стан душпастырства



А. Леў Гарошка
ў сваім парыскім кабінэце

У сучасных умовах праца ў Беларускім душпастырстве крыху зьменшылася, бо рэдакцыя часапісу „Божым шляхам“ перанесена ў Лёндан, а для лучнасьці з суродзічамі спачатку выдаваліся двойчы ў год „Паведамленьні“, але пачынаючы ад 1 студзеня 1968 г. выдаюцца тры разы ў год нумараваныя „Камунікаты“, якія маюць ня толькі расклад багаслужэньняў, але й навіны зь беларускага жыцьця ў Францыі.

Вялікім здабыткам для Беларускага душпастырства ў Францыі была купля памешканьня на 65 рю дэ Гравійе[26] ў 1969 г. з дапамогаю Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў. Ад тады ўжо ёсьць хоць невялікі, але свой пакой, дзе могуць адбывацца рэлігійныя й грамадзкія зборкі беларусаў.

У 1971 г. адбылася зьмена капліцы для багаслужэньняў. У тым годзе разбурана капліца сьв. Людовіка пры вул. Монпарнас, але гэтым разам дзякуючы стараньням вікарага для ўсходніх душпастырстваў пры Парыскім архібіскупстве хутка знойдзеная іншая капліца сьв. Язэпа пры манастыры сясьцёр Маці Божае Сыёнскае.

Калі ў 1971 г. францускі „офіс“ для эмігрантаў і апатрыдаў зноў быў адмовіўся прызнаваць беларускую нацыянальнасьць, дык рэктар душпастырства разам з старшынямі іншых беларускіх нацыянальных

[26] *Rue des Gravilliers.*

арганізацыяў актыўна ўдзельнічаў у абароне правоў беларускае эміграцыі, і зноў дамаганьне беларусаў было здаволена.

Дык хоць з шматлікімі цяжкасьцямі і перашкодамі ўжо 30 гадоў Беларускае душпастырства ў Францыі выконвала і выконвае сваю рэлігійную й грамадзкую місыю ў меру сваіх сілаў з ахвярнаю помаччу суродзічаў на славу Богу і на карысьць Беларускага Народу.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# БЫЦЬ ЖАНЧЫНАЙ

## Лісты Ніны Абрамчык да Вольгі Запруднік (1956)



Сям'я Абрамчыкаў. Парыж, 1956 г.

Палітыка, царкоўныя справы ды сваркі, часам — размовы пра літаратуру, згадкі пра падзеі мінулага: партызанку, Слуцкае паўстаньне, вайну. Гэта тэмы, што пераважна закраналіся ў лістах моцнай паловы беларускай эміграцыі. Пра што ж пісала, што абмяркоўвала лепшая палова?

Ці таму, што архівы зьбіралі й перахоўвалі мужчыны, ці таму, што жанчыны значна менш выдаткоўвалі часу на карэспандэнцыю, ці зь якой іншай прычыны, але лістоў жанчын-эмігрантак захавалася значна меней. Багатыя эпісталярыі пакінулі хіба што актыўныя грамадзкія дзеячкі й творцы-навукоўцы. Натальля Арсеньнева, Яніна Каханоўская, Раіса Жук-Грышкевіч — гэтымі імёнамі бадай можна вычарпаць значную частку захаванага жаночага эміграцыйнага эпісталярыю.

Але ж быць беларускай жанчынай на эміграцыі — гэта ня толькі ладзіць выставы ці іншыя нацыянальныя мерапрыемствы ды пісаць вершы. Як і на радзіме, апынуўшыся на берагах Сены ці Гудзону жанчыны найперш выконвалі традыцыйныя ролі маці, жонкі, гаспадыні.

Як ім жылося? Пра што думалася? Што наогул значыла быць жанчынай-беларускай на эміграцыі?

Жонка Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка (1903—1970) Ніна даволі сьціпла выконвала функцыі „першай лэдзі“, аддаючы ўвесь свой час хатняй гаспадарцы ў прыгарадзе Парыжу й сыну.

Адной зь нешматлікіх карэспандэнтак Ніны Абрамчык (1916—2003) была Вольга Запруднік (1928—1987) — жонка тагачаснага супрацоўніка Радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхене, актыўнага беларускага дзеяча Янкі Запрудніка. У архіве апошняга захавалася некалькі лістоў „першай лэдзі“ з далёкага 1956-га. Ніне тады было каля 40 гадоў, і ў сям'і Абрамчыкаў, што пабраліся яшчэ ў часе вайны, нядаўна нарадзіўся доўгачаканы сын Альгерд. Больш як на дзесяць гадоў маладзейшая выпускніца Лювэнскага ўнівэрсытэту Вольга Запруднік мела хіба два гады сужэнскага стажу й якраз нарадзіла дачку. Зьяўленьне дзяцей, аднолькавыя мацярынскія клопаты, відавочна, зьблізілі дзвюх жанчын:

*„10.2.56 г.*

*Даражэнькая Олечка,*

*Даўно ўжо зьбіралася Табе напісаць, але неяк апошне ў мяне з гэтым ідзе туга. Віншую з найбольшай пацехай, маю надзею, што ўжо шмат яна падрасла, падужэла, і маеш меней клопату ды прывыкла меней-болей ходацца, дык мо палягчэла. Я тако-ж маю „пацеху“. Мой хлопчык ужо „вялікі“ — сядзіць, кажа „тата“ і мае 1 зуб. Спачатку трошкі плакаў, але вельмі рэдка, цяпер зусім спакойна гуляе з цацкамі. Ноччу ён ніколі не пабудзіў, сьпіць да раніцы і час-ад-часу абое прасыпаем „сьнеданьне“. Як-жа-ж Ты чуешся, Олечка, як Табе прайшлі гэтыя пэртурбацыі? Я хоць пакрычала і памучылася, але ня надта доўга, усяго 8 гадзін, але мела яшчэ розныя болі (яечнікі, спаросты на мейсцы сьляпой кішкі, сьпіна і г. д. 3 дні). Цяпер я чуюся вельмі змучанай, так што ледзь-ледзь даю рады збольшага ўправіцца. Усю пору памагае мне Мікола. Але цяпер ужо шмат лягчэй, маю надзею, што летам дайду да толку зь сіламі.*

*Напішы, Олечка, пра сваю сямейку, знаёмых і г. д. Там Вас цяпер вялікая кампанія*[1].

[1] У той час у Мюнхене ў сувязі з працай Беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“ ды Інстытуту вывучэньня СССР, а таксама выданьнем газэты „Бацькаўшчына“ стварылася кола беларусаў, значнай часткай з былых студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту.

*Пасылаю тваёй малой пару рэчаў, зь якіх мой ужо вырас. Наздавалі мне тут суседкі кашулек, што дагэтуль яшчэ і не шыла, але вось ужо думаю пачынаць, бо тыя ўжо малыя.*

*Затым, Олечка, усяго Вам найлепшага і прывітаньні, а Цябе цалую моцна.*

*Твая Ніна“.*

Ніна Абрамчык амаль ня мела сяброваў у блізкай адлегласьці. У тагачаснай Францыі можна было знайсьці беларусаў, але яны былі раскіданыя па рэгіёнах. У самім Парыжы лік ішоў мо на колькі дзясяткаў, быў Беларускі дом — кватэрка на Rue des Gravilliers, што выкарыстоўвалася як арганізацыйны офіс, ладзіліся багаслужбы айцом Львом Гарошкам... Але ж Абрамчыкі жылі па-за горадам, у Вільпэнце. І калі раней „першая лэдзі“ магла лягчэй выбірацца на мерапрыемствы суродзічаў, часам нават з мужам па-за Францыю, то пасьля нараджэньня сына яе сьвет вельмі звузіўся.

Мацярынскія абавязкі сталі на першае месца. Але ж адукаванай жанчыне (за плячыма навучаньне ў Віленскім унівэрсытэце) трэба было й яшчэ нешта, каб заняць галаву. Некалі яна пісала апавяданьні пад псэўданімам Ніна Раса, друкавалася ў эміграцыйных пэрыёдыках. Было, што нават сама паспрабавала выдаваць газэту для жанчын — „Беларуска“ — але далей за першы выпуск справа не пайшла. Традыцыйны жаночы занятак, вельмі пашыраны на эміграцыі — вышываньне. Ніна Абрамчык зьбірала схемы ды рабіла вышыванкі, але шукала для сябе й нечага іншага:

*„27.7.56 г.*

*Даражэнькая Олечка,*

*Даўно абяцаны „даўжэзны“ ліст зьбіраецца ў дарогу. Запраўды, зь лістамі ў мяне проста скандальная рэч, неяк не зьбяруся ўзяцца за пяро. Праўда, што амаль ні з кім не перапісваюся. Па вайне, калі ўсе разбрыліся і аселі, дык пашто-ж пісаць. Спачатку было нудна, што і той ня піша і сёй ня піша, што зь ім сталася? А сталася тое, што абсеў, мае тое-сёе, па лягерох не бадзяецца, дык пашто-ж пісаць? Была настолькі наіўнай, што шукала адрасоў праз газэты, агалошаньні, а цяпер настолькі прывыкла, што калі на’т і заблудзіць які ліст, дык чакаю на болей, каб разам, за адным махам адпісаць, а паскольکі болей весткі ня прыходзяць, дык і ляжыць той ліст неадпісаны. Але вось ізноў пачынаю ад цябе. Ці дабрыду даканца? Маю пару лістоў, якія залежаліся, як і Твой.*

*Як-жаж, Олечка, маешся? Ці набрала трошкі энэргіі і пахудзела (я трошкі худзею, бо пасьля родаў асталася тоўстай, як бочка, цяжка было павярнуцца, кажуць, таму й рухлівасьці ня было). Аднак чуюся заўсёды вельмі змучанай, хоць амаль нічога не раблю. Працую, праўда, зранку да вечара, але гэта неяк ідзе вельмі павольна, адно пачынаю, ня скончу, бо ўжо трэба рабіць штось другое, тое тако-ж не канчаецца, і вось так, як ланцуг, цягнецца, а ў выніку вечарам балаган усюды, і я прытомленая настолькі, што ледзь-ледзь да ложка дабрыду, каб „адпачыць“ некалькі гадзін, а раніцай устаю змучанай, як-бы ўжо поўдня працавала. Чаму гэта так, мне проста дзіўна. Маю-ж сонца, паветра, харчы і ня шмат працы, толькі хатняя, агарод і пару жывёлін (сабака, 20 курэй, стольki-ж кролікаў). Хлопчык мой спакойны, сьпіць добра, вось зблiжаецца 8 гадзіна, а ён яшчэ сьпіць, таму села пісаць, заўсёды мыю ў гэту пару, каб удзень пасохла. Гуляе сам добра ў сваёй загародцы, ужо ходзіць, гаворыць некалькі слоў, апошне дык цэлымі днямі кліча „тата“, шукае, дзе ён. Проста ў мяне пытаецца: мама, Тата! Калі хто дзьвярыма скрыпне, дык аж падскочыць з радасьці і кідае гуляць: Тата йдзе! — крычыць і калі пазнае, што ня тата, дык сядзе ў куточку, спусьціць галоўку, засароміўшыся, і маўчыць, нат ня гуляе, толькі потым пачынае бавіцца. Найгорай гэта зь ежай. Пакарміць яго надзвычай цяжка, трэба забаўляць, каб ня думаў, што есьць, і таму недажыўляецца, бракуе яму 2 кг ягонае вагі. Ніколі ня мае ахвоты есьці, ніколі не галодны, вось перакусіць, як прыдзе пара даваць. Кармлю 4 разы, зьядае палавіну (не заўсёды на’т), што яму патрэба есьці. Апрача гэтага ўсё рэшта добра, лекар кажа, што ён і так добра выглядае на сваю ежу.*

*А як-жа Твая „Прынцэсска“ з вагой? Ды наогул — ужо мусіць вялікі прагрэс ад таго лісту апошняга і фото.*

*Але-ж і заядлая зь Цябе манархістка! Наўжо Ты верыш у манархію на Беларусі? Мне неяк гэта думка ніколі не прышла на думку.*

*Князі, князі! дзе іхні сьлед?*
*Курганы і мячы ў музэях,*
*Астаткі разбрыліся ў сьвет,*
*Бяруць удзел у чужых падзеях.*

*Так, Радзівілы, Сапегі, Мірскія... Адзін зь Мірскіх (ходзяць чуткі) мые талеркі ў Лёнданскім рэстаране. Радзівіл, дык прымасьціўся быў*

*амбасадарам „Polski Najnowszej“ у Лёндане, пакуль Бэрут*[2] *„не снял с работы“. Дзе ён цяпер?*

*А чым ты, Олечка, займаешся, апрача „гаспадаркі“? Я — нічым! Проста жаль, што жыцьцё праходзіць міма, „у сваёй хаце“! Так шмат хацелася зрабіць і вось гультайства апанавала, бо што-ж іншае? На’т ня вышываю ўжо — „няма часу“ — проста і пісаць сорамна, бо прыказкі кажуць: хто хоча, то і час мае; ня шукай часу, шукай ахвоту; час з ахвотаю жэніцца. Устрымаюся на гэтых.*

*А ведаеш, маю цудоўныя ўзоры. Мой Найдаражэйшы мне „зафундаваў“ — „Беларускія Узоры“ — альбом, выдадзены ў Менску нядаўна. Але, напэўна, Ты яго таксама маеш, калі не, Олечка, прыцісьні свайго Найдаражэйшага, хай Табе падарак на нейкую там гадаўшчыну, „на першы зуб“ (мусіць ужо мае шмат зубоў Твая „Прынцэска“ — у Аліка 7). Тут ёсьць у французаў звычай, што матка атрымоўвае ад бацькі падарак, калі дзіцё мае 1-шы зуб. Наогул, у іх шмат аказыяў на падарункі! Дык вось, вяртаючыся да альбому: абавязкова яго расстарайся, калі ня маеш. У Цябе-ж вышывальніца расьце (між іншым, Альгерд любіць вышыванкі і ніткі, таму шчэ пры ім не магу вышываць, бо адбірае). Ведаеш, Олечка, што я раблю апрача „гаспадаркі“? „Праекты“ — проста сорамна, што забаўкамі займаюся. Нікому не кажу, але вось Табе неяк сарвалася зь пяра, дык ужо напішу.*

*„Прап’ём да будучыні трэйцяй“ — казаў Купала*[3]*. Так вось і ў мяне, усю пору — гэта будучыня! Тое, што прайшло — мы знаем, гэта як прачытаная кніга, цікавая, зь якой трэба ўзяць выснавак: „як ня трэба рабіць блага“.*

*Цяперашнясьць для мяне — гэта зранку да вечара таўкатня, безталковіца, час, які марна прападае, якога шкада, нявыкарыстаны, якога не нагнаць, змарнаваная частка жыцьця. Будучыня — адзіная пацеха і надзея. Вось таму і раблю „пляны“ на будучыню, хоць ведаю, што яны ніколі не прыдадуцца, такія безталковыя пляны. Вось ужо „распрацавала“ ваколіцы, якія знаю, пляны хатаў (захоўваючы нашую цудоўную вёску), яе структуру, якой падобнай ніхто ў сьвеце ня мае.*

---

[2] **Баляслаў Бэрут** (1892—1956), польскі партыйны дзеяч, першы Прэзыдэнт Польскай Народнай Рэспублікі ў 1947—1952 гг., у 1954—1956 першы сакратар ЦК ПАРП

[3] Недакладная цытата з паэмы Янкі Купалы „На Куцьцю“. Параўнай: *„А чарку першую ўзнясём / За цень мінуўшчыны у сецi, / Другой к цяперчыне прап’ём, / Праславім будучыню трэцяй“.*

*Пляны вуліц, паркаў, дамоў адпачынку, дзе летам „адпачывалі-б“ усе таты-мамы-дзеці з гораду, каб дыхаць сонцам і паветрам бяз пылу, а зімой дзедушкі-бабушкі, каб не задыхацца на печы, а мець сьвежыя пакоі з цэнтральным аграваньнем і ўсім камфортам, які маецца на Зямлі, прынамся тэлевізыя, тэлефон ды ванна з добрым мылам.*

*Бачыш, як гэта з праектам, ці трэйці аркуш паперы хопіць (А Альгерд усё сьпіць, ужо недалёка 9 гадзіна, мусіць, і яму сьняцца праекты, а мо з Татам гуляе?).*

*Нат ўжо горача, сонца прыпякае, цяпер у нас сьпякота, але я ў сваім гародзе маю цень і шмат травы, дык цэлы дзень у купальным касьцюме бадзяюся, аж суседкі завідуюць, што мне добра, бо яны носяць даўгія спадніцы, панчохі і высокія каблукі, а я на траве босая. Ськіньце, кажу, і Вам будзе лёгка.*

*Цікава табе мае праекты, пісаць яшчэ, ці мо' хопіць, каб не занудзіць? Ведаеш, адзін быў вельмі арыгінальным, што на'т Ніколку падабаўся, і прапанаваў падаць яго ў прэсу як дыскутны, але аб ім пісаць ня буду, гэта доўга, ды, пэўне, і нудна.*

*Вось мо' лепей...“*

Праекты добраўпарадкаваньня мястэчка, напэўна, былі часовым хобі. Нідзе пра іх ніхто болей не згадваў. Ніна Абрамчык жыла найперш для сына й мужа. Першы даваў стымул для творчасьці. Дзякуючы апошняму, жанчына была добра абазнаная ў розных падзеях з жыцьця беларускай эміграцыі і знаёмая шмат зь якімі дзеячамі, у ацэнках каторых часта аказвалася даволі катэгарычнай.

*„30.07.56*

*Тэлефон перарваў мой ліст, збудзіў Аліка, пішу далей.*

*Вось мо' лепей:*

*Калыханка Альгерда*

*Сьпі, Альгердка, даражэнькі,*
*Баечкі-баю,*
*Сьвеціць месяц залаценькі*
*Ў люлечку Тваю.*
*Хай раскажуць Табе зоркі*
*Пра цудоўны Край,*
*Дзе Вясной цьвітуць пралескі,*
*Зелянее гай.*

*Пра зуброў у Белавежы*
*І зялёны Буг,*
*Дзе сягаюць нашы межы,*
*Хто кіруе плуг,*
*І пра замак Гедыміна*
*Й белых тры крыжы,*
*Ты, Альгерду, майму сыну,*
*Зорка, раскажы.*
*Нам прышлося на чужыне*
*Жыцьцё каратаць,*
*А Табе з высотаў, Зорка,*
*Увесь наш Край відаць.*
*Сьпі, Альгердка, даражэнькі,*
*Баінькі-баю,*
*Сьвеціць месяц залаценькі*
*Ў люлечку Тваю!*

*Пастараюся на гэтым і закончыць, бо запраўды ліст ужо выйшаў больш як „даўжэзны“.*

*Прыяжджалі тут Грышкевічы. Страшнае ўражаньне, проста кашмарнае на мяне зрабіла Раіса. Зусім яна не зьмянілася, асталася той самай Раісай Жукоўскай, мяшчанкай Пружанскай Горкі, не памаглі ёй на'т яе 2 дыплёмы. Шкада мне яе вельмі. На ўсіх злосная-злосная, паводле яе ўсе і ўсё — „нічога ня вартае сьмяцьцё“. Яна сказала: „Беларускі Народ — гэта няздарная жаба, якая нягодная жыць“ і што ёй сорамна, што яна належала да гэтага народу. Тут ужо на'т Вінцук ня вытрымаў, але яна патрапіла яму „замкнуць рот“. За такія рэчы — павесіць мала. Ну, што-ж, „хай з дарогі, хто слаб, адыходзе“, казаў Танк.*

*Трэба канчаць, Олечка, рэшта думак хай на другі ліст. Пішы, не давай так доўга маўчаць. Прывітаньні ўсім і цалую моцна. Твая Ніна.*

Кожнаму, хто чуў імя Раісы Жук-Грышкевіч (1919—2009), сябры Прэзідыюму Рады БНР, кіраўніцы Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, адной з найбольш актыўных грамадзкіх дзеячак на эміграцыі, цяжка даць веры гэткай характарыстыцы. Магчымую прычыну такога нэгатыўнага водгуку падказаў Янка Запруднік. Як аказалася, некалі сястра Раісы Валянціна Жукоўская (у замустве Пашкевіч) была суперніцай Ніны ў барацьбе за сэрца Міколы Абрамчыка. Напэўна, гэта

магло паўплываць і на пачатковае стаўленьне да самой Раісы, зь якой пазьней тая ж Ніна даволі актыўна ліставалася.

*„7.9.56*

*Даражэнькая Олечка,*

*Пачынаецца ў нас сэзон сонца і вінаграду! Бяры сваю „Прынцэску“ і прыяжджай! не чакай, пакуль Найдаражэйшы папоўніць касу. Каса — гэта такое нешта, што мае ў дне дзюрку, празь якую ашчаднасьці недзе выпадаюць.*

*Альгерд дзякуе за „байрышэ гозэ“[4], адзеў і хадзіць баяўся, мусіць яшчэ шмат падрасьці, каб у іх фарсіць, але затое ўсе з ваколіцы немкі зышліся, каб на нацыянальныя хоць штаны паглядзець, тужаць і яны (немкі, а не штаны) за Нямеччынай, галоўна тыя, што з Прусіі.*

*Пішаш, і Табе баліць нага. Табе левая, а мне правая, але я так нічога і не раблю, пачаць усе хваробы лічыць, дык і запраўды чалавек хворым станецца. Вось апошняе, дык мне неяк сэрца пачынае бунтавацца. Дагэтуль неяк было зь ім ціха-ліха, але вось 2 тыдні таму (якраз па ад’езьдзе мужа) дык так прыстукнула, што звяліла з ног. Шчасьце, што Коля (пляменьнік)[5] быў дома, дык заняўся Альгердам, а я неяк адкачалася. Няма толку усё з былой сьляпой кішкай. На яе мейсца вырасла нешта нейкае, хто яго ведае што, але баліць, але баліць! Начамі ня сьплю, і лячыцца няма як, бо трэба езьдзіць у шпіталь даўжэйшы час (5 тыдняў), а тут дзіцё няма з кім пакінуць. Мушу чакаць, пакуль муж вернецца. Абяцаў быць на Каляды, але калі прыедзе на Вялікдзень, то будзе вельмі добра. Найболей мяне непакоіць, што ён хворы, паехаў ледзь-ледзь з рухам, а які вернецца, даб’ецца да канца.*

*Там у Вас ужо сьнег падаў, а мы ўсё яшчэ спадзяёмся прыгожай пагоды. Лета было мокрае і на’т ня надта гарачае, але восені тут зазвычай бываюць вельмі прыгожыя, даўгія, сонечныя, праўдзівае лета, вельмі прыемнае, негарачае.*

*Ці бачышся часамі з маім Брацікам[6]? Усё неяк па Нямеччыне блукаецца адзінокі. У гэтым годзе на’т ня змог сюды заглянуць да нас. Пакутуе ён у мяне, Браток.*

---

[4] ***Bayerische hose*** (ням.) — баварскія штаны.

[5] Маецца на ўвазе пляменьнік Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка — **Мікола Абрамчык (малодшы)** (1922—2005).

[6] Маецца на ўвазе **Ніканор Ляўковіч** (1922—1995), брат Ніны Абрамчык, які жыў у Мюнхене.

*Раіса як паехала, дык ані слова не напісала. Прыяжджалі тут Жылікі мімаходам. Ён працуе як лекар (капітан), адбывае вайсковую службу ў Францыі ў Бордо. Ужо яны тут пару год, але не аказваліся. Маюць дачку 3 месяцы (Мэргрэт).*

*Олечка, прыяжджай, пішы, дзякую за фото.*

*Цалую, Ніна“.*

Гэта быў, відаць, апошні ліст, напісаны ў Мюнхен. У наступным 1957 г. сям'я Запруднікаў пераехала ў ЗША. За новымі клопатамі ліставаньне паміж жанчынамі перарвалася й невядома, ці аднавілася наогул. Прынамсі, іншых лістоў не захавалася. А гэтыя... так, у іх няма літаратуразнаўчых дыскусіяў, успамінаў пра гістарычныя падзеі, царкоўных спрэчак... Затое гэтыя лісты адлюстроўваюць сьвет жанчыны-беларускі з ваколіцаў Парыжу сярэдзіны 1950-х, такі зразумелы й блізкі, нягледзячы на адлегласьць у прасторы й часе...

***Лявон Юрэвіч***

# НІНА, АЛІК І АРХІЎ РАДЫ БНР

Пра архіў Рады БНР, „Абрамчыкаў“ архіў, дакладна ведама толькі, што ён страчаны, і, як на сёньня выглядае, назаўсёды. Поруч з галоўнымі пытаньнямі — што ўсё-ж сталася зь ім ды якія канкрэтна дакумэнты там перахоўваліся, ці толькі паперы паваеннай Рады, ці было штосьці з спадчыны Пётры Крэчэўскага ды Васіля Захаркі, ёсьць пытаньні мо' й драбнейшыя, але таксама патрабуюць адказу. І першым з такіх пытаньняў лягічна паўстае наступнае: чаму ўдава першага Прэзыдэнта адноўленай Рады БНР ніколі не аддала архіў ані адмыслова створанай Камісіі, ані асобным беларусам, што на просьбу Прэзыдыюму Рады намагаліся дамовіцца зь Нінаю Абрамчык?

Ня маючы тым часам дакладнага адказу, прапануем чытачам і дасьледнікам БНР нізку лістоў[1], зь якой кожны можа паспрабаваць зрабіць уласныя высновы.

*31.7.70 г.*

*Высокапаважаны Ўладыка,*

*Толькі што атрымала Ваш ліст і вось абое проста разхварэліся, так знэрваваліся. Алік ды я ў страху, што можа цэлая гэтая гісторыя для нас скончыцца трагічна. Вось дык адпачынак, лепей было-б ня рухацца з хаты, а займацца „бягучымі справамі“ — хоць мяне змусілі іменна выехаць, каб „не займацца“.*

*Гэтае пасьведчаньне я мелася пераслаць а. Аўгенам[2], але забыла, яно так і асталася ў Альгерда каля кніг. Забыла за рознымі „бягучымі“ справамі, якіх перад прыездам-выездам „шмат“. Цяпер я не магу яшчэ пару дзён, мо нават і тыдзень паехаць дахаты, мушу быць*

[1] Захоўваюцца ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны (Лёндан).

[2] Маецца на ўвазе а. Аўген Смаршчок (1914—1984).



Альгерд Абрамчык на магіле бацькі

*тут, хоць маю досьць такога побыту, не адпачываем, чорныя думкі ўсюды за намі — вось дык пекла. Ад Вас спакойна можна нават пазваніць, ня толькі напісаць у ліцэй, каб выдалі „certificat“ — што ён перайшоў і ў якую клясу. Ясна — гэта ўсё „клопат“ (тэлефон мае Пікарда[3] ). Алік у 1С клясе.*

*Вось нарабіў Мікола гісторыі з гэтым пераходам. Так усё ішло гладка з Алікам. А цяпер што будзе — калі ні тут, ні там?*

*Што да „гаспадыні“ ў Вас[4] — я бачу, што Вы таксама агледзіліся, што Вам трэба іншы чалавек, як я, энэргічны, вясёлы, здаровы, безклапотны. Чыя гэта была ідэя, мяне прапанаваць на гэтую працу? Я заслабая! як бачыце.*

*Я ведаю, што паўстала праблема „абрамчыхі“ — „co z tym fantem zrobic[5] “ — у беларускім грамадзянстве на эміграцыі. Мікола ніколі ня ставіў сабе праблемы сям'і, і не знайшлося нікога, каб яму падшапнуць, што апрача спраў ёсьць і „справа“ — што будзе, калі што якое можа здарыцца. Часамі я яму адважылася аб гэтым успомніць, але ён злаваўся і мяне лаяў, што трус і г. д. Я інстынктам чула, што ня маю сіл на гэтую „нагрузку“.*

*А цяпер — мне Ён загадаў „дакончыць тое, што Ён не дакончыў“. Ён меў да мяне даверра, я нат' ніколі не падазравала, што Ён бачыць у мяне такую энэргію.*

*Гадамі была я ў яго кухаркай, сакратаркай і санітаркай. Я сама цяпер дзіўлюся, скуль я мела столькі сілаў, энэргіі, настрою і ахвоты.*

---

[3] Маецца на ўвазе **Гай Пікарда** (1931—2007), дасьледнік-беларусіст, юрыст, які кантактаваў зь Нінай Абрамчык пасьля сьмерці мужа, кансультуючы ў прававых пытаньнях.

[4] Маецца на ўвазе пасада гаспадыні ў Беларускай школе-інтэрнаце сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане, якім апекаваўся біскуп Часлаў Сіповіч.

[5] ***„Co z tym fantem zrobic“*** (польск.) — „Што з тым фантам зрабіць“.

*Ну, што-ж, мо' лепей канчаць ліст. Мо' лепей аб гэтым больш нікому не ўспамінаць, „sourir, toujours sourir, cacher notre vrai“[6] — Жыве Беларусь!*

*Прывітаньне ўсім!*

*Ніна і Алік.*

*London, 15.XII.1970.*

*Вельмі Паважаная й Дарагая Сп-ня Ніна Абрамчык,*

*Шчыра дзякую Вам за ліст і без зацяжкі на яго адказваю. Перадусім прыемна мне Вас запэўніць і пацешыць, што Алік маецца добра[7], і паколькі мне ведама, працуе, есьць, адпачывае, як усе іншыя яго веку хлапцы. Страйк электрыкаў мы блізу не адчулі: некалькі гадзінаў у нашых дамох ня было сьвятла. Падземка курсавала нармальна, ва ўсіх школах ішлі нармальныя заняткі.*

*Тыя паперы, якія Вы адыслалі на адрыс Аліка, прыйшлі. Найважнейшыя зь іх у францускай мове, і як Вы маглі зарыентавацца, нам трэба заплаціць за школу £106.12, і гэта толькі за адзін трыместр.*

*Алік грошы атрымаў, але Вы нарабілі яму клопатаў, бо ён мусіў сам хадзіць, чакаць у чарзе, каб выбраць грошы. Вы маглі пераслаць іх на імя айца Надсона[8], і тады Алік не зрываўся-б з лекцыяў.*

*Я вельмі добра разумею Вашыя матчыны пачуцьці, асабліва калі Вы ў гэтак кароткім часе асталіся самі адна. Вам хацелася-б часьцей і бачыць Аліка, і зь ім гутарыць. Гэта для мяне больш, чым зразумела. Вы матка, а ён добры сынок.*

*Аднак не заўсёды пачуцьці маткі ідуць на карысьць дзецям. І калі маткі ў пару не зразумеюць, што яны павінны ў пэўным часе пакідаць сваіх дзяцей ці дачок на іх уласны разсудак і апеку іншых, людзей кампэтэнтных, дык дзеці, падросшы, адплачваюць такім маткам і бацькам няўдзячнасьцю й капрызамі.*

*Вы зразумейце, дарагая Спадарыня, што абсалютна ніхто ня хоча ад Вас забіраць ці адбіваць, ці штось іншае рабіць з Вашым добрым сынам. Наадварот, жаданьнем ягоных цяперашніх выхаваўцаў*

[6] ***„Sourire, toujours sourire, cacher notre vrai“*** (фр.) — „Усьмешка, заўсёдная ўсьмешка, схавай нашую сапраўднасьць“.

[7] Альгерд у гэты час знаходзіўся ў Беларускай школе-інтэрнаце Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане, паводле жаданьня памерлага Міколы Абрамчыка.

[8] Айцец **Аляксандар Надсан** (нар. 1926) быў у той час дырэктарам Беларускай школы-інтэрнату Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.

*ёсьць прышчапіць яму да бацькоў і да Бацькаўшчыны такую любоў, якая пры розных абставінах была адзінкавай, глыбокай, зраўнаважанай, а не павярхоўна пачуцьцёвай ці проста толькі інстыктоўнай.*

*Вы ўжо некалькі зрабілі паважных нетактаў у адносінах да а. Надсона, які аддае ўсю душу й таленты для моладзі і якога адзінага ўпаўнаважыў я і Ваш пакойны муж да адказнасьці за Аліка. Вы, нікога не парадзіўшыся, дазволілі Аліку выхадзіць на прагулку ў вольным часе, калі ён бывае ў школе. Гэта магло скончыцца больш, чым трагічна. Адабралі хуліганы яму гадзіньнік, але маглі набіць, скалечыць. Дырэкцыя школы павінна ва ўсіх справах зьвяртацца да а. Надсона, а ён павінен Вас інфармаваць. А тут, супроць усіх прынятых прынцыпаў, яна Вам пасылае паперы, Вы замест айцу Алесю, ізноў Аліку, які не заўсёды павінен ведаць іх зьмест, перадае пазьней А. Надсону.*

*Вы пішыце аб здароўі Аліка. Запраўды, ён нармальны здаровы хлапец, і я баюся, што Вы можаце ўгаварыць яму нейкую хваробу. Яму трэба сьвежае паветра і нармальных умоваў жыцьця. Зрэшта, калі-б штоколечы зь ім здарылася, маемо пад бокам аж 4 дахтароў, а ў хаце прафэсыйную сястру міласэрдзьдзя.*

*Гэта я ўсё пішу не дзеля таго, каб Вас аскардзіць ці рабіць нейкі дакор, але каб нам сумесна дапамагчы Аліку стаць на ногі, выйсьці ў людзі. Мне сказалі, што французкая мова Аліка паправілася; перш гаварыў так, як каля Вас гавораць дзеці работнікаў і бедныты. У ангельскай мове зрабіў вялікі поступ. Як дагэтуль ён блізу ня знаў ані літаратуры, ані гісторыі Беларусі. Ён добра гутарыць у сваёй мове, але гэтага для вучня сярэдняй школы, ледзь не студэнта, замала. Таму й тут трэба працы й заняткаў.*

*Яшчэ раз паўтараю, што я разумею Вашу сытуацыю і пэўнае здэнэрваваньне, і таму ані я, ані а. Надсон ня маемо ніякага гневу. Мы аднак прасілі-б Вас зразумець некаторыя асабліва справы і не рабіць у будучыні на сваю руку пэўных спраў, якія павінны быць вырашаныя або супольна, або цяперашнім фармальным апякуном Аліка айцом Надсонам. Ніхто ніколі не заступіць для Аліка бацькоў, але-ж і бацькі павінны знаць сваю меру, калі дзеці падрастаюць.*

*Нажаль, я не магу нічога зрабіць, каб Алік ехаў „Fleche d'Argent“*[9]*, бо білет яму ўжо куплены, і мейсца зарэзэрванае. Пастарайцеся прыдбаць яму білет на „Fleche d'Argent“ пасьля канікулаў.*

[9] ***„Fleche d'Argent“*** (франц.) або ***„Silver Arrow“*** (анг.) — назва рэйсу кампаніі *British United Airways* па маршруце Лёндан—Парыж. Відаць, Ніна Абрамчык хацела, каб Алік ляцеў самалётам, а яму замовілі квіток на аўтобус.

*А цяпер пару слоў аб зусім іншай справе — аб Архіву БНР. Што чуваць? Калі я быў у Канадзе ў др. Жук-Грышкевіча, дык ён выразна згаджаўся й жадаў, каб якнайхутчэй быў перавезены ў Лёндан. Зрэшты, выданы „Камунікат" Радай БНР гэта пацьвярджае.*

*Каб Вам дапамагчы заладзіць гэтую нялёгкую справу, мог-бы а. др Смаршчок і я прыехаць у Парыж і забраць той Архіў ад Вас. Хаця я і не належу да Камісіі*[10] *, але думаю, што ніхто ня быў-бы супраць, тым больш, што запраўды нялёгка ўсім дабрацца.*

*Будзьце ласкавы й напішыце мне аб гэтым, што Вы думаеце?*

*Так-жа асьмельваюся прыпомніць Вам аб той памятцы, якую Вы маеце, а якую мы жадалі-б мець для нашага (і Вашага) Музэю.*

*З нагоды Калядных Сьвятаў перасылаю Вам шмат і шчырых пажаданьняў, асабліва добрага здароўя і добрага адпачынку разам з Алікам.*

*З глыбокай пашанай да Вас,*[11]

*41 Holden Road,*
*London, N. 12*
*21 чэрвеня 1971*

*Паважаная Спадарыня Абрамчык,*

*Сёньня Алік перадаў мне копію паведамленьня са школы аб тым, што ён павінен паўтарыць год. Мне прыкра, што я даведваюся аб гэтым толькі цяпер і то акружной дарогай.*

*Алік быў прыняты у французкі ліцэй у Лёндане дзякуючы стараньням сп. Пікарды і майму на просьбу Вашага мужа. Гэта была нялёгкая справа, бо ліцэй звычайна не прыймае вучняў, чые бацькі жывуць у Францыі. У тым самым часе мы дамовіліся з дырэкцыяй ліцэя, што ўсе школьныя пасьведчаньні й рахункі адносна Аліка будуць перасыланы непасрэдна мне як Алікаву апякуну ў часе ягонага прабываньня ў Англіі.*

*У верасьні мінулага году Вы прыехалі ў Лёндан разам з Алікам і кожны дзень на працягу цэлага тыдня хадзілі разам зь ім у ліцэй. Ня ведаю, зь кім і што Вы гаварылі, толькі я ніколі не атрымаў зь ліцэю ніякага паведамленьня адносна Аліка. Пасьля я даведаўся, што ўсе школьныя пасьведчаньні й рахункі былі высланы непасрэдна Вам.*

[10] Спэцыяльная камісія для пераняцьця архіву Рады БНР была створаная Радай у складзе айцоў Аўгена Смаршчка ды Льва Гарошкі й Аляксандра Лашука. Гл.: Пратакол № 3 паседжаньня Рады БНР ад 20.06.1970.

[11] Ліст Часлава Сіповіча не падпісаны.

*Гэта была-б невялікая справа, калі-б Вы ў сваю чаргу паведамлялі рэгулярна мяне, прысылаючы гэтыя пасьведчаньні ці копіі. Вы, аднак, палічылі гэта за непатрэбнае і прыслалі пасьведчаньні толькі цяпер, пасьля настойлівых дамаганьняў з боку Ўладыкі Часлава й маіх. Цікава, што Вы ніколі не забываліся прыслаць рахункі за школу.*

*Ліцэй, маючы непасрэдны кантакт з Вамі, ня бачыў патрэбы інфармаваць мяне. Калі я хацеў спаткацца з кіраўніком, каб пагутарыць аб Аліку, я атрымаў ветлівы адказ, што ўсе інфармацыі былі высланы ўжо куды трэба.*

*Такім чынам праз цэлы год я ня меў ніякіх вестак адносна навукі Аліка. Паколькі гэтыя весткі мелі Вы і не лічылі патрэбным падзяліцца імі са мною, дык уважаю, што Вы таксама адказны за выні́кі. Не хачу тут кранаць справы карэктнасьці Вашага паступаньня ў адносінах да Ўладыкі й мяне. Шкода толькі, што ад гэтага павінен цярпець Алік.*

*У Вашым лісьце бяз даты, якое я атрымаў 22 мая, Вы робіце мне закід, што я бяз Вашага дазволу прымушаю Аліка да матуры зь беларускай мовы. Я ніколі не спадзяваўся чуць такога закіду ад Вас. Наша ўстанова ня ёсьць звычайным інтэрнатам, але беларускай школай. Хлопцы прыймаюцца сюды з умовай, што будуць вывучаць беларускую мову. Для тых, хто ня хоча вучыцца па-беларуску, у нас няма месца. За выкладаньне беларускай мовы адказны я, і я вырашаю, калі і якія экзамены павінны здаваць мае вучні.*

*Вельмі дрэнна робіце, што пішаце а. Робэрту Тамушанскаму*[12] *пра Аліка. Ён з’яўляецца маім заступнікам і ня можа рабіць у школе нічога без майго ведама й дазволу. Вашымі просьбамі адносна Аліка Вы ставіце яго ў вельмі непрыемнае паложаньне.*

*Цяпер адносна Аліка. На маю думку, паўтарэньне году можа яму выйсьці толькі на карысьць. Ён яшчэ вельмі маладым, у мінулым годзе перайшоў у наступны клас зь вельмі слабымі ацэнкамі, і цяпер апынуўся ў школе, дзе ўзровень навучаньня ёсьць вельмі высокі. Магчыма, яго можна было-б і перапхнуць у наступны клас, але ён там ніколі ня быў-бы добрым вучнем і патрабаваў-бы сталай дапамогі. А гэта не нармальна, бо ён павінен стаць на ўласныя ногі. У тым, што ён ня пойдзе на ўнівэрсытэт у 17 гадоў, няма ніякай трагэдыі.*

[12] **Робэрт Тамушанскі** (1940—1996) у той час вучыўся ў Лёнданскім унівэрсытэце й адначасова дапамагаў у працы Беларускай школы-інтэрнату Сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.

*Адносна будучыні Аліка павінны вырашыць Вы як ягоная матка. Вы ведаеце, што мы прынялі Аліка на просьбу Вашага мужа, хоць гэта нам каштуе шмат грошай і высілку. Навука і ўтрыманьне Аліка каштуе нам 400 фунтаў у год — два разы больш, чым якога іншага хлопца. Пішу гэта не каб „папракаць“ Вас, як Вы гэта кажаце, але каб Вы ведалі, як стаяць справы і каб ня думалі, што прысылаючы да нас Аліка, робіце нам ласку. У кожным выпадку аб гэтым Вам, напэўна, скажа больш Уладыка Часлаў, які зьяўляецца непасрэдна адказным за грашовыя справы. Да мяне належыць апека над хлапцамі і догляд за іхнім узгадаваньнем і навукай. Калі хочаце, каб Алік заставаўся надалей у нас, Вы павінны зразумець, што я зьяўляюся ягоным апекуном, які заступае адсутных бацькоў. Таму паміж намі павінны быць поўнае супрацоўніцтва і давер. У прыватнасьці Вы павінны:*

*1. Напісаць у французкай мове ў ліцэй, каб яны прысылалі ўсе Аліковы рахункі і школьныя пасьведчаньні непасрэдна мне, а не Вам, а таксама, каб зьвярталіся непасрэдна да мяне ва ўсіх справах адносна Аліка.*

*2. Перастаць пісаць у справе Аліка пастароньнім асобам, каб ня ставіць іх, Аліка і мяне ў непрыемнае становішча.*

*3. Перастаць пісаць Аліку неразумныя пісьмы, быццам ён папаў сярод ворагаў, якія жадаюць яму зла.*

*4. Зразумець, што Алік зьяўляецца толькі адным з хлопцаў у Школе сьв. Кірылы, з такімі самымі правамі і абавязкамі, як усе іншыя.*

*Гэта ёсьць умовы, на якіх я гатовы трымаць далей Аліка ў Школе сьв. Кірылы. Безумоўна, апошняя пастанова залежыць ад Вас як ад маткі, і Вы можаце паслаць свайго сына на навуку куды хочаце. Якая-б, аднак, Ваша пастанова ня была, Вы павінны будзеце заўсёды лічыцца зь людзьмі, якія возьмуць на сябе абавязак узгадаваньня Вашага сына, і старацца памагчы ім, а не перашкаджаць.*

*З пашанаю да Вас,*

*а. Аляксандар Надсон,*
*Кіраўнік Школы сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане.*

*Парыж, 11.10.71*

*Дарагі Сябра*[13] *,*

*Даўно зьбіралася Вам напісаць, але проста не хапала адвагі і сіл. І вось спад. Шыманец*[14] *мне званіла, што Вы ў іх пыталіся пра мяне й майго сына! Мы абое Вам шчыра ўдзячны за памяць. Гэта цяпер у мяне рэдка здараецца. Ад сьмерці мужа — навокал нас — пустыня. Самыя калісь блізкія цяпер стараюцца быць як надалей. Бязумоўна, гэтага можна было спадзявацца, і таму мы і ня лічым нечым асаблівым. Гэта жыцьцё! Але хопіць — жаляў. І я і ня думаю жаліцца. Адзіны наш жаль — нашае гора, і на яго няма леку. Цяпер астаецца — штодзёншчына, значыць — жыцьцё. Часамі кінутая — празь ветлівасьць толькі — фраза: „Як жывеш?“ — выклікае дум на цэлую кнігу. Так цяжка на гэтыя два словы адказаць. Як жывем — лепш аб гэтым не пісаць. Мы й самыя дзівімся, як мы яшчэ жывы. Але чалавек — жывучы, аб гэтым ужо нехта пісаў з нашых волатаў слова. А мы — драбяза, дык мусім нейк жыць, жыць так, як нам выпадае жыць у нашых абставінах. Але ўсё-ж хацела Вам напісаць больш канкрэтна аб нашым жыцьці. Жыву сама, як дзікая ваўчыха. Хлопец мусіў пакінуць бацькаву хату — бяда выгнала. Жыве ў Лёндане ў Англіі ўжо другі год. Летась быў у бурсе Ул. Сіповіча. Жыў за кнігі з нашай бібліятэкі, якія зажадаў ад Нябошчыка Ул. Сіповіч, бо калі муж прасіў у яго (Ул. С.) стыпэндыю для сына — той катэгарычна адмовіў. Адмовіў паміраючаму чалавеку тыя стыпэндыі, якія сам муж дастаў ад Кардынала Спэльмана. Гэта дабіла паміраючага*[15] *. Ён пабачыў, сь кім нас пакідае. Цэлы прошлы год я мела шмат непрыемнасьцяў і камплікацыяў. Я адмовілася ад „апякуна“, якога мне прыслалі. Усё пераходзіла ў яго рукі, і дзіцё, і майно, ашукалі мяне, што паводле законаў у Францыі абавязкова трэба апякун, а гэта няпраўда! Уратавалі мяне чужыя й мне незнаёмыя людзі, якія прыпадкова мне спаткаліся. Дай ім Божа здароўе на многія годы! Цяпер Алік жыве ў інтэрнаце ад свае школы (Францускі Ліцэй у Лёндане) — але вось Ул. Часлаў нават не заплаціў*

[13] Ліст адрасаваны ў Аўстралію Міколу Нікану (1908—1999), які адведваў Прэзыдэнта Міколу Абрамчыка за колькі гадоў да сьмерці.

[14] Маецца на ўвазе **Эвеліна Шыманец** (1908—1994), жонка інжынэра Ўладзімера Шыманца (1911—1977). Сям'я Шыманцоў таксама жыла ў ваколіцах Парыжу).

[15] Аповед пра кнігі й дачыненьне Міколы Абрамчыка да арганізацыі школы-інтэрнату ў Лёндане не пацьвярджаецца айцом Аляксандрам Надсанам.

*за леташні год за школу, хоць меў заплаціць, ды яшчэ выставіў рахункі за „выдаткі“ леташнія, мусіла падпісаць сілай яму „забавязаньне“ даўгу, бо ён не аддаваў дзіцячых лахаў (што за ганьба, што за стыд, якія там рэчы, адна валізачка, старыя, падраныя, ужо цесныя, палавіну трэба выкінуць, а Ўладыка іх заблякаваў), але я мусіла падпісаць доўг, бо там была фатаграфія Татулькі з часоў атрыманьня Прэзыдэнцтва ад Захаркі, па якой дзіця плакала. Хайбы ім, і Ўладыку, і Надсону, гэтыя лахі засталіся да сьмерці на вечную ганьбу. Бачыце, што вырабляюць з намі, хто заступіцца? Хто яшчэ помніць Нябошчыка? Хаджу на Яго магілу й выліваю свой боль і жаль.*

*Але вось цяпер – канкрэтна як маем жыць? Мелася я працаваць у Радыё ў Мюнхэне. Год чакаю, і нашыя робяць усё, каб мяне не прынялі, хоць сам дырэктар Радыё мяне запрапанаваў на паховінах працу. Хто іх змушае мяне не дапусьціць? Бяз працы — мы зьгінем! Каму гэта патрэбна? Вось плаціць за дзіцё — а ў мяне — Вы ведаеце, з чым Ён нас пакінуў, якую „пэнсыю“ нам выслужыў. Майно — яшчэ ня наша, трэба заплаціць спадкавае ў натара (3300 фр), а я ня маю чым. Не магу нат здаць хаты ў арэнду, бо яшчэ не мая*[16]*. Паправіць тую другую хату таксама ня маю чым, мела-б такі-сякі грош для дзіцяці. Дарагі Сябра, шукайце стыпэндыю для Альгерда — ём мусіць вучыцца! Ён ня можа астацца без асьветы! Ён яшчэ прыдасцца Беларусі — мы яшчэ ў змаганьні, і хто ведае, ці ня прыйдзецца і яму ўліцца ў рады сваіх папярэднікаў. Вучыцца ён мусіць, таму я й зьвяртаюся да Вас па ратунак. Цяжка мне гэта пісаць — мой муж не чакаў, покуль яму напішуць, дзе мог, там стараўся знайсьці магчымасьць моладзі даць асьвету. Сколькі скончыла ў Лювэне! Цяпер гэта ўсё забылася даўно. А я цяпер з жахам стаўлю пытаньне, ці ўся беларуская эміграцыя знойдзе адну стыпэндыю для Абрамчыкавага Сына!*

*Цяпер Вы ведаеце, чаму я ня мела сіл пісаць.*

*Дарагі Сябра, часта я думаю пра Ваш побыт у нас. Гутарылася шмат аб чым. Ужо тыя дні для нас былі страшнымі, мы ведалі, што нас чакае, хоць і была яшчэ надзея, толькі надзея. А цяпер вось — горкая рэчаістасьць. У маім жыцьці было шмат горычы. Радасьцю была праца. Працы й цяпер не бракуе. Пішу, шмат, мо зашмат. Муж мне загадваў дакончыць тое, што ён не дакончыў.*

[16] Маецца на ўвазе дом, які Мікола Абрамчык будаваў дзеля продажу, пазычыўшы грошы ў розных беларусаў-эмігрантаў.

*Маю надзею, Дарагі Сябра, што ў Вас — усё добра, галоўнае — усе здаровыя. Жадаю Вам усяго найлепшага.*

*Жыве Беларусь!*

*Ніна Абрамчык.*

*Мэльбурн, 19.19.1971.*

*Высока Дастойны й дарагі Ўладыка,*

*Пазаўчора атрымаў ліст ад сп. Ніны Абрамчык, копію якога перасылаю. Учора выслаў ліст др. Грышкевічу з агульнмі інфармацыямі зь ліста (Н. Абрамчык) і адказ сп-ні Н. Абрамчык, просячы падаць больш канкрэтныя факты зь іхняга жыцьця і недатрыманьня забавязаньняў са стараны беларусаў пасьля сьмерці с. п. Прэзыдэнта М. Абрамчыка. Зазначыў таксама, што ведаю аб ейным супраціве выданьня беларусам Архіву Рады БНР.*

*Ліст мяне заскочыў. Гэта быў першы ліст пасьля майго наведаньня іх у 1969 г., і колькі да іх лістоў і тэлеграмы ад беларусаў у Аўстраліі, якую выслаў пасьля сьмерці сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка.*

*Копію ліста высылаю Вам, Уладыка, паколькі Вас пэрсанальна абвінавачвае ў нейкіх рэчах, і ветліва прашу тымчасам не даваць Ніне знаць, што маеце копію ліста, а паінфармаваць мяне, як канкрэтна выглядае справа адносна ейных закідаў. Таксама, як выглядае справа вучобы Альгерда, якога, здаецца, узяў пад апеку др. Б. Рагуля*[17] *і абяцаў яму дапамогу ў далейшай вучобе.*

*Прашу гэта, бо хацеў-бы ведаць, каб і выступаць у Вашае абароне, чаго, напэўна, і не патрабуеце, як і адказаць ёй фактамі аб'ектыўнымі, якія ў ейным сьвятле выглядаюць моцна суб'ектыўнымі, няпоўнымі, таму і няпраўдзівымі.*

*Поўнасьцю пагаджаюся, што Альгерду трэба дапамагчы ў далейшай вучобе, бо можа быць карысным Беларускае справе.*

*З другога боку, уважаю, што сп. Ніна можа працаваць і ня толькі сябе трымаць, але дапамагаць і сыну.*

*Але адносна Архіву, то жаднага сумніву няма, што Ніна яго затрымаць ня можа, бо ён ня быў собскасьцю Пакойніка, а толькі пад Ягонай апекай. А што збольшыўся, гэта нармальная рэч. І ў цэласьці павінен быць зьвернуты Радзе БНР.*

*Колькі фармальных слоў у сувязі з копіяй ліста Ніны Абрамчык.*

---

[17] **Барыс Рагуля** (1920—2005) як лекар, спэцыяліст у анкалягічных захворваньнях, адведваў Міколу Абрамчыка незадоўга да сьмерці.

*[…]*

*Канчаю. Жадаю Вам, Уладыка, а. Гэрмановічу*[18] *, усім у Marian House і Беларусам у Англіі ўсяго найлепшага. Прывітаньне ад усіх нас.*

*Шчыра адданы М. Нікан.*

*London, 22.10.1971.*

*Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар Нікан,*

*Шчыра Вам дзякую за ліст з дня 19.10.71 і за копію ліста сп-ні Ніны Абрамчык да Вас з дня 11.10.71. Каб справа датычыла толькі мяне асабіста, ня варта было-б займацца ўсімі тымі паклёпамі, якія ўспомненая спадарыня кідае на мяне. Але ўсё гэта зьвязана з нашай установай Беларускай Школай у Лёндане і з а. Надсонам, якога я ўпаважніў да яе кіраваньня.*

*Сп-ня піша: „Жыў за кнігі з нашай бібліятэкі, якія зажадаў ад Нябошчыка Ул. Сіповіч, бо калі муж прасіў у яго (Ул. С.) стыпэндыю для сына — той катэгарычна адмовіў. Адмовіў паміраючаму чалавеку тыя стыпэндыі, якія сам муж дастаў ад Кардынала Спэльмана. Гэта дабіла паміраючага“.*

*Кожнае слова ёсьць маной.*

*Я хвораму сп. М. Абрамчыку абяцаў уладзіць яго сына ў Лёндане ў францускі ліцэй і абяцаў за яго плаціць, і за школьны год 1970—71 за самую толькі школу мы заплацілі £263.60. Сп. М. Абрамчык згадзіўся асабістыя Аліка выдаткі (pocket money) сам пакрываць. З гэтых асабістых выдаткаў сп-ня Абрамчык не зьвярнула нам £50.00. Калі далічыць утрыманьне Аліка, дык ён нам каштаваў £463, г. зн. больш, чым кожны іншы хлопец у нашым інтэрнаце.*

*Успомненыя кніжкі сп. М. Абрамчык падараваў у Беларускую Бібліятэку. Усе яны разам не каштуюць больш чымся £20. Я жадаў дзеля імя Абрамчыка пры адчыненьні Бібліятэкі зрабіць ягоны фонд. На жаль, няма чаго паказваць. Аднак, калі с. п. Мікола ахвяроўваў тыя кніжкі, абсалютна ня было мовы, што яны ёсьць заплатай за школу Аліка.*

*Першы раз чую, што Кардынал Спэльман даваў на нашу школу грошы і што іх выстараўся памершы Абрамчык!*

*Нягледзячы на ўсе цяжкасьці са сп-няй Нінай Абрамчык, мы й надалей згаджаліся трымаць Аліка і за яго плаціць. Аднак яна сама*

[18] Маецца на ўвазе **а. Язэп Германовіч** (1890—1978), які ад 1959 г. жыў у Лёндане.

*яго забрала й то таму, што мы вымагалі ад Аліка, як ад усіх іншых хлапцоў, вучыцца беларускай мовы, гісторыі і літаратуры; мы вымагалі, каб ліцэй нас інфармаваў аб яго навуцы, матка адна дамагалася ад ліцэю, каб толькі яе інфармаваў і г. д.*

*Усе мы жадалі й жадаем дапамагчы Аліку, аднак яго мама столькі нарабіла інтрыгаў, маны, што ўсім адпалі рукі. На мой погляд, гэта хворая жанчына, якая любіць свайго сынка так, як ваўчыца ваўчаніц. Абсалютна нейкія рады ці разважаньні да яе розуму не даходзяць.*

*З залучанай тут копіі майго ліста да др. Жук-Грышкевіча Вы зразумееце крыху больш*[19] *, асабліва ў справе Архіву БНР.*

*Яна й тут маніць і круціць. Ёсьць дагадкі, што ўжо яна прадала той Архіў або прынамсі, каб яго перафільмавалі нейкія амбасады. Гэта ёсьць глупа й трагічна, і яно адбіваецца на апініі памёршага, які мог заладзіць у сваім часе беларускую народную спадчыну і не заладзіў так, каб яе захаваць.*

*Я, калі жыў сп. М. Абрамчык, шмат яму дапамагаў з розных фондаў, на якія даслоўна прыходзілася жабраваць. Сяньня сп-ня Абрамчык тую дапамогу стараецца так вытлумачыць, каб мяне зганьбіць. Баюся, што хутка дойдзе й да розных амэрыканскіх дапамогаў, і яна пачне выясьняць, хто і як іх карыстаў, а яна вось цяпер у бядзе.*

*Адно Вас прасіў-бы ёй напісаць, да чаго Вы, як адзін з сяброў Рады БНР, маеце поўнае права: каб яна якнайхутчэй і безь ніякіх агаворак перадала выбранай пасьля сьмерці мужа Камісіі Архіў БНР.*

*Пры нагодзе жадаў-бы Вас запытаць: ці Вы запраўды перахавалі тыя здымкі ці клішы, якія Вы рабілі Архіву БНР*[20] *? Гэта было-б прынамся для ўсіх нас часткова пацехай, што хаця нешта захавалася.*

*Прыміце найшчырэйшыя словы прывету й пашаны.*

[19] Згаданы ліст на сёньня ў архівах ня выяўлены.

[20] У Міколы Нікана была ідэя ў часе свайго наведваньня Міколы Абрамчыка ў 1969 г. паразьняць на фотаапарат архіў Рады. Аднак, выглядае, яму не ўдалося гэта зрабіць.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# СПАДЧЫНА АЎГЕНА КАВАЛЕЎСКАГА



Аўген Кавалеўскі

Будучы драматург, актор Аўген Кавалеўскі нарадзіўся 7 студзеня 1921 г. у Маскве. Неўзабаве пасьля таго сям'я вярнулася ў Менск, дзе ў 1930-х гг. бацька быў рэпрэсаваны. Кавалеўскі вучыўся ў сярэдняй школе №45 г. Менску й яшчэ ў школьныя гады браў удзел у дзіцячых пастаноўках Тэатра юнага гледача. Пазьней, па рэкамэндацыі Еўсьцігнея Міровіча, накіраваўся ў школу пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры. Вайна перарвала навучаньне.

У 1944 г. Аўген Кавалеўскі зьехаў зь Беларусі ў Нямеччыну. Жыў у лягерах *DP* у Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Остэргофэне. Арганізаваў з прафэсійных актораў на эміграцыі ансамбль песьні й танца „Жыве Беларусь!“, пазьней ператвораны ў Тэатар эстрады, які езьдзіў з гастролямі па розных лягерах *DP*. У 1947 г. у Міхельсдорфе Кавалеўскі выдаў адмысловы „Кароткі курс навучаньня актора“. Пісаў таксама апавяданьні, фэльетоны, скетчы, п'есы, якія публікаваліся як на старонках эміграцыйных часопісаў „Сакавік“, „Моладзь“, „Напагатове“ ды інш., гэтак і выходзілі асобнымі выданьнямі: „Вясновы жук“ (Амберг — Рэгенсбург, 1946), „Лекар мімаволі“ (Рэгенсбург, 1946), „Ліхадзейка“ (Міхельсдорф, 1946), „Шапка-няўгледка“ (Міхельсдорф, 1947), “Блакітная Віля“ (Остэргофэн, 1948), „Госьці з Тунісу“ (Міхельсдорф, 1948), „Случчакі“ (Парыж, 1949).

У 1949 г. Аўген Кавалеўскі перабраўся ў Францыю, дзе быў вымушаны працаваць у кравецкай майстэрні. На пачатку 1950-х гг. быў сакратаром і кіраўніком аддзелу культуры Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі. Меў жонку Валянціну, дзьвюх дачок. Памёр пасьля цяжкай апэрацыі 13 жніўня 1963 г. у Руане.

Творчая спадчына Аўгена Кавалеўскага — колькі дзясяткаў твораў у рукапісах і машынапісах — захоўвалася ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку ды ў красавіку 2014 г. была перададзеная ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва, дзе створаны Цэнтр камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа. П’есы, навэлы, скетчы, апавяданьні літаратара, фактычна невядомага ў мэтраполіі, чакаюць ўвагі дасьледнікаў, а таксама, магчыма, асобнага выданьня збору твораў.

### Сьпіс твораў Аўгена Кавалеўскага, што захоўваюцца ў БДАМЛМ

1. **Баязліўцы:** скетч. Аўтограф. — 12 с.
2. **Блакітная віля:** апавяданьне. Остэргофэн, 15.06.1948. Чарнавік. Аўтограф. — 26 с.
3. **Встреча:** скетч. Аўтограф. — 7 с. Расейская мова.
4. **Вясновы жук:** вадэвіль у адной дзеі. Амбэрг-Рэгенсбург, 1946. Ксэракопія машынапісу. — 14 с.
5. **Госьці з Тунісу:** вадэвіль у ваднэй дзеі. Ксэракопія машынапісу. — 8 с. (Апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 356—369.)
6. **Дзед Мікіта:** Жарт у адной дзеі. Ксэракопія аўтографу. — 8 с.
7. **Калека:** Навэла. 1949. Варыянты. Аўтограф. — 11 с., друкаванае выданьне (старонкі часопіса „Наперад“ №21. 1949. С. 6—12). Ксэракопія.
8. **Кароткі курс навучаньня актора.** Падручнік для тэатральных студыяў, школаў і гурткоў мастацкай самадзейнасьці. Выдавецтва Крыніца. Чэрвень 1947. Ксэракопія. — 20 с.
9. **Кастусь Каліноўскі:** мантаж у 3-х абразох. Машынапіс. — 6 с.
10. **Лекар мімаволі**: скетч. Рэгенсбург, 1946. Аўтограф. — 8 с.
11. **Людзі ў полымі:** аповесьць. Варыянты. Аўтограф, друкаванае выданьне, ксэракопія. — 113 с. (Друкавалася ў часопісе „Моладзь“ (Парыж).
12. **Навагонія запросіны:** Навагодні скетч. Беларускі Дапамаговы Камітэт у Ватэнштэце. 1946. Ксэракопія машынапісу. — 11 с.

13. **Обреченные**: пьеса. Ксэракопія машынапісу. — 65 с. Машынапісы роляў Арленевай і Бурава ў асобных сшытках. Расейская мова.
14. **Отэллё**: скетч. Аўтограф. — 6 с.
15. **Першы подых**: навэла. 1949. Варыянты. Аўтограф. — 14 с., друкаванае выданьне (старонкі часопіса „Наперад“ №19. 1949. С. 16—22).
16. **Случчакі:** Драматычны абразок з часоў Слуцкага паўстаньня. Аўтограф. — 24 с.
17. **Сучасны людаед:** скетч. Ксэракопія аўтографа. — 7 с.
18. **Таямніца замчышча**: Аповесьць. 2 часткі. Друкаванае выданьне. — 19 с. Старонкі часопіса „Моладзь“ (?).
19. **Шапка-няўгледка:** П’еска ў 2-х абразкох для дзяцей сярэдняга веку. Крыніца, 1947. Друкаванае выданьне. — 16 с. (Скаўцкая бібліятэчка. №3).
20. **Я мушу жыць!** Апавяданьне. Остэргофэн, 1948 (?). Варыянты. Аўтограф, ксэракопія. — 10 с.

# ПРАСКІЯ БЕЛАРУСЫ

*Беларуская прысутнасьць у міжваеннай Празе на сёньня дасьледавана лепей, як, напрыклад, у Латвіі або паваеннай Францыі. Ёсьць артыкулы, прысьвечаныя асобным дзеячам, ёсьць нават абароненая дысэртацыя на тэму „Беларуская дыяспара ў Чэхаславакіі (1921—1938)“, абароненая Андрэем Бучам у 2012 г. Тэма выклікае сталую цікавасьць таксама ва ўкраінскіх дасьледнікаў. Мы ведаем пра студэнцкае жыцьцё ў Чэскай сталіцы ў 1920-х ды пра лёсы асобных студэнтаў, пра дзеячаў БНР, што аселі тут, пра пэрыёдыкі, пра Ларысу Геніюш, дзякуючы яе „Споведзі“...*

*Аднак пакуль не зьявілася абагульняльная праца, што раскрывала б зьмест фэномэна „праскі беларус“, сістэмна прадстаўляла б розныя аспэкты беларускай прысутнасьці ў Чэхаславаччыне, вызначала б месца Прагі ў ліку асяродкаў беларускай дыяспары.*

*Менавіта таму мы ў гэтым выпуску „Запісаў БІНіМ“ адмыслова зьвяртаемся да тэмы беларускай прысутнасьці ў Празе. Галоўная мэта — паказаць існуючы стан дасьледаваньняў, найперш біяграфічных. У вывучэньні ключавых постацяў „праскіх беларусаў“ на сёньня застаецца багата пытаньняў без адказаў. Шмат якія дакумэнты й пэрыёдыкі застаюцца маладаступнымі для дасьледнікаў. Зьмешчаныя ніжэй матэрыялы, магчыма, дапамогуць запоўніць некаторыя лакуны.*

***Тамаш Грыб***

# ЛІСТ ДА СЫМОНА РАК-МІХАЙЛОЎСКАГА

*Эпісталярная спадчына Тамаша Грыба даволі разнастайная, раскіданая па архівах і зборах розных краінаў, безумоўна, вартая вывучэньня й публікаваньня. Можна толькі дзівіцца, што пры даволі актыўнай цікавасьці да асобы дзеяча ад пачатку 1990-х гг. дасёньня яшчэ ня складзены ні збор ягонай публіцыстыкі, ні эпісталярнай спадчыны.*

*Прапанаваны тут увазе чытачоў ліст з фондаў Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь*[1] *, напісаны ў 1921 г. У той час Тамаш Грыб, сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў (БПС-Р), членец Народнай Рады БНР жыў у Коўна, а ягоны адрасат Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885—1938) быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Барунах ды настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі, а ў наступным годзе стаў дэпутатам у Польскім сойме. Ліст напісаны хутка пасьля заключэньня Рыскай мірнай дамовы, што амаль на два дзесяцігодзьдзі падзяліла Беларусь. Відаць, адной з рэакцыяў на падзею стаў пошук вінаватых у тым, што адбылося, і для Тамаша Грыба адказ відавочны — польскаарыентаваныя беларускія палітыкі. Эмацыйнасьць і красамоўнасьць аўтара ліста сьведчаць пра тое, наколькі балюча ўспрымалася тая дамова ды палітыка палякаў у дачыненьні беларусаў. Дакумэнт важны рэпрэзэнтацыяй палітычнай і грамадзкай пазыцыі Тамаша Грыба, а таксама адлюстраваньнем характару дачыненьня ў беларускім руху пачатку 1920-х гг. Магчыма, гэты дакумэнт некалі зойме сваё месца ў томе эпісталярыяў дзеяча.*

---

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 459. Воп. 1. Спр. 3. Копія ліста перададзеная для публікацыі Арсенем Лісам. Пры публікацыі захоўваюцца асаблівасьці мовы арыгіналу.

Вельмі паважаны грамадзянін
Сымон Рак-Міхайлоўскі!

У мінулым мы шмат у чым зьвязаны паміж сябе — супольная праца ў БСГ[2], у ЦБ ВР[3], у СКР з'езда[4], у Радзе БНР і наогул усёй грамадзка-палітычнай працай з самага пачатку актыўнага змаганьня за нацыянальна-дзяржаўнае і сацыяльнае адраджэньне нашай Бацькаўшчыны; усё гэта кладзе на нас вялікі абавязак у пэўнай меры быць шчырымі, каб проста адзін аднаму глянуць у вочы і адкрыта сказаць праўду. Гэтую праўду, можа быць, балючую, прыкрую, але я мушу Вам сказаць.

Нас цяпер разьдзяляе вялікая мураваная сьцяна, не чуем мы адзін аднаго, хаця ж часамі і вельмі голасна гамонім. Гэтую сьцяну паміж намі збудавалі польскія акупанты з іх нечувана дзікімі зьдзекамі над нашым народам, з іх пыткамі, бізунамі, кайданамі, вастрогамі, сьмертнымі казьнямі па суду і без усялякага сьледзтва і суду.

Муравանай сьцяной польская шляхта хоча аддзяліцца ад беларускіх працоўных мас і от жа частка беларускай народнай інтэлігенцыі пайшла з народам проці ўсіх зьверстваў акупантаў, а другая частка... як не больна... пайшла з панамі і шляхтай проці народа, проці сярмяжнага сялянства.

Успамінаючы словы пакойнага А. Прушынскага[5], якія ён сказаў на сходзе старшыні ЧБНК[6] гр. Тэрэшчанкі[7] ў Менску ў маі 1920 г., калі з

[2] **Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ)** — першая беларуская нацыянальная палітычная партыя. Дзейнічала ў 1902—1918 гг.

[3] **Цэнтральная беларуская вайсковая рада (ЦБВР)** — арганізацыя, якая ў 1917—1918 гг. займалася пытаньнямі фармаваньня беларускага войска й каардынавала працу беларускіх вайсковых радаў. Сымон Рак-Міхайлоўскі ў 1917 г. узначаліў Часовы выканаўчы камітэт ЦБВР.

[4] На Першым Усебеларускім кангрэсе Тамаш Грыб і Сымон Рак-Міхайлоўскі ўваходзілі ў кіраўніцтва Аб'яднанай сацыялістычнай фракцыі рэвалюцыйных народнікаў і грамадоўцаў.

[5] Маецца на ўвазе **Аляксандар Прушынскі** (**Алесь Гарун**, 1887—1920), літаратар, грамадзкі дзеяч.

[6] **Часовы Беларускі нацыянальны камітэт (ЧБНК)** — грамадзка-палітычная арганізацыя, каардынацыйны орган беларускага нацыянальнага руху ў часе польска-савецкай вайны 1919—1920 гг. на тэрыторыі падкантрольнай польскім вайсковым фарміраваньням. У Прэзідыюм ЧБНК уваходзіў Аляксандар Прушынскі.

[7] **Кузьма Цярэшчанка** (1888—1922), грамадзка-палітычны дзеяч, у 1919 г. быў абраны на пасаду старшыні ЧБНК.

дня на дзень польскія акупанты мусілі пакінуць Менск пад напорам беларускіх сялянскіх паўстанцаў — *„Мы арганізуем шляхту і створым беларускае войска“* — я цяпер толькі добра ўразумеў увесь сэнс гэтых трагічных слоў беларускага паэта. А. Прушынскі хацеў бачыць нашую Бацькаўшчыну не сялянскай працоўнай дзяржавай, а шляхецкай, абапертай на збройную сілу польскіх штыкоў.

Дык ці адзін толькі так думаў А. Прушынскі — не памылюся, калі скажу, што і Вы, і ўсе тыя, што зрабілі раскол 13.XII.1919 г.[8] у Радзе Рэспублікі, безумоўна, так сама думалі. А гр. В. Іваноўскі[9], то і далей нават пайшоў — ён проста адкінуў думку аб беларускай дзяржаўнасьці як не на часе, і цьвёрда настаіваў на далучэньні Беларусі да Польшчы, каб за гэта атрымаць культурна-нацыянальную аўтаномію. Усіх тады вабіла думка аб граніцах Польшчы 1772 г. і аўтаномная Беларусь з панскай ласкі…

Мы ж гэтую думку рашуча адкінулі. Мы сталі на іншы шлях, на шлях рэвалюцыйнага змаганьня за прывярэньне волі Беларусі.

Памятую, яшчэ пакойны Іван Луцкевіч[10] нам цьвердзіў: *„У нас мала інтэлігенцыі, мы не можам рабіць актыўных выступленьняў“* — а ў Менску гэта стала догмай усёй рэальнай палітыкі „Найвышэйшай Рады“. Штодня ў гутарцы з кім толькі, бывала, ні спаткаешся, адно толькі і чуеш: *„У нас мала ёсьць інтэлігенцыі, у нас няма інтэлігенцыі“*.

А раз помню, то я з гр. Ігнатоўскім[11] амаль што ні пакалацілі гр. Сераду[12] за гэты бязглузды *„вопль душы збалелай“*. Мы яму стараліся вытлумачыць, што гэта ёсьць ні што іншае, як правакаваньне беларускай справы. Мы самі добра ведаем, што ў нас ёсьць і чаго няма, але заўсёды цьвярдзіць аб тым, што ў нас *„мала інтэлігенцыі“*, або што ў нас *„зусім няма інтэлігенцыі“* — гэта, безумоўна, прынасіла толькі шкоду ўсяму беларускаму высвабадзіцельна-адраджэнскаму руху. Бо ўзапраў-

[8] 13 сьнежня 1919 г. адбыўся раскол Рады БНР на Найвышэйшую Раду БНР і Народную Раду БНР. Іх старшынямі сталі адпаведна Язэп Лёсік і Пётра Крэчэўскі.

[9] **Вацлаў Іваноўскі** (1880—1943), палітычны дзеяч, у 1920 г. ён як упаўнаважаны Найвышэйшай рады БНР удзельнічаў у беларуска-польскіх перамовах, выступаў за фэдэрацыю Беларусі з Польшчай.

[10] **Іван Луцкевіч** (1881—1919), грамадзкі й палітычны дзеяч, публіцыст.

[11] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881—1931), грамадзкі й палітычны дзеяч, гісторык, пасьля расколу БСГ ўваходзіў у ЦК БПС-Р

[12] **Янка Серада** (1879—1943), грамадзкі й палітычны дзеяч, публіцыст, пэдагог, у красавіку—траўні 1918 г. — Старшыня Рады БНР.

ды гэта было на руку толькі польскім акупантам, каторыя, па майму глыбокаму пераканаеньню, зусім сьвядома мусіравалі гэткія думкі, каб потым сказаць: *„Цож, панове, у вас так мало інтэлігенцыі, Беларусь мы тылько збудуем“* і г. д.

Самы сабой, лягічны вынік тут зусім быў ясны — будуйце, паночкі, а нам толькі дайце ўзгадаваць праз школу новае пакаленьне.

А польскім акупантам гэтае і трэба было, яны сваё зрабілі, яны сумелі вырваць ад „Найвышэйшай Рады“ згоду на культурна-нацыянальную аўтаномію і гэтым самым ануляваць ідэю незалежнай беларускай дзяржаўнасьці.

Заява пана Скульскага[13], міністра Прэзідэнта польскай дзяржавы варшаўскім карэспандэнтам, што беларусы адмаўляюцца ад сваёй дзяржаўнасьці і згаджаюцца на культурна-нацыянальную аўтаномію ў межах польскай дзяржаўнасьці, як бура з навальніцай праняслася над нашым родным краем і перуном ударыла ў маладое, яшчэ не акрэпшае дрэўца беларускай дзяржаўнасьці.

Што дало права п. Скульскаму рабіць гэткую заяву? Хто адрокся ад беларускай дзяржаўнасьці? — *„цёмна вада ва облацех“*, як той казаў. „Найвышэйшая Рада“ пусьцілася на тайную дыпляматыю, пачала выдумляць разныя спосабы скрыць свой грэх і, як той грэшны Адам ў раі, прыкрывае свой сорам фігавым лістком — ЦБНК[14], які, па азначэньні гр. Тэрэшчанкі, быў страхой „Найвышэйшай Рады“ пасьля таго, як паявіліся пратэсты ад віленскіх і ад гарадзенскіх беларускіх арганізацый, „тожэ“ выносіць пратэст.

Але грош цана была гэтаму пратэсту. Міністр прэзідэнт польскай дзяржавы п. Скульскі больш меў аўтарытэту і нават больш таго: яго словы пачула ўся Эўропа і паверыла яму. Пачулі гэта і паверылі — бо ім гэта зусім на руку — *„усясільныя бальшавікі“*.

І вось у час рыжскіх мірных перагавораў *„усясільныя бальшавікі“*, прызнаўшы незалежнасьць Украіны, дамагаюцца прыняць у склад дэлегацыі, як самаісную старану, дэлегацыю ад Украінскай незалежнай Савецкай Рэспублікі.

Ясна — незалежная Ўкраінская Савецкая Рэспубліка была фікцыя, але затое ўсё украінскае грамадзянства ад самага правага канца аж да левага моцна стаіць на грунце незалежнасьці сваёй бацьз-

[13] **Леапольд Скульскі** (1877—1940), польскі палітычны дзеяч, у 1919—1920 гг. — старшыня Рады міністраў Польшчы, а ў 1920—1921 гг. — міністар унутраных спраў Польшчы

[14] Відаць, маецца на ўвазе ЧБНК

каўшчыны, не зышоў з гэтага грунту і ўрад Пятлюры[15], што абапіраўся на Польшчу.

Мо хоць і рознымі шляхамі, але ўсе ідуць к адной мэце — незалежнасьць Украіны. А што ж беларусы?

А ўжо ж беларусы самі надзелі пятлю на сваю шыю.

Існуюць два ўрады — адзін, абапёрты на польскія штыкі і нават мае сваю вайсковую камісію, — знача, мае сваё войска, але які адрокся ад беларускай дзяржаўнасьці, згадзіўшыся на культурна-нацыянальную аўтаномію, такім чынам, усю палітычную долю Беларусі аддаў на разрашэньне польскіх паноў — гэта ёсьць урад „Найвышэйшай Рады“, другі ўрад — гэта ёсьць Рада Народных Міністраў БНР, які ні на якія штыкі не абапёрты, а толькі з голай праўдай у руках бароніць правы Беларусі на вольнае незалежнае дзяржаўнае жыцьцё.

Вядома, мы яшчэ жывём у той час, калі долю народаў разрашае не праўда і справядлівасьць, а грубая сіла штыка і кулямёта. Усе пратэсты беларускага ўрада — Рады Народных Міністраў мелі толькі адно маральнае значэньне, праўда, вялікае маральнае значэньне перад усёй культурнай эўрапейскай дэмакратыяй, аднак жа факт стаўся — Рыжскім мірам жывое цела Беларусі разарванае на часьці, ліецца бязьвінная кроў, пабядзіцелі, узваліўшы цяжкі камень, а не дошку, як гэта было ў старыну, на грудзі беларускага народа, устраіваюць свой п’яны баль.

Таржэйствуйце, балюйце, скрываўленыя вы каты, а грозны словы запішыць рука ракавая“, бо ўсё ж такі *„veritas vincet“*[16], і мы верым у васход яснага сонца, праўды і волі.

Але што сталася з „Найвышэйшай Радай“? Што, служалася сваіх грахоў і гатова ўцякаць у пустыню, каб пастом і пакутаю вымаліць сабе прабачэньне? Гатова раскаяцца, як той блудны сын і зноў вярнуцца на панадворак сваёй бацькаўшчыны. Ці так, га?

Але той, хто шчыра каецца ў сваіх грахах, каецца ўсенародна — таму прабачаюцца грахі, так казалі ў старыну нашыя дзяды і прадзеды.

Дык зразумеце-ж, зразумейце нарэшце вашыя грахі, спаліце вашых балванаў і пакланіцеся сапраўднаму Богу, Богу сонца, праўды і волі!

Адкіньце ваш подлы фетышызм — годзе ўжо вам, пастыдныя, біць чалом паклоны польскім панам. Сорам!

---

[15] **Сымон Пятлюра** (1879—1926), украінскі вайсковы дзеяч, кіраўнік Дырэкторыі Ўкраінскай Народнай Рэспублікі ў 1919—1920 гг.

[16] ***„Veritas vincet“*** (лац.) — *„праўда пераможа“*.

Вы ж самі нарэшце ўжо пераканаліся, што з польскімі панамі зусім не па дарозе беларускаму селяніну-земляробу. Жыцьцёвыя інтарэсы працоўнае сялянскае Беларусі вымагаюць адкрытага змаганьня з панска-шляхецкім імпэрыялізмам Польшчы. Не згода, а змаганьне на жыцьцё і на сьмерць з польскімі феадаламі-панамі. Успомніце гістарычныя словы Кастуся Каліноўскага: *„Сякера паўстанца не павінна застанавіцца над калыскай панскага дзіцяці“*, Гэта было сказана яшчэ ў XIX сталецьці. Знача, нашае змаганне, завешчанае нам дзядамі нашымі і бацькамі. І мы павінны прадсьмертную іх волю сьвята выпаўніць.

Дый то сказаць, змаганьне з польскімі панамі і шляхтай ёсьць змаганьне за сацыяльнае раскрапашчэньне беларускага сялянства, змаганьне за зямлю, што калісь належала ўсяму народу, але з часамі польскія паны і шляхта і здрадзіўшая свайму народу беларуская тагачасная інтэлігенцыя, баярства самавольна заўладалі беларускім народным дабром, нявольнікам сваім зрабілі беларускага селяніна-земляроба.

От жа, прабіў час, калі наша пакаленьне павінна споўніць, ажыцьцёвіць заветныя думкі — ідэі дзядоў сваіх і прадзедаў, павінна высвабадзіць зямлю з чэпкіх рук польскіх каланізатараў і беларускіх здраднікаў-баяр, што за розныя прывілеі, нададзеныя ім праз польскіх каралёў, запрагалі ў няволю Беларусь.

Час, каб добра зразумець і ўсьвядоміць сабе грахі мінуўшчыны і больш ужо ніколі іх не паўтараць. Разважце і зразумейце грэх злошчаснай „Найвышэйшай Рады“, якая дала права пану Скульскаму казаць, што беларусы адракліся ад сваёй дзяржаўнасьці, якая дала права польскім панам заключыць ганебны мірны дагавор у Рызе, і за аўтаномную Беларусь і нарэшце дала права пану Пілсудскаму правадзіць вайсковую каланізацыю беларускіх зямель.

Пара паставіць пункт над і, пара ўжо цьвёрдае, рашучае, наша роднае, беларускае, простае, мужыцкае сказаць слова праўды.

Хто мы і куды мы йдзем?

Мы змагаемся за незалежнасьць, за вольнасьць нашай Бацькаўшчыны, за лепшую шчасьлівую долю працоўнай Беларусі, за волю народную, за права жыць пад сонцам.

Наш шлях ёсьць вельмі цяжкі, усыпаны цернямі і вострым пякучым жвірам. Затое ў нас ёсьць сьветлы ідэал будучыні, каторы, як тая зорка ў небе, сьвеціць тым, хто не разучыўся яшчэ разумець праўду, хто моцную мае веру ў пабеду дабра і справядлівасьці, хто не ўтраціў веру ў прагрэс усёй людзкасьці і хто нарэшце мае непрадажнае сумленьне.

Дык разважце ўсё гэта і дайце свой адказ.

Праз вас я зьвяртаюся да ўсіх беларускіх дзеячоў з „Найвышэйшай Рады“, да ўсіх тых беларусоў, што заблудзіліся паміж трох соснаў польскай арыентацыі.

Дык зразумеюць няхай яны нарэшце ўсё тое фальшывае становішча, у якім яны цяпер знаходзяцца, дзеля сваёй мягкацеласьці, сентыментальнасьці і халопскай пакоры, каб толькі яго вяльможнасьці пану Пілсудскаму ўспадабацца.

Дзе іх рэальная палітыка, аб якой яны трубілі нам праз тры гады? Мо ў тым, каб польскія акупанты разагналі беларускія школы, каапэратывы, усе культурна-прасьветныя арганізацыі? Мо ў тым, каб дзікія наездцы маглі з гонарам шляхецкім казаць *„kólka w leb“*[17] таму, хто будзе беларускія кніжкі чытаць?

О, вядома, калі ў гэтым была іх рэальная палітыка — няхай скачуць лявоніху, сёньня на іх вуліцы сьвята.

Аднак ці можна тады запытацца, хто яны? Хто вы, што дапамагаеце спраўляць п’яны баль польскім пабядзіцелям на грудзях свайго народа?

Здыміце ваш шутаўскі нарад. Пакіньце позу вечнай ендзы. Даволі ганьбіць і бэсьціць імя беларуса!

Што?.. Няўжо ж беларус не мае свайго ўласнага нацыянальнага гонару?

Няпраўда — мае свой гонар беларус!

І калі сёньня ён прыдушаны ляжыць пад трыўфальнай калясьніцай пана Пілсудскага, гэтага ката працоўнай Беларусі — то заўтра можа стацца зусім інакш, і той, хто сёньня пад канём у балоце прыдушаны ляжыць, — заўтра будзе на кані. Часы мяняюцца і от жа, прыйдзе час, калі і паняволены польскімі панамі сярмяжны сын вёскі — беларус зможа аддзячыць сваім ворагам і не запамятуе прыхільнікаў сваіх.

Надыйдзе час, ён мо хутка ўжо надыйдзе, калі тоўстапузыя скрываўленыя каты — польская шляхта і паны павінны будуць стаць перад усенародным судом працоўнай Беларусі — нідзе дзенуцца паўпанкі і падлыжнікі панскія.

За гонар свой, за зьдзек і паняверку, за нялюдзкія мукі па турмах і лягерах, за рэкі пралітай народнай крыві, за спаленыя хаты, за пагвалчаных сясьцёр сваіх, за пакалечаных братоў пры допытах у розных дыфэнзывах — жорскі будзе суд працоўнай Беларусі над паганымі гадамі, скрываўленымі катамі, панамі польскімі ды шляхтай.

[17] ***„Kólka w leb“*** (польск.) — *„кулька ў галаву“*.

Няхай усенька гэта добра зразумеюць беларусы з польскай арыентацыяй, каб потым не балела галава ад чужога пахмельля — няхай разважаць, няхай усьвядомяць сябе...

14.IV.1921

Тамаш Грыб

*Падрыхтоўка да друку Натальлі Гардзіенкі*

***Валянцін Мазец***
*Менск*

# АДРАДЖЭНЕЦ-РАМАНТЫК

**(да 135-годзьдзя з дня нараджэньня Пётры Крэчэўскага)**

Гісторыя змаганьня за практычнае ўвасабленьне ідэі беларускай дзяржаўнасьці, што разгарнулася ў пачатку XX ст., непасрэдным чынам была зьнітаваная зь лёсам шэрагу выбітных асобаў. І сёньня, калі на нашай зямлі адбываецца станаўленьне незалежнай беларускай дзяржавы, будзе дарэчы ўспомніць добрым словам імёны тых, хто прысьвяціў гэтай справе ўсё сваё жыцьцё. Тым больш, што 7 жніўня 2014 г. споўнілася 135 гадоў зь дня нараджэньня выбітнага дзеяча беларускага нацыянальнага руху, паэта й публіцыста, Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пётры Антонавіча Крэчэўскага, дзейнасьць якога ў *„справе барацьбы за незалежнасць Беларусі, была... выдатная і заслужаная“*[1].

Нарадзіўся Пётра ў сям'і дзяка сельскага прыходу Кобрынскага павету былой Гарадзенскай губэрні Антона Крэчэўскага. У 1902 г. ён скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю, дзе набыў надзвычай грунтоўныя веды ня толькі ў галіне душпастырскай дзейнасьці. Паводле некаторых зьвестак, Пётра Крэчэўскі *„прымаў чынны ўдзел у рэвалюцыйна-вызвольным руху яшчэ са студэнцкіх гадоў“*[2].

Адразу пасля заканчэньня сэмінарыі малады чалавек атрымаў пасаду старшага настаўніка двухкласавай царкоўна-прыходзкай школы ў мястэчку Ялаўцы Пружанскага павету. Але ж душпастырская дзейнасьць ня стала для яго справай усяго жыцьця, як для ягонага бацькі. Неўзабаве Пётра Крэчэўскі пакінуў пасаду ў царкоўна-прыходзкай

[1] Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня // Шлях моладзі. № 11. 1935. С. 8.

[2] Бюлетэнь загранічнай групы беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. № 8. 1928. С. 31.



Пётра Крэчэўскі

школе й пайшоў працаваць народным настаўнікам. Настаўнічаў ён на працягу некалькіх гадоў у Беластоцкім і Ваўкавыскім паветах.

У 1909 г. 30-гадовы Пётра Антонавіч кардынальна зьмяніў кірунак сваёй прафэсійнай дзейнасьці й паступіў на службу ў Віленскі дзяржаўны банк. У якасьці інспэктара дробнага крэдыту гэтай установы ён працаваў да пачатку Першай сусьветнай вайны. У 1914 г. Пётра Крэчэўскі быў пакліканы на вайсковую службу й прызначаны на пасаду справавода аднаго з вайсковавэтэрынарных лазарэтаў. На гэтай пасадзе ў Барысаве яго засьпела Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. Зь першых дзён, напоўненых бурлівымі падзеямі, Пётра Крэчэўскі ўключыўся ў палітычную барацьбу. Як чалавек, што карыстаўся безумоўным аўтарытэтам у сваіх саслужыўцаў, ён быў абраны старшынём Барысаўскага Савету салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Хутчэй за ўсё, у той час ён і далучыўся да беларускага нацыянальнага руху, і ўступіў у шэрагі Беларускай сацыялістычнай грамады[3]. Калі гэта адбылося, дакладна ўстанавіць пакуль што не атрымалася. Але ўжо дакладна вядома, што ўвесну 1918 г. пасьля расколу БСГ Пётра Крэчэўскі разам з Антонам Аўсянікам, Язэпам Варонкам, Кастусём Езавітавым, Васілём Захаркам і Аляксандрам Цьвікевічам ўваходзіў у склад Цэнтральнага камітэту Беларускай партыі сацыялістаўфэдэралістаў.

У якасьці дэлегата ад Барысаўскага Савету салдацкіх і рабочых дэпутатаў Пётра Крэчэўскі быў накіраваны ў Менск на Першы Ўсебеларускі зьезд, які адбыўся ў сьнежні 1917 г. Пётра Антонавіч узначальваў мандатную камісію зьезду. Адзін з дэлегатаў, паэт Макар Краўцоў (Касьцевіч) у сваіх успамінах даволі дакладна й калярытна падае партрэт дзеяча:

[3] Бюлетэнь заграпічнай групы беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. №8. 1928. С. 31.

*„У памяці маёй паўстае Пётра Крэчэўскі як ціхая, скромная асоба з воркам папераў на руках: сяброўскіх мандатаў на Першым Усебеларускім зьездзе ў Менску ў месяцы сьнежні 1917 году.*

*Яго пышная рыжаватая барада, крыху прыгнутая, вышэйшая за сярэдні рост фігура ў старым шынялі расейскага вайсковага ўрадніка, недастача пярэдніх зубоў у роце, а праз гэта і глухі тэнаровы тэмбр голасу пры гутарцы — усё гэта рабіла яго нейкім старэйшым з выгляду...*

*Ува ўсёй яго ціхай, малаахвотнай на словы істоце таілася выразная, цьвёрдая воля ісьці да канца цярністым шляхам беларускага дзеяча пакутніка.*

*Душа яго гарэла нейкаю рамантычна-дзявочай надзеяй, хоць з выгляду Крэчэўскі ўжо ў 1917 годзе быў — чысты дзед.*

*Не магу прыпомніць ані ценю гневу на яго шыраканосым сьветлым твары, а таксама ў вечна-спакойным і вечна-ласкавым паглядзе рашучых шырока-расплюшчаных вачэй. А гэтулькі-ж усялякіх мамэнтаў разам зь ім прыйшлося перажываць.*

*Калі бывала і з дакорам якім зьвернецца да цябе, дык неяк па-свойму, мягка, з усьмешкай на твары, з ласкаю ў вачах, ад якіх не адарвеш свайго пагляду, мігам астынеш, пераканаешся ад жмені яго простых, шчырых слоў, ішоўшых з глыбіняў добрае душы яго.*

*Заўсёды аднолькавы, каменна-спакойны, Пётра Антонавіч трымаўся зь нейкаю патрыяршаю, як сказаў-бы той, павагаю. Мы ўсе любілі яго, бо іншага пачуцця ён ні ў кім і нічым ніколі ня выклікаў. Пачуцьцё таварыскасьці меў нязвычайнае“*[4] .

Дарэчы, у 1917 г. Пётры Крэчэўскаму было толькі 38 гадоў.

Добра ведаючы склад дэлегатаў зьезду, старшыня мандатнай камісіі адзначаў: *„Гісторыя паўтараецца. Бясформенныя, неарганізаваныя, толькі што прыехаўшыя зь вёскі сялянскія, чыста беларускія масы ў пачатку Зьезду з 5 па 18 сьнежня 1917 г. нагадвалі ўсім даўно забытыя, але дарагія для нас часы Беларускага Полацкага Веча.*

*Што самае дзіўнае, калі ў той момант, калі гісторыя прымушае рушыць ранейшыя асновы дзяржаўнага жыцьця і будаваць новыя, — жарсьці разгараюцца да неверагодных памераў і выяўляюцца новыя погляды, новыя групоўкі, але ўсё-ж такі аб’яднаныя адным агульным, я б сказаў, чыста інстыктыўным імкненьнем захаваньня свайго нацыянальнага „я“.*

[4] Краўцоў, Макар. Пётра Антонавіч Крэчэўскі // Шлях моладзі. №3. 1937. С. 8.

*Так было і на Зьездзе з 5 па 18 сьнежня мінулага (1917 г.) году, дзе сабралася 1167 прадстаўнікоў ад Беларускага народу з правам рашаючага голаса і 705 прадстаўнікоў з правам дарадчага. Шматлюднасьць зьезду кажа сама за сябе, так як ніводная нацыя за пэрыяд Вялікай Расейскай Рэвалюцыі не дала такой колькасьці ўдзельнікаў, і, натуральна, воля народу на ім была выяўлена цалкам заканамерна, гэтага ня будзе і ня мае права аспрэчваць ніхто*“[5].

Пётра Крэчэўскі выказваў сваё шчырае захапленьне імкненьнем беларусаў заняць свой пачэсны пасад між народамі: *„Маральна забіты, але з іншага боку — моцны роднай мовай і асаблівасьцю характару, нягледзячы на тое, што амаль ўся інтэлігенцыя адмовілася ад роднай беларускай мовы і прыняла або рускую, або польскую мову, ён, які не меў сьмеласьці падумаць пра сваю самастойнасьць, — шквалам вялікай рускай рэвалюцыі быў вынесены на вяршыню сваёй нацыянальнай самасьвядомасьці і ў парыве энтузіазму пачаў размаўляць мовай Беларуса-Грамадзяніна — гаспадара сваёй роднай краіны, яшчэ не сапсаванага ні польскай, ні рускай культурай, мовай народа канстытуаналіста і запатрабаваў сабе на кангрэсе з 5 да 17 сьнежня 1917 г. належнага месца сярод народаў свету*“[6].

Да 17 сьнежня 1917 г. на зьездзе ішла ўнутраная арганізацыйная праца: ствараліся камісіі, фракцыі, выпрацоўваліся даклады, рэзалюцыі, складаўся Наказ, праводзіліся выбары ў Прэзыдыюм зьезду. На гэтую падрыхтоўчую працу было выдаткавана шмат намаганьняў і часу, таму што вялікая колькасьць дэпутатаў зусім ня мела вопыту парлямэнцкай дзейнасьці[7].

Згодна з пратаколам зьезду, калі на пленарным паседжаньні ў ноч з 17 на 18 сьнежня 1917 г. пачалося абвяшчэньне рэзалюцыі па пытаньні аб сучасным становішчы Беларусі й формах арганізацыі краёвай улады, у залю зьявіліся прадстаўнікі СНК Заходняй вобласьці: наркам унутраных спраў Людвіг Рэзаўскі й начальнік менскага гарнізону Мікалай Крывашэін, якія абвесьцілі зьезд распушчаным. На наступны дзень пасьля разгону — 18 сьнежня 1917 г. — дэлегаты сабраліся ў дэпо Лібава-Роменскай чыгункі й *„перадалі Радзе зьезду паўнамоцтвы на да-*

---

[5] Кто был на 1-ом Всебелорусском сьезде. Справка Петра Кречевского // Варта. 1918. № 1. С. 34—36.

[6] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 77.

[7] Цвикевич, А. Краткий очерк возникновения БНР. Киев, 1919. С. 9.

*лейшую барацьбу за ідэалы беларускай дзяржаўнасьці*“[8]. Такім чынам, гвалтоўны разгон Усебеларускага зьезду бальшавікамі ў ноч з 17 на 18 сьнежня 1917 г. ня змог спыніць працэсу дзяржаўнага будаўніцтва.

Неабходна адзначыць, што зьезд, як выказьнік інтарэсаў палітычна актыўнай часткі беларускага народу, меў найвышэйшую ва ўмовах таго часу ступеню легітымнасьці. Таму створаныя ім органы: Рада (Савет) зьезду й Выканаўчы камітэт Рады зьезду, — мелі права прымаць легітымныя рашэньні па пытаньнях, што датычылі лёсу Беларусі й яе народу. Пётра Крэчэўскі быў абраны ў склад Выканаўчага камітэту Рады Ўсебеларускага зьезду.

Вечарам 19 лютага 1918 г. Выканаўчы Камітэт Рады зьезду скончыў сваё апошняе нелегальнае паседжаньне, апрацаваўшы Першую Ўстаўную грамату да народаў Беларусі. Крыху раней адбылося надзвычайнае паседжэньне Выканкаму БЦВР, на якім было прынята рашэньне: *„Папрычыне абсалютна выразнага памкненьня Народнага Камісарыяту Заходняй вобласьці ўцякчы на ўсход і па-прычыне набліжэньня немцаў і верагоднасьці анархіі ў горадзе — узяць на сябе ахову парадку і бясьпекі ў Менску, а калі спатрэбіцца, то і ва ўсёй Беларусі, а таксама прапанаваць Выканкаму Рады 1-га Усебеларускага зьезду выканаць волю зьезда і ўзяць уладу ў свае рукі*“[9].

Натура дзейсная, Пётра Крэчэўскі заўсёды знаходзіўся ў самай гушчы падзей. Пры гэтым ён валодаў здольнасьцю вырашаць самыя складаныя пытаньні. Адзін з актыўных удзельнікаў і відавочца тых падзей Макар Краўцоў адзначаў: *„Варта хіба ўспомніць, як на долю Крэчэўскага выпала ліквідаваць уладу Ляндэра і ўсіх яго, ахопленых панікаю, „народных камісараў Заходняй вобласьці і фронту“.*

*Бальшавіцкія камісары затрыманы былі служачымі чыгункі на менскім вакзале. Чыгуначнікі проста не хацелі выпусьціць зь Менску тагачаснае расейскае „ўлады“ з торбамі, туга напханымі керэнкамі ды іншымі грашовымі знакамі... „Уцякаеце, саколікі, а нас з чым пакідаеце?..*“[10].

Дэлегаваны да чыгуначнікаў, што актыўна падтрымоўвалі беларускі нацыянальны рух, Пётра Крэчэўскі *„парадзіў ім патрабаваць ад*

[8] Замежная Беларусь. Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі пад рэдакцыяй П. А. Крэчэўскага. Кніжка першая. Прага: Выдавецтва імяні Ф. Скарыны, 1926. С. 53

[9] Кто был на 1-ом Всебелорусском сьезде... С. 36

[10] Краўцоў, Макар. Пётра Антонавіч Крэчэўскі... С. 10.

*бальшавіцкіх камісараў выплаты пэнсіяў чыгуначнікам за паўгода наперад. Камісары мусілі на гэта згадзіцца*“[11] . Патрабаваньне чыгуначнікаў было выканана.

Неабходна адзначыць, што ў тых умовах спроба затрымаць кіраўніцтва Заходняй вобласьці й фронту *„сапраўды рызыкоўнаю здавалася тады не аднаму Крэчэўскаму й зусім ня дзіва, што гэткае спробы вялікадушны Пётра Антонавіч тады не зрабіў*“[12] .

Як непасрэдны сьведка й удзельнік, 15 траўня 1918 г. Пётра Крэчэўскі адлюстраваў дзяржаватворчы працэс у артыкуле „Тры акты“, рукапіс якога захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь:

*„У жыцці народаў, як і асобнага чалавека, здараюцца мінуты поўнага спакою і наадварот — мінуты надзвычайнага ўздыму энергіі, калі на працягу нязначнага прамежку часу робіцца намнога больш, чым за ўсё папярэдняе або наступнае жыцьцё*“[13] .

У такі менавіта момант і трапіў стыхійна Беларускі народ.

*„Але поўнага шчасьця на зямлі не бывае, як і раней, на родную нам Беларусь насунуліся чорныя хмары, прыйшла процьма народу з захаду...*“[14] — так, пасьля таго як Троцкім былі сарваныя мірныя перамовы ў Берасьці, разгарнулася наступленьне нямецкіх войскаў, у выніку якога яны занялі амаль усю тэрыторыя Беларусі. Пасля гэтага паўстала пытаньне, як трапна адзначыў Пётра Крэчэўскі: *„Ці возьмуць яны яе сабе, або перапрададуць яе каму-небудзь іншаму, ніхто не ведаў, але апетыты як у саміх пераможцаў, так і бліжэйшых яе суседзяў разгараліся і Беларуская Рада, як прадстаўніца свайго народа, не жадаючы чакаць вынікаў гандлю, скарысталася з няпэўнасьці становішча і вырашыла вырвацца на волю, абвясьціўшы сваю незалежнасьць*“[15] .

Заключэньне 3 сакавіка 1918 г. Берасьцейскай мірнай дамовы паміж Нямеччынай і Савецкай Расеяй без удзелу прадстаўнікоў беларускага народу й насуперак яго жыцьцёвым інтарэсам падштурхнула беларускіх дзеячаў, у першых шэрагах якіх знаходзіўся на той час і Пётра Крэчэўскі, да рашучых крокаў, скіраваных на адраджэньне дзяржаўнасьці Беларусі.

[11] Краўцоў, Макар. Пётра Антонавіч Крэчэўскі... С. 10.

[12] Краўцоў, Макар. Пётра Антонавіч Крэчэўскі... С. 10.

[13] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 77.

[14] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 77.

[15] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 77 адв.

*„Суд народу і яго гісторыя будуць праўдзівымі,* — адзначаў Крэчэўскі, — *і скажуць пра гэта сваё апошняе слова, маё-ж жаданне ў дадзены момант* — ***даць,*** *па магчымасьці,* ***поўнае абгрунтаваньне*** *тым актам, што былі зробленыя Радай"*[16].

Своеасаблівым пратэстам супраць несправядлівай мірнай дамовы стала абвяшчэньне Выканаўчым Камітэтам Рады зьезду 9 сакавіка 1918 г. Другой Устаўной граматы, якой Беларусь была абвешчана Народнай Рэспублікай у межах расьсяленьня й лічэбнай перавагі беларускага народу. Але Другая Ўстаўная грамата, якая абвясьціла Беларускую Народную Рэспубліку, яшчэ нічога не сказала аб яе сувэрэннасьці, тэрыторыі й адносінах да суседніх рэспублік. Пётра Крэчэўскі адзначаў, што БНР *„яшчэ не вырвалася зь дзяржаўнай залежнасьці тае дзяржавы, у складзе якой была. Сувэрэннасьць Расеі над Беларусьсю вісела як дамоклаў меч, а абставіны патрабавалі скінуць гэта іга, як мага хутчэй"*[17].

Геапалітычная сітуацыя ўскладнялася й тым, што ў сакавіку 1918 г. у Бэрліне адбылася сустрэча прадстаўнікоў кіруючых партый Рэйхстагу з кіраўнікамі польскіх арганізацый. Разглядалася пытаньне пра магчымасьць перадачы Нямеччынай беларускіх земляў Гарадзеншчыны й часткі Меншчыны Польшчы ў якасьці кампэнсацыі за адмову палякаў ад прэтэнзіяў на Пазнаньшчыну. У сувязі з гэтай сустрэчай Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага зьезду й Народны Сакратарыят БНР накіравалі нямецкаму рэйхсканцлеру Гэртлінгу мэмарандум, заяўляючы, што *„падобны акт (перадача зямель беларускіх Польшчы) парушыў бы самыя жыцьцёвыя інтарэсы беларускага народу і значнай большасьці нацыянальных меншасьцяў Беларусі і была б палічана народнымі масамі, як цяжкая зьнявага"*[18].

17 сакавіка 1918 г. Віленская Беларуская Рада накіравала тэлеграму на імя Імпэрскага канцлера, старшыні Рэйхстагу й генэрала Людэндорфа з рашучым пратэстам супраць плянаванага падзелу тэрыторыі Беларусі. Выказала свой пратэст і Беларускае Народнае Прадстаўніцтва. Як адзначаў сябра Рады БНР Пётра Крэчэўскі: *„выхаду не было, а чуткі і розныя навіны ўсё расьлі... Краіна зь пятнаццацімільённым насельніцтвам, пра якую раней амаль ніхто ня ведаў, ці больш правільна, не хацеў ведаць, стала арэнаю міжнародных несумленных*

[16] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 77 адв.

[17] Замежная Беларусь... С. 55

[18] Гоман. 1918. 29 сакавіка.

*пагадненьняў, — пра яе ішла спрэчка-гутарка ўжо ў Германскім Рэйхстагу. Там, пад уплывам палякаў і іншых, партыя Рэйхсканцлера, а пра гэта Рада мела дакладныя зьвесткі, схілялася да падзелу Беларусі, але, з другога боку — ваенная партыя стаяла за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі“*[19]. Умовы й гандаль беларускім народам і тэрыторыяй паміж палякамі ды немцамі патрабавалі выяўленьня юрыдычнага аблічча Беларусі. Нельга было пратэставаць супраць падзелу, калі дзялілі тыя, каму яшчэ належаў сувэрэнітэт над Беларусьсю й для каго гэты падзел быў толькі нутраной справай Расеі.

25 сакавіка 1918 г. была прынятая Трэцяя Ўстаўная грамата, якой Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай. На падставе гэтага акту было заяўлена пра скасаваньне ўсіх старых дзяржаўных сувязяў, а Народнаму Сакратарыяту даручалася зьвярнуцца да зацікаўленых бакоў з прапановай перагледзець умовы Берасьцейскага міру.

Безумоўна, такога хуткага разьвіцьця нацыянальнай ідэі, якое завяршылася пасьля Першага Ўсебеларускага зьезду абвяшчэньнем БНР з органам краёвай улады ў асобе Народнага Сакратарыяту, ня ведала ніводная краіна. Як слушна зазначыў Пётра Крэчэўскі, *„гэта мог зрабіць толькі народ-тытан, якому па спадчыне ад продкаў перайшлі гатовыя формы дзяржаўнага будаўніцтва“*[20]; *„Незалежна ад таго, што рыхтуе нам лёс — плаху па судзе народу ці ружы, якімі будзе ўсыпаны наш шлях да дасягненьня адзінай, непадзельнай Беларусі — мы прымем аднолькава, але ідзём да гэтага з адкрытымі вачамі — бо толькі ў гэтым у дадзены момант бачым выратаваньне Беларусі“*[21].

Пётра Крэчэўскі як сябра Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага зьезду, а пасьля й Рады Беларускай Народнай Рэспублікі быў актыўным удзельнікам падрыхтоўкі й выданьня Першай і Другой Устаўных грамат да народаў Беларусі й Акту абвяшчэньня 25 сакавіка 1918 г. незалежнасьці БНР. 19 лютага 1918 г. дзеяч увайшоў у склад першага беларускага ўраду — Народнага Сакратарыяту, у якім заняў пасаду дзяржаўнага кантралёра. Потым, на працягу 1918 г., Пётра Крэчэўскі займае шэраг важных урадавых пасадаў: народнага сакратара фінансаў, народнага сакратара гандлю й прамысловасьці.

---

[19] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 79.

[20] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 77.

[21] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 765. Арк. 80.

Ужо ў красавіку 1918 г. на разгляд Рады БНР Язэп Варонка й народны сакратар фінансаў Крэчэўскі прапанавалі праект увядзеньня беларускай нацыянальнай валюты — выпуск беларускіх крэдытных білетаў, якія забясьпечваюцца *„древесной валютой“* (коштам таварнага лесу)[22].

У траўні 1918 г. Пётра Крэчэўскі склаў праграму разьвіцьця фінансаў і гандлю, якая прадугледжвала комплекс мерапрыемстваў па фармаваньні ўласнай фінансава-крэдытнай сістэмы Беларускай Народнай Рэспублікі. Так, плянавалася скіраваць свае намаганні на *„атрыманьне зьнешніх займаў, як аснову прызнаньня Рэспублікі й умацаваньня становішча ўласнай валюты“*[23]. Прапаноўвалася ўвядзеньне дзяржаўнай манаполіі на вытворчасьць і продаж запалак, а таксама на прадукцыю заводаў выпуску сьпірту з абмежаваньнем продажу сьпіртных напояў у краіне, згодна зь фінляндзкай сістэмай. У ліку першачарговых захадаў у падатковай галіне да поўнага афармленьня апарату ўлады й правядзеньня ў жыцьцё сістэмы зьбіраньня прагрэсіўнага падушнага падатку плянавалася ўстанавіць аднаразовы збор. Пры заключэньні гандлёвых пагадненьняў прапаноўвалася дабівацца зьніжэньня да мінімуму пошліны на прадметы экспарту, а таксама ажыцьцяўленьне свабоднага экспарту жывёл і птушак[24].

Трэба адзначыць, што Пётра Крэчэўскі займаўся ня толькі тэарэтычнай распрацоўкай праектаў, але й практычнай дзейнасьцю па іх рэалізацыі. Так, 24 красавіка 1918 г. ён узначаліў Цэнтральную беларускую гандлёвую палату. Гэтая ўстанова вырашала пытаньні тавараабмену й забесьпячэньня насельніцтва Беларусі неабходнымі прадуктамі харчаваньня. У верасьні 1918 г. Пётра Крэчэўскі разам зь Фёдарам Вернікоўскім накіраваліся ва Ўкраіну з мэтаю заключэньня пагадненьня аб тавараабмене з урадам краіны-суседкі. 27 верасьня 1918 г., закончыўшы сваю місію, яны вярнуліся ў Менск. З украінскім урадам была дасягнута поўная згода ў пытаньні тавараабмену: узамен на ўкраінскую муку, цукар, мыла БНР абавязалася пастаўляць лесаматэрыялы, дровы, запалкі. Усе тавары й прадукты, якія вывозіліся з Украіны ў Беларусь, павінны былі праходзіць цераз Кіеўскую Беларускую гандлёвую палату на чале зь Мітрафанам Доўнар-Запольскім і там рэгістравацца з умовай зьніжэньня мытных пошлінаў і цэнаў на тавары.

Згода Міністра гандлю й прамысловасьці Ўкраіны на рэгістрацыю й вываз тавараў толькі цераз Кіеўскую Беларускую гандлёвую палату

[22] НАРБ. Ф. 60-п. Воп. 3. Спр. 759. Арк.11; Минская газета. 1918. 19 апреля.

[23] НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 120.

[24] НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 120.

паставілі на чаргу пытаньне вагонаабмену. І па ім зь Міністэрствам шляхоў зносінаў Украіны была дасягнута дамоўленасьць. Далейшай задачай Цэнтральнай Беларускай гандлёвай палаты ў Менску была неабходнасьць канчаткова замацаваць усе падпісаныя пагадненьні праз дазвол на ажыцьцяўленьне гэтага ад нямецкіх акупацыйных уладаў[25]. І тут быў дасягнуты посьпех — акупацыйныя ўлады прызналі дамоўленасьць, абяцаючы вызваліць тавары ад рэквізыцыі на чыгунцы[26]. У Мазыры, Лунінцы, Рэчыцы, Гомелі, Полацку й Воршы Беларуская цэнтральная гандлёвая палата адкрыла рэгістрацыйныя пункты. Такім чынам, дзякуючы намаганьням Пётры Крэчэўскага былі зробленыя важныя крокі ў кірунку наладжваньня гандлёва-эканамічных адносінаў БНР з УНР.

Пры канцы 1918 г., пасьля таго, як было заключана пагадненьне паміж Літоўскай тарыбай і Віленскай Беларускай Радай, Пётра Крэчэўскі выконваў абавязкі камісара ў Гарадзенскім павеце.

На заканчэньне 1919 г. у Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі адбыўся раскол. Прадстаўнікі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў і Беларускай партыі сацыялістаў-фэдэралістаў, ня згодныя з паланафільскай пазыцыяй прадстаўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі й кіраўніка Ўраду БНР Антона Луцкевіча, на пасяджаньні 13 сьнежня 1919 г. абвесьцілі пра стварэньне Народнай Рады БНР на чале зь Пётрам Крэчэўскім.

З прычыны неспрыяльных абставінаў, Рада і Ўрад БНР на чале з Вацлавам Ластоўскім былі вымушаны падацца ў эміграцыю ў Коўна. Умовамі Рыскай мірнай дамовы 1921 г. тэрыторыя Беларусі была зноў падзеленая, гэтым разам паміж Польшчай і Савецкай Расеяй. У тых надзвычай складаных абставінах Радзе БНР не заставалася нічога іншага, *„як толькі захаваць сябе, як найвышэйшую беларускую ўладу, каб прыпамінаць аб ідэалах незалежнай Беларусі як свайму народу, так і Эўропе“*[27].

Знаходзячыся ў эміграцыі, Пётра Крэчэўскі мэтанакіравана й пасьлядоўна бараніў ідэалы незалежнасьці Беларусі. Вялікім посьпехам Рады БНР і асабіста яе Старшыні сталі вынікі Ўсебеларускай палітычнай нарады, што адбылася 25 верасьня 1921 г. у Празе. Тут было прынятае рашэньне, што *„адзіным заканадаўчым органам Беларусі*

[25] Гоман. 1918. № 79.

[26] Новый вестник. 1918. 30 сентября.

[27] Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня… С. 7.

*зьяўляецца Рада БНР, маючая пераемнасьць улады ад Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. і што адзінай адказнай уладай Беларусі зьяўляецца ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, маючы мандат ад Рады БНР“*[28].

Неабходна адзначыць, што сябры Рады і Ўраду БНР апынуліся на эміграцыі ў цяжкім маральным і матэрыяльным становішчы. Урад Летувы вырашыў скарыстаць з сітуацыі і прапанаваў Вацлаву Ластоўскаму — Старшыні Рады Міністраў БНР — *„службу на акрэсьленай пэнсыі і нейкую, для вока, беларускую культурную працу, замест шырокага супрацоўніцтва зь Беларускім Урадам на падставе ўмовы 11 кастрычніка 1920 г.“*[29]. У 1922 г. Старшыня Ўраду БНР Вацлаў Ластоўскі й сябра Ўраду Аляксандар Цьвікевіч накіравалі на імя Старшыні Рады міністраў Летувіскай Рэспублікі Гальваноўскага заяву аб мэтазгоднасьці перадачы Вільні ў склад Летувы. Напісаньне гэтай заявы было ўспрынята кіраўніцтвам Рады БНР як здрада дзяржаўным інтарэсам і ў выніку прывяло да адстаўкі з пасады Старшыні Ўраду БНР Вацлава Ластоўскага. Пасьля гэтага часова была ўтворана Дзяржаўная Калегія пад кіраўніцтвам Старшыні Рады БНР Пётры Крэчэўскага, куды былі запрошаны, з прычыны адсутнасьці *„людзей за граніцай, зноў Ластоўскі й Цьвікевіч. Аднак ужо пасьля ўсяго таго, што было, — прошлай салідарнасьці не заставалася і адносіны паміж сябрамі ўраду с кожным днём псаваліс, і надалей працаваць у такіх умовах ужо было немагчыма“*[30]. 20 красавіка 1923 г. Вацлаў Ластоўскі вымушаны быў пайсьці ў адстаўку й выйсьці са складу Калегіі.

2 лістапада 1923 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і Ўрад БНР, які ўзначаліў Аляксандар Цьвікевіч, канчаткова пераехалі ў Прагу і там *„як эмігранты, знайшлі поўную падтрымку з боку Чэхаславацкага Ўраду на роўне з усімі эмігрантамі народу быўшае Расеі“*[31]. Разам з тым, міжнароднае палітычнае становішча да сярэдзіны 1920-х гг. больш-менш стабілізавалася, *„асабліва пасьля прызнаньня „Статус-кво“ пастановай амбасадараў 14 сакавіка 1923 г. за Польшчай і прызнаньнем некаторымі зь вялікіх дзяржаў Антанты РСФСР“*[32]. У такіх умовах *„БНР ўсімі была забытая й пакінута. Лёс сяброў БНР і Ўраду стаўся такім, як усёй беларускай інтэлігенцыі“*[33].

[28] Замежная Беларусь... С. 63.

[29] Замежная Беларусь... С. 125.

[30] Замежная Беларусь... С. 125.

[31] Замежная Беларусь ... С. 126.

[32] Замежная Беларусь... С. 124.

[33] Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня... С. 7.

20 траўня 1924 г. Пётра Крэчэўскі накіраваў мэмарандум у Лігу нацый. У дакумэнце ён зьвяртае ўвагу сусьветнай супольнасьці на тое, што: *„бытавое, эканамічнае, тэрытарыяльнае і моўнае адрозьненьне беларускай нацыі ад нацыі вялікарасейскай і польскай, [...] дае права і самой Беларусі абасабленьня ў форме незалежнай рэспублікі“*[34] і патрабаваў забесьпячэньня належных беларускаму народу правоў: *„прымаючы пад увагу пазітыўную спэцыфічнасьць Беларусі ў тэрытарыяльных, эканамічных і нацыянальных адносінах — беларускі народ на падставе [...] усяго вышэйсказанага й выяўленьня сваёй волі на Усебеларускім Кангрэсе 17 сьнежня 1917 г. і пастановы Рады Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г., патрабуе поўнай незалежнасьці Беларусі як ад Польшчы, так і ад Расеі“*[35].

Беларусізацыя, што паступова набірала моц, у адпаведнасьці з адмысловай пастановай Другой сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага камітэту БССР ад 15 ліпеня 1924 г. „Аб практычных захадах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі“, атрымала ў БССР статус дзяржаўнай палітыкі. Прызнаваючы той факт, *„што Менск становіцца цэнтрам культурна-нацыянальнай працы ва Ўсходняй Беларусі“*, Пётра Крэчэўскі даволі крытычна ставіўся да працэсаў, якія адбываліся ў Савецкай Беларусі ў цэлым. Ён зьвязваў гэта з тым, *„што ўся палітычная і эканамічная праца ў Савецкай Беларусі вядзецца чужынцамі, элемэнтам прышлым, нічога супольнага зь Беларусьсю ня маючым. Да гэтае пары Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ня мае сваей беларускай камуністычнай партыі, а мае сэкцыю Усесаюзнай камуністычнай партыі на Беларусі“*[36]. Пры гэтым ён уздымаў даволі слушнае пытаньне, якое датычыла сутнасьці беларусізацыі: *„Ці нацыянальная палітыка мусіць быць толькі формай у дзяржаўным зьмесьце пралетарскіх Саветаў, ці форма й зьмест павінны быць беларускімі па істоце, як у нацыянальна-культурным, так і ў дзяржаўным жыцьці народу“*[37].

Маючы пэўныя посьпехі ў працэсе нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР, *„партыя РКП, цяпер Усесаюзная, хацела мець мандаты БНР як сувярэннай установы ня толькі на Усходнюю, але і на Заходнюю Беларусь. Торг з гэтага і пачаўся.*

[34] Замежная Беларусь... С. 138.

[35] Замежная Беларусь... С. 139.

[36] Замежная Беларусь... С. 128.

[37] Замежная Беларусь... С. 4.

*Як крумкачы сядзелі за вуглом прыёмшчыкі мандатаў (Аляксандар) Ульянаў і (Зьміцер) Жылуновіч у Бэрліне, прысланыя зь Менску, каб заплаціць сваіх 30 срэбрэнікаў Цьвікевічу за жывую душу Беларускага народу“*[38] .

Дарэчы, Аляксандар Цьвікевіч як старшыня Ўраду ня меў ніякага права выступаць ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, так як выключна Прэзідыюм Рады *„мог весьці размову аб мандатах“*[39] . Таму на Бэрлінскай канфэрэнцыі ў кастрычніку 1925 г. не адбылася перадача мандатаў БНР Ураду БССР. У выніку на канфэрэнцыі Аляксандар Цьвікевіч абвесьціў пра ліквідацыю Ўраду БНР. У той жа час Леанард Заяц і Ўладзімер Пракулевіч, напярэдадні канфэрэнцыі, 4 кастрычніка 1925 г., падалі на імя старшыні Рады БНР Пётры Крэчэўскага заяву аб адстаўцы адпаведна з пасады дзяржаўнага кантралёра й дзяржаўнага пісара Ўраду БНР, *„прымаючы пад ўвагу, што пытаньне ліквідацыі Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі можа быць пастаўлена на павестку дня канфэрэнцыі ў Бэрліне“*[40] . Тым ня менш Леанард Заяц і Ўладзімер Пракулевіч падпісалі ў Бэрліне пратакол прызнаньня Савецкай Беларусі.

У выніку, як адзначаў Пётра Крэчэўскі: *„Цьвікевіч і компанія ліквідавалі сябе і выкінулі свае імёны зь Беларускай Незалежніцкай Групы, але ўстанова як Урад засталася. Выканаўчая ўлада да часу перайшла ў рукі Прэзыдіуму Рады і можэ быць узноўлена, калі гэта будзе патрэбна“*[41] .

Такім чынам, авантура Аляксандра Цьвікевіча зь перадачай мандатаў БНР Ураду Беларускай ССР посьпеху не атрымала дзякуючы пасьлядоўнай і цьвёрдай пазыцыі перш за ўсё Пётры Крэчэўскага. Пра гэта піша й Адам Станкевіч: *„Праўда, фармальна гэта йшчэ ня была ліквідацыя беларускай суверэннай ўлады, бо старшыня Рады БНР гэнай перадачы мандатаў не пацьвердзіў і Рада гэта, як насіцелька суверэннай беларускай улады, асталася існаваць далей, але фактычна мала што аставалася ўжо ад гэнай улады, бо-ж радных ужо асталося толькі дватры чалавекі. Ад гэтага часу ўжо фактычна можна гаварыць не аб беларускай суверэннай уладзе, але аб ідэі суверэннай Беларусі, якую верна перахавалі і пераказалі беларускаму народу гэныя два-тры чалавекі“*[42] .

---

[38] Замежная Беларусь... С. 128.

[39] Замежная Беларусь... С. 127.

[40] Замежная Беларусь... С. 128.

[41] Замежная Беларусь... С. 127.

[42] Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня... С. 8.

Разам з тым Крэчэўскі вельмі балюча ўспрымаў такі ход падзеяў. Ён адзначаў: *„Наша няшчасьце ў тым, што на працягу ўсей дзержаўна-адраджэнскай працы мы на адпаведных становішчах выканаўчай улады бачылі мала сумленных людзей і цяпер яны апынуліся ў варожым стане свайго народу. Людзі, якія ўчора служылі ідэалу незалежнасьці і будавалі сваю палітычную кар'еру, сёньня яе паганяць.. .*

*Німа пакуль дзержавы і німа аружжа бароцца з гэтым злом, але гэта ня значыць, што мы ў роспачы павінны адмовіцца ад сваіх лепшых ідэалаў. Права не ў сіле. Часовая перэмога — ня ёсьць закон на будучыню. Рамантызм ідэі творыць рэальнасьць, а не наадварот. Рэальнасьць падпарадкоўвае слабейшых (!), а моцны духам рамантызм змагаецца і накрэсьлівае новые шляхі будучыні.*

*Не апраўдаўшыя народнага даверу рэалісты адыйшлі ў старану ці перайшлі ў варожы стан, а цьверды рамантызм ідэі незалежнасьці і яе дзержаўных устаноў жывець далей і будзе жыць, пакуль жыве сама ідэя“*[43] .

Але нават у такіх надзвычай цяжкіх, перш за ўсё маральна-псыхалягічных абставінах, Пётра Крэчэўскі працягваў мэтанакіраваную працу па захаваньні й пашырэньні ідэі беларускай дзяржаўнай незалежнасьці. Заканамерным вынікам гэтай працы стаў выхад у 1926 г. зборніку „Замежная Беларусь“ пад ягонай рэдакцыяй.

На старонках гэтага выданьня Пётра Крэчэўскі паўстае перад удумлівым чытачом ня толькі як публіцыст, але й як гісторык, бібліёграф, літаратуразнаўца. У нарысе геаграфічнага, гістарычнага й эканамічнага досьледу „Беларусь у мінулым і сучасным“, які паводле свайго зьместу варты таго, каб быць перавыдадзеным асобна, зьвяртаючыся да гістарычных падзеяў амаль тысячагадовай даўніны, Крэчэўскі абгрунтоўваў права беларусаў жыць самастойным жыцьцём на ўласнай зямлі: *„Беларусы, патомкі Крывічоў, Дрэговічоў і Радзімічоў, пачалі сваё гісторычнае жыцьцё з IX стагодзьдзя, на сярэдняй частцы вялікага воднага шляху з „Вараг у Грэкі“.*

*Ні вялікае перасяленьне народаў, ні татарская навала не зьмянілі рубяжоў беларускага разсяленьня, і беларусы да гэтай пары застаюцца ў сваіх старых этнаграфічных межах і заховываюць самы старажытны і несапсованы прыйшлымі ўплывамі славянскі тып“*[44] .

Дзяржаўную незалежнасьць аўтар разглядаў як найвялікшую каштоўнасьць для кожнага народу: *„Барацьба народаў і нацый за сваю*

[43] Замежная Беларусь... С. 131.

[44] Замежная Беларусь... С. 31.

*незалежнасьць не цяпер пачалась і мусіць не хутка скончыцца. Безканечныя магілы сьведчаць аб гэтай барацьбе, кроўю паліта ўсё мінулае жыцьцё народаў за сваё нацыанальнае адраджэньне і будзе праліваца яе яшчэ не мала“.* І ў першую чаргу гэта датычыла продкаў беларусаў. *„Ня ўсім вядома,* — адзначаў Пятро Крэчэўскі, — *што геаграфічнае паложэньне Беларусі не менялась ад самага пачатку існаваньня беларускіх плямён, а беларуская гісторыя была неўпыннай барацьбой за сваю нацыянальную незалежнасьць“*[45] .

Актуальнымі й сёньня застаюцца думкі, выказаныя Пётрам Крэчэўскім у артыкуле „Скарына і незалежнасьць“. Ён падкрэсьліваў надзвычай важнае значэньне дзейнасьці Францыска Скарыны як для разьвіцьця беларускай культуры, так і для станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці:

*„Без Скарыны і яго друкаў, ніколі беларуская мова не стала б дзержаўнай у Літоўска-Беларускім Княжастве.*

*Толькі Скарына і яго наступнікі, узгадованыя на яго друках, выратавалі Літоўска-Беларускае Княства ад поўнага зьліцьця з Польшчай.*

*Усе ведаюць, што на падставе Скарынінскіх друкаў беларускі народ захаваў сваю самабытнасьць і ня зьліўся з польскай дзяржавай, нягледзячы на тое, што нацыянальнага ўсьведамленьня, у нашым сэнсе слова, тады яшчэ не было“*[46] .

Менавіта *„Дух Скарыны і старых традыцый“,* — паводле меркаваньня Пётры Крэчэўскага, — *„загаварыў раптоўна ізноў і выдзяліў беларусоў з агульна-расейскай лічбы“*[47] ў часе лесавызначальных падзеяў 1917 года, калі на Усебеларускі зьезд у Мінску сабралася каля 2000 дэлегатаў.

*„Знаць добра беларусы чыталі кніжкі свайго першапечатніка-друкара і шанавалі яго запавядзі, калі нават на чужыне, раскідаўшысь па ўсім франтам і заграніцай, вучыліся чытаць і гаварыць па свояму, каб у пэўны момант скінуць зь сябе чужацкую вопратку і з’явіцца на першы покліч сваёй Бацькаўшчыны.*

*З’явілісь усе, верные заветам Скарыны, але лёс не судзіў яшчэ нам вярнуць былую славу нашых продкаў. Незалежнасьці мы не дасягнулі, дзякуючы ворагам пераможчыкам, але мы яе дасягнем. Скарына нам у гэтым зарука“*[48] — з ўпэўненасьцю сьцьвярджаў Крэчэўскі.

[45] Замежная Беларусь... С. 39.

[46] Замежная Беларусь... С. 13.

[47] Замежная Беларусь... С. 14.

[48] Замежная Беларусь... С. 15.

Аўтар акцэнтаваў увагу на найважнейшых і надзвычай актуальных для дзяржаватворчага працэсу ў сувэрэннай Рэспубліцы Беларусь момантах:

*— „Без мовы — німа нацыі, без культуры — німа народу і не можа быць Незалежнасьці, сваёй уласнай дзяржавы.*

*— Народ, адчуўшы ўсю пекнату незалежнага існаваньня, ніколі ня згодзіцца на рабства. Мы бачылі ў самастойным існаваньні росквіт культуры і адраджэньня; таксама, як у братскім еднаньні раней з Польшчай, а потым з Расеяй — заняпад і блізка што ня сьмерць нацыі.*

*— Цень Скарыны ў сягодняшні дзень яшчэ больш ўзмацуе нашы сілы на змаганьне за сваю Незалежнасць, а ўдзячные сыны Беларусі, пры дапамозе нашых прыяцеляў, яшчэ больш аб'ядназоць навуковыя сілы нашай Бацькаўшчыны ў барацьбе за сваю і культурную і палітычную незалежнасьць“*[49] .

Актыўны палітычны дзеяч, Пётра Крэчэўскі ў душы заўсёды заставаўся паэтам[50] . Пра гэта сьведчыць цэлы шэраг вершаў, як надрукаваных на беларускай мове, гэтак і рукапісных — рускамоўных, што захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа, а таксама дзьве паэмы.

Першыя вершы Крэчэўскага, напісаныя напярадні Першай сусьветнай вайны на расейскай мове, былі прасякнутыя лірыкай каханьня. Вось адзін зь іх, датаваны 3 студзеня 1914 г.:

*„Кто страданья людей понимает.*
*Кто умеет их скорби смягчить,*
*Кто от чистого сердца прощает.*
*Обладает тот даром любить!“*

У 1918 г., насычаным важнымі падзеямі, Пётра Крэчэўскі знаходзіў час для паэзіі й 9 чэрвеня ў „Вольнай Беларусі“ змясьціў свой верш — народную беларускую легенду пра птушку-бусла:

*„І Беларус буслоў шануе,*
*Ён кажа: „Нельга бусла біць,*

[49] Замежная Беларусь... С. 15.

[50] Бюлетэнь загранічнай групы беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. № 8. 1928. С. 31.

*Бо Янкі ў ім душа існуе,*
*Ён чалавек і хоча жыць“*[51] .

6 студзеня 1923 г., знаходзячыся ў Коўна, Пётра Крэчэўскі напісаў вершаваную гістарычную драму „Рагнеда“, якая ўпершыню была надрукаваная ў Празе ў 1934 г. у часопісе *„Iskry Skaryny“*. Змяшчаючы гэты твор, рэдакцыя часопісу зьвярнула асаблівую ўвагу на пастаўленую ў ім праблему змаганьня за волю й незалежнасьць роднага краю яшчэ на ўсьвеце (пачатку) гісторыі нашага народу. Постаць Рагнеды, узаемаадносіны Полацку з Кіевам, змаганьне за вялікі водны шлях з варагаў у грэкі, як і паходжаньне княжацкае дынастыі, пашырэньне хрысьціянства, магутнасьць і заняпад Крывіцкае дзяржавы ў эпоху раньняга сярэднявечча — усё гэта ня можа не прываблівраць мастака, асабліва ў сучаснасьці, калі рубам ставіцца пытаньне аб устанаўленьні гістарычнай традыцыі нашага народу. У айчыннай літаратуры, як ведама, не было яшчэ ні гістарычнай драмы, ні гістарычнага раману з эпохі раньняга і пазьнейшага сярэднявечча. Драма Пётры Крэчэўскага „Рагнеда“ стала першай спробай мастацкага апрацаваньня мінуўшчыны нашага народу з эпохі незалежнай крывіцкае дзяржавы. Мо й недасканала аўтар справіўся з сваім заданьнем, але пачатак быў пакладзены.

2 лютага 1923 г. Пётра Крэчэўскі зрабіў пераклад з расейскай на беларускую мову і інсцэніроўку паэмы Мікалая Агарова „Глінскі“. Шэраг вершаў, а таксама вершаваных перакладаў з чэскай мовы дзеяч апублікаваў і ў зборніку „Замежная Беларусь“. Тут найперш неабходна адзначыць пераклады на беларускую мову „Чэскага нацыянальнага гімну“ ды „Славацкага нацыянальнага гімну“. Акрамя таго, Пётра Крэчэўскі стаў аўтарам „Агульна-славянскага гімну“. Гэты верш, на нашу думку, заслугоўвае таго, каб быць пакладзеным на музыку:

*„Гэй славяне! Яшчэ наша*
*Славян мова льецца,*
*Пакуль наша шчыра сэрца*
*За народ свой бьецца!*
*Жыць і жыць наш дух славянскі*
*Будзе слаўна, вечна.*
*Гром і пекла вашай злосьці*
*Абмінем бяспечна!*

[51] Вольная Беларусь. 1918. 9 чэрвеня.

*Мовы нашай найдарогшай,*
*Што здарыў Бог, — кажам,*
*Вырваць з нас ніхто на сьвеце*
*Мусіць не дакажа.*

*Колькі ёсьць людзей на сьвеце—*
*Вораг быць нам можа,*
*Але-ж з намі Бог — не страшна,*
*Бог іх пераможа!“*[52] .

Свае перажываньні, выкліканыя пераходам былых паплечнікаў у стан палітычных праціўнікаў, Крэчэўскі выказаў таксама ў паэтычнай форме. У вершы „Мурашнік“, параўноўваючы жыцьцё мурашак і людзей, ён напісаў:

*„Паміж людзьмі мы*
*бачым штось другое...*
*Для Бацькаўшчыны*
*Працаваць ім стыд,*
*Ім дзесьці свеціць шчасьце міравое,*
*А родны край няхай гарыць!..“*[53]

У вершы „Таемная смага“ адчуваецца туга Крэчэўскага па Радзіме:

*„Душна мне. Сэрца калоціць*
*У грудзі, як ў браму ў начы,*
*Той што лісты, тэлеграмы разносіць,*
*Спаць не дае, хоць крычы...*

*Душу мне страх агартае,*
*Стыгне у жылах і кроў...*
*Сэрца нічога не знае —*
*Цягнецца толькі дамоў“.*

Памёр Пётра Крэчэўскі 8 сакавіка 1928 г. на пяцідзясятым годзе жыцьця ў Вінагродзкай бальніцы Прагі й быў пахаваны там на Альшанскіх могілках.

[52] Замежная Беларусь... С. 30.
[53] Замежная Беларусь... С. 116.

Будзем спадзявацца, што верш-зварот „Беларускаму народу“ пачуюць, і працэс стварэньня незалежнай беларускай дзяржавы стане незваротным.

*„Дзе слова наша, слаўны род*
*Славян, зпрадвеку жыўшых вольна,*
*Выходзь жа, беларус-народ,*
*Са братняй крыўды безпатольнай,*
*Выходзь на сьвет з багны балот.*
*Як тыя рэчкі, што нясуцца*
*Зь зямлі тваёй на поўдзень, усход —*
*Выходзь, выходзь!..*

*Пад сьмех братоў сваіх славян*
*І помсты ворагаў бязмерных*
*Дружынай сьмелаю селян*
*Выходзь на змогу сілай вернай!*
*Німа той сілы, перашкод:*
*Паводка устрыму не баіцца,*
*Упярод-жа, беларус-народ,*
*Выходзь, выходзь!“*[54] .

**Творчасьць**

*Хто творыць, меж не знае...*
*Ціж можна вольны дух загнаць*
*У рамкі формы, як схаластыка гукае —*
*Над рыфмай нельга працаваць.*

*Яна, як дар, прыходзіць з неба,*
*Прад ею усё ў той час маўчыць...*
*Незнайцы кажуць — мерка трэба —*
*Дзе мерка, творчасьць там маўчыць*[55] ...

[54] Замежная Беларусь... С. 6.

[55] Замежная Беларусь... С. 139.

## Рэха

*Калі мне рэха адзавецца,*
*Я чую лепш сябе, жыву...*
*Мацней у грудзях сэрца бьецца —*
*І сьмела я ў сьвет плыву...*

*Калі пачую чалавека,*
*Ён слова скажа мне з душой —*
*Прэч адыходзіць небяспека,*
*Німа і страху прада мной.*

*Калі ж народ мой адгукнецца —*
*І скажа мне ідзі сьмялей...*
*Тады, браты мае, здаецца*
*І мора пойдзе за гарой.*

## Мана

*Нідзе не лёгка так блудзіць,*
*Як у горах і далінах:*
*Дзе ўсё ля вашых ног ляжыць,*
*А покуль дойдзеш — згінеш...*

*Сьцежынкі пекныя бягуць*
*Уздоўж, — налева, управа,*
*Але якраз цябе вядуць*
*У другі бок ласкава...*

*Хоць на гарэ, а не відаць*
*І быстрым вочам мэты,*
*І як сляпы гатоў блукаць*
*Ад ночы ты да свету.*

*На вышку ўлезшы камуніст*
*Пажарам сьвет пужае...*
*А што крывёй унізе чэкіст*
*Яго згасіў — не знае.*

*З гары спусціўшысь толькі ўніз*
*Дарога пазнаецца…*
*У гары, на купале там крыж*
*Маленечкім здаецца…*

*З гары уніз і з нізу ўверх*
*Абман так і крадзецца,*
*У камуне грэх, у правых сьмех,*
*А людзям дастаецца*[56] .

[56] Замежная Беларусь… С. 152.

***Лена Глагоўская***
*Гданьск*

# ПРА ВАСІЛЯ ЗАХАРКУ — ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ (1928—1943)

Васіль Захарка належыць да выдатных беларускіх грамадзкіх і палітычных дзеячаў першай паловы XX ст. Упісаўся ён у гісторыю беларускага адраджэнскага руху й гісторыю беларускай дзяржаўнасьці як яе стваральнік і эміграцыйны прадстаўнік. У 1928—1943 гг. ён быў Прэзыдэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі.

У Беларусь яго імя вярнулася толькі на пачатку 1990-х гг., праз амаль 50 гадоў пасьля сьмерці. Успомніла яго Ларыса Геніюш у сваіх успамінах, якія друкаваліся ў 1990 г. у часопісе „Маладосць“, а затым выйшлі ў асобным кніжным выданьні[1]. Тады таксама выпадкова лёс мяне зьвёў з Кірай Фэнц, якая жыла ў Васіля Захаркі ў Празе на працягу двух гадоў (1935—1937). Дзякуючы тым першым пошукам імя былога Прэзыдэнта БНР вярнулася ў Беларусь[2]. Ягоныя заслугі раней згадваліся толькі ў асяродзьдзі беларускай эміграцыі на Захадзе.

Васіль Захарка нарадзіўся 1 красавіка 1877 г. у вёсцы Дабрасельцы на Гарадзеншчыне ў беднай сялянскай сям'і. У 16-гадовым узросьце застаўся сіратой разам зь сястрой і двума братамі. Сам вымушаны быў весьці гаспадарку, а ўзімку самастойна вучыўся. У 1895 г. здаў іспыт на

[1] Геніюш, Ларыса. Споведзь. Мінск, 1993. — 271 с.

[2] Глагоўская, Гэлена. Васіль Захарка — другі прэзыдэнт БНР // Спадчына. № 1. 1994. С. 65—74; Глагоўская, Лена. Захарка Васіль Іванавіч // Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995. С. 324; Глагоўская, Лена. Захарка Васіль Іванавіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 3. Мінск 1996. С. 416—417; Глагоўская, Алена. Васіль Захарка. Жыццё, дзейнасць, палітычная думка // Гарадзенскія запісы. Старонкі гісторыі і культуры. Вып. 2. Гародня, 1996. С. 107—114; Глагоўская, Лена. Захарка Васіль Іванавіч // Беларуская энцыклапедыя. Т. 7. Мінск, 1998. С. 11.



Васіль Захарка. Прага, 1931 г.

настаўніка й атрымаў месца ў царкоўна-прыходзкай школе, дзе працаваў цягам двух гадоў. Аднак з прычыны нізкага заробку перайшоў на працу пісарам.

15 кастрычніка 1898 г. Васіль Захарка быў пакліканы ў армію. Здаў там іспыт на *„заўрад ваеннага чыноўніка“* й па праграме ваенна-юнкерскай вучэльні. Пасьля чатырохгадовай службы быў звольнены ў чыне афіцэра запасу. Працаваў сакратаром губэрнскага праўленьня, а пасьля — бурмістрам гораду Пултуск.

10 сьнежня 1904 г. у сувязі з пачаткам японска-рускай вайны Васіль Захарка быў зноў пакліканы ў армію, дзе служыў да рэвалюцыі 1917 г. У 1906 г. быў ён у чыне калескага рэгістратара, у 1909 г. — губэрнскага сакратара, у 1912 г. — калескага сакратара, у 1915 г. — тытулярнага саветніка.

У арміі займаў розныя становішчы: у 1906 г. — справавод брыгады, у 1914 г. — памочнік начальніка аправізацыі арміі паўночна-заходняга фронту, у 1916 г. — загадчык канцылярыі штабу 10-й арміі, у красавіку 1917 г. — намесьнік старшыні ваеннага суду штабу 10-й арміі. Займаючы гаспадарча-адміністрацыйныя пасады ў царскай Расеі, здабыў ён багаты вопыт, які пасьля выкарыстаў як дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Належаў да Беларускай сацыялістычнай грамады[3].

22 кастрычніка 1917 г. Васіль Захарка браў актыўны ўдзел у зьезьдзе беларускіх вайскоўцаў заходняга фронту. Ад 2 лістапада быў сакратаром створанай Цэнтральнай беларускай вайсковай рады ў Менску. Рэвалюцыйныя падзеі 1917 г. у Менску былі зьвязаныя перадусім зь вялікай актыўнасьцю беларускага нацыянальнага руху. Апрача зьезду вайскоўцаў у 1917 г. адбыліся таксама: у сакавіку — зьезд Беларускай

[3] Захарка, Васіль. На вернай службе бацькаўшчыне і народу // Бацькаўшчына. № 10—11. 15.03.1953. С. 1.

сацыялістычнай грамады, у ліпені — зьезд беларускіх каапэратываў, у сьнежні — Першы Ўсебеларускі кангрэс. У арганізацыі апошняга актыўна ўдзельнічала Вялікая Рада (так 15—20 кастрычніка 1917 г. перайменавалася Цэнтральная Рада беларускіх партыяў і арганізацыяў). У Вялікую раду ўвайшлі таксама прадстаўнікі Цэнтральнай беларускай вайсковай рады.

На Першым Усебеларускім кангрэсе Васіль Захарка быў выбраны сябрам Рады[4]. У сувязі з разгонам зьезду 18 сьнежня 1917 г. члены Рады былі арыштаваныя, бо пасьля кастрычніцкага перавароту на месца франтавога Камітэту Заходняга фронту стварыўся Выканаўчы камітэт саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласьці й фронту (Аблвыкамзах). Абвясьціў ён сябе цывільнай уладай на Меншчыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне й Віленшчыне.

У другой палове студзеня 1918 г. Вайсковая рада была разагнаная бальшавікамі, а Васіль Захарка разам зь іншымі яе чальцамі (Кастусём Езавітавым, Язэпам Мамонькам) — арыштаваныя. На падставе *„Декрета Совнаркома Западной области и фронта о роспуске Белорусской Войсковой рады“: „Заслушав доклад областного комиссара по внутренним делам об аресте по распоряжении комиссии по борьбе с контрреволюцией членов Центральной войсковой Белорусской рады и о результатах произведенного в помещении рады обыска, во время которого обнаружена переписка, свидетельствующая о постоянных сношениях рады со штабом корпуса Довбор-Мусницкого, о том, что рада организовала открытую поддержку контрреволюционным выступлениям (э)того корпуса, оказывала ему активную поддержку в борьбе с советскими войсками, помогала польским помещикам и контрреволюционерам в их борьбе против краевой власти, против белорусского народа, Совет Народных Комиссаров Западной области и фронта постановил: 1. Центральную войсковую Белорусскую Раду распустить. Все ее отделы закрыть, руководителей и членов арестовать и передать суду военно-революционного трибунала“*[5].

---

[4] *Васіль Захарка ў сьпісе на 28 месцы прадстаўлены як* „артылерыйскі чыноўнік“. *Гл.: Сьпісак сяброў Рады І-го усебеларускаго Зьезду // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ). Ф. 62. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 23; Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. І. Кн. 1. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага, 1998. С. 38.*

[5] Декрет Совнаркома Западной области и фронта о роспуске Белорусской Войсковой Рады // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 20.

У сувязі з наступам немцаў на ўсход 19 лютага 1918 г. Аблвыкамзах уцёк у Смаленск. Арыштаваныя былі вызваленыя й арганізавалі ў Менску паўстаньне супраць бальшавікоў ды згодна з пастановамі Першага Ўсебеларускага кангрэсу пераняли ўладу. 21 лютага 1918 г. стварыўся Народны Сакратарыят Беларусі як выканаўчая ўлада на чале са старшынём Язэпам Варонкам. Васіль Захарка стаў у ім скарбнікам[6].

25 сакавіка 1918 г. пад нямецкай акупацыяй была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. У чарговых урадах БНР Васіль Захарка займаў розныя міністэрскія пасады й дэлегаваўся на найбольш далікатныя перамовы[7]. У чацьвёртым урадзе пасьля перайменаваньня 11 кастрычніка 1918 г. Народнага Сакратарыяту ў Раду народных міністраў, якая сфармавалася ў лістападзе 1918 г., Васіль Захарка стаў міністрам фінансаў. Прэм'ерам быў Антон Луцкевіч. У сувязі з адыходам немцаў на захад зь Менску сьпярша ў Вільню й далей у Горадню пераносіцца й ўрад БНР, дзе знаходзіўся да канца сакавіка. Васіль Захарка (*„за управляющего делами“*) разам з Антонам Луцкевічам высылаў ноты пратэсту Рады міністраў БНР: 3 студзеня 1919 г. — польскаму ўраду з нагоды абвяшчэньня палякамі ўсеагульнай мабілізацыі ў Вільні, 8 студзеня 1919 г. — дыпляматычным прадстаўнікам ЗША, Англіі, Францыі й Італіі ў Спа з нагоды выбараў у польскі сойм, прылучэньня Аўгустоўскага ўезду да Польшчы й абвяшчэньня палякамі мабілізацыі ў Вільні[8].

У сувязі з канферэнцыяй у Парыжы ў 1919 г. Антон Луцкевіч і Васіль Захарка (як *„сэкрэтар стану“)* 8 траўня выслалі мэмарыял у справе прызнаньня Беларусі й яе дзяржаўных правоў на этнічныя беларускія землі[9].

Пры канцы сакавіка 1919 г. у сувязі з акупацыяй Горадні палякамі ўрад БНР выехаў у Бэрлін, дзе раней была дыпляматычная місія БНР[10]. Васіль Захарка займаў тады пасаду намесьніка старшыні Рады міністраў. Заняцьце Менску палякамі 8 жніўня 1919 г. давала многім беларускім дзеячам надзею на існаваньне беларускай дзяржаўнасьці.

---

[6] Захарка, Васіль. Галоўныя момэнты беларускага руху. Прага, 1926. С. 31.

[7] У розных крыніцах падаюцца розныя склады радаў БНР, але паводле архіўных матэрыялаў Васіль Захарка прынамсі цягам 1918 г. займаўся ў іх фінансавымі справамі. Гл.: Acta Archivalia Albaruthenica. Сш. 2. 1993. С. 25—27, 29—33, 35—36.

[8] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 34—35.

[9] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 42.

[10] Крэчэўскі, Пётра. Беларусь у мінулым і сучасным // Замежная Беларусь. Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі. Прага, 1926. С. 59.

На просьбу Антона Луцкевіча 24 лістапада 1919 г. Пётра Крэчэўскі, Васіль Захарка й Яфім Бялевіч выехалі з Бэрліну праз Прагу ў Варшаву й Менск, куды прыбылі 1 сьнежня. На скліканай 13 сьнежня 1919 г. Радзе дайшло да падзелу на два напрамкі: паланафільскі й незалежніцкі (Найвышэйшая Рада й Народная Рада). Народная Рада аднагалосна выбрала новы Прэзідыюм у складзе: Пётра Крэчэўскі — старшыня, Палута Бадунова й Васіль Захарка — яго намесьнікі, Навум Козіч і Язэп Мамонька — сакратары й новы ўрад: Вацлаў Ластоўскі — старшыня Рады міністраў, Аўген Ладноў — міністар замежных спраў, Яфім Бялевіч — фінансаў, Тамаш Грыб — унутраных спраў, Аляксандар Цьвікевіч — справядлівасьці, Лявон Заяц — дзяржаўны кантралёр, Клаўдыюш Дуж-Душэўскі — дзяржаўны сакратар[11]. Асобная Найвышэйшая Рада пад кіраўніцтвам Антона Луцкевіча была прызнаная польскімі ўладамі як прадстаўніцтва Беларусі. Пётра Крэчэўскі й Васіль Захарка вымушаныя эміграваць у Нямеччыну, каб ня быць арыштаванымі польскімі ўладамі як Палута Бадунова й Язэп Мамонька. Зь Нямеччыны яны пераехалі ў Коўна. Васіль Захарка быў старшынём дэлегацыі БНР, што на запрашэньне міністра замежных спраў РСФСР Георгія Чычэрына падалася 2 лютага 1920 г. у Маскву. У ліпені 1920 г. Цэнтральнаму Камітэту РСФСР прадставілі шэсьць прапановаў: 1) прызнаньне поўнай незалежнасьці Беларускай Рэспублікі, 2) арганізацыя арміі, 3) прызнаньне ўраду Вацлава Ластоўскага, 4) шырокая матэрыяльная дапамога беларускім арганізацыям і ўраду, 5) вызваленьне з турмаў беларускіх дзеячаў, 6) шырокая й хуткая культурна-асьветная праца ва ўсходняй Беларусі[12]. Савецкім урадам было адкладзена пытаньне аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі, а ўрад БНР Вацлава Ластоўскага перанёсься ў Коўна.

Пасьля Рыскай дамовы (без удзелу дзеячаў БНР) Беларусь была падзеленая паміж Расеяй і Польшчай. 26—29 верасьня 1921 г. у Празе была скліканая Першая палітычная нарада беларускай эміграцыі. Мэтай яе было вызначэньне становішча беларускага нацыянальнага руху ў сучасны момант. Васіль Захарка як намесьнік старшыні нарады падпісаў прынятыя на ёй рэзалюцыі: „Аб слуцкім паўстаньні“, „Аб чыннасьці Савенкова“, „Аб чыннасьці Балаховіча“, „Аб Рыскім трактаце“, „Аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі“. У апошняй рэзалюцыі сьцвярджалася, што *„Беларусь павінна быць дзяржавай непадзельнай і ні ад*

[11] Крэчэўскі, Пётра. Беларусь у мінулым і сучасным… С. 60.

[12] Acta Archivalia Albaruthenica. Сш. 4. 1993. С. 76.

*кога незалежнай. Беларуская Нацыянальная Палітычная Нарада зазначае: а) што адзіным заканадаўчым органам Беларусі зьяўляецца Рада БНР, маючая пераемнасьць улады ад Усебеларускага кангрэсу 1917 года, б) што адзінай адказнай уладай Беларусі зьяўляецца Урад БНР, маючы мандат ад Рады БНР“*[13].

*„Пасьля падачы ў Генуі ў 1922 г. заявы на імя старшыні Рады Міністраў Літоўскай Рэспублікі Гальваноўскага аб перадачы Вільні Літве, на што беларусы ніколі не згаджаліcь і не маглі згадзіцца без народнага вырашэньня, Ластоўскі, а таксама і Цьвікевіч, падпісаўшы гэную заяву, змушаны былі падацца ў адстаўку. Адстаўку, у адсутнасьці Старшыні Рады Рэспублікі, прыняў намесьнік старшыні В. Захарко“*[14].

На сходзе членаў Прэзыдыюму Рады і ўраду БНР (Пётра Крэчэўскі, Аляксандар Цьвікевіч, Васіль Захарка, Лявон Заяц, Язэп Варонка, Уладзімер Пракулевіч) 23 жніўня 1923 г. пасьля адстаўкі старшыні ўраду БНР Вацлава Ластоўскага стварыўся новы ўрад Аляксандра Цьвікевіча, у якім Васіль Захарка стаў міністрам фінансаў[15].

2 лістапада 1923 г. Васіль Захарка выехаў у Прагу, дзе працягваў сваю дзейнасьць як намесьнік старшыні Рады БНР Пётры Крэчэўскага. На скліканай Аляксандрам Цьвікевічам 10 кастрычніка 1925 г. канфэрэнцыі ў Бэрліне не прызнаў Савецкай Беларусі як сувэрэннай дзяржавы. Удзельнічала ў той канфэрэнцыі 17 асобаў, сярод якіх былі прадстаўнікі БССР Аляксандар Ульянаў і Зьміцер Жылуновіч. Дэлегаты з Прагі Лявон Заяц, Уладзімер Пракулевіч і Васіль Захарка прыехалі ў Бэрлін як былыя міністры, згодна з заявай аб адстаўцы, пададзенай Пётры Крэчэўскаму 4 кастрычніка 1925 г.: *„Прымаючы пад увагу, што пытаньне ліквідацыі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі можэ быць пастаўлена на павестку дня канфэрэнцыі ў Бэрліне, просім прыняць, гр. Старшыня, нашу адстаўку, каб мець свабодныя рукі ў абароне Беларускай Дзяржаўнасьці, на падставе Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. Дзяржаўны кантралёр Л. Заяц, вык. абав. Міністра фінансаў В. Захарко, Дзержаўны сэкрэтар У. Пракулевіч“*[16].

[13] Крэчэўскі, Пётра. Беларусь у мінулым і сучасным... С. 63.

[14] Крэчэўскі, Пётра. Матэрыялы і дакументы // Замежная Беларусь. Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі. Прага, 1926... С. 125.

[15] Пратакол Аб’яднанага сходу членаў прэзідыуму Рады і Ураду БНР ад 23 жніўня 1923 г. // За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 66.

[16] Крэчэўскі, Пётра. Матэрыялы і дакументы... С. 128.

Згодна з інструкцыяй: *„Дэлегаты Ураду БНР едуць на канфэрэнцыю з інфармацыйнымі мэтамі. [...] Пры разбежнасьці поглядаў, толькі падаўшы адстаўку на рукі старшыні Рады БНР, сябры ўраду могуць прыняць удзел у канфэрэнцыі пэрсанальна, без адказу за іх паводжаньне Ураду“*[17].

Пратакол прызнаньня Савецкай Беларусі падпісалі: Лявон Заяц, Уладзімер Пракулевіч, Аляксандар Цьвікевіч. Не падпісаў толькі Васіль Захарка. У пратаколе адзначалася: *„У сьвядомасьці таго, што ўлада сялян і рабочых замацаваная ў Менску — сталіцы Радавай Беларусі — запраўдна імкнецца адрадзіць Беларускі Народ культурна, эканамічна і дзяржаўна, што Радавая Беларусь ёсьць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага іга, у поўным паразуменьні з краевымі арганізацыямі спыніць існаваньне Ўраду і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі“*[18].

Спробай арганізаваць беларускую эміграцыю была канфэрэнцыя ў Данцыгу (Гданьску) 24—26 лютага 1926 г., на якой таксама прысутнічаў Васіль Захарка[19].

Дзеяч да канца жыцьця жыў і дзейнічаў на эміграцыі ў Чэхаславаччыне — у Празе. Узначальваў Таварыства Беларускай Рады, мэтай якога была культурна-нацыянальная праца й дапамога беларускім грамадзянам у Чэхаславацкай Рэспубліцы[20]. Супрацоўнічаў таксама з расейскай і ўкраінскай эміграцыяй[21]. Дасылаў допісы ў віленскую беларускую прэсу пра жыцьцё беларусаў у Чэхаславаччыне[22]. Да сьмерці Прэзыдэнта БНР на эміграцыі Пётры Крэчэўскага быў ягоным намесьнікам. Ад 8 сакавіка 1928 г. заняў пасаду Прэзыдэнта БНР на эміграцыі й быў ім да 6 сакавіка 1943 г., калі тэстамэнтам перадаў усе паўнамоцтвы Міколе Абрамчыку.

Праскі пэрыяд жыцьця Васіля Захаркі зьвязаны зь дзейнасьцю сярод беларускай эміграцыі ў Чэхаславаччыне (Таварыства Беларускай

---

17 Крэчэўскі, Пётра. Матэрыялы і дакументы... С. 129.

18 За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 67.

19 Krótki zarys zagadnienia białoruskiego. Sztab Generalny II Oddział. S. 396.

20 Беларускае жыцьцё ў Чэхаславаччыне // Сялянская Ніва. № 10. 29.01.1927. С. 2.

21 Ліст да В. Захаркі // Бібліятэка Акадэміі навук Літвы. Аддзел рукапісаў. Фонд 21-2193. Арк. 1.

22 Дабрасельскі. Беларуская калёнія ў Празе-чэшскай // Сялянская Ніва. №3. 24.01.1926. С. 2—3.


Васіль Захарка на магіле жонкі

Рады) і міжнароднай актыўнасьцю ў абароне правоў Беларусі. Выкарыстоўваў кожную нагоду, каб распавесьці ў міжнароднай прасторы пра несправядлівы лёс беларускай нацыі. Пісаў мэмарыялы й пратэсты ў Лігу нацыяў, дыпляматычным прадстаўнікам іншых краінаў. Дзе толькі змог, выступаў у абароне правоў беларусаў. Прымаў удзел у арганізаваньні беларускіх нацыянальных мерапрыемстваў, такіх як угодкі БНР, выстава беларускіх выданьняў у Празе. Зьбіраў Беларускі архіў.

Васіль Захарка быў жанаты зь Пелагеяй Леўцяй, родам з Воласава на Ваўкавышчыне. Была яна настаўніцай. У 1918—1919 гг. была ў складзе спэцыяльнай камісіі, заснаванай па ініцыятыве Школьнай рады й Беларускага настаўніцкага саюзу ў Менску для складаньня праграмы беларускай ніжэйшай школы[23]. Памерла яна ў Празе ў 1937 г.

На ўсе падзеі, датычныя Беларусі, Васіль Захарка рэагаваў, даказваючы, што краіна мае права голасу ў сваёй абароне. У лісьце да Народнага камісара замежных справаў РСФСР ад 17 ліпеня 1920 г. пасьля перамоваў дыпляматычнай місіі БНР з Савецкай Расіяй, паказваў яе варожую палітыку ў адносінах да Беларусі[24].

Найбольш балючай для Васіля Захаркі была справа Вільні й Заходняй Беларусі, якія ў міжваенны час знаходзіліся пад Польшчай, а 17 верасьня 1939 г. былі занятыя саветамі. Перадача Вільні й часткі Віленшчыны Летуве 10 кастрычніка 1939 г. выклікала пратэст, які праз два дні быў скіраваны на адрас Прэзыдэнта Летувы. Васіль Захарка пісаў пра бясправўны захоп: *„Выходзячы з факта новага парушэньня Літвой разам з Маскоўшчынай правоў Беларусі і, прымаючы пад увагу безуп-*

[23] Цэнтральная Беларуская Школьная Рада. Праграмы Беларускае Ніжэйшае Пачатковае Школы. Менск, 1920. С. 4.

[24] The Byelorussian Statehood. New York, 1990. P. 259.

*рэчны факт таго, што гор. Вільня быў пабудаваны на беларускай зямлі продкамі сучаснага Беларускага Народу, яшчэ ў той далёкі ад нас час (пачатак XII стагодзьдзя), калі літоўцы, раздробленыя на многалічэбныя плямёны і кланы, не зналі яшчэ ня толькі гарадоў, але і вёсак, Беларускі Народ і на гэты раз ня можа пагадзіцца з тым, каб яго ўласнасьцю, гэта знача яго гарадамі і яго землямі, гандлявалі захватчыкі Беларусі, без яго ўдзелу і без яго дазволу“*[25]. У гэтым дакумэнце аўтар спаслаўся таксама на пратэст ураду БНР з 1920 г. супраць дамовы Савецкай Расеі зь Летувой ад 12 ліпеня 1920 г.

У 1925—1930 гг. Васіль Захарка быў членам Сацыялістычнай лігі народаў Усходу, якая вызнавала прынцып незалежнасьці й сувэрэннасьці ўсіх нацыяў, што знаходзіліся пад савецкай уладай. 9 сьнежня 1928 г. на імя старшыні Лігі нацыяў ён скіраваў пасланьне, дзе прадставіў свой, беларускі, пункт гледжаньня на справу Вільні: *„Яны (польскія дыпляматы й публіцысты — **Л. Г.**) сьведама маўчаць аб тым, што пад гэтым тэрмінам „Рэч Паспалітая“, прынятым Люблінскім Соймам у 1569 годзе, разумелася не дзяржава і ня форма кіраваньня, а толькі саюз (унія) дзвюх раўнапраўных, незалежных дзяржаў: Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага або па афіцыяльнаму яго тадышняму назову В. К. Літоўскага. Дзяржава гэтая да прылучэньня яе да Расейскай Імпэрыі неаднойчы ўваходзіла ў цесную сувязь з Польшчай, але юрыдычна ніколі ёй не належала“*[26].

Васіль Захарка быў пасьлядоўным у пытаньні беларускіх межаў. Яшчэ ў 1917—1921 гг. ён не пагаджаўся на саступкі беларусаў на карысьць Польшчы (як Антон Луцкевіч), Летувы (як Вацлаў Ластоўскі), бальшавіцкай Расеі (як Аляксандр Цьвікевіч). Зрэшты, дзякуючы менавіта яму ў кастрычніку 1925 г. ня скончыла сваго існаваньня БНР.

7 красавіка 1942 г. Васіль Захарка пісаў у лісьце да Бэрлінскага Беларускага камітэту самапомачы:

*„Здрадна зыйсьці з шляху указанага актам 25 Сакавіка, гэта ня толькі моцна абразіць свой народ, але і запляміць імя сваіх дзяцей.*

*Беларусь была й мусіць быць выключнай уласнасьцю Беларускага Народу. [...] належыць заўсёды помніць той факт, што паняволеная нацыя, будучы ў падданстве нават найкультурнейшае дзяржавы,*

[25] Пратэст Захаркі Прэзыдэнту Летувы // Бацькаўшчына. № 10—11 (141—142). 1953. С. 2. Перадрукаваны таксама ў: Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 286—288.

[26] Прэзыдэнт Захарка ў вабароне Вільні // Бацькаўшчына. № 1—2 (132—133). 1953. С. 4.



Васіль Захарка на вуліцы Прагі. Апошні прыжыцьцёвы здымак

*палітычна абмяжоўваецца, а гаспадарча і сацыяльна выкарыстоўваецца. [...]*

*Калі глянуць у аблічча акупантаў Беларусі, то знойдзем, што кожны з іх падобны адзін да другога, з выразнай пячаткаю на твары шэльмы, плута і ката.*

*Кожны з іх быў на Беларусі не культурным і гуманным правіцелем, а грабежцай, абскурантам і асымілятарам, здольным толькі на выпампоўваньне з Беларусі багацьцяў і на перасьледаваньне і нішчаньне Беларускага Народу, як асобнай нацыянальнай адзінкі“*[27].

Васіль Захарка лічыў, што павінна Беларусь быць сувэрэннай дзяржавай, бо толькі тады зможа нармальна разьвівацца. Пры гэтым ён спасылаўся на багатую гістарычную спадчыну, высокі ўзровень культуры, заканадаўства й дзяржаўнага развіцьця яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага: *„У гэтай дзяржаве стаяла на вялікай вышыні ня толькі культура, але свабода народаў і гаспадарчы дабрабыт“*[28]. Аўтар дачазваў вышэйшасьць і першынства беларускай дзяржаўнасьці над расейскай, падкрэсьліваў розьніцу паміж беларускай і расейскай культурамі: *„Нельга і недапусьціма, каб культурны чалавек не адрозьніваў беларускае мовы і беларускае культуры ад рускае мовы і рускае культуры у сучасным разуменьні гэтага слова. Яшчэ больш недапусьціма залічыць беларускую мову і беларускую культуру да рускае мовы і рускае культуры толькі на падставе таго, што у той час, калі ня было яшчэ Расіі і вялікарускага народу, беларуская мова называлася рускаю моваю. [...] Маскоўшчына ня толькі ў літаратуры, але і ва ўсей цывілізацыі адставала*

[27] Голас нацыянальнага абавязку // Бацькаўшчына. № 10—11 (141—142). 1953. С. 2; Архівы БНР // Беларус. № 458. 1998. С. 6. Гл. таксама: Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк—Менск, 2005. С. 289—291.

[28] Zacharka, V. Dźvie kultury i dźvie ekspanzyi // Iskry Skaryny. № 4. 1934. S. 42.

*ад Беларусі на добрых сто пяцьдзесят гадоў. З гэтай прычыны ня ёй было марыць аб якім-небудзь культурным уплыве на Захад ад Масквы. Фактычна яна аб гэтым ніколі і ня думала. Дарогу на захад заўсёды расчышчаў ёй толькі штык“*[29]. Як прыклады прыводзіліся *„першы сапраўдны вучоны й першы сапраўдны прасьвяціцель у Маскве“* Сымон Полацкі, запазычаньні рускага заканадаўства са Статуту Вялікага Княства Літоўскага ды інш. Дзеяч зьвяртаў увагу, што саюзы Беларусі з Маскоўшчынай заўсёды зводзіліся да русыфікацыі перадусім праз праваслаўную царкву й цывільныя ўлады[30].

У 1926 г. у Празе Васіль Захарка напісаў працу пра беларускае адраджэньне „Галоўныя моманты беларускага руху“, машынапіс якой захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Апісаў у ёй падзеі ў Беларусі ад 1917 г. і ўдзел у іх розных асобаў, у тым ліку й свой[31]. Напісаў таксама брашуру „Беларусь — роля й значаньне яе на Усходзе Эўропы“, якая захавалася у машынапісным варыянце як рэфэрат чытаны 6 сьнежня 1936 г. на паседжаньні Таварыства вывучэньня казацтва[32]. Ларыса Геніюш у сваіх успамінах пісала пра „Гісторыю Беларусі“ аўтарства Васіля Захаркі: *„Пры мне ён пісаў гісторыю Беларусі. Усё жыцьцё на гэта зьбіраў матэрыялы. Усім нашым ахвотна чытаў адрыўкі са свае працы, якую не спыняў да сьмерці“*[33].

Маючы надзею на вызваленьне Беларусі падчас Другой сусьветнай вайны, Васіль Захарка зьвяртаўся з адпаведным мэмарандумам і да Адольфа Гітлера[34], на запрашэньне міністра замежных спраў Нямеччыны езьдзіў у Бэрлін, удзельнічаў у нарадзе беларускай эміграцыі ў Данцыгу (Гданьску) увосень 1939 г.[35]

6 сакавіка 1943 г. Васіль Захарка напісаў тэстамэнт, паводле якога, сваім наступнікам прызначыў Міколу Абрамчыка. Памёр Прэзыдэнт

---

[29] Zacharka, V. Dźvie kultury i dźvie ekspanzyi… S. 42—43.

[30] Zacharka, V. Dźvie kultury i dźvie ekspanzyi… S. 46—47.

[31] Захарка, Васіль. Галоўныя моманты беларускага руху // Запісы БІНіМ. №24. Нью-Ёрк, 1999. С. 5—87.

[32] Захарка, В. Беларусь: роля й значаньне яе на Усходзе Эўропы // Беларус. № 3 (49). 1954. С. 4—6; № 4 (50). 1954. С. 4—6; № 5 (51). 1955. С. 4—6; № 3 (53). 1955. С. 4—6; № 4 (54). 1955. С. 4—6.

[33] Геніюш, Ларыса. Споведзь // Маладосць. № 2. 1990. С. 142.

[34] Грыбоўскі, Юры. Палітычная чыннасць старшыні Рады БНР Васіля Захаркі напярэдадні і ў гады Другой сусветнай вайны (1938—1943 г.) // Гістарычны альманах. Вып. 15. Гародня, 2009. С. 118—127.

[35] Сачанка, Барыс. „Лёс мой чалавечы…“ // Маладосць. № 1. 1990. С. 138—139.



Пахаваньне Васіля Захаркі

14 сакавіка 1943 г. і пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе. У пасьмяротных артыкулах ён згадваўся як дзяржаўны муж, вялікі патрыёт, няспынны й нязломны змагар за лепшую долю беларускага народу[36]. Язэп Найдзюк, на пакаленьне маладзейшы зямляк, пісаў: *„Адыйшоў чалавек, які ўсё сваё жыцьцё прысьвяціў сваёй Бацькаўшчыне Беларусі і свайму народу. Ён любіў свой край, свой родны куток каля Зэльвы ў Ваўкавышчыне і ўвесь свой народ. Любіў яго й тады, калі ўзгадоўвалі яго бацькі, і тады, калі вучыўся ў расейскіх школах, і тады, калі працаваў як урадавец пры расейскай уладзе, а таксама й тады, калі ў часе рэвалюцыі ў Расеі кінуўся ў вір змаганьня за лепшую долю Беларусі. Не зважаў ні на якія перашкоды. Не палохаў яго цярністы шлях беларускіх дзеячоў. Не палохаў яго ані расейскі, ані бальшавіцкі, ані польскі наступ“*[37].

Ларыса Геніюш, што пэўны час жыла ў Празе ў Васіля Захаркі, так яго згадвала: *„Быў гэта вельмі паважаны чалавек з думкамі толькі пра Беларусь. [...] Палітычнай дзейнасці ён ніякай не праводзіў, часам толькі пісаў пратэсты супраць бяспраўʼя над нашым народам у Лігу Нацыяў, падтрымліваў эміграцыю і меў цесную лучнасць з эміграцыяй другіх народаў — украінскай, рускай. Быў ён беларускім эсэрам.*

[36] M. A. Vasil Zacharka // Biełaruski Hołas. № 14. 09.04.1943. S. 4.

[37] Я. Н. Васіль Захарка // Беларуская газэта. № 24. 28.03.1943.

*У Бога не верыў, але пасля прасіў пахаваць яго па-хрысціянску. У Прагу іх запрасілі чэхаславакі ўжо з Літвы, куды спачатку пераехаў урад БНР. Мелі яны невялікую дапамогу ўрада, а за акупацыі ад Чырвонага Крыжа“*[38]. Пра тое, што Васіль Захарка быў шляхетным чалавекам, сьведчаць таксама ўспаміны згаданай вышэй Кіры Фэнц (з дому Леўта) ды захаваная сямейная карэспандэнцыя[39].

[38] Геніюш, Ларыса. Споведзь // Маладосць. № 1. 1990. С. 136—138.

[39] *Głogowska, H. Na wygnaniu // Czasopis*. № 3. 1993. S. 6—7; Глагоўская, Л. Памяць пра прэзідэнта БНР // Ніва. № 12. 21.03.1999. С. 10.

***Васіль Захарка***

# ЛІСТ

*У Бібліятэцы Акадэміі навук Летувы (Аддзел рукапісаў) захоўваецца вельмі цікавая карэспандэнцыя Васіля Захаркі. У Беларускім фондзе 21 у дзьвюх справах 737 і 2193 можна знайсьці ліставаньне Васіля Захаркі з палкоўнікам Дэмідам (Дзьмітрыем) Антанчуком. Датычыць яно супольнага беларуска-ўкраінскага змаганьня за правы сваіх народаў на міжнароднай арэне напярэдадні Другой сусьветнай вайны. Палкоўнік Дэмід (Дзьмітры) Антончук быў афіцэрам арміі Ўкраінскай Народнай Рэспублікі ў 1917—1921 гг.: у 1918 г. — жытомірскім павятовым камісарам, у 1919 г. — інспэктарам нацыянальна-культурных спраў УНР, затым дзяржаўным інспэктарам корпусу памежнай аховы УНР, ад 1920 г. — прадстаўніком украінскай вайсковай місіі ў Румыніі. Магчыма, у красавіку 1938 г. ён быў у Празе. Хаця ліст да Васіля Захаркі не падпісаны, аднак дата яго й зьмест супадаюць зь лістом Прэзыдэнта БНР, таму можна дайсьці да вываду, што пісаў яго Антончук як адказ на ліст Васіля Захаркі*[1] .

*Уладзімер Кісілеўскі (1896, Каламыя — 1976 Атава, Канада), імя якога фігуруе ў лістах, быў навукоўцам і ўкраінскім эміграцыйным дзеячам. Скончыў Венскі ўнівэрсытэт, дзе ў 1924 г. абараніў доктарскую дысэртацыю. У 1925 г. выехаў у Канаду. У 1931 г. прыехаў у Лёндан, дзе да 1939 г. быў дырэктарам Бюро Саюзу ўкраінцаў-сама-*

---

[1] Ліст да Васіля Захаркі ў Моджаны (ад Д. Антанчука?) мае наступны зьмест: *„Прага 8 IV 1938*
*Поробивші відповідні виписки як з Вашого листа так і з часопису, все це пересилаю в Льондон до п. Дра В. Кисілевського. При чім, від себе прошу його не забувати на наші спільні з Білоруським Народом інтереси і, в міру можливости, при кожній нагоді порушовати іх на льондоньскому терені. Сподіюся, що так воно і буде“* (Бібліятэка Акадэміі навук Летувы. Аддзел рукапісаў. Ф. 21-2193. Арк. 1).

*стойнікаў (СУС), меў кантакты з брытанскім парлямэнтам і ўрадам, быў сябрам Каралеўскага інстытуту міжнародных спраў. У 1940 г. выехаў у Канаду, ад 1950 г. быў прафэсарам і кіраўніком катэдры славістыкі ў Атаўскім унівэрсытэце, у 1954 г. стаў першым старшынём Канадыйскай асацыяцыі славістаў. Зь ліста Васіля Захаркі вынікае, што былі яны асабіста знаёмыя.*

7.IV.38 Моджаны[2]

Яго Міласьці Пану Палкоўніку Д. Антанчуку,

Высокапаважаны Пане Палкоўнік! Пры гэтым маю гонар пераслаць Вам выразку з газэты „Вечерні Чэске Слово“ ад 2.IV.1938 г. числo 78[3] .

Я вельмі ветліва прашу Вас перадаць маю гарачую прозьбу высокапаважанаму Пану Кісілеўскаму аб тым, каб пры падобных выступленьнях ён не запамінаў і аб цяжкой нядолі Беларускага народу.

Пішу аб гэтым Вам, Высокапаважаны пане палкоўнік, а не самому Пану Кісілеўскаму безпасярэдне, з таго пункту гледжаньня, што баюся якбы такога маяго ліста ён не палічыў нетактоўным і не абразіўся на мяне, чаго мне найбольш не хацелася-б.

Я глыбока пераконан ў тым, што Вы, Высокапаважаны Пане Палкоўнік, лёгка знойдзеце такую форму, якая дазволіць Вам як найлепш давясьці вышэйзьмешчаную маю прозьбу да ведама Пана Кісілеўскага.

Я аддаю сабе ясны адчот у тым, што ні маю жаднага права накідаць бяду Беларускага народу на плячы Пана Кісілеўскага, якім і без таго цяжка. Калі — я ўсё такі раблю гэта, то раблю выключна на падставе ласкавай волі Пана Кісілеўскага, дазволіўшага мне зьвяртацца да Яго з падобнымі пытаньнямі.

---

[2] Ліст Васіля Захаркі да Дзяміда (Дзьмітра) Антанчука (машынапіс). Захоўваецца ў: Бібліятэка Акадэміі навук Летувы. Аддзел рукапісаў. Фонд 21-737. Арк. 2—3а.

[3] Пераклад зацемкі [зроблены Захаркам?]: *„Мільёны украінцаў жаляцца. Канцэнтрацыйны абоз замест аўтаноміі.*
*Лёнданскі „Тымес“ [„The Times“] надрукаваў учора ліст, каторы яму паслаў Старшыня Саюзу Украінцаў у Брытанскай імпэрыі Кісілеўскі. У ем гаворыцца: „Тверджэнні „Газэты Польске“, што ў Чэхословакіі жыве да 250.000 палякаў, ёсьць несапраўдным. Фактычна ў Чэхословакіі на Тэшынску 81.000 палякаў“. У Польшчы жыве 6½ мільёнаў украінцаў, каторым была абецана аўтаномія, аднак яны не маюць да гэтае пары нават элементарных народных і палітычных правоў. Каждае выступленьне па запатрабаваньню правоў заменяецца канцэнтрацыйным абозам“* (Вечерні Ческе Слово. 2.IV.1938. № 78. С. 1.)

Думаю, што і Вы, Высокапаважаны Пане Палкоўнік лёгка зразумееце гэны мой зварот да Вас, калі ласкава прымеце пад увагу той небывала безпраўны стан жыцьця, у яком знаходзіцца Беларускі народ, асабліва тая яго частка яго, над якой пануе ашалелы паляк.

Я ўжо неаднарозава меў гонар інфармаваць Вас аб тым, што там, пад польскай акупацыяй, ужо даўно німа чым дыхаць.

Я проста дзіўлюся то — стойкасьці беларускай інтэлігенцыі, якая пры такіх пякельных варунках не апускае ўніз не толькі галавы, але і рук. Не, як-бы не гаварыць, а ідэя для ідэёвага чалавека вялікая сіла.

Як мяне інфармуюць, то тэрор у Заходняй Беларусі, асабліва ў апошнія два гады, гуляя і носіцца па ўсяму краю, усёроўна што растлусцеўшы конь з задраным хвастом. Німа такой старонкі жыцьця, якой-бы не ціснуў паганы польскі бот. Найцяжэй адчуваецца разбэшчанасьць польскага ката так гэта ў Вільні, гэтым цэнтры Заходняй Беларусі. Што тут закрывалася і зачынялася, што нанава паўставала і нанава забівалася, каго судзілі і каго столькі разоў садзілі, немагчыма апісаць. Думаю, што для гэтага не выстарчыла-б скуры усіх польскіх міністраў.

Для таго, каб задушыць і забіць культурную беларускую працу і не дапусьціць Беларускага нацыянальнага голасу ў народныя масы, у палякаў ніколі не бракавала: ні ілжы, ні падлогаў, ні правакацыі, ні грубога, нічым не прыкрытага насільства.

Калі будзем гаварыць аб выдавецтвах і выданьнях, то перад жыцьцем кожнага з іх становіцца сьмерць.

Канфіскацыя кожны дзень спальвая бедны грош ахвярнай беларускай інтэлігэнцыі. Насільства ў гэтым напрамку дайшло да таго, што не даўно сканфіскаван нават лемантар (буквар) „Засеўкі“ (толькі цяпер прыпамінаю, што сканфіскаваны здаецца не „Засеўкі“, а „Першыя Зярнята“, але гэта не так ужо важна), прыгатаваны для хатняга научэньня дзяцей беларускай грамаце. Вось, як бачыце, у чым выяўляецца „культурная“ місыя Польшчы на ўсходзе Эўропы.

Доўгі час неяк існавала самая старая беларуская незалежніцкая газэта „Беларуская Крыніца“, артыкул аб якой знойдзеце ў далучаным нумэры „Вядомосьці Беларуске“, цяпер і яна закрыта.

Апрача таго, закрыты Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, са ўсімі яго аддзеламі на правінцыі, перад каторым стаялі вялікія мажлівасьці культурнай працы. Таксама закрыта Таварыства Беларускай Школы, якое мела толькі адных зарэгістраваных 10000 членаў. Пры пасрэднічэстве гэтага Таварыства толькі за адзін год была падана сялянамі жаданьняў на адчыненьне 1129 пачатковых беларускіх школ.

Разумеецца, што пасьля гэтага польская ўлада школ не адчыніла, але Таварыства зараз-жа зачыніла.

На рэшце 15.I.1938 г. зачынены і Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні, гэты адзіны нацыянальна прадстаўнічы орган Заходняй Беларусі. Артыкул і аб гэтым камітэце таксама знойдзеце у далучаным нумэры „Беларуске Вядомасьці“.

Польшча, у поглядах свае полёнізацыйнае палітыкі, баіцца нават слова „Беларусь“. З гэтай мэтай акупацыйная ўлада забараніла зьмесьціць у бел. прэсе такія тэрміны як: „Заходняя Беларусь“, „Беларускі Край“ і гэтак далей.

Штрафы, суды і рожныя іншыя кары на беларускія выдавецтвы, беларускіх пісьменнікаў і наогул культурных работнікаў сыплюцца ўсёроўна, што перасьпеўшыя грушы у ліхую буру.

У сучасную пору зь беларускай прэсы неяк існуюць толькі невялічкія трохтыднeвікі: орган беларускай акадэмічнай моладзі, пад назвай „Шлях Моладзі“, орган рэлігійны „Хрысьціянская Думка“ і орган каапэратыўны „Самапомач“. Але калі судзіць па штрафам і канфіскацыі, то трэба думаць, што і над імі вісіць востры нож ката.

Польшча ўсе паставіла на службу полёнізацыі Беларускага народу: чыноўнікаў, асаднікаў, школу, касьцёл з польскімі ксяндзамі і, нарэшце, нават праваслаўную царкву, гдзе сьвяшчэньнікі мусяць ужо гаварыць пропаведзі на польскай мове.

Агульны польскі ўціск дайшоў да таго, чаму не хочацца верыць. Каб пазбавіцца ад нігдзе ня віданнага таго безпраўя, якое так балюча цісьне беларуса: нацыянальна, сацыяльна, культурна і рэлігійна, сялянства зь нецярплівасцю чэкая вайны з тым, каб перамяніць лёс свае цяжкое долі.

Як я Вам гаварыў, беларуская моладзь, гэны авангард змаганьня беларускага народу, ужо цяпер у шмат якіх мяйсцах Заходняй Беларусі вядзе вайну з польскай акупацыйнай уладай. Яна як мага змагаецца і пры гэтым пратоптвае сабе саматугам нацыянальную дарогу, адчыняючы народныя дамы, бібліотэкі, тэатры, каапэратывы і гэтак далей. Яна голасна пяе і шырока разносіць: беларускую песьню, беларускія вершы, а асабліва беларускую рэвалюцыйную марсэльезу. За тое, сколькі яна кладзе ахвяраў на аўтар вызваленьня забітымі і пакалечанымі ў паліцэйскіх пастарунках.

Аб маладых, але варочаючыхся дамоў з польскіх турмаў, і катаргі ўжо старымі і разьбітымі, мы нават не гутарым.

З глыбокай пашанай В. Захарка.

*Прадмова й падрыхтоўка да друку Лены Глагоўскай*

***Мікола Трус***
*Менск*

# „СЯМЕЙНЫ АЛЬБОМ“ УЛАДЗІМЕРА ЖЫЛКІ

Сямейныя альбомы... Невялічкі агмень хатняга цяпла, у якім заўсёды рупліва падтрымліваецца агеньчык родавай памяці. Адмысловая хроніка жыцьця радзіны. Сёньняшні іх выгляд разнастайны па дызайнэрскім афармленьні, у кожным выпадку адметны густам яго ўкладальніка. У шляхетных, куртуазных традыцыях здавён было прынята рабіць запісы „ў альбом“, найчасьцей у выглядзе вершаў. Вясковыя хаты яшчэ памятаюць абавязковыя рамы на сьценах, на самым відавоку, дзе за шклом туліліся ў цеснаце шматлікія featur рознафарматныя здымкі: і пажаўцелыя, і зусім новыя — кідкія, каляровыя — пэўна, дасланыя ад унукаў і праўнукаў.

Жыцьцё й дзейнасьць гістарычных постацяў, застылыя ў фатаздымках, дакумэнтах, заўсёды ўспрымаюцца ўзбуйнена, у сваёй грамадзка-культурнай значнасьці. Уласна сямейнае, прыватнае пры гэтым найчасьцей разглядаецца як факультатыўнае, не заўсёды вартае апублікаваньня. Так сталася й зь некаторымі дакумэнтамі падобнага кшталту з архіву паэта Ўладзімера Жылкі (1900—1933). Ня лішне зазначыць, што ў пляне збору матэрыялаў, літаратуразнаўчага, культуралягічнага асэнсаваньня спадчыны паэта найбольш сёньня зроблена дасьледнікам Уладзімерам Калесьнікам. У прапанаваным матэрыяле аўтар ня ставіў перад сабой залішне амбіцыйную мэту. Наша задача — прадставіць некалькі невядомых ці малавядомых аскепкаў памяці пра заўчасна памерлага паэта; форма альбому — у шырокім разуменьні — пры гэтым нам падалася найбольш прыдатнай, „сюжэтаўтваральнай“.

Напоўніць самыя першыя старонкі такога імправізаванага альбому нам дапамаглі фонды Літаратурнага музэю Максіма Багдановіча. Паводле задумы стваральнікаў „гасьціны“ клясыка беларускай літаратуры, музэй у Траецкім прадмесьці Менску павінен быў мець экспазыцыю пасьлядоўнікаў *„песьняра чыстай красы“*. Пачэснае месца па плянах адводзілася Ўладзімеру Жылку. Зьбіраліся матэрыялы, якія, на



Хата ў в. Макашы Наваградзкага пав. (цяпер Нясьвіскі р-н), у якой нарадзіўся Ўладзімер Жылка. Здымак з фондаў Літаратурнага музэю М. Багдановіча

жаль, не трапілі на экспазыцыю, але ў рупна сабраным і апрацаваным выглядзе аселі ў музэйных фондах.

Наступныя старонкі папоўніліся працай з фондамі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, Дзяржаўнага літаратурнага музэю Янкі Купалы, прыватнымі зборамі, узбагаціліся матэрыяламі, адшуканымі ў Славакіі.

Калі былі перагорнутыя некалькі старонак імправізаванага „сямейнага альбому“ Ўладзімера Жылкі, прагледжаны фатаздымкі, лісты, перабраны ўласны архіўны збор, доўга не пакідала думка: наколькі звыклае ўспрыманьне жыцьця й творчай дзейнасьці адной са знакавых постацяў беларускай літаратуры 1920—1930-х гг. неўпрыкмет зацяніла ягонае асабістае, трапяткое, шчымлівае. Але бяз гэтага нельга цалкам уявіць і асэнсаваць тое, як моцна паэту балела: і за сям’ю, і за Бацькаўшчыну. І часта так хацелася звычайнай, сямейнай, людзкай дабрыні й спагады. Як успамінаў Уладзімер Дубоўка, *„Уладзімір Жылка, нягледзячы на сваю хваробу, любіў паўтараць старое лацінскае выслоўе „Вівэра мэмэнта!“ — „Памятай пра жыццё!“*“[1].

[1] Дубоўка, Уладзімір. „...Не магу не думаць, край родны, аб табе“: Імя яго не забыта // ЛіМ. 1965. 23 мая.




Ануфрый Раманейка зь в. Падлесьсе Наваградзкага пав. 1916 г. Здымак з фондаў Літаратурнага музэю М. Багдановіча

**Старонка першая. Карані**

Здымак 1916 г. Дзед паэта па маці, патрыярх роду — Ануфрый Раманейка, які ў сваім паважаным веку, захаваўшы ясны розум, сам вучыў унукаў. Пражыў 112 гадоў. *„Ён ганарыўся сваёю жыццяздольнасцю, любіў казаць, што калісь жаніўся ў лапціках, а на старасці ходзіць у добрых ботах. Хоць сам ён і не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, але заўсёды сачыў, ці добра падрыхтавалі ўнукі чытанне. Памяць у яго была адменная, стары запамінаў з першага разу прачытаны кімсьці граматным кавалак падручніка і правяраў унукаў так, што тыя і ў думках не важыліся ашукаць непісьменнага дзеда“* (У. Калесьнік)[2].

**Старонка другая. Брат**

Малодшы брат паэта Барыс у 1930-х гг. пераняў ад Уладзімера Жылкі сумную эстафэту зьняволеньня: арыштаваны 15 сакавіка 1933 г., рэабілітаваны 24 жніўня 1959 г. З 1960-х гг. рупна зьбіраў усё, што было зьвязана з братам-паэтам, ва Ўржуме ўстанавіў надмагільны помнік. У фондах Літаратурнага музэю М. Багдановіча захоўваецца некалькі агульных сшыткаў Барыса Жылкі з акуратна перапісанымі зборнікамі „На ростані“, „З палёў Заходняй Беларусі“, паэмай „Уяўленьне“, выразкамі публікацыяў твораў Уладзімера Жылкі, артыкулаў пра яго ў пэрыядычным друку, пачынаючы ад 1920-х гг.

„Кароткія ўспаміны малодшага брата паэта Ул. Жылкі Барыса Жылкі“ — цікавы дакумэнт, які ўяўляе сабою невялічкую, сьціслую хроніку ці дзёньнік сямейнага жыцьця на фоне маштабных гістарычных ператрусаў 1917—1933 гг. Прыадкрывае ён і некаторыя сямейныя таямніцы, у прыватнасьці абставіны разводу паэта з жонкай.

---

[2] Калеснік, Уладзімір. Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1977. — 328 с.



Барыс Жылка, Ата (Наташа — дачка Ўладзімера Жылкі),
Таццяна Ануфрыеўна Жылка. Асіповічы. 1939 г.
Здымак з фондаў Літаратурнага музэю М. Багдановіча

Прывядзем некаторыя вытрымкі з гэтай хронікі ў перакладзе на беларускую мову, дзе ёсьць згадкі пра Ўладзімера Жылку й якія падзяляюць 12 гадоў: *„1920. Хварэе Валодзя — тры м-цы ляжаў (люты, сакавік, красавік), лечыць доктар Гранат. У пач. мая адʼязджае ў Клецішча. На Троіцу вясельле Ніны — Валодзя шаферам. Валодзя сыходзіць у Гарадзею. [...] На Пятра вясельле ў Цеслюка“; „1932. Я скончыў школу. Паступіў у Медінстытут. Зіму 31/32 Рыма зімуе ва Уржуме. У бездарожжа Валодзю загадваюць зʼявіцца ў Кіраў — вобласць. Заехаў і лёг у бальніцу, праз тры м-цы вярнуўся назад. У Кіраве сказалі, што не выклікалі. Калі вярнуўся, даведаўся пра прычыну выкліку — паводзіны Рымы. Развод, адправіў [яе] у Ленінград, а яна з Масквы прыехала ў Клецішча. Рыма не прызналася маме, а сказала, што засумавала па дачцэ. Кастусь заехаў і адвёз Рыму. Я атрымаў ад Валодзі лісты і даведаўся пра прычыну — расказаў маме“*[3].

У 1960-х гг., пасьля сваёй і братавай рэабілітацыі, Барыс Жылка імкнуўся даказаць несправядлівасьць рэпрэсіяў, але рабіў гэта так, як

[3] Літаратурны музэй Максіма Багдановіча (далей ЛММБ). КП-6686.

падказвала лёгіка часу. Зрэшты, час, калектывізацыю, сам таго не ўсьведамляючы, ён апісаў у адным зь лістоў да Ўладзімера Калесьніка вельмі калярытна: *„Я прыехаў к яму* [Уладзімеру] *у Мінск пасля з'езду Партыі, на якім была прынята пастанова аб калектывізацыі. Вось ён быў так задаволен гэтым і мяне агітаваў першым уступіць і агітаваць [за] калгас. Але мне гэта было нешяк страшна, як гэта аддай каня і ня май на яго права, а ідзі прасі, каб далі паехаць куды, а табе дадуць другога. Я з ім не згаджаўся. Тагды к яму прышлі вечарам чатэры яго таварышы пісьменнікі, цяпер не помню хто, і яны мяне ўвесь вечар агітавалі, а я не згаджаўся. Яны даказвалі мне, што ў калгасе будзе вельмі добра. Прыехаўшы дадому, я ўсё гэта абмазгоўваў. У мяне тады быў жарэбчык, два трэцьці, я яго сам выгадаваў, ім памаленьку рабіў спрагаючыся з суседам. Адсеяўшы жыта, у Слуцку куплялі коні для арміі. Вось я і павёў і прадаў, узяў вельмі вялікія грошы, аж 500 руб. Праўда, конік быў, як кажуць, лёгкі, далікатны, харсовы, вельмі харошы, а сабе купіў пасля коніка за 100 руб. сямі год. З ім уступіў у калгас. Вось за гэта Ул. мяне вельмі лаяў і сарамоціў. Вось гэта ўзапраўда доказ, што ён, Ул. быў цалкам наш, савецкі“*[4].

## Старонка трэцяя. Маці, жонка, дачка

Вядомы здымак: Уладзімер Жылка разам з жонкай Рымай на адпачынку ў Ялце. Дарчы надпіс на адгорце, да гэтага часу не публікаваны, выдатна ілюструе стаўленьне паэта да маці, Таццяны Ануфрыеўны: *„Дарагой і любай маме, сэрца якое, як чайка, заўсёды ў трывозе па дзецях, што рассыпаліся па сьвеце. С сыноўскай любасьцю. Уладзік. 25.I.1930. Ялта“.*

Здымак, які на першы погляд выклікае замілаваньне: маладая маці з маленькай дачушкай на руках (Рыма й Беата). Подпіс на адвароце істотна зьмяняе настрой і танальнасьць успрыманьня: *„Развітальная сустрэча... Вось такой, ва ўзросце 9 месяцаў, пакінула мяне „маці“ бабулі, маці паэта Таццяне Ануфрыеўне Жылка, жанчыне добрай душы, ветлівай, чулай і ласкавай. З ёй мы і пражылі ўсе выпрабаванні часу... таго страшнага часу“.*

Беата потым будзе падпісвацца больш звыкла для беларускага вуха — Натальля. Ва Ўржуме сагравалі паэта невялікія памяткі пра дачушку: цацка-бразготка й перавязаная тасёмкай пасмачка валасоў.

[4] ЛММБ. НД-5208.






Уладзімер Жылка з жонкай Рымай. Ялта.
25.01.1930 і дарчы подпіс маці, Тацьцяне Ануфрыеўне, на адвароце.
Здымак з фондаў Літаратурнага музэю М. Багдановіча

Хрэстаматыйная, запатрабаваная грамадзянская, філасофская, інтымная лірыка Ўладзімера Жылкі традыцыйна ніяк не магла адвесьці месца просьценькім вершам, што пісаліся далёка ад Беларусі, а адрасаваліся самаму дарагому чалавеку, хоць трохі кампэнсоўваючы пазбаўленасьць бацькоўскай радасьці:



Рыма Жылка (Маневіч) з дачкой Атай. Пачатак 1930-х гг. Здымак з фондаў Літаратурнага музэю М. Багдановіча

*„Каля могілак у вёсцы*
*Жыве мая матулечка*
*І любімая дачушка*
*Маленькая Атулечка.*
*У бабулі сад кашлаты,*
*У саду тым хатачка:*
*Там жыве каток мурзаты*
*І дачушка Атачка.*
*Пакаціў каточак шпулечку —*
*Не дурэй, малюсенькі.*
*Скора татачка прыедзе*
*Да сваёй Атусенькі.*
*Слухай, мілая, бабульку,*
*Не смуткуй, гуляй...*
*Буду жыў, к табе вярнуся.*
*Чакай... Не забывай!“*[5]

### Старонка чацьвертая. Сябры

У 1926 г. Жылка перабраўся з Прагі ў Менск, акунуўся ў бурлівае асяродзьдзе нацыянальнага культурнага будаўніцтва. Яго сябра, Уладзімер Дубоўка, успамінаў: *„Нас, якія прайшлі агні грамадзянскай вайны, крыху здзіўляла ягоная асаблівая інтэлігентнасць, сціпласць. У той жа час вабіла да сябе ягоная сардэчнасць, вялікая шчырасць“*[6] .

Барыс Жылка рупна перапісаў сяброўскія дарчыя подпісы беларускіх пісьменьнікаў: *„Брату і другу Уладзіку Жылку, з любоўю. 20/XI—*

[5] ЛММБ. НД-5174.

[6] Дубоўка, Уладзімір. „...Не магу не думаць, край родны, аб табе“...



Уладзімер Дубоўка й Уладзімер Жылка. Менск. 1927—1928 гг.
Здымак з фондаў Літаратурнага музэю М. Багдановіча

*26 г. Менск. У. Дубоўка*“ („Трысцё“, 1925); *„Уладзімеру Жылку — паэту палёў Заходняй Беларусі, ад аўтара. А. Александровіч. 1927/9-27*“ („Угрунь“, 1927); *„т. Уладзімеру Жылку, другу, з пашанаю. Ю. Гаўрук. 31/І.28 г. Менск*“ („Кветкі з чужых палёў“, 1928); *„Уладзіміру Жылка, чуламу песьняру і добраму прыяцелю ў знак дружбы і пашаны. З. Бядуля. 12/IX.27 г.*“ („Танзілія“, 1927).

Уладзімер Дубоўка ў 1962 г. у архіве Адама Бабарэкі пазнаёміўся зь лістом ад гаспадара кватэры, у якой жыў Уладзімер Жылка, апублікаваў яго ў сваім перакладзе на беларускую мову на старонках газэты „Літаратура і мастацтва“ ў 1965 г. Гэта першае сьведчаньне апошніх гадзінаў жыцьця паэта й ягоных праводзінаў на вечны спачын: *„2.07.1933 г. Паважаны А. А. Бабарэка! Уладзімір Адамавіч Жылка кватараваў у нашым доме. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр першага сакавіка. А дванаццатай гадзіне яшчэ паснедаў, а з другое — страціў прытомнасць. А сёмай сканаў ад туберкулёзу. Пахаваны на Уржумскіх могілках. Да апошняй хвіліны ён аб смерці не думаў, чакаў, што як толькі стане цяплей — ён паедзе ў Крым, бо ён быў вызвалены з-пад нагляду. Пахаванне было ўрачыстым паводле сучаснага парадку, з музыкай, праводзілі сябры-педагогі*“[7].

[7] ЛММБ. КП-6686.

Спагада — ня сябра, а чужога чалавека — суправаджала Ўладзімера Жылку й пасьля ягонай сьмерці: адразу пасьля вайны магілу паэта ўзяўся даглядаць Антон Ягоравіч Лешчанка, украінец, які па прозьвішчы на помніку *(Жилко)* зрабіў выснову, што тут спачывае яго зямляк, выгнанец на чужыне.

### Старонка пятая. Сяброўка

Напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. на хвалі вяртаньня імёнаў рэпрэсаваных дзеячаў беларускай культуры стала магчымым надрукаваць лісты Уладзімера Жылкі да ідэоляга беларускага адраджэньня Антона Луцкевіча, успаміны пра паэта Макара Краўцова, Вінцэнта Жука-Грышкевіча, Юркі Гаўрука, Максіма Лужаніна, Яўхіма Кіпеля, Міколы Ўлашчыка, Станіславы Плашчынскай. Былі апублікаваныя й мэмуарныя запісы Людмілы Краскоўскай[8] .

Аўтару гэтых радкоў пашчасьціла адшукаць і апублікаваць невядомыя лісты Ўладзімера Жылкі да Людмілы Краскоўскай, дасланыя зь Менску ў Прагу ў 1927—1928 гг., якія дагэтуль лічыліся незваротна страчанымі[9] . Зь невядомых прычынаў адрасат пры жыцьці не захацела разьвітацца з гэтымі дакумэнтамі, не перадала іх ні родным паэта, ні дасьледнікам ягонай творчасьці, хоць цесныя стасункі вучонага-археоляга з Браціславы з Беларусьсю доўжыліся больш за тры дзесяцігодзьдзі.

Пра тое, што гэтыя дакумэнты маглі проста згубіцца ў хатнім архіве скрупулёзнага музэйшчыка Людмілы Краскоўскай, на нашую думку, нельга весьці сур’ёзную гаворку. Лісты патрапілі да нас акуратна складзенымі ў 2 капэрты з пазнакай рукой уласніцы, што гэта лісты Жылкі. Людміла Краскоўская была гэткай жа акуратнай з усімі матэрыяламі свайго хатняга архіву, разабранымі па асобных капэртах. Думаецца, часткова гэтую таямніцу раскрываюць лісты яе маці, Валянціны Сямёнаўны, да якіх мы зьвернемся.

Як вядома, Уладзімера Жылку зь сям’ёй Краскоўскіх зьвязвалі цесныя й, як можам меркаваць па ліставаньні, сяброўскія адносіны. Паэт карыстаўся гасьціннасьцю гэтага сямейства падчас вучобы ў Дзяржаўнай дзьвінскай беларускай гімназіі (Даўгаўпілс, Латвія) і ў час, калі пераехаў з Прагі ў савецкі Менск. Насуперак рэкамэндацыям Краскоўскіх Жылка ня скончыў ані гімназію, ані Карлаў унівэрсытэт у Празе:

[8] Краскоўская, Людміла. З успамінаў пра паэта // ЛіМ. 1990. 15 чэрвеня. С. 6.

гэта сьведчыць пра ягоны дастаткова імпульсіўны характар, дый аб'ектыўныя абставіны адыгралі ў рашэньні паэта не апошнюю ролю.

З-за палітычнага перасьледу Краскоўскія ў 1925 г. перабраліся з Латвіі ў Савецкую Беларусь. Іван Краскоўскі працаваў на адказных пасадах, Валянціна Сямёнаўна займалася хатняй гаспадаркай, сыны Сяргей і Мсьціслаў працягвалі вучобу. Захопленая энтузіязмам і актыўнасьцю культурнага жыцьця ў Менску, Валянціна Краскоўская пісала дачцэ Людміле, што цяпер разумее, чаму Валодзя (так называлі Жылку ў сям'і) так імкнецца сюды. Давала яна й практычныя парады. Калі пытаньне з прыездам у Менск на канфэрэнцыю было вырашана, яна наказвала Людміле: *„Калі Валодзя будзе мець грошы, так што зможа сабе штонебудзь купіць — займіся ім — і няхай купіць — тут жа ўсё ўтрыдарага. І няхай усё што можа вязе — можа старыя касцюмы — усё братам прыдасца — ты з ім пагавары — хлопцы ў гэтым мала кемяць“*[10].

Пры пераезьдзе ў Менск Уладзімер Жылка на пэўны час спыніўся на кватэры Краскоўскіх: прыглядаўся да новых абставінаў жыцьця, акліматызоўваўся, а гаспадары давалі падрабязную справаздачу Людміле пра тое, як жыве яе сябра.

Вядомы жартаўнік малодшы сын Мсьціслаў пісаў у сваёй манэры: *„Валодзя, канечне, паводзіць сябе недапушчальна: ездзіць на рамізніках, есць піроўжныя, ходзіць па кіно і тэатрах і да ўсяго гэтага яшчэ, калі яму суседка адчыняе дзверы, ён робіць выгляд, што не заўважае і не дзякуе. У агульным і прыватным паводзіць сябе абуральна!! Прашу Вас (цябе і Лізу) зрабіць яму заўвагу“*[11].

Валянціна Сямёнаўна падавала сваё бачаньне абставін жыцьця Ўладзімера Жылкі ў Беларусі: *„На днях у нас былі Саня, Юлік (Дрэйзіны. —* ***М. Т.****) і Валодзя. Цяпер усе яны ўжо раз'ехаліся на лета. Вал[одзя] выглядае няблага, у брата, думаю, папраўіцца лепш, чым у Крыме. Крым яму на карысць не ідзе. Тата думае, што калі б ён ажаніўся, то можа і папраўіўся б трохі пры добрым доглядзе. Твой ліст яму перашлю, калі прышле адрас — ён яго забыў сказаць. Ён не курыць і не п'е, харчуецца ў брата вельмі прыстойна і шмат спіць. Гэта добра...“*[12].

---

[9] З архіваў Людмілы Краскоўскай / падрыхт. тэкстаў лістоў і камэнтары М. Труса // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк—Менск, 2013. С. 189—195.

[10] Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі (далей ЦНБ НАНБ). Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 119. Арк. 55.

[11] ЦНБ НАНБ. Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 125. Арк. 2.

[12] ЦНБ НАНБ. Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 118. Арк. 5.

Надзея бацькі хутка спраўдзілася: Уладзімер Жылка ажаніўся з Рымай Маневіч. Праверка моцы гэтага каханьня адбылася праз некалькі гадоў, падчас рэпрэсій. Пра гэта неаднаразова пісалася, як і пра тое, што Рыма сустрэлася са сваёй дачкой Натальляй толькі праз 35 гадоў[13].



Людміла Краскоўская. Прага. 1932 г. Здымак з прыватнага збору М. Труса

Пра тое, што Людміла Краскоўская мела сардэчныя сымпатыі да паэта, даведваемся зь ліста яе маці ад 18.11.1925: *„Родненькая мая, ты ўсё ж не жалься на сваё жыццё. Гэта на цябе восень так дзейнічае. Ты, калі ласка, не вешай нос. І пра Валодзю менш думай (вось мілая мамчына парада — праўда?). Не, сур'ёзна, я яго вельмі люблю, але нельга забываць, што ён беларус[кі] паэт, а ў будзённым жыцці чалавек з бзікам — хіба не? А паэты ж наогул невыносныя людзі ў паўсядзённым жыцці. Нашыя тут вельмі адрозніваюцца, і жонкі іх не адну слязу пралілі. Думаю, што Валодзя вельмі засмуціцца, калі бліжэй убачыць іх жыццё. Дуюць піва і губяць гэтым свае таленты і жыццё“*[14].

У сувязі з гэтымі словамі вельмі сымбалічна тое, што Людміла Краскоўская захавала свой неадпраўлены ліст да Жылкі (і ці зьбіралася яна наогул яго адпраўляць?). Наколькі ён па стылістыцы й настраёвасьці адрозьніваецца ад яе лістоў і ўспамінаў! Прывядзем вытрымкі зь яго: *„Трапілі пад руку старыя фатаграфіі і лісты, і гэтак захацелася напісаць табе пару слоў. Ведаеш, ты заўсёды лаяў мяне, што мала гавару (звычайна, жанчын абвінавачваюць якраз у адваротным)... Успомніла Дзвінск, гімназію і так страшэнна захацелася, каб павярнуўся той час. Валодзя, гэта ж нейкіх сем гадоў прайшло, і якіх гадоў, а не хочацца верыць, што гэта ўжо мінула назаўсёды. Я заўсёды глядзела на нашыя адносіны, як на нешта дзіцячае... Часам так хацелася*

[13] Мехаў, Уладзімір. Праз трыццаць пяць гадоў // ЛіМ. 1965. 5 лістапада. С. 3.

[14] ЦНБ НАНБ. Ф. 16. Воп. 1. Адз. зах. 119. Арк. 45.



Людміла Краскоўская. Браціслава. 1970-я гг. Здымак з прыватнага збору М. Труса

*шмат сказаць, шчыра сказаць, не думаючы ні аб кім і ні аб чым. Чаму мы заўсёды звязаны нейкімі кайданамі? Чаму не можам быць шчырымі?..*“[15].

Людміла Краскоўская двойчы прыяжджала з Чэхаславаччыны да бацькоў у Менск: у 1927 і 1929 гг. Іх ліставаньне з Уладзімерам Жылкам абарвалася пасьля ягонай жаніцьбы. Падчас аднаго з прыездаў паэт падараваў ёй свой зборнік вершаў „З палёў Заходняй Беларусі“ з характэрным подпісам: *„Людміле Краскоўскай, ціхаму і „кроткаму“ сябру майму на добрыя ўспаміны, з прывітаннем сардэчным і шчырым аўтар Уладзімір Жылка. 6 чэрвеня 1928 г. Менск, БССР*“[16].

Вучоба Ўладзімера Жылкі ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе (1923—1926) — гэта час актыўнага творчага дыялёгу, міжнацыянальных культурных кантактаў. Колькасна шматлікая ўкраінская эміграцыя ў Чэхаславаччыне міжваеннага пэрыяду была прыцягальнай для беларускага студэнцтва з шэрагу прычынаў. Гэта датычыла й арганізацыйнай, фінансавай дапамогі, дый кроўная еднасьць, падабенства гістарычных шляхоў двух народаў, агульны лёс выгнанцаў адыгрывалі тут не апошнюю ролю. Для Ўладзімера Жылкі студэнцкі час стаў, бадай, самым лепшым у творчасьці.

Дзякуючы актыўным кантактам з украінскім студэнцтвам, новай генэрацыяй пісьменьнікаў моўная стыхія братняга народу часта брала ў палон Жылку-паэта. У некаторых зь вершаў ён аніяк не мог абысьціся без ужываньня ўкраінскіх словаў: *„Ты варожыш, ты чаруеш, / О чароўная, бы* ***світ****...*“ („Крыху ўзрушаны і рады“, 1923)*; „Ў прыродзе так светлы / Змярканне й* ***рассвіт****...*“ („Вершы спадзявання“, 1924—1925).

[15] Ліст Людмілы Краскоўскай да Уладзіміра Жылкі (1933). Захоўваецца ў асабістым архіве Сяргея Панізьніка.

[16] Дзяржаўны літаратурны музэй Янкі Купалы. КП 19216. 4 кн 4773.

Аўтограф перакладу вершу „Зімою“ Агатангела Крымскага выяўлены аўтарам гэтых радкоў у асабістым архіве Людмілы Краскоўскай у Браціславе (Славакія). Разам зь лістамі Ўладзімера Жылкі менскага пэрыяду ён належыць да нешматлікіх дакумэнтаў, якія захавальніца ў свой час не палічыла неабходным перадаць ні родным паэта, ні дасьледнікам ягонай творчасьці.

Як ведама, частку архіву Жылкі калега з Браціславы да пары да часу зьберагала ў сябе на кватэры. Потым большасьць гэтых матэрыялаў была перададзеная ў Беларусь. Можна меркаваць, што аўтограф перакладу падараваны ёй паэтам як нешта накшталт „альбомнага“ запісу, з мэтай „сказаць“ штосьці прыемнае сваёй сяброўцы Людміле й яе маці Валянціне Сямёнаўне, на доўгія гады разлучаным некалькімі дзяржаўнымі межамі. На такую думку наводзіць ужо сама дыялягічная форма вершу — размова дачкі й маці.

*— Мама — галубка! Ішла я гарою, —*
*Снегу нібы і няма;*
*Сонейка грэе, распукваюць кветкі.*
*Мама! Мінула зіма!..*

*— Пэўна, дачушка, кагосьць пакахала,*
*Холад бо й сівер наўкруг,*
*Толькі ў цябе ужо лецейка ў сэрцы,*
*Там то і квеціцца луг.*

Свае ўспаміны пра Ўладзімера Жылку Людміла Краскоўская скончыла так: *„Нашы адносіны бывалі розныя, але заўсёды заставаліся нязменнымі — мы верылі адно аднаму“*[17]. Лісты паэта зь ягонага боку пацьвярджаюць гэтыя словы.

## Старонка шостая. Дасьледнік

Працы Ўладзімера Калесьніка (1922—1994) — гэта агульнапрызнаная клясыка беларускага літаратуразнаўства. Сярод яго прац адно з пачэсных і самавітых месцаў займае манаграфія „Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі“ (1977),

[17] Жылка, Уладзімір. Выбраныя творы / уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. С. 287.

да стварэньня якой дасьледнік ішоў шматгадовымі шляхамі пошукаў, асэнсаваньня; што называецца, прымерваўся да ўлюбёнага аб'екту свайго навуковага зацікаўленьня здалёк і зьблізку, таму што *„Ўладзімір Жылка стаіць у цэнтры літаратурнага працэсу Заходняй Беларусі першай паловы 20-х гадоў. Гаворка пра яго — гэта гаворка пра ўсю тагачасную грамадскую атмасферу, пра жыццё і барацьбу, пра палітычную і мастацкую думку, пра творчыя кірункі, метад, стыль, пра здабыткі і слабасці“*[18].

„Ветразі Адысея“ сталі навуковым, творчым падагульненьнем шматгадовага збору матэрыялу, які, як падказвала біяграфія Ўладзімера Жылкі (што таксама вымалёўвалася паступова), патрэбна было шукаць у гарадах розных краінаў — Вільні, Дзьвінску (Даўгаўпілсе), Празе, Уржуме й інш. А з улікам таго, як пакручаста складваліся лёсы блізкіх і знаёмых паэта, атожылкі гэтага „магістральнага“ шляху стакроць множыліся, істотна пашыралася й геаграфія пошуку. Таму толькі гісторыя збору фактычнага матэрыялу, з усімі знаходкамі, радасьцямі й расчараваньнямі, — тэма самастойнага дасьледаваньня, якая відавочна просіцца ў асобную аформленасьць, кшталту гістарычнага раману — твору пра пошукі цэлага пакаленьня няўрымсьлівых нацыянальных адраджэнцаў.

Няма сумневу, што паважаны дасьледнік пачуваў сябе раскавана, па-гаспадарску зь беларускай мінуўшчынай. Але калі справа даходзіла да асьвятленьня пытаньняў беларускай грамадзка-палітычнай, культурнай чыннасьці, напрыклад у Латвіі, Чэхаславаччыне міжваеннага пэрыяду, патрэбны быў вопытны кансультант і, найлепш, сьведка і ўдзельнік тых падзеяў, непасрэдна знаёмы з Уладзімерам Жылкам. На шчасьце, такі вопытны, „унівэрсальны“ дарадца знайшоўся ў асобе супрацоўніцы Славацкага нацыянальнага музэю ў Браціславе Людмілы Краскоўскай.

Дзякуючы Ўладзімеру Калесьніку ў беларускім літаратуразнаўстве зафіксавалася паняцьце „Праскі эпісталярый“[19]. Ядром гэтай важнай з гістарычнага пункту гледжаньня карэспандэнцыі сталі лісты Ўладзімера Жылкі, Тамаша Грыба, Ігната Дварчаніна ды іншых дзеячаў, якія ці

[18] Калеснік, Уладзімір. Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі... С. 5.

[19] Калеснік, Уладзімір. Пражскі эпісталярый // Усё чалавечае: Літаратурныя партрэты, артыкулы, нарысы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. С. 244—357.

пры сваім непасрэдным удзеле, ці апасродкавана вызначалі беларускі палітычны спэктр, былі ў авангардзе беларускага культурна-асьветніцкага руху ў сталіцы Чэхаславаччыны 1920—1930-х гг.

З пазыцыяў сёньняшняга дня знаёмства аўтара гэтых радкоў з дакумэнтальнай фактаграфіяй (лістамі) дае падставу гаварыць пра тое, што дасьледнік сваімі пошукамі, падказанымі са Славакіі, цікавай, прадстаўнічай перапіскай зь Людмілай Краскоўскай запачаткаваў яшчэ адну важную для літаратуразнаўства крыніцу, якую можна назваць „Браціслаўскі эпісталярый“.



Уладзімер Калесьнік. 1970-я гг.
Здымак з фотатэкі часопісу
„Роднае слова“

У распараджэньні аўтара гэтых радкоў аказалася ліставаньне Ўладзімера Калесніка й Людмілы Краскоўскай 1960-х, 1970-х, а таксама пачатку 1990-х гг. Яно захоўвалася ў асабістым архіве апошняй у Браціславе. Паколькі часткі тае карэспандэнцыі разышліся па розных архівах, дзяржаўных і прыватных, некалькіх краінаў (Славакіі, Украіны, Беларусі), думаецца, даволі цяжка гарантаваць стопрацэнтную захаванасьць усіх лістоў. Але тое, што мы маем, даволі поўна прадстаўляе храналёгію й лёгіку ліставаньня. Непрадстаўленасьць лістоў 1980-х гг. можна патлумачыць (і гэта вынікае зь ліставаньня) рознай інтэнсіўнасьцю працы дасьледніка над вывучэньнем жыцьця й творчасьці Ўладзімера Жылкі, важная рыса якой была падведзеная выданьнем у 1977 г. „Ветразяў Адысея“.

Унікальнасьць гэтай карэспандэнцыі, якая істотна аблегчыла дасьледніцкую працу (атрыбуцыю дакумэнтаў, узнаўленьне храналёгіі ды інш.), у тым, што ў адным архіве зьберагліся разам лісты й адрасанта, і адрасата. Рэч у тым, што Людміла Краскоўская як вопытны й пэдантычны музэйны супрацоўнік нумаравала ўсю ўласную карэспандэнцыю, укладала ў капэрты дасланых зь Беларусі лістоў чарнавікі сваіх адказаў.

*1960-я гг.* Браціслаўскі эпісталярый, запачаткаваны ў 1960-х гг., істотна дапаўняюць фактаграфічна, прыўносяць сваю жывінку лісты

яшчэ дзьвюх асобаў, непасрэдна зацікаўленых у праўдзівым узнаўленьні жыцьцяпісу Ўладзімера Жылкі, вяртаньні ягонай спадчыны, — гэта брат паэта Барыс і дачка Натальля (у замужжы Лазарава).

Так, зь ліста Людмілы Краскоўскай да Барыса Жылкі ад 09.11.1967 г. па сутнасьці пачыналася гісторыя вяртаньня невялікай часткі спадчыны паэта на Радзіму: *„У. Калеснік пісаў, што Вы выхавалі дачку Ўладзіка, значыць, маеце найболей права рашаць справы, звязаныя з яго рэчамі. Калі Ўладзік з Прагі выехаў дадому, дык мне залішыў (пакінуў — **М. Т.**) сваю карэспандэнцыю пражскага перыяду. Рукапісаў там няма, толькі некалькі лісткоў-чарнавікоў. Гэта невялікая пачка лістоў, якія яму пісалі пражскія сябры, і пару лістоў ад радні. Думаю, што большая часць карэспандэнтаў ужо не жыве, так што перапіска мае толькі гістарычную цану. Некаторыя подпісы (імя) я магла б дапоўніць фаміліямі.*

*Таму што залішылась вельмі мала матэрыялу, звязанага з жыцьцём Ўладзіка, думаю, што і гэтыя лісты малі б цану. Таму хачу з Вамі парадзіцца, што з імі рабіць? Мне здаецца, што мейсца лістоў у якомусь інстытуце літаратуры, ці яго родных. Вы б маглі парадзіцца можа і з дац. Калеснікам. Пераслаць лісты поштай нельга, можна толькі перадаць. Калі хтось знаёмы паедзе ў Вашы края. І ад Вас часам прыязджаюць да Чэхаславаччыны пісьменнікі ці літаратуразнаўцы. Не хацела б, каб гэтыя лісты дзесь прапалі, калі я іх так доўга хавала“*[20].

Адзін зь першых лістоў Натальлі Лазаравай ад 02.12.1967 г. поўніцца цеплынёй і ўдзячнасьцю, новымі фактамі з жыцьця паэта, прадстаўляе сямейную гісторыю архіву Ўладзімера Жылкі: *„Бацьку я ж зусім не памятаю, засталася я ў бабулі з дзевяці месяцаў. Так мы з ёй і жылі ўдваіх спачатку, а потым утраіх, г. зн. з намі жыў і дзядзька Барыс. Вельмі шкада, што мы не змаглі захаваць у гады вайны пісьмы бацькі. З іх я вельмі многа ведала, але не ўсё я тады яшчэ разумела, мне ж тады было 11 гадоў, калі пачалася вайна. Бацька, мяркуючы па пісьмах, мяне вельмі любіў і шкадаваў. Больш таго, ён, пэўна, шкадаваў мяне і таму, што і яго, і мяне пакінула мая маці. Зараз у г. Уфе жыве і працуе прафесар медінстытута Шарсценнікаў. Ён піша мне, што бацька збіраўся пасяліцца ў Крыме, забраць з сабой мяне і бабулю. Ну што ж? Усё перажыта, хаця, безумоўна, усё магло б быць па-іншаму.*

[20] Ліст Людмілы Краскоўскай да Барыса Жылкі ад 09.11.1967 (чарнавы варыянт). Захоўваецца ў прыватным зборы М. Труса.

*У пісьмах бацькі я часта сустракалася з Вашым іменем. Бабуля мне многа расказвала са слоў бацькі. І толькі, безумоўна, цяпер я пасапраўднаму зразумела сэнс шчырых адносінаў і ўспамінаў бацькі пра Вас і Вашу сям'ю. Відаць, так патрэбна было здарыцца...“*[21].

Агулам усю перапіску нельга аналізаваць без разуменьня таго часу, калі пісаліся лісты. Таму ёсьць тут і перасьцярогі, і выказваньні ненаўпрост (ня ўсё можна было даверыць паперы, што перасякала некалькі дзяржаўных межаў). І ў гэтым выпадку можна толькі захапляцца карэктнасьцю, вытрымкай і тактам Уладзімера Калесьніка, які, каб „не падстаўляць“ сумоўцу, мусіў стрыножваць свой дасьледніцкі запал і прыберагаць многія важныя пытаньні аж да пачатку 1990-х гг.

Публікацыяй Браціслаўскага эпісталярыю, ажыцьцёўленай на старонках навуковага й мэтадычнага часопісу „Роднае слова“ (2009, №№ 9—11), мы пастараліся запоўніць істотную лакуну ў беларускім літаратуразнаўстве, канкрэтней — крыніцазнаўстве. Рэч у тым, што сёньня эпісталярная спадчына пісьменьнікаў мае магчымасьць атрымаць новае, грамадзка даступнае жыцьцё ў дзяржаўных бібліятэках, архівах, музэях, папросту — у публікацыях. Іншая справа — рукапісныя зборы ўласна дасьледнікаў літаратуры.

Ліставаньне Ўладзімера Калесьніка з калегай з Браціславы — гэта толькі адзін з аскепкаў эпісталярнай спадчыны дасьледніка літаратуры, які, аднак, дзякуючы добрай захаванасьці мае навуковую вартасьць і, галоўнае, выразна і пераканаўча дэманструе ўзор культуры дасьледніцкай працы.

У 1960-х гг. Уладзімер Калесьнік прадстаўляў шырокаму чытачу творчасьць Уладзімера Жылкі ў арэоле змагарніцкай заходнебеларускай літаратуры — „Іскраў з вогнішча“, „Сцягоў і паходняў“[22]. Але ўжо рыхтаваўся ўзысьці на водную гладзь новы дыхтоўны дасьледніцкі карабель, значна большых памераў і з больш маштабнымі плянамі й задачамі. Рыхталіся бярвёны й мачты, бясформенная парусіна прагла стаць ветразямі — напоўніць грудзі паветрам заморскіх падарожжаў. Відавочна, што браціслаўскі матэрыял стаў асновай для гэтых карабельных рыштаваньняў.

*1970-я гг.* Равесьнік веку паэт Уладзімер Жылка ўжо самой датай нараджэньня прадвызначыў сьвяткаваньне сваіх юбілеяў па круглых

[21] Ліст Наталлі Лазаравай да Людмілы Краскоўскай ад 02.12.1967 (у расейскай мове). Захоўваецца ў прыватным зборы М. Труса.

[22] Калеснік, Уладзімір. Іскры з вогнішча // Сцягі і паходні: Творы паэтаў з былой Заходняй Беларусі. Мінск: Беларусь, 1965. С. 5—33.

датах календара. Пачатак чарговага дзесяцігодзьдзя кліча да жыцьця юбілейныя памяткі-ўрачыстасьці, што найчасьцей адзначаюцца самай лепшай данінай памяці паэта — выданьнем кнігі. Такім быў і 1970-ы год, калі сьвет убачыў новы зборнік вершаў паэта, рупліва ўкладзены Ўладзімерам Калесьнікам, які запрашаў *„прайсці па шляху хваляваньняў і роздумаў, абуджаных найдарожшымі для чалавека рэчамі — радзімай, змаганнем за яе і сваё шчасце, хараством прыроды, кахання. Гэтыя каштоўнасці азараюцца ў вершах Жылкі трывожным святлом. Да іх праз пакуты і горыч ідзе чалавек. І ён прыгожы“*[23].

Празь сем гадоў чытач атрымае высьпеленую за дзесяцігодзьдзі руплівай працы манаграфію „Ветразі Адысея“.

На завяршальным этапе кампанаваньня й цэласнага, канцэптуальнага бачаньня кнігі Ўладзімер Калесьнік зьвяртаўся да свайго сталага адрасата з Браціславы Людмілы Краскоўскай: *„Праца мая над кніжкай уступіла ў такую фазу, калі мне патрэбна як можна больш падрабязнасцей, каб не атрымалася схема“*. У лістах гэтага часу зафіксаваная й этапная, працоўная назва будучых „Ветразяў...“: *„Ул. Жылка і народнарамантычная плынь у заходнебеларускай літаратуры“*.

Ліставаньне Ўладзімера Калесьніка й Людмілы Краскоўскай 1970-х гг. поўніцца мноствам дэталяў, удакладненьняў, імёнаў. Пра некаторых беларускіх грамадзка-палітычных, культурных дзеячаў 1920—1930-х гг. стане магчымым адкрыта гаварыць і пісаць толькі ў канцы 1980 — пачатку 1990-х гг.

У 1977 г. чытач атрымае гарманічна зладжаную кнігу — плён дасьледніцкай працы Ўладзімера Калесьніка — і аніяк не будзе здагадвацца, што ў час падрыхтоўкі яе да выданьня чыноўнікі ад культуры жорстка патрабавалі ад аўтара: *„Або толькі тое пакажаш, або не апублікуем нічога“*, а таму ўжо на пачатку 1990-х гг. у лісьце да Людмілы Краскоўскай паважаны дасьледнік скрушна зазначаў, што *„рэдактары выразалі больш 3-х аркушаў тэксту, з-за чаго парушылася аб'ектыўная раўнавага ацэнак твораў і людзей, а прозвішчы многіх дастойных людзей проста немажліва было ўключыць“*[24].

*<u>1990-я гг.</u>* Пачатак 1990-х гг. у найноўшай гісторыі Беларусі зьвязаны з маштабнымі грамадзка-палітычнымі зрухамі, якія ў сваю чаргу

---

[23] Калеснік, Уладзімір. Задумнасць пілігрыма: [Уступны артыкул] // Жылка, Уладзімір . Вершы. Мінск: Беларусь, 1970. С. 14.

[24] Ліст Уладзіміра Калесьніка да Людмілы Краскоўскай ад 12.03.1991. Захоўваецца ў прыватным зборы М. Труса.

спарадзілі якасна новыя імпульсы разьвіцьця ўсіх гуманітарных навук. Адкрытасьць грамадзтва, актыўныя міждзяржаўныя кантакты ўздымалі на новыя прыступкі аб'ектыўнае асэнсаваньне ключавых момантаў нацыянальнага будаўніцтва 1920—1930-х гг., дзейнасьці знакавых постацяў тых часоў. Рассакрэчваньне архіваў, іх даступнасьць для дасьледнікаў дазвалялі ліквідаваць многія белыя плямы айчыннай гісторыі першай паловы XX ст.

Для літаратуразнаўства гэта быў час цікавых адкрыцьцяў, а таксама выпрабаваньняў і выклікаў: сумленнасьці, узважанасьці й цягавітасьці давялося вытрымліваць націск дэмагогіі й нігілізму, жыцьцёвай праўдзе й мудрасьці — бараніцца ад павярхоўнасьці й нахрапістага прайдзісьвецтва. Менавіта гэтымі клопатамі поўняцца лісты Ўладзімера Калесьніка да Людмілы Краскоўскай пачатку 1990-х гг.

Выданьне „Ветразяў Адысея“ (1977) на некаторы час падвяло рысу пад актыўнай працай над дасьледаваньнем жыцьця й творчасьці Ўладзімера Жылкі, хоць поўнасьцю яе не прыпыніла. Гэтым можна патлумачыць і перапынак у ліставаньні вучонага з калегай з Браціславы ў 1980-х гг., якія для Ўладзімера Калесніка праходзілі пад знакам выданьня кніг, што сталі клясыкай беларускага літаратуразнаўства[25].

Ліставаньне паміж Беларусьсю й Славакіяй, асьветленае постацьцю беларускага паэта, працягваюць у гэты час Людміла Краскоўская й Натальля Лазарава. Паміж жанчынамі, якія ніколі не сустракаліся, завочна завязалася шчырае сяброўства. Натальля Лазарава свой распавед пра сямейныя, будзённыя клопаты перасыпала важнымі зьвесткамі пра ўшанаваньне ў Беларусі памяці яе бацькі: падрыхтоўку ў выдавецтве „Мастацкая літаратура“ зборніка выбраных твораў Уладзімера Жылкі, працу мастака Місуна над яго партрэтам і іншае[26].

У пачатку 1990-х гг. для Ўладзімера Калесьніка зьяўляецца нагода вярнуцца да раней напісанага, узнавіць поўны тэкст дасьледаваньня, папоўніць яго фактаграфічна — тое, што рабіла магчымым праца з

---

[25] Калеснік, Уладзімір. Лёсам пазнанае: выбраныя літаратурныя партрэты і нарысы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1982. – 558 с.; Ён жа. Максім Танк: нарыс жыцця і творчасці. Мінск: Мастацкая літаратура, 1981. – 189 с.; Ён жа. Пражскі эпісталярый // Полымя. 1990. № 9. С. 210—247; № 10. С. 190—229; Ён жа. Тварэнне легенды: літаратурныя партрэты і нарысы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1987. – 431 с.

[26] Лісты Наталлі Лазаравай да Людмілы Краскоўскай ад 10.05.1983, 25.11.1984 (у расейскай мове). Захоўваюцца ў прыватным зборы М. Труса.

рассакрэчанымі дзяржаўнымі архівамі Беларусі. Як пісаў сам дасьледнік: *„маёй мэтай быў і застаецца праўдзівы паказ усяго слушнага і хібнага, што тварылася ў беларускім адраджэнскім руху і вакол яго. Хочацца заадно ачысціць тэкст ад баласту, якім даводзілася нагружаць кнігу для супакаення асцярожных рэдактараў і ўсыплення пільных ды чуйных цэнзараў. Цэнзура і рэдактура знялі пры першым выданні кнігі старонак 70 машынапісу. Цяпер мне можна было б толькі вярнуць „выразанае“, але ж карціць пашукаць у раней недаступных архівах фактаў, якія могуць дазволіць пайсці далей у вырашэнні канцэптуальных праблемаў: як магло дайсці да рэпрэсавання інтэлектуальнай эліты беларускага Адраджэння ў БССР, чаму першымі ахвярамі сталі Уладзімір Жылка і яго сябры, паэты „Узвышша“*“[27].

Думаецца, просьбы беларускіх дасьледнікаў падаць у друку ўзгадкі пра гісторыка Івана Краскоўскага, паэта Ўладзімера Жылку, Віленскую й Дзьвінскую беларускія гімназіі, дый тое, што, па словах Уладзімера Калесьніка, *„часы мінаюцца, людзі збаўляюцца ад замкнёнасці“,* — усё заахвочвала Людмілу Краскоўскую да напісаньня ўспамінаў. Мэмуарныя запісы ва ўкраінскай мове пад назвай „З даўніх часоў“[28] убачылі сьвет у 1999 г. у Прэшаве, што знаходзіцца ва Ўсходняй Славакіі — тэрыторыі кампактнага пражываньня этнічных украінцаў. У час свайго 95-годзьдзя аўтарка сплаціла доўг памяці сям'і, каб са спакойнай душой спачыць навечна.

Мастак Сяргей Панчак зьмясьціў на вокладцы выданьня сымбалічную выяву: каржакаватае дрэва з моцнымі каранямі, падсечанае вышэй ад камля. Сьлед на парэзе агольвае гадавыя колцы-пакаленьні. Галіны з боку надсечанай паловы ствала засохлыя, а пад імі прабіваецца да сонца маладое дрэўца... Лёгкачытэльны алегарычны вобраз аднаго лёсу, некалькіх генэрацый сьсечаных жыцьцяў. З надзеяй на будучыню...

[27] Калеснік, Уладзімір. Контрбеларусізацыя // Спадчына. 1992. № 4. С. 84.

[28] Красковська, Людмила. З давніх часів. Prešov: 1999. — 84 с.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# З АРХІЎНЫХ ЗБОРАЎ УЛАДЗІМЕРА КАЛЕСЬНІКА

У 2003 г. удава крытыка, літаратуразнаўцы, пісьменьніка Ўладзімера Калесьніка (1922—1994) Соф'я Міхайлаўна перадала ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва архіўныя зборы мужа. Сярод больш як дзесяці тысяч дакумэнтаў, зьвязаных з жыцьцём і творчай спадчынай дзеяча, вылучаецца калекцыя матэрыялаў, зьвязаных з Уладзімерам Жылкам. Уладзімер Калесьнік мэтаскіравана зьбіраў розныя дакумэнты, аўтографы, здымкі, ліставаўся з асобамі, што ведалі паэта. Значная частка знойдзенага была скарыстаная ў кнігах „Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай літаратуры", „Усё чалавечае", зборніку твораў паэта, часопісных публікацыях. Аднак шмат што з архіваў Уладзімера Калесьніка яшчэ чакае ўвагі дасьледнікаў.

Найперш варта згадаць „праскі эпісталярый" — лісты беларусаў з Прагі 1920-х да Ўладзімера Жылкі. У фондзе Ўладзімера Калесьніка захоўваюцца арыгіналы лістоў Міколы Абрамчыка, Вінцэнта Грышкевіча, Тамаша Грыба, Ігната Дварчаніна, Васіля Русака, Леапольда Родзевіча, Людмілы й Валянціны Краскоўскіх, Міколы Чарнэцкага, лісты маці й дзядзькі Ўладзімера Жылкі, а таксама ягоныя ўласныя накіды лістоў да Л. Сілаевай.

Ня меншую цікавасьць выклікаюць эпісталярыі сваякоў і асобаў, што ведалі Жылку, скіраваныя да самога Ўладзімера Калесьніка або да дачкі паэта. Апошняя — Натальля Лазарава ў 1950-х — 1960-х гг. стала шукаць людзей, што ведалі бацьку й маглі пра яго распавесьці. У выніку ў захаваным у БДАМЛМ фондзе ёсьць лісты да яе Язэпа Пушчы, Уладзімера Дубоўкі ды іншых... Сярод іх і некалькі пасланьняў ад Мікалая Шарсьценьнікава, дзе распавядаецца пра апошнія месяцы й дні жыцьця Ўладзімера Жылкі:





Мікалай Аляксандравіч (нар. 1900)
і Лідзія Фёдараўна Шарсьценьнікавы (1899—1944). 1934 г.[1]

*„8 августа 1967 г.*
*г. Уфа*

*Сегодня заглянув на кафедру, я обнаружил Ваше письмо от 10 июля и сразу отвечаю.*

*Для меня понятен Ваш родной интерес к Вашему незабвенному отцу, обездоленному тяжелой судьбой, оборвавшей ему жизнь в тяжелое смутное время.*

*Ваш папа по приезде в Уржум вместе с женой жил у наших друзей Деренковых И.С. и Е.А. — где состоялось наше знакомство.*

*В этом же году мне выпала честь организовать в Уржуме медицинский техникум (временно был первым директором). Я пригласил Владимира Адамовича на работу в техникум на должность заведующего хозяйством и для преподавания литературы (было немного часов). Так он заполнил досуг и имел небольшую материальную основу, чтобы жить. Мой преемник — директор К.И. Елкина допускала иногда, в силу своего характера, бестактные выходки к В.А, но он*

[1] Тут і далей публікуюцца здымкі з фонду Ўладзімера Калесьніка (БДАМЛМ) з арыгінальнымі подпісамі.



Ганна Андрэеўна Рукавішнікава
з унучкай. Гаспадыня,
у якой Жылка жыў ва Ўржуме



Вільгельм Ісідаравіч Гольдблат
(нар. 1903). 1933 г.

*умел философски и оптимистически их нейтрализовать, делясь со мной и другими друзьями по техникуму и Уржуму.*

*В силу всех обстоятельств здоровье его было слабоватым — часто температурил и [?]. К нему весьма внимательно относились уржумские врачи, и в особенности врач Вильгельм Иосифович Гольдблат, все старались помочь ему в его жизни. В ухудшавшемся состоянии он был оставлен женой — остался один. Он перебрался в небольшую комнату, но к заботливой хозяйке — Анне Андреевне Руковишниковой — там и произошла тяжелая развязка — смерть. (Мне кажется, 5 марта*[2] *1933 года?!).*

*Я и доктор Гольдблат были неизменными у В.А. — не оставляли ни на один день без наблюдения. К нему очень часто заходили друзья — И.О. Сосинович*[3] *с женой М.М. Вечеркой, моя жена с преподавательницей*

[2] Насамрэч, 1 сакавіка.

[3] **Іван Сасіновіч** (1900 — ?) — пэдагог. Працаваў настаўнікам у слуцкай сямігадовай школе № 1. Арыштаваны ў ліпені 1930 г. па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“, асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г. Уржум. Вызвалены ў 1935 г. Вярнуўся ў Беларусь.



Марыя Іванаўна Зубарава (1887—1947). 1934 г.

*М.И. Зубаревой и др. Сам В.А. обладал огромной силой воли и всячески сам обслуживал себя, находясь в постельном состоянии.*

*События нарастали, здоровье заметно падало и, наконец, приближались последние роковые дни, когда всякая надежда исчезла. Он ждал писем и денег. 5 марта утром он меня просил написать письмо, которое до сих пор не изгладилось из памяти (кажется, было адресовано Борису Адамовичу). Он диктовал, я записывал в открытку: „Болен опасно, как никогда. Вопрос о смерти не сходит с порядка. Обратись к Петрику, Кастусю, чтобы одолжили денег. Поправлюсь, рассчитаюсь. Будь сильным! (Подпись)“*

*Мне было ясно, что В.А. встал на путь к смерти. В 4—5 часов по полудню собрались около него мы с женой, Сосинович, Гольдблат, М.И. Зуборева и на наших глазах в течение 2—3 часов свершилась смерть.*

*А 7 марта мы его схоронили при стечении большого числа собравшихся проводить. Я и Сосинович вдвоем вынесли его из квартиры на улицу, как позволяли габариты лестницы (из 2-го этажа), и на руках его несли желавшие до самой могилы, где был проведен траурный митинг (выступали: Я и Сосинович).*

*После этого нужного и неизбежного дела я написал подробное письмо на имя Бориса Адамовича для осведомления его и мамы. Но, кажется, это письмо не дошло до адресата (что-то помнится, что вернулось). Будто бы с Б.А. произошла аналогичная с В.А. неприятность.*

*Прошу меня извинить, если в некоторых деталях мне изменяет память, в частности, даты смерти и похорон, а также имя брата.*

*Дорогая Наталья,*

*Ваш папа очень часто вспоминал и думал о Вас, называя Вас „Натусенькой“, и своей маме, заботившейся о Вас.*



Уладзімер Жылка ў труне

*Если Ваш дядя это Борис Адамович, то я думаю, он вспомнит об обмене письмами во время болезни В.А. Я хорошо помню, он писал мне, и я отвечал.*

*Надеюсь, Вы разберете для Вас дорогие строки моего письма и не замедлите ответить для подтверждения о получении. Если Вас не затруднит прислать книгу Колесника, то я буду с интересом читать о В.А.*

*Сосиновича Ивана Олимпиевича я встретил в г. Бобруйске в 1950 году, был в кругу его семьи и тепло вспоминали В.А., а также наших уржумских друзей.*

*Могила В.А. была в центре кладбища на поляне в соседстве со многими уржумскими товарищами. Это можно представить по прилагаемой схеме.*

*Буду рад получить Ваш ответ и когда умерла бабушка?*

*Ваш Шерстенников".*

Акрамя гэтага ліста захаваўся й яшчэ адзін таго ж аўтара, напісаны праз восем гадоў пасьля першага. У ім сярод паўтарэньня некаторых дэталяў аповеду можна знайсьці такую заўвагу: *„Нашелся один чуткий*



Іван Сасіновіч з жонкай

*фотограф, который переснял из сохранившихся фотографии тех, которые оказались в моем архиве.*

*Хотя снимки бледноваты, но, главное, они того времени, когда готовилось и свершалось угасание на чужбине Вашего папы.*

*Получите их, напишите“*[4].

Згаданыя здымкі, што захавалі выявы асобаў, якія былі з паэтам у апошнія дні ягонага жыцьця, захаваліся ў фондзе Ўладзімера Калесьніка й публікуюцца тут.

Дасьледніку ўдалося знайсьці ў Маскве й жонку Ўладзімера Жылкі Рыму Маркаўну Хейман. Яе лісты выглядаюць як адказы на пытаньні Ўладзімера Калесьніка, і хоць не кранаюць апошніх гадоў жыцьця паэта, але маюць сваю цікавасьць:

*„Уважаемый Владимир Андреевич!*

*Извините, что задержала с ответом на Ваше письмо, болела тяжелым гриппом с осложнениями, да и сейчас еще приходится долечиваться от последствий гриппа.*

[4] Ліст Мікалая Шарсьценьнікава да Натальлі Лазаравай ад 01.10.1975.



Магіла Ўладзімера Жылкі.
Уржум, 24.06.1967



Уладзімер Жылка ў студэнцкія гады

*Очень хочу быть Вам полезна в Вашей работе, но, к великому сожалению, моя память плохо сохранила события сорокалетней давности.*

*Во время работы в муз. тех-ме и в редакции газеты „Звезда“*[5] *Владимир Адамович лечился в туберкулёзном санатории в г. Ялте, это была осень 1928 г. Лечение продолжалось около 2-х м-цев.*

*Владимир Адамович преподавал в муз. тех-ме белорусский язык и белорусскую литературу. Он обладал незаурядным педагогическим талантом, уроки его были всегда интересными, продуманными, эмоционально-насыщенными. Это было общее мнение студентов. Владимир Адамович завоевал авторитет как человек собранный, корректный, внимательный к людям, очень эрудированный. На общем фоне он сразу выделялся своей яркой индивидуальностью. Мне вспоминается, что Владимир Адамович в то время был дружен с преподавателем истории музыки в муз. тех-ме, который несколько позднее перевёл литературный текст оперы „Фауст“ на белорусский язык. Я точно*

[5] Уладзімер Жылка працаваў у Менскім музычным тэхнікуме ад 1927 г.

*не помню фамилии этого педагога, но кажется, это был Дрейзин, или Дрейзер*[6] *.*

*В основном муз. тех-м готовил узких специалистов музыкантов. В то время мало обращалось внимания на всестороннее развитие студентов, такой предмет, как изучение музыкальной литературы, не входил в программу обучения. Вместе с тем в муз. тех-ме был хореографический класс.*

*Владимир Адамович очень любил музыку и мог часами её слушать. Его любимыми композиторами были Шопен, Бетховен и Чайковский. Особенно он любил белорусские народные песни. Как-то он подарил мне старинный сборник белорусских народных песен и вечерами просил сыграть и спеть ему какую-либо из них, всегда садился рядом со мной и тихонько мне подпевал. Больше всего он любил песни лирические, напевные.*

*Когда впервые был переведен текст оперы „Фауст" на белорусский язык и силами муз. тех-ма была поставлена опера на сцене городского театра (роль Маргариты исполняла Александровская*[7] *, ныне народная артистка), Владимир Адамович был счастлив, он просто наслаждался музыкой Гуно и часто просил меня играть ему отрывки из его оперы, я играла ему очаровательные мелодии Гуно в переложении Листа.*

*Владимир Адамович был арестован на даче под Минском на рассвете в конце лета 1930 г., у нас тогда только недавно родилась наша дочь. Домой он возвратился в начале зимы в очень тяжелом состоянии, у него было сильное истощение нервной системы, и кашлял он кровью. Он сказал, что дал подписку о невыезде из Минска и ему предписано отправиться в ссылку в г. Уржум Кировской обл. После того, как он дома немного окреп, он уехал в Уржум.*

*Владимир Адамович был посмертно реабилитирован в 50-х годах.*

*Действительно кто-то мне помог устроиться в д/сад, куда водили детей ответственных работников, но я не помню, кто именно.*

*У Янки Купалы, М. Чарота, Я. Пушчы, Крапивы мы бывали вместе с Владимиром Адамовичем, у меня на всю жизнь сохранились добрые воспоминания об этих людях.*

---

[6] Маецца на ўвазе **Юльян Дрэйзін** (1879—1942), музыказнаўца, публіцыст, перакладчык, пэдагог. Адначасова з Уладзімерам Жылкам выкладаў у Менскім музычным вучылішчы.

[7] **Ларыса Александроўская** (1904—1980), беларуская опэрная сьпявачка й рэжысэрка. У 1928 г. скончыла той самы Менскі музычны тэхнікум.



Уладзімер Жылка ў часе арышту. Менск, 1930

*Буду очень рада, если хоть что-либо из мною написанного, пригодится в Вашей работе.*

*Желаю Вам успеха!*

*С уважением,*

*Римма Марковна*

*Москва 14.03.70 г.*

*Уважаемый Владимир Андреевич!*

*Я очень огорчена тем, что ничего нового я не могу Вам сообщить в этом письме.*

*Вернувшись из тюрьмы в начале зимы 30 г., Владимир Адамович нигде не работал до самого отъезда в Уржум. Почти всё время он лежал, состояние его было крайне тяжелым. Сломленный физически, он держался очень спокойно и мужественно. Прикованный к постели, он в ту зиму действительно много занимался переводами и перевёл поэму польского писателя.*

*Тембр голоса у Владимира Адамовича был очень мягкий, чуть приглушенный. Речь его отличалась большой сдержанностью, деликатностью.*

*Конспекты уроков по литературе, которые давал Владимир Андреевич, не сохранились.*

*Долгие годы я поддерживала связь с одной из моих подруг по музык. техникуму, которая хорошо помнила Владимира Адамовича, но она умерла несколько лет назад.*

*О поэме „Тестамент“ и других стихах Уржумского периода, мне, к сожалению, ничего неизвестно.*

*С уважением,*
*Римма Марковна,*
*Москва, 09.04.70 г.“*

Ліставаньне дачкі Жылкі Натальлі ды брата Барыса з Уладзімерам Калесьнікам, а таксама сабраныя дасьледнікам матэрыялы: аўтографы паэта, здымкі, іншыя дакумэнты — усё гэта можа стаць падставай не для аднаго дасьледаваньня. Тут хочацца згадаць яшчэ толькі адно. Вядома, што літаратуразнаўца падрыхтаваў некалькі зборнікаў вершаў паэта. Аднак сярод выдадзенага не ўдалося знайсьці аднаго верша, што захоўваецца сярод аўтографаў у архіве. Магчымай прычынай таго, што твор ня быў апублікаваны, ёсьць тое, што верш ня быў дапісаны, а таксама што Ўладзімер Калесьнік ня здолеў цалкам расчытаць тэкст. За гэта, прынамсі, гаворыць захаваны разам зь лістом варыянт, перапісаны рукою дасьледніка. Нам жа ўдалося прачытаць тэкст верша цалкам. Тут яго й публікуем.

**Вядзьмарка**

*На гары, у пушчары, сярод цёмнага лесу*
*Вецер кіпціць распусьніцу ноч*
*Там зьбіраюцца сёстры на чорную мэсу*
*Там [аўтарскі пропуск]*

*Я ўстаю, пакідаю мой замак нямілы*
*Не пачуе заснуўшы мужык*
*Гэтых мазяў чароўных цудоўные сілы*
*Мяне мкнуць, як сарваўшыся зык.*

*...Грэх прывабны, нібы палюбоўніка пешчы,*
*І магутны, як пеністы вір,*
*Як русалка для хлопца, што тамака плешча,*
*Калі выйдзе на бераг, на жвір...*

*Толькі там я даведалась буйнасьці міру,*
*Толькі радасьць пазнала тады,*
*Як хрысьцілася ў чорную веру*
*Асалодную поўну жуды.*

*... Ўжо сяброўкі чакаюць мяне ў карагодзе,*
*Ўжо гулянкаў разносіцца гуд.*
*О, сяброўкі, ўзрушэньняў ня будзе нам годзе!*
*О, сяброўкі, я з вамі, я тут!*

***Тамаш Грыб***

# АРТЫКУЛЫ

*Тамаш Грыб публікаваў свае тэксты ў розных беларускіх пэрыёдыках у Чэхаславаччыне, у тым ліку і ў „Перавясьле“. Рэдагаваны Ігнатам Дварчаніным „часопіс паступовага беларускага студэнцтва“ выдаваўся ў 1923—1924 гг. Пабачылі сьвет два нумары. Тэксты Тамаша Грыба, зьмешчаныя на іх старонках, мы й прапаноўваем увазе чытача.*

*Правапіс арыгіналў пры публікацыі захаваны.*

## Мэты і заданьні[1]

І так, у найвялікшым асяродку сучаснай славянскай культуры і палітыкі, у Празе, вучацца на рожных вышэйшых школах больш сотні беларускіх студэнтаў. Факт у гісторыі адраджэньня беларускага народу яшчэ нябывалы. Можна па-рознаму падыходзіць да яго ацэнкі, але адно павінна быць агульна прызнана — за некалькі гадоў Беларусь узбагацілася сьвядомай адраджэнскай інтэлігенцыяй з вышэйшай эўрапейскай адукацыяй.

Большасьць студэнства — сыны мужыцкія, вышаўшыя с-пад саламянае страхі сярмяжніка-селяніна, дзеці беларускіх працоўных грамад. Амаль усе — палітычныя эмігранты.

Што прывяло іх у Прагу? Што змусіло пакінуць родную краіну? мо’ хто спытае. Адказ на гэта просты: перасьледаваньне акупацыйных уладаў, смага веды.

Сталецьці спаўшы ў нявольніцкім сьне, беларускі народ абудзіўся і сягнуў тварыць сваё ўласнае жыцьцё. Недахват усестаронье асьвечаных адзінак — найвялікшая перашкода на шляху культурнага,

[1] Перавясла. № 1. Лістапад 1923. С. 14—15.

сацыяльнага і палітычнага вызваленьня ды адраджэньня беларускага народу.

Мо' і несьвядома, чыста інтуіцыйна, але на праўдзівы шлях станула беларуская моладзь, калі з глухіх мядзьвежых куткоў, без пашпартоў і візаў, пехатою, проста нацянькі рашыла памандраваць у Эўропу, каб задаволіць сваю смагу веды і ў Празе, дзякуючы прыхільнаму адношаньню чэха-славацкага ўраду і народу, змагла дасягнуць свае мэты: веду атрымае.

А пасьля што? Што будзе рабіць пасьля аканчэньня ўнівэрсытэту або тэхнікі асьвечаны беларус? Каму ён аддасьць сваю веду? Ці хто задаваў сабе такое запытаньне? Мае ўжо адказ? Пэўна, не! Ня кожны яшчэ ўсьведаміў сабе, хто ён і куды ідзе яго дарога.

*„А ў бары, у бары тры дарожанькі“...*

Па якой-жа пайсьці? Хто скажа?

Каб цьвёрды і ясны адказ даць на гэта запытаньне, трэба насамперш добра ўявіць мэту свае падарожжы. Калі чалавек ведае, куды ён ідзе, яму лёгка выбраць дарогу: укажа мэта, па якой пайсьці. Бо заўсёды мэта азначае спосабы яе дасягненьня, — ніколі спосабу мэты, а дарога і ёсьць для падарожнага спосабам найхутчэйшага дасягненьня мэты. Гэтай мэтай для асьвечанага беларуса мае быць дабрабыт тае хаты жыхароў, зь якое сам нядаўна выйшаў, дабрабыт таго народу, сярод якога вырас — шчасьце й сьветлая доля беларускіх працоўных грамад!

Устанавіўшы сабе гэтую мэту, кожны беларускі студэнт мае паставіць сваім заданьнем: узапраўды стаць асьвечаным чалавекам, узапраўды навучыцца ўсім тым спосабам змаганьня за лепшы дабрабыт і сьветлую долю працоўных грамад, якія ўжываліся ў мінуўшчыне і ўжываюцца ў сучаснасьці народамі Эўропы.

## Аснаўныя падваліны вызвольнай ідэолёгіі беларускай нацыі[2]

Ёсьць вельмі прыгожая беларуская народная казка, у якой апавядаецца аб адным „тутэйшым“ чалавеку, якому здарылася неяк йсьці празь лес. А лясоў, як ведама, ёсьць шмат на Беларусі. Было ўжо пад вечар. Цямнела. Раптам напалі на „тутэйшага“ чалавека два разбойнікі і кажуць: мы цябе заб'ем, чалавеча! Выбірай сабе сьмерць якую хочаш: павесіць ці ўтапіць? А „тутэйшы“ чалавек і адказвае: рабеце, паночкі, як

[2] Перавясла. № 2. Студзень — красавік 1924. С. 30—39.

лепш. І разбойнікі прыступілі да выкананьня свае пастановы. Няма ведама, ці павесілі яны „тутэйшага“ чалавека, ці ўтапілі — казка аб гэтым замаўчала. Але той, хто чулую мае душу, каго шчырае ў грудзёх б’ецца сэрца і шчаміць смага знайсьці крыніцу праўды, той гляне хай на родныя палеткі, прыслухаецца хай уважліва да таго гоману, які нясецца ад хаты да хаты па ўсёй Беларусі, той убачыць і перасьведчыцца, што „тутэйшага“ чалавека ўжо няма. „Тутэйшы“ чалавек як колектыўная індывідуальнасьць, прыгнечанага й паняволенага беларуса, сталецьці спаўшага ў нявольніцкім сьне, ня ведаючага, што ён і куды вядзе шлях ягонага жыцьця, ня маючага адвагі мець свайго ўласнага заданьня *Я так хачу* — ужо памёр. Радзіўся-ж новы чалавек, расьце, разьвіваецца ды фармуецца новая, як асабістая, гэтак і колектыўная індывідуальнасьць. Хай пакуль яшчэ кволае, хай узрост яе хваравлівы — гэта нічога. У цяжкіх муках і цярпеньнях прыходзіць на сьвет чалавек, у муках і цярпеньнях родзіцца новае жыцьцё.

Так. Адраджэньне беларускага народу ёсьць факт; буйны ўзрост нацыянальна-політычнай і соцыяльнай сьвядомасьці таксама бясспрэчны факт, як і тое, што ўзрастае новая самаістная культурная індывідуальнасьць, якая адважна заяўляе на сьвет цэлы аб сваім нараджэньні. З пачатку выступае нованароджанае ў бязьмежным прасторы гістарычных падзеяў як моральная сіла, затым, паступова набіраючы сіл фізычных, выступае ўжо як адзін з актыўных чыньнікаў сужыцьця народаў усходняе Эўропы. Рэволюцыя 1905—1906 гг., калі зьяўляюцца і актыўна выступаюць першыя беларускія рэволюцыйна-соцыялістычныя і культурна-нацыянальныя організацыі, паставіўшыя сваей мэтай дамагацца краёвай аўтаноміі Беларусі ў складзе расейскай дэмократычнай фэдэрацыйнай рэспублікі, вялікая рэволюцыя 1917—1920-х гг., калі ў завірусе рэволюцыйных падзеяў родзіцца думка аб самаістай незалежнай беларускай дзяржаўнасьці, узброеная барацьба беларускіх працоўных грамад за волю ды нацыянальнасьць — гэта ёсьць факты, якія найкрасамоўней сьведчаць самі за сябе.

Праўда, Беларускі народ не здабыў сабе волі, не дабіўся сваёй незалежнасьці, а йзноў, як і калісь, церпіць двайны гнёт — нацыянальны і соцыяльны ад чужацкіх наездцаў. Беларусь разпластана ляжыць, парваная на часьці. Стогне ў бязвольлі, у нядолі народ.

Аднак ня гледзячы на ўсе злыбядзі — жыве Беларусь! Хай сёньня Беларусь у радох пераможных, хай ныюць і крывавяцца раны — шлях да перамогі вядзе праз паражэньні. Адно толькі — умела трэба выкарыстаць навукі былых няўдач. Трэба навучыцца як найлаўчэйшаму

змаганьню і ў першую чаргу на чужых ды на сваіх уласных памылках. Бо той, хто не разумее сваіх памылак, той наогул нічога не разумее, той ня здатны да змаганьня. А прыгнечанай і паняволенай Беларусі якраз і патрэбныя тыя людзі, якія хочуць і ўмеюць вясьці змаганьне. Вось чаму нам як прадстаўнікам новай нараджаючайся беларускай крытычна-думаючай індывідуальнасьці пара ўжо падвясьці пэўныя падрахункі тым рэвалюцыйным падзеям, што адбыліся на ўсходзе Беларусі, адкрыта сказаць, усебакова высьвятліць канцы і пачаткі ў беларускім вызвабадзіцельна-адраджэнскім дзяржаўна-незалежніцкім руху, каб добра сабе ўявіць, а ўявіўшы, яскрава выявіць конкрэтны вызвальны ідэал, культурны, палітычны і соцыяльны ідэал — беларускай нацыі.

## II

Ужо ня прыходзіцца даводзіць таго аснаўнога палажэньня, элемэнтарнай праўды, што і беларускі народ мае права нараўне зь іншымі народамі на жыцьцё пад сонцам, даводзіць неабходнасьць прызнаньня і за беларускім народам права на вольнае самаазначаньне. Ужо ня прыходзіцца даводзіць таксама і таго, што Беларусь мае права на самаістую дзяржаўную незалежнасьць. Бо незалежнасьць — гэта ёсьць адзіная натуральная форма ўцелаішчаньня права на самавызначаньне. Прызнаючы права на самавызначаньне, ужо гэтым самым прызнаеш і права на незалежнасьць. Гэта добра сабе ўцямілі маскоўскія ды варшаўскія дыплёматы, калі ў Рызе, коштам падзела Беларусі, падпісвалі мірны дагавор паміж панска-шляхэцкай Польшчай і савецкай Расеяй. У першым пункце Рыскай мірнай умовы ўрачыста прызнаецца права Беларусі на вольнае самаазначаньне і дзяржаўную незалежнасьць, але што толку з гэтага прызнаньня. Відавочна, што справа тут ня ў прызнаньні права, а ў нечым іншым. Права на самаазначаньне ды самаістую дзяржаўную незалежнасьць Беларусь і так мае, няма што аб гэтым і казаць. А справа ідзе выключна аб ўцелаішчаньні гэтага права. Як уцелаісьціць права беларускага народу на вольнае самаазначаньне, як уцелаісьціць покліч, выстаўлены беларускай рэвалюцыяй аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі? Вось тое кардынальнае запытаньне, на якое неабходна даць ясны і катэгорычны адказ. З другога боку — хто мае ўцелаісьціць гэтае права? Сам беларускі народ, абапіраючыся на свае ўласныя сілы, ці то пры дапамозе якой-небудзь сілы надворнай, чужой? Якім шляхам зьдзейсьніць ідэю самаістай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі: ці шляхам упартай рэволюцыйнай барацьбы, ці шляхам

паступовай эволюцыі, шляхам дробнай штодзённай працы, носячы ў сэрцы сваім надзеі, мары, лятуценьні аб незалежнасьці?

Каб ясны і катэгорычны даць адказ на пастаўленыя запытаньні, неабходна, па-першае: выявіць тыя нацыянальныя й соцыяльныя сілы, якія знаходзяцца на Беларусі і зацікаўлены, ці варожа адносяцца да ўцелаішчаньня незалежнай беларускай дзяржаўнасьці; па-другое: выявіць соцыяльную структуру самой беларускай нацыі як культурнага і соцыяльнага адзінства; па-трэцяе: якая з сучасных буржуазных[3] зацікаўлена ў істнаваньні незалежнай беларускай дзяржавы.

Узапраўды: ці ёсьць на Беларусі такія нацыянальныя і соцыяльныя сілы, якія-б былі зацікаўлены ў тым, каб Беларусь была незалежнай дзяржавай? А калі ёсьць такія сілы, то наколькі яны здатны да арганізаванасьці і самадысцыпліны, каб вясьці ўпартае змаганьне, бо, само сабой, бяз змаганьня нічога ў жыцьці не адбываецца. Жыцьцё ёсьць змаганьне, і той заўсёды мае перамогу, хто ня толькі ўмее абараняцца, але ў пэўныя мамэнты і нападаць, наносячы ворагу руйнуючыя ўдары. І той, хто ўзапраўды мае нейкую ідэю, той мусіць змагацца за яе ўцелаішчаньне, у праціўным разе — ён мае ідэю толькі на паказ, вось нібы той пярсьцёнак з бліскучым дыямантам. Далей. Ці ёсьць хоць адна якая-небудзь сучасная буржуазная дзяржава, якая-б была зацікаўленая ў незалежнай Беларусі?

Калі адказ на першае запытаньне — ці ёсьць унутры краіны сілы, здатныя вясьці змаганьне — зьяўляецца вельмі складным і можа быць толькі сьцьвярджаючы, то адказ на другое запытаньне — аб зацікаўленасьці хоць якой-небудзь сучаснай буржуазнай дзяржавы ў істнаваньні дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі — ёсьць вельмі просты і можа быць толькі адмоўны. Ёсьць сілы ўнутры краіны, здатныя вясьці змаганьне за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, няма ані аднэй сучаснай буржуазнай дзяржавы, зацікаўленай у істнаваньні дзяржаўнай незалежнасьці яе. Чаму такое цьверджаньне? Доказаў гэтаму ёсьць шмат: дзясяткі прыкладаў з нядаўняй мінушчыны й цяпершчыны; яны агульна вядомы і няма чаго на іх спыняцца. А тагды — ставіцца новае запытаньне: якая можа быць орыентацыя, або, інакш кажучы, на каго спадзявацца і пакладаць сваі надзеі ў змаганьні за волю й незалежнасьць Беларусі? Адказ дужа ясны й просты: орыентацыя на ўласныя, унутры краіны істнуючыя сілы, спадзявацца і пакладаць свае надзеі выключна на ўласныя сілы працоўных грамад.

[3] Так у арыгінале.

## III

Чаму ласьне орыентацыя мае быць выключна на ўласныя сілы беларускіх працоўных грамад, а не на якія-небудзь іншыя сілы ўнутры краіны істнуючыя, мо буржуазныя, абшарніцкія і г. д.? Ад рашэньня гэтага запытаньня залежыць адказ і на другое, раней крыху пастаўленае: як уцелаісьціць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, якім шляхам: шляхам рэвалюцыі ці эволюцыі? А з гэтага вынікаюць два новыя запытаньні: па-першае, незалежная беларуская дзяржава ёсьць мэта сабе ці гэта ёсьць толькі спосаб дзеля дасягненьня якойсьці іншай мэты; па-другое, які нацыянальна-палітычны ды соцыяльны лад мае быць у незалежнай беларускай дзяржаве.

Перад усім пачнем з таго, што сконстатуем істнуючы факт: Беларусь зьяўляецца аграрнай калёніяй вызыску чужаземнага капіталу — польскага і маскоўскага ды яшчэ тых, што ў сувязі зь імі. І другі факт, які мусім сконстатаваць: на Беларусі няма нацыянальнай буржуазіі.

### Разгледзімо гэта крыху падробней.

Усё шматмільённае жыхарства Беларусі дзеліцца на стан працуючых і непрацуючых. Працуючыя — гэта ёсьць тыя, што жывуць з працы сваіх уласных рук: сяляне, работнікі і працоўная інтэлігэнцыя. Непрацуючыя — гэта ёсьць тыя, хто жыве з працы чужых рук: абшарнікі, фабрыканты, банкіры, купцы, гандляры, спэкулянты і ўсе тыя, хто жыве з даходаў непасрэдна самым незапрацаваных, як напр.: непрацоўная рэнта, спадчына і г. д. Між станам працуючых і станам непрацуючых істнуе сталы антагонізм, выкліканы з супярэчнасьці інтарэсаў. Кожны чалавек мае свае патрэбнасьці, гэта праўда. Але ёсьць такія патрэбнасьці ў чалавека, якіх задавальненьня вымагаецца самім жыцьцём; калі іх не задаволіць — чалавек гіне. У цяперашчыне соцыяльны лад людзкога грамадзянства так пабудаваны, што адны людзі працуюць і ня ў сілах задаволіць сваіх неабходных патрэбнасьцяў (страва, адзежа, памешканьне і г. д.), а другія нічога ня робяць і маюць магчымасьці ня толькі што задаволіць свае неабходныя патрэбнасьці, але ад лішкі асяродкаў пускаюцца ў распусту, ад чаго, між іншым, таксама ідзе чыста біопсыхічны працэс выміраньня, як ад недастатку. У гэтым і ёсьць аснаўная трагэдыя, аснаўное зло сучаснага буржуазна-капіталістычнага ладу. З прычыны нераўнамернага разьмяркоўваньня жыцьцёвага дабрабыту людзкасьць не разьвіваецца, ня йдзе наперад, а дэгэнеруецца, вымірае. У экономічнай літаратуры гэтыя супярэчнасьці між

працуючымі й непрацуючымі называюцца клясавымі супярэчнасьцямі. На Беларусі клясавыя супярэчнасьці саўпадаюць з нацыянальнымі. Каб ня было гэта галаслоўным, возьмем прыклад. Да якой нацыянальнасьці належаць абшарнікі? Ці яны тубыльцы гэтай краіны, ці зьнекуль прышлі, але ня разам з народам, гэтай працоўнай і вечна галоднай беднатой, а самастойна, як каланісты? Што можа быць крытэрыем для азначаньня, беларус хто ці не? Мэтрычная выпіска? Некалі дзяды й прадзеды гаварылі па-беларуску? Але-ж гэтага мала. Вагу мае ня тое, чым або кім продкі былі — вагу мае тое, чым або кім ёсьць той, хто цяпер жыве, нешта робіць, думае, церпіць, радуецца; вагу мае той факт, за каго лічыць сябе ў цяперашчыне кожны чалавек, да якой нацыі ён залічае сябе, у які бок самаазначаецца — у беларускі, польскі, расейскі ці іншы які-небудзь. Дапусьцім, што ёсьць цяпер на Беларусі абшарнікі, якія біолёгічна належаць да беларускай, іх дзяды й прадзяды гутарылі па-беларуску, яны мэтрыкі свае маюць напісанымі ў беларускай мове, але культурна й псыхолёгічна яны лічаць сябе або расейцамі, або палякамі. Ці яны беларусы? Бязумоўна — не! Яны не беларусы. Бо што ляжыць у аснове нацыі? Хіба адзін толькі біолёгічны фактор, ці, казаў той, зь яйка вераб'я ніколі ня можа выйсьці бусел, то гэтак сама і сярод людзей — ад бацькоў беларусаў можа быць патомства толькі беларускае. Біолёгічна гэта ёсьць так, але не адзін толькі біолёгічны фактор мае ляжаць у аснове нацыі. Бо што такое нацыя? Нацыя ёсьць перш за ўсё культурная еднасьць (еднасьць мовы, звычаяў, гісторыі і г. д.). У аснове ляжыць фактор біопсыхічны, а таму за крытэрый у азначаньні, хто беларус, а хто не беларус, можна і неабходна браць крытэрый выключна біопсыхічны, або вузей узяўшы — культурнай прыналежнасьці. І калі хто-небудзь кажа: я беларус, але я рускай культуры ці то польскай культуры — гэтым самым ён самаазначаецца ў бок рускі ці то ў бок польскі, застаючыся пры гэтым біолёгічным тыпам беларуса. Гэткіх біолёгічных тыпаў беларускае нацыі ёсьць, на вялікі жаль, нямала, імя іх — рэнэгаты. Амаль усе абшарнікі, вялізарная большасьць шляхты, мяшчанства, духавенства і г. зв. інтэлігэнцыі — рэнэгаты; біолёгічна яны беларусы, а культурна і псыхолёгічна — або маскалі, або палякі. Векавой традыцыяй мінуўшчыны яны моцна зьвязаны з польскай ці то з маскоўскай вялікадзяржаўнасьцю, выхаваны на культуры маскоўскага або польскага нацыянальна-паразытычнага мэсыянізму; розныя прывілеі за кошт прыгнечаньня ды паняволеньня працоўнай беднаты, у мінуўшчыне, школа і дзяржаўная служба, у цяперашчыне — усё гэта адарвала іх ад роднай глебы беспаваротна і назаўсёды. Яны зусім

парвалі ўсе зьвязкі з народам; у іх няма нічога супольнага з жыцьцём беларускіх працоўных грамад. Жывучы з працы крывавых мазалёў беларускай працоўнай беднаты, яны ўзбагачалі польскую ці то маскоўскую культуру ў той час, як беларускі народ мадзеў у цемнаце; яны дапамагалі Маскве і Варшаве прыгнятаць Беларусь; палянізаваць і русыфікаваць беларускі народ, вызыскоўваць працуючых. Яны рабілі вялікае праступленьне перад беларускім народам, на іх сумленьні цяжкім каменем ляжыць грэх перад роднай краінай. Можа, зьвязаныя культурнай традыцыяй ці то з Расеяй, ці то з Польшчай, але эканамічна з Беларусьсю, гэныя біолёгічныя тыпы беларускай нацыі ў апошні час праяўляюць у пэўнай меры зацікаўленасьць да беларускай вызвольнай справы. Інакш і быць ня можа: беларускі вызвольны рух у аснове закранае іх паразытычны дабрабыт. Інстынкт самазахаваньня падказвае неяк прыладзіцца да новых абставін, прытарнавацца. І паяўляюцца „тоже белоруссы“ і „тэж бялорусіны“; мы зьяўляемся сьведкамі найцікавейшага працэсу, які толькі вядомы ў псыхолёгіі народаў: паяўляюцца людзі з раздвоенай сьвядомасьцю, якія шчыра кажуць, што ў іх ёсьць дзьве душы — адна польская, а другая — беларуская, або: адна, маленечкая душа — беларуская, і другая, вялізарная — маскоўская. Ім нельга ў гэтым не паверыць. Гэта ёсьць праўда. Хвараблівае зьявішча дзьвёх душ — гэта ёсьць зьявішча апошняга часу; ведама, былі такія выпадкі раней, але то былі адзінкі, а цяпер грамады людзей маюць дзьве душы. І вось нібы той селядзец з кілбасой у сярэдзіне вялікага посту, як гэта на вёсцы кажуць, важгаюцца між сабой гэныя „дзьве душы“ — якая зь іх перацягне. Хутчэй за ўсё ні тая, ні другая не перацягне, а так і будзе важгацца праз усё сваё жыцьцё. Ні Богу сьвечка, ні чорту качарга, як кажа народная прыказка. Ясна адно бязь сумліву — гэным людзям з раздвоенай сьвядомасьцю, маючым дзьве душы, дзьве бацькаўшчыны, ніколі не знайсьці сьцежку да разуменьня душы беларускіх народных грамад. Яны заўсёды будуць чужакамі, няпрошанымі гасьцьмі за сталом усенароднай бяседы. Бо каб зразумець душу беларускага народу, беларускага селяніна, беларускага работніка, адчуць іх нядолю, іх радасьць, гора, трэба выкінуць на сьметнік гістарычны ўсе тыя культурныя лахманы, што запэцканы ў братняй крыві, а гэта ня так лёгка ўдаецца і ня кожнаму дана такая мажлівасьць. Патрэбна шмат гадоў упартай і самаахварнай працы, каб можна было скінуць гэныя „культурныя“ лахманы і надзець беларускую вопратку, каб чалавек аканчальна мог знайсьці сябе й замацаваць сваю самаістую беларускую індывідуальнасьць. Ці яны здатны на гэта? Такіх прыкладаў у беларускім руху

пакуль што няма, і станоўча судзіць аб гэтым мы ня можам, ня маем даных, але ў пэўнай меры з таго, што адбылося на Беларусі за апошнія некалькі гадоў, з тае ролі, якую адыгрывалі абшарнікі і залежная ад іх засьцянковая ды хвальварачная шляхта, мяшчанства ды зрусыфікаваная ды сполёнізаваная інтэлігенцыя, можам сьцьвярджаць, што ўсе яны былі на другім баку барыкадаў у рэвалюцыйным змаганьні беларускага народу за волю ды незалежнасьць. Яны выявілі сябе актыўнымі ворагамі ня толькі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, але нат і культурнага адраджэньня беларускага народу, ім, бачыце, не падабаецца гэта „мужыцкая“, „хамская“ мова, у якой „азваўся беларус“, мова, у якой гаманіць дванаццацімільённая грамада працоўных людзей.

Рэшта — абшарнікі на Беларусі — ёсьць ці то польскія, ці то маскоўскія колёністы. Яны разглядаюць Беларусь як правінцыю Расеі ці то Польшчы і вядуць адкрытае змаганьне, абапіраючыся на сваю мэтраполію, з беларускім высвабадзіцельна-адраджэнскім, дзяржаўна-незалежніцкім рухам. Да гэтае соцыёлёгічнае групы можна аднесьці значную частку мяшчанства, шляхты, духавенства і старога царскага чыноўніцтва, якое і днём і ўначы марыць аб адным толькі — павароце былой царыцкай самадзяржаўна-дэспатычнай адзінай і непадзельнай Расеі.

Калі абшарніцкая буржуазія на Беларусі ня ёсьць нацыянальна-беларуская, то аб буржуазіі фабрычна-заводзкай ды прамыслова-гандлёвай ужо й казаць ня прыходзіцца — цалком не нацыянальна-беларуская. Амаль увесь гандаль, уся фабрычна-заводзкая прамысловасьць, усе банкі й нат мяняльныя канторы знаходзяцца ня ў руках беларускае нацыі, а пераважна ў рукох жыдоўскае буржуазіі. Характэрнай рысай гэтай соціолёгічнай групы людзкага грамадзянства — заўсёды орыянтацыя на сільнейшага, абы толькі захаваць свой добры гэшэфт. Да беларускай вызвольнай справы адносяцца з пункту гледжаньня рэальнай сілы й магчымасьці барышу і паколькі беларускі вызвольны рух не набыў яшчэ гэтульмі ўнутраных сіл, каб уся паўната ўлады на беларускай зямлі знаходзілася ў руках беларускага народу як большасьці жыхароў азначанай тэрыторыі — жыдоўская буржуазія адносілася ніякава; беларускі вызвольны рух мала яшчэ захапіў у сваім паступовым ходзе яе карчмарскія інтарэсы. Колізія інтарэсаў у поўнай меры выявіцца тагды, як праб’е апошні час уцелаішчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Тагды жыдоўская буржуазія, усім сваім кагалам, рынецца ў бой супроць беларускага вызвольнага руху поплеч з абшарніцка-колёнізацыйнай буржуазіяй. Ужо па сваёй унутранай прыродзе капітал мае тэндэнцыю паступовае цэнтралізацыі, а дзеля гэтага

вызваленьне Беларусі як самастойнай эканамічнай адзінкі зусім нявыгадна, з пункту гледжаньня буржуазнай эканомікі — гэта-ж будзе дэцэнтралізацыя, што ў корані пярэчыць буржуазна-капіталістычнаму спосабу вядзеньня гаспадаркі. А таму, з пункту гледжаньня жыдоўскага буржуя на Беларусі — хай лепш будзе вялікая Расея, хай будзе вялікая Польшча, але ніколі — меншая Беларусь, дзе абхват дзеяльнасьці зьменшаны і дзе пры меншым абароце капіталу менш будзе і зыск. Адным словам — жыдоўская буржуазія не зацікаўлена ў зьдзьясьненьні дзяржаўнай незалежнасьці на Беларусі.

Аб пролетарыяце на Беларусі мала што можна сказаць. У поўным сэнсе гэтага слова — пролетарыяту на Беларусі няма. А таму гэта, што няма на Беларусі шырока разьвітай фабрычна-заводзкай прамысловасьці. Ведама, некалькі істнуючых запалачных фабрык, скураных, мылаварных, лесапільных, ды некалькі мэханічных заводаў ня можа сьведчыць аб тым, што Беларусь такі ўжо *„забыты Богам край“*, што наагул ня мае ніякіх падвалін для разьвіцьця фабрычна-заводзкай прамысловасьці. Зусім наадварот, гэныя падваліны ёсьць, але надворныя абставіны аж да апошняга часу былі такія, што Беларусь, як аграрная калёнія, па хіжацку вызыскоўвалася чужаземным капіталам. За кошт экономічнага заняпаду Беларусі разьвіваліся маскоўскія ды польскія прамысловыя цэнтры, куды вывозіўся сыры матар'ял з Беларусі, як, напрыклад: лён, канаплянае семя, шэрсьць, воўна, скура, лясны матар'ял і г. д. Ды й то сказаць — Беларусь вельмі недасьледжана з боку разьвіцьця экономічных магчымасьцяў: зусім недасьледжана ані глеба з боку яе ўраджайнасьці, ані зямельныя нетры з боку магчымых залежаў вугля, а мо' й руды, а таму ўсялякае сьцьврджаньне, што Беларусь дзеля таго ня мае разьвітай фабрычна-заводзкай прамысловасьці, што ня мае да гэтага належных падвалін, ёсьць не навучнае сьцьверджаньне, галаслоўнае, ні на чым не абаснаванае. Такім чынам, пролетарыят як асобная кляса працуючых мо з часам і будзе на Беларусі, але ў цяпершчыне няма. Лічыць пролетарыятам некалькі дзясяткаў жыдоўскіх прыказчыкаў і дробных спэкулянтаў, само сабою, не прыходзіцца.

Ёсьць яшчэ адзін стан на Беларусі і досыць значны ў сваёй колькасьці — гэта дробныя рамесьнікі ды гандляры. У сваёй большасьці — гэта ёсьць жыдоўская цёмная й прыгнечаная бедната мястэчак і местаў. Іх экономічныя інтарэсы інады саўпадаюць з інтарэсамі работнікаў саўсім, а інады адчасьці. Саўпадаюць, калі дробны рамесьнік, як кожны работнік, імкнецца адзержыць поўнасьцю дабавачную вартасьць за

прадукт свае працы, і разыходзяцца, калі на кірмашы выраб рамесьніка ня вытрымліваець канкурэнцыі з фабрычна-заводзкім вырабам; саўпадаюць, калі дробны гандляр змагаецца з аптавіком за больш нізкую цану тавару, і разыходзяцца, калі работнікі закладаюць свае спажывецкія коопэрацыйныя крамы і г. д. Ва ўсялякім выпадку, у дробнага рамесьніка, які сам працуе, ёсьць больш пунктаў зыходжаньня з фабрычна-заводзкім работнікам, чым з капіталістам-фабрыкантам. Да гэтае групы можна аднесьці возчыкаў, дворнікаў, прыслугу ды іншых працуючых, а таксама ў значнай меры арандатараў панскіх двароў і шляхоцкіх фальваркаў.

Што да справы нацыянальна-беларускай, то работнікі, працуючыя на фабрыках і заводах, дробныя рамесьнікі, прыслуга, арандатары, дворнікі і г. д. вельмі зрусыфікаваны або сполёнізаваны, як, напрыклад, узяць Смаленск, Вільню, Беласток. Адносяцца да справы беларускага вызвальнага руху пасыўна, ня бачучы ў ім нічога для сябе канкрэтна-карыснага. Аднак гэта ёсьць вынік аднэй толькі несьвядомасьці, адарванасьці ад родных карэньняў. Кожны беларус, ці то работнік на фабрыцы ці заводзе, ці то дворнік, прыслуга, арандатар і г. д. — усе яны так або іначай зьвязаны зь вёскай, зьвязаны зь зямлёй. Адарваўшыся ад родных карэньняў, яны трацяць свае звычаі, мову, але пры першым стыку з роднай глебай узноў становяцца тым, чым былі — усе тымі-ж беларусамі з псыхолёгіяй земляроба.

Застаецца цяпер сялянства, якое адно толькі й захавала ў працягу сталецьцяў сваю беларускую самаістую індывідуальнасьць, захавала перад усім — *„скарб душы народнай“* — нашу родную мову. Беларускае сялянства і тыя культурныя сілы, якія выходзяць зь яго грамад, зьяўляецца як з боку нацыянальна-палітычнага, культурнага, гэтак і соцыяльна-экономічнага самым моцным фундамэнтам і цьвёрдай глебай у беларускім вызвольным руху. Сялянства складае абсолютную большасьць жыхароў Беларусі — амаль 90%; яно зацікаўлена ў першую чаргу, як малазямельнае, гэтак і безьзямельнае, у скасаваньні прыватнае ўласнасьці на зямлю, бо прыватная ўласнасьць — гэта абшарнік, гэта ёсьць труцень, дармаед. Быў час, калі ўся зямля на Беларусі належала толькі тым, хто сам на ёй працаваў. З бегам часу зямля стала пераходзіць шляхам конфіскацыі або, інакш кажучы, адкрытага грабежства ў рукі паасобных магнатаў, князёў ды баяр, ад якіх шляхам *„богоспасаемой“* ахвяры — да манастыроў ды касьцёлаў. Народ, спачатку вольны, самастойны гаспадар, прымушаецца некалькі дзён у тыдзень працаваць на пана. Пан становіцца валадаром усёй зямлі і над усім наро-

дам — паншчына, г. е. бязьмежнае панаваньне, дыктатура шляхты, магнатаў, ксянздоў ды папоў. У палавіне XIX сталецьця паншчына была скасавана, селянін атрымаў асабістую волю — ужо нельга прадаваць і купляць сялян, як нейкую жывёліну. Але засталася ў панскай няволі зямля. Трэба вызваліць зямлю. Зямля мае належаць выключна тым, хто сам ля яе працуе. Імкненьне сялян к дэканфіскацыі зямлі ёсьць зусім натуральнае й справядлівае. У імя праўды й справядлівасьці зямля мусіць быць здэконфіскавана й перададзена ў карыстаньне тым, хто сваёю ўласнай працай яе абрабляе, мусіць быць перададзена ў дажыцьцёвае карыстаньне бяз жаднага выкупу. І беларускае сялянства ў сваім змаганьні за вызваленьне зямлі вядзе змаганьне за зьніштажэньне непрацоўнай гаспадаркі, чым далучаецца да ўсясьветнага рэвалюцыйна-социялістычнага руху, зьяўляецца адным з магутнейшых атрадаў арміі змагароў за соцыялізм. Сялянства складае адну клясу працуючых на зямлі. Клясавыя супярэчнасьці беларускага сялянства з абшарнікамі ёсьць нацыянальныя супярэчнасьці — супярэчнасьці колёніі і мэтраполіі. Вось чаму соцыяльнае вызваленьне беларускага сялянства ёсьць у той-жа час і нацыянальна-палітычным і культурным вызваленьнем. Без вызваленьня зямлі немагчыма вызваленьне беларускае нацыі.

## IV

З усяго вышэй сказанага ясна вынікае — як соцыолёгічная структура беларускай нацыі, гэтак і ўзаемаадносіны ўнутры краіны істнуючых сіл. Беларуская нацыя ёсьць нацыя працоўная, нацыя працуючых ля зямлі ды працуючых ля верстакоў. Вызвальны ідэал беларускай нацыі можа быць толькі працоўны ідэал, ідэал соцыялістычны. Незалежная беларуская дзяржава можа быць толькі працоўная, соціялістычная, або яе зусім ня будзе нацыянальна-палітычны ды соцыяльны лад у незалежнай беларускай дзяржаве мае быць так пабудаваны, каб поўнасьцю была забясьпечана воля чалавечай асобы, права на працу і мінімум чалавечага дабрабыту. Незалежная беларуская соцыялістычная дзяржава мае быць вольным аб'яднаньнем раўнапраўных вырабцаў ды спажыўцоў. А дзеля гэтага вызвальнае змаганьне беларускай нацыі мае адбывацца пад чырвоным штандарам рэволюцыйнага соцыялізму. Іншага шляху няма.

Але неабходна ўсім і кожнаму добра ўцяміць — незалежнасьць Беларусі ніхто ня дасьць; незалежнасьць можа быць здабыта ў зма-

ганьні — за незалежную беларускую дзяржаўнасьць трэба як мага змагацца.

І да таго часу, пакуль Беларусь знаходзіцца, з аднаго боку, у маскоўскай няволі, а з другога — у польскай, наш покліч: руйнаваць вялікую Расею і вялікую Польшчу! Руйнаваць у імя культурнай, палітычнай і соцыяльнай незалежнасьці Беларусі.

Аднак, ці незалежнасьць Беларусі мае быць нашым апошнім ідэалам? Бязумоўна — не. Незалежнасьць у імя незалежнасьці, незалежнасьць як мэта ў сабе павінна быць намі адкінута. Незалежнасьць Беларусі ў шырокім разуменьні мае быць для нас адным з этапаў да поўнага вызваленьня беларускага народу, да поўнага вызваленьня ўсіх людзей і народаў. І той, хто змагаецца за волю ды незалежнасьць Беларусі ўжо гэтым самым вядзе змаганьне за волю й незалежнасьць усіх прыгнечаных ды паняволеных народаў, вядзе змаганьне за вызваленьне асабістай і калектыўнай чалавечай індывідуальнасьці. Наша апошняя мэта, апошні вызвальны ідэал беларускай нацыі мае быць вольная сувязь вольных народаў зямлі!

18.III.24

## „Уяўленьне“, паэма У. Жылкі.[4]

*Радасьць мая вялікодная*
*Сына, пазнаўшага Маці...*

Гэта ёсьць першыя дзьве строчкі поэмы „Уяўленьне“. Радасьць натуральная зусім зразумелая. Пазнаць сваю Маці-Беларусь далёка яшчэ ня ўсе сыны яе могуць — іх розум атуманены нявольніцкім духам, перад вачыма вісіць заслона цемры. Але пазнаць — гэта яшчэ не азначае ўявіць. Каб уявіць сабе ўсе добрыя й благія рысы свае Маці-Беларусі, уявіць яе долю, гора й радасьць, яе мінуўшчыну, цяпершчыну і будучыню — трэба ўмець яе палюбіць, трэба адчуць яе матчыну ласку, адчуць яе цярпеньні, мукі, адчуць магутную волю жыцьця, зразумець яе крыжовую постаць.

У беларускай літэратуры і поэзыі амаль аж да апошніх дзён вобраз Маці-Беларусі ня быў яшчэ выяўлены, а калі часам і рабіліся дзе-якія спробы, то гэны вобраз уяўляўся вельмі слаба, няясна, стускнела. І ня дзіва — гэта быў час, калі

[4] Перавясла. № 1. Лістапад 1923. С. 54—60.

*„Між пушчаў,*
*У гушчах*
*Лясох*
*У балотах*
*Ад слоты*
*Бяз слоў,*
*Бяз рыс,*
*Выразных твару,*
*Бяз жару*
*У сэрцах-горнах*
*Пакорна,*
*Як хмыз,*
*Ці гной*
*Чужога поля,*
*Гібеў, як стой,*
*У бязвольлі,*
*Ў няволі,*
*У нядолі*
*Мой люд“, —*

як кажа пясьняр, аўтор „Уяўленьня“.

Гэта быў час, як кажа і ў іншым мейсцы аўтор, калі

*„Ветры дзьмулі лютыя,*
*Спалі паслухмяныя*
*Вёскі сьцюжай скутыя.*

*Горш былі за ворагаў*
*Ёй сыночкі родныя —*
*Ждалі скону скорага*
*І сьлязы ніводнае“.*

Як-жа мог ясна ўявіць сабе вобраз свае Маці-Беларусі той яе сын, які ня меў *„рыс выразных твару“*, або той, які чакаў яе *„скону скорага“*.

І ціха-ціха плакала Яна, мадзеў у бязвольлі народ. Гэта быў час нябыцьця.

Плач быў у казцы і песьні народнай. Чулася беспатольная нуда ў гуках ліры, гусьляў і дуды.

Гэты сумны плач і гэта беспатольная нуда былі аснаўным матывам у дацяперашняй беларускай літэратуры і поэзыі.

Але вось зьяўляецца новы чалавек, які ўбачыў ясную зорку новых надыходзячых дзён. Гэтым новым чалавекам у беларускай поэзіі зьяўляецца аўтор поэмы „Ўяўленьне“ У. Жылка. Ён не да сьлёз і нуды заклікае. Наадварот — у ягоных словах чуецца моц, вера ў сябе, чуецца бадзёрны дух змаганьня. Ён голасна кажа:

*„Гэй, гаруны, і бядулі, і сумныя,*
*Ваш гэта чуецца плач?*
*Годзе! Бяседа ў нас шумная,*
*Ў хаце сялянскай Багач...“*

— *Будзьма вясёлымі.* — Вось покліч песьняра. Няма чаго сумаваць-гараваць. Трэба нешта рабіць, трэба — працаваць, а ня хныкаць. Асьвечанаму сыну мужыцкаму няма ў чым каяцца, адно: трэба змагчы *„сну палон“*, зрачыся *„нябыцьця мінуўшчыны“* і выйсьці на шырокі прастор творчасьці, каб выявіць скарб душы сваёй — сваю самаістую індывідуальнасьць.

А даволі толькі акінуць навокал сябе крытычным вокам, як убачыш, што

*„З будняў блядых*
*Чорная косьць*
*Раздзьмухала рух*
*Стараны*
*Вёсак і сёлаў“.*

Пачуеш, як

*„Пяруны завірух*
*У захапленьні*
*Грымяць аб адным.*
*Поўнагучна — Адраджэньне“.*

А за гэтым відны:

*“Бязьмерныя далі*
*І*
*Вялікія вартасьці“.*

О, а як

*„Мужычы голас*
*Званы упартасьцю*
*Разбух“.*

І пэўна-ж

*„Абрадзіцца ён*
*Новых дзён*
*Папараць-кветкай“.*

Мо хто спыніцца над гэтым і спытае: няўжо гэта ёсьць так, няўжо адна толькі *„чорная косьць“* сама без дапамогі *„белай“ „раздзьмухала рух стараны“*? Адказ на гэта запытаньне дужа ясны й просты: так, толькі ў *„чорнай косьці“* захаваўся той дух, які і *„раздзьмухаў рух стараны“* — *„белая“*-ж косьць была поплеч з ворагамі. Толькі ў *„чорнай косьці“* —

*„... Дух*
*Даючы рух,*
*Жыцьцё,*
*Праз крыўду, зьдзекі*
*І забыцьцё*
*З прадвеку,*
*З гадоў старых*
*Быў захаваны“.*

А цяпер гэны дух абудзіўся і

*„Сягнуў тварыць.*
*І з першых дзён*
*Змог сну палон*
*І ночы глуш,*
*Мужычых душ*
*Зьявіў красу*
*І бель“.*

У чым-жа выявілася гэная краса і бель *„мужычых душ“*?. А вось у чым:

*„Мячы маланак пелі*
*І навальніцы йшлі*
*І гром вясьняным хмелем*
*Паіў абшар зямлі.*
*А вечарамі ў неба*
*Хтось пеўня выпускаў*
*І аб штодзённым хлебе*
*Там праўды ён шукаў.*
*І да глухой паўночы*
*Вылізваў цемнату —*
*Сачылі зь верай вочы*
*Пажараў яснату“.*

Абудзіўшыйся мужычы дух, руйнуючы, пачаў тварыць. У гэтым і ёсьць яго *„краса і бель“*. Бо тварыць — знача руйнаваць, а руйнаваць — знача тварыць. Зусім немагчыма тварыць новыя вартасьці, каб не руйнаваць старыя. У гэтым ёсьць аснаўны закон людзкога жыцьця. Каб збудаваць нешта новае, неабходна зруйнаваць аджыўшае, старое. Кожная новая вартасьць вымагае зьнічтажэньня старой — у гэтым ёсьць сутнасьць поступу. Беларускае адраджэньне ёсьць новая культурная і соцыяльная вартасьць. Самым фактам свайго ўзьніку яна ўжо руйнуе нейкую старую вартасьць: руйнуе старыя паняцьці і старую псыхолёгію і традыцыю, старую ідэалёгію, стары сьветагляд. Беларускае адраджэньне мае сваю традыцыю, сваю ідэалёгію, свой уласны ясна акрэсьлены сьветагляд. І першае, што руйнуецца фактам адраджэньня Беларусі — гэта вялікая *„турма народаў“* Усходняе Эўропы *„Единая и недилимая Россія“*. Гэта неабходна дзеля жыцьця Беларусі. Вялікая Расея мусіць быць дзяліма — гэтага вымагае поступ. Вялікая Расея — гэта ўжо мінуўшчына, мо адчасьці яшчэ й цяпершчына. Вольная Беларусь — будучына. І той культурны зьмест, які хаваецца за формулай *„Единая неделимая Россія“* — ужо ўстарэў, аджыў сваю пару:

*„Зацьвіўшае плесьняй*
*Ня здоляе жыць“, —*

Як вельмі ўдачна зазначае пясьняр.

Робяцца спробы-патугі гальванізаваць гэны *„жывы труп“*, але

*„Дарма свае сілы*
*Зьбірае зіма, —*
*У друзгах ня міла*
*„народаў турма“.*
*Пракляцьце „Расея“*
*Прапала на век,*
*Ня страшна завея*
*Бліскучых павек“.*

Пад ударамі рэволюцыі Расея распалася на свае складаныя часткі. На руінах былой вотчыны дома Романавых гудзе новае жыцьцё. У гэты час і

*„У крывіцкіх вёсках*
*Узьняўся гуд*
*І ў адгалосках*
*Узрастае цуд“.*

Як вынік гэтага *„гуду“* — беларускай рэвалюцыі —

*„Шырокаю тропай*
*Ў час гэты „спакус“*
*На мапу Эўропы*
*Ўзыйшоў Беларус.*

*У лапцях лазовых*
*Па сьвітцы рушнік*
*І сьветам Хрыстовым*
*Зіяе аблік“.*

Аднак, узіраючыся прагавітымі вачыма ў далейшыя падзеі беларускага адраджэнскага руху, у падзеі беларускай рэвалюцыі, пясьняр мімавольна ставіць запытаньне:

*„Чаго рады быў?*
*Ці запраўды далі*
*Вабілі ясьненька?“*

У гэтым запытаньні чуецца трывога. Але што сталася? Скуль магло паўстаць такое запытаньне? Мо гэта знак разчараваньня? О, не! Аб

разчараваньні тут ня можа быць і гутаркі! Прычына, змусіўшая песьняра паставіць такое грознае запытаньне, ляжыць не ў суб'ектыўным яго адчуваньні, а ў тых аб'ектыўных абставінах, якія склаліся на ўсходзе Эўропы і спынілі ўзрост беларускай рэвалюцыі. Сталася нешта страшнае, нялюдзкае:

*„Вамі, Крывічы,*
*Завалодаў вораг,*
*Насьмяяўся з мараў“...*

Скінуўшы кайданы маскоўска-царскага гнёту і падняволеньня, Беларусь напярэдадні свайго яснага новага вольнага жыцьця пападае ў новую няволю. Апынуўшыся між двух варожых сіл, ня мае змогі справіцца зь імі — падае ахвярай злачынства. Патаптана права народа, грабуецца народнае дабро. Ганебным Рыжскім мірам дзеліцца Беларусь на часьці. Устанаўляюцца парадкі зьдзеку гвалту і самаўпраўства; маральна і фізычна вынішчаецца беларускі народ; гінуць здабыткі беларускай рэвалюцыі. І песьняр зь вялікім болем зазначае, як

*„Сълезным туманам*
*Засьцяцца вочы.*
*Ні праўды сьвятое,*
*Ні волі тое.*

*Чужынцы, напасьці,*
*Пакута падзелам.*
*Па беламу целу*
*Знакам ад нажа*
*Крывавіць мяжа.*

*І кажуць прапасьці“...*

Як гэта: Беларусь мае *„прапасьці“*, загінуць? Мо і загіне?

А хто вось дасьць адказ на сёе запытаньне: што будзе заўтра? Адказу няма! Пачынаюцца хістаньні.

*„Дзевы дзяньніцы*
*Кленчуць на ўсход“,*

Дзе

*„У кроплях расіцы*
*Буйны ўмалот“.*

Хістаньне й бязьверра — вось, нібы тая пошасьць, шырыцца між людзьмі. Адно толькі —

*„Усюды прароцтвы“...*

Але —

*„Хто-ж іх пайме“.*

А

*„Розум-убожства*
*Верыць зіме.*
*Вецер сьлязьліва*
*Уторыць яму;*
*Лозы жахліва*
*Вяжуць думу“.*

І пясьняр з дакорам пытае:

*„Толькі-ж бязь меры*
*Сьлёзы чаму?*
*Хто у зьняверы*
*Плача на цьму?“*

На пастаўленае запытаньне: быць ці ня быць Беларусі, пясьняр дае горды адказ:

*„Не пазбыць*
*Ня міне*
*Чаму быць“.*

Калі *„розум-убожства“* даводзіць — быць зіме, то вер у скоры прыход вясны. Трэба толькі хацець, трэба верыць — і будзе незалежная Беларусь. Чакаема часу, калі

*„... Юры*
*З вясной затрубіць зоў“.*

Гэты час надыходзе. Пясьняр верыць у хуткі прыход беларускае рэвалюцыі, а шлях адраджэньня Беларусі — гэта ёсьць шлях рэвалюцыі. На сілу адзіны ёсьць адказ — сіла. Моральнае права на ўжываньне гэнай сілы — у імя сваёй волі ды незалежнасьці — Беларусь мае. Сваім нячуваным цярпеньнем, сваім паніжэньнем здабыла гэта права. Таму зразумелы словы песьняра, калі ён кажа:

*„Я славу вам хаты*
*На дзідзе вярну.*
*Голас яе..*
*Бурай пяе...*
*...*
*Каб-жа Бог*
*Дапамог“.*

Сваю невялічкую паэму, па ліку надрукаваных страніц, але вельмі багатую па зьместу, дзе кожны сказ то новы вобраз, новая думка, новая смага творчасьці і покліч да змаганьня, — пясьняр канчае прарочым словам:

*„Народы, прадбачу:*
*Шпаркасьць коняў*
*Пагоні*
*Суліць удачу“.*

Аўтор паэмы „Уяўленьне“ У. Жылка моцна верыць у тое і прадбачыць, што

*„Над „сёньня“ золкім*
*Будучына*
*Квяцістай пуцінай*
*Сьцеле вясёлкі“.*

Гэткі ў агульных рысах аснаўны зьмест поэмы „Уяўленьне“.

Наколькі можна судзіць, аўтар поэмы „Уяўленьне“ паставіў сабе пэўную мэту — уявіць сучасны беларускі рэвалюцыйна-высвабадзі-

цельны адраджэнскі рух (скуль, між іншым, і само найменьне поэмы). Ці ўдалося гэта яму? Адказ можа быць толькі адзін: так, песьняру ўдалося дасягнуць свае мэты. Аснаўныя моманты нядаўна адбытых рэволюцыйных падзеяў схопляны праўдзіва. Асабліва-ж праўдзіва выяўлена рэволюцыйная роля сялянства ў беларускім адраджэньні.

Што датыча чыста мастацкай стараны поэмы, то неабходна зазначыць, што напісана яна вельмі жывой і ўзорна-квяцістай мовай, зусім новым у беларускай поэзіі вершам, і, бязумоўна, як па форме, гэтак і па зьместу, зьяўляецца вялікім укладам у скарбніцу беларускай літэратуры. Нават больш можна сказаць — дае новы напрамак у беларускай поэзіі.

Поэму „Уяўленьне“ варта кожнаму прачытаць і, так сабе, на адзіноце добра яе прадумаць, разважыць, каб зь веры ў хуткі прыход сьветлай будучыны сялянскай Беларусі магла радзіцца вера-пераконаньне.

2.XI.23

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

# БІБЛІЯГРАФІЯ ТАМАША ГРЫБА

*Перад Вамі першая спроба складаньня бібліяграфіі Тамаша Грыба. Яна не прэтэндуе на вычарпальнасьць і на тое ёсьць аб'ектыўныя прычыны. Па-першае, некаторыя перыядычныя выданьні ці нумары дадзеных выданьняў, дзе публікаваўся Тамаш Грыб, не захаваліся. Па-другое, дасьледнікам вядомыя далёка ня ўсе псэўданімы, якімі падпісваў ён свае тэксты. Па-трэцяе, некаторыя пэрыёдыкі, зь якімі супрацоўнічаў Грыб, былі недаступныя пры складаньні гэтай бібліяграфіі. Тым ня менш спадзяемся, што гэтая публікацыя выкліча цікавасьць у адмыслоўцаў і паспрыяе паскарэньню ўжо распачатай працы па зборы й выданьні пісьмовай спадчыны выдатнага дзеяча беларускага нацыянальнага руху першай паловы XX ст.*

*Бібліяграфія Тамаша Грыба складзеная па праблемна-храналягічным прынцыпе. Усе публікацыі падзеленыя на тры групы (прыжыцьцёвыя публікацыі Т. Грыба; публікацыя дакумэнтальнай спадчыны Т. Грыба; тэксты, прысьвечаныя жыцьцю й творчасьці Т. Грыба). У кожнай з групаў пазыцыі пададзеныя ў храналягічна-альфабэтным парадку. У назвах публікацыяў захаваныя лексічныя асаблівасьці й правапіс арыгіналаў.*

*Падчас працы над гэтай бібліяграфіяй былі выяўлены яшчэ пяць псэўданімаў і крыптанімаў, якімі карыстаўся Тамаш Грыб. Гэта — М. Тумашэвіч, A.N., N-ka, Tumka z Palac, Т-ъ.*

*У гэтую бібліяграфію не ўвайшлі тэксты Тамаша Грыба, апублікаваныя ім у газэце „Родный край“ (за выключэньнем аднаго нумару); часопісе „Бюлетэнь загранічнай групы беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў“ (акрамя №№ 2, 8, 9), часопісе „Саха“ (у асабістым фондзе Грыба, які захоўваецца ў нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, ёсьць рукапісы артыкулаў, дасланыя ім у рэдакцыю гэтага пэрыёдыка), сумесна са сваімі сябрамі па Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (напрыклад, „Извещение Белорусской*

*партии С-Р“ (1923 г.), па-руску й па-ўкраінску ў часопісах, выдаваных расійскімі й ўкраінскімі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі ў эміграцыі (у гэтай публікацыі прыведзены толькі два вядомыя нам артыкулы ў часопісах „Життя“ й „Вестник Социалистической Лиги Нового Востока“). Магчыма, што Тамаш Грыб браў удзел у выданьні часопіса „Бюлетэнь Аб’еднаньня Беларускіх Студэнтскіх Арганізацый“ (Прага, 1924 г., 1931 г., 1934 г.). Але ідэнтыфікаваць ягоныя артыкулы ў гэтым выданьні складана, бо ўсе матэрыялы „Бюлетэня АБСА“ непадпісаныя. Акрамя таго, дзеяч займаўся перакладамі. Паводле зьвестак Арсеня Ліса, Тамаш Грыб пераклаў на беларускую мову брашуру М. Туган-Бараноўскага „Аб кааперацыйным ідэале“. Апошняй працай, якую дзеяч пачаў, але з прычыны хваробы й заўчаснай сьмерці не давёў да канца, быў пераклад у чэскую мову кнігі Віктара Чарнова „Дэмакратыя, дыктатура, сацыялізм“. Гэтыя пераклады не ўвайшлі ў дадзеную бібліяграфію.*

*Крытычныя заўвагі, а галоўнае, дапаўненьні да бібліяграфіі шчыра вітаюцца.*

## 1. Прыжыцьцёвыя публікацыі Т. Грыба

### 1.1. Публікацыі ў беларускай мове

#### 1.1.1. Публікацыі ў газэце „Грамадзянін“

1. **Небарака, Антон. Новы беларускі ўрад** // Грамадзянін. № 3. 20 студня 1919. С. 1—2.
2. **Небарака, А. Да каго прылучацца** // Грамадзянін. № 4. 24 студня 1919. С. 2—3.
3. **Небарака, Антон. Што такое ўлада сялянскіх і работніцкіх Радаў** // Грамадзянін. № 4. 24 студня 1919. С. 3.
4. **N-ka, A. Pamiż wuczycielou** // Hramadzianin. № 5. 31 studnia 1919. S. 3.
5. **N-ka, A. Szto takoje uława sialanskich i rabotnickich radau** // Hramadzianin. № 5. 31 studnia 1919. S. 2—3.
6. **Niebaraka, Anton. Szto rabić?** // Hramadzianin. № 6. 2 lutaho 1919. S. 1—2.
7. **Tamasz Ge. Charczawyja sprawy na Biełarusi i Litwie** // Hramadzianin. № 6. 2 lutaho 1919. S. 2—3.
8. **Tumka z Palań. Jaki pawinen być zakon ab ziamle** // Hramadzianin. № 7. 7 lutaha 1919. S. 3.

9. **Niebaraka, Anton. Szto takoje swaboda** // Hramadzianin. № 8. 10 lutaha 1919. S. 2—3; № 9. 15 lutaha 1919. S. 2—3; № 10. 18 lutaha 1919. S. 2—3; № 11. 22 lutaha 1919. S. 2—3; № 12. 27 lutaho 1919. S. 2—3; № 13. 28 lutaho 1919. S. 2—3.
10. **Tumka z Palac. Jak zmahacca z darażynioj** // Hramadzianin. № 8. 10 lutaha 1919. S. 3.
11. **Tumka z Palac. Jak arhanizawać kaaperatyu** // Hramadzianin. № 11. 22 lutaha 1919. S. 3—4.
12. **A. N. Z Horadni** // Hramadzianin. № 13. 28 lutaho 1919. S. 3.
13. **Niebaraka, Anton. Pramowa buntauszczyka** // Hramadzianin. № 14—15. 7 sakawika 1919. S. 2—3; № 16. 11 sakawika 1919. S. 2—3; № 17. 14 sakawika 1919. S. 2—3; № 18. 18 sakawika 1919. S. 2—3; № 20. 25 sakawika 1919. S. 2—3; № 21. 29 sakawika 1919. S. 2—3.
14. **Tamasz Ge. Ci możam my dalej mauczać?** // Hramadzianin. № 14–15. 7 sakawika 1919. C. 1—2.
15. **Tamasz Ge. Uschod, ci Zachad?** // Hramadzianin. № 16. 11 sakawika 1919. S. 1—2.
16. **G-be. Dwa hady rewalucyi** // Hramadzianin. № 17. 14 sakawika 1919. S. 1—2.
17. **G-be. U czym nasza siia?** // Hramadzianin. № 18. 18 sakawika 1919. S. 1—2.
18. **Tamasz Ge. Ab dziarïaunaj uiadzie** // Hramadzianin. № 19. 21 sakawika 1919. S. 1—2.
19. **G-be. Jany nastupajuć!** // Hramadzianin. № 20. 25 sakawika 1919. S. 1—2.
20. **T. Teatr** // Hramadzianin. № 21. 29 sakawika 1919. S. 3—4.
21. **Tamasz Ge. Pany nia spiać** // Hramadzianin. № 21. 29 sakawika 1919. S. 1—2.

#### 1.1.2. Публікацыі ў газэце „Селянская доля“

22. **Глеба, Т. Чаго прыйшлі лапчывыя паны на Беларусь** // Сялянская доля. № 1. Чэрвень 1921. С. 6—8.
23. **Глеба, Т. Не ў магату далей маўчаць** // Сялянская доля. № 2. Чэрвень 1921. С. 4—6.
24. **Небарака, А. Сьмяюся я над вамі** // Сялянская доля. № 2. Чэрвень 1921. С. 16.
25. **Т-ш. Уся зямля працоўнаму народу** // Сялянская доля. № 2. Чэрвень 1921. С. 28—29.
26. **Глеба, Т. Арганізуймося** // Сялянская доля. № 3. Жнівень 1921. С. 10—12.

27. **Небарака, Антон. Сучасныя думкі** // Сялянская доля. № 3. Жнівень 1921. С. 23—27.
28. **Тумашэвіч, М. Мы і яны** // Сялянская доля. № 3. Жнівень 1921. С. 6—9.
29. **Т-ш. Хто мае права на зямлю** // Сялянская доля. № 3. Жнівень 1921. С. 17—19.
30. **Глеба, Т. Перадавіца** // Сялянская доля. № 4. Лістапад 1921. С. 1—6.
31. **Небарака, Антон. Сучасныя думкі** // Сялянская доля. № 4. Лістапад 1921. С. 21—26.
32. **Т-ш. Беларусы ў Амэрыцы** // Сялянская доля. № 4. Лістапад 1921. С. 16—19.
33. **Глеба, Т. Трэ' быць на варце** // Сялянская доля. № 5. Сьнежань 1921. С. 7—11.
34. **Глеба, Т. Перадавіца** // Сялянская доля. № 1 (6). Сакавік 1922. С. 1—4.
35. **А. Н-ка. Арганізацыя беларускай моладзі** // Сялянская доля. № 2 (7). Красавік 1922. С. 11—14.

#### 1.1.3. Публікацыі ў часопісе „Перавясла“

36. **Грыб, Т. „Уяўленьне“, поэма У. Жылкі** // Перавясла. № 1. 1923. С. 54—60.

    Рэцэнзія на паэму У. Жылкі „Уяўленне“.
37. **Т-ш. Мэты і заданьні** // Перавясла. № 1. 1923. С. 14—15.
38. **Грыб, Тамаш. Аснаўныя падваліны вызвольнай ідэолёгіі беларускай нацыі** // Перавясла. № 2. 1924. С. 28—39.
39. **Грыб, Тамаш. Спадчына** // Перавясла. № 2. 1924. С. 54—57.

    Рэцэнзія на зборнік вершаў Янкі Купалы „Спадчына“ (Менск, 1922. — 221 с.)
40. **Т. Г. Водгульле** // Перавясла. № 2. 1924. С. 58—60.

    Рэцэнзія на зборнік вершаў Якуба Коласа „Водгульле“ (Менск, 1922. — 107 с.)

#### 1.1.4. Публікацыі ў часопісе „Бюлетэнь загранічнай групы беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў“

41. **Грыб, Т. Арганізацыя працоўнага сялянства** // Бюлетэнь загранічнай групы партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. № 2. 19 сьнежня 1925. С. 4—8.

**42. Т-ш. Пад знакам „беларусізацыі“** // Бюлетэнь загранічнай групы партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. № 2. 19 сьнежня 1925. С. 1—4.
**43. Грыб, Тамаш. Віленскае пытаньне** // Бюлетэнь загранічнай групы партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. № 8. Сакавік 1928. С. 12—23.
**44. Т-ш. На шляху да вызваленьня** // Бюлетэнь загранічнай групы партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. № 8. Сакавік 1928. С. 5—11.
**45. Грыб, Тамаш. На рубяжы двух стагодзьдзяў** // Бюлетэнь загранічнай групы партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. № 9. Жнівень 1928. С. 5—17.
**46. Т-ш. Судовая справа „56“ у Вільні** // Бюлетэнь загранічнай групы партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. № 9. Жнівень 1928. С. 19—24.

**1.1.5. Публікацыі ў часопісе „Іскры Скарыны“**

**47. Hryb, T. Kulturnaje budaunictva novaj Biełarusi** // Iskry Skaryny. № 1. Lipień 1931. S. 2—9.
**48. Hryb, Tamaš. Miejsca i značańnie Franciška Skaryny u sučasnym biełaruskim vyzvalna-adradženskim ruchu** // Iskry Skaryny. № 1. Lipień 1931. S. 14—15; № 2. Listapad 1931. S. 12—14.
**49. Hryb, T. Intelihencyja i narod** // Iskry Skaryny. № 2. Listapad 1931. S. 1—6.
**50. Hryb, Tamaš. Adryvak z ramanu „Paustancy“** // Iskry Skaryny. ą 3. Studzień 1934. S. 15—18.
**51. Hryb, Tamaš. Na dva fronty!** // Iskry Skaryny. № 3. Studzień 1934. S. 5—13.
**52. Hryb, Tamaš. U 50-tyja uhodki časopisi „Homan“** // Iskry Skaryny. № 3. Studzień 1934. S. 31—35.
**53. T. Što takoje nacyjanał-demakratyzm?** // Iskry Skaryny. № 3. Studzień 1934. S. 35—36.
**54. T-š. Vilenskaje pytańnie** // Iskry Skaryny. № 3. Studzień 1934. S. 27—31.
**55. Hryb, Tamaš. Relihijnaja sprava na Biełarusi** // Iskry Skaryny. № 4. Travień 1934. S. 55—65.
**56. Hryb, Tamaš. Šlacham Skaryny** // Iskry Skaryny. № 4. Travień 1934. S. 1—10.

57. **T-š. Haspadarčaje adasableńnie Zachodniaj Biełarusi** // Iskry Skaryny. № 4. Travień 1934. S. 70—71.
58. **Gleba, T. Što takoje nacyjanał-demakratyzm?** // Iskry Skaryny. № 5. Travień 1935. S. 4—48.
59. **Hryb, Tamaš. Da pytańnia ab pachodżańni herbu Pahonia** // Iskry Skaryny. № 5. Travień 1935. S. 69—77.
60. **N-ka. U Savieckaj Biełarusi** // Iskry Skaryny. № 5. Travień 1935. S. 82—85.

#### 1.1.6. Публікацыі ў часопісе „Золак“

61. **Т. Г. Нацыя, як прадмет навуковага вывучэньня** // Золак. № 2. Люты—сакавік 1933. С. 9—14.
62. **Т. У 70-я угодкі беларускага сацыялістычнага друку** // Золак. № 3. Сьнежань 1933. С. 9—13.
63. **Т-г. У 50-я ўгодкі сьмерці Карла Маркса** // Золак. № 3. Сьнежань 1933. С. 1—5.
64. **Т. Г. Самаарганізацыя працоўнага народу** // Золак. № 1 (4). Сакавік 1934. С. 7—12; № 2 (5). Чэрвень 1934. С. 9—10; № 1 (6). Сьнежань 1935. С. 5—7.
65. **Індустрыялізацыя, як чыньнік вызваленьня калёніяльных народаў СССР (Тэзісы дакладу Д-ра Т. Грыба, які быў прачытаны на паседжаньні Украінскага Сацыялёгічнага Інстытуту ў Празе дня 15.ІІ.1936 г.)** // Золак. № 1 (7). Чэрвень 1936. С. 13.

#### 1.1.7. Публікацыі ў іншых пэрыядычных выданьнях

66. **Н-ка, А. Няхай-жа будзе нацыянальная еднасьць** // Родны край. № 5. 10 ліпня 1919. С. 1—2.
67. **Грыб, Т. Пісьмо ў рэдакцыю** // Грамадскі голас. № 20. 5 верасьня 1924. С. 4.
68. **Т. Г. Зямельныя адносіны на Беларусі** // Наш Прамень. № 1. 1927. С. 30—37.
69. **Грыб, Тамаш. Да пытаньня аб навуковым досьледзе і вывучаньні Беларусі** // Студэнская думка. № 1 (8). 1928. С. 4—9.
70. **Грыб, Тамаш. Мэты і заданьні АБСА** // Студэнская думка. №1 (8). 1928. С. 16—17.
71. **Т. Г. Беларускі заграsevere архіў у Празе** // Калосьсе. № 1. 1935. С. 72.
72. **Т. Г. Выстаўка абразоў Аркадзя Салаўёва** // Калосьсе. № 2. 1935. С. 135—136.

**73. Грыб, Т. И.И. Лаппо: Литовскій Статутъ 1588 года** // Калосьсе. № 1 (5). 1936. С. 47—50.

Рэцэнзія на працу Лапо „Литовскій Статутъ 1588 года. Том I. Изслъдованіе. Часть первая. Kaunas, 1934, бач. XVI+476“.

**1.2. Публікацыі ў чэскай мове**

**74. Hryb, T. Kulturní ústavy v sovětské Bilé Rusi** // Slovansky přehled. Ročník XXIV. 1932. S. 129—134.

**74. T. H. BSSR** // Slovanský přehled. Ročník XXV. 1932. S. 292—293.

**75. Hryb, T. BSSR** // Slovanský přehled. Ročník XXVI. 1934. S. 58—59.

**76. T. H. Bělorusové** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 110.

**77. T. H. Bělorusové v Polsku** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 200.

**78. T. H. BSSR** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 21.

**79. T. H. BSSR** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 67-68.

**80. T. H. BSSR** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 105.

**81. T. H. BSSR** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 196.

**82. T. H. BSSR** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 245—246.

**83. T. H. Dr. Mikola Il'jasevic** // Slovanský přehled. Ročník XXVII. 1935. S. 47—48.

**84. Hryb, T. Čístka v Běloruské SSR** // Slovanský přehled. Ročník XXIX. 1937. S. 269—270.

**85. Hryb, T. Z běloruské poesie** // Slovanský přehled. Ročník XXIX. 1937. S. 40—41.

**1.3. Публікацыі ў іншых мовах**

**86. Гриб, Т. Білорусь на переломі** // Життя. № 3. Липень 1923. С. 22—26.

**87. Гриб, Т. В Западной Белоруссии** // Вестник Социалистической Лиги Нового Востока. Май 1928. № 1. С. 12—13.

**2. Публікацыя дакумэнтальнай спадчыны Т. Грыба**

**88. Калеснік, У. Пражскі эпісталярый** // Полымя. № 10. 1990. С. 190—229.

Лісты Т. Грыба да У. Жылкі (Прага, Радоцін, 1923—1924 гг.) (13 лістоў — 1923 г., 1 ліст — 1924 г.).

**89.** **Грыб, Т. На два франты! Галоўныя засады вызвольнай праграмы беларускага народу** / публ., заўв. У. Ляхоўскага // Спадчына. № 4. 1995. С. 88—120.

Фрагмэнт працы Т. Грыба „На два франты!“.

**90.** **Эсэры** / падрыхт. публ., камент. У. Ляхоўскага // Спадчына. № 4. 1995. С. 121—151.

Прадмова Т. Грыба да дакладу Я. Мамонькі „На ўзломе“, прачытанага на нарадзе Загранічнай групы БПС-Р 7 ліпеня 1921 г.; ліст Т. Грыба да М. Шапавала (Бэрлін, сакавік 1921 г.).

**91.** **З рукапіснай спадчыны Т. Грыба** / прадм., падрыхт. публ., заўв. У. Ляхоўскага // Спадчына. № 3. 1996. С. 103—123.

Ліст Т. Грыба ў Віленскі акружны камітэт БПС-Р (Прага, 1922 г.); выступленьне Т. Грыба па дакладу В. Чарнова (Прага, восень 1922 г.); артыкул „Вялікаруская дэмакратыя і яе адношаньне да нацыянальнага пытаньня“ [1925 г.]; артыкул „Тэзісы аб культурна-нацыянальным аб’яднаньні беларускага студэнцтва ў Празе“ (травень 1925 г.).

**92.** **Гесь, А., Ляхоўскі, У. Яшчэ адзін след Беларускага загранічнага архіва ў Празе** // Замежная архіўная беларусіка: Матэрыялы міжнар. навук. канф.: 25—26 красавіка 1996 г., Мінск. Мінск: БелНДІДАС, 1998. С. 27—30.

Ліст Т. Грыба да К. Езавітава (Прага, [1935 г.]).

**93.** **Грыб, Т. З віру дзён мінаючых** / прадм., публ. Я. Кісялёвай // Маладосць. № 11. 1997. С. 229—252; № 2. 1998. С. 242—250.

Не апублікаваны ў часопісе „Калосьсе“ артыкул Т. Грыба.

**94.** **Зубко, В. «Curriculum vitae» Вацлава Ластоўскага і Тамаша Грыба** // Беларускі гістарычны часопіс. № 3. 2003. С. 62—71.

Жыцьцяпіс Т. Грыба (лістапад 1927 г.).

**94.** **Ямкова, О. „Празький період“ життя та праці Томаша Гриба** // Пам’ятки: археогрофічний щорічник. Т. 6. 2006. С. 103—117.

Артыкул „Білорусь на переломі“ (пададзены Т. Грыбам у рэдакцыю часопісу „Життя“ (1924—1925 гг.); ліст Т. Грыба да кіраўніцтва Ўкраінскага пэдагагічнага інстытуту імя М. Драгаманава (Прага, лістапад 1928 г.); даведка пра навуковую працу Т. Грыба як супрацоўніка Ўкраінскага інстытуту грамадазнаўства.

**95. Ямкова, В.; Лебедзева, В. Беларусы пішуць Шапавалу** // Arche = Пачатак. № 3. 2009. С. 452—478.

Лісты Т. Грыба да Мікіты Шапавала (Берлін, 1921 г.; Прага, 1921 г.; Радоцін, 1927 г.).

**96. Грыб, Тамаш. Два артыкулы** / падрыхт. да друку Л. Юрэвіча // Запісы БІНіМ. № 35. 2012. С. 104—180.

Артыкулы „Што такое нацыянал-дэмакратызм“ (Іскры Скарыны. 1935. № 5. С. 4—48) і „Да пытаньня аб паходжаньні гербу Пагоня“ (Іскры Скарыны. 1935. № 5. С. 69—77).

**97. Шчур, Макс. Беларусь у праскім часопісе „Slovanský přehled“ (1925—1938)** // Запісы БІНіМ. 2012. № № 35. С. 401—441.

Артыкулы Т. Грыба, надрукаваныя ў 1935—1937 гг. у часопісе „Slovanský přehled“ (на беларускую мову пераклаў Макс Шчур).

**98. Грыб, Тамаш. Рэлігійная справа на Беларусі** / падрыхт. да друку Л. Юрэвіча // Запісы БІНіМ. № 36. 2013. С. 297—313.

Артыкул Т. Грыба, надрукаваны ў часопісе „Іскры Скарыны“ (№ № 4. Травень 1934. С. 55—65).

### 3. Тэксты, прысьвечаныя жыцьцю й творчасьці Т. Грыба

**99. Сахараў, С. Др. Тамаш Грыб у святле сваіх пісьмаў** // Калосьсе. № 1 (14). 1938. С. 53—57.

**100. „Урачыстая Акадэмія ў чэсьць с.п. Дра Т. Грыба“** // Наш Золак. 23 чэрвеня 1938. С. 14—16.

**101. Черноў, В. Прамова на грамадзкай паніхідзе па Т. Т. Грыбу** // Наш Золак. 23 чэрвеня 1938. С. 6—13.

**102. Черноў, В. Т. Т. Грыб. (надгробнае слова)** // Наш Золак. 23 чэрвеня 1938. С. 4—6.

**103. Шутовіч, Я. Др. Тамаш Грыб** // Калосьсе. № 1 (14). 1938. С. 52—53.

**104. Čj. Ph. Dr. Tomáš Hryb** // Slovanský přehled. Ročník XXX. 1938. S. 83—84.

**105. Ліс, Асень. Рыцар беларускай свабоды: Да стагоддзя народзінаў Т. Грыба** // Спадчына. № № 4. 1995. С. 80—87.

**106. Иванов, Н. Идея независимости Беларуси в политической мысли Томаша Гриба** // Cesty k národnímu obrození: běloruský a český model: sborník příspěvků z konference konané 4.—6.7.2006 v Praze / Editoři Alena Ivanova, Jan Tuček. Praha: UK FHS, 2006. S. 373—384.

107. **Ямкова, О. „Празький період“ життя та праці Томаша Гриба** // Пам’ятки: археогрофічний щорічник. Т. 6. 2006. С. 103—117.

*Укладаньне й прадмова Андрэя Бучы*

***Павал Котаў***
*Прага*

# БЕЛАРУСКІЯ МЕСЦЫ Ў ПРАЗЕ

Прага — ўнікальны горад. Такое цьверджаньне мала ў каго выклікча пярэчаньні. Сфармаваны амаль тысячагодзьдзем архітэктурны ансамбль сваімі памерамі й захаванасьцю робіць Прагу выбітным скарбам эўрапейскай культуры. Але для беларусаў Прага мае сваю ўнікальнасьць. Па-за межамі этнічных беларускіх абшараў наўрад ці знойдзецца яшчэ адзін горад, які мае такую даўгую й багатую гісторыю беларускай прысутнасьці й дзейнасьці. Прага захавала свой гістарычны твар і, дзякуючы гэтаму, дорыць беларусам магчымасьць дакрануцца да ўласнай гісторыі празь мясьціны, якія памятаюць і нагадваюць пра нашых землякоў, што з розных прычынаў апынуліся ў свой час у чэскай сталіцы.

Ніжэй чытачу прапануецца невялікі агляд такіх мясьцінаў. Аўтар зьбіраў інфармацыю пра іх цягам свайго ўжо амаль дзесяцігадовага навучаньня ў Празе. У 2010 г. разам са Зьмітром Кожухам ён выдаў мапу беларускіх месцаў, якая была перавыдадзеная ў 2013 г. Безумоўна, ня ўсе імёны й мясьціны тут узгаданыя, але аўтар спадзяецца, што ягоны тэкст разам з мапай і фатаздымкамі, дазволяць чытачу зрабіць невялічкае падарожжа па беларускай Празе. У дужках пазначаны нумар на мапе і нумар здымку.

Беларускія мясьціны ў Празе паводле часу, да якога яны адносяцца, можна падзяліць на дзьве часткі. Першая зьвязаная з эпохай Вялікага Княства Літоўскага XIV—XVII стст., а другая — з найноўшай гісторыяй Беларусі ў XX ст. Першым месцам зь першай эпохі ёсьць аўгустыніянскі кляштар з касьцёлам Сьвятога Тамаша на Малэ Стране, *Josefská, 8* (19/1). Ён зьвязаны з даволі супярэчнай і ня вельмі вядомай постацьцю беларускай сярэдневечнай гісторыі **Бутаўтам Кейстутавічам**, які ў 1365 г. перабег на бок крыжакоў, прыняў каталіцкі хрост і імя Генрых ды дапамог нямецкім рыцарам ў выправе на Вільню. Але

крыжакі горад ўзяць не змаглі, і Генрых-Бутаўт пакінуў Прусію й скіраваўся ў Прагу на двор чэскага караля й імпэратара Карла IV. Пасьля сваёй сьмерці дзесьці каля 1380 г. ён быў пахаваны ў касьцёле гэтага кляштара. У 1413 г. вялікі князь Вітаўт праз свайго пасла падараваў касьцёлу палатно й загадаў служыць імшы на памяць пра свайго брата. Касьцёл і кляштар былі разбураныя ў 1420-х гг. падчас гусіцкіх войнаў, але пазьней адбудаваныя ў барочным стылі ў XVII ст.

Другім літоўскім князем, дзейнасьць якога зьвязаная з Прагай, быў **Жыгімонт Карыбутавіч**. У 1422 г. Вітаўт прыняў ад чэскіх гусітаў прапанову чэскай кароны й выправіў туды намесьнікам свайго пляменьніка. Вялікі князь літоўскі, праўда, у тым жа годзе адклікаў Жыгімонта, бо палітычная сітуацыя зьмянілася. Але Жыгімонт, які за гэты час пасьпеў здабыць сабе імя й падтрымку, у 1424 г. зноў вярнуўся у Прагу на сваю ініцыятыву, плануючы ўжо самому стаць каралём. Карону не атрымаў, але тры гады кіраваў Прагай і праскім войскам, пакуль ня быў скінуты ў выніку перавароту ў 1427 г. Вядома што ў Празе Карыбутавіч меў сваю рэзыдэнцыю ў г. зв. палацы маркграфа Ёшта. На месцы колішняга гатычнага палацу ў 1687 г. быў пабудаваны канвэнт ордэну мінімаў, франтон якога захаваўся пасьля перабудовы ў XIX ст. па адрасе *Staroměstské náměstí, 7* (22/2).

Прага ганарыцца адным са старэйшых у Эўропе ўнівэрсытэтаў, заснаваным у 1348 г. Мы ведаем імёны некалькіх **студэнтаў зь Вялікага Княства Літоўскага**, якія ў канцы XIV— пачатку XV стст. вучыліся й атрымалі акадэмічныя ступені ў Празе да таго, як унівэрсытэт страціў славу й прывабнасьць для замежнікаў у выніку гусіцкіх войнаў. У 1397 г. польская каралева Ядзьвіга выдзеліла сродкі для заснаваньня пры ўнівэрсытэце калегіюму для студэнтаў зь Вялікага Княства Літоўскага. На жаль, ейная задума не была рэалізаваная: калегіюм адчыніўся толькі праз 10 год і карысталіся ім ужо выключна чэхі. На плошчы *Ovocný trh* знаходзіцца комлекс старых унівэрсытэцкіх будынкаў, частка якіх захавалася з XIV ст., у канцы плошчы па адрэсе *Ovocný trh, 14***,** барочны будынак манэтнага двара, на месцы якога да XVIII ст. стаяў гатычны будынак калегіюму (4/3).

Безумоўна, самай значнай постацьцю сярод нашых землякоў таго пэрыяду ў Празе ёсьць **Францішак Скарына**. Ён ушанаваны ў Празе помнікам, што знаходзіцца на вуліцы *Jelení* (16/4) непадалёк ад Праскага граду (тут мінакі могуць даведацца пра тое што ў 1535—1539 гг. Скарына працаваў каралеўскім батанікам) і мэмарыяльнай шыльдай у комплексе *Klementinum* (16/5, 6), дзе нагадваецца пра першы ўсходнеславянскі

пераклад Бібліі, надрукаваны Скарынам у Празе 1517 г. Трэба дадаць, што самі сады, дзе працаваў Скарына, знаходзяцца ў іншым месцы, побач з Градам, а месца друкарні дакладна невядомае. Але Клеменцінум выбраны, бо тут цяпер месьціцца Нацыянальна бібліятэка.

Сам Клеменцінум — гэта комлекс езуіцкай акадэміі заснаванай у сярэдзіне XVI ст. Тут таксама вучыліся студэнты зь Беларусі й Літвы, сярод якіх трэба вылучыць імёны уніяцкіх мітрапалітаў **Руцкага** й **Рафала Корсака**, што спасьцігалі навукі ў Празе на пачатку XVII ст.

У найноўшай гісторыі Прага стала палітычным і культурным цэнтрам беларускай міжваеннай эміграцыі. Тут у межах праграмы дапамогі ўраду Чэхаславаччыны эмігрантам з былой царскай Расеі атрымалі вышэйшую адукацыю сотні беларусаў, сюды пераехаела з Коўна ў 1923 г. Рада БНР, якая дзейнічала ў чэскай сталіцы да 1943 г.

Калі вызначаць найбольш знакавае месца для беларускай міжваенна эміграцыі ў Празе, то гэта будзе дом па адрасе *Wenzigova, 4* (23/7). Тут была кватэра **Мікалая Вяршыніна**, дзякуючы якому горад і стаў эміграцыйным цэнтрам. Вяршынін пераехаў у яшчэ аўстрыйскую Прагу пасьля рэвалюцыі 1905—1907 гг., але сувязі зь беларускім рухам не губляў. У 1918 г. Вяршынін стаў консулам БНР, а ягоная кватэра — місіяй БНР у Празе. Дзеяч дамогся выдзяленьня стыпэндыяў для беларусаў, і ў некаторых студэнтаў менавіта гэты дом быў пазначаны як месца жыхарства ва ўнівэрсытэцкіх дакумэнтах. Тут была зарэгістраваная першая беларуская арганізацыя ў Празе — **Беларуская грамада**, якая праіснавала да 1925 г., калі была рэарганізаваная. У 1923 г. у Прагу пераехала **Рада БНР**. Зарэгістраваная чэскімі ўладамі пад назвай Беларуская Рада ў Празе, яна месьцілася тут. Акрамя таго, па гэтым жа адрасе была зарэгістраваная **Асацыяцыя беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА)**, якая абʼядноўвала беларускіх студэнтаў ня толькі з Чэхаславакіі, але й з Італіі, Францыі, Нямеччыны й Летувы. Тут жа быў адрас рэдакцыі часопісу **„Беларускі студэнт“**. Як бачым, кватэра Вяршыніна, што складалася з двух пакояў і кухні, стала цэнтрам беларускага жыцьця ў Празе. Сам Мікалай Вяршынін памёр 6 мая 1934 г.

Непадалёк ад дому, дзе жыў Вяршынін, па адрасе *Bruselská, 1* (10/8) жыў з 1923 г. да сваёй сьмерці ў 1928 г. **Пётра Крэчэўскі** — Прэзідэнт БНР. На жаль, некалькі год таму гэты будынак быў рэканструяваны й страціў свой першапачатковы выгляд. Іншы Прэзідэнт БНР **Васіль Захарка** зьмяніў за час свайго жыцьця ў Празе шмат адрэсаў, адной была *Slovinská, 14* (11/9).

Зноў непадалёк ад дому Вяршыніна, па адрасе *Legerova, 3* — у рэстарацыіі **„У пана Кнёўрка“** ў 1930-х гг. адбываліся паседжаньні Беларускай Рады й праходзілі сьвяткаваньні ўгодкаў абвяшчэньня БНР (24/10).

З палітычнай дзейнасьцю беларусаў зьвязаны славуты праскі *Obecní dům*, пэрліна праскай сэцэсіі. У гэтым будынку адбыліся дзьве важныя для чэскай гісторыі падзеі: тут 28 кастрычніка 1918 г. народны сход абвясьціў незалежнасьць Чэхаславацкай рэспублікі, а ў лістападзе 1989 г. тут адбыліся першыя перамовы паміж камуністычнымі ўладамі й прадстаўнікамі апазыцыі. Запісаны гэты будынак і ў гісторыі беларускага руху: тут 26—29 верасьня 1921 г прайшла **Першая ўсебеларуская канфэрэнцыя**, а пазьней ня раз ладзіліся сьвяточныя мерапрыемствы, прысьвечаныя ўгодкам БНР (3/11).

Месцам, дзе віравала беларускае студэнцкае жыцьцё, быў **Студэнцкі дом** па адрэсе *Albertov,* 7 (-/12). Цяпер тут унівэрсытэцкая сталовая, а ў міжваенны час гэта быў студэнцкі клюб з кавярняй, дзе сустракаліся й арганізоўвалі мерапрыемствы беларускія студэнты.

У 1930-х гг. беларускім месцам стаў дом **Васіля Русака**, удзельніка Слуцкага паўстаньня, кіраўніка АБСА. У будынку па адрасе *Buzulucká, 4* (15/13) месьцілася **Беларускае культурнае таварыства імя Фрынцішка Скарыны** — культурніцкая арганізацыя беларускіх студэнтаў. Таварыства арганізоўвала вечарыны, сходы, лекцыі, выдавала **часопіс „Іскры Скарыны“**.

Прага ўжо часоў Другой сусьветнай вайны найцясьнейшым чынам зьвязаная з поўным выпрабаваньняў лёсам **Ларысы Геніюш,** якая цягам дзесяці гадоў (1937—1947) жыла ў горадзе над Влтавай. Вядомыя дзьве праскія адрасы паэткі. Да 1943 г. сям’я Геніюшаў жыла ў доме, што знаходзіцца на *5 května, 3* (-/14), а потым да 1947 г. — у камяніцы на *Heřmanova, 7* (2/15)

Прага стала горадам, куды ваенная каламіта занесла выбітнага беларускага сьпевака **Міхася Забэйду-Суміцкага**. Сюды беларускі пясьняр перабраўся ў 1940 г. Большую частку свайго праскага жыцьця Забэйда-Суміцкі пражыў у раёне Вінаграды ў кватэры ў доме па адрасе *Polská, 12* (9/16).

Ужо ў недалёкі ад нас час у 2002—2003 гг. Прага стала прытулкам для, напэўна, самага вядомага ў сьвеце беларускага пісьменьніка **Васіля Быкава**. Ад 2002 г. да лютага 2003 г. творца жыў у доме па адрэсе *Jankovcová, 41* (1/17), а потым, да свайго ад’езду ў Беларусь, на *U vršovického nádraží, 22* (12/18).

Для некаторых Прага стала месцам апошняга спачыну. Сёньня беларусам вядомыя тры магілы землякоў, пахаваных на *Альшанскіх могілках*. Гэта магілы Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі зь ягонай жонка Пелагеяй ды Міхася Забэйды-Суніцкага. (5, 6, 7/19, 20, 21,). Магілы знаходзяцца ў „праваслаўнай“ частцы могілак непадалёк ад царквы Успеньня Багародзіцы. На жаль, невядомае месца апошняга спачыну Міколы Вяршыніна, які таксама, паводле зьвестак, меў быць пахаваны на Альшанскіх могілках.

Нават такі кароткі, безумоўна, няпоўны сьпіс паказвае, наколькі багатая на беларускія мясьціны Прага. Але калі зьвярнуць увагу на мэмарыялізацыю гэтых мясьцінаў, то высьветліцца, што, калі не лічыць надмагільляў, толькі Францішак Скарына ўшанаваны помнікам і шыльдай, усталяванымі ў 1996 г. Астатнія месцы й іх важнасьць для беларускай гісторыі й культуры застаюцца невядомымі як для беларусаў, так і для праскіх мінакоў. Пазначаныя мэмарыяльнымі шыльдамі найбольш значных беларускіх мясьцінаў, на думку аўтара, павінны быць найперш дом Мікалая Вяршыніна, а таксама месцы, дзе жылі Ларыса Геніюш, Міхась Забэйда-Суміцкі й Васіль Быкаў. Гэта ёсьць задачай як для сучаснай беларускай дыяспары ў Чэхіі, гэтак і для беларускай дзяржавы. Безумоўна, справа няпростая (так, спроба ўсталяваць дошку ў гонар Ларысы Геніюш у доме па вуліцы *Heřmanova, 7* у 2010 г. была няўдалай), бо тут неабходна пераконваць як чэскі бок, які ўсё яшчэ мала ведае пра беларусаў і ролю Прагі ў беларускім жыцьці, гэтак і афіцыйны беларускі, без дапамогі якога шанцаў на посьпех мала. Але будзем спадзявацца, што беларускасьць Прагі ў хуткім часе будзе відаць не толькі спэцыялістам і аматарам беларускай гісторыі, але й жыхарам Прагі ды шматлікім турыстам.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# „ЗАМЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ“

У 1926 г. у праскім „Выдавецтве імя Ф. Скарыны“ пабачыў сьвет *„зборнік гісторыі, культуры і эканомікі“* пад рэдакцыяй Пётры Крэчэўскага „Замежная Беларусь“. Зрэшты, Старшыня Рады БНР быў ня толькі рэдактарам, але й аўтарам пераважнай большасьці тэкстаў у гэтым выданьні, пазначаным як *„кніжка першая“*.





ЗАМЕЖНАЯ
БЕЛАРУСЬ
ЗБОРНІК
ГІСТОРЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЭКАНОМІКІ
ПАД РЭДАКЦЫЕЙ
П. А. КРЭЧЭЎСКАГА

КНІЖКА ПЕРШАЯ

ПРАГА
ВЫДАВЕЦТВА ІМЕНІ Ф. СКАРЫНЫ
1926 г.

У прадмове да зборніку сьцьвярджалася, што ён выходзіць у час *„дыфэрэнцыяцыі беларускай думкі“*:

*„Менск, Вільня, як і беларусы Літвы і Латвіі, не гаворучы ўжо аб загранiцы, да Амэрыкі ўключна, стаяць перад дылемай вырашэньня нацыянальнае праблемы.*

*Ці нацыянальная палітыка мусіць быць толькі формай у дзержаўным зьмесьце пралетарскіх Саветаў, ці форма і зьмест павінны быць беларускімі па істоце, як у нацыанальна-культурным, так і дзержаўным жыцьцю народу.*

*Альбо рамантызм дабравольнай беларусізацыі, разьлічаны на салідарнасьць пралетарыяту, які на Беларусі гаворыць чужымі мовамі, альбо рэалізм беларускай мовы, належачай выключна беларускаму селянству.*

*Ад вырашэньня гэнае справы залежыць будучыня беларускай дзержаўнасьці, у якой бы форме яна не выявілась.*

*За беларусізацыей — ідзе калёнізацыя і эканамічнае паняволеньне краю, за беларускай мовай — ідзе самастойнасьць і поўнае разьвіцьцё беларускіх сіл.*

*Рэдакцыя стаіць за апошняе і ў гэтым напрамку Зборнік „Замежная Беларусь“ будзе вясьці сваю працу.*

*З народам — за народ, і ні з якой дыктатурай супроць народу“*[1].

Такім чынам, галоўнай мэтай зборніку было прадставіць альтэрнатыўны існаму савецкаму, заснаванаму на ідэях палітыкі „беларусізацыі“, погляд на праблемы беларускай гісторыі, сучаснасьці й будучыні. „Замежная Беларусь“ стала вынікам пэўнага этапу фармуляваньня беларускай нацыянальнай ідэі. На гэта працавалі ключавыя тэксты нумару, якія належалі самому Пётру Крэчэўскаму: „Скарына і незалежнасьць“, „Беларусь у мінулым і сучаснасьці“, „Гісторыя беларускай кнігі“.

У першым з тэкстаў аўтар на самым пачатку заўважае, што *„гісторыя па невядомым нам прычынам, бэз ніякай думкі з боку сучасьнікаў, злучыла дні выхаду першай беларускай кніжкі з друкарні Скарыны ў Вільні і абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі на 25 сакавіка“*[2]. І надалей, пасьлядоўна разглядаючы гісторыю жыцьця й дзейнасьці першадрукара, Пётра Крэчэўскі выводзіць яе ўплыў на палітычныя падзеі 1917—1918 гг.:

*„Дух Скарыны і старых традыцый загаварыў раптоўна ізноў і выдзяліў беларусаў з агульна-расейскай лічбы.*

*На Кангрэсе ў сьнежні 1917 г. зьбіраецца каля 2000 дэлегатаў, якія і абвешчаюць, што Беларусь павінна стаць дэмакратычнай Рэс-*

---

[1] Ад рэдакцыі // Замежная Беларусь. Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі / пад рэдакцыяй П. А. Крэчэўскага. Кніжка першая. Прага: Выдавецтва імяні Ф. Скарыны, 1926. С. 3.

[2] Крэчэўскі, П. Скарына і незалежнасьць // Замежная Беларусь... С. 7.

*публікай. Ідзе глухая барацьба паміж астаткамі Расейскай дзержавы і беларусамі ў створанам дзержаўным органе, выбраным на Конгрэсе. Расейцы накіроўваюць на фэдэрацыю, Беларусы патрабуюць незалежнасьці.*

*Пасьля прадажы Заходняй Беларусі немцам у Берэсьці, чаша беларускага цярпеньня перэпаўняецца і не бачучы ні адкуль помачы, абарону сваей тэрыторыі Рада Зьезду бярэ на сябе і 25-га сакавіка 1918 г. абвешчае Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Абвешчае якраз у той самы дзень, калі 392 г. таму назад Скарына ў Вільні выдаў першую сваю „Малую падарожную кніжыцу“[...]*

*Знаць добра беларусы чыталі кніжкі свайго першапечатнікадрукара і шанавалі яго запавядзі, калі нават на чужыне, раскідаўшысь па ўсім фронтам і заграніцай, вучылісь чытаць і гаварыць па свояму, каб у пэўны момант скінуць з сябе чужацкую вопратку і зьявіцца на першы покліч сваей Бацькаўшчыны“*[3] .

Такім чынам, Францыск Скарына падаецца адной з ключавых постацяў у нацыянальнай гісторыі, зь якой зьвязана фармуляваньне ідэі незалежнасьці Беларусі, і таму на памяці пра яго неабходна грунтаваць сучаснасьць і выбудоўваць будучыню:

*„Цень Скарыны у сягоньняшні дзень яшчэ больш узмацуе нашы сілы на змаганьне за сваю Незалежнасьць, а ўдзячные сыны Беларусі, пры дапамозе нашых прыяцеляў, яшчэ больш аб'еднаюць навуковыя сілы нашай Бацькаўшчыны у барацьбе за сваю і культурную, і палітычную незалежнасьць“*[4] .

Больш поўна канцэпцыя нацыянальнай гісторыі прадстаўленая ў тэксьце „Беларусь у мінулым і сучаснасьці“, дзе побач з разглядам прыродна-геаграфічных, эканамічных і іншых характарыстык беларускіх земляў выводзяцца й *„Падваліны дзяржаўнасьці“*. У дзяржаватворчым працэсе Пётра Крэчэўскі вылучае *„пэрыяд Беларускіх княстваў“*, *„пэрыяд Літоўска-Рускага, правідловей Беларускага Вялікага Княжества“*, пэрыяд *„Рэчы Польскай Паспалітай“*, пэрыяд Расейскай імпэрыі. Далей адмысловая ўвага надаецца падзеям 1905 г., 1917 г. з падрабязным разглядам Усебеларускага зьезду, абвяшчэньню Беларускай Народнай Рэспублікі й яе незалежнасьці, а таксама дзейнасьці Рады БНР да верасьня 1921 г. З апошняй датай зьвязана правядзеньне значнага форуму — *„Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарады ў*

[3] Крэчэўскі, П. Скарына і незалежнасьць // Замежная Беларусь... С. 14.

[4] Крэчэўскі, П. Скарына і незалежнасьць // Замежная Беларусь... С. 16.

*Празе“*, пастановы якой вызначаюць адзінай *„адказнай уладай Беларусі“* Ўрад і Раду БНР.

Цікава, што выдадзены ў 1926 г. тэкст не закранае Бэрлінскай канфэрэнцыі 1925 г. Хутчэй за ўсё, артыкул Пётры Крэчэўскага быў напісаны яшчэ да згаданай падзеі, бо далей у „Замежнай Беларусі“ ёсьць дакумэнты, зьвязаныя зь яе вынікамі. У прыватнасьці, зьмешчаны ў зборніку далей тэкст зь Бюлетэню Рады БНР „Мандаты Б.Н.Р.“ адлюстроўвае афіцыйную пазыцыю Рады й яе старшыні аб непрызнаньні роспуску Ўраду БНР.

Прадстаўленую ў папярэдніх тэкстах канцэпцыю нацыянальнай дзяржаўнасьці дапаўняе артыкул „Гісторыя беларускай кнігі“, дзе *„цікавая і трагічная“* гісторыя айчыннай кніжнай культуры падзеленая на наступныя пэрыяды:

*„1. Рукапісны пэрыад, пачынаючы ад XII стагоддзя да кнігадрукаў 1483 г.*

*2. Друкарскі пэрыад — росквіту кнігі ад 1483 г. да 1569 г.*

*3. Занепад — ад 1569 г. (Люблінская вунія) і асабліва — з 1697 г. (Забарона беларускага друкаванага слова) да 1790 г.*

*4. Пэрыад адраджэньня ад 1790 г. да 1917 г. і*

*5. Новы пэрыад ад 1917 г. да сучаснае пары“*[5].

Пасьлядоўны разгляд-характарыстыка кожнага з пэрыядаў выводзіць залежнасьці посьпехаў кнігадрукаваньня ад агульных умоваў разьвіцьця культуры й дзяржаўнасьці на беларускіх землях. Ці не найбольш увагі аддадзена „новаму“ перыяду, калі ў выніку палітычных падзеяў беларуская тэрыторыя сталася падзеленай паміж Польшчай і БССР. Зважаючы на спрэчныя моманты савецкай палітыкі, Пётра Крэчэўскі тым ня менш прыводзіць статыстыку, згодна зь якой ў 1925 г. у БССР была выдадзеная 141 беларуская кніга, што выглядала рэкордам: *„Калі да 1917 г. Беларусь мела толькі 54 назвы кніг, а з 1917 г. да 1925 г. — 199, амаль уся прадукцыя Заходняй Беларусі, то ў 1925 г. Усходняя Беларусь пабіла рэкорд“*[6]. Праўда, гэтыя посьпехі выклікаюць і пэўны скепсіс, калі аўтар параўноўвае іх з вынікамі кнігадрукаваньня ў сапраўды незалежных краінах:

*„Чэхаславакія ў 1924 г. выпусьціла 3590 кніг, Баўгарыя, не гледзячы на праіграную вайну і ўнутраныя закалоты — 2472 кнігі, Фінляндыя — 1118 і нават Польшча, пры поўнам палітычнам і гаспадарчам хаосе — 4144 кн.*

[5] Крэчэўскі, П. Гісторыя беларускай кнігі // Замежная Беларусь... С. 99.

[6] Крэчэўскі, П. Гісторыя беларускай кнігі // Замежная Беларусь... С. 115.

*Раўнаючы гэтыя цыфры можна безабмылкова сказаць, якая культура і якая свабода пануюць у Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік“*[7].

Нэгатыўнае стаўленьне да падзеяў у БССР і да СССР як зьявы адлюстраванае таксама ў „Хроніцы палітычнага жыцьця“ ды „З культурнага жыцьця Беларусі“. Так, прыкладам, „Хроніка“ камэнтуе эканамічныя праблемы Савецкага Саюзу наступным пасажам: *„Аблічча чалавечага ў СССР не відаць. Там пануе мешаніна вырадкаў усіх нацый і народаў, якія хочуць падпарадкаваць сабе чалавека“*[8]. А выдавецкія посьпехі БССР у разглядзе падзеяў культурнага жыцьця суправаджаюцца заўвагаю:

*„... гучнае „Дзяржаўнае Выдавецтва“, якое за 1924—25 г. выдала 141 назву кніг — 679j друкаваных аркушоў.*

*Гэта-ж запраўды сьмех. Ластоўскі ў Коўне адзін, жывучы на ласкавым хлебе літвіноў, за той самы час выдаў 6 назоў кніг (два №№ Крывіча, два падручнікі Гісторыі, Слоўнік і Гісторыю беларускай кнігі), якія выносяць больш 100 друкованых аркушоў — гэта знача, шостую частку ўсяго дзяржаўнага выдавецтва Савецкай Рэспублікі“*[9].

Што праўда, „культурнае беларускае жыцьцё“ ня зводзіцца ў зборніку выключна да БССР, падаюцца зьвесткі пра Вільню, Прагу, Коўна, Рыгу, Дзьвінск і Амэрыку, а ў абвестках зьмешчаныя адрэсы беларускіх газэтаў і часопісаў: „Беларуская крыніца“, „Беларуская справа“, „Беларуская слова“, „Голас беларуса“, „Сялянская ніва“, Студэнцкая думка“ „Школьная праца“, „Крывіч“, „Маланка“ ды інш. Рэкляма большасьці з гэтых выданьняў таксама друкуецца на апошніх старонках „Замежнай Беларусі“.

Між іншага, сярод згаданай рэклямы ёсьць і каштоўная з гледзішча вывучэньня праскай беларусікі зацемка:

*„Месячник славянской библиографии „Славянская книга“ выходит ежемесячно под редакцией Ф.С. Мансветова. В журнале постоянный отдел Белорусский. Регистрация и обзоры белорусской литературы как советской, так и зарубежной. Цена отдельного номера 15 ам. центов с пересылкой. Комплект за 1925 год: 125 амер. центов с перес. Адрес редакции: E. Manscetov, Strasnice, 444 Praha, Tchecoslovaquie“.*

---

[7] Крэчэўскі, П. Гісторыя беларускай кнігі // Замежная Беларусь... С. 115—116.

[8] Хроніка палітычнага жыцьця // Замежная Беларусь... С. 141.

[9] З культурнага беларускага жыцьця // Замежная Беларусь... С. 144—145.

Цікавая пазыцыя для дасьледнікаў беларускай прысутнасьці ў міжваеннай Чэхаславаччыне.

„Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі“ як выданьне, што пабачыла сьвет за межамі Беларусі ды ў час, калі менавіта там назіралася значная нацыянальная актыўнасьць, не магло пакінуць па-за ўвагай і асэнсаваньне ролі эміграцыі ў гісторыі й сучаснасьці нацыі. Зьмешчаны ў разьдзеле „Матэрьялы і дакумэнты“ тэкст Васіля Русака „Голас эміграцыі“, напісаны ў 1925 г., спрабуе сфармуляваць адметную місію эміграцыі. Артыкул пачынаецца з гэткага пасылу:

*„Эміграцыя заўжды была рэхам народу і праваднікам яго вольных думак і імкненьняў у шырокі сьвет агульна-чалавечага еднаньня. Тое, чаго ня мог сказаць і зрабіць народ у сябе дома, по варункам сваёй ці чужацкай улады і цанзуры, эміграцыя сьмела гаварыла, карыстаючысь свабодай слова за граніцай.*

*Біблію — першую кніжку на беларускай мове, даў нам эмігрант Францішак Скарына, які ня мог заняцца гэтай працай на бацькаўшчыне, а мусіў працаваць у Празе Чэшскай.*

*Пасьля занепаду беларускай дзержаўнасьці і культуры, зноўтакі першыя беларускія кніжкі прыходзяць да нас з Лёндану, Парыжу, Кракава — адтуль, дзе знаходзілісь хоць адзінкі заўжды беднай беларускай эміграцыі“*[10] .

І далей, гаворачы пра складаныя ўмовы жыцьця беларусаў і ў Заходняй, і ва Ўсходняй Беларусі Васіль Русак сьцьвярджае, што на сучасны момант: *„У найлепшых варунках духоўнага развітку апынулася беларуская эміграцыя заграніцай, якая, ня гледзячы на цяжкі матэрыяльны стан і жорсткі кусок эмігрантскага хлеба, можа сьмела і аткрыта выказваць свае думкі на будучыню Беларусі“*[11] .

Далей аўтар фармулюе якраз гэты своеасаблівы „вонкавы“ погляд на падзеі ў Заходняй і Ўсходняй Беларусі ды робіць выснову пра важную місію беларускай эміграцыі:

*„Беларуская палітычная эміграцыя, якая ў сваіх радах не мае буржуазна-капіталістычных, ці абшарніцкіх элемэнтаў, бо выхадцы з Беларусі — рэнэгаты — да нашай групы належаць не могуць, — зьяўляецца натуральным рэзультатам паневоленьня Беларусі і нашага часовага занепаду. Прабываньне эміграцыі заграніцай ёсьць, хоць сумны, але немінуючы факт усясьветнага пратэсту супроць пагвал-*

[10] Русак, В. Голас эміграцыі // Замежная Беларусь... С. 118.

[11] Русак, В. Голас эміграцыі // Замежная Беларусь... С. 118.

*чэньня нашай дзержаўнасьці з аднаго боку і вольная трыбуна вольнай беларускай думкі з другога. Але выканаць сваю гісторычную ролю поўнасьцю палітычная эміграцыя зможа толькі пры маральнай падтрымцы беларускага народу“*[12].

Гэткія ідэі пра адмысловую місію палітычнай эміграцыі будуць разьвівацца далей і прадстаўнікамі пазьнейшай хвалі ўцекачоў ужо пасьля Другой сусьветнай вайны.

Сама ж „Замежная Беларусь“ стала тойсамай своеасаблівай „вольнай трыбунай“ для выказваньня незалежнай думкі. Прычым адлюстраваньне ідэі свабоды можна ўбачыць ня толькі ў згаданых „праграмных“ артыкулах Пётры Крэчэўскага ды апублікаваных дакумэнтах Рады БНР, але і ў зьмешчаных у зборніку мастацкіх творах: вершах, гістарычнай драме „Здрада“, фэльетонах.

„Замежная Беларусь“ плянавалася як пэрыёдык, аднак справа скончылася на выданьні першай кнігі. Тым ня менш яе значнасьць для беларускай нацыянальнай думкі была відавочная й сучасьнікам, і наступнікам. Нездарма ў 1977 г. у Радзе БНР абмяркоўвалася неабходнасьць перавыданьня зборніка, хоць і больш з мэмарыяльным значэньнем — да ўгодкаў Пётры Крэчэўскага[13].

Бібліяграфічная рэдкасьць — „Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі“ — сёньня варты ўвагі дасьледнікаў з розных прычынаў: і як адлюстраваньне нацыянальнай грамадзка-палітычнай думкі 1920-х гг., і як спроба фармуляваньня беларускай нацыянальнай ідэі ды адметнай гістарычнай місіі эміграцыі, і як крыніца інфармацыі пра падзеі, выданьні, асобаў свайго часу. А яшчэ „Замежная Беларусь“ зьяўляецца своеасаблівым помнікам свайму рэдактару-выдаўцу-аўтару ды чарговым сьведчаньнем таго, як шмат можа зрабіць адна канкрэтная асоба.

**Зьмест**



[12] Русак, В. Голас эміграцыі // Замежная Беларусь... С. 121.

[13] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы. Мінск, 2014. С. 172.

**Я. Г.** Узаемаадносіны Беларуска-Літоўскага Княжства з Чэхіей 500 гадоў таму назад (С. 18).

Агульна-славянскі гімн (С. 30)

**П. Крэчэўскі.** Беларусь у мінулым і сучаснасьці (С. 31)

**К.** Книга. Верш (С. 78)

**П. Зьніч.** Здрада — драма канца XV і пачатку XVI сталецьця (С. 79)

**П. Крэчэўскі.** Гісторыя беларускай кнігі (С. 99)

**І. Франко.** Перэклад з украінскага. Верш (С. 117)

**В. Вальтэр.** Новы Агасфэр. Верш (С. 117)

Матэрьялы і докумэнты. В. Русак. Голас эміграцыі — Мандаты Б.Н.Р. — Мэморандум у Лігу Нацый 20.V.24 (С. 118)

Хроніка палітычнага жыцьця (С. 140)

З культурнага беларускага жыцьця (С. 144)

Сьмех і жарты. Заноза. Фэльетон — Заноза. Плач паэта. — К. Мана (С. 147)

Абвесткі (С. 153)

***Макс Шчур***
*Прага*

# УПЫРХЛІКІ,

**або**
**Праўдзівае апісаньне капіталізму**
**ў адной асобна ўзятай краіне Захаду,**
**складзенае ад няма чаго рабіць**
**рабом Божым Андрусём Макатоўшам,**
**блудным сынам і ўнукам, пляменьнікам Базылёвым,**
**беларусцам з-пад Наваградку,**
**валацугам і прайдзісьветам**[1]

з прадмоваю Габруся Калоды
й пасьлямоваю ды заўвагамі Макса Шчура

## Прадмова

Дзецюкі! Мужычкі мае родныя![2]

Пішу вам, бо мой дарагі друг і аўтар гэтай кніжкі за выключэньнем прадмовы Андрэй Андрэевіч Макатоўша пра гэта мяне ня так даўно папрасіў. Кажа, Габрусь, напішы мне прадмову да кніжкі, бо ты ж пісьменьнік. Гэта праўда, бо я сам ня так даўно адну кніжку напісаў, але вы яе, напэўна, яшчэ не чыталі. Я яму кажу: лёгка! А да якой кніжкі? Вунь колькі на паліцы кніжак — давай з шасьці любую, я ўсе чытаў. А

[1] Існуе думка, што апошнія два словы насамрэч — ня аўтарава самахарактарыстыка, а прысьвячэньне. (Тут і далей камэнтары Макса Шчура.)

[2] Паводле адзінага камэнтару, зробленага да твору самім аўтарам (у лісьце, які суправаджаў адзіную вядомую нам электронную вэрсію „Ўпырхлікаў“, разасланую мэйлам), у слове „мужычкі“ націск павінен падаць на „ы“, а не на „і“ — то бок слова, як ні сьмешна, ёсьць зваротам да асобаў жаночага роду, а не мужчынскага. Каго прадмоўца мае на ўвазе пад „мужЫчкамі“, не зусім ясна.

Андрусь, маўляў, не, да маёй уласнай. Я ўжо, як той дурань, зьбіраўся яму зноў уласную падпісваць. І тут да мяне дайшло: да ягонай кніжкі! Ну, добра — а дзе яна? А ён на гэта такі: няма. Во прыкаліст! Я дык яшчэ ніколі не пісаў прадмову, нават сам да сябе. А да кніжкі, якой няма, дык зусім. Але Андрусь абяцае, што будзе — то я во пішу. Так бы сказаць, сваімі словамі, а не пад дыктоўку. Аж непрывычна, то ж бо маю кніжку мы пісалі на адварот. Андрусь пісаў сваімі словамі, што я дыктаваў. Ай, якая ўрэшце розьніца, хто каму дыктуе. Што я хацеў вам сказаць. Мой дарагі друг і аўтар гэтай будучай кніжкі Андрусь, ён хоць і прыкаліст — але чалавек вялікага даверу. Усё, што ён мне пра сябе дагэтуль расказаў, поўная праўда. Таму ў ягонай кніжцы можаце не сумнявацца, калі будзеце яе чытаць, як і ў маёй. Я вам там у асноўным даю ўсякія парады, як гатаваць смачную ежу. А вось Андрусь піша пра тое, як усё насамрэч было. Каб вы не паўтаралі нашых памылак. А яна ў нас толькі адна: эміграцыя. Я памыліўся, што ў яе зьехаў запозна, а Андрусь — што зарана. Што зробіш, былі маладыя і дурныя. Андрусь кажа, каб я напісаў: гэтым я хачу паставіць мне і табе групавы помнік. Калі вы яго і праўда будзеце ставіць, то хай мы на ім з Андрусём стаім у абдымку. Адзін такі абдымак пастаўце мне ў вёсцы, а другі — яму ў вёсцы. Толькі зрабіце палюдзку, каб з нас не сьмяяліся. Як напішаце — дашлю вам наглядны эскіз. Ну, бадай, усё. Да сустрэчы ў эфіры! А, забыў: калі Андрусь будзе пісаць пра мяне гадасьці, тады яму ня верце. Цяпер усё. Калі я вас нечым пакрыўдзіў, то выбачайце.

*Габрусь Калода, Прага*

## Частка першая: Андрусь

### 1.

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*трэба ў розных краёх пабываць.*
Песьня савецкіх часоў

Не адзін вялікі пісьменьнік да мяне задаваўся пытаньнем, з чаго яму варта пачынаць свой галоўны й часта адзіны твор — задаюся ім і я, у астатнім чалавек зусім, трэба сказаць, не задавасты. Ну хіба сраку я за гады, што праўда, крыху адʼеў. Мая прыроджаная (ці адпрыродная? як бы напісаў вялікі пісьменьнік?) сьціпласьць змушае мяне патлумачыць вам, сваім чытачам (выбачайце, што пішу вам з маленькай літары, бо

так, наколькі мне ведама, патрабуюць правілы — а таксама з адной маленькай вёскі, назвы якой ня маю ахвоты прыгадваць, надта ж яны абедзьве мне ненавісныя), адкуль уласна паходзяць вытокі гэтае самай сьціпласьці — то бок пачаць з моманту майго нараджэньня, але ж яго я акурат, як на бяду, і ня памятаю. Затое памятаю шэраг іншых ня менш важных рэчаў, якія адбыліся са мною неўзабаве пасьля яго. Першаю рэччу ў гэтым шэрагу быў той незабыўны дзень, калі я даведаўся, што я сірата. Паведаміў мне пра гэта ня хто іншы, як злыя дзеці ў дзіцячым садку пры дзіцячай калёніі, куды траплялі, як неўзабаве выявілася, такія ж, як я, малалетнія правапарушальнікі, што таксама пазабівалі сваіх мацярок пры родах. Пасьля гэтага паведамленьня я пачаў плакаць і плакаў тры дні й тры ночы, пакуль у маім жыцьці ўрэшце не зьявіўся дзядзька Базыль, тэрмінова выкліканы да мяне з выцьвярозьніку, каб забраць мяне ў так званае дзядзькаваньне. На той момант мне было тры гады.

Дзядзька Базыль і насамрэч быў маім дзядзькам, то бок братам майго нябожчыка-бацькі, які скончыў жыцьцё самагубствам тады, калі даведаўся пра цяжарнасьць маёй матулі. Дзядзька займаўся настаўніцтвам па суседзтве — гэта значыць, збольшага хадзіў па суседзях і за пачастунак вучыў іх, як трэба жыць. Яшчэ ў той жа дзень дзядзька Базыль прадставіў мяне маім бабці зь дзедам — сваім і майго бацькі бацькам. Дзеля гэтага ён завёз мяне да іх на вёску й пакінуў мяне там азнаямляцца з жыцьцём простага народу да маіх дзевяці гадоў, калі мяне ўрэшце прызналі прыдатным да навучаньня ў школе й аддалі ў першую клясу. Да гэтага ўсё ішло як нельга лепей: у бабы зь дзедам мне было анігадкі, па вечарах мы гулялі зь імі ў даміно й карты, шляхам чаго я набіраўся розуму. Дзядзька Базыль рэгулярна нас наведваў: як толькі ў астатніх дзяцей (а такім чынам, і ў яго як настаўніка) пачыналіся летнія вакацыі, ён тут жа зьяўляўся на парозе і пачынаў мною займацца на правах апекуна. Гэта значыць — забіраў мяне з сабою, як ён казаў, *„цягацца па сьвеце“*.

Сьвет дзядзькі Базыля, трэба сказаць, ня быў надта вялікім што да геаграфічных маштабаў, складаючыся пераважна з ваколіцаў ягонай роднай вёскі, якія мы зь ім абышлі ўжо ў нашую першую вандроўку. Дзядзька Базыль называў гэта *„азнаямленьнем з гістарычнымі мясьцінамі“* — праводзячы мяне па навакольлі, ён апавядаў пра кожную мясьціну якую-небудзь гісторыю з сваёй маладосьці: маўляў, вось тут я бухаў, тут пабіўся, вось з гэтаю жыў, з гэтым служыў і г. д. З кожным годам радыюс нашых вандровак усё пашыраўся, і неўзабаве нам давя-

лося спыняць папутныя машыны, каб дабрацца дадому — а ўжо ў наступны год і каб дабрацца да месца прызначэньня. Як толькі мы такім чынам перасягнулі арбіту дзядзькавага роднага краю, ягоныя гісторыі раптоўна скончыліся — што змусіла яго пачаць прыдумляць дзеля мяне ўсякія паказкі, прывязаныя да ніколі яшчэ ня бачаных ні мною, ні ім мясьцінаў. Балазе фантазіі ў дзядзькі было нямерана. Крыху падпіўшы дзеля куражу, ён пачынаў вярзьці нейкую няўцямную для мяне мутню пра вялікае княства, белую вежу, чорную даму (па-нармальнаму — пікаў, а па-дзядзькаваму — вінаў), алькітабы і ўсё такое іншае. Дзеля падмацаваньня сваіх запаленых прамоваў ён пэрыядычна паказваў мне нейкія зачыненыя культавыя будынкі й разбураныя абаронччыя збудаваньні, а я яму, як той дурань, і верыў.

Такім чынам, у сваім дзяцінстве я шмат дзе быў, але бадай нічога ня бачыў, апрача руінаў. Часам у мяне ўзьнікала адчуваньне, што хтосьці, здольны на адлегласьці чытаць дзядзькавы думкі, наўмысна абганяе нас на дзень-другі, каб пасьпець разваліць чарговы архітэктурны помнік акурат перад нашым прыездам. Дзядзька звычайна абяцаў паказаць мне які-небудзь казачны замак, які я ўяўляў сабе такім прыгожым, як у мульціках — а ў сапраўднасьці паказваў замест яго які-небудзь пагорак, у найлепшым выпадку — гурбу цаглінаў. Ад расчараваньня я плакаў, як малы — зрэшты, я й быў малы. Аднойчы дзядзька па сакрэце прызнаўся мне, што ўсе гэтыя зруйнаваныя помнікі ў сукупнасьці ўтвараюць нашу Радзіму. Пасьля чаго яшчэ дадаў, што я насамрэч яму ніякі не пляменьнік, бо ягоны нябожчык-брат паводле бязьлітасных каляндарных законаў прыроды ніяк ня мог быць маім бацькам, праз што й скончыў самагубствам, але нягледзячы на гэта, маўляў, ён любіць мяне як роднага сына. Абодва гэтыя адкрыцьці мяне агаломшылі, нават ня ведаю, каторае болей.

Тым часам як ад дзядзькі я даведаўся пра існаваньне Радзімы, пра існаваньне іншых краінаў мяне паінфармавалі дзед з бабцяй — хоць, праўда, і ненаўмысна. Менавіта зь іхных размоваў я пачуў загадкавы выраз *„за Польшчай“* — як потым аказалася, гэтая Польшча калісьці займала ажно палову дзядзькавай, то бок нашай, Радзімы, і дзед з бабцяй у гэтай Польшчы ў маладосьці жылі. І хаця жыцьцё гэтае было, так бы мовіць, ня самым прасунутым, яны, маўляў, былі шчасьлівыя, бо былі маладыя. Гэтак я даведаўся, што шчасьліва можна жыць і ў іншых краінах, а ня толькі ў нас на Радзіме — дастаткова ўжо, каб гэтыя іншыя краіны крыху зьмясьціліся ў наш бок. Цяпер, праўда, казаў дзед, Польшча, бы той марскі прыліў, адышла ў заходнім кірунку — але я

цішком верыў, што яна аднойчы абавязкова вернецца. А калі ня вернецца, то мы зь дзядзькам зьезьдзім на наступнае лета яе паглядзець. Аднак замест гэтага мяне налета аддалі ў школу.

**2.**

*Зубр — сімвал нашай Радзімы.*
Падручнік

У школе я, як і варта было чакаць, стаў вундэркіндам. Асабліва ў галіне гісторыі. Але тут у мяне й пачаліся першыя непаняткі зь дзяржаўнай адукацыйнай сыстэмай. Гэтак ужо на першым уроку спадарыня настаўніца напісала на дошцы сваім размашыстым почыркам — настолькі размашыстым, што ледзь ня вывалілася з вакна: *„Наша Радзіма — Савецкі Саюз“*. Я адразу ж падняў руку й сказаў, што ні пра які Савецкі Саюз я ў жыцьці ня чуў, затое дзядзька Базыль (між іншым, таксама настаўнік) казаў, што нашая Радзіма — Беларусь. Настаўніца нэрвова рагатнула і пачала даводзіць мне і ўсёй клясе, што нашая Радзіма — малая. У якасьці доказу яна разгарнула перад намі мапу. На мапе быў намаляваны такі здаравенны зубр, а на ім чатыры літары — тры „С“ і адно „Р“. *„Вось гэта“*, паказала настаўніца на зубровую пысу — *„Беларусь. А вось гэта — усё астатняе. І называецца гэта вялікай Радзімай“*. Ну й паехала разьбіраць тушу, як на плякаце ў мясным аддзеле: падламаныя пярэднія ногі зубра яна называла *„Пярэдняй Азіяй“* (а дзе тады ў яго задняя азія?, думаў я), рогі — *„Закарэліяй“*, хрыбет — *„бяскрайняй Поўначчу“*, хвост — *„Канчаткай“*, а невялічкую гурбу, што зубр пакінуў пасьля сябе пад хвастом, — *„Сахарынам“*. Ужо з аднаго гэтага было ясна, што зубра ў гэтым запаведніку ня надта добра кармілі. Я папрасіў настаўніцу паказаць мне лепш на мапе Польшчу, ды спадарыня так і не змагла яе адшукаць. Затое запісала на ўсякі выпадак імя і прозьвішча дзядзькі Базыля, каб, мабыць жа, пракансультавацца зь ім у пытаньнях геаграфіі й маёй далейшай адукацыі.

Неўзабаве я пачаў разумець, што дзядзька Базыль сапраўды мяне падманваў, калі казаў, што мы зь ім *„турысты“*: мы былі ня столькі турыстымі, колькі нутранымі мігрантамі. Бо турыстымі з гледзішча вялікай Радзімы былі людзі, якія абмацалі ўласнымі рукамі ўсяго зубра, а ня толькі ягоную пярэднюю частку: хадзілі ў турпаходы куды-небудзь у горы, да мора ці ў тайгу, спалі ў палатках (а не на палатках па хатах чужых людзёў, як мы) і варылі сабе на вогнішчах ежу (а ня

тыбзьдзілі яе з пограбаў). Яшчэ турыстыя сьпявалі пад гітару шчымлівыя ўласнапрыдуманыя песьні, серлі ў кустах, выціралі дупу лісьцем, а пасьля гэтага займаліся ў тых жа кустах полавай адукацыяй маладога пакаленьня — усё гэта на ўлоньні прыроды выглядала, мабыць жа, вельмі рамантычна й маляўніча. Праз сваю зайздрасьць гэтым сапраўдным турыстым я пачаў іх ціха й завочна ненавідзець. Яшчэ болей я ненавідзеў астатніх дзяцей у клясе, якія ўлетку не дасьледавалі зь дзядзькам вакольныя руіны, а езьдзілі да сваякоў кудысьці ў Маскву й Ленінград. Дзеці, у сваю чаргу, за маю нелюбоў да вялікай Радзімы, якую я па-ранейшаму азначаў за зубра, пачалі называць мяне зубрылкам.

Недзе ў той самы час у гэтага зубра, у цікаўнай да ведаў і ласай на цукар галаве якога мы ўсе жылі, пачала разьвівацца нейкая невылечная хвароба, нібыта ў ім завялася нейкая гніль, ці што — нейкія чарвячкі або хутчэй глісты сумневу. Прынамсі, дзядзька Базыль казаў, што зубр *„гніе з галавы“*, быццам тая рыба. Усё гэта, маўляў, у выніку таго, што зубр пераеўся травы з назваю чарнобыль. А неўзабаве гнілы зубр пачаў літаральна распадацца на кавалкі, рыхтык паводле плякату зь мяснога аддзелу. Настаўніца казала, што злыя людзі з замежжа дзяруць яго на шматкі, імкнучыся адхапіць сабе найсмачнейшыя кавалкі.

Самымі першымі ў зубра адваліліся вушы. Памятаю, у тое лета мы зь дзядзькам паехалі ў Смаргонь паглядзець на нейкі чарговы культавы будынак, а на зваротнай дарозе памылкова ўскочылі ў цягнік ня ў тым кірунку й апынуліся ў Вільні. Гэтак я ў першы раз у жыцьці трапіў за мяжу. Дзядзька, аднак, сьцьвярджаў, што нікуды мы ня трапілі, што Вільня — гэта ўсё яшчэ Беларусь, а ў якасьці доказу паказваў мне нейкія надпісы на мурах і вымпелы з выявай каняКі. Верыць яму, аднак, было для мяне ўжо цяжка. Надта ж адрозьнівалася тая Вільня ад нашай Радзімы. Я хутчэй схіляўся да высновы, што дзядзьку ў галаву ўдарыў хмель свабоды, праз што ён суцэльна страціў арыентацыю ў прасторы, а гэта зь ім і без таго здаралася часта. Вярнуўшыся ў верасьні ў школу, я пахваліўся перад дзецьмі, што таксама бачыў вялікі горад. Але гэта не зрабіла на іх чаканага ўражаньня, то ж бо яны ўсе тым часам былі ў турпаходзе, адкуль бальшыня вярнулася ўжо ня дзецьмі. Як на вундэркінда я быў у параўнаньні зь імі нейкі аж занадта адсталы, нягледзячы на тое, што быў на тры гады старэйшы за ўсіх у клясе. Прыкладам, нават яшчэ не курыў і ня піў гарэлкі.

Школа, такім чынам, хілілася да шчасьлівага канца, і на дзень майго паўналецьця дзядзька ўрэшце падараваў мне сапраўдны, то бок не разбураны, замак, амаль як у той казцы з тэлевізара. Гэта была плясты-

кавая мадэль нейкага старажытнага замежнага гораду, з усім да яе належным: вежачкамі, мосьцікамі, сьцяжкамі, пад'ёмнымі кратамі й нават маленькімі рыцарамі ўсярэдзіне. Я ледзь не зшалеў ад радасьці, няхай сабе баба зь дзедам казалі, што гэта зшалеў дзядзька Базыль. Расцалаваўшы мяне, усе трое надавалі мне павучальных падсрачнікаў на дарожку й адправілі паступаць ува ўнівэрсытэт — той самы, які калісьці закончыў сам дзядзька.

## 3.

*Заўтра вецер пераменіцца.*
М. Попінс

Унівэрсытэт знаходзіўся тамсама, дзе і сталіца маладой Рэспублікі Беларусь, то бок у Менску, і я паступіў у яго зь першага ж разу як сірата і вясковец, дзякуючы нейкім гуманітарным квотам. Не пасьпеў я ў той Менск прыехаць, як адразу ж зьдзівіўся: ён быў яўна большы за Вільню, але ж пры гэтым упрыгожаны выявай таго самага канякі, што я бачыў і ў Вільні, толькі сьцягі па-над ім луналі крыху іншыя — такія, якія дзядзька па п'яні маляваў на платах. Доўга я ня мог у горадзе акліматызавацца, бо ўсе ў ім гаварылі іначай, чым у нас на вёсцы, не раўнаючы ў той Вільні, толькі зусім па-іншаму. Праўда, мне ў першы ж год пашчасьціла сутыкнуцца на нейкім канцэрце з гурбай нармальнай моладзі, што гаварыла па-людзку, і я тут жа да іх падруліў, як да землякоў: зь якой вёскі, маўляў? Моладзь аказалася, аднак, не зусім нармальнай: па-першае, ніводнага вяскоўца сярод іх не было (праз гэта, бадай, мяне й прынялі ў іхнае кола „на ўра", хоць я, прашу заўважыць, быў вяскоўцам толькі ў пашпарце, а ў душы — грамадзянінам сьвету й мястэчкоўцам), па-другое, самі яны называлі сябе нефармаламі, а астатнія лічылі іх проста псыхамі. Усе яны былі мастакамі, паэтамі, пісьменьнікамі, музыкамі й паходзілі з такіх жа, як яны самі, сем'яў — ніхто зь іх у жыцьці не працаваў у калгасе, нават самога слова *„калектывізацыя"* не трываў. Ну, я на іх не крыўдаваў — галоўнае, што сярод іх была пара-тройка прыгожых дзевак. Праз гэтых дзевак я, канец канцоў, і ўлез у палітыку.

Недзе на самым пачатку другога курсу да мяне ў інтэрнат прыбег мой сябар Вітаўт (якога насамрэч звалі Гена), пабудзіў мяне й пачаў клікаць на плошчу ў сьведкі нейкага жахлівага генацыду — маўляў, усе „нашыя" ўжо там. Каб я ведаў, што такое генацыд, то не хадзіў бы.

Аказалася, паводле вынікаў нейкага ці то ахвярэндуму, ці то лесьбісцыту з фасаду будынку ўраду (а мо й парлямэнту, я ж ня менскі) скінулі віленскага каняку, а ў дадатак яшчэ нейкі невядомы мне мастак-пэрформэр залез на страху й пачаў усім падпісвацца на стужках, бы на выпускным, толькі стужкі былі зь беларускага дзяржаўнага сьцягу[3]. Міліцыя, як заўжды, ні ў што не мяшалася, нягледзячы на выяву такога ж каняткі на фуражках. Гэта мяне абурыла: *„Мужык,“* крычу, *„ты шо робіш? Апупеў? Карлсанам задзелаўся? Ты ж без страхоўкі! Яшчэ грымнесься ўніз — турыст, маць яго, знайшоўся...“* Я спадзяваўся, што маю актыўную пазыцыю ў гэтым пытаньні заўважаць перадусім дзяўчаты — але яе заўважылі перадусім мянты. Гэтак я ў першы раз у сваім студэнцкім жыцьці трапіў на суткі. Пасьля гэтага ўжо й дзяўчаты мяне заўважылі: на спатканьні да мяне ў прыёмнік пачаргова хадзілі ўсе тры прыгажуні. Тыдзень праляцеў як вада з цукрам — умовы ў прыёмніку ў параўнаньні з нашым сіроцкім дзіцячым садком былі ня самыя горшыя.

Выйшаў я з сутак закарэлым і закаранелым ворагам дзейнага ладу. Да канца другога курсу я на знак салідарнасьці з апазыцыяй не выходзіў з запою — за гэты час у мяне настолькі адрасьлі валасы, што дзед з бабай і дзядзькам не пазналі мяне, калі я прыехаў на вёску на вакацыі. Бабця абвясьціла мяне „анціхрыстам“, а дзядуля ганяўся за мною па двары з нажом і намерам адрэзаць мой конскі хвост. І толькі дзядзька нешта бубнеў пад вусы кшталту *„Ўсе мы былі маладыя й дурныя“* (хаця хадзіць са мною ў грамадзкую лазьню пасьля й пасаромеўся). Свой конскі гонар мне ўдалося-такі ад дзеда ўбараніць. Калі, вярнуўшыся з вакацый, я трапіў на першы ў новым сэмэстры апазыцыйны мітынг, мяне адразу ж прыкмеціла купка маладых людзей падобнай да мяне зьнешнасьці, і самы цьвярозы зь іх тут жа падышоў да мяне і спытаўся: *„Гэй, хлопча, ты часам не анархіст?“* Згадаўшы бабціну абзывалку, я ўзрадаваўся: бабуля зноў мела рацыю! Гэтак я пазнаёміўся зь яшчэ адной катэгорыяй прасунутай моладзі, якая неўзабаве навучыла мяне курыць (бо піць я ўжо ўмеў дагэтуль, дзякуючы сваім сябрам-псэўдавяскоўцам).

Ад новых сяброў-анціхрыстаў я даведаўся жахлівыя рэчы: ня толькі тое, што мы ўсе ад нараджэньня жывем у злачыннай рэпрэсіўнай сыстэме, але й што раскіданыя кавалкі зубровага цела цяпер зноў спрабуюць сшыць разам, каб зрабіць зь яго гэткага зьвярынага вітгенштайна,

---

[3] Пэрформэрам быў тагачасны кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі І. Ціцянкоў.

страшнага бязьлітаснага монстра, у параўнаньні зь якім колішні жывы зубр быў проста ўвасабленьнем рахманасьці й чалавекалюбства. Пры ўсёй маёй любові да скаціны гэты намер здаваўся мне негуманным. Карацей кажучы, анархісты напалохалі мяне да ўсёру. Ад іх жа я ўпершыню пачуў слова *„эміграцыя“* і пачаў сур’ёзна над ім задумвацца — перадусім над тым, што яно ўласна азначае.

Між тым ува ўнівэрсытэце маё становішча пагаршалася: каб заняць чымсьці хлапцоў майго веку, для іх стварылі вайсковую катэдру. На першай жа шыхтоўцы палкоўнік Кастамалоцкі, зьмераўшы поглядам даўжыню маіх валасоў, сказаў, што ў мяне невайсковае мысьленьне, таму такім, як я, дарога адразу ў войска (у гэтай фразе ён, як той яшчэ підагог, тут жа й падаў наглядны прыклад вайсковага мысьленьня). Маўляў, навошта я хачу быць афіцэрам? Я такі — ну, хачу памерці за Радзіму (Не, ну праўда, раз нашая Радзіма цяпер — Беларусь). А ён: Радзіме патрэбныя шарагоўцы! Тады я, абы толькі ня быць шарагоўцам, якім у нашым войску яшчэ да пачатку баёў пагражае верная сьмерць, папрасіўся адразу ў камікадзэ — на што палкоўнік Кастамалоцкі параіў мне сьпярша пастрыгчыся, а тады, маўляў, і пагаворым. Больш мяне на вайсковай катэдры ня бачылі: анархісцкі гонар не дазволіў мне разьвітацца з маім хаерам.

Замест вайсковай катэдры я запісаўся ў танцавальны ўнівэрсытэцкі ансамбаль „Дзедканданс“. Народныя касьцюмы, якія выдавалі ў ансамблі, былі нашмат прыгажэйшыя за вайсковую форму. Апрача таго, у ансамблі ня трэба было стрыгчы валасы, а толькі пазногці на нагах, каб тыя ўлязалі ў боты, ну і да ўсяго ансамбаль меў права, у адрозьненьне ад вайсковай катэдры, выяжджаць раз на год за мяжу на міжнародныя агледзіны, а гэта акурат супадала з маімі плянамі. А пляны мае былі такія: яшчэ да таго, як мяне канчаткова вытураць з унівэру, пасьпець пабачыць сьвет і навучыцца як сьлед прынамсі аднаму народнаму танцу. Што я ў душы народны танцор, я зразумеў пасьля таго, як мяне затрымалі на менскім вакзале, дзе я ў падпітым стане (ну сябра праводзіў, што тут такога) дэманстраваў напалоханым людзям нейкія старажытныя антраша. Гэта палічылі нацыяналістычнай агітацыяй і зноў упаялі мне суткі. Тут я ўжо ня вытрымаў і пасьля адсідкі пайшоў проста ў Хельсінскі камітэт: прадставіўся чальцом групоўкі „Чорны Недадзел“[4] і заявіў, што мяне перасьледуюць паводле нацыянальнай

[4] Магчыма, Андрусь намякае тут на адзіную ў свой час у Менску анархісцкую групоўку „Чырвоны Жонд“, да якой мы зь ім абодва належалі.

прыкметы (а менавіта народнага танцавальнага касьцюму, у якім я палюбіў хадзіць і па-за рэпэтыцыямі, у тым ліку на заняткі, як сапраўдны народнік). У камітэце мне выдалі Пасьведчаньне рэпрэсаванага з подпісам Зянона Пазьняка *(„Падацяля сяго прыгрэць, накарміць, прытуліць. Зянон.“)*, але на ўсякі выпадак яшчэ параілі дадаткова зьвярнуцца ў Навінкі. Навінкі — гэта была тады такая распаўсюджаная маладзёвая й малатыражная газэта, што выдавалі мае сябры-анціхрысты зь „Недадзелу“. Ну, то я ў яе зьвярнуўся і паведаміў сябрам па сакрэце, што нашая танцавальная трупа якраз зьбіраецца ў замежную гастроль, і што з гэтай нагоды мне не зашкодзіла б мець з сабою апроч пашпарту яшчэ й чорную кніжку анархіста. Гэтая кніжка й аказалася ў выніку маёй пуцёўкай у жыцьцё.

## 4.

*Мы едзем едзем едзем у далёкія края.*
Аўтар гімну Расейскай Федэрацыі[5]

Шчыра кажучы, я не асабліва задумваўся, куды канкрэтна кіраваўся аўтобус з нашым ансамблем, — мне проста было прыемна, што я ўпершыню ў жыцьці афіцыйна еду за мяжу, і гэтым разам — бязь дзядзькі Базыля, як дарослы. Паводле вечаровага сонца, якое сьляпіла мне вочы, я вызначыў, што едзем мы ў заходнім кірунку, і гэтага мне было дастаткова. Памятаю, па дарозе я яшчэ спрабаваў падбухторыць ансамбаль захапіць аўтобус і застацца дзе-небудзь за мяжою ў поўным складзе, як ужо раней спрабавала ня менш таленавітая за нас сям’я Авечкіных[6] — усе думалі, што я жартую, таму ніхто маёй ініцыятывы не падтрымаў, пры тым, што ў сямейных повязях між чальцамі ансамблю недахопу не было. Ну, то я й плюнуў і пачаў рыхтавацца да высадкі самастойна. Перад нашым галоўным фэстывальным выступам я незаўважна зьнік зь пераапраналкі з рэчамі (збольшага сваімі) і зьмяшаўся з глядацкім натоўпам. Ля самага выхаду я яшчэ азірнуўся на сцэну, дзе акурат у той момант паводле ўсіх законаў харэаграфіі мусіў быў сам

[5] Вядзецца пра Сяргея Міхалкова, дзіцячага паэта й бацьку двух дарослых кінарэжысэраў.

[6] Сям’я Авечкіных — савецкі музычны калектыў, які спыніў існаваньне ў 1988 г. у выніку няўдалай спробы ўгону самалёта на Захад. Ніякага дачыненьня да вядомага расейскага хакеіста ня мае.

выскачыць з-за кулісаў у якасьці саліста — шчыра скажу, без майго сольнага выступу ўвесь танец ператварыўся ў абы-што, мне ажно стала сорамна за сваіх зьбітых з рытму й з панталыку калегаў, і я пасьпяшаўся хутчэй сысьці, каб ня бачыць гэтае ганьбы. Схапіўшы першую таксоўку, я папрасіў, каб мяне адвезьлі ў паліцыю (гэтую ангельскую фразу я завучыў у аўтобусе па дарозе). Таксіст, на шчасьце, аказаўся ўкраінцам, які хоць і не зразумеў маёй фразы, але вельмі добра ведаў акалічнасьці працэдуры, якая мяне толькі чакала — ён некарысьліва прапанаваў не марнаваць часу й завезьці мяне адразу ў лягер для ўцекачоў (слова *„лягер“* мне зусім не спадабалася), месца знаходжаньня якога было яму добра вядомае. Я пагадзіўся, бо ня мог ведаць, што гэта настолькі далёка — мы ехалі, пакуль не пайшоў дождж і не надышла ноч, а ў выніку мне давялося аддаць яму ўсю сваю валюту, з такой цяжкасьцю ашчаджаную зь дзедавай і бабцінай пэнсіі. Што ж, затое мне ўдалося зь першага разу трапіць, што называецца, па адрасе — гэтым я сябе й супакойваў. На разьвітаньне таксіст зрабіў мне яшчэ адну ласку й паведаміў, што я знаходжуся ў Чэхіі (я крыху пашкадаваў, што насуперак сваім спадзяваньням ня трапіў у Польшчу, але што ўжо зробіш, калі я ўсю яе дарогаю праспаў).

Стоячы пад дажджом, я пазваніў у жалезную браму — адчыніць мне выйшла маладая жанчына ў форме, падобнай да вайсковай, але зусім не такой, як у палкоўніка Кастамалоцкага. Як жанчына, так і яе форма адразу мне спадабаліся. Я назваў ёй нараены мне таксістам пароль *„азіл“* (я запамятаў яго як *„Ліза“* наадварот) — жанчына ўздыхнула і ўпусьціла мяне пад страху сваёй хаткі, дзе я тут жа зьняў і павесіў сушыцца свой народна-танцавальны строй. Пабачыўшы гэта, жанчына залямантавала й паклікала свайго мужа, таксама ў вайсковым і ў фуражцы, які тут жа надаваў мне па шыі, згроб мае рэчы й заштурхаў мяне разам зь імі ў нешта накшталт карцэру. Нечакана для сябе я апынуўся ў досыць прасторным і цалкам пустым неасьветленым памяшканьні, накшталт нашай школьнай клясы ці дзетсадкоўскай спальні, запоўненым двух’яруснымі мэталічнымі ложкамі. Я доўга ня мог вызначыцца, каторы зь іх павінен быць мой, і ня мог уцяміць, куды падзеліся астатнія арыштанты — мабыць жа, паўцякалі. Ад іх засталіся толькі надпісы на мурах, вышкрабаныя жалезам і пазногцямі — усё рыхтык як у нас на Акрэсьціна. Чыркануўшы запалкай, я пачаў азнаямляцца з графіцямі, і ў мяне тут жа ўзьнікла адчуваньне, што я сплю й сьню ўрок геаграфіі. На мурах красавалі імёны людзей і назвы самых розных краінаў у самых розных мовах і шрыфтах сьвету, якіх я дагэтуль

ніколі ня бачыў і ня чуў. Што да іхнага зьместу, то нават на мурах Брэсцкай крэпасьці-музэю не адлюстравалася такой багатай шкалы эмоцый. Усё гэта, разам з блізкасьцю жанчыны ў форме за сьценкай, узрушвала мяне амаль сэксуальна. Упершыню за гады ў мяне быў уласны пакой! Засынаючы на цьвёрдым сьмярдзючым матрацы, я думаў пра банальна-ўтульны гатэль, дзе цяпер сьпяць мае таварышы-танцоры, і крыху шкадаваў, што здрадзіў ім пасярод фэстывалю, а не пасьля. Мог прынамсі адскакаць свой сольны выступ. Згрызоты сумленьня доўга не давалі мне заснуць.

Прачнуўшыся раніцай, я нейкі час ня мог прыгадаць, дзе й якім чынам я апынуўся — але потым агледзеўся і ўбачыў, што побач са мною (балазе на іншым ложку) сьпіць негр. Дагэтуль я бачыў неграў жыўцом усяго толькі пару разоў у менскім інтэрнацкім жыцьці, зь бясьпечнай адлегласьці — а тут гэты мурын храпеў у мяне пад самым носам. Ня ведаю, у нас у інтэрнаце дык прынамсі былі для неграў асобныя пакоі, а на некаторых прыбіральнях было так і напісана: *„Фор ўайт онлі“*[7]. Гэтак я адразу зразумеў, што ў гэтай іхнай Чэхіі беламу чалавеку будзе зусім ня проста, не раўнаючы ў амэрыканскай турме.

Я выйшаў на двор нэрвова пакурыць і пераканаўся, што насамрэч знаходжуся ў лягеры: пра гэта сьведчылі высокія жалезныя платы, краты й калючы дрот. Мне зрабілася непамысна. Тым часам негр прачнуўся й прыйшоў са мною знаёміцца, праз што мне давялося паціснуць яму руку. Выявілася, што ён зь Нігерыі (ціпа я дальтонік), дзе ўжо некалькі стагодзьдзяў нібыта адбываецца нейкая вайна, а сам ён, маўляў, нейкі нефіговы палітычны змагар, аўтар некалькіх рэпавых пратэстсонгаў, якія ў іхнай Нігерыі, паводле ягоных словаў, шалёна папулярныя. Каб не застацца ў даўгу, я таксама пахваліўся яму, што я чалавек творчы, а менавіта танцор, і нават за свае народныя танцы быў аднойчы арыштаваны. Мурын нечувана зьдзівіўся: за што ўжо за што, а каб затрымлівалі за танцы, такога ў іх у Афрыцы ўявіць сабе было немагчыма. Ён пацікавіўся, зь якой гэта я такой жудасна таталітарнай краіны, і я з гонарам адказаў, што з нашай.

[7] *„Толькі для белых“* (анг.)

**5.**

*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*свой пачэсны пасад між народамі!*
Купала

Як я ў той жа дзень з жахам пераканаўся, я трапіў у тыя самыя вайсковыя казармы, якіх сваім удзелам у народным ансамблі гэтак спадзяваўся пазьбегчы. Шчасьце яшчэ, што казармы былі былыя — калісьці яны належалі савецкім акупантам, а пасьля іхнага тактычнага адступленьня былі, праз адсутнасьць лепшых ідэяў, ператвораныя ўва ўцякацкі лягер. Лягер быў насамрэч фарпостам эўрапейскай імпэрыі, мяжа якой праходзіла тады яшчэ ў трыццаці кілямэтрах на поўнач ад яго: усіх, злоўленых на той мяжы, аўтаматычна накіроўвалі сюды, каб не будаваць для іх асобных гатэляў у самой Эўропе. Пасьля дробных фармальнасьцяў, такіх як здача беларускага пашпарту й падрабязны пераказ усяго, што я паведаміў вам у папярэдніх разьдзелах, то бок майго гаротнага жыцьця на Бацькаўшчыне, ну й яшчэ пасьля праверкі на вашывасьць, СНІД ды іншыя брыдоты (якіх у мяне не было), з карантыннай клеткі, у якой я пераспаў яшчэ колькі начэй, мяне выпусьцілі ў вальер — то бок у зону адносна вольнага перамяшчэньня, абмежаваную лягерным плотам (ужо бяз дроту). На зоне стаяла некалькі аднапавярховых баракаў і адзін пяціпавярховы цагляны дом, дзе раней жылі савецкія афіцэры, а цяпер — блатныя, але ня зэкі (тыя акурат жылі ў бараках), а сямейнікі. Я інстынктыўна ламануўся да дому, бо рыхтык у такім марыў жыць ад самага пачатку да самага канца жыцьця (на вёсцы ён лічыўся б шматпавярховікам, а я так і хацеў — каб на вёсцы, толькі па-гарадзкому), аднак мяне своечасова прытрымалі й пацягнулі ў барак. Там ужо мяне не чакала нічога новага: барак быў падзелены на дзясятак-тузін пакояў, у якіх жылі па тры-чатыры чалавекі, ну проста як у нашым інтэрнаце, з той толькі сумнай розьніцай, што тут былі адны мужыкі — для самотных жанчын быў прадугледжаны асобны барак з бранiраванымі дзьвярыма, які амаль увесь час пуставаў, бо самотныя жанчыны ў лягер чамусьці ня надта імкнуліся, нягледзячы на дзьверы. Выхавацелька (так афіцыйна называлася ейная пасада, хаця паводле ўзроўню штодзённай небясьпекі больш адпаведна было б параўнаць яе з дрэсіроўшчыцай) за ручку завяла мяне ў пакой і пазнаёміла зь дзецьмі, якія былі ў сярэднім гадоў на дзесяць за мяне старэйшыя: армянінам, малдаванінам і латышом. Я адразу адчуў

сябе, як у Артэку, дзе дагэтуль ніколі ня быў. Вось ён, парадокс: імкнучыся ўцячы ад постсавецкага грамадзтва, я трапіў у самы што ні ёсьць яго эпіцэнтар.

З мужыкамі мы ў прынцыпе зажылі па-людзку. Першы тыдзень сышоў на абмен асабістымі дадзенымі й сувэнірамі: кіпяцільнік за лязо для галеньня, пачак цыгарэт за люстэрка й г. д. Майно, якое можна было мяняць ці ставіць у картах, хутка скончылася, бо было яго ў нас небагата, і, апісаўшы кола, збольшага вярнулася да сваіх ранейшых уладальнікаў. Затое вось майна чыста духоўнага ў выглядзе жыцьцёвага досьведу было ні ў кога з нас не адняць, як шчодра мы яго астатнім ні прапаноўвалі.

Армянін быў між нас найстарэйшы й найбольш гаваркі. Ягонаму ўменьню ўвесь час прамаўляць і пры гэтым не сказаць пра сябе нічога зайздросьцілі ўсе. Колькі яму насамрэч гадоў, як ён тут апынуўся, чым займаўся на радзіме, якое было дзявочае прозьвішча ягонай маці — усё гэта назаўжды засталося для нас таямніцай (гэта толькі я, як дурань, яшчэ ў першы дзень выклаў пра сябе ўсю праўду — і матку, і татку, хоць і быў зь імі асабіста незнаёмы). Затое мы даведаліся ці ня ўсё пра ягоную здрадніцу-жонку й ейнага каханка, пра армянскія карані мастака Айвазоўскага, гісторыю стварэньня армянскага альфавіту і ўсё такое. Паводле шырыні ягоных ведаў было ясна, што гэта чалавек з вышэйшай адукацыяй, хоць і прыехаў у Чэхію ў адным спартовым касьцюме. Другім па гаваркосьці й ўзросьце быў латыш — былы прафэсійны футбаліст, які паехаў у Чэхію наймацца на працу й якога адразу ж па прыезьдзе кінулі, разьвёўшы на грошы й дакумэнты (такіх у лягеры хапала — адных прыбалтаў было штукі тры, і сярод іх нават адзін паляк). Між іншым, паводле нацыянальнасьці латыш аказаўся такім жа беларусам, як я, — час ад часу ён атрымліваў з дому ад маці лісты, напісаныя чыстай беларускай мовай, хай сабе й з выкарыстаньнем расейскай кірыліцы. Яшчэ ў латыша ў Латвіі была жонка, перад якой яму было ўвесь час сорамна, што ён так і не знайшоў сабе за мяжою працы, таму латыш знаходзіўся ў несупынных халерычных пошуках якога-небудзь занятку. Ну й апошнім паводле колькасьці гнілога трындзяжу й гадоў, затое першым паводле матэрыяльнай забясьпечанасьці (ня толькі ў нашым пакоі, але і ўва ўсім бараку) быў малдаванін — той у лягеры проста, кажучы ягонымі словамі, адпачываў, як у санаторыі, папрасіўшы прытулку, каб ня йсьці ў чэскую турму, куды яго хацелі запратарыць ці то за сутэнэрства, ці то за рэкет (і такіх сярод лягернікаў выявілася нямала). Малдаванін быў вэтэранам прыднястроўскай вайны, за

што мы ўсе, за выключэньнем расейцаў, належна яго паважалі. Паважала яго й ахова лягера: а то б не, калі перад уязной брамай ля вахты стаялі ўсяго дзьве машыны, дырэктарава зялёная „шкода“ й малдаванінаў белы „мэрсэдэс“. Пры гэтым яго ўладальнік выглядаў сьціпла, залатых ланцужкоў (у адрозьненьне ад дырэктара) не насіў і на першы погляд нічым не адрозьніваўся ад звычайнага гастарбайтэра.

Даведаўшыся пра маё беларускае паходжаньне, усе тры мае былыя суграмадзяне, а цяпер суседзі па пакоі пачалі мне зайздросьціць, бо былі перакананыя, што хто ўжо хто, а я дык „азіл“ атрымаю аўтаматам. Армянін, на злосьць свайму доўгаму носу, нават выказаў жаданьне перакваліфікавацца ў беларусы з маёй дапамогай: з гэтай мэтай я мусіў навучыць яго азам беларускай мовы. Бадай, ці не ўпершыню ў гісторыі нехта з уласнай волі захацеў быць культурна намі (перадусім канкрэтна мною) асыміляваны! Вось дзе мне прыдалася мая нясконченая пэдагагічная адукацыя! Армянінаву прапанову стаць ягоным рэпэтытарам і гувэрнантам я сустрэў з імпэтам яшчэ й таму, што спадзяваўся зарабіць на ім крыху грошай на цыгарэты, якія з дапамогаю суседзяў у мяне імкліва заканчваліся, а да выплаты так званай сацыяльнай дапамогі заставалася яшчэ некалькі тыдняў. Аднак грошай у армяніна не было, таму я, дурань, пагадзіўся вучыць яго беларускае мове ў доўг. Тым ня менш, адчуваньне, што я прадаю радзіму за цыгарэты, усё адно мяне не пакідала. Заняткі нашыя адбываліся збольшага ў форме рэпэтыцыі будучага армянінавага допыту ў паліцыі для замежнікаў (ці як тут яго называлі — інтэрвію), каб спалучыць навучаньне армяніна мове з завучваньнем ягонай новай уцякацкай легенды: *„Дык кажаце, вы зь Беларусі?“ — „Зь Беларусіі, ара“. — „А адкуль зь Беларусі?“ — „Із Мінска, ара“. — „Чаму вы прыехалі ў Чэхію — вам што, на радзіме блага?“ — „Да какое благо, ара! Хуёво там, да?“*

Самае большае праз тыдзень, калі набліжаўся час атрыманьня „сацыялкі“, армянін, бачачы сьціплыя вынікі нашай вайны зь непасільнай складанасьцю беларускай мовы, ад маіх паслугаў адмовіўся й паставіў на іншага канька: нехта падказаў яму, што ўсе прадстаўнікі армянскага спэцназу вызначаюцца татуіроўкай дракона на плячы, і ён вырашыў зьмяніць легенду — абы не вучыцца й не плаціць мне за навуку. Зноў стаўшы армянінам, ён выдаваў сябе цяпер за былога целаахоўніка ці то прэзыдэнта, ці то коміка Петрасяна[8] , які (то бок ён сам, а не Петрасян) трапіў у няласку да ўладаў. Калі не лічыць сьціплага целаскладу й

[8] Сапраўднае прозьвішча першага прэзыдэнта Арменіі — Тэр-Петрасян.

нізкага росту, над якімі армянін пачаў працаваць у той жа дзень, да целаахоўніка яму бракавала дробязі, а менавіта: татуіроўкі дракона. Малдаванін аказаўся ў мастацтве ўтырканьня іголак у скуру майстрам міжнароднага прызнаньня (бо пад гэтай пагрозай яму звычайна прызнаваліся ўва ўсім, магчыма, нават у каханьні, ня ведаю), аднак, як на бяду, маляваць ня ўмеў — зноў давялося зьвяртацца да мяне, як да чалавека рознабакова таленавітага. На жаль, ніколі ў жыцьці я не маляваў драконаў, але ж дзякуючы Дракошу зь незабыўнага савецкага мульціка меў пра іх сёе-тое ўяўленьне. Вынікам нашай супольнай з малдаванінам працы армянін быў болей чым задаволены: ён атрымаў свайго дракона, а мы ад яго — па пачку цыгарэт. Жыць далей было можна.

**6.**

*Taste the West and fuck the rest*.
Рэкляма

Яшчэ ў першы дзень на „зоне“ я ўціхара ад суседзяў даеў нарыхтаваныя на дарожку сухары, апошнюю повязь з айчыннай харчовай прамысловасьцю, сумленна паліўшы іх настальгічнымі сьлязьмі, і скіраваўся ў лягерную сталоўку. Менавіта там я пазнаёміўся з чэскай кухняй (дзе не было ніводнай маладзенькай ані худзенькай кухаркі, вартай таго, каб запамятаць ейнае імя зьлёту), а таксама з бальшынёю геаграфітыставу усіх вякоў і народаў, якія папакідалі свае аўтографы ў карантынным памяшканьні, каб такім, як я, нэафітам было што пачытаць перад сном у першую лягерную ноч. Уражаньне маё ад сталоўкі было параўнальным толькі з бабілёнскім слупастваранэньнем, дзе ў якасьці слупа з разяўленым ротам застаўся стаяць я сам. Калі наш пакой быў усяго толькі Артэкам, то сталоўка нагадвала ўжо залю паседжаньняў ААН. Кожная фракцыя дэлегавала ў Раду Бясьпекі (то бок у чаргу) самых нахабных і цьвердалобых сваіх прадстаўнікоў, а сама між тым імкнулася акупаваць як найбольшую колькасьць самых выгадных, то бок адносна чыстых і аднячасова найбліжэйшых да раздачы столікаў, каб, як што якое, першымі пасьпець за дабаўкай. Напружыўшы свой абсалютна немузычны слых, я распазнаў у вакольным паветры блізу паўсотні незнаёмых мне моваў, самай мілагучнай зь якіх было дзіцячае якатаньне. Гэтак я на ўласныя вушы зразумеў сэнс слова *„мультыкультуралізм“*, якое дагэтуль лічыў неяк зьвязаным з мульцікамі, а таксама тое, што каб не пасярэдніцтва грубай сілы, то хаўчык тут дастаўся б далёка ня ўсім.

З сталоўкі пачалося маё знаёмства зь міжнароднай палітыкай і яе ахвярамі. Дагэтуль я думаў, што толькі адны мы, беларусы, ёсьць у сьвеце ізгоямі й недарэкамі, а ўсе астатнія жывуць як людзі й ня маюць патрэбы шукаць шчасьця па-за межамі сваіх гістарычных рэзэрвацый. Аднак тут я зразумеў, што патрабаваньні да жыцьця ў людзей збольшага індывідуальныя, а ня толькі ідэалістычныя, як у мяне. Узяць, прыкладам, кубінскага патрыёта Г'явані па мянушцы Гавана: чалавек вырас у краіне пераможнага сацыялізму, на высьпе свабоды ў моры глябалізацыі, апісваў сваю радзіму з дапамогаю жэстаў і мімікі (у яго быў лёгкі цік) як рай на зямлі — ну чаго яму там не ставала? Дык не, ягоны бацька быў, як на бяду, алькаголікам, а ў маці, як на бяду, былі сваякі ў Маямі, куды тая ўцякла ад пабояў і сям'і, пакінуўшы на зьдзек сэнільнаму Фідэлю малога сына, пасьля чаго паўторна выйшла замуж у Нямеччыну. Праз усё гэта Гавана (нават зьнешнасьцю — ён быў такі маленькі, тлусьценькі й валасаты) нагадваў маманцёнка, які выправіўся ў вялікі сьвет на пошукі мамы, ледзь дасягнуўшы паўналецьця: яго злавілі пры спробе пераезду нямецкай мяжы ў багажніку аўтамабіля й бязь лішніх роспытаў адправілі да нас. Гавана ня мог дараваць Фідэлю такога прыніжэньня. У вольны ад нараканьняў час ён сакавіта апісваў усе магчымыя катаваньні сьвету, якія марыў выпрабаваць на бедным дзядку-камандантэ толькі за тое, што той не выпускаў яго з краіны па-добраму. Або, скажам, славак Пэтэр, які папрасіў палітычнага прытулку кіляметраў за дваццаць ад свайго дому: думаеце, ён уцёк ад войска ці ад тамтэйшага Фідэля — Мэчыяра?[9] Не, насамрэч ён уцёк ад свайго духоўнага настаўніка — індыйскага ёга! Як гіпі ў трэцяй генэрацыі, Пэтэр вельмі цікавіўся альтэрнатыўнымі навукамі, і дацікавіўся да таго, што ёг пачаў зьяўляцца ў ягоных снах і маніпуляваць ім, бы робатам на дыстанцыйным кіраваньні, пасылаючы то ў краму па піва, то ў банк па грошы, то ў дупу па прыколу. Пэрыядычна ён насылаў на Пэтэра паралюш, у выніку якога Пэтэр гадзінамі ня мог ані ўстаць з ложку, ані даплюнуць да столі. З часам Пэтэр заўважыў, што чым большая дыстанцыя, тым горай дзейнічае ёгава кіраваньне — таму выдаўся, натуральна, на захад, абы як мага далей ад усходняй мудрасьці, аднак быў зноў-такі запынены чэскімі ўладамі на самай мяжы ўратаваньня сваёй душы. Або расейская пара з Чачні — лічыце, яны ўцяклі ад жахаў вайны? Ці мо ад помсты з боку чачэнцаў? Гэта яны так толькі казалі ў паліцыі: насамрэч,

[9] Уладзімер Мэчыяр, аўтарытарны прэм'ер Славаччыны ў 1990—1998 гадах — цяпер проста ў гадах.

гэта былі сучасныя Рамэо й Джульета. Джульета закахалася ў Рамэо на дыскатэцы, а раніцай даведалася, што яму сорак гадоў і ў яго жонка з двума дзецьмі — як і наказаў Шэксьпір, яна ўжо зьбіралася скончыць жыцьцё самагубствам, як тут Рамэо прапанаваў ёй усё кінуць і ўцячы за мяжу — Джульета на месцы пагадзілася. Чаму яны трапілі ў Чэхію, а не адразу ў Вэрону — без паняцьця… Карацей, што ўжо тады хацець ад іранскага гея, а да ўсяго яшчэ й ліліпута зь мянушкаю Дыназаўр, якога нармалёвыя ўва ўсіх сэнсах суайчыньнікі не закідалі камянямі толькі таму, што ніяк не маглі ў яго з адлегласьці патрапіць?

Ува ўсіх згаданых асобах я тут жа распазнаў роднасную сабе душу (як і наадварот), і мы, натуральна, засябравалі. З Гаванай мяне яднала ня толькі, так бы мовіць, сірочая доля, але перадусім любоў да Леніна — гэтак ён называў гатунак бутэлечнага піва, якое прадавалася ў найбліжэйшай да лягера краме, куды нас раз на дзень адпускалі пасьля абеду. На піўным цэтліку быў выяўлены гістарычны заснавальнік бровара з куфлем свайго ўлюбёнага пітва: лысы, з бародкай і хітравата прымружанымі, знаёмымі нам абодвум яшчэ зь піянэрскага дзяцінства вачыма — нішто ў ім не выдавала капіталіста й эксплюататара. *„Скажыце, калі ласка, а ў вас ёсьць Ленін у Разьліве?“* — гэта была першая чэская фраза, якую мы з Гаванам вывучылі й тут жа забылі, бо Ленін у краме быў толькі бутэлечны. Апрача гэтага Гавана быў ці не чэмпіёнам Кубы ў настольным тэнісе й імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб выхаваць ува мне свайго наступніка. З славакам Пэтэрам, у сваю чаргу, мы гулялі найчасьцей у шахматы (правілы ў якіх аказаліся зусім іншыя, чым у шашках) — як у кожным прыстойным летніку, недахопу ў настольных гульнях не было й тут. У дадатак Пэтэр быў вялікім знаўцам ня толькі індыйскай, але й расейскай культуры (прынамсі, у параўнаньні са мною) і нават любоўна называў мяне „Платонавым“. Дзякуючы яму ў мяне значна палепшылася як чэхаславацкая, так і беларасейская мова — настолькі, што я мог дазволіць сабе запісацца ў лягерную бібліятэку й атрымаць пасьведчаньне чытача нумар два (нумарам адзін быў сам Пэтэр). З Дыназаўрам я сябраваў збольшага таму, што зь ім сябраваў Пэтэр і варагавалі астатнія. Што да расейскай пары каханкаў, дык тая наагул мяне фактычна ўсынавіла, і на працягу ўсяе лягернай зьмены я карыстаўся тым, што яны жылі ў пяціпавярховым доме — гэта значыць, перадусім зь іхным асобным, некалі афіцэрскім душам. Такога, мушу сказаць, нават у нашым менскім інтэрнаце не было! — а нічога большага я ад жыцьця й не патрабаваў: абы не было, як у менскім інтэрнаце.

## 7.

*Arbeit macht frei.*
Молатаў-Рыбэнтроп

Было б, вядома, грубай памылкай параўноўваць наш уцякацкі лягер зь лягерам працоўным — працаваць нам было наадварот забаронена: нашым абавязкам перад гасьціннай Чэхіяй было ціха сядзець і чакаць ейнага выраку над нашымі блытанымі лёсамі. Праз гэта мы пакутавалі ня толькі ад першай паводле распаўсюджанасьці ў сьвеце хваробы (нудоты), але і ад другой (адсутнасьці грошай). Атрымліваная намі раз на месяц сацыяльная выплата была ў эквіваленце роўная дзесяці пачкам цыгарэт, да таго ж нас яе пэрыядычна за ўсякія дробныя правіны (кшталту пералазваньня плоту ў непрызначаным для гэтага месцы або незьняцьця кепкі перад аўчаркай некага з ахоўнікаў ці наадварот за зьняцьцё кепкі з самога ахоўніка — паспрабуй гэтыя іхныя правілы зразумей) пазбаўлялі. Таму ўсімі праўдамі й няпраўдамі мы спрабавалі знайсьці сабе нейкі непрыкметны занятак, што мог бы нам прынесьці нейкую прыкметную матэрыяльную выгаду. Ня ўсе ж мелі шчасьце гандляваць перададзенай з „волі“ травой, як якія-небудзь альбанцы, афганцы ці сэнэгальцы.

Хто меў залатыя рукі й ня меў лішняй фантазіі, той у найбліжэйшым населеным пункце прыватна наймаўся ў электрыкі ці будаўнікі — прыкладам, Рамэо гэтак зарабляў Джульеце на шакалядкі ў адной чэска-цыганскай сям’і. Пэтэру было анігадкі, бо ён быў у лягеры адзіным, хто ўмеў па-тутэйшаму, таму пракурваў і прапіваў тое, што непісьменныя (то бок усе астатнія) плацілі яму за складаньне заяваў, скаргаў, даносаў і апэляцый. Латыш-беларус дачуўся, што ў недалёкай рэстарацыі гатуюць эскарго й прымаюць на рэалізацыю жывых сьлімакоў, таму штораніцы ці пасьля дажджочку зьнікаў зь вядзерцам у лесе, а пад вечар прыносіў яго ўжо поўным гэтай сьлізкай брыдоты, каб на наступны дзень здаць яе на далікатэсы. Уначы сьлімакі, не дурнейшыя за латыша, вылазілі зь вядзерца й распаўзаліся па пакоі, праз што страты ў іхных шэрагах былі значныя, асабліва на шляху ад нашых ложкаў да прыбіральні — зраньня былы футбаліст мусіў зноў бегчы дабіраць вядзерца. Урэшце, ён плюнуў на сьлімакоў і пастанавіў зьбіраць лепей чарніцы, слушна зацеміўшы, што тыя за ноч нікуды зь вядзерца не ўцякуць. З гэтай мэтай ён, паводле прыкладу італьянцаў, што выкарыстоўваюць для пошуку труфэляў парсючкоў, выкарыстоўваў Гавану.

Гавана пайшоў у бясплатныя памочнікі латыша цалкам дабраахвотна: то ж бо на райскай высьпе Куба празь нейкі боскі недагляд не расло ні чарніцаў, ні малінаў, і варта было Гаване зайсьці ў лес, як ён пачынаў лямантаваць: *„Андрусь! Хутчэй, хутчэй! Маліны! Чарніцы! Суніцы!“* (кубінскіх назваў гэтых ягад ён ня ведаў, таму карыстаўся адразу чэскімі). Я як чалавек, што ўсё дзяцінства прабадзяўся па беларускіх лясох у пошуках дадатковых калёрый, зусім не падзяляў ягонага энтузыязму і лазіць зь ім па тутэйшых зарасьцях адмовіўся, саступіўшы гэтую ганаровую ролю латышу. Той ня мог нахваліцца, які ж гэты Гавана разумны й таленавіты хлопчык. Калі неўзабаве ў ваколіцах лягера пайшлі яшчэ й грыбы, якіх на Кубе таксама няма, Гавану ўжо не магла ўтрымаць у лягеры ніякая ахова: ён рваўся ў лес, як паляўнічы сабака. Балазе, латыш меў дастаткова сумленьня, каб частаваць нас набытымі за прададзеныя ягады й грыбы цыгарэтамі, у найгоршым выпадку — самімі ягадамі й грыбамі. Зрэшты, Гаване можна было скарміць усё, хоць мухаморы.

Што да мяне, то я нажываўся на астатніх толькі тады, калі мне на рэдкасьць шанцавала, як аднаго разу з мусульманамі, зь якімі я пасярэдніцтвам Дыназаўра падтрымліваў прыязныя стасункі з прычыны сваёй зацікаўленасьці травой (каму ягады, каму што). Неяк раніцай у нядзельку Дыназаўр прыбег да нас у пакой і пачаў на мігі паказваць, што ў мусульманскім корпусе рыхтуецца інтыфада (а я дык думаў, траву завезьлі). Тут трэба патлумачыць, што ў нядзелю сталоўка была зачыненая, таму ў суботу ўвечары лягернікам выдаваўся сухі паёк — печыва й нейкія кансэрвы, па адной на ўцекача. Мусульманам з павагі да іхнага далікатнага страваводу выдаваліся строга курыныя, качыныя, індычыныя, а мо нават і гусіныя паштэты чэскага вырабу, што я ведаю. На бяду, папярэдняга дня нехта зь іх даўмеўся прачытаць маленькія літары на ўпакоўцы кансэрвы. Белы ад жаху, гэты грамацей паведаміў сваёй грамадзе, што ў так званым „курыным“ паштэце ўтрыманьня, паводле ўпакоўкі, ажно пяць працэнтаў сьвініны! Грамада параілася й прыйшла да высновы, што нехта наўмысна (а чаго ж яшчэ чакаць ад бледнатварых) паспрабаваў падкласьці ёй сьвіньню. Я ніколі ў жыцьці ня бачыў на ўласныя вочы ўзброенага паўстаньня, таму пабег на яго зірнуць — натоўп пакрыўджаных вернікаў ужо на той момант утварыў перад баракам карагод, пасярэдзіне якога былі досыць ладнаю пірамідкаю складзеныя кансэрвы, прызначаныя для рытуальнага спаленьня. На маё ветлае пытаньне, што здарылася, адзін знаёмы пакістанец (яго былі на нейкі час да нас падсялілі, але ў нашым Артэку ён вытры-

маў нядоўга, бо ўставаць а чацьвёртай раніцы, каб пастаяць ракам і паслухаць лонданскае радыё, савецкія людзі ня звыклыя) усё мне расказаў: *„Май фрэнд! Порк! Порк, май фрэнд! Ўі доўнт іт іт, ітс дэрці!“*[10] Я, натуральна, тут жа абурыўся ня менш за мусульманаў і ўзяўся ад іхнага імя (ну й яшчэ ад Пэтэрава) напісаць скаргу дырэкцыі лягеру, чым адразу здабыў іхны давер і павагу. Маўляў, я сам сала ня ем, бо няма. Вось толькі, кажу, спальваць кансэрвы немэтазгодна, гэта могуць расцаніць як хуліганства й пашкоджаньне маёмасьці. Дый яны па-людзку й не гараць, гэта ж не герэтыкі. У абмен на маё самазванае заступніцтва мусульмане тут жа даручылі ліквідацыю кансэрваў мне. Скаргі мы, праўда, так і не напісалі, затое рэшта лягера да канца тыдня ладавалася па вечарах курыным паштэтам, а я зарабіў сваю першую ў замежным жыцьці тысячу крон — у тры разы болей за нам прызначаны ўэлфэр[11] .

Пазбыўся я яе неўзабаве пасьля гэтага, калі па нашым лягерным тэлевізары (адзіным, затое вялікім) пачаўся чэмпіянат сьвету па футболе, у якім, трэба сказаць, удзельнічалі далёка ня ўсе лягерныя нацыі — наш сьвет быў нашмат шырэйшы за нейкі там футбольны. Глядзець футбол дзякуючы нам, постсавецкім упырхлікам (гэтае чэскае слова было для нас тым, чым ёсьць для беларусаў слова „тутэйшы“, а для дзяцей слова „мама“), стала для ўсіх абавязковым, неабавязкова было нават у ім разьбірацца — мы ж людзі такія, дэмакратычныя. Міжволі й іншыя народы, якія ў жыцьці ня бачылі мяча, пачалі ўцягвацца ў гульню, нават хадзілі на матчы, размаляваўшыся ў нацыянальныя колеры блізкіх іхнаму сэрцу краінаў. Гэтак, Гавана заўзеў за бацькаву Лацінскую Амэрыку й маміну Нямеччыну, я — за Японію, Дыназаўр супраць Ірану, рэпер за Нігерыю й гэтак далей. Латыш, як былы футбаліст (на чыім рахунку быў нават гол у чэмпіянаце Латвіі, калі не памыляюся — з пэнальці), сьпярша задзелаўся камэнтатарам і дзяліўся з усімі сваімі глыбокімі назіраньнямі за гульнёй, а пасьля, паводле вынікаў усеагульнага галасаваньня, пастанавіў пакінуць свае веды пры сабе й цішком паставіць заробленыя на чарніцах грошы ў вясковай краме, што была па сумяшчэньні й аддзяленьнем чэскага „Спортпрагнозу“. Аднаго дня ніхто ня мог зразумець, чаго ён так радуецца перамозе нігерыйцаў над баўгарамі, ажно півам усіх частуе — баўгары, якія ў лягеры былі прадстаўленыя больш годна, чым на чэмпіянаце, калектыўна запатрабавалі

---

[10] *„Мой дружа, сьвініна! Мы яе не ямо, яна брудная!“* (анг.)

[11] ***Welfare*** (анг.) — сацыяльная дапамога.

ад латыша тлумачэньняў, зь якіх выплыла, што латыш паставіў на нігерыйцаў і нефігова падняўся. Тут жа ягонага лёгкага хлеба захацелася ўсім, у тым ліку і мне. У адрозьненьне ад астатніх, я не змушаў свайго суседа ставіць мае грошы на тое ж, што і ён, каб ня быць яму лішні раз абавязаны — а дарэмна. Рэшту заробленай на сьвінакураціне тысячы я паставіў у фінале на Бразілію (бо Японія да яго не дайшла) — астатняе вы ведаеце. Мэрсі, Зізу[12] — празь цябе я зноў стаў тым, чым быў і дагэтуль.

## 8.

*Ёсьць на сьвеце такія бадзягі...*
Эмігранцкая песьня

Калі не лічыць нас, адарваных ад калматых грудзей зубра постсавецкіх паразітаў, то самай колькаснай і жыцьцярадаснай групоўкай у лягеры былі цыганы: баўгарскія, румынскія, македонскія й іншыя. Ім тут жылося як дома ўжо таму, што па-чэску лягер будзе „табар“. Тым часам як бальшыні з нас лягерныя ўмовы здаваліся недастаткова камфортнымі, цыганы лічылі іх вяршыняй цывілізацыі й сьвяткавалі сваё тут знаходжаньне так, нібы кожны зь іх штодня выйграваў у лятарэю. Ува ўсякім разе, жылося ім тут насамрэч лепей, чым іхным чэскім суродзічам у паўсюдных паблізных гета, таму яны зь лягеру нікуды асабліва й не імкнуліся — ні да чэхаў, ні да немцаў, ні пагатоў дахаты. У гэтым я быў вельмі падобны да іх, бо таксама імкнуўся жыць кожным сёньняшнім днём, тут і цяпер, як мага больш інтэнсіўна, што ў маім выпадку азначала перадусім не прапускаць ніводнае п’янкі. А як яшчэ я мог заглушыць пякучую тугу па Радзіме, то бок па яе вынаходніку дзядзьку Базылю й па бабулі зь дзедам? З дапамогай адзінага лягернага тэлефона-аўтамата? Нават калі б я здолеў выстаяць да яго чаргу або прабіцца да слухаўкі з кулакамі, кідаць у ягоную шчыліну мне не было чаго. Дый ведаю я, што сказалі мне б мае адносна недалёкія сваякі: абмацюкалі б, як апошняга падлетка. А пра таварышаў па „Дзедкандансе“ і ўнівэры я й згадваць не хачу — то бок цяпер хачу, а тады яшчэ не хацеў.

Уласна, на тых з нас, хто на поўным сур’ёзе прасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі, астатнія (а іх была бальшыня) глядзелі, як на вар’ятаў: цывілізаваны Эўразьвяз пад самым бокам, а мы тут у лягеры нейкую чэскую вывучаем, што дурныя! І сапраўды, з уцекачоў не спрабавалі

[12] Мянушка слыннага францускага футбаліста Зінэдына Зідана.

ўцячы ў Нямеччыну (на ўпырхліцкім дыялекце — у Джармэнію) толькі цыганы й тыя, хто ўжо ўканец абляніўся. Лягерны фальклёр амаль суцэльна складаўся з показак пра Джармэнію й эпічных сагаў пра геройскія спробы яе дасягнуць, а *„Лшоно Габоо Джармэнія“* можна было б сьмела напісаць па-над лягернай брамай замест дэвізу[13].

Уцёкі ў Джармэнію адбываліся збольшага гэтак: штораніцы поўны рэйсавы аўтобус толькі ўчора, здавалася б, заселеных афганцаў або індусаў выяжджаў кудысьці ў кірунку мяжы (пазнаць, што яны едуць у Джармэнію, было няцяжка: паводле радасных твараў і вялізных клункаў). Увечары той самы аўтобус звычайна прывозіў усю партыю перабежчыкаў назад, і выглядалі яны ўжо зусім ня радасна — у адрозьненьне ад лягернікаў-дамаседаў, якія дакучалі ім сваймі іранічнымі роспытамі й зьдзеклівымі віншаваньнямі. Аповеды вяртанцаў былі аднатыпныя: іх завялі ў раён мяжы, сабралі грошы, пакінулі ў лесе, яны заблукалі й былі адзін па адным адлоўленыя нямецкай паліцыяй, якая зноў перадала іх паліцыі чэскай. Нават тыя, што мяжу пасьпяхова пераходзілі, пры адсутнасьці лягістычнай падтрымкі з таго боку хутка рабіліся ахвярамі пільных нямецкіх грамадзянаў, якія атрымлівалі ад наступнікаў гестапа па сто марак за галаву перабежчыка (балазе, страляць па ім альбо нацкоўваць на яго сабакаў было ўжо гадоў пяцьдзясят як неабавязкова). Былі падазрэньні, што супрацоўнічаюць з паліцыяй і самі гіды-сьледапыты, якія бралі за перавод у Джармэнію ці не па тысячы даляраў з чалавека — навошта ім было падразаць цяля з залатымі яйцамі? Хай шукаюць яшчэ тысячу й зноў зьвяртаюцца… Але гады ў рады здаралася, што аўтобус прыходзіў пусты, і тады расчараваньне непазьбежна зьяўлялася на тварах тых, хто выходзіў яго сустракаць: каб мы ж ведалі, што акурат гэтая партыя прарвецца на той бок дабра й зла! Ах, Джармэнія…

Мяне як анархіста гэтая іхная капіталістычная Джармэнія зусім ня торкала, дый лішняй тысячы даляраў у мяне не было, а пра самастойны пераход мяжы я баяўся й думаць пасьля таго, як мяне аднойчы ўначы адправілі праз плот па гарэлку ў вясковую карчму — сваё арыентацыйнае чуцьцё я яўна ўспадкаваў ад дзядзькі Базыля празь нейкае генэтычнае непаразуменьне. Прахадзіўшы якую гадзіну па цёмным і мокрым пасьля дажджу лесе, я так і не знайшоў ня толькі карчмы, але

[13] Відавочна, што аўтар знаёмы з творчасьцю Юркі Віцьбіча, бо першыя два словы ўзятыя з назвы ягонага раману. Насамрэч фраза гучыць на іўрыце як *„Бэ-шана га-баа Бірушалаім“* і перакладаецца як *„Налета ў Ерусаліме“*.

й лягернага плоту, церазь які меўся пералезьці (праўда, аднак, тое, што мяне паслалі ня проста так, а за дабаўкай, якая рэзка спатрэбілася нам пасьля дзьвюх першых пляшак). Не заставалася нічога лепшага, як здацца першаму сустрэчнаму ахоўніку зь ліхтарыкам, які з задавальненьнем завёў мяне на вахту й запісаў у парушальнікі лягернага рэжыму, за што мая сацыяльная выплата аўтаматычна была пералічаная ў фонд ягонага заробку. Такой бяды: гэта было яшчэ нішто ў параўнаньні з тым сяброўскім прывітаньнем, якое чакала мяне ў пакоі.

Але ж і я быў вымушаны канец канцоў падняць сваю сраку з наседжанага лягернага ложку й пачаць шукаць выйсьця з былых савецкіх казармаў. Вымусілі мяне да гэтага дзьве рэчы: па-першае, усё тая ж адсутнасьць грошай, а па-другое — адсутнасьць усякага асабістага жыцьця, якое ў маім выпадку абмяжоўвалася пісаньнем так і не адасланых адкрытых лістоў да тых траіх незабыўных дзяўчатаў, што прыходзілі наведваць мяне на Акрэсьціна — от каб хоць адна зь іх наведала мяне тут! Думаю, нам нават прадаставілі б асобны пакой для спатканьняў. Я не кажу, што эратычнае жыцьцё лягера было зусім на нулі — паўсюль знойдзецца колькі чульлівых жанчын, якія нікому не адмовяць — але менавіта гэтая іхная безадмоўнасьць у спалучэньні з багатай гамай полавых захворваньняў з усяго сьвету мяне й палохала. Усе астатнія жанчыны былі або замужнія й знаходзіліся пад строгім патрыярхальным кантролем сваіх самцоў, або чэшкі, якія ня мелі ня толькі права, але й жаданьня круціць на працы раманы з усякімі перамешчанымі асобамі, што сёньня тут, а заўтра там. Адзіным рамантычным эпізодам за ўвесь мой лягерны тэрмін ледзь ня сталася знаёмства зь пяцідзесяцігадоваю (! — і гэта толькі на выгляд) унтэр-афіцэрскаю ўдавой расейскага паходжаньня, якая, не пасьпеўшы зьявіцца ў лягеры, пачала дамагацца ўсіх і кожнага. Спачатку яна спрабавала падкупіць вас сваёй шчымлівай гісторыяй (аказваецца, яна яшчэ пры савецкай акупацыі жыла ў гэтым самым лягеры ў якасьці камандзірскай жонкі, таму з гэтым месцам былі ў яе зьвязаныя самыя радасныя ўспаміны маладосьці — і вось паводле горкай іроніі лёсу яна вымушаная была на старасьць гадоў вярнуцца сюды не як гаспадыня, а як папрашайка: якое прыніжэньне!), пасьля — сваім кулінарным мастацтвам, і ўрэшце — грашыма й каштоўнасьцямі. Ня памятаю, якім цудам мне ўдалося ад яе адбіцца — здаецца, мяне супольнымі сіламі адбіў малдаўска-армянскі спэцназ. Пабадзяўшыся па лягеры ў пошуках ахвяры тыдзень-другі, маладжавая пэнсіянэрка дзяржаўнага значэньня запыніла свой пачуцьцёвы выбар на адным кітайцы, якога ўжо да яе зрабіла была інва-

лідам і загнала ў лягернае падпольле тутэйшая філія шанхайскай трыяды — кітаец досыць блага хадзіў, таму, нягледзячы на досьвед уцёкаў ад мафіі, уцячы ад бязьмежнай любові настолькі сталай, спрактыкаванай і ўпэўненай у сабе жанчыны нікуды ня мог. Думаю, яна й насамрэч знайшла ў ім найлепшы аб'ект прыкладаньня сваіх пачуцьцяў, хутчэй мацярынскіх, чымся якіх яшчэ, бо з часам мусіла выносіць за ім нават начны гаршчок — з кожным днём кітайцава здароўе ўсё пагаршалася. Толькі аднойчы яна пакінула яго на колькі хвілінаў самога (выносіла сьмецьце), вярнулася й знайшла засіленым на батарэі. Паліцыя канстатавала факт самагубства. Гэтак бедная кабета фактычна стала ўдавой другі раз, чым выклікала да сябе спачуваньне нават самых закаранелых цынікаў, такіх як Дыназаўр. Іншых сьмяротных выпадкаў у лягеры за ўвесь час не было — былі толькі параненыя нажамі й атручаныя грыбамі.

Ну й трэцяй прычынай таго, што я паціху стаў зьбіраць свае транты й вывучаць расклад аўтобусаў, стала ня толькі тое, што лета памалу заканчвалася, а што ў лягеры да таго ж пачало назірацца падазронае нарастаньне колькасьці беларусаў новага, восеньскага прызыву. Прычым гэта былі ўжо не шараговыя рамантыкі-мітынгоўцы зь нейкімі сьмешнымі дзьвюма адсідкамі, як я, а сапраўдныя змагары з ксівамі чальцоў усіх магчымых партыяў і адпаведнымі пячаткамі ды татуіроўкамі па ўсім целе, Зянонавыя паплечнікі яшчэ зь дзіцячага садку, перасьледаваныя рэжымам па поўнай праграме вынішчэньня апазыцыі, што акурат тады набірала абароты. Разам зь імі ў наш мірны лягер прыйшлі палітычныя інтрыгі, узаемны недавер, падробка гістарычных і асабістых дакумэнтаў, ідэалягічныя бойкі ў сталоўцы, бескампрамісная дзяльба будучых палітычных функцыяў ды іншыя айчынныя рэаліі, ад якіх я спадзяваўся быў тут схавацца. Адны пісалі скаргі ў дырэкцыю лягера ў сувязі з прыналежнасьцю асобных суграмадзянаў да агентуры КДБ, іншыя абвяшчалі галадоўкі за права атрымліваць двайную порцыю кашы ці за выдаленьне з тэрыторыі лягеру грамадзянаў імпэрскай Расеі... Пасьля ўсяго гэтага мне ня толькі было сорамна глядзець у вочы сапраўдным змагарам, у параўнаньні зь якімі я быў усяго толькі дробным авантурыстам, але й сваім таварышам па Артэку, перад якімі я дагэтуль нахабна выдаваў сябе за аўтэнтычнага беларуса, ствараючы ў іх фальшывае ўражаньне, што ўсе мы такія ж цюхцяі, як я сам. Адным словам, знаходжаньне ў адным месцы разам з такой колькасьцю суайчыньнікаў зноўку аказалася мне не пад сілу. Я пачаў адлічваць апошнія дні да свайго ад'езду, хоць пакуль яшчэ й ня ведаў, куды.

## 9.

*Зямля вязьдзе цьвярда. Ракаміндую ЗША*с.
Бродскі

Магчымасьць зьнікнуць зь лягера зьявілася ў мяне разам з гуманітарнай дапамогай. Тую нам прывозілі ў сярэднім раз на месяц прадстаўнікі адной міжнароднай дабрачыннай арганізацыі. Звычайна я гэтае сьвята чалавечай салідарнасьці й сквапнасьці ігнараваў, бо ня меў жаданьня стаяць у даўжэзнай чарзе, якую традыцыйна ачольвалі цыганскія маці-гераіні — адбіць у іх кавалак якога-небудзь шмацьця ўсё адно было нерэальна. Астатнія беларусы, як і варта было ад іх чакаць, наадварот, арганічна ўліліся ў шумлівы й схільны да гвалту натоўп абяздоленых, які з выгляду нагадваў ім апазыцыйныя шэсьці (гэтак змагары называлі свае колішнія шастаньні па Менску). У гэтага шэсьця дык прынамсі была нейкая практычная мэта: вядома ж, не апрануцца ў дзіравыя футры, а каму-небудзь іх збыць ці абмяняць на пацеркі. Бальшыня дапамогі заканчвала сваё падарожжа там жа, дзе й пачала, — у вакольных сэканд-гэндах і на віетнамскіх кірмашах. Мяне, аднак, цікавіў ня рэчавы бок падзеі, а чыста чалавечы, то бок самі чальцы дабрачыннай арганізацыі, а канкрэтна — дзяўчаты, і сярод дзяўчат — канкрэтна амэрыканкі, якія ад суму ды пачуцьця віны перад сьветам і замуцілі ўсю гэтую байду з гуманізмам. Чаму з усіх прадстаўніц зямных народаў менавіта амэрыканкі мелі шчасьце так зацікавіць мяне, сказаць цяжка. Можа, таму, што яны ўяўляліся мне поўнай супрацьлегласьцю нашых беларускіх бабішч (хай тройца маіх каханых сябровак даруе), ад якіх я яшчэ ў інтэрнаце меў адны непрыемнасьці.

У адну такую амэрыканку я ўжо зь мінулага разу быў плятанічна закаханы (нават пачаў дзеля яе браць у індусаў і пакістанцаў урокі ангельскай) і напружана чакаў зручнага моманту зь ёю пазнаёміцца. Далей адкладаць нашае збліжэньне я ўжо ня мог, бо знаходзіўся пад трайным ціскам гармонаў, вывучаных ангельскіх словаў і жыцьцёвых абставінаў. Калі пасьля арганізаванага гуманітарыямі дабрачыннага матчу ў валейбол адзіны ў іхных шэрагах хлопец узяў у рукі гітару, я тут жа, хоць і быў цьвярозы, пусьціўся ў скокі з апантанасьцю цецерука ў пэрыяд юру, паводле ўсіх правілаў нашай народнай харэаграфіі. Гэта зрабіла на маю амэрыканку належнае ўражаньне — пасьля таго, як мяне адкачалі, яна спыталася, як мяне зваць і адкуль я родам. Ня ведаю, што прымусіла мяне адказаць, што я — Андрусь Макатоўша з Пэнсільваніі

(здаецца, я хацеў прадэманстраваць ёй сваё пачуцьцё гумару). Амэрыканка, аднак, вылупіла вочы й сказала, што яна таксама з Пэнсільваніі, пасьля чаго пачала выпытваць у мяне пра нашых супольных знаёмых і пра тое, якім чынам я апынуўся ў чэскім лягеры. Я збрахаў ёй штосьці накшталт таго, што прашу палітычны прытулак ад перасьледу ЭфБіАй за сваю анархістычную дзейнасьць — і ў гэта яна паверыла з такой радасьцю, што мне тут жа стала яе шкада, і я прызнаўся, што я зь Беларусі. Амэрыканка запэўніла мяне, што ад пачатку ня мела ў гэтым ніякіх сумневаў, проста хацела падтрымаць мой жарт (насамрэч яна была з Каліфорніі). Ну, мы пасьмяяліся нашаму дасьціпу — я, праўда, крыху змушана (вядома ж, які зь мяне, трасца, пэнсільванец) — і тут выявілася, што ў нас насамрэч супольнае паходжаньне: амэрыканчыны гэбрайскія продкі калісьці жылі ў Беларусі зусім непадалёк ад бабцінай вёскі. Пасьля гэтага мне ўжо не давялося тлумачыць ёй прычыну сваёй эміграцыі. На правах земляка я папрасіў яе аказаць гуманітарную дапамогу й мне, а менавіта — дапамагчы зваліць з гэтага клятага й абрыдлага лягеру, усё адно куды, іначай я тут зусім сап'юся й скурыся. Амэрыканка ў сваю чаргу папрасіла мяне ўстаць з каленяў, каб не падумалі, што я прашу ейнай рукі, і паведаміла мне, што неўзабаве ў Празе будзе адбывацца нейкая ўсясьветная моладзевая канфэрэнцыя па пытаньнях меншасьцяў і што яна з гэтай нагоды можа афіцыйна выпісаць мяне зь лягеру ў якасьці ўдзельніка, прынамсі на пару дзён. Большага мне было й ня трэба. Замест падзякі я прапанаваў амэрыканцы цяпер жа, на месцы заняцца самым жарсным у ейным жыцьці палавым актам, але яна ветліва ад маёй прапановы адмовілася — відаць, сумелася ад нечаканасьці. Мы засталіся сябрамі.

## 10.

*Не шукай ты мяне каля жытніх палёў...*
Данчык

Галоўны лягерны паліцыянт па мянушцы Гаўляйтар доўга не хацеў прызнаваць ува мне нейкае віяйпі[14] й адпускаць з-пад сваёй мацярынскай апекі ажно на тры дні — звычайна, нам выпісвалі дазволы („выхазкі“) усяго на паўдня, каб зьбегаць у вёску, ну максымум на дзень, калі камусьці было вельмі ўжо трэба ў Джармэнію. Парушэньне прапускнога

[14] Ад ангельскага *V. I. P.* — вельмі важная пэрсона.

рэжыму каралася штрафам, дошкай ганьбы й дэпартацыяй. Сэрцавяшчун, мабыць, падказвала Гаўляйтару, што болей я ў сфэру ягонай юрысдыкцыі не вярнуся, чаго ён дапускаць зусім не хацеў — з вялікім задавальненьнем ён убачыў бы, як я пакідаю лягер нагамі наперад, як той кітаец. Аднак мае амэрыканкі да апошняга стаялі за мяне гарою, настойваючы на тым, што я ім патрэбны жыўцом (няма сумневу, што яны распазналі ўва мне новага Барышнікава ці Нурыева)[15]. Дзякуючы гэтай іхнай настойлівасьці я ўрэшце выехаў-такі ў чэскую сталіцу — аўтастопам, бо грошай на квіткі мне ніхто зь сяброў-упырхлікаў не пазычыў, хаця й меў. Відаць, на маё вяртаньне ў лягер у лягеры сапраўды не разьлічвалі.

Скажу адразу, што гэта быў мой першы й апошні аўтастоп у жыцьці. І гэта мне яшчэ досыць пашанцавала (пасьля гадзінаў пешай хады) з спадарожнікамі — маладой чэскай парай, ці ўласна тройкай, бо зь імі была яшчэ юная сястра кіроўцы. Узялі яны мяне толькі таму, што запыніліся ля кустоў (а не ля мяне) аддаць даніну чыёйсьці вялікай патрэбе. Дзень хіліўся да вечара (я быў у дарозе ўжо з раніцы, але апроч некалькіх гаваркіх ездуноў на кароткія дыстанцыі нікога не злавіў), а ў кіроўцы былі праблемы са зрокам і галавой, бо ён нёсься па шашы, як шалёны, налягаючы на руль, каб прынамсі нешта бачыць, віртуозна ўнікаючы ў апошні момант перад коламі цяжкіх фураў. Ягоная дзяўчына ўвесь час касьціла яго, які ж ён дурань, і мела рацыю. Я калаціўся на заднім сядзеньні й спрабаваў не зьвяртаць увагі на яўна непаўналетнюю сястру, якая ўжо пасьля некалькіх прывітальных фразаў узялася мяне спакушаць. Балазе, мяне ўратаваў ейны брат: яму спатрэбіўся штурман, бо пазіраць на мапу й параўноўваць яе з навакольлем у яго не было часу, а ягоная дзяўчына (самая інтэлігентная з усіх траіх) была ці то дысьлектычкай, ці то проста асьліцай, ну я й перасеў да яго наперад. *„Нам патрэбна ў Карлавы Вары“*, паведаміў мне хлапец, *„хочам зірнуць на Карлаў мост“*[16]. Не разумею, як такім людзям выдаюць правы на машыну. Пасьля марных спробаў пераканаць іх, што Карлаў мост, паводле маіх зьвестак, знаходзіцца ў Празе, я пастанавіў прыкінуцца валёнкам і зрабіў выгляд, што павароту на Карлавы Вары не заўважыў. На шчасьце для мяне, з розных прычынаў ніхто з траіх ня здо-

[15] Славутыя танцоўшчыкі адпаведна расейскага й татарскага паходжаньня, што ў савецкія часы эміґравалі за мяжу — адпаведна ў ЗША й Францыю.

[16] **Карлаў мост** — вядомы помнік сярэднявечнай архітэктуры, галоўная турыстычная „прынада“ Прагі.

леў прачытаць вялізнага дарожнага знаку на павароце. Неўзабаве на даляглядзе зазьзялі агні вялікага места: нават тады кампанія нічога не западозрыла й па-ранейшаму з наіўнасьцю Калюмба цешылася, што вось-вось ужо будзе бухаць бэхероўку, заядаючы яе вафлямі й запіваючы мінэральнай вадой[17] . Перад першай станцыяй мэтро я падзякаваў ім за падвоз і выскачыў з машыны. Упэўнены, што кіроўца ў той дзень даў сабе зарок ніколі больш ня браць стопэраў, чым уратаваў мноства іхных маладых жыцьцяў.

Апынуўшыся ў цэнтры Прагі, я адразу ж зразумеў, што мая дзіцячая мара спраўдзілася: я трапіў у той самы цацачны замак з тэлевізара, калісьці падораны мне дзядзькам Базылём, толькі ў натуральную велічыню ды з каменю, а не з плястмасы. Дагэтуль я ніколі не здагадваўся, што нешта падобнае можа існаваць насамрэч. Мо, калі б я не паехаў быў паступаць у Менск і меў дастаткова часу з тым замкам нагуляцца, то паставіўся б да Прагі крыху больш спакойна. Але ў той момант мне назаўжды перакарцела працягваць свае распачатыя зь „Дзедкандансам“ вандроўкі па сьвеце й куды-небудзь адсюль зьяжджаць, перадусім у лягер: калі ўсе мы родам зь дзяцінства, то маё дзяцінства асацыявалася ў мяне зь сярэднявеччам — вось я й лучыў у самыя што ні ёсьць родныя мясьціны. Тая папутная машына аказалася для мяне машынай часу.

## 11.

*Дзе двое ці трое сабраныя ў імя Маё, там і Я зь імі.*
Пазьняк

Калі ў лягеры я збольшага тусаваўся з прадстаўнікамі трэцяга сьвету, то канфэрэнцыя па пытаньнях меншасьцяў адразу акунула мяне з галавою ў вяршкі сьвету першага — другі сьвет я па-вундэркіндзку пераскочыў, як калісьці ў школе другую клясу, калі не лічыць кароткачасовага флірту зь дзьвюма стрыечнымі сёстрамі з Азэрбайджану, што былі ня супраць выйсьці за мяне абедзьве, бо я ім збрахаў, нібы ўжо маю чэскі пашпарт, які (вось гэтага, бадай, ня варта было дадаваць) забыў дома ў сваёй віле з басэйнам. Шкада, што яны мне не паверылі, а то фліртам бы справа ня скончылася. Тады як сёстры й іншыя постсавецкія студэнты прыехалі ў Прагу збольшага па першы эратычны досьвед, то залатая першасьвецкая моладзь — брытанцы, бэльгійцы,

[17] Усімі гэтымі прадуктамі славутыя Карлавы Вары.

швэды й астатнія — сабралася на канфэрэнцыю акурат дзеля таго, каб абмеркаваць складанае становішча моладзі трэцясьвецкай. На ёй расказвалі пра існаваньне меншасьцяў ня толькі нацыянальных, такіх як я ці дзядзька Базыль, але й сэксуальных ды іншых, такіх як Дыназаўр. То бок у прынцыпе ў першы дзень канфэрэнцыі я не даведаўся нічога новага, чаго б ня ведаў зь лягеру, таму другі дзень, пасьля атрыманьня ганарару за ўдзел, пастанавіў прысьвяціць турызму.

Праводзіць мяне па Празе ўзяліся двое прыстойнага выгляду бамжоў, што пачуваліся на яе вуліцах як дома.[18] Напэўна, ужо паводле маёй хады можна было пазнаць, што я маю грошы. Я прапанаваў бамжам піва, а яны мне — ахову ад сваіх шматлікіх калег-жабракоў, што стаялі ўдоўж гістарычнага каралеўскага шляху ў якасьці ганаровай варты, быццам гэтым каралём быў ня хто іншы, як я (у пэўным сэнсе я сябе ім і адчуваў, хоць і нядоўга). Аднак на мае новаздабытыя грошы ў Залатым горадзе квапіліся ня толькі жабракі. У гэтым я пераканаўся пасьля таго, як, заглядзеўшыся на вежы нейкага храму, уступіў у гурбу конскага лайна, пасьлізнуўся, устаў і пачаў мацюкацца. Тут жа да мяне падрулілa трое хлапцоў спартовага целаскладу (мае бамжы адразу ж узялі лахі пад пахі) — яны перакрылі вузкую вулічку, нібы створаную для гопстопу, і самы плюгавы зь іх, не вітаючыся, сунуў мне пад нос запальніцу й задаў правакацыйнае пытаньне: *„Рускі?“* Пытаньне паставіла мяне ў яшчэ большы тупік, чым вулічка: калі я скажу, што я рускі, то ў іх, магчыма, зьявіцца літасьць да суайчыньніка, маўляў, сваіх ня б’юць; а калі сказаць, што я ня рускі, тады яны могуць палічыць, што рабаваньне такіх як я не належыць да іхнае кампэтэнцыі й перададуць мяне якой-небудзь іншай злачыннай групоўцы — альбанскай, чачэнскай, югаслаўскай ці баўгарскай, зь якімі я быў у добрых стасунках яшчэ зь лягеру. Таму я абраў другі варыянт і нерашуча адказаў: *„Не, беларус...“* *„Зямеля!“*, узрадаваўся іхны правадыр. *„Ня сцы, мы толькі рускіх шчымім, сваіх не чапаем...“* Во як: гопнікі аказаліся ня толькі суайчыньнікамі, але яшчэ й патрыётамі — у Менску я з такімі не сустракаўся (што робіць зь людзямі Эўропа). *„І шмат у горадзе землякоў?“*, пацікавіўся я, ня надта каб шчыра. *„А то!“*, запэўніў мяне хлапец. *„Прыходзь увечары на сходку суполкі, туды й туды — сам пабачыш...“*

Сходка беларускай суполкі адбывалася ўва ўмовах, не нашмат лепшых за айчынныя: у вільготным цёмным склепе недзе на ўзбочыне

[18] Мне ўдалося пазьней сустрэцца ў Празе з адным зь іх, і ён цалкам пацьвердзіў праўдзівасьць ніжэйапісанага здарэньня.

гістарычнага цэнтру. Як пазьней высьветлілася, адзінаю выгадаю склепу было тое, што яго гаспадары (валасатыя барацьбіты за правы чалавека) прытулілі там беларусаў задарма, як што плаціць за памяшканьне для супольных сустрэчаў грамада на той момант была ці то яшчэ, ці то ўжо не гатовая. У прыцемках і клубах цыгарэтнага дыму я здолеў сяк-так разгледзець свайго новага знаёмца-гопніка ды яшчэ некалькіх навапрыбылых лягернікаў зь сем'ямі, якім быў змушаны крыва ўсьміхнуцца (дагэтуль я затойваў ад іх сваё беларускае паходжаньне, выдаючы сябе за мурына). Астатніх я ведаць ня мог, але спрактыкаваным носам адчуў, што ў паветры, апроч цыгарэт, пахне грашыма: на гэта выдавалі й салідныя прыкіды прысутных дзядзек і цётак. Выглядала, што ўсе чакалі яшчэ некага, апроч мяне, — той нехта зьявіўся з паўгадзінным спазьненьнем і тут жа ўзяўся выконваць абавязкі старшыні сходу. Аднак ягоная прамова пра зьдзекі крывавага рэжыму над Бацькаўшчынай была нядоўгай: ён нейк падазрона зашморгаў носам і закруціў галавой, касавурачыся вокам на мяне — я ўжо падумаў, ён унюхаў рэшты конскага лайна на маёй падэшве. Толькі ў наступны момант я зразумеў, у чым цымус: *„Тут што, марыхуану паляць?“*, абурана запытаўся старшыня. Пытаньне было рытарычным. Хтосьці ззаду адказаў яму, маўляў, а што тут такога — што тут пачалося! *„Як што такога? Вы што — звар'яцелі? Мы тут афіцыйна прадстаўляем Раду БНР! А вы завялі нас у месца, дзе паляць марыхуану! Гэта ж наркотык! Вы што, наўмысна? На загад беларускай амбасады? КДБ? Хочаце нас скампрамэтаваць? Я ў такім памяшканьні адмаўляюся далей знаходзіцца й прамаўляць! Прашу выдаліць усе аўдыязапісы й фатаграфіі з маім удзелам! Калі што — мяне тут не было!“*

Склеп загудзеў: палова (прыстойныя дзядзькі й цёткі) ухвальна, палова незадаволена. Некаторыя прапанавалі надалей зьбірацца ў прамоўцы дома, іншыя — на вуліцы, яшчэ нехта — зусім не зьбірацца. Ніводная з прапановаў не была пастаўленая на галасаваньне. Прадстаўнікі першай паловы, наадварот, былі за тое, каб сустракацца штотыдня ў „Казіно Раяль“, бо гэта побач зь іхнаю працай. Галасы мацнелі, дым гусьцеў, пачынала зьбірацца на фізычны канфлікт. Я ціха пасёрбваў піва ў кутку й ня ведаў, каго падтрымаць. Балазе, на пусты страўнік піва падзейнічала хутка, таму асноўную частку паседжаньня, на якой была прынятая гістарычная пастанова аб Вялікай Схізьме у праскім беларускім асяродку, я прадрамаў, чым страціў усякае права сьведчыць перад нашчадкамі аб гэтай падзеі, а калі расплюшчыў вочы, то ўбачыў, што людзі памалу разыходзяцца — гэтым разам у добрым сэнсе слова.

*„Дзяцюк!“*, раптам гукнуў мяне незнаёмы голас, *„ня сьпі, а то зачыняць!“* Я азірнуўся і ўбачыў нестарога яшчэ мужчыну, якога праз скураную касуху, завушніцу й доўгія валасы, ня стрыжаныя ці ня з самых васьмідзясятых, можна было прыняць за майго раўналетка. *„Свае!“*, узрадаваўся я й на ўсякі выпадак запытаўся: *„А ты не анархіст?“* *„А то!“*, быў адказ. Гэтак я пазнаёміўся з Габрусём Калодам.

## Частка другая: Габрусь

### 1.

*Усім прывітаньне, завуць мяне Юзік.*
Народны альбом

Шчыра кажучы, я не чакаў, што ў Чэхіі мне пашчасьціць сустрэць каго-небудзь вядомага, пагатоў самога Швэйка. Швэйк, праўда, аказаўся ня чэхам, а беларусам, і ня Ёзэфам, а Габрусём. Дзеля дакладнасьці варта дадаць, што Габрусь быў Швэйкам ня целам, а духам — целам ён быў хутчэй падобны да гэткага донкіхота, якім я яго бачыў на карцінцы. А вось сярод саміх чэхаў, як ні дзіўна, я Швэйкаў ніколі не сустракаў і дагэтуль лічыў іх прыдумкай.

*„Маеш дзе начаваць?“*, папытаўся ў мяне Габрусь, як толькі мы апынуліся на вуліцы й пераканаліся, што лета сапраўды заканчваецца. Я забаяўся, што новы знаёмец набіваецца да мяне ў госьці (мяне пасялілі ў гостэлі разам з астатнімі дэлегатамі канфэрэнцыі) і на ўсякі выпадак збрахаў, што не. *„А я маю,“* запэўніў мяне Габрусь. *„Паехалі да мяне, прытулю“*. Апошняя фраза прагучала як на мой густ крыху неадназначна, але шлях да адступленьня я перакрыў сабе сам. *„А ты дзе жывеш?“ — „А тут недалёка. У адной віле“*. Мне ажно цікава зрабілася, бо да жыхара вілы Габрусь быў зусім не падобны.

Хай сабе й выявілася, што недалёка — гэта на другім канцы гораду, але віла там насамрэч была й самотна чарнела сярод зарасьцяў і новабудоўляў. Дарогаю з трамвайнага прыпынку я працягваў засыпаць Габруся пытаньнямі: *„А чаго сьвятло не гарыць?“ „Ну, я ж ня дома“*. *„Ты што там, адзін жывеш?“ „Адзін, жонка са мною не захацела“*. *„Дык ты прытулак ужо атрымаў?“ „Я і не прасіў“,* гмыкнуў Габрусь. *„На халеру ён мне — мне што, вілы мала?“ „І даўно ты там жывеш?“ „З учора“*. *„А дагэтуль дзе жыў?“ „У Швэцыі. А да таго — у прымаках“*. *„То бок у жонкі?“ „Не, гэта нашая вёска так называецца“*. *„А-а... А*

*чаго са Швэцыі зьехаў?“ „Бо жонка выгнала“.* Я зусім нічога не разумеў. Мы падыйшлі да параднага ўваходу вілы і ўбачылі на ім краты зь вялізным замком. *„От халера, зачынена...“,* канстатаваў Габрусь. *„Ну, не бяды, у мяне ёсьць запасны ўваход“*, — і памкнуўся ў зарасьці. Адсланіўшы вецьце, я пабачыў невялічкія драўляныя дзьверы, якіх, здавалася, даўно не адчынялі, бо зьнізу яны былі прысыпаныя зямлёю. *„Гэта наўмысна, каб злодзеі ня лезьлі“*, патлумачыў мне Габрусь і ўзяўся раскопваць дзьверы рукамі са спрытам чэскага нацыянальнага кроціка.

Дзьверы рыпнулі, і зь цемры на мяне дыхнула вільгацьцю й гісторыямі пра вампіраў. *„Вось мы й дома“,* радасна выдыхнуў Габрусь, чыркануўшы запалкай, і я ўбачыў, што знаходжуся ў невялічкім скляпеньні плошчаю два на два мэтры й вышынёю (калі гэта можна было так назваць) мэтры ў паўтара. Пасярод скляпеньня проста на зямлі валяўся матрац, а побач зь ім — яшчэ нейкае шмацьцё, з выгляду вопратка. Мне тут жа захацелася ў гостэл — ды ў які гостэл, адразу ў лягер! *„А віла?“*, роспачна спытаўся я. *„Гэта яна і ёсьць“*, супакоіў мяне Габрусь. *„Толькі цяпер тут сквот“. „Што-што?“ „Ну... Як бы гэта сказаць па-навуковаму... Ня ведаеш, што такое сквот? А яшчэ анархіст... Ну добра, ты як госьць кладзіся на матрацы: я сёньня й на вопратцы пасплю, а заўтра табе свой матрац на сьметніцы знойдзем...“*

Спалася мне надзіва добра — відаць, ад холаду й стомы, — а раніцай я даведаўся, што такое сквот. У прынцыпе, гэта такі інтэрнат для бяздомных, арганізаваны самімі бяздомнымі — пераважна анархісцкай моладзьдзю. Бярэцца нейкая старая, невядома каму належная, а мо й афіцыйна ўжо няісная хата, што гадамі пустуе й развальваецца (у нас такіх поўна ў чарнобыльскіх вёсках), у ёй узламваюцца дзьверы —і міласьці просім! Хто падкі да раскошы, можа паспрабаваць правесьці электрычны ток, незаўважна прычапіўшы дрот да суседавай ці агульнагграмадзкай праводкі. Хату лепш выбіраць у такіх месцах, дзе паблізу ёсьць цывілізацыя ці прынамсі нейкі натуральны вадаём — у такім выпадку яшчэ спатрэбяцца вёдры для вады, найлепш з каромыслам. Узімку пажадана заклейваць выбітыя шыбы цэляфанам ці абшываць дошкамі, таксама не зашкодзіць абагравальнік памерам са спадарожнікавую талерку або радыётэлескоп — вось для гэтага й варта правесьці электрычнасьць. Калі ў хаце ёсьць дзейная печка, то лічыце, што вам пашанцавала, а калі яшчэ й комін нічым не забіты, то зіму вы пераживяце адносна спакойна. Пры ўмове, што хата не згарыць або вас ня вытураць.

Габрусь трапіў на сквот па блаце, дзякуючы пратэкцыі сваіх анархісцкіх сяброў са Швэцыі — у астатнім на сквоце жылі адны чэхі,

агульнай колькасьцю чалавек дваццаць. Афіцыйна Габрусь быў прапісаны ў аднаго чулага сэрцам старэнькага амэрыканскага беларуса, дабрачыннасьцю якога ў тутэйшай дыяспары карысталіся ўсе, хто пажадаў[19]. Тое ж самае ён параіў зрабіць і мне — пры ўмове, што я хачу застацца ў Празе, а не вяртацца ў лягер. З дакумэнтамі на сквоце было строга, асабліва ў часы паліцэйскіх аблаваў.

Цягам усяго дня, бадзяючыся па нечувана прыўкраснай Празе, што пачаргова нагадвала мне то мой плястмасавы замак, то Вільню, я нутрана разрываўся паміж прывабнасьцю Габрусёвай прапановы й настальгічнымі ўспамінамі пра лягер. Канец канцоў, я паддаўся на спакусу й пайшоў — ну куды ж яшчэ, як ня ў Хельсінскі камітэт (аказваецца, ён ёсьць ня толькі ў нас і ў Хельсінках), дзе афіцыйна папрасіў працягнуць мне мой пропуск з трох дзён на месяц — маўляў, хачу пажыць у Празе ў сяброў, — а таксама яшчэ пяцьсот крон, зь вяртаньнем, бо мой ганарар канфэрансье за два дні амаль разышоўся. Сьвет не бяз добрых людзёў: абедзьве мае просьбы былі задаволеныя. Гэтак для мяне скончылася салодкае лягернае фарньентэ й пачалося вулічнае фактотум[20].

## 2.

*Художнік: Я художнік.*
Хармс

Да сустрэчы са мной Габрусь нідзе не працаваў і харчаваўся дзікімі яблыкамі й грушамі, назьбiранымі ў ваколіцах сквоту, бо ня меў нават пяці крон на анарха-вэгетарыянскі суп з морквы. Наагул, Габрусь лічыў працу заняткам пустым і чалавеку неўласьцівым, тады як сябе — перадусім мастаком. У першы ж дзень ён паказаў мне свае намаляваныя вуглём на сьценах шэдэўры, галоўным матывам якіх былі жаночыя грудзі й сьцёгны. *„Хто твой улюбёны мастак, Габрусь?“*, удакладніў я. *„Пушкін“*, адказаў ён бяз роздуму[21]. У гэтым адказе было насамрэч утрыманае ўсё Габрусёва ня толькі мастацкае, але й жыцьцёвае крэда. *„Я думаў тут паступіць у Акадэмію“*, прызнаўся ён мне, *„але там умова — прынесьці з сабою свае работы. Ну падумай сам, як я іх пры-*

---

[19] Магчыма, гаворка вядзецца пра сьветлай памяці спадара Юрку Станкевіча.

[20] ***Dolce far niente*** (іт.) — салодкае гультайства, ***factotum*** (лац.) — чарнарабочы.

[21] Верагодна, Г. К. мае на ўвазе беларускага мастака Алеся Пушкіна.

*нясу? Я ж мураліст…* („Ад слова „мура“,“ падумаў я.) *Вось дзе б хальсьціну ўзяць… Ці хоць паперу…“* Згода, у першай сустрэчнай краме я набыў Габрусю блок для маляваньня, алоўкаў і фарбаў, што ён палічыў патрэбным адсьвяткаваць. Тут жа за піўным столікам Габрусь зь лёгкасьцю Мадэльяні[22] па памяці накідаў пару краявідаў роднай палескай вёскі. *„Вось тут нашая хата, з калодзежам“*, тлумачыў ён, *„далей — балота, за ім — лес, а за лесам пачынаецца Чарнігаўшчына“. „А гэта што на страсе — антэна?“*, пацікавіўся я. *„Сам ты антэна“*, пакрыўдаваў жывапісец. *„У нас целявізару няма. Гэта ж бусел! Ты што, бусла ніколі ня бачыў?“* Я далікатна прамаўчаў. *„Ну“*, кажу, *„прынамсі котка ў кутку ўдала выйшла“. „Не разьбіраесься ты ў жывапісе“*, уздыхнуў Габрусь, *„калі коткі ад подпісу адрозьніць ня можаш. Якое ў нас сёньня? Трэба ж яшчэ дату паставіць…“*

Завяршыўшы працу над карцінай, Габрусь панёс выстаўляць яе ў найбліжэйшую карцінную галерэю, каб вярнуць мне грошы за мастацкія прычындалы. Ісьці зь ім я пасаромеўся, каб не прымазвацца да ягонага посьпеху, таму чакаў ягонага вяртаньня пад цэнтральным праскім гадзіньнікам зь лялькамі. Празь якую гадзіну, абышоўшы ўсе навакольныя галерэі, Габрусь вярнуўся й скрушна паведаміў: *„Не цікавыя тут нікому палескія краявіды. Тут трэба Прагу маляваць, для турыстаў“. „Ну дык намалюй“*, кажу. *„Гэта любы дурань можа“*, махнуў рукою Габрусь. *„А я капіраваць нікога не хачу, гэта ж ужо не мастацтва… О, у мяне ідэя! Я ж партрэты рабіць умею! Хадзем на Карлаў мост — там гэтыя халтуршчыкі сядзяць, турыстаў малююць… Ты прыкінесься турыстам, а я буду цябе маляваць. Іншыя ўбачаць — таксама захочуць. Заробім на піва“.* Я спрабаваў пераканаць Габруся, што да турыста я не падобны што мой партрэт у сучасным выглядзе здольны турыстаў толькі адагнаць, і што Карлаў мост, паводле маіх найноўшых спраўджаньняў, наагул знаходзіцца ў Карлавых Варах, — марна.

*„Ведаеш, ты не крыўдуй, але жанчыны ў мяне ўсё-ткі лепей атрымліваюцца“*, прызнаўся мне Габрусь празь якую гадзіну, цягам якой я мужна вытрымліваў ягоныя заўвагі й рогат мінакоў (мне здалося, што плён Габрусёвых высілкаў я ўжо недзе бачыў — пазьней знаўцы мне сказалі, што прататыпам маёй выявы стаў вядомы аўтапартрэт Пікаса ці мо нават некаторы зь візантыйскіх абразоў). Адным словам, праца натуршчыка аказалася зусім не такой простай, якой я сабе яе ўяўляў.

[22] Так у арыгінале.

*„Ладна, харэ тут сядзець“*, падбадзёрыў мяне Габрусь. *„Хадзем, я цябе зь іншымі мастакамі пазнаёмлю...“*

Па дарозе да мастакоў я зноў паспрабаваў удакладніць Габрусёву біяграфію: *„Дык чаго ты са Швэцыі зьехаў, Габрусь? Не спадабалася?“* *„Ну як табе сказаць...“*, задумаўся Габрусь. *„Для мяне там самае горшае, што вакол усе, як я. Эмігранты. Плюс жыцьцё дарагое — за адну сацыялку не пражывеш. А да ўсяго яшчэ і бульба абы што. Я ўсё разумею, але каб бульбы нармальнай не было?“ „Затое дзеўкі там прыгожыя“*, уставіў я. *„Як на мяне, то дзеўкі паўсюль прыгожыя“*, парыраваў Габрусь. *„Ты бульбу добрую знайсьці паспрабуй!“ „А як вы туды наагул з жонкай трапілі?“ „А нас у госьці запрасілі. Адзін жончын аднакурсьнік. Яна зь ім там засталася, а я паехаў у Акадэмію паступаць“. „Зразумела. А дзеці ў вас ёсьць?“ „А то! Двое. Я, ведаеш, не люблю трахацца з прэзікам — гэта як плаваць у ботах, ці што...“ „Дык вы зь ёю разьвяліся?“ „Яшчэ не. О, мы ўжо прыйшлі!“*

Прыйшлі мы ў нейкую каморку, што знаходзілася ў задняе частцы памяшканьня, дзе поўным ходам ішоў рамонт. Мастакі (агулам чалавек пяць) былі пераважна ўкраінцамі й з выгляду нічым не адрозьніваліся ад гастарбайтэраў. На стале перад імі стаяла паўпустая пляшка гарэлкі, пустая плястыкавая бутэлька зь піўной пенай і поўная попельніца. *„Здароўце, братаны“*, прывітаўся зь імі Габрусь. (Па-беларуску ён размаўляў з усімі, незалежна ад нацыянальнасьці. Ягоныя здольнасьці да моваў былі яшчэ меншымі, чым да жывапісу: за ўсё жыцьцё ён нават трасянкі ня вывучыў як сьлед.) *„Што робіце?“ „Сам бачыш — абедаем“*, адказалі яму. *„О, то смачна есьці! Знаёмцеся: гэта мой зямляк Андрусь Макатоўша“*. Я парукаўся з мастакамі, і мне налілі гарэлкі ў бляшанку з-пад шпротаў, якую я тут жа кульнуў у сябе й пераканаўся, што гэта была не гарэлка, а тэхнічны сьпірт. Аднак, каб ня зганьбіць земляка, я не падаў выгляду, што бляшанка мне „не зайшла“. Калі я расплюшчыў вочы, то ўбачыў перад сабою ў клубах дыму строгі вусаты твар чырвонага колеру. *„Ты мастак?“*, строга спытаўся ў мяне твар. *„Не, што вы“*, шчыра прызнаўся я. *„Я танцор“*. Усе спахмурнелі, мабыць, пашкадаваўшы змарнаванага на мяне сьпірту, і толькі самы малады з мастакоў, як пазьней аказалася — з Харкава, падхапіўся зь месца: *„Танцор — гэта крута! Хадземце сёньня ўвечары на пэрформанс! Такога там жару дамо! Туды ўся багема прыйдзе! Нават гэты, што „хуй“ на іконе напісаў!“*[23] Тут і

[23] Маецца на ўвазе расейскі мастак і пэрформэр армянскага паходжаньня Аўдзей Тэр-Аганьян.

пачаліся тыповыя для мастакоўскага асяродзьдзя інтэлектуальныя спрэчкі. *„Якая ж ён багема, калі „хуй“ на іконе напісаў“,* абурыўся нехта. *„Багема — гэта ж ад слова „бог“!“ „Сам ідзі на свой праформанс, нехрысьць!“,* падтрымалі астатнія. *„І пайду!“*, заявіў прагрэсіўны маладзён і зьвярнуўся да нас: *„А вы што скажаце, хлопцы?“ „Ну, „хуй“ на іконе я б пісаць ня стаў“,* зазначыў Габрусь, *„але на гэты, як яго... схадзіць трэба. Скажы, Андрусь? Можа, знайду там сабе ўрэшце мастацкага агента...“*

## 3.

*I like Americans. They're unlike Canadians.*
Хэмінгўэй

Пэрформанс адбываўся ў адным зь нічым не прыкметных дамоў у самым цэнтры Прагі, на другім паверсе якога пад гэтую мэту было за грошы ці то дацкай, ці то галяндзкай амбасады зьнятае штосьці, што нагадала мне актавую залю ў нашай школе перад самым пачаткам дыскатэкі. Па залі таўкліся купкі маладзёнаў і дзяўчат, а таксама валасатых і барадатых старых хіпаноў, аднак каторы зь іх напісаў на іконе „хуй“, сказаць было цяжка — ім мог быць любы. Гэтак жа цяжка было сказаць, ці высокакультурнае мерапрыемства ўжо пачалося, ці яшчэ не — па бруднай падлозе з крыкамі поўзалі юнакі, дзяўчаты ўзасмок цалаваліся з фатаграфіямі калекаў на сьценах, а ўсякія эпігоны апантана расьпісвалі словам „бог“ прыбіральню. Убачыўшы такі расклад, наш таварыш з Харкава без усякіх комплексаў, як сапраўдны канцэптуаліст, выскачыў на штосьці накшталт сцэны й пачаў на ўсё горла чытаць вершы невядомага мне паэта (можа, і ўласныя):

*„МЕНЯ укусил крокодил,*
*ТЕБЯ укусил крокодил,*
*ЕГО укусил крокодил,*
*ЕЁ укусил крокодил,*
*и ВАС укусил крокодил,*
*и ИХ укусил крокодил,*
*и ТЕХ укусил крокодил —*
*НАС ВСЕХ укусил крокодил!“*[24]

[24] Аўтарства верша спраўдзіць не ўдалося.

У той сытуацыі, мушу сказаць, верш гучаў праўдзіва, за што й быў уганараваны апантанымі воплескамі — кракадзіл мусіў быць шалёны. Тут я да сваёй вялікай радасьці прыкмеціў у адным з гурткоў удзячнай публікі сваю амэрыканку! — і штурхнуў локцем Габруся, перакрываючы музычнае суправаджэньне: *„Габрусь, глядзі! Вунь стаіць дзяўчына, дзякуючы якой я тут! Амэрыканка! Я яе яшчэ зь лягеру ведаю! Такі клясны чалавек — не перадаць!“ „Я ж не сьляпы!“*, зароў мне ў адказ Габрусь. *„Сам бачу, што клясны! Такія цыцачкі, такая жопка! Вось бы яе, як гэта па-навуковаму... знахаліць!“ „Чакай, ты пра бляндынку? Гэта не яна!“ „Не яна?“*, зьдзівіўся Габрусь. *„Ну, тады шкада...“ „Чаго шкада?“*, ня ўцяміў я. *„Цябе шкада!“*, паясьніў Габрусь.

Калі шчыра, я сам быў ня супраць знахаліць сваю амэрыканку — але памятаючы, што маё танцавальнае майстэрства ў гэтым не дапамагло, пастанавіў паўзьдзейнічаць на яе сьпевам. Падсілкаваўшыся півам, мы з Габрусём залезьлі на сцэну да нашага харкаўскага сябра й паказалі такі пэрформанс, што ўсім астатнім удзельнікам зрабілася няёмка. Хлопец з Харкава засьпяваў (калі можна так сказаць) савецкі гімн, я — „Інтэрнацыянал“, а Габрусь — толькі тое, што ведаў, то бок „Купалінку“, прычым усё гэта адначасова. Ня буду хаваць, ідэя пэрформансу была мая. Нашая зладжаная атанальная какафонія выклікала папросту фурор: мы атрымалі першы прыз вечара (якім быў паляроідны фатаздымак нашага выступу з надпісам „хуй“), а прысутныя амэрыканцы тут жа запрасілі нас выступіць на Гэлаўіне. На хвалі сваёй імклівай славы я падрулiў да амэрыканкі, якая жарсна прашаптала мне на вуха: *„А ты куды зьнік пасьля першага дня канфэрэнцыі? Ад мяне патрабуюць, каб я вярнула выплачаны табе ганарар!“* Пасьля такога прывітаньня мне зрабілася досыць ніякавата, таму, абмяняўшыся фармальнасьцямі (сярод іншага я запрасіў амэрыканку ў госьці да нас на сквот), мы зноў адышліся кожны да свайго гуртка й так і стаялі ў іх да самага канца, бы зусім чужыя людзі. Калі я яшчэ ўбачыў, як амэрыканка адной рукой трымае за сраку ўпадабаную Габрусём бляндынку, а другой залазіць ёй у майткі, мне стала зусім пагана, і я на момант узьненавідзеў усе меншасьці сьвету. *„Дык вось чаму яна ня голіцца пад пахамі!“*, здагадаўся я. Рэшту вечара я ня помню, бо мы з Габрусём і харкаўцом тады жудасна напіліся. Для парадку яшчэ мушу дадаць, што на той Гэлаўін я праз пару месяцаў насамрэч схадзіў (толькі без хлапцоў, яны, здаецца, сьвяткавалі асобна) і зноў выйграў першы прыз, гэтым разам — у выглядзе пляшкі брэндзі, і не за сьпеў, а за касьцюм ісламскага тэрарыста, які я сам стварыў з ручніка на галаве й драўляных плечыкаў замест шаблі:

амэрыканцы справядліва палічылі касьцюм самым жахлівым з усіх. Як бачыце, ужо тады яны настолькі баяліся ісламскіх тэрарыстаў, што ўважалі за лепшае адкупіцца ад мяне пляшкай — пры гэтым да замаху на нью-ёрскіх блізьнятаў заставаўся яшчэ амаль год.

## 4.

*Ізьвяла мяне кручына,*
*Падкалодная зьмяя.*
*Як зьдзесь жыць без какаіна?*
*Восем дзевак, адзін я.*
Частушка [25]

Да станоўчых якасьцяў Габруся належала тая, што ў яго з раніцы ніколі не бывала бадуна, колькі б ён папярэдняга дня ні выпіў. Прынамсі, фізычна ён быў заўжды поўны сіл, і галава ў яго не балела, а наадварот, працавала нават лепей, чым звычайна. Ягоныя думкі ў такім стане былі цалкам сьветлыя й цьвярозыя, і адзінай прыкметай, паводле якой можна было ўгадаць, што ён рабіў увечары, была тая, што ён прамаўляў іх уголас, мераючы сваімі даўжэзнымі крокамі нашыя сквоцкія апартамэнты: *„Не, ну калі я ўжо памру? Ну што гэта за жыцьцё? Тулімся тут у нейкім падзямельлі, як пацукі! І ніякага выйсьця, ніякага! Можа, мне сябе забіць? Га, Андрусь? Вось толькі б дзетак яшчэ пабачыць... І бацькоў... А дзетачкі ж вы мае родныя! А на каго ж я вас пакінуў! На вашую матку, курву гэтую, ёб вашу маць! Навошта я вас зь ёю наагул вырабіў!“ — „Габрусь, слухай: калі ты хочаш сябе забіць — калі ласка, толькі не замінай жыць іншым. Або спачатку выпусьці мяне адсюль, або здымі й памый шкарпэткі“. — „Бач, які ты недалікатны... А, дык ты ўжо прачнуўся?! То ўставай, нехран тут валяцца! На тым сьвеце адпачнеш! Хадзем у горад працу шукаць!“*

Калі ў Габрусю з бадуна, як бачыце, прачыналася сумленьне, мы сапраўды выпраўляліся ў горад шукаць працу. Мне доўга не ўдавалася адгаварыць Габруся ад заняткаў мастацтвам, пад прыкрыцьцём якіх ён набываў за мае апошнія грошы сьвежыя порначасопісы (*„Гэта каб акты маляваць — анатомію ж ведаць трэба“*, тлумачыў Габрусь), бо

[25] Гэты верш насамрэч не народны, а належыць расейскаму рок-паэту Барысу Грабеншчыкову.

яго было літаральна хлебам не кармі, пакажы толькі цыцачкі й жопку — і ён вам іх адразу намалюе. Наагул, цыцачкі й жопкі былі адзіным, што ратавала яго ад посталькагольных самагубчых фантазій — зрэшты, таму я іх яму й купляў, бо іначай вытрымаць у ягоным таварыстве ня мог. Думаю, сапраўднаю Габрусёваю марай было нават не рэалізавацца як мастак, а стаць заснавальнікам беларускага „Плэйбою“.

Па дарозе ў горад маёй звычкай і надалей было інтэрвіюяваць Габруся на прадмет ягонай featuresнабаковай асобы, што той Чырвоны Каптурок: *„Слухай, Габрусь — а што ў цябе за такое прозьвішча, Калода? Я такога ніколі ня чуў“. „Нармальнае прозьвішча“. „Ну а якога хоць паходжаньня?“ „Італьянскага“. „Жартуеш!“ „Анягож. Гэта быў такі мужык, які Бураціна прыдумаў — ведаеш?“ „Талстой?“ „Сам ты Талстой! Гэты, як яго... Як там было ў клясыка... Сядзіць мядзьведзь на калодзе... Калодзе! Анархіст, між іншым, — а ты зноў ня ведаеш...“ „Ну добра, а адкуль у цябе такое імя — Габрусь?“ „Як адкуль? Бацькі так запісалі“. „Такога ж імя ў Беларусі няма...“ „Шмат ты ведаеш! У нас у раду ўсе Габрусі. Нават бабы, толькі ў іх націск іншы“. „ГабрУсі? То можа, гэта ад Габрыэля?“ „Можа, і ад Габрыэля“. „Але ж Габрыэль — гэта каталіцкае імя“. „Не каталіцкае, а італьянскае“.*[26] *„Ну а я пра што. Маглі ж назваць цябе па-людзку, там, Гаўрылам, або Гаўрошам...“ „Слухай, што ты да майго імя даябаўся? Думаеш, ты за маіх бацькоў разумнейшы? Ты спачатку інстытут скончы“.*

Працы для нас з Габрусём у горадзе было, трэба сказаць, небагата, і ўся яна збольшага была ўжо разабраная. Бальшыня нашых знаёмых і незнаёмых беларусаў працавала на раздачы ўлётак, бо вулічны гандаль усякімі сувэнірамі й іншым гломаздам на той момант ужо забаранілі. Лепшых улётчыкаў за беларусаў знайсьці было цяжка. Рэч у тым, што для шараговага беларускага апазыцыянэра распаўсюд улётак быў дзённым хлебам ужо на Бацькаўшчыне, таму прывыкаць да яго было ня трэба — адзіна што тут, у эміграцыі, зьмест улётак зьмяніўся з палітычнай прапаганды на эканамічную: замест удзелу ў мітынгу на плошчы Бангалор улёткі заклікалі ў якую-небудзь рэстарацыю, музэй камуністычных катаваньняў, публічны дом, на параплаў ці ў касьцёл — натуральна, крый бог, не маліцца, а слухаць арганны музон. Праца ўлётчыка палягала ў тым, каб стаяць цэлы дзень на адным месцы пасярод гораду пад палкім сонцам бабінага лета, часам яшчэ ў якім-не-

[26] Вядома ж, імя Габрыэль, ці Гаўрыла, — гэбрайскага паходжаньня (адзін з магчымых яго перакладаў — *„мужчына ад бога“*).

будзь ідыёцкім і сьпякотным карнавальным касьцюме, і рэзка варочацца ў розныя бакі, бы той настольны хакеіст, прапануючы мінакам друкаваную прадукцыю свайго працадаўцы. Фактычна, паводле стосу нікому не патрэбных улётак у руках, мы з Габрусём беспамылкова пазнавалі сваіх суайчыньнікаў і абыходзілі іх за сто мэтраў. *„Я лепш буду ў бары ананасную ваду разносіць, чым рабіць тое, што ўсе“*, казаў Габрусь.

У брыгаду гопнікаў пад кіраўніцтвам нашага знаёмага земляка нас таксама не ўзялі — з той жа прычыны, што й мяне не ўзялі калісьці на вайсковую катэдру, а менавіта праз даўгія валасы, што для такой потнай працы пасуюць толькі ў амэрыканскім кіно: я занадта даражыў імі як анархіст, а Габрусь — перадусім як олдавы мэталіст. Толькі аднойчы Габрусёў хаер, касуха й завушніца дапамаглі яму знайсьці працу ў масоўцы на здымках аднаго рэклямнага кліпу, дзе ў галоўнай ролі выступаў нейкі фіктыўны рок-гурт. Я пайшоў зь ім тады за кампанію й вельмі пра гэта пашкадаваў: тыя капейкі, што нам заплацілі, былі ня вартыя таго, каб цэлы дзень з раніцы да ночы прастаяць і праскакаць на нагах пад адзін і той жа матыў, які доўжыўся ня болей хвіліны, затое прагучаў на працягу дня разоў васямсот, адпаведна колькасьці зьнятых дубляў. Габрусь дык наадварот быў на сёмым небе ад шчасьця: *„Ну дзе ты яшчэ й грошай заробіш, і на бясплатным канцэрце па-нармальнаму адарвесься? Эўропа...“* У ролі аднаго зь дзьвюх тысяч фанатаў ён быў беспадобны: скакаў, як вар'ят, круціў і трос галавой, размахваў над ёю рукой з двухпальцавым знакам мЕталу (гэтак ён называў свой любімы стыль) і наагул добра бавіў час. *„Клясна сыгралі хлапцы! Як, дарэчы, гэты гурт называецца?“*, спрабаваў ён удакладніць у мяне пасьля „канцэрту“. *„Бо нешта я яго ня ведаю...“ „Габрусь, такога гурту няма, таму ён ніяк не называецца. І нічога яны ня йгралі — гэта была фанера“. „Ды якая фанера! Зь іх жа пот цёк! Я сам бачыў!“*

Пад Габрусёвым уплывам я й сам (а што, чым я горшы) паспрабаваў зарабляць сваім танцавальным мастацтвам на вуліцы — пасьля таго, як Габрусь невядома адкуль прывалок на сквот беспрытульнага рускага балалайшчыка. *„Ты звар'яцеў, рускіх сюды цягаць?“*, пратэставаў я спачатку. *„Нам жа самім, эўрапейцам, тут месца мала!“ „Затое весялей будзе“,* сказаў на гэта балалайшчык, які ўсё гэта чуў, бо стаяў побач. На шчасьце, ён сапраўды быў мужык вясёлы й да таго ж невялікі памерам — з Дыназаўра. Каб аддзячыць нам за нашую гасьціннасьць, ён пагадзіўся быць маім акампаніятарам, а я — ягоным ручным мядзьведзем-танцуном. Зарабілі мы на гэтым дуэце, праўда, няшмат, а ўсё таму, што балалайшчык нечувана фальшывіў, як на балалайцы, так і

голасам (ну гэта ж дадумацца, гарлаць пад мае шляхетныя беларускія танцы прымітыўныя расейскія частушкі), і ўрэшце я быў вымушаны зрабіць усё, каб зжыць яго са сквоту разам з балалайкай. Габрусь, наадварот, яшчэ доўга па балалайшчыку сумаваў, бо не было каму й на чым граць яму перад сном „Дзіпёрпал“.

**5.**

*The working class hero is something to be.*
Ленан

Сваё адмоўнае стаўленьне да расейскіх прыхадняў я зьмяніў толькі пасьля таго, як на сквоце зьявілася маё новае захапленьне — сьбірачка й анархістка Даша, у якую я адразу ж закахаўся, бо дагэтуль дзевак, а такіх баявых пагатоў, на сквоце не было. У Дашы было штосьці такое ад маленькай разбойніцы, што мне ў ёй адразу заімпанавала — сама яна сьціпла казала, быццам яна ўсяго толькі фэміністка.

У адрозьненьне ад мяне, Даша прыехала ў Чэхію не прасіць палітычнага прытулку, а з асаблівай місіяй нашмат большага сэнсу: экспрапрыяваць экспрапрыятараў на карысьць рэвалюцыйных масаў. Прасьцей кажучы, Даша навучыла ўсіх жыхароў сквоту, і нас з Габрусём у тым ліку, зарабляць сабе на жыцьцё крадзяжамі. Аказалася, што гэта зусім проста: вы заходзіце ў краму, купляеце за апошнія кроны якую-небудзь жуйку, а на ўсю астатнюю суму, абмежаваную толькі аб’ёмам вашых нутраных кішэняў і вуглом знаходжаньня камэры назіраньня, набіраеце самае дарагое бухалава, закусон, гігіенічныя пракладкі й порначасопісы, каму што бліжэй. Я з замілаваньнем сачыў за грацыёзнымі рухамі Дашынага цела — яна плыла між стэляжамі супэрмаркетаў, як лябёдушка, — і ейных спрактыкаваных рук, якія ў жыцьці яшчэ не пазналі працы. Як у той казцы: махне адным рукавом — сьпізьдзіць бохан хлеба, махне другім — палку каўбасы. Паспрабуйце не закахацца ў такую дзяўчыну! Канец канцоў, мне ўдалося дамагчыся ад яе ўзаемнасьці ў той дзень, калі яна накурылася травы да страты памяці й раўнавагі, і я быў вымушаны несьці яе да матрацу на руках. Там я напоўніцу паказаў ёй, што значыць палымянае сэрца беларускага анархіста — на жаль, раніцай яна пра нашую блізкасьць ужо ня памятала, бо фэміністкі такім дробнабуржуйскім заняткам, як сэкс, не прыдаюць асаблівага значэньня. Тым ня менш, нашае каханьне вызваліла мяне ад неабходнасьці жыць у адным пакоі з Габрусём, бо я тут жа скарыстаў-

ся нагодай, каб пераехаць з-пад зямлі да Дашы, а тая жыла на сквоце ўва ўмовах каралевы, параўнальнымі толькі з прывілеяванымі ўмовамі пчалінай маткі ў вулеі — магчыма, пярэбары й былі сапраўднай прычынай майго бясконцага асабістага шчасьця.

Для Габруся, наадварот, той тыдзень безь мяне быў, паводле ягоных словаў, найчарнейшым ува ўсім папярэднім жыцьці. Застаўшыся адзін, без суайчыньніка й без балалайшчыка, ён зусім ня ведаў, куды сябе дзець. Каб чымсьці заняць свае даўгія, як у арангутанга, рукі, — лішні доказ таго, што ягоныя продкі сталі на ўласныя ногі й людзьмі звацца ня так і даўно, — ён пачаў шукаць на сквоце скарб, бо быў перакананы, што ў такой старой і такой прыгожай панскай хаце, як нашая віла, яго ня можа ня быць. Інтуіцыя падказвала яму, што калі на сквоце закапаны скарб, то лепшага месца за наш падземны пакойчык для яго прыдумаць не маглі. Такім чынам, пакуль мы з Дашаю наверсе сьвяткавалі мядовы месяц і спусташалі вакольныя крамы, волат-Габрусь здолеў падняць столь нашай былой падземнай каморкі на якія паўмэтра і ўпершыню выпрастацца ў ёй у поўны рост. Скарбу, праўда, ён так і не знайшоў, затое знайшоў шкілет — ці то дзіцячы, ці то кацячы — які з належнымі ўрачыстасьцямі паразахаваў з другога боку дзьвярэй. Пасьля пахаваньня мы з Дашаю пагадзіліся пайсьці памянуць беднае невядомае стварэньне ў паблізную піўную, дзе Габрусь пад канец напрасіўся-такі да маёй каханай разбойніцы ў вучні. Зь першай нашай супольнай ходкі ён не прынёс нічога, затое з другой — прыцягнуў на сквот цэлага марожанага індыка. Анархісты ўступіліся за птушку й забаранілі нам гатаваць яе ў блізкасьці сквоту — што ж, тады мы ўтраіх з Дашаю, якая ня мела ўсякіх талстоўска-дастаеўскіх забабонаў, выправіліся на пікнік на нейкую скалу па-над рэчкай, разьвялі там вогнішча, трушчылі як не ў сябе індыка й пазіралі з вышыні на агні вечаровага гораду. Упершыню ад свайго дэзэртырства зь лягеру я не шкадаваў, што трапіў у гэтую краіну.

Назаўтра на сквот прыехала яшчэ адна група прафэсійных экспрапрыятараў, гэтым разам ці то з Данецку, ці то з Днепрапятроўску — тут і пачаліся ўсякія праблемы. У адрозьненьне ад нас, нашыя ўкраінскія браты лічылі, што тыбзьдзіць па супэрмаркетах усяго толькі ежу немэтазгодна, бо гэта не наносіць капіталістычнаму ладу ніякай адчувальнай шкоды — таму самі арыентаваліся перадусім на электратэхніку, фірмовую вопратку й іншыя неядомыя вырабы, якія потым можна будзе добра прадаць на радзіме, дзе ўсё яшчэ, паводле іхных зьвестак, працягваўся галадамор. Я рэзка запратэставаў супраць такога мэркан-

тыльнага падыходу, тым часам як Даша з Габрусём (во дзе ўжо здраднікі) яго падтрымалі. Адным словам, мяне як недальнабачнага аматара з групы захопу непрадуктовых аб’ектаў выключылі — а я й не асабліва ў яе рваўся, бо мая ўцякацкая паперка была мне, шчыра скажу, даражэйшая за змаганьне з капіталізмам. Першы ж рэйд новастворанай інтэрбрыгады прынёс вынікі для мяне неўявенныя: народныя ўмельцы прыцягнулі з сабою музычны цэнтар, турыстычную палатку, некалькі джынсавых касьцюмаў, ня лічачы дробязяў кшталту парфумы „Крыстыян Дыёр“ — пра такое мясцовыя чэскія злодзеі мабільных тэлефонаў у трамваях маглі толькі сьніць. Я з зайдрасьцю назіраў за тым, як мае анархісцкія супляменьнікі багацеюць і як Даша праводзіць усё болей часу не са мною, баязьліўцам і адшчапенцам, а з на ўсё гатовым Габрусём, у якога нешта кшталту інстынкту самазахаваньня цалкам адсутнічала — ён меў толькі інстынкт размножаньня. Сам Габрусь вельмі ганарыўся сваёй новаю роляй шухерніка, зрабіў сабе на грудзях татуіроўку *„Не забуду маці родную“* (натуральна, у беларускай лацініцы) і пачаў лічыць, што яму наагул усё можна. *„Прыкіньце“*, кажа, *„вяртаюся я ўначы са сьвяткаваньня Дня беларускай вайсковай славы...“* (Культурныя сувязі з дыяспарай Габрусь і надалей падтрымліваў, ня тое што я.) *„А это что за день?“*, — пытаецца Даша — *„Здаецца, аўторак — ды няважна, я не пра тое... Дык вось, стаю я на аўтобусным прыпынку — а мяне ну такая ўжо смага мучае... Бачу, у вітрыне крамы сок — і так мне яго захацелася, не паверыце... А крама ж зачыненая, бо ноч... Ну, я ня вытрымаў — і хуяк па шкле нагою! Тут сыгналізацыя як зараве на ўвесь горад! Я за той сок — і лататы, як вы мяне й навучылі!“* Габрусь замоўк, а я заўважыў, што Даша пазірае на яго зь нейкім ажно некрытычным захапленьнем. *„І што далей?“*, — пытаюся. —*„Усё?“ „Ну так, усё“*, — зьдзівіўся Габрусь. — *„Я вам проста падзякаваць хацеў, што вы мяне пазбавілі комплексаў — фактычна, жыцьцё ўратавалі. А то б я ад смагі, мабыць, памёр“*.

А яшчэ праз некалькі дзён Габрусь проста агаломшыў мяне навіною: *„Андрусь, дружа! Каханьне ёсьць! Я сустрэў дзяўчо сваіх мараў!“ „Што, зноў тую бляндынку з пэрформансу?“ „Ды не, зусім іншую! Яна й чалавек залаты, і, як бы гэта табе сказаць па-навуковаму... адсасаць здораўска ўмее!“ „Ага, віншую. А я яе ведаю?“ „Ну канечне ведаеш! Гэта ж Даша!“* У мяне не было словаў. У Габруся, які й насамрэч, выглядала, пазбавіўся комплексаў, я лепей больш ні пра што не пытаўся, а пайшоў па тлумачэньні да Дашы (у мяне яшчэ заставаўся патаемны спадзеў, што Габрусь, хоць звычайна й быў да вар’яц-

тва шчыры, на гэты раз прыдумляе). Дашына тлумачэньне гучала ў тым сэнсе, што яна мне ня мэбля й не тавар, каб я прад'яўляў на яе нейкія патрыярхальныя правы, што нашыя характары ў сапраўднасьці несумяшчальныя гэтак жа, як анархізм з манагаміяй, і што ў іх з Габрусём каханьне зь першага погляду. Пасьля гэтай гісторыі я ледзь не вярнуўся ў лягер, але мяне ўгаварылі застацца. Скончылася ўсё толькі тым, што мы з Габрусём ува ўсіх сэнсах памяняліся месцамі: ён перасяліўся да Дашы нагару, а я вярнуўся пад зямлю ў пашыраны (ці хутчэй падніжаны) у выніку раскопак халасьцяцкі пакой, дзе мне бязь іх нейкі час было спакойна і ўтульна, асабліва пад травой. У маёй ідыліі мне заміналі толькі гучныя Дашыны крыкі.

Аднак і іхны мядовы месяц цягнуўся нядоўга. Пасьля таго як украінскія анархісты зьехалі з усім сваім набыткам дамоў на новаскрадзенай машыне, нашая шчасная парачка надумалася паўтарыць іхныя подзьвігі самастойна. Гэтым разам на шухеры нікога не стаяла, бо Габрусь палез у жаночы аддзел выбіраць для Дашы новыя станікі й майткі, дзе й быў злоўлены за гарачую руку. Амаль сынхронна зь ім на крадзяжы мікрахвалёўкі (вось да якіх дэталяў яны з Габрусём плянавалі сумесную будучыню) трапілася й Даша. Ахова супэрмаркету выклікала паліцыю, тая склала пратакол, надзела абаім змагарам з капіталізмам кайданкі й адвезла ў пастарунак, дзе Габрусь да самай раніцы адбываў свой адзіны ў жыцьці тэрмін „за ідэю“ (ідыёцкая, мушу сказаць, была ідэя — лезьці ў кабінку прымяраць жаночую бялізну). На наступны дзень, даведаўшыся, што іх зьбіраюцца яшчэ й судзіць, Габрусь тут жа папрасіў у Чэхіі палітычнага прытулку, а ўжо празь некалькі дзён урачыста вярнуўся зь лягеру з новымі, часовымі ўцякацкімі дакумэнтамі — такімі ж, як у мяне. Тым часам бедную Дашу суд пастанавіў дэпартаваць назад у Расею, дзе яна была неўзабаве арыштаваная за спробу замаху на нейкага генэрал-губэрнатара, пасьля чаго ейны сьлед растаў у нетрах роднай Сыбіры. Зьвестку пра гэта нам неўзабаве прынёс адзін з чэскіх сквотэраў, які за кампанію з Дашай выдаўся ў Расею й быў за гэта затрыманы: на шчасьце, у ваколіцах турмы гастраляваў чэскі цырк, дырэктару якога перадалі з камэры „маляву“, і цыркачы ўрэшце дамагліся суайчыньнікава вызваленьня. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя, за праўдзівасьць каторай я, на жаль, ручацца не магу, бо асабіста пры гэтым ня быў. Дадам толькі, што Габрусь, у адрозьненьне ад мяне, на момант вяртаньня сквотэра пасьпеў пра нашую Дашу ўжо цалкам забыцца.

## 6.

*Панта рэі.*
Геракліт

Яшчэ тыдні два нашыя з Габрусём адносіны былі досыць напружаныя й абмяжоўваліся ранішнімі й вечаровымі вітаньнямі, але гэта была хутчэй такая паказуха для чэхаў, бо меркавалася, што на сквоце ўсе мусілі быць добрымі таварышамі ды жыць у згодзе й любові, без усякіх прыватнаўласьніцкіх бзікаў. Цяпер мы зь ім бадзяліся па горадзе паасобку, а сустрэўшыся выпадкова на вуліцы рабілі выгляд, што адзін аднаго не пазнаем. Я нават паспрабаваў завесьці сабе якога-небудзь новага сябра, што з маім выглядам і вымаўленьнем было зусім ня проста, асабліва сярод такой недаверлівай да чужынцаў нацыі, як чэская. Толькі аднойчы мне ўдалося за пазыку ў сто крон (да заўтра) зьблізіцца ў бары з адным былым чэскім вязьнем, цалкам звычайным, а не палітычным, што сядзеў у тым ліку й непадалёк ад нашага лягеру ў мясьцінах, якія паводле іроніі лёсу называюцца „Чэскі рай“.[27] Але вязень аказаўся яшчэ горшай парцянкай за Габруся, бо калі я назаўтра папрасіў яго вярнуць мне маю сотку, ён напырскаў мне ў вочы балёнчыкам і ўцёк. І гэтак са мною абыходзіліся на кожным кроку, увесь час спрабуючы падмануць: перадусім недаліць піва й недадаць грошай. Апроч беларусаў, са старых знаёмцаў мне колькі разоў шанцавала (калі так можна сказаць) сустракаць у горадзе толькі лягернікаў — аднаго мусульманіна, што цішком папіваў забароненны яму алькаголь, таго рэпера зь Нігерыі, што выгульваў па Карлавым мосьце нейкую тлустую бляндынку, а пад канец і славака Пэтэра, што заехаў у Прагу са мной разьвітацца: ягоны зламысны ёг ува ўзросьце ста пяцідзесяці гадоў урэшце памёр, таму Пэтэр мог цяпер спакойна вярнуцца дадому й стаць зь індуіста індзейцам, пра што марыў яшчэ зь дзяцінства. Напасьледак Пэтэр яшчэ распавёў мне пра лягерныя навіны: у маю адсутнасьць Гаване ўдалося-такі зьехаць да маці ў Джармэнію, Дыназаўр выйшаў замуж за нейкага казачна багатага карузьліка з Ірляндыі, латыш ні з пушчы ні з поля атрымаў палітычны прытулак, армяніна, які аказаўся стукачом, перавялі ў іншы лягер, дзе ён стаў працаваць кухарам у сталоўцы, а малдаванін, што называецца, згарэў на рабоце — быў застрэлены на нейкай дыскатэцы калегамі па бізнэсе. Што стала з Рамэо й Джульетай ды унтэр-афіцэрскай удавой, Пэтэр ня ведаў, але й

[27] **Чэскі рай** — маляўнічая вобласьць на поўначы Чэхіі.

яны кудысьці зь лягеру зьніклі. Гэтак я ўсьвядоміў, што з надыходам восені сяброў у мяне ў Чэхіі больш не засталося і што мне няма болей сэнсу вяртацца ня толькі ў Беларусь, але нават у лягер, бо за той час яго ўжо запоўнілі зусім іншыя, чужыя мне людзі. *„Не сумуй, Платонаў“*, — падбадзёрыў мяне Пэтэр, — *„калі будзе зусім пагана — прыяжджай да нас у Славаччыну, у нас там таксама ўцякацкія лягеры ёсьць“*. Я падзякаваў яму за такія гасьцінныя запросіны, але сам, вядома ж, нікуды рыпацца не зьбіраўся, пагатоў ува ўсходнім кірунку.

## 7.

*Падзяляй і ўладар.*
Нехта славуты[28]

Пры канцы верасьня, адразу ж пасьля таго, як сквотэры папрасілі Габруся ўрэшце вызваліць Дашына месца для дэлегацыі сваіх аргентынскіх калегаў, мой шчасьлівы супернік зноў пачаў прасіцца ў нашую былую каморку. Пры гэтым ён кленчыў, біў сябе ў татуяваныя грудзі й кляўся сваімі дзецьмі, што ня памятае, каб калі-небудзь у жыцьці зрабіў мне нешта благое. Бачачы такое, я ня мог зь яго ня зьлітавацца й не дараваць — гэтак мы з Габрусём зноў зажылі пад зямлёю, як той казаў, душа ў душу й дупа ў дупу.

Дзеля таго, каб неяк апраўдаць перад нашымі суседзямі сваё зацяглае й цалкам бескарыснае знаходжаньне на сквоце, а перад чэскімі ўладамі — сваё знаходжаньне ў Чэхіі, час ад часу мы, як анархісты і ўцекачы, былі вымушаныя ўдзельнічаць у палітычных акцыях: як анархісцкіх, антыкапіталістычных, так беларускіх, пераважна пракапіталістычных. Большасьць акцыяў з нашым удзелам мела вялізны посьпех, перадусім дзякуючы таму, што на анархісцкія акцыі мы з Габрусём звычайна прыводзілі беларусаў, а на беларускія — анархістаў. Гэта можа гучаць неверагодна, але нам нейкім чынам удавалася знаходзіць ці хутчэй вынаходзіць кропкі судакрананьня між гэтымі дзьвюма запалярна адрознымі плынямі грамадзкай думкі. Прыкладам, на пікет ля беларускай амбасады, што мясьцілася непадалёк ад намі акупаванай вілы, мы прывялі ўвесь сквот на той падставе, што наш прэзыдэнт нядаўна недзе сказануў: „Дзяржава — гэта я!“ [29] — таму мы, маў-

[28] Хто ёсьць аўтарам гэтай крылатай фразы, сапраўды невядома.

[29] Сапраўдным аўтарам выказваньня ёсьць французскі кароль Людовік XIV.

ляў, пратэстуем супраць існаваньня беларускай дзяржавы як такой, а ня толькі супраць прэзыдэнта, што анархісты, натуральна, не маглі не падтрымаць — праз такую колькасьць удзельнікаў ажно конную паліцыю, як пры цары, выклікаць давялося. Наадварот, на анархісцкі пікет супраць адкрыцьця ў Празе чарговага „Макдональдсу“ мы прыцягнулі палову беларускай суполкі, а менавіта тую, што адкалолася ў выніку Вялікай Схізмы ад салідных дзядзькаў і цётак, якім замінала „марыхуана“ — ім мы ўцёрлі акурат тое, што салідныя дзядзькі й цёткі ходзяць са сваімі дзецьмі выключна ў амэрыканскі „Макдональдс“, пагарджаючы плябейскім амэрыканскім „Кентакі Фрайд Чыкен“, што быў нашым суайчыньнікам дарагі ня меней за статую тутэйшага друкара й батаніка Скарыны[30] . У выніку на дэманстрацыю за легалізацыю марыхуаны нашчадкі вялікага батаніка прыйшлі ўжо самі, нават бяз нашае агітацыі, і так ударна аддэманстравалі, што ў мяне стварылася адчуваньне, быццам іншай мэты іхныя ўцёкі за мяжу й ня мелі. *„Не разумею, як можна дэманстраваць адначасова за марыхуану й супраць Макдональдсу“*, дзівіўся Габрусь. *„А калі цябе на хаўчык праб’е — ты куды пабяжыш? Да „Максіма“? Ці можа ў „Блювю?“*[31] *. Ня кажучы пра тое, што пасікаць задарма няма куды схадзіць, апрача Макдональдсу... Там табе й мыла, і туалетная папера — ды без Макдональдсу мы б на сквоце ўсе каростай пазарасталі! Ня кожны ж красьці ўмее, як я!“ „Нешта я, Габрусь, ня бачыў, каб ты мылам карыстаўся“. „Мала чаго ты яшчэ ня бачыў! Як я сяру, ты таксама ня бачыў — гэта ж ня значыць, што я гэтага не раблю. Хай і рэдка. Дый наагул я не за сябе, я за людзей перажываю. Не ўва ўсіх жа ад каросты імунітэт, як у мяне“.*

Карацей кажучы, усю рэшту восені мы прадэманстравалі. За што мы толькі ні выступалі: за свабоду Ч’япасу, за свабоду Тыбэту, за рукі прэч ад Палестыны, за рукі прэч ад Ізраілю, за амэрыканскі радар у Чэхіі, супраць амэрыканскага радару ў Чэхіі, за санкцыі супраць Беларусі, супраць санкцыяў за Беларусь, супраць уступу ў Эўразьвяз, за выступ з НАТО, супраць выступу на Эўравізіі, за выступ на Эўравізіі, супраць выступу з НАТО, за ўступ у Эўразьвяз, за эўтаназію пагалоўную, супраць эўтаназіі выбарачнай, за новую бібліятэку зь пяра Яна Капліц-

[30] Некаторыя з праскіх уцекачоў перакананыя, што „Вялікая Схізма“ была толькі пабочным вынікам канкурэнтнай барацьбы між гэтымі двума транснацыянальнымі гігантамі.

[31] Слушна — „Бэльвю“, адна з найдаражэйшых праскіх рэстарацыяў.

кага[32], супраць новай капліцы зь пяра Яна Бібліятэцкага, супраць атамнай энэргіі з Расеі, за атамную вайну з Расеяй, за кастрацыю гвалтаўнікоў, супраць кастрацыі парсюкоў і г. д. Сваім дэманстраваньнем мы дасягнулі толькі таго, што нашыя фатаздымкі пачалі зьяўляцца ў мясцовых і рэспубліканскіх чэскіх газэтах. Габрусь быў на сёмым небе ад шчасьця: *„Ты бачыш, і тут пра мяне ў газэце напісалі!“* (У газэце, насамрэч, была толькі Габрусёва фотка з касяком у зубах.) *„А што, на радзіме таксама пісалі?“ „А то! Я ж у Менску вучыўся!“ „І што пісалі?“ „Ну, як я сабе бот... то бок рот зашываў...“ „Габрусь, па-мойму, гэта быў ня ты“*[33]. *„А, праўда, ня я — бачыш, які ты зноў недалікатны... Згадаў: пра мяне пісалі, як я інтэрнат падпаліў“. „Так адкрытым тэкстам і напісалі?“ „Ну не зусім, я ж яго ананімна падпальваў... Слу-ухай, дык гэта значыць, што нам хутка „азіл“ дадуць!“ „Зь якой такой ласкі?“ „Што значыць зь якой? Ведаеш, ты на мяне не крыўдуй, але ты ну поўны ідыёт. Усе ж беларусы свае фоткі з дэманстрацый паказваюць — і ім адразу даюць. Гэта ж жывы доказ палітычнай актыўнасьці! Некаторыя нават самі сабе такія газэты друкуюць — а тут ужо, бачыш, за нас надрукавалі“. „Дык яны ж паказваюць фоткі зь беларускіх дэманстрацый!“ „Ну дык а гэтая што — не беларуская?“ „Не, гэтая за марыхуану, як бачыш“. „Ну, ня ведаю — на фотцы, па-мойму, адны беларусы“. „Гэтага ты лепш нікому не кажы. Сумняюся я, што табе за яе „азіл“ дадуць — глядзі каб хутчэй ня вытурылі“. „Чаму гэта?“ „А таму, што ў Беларусі трэба было дэманстраваць“. „Ты што, здурэў? У Беларусі ж за гэта й пасадзіць могуць! А тут сабе — дэманструй на здароўе...“*

## 8.

*Калі бог розум раздаваў, я цыцкі выбірала.*
Прымаўка

Нягледзячы на нашую з Габрусём палітычную ангажаванасьць, на пачатку зімы чэскія сквотэры неяк падазрона часта пачалі задаваць нам пытаньне, калі мы ўжо ад іх зьедзем: маўляў, пагасьцявалі, і хопіць.

[32] **Ян Капліцкі** (1937—2009), чэскі архітэктар, чый праект Нацыянальнай бібліятэкі (вядомы шырокаму грамадзтву пад назваю „спрут з Лэтны“) да сёньня не рэалізаваны.

[33] Вядзецца пра вядомага беларускага паэта Славаміра Адамовіча.

Габрусь зразумеў гэта як намінку на тое, што мы, праз нашыя сувязі зь беларускімі нацыяналістамі, сталі на сквоце непажаданымі асобамі — а як толькі зразумеў, дык нечувана абурыўся й быў гатовы сысьці адтуль хоць цяпер, разам з рэчамі, проста ў марозную сьнежаньскую ноч — маўляў, дзеля Айчыны ён гатовы на любыя пакуты. Балазе, мне ўдалося ўгаварыць старшыню сквоту па мянушцы Акела (а мо гэта была толькі мянушка ягонай нямецкай сужыцелькі-аўчаркі, ня памятаю) пакінуць нас там да заўтра, хай сабе ня ў нашым, а ў гасьцёвым пакоі, які я ў думках па-ранейшаму называў Дашыным. З гора мы з Габрусём пайшлі ў паблізны рокерскі бар і набухаліся там піва да самага закрыцьця — так бы мовіць, на дарожку й на разьвітаньне з роднаю хатай. Па дарозе назад мы на злосьць усім анархістам сьвету раўлі нацыяналістычныя песьні: я — „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“, Габрусь — усё тую ж „Купалінку“.

Тут трэба зацеміць, што ўначы на сквоце малая патрэба часта ператваралася ў вялікую праблему, асабліва калі ўва ўнітазе замярзала вада, з-за чаго прыбіральню, як і сам сквот, на ноч замыкалі — мы пра гэта ў сваім заўжды й для ўсіх адчыненым скляпеньні не падазравалі. Як толькі мы ўлегліся на тым самым сьмярдзючым двухспальным матрацы, пакрытым дзеля мяккасьці поўсьцю з аблезлых сквотэрскіх сабак, на якім яшчэ ўвосень Даша мела шанец параўнаць нашыя сэксуальныя тэхнікі, то ўсьвядомілі, што балючыя ўспаміны й колькасьць выпітага піва заснуць нам не дадуць. Асабліва наракаў Габрусь, які забыўся наведаць ачко перад сыходам з бару. Аднак тут нас ад гэтага форс-мажору нечакана і ўва ўсіх сэнсах уратавала тое, што называецца дэў-сэкс-машына[34] : спачатку аднекуль затхніла куродымам, а неўзабаве пачалі даносіцца ўстрывожаныя крыкі нашых суседзяў-анархістаў. Пачуўшы іх, мы падхапіліся (усё адно ж ня спалі) і пабеглі па лесьвіцы на апошні паверх, зірнуць, што ў іх там адбываецца. А адбывалася ўсяго толькі тое, чаго аднойчы не магло ня здарыцца: Акела заснуў з касяком у роце, гарачы попел упаў на засланую сьцягам з Чэ Гэварам падлогу, тая ўмомант занялася полымем, і неўзабаве ўжо гарэў цэлы паверх. Ува ўсё гусьцейшым дыме на сходнях пачалася паніка й штурханіна: палова анархістаў бегла нагару ратаваць свае (то бок, вядома, супольныя) рэчы, а палова — уніз, ратаваць свае жыцьці, ведаючы, што вады няма й ня будзе.

---

[34] Форс-мажор – вышэйшая моц (фр.), дэус экс махіна (лац.) – „бог з прыстасаваньня“, у антычным тэатры – прыём разьвязаньня безвыходных сытуацый.

Акурат тут на авансцэну гісторыі выйшаў і паказаў сябе мужыком Габрусь. Як толькі ён убачыў пажар, то, як быў звыклы яшчэ зь дзяцінства, не раздумваючы выняў з нагавіцаў свой (калі ўжываць ягонае ўласнае слова) пісюн і прывёў яго ў адпаведнасьць з гэтаю назвай. Мы з анархістамі не маглі паверыць сваім вачам — ці то ад, як бы так сказаць па-навуковаму, нехуёвага памеру пісюна, ці то ад нечаканай Габрусёвай мужнасьці, то бок зноў-такі — ад памеру пісюна. Магутная плынь чэскага піва вырывалася з Габруся хвілінаў восем. Ашалелыя спачатку анархісты неўзабаве ачомаліся й пачалі даваць яму парады, куды лепш скіраваць шлянг, а некаторыя й самі паспрабавалі зраўняцца з Габрусём у новай для іх дысцыпліне пажарнага спорту. Аднак Габрусь цудоўна даў рады агню й бязь іхнае дапамогі — ну, хіба яшчэ я, каб не застацца ўбаку, дадаў ад сябе пару сьціплых сікаў і пукаў. Неўзабаве пажару як і не было — тым часам Габрусь усё яшчэ ня мог перастаць, праз што мусіў скіраваць апошнія струмені сваёй мачы ў вакно. У выніку адзінай пабочнай шкодай, якую прынёс сквоту пажар, стала залішняя вільгаць, а таксама лужына Габрусёвай мачы й яе смурод, але й той хутка распусьціўся ў застаялым паху мачы сабачай, што гаспадары ўжывалі замест парфумы. Гэтак Габрусь стаў героем барацьбы з капіталізмам і атрымаў ад удзячных сквотэраў у падарунак мянушку *„piss artist“*[35]. Што ж, дзякуй ужо за тое, што нагадваць нам пра нашае абяцаньне заўтра ж пакінуць сквот болей ніхто не наважыўся: у свой падземны пакойчык мы вярнуліся з высока ўзьнятымі галовамі.

Што да мяне, то мне пасьля гэтага выпадку стала ўсё ясна — прынамсі, з Дашаю. А я, дурань, думаў, што гэта ўсё нейкія там асаблівыя фэрамоны Габрусёвага нямытага цела! Дык вось што значыць гэтае ягонае *„Каханьне ёсьць!“* Таксама мне стала ясна, праз каго ў беларускіх мужчын паводле дадзеных НЕСАПІ[36] чэлес у сярэднім большы, чым у расейскіх — яўна не празь мяне, хоць у вымярэньнях я, праўда, у адрозьненьне ад Габруся, і ня ўдзельнічаў...

Крыху супакоіўшыся, я дапусьціў, што ёсьць ува ўсім гэтым і станоўчыя бакі — ня толькі той, што сквот не згарэў і мы ў ім засталіся, а перадусім фінансавы. *„Габрусь“*, кажу, *„а ты ў курсе, што з такім сарамаценьнем, як у цябе, можна спакойна калі ня ў цырку, то пры-*

[35] Літаральна — *„мастак сіканьня“*: гэтак па-ангельску называюць п'янтосаў, што прапіваюць і „прасцываюць“ больш за астатніх.

[36] Слушна НИСЭПИ (НІСЭПД), Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў.

*намсі ў порнафільмах выступаць?“ „Ну не, во сказаў... Я ж саромею-ся“. „Павер мне, што за такое сарамаценьне, як у цябе, ніводны мужык — ды што мужык, нават конь — не саромеўся бы“. „Ды я не сарамаценьня, я камэры саромеюся! А сарамаценьня — чаго мне яго саромецца? Я што, галубы? У нас на вёсцы ўва ўсіх мужыкоў пісюны такія...“* Прыкінуўшы ў мазгах месцазнаходжаньне Габрусёвай вёскі, я імгненна прыпісаў гэты калектыўны цуд наступствам Чарнобыля. Нездарма ўсё-ткі вёска называлася Прымакі — маглі ўжо адразу назваць Альфонсы, што тое самае. І чалавек з такім дарам ад бога яшчэ зьбіраўся быць мастаком! *„Што ж, раз ты камэры баісься... Ведаеш, я, памойму, прыдумаў, як зрабіць так, каб... Карацей, каб у цябе штодня былі новыя цыцачкі й жопкі“. „Як? Падпісацца на порнагазэту? Давай! Вось толькі ці дазволяць анархісты выпісаць яе на адрас скваоту... Дый пошта не пагодзіцца — афіцыйна ж дому не існуе...“ „Слухай сюды!“*

Мой плян палягаў у наступным: з выкарыстаньнем усяго свайго інтэлектуальнага шарму (а ў тое, што я інтэлектуал, я паверыў адразу пасьля сустрэчы з Габрусём) я буду знаёміцца з багатымі замежнымі бабамі (нездама ж я ў лягеры нахапаўся азоў ці ня ўсіх усясьветных моваў), бо на самога Габруся маглі павесьціся ў лепшым выпадку сялянкі-гастарбайтэркі з Усходу, дый жанчыны звычайна саромеюцца адразу паказваць, што ім патрэбны ўсяго толькі сэкс — а ён будзе тым часам за фіранкай у якім-небудзь гатэлі ці прынамсі ў той жа каморцы ў мастакоў (*„А на скваоце нельга?“ „Нельга!“*) чакаць майго сыгналу, па якім зьявіцца перад маёй ахвярай ува ўсёй сваёй мужнасьці — пра рэшту ўжо паклапоціцца прырода. *„А калі яна не захоча?“*, захваляваўся Габрусь. *„Я ж не магу гвалтам, гэта ж ня жонка...“ „Захоча“*, супакойваў я яго. *„Даша ж захацела. І ніякага мне „гвалтам“! Не хапала, каб я яшчэ праз цябе ў турму трапіў. Ты дык і там не прападзеш — а вось я...“*

Гэтак я з Габрусёвага найлепшага сябра зрабіўся — ну што ўжо грэх утойваць — яшчэ й ягоным сутэнэрам. Праўда, напачатку працаваць зь ім было зусім ня лёгка, бо ён упарта адмаўляўся браць з сваіх кліентак грошы: у кожную зь іх ён пад канец сэксуальнага акту быў ужо па вушы закаханы, як і яны ў яго. *„Яна такі харошы чалавек“*, жаліўся ён мне штораз, завязваючы скарыстаны прэзэрватыў (іх яму давялося-такі палюбіць паводле складзеных мною правілаў тэхбясьпекі), *„ну такія цыцачкі, такая жопка — а я зь яе буду грошы браць? Што б пра мяне пасьля такога мая матуля падумала?“* Аднак голад не матуля: нават

рамантык Габрусь, які фізычна ня мог успрымаць свой новы занятак як працу, мусіў пагадзіцца на сталую таксу. Урэшце, мы зь ім паступова спрацаваліся, як браты Броскія ў тым кіно — толькі няясна, хто з нас быў Фарынэлі: ці то я, ад іншамоўных трэляў якога млелі дамы, ці то Габрусь, у якога заўжды стаяў[37] . Ведаю толькі, што разам мы ўтварылі такога кентаўра, дзе галавою быў я, а Габрусь — усім астатнім.

Ледзь наш кентаўр упрэгся й пачаў крыху зарабляць як людзі, як Габрусь падняў супраць мяне паўстаньне (верагодна, яго да гэтага падбухторылі чэскія анархісты, хто ж іншы). *„Мне здаецца, ты мяне эксплюатуеш“*, сказаў ён мне неяк (дагэтуль ён такога слова ня ведаў). *„Не разумею, чаму гэта я плачу табе грошы, а ня ты — мне“. „Зразумей, Габрусь“*, цярпліва тлумачыў яму я базавыя абстрактныя поймы, *„эксплюатуе той, хто валодае сродкамі вытворчасьці. У нашым выпадку сродкам вытворчасьці валодаеш ты — дык якая можа быць эксплюатацыя? Усё па Марксу й па-хрысьціянску“. „Дык і я пра тое! Гэта як у нас было: пайшоў Касьцюк Бязрукі, я табе пра яго ўжо расказваў, гэта той наш сусед, у якога яшчэ з вайны рукі не было, рыбу лавіць, вось толькі з бадунішча чарвякоў забыў накапаць — ёлуп рэдкасны! А побач сядзеў іншы ёлуп, Пятро Гаўнаед, я табе пра яго не расказваў, але не бяды — галоўнае, што ў гэтага рука была, дык вось яму шчупак зь першага закіду кручок адкусіў. Пятро пасядзеў-пасядзеў, пазакідваў вуду — бачыць, што без кручка гаўно ловіцца, то плюнуў, пакінуў сваіх чарвякоў Касьцюку, які з кручком, і пайшоў. А Касьцюк на тых чарвякоў да вечара кіляў пяць можа налавіў, ня памятаю ўжо дакладна, колькі. Толькі таго шчупака з Гаўнаедавым кручком нешта так і ня вылавіў — яны, шчупакі, заразы, хітрыя...“ „Добра, гэта ты ўсё да чаго?“ „А да таго, што абы быў кручок, а чарвяк знойдзецца! Па-мойму, кручком тут валодаю я! А ў Гаўнаеды я магу й каго іншага знайсьці!“*

Як што Габрусь даў мне гэтым грубым спосабам зразумець, што я поўны нуль бяз палачкі-выручалачкі, якая належыць толькі яму (а ня ёсьць гонарам усяго беларускага народу, як даказваў я), то я пакрыўдзіўся й ад пасады ягонага сутэнэра адмовіўся, пасьля чаго мы некалькі дзён нават не віталіся. Але гэта не азначае, што я перастаў яго, кажучы ягонымі словамі, „эксплюатаваць“. Канфіскаваўшы калісьці куплены

[37] **Браты Карлё** (сьпявак-кастрат, вядомы пад мянушкаю „Фарынэлі“) і **Рыкардо** (кампазытар) **Броскі** — італьянскія музыкі XVIII ст. Пад кіно маецца на ўвазе фільм Жэрара Карб’ё *„Farinelli, Il Castrato“* (1994 г.)

мною, а цяпер закінуты ім (ня мне, а наагул) адкідны блок, дзе Габрусь раней у вольныя часы рабіў замалёўкі й вёў, як кожны творца, шыфраваны дзёньнік, я рушыў да мастакоў. Няўрымсны хлапец з Харкава, які ведаў у Празе ўсіх і кожнага, на маю просьбу пазнаёміў мяне з тутэйшымі сюррэалістамі — пераважна старымі дзядамі, якія ў думках жылі яшчэ даваеннымі часамі сваёй маладосьці. Спрактыкаваным вокам сюррэалісты імгненна распазналі ў Габрусёвых краявідах, актах і нацюрмортах высокаклясны арт-брут[38] і тут жа прапанавалі мне зладзіць выставу ягоных (натуральна, я сказаў, што нібыта маіх) малюнкаў. Я пагадзіўся ўмомант. Выстава з назвай „АРТаграфія БРУТальнасьці“ адкрылася на наступны ж тыдзень, але ня ў Цэнтры па правах чалавека, як хацеў я, а ў Цэнтры рэабілітацыі людзей з псыхічнымі цяжкасьцямі, і мела, трэба сказаць, шалёны посьпех: за адзін толькі вэрнісаж прадалася палова карцінаў і добрая траціна старонак зь дзёньніка, а з выручаных за гэта грошай я жыў яшчэ месяцы два. Гэтак я апроч сутэнэра міжволі стаў яшчэ й Габрусёвым антрэпрэнэрам, то бок тым самым агентам. Аднак, каб зрабіць Габрусю падлянку, я не падзяліўся зь ім ня толькі грашыма, але й нават навіной пра ягоную абсалютна нечаканую, хоць і кароткачасовую мастацкую славу — чаго да сёньня, прызнаюся, не магу сабе дараваць.

## 9.

*Інтэлігенцыя звыклая лічыць сябе мозгам нацыі.*
Ленін

У той незабыўны сакавіцкі дзень Габрусь уварваўся ў наш пакой, ледзь ня ўдырыўшыся галавой аб супрацьлеглую сьценку: *„Усё! Больш за грошы ня трахаюся!“* (А ён безь мяне й так, скажу не бяз гонару, ня моцна за іх трахаўся). Я ўжо падумаў, што ён стаў імпатэнтам (а гэта было малаверагодна) ці падхапіў ад якой-небудзь немкі СНІД (хаця што такім асілкам духу, як ён, якісьці там СНІД), ды толькі цымус быў зусім у іншым: *„Мне далі працу! Як мастаку!“* Нягледзячы на посьпех

[38] **Art brut** (фр. „сырое, грубае мастацтва“) — кшталт мастацтва, якое ствараецца пераважна аматарамі, шаленцамі й маргіналамі. На жаль, у праскай сюррэалістычнай суполцы, зь якою я сам падтрымліваю сяброўскія стасункі, ніхто, нават старажылы, ані Андруся Макатоўшы, ані „ягоных“ твораў прыгадаць ня здолеў.

нашай зь ім выставы, я палічыў, што ён ад такой колькасьці сэксу ўжо зусім зьехаў з глузду, у найгоршым выпадку — таксама пазнаёміўся зь сюррэалістамі. Адылі не: ён выпадкова сустрэў у горадзе аднаго вядомага беларускага песьняра з радыё „Свабода“[39], які з нагоды чарговых угодкаў БНР запрасіў яго на могілкі[40]. *„Разумееш, там нашыя прэзыдэнты пахаваныя* („*От каб сапраўды так было*“, падумаў я), *а дваццаць пятага ўсе туды прыйдуць кветкі класьці!“ „Ну і?“ „Ну й магілы трэба прыбраць ды надпісы падмаляваць! А то яны ўжо з гадамі пабляклі. Вось мне гэта й дастаў, асабіста. Нават аванс упершыню ў жыцьці атрымаў! Хадзем, дапаможаш магілы знайсьці, а то з маёй арыентацыяй, ведаеш...“*

Мы затарыліся чырвоным вінам у пакетах, набылі за „аванс“ фарбы (залатую, белую, чырвоную), узялі калісьці купленыя (зноў-такі, за мае грошы) пэндзлі й паехалі на могілкі. Як я й прадчуваў, прыборку прэлага лісьця й птушынага лайна Габрусь даручыў мне, а сам, як прафэсіянал, заняўся падмалёўваньнем надпісаў і сьцяжкоў на помніках. *„Заўжды марыў папрацаваць на карысьць Бацькаўшчыны“*, прызнаўся ён мне ў перапынку між дзьвюма першымі літарамі, выціраючы пот (гэта ён, відаць, меў на ўвазе сваю мару пра беларускі „Плэйбой“). *„Недарма ж я на філфаку вучыўся“. „Што? Ты скончыў філфак?“ „А што я — не чалавек?“*, абурыўся Габрусь. *„Ну не, ты проста нічога не казаў... Я думаў, ты чыста з мастацкай вучэльні...“ „Ды не, як мастак я самавучка“*. Нельга сказаць, каб я пра гэта не здагадваўся, але тут мяне ўзяло за жывое: *„Раз самавучка, дык якім правам ты тады надпісы падмалёўваеш? Ану пайшоў сьмецьце прыбіраць!“ „Ну што ты так раскрычаўся? Я цябе хіба нечым пакрыўдзіў?“ „Не, не пакрыўдзіў“. „Ну, тады выбачай...“* Урэшце, менавіта тады на могілках, дзякуючы дыпляматычнаму пасярэдніцтву абодвух прэзыдэнтаў БНР, мы з Габрусём канчаткова памірыліся.

На наступны дзень было дваццаць пятага, да якога мы традыцыйна рыхтаваліся, як да сьвята: яшчэ за тыдзень да яго памыліся, пагаліліся й прычасаліся ў суседнім са сквотам студэнцкім інтэрнаце. Натуральна, прыйшлі мы й на могілкі, зірнуць, якое ўражаньне зробіць на суайчыньнікаў нашая праца (пасьля нашча выпітага пакету віна Габрусь ня здолеў утрымацца й прыпісаў ззаду на кожным з помнікаў *„Ка-*

[39] Гаворка можа ісьці або пра Сяржука Сокалава-Воюша, або пра Багдана Андрусішына-Данчыка.

[40] Маюцца на ўвазе Альшанскія могілкі ў Празе.

*ханьне ёсьць! Жыве Беларусь!“* — балазе, зірнуць на іх заднюю частку ніхто не даўмеўся). Суайчыньнікаў ля магілаў сабралося нешта падазрона шмат (мы ўжо баяліся, што зьбіраюцца ці кагосьці хаваць, ці наадварот, эксгумаваць нашых дарагіх прэзыдэнтаў), прычым праскіх была сярод іх толькі пара чалавек „макдональдцаў“, а ў астатнім — усе тыя, каго мы з Габрусём ведалі чыста завочна з радыё й газэтаў, а таму даўно марылі пабачыць увачавідкі. Габрусь ажно пашкадаваў, што ня можа намаляваць іхнага калектыўнага партрэту: атрымаўся б поўны Гойя. Тут табе й дзейны старшыня нядзейнага парлямэнту, і былы міністар памежных спраў, і выканаўца абавязкаў Зянона Пазьняка, і выканаўца перадапошняй волі Зянона Пазьняка, і галоўны па краіне лінгвіст, і галоўны паліткір Першай Газэты з рысункамі (насамрэч у яго ў руках былі не рысункі, а мапа могілак), і галоўны нампаліткіра, і першы намесьнік галоўнага палітвязьня... Карацей, калі б на могілках у той момант выбухнула граната ці Габрусь даўмеўся зьняць боты, наш беларускі рух застаўся б калі не без галавы, то дакладна бязь яйцаў. *„Яны што — усе прытулак прасіць прыехалі?“*, шэптам пацікавіўся Габрусь у таго, хто стаяў побач. *„Выглядае, бяда: зусім апазыцыю прыціснулі... Калі так, магу ўсім патлумачыць, дзе знаходзіцца лягер — я там нядаўна быў. А пажыць калі што можна і ў нас на сквоце...“ „Яны прыехалі на зьезд“*, адрэзаў той, хто стаяў побач, бо ня чуў праз Габруся словаў сьвятара. *„Што за зьезд? Беларусаў сьвету? Дык і я ж беларус...“ „Мовазнаўцаў!“ „Ну дык і я ж мову знаю...“*

Пасьля цырымоніі, што завяршылася абавязковым для ўсіх кілішкам на расхадуху (Габрусь дык патрабаваў наліць нам яшчэ й па штрафным, бо мы, як заўжды, спазьніліся) ды групавым сьпевам, учорашні афарміцель магілаў падруліў да свайго знаёмага песьняра з Радыё, што замаўляў у яго прэзыдэнтаў, і замест выплаты рэшты ўзнагароды папрасіў яго запісаць нас ува ўдзельнікі зьезду: як прадчуваў, што там будуць бясплатна частаваць кавай з буцікамі. Пясьняр крыху памяўся, але канец канцоў ня здолеў адмовіць Габрусю як філфакаўцу, і ў выніку мы ўпершыню трапілі ў асяродзьдзе сапраўдных беларускіх інтэлектуалаў. Нам нават павесілі на шыі адпаведныя пасьведчаньні (сваё я захоўваю да сёньняшняга дня разам з трапяткімі ўспамінамі), калі б наконт нашага інтэлекту ў кагосьці раптам узьніклі пытаньні. Дзякуючы гэтым пасьведчаньням ахоўнікі прапусьцілі нас не абыкуды, а на тое самае Радыё, у якім адбываўся зьезд. Выгляд з радыйнага вакна на Прагу, мушу сказаць, быў афігенны.

У працы зьезду, аднак, мы ўдзелу амаль ня бралі, бо за буцікамі й кавай нам было не да ўдзелу, дый працы як такой з нашага гледзішча

амаль не было — паседжаньне нагадвала хутчэй сустрэчу выпускнікоў праз дваццаць гадоў пасьля выпускнога. Адны мы з Габрусём выбіваліся сваім анархічным выглядам, поглядамі й паводзінамі з агульнай масы дэлегатаў (тых было чалавек трыццаць), праз што яны пазіралі на нас зь недаверам: не маглі прыпомніць, ці насамрэч мы хадзілі зь імі ў адну школу.

Як было напісана ў праграмцы, зьезд меўся вырашаць пытаньне жыцьця й сьмерці нумар адзін: у чарговы раз ці то рэфармаваць норму, ці то ўнармоўваць рэформу беларускага правапісу. Сумленна пад'еўшы й падпіўшы (у радыйным бух-вэце), мы з Габрусём заваліліся ў канфэрэнц-залю й акурат трапілі на адзін зь нешматлікіх спрэчных момантаў паседжаньня: абмяркоўвалася пытаньне, як пісаць такое слова як „Shakespeare“. Прапаноўваліся наступныя варыянты: Шэкспір, Шэксьпір, Шакспір, Шаксьпір, Шэйкспір, Шэйксьпір, Шайкспір, Шайксьпір; Шэкспіа, Шэксьпіа, Шакспіа, Шаксьпіа, Шэйкспіа, Шэйксьпіа, Шайкспіа, Шайксьпіа; Шэкспія, Шэксьпія, Шакспія, Шаксьпія, Шэйкспія, Шэйксьпія, Шайкспія, Шайксьпія — усяго дваццаць чатыры, фактычна па варыянце на дэлегата, кожны зь якіх імкнуўся бараніць менавіта сваю вэрсію, перакрыкваючы астатніх (да пытаньня, на каторы склад трэба рабіць у „Shakespeare'ы“ націск, пакуль было далёка). Ад такога багацьця беларускай мовы, пра якое Габрусь і не падазраваў, у яго ажно разбалелася галава, і ён, ня вытрымаўшы, папрасіў слова. У залі тут жа запанавала цішыня, і ўсе вочы вылупіліся на Габруся, а я ад нечаканасьці нават рот разявіў: па шчырасьці, я баяўся, што калі Габрусь зараз устане, то ўжо ня сядзе, а калі й потым сядзе, то больш ня ўстане. Габрусь, аднак, калі не лічыць ікаўкі, трымаўся малайцом, і пры ўставаньні перакуліў толькі адну шклянку з вадою. *„Дзецюкі“,* упэўнена пачаў ён, *„я ня ведаю, дзе й чаму вас вучылі... Я сам дык вучыўся на філфаку... Пасьля паехаў у Швэцыю... Але што галоўнае: помню, на філфаку казалі, што ў беларускай мове... Матчынай, між іншым... А ў мяне дык і татчынай... Як чуецца, так і пішацца... А як пішацца, так і чытаецца, і наадварот... Дык вось, можа я дурны... А можа вы дурныя... Бо ў нас на вёсцы такімі словамі ня кажуць... Але я гляджу, тут у мяне напісана: Сга-ке-спэ-а-рэ... Чорным па беламу... Хоць і лацінкай... А я ёю карыстаюся, між іншым... Зь дзяцінства... Дзёньнік шыфрую... І татуіроўку магу паказаць... Ну дык скажэце, людцы дарагія... Калі лацінкай напісана Сга-ке-спэ-а-рэ... Дык чаму й тарашкевіцай не пісаць Сга-ке-спэ-а-рэ?.. Гэта ж так проста... І ясна... Усяго дзесяць... Не, трынаццаць літар... Дый наагул... Ня трэба з-за ўся-*

*кай ярунды сварыцца... Хадземце лепш па Празе пагуляем... Зь дзяўчатамі вас пазнаёмлю... Каб вы ведалі, якія ў іх тут цыцачкі, якія... Жопкі...“*

Што тут пачалося! Нязгодны гул, які паступова нарастаў па меры Габрусёвага набліжэньня да цыцачак, цяпер перарос у лямант, а той ледзь не ў адкрыты гвалт з боку інтэлектуалаў. Мне ажно стала крыўдна за свайго сябра, і я ня мог за яго не ўступіцца: *„Рацыя, Габрусь! Я больш скажу: няма ў нас такога слова! Па-беларуску ваш „Shakespeare“ правільна будзе „Дзідатрос“! Вучыце замежную мову!“* — на што інтэлектуалы пачалі раўсьці: *„Хто гэта вапшчэ такія? Хто іх сюды вапшчэ ўпусьціў? Гэта абструкцыя! Прафанацыя нацыі! Дывэрсія! Дзіверсія! Дывэрсыя! Сабатаж!“* Тут ад імя ўсіх інтэлектуалаў узяў слова адзін сівавусы дзядзька (гэта я дакладна памятаю, бо аднойчы быў, яшчэ ў Менску, галасаваў за яго на нейкіх выбарах, пра што цяпер пашкадаваў) і сказаў: *„Вось бачыце, спадары, якія прайдзісьветы просяць у Чэскай рэспубліцы палітычнага прытулку. Мала таго, што яны ня маюць ніякага дачыненьня да палітыкі, бо зьяжджаюць з чыста эканамічных прычынаў за лепшым жыцьцём — яны яшчэ й нават мовы беларускай ня ведаюць! Перад вамі яскрава выражаныя прадстаўнікі новай катэгорыі беларусаў: палітычных турыстаў, або, як кажуць па-чэску, так званых „упырхлікаў“! Прапаную гнаць іх з гасьціннай Эўропы сраным венікам — а калі не з Эўропы, дык прынамсі з гэтага зьезду! Хто „за“ — прашу галасаваць!“*

У гэтым пытаньні дэлегаты былі нашмат больш адзінадушнымі, чым наконт „Shakespeare’a“. Убачыўшы амаль акцябрацкі лес рук, Габрусь ад прыкрасьці ледзь сам не расплакаўся, як акцябронак: гэта ж трэба, ён хацеў, як лепей, як да людзёў, а тут... Аднак у наступны момант ён, будучы сапраўдным мужыком з Прымакоў, ужо ўзяў сябе ў рукі (гэтым разам цалкам, а ня самую выбітную сваю частку, як кагадзе на пажары) і прамовіў так, каб пачуў усяк, але літасьці ня меў (я ніколі дагэтуль ані пасьля не заўважаў за ім такога імпэту): *„Чуеш, ты, перхаць падзалупная! Як могілкі прыбіраць — дык вам упырхлікі, а як пра Шаксьпіра ці каго там пагаварыць — дык сабатаж! Круціў я на хую твайго Шаксьпіра! Выходзь на разы — убачыш, як я табе эканамічныя й іншыя прычыны паадбіваю! А яшчэ лепш у лягер прыяжджай — там і безь мяне адаб’юць! На сквот шуруй, я табе лепшае жыцьцё пакажу! Згадаеце яшчэ ўпырхлікаў! Прыйдзе вайна — папросіце хлеба!..“*

Але гэта ўжо нас ахоўнікі выводзілі з залі пад рукі.

## 10.

*Родзіна слышыць — родзіна знаець.*
Радыйны фальклёр

Габрусёвы словы аказаліся прарочымі: вайна неўзабаве прыйшла, і хлеба ў нас сапраўды папрасілі. Гэта здарылася, уласна, дзякуючы ісламскім тэрарыстам, што ўмазаліся на самалёце ў тых нью-ёрскіх блізьнятаў (ня ведаю, што ўжо там за блізьняты былі такія — шкада дзяцей, вядома, але не вайну ж праз гэта пачынаць). У гэтай сувязі амэрыканскія гаспадары Радыё пачалі пашыраць свае штаты й ідэалёгію, у тым ліку й на Беларусь, таму ў беларускую службу быў абвешчаны дадатковы набор прапагандыстаў. Аднак, паколькі грошай на пашырэньне штатаў амэрыканцы не далі (усе чыста пайшлі па Тунэльбане[41]), то набіраць прапагандыстаў давялося з таго, што было пад рукой у кіраўніцтва — вось тут гэтая рука й пацягнулася па нас, упырхлікаў. Не пасьпеў я прыйсьці на сумоўе, як да мяне тут жа ўзьніклі прэтэнзіі, кшталту: *„З кампутарам працаваць умееце?“* Я ўзрадаваўся, бо ў душы баяўся, што мяне першым чынам зноў папросяць пастрыгчыся, як на вайсковай катэдры — вайна ж вам ня жарты, а яны пра нейкі кампутар! *„А што там умець!“ „Ну, напрыклад?“ „Напрыклад, мэйл магу адаслаць... На любы адрас, было б каму...“ „А яшчэ?“ „А магу яшчэ й не адаслаць — гэта ўжо як пашанцуе...“ „Дазвол на працу маеце?“ „Не“. „Чароўна — будзеце працаваць нелегальна“. „Без праблем, я іначай і ня ўмею...“* Неўзабаве пасьля мяне з кабінэту спадара дырэктара выбег Габрусь: *„Ну што, узялі?“ „Вядома!“ „Цяжкія пытаньні задавалі?“ „Ды ну, легката! Паспрабаваў бы ты ў мастацкую акадэмію паступіць...“* Пазьней мы даведаліся, што мяне ўзялі на працу як самага маладога й пэрспэктыўнага (спадар дырэктар, падпісваючы са мной кантракт, усё мармытаў сабе пад нос нешта кшталту „бабуля разам“ — можа, гэта мела нейкае значэньне й ён быў калісьці знаёмы з маёй бабуляй?[42]), а Габруся — як былога філфакаўца. Гэтак мы з Габрусём пачалі з восені штодня хадзіць у той самы будынак, адкуль нас яшчэ ўвесну вытурылі.

Напачатку мы нават хадзілі туды з высока ўзьнятымі насамі (асабліва перад ахоўнікамі, што нас тады вытурвалі), бо працаваць на радыё

---

41 Бідаць, Талібане.

42 Хутчэй за ўсё, у дачыненьні да Андруся быў ужыты лацінскі выраз „*tabula rasa*“ — на маю думку, несправядліва.

„Свабода“ ёсьць патаемнай марай кожнага сьвядомага эмігранта, параўнальнай хіба толькі з марай быць пахаваным каля прэзыдэнтаў. За паўстагодзьдзя свайго існаваньня Радыё здолела прабіцца на першае месца сярод усіх беларускіх фірмаў паводле вышыні заробку, аднак гэта, на шчасьце, ніяк не адбілася на якасьці яго прадукцыі. Заробкі (а нярэдка й пашпарты) у радыёўцаў былі амэрыканскія, тым часам як стаўленьне да ўлюбёнай працы — нашае, беларускае: то бок між вышынёю заробку й працоўнай аддачай усталявалася надзейная адваротная сувязь. Гэта ў тым ліку значыць, што калі ўзяць да ўвагі, колькі плацілі нам з Габрусём, то стане ясна, што бальшыню працы на Радыё, асабліва так званай чорнай, рабілі мы, гастарбайтэры. *„Габрусь“*, падзуджваў я яго, *„чаго ты цяпер не пратэстуеш супраць эксплюатацыі? Давай хоць які прафсаюз створым, ці што...“ „Ну ты даў! Ёсьць жа розьніца: што змагацца за Бацькаўшчыну, а што баб за грошы трахаць“. „І якая?“ „А хоць бы й такая, што змагацца — гэта гонар, а блядзтвам займацца — гэта ў найлепшым выпадку ганарэя. Да таго ж тут у сталоўцы ну такі суп смачны! Ня тое што ў анархістаў! А кошт той самы, анарха-камуністычны — пяць крон...“* З гэтым я быў вымушаны пагадзіцца. У выніку цягам першага году на Радыё мы ня толькі там працавалі, але й папросту жылі — і ўсё таму, што такое жыцьцё было ўсё-ткі больш прыймальным у параўнаньні са сквоцкім.

Тым часам як мне даручылі займацца радыйным інтэрнэтам, які тады быў толькі нядаўна зьявіўся, Габруся пасадзілі працаваць з мовай: кіраўніцтва было ўражанае перадусім ягоным беларускім вымаўленьнем, сапраўдных носьбітаў якога ў новым тысячагодзьдзі засталося столькі, што можна на пальцах зьлічыць. Спадар дырэктар меў тайны спадзеўператварыць Габрусёў голас у візытоўку свайго эфіру, таму паступова пачаў прывучаць да яго гучаньня слухачоў, а самога Габруся — да чытаньня. У першыя тыдні Габрусь яшчэ баяўся мікрафону — ня меней, чым саромеўся відэакамэры (удакладню, што гэтак жа ён баяўся мабільнага тэлефона, які ўвесь час блытаў з пультам дыстанцыйнага кіраваньня, ліфта, бо ў ім таксама былі кнопкі, ці праскага мэтро, бо там да яго вечна чапляліся кантралёры), аднак неўзабаве той стаў ягонай улюбёнай прыладай, бо ён палюбіў яго ўвесь час уключаць і выключаць. Скончыўшы кароткі курс адвыканьня ад гэтай звычкі з ганаровай граматай, Габрусь, седзячы цяпер у студыі перад асабістым мікрафонам, стаў адчуваць сябе кімсьці накшталт рок-зоркі з свайго ўлюбёнага гурта „Дзіпёрпал“. Тады кіраўніцтва палічыла, што кліент сасьпеў, і адправіла Габруся чытаць вечаровыя навіны. Атрымаўшы

першы раз шанец прамовіць на ўсю краіну ў прамым эфіры, Габрусь ня вытрымаў і расплакаўся: *„У Менску дваццаць гадзін... У праскай студыі навінаў... Мамка, татка, гэта я, Габрусь, ваш сынок! Як вы там, безь мяне? Сумую па вас — ня тое слова... Каб вы толькі ведалі, што ў нас тут адбываецца... Сёньня амэрыканскія вайскоўцы заатакавалі пячору, дзе паводле зьвестак выведкі хаваецца... Не, не магу... Мама, як там наш гарод? Ці выкапалі бульбу? Беларускі кіраўнік Аляксандар Лукашэнка выказаў занепакоенасьць сытуацыяй на сяле. Як там Прымакі? Чуеш, мама? Што ты кажаш? Калі я ўжо вярнуся? І сам ня ведаю... Колькасьць ахвяраў землятрусу ў Азіі вырасла да сямісот чалавек... А божа ж божа, як я бяз вас смуткую... Татка, мамка, калі я вас чым-небудзь пакрыўдзіў, то выбачайце... І пра надвор'е: заўтра ў Менску будзе дванаццаць градусаў вышэй за нуль, на поўдні краіны да чатырнаццаці... Мама, тата, апранайцеся цяплей, беражыце сябе, я вас вельмі люблю...“*

Пасьля такога пачатку дыктарскай кар'еры кіраўніцтва пастанавіла даць Габрусю работку папрасьцей і перавяло яго ў катэгорыю блогераў. З маёй сьціплаю дапамогай (я на той момант ужо няблага навучыўся пісаць пад дыктоўку двума пальцамі) Габрусь пачаў выліваць на беларускіх сецевікоў сваю чыстую вясковую душу й вучыць іх жыцьцю. Посьпех быў ашаламляльны: статыстыкі наведваньня нашага сайту пачалі ламаць сьпярша беларускія, а пасьля й радыйныя рэкорды, а празь якія паўгода Габрусь ужо выдаў свой блог у сэрыі „Бібліятэка Свабоды“ пад назваю „Малая кулінарная энцыкляпэдыя (Габруся)“, з прадмоваю спадара дырэктара й наступным зьместам: *„Суп курыны. Салат „аліўе“. Катлеты па-кіеўску. Макароны па-флёцку. Дранікі са сьмятанай. Торт „Птушынае малако“. Торт „Напалеон“. Татарскі біфштэкс. Зацірка. Крэм-бруле. Соўс „бэшамэль“. Раяль з сырам. Дзёнэр-кебаб. Пончыкі. Цыпляня з табакай. Вінэгрэт“*. Кніга, сярод іншага, сьведчыць пра тое, што ў Габруся ўрэшце зьявіліся грошы, каб пакаштаваць усе гэтыя прысмакі. На жаль, разьдзелы „Цыцачкі па-швэдзку“ й „Жопкі па-чэску“ ў яе не ўвайшлі. Гэтак Габрусь з мастака ператварыўся ў пісьменьніка, у выніку чаго Радыё прапанавала яму сталы кантракт, а неўзабаве ў нагрузку атрымаў ад чэскіх уладаў і палітычны прытулак — паспрабуйце адмовіць такой мэдыйна вядомай асобе! Тым часам я па-ранейшаму бегаў у Хельсінскі камітэт і ўсё працягваў свой лягерны пропуск, штодня чакаючы адмовы ў „азілі“ й дэпартацыі, пакуль спадар дырэктар урэшце не пазваніў куды трэба й ня ўставіў ім там па першае чысло. Мяне легалізавалі, хоць і без асаблівай ахвоты.

**11.**

*А вось цяпер ты жыхар гэтай хаты,*
*дзе ёсьць сьцены, падлога і столь,*
*і каб паесьці — сядаеш за стол,*
*разумеючы: гэта канец.*
Умка

Як бачыце, новае тысячагодзьдзе стала для мяне асабіста як кампутаршчыка ня толькі прыемным сюрпрызам, але й значна шчасьлівейшым за папярэдняе. Пачатак, прынамсі, быў сапраўды шматабяцальны: ну ўявіце сабе, ужо цягам першага яго году мы з Габрусём зрабілі ашаламляльную кар’еру ад поўных нулёў, жабракоў і ўпырхлікаў да прыстойных і забясьпечаных людзей. Наступны год быў яшчэ лепшы: мы пераехалі ў цэнтар горада, каб было бліжэй да працы, у радыйную кватэру, за якую не плацілі ні кроны — што было адзінаю рысай, якая яднала нашае новае жытло зь лягерам і сквотам. Кола нашых знаёмых таксама рэзка зьмянілася: цяпер мы езьдзілі па горадзе ў таксі, каб не хадзіць пехатою й крый бог не сустрэць якога анархіста (гэтага найбольш баяўся я) ці сэксуальнай турысткі (іх найболей пазьбягаў Габрусь, я дык наадварот аднавіў свае калісьці павярхоўныя сувязі зь некаторымі зь іх). Яшчэ я адкрыў у сабе якасьці, пра якія раней і не здагадваўся: напрыклад, тое, што мне нечувана пасуе дарагая вопратка. А вось Габрусь, мушу сказаць, ня здолеў пазбавіцца ранейшых звычак: ён так і насіў свае касуху й завушніцу (нават у опэру), у „Блювю“ прасіў падлічыць яму кошт віна й бурбалак у шампанскім асобна, каб не плаціць за паветра, а насоўкай па-ранейшаму карыстаўся толькі тады, калі яму было неабходна незаўважна пёрнуць. Ладную частку заробку ён сумленна пасылаў сваім бацькам і дзецям, то бок *„на элемэнты“*, і прынамсі па гадзіне ў дзень размаўляў зь імі па працоўным тэлефоне за грошы амэрыканскіх падаткаплатнікаў. Я таксама ўрэшце сабраўся з духам і пазваніў на вёску дзядзьку Базылю, які тут жа расплакаўся ад радасьці, а я ад гора: мае дзед з бабай памерлі ўжо год таму, так і не дачакаўшыся ўнукавага званка, хоць і днявалі ды начавалі пры тэлефоне. Але ў астатнім, маўляў, дзядзька на мяне не крыўдуе й нават мною ганарыцца, бо рэгулярна чытае ў апазыцыйных газэтах перадрукаваныя з нашага радыйнага сайту, а значыць — і набраныя мною матэрыялы. Я паабяцаў дзядзьку, што як толькі атрымаю чэскае грамадзянства, зараз жа прыеду да яго ў Беларусь — а дзядзька, добрая душа, і паверыў.

Адразу ж пасьля гэтай размовы я пачаў ціха сьпівацца, каб заглушыць згрызоты сумленьня. Натуральна, гэта не магло не адбіцца на маёй працы, гэтак жа як на ёй ужо апісаным чынам адбілася разавае падвышэньне заробку ў сувязі з інфляцыяй. Таму на нашым сайце пачалі зьяўляцца неправераныя нікім, апроч мяне, зьвесткі. Гэтак, з маёй лёгкай рукі й цяжкога бадуна пры актуалізацыі якога-небудзь матэрыялу *„сёньняшняя анлайн-канфэрэнцыя“* ператваралася ўва *„ўсёрашнюю анлайн-канфэрэнцыю“, „Сьвятлана Алексіевіч“* у *„Сьвятлана Алексеіча“, „Слуцкае паўстаньне“* ў *„Суцкае“*, а пасьля першага туру амэрыканскіх прэзыдэнцкіх выбараў уся Беларусь даведалася, што кандыдаты Буш і Керы маюць прыблізна роўныя канцы. Калі спадар дырэктар заўважыў на нашым сайце прыдуманы мною загаловак *„Папа Бэнэдыкт XУІ і патрыярх Філярэт абмеркавалі сямейныя пытаньні“*, ён ужо ня вытрымаў і запрасіў мяне да сябе на кілім. Ягоная прамова складалася з адных пытаньняў: *„Макатоўша, скажыце, гэта вашае сапраўднае прозьвішча — ці толькі псэўданім? Што вы сабе дазваляеце? Што гэта за загаловак, напрыклад: „У 2050 годзе меншасьці будуць складаць 70% насельніцтва ЗША“? Або: „У 5000 запрошаных генэрал Фралоў не патрапіў“? Або: „Ня піце кампоту, калі ў ім аса“? Гэта вы самі дадумаліся, ці нехта падказаў? Або: „Самотная жанчына спадзяецца толькі на канец Лукашэнкі“? Ну й самае маё ўлюбёнае вось гэта: „Грыбы — лякарства душы“ — вы асабіста якімі грыбамі лекуецеся? Не галюцынагеннымі? А мо гэта вы, як анархіст, наўмысна робіце? Каб падарваць нашую рэпутацыю? Льяце ваду на млын рэжыму?“* Мне зрабілася ясна, што мае хвіліны на Радыё зьлічаныя. Як прафэсійны журналіст я цалкам пагарэў: тут трэба й піць умець, асабліва па пятніцах, і тавар, што называецца, паказаць.

Тым ня менш я быў удзячны Радыё за тое, што яно карміла й паіла мяне цэлы год, а Габрусю — што ён, як сапраўдны сябрук, ня выгнаў мяне з радыйнай кватэры, цяпер ужо выключна ягонай, пакінуўшы мяне замест пакаёўкі. Мы сталі вымушана жыць выключна зь ягонага заробку, але розьніцы ўва ўзроўні жыцьця чамусьці зусім не заўважылі — гэтак я даведаўся, што Габрусю як творцу плацяць у разы болей, чым плацілі мне. Ягоная кар’ера дык наадварот набірала абароты: у вольны ад глядзеньня порнаканалаў і „Сам сабе рэжысэра“ час ён пачаў задумваць новую, гэтым разам не кулінарную, а аўтабіяграфічную кнігу зь лёгка запамінальнаю назваю *„Пуцявіна: Прымакі — Гомель — Менск — Рыга — Хельсінкі — Стакгольм — Мальмё — Капэнгаген — Гамбург — Бэрлін — Варшава — Прага“*, дзе зьбіраўся выказаць пра

сябе ўсю праўду-матку да самага знаёмства са мною: як і з кім вучыўся на філфаку, як рабіў з жонкаю дзяцей, як уцякаў ад беларускіх гопнікаў, як нелегальна пераходзіў па лёдзе Батанічны заліў[43], каб трапіць у Швэцыю, і нямецкую мяжу, каб трапіць у Чэхію, як лавіў у Прыпяці асятроў... *„Габрусь“*, умяшаўся я, *„слухай — я табе веру, але нельга ж меру перабіраць! У Прыпяці няма асятроў!“*, на што Габрусь, крыху падумаўшы, адказаў: *„Пападаюцца...“* [44]

Ад лішку вольнага часу й зайздрасьці да Габрусёвых пісьменьніцкіх ляўраў я ня ведаў, куды сябе падзець. *„Дык ты жывапісам займіся“*, параіў мне Габрусь, *„гэта ж лёгка“*. *„Габрусь, слухай, ну я ж ня ты...“* *„Тады кніжку напішы — гэта яшчэ лягчэй“*. *„Ну й пра што я пісаць буду?“* *„Як пра што? Пра мяне!“* *„Пра цябе ты лепш сам пішы...“* *„Ну, тады пра сябе“*. *„А што пра мяне пісаць? Я ж асятроў у Прыпяці не лавіў“*. *„А ты напішы пра лягер, пра сквот, усё такое... А я табе прадмоўку чыркану — у „Бібліятэцы Свабоды“ адразу выдадуць, пабачыш...“*

Нягледзячы на такія пэрспэктывы, апавядаць ні пра сябе, ні пра лягер мне не хацелася, таму кніжка пісалася досыць марудна, а на пачатку дык не пісалася зусім. Я ўсё ніяк ня мог увайсьці ўва ўласную колішнюю ролю й пагадзіцца з думкай, што я нядаўні й я цяперашні — ня два розных чалавекі. За сябе-нядаўняга мне было перад сабою-цяперашнім сорамна, да таго ж пасьля звальненьня з працы пагроза зноў ператварыцца ў сябе-нядаўняга памацнела й перасьледавала мяне ў начных і дзённых кашмарах: я рабіў усё, каб пра гэта ня думаць і нават ня згадваць — а пісаць успаміны бяз згадак у мяне не выходзіла. Але ж калі Габрусь на другія ўгодкі нашага знаёмства падараваў мне сваю прадмову, шляху да адступленьня не засталося, і я, як кажуць сярод графаманаў, паступова ўвайшоў у смак: пакуль Габрусь толькі прыдумляў эпіграф да сваёй эпапеі, я ўжо неўпрыкмет сабе настрачыў у суме ажно дваццаць два разьдзелы. Што да апошняга разьдзелу, то мы з Габрусём пастанавілі гэтак: хай яго піша само жыцьцё. Дакладна на гэтым месцы Маўр ува мне умывае рукі[45].

---

[43] Слушна — Батнічны заліў.

[44] Габрусь, трэба прызнаць, амаль ня хлусіць: да 30-х гг. мінулага стагодзьдзя ў беларускіх рэках зрэдчас траплялiся асятры з Чорнага й Балтыйскага мораў.

[45] Андрусь тут яўна мае на ўвазе свайго ўлюбёнага беларускага пісьменьніка Янку Маўра.

## 12.

*Я цябе спарадзіў — я цябе й заб'ю.*
Solanum Tuberosum

Эх, Габрусь, дарэмна ж ты мне параіў, каб я перадаў эксклюзіўныя правы на напісаньне гэтага разьдзелу самому жыцьцю! Хто ж мог ведаць, што яно напіша яго так хутка й так бяздарна! Але што зробіш, хай ужо піша далей — у мяне самога дык не хапае словаў…

Адным словам, Габруся забілі. Прычым у самы недарэчны момант, калі ён толькі-толькі атрымаў амэрыканскую грын-карту й падаў ужо заяўку на вольнае месца, што акурат тады вызвалілася ў Радзе БНР[46]. Вінаватая ўва ўсім была, як заўжды, воля лёсу — інакш кажучы, Габрусёвае ўласнае ну й яшчэ мясцовае чэскае разьдзяўбайства. Колькі разоў я казаў яму: зьмяні лад жыцьця! Зьнімі касуху! — не паслухаўся, бо ягоны мЕтал яму быў даражэйшы за сябе самога. Думаю, гэта перш за ўсё й выклікала той дзівацкі ланцуг непаразуменьняў, пры канцы якога Габруся вітала з абдымкамі трагічная сьмерць: ён як мастак у душы сам ішоў ёй насустрач, хай сабе й досыць хісткім ды няўпэўненым крокам. Менавіта такім крокам ён ішоў тады з працы, дзе засядзеўся да позьняй ночы, угаворваючы недапітыя калегамі пляшкі (не каб лепей дадому прынесьці!), бо была якраз пятніца — але не пасьпеў адысьціся й пары мэтраў ад Радыё, як згадаў, што зноў забыўся схадзіць адліць на дарожку. Дабегчы да найбліжэйшага бару сілаў у яго ўжо не было, а вось да найбліжэйшых кустоў — было.

Ну добра, хай сабе ён ніколі ня памятаў датаў, назваў ніводнай з шасьці прачытаных кніг, гарадоў і вуліцаў, блытаў імёны сваіх дзяцей і бацькоў — гэта ўсё я разумею, але як ён мог забыцца, што як само Радыё, так і кусты вакол яго яшчэ з часоў замаху на блізьнятаў ахоўваюцца паліцыяй з аўтаматамі! Як на бяду, у тую ноч чарга дзяжурыць каля аб'екту надышла й таму самаму паліцыянту, што калісьці затрымліваў Габруся за крадзеж. Далей цытую з пастановы суду: *„Пабачыўшы ў кустах ахвяру, я загадаў ёй выйсьці і ўзьняць рукі над галавой. Ахвяра падпарадкавацца адмовілася, а замест гэтага пачала выкрыкваць нешта ў невядомай мне мове, верагодна — нейкія пагрозы. Калі ахвяра ўрэшце павярнулася да мяне тварам, я адразу пазнаў у ёй фатаробат ведамага мне па ранейшай службе злодзея-рэцыдывіста.*

[46] У Радзе БНР гэтай інфармацыі не пацьвердзілі.

*Сумневаў быць не магло, бо ахвяра выглядала абсалютна гэтак жа, як тады, калі я затрымліваў яе ў першы раз. У руках ахвяры была зброя, на першы погляд — вадамёт з кіслатой. Я паступіў згодна зь інструкцыяй. Заключэньне: звольніць паручніка такога й такога з паліцэйскай службы й адправіць яго ў прыватны сэктар працаваць вышыбалам у бардэлі, сваякам ахвяры выплаціць грашовую кампэнсацыю праскай паліцыі за маральныя страты“.* Такім быў неспадзяваны канец нястомнага змагара за Бацькаўшчыну й майго сябра Габруся Калоды: гэтае настолькі любае яму гультайскае, а насамрэч цынічнае жыцьцё цішком перадаручыла дапісаць гэты разьдзел не камунебудзь, а ягонай сьмерці.

Пахавалі Габруся на тых самых могілках і каля тых самых прэзыдэнтаў БНР, імёны якіх ён з такою любоўю падмалёўваў. На магільным камяні, з гэтай нагоды задарма прыкочаным зь Беларусі адным Габрусёвым калегам-мастаком, выбілі эпітафію майго аўтарства:

*„Тут спачывае*
*шчыры беларус і мастак*
*ГАБРУСЬ КАЛОДА,*
*Чалавек зь вялікім „Ч“.*
*Каханьне ёсьць! Жыве Беларусь!“*

На само пахаваньне, арганізаванае коштам Радыё, мяне, аднак, былыя калегі не запрасілі, а замест гэтага папрасілі мяне з нашае з Габрусём хаты. Пасьля я нейкі час, ужо з афіцыйным чэскім дазволам на жыхарства, жыў на могілках, дзе на грамадзкіх пачатках даглядаў найноўшы й апошні зямны прыстанак Габруся. Цэлымі днямі я сядзеў на ягонай магіле з пакетам чырвонага віна, разглядаў сваю надзвычай удалую эпітафію й размаўляў з Габрусём, амаль як тады зь ім жа, толькі цяпер у думках: *„Эх, Габрусь-Габрусь! Шчасьлівы ты чалавек: усе твае мары спраўдзіліся. І мастаком ты стаў, і на Бацькаўшчыну папрацаваў, і кніжку выдаў, і пахаваны побач з прэзыдэнтамі... І цыцачак з жопкамі ў цябе было — дай бог кожнаму! Адно што аўтабіяграфію напісаць так і не пасьпеў... Не бядуй, усё адно на месцы Радыё, дзе мы з табой працавалі, аднойчы будзе музэй*[47]*. Але якая ж*

[47] Як ні парадаксальна, Андрусь тут прадугадаў будучыню: колькі гадоў таму радыё „Свабода“ сапраўды пераехала з Вацлаўскай плошчы на іншае месца, а яго былы будынак быў перададзены Нацыянальнаму музэю Чэхіі.

*усё-ткі іранічная штука лёс! Тым, чым ён цябе ўзнагародзіў — тым, можна сказаць, і забіў! Прычым не тады, калі твае кавалкі маглі ў любы момант апынуцца ў праскім лесе, як было з тым беларусам-гастарбайтэрам, і не на сквоце ці ў падваротні — а бадай на самым бясьпечным месьце сьвету і ў самым росквіце сіл! Ну хіба гэта справядліва? Што ні кажы, няроўна доля дзеле… Вось іншаму б такі вагар, як у цябе — ён бы сьвет перавярнуў! Але ж і ты ў жыцьці нямала ім наварочаў: прынамсі, маё ўяўленьне пра нас, беларусаў, дык перавярнуў дакладна. Сьпі сабе спакойна, дарагі дружа! Спадзяюся, я цябе нічым не пакрыўдзіў, а калі пакрыўдзіў — то выбачай. І ня бойся, пра Дашу я даўно ўжо забыўся, гэтак жа як і пра твае сьмярдзючыя шкарпэткі“.*

Мушу прызнацца, што пры ўсіх сваіх недахопах Габрусь быў мне ўсё-ткі як брат. Колькі ўсяго мы зь ім разам пражылі, колькі ўсяго падзялялі — нават доўгі час адной на дваіх зубачысткай карысталіся, хай і з розных канцоў… Ат, што казаць. Пасьля Габрусёвай сьмерці мне й самому жыць на сьвеце стала нудна й нецікава. Наўрад ці такое нуднае й нецікавае жыцьцё вартае вашае ўвагі, таму апавядаць пра яго я ня бачу ніякага сэнсу. Як той казаў, мастацтва пасьля Асьвенціму немагчымае. З гэтым і разьвітваюся, заўсёды ваш — Андрусь Макатоўша, упырхлік.

## Сукамэрнік па духу

(пасьляслоўе)

З Андрусём Макатоўшам (чыё імя аўтар гэтых радкоў без дазволу самога носьбіта даў аднаму з герояў свайго апавяданьня „17 імгненьняў музы“) я пазнаёміўся ў сярэдзіне бурлівых 90-х гадоў у менскіх анархісцкіх колах. Мы не былі надта блізкія, пра што цяпер можна толькі шкадаваць — аднак мне назаўжды запомніліся ягоныя ўдумлівыя мэлянхалічныя вочы, што выдавалі такі натуральны ў яго недавер да іншых і няўмольнае прадчуваньне ўласнага выгнаньніцкага лёсу. Цягам адной зь дзьвюх ягоных пяцідзённых акрэсьцінскіх адсідак я меў гонар быць ягоным суседам па камэры. Ужо тады Андрусь з раніцы да вечара разважаў уголас пра тое, якім шляхам будзе найлепей пакінуць турму, пад якой ён меў на ўвазе нават не Акрэсьціна, а ўсю краіну. Менавіта гэты намер і стаў галоўнай прычынай, зь якой ён зацікавіўся ня толькі анархізмам, але й беларускімі народнымі танцамі. Неўзабаве пасьля вяртаньня ягонага ансамблю з замежных гастроляў у Менск мы

даведаліся, што Андрусь зьнік — верагодна, застаўся ў Чэхіі. З таго часу нашая анархісцкая групоўка „Чырвоны Жонд“, у тым ліку й на просьбу Андрусёвых сваякоў, некалькі разоў спрабавала выйсьці зь ім на сувязь праз чэскіх таварышаў — безвынікова. Урэшце, было пастаноўлена адправіць на пошукі Андруся мяне. Тыя з самага пачатку былі блытанымі й няпростымі: амаль ніхто зь ягоных тутэйшых знаёмых, перадусім зь беларускага асяродзьдзя, нічога ня ведаў пра сучаснае месца знаходжаньня Андруся. Толькі адзін з супрацоўнікаў радыё „Свабода“, які прасіў не называць ягонага імя, здолеў прыгадаць, што недзе перад самым Андрусёвым зьнікненьнем атрымаў ад яго зь цяпер ужо ня існага адрасу электроннай пошты файл з малазразумелай назвай „Упырхлікі“, якога з таго часу так і не адкрыў, прыняўшы за спам...

Гэтак я ўпершыню пазнаёміўся з творам, які вы акурат дачыталі. Тэкст з самага пачатку мяне агаломшыў: такі ж адкрыты, як сам Андрусь, шчыры й чысты, як сьляза, ён цалкам адпавядаў ці ня ўсім патрабаваньням майго ўласнага густу. Прызнаюся, у нашай сучаснай літаратуры мне даўно бракавала такога твору, урэшце пазбаўленага ўсякіх модных постмадэрновых наваротаў, хай сабе й напісанага крыху несучаснай і нелітаратурнай мовай. А мы ў Менску й не здагадваліся, што ў Андрусю драмаў такі талент! Прычым ня толькі й ня столькі пісьменьніцкі, колькі, так бы мовіць, жыцьцёвы: талент трапляць ува ўсякія мітрэнгі й што// Thinking aside: continue
разу выходзіць зь іх зь незаплямленым тварам ды высока ўзьнятым — не, ня носам, як іранічна напісаў бы сам Андрусь, а чорным анархісцкім сьцягам веры ў сябе й чалавецтва. З другога боку, няма сумневу, што каб не Андрусёва эміграцыя, то гэты талент, хутчэй за ўсё, ня выявіўся б, як не зьявілася б і самога твору. Ня толькі таму, што ўсе апісаныя падзеі трэба было яшчэ перажыць, але й праз тое, што як пісьменьнік Андрусь здолеў сфармавацца толькі за мяжой, дзе займеў на гэта дастаткова вольнага часу. Відавочна, што ў бібліятэцы ягонага лягеру ўцекачоў была добрая падборка ўсясьветнай клясыкі: Рабле, Сэрвантэс, Грымэльсгаўзэн, Вальтэр, Казанова, Стэрн, Мойхер-Сфорым, Пруст, ня кажучы ўжо пра так званы пікарэскны (ці прайдзісьвецкі) раман — усё гэта не магло не паўплываць на ягоную аповесьць, якая ў беларускай літаратуры годна працягвае сатырычныя традыцыі Андрэя Мрыя й Лявона Савёнка ў спалучэньні з спавядальнай традыцыяй Ларысы Геніюш.

Нягледзячы на асобныя хібы й недагляды (перадусім прагрэшкі супраць паліткарэктнасьці, такія як расізм, мізантропія, мізагінія й інш.), твор адразу падаўся мне адназначна вартым публікацыі. Але ж,

як часта бывае, між задумай і яе рэалізацыяй незаўважна мінаюць гады. На працягу ўсяго гэтага часу я шмат займаўся ўласнымі творчымі праектамі, і да канчатковай рэдактуры „Ўпырхлікаў“ рукі ў мяне, як кажуць, ніяк не даходзілі. Больш таго: я да апошняга моманту спадзяваўся, што сам аўтар усё-ткі рана ці позна недзе абʼявіцца — ці то ў Празе, ці то ў інтэрнэце — каб аўтарызаваць мае дробныя праўкі (у гэтым я не асабліва шчыраваў, каб захаваць непаўторны стыль арыгіналу) або самому ўнесьці ў тэкст пэўныя разʼясьненьні й карэктывы. На жаль, мая надзея ня спраўдзілася. З другога боку, наўрад ці мне ўдалося б пераканаць яго пагадзіцца на зьмены ў тэксьце (скажам, адмовіцца ад прымітыўна-празрыстых эпіграфаў да разьдзелаў і г. д.). Андрусю папросту ня свома адмяняць аднойчы прынятыя рашэньні: абраўшы пэўны шлях, ён цьвёрда стаіць на ім да канца. З той жа прычыны, пастанавіўшы раз і назаўжды зьнікнуць з публічнага жыцьця, ён у яго ўжо не вярнуўся.

Гэта я ўсё да таго, што аўтар гэтага твору, як я яго памятаю, — рэальны, жывы (спадзяваймася, і да сёньня) чалавек, з усімі ягонымі заганамі й вартасьцямі. А вось існаваньне другога героя твору й меркаванага аўтара прадмовы, Габруся Калоды, выклікае ў мяне нашмат большыя сумневы. Перадусім, чалавека з такім імем ніхто ў чэскай беларускай дыяспары ня ведаў, а на пададзеным Андрусём месцы пахаваньня Г. Калоды няма ні адпаведнай магілы, ні эпітафіі. Я не кажу ўжо пра тое, што на гістарычных Альшанскіх могілках даўным-даўно нікога не хаваюць. Зрэшты, навошта далёка хадзіць: усе слухачы таго ж радыё „Свабода“ (а яно цяпер месьціцца зусім не далёка ад згаданых могілак) і чытачы радыйнага сайту ня горш за яго апытаных мною супрацоўнікаў ведаюць, што ніякага блогера Габруся Калоды там ніколі не працавала, прынамсі ў эфіры ніхто ягонага імя, пагатоў голасу, дакладна ня чуў. Ані „Малой кулінарнай энцыкляпэдыі“ ў сэрыі „Бібліятэка Свабоды“ дасюль таксама ня выйшла, выйшла толькі „Малая мэдычная“ й „Альбом сямейны“. Да ўсяго гэтага ахова Радыё, між іншым, катэгарычна абвяргае, што калі-небудзь у яе гісторыі была выкарыстаная агнястрэльная зброя, ды яшчэ й з такім летальным вынікам…

На жаль, ані сам вобраз Габруся Калоды ў аповесьці не пераконвае мяне ў ягонай сапраўднасьці: надта ж фантастычнымі характарыстыкамі надзяліў яго аўтар, прычым нават ня столькі цялеснымі, колькі перадусім душэўнымі. Сумняюся, што такія, мякка кажучы, някемлівыя людзі існуюць ня толькі сярод беларусаў, але й наагул у сьвеце. Таму, ведаючы Андруся, я дапускаю, што зьяўленьне ў аповесьці ягона-

га альтэр-эго (зьвярнеце ўвагу на падабенства імёнаў Андрусь і Габрусь) магло быць вынікам гэткага раздваеньня асобы, што само па сабе ў творчых людзей бывае нярэдка; у крайнім выпадку — праявай самай звычайнай патрэбы аўтара мець у чымсьці блізкага й падобнага да сябе суразмоўцу, што зразумела: калі такіх людзей, як Андрусь, наагул мала, то ў эміграцыі іх яшчэ меней. Урэшце, нездарма ж сам аўтар згадвае ў сувязі з Габрусём пра Швэйка, быццам хочучы падкрэсьліць цалкам штучны характар свайго пэрсанажа.

Аднак ані гэтае, ані іншыя адступленьні ў бок чыстай прыдумкі, імхо, ніяк не зьніжаюць дакумэнтальнай вартасьці Андрусёвай кнігі. Неўзабаве пасьля прачытаньня „Ўпырхлікаў“ я сам займеў шанец пераканацца, што бальшыня з напісанага Андрусём — чыстая праўда. Але няма сэнсу ўдавацца тут у падрабязнасьці: апавядаць пра свой уцякацкі досьвед пасьля манумэнтальнай Андрусёвай працы азначала б толькі дарэмна паўтарацца й марна імкнуцца нападобіць ненападабняльнае. Мне застаецца толькі выказаць надзею, што пасьля выданьня кнігі сам аўтар урэшце выйдзе з падпольля, у якім бы кутку сьвету яно ні знаходзілася (ужо дзеля таго, каб заявіць пра свае правы на ганарар), а заадно й парадуе нас сваімі новымі, больш сталымі й ня менш арыгінальнымі творамі.

*Макс Шчур*

P. S. Вось жа й сапраўды, як напісаў Андрусь, іранічная ўсё-ткі штука лёс! Неўзабаве па давяршэньні гэтага пасьляслоўя я сустрэўся — з кім бы вы думалі? Не, не з чароўным трусікам, а з самім… Габрусём Калодам! Ён цалкам жывы-здаровы й перадае беларускім чытачам (а ў першую чаргу чытачкам) праз мяне прывітаньне, у тым ліку самому Андрусю. Той, паводле зьвестак спадара Калоды, некалькі гадоў таму, акурат перад маім прыездам, нікуды ня зьнік, а пасьля бязмэтных бадзяньняў па Празе проста пастанавіў вярнуцца на радзіму, у родную вёску. Што ж, гэтая вэрсія гучыць праўдападобна: сярод іншага, тлумачыць, чаму апавядальнік на пачатку „Ўпырхлікаў“ ня хоча згадваць назвы сваёй роднай вёскі, бо акурат там, а ня ў праскай радыйнай кватэры, працуе над сваім творам — навошта, каб яму лішні раз заміналі? Дый што, апроч адсутнасьці інтэрнэту, магло перашкодзіць яму адаслаць у Прагу сваю аповесьць ужо зь Беларусі? Калі той жа Віктар Вальтар, адзін з найбольш выбітных папярэднікаў Андруся, пісаў свой праскі раман ужо на радзіме — то й для Макатоўшы гэта не магло быць

такім ужо немагчымым. Шкада толькі, што я на момант свайго ад’езду пра гэта ня ведаў — а то ні ў якую б Чэхію не пацягнуўся.

Пры знаёмстве мы са спадаром Калодам абмяняліся кніжкамі: я падараваў яму свайго па-чэску напісанага „Культуртрэгера“ — ужо сама задоўгая назва спадару Калоду не спадабалася, пра мову ня кажучы; ён мне ў сваю чаргу — „Малую кулінарную энцыкляпэдыю“, толькі, вядома ж, не надрукаваную ў „Бібліятэцы Свабоды“, а перапісаную ім ад рукі з Андрусёвага арыгіналу. Наагул, усякае дачыненьне да радыё „Свабода“ спадар Калода адмаўляе гэтак жа, як і само радыё (а таксама інтэрнэт, мабільныя тэлефоны й тэлебачаньне). У сваім рэальным жыцьці ён надалей займаецца толькі мастацтвам і дасягнуў у ім, паводле ягоных словаў, нечуваных вышыняў. Якое гэта мастацтва, спадар Калода мне не паведаміў. Такім чынам, канстатую, што тры апошнія разьдзелы аповесьці ёсьць цалкам высcанымі аўтарам з пальца[48]. На жаль, іхнае выдаленьне з тэксту цалкам парушыла б канцэпцыю кнігі, таму я іх там быў вымушаны пакінуць.

Наконт сваёй фіктыўнай сьмерці спадар Калода выказаў меркаваньне, што Андрусь забіў яго ня зь нейкіх там камэрцыйных матываў, каб пасьля „ўваскрасіць“, як Конан-Дойл свайго Шэрлака Голмса (мой суразмоўца трываў на тым, каб я напісаў, што пра гэтае забойства яму нічога ня ведама), а праз тое, што перад самым Андрусёвым ад’ездам яны зноў пасварыліся. Прычыну сваркі наш Голмс пажадаў сьціпла пакінуць пры сабе, таму мы можам пра яе толькі здагадвацца. Думаю, гэтай прычынай магло паслужыць і тое, што Андрусь, нягледзячы ні на сяброўства, ні на бліскучую прадмову (аўтарства якой Г. К. з гонарам пацьвердзіў) вывеў спадара Калоду ў аповесьці „поўным ідыётам“ (выраз, ужыты самім Г. К.), паленаваўшыся нават зьмяніць ягонае імя. Што ж, вымушаны ўзяць свае словы назад і пацьвердзіць, што вобраз спадара Калоды ў аповесьці цалкам адпавядае рэчаіснасьці: да знаёмства зь ім я ніколі ў жыцьці не сустракаў чалавека, настолькі арганічна няздольнага да абстрактнага мысьленьня. Бадай, з усіх праскіх беларусаў адзін Андрусь валодаў уменьнем сяк-так зь ім паразумецца, астатнія ж апытаныя мною людзі спадара Калоду, што называецца, нават ведаць не хацелі — таму й сьцьвярджалі, быццам ня ведаюць і ня ведалі (вось такі зь мяне, як бачыце, гора-крытык). Што да астатніх характа-

[48] Яшчэ раз наўмысна кажу гэта адкрытым тэкстам на той выпадак, калі б такі паважаны й аўтарытэтны СМІ, як радыё „Свабода“, надумаў прад’явіць выдаўцу твору абвінавачаньні ў нейкім паклёпніцтве й г. д.

рыстыкаў спадара Калоды, то пасьля „расхадухі“ й разьліку за выпіўку я на ўсякі выпадак нагадаў яму, што ён і на гэты раз забыўся схадзіць у прыбіральню, але сам зь ім не пайшоў — пасаромеўся. То бок папросту не хацеў, каб нас зь ім яшчэ недзе бачылі разам, а ня тое, што вы падумалі.

Жнівень 2014

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# КАЗАЧНАЕ

*„Ach“, sagte die Maus, „die Welt wird enger mit jedem Tag. Zuerst war sie so breit, daß ich Angst hatte, ich lief weiter und war glücklich, daß ich endlich rechts und links in der Ferne Mauern sah, aber diese langen Mauern eilen so schnell aufeinander zu, daß ich schon im letzten Zimmer bin, und dort im Winkel steht die Falle, in die ich laufe.“ — „Du mußt nur die Laufrichtung ändern“, sagte die Katze und fraß sie.*
Franz Kafka. Kleine Fabel[1]

За аднаўленьнем праўдзівай, несфальшаванай гісторыі Беларусі, за напісаньнем уласных непадцэнзурных твораў і публікацыяй забароненых на бацькаўшчыне эмігрантам было не да казак. Ці ўсё-ж было?

Ужо ў паваеннай Нямеччыне ў лягерах *DP* былі арганізаваныя першыя школкі, і патрабаваліся падручнікі з навучальным матэрыялам. Для вучняў старэйшага веку ўжываліся зборнікі Купалы й Коласа, Багдановіча й Багушэвіча, Смоліча й Ігнатоўскага, што былі вывезеныя ўцекачамі, хоць і не зьяўляліся быццам тымі рэчамі першай неабходнасьці, пра якую мусяць думаць у падобных жыцьцёвых варунках.

З навучэнцамі малодшага веку, напэўна, мелася быць прасьцей, бо які настаўнік ня ведаў зь дзяцінства, не памятаў казак! Толькі тут перад укладальнікамі чытанак, лемантароў паўстала адна праблема — праблема адбору: якія казкі з багатага айчыннага фальклёру найлепей падыходзяць да ўзгадаваньня ў спэцыфічных выгнаньніцкіх умовах.

[1] *„„Ах“, сказала мышанё, „сьвет штодзённа сьціскаецца. Напачатку ён быў настолькі вялізны, што мне было вусьцішна, і я бегла й цешылася, што, нарэшце, бачу муры й зьлева, і справа, і дзесьці наперадзе, але гэтыя муры так хутка імкнуліся адзін да аднаго, што нарэшце я апынулася ў апошнім пакоі, а ў куце пастка, і я туды бягу“. „Дык бяжы ў іншы бок“, сказала котка й зжэрла яе“* (Франц Кафка. Кароткая казка).

Так, у 1946 г. у Рэгенсбургу Аўген Калубовіч выдаў першы сшытак „Выпісаў з крывіцкае літаратуры. Падручнік для сярэдніх школаў“, куды ўлучыў песьні, казкі й прыказкі. Адна з казак называлася „Музыка й чэрці“.

*„Быў адзін Музыка. З маленства ён нічога не рабіў, толькі йграў. Яшчэ будучы хлапчуком, пасе, бывала, валоў або коней, зробіць з лазы дудачку ды й як зайграе, дык валы пакінуць пасьвіцца, разьвесяць вушы ды й слухаюць. А ў лесе птушкі прыціхнуць, нават жабы нё крумкаюць. А як павядзе коней на начлег — лета, ночы цёплыя, аж парыць — папрыводзяць да дубровы коней хлапцы, дзяўчаты з усяго сяла, сваволяць, сьмяюцца, пяюць песьні — ведама, маладосьць, заўжды весела, — а Музыка як зайграе на сваёй дудачцы, дык адразу ўсе прыціхнуць.*

*Вось ім здаецца, што якаясь соладзь улілася ў іхнае сэрца, а якаясь сіла ўхапіла іх на плечы й нясе ўсе ўгору і ўгору, да ясных зораў, у чыстае неба — у чыстае, сіняе, шырокае неба.*

*Сядзяць яны, нічога ня думаюць, забыліся, што рукі й ногі млеюць ад цяжкае працы, што ў жываце бурчыць ад голаду. Сядзяць і ўсё слухаюць. І хацелася-б ім сядзець гэтак усё жыцьцё і ўсё слухаць, як іграе Музыка.*

*Вось ён замаўчыць, але ніхто ня сьмее паварухнуцца, каб не спалохаць таго голасу, што пошчакам разсыпаўся па дуброве, па лесе, падымаецца ў самае неба.*

*Але вось зайграе Музыка жаласьліва — і заплачуць і лес, і дуброва, набяжыць хмарка, і зь неба сьлёзкі так і пальлюцца. Ідуць позна да гасподы мужыкі й бабы, учуюць тую музыку, стануць, слухаюць, плачуць. Вось так усё іх горкае жыцьцё перад вачыма й стаіць, і такі іх апануе жаль, што і мужыкі — старыя, барадатыя мужыкі — плачуць, як бабы над нябожчыкам або як праводзяць сынкоў у маскалі.*

*Але вось па немалым часе Музыка ад жаласьлівага ды на вясёлае зьверне. Пакідаюць мужыкі й бабы косы, граблі, вілы, гаршчкі й біклагі й давай скакаць. Скачуць малыя дзеці, скачуць коні, скачуць кусты й лес, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — усё скача й сьмяецца.*

*Вось такі-то быў Музыка чараўнік — што захоча, то ён з сэрцам зробіць!*

*Падрос Музыка, зрабіў сабе скрыпачку і пайшоў у сьвет. Куды прыдзе — паграе, а за тое яго накормяць, напояць, як самага лепшага госьця, і яшчэ дадуць на дарогу. Доўга хадзіў так па сьвеце, весяліў добрых людзей, а ліхім без нажа рэзаў па сэрцы.*

*Бачаць чэрці, што куды Музыка ні прыдзе, там менш людзі грашаць, і давай вастрыць на яго зубы.*

*Ідзе раз Музыка празь лес, а чэрці й наслалі на яго дванаццаць галодных ваўкоў. Заступілі яны Музыцы ў лесе дарогу, стаяць ды зубамі ляскаюць, а вочы гараць, як гарачае вугольле. Няма ў Музыкі нічога ў руках, толькі пад пазухай у мяшэчку скрыпка.*

*— Што тут рабіць? — думае Музыка? — Што тут пачаць?*

*Прыйшоў яму канец!*

*Дастаў ён зь мяшэчка скрыпку й смык, каб хаця яшчэ раз напасьледак пайграць, прысланіўся да дзерава дый пацягнуў смыкам па струнах. Як жывая, загаварыла скрыпка, раздаўся пошчак па лесе. Прытаіўся лес і лістком не варухне, а ваўкі як стаялі, разявіўшы горла, так і акамянелі: стаяць ды слухаюць, а сьлёзы так і цякуць з воўчых вачэй.*

*Перастаў Музыка йграць, а ваўкі бы сонныя пасунулі ў лес.*

*Пайшоў Музыка далей. Ідзе ён ды ідзе, падыходзіць да ракі. Сонейка закацілася за лес, толькі яшчэ сьвеціць на самыя вярхі і як-бы аблівае іх пазалотаю. Ціха, як у вусе — ніводзін лісток не варухнецца. Вельмі харошы вечар.*

*Сеў Музыка на камень на крутым беразе каля ракі, дастаў сваю скрыпачку й зайграў, ды так гожа, што яго заслухаліся і неба, і зямля, і вада, і давай усе скакаць. Зоркі мітусяцца, як зімою сьнег, хмаркі плаваюць па небе, як ластаўкі перад дажджом, а рыба так узгулялася, што рака кіпіць, як вада ў гаршчку.*

*Але вось падняўся ў рацэ Вадзяны Цар ды як пачаў скакаць, дык вада так заплясала, што заліла берагі, а чэрці спалохаліся й павыскакалі з вады. Бачаць яны, што ім ад Музыкі нідзе супакою няма. Вось яны давай думаць, як-бы яго загубіць. Музыка-ж паглядзеў, што Вадзяны Цар нарабіў людзям бяды, перастаў іграць, палажыў скрыпачку ў мяшок і хацеў ісьці далей.*

*Але вось падыходзяць два панічы й просяць пайграць на ігрышчы, абяцаюць заплаціць, што захоча. Падумаў Музыка, што яму недзе начаваць дый грошай няма, паслухаў панічоў і пайшоў зь імі йграць вечарынку.*

*Прывялі панічы Музыку ў палацы. Бачыць ён, аж там паноў і паненак хоць гаць гаці. Покуль ён зьбіраўся йграць, заўважыў, што ўсе панічы падбягуць да стала, памочаць палец у місу й мажаць сабе вочы. Памазаў і ён. Ды як памазаў, дык і бачыць, што гэта не паны, а чэрці і ведзьмы, і што ён не ў палацах, а ў пекле. Вось і зайграў ён ім*

*ды так, што ўсё пекла разьляцелася ў шчэпкі, а чэрці зь піскам ды візгам разьбегліся па ўсім сьвеце.*

*Вось з тае пары чэрці й баяцца Музыкі й больш яго не чапаюць“.*

Казка займела такі посьпех, што ў наступным, 1947 г., была выдрукавана ў Госьляры асобным выданьнем з малюнкамі А. Скарахода, эмігранта з-пад Клецку, а ў 2005, ужо ў Мінэсоце, ЗША, яе „факсімільна“ (з захаваньнем ілюстрацыяў, але павялічанага фармату) перавыдаў Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок.

Вобраз (і ідэя) Музыкі для беларусаў была важнай і значнай ад першых зборнікаў паэзіі: Багушэвічавы „Дудка беларуская“ й „Смык беларускі“, ад „Скрыпкі беларускай“ Цёткі, ад „Песьняў жальбы“ Коласа ды „Жалейкі“ й „Гусьляра“ Янкі Купалы аж да *казкі жыцьця* „Сымон-музыка“, пра якую Адам Бабарэка напісаў, што гэта *„мастацкае выяўленьне вобразу песьняра-героя адраджэнскага кругабегу“*[2].

Цікава, што сярод накідаў, зацемак Антона Адамовіча ў архіве БІНіМ захоўваецца й такі запіс: *„Абрабаванаму „чортам“ музыку не заставалася нічога, як толькі з гора прапіваць атрыманае за скрыпку золата (мамэнт, які выразна наводзіў чытачу на думку шмат якіх беларускіх паэтаў-мастакоў, а найперш і найбольш — таго-ж Янкі Купалы); у арыгінальнай казцы зборніка Сержпутоўскага, ізноў-такі, гэтага мамэнту зусім няма“.* Праўда, тымчасам невядома, які менавіта тэкст і дзе апублікаваны ён меў на ўвазе; па словах дасьледніка беларускай казкі Льва Барага, казка „Музыка ў пекле й чэрці“ мае да 7 варыянтаў[3].

Паказальна таксама, што калі ў газэце „Беларус“ адзначаліся 100-я ўгодкі Сержпутоўскага, для публікацыі была абрана казка „Цыган Музыка“[4].

Бадай адначасна пачалося пісаньне аўтарскіх казак або апрацаваньне народных. Жанр літаратурнай казкі хай моцна саступае ў папулярнасьці на эміграцыі іншым жанрам, але ігнараваць яго, тым ня менш, не выпадае.

Найвялікшым казачнікам быў Язэп Гладкі. Пад сваім імём, псэўданімам (Адам Варлыга) ці крыптанімам (*J. H-ki*) ён у 1949 г. у Ватэн–

[2] Бабарэка, Адам. Збор твораў у двух тамах. Т. І. Літаратурна-крытычныя працы. Вільня, 2011. С. 367.

[3] Бараг, Леў. Беларуская казка. Мінск, 1969. С. 153.

[4] У сотыя ўгодкі Сержпутоўскага // Беларус. № 92—93. Лістапад — сьнежань 1964. С. 2—3.

штэце выдрукаваў некалькі сшыткаў пад назовам „Казкі“, якія перавыдаў пазьней: „Народныя казкі: пра ведзьмаў і нячысьцікаў“ (Нью-Ёрк, 1967), „Народныя казкі пра краіну Ярылы“ (Нью-Ёрк, 1969), „Народныя казкі пра жыцьцё-быцьцё“ (Нью-Ёрк 1972). У тым самым 1949 г. выдрукаваў і кніжачку „Рыцар Дабравід: казка паводле народнае тэматыкі“[5], што сталася, напэўна, адной зь першых літаратурных казак, створаных эмігрантамі.

У літаратурнай казцы як жанры звычайна вылучаюць наяўнасьць аўтара, адметны стыль, псыхалагізм, але пераважна абмінаюць такія ня менш істотныя складнікі, як прысутнасьць адбітку часу, калі стваралася казка, што, у сваю чаргу, уплывае на сацыяльную значнасьць і выхоўваючы падтэкст. І гэта аднолькава ўласьціва для такіх аддаленых у часе твораў, як, напрыклад, „Казка аб праўдзе“ Ніны Змагаркі[6] й „Душок. Беларуская нацыяналістычная казка. Апрацаваў і падаў да друку зь некаторымі скарачэньнямі Сяржук Сокалаў-Воюш, апублікаванай ад імя Б. Тапчагі-Вязьніцкага“[7].

У часопісе „Сакавік“ (№ 1. 1947) пад псэўданімам В. Аганёк была надрукаваная *„казка багдановічавым беларускім вершам“* „Васілёк і Незабудка“, дзе клясычныя героі й абставіны (дзед і бабуля, што ня маюць дзяцей; ведзьма, выкраданьне дзяўчыны, *etc.*) падаюцца чытачам у двух вымярэньнях: звыкла-казачным і з алюзіямі на рэальнае:

*„Плывуць сьнягі,*
*і лес, лугі,*
*і рэчкі аджываюць.*
*І Сакавік*
*Край ажывіў,*
*сьмяюцца ўсе, сьпяваюць.*
*Вясна, вясна!*
*Ідзець яна*
*Ў бялюсенькай кашулі,*
*дзе ні зірне,*
*дзе ні кіўне —*
*каханьне, песьні, гулі.*

[5] H-i, J. Rycar Dabravid: Kazka pavodle narodnaj tematyki. Watenstedt, 1949. — 25 s.

[6] Бацькаўшчына. № 45—46 (124—125). 16 лістапада 1952. С. 3.

[7] Беларус. № 398. Люты 1993. С. 7—8.

*Ведзьма Васільку пасылала*
*будзіць травіцу, каб ня спала,*
*будзіць красачкі-пралескі,*
*каб паглядзелі ў сонца блескі.*
*А Сакавік ішоў, сьмяяўся*
*ды з Васільком спаткаўся,*
*павеяў ціха — і як спалі,*
*так красачкі ўсе ўсталі.*
*„Ой, вы, кветкі, вы, кветкі,*
*шчасьлівыя вясны дзеткі!*
*Дзе ні зірну, дзе ні гляну —*
*цьвіцецё вы, а я вяну.*
*Каб я мог ружай красавацца*
*пры маёй роднай хатцы,*
*пад беларускім цьвісьці небам, —*
*нічога-б больш ня трэба!“*[8] .

І гэтая казка, як і „Музыка і чэрці“, была таксама перавыдадзеная — праз чатыры гады ў газэце „Бацькаўшчына“[9] . Напэўна, усё-ж патрабавала душа.

Затое *сучасная казка* — так пазначыў на тытульнай старонцы аўтар — „Князь і Лапаць“ Вінцука Адважнага (а. Я. Германовіча)[10] — гэта хутчэй у разуменьні Франца Кафкі: казка-жудасьцік для дарослых.

Пачаткам твор Германовіча — бы працяг Коласавага „Сымона-музыкі“. Так, у *казцы жыцьця*:

*„О, край родны, край прыгожы!*
*Мілы кут маіх дзядоў!*
*Што мілей у сьвеце божым*
*Гэтых сьветлых берагоў,*
*Дзе бруяцца срэбрам рэчкі*
*Дзе бары-лясы гудуць,*
*Дзе мядамі пахнуць грэчкі,*
*Нівы гутаркі вядуць;*
*Гэтых гмахаў безгранічных*

[8] Сакавік. Літаратурна-грамадзкі часапіс. № 1. 1947. С. 8—9.

[9] Бацькаўшчына. № 78—79. 25 сьнежня 1951. С. 6.

[10] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць. Сучасная казка. Лёндан, 1964. — 25 с.

*Балатоў тваіх, азёр,*
*Дзе пад гоман хваль крынічных*
*Думкі думае прастор;*
*Дзе ўвосень плачуць лозы,*
*Дзе вясной лугі цвітуць,*
*Дзе шляхом старым бярозы*
*Адзначаюць гожа пуць?“*

*У сучаснай казцы:*

*„А бывае сын выродны,*
*Што забудзе матку:*
*Край чужы яму дагодны,*
*Жыць абы ў дастатку.*
*Не ў спадобу родна мова,*
*Хоць чужой ня знае,*
*Хоць калечыць іхны словы,*
*А сваю кідае!*
*Даў Бог голас ўсім народам,*
*Даў і птушаняці:*
*Мы чаму стаім пад сподам?*
*Шчасьце не ў багацьці.*
*Між суседзяў, шыта-крыта,*
*Ты быць іхным хочаш:*
*Пад чужое ўлез карыта*
*І адтуль сакочаш.*
*Як саромна! Чырванеем*
*За тых адшчапенцаў:*
*Іх вітаць ужо ня сьмеем —*
Нашых чужаземцаў...“[11] .

На вокладцы адзінага, лёнданскага выданьня намаляваныя сапраўды князь і лапаць. Можа, так невядомы мастак алегарычна падаў вобразы галоўных герояў, а мо прачытаў толькі назоў, хто цяпер скажа. Толькі казка апавядае пра жыцьцёвыя нягоды Сымона Дука *(„Мы, Дукі — старога роду, / Мы — князёўскага заводу, / У мяне у скрыні ў хаце / Ёсьць паперы і пячаці“)*[12] і Анюты Лапаць.

[11] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць... С. 4.

[12] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць... С. 12.

Сем'і ледзь не на гвалт выпіхваюць іх у Амэрыку. Сымонаў

*„Бацька вельмі быў круты,*
*Кажа: — Сынку, дурань ты!*
*Свой крывавы грош дастаў*
*І ў Амэрыку пагнаў“*[13].

Ну, а Янка Лапаць, хоць *„гаспадар з усіх тутэйшых — працавіты, наймацнейшы“*[14] , але ж — дзевяць дачок!

*„Прадаў бацька сёе-тое:*
*Для сьвятога супакою*
*Ён, каб збыць такое гора,*
*Аньцю выкінуў за мора.*
*Кажа: — Едзь, няхай ты ськівні!*
*Каб усе вы з хаты выйшлі,*
*Меў бы радасьць я такую,*
*Што пяяў бы „Альлелюя!“*“[15].

Так што незнаёмыя адзін аднаму маладыя беларусы сталіся часткаю даваеннай эканамічнай эміграцыі.

Аўтару мо й прасьцей было скіраваць іх у знаёмы яму Лёндан, толькі караблі тады з працоўнаю сілаю плылі менавіта ў Амэрыку; хоць і казка, але межы трэба ведаць:

*„Дук здаўна быў эмігрантам:*
*Маладым калісьці франтам —*
*Беларускі гладкі блін —*
*Укаціўся у Бруклін.*
*А Бруклін — такая вёска:*
*Ад Нью Ёрку толькі трошка*
*Адхіліўся за вадою.*
*Толькі-ж вяжуцца з сабою*
*І тунэлямі, мастамі,*
*І сталёвымі дратамі,*

[13] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 11.
[14] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 21.
[15] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 22.

*Каб у мора не адплысьці —*
*Ня згубіць усей карысьці,*
*Што плыве да іх са сьвету*
*У Бруклін дый у Мангэтан.*
*Як марскія браты два —*
*Нью Ёрк толькі — галава“*[16].

Верагодна, у гэтай казцы — адныя з самых цікавых апісаньняў Амэрыкі ў беларускай эміграцыйнай літаратуры, бачаньня й разуменьня яе, хай і зробленыя ня ў жанры псыхалягічнай прозы: аўтар быў чалавекам ня толькі з гумарам, але й назіральным. Як жыхар Брукліну, магу сьцьвердзіць: шмат што па-сёньня застаецца праўдаю:

*„У Амэрыцы, у тлуме*
*Чалавек загіне ў глуме.*
*А ў Брукліне, ўправа-лева,*
*Кажна дзеўка — каралева.*
*Непатрэбны навет сват:*
*Тут „краянкі“ — нарасхват!“*[17]

Сымон і Анюта сустрэліся, пабраліся шлюбам. Жыцьцё ня было лёгкім: ня проста з працаю, а чалавек яшчэ любіў выпіць. Дый часы ў Амэрыцы надышлі складаныя эканамічна. І на ўсё гэта звальваецца на галаву сямейцы агітатар Капшук — з сваёю казкаю: *„Цёмны Захад, ясны Ўсход — маляды у нас народ“*[18]. Даўшы веры, яны вырашаюць рээміграваць. Пачынаецца кафкіянскі працэс вяртаньня.

254 старонкі — забагата нават для выбарнага цытаваньня. Знаёмства герояў з самай сучаснай казкаю, зрэшты, лёгка ўявіць па назовах разьдзелаў: „Сьледзтва“, „На Ўсходзе“, „Чырвоная Камісія і Народны Суд“, „Стукач“, „Першае сьледзтва“ „Чырвоны Рай“, „Калгас“, „Сібір“.

Зламаныя чалавечыя лёсы, зламаная сям’я. Гісторыя, якую расказвае выпушчанаму з-за кратаў Сымону Анюта — толькі ня Дучыха, а Шаціха — пра тое, як ад яе патрабавалі падпісаць паперку ў прызнаньні яго шпіёнам, пра новага мужа, пра іхных дзетак — сышло быццам з старонак успамінаў самога Германовіча „Кітай — Сібір — Масква“ ці

[16] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 13.
[17] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 23.
[18] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 63.

„Споведзі“ Ларысы Геніюш. Ці мо гэта адна з тых гісторый, што расказвалі сукамернікі, і ў якой варыянтаў непараўнальна болей, як у „Музыку й чэрцях“?

Але ж аўтар — сьветлы чалавек, і казку сваю, хай і сучасную, пражытую ім самім, заканчвае сьветла:

*„Сонца яснае нам гляне —*
*Беларусь, дасьць Бог, паўстане:*
*Будзе вольная, багата —*
*Божа, дай такое сьвята!*
*Ажыве народ, устане,*
*Ясна сонейка прагляне:*
*Хай заьсвеціць, хай прыгрэе,*
*Хай душа павесялее!*
*Вострабрамская, прыгожа,*
*Заступіся, Маці Божа!*
*Ногі млеюць, дух ляціць —*
*Наш Сымон Дук хоча жыць“*[19] .

Лепей пра сэнс літаратурнай казкі на эміграцыі й ня скажаш.

[19] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 254.

***Ціхан Чарнякевіч***
*Менск*

# З ДАВАЕННАГА АРХІВУ АНТОНА АДАМОВІЧА

Хто знаёмы зь беларускімі архівамі, дзе знаходзяцца рукапісы літаратараў, дзеячаў культуры й навукі міжваеннай Беларусі, добра ведае надзвычайную іх беднасьць. За рэдкімі выняткамі, у выніку дзесяцігодзьдзяў рэпрэсіяў, Другой сусьветнай вайны большая частка асабістых дакумэнтаў, арыгінальных твораў і іх чарнавых рэдакцыяў, фотаздымкаў даваеннага часу гублялася, а то й зьнішчалася органамі НКУС. Праз гэта вывучэньне літаратурнага побыту, высьвятленьне гісторычна-літаратурных загадак, расшыфроўка псэўданімаў вядзецца амаль цалкам на аснове апублікаваных матэрыялаў. Яшчэ горшая сытуацыя складаецца з вывучэньнем біяграфіяў пэўных дзеячаў культуры й мастацтва: як правіла, мэмуараў яны не пакідалі, а рэдкія, пераважна да круглай юбілейнай даты пісаныя аўтарскія тэксты паваеннага часу, прысьвечаныя тым ці іншым пісьменьнікам, месьцяць у сабе больш маўчаньня, чым уласна маўленьня: праз самацэнзуру ў тэксты часта не траплялі многія імёны, выпадкі, не адлюстроўвалася рэальнае становішча саміх пісьменьнікаў 1920-х — 1930-х гг., не ўзнаўляліся іх думкі наконт той сітуацыі, у якой ім давялося працаваць.

У той жа час рэдкія мэмуарысты стварылі некалькі трывалых мітаў, якія цяпер рэтрансьлююцца ў тэматычных публікацыях. Скажам, існуе распаўсюджанае меркаваньне пра Беларускі пэдтэхнікум імя Ус. Ігнатоўскага, які стаўся нібы беларускім аналягам Царскасельскага ліцэю часоў Аляксандра Пушкіна. Ведаючы частку імёнаў выкладчыкаў БПТ, якія паўтараюцца ў кожнага, хто закране гэтую тэму, дасьледнік ***зьместу адукацыі*** Белпэдтэхнікуму сутыкнецца зь вялікімі цяжкасьцямі, бо не захавалася друкаваных праграмаў, не былі выкладчыкамі БПТ выпушчаны й курсы лекцыяў, праз што мы можам толькі здагадвацца, чаму насамрэч вучылі тэхнікумаўцаў.

Тое самае, хіба зь невялікімі агаворкамі, можна сказаць і пра адукацыю, даваную ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, да якой не-

каторыя мэмуарысты (Яўхім Кіпель, Мікола Ўлашчык) ставіліся досыць скептычна.

Разьвязаць некаторыя з гэтых пытаньняў дапамагаюць даваенныя матэрыялы з архіву Антона Адамовіча, якія захаваліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Магчыма, гэтыя рукапісы заставаліся ў бацькоў Антона Адамовіча ў часе высылкі таго па справе Саюзу вызваленьня Беларусі ў 1931 г. Пазьней паперы трапілі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі.

Характар і структура рукапісаў даволі разнастайныя, іх можна падзяліць на некалькі частак:

а) сшыткі з канспэктамі лекцыяў пэрыяду вучобы БДУ (1930); лекцыі датаваліся самым Адамовічам;

б) службовыя матэрыялы Адамовіча як старасты групы: сьпісы прысутных / адсутных на лекцыях, сьпісы разьмеркаваных заданьняў на практычныя заняткі з пазнакай прозьвішча выканаўцы кожнага пэўнага заданьня;

в) разасобленыя запіскі, выкананыя заданьні й матэрыялы да лекцый па паэтыцы (выкладчык Яўген Барычэўскі);

г) беларускамоўныя выпіскі-пераклады з тэарэтыкаў марксізму (Маркс, Пляханаў, Мартаў).

Некаторыя матэрыялы ўяўляюць цікавасьць і для дасьледнікаў узвышэнства, бо для падрыхтоўкі да практычных заняткаў у БДУ Антон Адамовіч часам выкарыстоўваў карэктурныя адбіткі сьвежых нумароў часопісу „Узвышша“, у якім на той час (1929—1930 гг.) актыўна супрацоўнічаў.

Спэцыфічнасьць матэрыялаў не дазваляе ажыцьцяўляць іх поўную публікацыю, аднак выбарачная яна неабходная. Гаворка перш за ўсё пра канспэкты лекцыяў выкладчыкаў БДУ, якія зьяўляюцца ўнікальнымі дакумэнтамі — люстэркам гуманітарнай навукі Беларусі другой паловы 1920-х гг. На сёньняшні дзень гэта адзіныя захаваныя канспэкты таго часу. Зь іх можна даведацца пра зьмест пэўных прадметаў, а менавіта: „Фальклёр“ (2 сшыткі, 1928, выкладчык Міхайла Піятуховіч, БДУ), „Метадалогія [літаратуразнаўства]“ (1 сшытак, 1930, выкладчык Яўгенія Гальперына, БДУ), „Мастацтвазнаўства“ (2 сшыткі, 1930, выкладчык Віктар Бухаркін, БДУ), „Паэтыка“ й „Сэмінарый па Пушкіну“ (1 сшытак і разасобленыя аркушы з нататкамі, 1930, выкладчык Яўген Барычэўскі, БДУ).

Канспэкты напісаныя алоўкам у працоўных сшытках, аркушы запаўняліся з абодвух бакоў. Цікавым артэфактам ёсьць нават самыя сшыткі, выдадзеныя ў 1920-х гг. Беларускім дзяржаўным выдавецтвам

з арыгінальным афармленьнем, надпісамі на беларускай мове, а таксама дадаткамі-памяткамі зь Лёсікавага правапісу беларускай мовы, табліцай множаньня ды інш. На жаль, стан некаторых сшыткаў блізкі да крытычнага: ад перасушанасьці ці то выгараньня на сонцы аркушы ломкія й крохкія, таму расчытваньне тэксту ня раз ускладнялася, некаторыя старонкі сшыткаў маюць страты. Тым ня менш, тэксты канспэктаў падуладныя вывучэньню й былі цалкам пераведзеныя ў набор.

Найбольш каштоўнымі рукапісамі зьяўляюцца канспэкты лекцыяў двух выбітных навукоўцаў-гуманітарыяў міжваеннай БССР Міхайлы Піятуховіча й Яўгена Барычэўскага. Што праўда, лекцыі апошняга захаваліся толькі фрагмэнтарна й разам з урыўкамі ды нататкамі патрабуюць далейшага вывучэньня. Запісы Піятуховічавых лекцыяў дайшлі фактычна ў выглядзе цэласнага курсу.

Асоба **Міхайлы Піятуховіча** з навуковай літаратуры падаецца пакуль што даволі спрэчнай. У расколатым на дзьве часткі асяродзьдзі гуманітарыяў БДУ (нацыянальна арыентаваных навукоўцаў і былых выкладчыкаў імпэратарскіх школаў, пераважна расейскай арыентацыі) ён займаў пазіцыю цэнтрыста: выкладаючы дысцыпліны беларускага цыклю — фальклёр і гісторыю беларускай літаратуры — ён тым ня менш схіляўся да падтрымкі старой расейскай прафэсуры. Ня маючы такой грунтоўнай акадэмічнай падрыхтоўкі, як у іх[1], ён у першыя гады свайго выкладаньня прагна вучыўся ў старэйшага пакаленьня вучоных і працягваў займацца самаадукацыяй. Першыя праграмы Піятуховічавыкладчыка, якія захоўваюцца ў 205 фондзе Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь, сьведчаць пра даволі нізкі ўзровень яго як выкладчыка. Даручаны яму курс заходнеэўрапейскай літаратуры быў неўзабаве перададзены Аляксандру Яўлахаву, а пазьней Яўгену Барычэўскаму. Піятуховіч жа сканцэнтраваўся на ўласна беларускім матэрыяле да выкладаньня[2], унівэрсытэцкіх гадзінаў на які вылучалася шмат, аднак жа бракавала знаўцаў таго самага матэрыялу. Сьпісы назваў лекцыяў Піятуховіча-выкладчыка беларускага фальклёру й гісторыі беларускай літаратуры таксама даволі бедныя й вельмі тэзісныя. Для ілюстрацыі падамо сьпіс тэмаў дыплёмных працаў па гісторыі беларускай літара-

[1] Адвучыўшыся ў Нежынскім гісторыка-філялягічным інстытуце, Піятуховіч у 1917 г. трапіў у Петраград, каб „павысіць кваліфікацыю“, аднак рэвалюцыйны год і час грамадзянскай вайны не спрыялі навуковым заняткам, таму ён перабраўся ў Адэсу, а з адкрыцьцём у 1921 г. БДУ — у Менск.

[2] Хоць стажыроўку ў Петраградзе ён праходзіў менавіта як спэцыяліст у францускай літаратуры, а менавіта — у творчасьці Альфрэда дэ Віны.

туры, прапанаваных Міхайлам Піятуховічам у 1924 г. прадметнай камісіі па літаратуры БДУ:

*„1. Гісторыя зьбіраньня беларускіх вусных народных твораў.*

*2. Вывучэньне беларускай народнай творчасьці.*

*3. Беларускія веснавыя абразы і весьнянкі.*

*4. Сацыяльныя матывы ў беларускіх народных песьнях і казках*

*5. Беларускія замовы.*

*6. Сяляне і вёска ў новай беларускай літэратуры.*

*7. Мастацкі фольклёрызм у новай беларускай літэратуры.*

*8. Беларуская літэратура эпохі прыгоннай гаспадаркі (ідэалёгія і зьмены напрамкаў).*

*9. Романтызм ў беларускай літэратуры.*

*10. Ядвігін Ш. (Жыцьцё і літэратурная чыннасьць).*

*11. Каганец (Жыцьцё і літэр. чыннасьць).*

*12. М. Багдановіч (Жыцьцё і літэр. дзейнасьць)*

*13. Праблема мастацкай творчасьці ў паэзіі Янкі Купалы.*

*14. Нашаніўская ідэалёгія і Я. Купала.*

*15. Паэтыка сымболізма ў творчасьці Янкі Купалы.*

*16. Сяляне і вёска ў творчасьці Якуба Коласа.*

*17. „Сымон Музыка" як романтычная паэма.*

*18. Зьмітрок Бядуля (Жыцьцё і літэратурная чыннасьць).*

*19. Цішка Гартны (Жыцьцё і літэратурная дзейнасьць).*

*20. Найноўшыя шуканьні ў беларускай літэратуры"*[3].

Як бачым, тэмы далёкія ад навуковай дэталізацыі й спэцыфікацыі, гэтак характэрных для літаратурнай навукі 1920-х гг. зь яе сцыентысцкім патасам. Але гэта не перашкодзіла Піятуховічу зрабіць някепскую кар'еру, падняўшыся на некалькі прыступак у акадэмічнай іерархіі: вясной 1926 г. ён стаў дэканам найбуйнейшага й найпрэстыжнейшага факультэту БДУ — Пэдагагічнага, а 22 кастрычніка 1926 г. Пастановай №11 Народнага Камісарыяту Асьветы быў зацьверджаны прафэсарам па катэдры беларускай літаратуры БДУ[4]. На гэты ж час прыпадае яго інтэнсіўная літаратурна-крытычная дзейнасьць. Сюды ж прымыкаюць і канспэкты Антона Адамовіча 1928 г., якія паказваюць, наколькі высокі быў узровень ведаў Міхайлы Піятуховіча на той час, як дэталёва вывучыў ён галіновую літаратуру па тэорыі фальклёру, асобных яго праблемах, наколькі добра арыентаваўся ў прадмеце.

---

[3] НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 815. Арк. 16—17.

[4] НАРБ. Ф. 205. Воп. 3. Спр. 6323. Арк. 26—28.

Пра **Віктара Іванавіча Бухаркіна**, які выкладаў у Антона Адамовіча курс мастацтвазнаўства, вядома дасьледнікам зусім няшмат. Імя гэтае ня раз усплывала ў сувязі з пагромам нацыянальнай інтэлігенцыі пераломнага 1930 г., аднак пазначалася, што артыкулы Бухаркіна ў „Маладняку“ папярэднічалі гэтаму пагрому й фактычна рыхтавалі да яго глебу. Асобы, вінаватыя ў гэтым, часта раставалі ў ценю „казла адпушчэньня“ Лукаша Бэндэ, які тым ня менш меў паплечнікаў, аднадумцаў і пасьлядоўнікаў, чые біяграфіі дагэтуль ня вывучаныя. У фондзе БДУ ў НАРБ захавалася анкета Бухаркіна, паводле якой можна ўзнавіць частку жыццяпісу. Нарадзіўся Віктар Бухаркін 24 лістапада 1898 г. у вёсцы Лапухоўка Вольскага павету Саратаўскай губэрні ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў народнай школе й сельскагаспадарчай вучэльні, а ў 1917 г. скончыў настаўніцкую сэмінарыю. Дабіраў ведаў у Саратаўскім унівэрсытэце й Псыхалягічным інстытуце (аналягу факультэту псыхалёгіі) у Першым Маскоўскім дзяржаўным унівэрсытэце. Абедзьве гэтыя навучальныя ўстановы пазначаны ў анкеце „1921 год“, што, відаць, гаворыць пра няскончаную адукацыю Бухаркіна. З замежных моваў Бухаркін, паводле анкеты, валодаў нямецкай і лацінскай, а спэцыялізацыяй сваёй падаў псыхалёгію, лёгіку, філязофію, сацыялёгію, палітычную эканомію, садаводзтва й земляробства. Выкладчыцкую дзейнасьць Бухаркін пачаў у Народным унівэрсытэце Чырвонай арміі, а ў тым жа 1921 г. ужо зьяўляўся старшынём Цэнтральнай мэтадычнай камісіі пры Сьвярдлоўскім унівэрсытэце. У Беларусі, акрамя БДУ, чытаў лекцыі ў Цэнтральнай партшколе. Яшчэ ў анкеце стаіць прочырк насупраць графы *„навуковыя працы“*, а годам уступленьня ў партыю бальшавікоў пазначаны 1918[5].

Нельга прамінаць таго факту, што курс мастацтвазнаўства быў распрацаваны для студэнтаў БДУ выдатным вучоным Мікалаем Шчакаціхіным, аднак запісы лекцыяў Антонам Адамовічам у 1930 г. сьведчаць, што Шчакаціхін быў адхілены ад выкладаньня яшчэ да свайго арышту 18 ліпеня 1930 г.

Віктар Бухаркін запомніўся ў 1920-х гг. менскай акадэмічнай грамадзе крытыкай прыхільнікаў фармальнай школы паэтыкі і найперш сваім пагромам кніг прафэсара Яўгена Барычэўскага „Паэтыка літаратурных жанраў“ і „Тэорыя санету“ (абедзьве — 1927). Сваю вялікую, на 28 часопісных старонак, рэцэнзію ён напісаў яшчэ ў 1927 г., але надрукаваць яе ўдалося толькі ў 1929 г. У №5—6 „Маладняка“ Бухаркін зьмясьціў разгорнутую й вельмі актуальную ды патрэбную для

[5] НАРБ. Ф. 205. Воп. 3. Спр. 1071. Арк. 1.

БелАППаўцаў пісаніну: разгром пазыцыі ўзвышэнца Юрыя Бярозкі (хутчэй за ўсё, артыкул быў наўпрост замоўлены прававерному марксісту Бухаркіну). Другім артыкулам стаўся заляжалы матэрыял пра Барычэўскага, які, відавочна, у 1927 г. адхілілі ўсе менскія рэдакцыі: гэта ўскосна можна вывесьці з прыпіскі пад публікацыяй: *„Артыкул гэты быў напісаны аўтарам 2 гады таму назад, але не друкаваўся па прычынах зусім незалежных ад аўтара. Артыкул друкуецца бяз усякіх зьмен“*[6]. „Навуковая праца“ гэтая складаецца зь пераказу зьместу падручніка Барычэўскага ў вельмі зьдзеклівай і цынічнай інтанацыі, з абавязковымі нападкамі: *„Слабасьць аўтара ў тэорыі даводзіцца хоць-бы тым, што, стаўшы на псыхоэстэтычную позыцыю абгрунтаваньня сонэту, ён гэтага абгрунтаваньня зусім ня даў — заблытаўшыся ў масе прыкладаў і* ***мізэрных*** *(вылучэньне Бухаркіна —* ***Ц. Ч.****) аналізаў композыцыі і стылю“*[7]. Папулярная брашура Барычэўскага пра санэт, выдадзеная ў сэрыі „Кніжніца Маладняка“, зразумела й паклікаеная была даць агульнае ўяўленьне пра формы санэту й на навуковую манаграфічную працу не прэтэндавала, але ці пра гэта было задумвацца крытыку? Галоўнае, што быў спрыяльны момант, і грэх было ім не скарыстацца: якраз пачала ўзмацняць і павялічваць свае абароты рэпрэсіўная машына, ужо адбыліся „ліст трох“, тэатральная дыскусія й высылка Алеся Дудара. Згортвалася беларусізацыя ды наагул — усялякія вольнасьці, у тым ліку акадэмічныя. Бухаркін яшчэ да публікацыі меў даклад „Літаратуразнаўчыя вопыты праф. Барычэўскага“ ў Беларускім навуковым марксісцкім таварыстве пад патранатам Алеся Сянкевіча, на той час рэктара Камуністычнага ўнівэрсытэту Беларусі імя Леніна й загадчыка аддзелаў друку, культуры й прапаганды ЦК КП(б)Б. Пра гэта захавалася згадка ў друку[8]. У наступным жа нумары

[6] Бухаркін, В. Літаратуразнаўчыя вопыты праф. Барычэўскага // Маладняк. 1929. №10. С. 71.

[7] Бухаркін, В. Літаратуразнаўчыя вопыты праф. Барычэўскага... С. 94—95.

[8] *„ПЛЯН РАБОТЫ ЛІТАРАТУРНАЙ СЭКЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАВ. МАРКСЫСЦКАГА Т-ВА*
*1. 31 красавіка даклад: „Літаратурныя досьледы праф. Барычэўскага“ — дакладчык т. Бухаркін.*
*Уваход для членаў т-ва і членаў дому пісьменьнікаў.*
*2 17 красавіка даклад „Зямля“ К. Чорнага — дакладчык тав. Мурашка. Уваход вольны.*
*3. 24 красавіка даклад: „Беларуская крытыка“ — дакладчык тав. Фохт. Уваход вольны.*⇨

„Маладняка“ быў зьмешчаны агляд навучальных праграмаў Пэдагагічнага факультэту БДУ на 1927—1928 год[9], дзе амбітнаму выкладчыку партыйнай школы Бухаркіну месца не знайшлося. Тут пад крытыку трапілі іншыя прафэсары БДУ: Іван Замоцін, Аляксандар Вазьнясенскі й Міхайла Піятуховіч[10]. Кароткі зьмест абвінавачаньняў Бухаркіна ў наступным: прафэсура БДУ, жадаючы схаваць сваю сапраўдную сутнасьць, прыкрываецца марксісцкімі тэрмінамі, але выкарыстоўвае іх як шырму — для таго, каб далей унікаць марксізму ў выкладаньні.

Ня дзіва, што неўзабаве пасьля гэтага Аляксандар Вазьнясенскі быў звольнены з БДУ, а Міхайла Піятуховіч страціў свае пазыцыі ў акадэмічнай іерархіі і добрую рэпутацыю ў партыйнага кіраўніцтва. Віктар Бухаркін жа атрымаў курс мастацтвазнаўства. Вось невялікая цытата зь лекцыяў, канспэктаваных Антонам Адамовічам:

*„24/IV. Літ.[аратурная] форма — найбольш удалая для перамогі мяшч.[анскай] затхласьці капіталізму, своеасабл.[івая] сублімацыя. — Значаньне катэгорыі часу і колькасьці ў романе. У Маркса ёсьць некаторыя зазначэньні наконт роману ў лістох. „Пляменьнік Рамбо“ Дыдро — характ.[арыстыка] Гегеля — раздвоенасьц[ь] Роман — слоўнае — ідэялёг.[ічнае] асяродзьдзе, у якім бытуюць тыпы. „Самае галоўнае ў ром.[ане], каб вы і я існавалі на сьвеце, і каб вы былі вы, а я быў я, усё іншае можаісьці як-хоця“. Толькі Дон-Кіхотам можна датаваць зьяўленьне буржуазнага тыпу — далей — Робінзон Крузо, Малады Вэртэр, Плям.[еньнік] Рамо. Роман робіцца таварам — у гэтым ягоная таямніца і пачатак ягонага разьвітку. Спажыўцы тут — буржуазыя і інтэлігенцыя (Ленін адзначаў, што рабочыя ня могуць пакуль быць ягонымі спажыўцамі). Роман, як тавар, належыць да вытворчасьці рэчай раскошы (3-я катэгорыя паводле Маркса). Мастак, як тварэц, мае як-бы найменшае дачыненьне да свайго тавару. Роман — такі тавар, які, наўсупроць усім іншым таварам уклад.[на] да грошай, сваёй спажывецкай вартасьцю зусім прыгнятае менавую вартасьць (або цэны) Суб’ектыўнае сузіраньне тых*

---

⇨ *Пачатак а 8 з пал. гадз. увечары ў памяшканьні дому пісьменьнікаў. Старшыня праўленьня т-ва СЯНЬКЕВІЧ“* (Савецкая Беларусь. 1929. №79)

9 Маецца на ўвазе кніга: Програмы выкладаньня на 1927—1928 год. Пэдагогічны факультэт. І. Літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне. Менск: БДУ, 1928. — 144 с.

10 Бухаркін, В. Літаратуразнаўцы з Б.Дз.У. // Маладняк. 1929. № 11—12. С. 196—206.

*магчымасьцяй, якія зьмяшчае ў сабе раман, вартней за ягоную намінальную цану. Тут раман выключны; у ім ня мае значаньня ні спэцыфічны спосаб выкананьня, ні арыгінал (музыка, паштоўкі).*

*Раман — капіталістычнае люстра; ён дае магчымасьць перажыць як вышэйшыя адчуваньні, гэтак і навытарыць іншых фізыялёгічна індывідуумаў (жанка) Ён, як нішто іншае, дазваляе стварыць сьцягі тыповых вобразаў. У большасьці раманаў няма рэальнага гасп.[адарчага] жыцьця, эканомікі, а барждзжэй — палітыкі, і ас.[абліва] ідэялёгіі. Раман, як зьмест — тэмат.[ычнае] цэлае складаецца з сьвету ідэялёгічных перажываньняў буржуазіі, перажываньні пачуцьцёва-эстэтычнага адценьня (сама эстэтыка, рэл.[ятыўны] эл.[емэнт] — да пэўнай ступені пабудова як факт). Таму клясыфікацыі на авант.[урныя], псыхол.[ёгічныя], бытавыя і г. д. уносяць толькі блытаніну (быт.[авыя] ці псых.[олёгічныя] у Дастаеўскага?) Клясыфік[ацыю] можна пабудаваць адно на гісторыі клясавага змаганьня. Форма раману толькі — замкнёнае літаратурнае асяродзьдзе (прастора), заселенае літ.[аратурнымі] тэмамі, якія зжываюць сябе больш ці менш сыстэматычна і закончана. Зжываньне ня ў колькасным сэнсе, а ў якасным — рэльефным паказе зжываньня, хай і моманту [яго], але як цэлага (уражаньне).*

*Архітэктоніка раману — ўсяго мэтода, прыём сыст.[эмны] і законч.[аны] зжываньня літ.[аратурнага] тыпу. Яна можа быць устаноўлена адно на паняцьці жыцьця літ.[аратурнага] тыпа (у Феер.[баха] — псыхолёгічная)“.*

Як бачым, замест эстэтыкі выкладаецца нешта хаатычнае, але ў той жа час ляяльнае й сугучнае запатрабаваньням. Зрэшты, сама будова курсу мастацтвазнаўства Бухаркіным не пазбаўленая пэўнай унутранай лёгікі, хоць, канечне, хварэе на эклектызм (загану, якую бязьлітасна выкрываў у сваіх пагромніцкіх артыкулах пра літаратуразнаўцаў БДУ сам аўтар курсу мастацтвазнаўства 1930 г.).

Далейшы лёс Віктара Бухаркіна прасочваецца вельмі цьмяна. Сьціслыя зьвесткі падае пра яго сусьветнае павуціньне. Так, сайт Санкт-Пецярбурскага аддзяленьня архіву Расейскай акадэміі навук сьведчыць, што ў дадзеным сховішчы захоўваецца асабовая справа *„вучонага захавальніка АН Віктара Іванавіча Бухаркіна“* (ф. 4 „Камітэт праўленьня АН; Праўленьне АН; Кіраўніцтва справамі АН СССР; Адміністратыўна-гаспадарчае ўпраўленьне ленінградзкіх установаў АН СССР 1804—1997“. Воп. 004. Спр. 1322). Зьмястоўная, хоць кароткая згадка знайшлася і на сайце Цэнтру генэалягічных дасьледаваньняў: *„Бухар-*

*кин Виктор Иванович (1898, Саратовская — 1938.08.06) русский, житель: Ленинград Арест: 1935 Осужд. 1938.08.06 тройка при УНКВД по ДС. Обв. контрреволюционная деятельность Расстр. 1938.08.06 Реаб. октябрь 1961 [Книга памяти Магаданской обл.]*“[11] .

Яшчэ адным цікавым выкладчыкам у Антона Адамовіча была **Яўгенія Львоўна Гальперына** (1905—1982), чые лекцыі па мэтадалёгіі літаратуразнаўства захаваліся ў выглядзе канспэкту. Цікавым перадусім таму, што адлюстроўвае новы этап у жыцьці гуманітарыяў БДУ і наагул ва ўсёй усходнелавянскай тэорыі літаратуры. Пакуль ламаліся дзіды ў тэарэтычных дыскусіях „фармалістаў“ і „сацыялягістаў“ 1920-х гг., пакрысе высьпявала новае пакаленьне навукоўцаў, якое злучыла ў сабе адносна нядрэнную вывучку ў старой прафэсуры й ваяўнічае спрашчэнства дырэктыў ЦК партыі. У выніку нарадзіўся вульгарны сацыялягізм, які напачатку быў ня раз зьбіты на горкі яблык мастадонтамі гуманітарнай навукі, а пазьней, калі атрымаў прыхільнасьць уладных колаў, стаўся моцнай зброяй разбурэньня ўсёй даваеннай гуманітарыстыкі. Пазьней, перад вайной, прадстаўнікі вульгарнай сацыялёгіі, выканаўшы сваю сацыяльную замову, адышлі ў цень — камусьці гэта ўдалося, хтосьці загінуў у лягерах ці быў расстраляны, хтосьці змог адседзецца й далей бавіў час на невысокіх пасадах у акадэмічнай іерархіі.

Яўгенія Гальперына нарадзілася 9 сакавіка 1905 г. у Маскве, у сям’і *„журналіста, былога сацыял-дэмакрата“* Льва Гальперына[12] . У 1913 г. паступіла ў швайцарскую зьмяшаную гімназію, якую скончыла ў 1922 г. (ужо як працоўную школу). У тым жа годзе паступіла на літаратурнамастацкае аддзяленьне Факультэту грамадзкіх навук Першага Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, але скончыла Заходнюю сэкцыю факультэту датэрмінова, у 1925 г. Тады ж была накіраваная адборачнай камісіяй МДУ ў Інстытут мовы й літаратуры Расейскай асацыяцыі навукова-дасьледных інстытутаў грамадзкіх навук (РАНДІГН), там як

[11] http://rosgenea.ru/?alf=2&serchcatal=%C1%F3%F5%E0%F0%EA%E8%ED&r=4.

[12] Так атэстуе свайго бацьку сама Гальперына. Ня выключана, што бацька быў народжаны ў Віцебску. Леў Яфімавіч Гальперын (1872—1951), арганізатар Кіеўскага ўнівэрсытэцкага „Беларускага зямляцтва“ (1890-я гг.), актыўны дзеяч РСДРП, палітвязень і агент газэты „Іскра“, уключаны ў 1903 г. Леніным у склад ЦК РСДРП. Пазьней Гальперын шырока ўдзельнічаў у рэвалюцыі 1905 г., у 1918 г. быў намесьнікам старшыні Маскоўскага савету рабочых дэпутатаў і членам яго выканкама. Пасьля аб’яднаўчых зьездаў і дыскусій у партыі, адышоў ад актыўнай дзейнасьці. У 1920-х — 1930-х гг. працаваў у апараце прамысловасьці й гандлю. Расстраляны ў 1951 г.

асьпірантка займалася пераважна нямецкай і францускай літаратурай, пісала дысэртацыю па тэме „Літаратурны канструктывізм на Захадзе“[13]. Часта ў тыя гады працавала для энцыкляпэдыяў: Літаратурнай і Малой Савецкай.

Для свайго ўзросту Гальперына зрабіла выдатную навуковую кар'еру: скончыла ўнівэрсытэт, асьпірантуру, працавала для энцыкляпэдыяў — і ўсё гэта ў 24 гады. Дасылаючы ліст наконт працы ў БДУ, яна, абсалютна не саромеючыся, патрабуе для сябе пэўных умоў для працы й жыцьця:

*„В Правление Белорусского Гос. Университета*

*Постановлением Наркомпроса я назначена в Ваш Университет для преподавания западной литературы.*

*Ввиду болезни и необходимости операции я смогу приступить к работе только с 2 полугодия.*

*В текущем акад. году я могла бы вести 1 курс или семинар по новейшей западной литературе и 2 семинара по методологии литературоведения, с тем чтобы с будущего года добавить еще курс или семинар по западной литературе 19 в.*

*Ввиду того, что я работаю специально над западной литературой XX в. необходимым условием для меня является гарантия командировок: внутренних (Москва—Ленинград), не менее 2 месяцев ежегодно и заграничной (Берлин—Париж), не позже, чем через 2 года и не менее, чем на 1/2 года — 9 мес., за счет Университета.*

*Кроме того, я просила бы Вас сообщить мне, какую должность Вы предполагаете мне предоставить, точное количество часов и на каких курсах, размер оплаты, размер подъемных и жилищные условия.*

*Я очень желала бы получить от Вас ответ в ближайшее время, т. к. в связи с предложением работы в Москве мне приходится решать этот вопрос весьма срочно.*

*14/9 1929 Е. Гальперина*

*Москва, Центр, Фуркаловский пер. 3-40“*[14].

У БДУ яе чакаюць з асаблівым трымценьнем: яна паступае на катэдру да прафэсара Аляксандра Вазьнясенскага, якога адразу залічвае ў рэтраграды й зь якім пачынае змагацца. Пэўныя праблемы былі ў Вазьнясенскага й раней, ад Віктара Бухаркіна, падтрымліваў ён і апальнага Восіпа Воўк-Левановіча, што таксама не дадавала яму пэўнасьці ва ўнівэрсытэцкай будучыні. Аднак да пары да часу ўсё ішло гладка, і яго-

[13] Паводле аўтабіяграфіі Гальперынай: НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 411. Арк. 51.

[14] НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 411. Арк. 3.

ная рыкертыянская, сугучная з працамі Аляксандра Яўлахава, клясыфікацыя гісторыка-літаратурных мэтадаў уводзілася ў пэдагагічную практыку, крыху зашыфроўваючыся, каб адпавядаць патрабаваньням часу. Падтрымліваў яго таксама прафэсар Пераверзеў, адзін з афіцыйна ўшанаваных тэарэтыкаў літаратуры другой паловы 1920-х гг. Павел Панкевіч пасьля напіша: *„...факты прымірэнчых адносін некаторых марксыстаў да ідэолёгіі Вазьнясенскага давалі яму повад рэклямаваць публічна свой „марксызм“.*

*Нашы філёзофы павінны былі сваячасова раскрытыкаваць погляды Вазьнясенскага, каб ня даць магчымасці буржуазнаму профэсару ні на адну мінуту скарыстоўваць катэдру унівэрсытэта ў мэтах пропаганды сваіх рэакцыйных тэорый. Толькі новыя таварышы, прыехаўшыя з Масквы, дапамаглі выкрыць Вазьнясенскага“*[15].

Няцяжка здагадацца, хто быў гэтымі новымі таварышамі з Масквы. У архіве БДУ бачыў я ліст рэктара Язэпа Каранеўскага да Яўгеніі Гальперынай з патрабаваньнем неадкладна перадаць яму *„усе паперы на Вазьнясенскага“*. Была створаная цэлая камісія для расьследаваньня справы прафэсара, у выніку дзейнасьці якой ён быў зьняты з працы. Афіцыйна гэта адбылося, праўда, пазнавата, 19 кастрычніка 1930 г:

*„Загад № 221 Народнага Камісарыяту Асьветы БССР*

*Менск 19 кастрычніка 1930 г.*

*Загад Рэктара Белдзяржунівэрсытэту ад 16/10-30 г. за № 76 аб зьняцьці з працы прафэсара па катэдры літаратуры А.Н. ВАЗЬНЯСЕНСКАГА за удзел у бела-эміграцкім часопісу „Славонік Рэвью“, а таксама і за правядзеньне на працягу сваей пэдагагічнай і навуковай працы ідэялістычных поглядаў — з а ц ь в е р д з і ц ь.*

*Народны Камісар Асьветы /Бялуга/*

*Сэкратар НКА /Сініцкі/“*[16]

Але, мяркуючы па канспэктах Адамовіча, ад асноўнага курсу мэтадалёгіі літаратуразнаўства Вазьнясенскага адхілілі яшчэ раней. Цікава, што асноўным абвінавачаньнем у загадзе народнага камісара асьветы гучыць тое, што ў 1927 г. працу Вазьнясенскага зь лейпцыгскага часопіса Макса Фасмэра *Zeitschrift für slavische Philologie* перадрукаваў лёнданскі *Slavonic Review*, дзе актыўна публікаваліся людзі накшталт Аляксандра Фёдаравіча Керанскага ды інш.

[15] Панкевіч, П. Філёзофія добрастаннасьці ці нядобрастаннасьць філёзофіі // Полымя. № 4. 1931. С. 145.

[16] НАРБ. Ф. 205. Воп. 1. Спр. 410. Арк. 278.

Такім чынам, і Віктар Бухаркін, і Яўгенія Гальперына сталі выкладаць у Адамовіча выключна дзякуючы сваёй „клясавай пільнасьці“. Тым ня менш той жа Гальперынай разьняволіцца пасьля „падседжваньня“ Вазьнясенскага не атрымалася: ужо ў 1930 г. ейных маскоўскіх настаўнікаў — Валяр’яна Пераверзева і Ўладзімера Фрычэ — пачалі актыўна зьніштажаць „у дыскусійным парадку“. Яны для дзейнай улады сталі занадта левымі. Калі ў пачатку 1920-х і Пераверзева, і Фрычэ ганаравалі як заснавальнікаў сацыялягічнага падыходу да літаратуры (кнігі іх выйшлі яшчэ да Першай сусьветнай вайны), то напрыканцы 1920-х іх пазыцыі апынуліся непажаданымі — з прычыны прывязанасьці таго ж Пераверзева (і яго школы, куды ўваходзіла й Гальперына) да мэтадалягічнага дэтэрмінізму, пры якім мастацкі твор наўпрост абумоўліваўся клясавым асяродзьдзем аўтара, і тое ж асяродзьдзе дэтэрмінавала й сістэму пэрсанажаў, і вобразнасьць, і нават лексіка-стылістычны пласт[17].

Каб пазьбегнуць абвінавачаньняў у „пераверзеўшчыне“, Гальперына вымушаная была ў сваіх лекцыях удакладняць і выкрываць памылкі сваіх настаўнікаў — па сутнасьці, хаваючы ў сафістыцы натуральную прыхільнасьць да іх канцэпцыяў. У той жа час яна выступала й супраць нацыянальнага (у фондзе Пятра Глебкі ў ЦНБ НАН Беларусі захоўваюцца яе лісты да фондаўтваральніка, дзе яна прысьпешвае яго з высылкай артыкула „Нацдэмаўшчына, замаскаваная фразай“ пра Адама Бабарэку, а таксама зьвяртае ўвагу на неабходнасьць выкрываць Міхайлу Піятуховіча). Антон Адамовіч пазьней апісаў гэты пераходны працэс у БДУ ў сваім артыкуле „Да пабудовы навуковае гісторыі беларускае літаратуры“, гаворачы пра 1929—1930 гг.: *„Якраз у часе гэтае пагромнае кампаніі (супраць нацдэмаў — **Ц.Ч.**), у сувязі з кароткатрывалым, але буйным росьцьвітам у савецкай літаратуразнаўстве ведамае школы праф. В. Перэверзева, што з часоваю ўдачаю прэтэндавала на годнасьць адзінае артадаксальна-марксыстаўскае, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт запаланілі былі ў якасьці лектароў маладыя адэпты гэтае школы (У. Фохт, В. Саўсун, Е. Гальперына, Я. Бранштэйн), якія на некаторы, хоць і вельмі кароткі час, бадай манапалізавалі ў сваіх руках літаратураведу ў гэтым унівэрсытэце, падобна як раней зрабіла гэта школа праф. Еўлахава сваім часам. Некаторыя зь іх узялі*

[17] Гл.: Поляков, М. В.Ф. Переверзев и проблемы поэтики // Перверзев, В.Ф. Гоголь. Достоевский. Исследования / сост. В.В. Переверзев. Москва: Советский писатель, 1982. С. 18—24.

*ўдзел і ў атаках на мясцовых літаратуразнаўцаў, асабліва на праф. Вазьнясенскага. [...] наагул бадай адначасна з разгромам „беларускіх нацдэмаў„ у Менску пачаў шпарка разгортацца й разгром „перэверзіянцаў„ у Маскве; некаторыя зь іх (Фохт, Саўсун) зусім зьніклі, і ня толькі зь менскага кругагляду, іншыя пасьпешна й дасьпешна „перабудоўваліся“ (Гальперына, Браништэйн)“*[18] .

Пазьней Гальперына працягвала друкавацца, была сябрам рэдкалегіі часопісу „Полымя Рэвалюцыі“, а ў другой палове 1930-х (хутчэй за ўсё, у 1935 г.) вярнулася ў Маскву, дзе выкладала ў Маскоўскім дзяржаўным пэдагагічным інстытуце. Выходзілі й ейныя „артыкулы“ па заходнеэўрапейскай літаратуры[19] , а таксама кнігі[20] . Пасьля вайны Гальперына сканцэнтравалася выключна на літаратуры Цэнтральнай Афрыкі, займалася й перакладала паэтаў Нігерыі, складала анталёгіі афрыканскай літаратуры ды пісала ўступныя артыкулы для іх. Яе асьпіранткай была яшчэ адна вядомая Гальперына — перакладчыца Нора Галь.

---

[18] Адамовіч, А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 1137.

[19] Вось, напрылад, урывак артыкулу зь „Літаратурнай энцыкляпэдыі“, прысьвечанага творчасьці Марсэля Пруста: *„Выросший творчески в начале века, продолживший иррационалистские традиции французских символистов, П. был поднят на щит в качестве „новатора“ в послевоенные годы, когда послеверсальская французская буржуазия особенно цинично смаковала изощренное искусство. В дальнейшем та защита капитализма, которую проводил П., показалась недостаточной фашизирующимся буржуазным публицистам Франции, призывающим „преодолеть“ это „искусство разложения“ ради более агрессивного и воинственного.*
*В советской литературе делались явно порочные попытки культивировать прустовское „преодоление автоматизма восприятия“. Воронский пытался делать это, исходя из своей интуитивистской теории „непосредственного впечатления“. Аналогичные попытки последних лет связаны с пережитками формализма и литературщины, хотя сам Пруст конечно не формалистичен. Насквозь субъективистская изощренность ощущения у Пруста, как и его субъективистская „правдивость“, в корне противоположна реализму социалистической лит-ры“.* (Гл.: Гальперина, Е. Пруст // Литературная энциклопедия: В 11 т. Т. 9. М.: ОГИЗ РСФСР, Гос. ин-т. „Сов. Энцикл.“, 1935. Стб. 344—350.

[20] Курс западной литературы XX века: Для высш. педагог. учеб. заведений...: Утв. Наркомпросом РСФСР / Е. Гальперина, А. Запровская, Н. Эйшискина. Москва: Гос. учеб.-педагог. изд-во, 1935 (Л. : тип. им. Евг. Соколовой).

Як бачым, выкладчыкамі ў Антона Адамовіча былі самыя розныя людзі. Пэрыяд росквіту гуманітарыстыкі ён засьпеў у Белпэдтэхнікуме імя Ў. Ігнатоўскага — тады яшчэ можна было, з пэўнымі азіраньнямі на сацыялягічны мэтад, выкладаць дысцыпліны больш-менш свабодна. Калі ж Адамовіч прыходзіць ва ўнівэрсытэт, ён бачыць зломы й зрухі ва ўсёй сістэме адукацыі Беларусі, ён спазнае іх на сабе — запісваючы лекцыі, слухаючы выкладчыкаў, пра якіх ведае шмат больш, чым звычайна студэнт ведае пра пэдагога. Вусьцішна чытаць заданьне, дадзенае Яўгеніяй Гальперынай на лета, — пра далейшае вывучэньне марксісцкай мэтадалёгіі літаратуразнаўства. Летам 1930 г. Адамовіча чакала зусім іншае выпрабаваньне, якое цалкам зьмяніла ягонае жыцьцё.

*З гісторыі філялёгіі 1920-х гадоў*

***Міхайла Піятуховіч***

# БЕЛАРУСКІ ФОЛЬКЛЁР (канспэкт лекцыяў, зроблены Антонам Адамовічам)

**<Сшытак I>**

1/X.28. I. Тэмы аг.[ульна]-тэорэт.[ычнага] характару.
1. Паходжаньне поэзіі. *V Лаз.[урский]*[1]
2. Зьбіраньне беларускага фольклёру. *V*
3. Навуковае дасьледваньне фольклёру.
4. Асноўныя рысы тэорыі фольклёру. *V*
5. Рэлігія старадаўных славян. *V*
6. Першабытны анімізм і ягоныя поэтычныя формы.
7. Замовы (паходжаньне і зьмест). *Серада*[2] *V*
8. Поэтыка замоў (композыцыя і стыль).
9. Калядныя абрады. *V*
10. Калядкі. *V*
11. Вялікадне і валачобныя песьні. *V*
12. Русальны тыдзень. *V*
13. Купальскія абрады і песьні. *V*
14. Жніўныя абрады і песьні. *V*
15. Абрадавая поэзія ў яе аграрнай аснове. *V*
16. Элемэнты заклінаньняў у абрадавай поэзіі. *V*

---

[1] **Аляксандар Лазурскі** (1874—1917), расейскі мэдык, псыхоляг, заснавальнік характаралёгіі.

[2] **Сяргей Серада** (**Сяргей Дарожны**, 1909—1943), паэт, перакладнік, грамадзкі й культурны дзеяч, аднагрупнік Антона Адамовіча. Тут і далей Адамовіч як стараста групы пазначае, каму з аднагрупнікаў даручаны выступ на практычных занятках.

17. Беларускія вясельныя абрады параўнальна з вялікарускімі і ўкраінскімі. *V*

18. Поэтыка вясельных песень. *V Баркоўскі*[3]

19. Хаўтурныя абрады. *V Сілкоў*[4]

20. Соцыяльна-бытавыя і псыхолёгічныя мотывы галашэньня. *V*

21. Поэтыка галашэньня.

22. Тэматыка бытавое лірыкі. *Эзоп*[5] *V*

23. Поэтыка бытавое лірыкі. *V (Віцька)*[6]

24. Песьні пра прыгон.

25. Гумарыстычныя песьні. *V*

26. Сьляды былявога і гістарычнага эпосу ў беларускім фольклёры. *V*

27. Беларускія прыпеўкі.

28. ~~Калыскавыя песьні~~. Калыханкі. *V Плаў.[нік]*[7]

29. Хар[актар]ыстыка песеннага рэпэртуару пэўнай мясцовасьці. *V*

30. Навуковае дасьледваньне казак. *V*

31. Гістарычна-географічны мэтод фінскай школы.

32. Проблемы вывучэньня асобы казачніка. *V*

33. Фантастычныя элемэнты казачнага эпосу. *V*

34. Соцыяльна-бытавыя мотывы казак. *V*

35. Казкі паляшукоў. *V*

36. Легенды. *V*

37. Багацьце і беднасьць у вабмалёўцы легенд. *V Міхалковіч*[8]

38. Прыказкі і пагаворкі. — *V Ісакаў*[9]

39. Духоўныя вершы (тэматыка і поэтыка).

40. Народныя драмы. *V Катановіч*[10]

1. Лазурский. Россе — Происхождение искусства[11] . Шурц — Исто-

[3] **Сьцяпан Баркоўскі** (1905—1966), крытык, літаратуразнаўца, этнограф, аднагрупнік Антона Адамовіча.

[4] **Сілкоў** — аднагрупнік Антона Адамовіча. Асоба ня высьветленая.

[5] Магчыма, мянушка **Язэпа Падабеда** (1905—?), паэта, публіцыста, аднагрупніка Антона Адамовіча.

[6] Магчыма, **Віктар Казлоўскі** (1905—1975), паэт, перакладнік, аднагрупнік Антона Адамовіча.

[7] **Ізраіль Плаўнік** (1905—1941), паэт, перакладнік, малодшы брат Самуіла Плаўніка (Зьм. Бядулі), аднагрупнік Антона Адамовіча.

[8] **Міхалковіч** — аднагрупнік Антона Адамовіча.

[9] **Ісакаў** — аднагрупнік Антона Адамовіча.

[10] **Катановіч** — аднагрупнік Антона Адамовіча.

[11] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Гроссе, Э. Происхождение искусства. Москва, 1899. — 307 с.

рия первобытной культуры (549—616)[12]. Бюхер — Работа и ритм[13]. Веселовский — Три главы из Ист.[орической] поэтики (Собр.[ание] соч.[инений], т. I)[14]. Потебня — Из записок по теории словесности[15]. Мысль и язык[16]. Бібл.[іяграфічны] паказ.[альнік] — „Русская устная словесность“ — Бродский, Гусев и Мендельсон[17].

2. Карский, т. I[18]. Савченко — Русская народная сказка[19]. Ігнатоўскі — Культурна-нац.[ыянальнае] адр.[аджэньне] Беларусі[20].

3. Карский, т. III, в. I[21]. Сперанский — Русская устная нар.[одная] словесность[22]. — Савченко. — Ю. Соколов — Очередные задачи изучения русского фольклора („Худ.[ожественный] фолькл.[ор]“, вып. I)[23].

---

[12] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Шурц, Г. История первобытной культуры. Санкт-Петербург, 1910. — 888 с.

[13] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Бюхер, К. Работа и ритм. Рабочие песни, их происхождение, эстетическое и экономическое значение. Санкт-Петербург, 1899. — 207 с.

[14] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Веселовский, А. Собрание сочинений. Серия I. Поэтика. Т. 1. (1870—1899). Санкт-Петербург, 1913. — 630 с.

[15] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Потебня, А. Из записок по теории словесности. Харьков, 1905. — 647 с.

[16] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Потебня, А. Мысль и язык. Харьков, 1892. — 236 с.

[17] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Устная народная словесность. Темы. Библиография. Программы для собирания устной поэзии / сост.: Н. Л. Бродский, Н. М. Мендельсон, Н. П. Сидоров. Москва — Ленинград, 1922; Русская устная словесность. Темы. Библиография. Программы для собирания произведений устной поэзии. / сост.: Н. Л. Бродский, Н. А. Гусев, Н. П. Сидоров. Ленинград, 1924.

[18] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Карский, Е. Белорусы. Т. I. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903. — 478 с.

[19] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Савченко, С. Русская народная сказка. История собирания и изучения. Киев, 1914. — 543 с.

[20] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Ігнатоўскі, У. Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі: (лекцыі, чытаныя для студэнтаў Менскага пэдагагічнага інстытуту ў г. Яраслаўлі ў 1917—1918 годзе). Менск, 1921. — 82 с.

[21] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Карский, Е. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. 1. Народная поэзия. Москва, 1917. — 557 с.

[22] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Сперанский, М. Русская устная словесность. Москва, 1917. — 474 с.

[23] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Соколов, Ю. Очередные задачи изучения русского фольклора // Художественный фольклор. Кн. 1. Москва, 1926. С. 5—29.

Штернберг — Современная этнология („Этнография“, т. I)[24]. Bystroń — Z tem do ludoznawstwa polskiego[25]. Fiszer — Lud polski[26]. „Этнографичний вістник“[27].

4. Сперанский. Карский. Владимиров — Ведение в русск.[ую] нар.[одную] словесность[28]. Веселовский, т. I: „Из истории эпитета“, „Эпич.[еские] повторения“ і „Психологич.[еский] параллелизм“[29]. Раманаў, Шэйн, Сержпутоўскі. — А. Афанасьев.

5. Покровский — Очерк истории русской культуры (М., 1918), ч. II, глава II — 32)[30]. Харузин — Этнография, ч. 4[31]. Шурц. — Кагаров — Религия древних славян[32]. Сперанский.

6. Веселовский — т. I, „Психологич.[еский] параллелизм и его формы в отражении поэтического стиля“[33]. Липперт — История культуры, с. 301, 300, 393[34]. Тэйлор — Первоб.[ытная] культ.[ура], т. I, гл. III—VIII[35]. Фрэйд — Тотэм и табу[36].

7[37].

---

[24] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Штернберг, Л. Современная этнология // Этнография. 1926. № 1 (1—2). С. 15—43.

[25] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Bystroń, J. St. Wstęp do ludoznawstwa Polskiego. Lwów, 1926. — 220 s.

[26] Поўнае дакладанае бібліяграфічнае апісаньне: Fischer, A. Lud polski: podrecznik etnografji Polski. Lwów, 1926. — 240 s.

[27] ***„Етнографічний вісник“*** — пэрыёдык Этнаграфічнай камісіі пры УУАН. Выдаваўся ў 1925—1932 гг. Агулам выйшла 10 нумароў.

[28] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Владимиров, П. Введение в историю русской словесности: Из лекций и исследований П. В. Владимирова. Киев, 1896. — 278 с.

[29] Гл. зноску 14.

[30] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Покровский, М. Очерк истории русской культуры. Ч. 2. Москва, 1918. — 232 с.

[31] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Харузин, Н. Этнография. Лекции, читанные в Императорском Московском университете. Вып. 4. Санкт-Петербург, 1905. — 530 с.

[32] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Кагаров, Е. Религия древних славян. Москва, 1918. — 73 с.

[33] Гл. зноску 14.

[34] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Липперт, Ю. История культуры. Санкт-Петербург, 1899. — 396 с.

[35] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Тейлор, Э. Первобытная культура. Санкт-Петербург, 1872. — 381, 72 с.

[36] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Фрейд, З. Тотем и табу. Москва — Петроград, 1923. — 170 с.

[37] Пропуск у рукапісе.

4/X.28[38].

„Фольклёр“ — 1846 г. Томас Вільям[39] (ням. Folkskunde[40]).

Ф.[ольклёр] пашыраецца да мэдыцыны, рэлігіі, малярства, орнамэнту, юрысдыкцыі (звычайнае права). 1) У соцыялёг.[ічным] разрэзе поэзія працоўных мас, вёскі, сялянства — „Поэзия деревни“ — браты Соколовы[41] 2) форма 3) гіст.[арычна]-культ.[урны] лёс — пагарда сярэднявечн.[ае] арыстократыі (XVIII ст. — „подлая“ творчасьць) 4) спосаб перадачы продукту — вусны.

Фольклёрыстыка — мэтодыка дасьледваньня фольклёру.

Шпэт[42] зазначыў, што фольклёрыстыка — частка этнографіі, не датычная да літаратуразнаўства. Цяпер фольклёрыстыка ўважаецца за асобную дысцыпліну. Сумежныя дысцыпліны: літаратуразнаўства (пункты думаньня — поэтыка, іменьні выдатных дасьледчыкаў), этнографія (мат.[арыяльная] і дух.[оўная] культура), лінгвістыка (ас.[abліва] дыялектолёгія), чужаземны фольклёр (вандр.[оўныя] [мо]тывы), гісторыя культуры і рэлігіі. Жанры з войстрым соц.[ыяльным] зьместам не запісваліся і губляліся. Келтуяла[43], нямецкая навука. Наўман[44] — „народ нічога не вытвараець, адно пераймаець“.

Гістарычнае значэньне фольклёру — культурныя перажываньні — сям’я[45]. Тэорыя Ростафінскага[46]. Пішучы пра прабацькаўшчыну славян ён разважаець на аснове вывучэньня номэнклятуры фаўны і флёры бел.[арускага] Палесься.

Мастацкае значэньне фольклёру.

[38] Тут жа Адамовічавы маргіналіі, якія ня маюць беспасярэдняга дачыненьня да тэксту лекцый: *Казкі пра канец сьвету — кулацкія. Лекцыі Пантомімы да поэззі? Тонічны?*

[39] Так у рукапісе. **Уільям Томс** (1803—1885), ангельскі пісьменьнік, калекцыянэр.

[40] Так у рукапісе. Мае быць: *Volkskunde*.

[41] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Соколов Б. М., Соколов Ю. ; Поэзия деревни: Руководство для собирания произведений устной словесности. Москва, 1926. — 166 с.

[42] **Густаў Шпэт** (1879—1937), расейскі філёзаф, псыхоляг, тэарэтык мастацтва, перакладнік.

[43] **Васіль Келтуяла** (1867—1942), літаратуразнаўца, пэдагог.

[44] **Ганс Наўман** (1886—1951), нямецкі гісторык літаратуры, фальклярысты.

[45] Над радком — маргіналія, якая ня мае беспасярэднага дачыненьня да тэксту лекцый: *Кàганец, марксыскаю рукою.*

[46] **Юзаф Растафінскі** (1850—1928), польскі батанік.

6/X. Погляд на профэсыянальнасьць тварцоў фольклёру. У пэўнай меры гэта так. Адзнакі творчай індывідуальнасьці ў фольклёры таксама наяўны. Выкарыстоўваньне фольклёру маець вялікае значэньне ас.[абліва] у школьным выкладаньні ў сувязі з праблемаю когнітыўных мэтодаў. Небясьпека амаралізму ў фольклёры ня так дужа вялікая. Фольклёр лёгка ўвязуецца ў комплекс.

Мэтодолёгічнае значэньне фольклёру — на матэрыяле фольклёру дасьледваліся мэтоды літаратуразнаўства. Соц.[ыялёгічны] мэтод на фольклёрным матарыяле прыстасоўваецца карацейшым шляхам, чымся на індывідуальнай творчасьці[47]. Увязка соц.[ыяльнага] і форм.[альнага] мэтоду таксама праводзіцца лягчэй на фольклёры. Фольклёр прыводзіць да вытокаў самое поэзіі. Перавод прадметаў з об'ектыўнай сфэры ў суб'ектыўную — вобраз.

Функцыі поэзіі: 1) мастацтва — аздоба 2) пазнаньне жыцьця 3) мастацтва — жыцьцябудаўніцтва — эмоцыянальнае заражэньне. ~~Сэмінар~~.

II/X. Проблема паходжаньня поэзіі. — Тэорыі ідэялістычныя і матэрыялістычныя. Паводле першай групы (погляд Гастона Парыса[48]) — рэлігія — калыска поэзіі, у Расіі — Анічкаў[49] (веснавы час, як стымул і кондэнсатар рэлігійных абрадкаў, вясьнянкі — эмбрыон поэзіі). Погляд Плятона[50] — адлюстраваньне пэўных ідэй, бытаваньне якіх у звышнатуральным. Тэорыі другое групы льга падзяліць на 1) біялёгічнага і 2) соцыялёгічнага парадку. 1) — тэорыя Дарвінага[51] (сэксуальныя перажываньні, з аналёгіі між жывёлінамі). Цяпер яна аджываець у фрэйдызьме. Паводле яе, сьвядомасьць паўстае на аснове бессьвядомага, а не [з]ьвязана з сэксуальнасьцю. У мастацкай творчасьці — сублімацыя сэксуальнасьці. Другі пункт гледжаньня — Шыльлера[52] (Спэнсэра[53],

47 Над радком — Адамовічава маргіналія, якая ня мае беспасярэднага дачыненьня да тэксту лекцый: *цяжкі зной, сьпякеча.*

48 **Гастон Парыс** (1839—1903), францускі дасьледнік сярэднявечнае літаратуры.

49 **Яўген Анічкаў** (1866—1937), расейскі гісторык літаратуры, крытык, фальклярыст, празаік.

50 **Плятон** (428 або 427—348 або 347 да н. э.), старажытна-грэцкі філёзаф.

51 **Чарлз Дарвін** (1809—1882), ангельскі натураліст і падарожнік, аўтар сучаснай тэорыі эвалюцыі.

52 **Фрыдрых Шылер** (1759—1805), нямецкі паэт, філёзаф, гісторык і драматург.

53 **Гэрбэрт Спэнсар** (1820—1903), ангельскі філёзаф і сацыёляг.

Гросэ[54] ). Паводле іх мастацтва — гульня, мэтаю якое — разрад псыхофізычнай энэргіі (як другі, пасьля працы, шлях яго). І тут адыгрывае вялікую ролю аналёгія з жывёлінай. Кожны чалавек — потэнцыяльны мастак. 2) — тэорыя Пляханавага[55] . — Потэнцыяльнасьць раскрываецца пад уплывам соцыяльных фактараў. — Тэорыя Бюхера[56] . — Der Arbeit und Rithmus[57] . Рытым і ягонае значэньне ў працы. Раскрыцьцё рытыму на соцыяльным грунце — вокліч, прыпеўкі, работніцкая песьня.

<u>Першабытная поэзія ў жанравым дачыненьні</u>. Тэорыя сынкрэтызму Ал. М. Весялоўскага[58] . „Першабытная песьня скакалася“. Песьнягульня. Расказы падарожніка Мунапарка[59] пра нэгрыцянскія песьні. Беларускае вясельле. Перш пачаў сьціраацца драматызм — ліро-эпічная кантылена, ~~а~~далей сьціраецца лірызм. Наведаньне Масквы Джэмсам[60] — песьні пачатку XVII ст.

У XIX ст. Рыбнікаў[61] і інш. натрапілі на той-жа сюжэт — лірызм сьцёрся.

Паходжаньне мастацтва потэнцыяльна зьвязана з біялёгічнымі формамі, якія расчыняюцца толькі соцыяльна. Эмбрыон — песьнягульня, кантылена, эпос.

Крышку асобна стаіць <u>лінгвістычная тэорыя Потэбні</u>[62] : 1) аналіз элемэнтаў чалавечага слова — гук, вы-

13/X. раз (унутр.[аная] форма), зьмест (ідэя, паняцьце) — (месяц — mensis — вымяральнік 2) мова і поэзія — мова, як крыніца. Мэта

---

[54] **Эрнст Гросэ** (1862—1927), нямецкі этнограф і мастацтвазнаўца.

[55] **Георгі Пляханаў** (1856—1918), дзеяч расейскага й міжнароднага дэмакратычнага руху, філёзаф, прапагандыст марксізму.

[56] **Карл Бюхер** (1847—1930), нямецкі эканаміст, гісторык народнай гаспадаркі, статыстык.

[57] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Bücher, K. Arbeit und Rhythmus. Leipzig, 1899. — 412 p.

[58] **Аляксандар Весялоўскі** (1838—1906), расейскі гісторык літаратуры.

[59] Так у рукапісе. **Мунга Парк** (1771—1806), ангельскі падарожнік, дасьледнік Афрыкі. Кнігі: Travels in the Interior Districts of Africa: Performed in the Years 1795, 1796, and 1797. 2 vol. London: John Murray, 1816; The Journal of a Mission to the Interior of Africa, in the Year 1805. London, 1815. — 219 p.

[60] **Рычард Джэймс** (1532—1638), ангельскі падорожнік, пастар, вучоны й паэт.

[61] **Павал Рыбнікаў** (1831—1885), расейскі этнограф.

[62] **Аляксандар Патабня** (1835—1891), расейскі й украінскі мовазнаўца, літаратуразнаўца, філёзаф.

поэзіі — аднавіць першададзеную вобразнасьць 3) слова і думка (слова — абуджальнік, а ня перадатчык думкі) (2) адн.[аўленьне] элемэнтаў. 3) ролі) Слова — спосаб згушчэньня думкі, тое-ж і поэтычны твор. Практычныя высновы: а) сувязь літаратуразнаўства з лінгвістыкаю. б) сувязь мэтодычная.

Адзнакі мастацкасьці фольклёру. — 1) эпітэт — Весялоўскі — „Гісторыя эпітэту = гіст.[орыя] поэт.[ычнага] стылю“. Сталыя акамянелыя. Гукапіс (дасьл.[еднік] Сакалоў[63] ) — падтрымлівае эпіт[эт].

Дысыміляцыйныя эпітэты[64] . *Federowski*

15/X. Сэмінар. Грынькова — Сказители, ,,Х.[удожественный] ф.[ольклор] “вып. I[65] .

Дух.[оўныя] вершы — Раманаў, в. V[66] , Бяссонаў — „Калики перехожие“[67] . Клясыфікацыя. Карскі. Мочульский — Стих о Голубиной книге[68] . Адрианов — Житие Ал.[ексия] в письменности[69] . Эсхаталёгічныя.

Батлейка — Виноградов[70] —

Схема дасьледаваньня.

I. Аналіз твору або творчасьці (іманэнтны)

| | |
|---|---|
| зьмест | форма |
| (сюжэт, тэмы, мотывы) | (композыцыя, стыль, рытміка) |

---

[63] **Юры Сакалоў** (1889—1941), расейскі савецкі фалькляразнаўца, літаратуразнаўца.

[64] Далей колькі старанна зарысаваных слоў і маргіналія *Federowski*.

[65] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Гринкова, Н. Сказки Куприянихи // Художественный фольклор. Кн. 1. Москва, 1926. С. 81—98.

[66] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Романов, Е. Белорусский сборник. Вып. 5: Заговоры, апокрифы и духовные стихи. Витебск, 1891. — 450 с.

[67] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Бессонов, П. Калики перехожие. Ч. 1—2. Вып. 1—6. Москва, 1861—1863.

[68] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: [Мочульский, В.] Историко-литературный анализ стиха о Голубиной книге. Исследование В. Мочульского. Варшава, 1887. — 256 с.

[69] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Адрианова, В. Житие Алексия человека Божия в древней русской литературе и народной словесности. Петроград., 1917. — 518 с.

[70] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Виноградов, Н. Белорусский вертеп // Известия Отделения русского языка и словесности императорской Академии наук. Т. 13. Кн. 2. Санкт-Петербург, 1908. С. 45—82.

II. Псыхолёгічны сынтэз
(псыхоідэялёгія, эмоцыянальнасьць, ас.[абліва] увабражэньня)
III. Соцыялёгічны сынтэз
(соцыяльна-экономічныя фактары, політычныя, гіст.[арычна]-культурныя і г. д.)

20/X. Традыцыя і індывідуальнасьць. — Старадаўнасьць фольклёру (К. Тураўскі), Сл.[ова] а п.[аходзе] І.[гаравым], Ф. Кміта[71] — родавы быт, гетэрызм, людаездтва — забабоны, фэтышызм. Адзнакі першабытнай сьвядомасьці і мысьленьня. Клясычная школа (Спэнсэр, Тэйлор[72]) — рацыяналістычны падыход, сябры — Люі Брюй[73] — „Разум.[овыя] функцыі ніжэйшых народаў“[74] — вывеў зусім процілежнае — далёгічнае мысьленьне — прынцып суўдзелу. Віталізм і дынамізм у першабыт.[ным] мысьленьні, мэтаморфізм (пераходзіны). Увесь сьвет — кругазварот усіх рэчаў і сіл. Тотэмізм. Тотэм — кляса матарыяльных об’ектаў, да якое першаб.[ытны] чалавек дачыняўся з пашанай, ведаючы, што паміж ім і кожным элемэн.[там] гэтае клясы існуе пэўная сувязь. Магізм — Фрэзэр „Залатая галіна“[75] — прынцып падобнасьці і дачыненьня („падобнае выклікаець падобнае“ — імітатыўныя дзеяньні [сэмільная] 2) парсунальная магія (— тэрмін Нікольскага[76] — сьлед і варажба над ім, над портрэтам). — Залом, хрэсьбіны, выган жывёлы.

28/X. Інстынкт тэатральнасьці ў магіі становіць яе існасьць (паводле Данцыга[77]). Еврэінов[78] даводзіць на ўсеўласьцівасьць тэатр.[альнага] інстынкту і, магчыма, што ў ім адвечная чалавечая колізія „быць — здавацца“.

---

71 **Філон Кміта-Чарнабыльскі** (каля 1530 — да 1587), вяліка-літоўскі дзяржаўны й ваенны дзеяч, пісьменьнік.

72 **Эдуард Бэрнэт Тайлар** (1832—1917), ангельскі этнограф, культуроляг.

73 Так у рукапісе. **Люсьен Леві-Бруль** (1857—1939), францускі філёзаф і антраполяг.

74 Маецца наўвеце праца: Lévy-Bruhl, Lucien. Les fonctions mentales dans les sociétés inférieures. Paris, 1910. — 464 p.

75 Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Frazer, J. G. The Golden Bough. Vol. 1—12. London, 1906—1915; Фрезер, Дж. Золотая ветвь. Вып. 1—4. Москва, 1928 (скарочаны расейскі пераклад).

76 **Мікалай Нікольскі** (1877—1959), гісторык, усходазнаўца.

77 Асоба ня высьветленая.

78 **Мікалай Яўрэінаў** (1879—1953), расейскі й францускі рэжысэр, драматург, гісторык тэатру, філёзаф, музыкант, мастак і псыхоляг.

Рэлігія старад.[аўніх] славян. 1) Эмоцыянальныя карэньні рэлігіі: а) страх перад прыродаю б) страх [нябожчыка] сьмерці (Пакроўскі[79]) — ушанаваньне нябожчыкаў — прадстаўленьне пра душу (< сон, эпілепсія, летаргія, сомнамбулізм) — культ прадзедаў; ~~аніматыз.[м]~~ 2) ступені — а) аніматызм (ажыўл.[еньне]) < віталізм і дынамізм > фэтышызм, б) анамізм — адухаўл.[еньне] > зооморфізм ці в) антропоморфізм, 3) крыніцы сьведчаньня — а) сл.[авянскія] летапісы, Сл.[ова] а п.[аходзе] І.[гаравым], казаньні б) чужаземныя крыніцы — грэцкія, арабскія, в) назіраньні над суч.[асным] славянскім фольклёрам — сербы, беларусы. Слав.[янская] рэлігія спынілася на ступені анімізму. Сл.[авянская] рэл.[ігія] на наст.[упныя] групы: а) культ продк.[аў], б) культ ушанав.[аньня] прыроды, в) профэсыйны, г) паталёгічны мітолёгізм — : а) ушанав.[аньне] хатніка б) духі прыроды — русалкі — dies rosae — rosalia.

Афанасьеў[80] з прыроды. Благой ангел (— ?пхуЬлйб) — зьменены вобраз.

Вадзянік, лясун в) палявік (у паўд.[нёвых] сл.[авян]), палудніцы, жыцень, зялезная баба ў украінцаў, душа нівы г) ваўкалакі; псыхопатал.[ёгічная] тэорыя — монотропія. Рэліг.[ійная] тэорыя, комбінаванае паходжаньне, вупыры. < Ніжэйшая славянская мітолёгія. Вышэйшая — Пярун, Сварог, Дажбог, Хорс, Стрыбог. Ніжэйшая мітолёгія — факт культурных перажываньняў і перажыткаў, вышэйшая загінула. Тэорыя, што ніжэйшая — дэмократычная, вышэйшая — арыстократычная, занесеная. — Пакроўскі азмысьлівае ўсё гэта соцыялёгічна.

27/X. Зьбіраньне фольклёру. Карскі[81], Любецкі[82], Ігнатоўскі[83]. Зьбіраньне пачалося, вядома, не адразу — дзякуючы хрысьціянства (як паганства). У суч.[аснай] Грэцыі індывід.[уальная] тв.[орчасьць] вырасла беспасярэдне на народнай. У нас — разрыў, дзякуючы сярэднявеч-

---

[79] **Мікалай Пакроўскі** (1868—1932), гісторык-марксісты, савецкі палітычны дзеч, акадэмік БАН (1928).

[80] **Аляксандар Афанасьеў** (1826—1871), расейскі зьбіральнік фальклёру, дасьледнік духовае культуры славянскіх народаў, гісторык і літаратуразнаўца.

[81] **Яўхім Карскі** (1860—1931), філёляг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства й літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф.

[82] **Павал Любецкі** (запр. Павал Каравайчык, 1896—1937), крытык, публіцыст, паэт, мэдык.

[83] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881—1931), грамадзкі й палітычны дзеяч, гісторык.

чу, у якім падобную, але эпізадычную спробу зрабіў пясьняр Сл.[ова] а п.[аходзе] І.[гаравым]. Арыстакратызм XVII—XVIII вв. таксама. Пералом на мяжы XVIII—XIX. У нас у 30—40 гг. XIX в. Пэрыяды: 1) рамантычны — 30—60 гг. XIX 2) народніцкі — 60—80 гг. 3) навуковы — 80—90-тыя.

1) Эканамічная цікавасьць да „Крэсаў“. Романтыкі — ідэялізм Шэлінга[84], Гегеля[85] — абсолют — душа народу. Фантастыка — фольклёр. Рысінскі[86]. Баршчэўскі[87]. Баршчэўскі — выяўленьне беларускага гуманізму (паводле Падбярэскага[88]).

2) Гільдэбрандт[89], Бяссонаў[90], Насовіч[91], З. Радчанка[92], Дабравольскі[93] > Нікіфароўскі[94], Шэйн[95], Раманаў[96].

3) Federowski[97] — на мяжы > філёзофская клясыфікацыя Карловіча[98]. Сержпутоўскі[99], Шлюбскі[100]. Патрэба карты зьбіраньня. Максім

[84] **Фрыдрых Шэлінг** (1775—1854), філёзаф, заступнік аб’ектыўнага ідэалізму ў нямецкай клясычнай філязофіі.

[85] **Георг Гегель** (1770—1831), філёзаф, адзін з стваральнікаў нямецкае клясычнае філязофіі й філязофіі рамантызму.

[86] **Салямон Рысінскі** (каля 1560 — 1625), вяліка-літоўскі паэт-лацініст, філёляг, фальклярыст-парэміёляг.

[87] **Ян Баршчэўскі** (1794 (1790, 1796) — 1851), пісьменьнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

[88] **Рамуальд Падбярэскі** (1812 (1813) — 1856), выдавец, літаратуразнаўца, публіцыст, фальклярыст.

[89] **Пётар Гільдэбрант** (1840—1905), расейскі археограф, этнограф, фальклярыст і гісторык.

[90] **Пётар Бяссонаў** (1828—1898), філёляг-славіст, фальклярыст.

[91] **Іван Насовіч** (1788—1877), мовазнаўца-лексыкограф, фальклярыст і этнограф.

[92] **Зінаіда Радчанка** (1839—1916), украінская й беларуская зьбіральніца фальклёру, этнографка.

[93] **Уладзімер Дабравольскі** (1856—1920), этнограф, краязнаўца, фальклярыст, дасьледнік звычаяў і мовы смаленскіх, арлоўскіх, калускіх сялян.

[94] **Мікалай Нікіфароўскі** (1845—1910), этнограф, фальклярыст, краязнаўца.

[95] **Павал Шэйн** (1826—1900), пэдагог, этнограф, фальклярыст.

[96] **Еўдакім Раманаў** (1855—1922), этнограф, архэоляг, фальклярыст.

[97] **Міхал Федароўскі** (1853—1923), фальклярыст, этнограф, архэоляг.

[98] **Ян Карловіч** (1836—1903), лінгвіст, этнограф, фальклярыст, музыказнаўца.

[99] **Аляксандар Сержпутоўскі** (1864—1940), этнограф, фальклярыст, мовазнаўца, літаратар.

[100] **Аляксандар Шлюбскі** (1897—1941?), этнограф, фальклярыст і бібліёграф.

Гарэцкі[101]. Масавае зьбіраньне; саматужніцкі характар яго.

1/XI. Мэтодыка зьбіраньня — агульная і прыватная. Мэтод стацыёнарны і экспэдыцыйны. Атэставаньне корэспондэнтаў для першага. У першым — небясьпека апушчэньня да саматужніцтва, у другім — небясьпека неразуменьня і дрэннай стрэчы жыхарствам.

Прынцыпы запісу: 1) об'ектыўнасьць 2) дакладнасьць — фонэтычны прынцып, — знаёмства з дыялекталёгіяю, фонограф, этнографія 3) Дробныя: 3) патуральная абстаноўка — перапынкі; пытаньні, паўторныя запісы. Навуковы пашпарт твору, — дзе, калі, ад каго, кім запісаны (топографія, хронолёгія, характарыстыка казальніка).

10/XI. Раней зварачалася ўвага на традыцыйны элемэнт, цяпер — на індывідуальны. Найбольш індывідуальнасьць выяўляецца ў казках, найменш — у замовах. Характарыстыка казальніка ў пляне біографічным і псыхолёгічным. Нататкі генэтычнага характару — паходжаньне. Запіс у сямейнай ці грамадзкай абстаноўцы. У вапошнім выпадку патрэбна вывучэньне аўдыторыі. Пры запісваньні трэба ўнікаць як протэктарскага, гэтак і фальшыва-народніцкага тону. Выкарыстоўваньне мясцовых культурных дзеячоў. Вядзеньне дзёньніка. Сыстэматызацыя — 1) тэматычны 2) асабовы: (паводле сьпевакоў ці апавядальнікаў).

Разьвіцьцё фольклёрыстыкі. — Ішло на грунце гэроічнага эпосу. Тэорыя мітолёгічная, перайманьняў, гісторычная, антрополёгічная. 1) Баба-Юга — цемра, Іван-царэвіч — сонца. Тэорыі паходжаньня мітатворчасьці: а) сымболічная (Крэйцэра[102]) — скрытыкаваў Грым[103] > б) лінгвістычная (параўн.[альная]) г) мэтэоролёгічная — Кун[104] і Шварц[105] д) солярная (сонечная) тэорыя Макса Мюлера[106]. Міты — хвароба мовы. У расійцаў прадстаўнікі гэтае тэорыі: Афанасьеў, — Орэст

[101] **Максім Гарэцкі** (1893—1938), пісьменьнік, дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэньня, літаратуразнаўца, лексыкограф, фальклярысты.

[102] **Георг Крэйцэр** (1771—1858), нямецкі філёляг і археоляг.

[103] Маецца наўвеце адзін з братоў Грымаў, нямецкіх лінгвістаў і дасьледнікаў нямецкай народнай культуры, **Якаб Грым** (1785—1863).

[104] **Адальберт Кун** (1812—1899), нямецкі лінгвіст, гісторык, адзін з пачынальнікаў параўнальнага літаратуразнаўства.

[105] **Вільгельм Шварц** (1821 — ?), нямецкі гісторык культуры, фалькляpыст, паплечнік Адальберта Куна.

[106] **Макс Мюлер** (1823—1900), нямецкі й ангельскі філёляг.

[107] **Арэст Мілер** (1833—1889), фалькляpыст, гісторык літаратуры.

Мільлер[107] — 1) маралісты 2) славянафіл, Н. Катлярэўскі[108] (у палякаў — Фішэр[109]; пахвальныя абрады; незалежнасьць мітолёгіі ад рэлігіі; этапы разьвіцьця народнае сьвядомасьці). Буслаеў[110] — пласты ў фольклёры: 1) мітолёгічны 2) бытавы; параўнаньне, сувязь з аг.[ульным] фольклёрам і нар.[одным] мастацтвам — узаемадзеяньне маст.[ацтва].

15/XI. Крытыка мітолёгічнае школы: 1) a-prior'насьць (— рэлігійнасьць у васнове) > тэорыя міт.[олёгічнага] сказу — дзейнік — гэрой, выказьнік пра змаг.[аньне], об'ект змаг.[аньня]. Адылі, як заўважыў яшчэ Буслаеў, пад гэтую схему можна падвесьці кожную гіст.[арычную] зьяву (фр[анцуска]-пр.[уская] вайна) 2) нібы-лёгічнасьць і нібы-філёзофічнасьць першаб.[ытнага] чалавека, тымчасам, як міт — продукт далёгічнага думаньня (Леві-Брюй[111]) — з прынцыпу суўдзелу ў ім 3) няправільны погляд на сваяцтва народаў — індо-эўропэйская тэорыя.

Тэорыя пераймальняў — Бэнфэн[112] (немец) — пачынальнік — усход (ас.[абліва] Індыя), як нявычарпальная крыніца сюжэтаў, якая дала спажыву ўсім народам. Несамаіснасьць расійскага эпосу паводле некаторых дасьледчыкаў (Баталін[113], Стасаў[114]). Цяпер гэта дужа распаўсюджаная тэорыя, хоць і ў пашыраным выглядзе фольклёр — складанае месца вандроўных мотываў.

Тэорыя гістарычная — мясцовыя напластаваньні пад уплывам быту, гіст.[арычных] абставін. Упяршыню дастасована да былявога эпосу (Майкаў[115], Ждан.[аў][116], Холанскі[117]). Адбітак непасярэдных гіст.[арычных] фактаў. Ал. М. Весялоўскі — комбінаваў параўнальны мэтод з гістарычным — абрастаньне інтэрнацыянальных, вандроўных мотываў у вабстаноўцы бытаваньня іх у пэўным асяродзьдзі.

---

108 **Нестар Катлярэўскі** (1863—1925), гісторык літаратуры, літаратурны крытык, публіцыст.

109 **Адам Фішар** (1889—1943), польскі этноляг, этнограф і фальклярыст.

110 **Фёдар Буслаеў** (1818—1897), расейскі філёляг і мастацтвазнаўца.

111 Гл. зноску 73.

112 Так у рукапісе. Маецца на ўвазе **Тэадор Бэнфэй** (1809—1881), нямецкі філёляг, заснавальнік параўнальнага літаратуразнаўства.

113 Асоба ня высьветленая.

114 **Уладзімер Стасаў** (1824—1906), расейскі музычны й мастацкі крытык, археоляг, фальклярыст.

115 **Леанід Майкаў** (1839—1900), гісторык расейскай літаратуры.

116 **Іван Жданаў** (1846—1901), расейскі літаратуразнаўца й фальклярыст.

117 **Міхал Халанскі** (1857—1910), расейскі гісторык літаратуры й фальклярыст.

Тэорыя антраполёгічная — рэакцыя на пераймальніцкую тэорыю. Факт адвечнай ізоляванасьці некаторых народаў (афрыканцы, амэрыканцы) пры падобнасьці фольклёру. Легенда пра месяц, які ўкінуў у рэчку сваё дзіця (адлюстровак месяцу ў рэчцы). Аснова — самазараджэньне на грунце падобнасьці першабытнай псыхолёгіі. Прыстасоўваецца, г.[эткім] ч.[ынам] да вывучэньня верваньняў і абраднасьці. Гэта ўжо тэорыя матарыялістычнага характару. Пачалі антраполёгі з вывучэньня фактаў культурных перажываньняў — анімістычная тэорыя. У славянскай фольклёрыстыцы антр.[аполёгічная] т.[эорыя] мала прышчапілася, больш за ўсё — у ангельскай і амэрыканскай, што дасьледуюць прымітыўныя народы.

Ува ўсіх тэорыях адпраўным зьяўляўся факт падобнасьці, і дасьледваньне ішло пры дапамозе концэнтрычных кругоў. Сынтэтычная тэорыя — Труніцын[118], ак.[адэмік] Лабада[119].

Цяпер існуе згуртаваньне фольклёрыстых у Гельсынфорсе. Выданьне краязнаўчых органаў, музэі. Асноўны кірунак — псыхолёгічны, другі — параўн.[альны], прадметны.

16/XI. Тэорыя праф.[эсара] Наўмана — „Der primitiwe germanischen Kult.[ur]“[120]. Два напластаваньні — народны і спушчаная ўніз культура вышэйшых станаў. Празьмерныя дасьледваньні і сумарныя агляды. Мэйер — ,,Deutsche Folkskunde“[121]. Наўман — „Ням.[ецкае] народазн.[аўства] у васноўных рысах“[122].

Быстрань — „Wstęp do ludoznawstwa polskiego“[123] — сумарная характарыстыка фольклёру. Фольклёрнае таварыства ў Ангельшчыне, у Амэрыцы. Францыя — Сабільлё[124] 1) вусная літаратура 2) традыцыйная

[118] Так у рукапісе. Магчыма **Мікалай Трубіцын** (1867—1957), пісьменьнік, фальклярыст.

[119] **Андрэй Лабада** (1871—1931), украінскі фальклярыст, літаратуразнаўца, этнограф, пэдагог, гісторык тэатру.

[120] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Naumann, H. Primitive Gemeinschaftskultur. Beiträge zur Volkskunde und Mythologie. Jena, 1921. — 195 s.

[121] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Meyer, E. Deutsche Volkskunde. Straßburg, 1898. — 362 s.

[122] Маецца наўвеце праца: Naumann, H. Grundzuge der deutschen Volkskunde. Leipzig, 1922. — 158 s.

[123] Гл. зноску 25.

[124] **Поль Сэбіё** (1846—1918), францускі фальклярыст, этнограф, археоляг.

этнографія. Мэтод — прадметны, тэматычны. Польшча — Быстрань[125], Голомбэк[126]. Украіна — „Этнографичний Вістник“. У расійскай фольклёрыстыцы мала сынтэтычных прац (некаторае выключэньне — гэроічны эпос).

Мэтодолёгія фольклёру. — Гістарычна-географічны мэтод фінскае школы — Антыпод. Гэта мэтод параўнальны. Першы момант — зьбіраньне варыянтаў у міжнародным маштабе — географічны. Другі — устанаўленьне рэдакцыі. Трэйці — устанаўленьне першапчатковае рэдакцыі. Чацьверты — гістарычны — распаўсюджаньне і разьвіцьцё, эволюцыя яе.

<Сшытак II>

22/XI. Гістарычна-псыхолёгічны мэтод — высьвятленьне зьяў фольклёру на грунце прымітыўнае псыхолёгіі. У межах СССР найбольш прышчапляецца ў УССР („Первісне громадянство та його пережитки“[127]).

Біялёгічны мэтод (Ван-Гэннэб[128]). Абурэньне супроць гістарызму — за сучасны стан, сувязь з пэўнымі знадворнымі, біялёгічнымі ўмовамі.

Працы расійскіх вучоных над беларускім фольклёры (Весялоўскі, Анічкаў і г. д). Гаспадарны мэтод тут — гіст.[арычна]-культ.[урны], прычым ф.[ольклёрысты]я ішлі лініяю найменшага супраціву — дасьледваньне героічнага эпосу. Адылі і тут — недагаворнасьць, прыкл.[адам] — хронолёгія паўстаньня быліц. Гэроічны эпос лягчэй было дасьл.[едваць] гэткім спосабам, бо быў належны грунт у выглядзе распрацованае гісторыі культуры, чаго нельга сказаць пра іншыя жанры, дзе гэтага няма (прыкл.[адам], распрацованае гісторыі быту). Шырока ўжываецца тут і параўнальны мэтод. Адылі, ён вымагае паглыбленьня — параўн.[аньне] з больш блізкімі народамі. Цяпер параўнальны мэтод набывае характар сынтэтычнасьці ў дачыненьні да вывучэньня і іншых мастацтваў (іконографія [іконотэхніка] — музыка). Задача разгляду фольклёру ў сувязі з літаратураю. Сакулін[129] высунуў думку пра вывучэньне

[125] **Ян Быстрань** (1892—1964), польскі этнограф і сацыёляг.

[126] **Юзаф Галомбак** (1889—1939), польскі славіст.

[127] ***„Первісне громадянство та його пережитки на Україні“*** — навуковы гадавік Культурна-гістарычнай камісіі пры Навукова-дасьледчай катэдры гісторыі Украіны УУАН. Выдаваўся ў 1926—1930 г. Агулам выйшла 8 нумароў.

[128] Так у рукапісе. **Арнольд ван Генэп** (1873—1957), францускі фальклярыст, этнограф.

[129] **Павел Сакулін** (1868—1930), расейскі й савецкі літаратуразнаўца.

нар.[однае] тв.[орчасьці], як літаратуры ніжэйшых соц.[ыяльных] пластоў (прыстасав.[аньне] соцыялёг.[ічнага] мэтоду). Адылі, аг.[ульныя] мэтоды літаратуразнаўства, як, прыкл.[адам], соцыял.[ёгічны], менш распрацованы, чымся паас.[обныя] прыватныя мэтоды фольклёрыстыкі. Піянэрам соц.[ыялёгічнага] мэтоду ў дапасаваньні да фольклёрыстыкі зьяўляецца Келтуяла. Некаторы набытак у дадзенай галіне прадстаўляюць нарысы Ўсевалода Мілера[130] пра эволюцыю вобразу Ільлі Мурамца, паас.[обныя] досьледы пра казку і інш. ~~Дал.[ейшае] разьвіцьцё соц.[ыялёгічнага] мэтоду пач.[ынаецца]~~ Прыстасав.[аньне] соц.[ыялёгічнага] мэт.[оду] у фольклёры: а) соц.[ыяльнае] асяродзьдзе, у якім цяпер бытуець фольк.[лёр] б) адборны соц.[ыяльны] кляс мінуўшчыны. Досьлед ак.[адэміка]Ператца[131] пра „Сл.[ова] аб п.[аходзе] І.[гаравым]“. Форм.[альна]-маст.[ацкі] мэтод у фольклёрыстыцы пачаў быў ужываць яшчэ Потэбня. І тут найбольш ручыла казцы. Мэтод — пункт гледжаньня ці мэтод — сума прыёмаў?

24/XI. <u>Жанры фольклёру</u>. Разгляд у хронолёгічнай паступовасьці: 1) замовы, 2) абрадавая поэзія, 3) бытавая лірыка > [абрадава-бытавая поэзія] 4) прыказкі, пагаворкі, загадкі; 5) казкі, легенды. (6) Духоўныя вершы 7) Нар.[одная] драма).

<u>Замовы</u>: ~~Наводле~~ Пазнанск~~ага~~і[132] ~~— „сл.[оўная] формула, якая мае выстарч.[альнага] і неадбіўн.[ага]~~ дае апісаньне замовы, а не азначэньне яе“. Замова — сл.[оўная] формула, што мае мэтай або выклікаць, або ‘дхіліць тую ці іншую зьяву прыроды, чалавечага жыцьця. У замове 2 бакі: 1) мастацкі 2) утылітарная мэтаімкнёнасьць (галоўны бок). Апошні бок зьвязвае зам.[ову] з абрадамі, пэўнымі дзеямі. Пашырэньне замоў абмяжована, выходзячы з самых уласьцівасьцяй жанру (адмысловасьць). Адсюль — цяжкасьці зьбіраньня. Раманаў — V в. (824 зам.[овы])[133], Шэйн — т. II[134]. Укр.[аінскія] замовы — Ефименко — Ук-

[130] **Усевалад Мілер** (1848—1913), расейскі фальклярыст, этнограф, мовазнаўца й археоляг.

[131] **УладзімерПератц** (1870—1935), украінскі філёляг, гісторык літаратуры.

[132] **Мікалай Пазнанскі** (1888—1952), расейскі пэдагог, доктар пэдагагічных навук, прафэсар.

[133] Гл. зноску 66.

[134] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Шейн, П. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, собранные и приведенные в порядок П. В. Шейном. Т. II. Сказки, анекдоты, легенды, предания, воспоминания, пословицы, загадки, приветствия, пожелания, божба, проклятия, ругань, заговоры, духовные стихи и проч. Санкт-Петербург, 1893. — 715 с.

р.[аинские] заклинания[135], вял.[ікарускія] — Майков — "Вел.[икорусские] загов.[оры] и закл.[инания]"[136], — Виноградов у час.[опісе] „Живая Старина"[137]. Форм.[альны] бок замоў супольны ў розных народаў; адсюль — карэньне іхнае, мабыць, у аг.[ульна]-людзк.[ай] першаб.[ытнай] псыхолёгіі. Напластаваньні ў замовах. Тэорыі паходжаньня замоў. Пэрыяды: 1) данавуковы (да 40-г.[адоў] XIX), 2) навукова-мітолёгічны, 3) навукова-псыхолёгічны (ад ап.[ошняга] дзесяціг.[одзьдзя] XIX.), 4) гіст.[арычна]-культ.[урны]. І частк.[ова] соцыялёгічны Сахаров — „Сказания русского народа" — „Русское чернокнижие"[138]. Папулярызатарска-асьветніцкі кірунак — адмаўленства нар.[однае] творч.[асьці], як забабонных перажыткаў, ас.[абліва] замоў. Ён заўважаў [у] зам.[овах] сьляды сярэдняв.[ечнае] чорнае магіі. Даль — першы крытык гэткага погляду — натуральная аснова замоў („О повериях, суевериях и предрассудках русск.[ого] нар.[ода]"[139]). Адылі, і тут няма станоўчага элемэнту, адно адмоўны; праўда, паставіўшы цэлы шэраг прынцыповых пытаньняў. Распрацоўкаю іх заняліся ўжо мітолёгі. Буслаеў — замовы — орг.[анічная] частка міту, элемэнт, эпізод яго. Адылі, пытаньне асяродзьдзя распаўсюджаньня гэтых мітаў засталося адчыненым — няпэўным. Афанасьеў — рэшткі паганскіх малітваў. Моц замоў — у таўтолёгіі, асяродка — у параўнаньні (маст.[ацкі] эл.[емэнт]). Ор.[эст] Мілер — вера ў моц слова, як грунт замоў (самы тэрмін). Тут — рубеж між міт.[олёгічным] і псых.[олёгічным]. Піянэр у іх — Крушэўскі[140] — пагукваньне, волявы імпульс — 1) вера ў магчымасьць навязаньня чал.[авеку] волі 2) вера ў моц слова. За ім ідзе Потэбня, імкнучыся

---

135 Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Ефименко, П. Сборник малороссийских заклинаний. Москва, 1874. — 70 с.

136 Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Майков, Л. Великорусские заклинания. Санкт-Петербург, 1869. — 164 с.

137 Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Виноградов, Н. Заговоры, обереги, спасительные молитвы и проч. // Живая старина. 1907. Вып. I—IV; 1908. Вып. I, III, IV; 1909. Вып. IV.

138 Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: [Сахаров, И.] Сказания русского народа, собранные И. П. Сахаровым: в 2 ч. Ч. 1: Русское народное чернокнижие. Русские народные игры, загадки, присловья и притчи. Санкт-Петербург, 1885. — 298 с.

139 Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Даль, В. О поверьях, суевериях и предрассудках русского народа. Санкт-Петербург, 1880. — 148 с.

140 **Мікалай Крушэўскі** (1851—1887), польскі й расейскі мовазнаўца, фальклярыст.

ўсьвядоміць замовы на грунце закону прычыннасьці у пераламленьні перш.[абытнае] псыхол.[ёгіі] — асоцыяцыйная прыч.[ыннасьць] — „разам з гэтым > з прычыны гэтага“, „пасьля таго — з прычыны таго“. Самы раньні прыём — параўнаньня. Ветухаў[141] — анімістычнае пах.[оджаньне] замоў, вера ў падвойнікі — аналёгія ў абстрактнае (духі) — уцягненьне чалавечага слова ў сфэру падвойнікаў — эмоцыянальныя эфэкты слова — (падвойнае іменьне)[142].

У з.[аходне]-эур.[опэйскай] нав.[уцы] — Ліві Брюй[143] — закон суўдзелу — паганскі грунт. Мансіка[144] зьвярнуў увагу на хрысьціянскі элемэнт замоў; замовы — выраз хрысьціянскіх мітаў і замоў. — Пазнанскі — магічныя абрады; магічнае дзеяньне — слова, як тлумачальная формула — слова // дзея — слова, за што набывае значаньне магічнае дзеі.

Клясыфікацыя замоў. Аснова — мэтавая ўстаноўка — 1) хваробы [фізыялёгічныя] 2) грамадзкія, 3) унутраныя перажываньні [псыхолёгічныя] — 1) біялёгічныя, 2) соцыяльныя, 3) псыхолёгічныя. 1)// найбольш пашыраныя — ад зубоў, скульля. Замовы-новэлі — ад шалёнага сабакі.

29/XI. 3)// Адваротныя і прываротныя замовы: Адзін дасьл.[едчык] падзяляе песьні на 1) харчавальныя 2) сэксуальныя 3) змагальныя. Гэты-ж падзел можна прыстасаваць і да замоў, ас.[абліва] у моманце 2), якi зьяўляецца цэнтрам псыхолёгічных замоў. Драбнейшыя — ад страху, начніц, крыкс 2)// Працоўны быт на першым пляне, — ~~Судовыя~~ на другім — грамадзкі бок. Замовы пры выгане жывёлы, зямецкія, папарныя.

Поэтыка замоў. Композыцыя — 1) абмаляваньне дзеяньняў, з якімі зьвязана замова [уступ], 2) выраз пажаданьня, мэта 3) параўнаньне дзеяньня, што зьяўл.[яецца] об’ектам жаданьня да зьявы прыроды. 4) звароты да стыхій прыроды, 5) заключэньне — концэнтр.[ацыя] моцы. Часам ёсьць пакарочаныя рэдакцыі, куды ўваходзяць моманты 2 і 5. Жанравасьць — 1) лірычныя зам.[овы] — прывар.[отныя] і адвар.[отныя] 2) эпічныя — новэля (шалёны сабака), 3) драматычна-дыялёгічныя (ад зубоў). Стыль — тэлеолёгічнасьць — 1) багацьце эпітэтаў —

---

[141] **Аляксей Ветухаў** (1869—1942), расейскі філёляг, фальклярыст.

[142] Над радком Адамовічава маргіналія, якая ня мае беспасярэдняга дачыненьня да тэксту лекцый: *сталяны — сталёвы*.

[143] Так у рукапісе. Маецца на ўвазе Люсьен Леві-Бруль.

[144] **Вільё Ёганэс Мансіка** (1884—1947), расейскі й фінскі філёляг, дыялектоляг, фальклярыст.

імкненьне абхапіць усё кола рэальнаг.[а] наўкольн.[ага] быцьця — замовы ад скулы, на выган скаціны. Адсюль-жа і 2) пералічэньне; 3) таўтолёгія — слоўнае нагнятаньне — у сувязі з вераю ў моц слова (чым больш паўтараць, тым мацней), 4) параўнаньне — паводле Потэбні — характэрная адзнака замовы — на грунце сэмільнае магіі, падобнасьць, увязка жаданьня з рэальным сьветам.

Генэзіс замоў. Крыніцы: 1) псыхолёгічная крыніца — старадаўнае думаньне — 2) далёгічнае мысьленьне, даанімізм — вера ў моц слова, параўнаньне, б) анімізм — звароты да духаў і жывых істот (ас.[абліва] 4 пункт комп.[озыцыі]), в) хрысьціянства — об’екты хрысьціянскага культу і рытуалу; выраз дваверʼя, — [але] вытокі замоў яшчэ ў дарэлігійным пэрыядзе.

Уступ у большасьці хрысьціянскі, 2—3 — магічны, 4 — анімізм, 5 — магізм. Замовы грунтуюцца на натуральнай гаспадарцы — бездап.[аможнасьць] перад прыродаю, — зьявы аграрнае магіі 2) гіст.[арычна]-культ.[урная] і літарат.[урная] — замова супроць трасцы — акадсцкая легенда пра цара Сісінія і ягоных дачок падобнасьць да асыро-бабілёнскіх замоў (Усев.[алод] Мілер — „Асс.[иро]-вав.[илонские] закл.[инания] и русские заговоры[145] ).

Абрадавая паэзія. Абрадавасьць — пункт увязкі гэтага жанру з папярэднім. Соцялёг.[ічная] і літар.[атурна]-гіст.[арычная] — каляндарн.[асьць], гіст.[арычна]-культ.[урная], форм.[альна]-мастацкая — сынкрэтызм. Падзел на 1) календарныя абрады і 2) сямейныя. Досьледы пра народны каляндар. Сям.[ейныя] абрады адзін францускі дасьледчык назваў абрадамі пераходу з аднаго стану ў другі. Калянд.[арныя]: 1) Каляды 2) вясна 3) лета. 1) — Ражство, Вадохрышча, Масьлянка, 2) загуканьне — Рус.[альны] тыдзень 3) Купальле, ~~зажынкі~~ жніво Сям.[ейныя] — 1) нараджэньне 2) вясельле 3) хаўтуры. Шэйн — т. I[146] , Раманаў — вып. I, II, VIII (абр.[ады])[147] , Рачковский — „Быт з.[ападно]-

[145] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Миллер, В. Ассирийские заклинания и русские народные заговоры // Русская мысль. Москва, 1896. Год 17. Кн. VII. С. 66—89.

[146] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, собранные и приведенные в порядок П. В. Шейном. Т. I. Ч. 1. Бытовая и семейная жизнь белорусса в обрядах и песнях. СПб., 1887. — 585 с.

[147] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Романов, Е. Белорусский сборник. Вып. 1—2: Песни, пословицы, загадки. Киев, 1885; Вып. 8—9: Быт белоруса. Опыт словаря условных языков Белоруссии. Вильна, 1912.

русск.[ого] селянина“[148], Добровольский, З. Радченко, Никифор.[овский] „Житье-бытье Витебской Белоруссии“, „Поверья“[149] і г. д., Federowski — т. I[150], Шлюбскі, (Гарэцкі?) — Карскі (апісаньне), Кагаров — „Религия древних славян“, Zelenin — „Die Russische (ost-slavische) Folkskunde“[151].

2/XII. Калядны цыкль. Абрады: 1) куцьця 2) новы год — 3) вадохрышча.

Калядкі і шчадроўкі. Мотывы: а) соц.[ыяльна]-бытавыя, 2) гістарычныя, в) эпічныя, балядныя, 2) хрысьціянскія.

А// Аграрныя мотывы — гаспадарка, — багацьце, вялікі ўраджай, вобразы ідэальныя гаспадара і гаспадыні — вялічаньне (Рэальна-бытавыя мотывы). Б// пар.[аўнальны] мом.[ант] — турэцкі палон. Г. — Легенды ад нараджэньня Хрыста да Гольготы.

Стаяць асобна — харомы гаспадара, абмаляваньне чальцоў сям'і, адлюстраваньне нерэальнага, увабражальнага.

Мітолёгі (Афанасьев, Потэбня) бачылі ў Калядах рэшткі сонечных дзей, сонечнага міту. Пераймальнікі — Весялоўскі — „Слав.[янские], греч.[еские] и рум.[ынские] колядки“ („Раз.[ыскания] в обл.[асти] русск.[ого] дух.[овного] стиха“[152]) — запазычаньне ад антычнасьці. Антрополёгі — Каробка[153] — на грунце самазарадж.[эньня]. Зеленін адмаўляецца ад солярнае тэорыі — кола, як найбольш прыгодны гару-

[148] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Крачковский, Ю. Быт западно-русского селянина. Москва, 1874.— 212 с.

[149] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Никифоровский, Н. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности. (Этнографические данные). Витебск, 1895. — 552 с.; Никифоровский, Н. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897. — 344 с.

[150] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Federowski, M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materyały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877—1905. T. I. Wiara, wierzenia i przesądy z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki. Kraków, 1897.

[151] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Zelenin, D. Russische (ostslavische) Volkskunde. Leipzig, 1927. — 424 s.

[152] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Веселовский, А. Н. Румынские, славянские и греческие коляды // Веселовский, А. Н. Разыскания в области русского духовного стиха. Т. III—V. (Приложение к XL т. Зап. Имп. ак. наук). Санкт-Петербург, 1881.

[153] **Мікалай Каробка** (1872—1920), расейскі літаратурны крытык.

шчы матэрыял, а ня сымболь Сонца. Крыніцы: 1) гаспадарчая сэзонавасьць [эканамічная], 2) шлюбная сэзонавасьць [біялёгічная], 3) культ прадзедаў [псыхолёгічная (анімізм)]. Клінгер „Obrzędowość ludowa Bożego Narodzenia“[154] — культ прадзедаў. Пласты: а) магічныя дзеі, б) тотэмізм. А: 1) спосаб перадачы магічнае сілы праз тыя ці іншыя прадметы, 2) магія падобнасьці, 3) лікавая, 4) магія адхіленьня, абароны. 1) — куцьця, сена, салома, жытні сноп 2) больш шырока — іголка з даўгой ніткай // лён, гразная кашуля // [чорная] грэчка, аладкі // цяляткі гладкі. Драмат.[ычныя] сцэны — Шчодра, 3) — 3 р.[азы] абыходзяць, 3 р.[азы] гаспадар стукае и пытае, 7, 9, 12, 4) — круг — абруч, запісваньне каляды Б: абыход, з мядзьведзем, часткова каза.

Культ прадзедаў — куцьця (Карскі — ахвяра духам). Гістарычныя напластаваньні — хрысьціянскія (сена, крыж, як сымболь адхіленьня), дружынныя. Каляды — calendae — коляды.

<u>Русальны тыдзень</u>. Адны дасьледчыкі глядзелі на русалак, як на вадзяных духаў, другія (Весялоўскі) — рэшткі культу прадзедаў (душы нехрышчоных, самагубцаў), трэйція (Благой Ангел) — комбінацыйны вобраз. Русальныя дзеі — модэлі, вянкі. (Мітолёгі — сымболь сонца, антычнае карэньне, увязка з ратайскай працай), кумаваньне (сувязь з прыродай, рэшткі сэзонных шлюбаў [— прыняцьце ў род], прыёмы магічных дзей). Русальныя песьні. Об’ект — мітолёгічная постаць русалкі. Тэма — каханьне. Імкненьне забясьпечыць гасп.[адарчы] дабрабыт — асноўнае ўва ўсіх разгляданых абрадах і песьнях. Нагата, як магічны прыём. Карагоды — прыём вэгетацыйнае магіі. Песьня ўсьведамляе карагод, як аграрны прыём.

<u>Радаўніца</u>. 8/XII. Фоминцин — „Божество древних славян“[155] — вясн.[овы] абр.[ад] на грунце міту пра Дэмэтру і Пэрсыфону (успамін пра дзяўчыну, яе шуканьне і г. д.). Аничков „Вес.[енняя] обр.[ядовая] песня на Зап.[аде] и у славян“[156]. Весн.[авы] абр.[ад] у сьвятле фальклёрных паралеляў, адылі не абмяжоўваецца адным параўн.[альным] мэтодам, а імкнецца прыстасаваць і соцыял.[ёгічны] падыход — аграрная аснова (пав.[одле] Фрэзэра[157]). Гастон Парыс і прыст.[асаваньне]

[154] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Obrzędowość ludowa Bożego Narodzenia, jej początek i znaczenie pierwotne. Poznań, 1926. — 89 s.

[155] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Фаминцын, А. Божества древних славян. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1884. — 332 с.

[156] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Аничков, Е. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян. В 2-х ч. Санкт-Петербург, 1903—1905.

[157] **Джэймс Джордж Фрэзэр** (1854—1941), ангельскі антраполяг, этноляг, культуроляг, фалькларыст і гісторык рэлігіі.

яго Анічкавым. Ня гледзячы на ідэяліст.[ычны] налёт, Анічкаў усё-ж першы ўва усх.[одне]-слав.[янскім] фольклёры выставіў прынцып сэзоннасьці.

Купальле. У васяродку — вогнішча. Кола (барана, [караністы сноп]). Кумаваньне. Вянкі, (Каструбонька і Марэна — лялька — укр.[аінцы]). Эротычны характар. Звычай пачацьця ў жыце. — Росквіт прыроды — граньне сонца, размаўляньне жывёлы і магчымасьць падслухаць яе чалавеку, кветка-папараць, шуканьне скарбаў, ведзьмы і чараўнікі — адбіраньне малака > грамнічная сьвечка, — раскопваньне мурашніку. — Купальле — агульна-эўропэйскае сьвяткаваньне. — Потэбня — „О куп.[альских] огнях и сродных с ними представлениях“[158], Фоминцин — „Богиня весны и смерти“[159]. Аничков — куп.[альскія] агні — ачышчальны спосаб (думка Фрэзэра). Зеленін[160] — качаньне па зямлі, — аграрная аснова і шлюбная сэзонавасьць, кола — найбольш годны гарушчы матарыял. Карскі — агні — гатаваньне страў і асьвятленьне. Веселовский — „Гетеризм, побратимство и кумовство в куп.[альской] обр.[ядности]“[161] — радавыя сьляды. „Купальле“ — „Cupio“ (нашае жаданьне). „Cupido“ — назоў старадаўняга бога каханьня (Густынскі летапіс[162]). Кастамараў[163] — сынонім „Ксьціцель“. 1) соц.[ыяльны] эл.[емэнт] 2) гіст.[арычна]-культ.[урны]. Агр.[арная] аснова — вогнішча — заклінаньне сонца — імкненьне падтрымаць яго моц, прыём сэмільнай магіі. Скокі — магічны спосаб, скаканьне ўгору, праз вогнішча — магія вышыні — спосаб выклікаць высокі рост збожжа. Гіст.[арычна]-культ.[урны] — шлюбная сэзонавасьць (эротыка), моманты радавога быту (супольныя воз.[легания]). Кумав.[аньне] — раптоўнае радзтво, як сурогат сапраўднага. Дуалізм у паглядах на прыроду (доб-

---

[158] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Потебня, А. О купальских огнях и сродных с ними представлениях // Древности: Археол. вестник, изд. Моск. археол. о-вом. Москва, 1867. Май—июнь. С. 97—106.

[159] Поўнае дакладнае бібліяграфічнае апісаньне: Фаминцын, А. Богиня весны и смерти в песнях и обрядах славян // Вестник Европы. 1895. №6. С. 675—699; № 7. С. 134—154.

[160] **Дзьмітры Зяленін** (1878—1954), расейскі й савецкі этнограф.

[161] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Веселовский, А. Гетеризм, побратимство и кумовство в купальской обрядности // Журнал Министерства Народного Просвещения. Седьмое десятилетие. Ч. CCXCI. 1894. — 35 с.

[162] Летапіс зборнае рэдакцыі пачатку XVII ст. (ад с. Густыня, Чарнігаўшчына).

[163] **Мікалай Кастамараў** (1817—1885), расейскі грамадзкі дзеяч, гісторык, публіцыст і паэт.

рыя і злыя сілы). Папараць — легенда пра Промэтэя (птушка). Лялькі — для расьціннасьці, што забіваўся ў момант росквіту, каб мог перанесьці ў іншыя рэчы ня ў стане друзласьці, а ў стане красаваньня (Фрэзэр). — У песьнях найбольш пашыраны эротычныя мотывы, часам у чыста-легендарнай ахварбоўцы (брат і сястра — браткі), шлюбныя мотывы — вялічаньне, гумар.[ыстычныя] песьні — найграваньне; мом.[анты] з гісторыі сям'і і шлюбу.

13/XII. Зажынкі й дажынкі. Талака і зьвязаныя з ёю песьні — першы від працоўных песень. Другі від — разгляданыя. — Абрус, ношка, прывітаньне ніўцы, зажынаньне старэйшымі ці мужчынамі (горада; каб ня мокрае жніво). Дажынкі — апошні сноп, пакіданьне казловае барады, націсканьне яе хлебам ці каменем, качаньне навакол яе. Карскі збліжае з каляднаю казою і з духам нівы (ахвяра яму), — на аснове тэорыі Мангарта[164]. Зеленін — магічны прыём высяваньня на налецьце; націсканьне — прыём сэмільнай магіі, паліваньне вадою — заклінаньне дажджу, завіваньне вянкоў і г. д. Аснова — ратайская магія, крышку і анімізм. Песьні: 1) соц.[ыяльна]-быт.[авы] зьмест 2) прыродаап.[ісаньне] 3) паас.[обныя] мотывы, — 2) увасабленьне жыта. 3) спарыш, рой (бог нівы — Шэйн, „Юр'я" — Фомінцын, — Каравай — Потэбня).

Сямейныя абрады. Разьвіцьцё сям'і — гэтэрызм, эндогамія (шлюбы ў сярэдзіне аднаго роду) і экзогамія (па-за родам), матрыярхат і патрыярхат. — Нараджэньне — погляды на цяжарных — духі добрыя і злыя, ахоўваюць іх, не глядзець на вагонь, на калек. Разьвязваньне вузлоў і расшпільваньне, расчыненьне царскіх дзьвярэй. Кувадла — выседжваньне. Хрэсьбіны. Падзел кашы — ахвяра хатнім багом бяз моладзі. Песьні кум і кума // муж і жонка, доля дзіцяці (абарона выш.[эйшых] сіл) і па-за ёю[165]. Дні і гадзіны. Зорнае неба — зоркі // чалав.[ечыя] душы. Вясельле. Сватаньне, змовіны, заручыны, дзявочнік, вянец, пасьля вянца.

15/XII. Пасад, слупавая песьня, пострыгі, расплёт касы. Штучныя перашкоды поезду. Царква — каберац, сьвечкі. Сустрэча маладых — кажух, хлеб-соль, зерне. Пасад — насьледав.[аньне] княжацкіх звычаяў удз.[ельнага] часу. Эпітэты і назовы з княжацкага абыходку (Карскі — ідэял — княж.[ацкае] жыцьцё). Пострыгі — юрыд.[ычны] акт сьпе-

[164] **Вільгэльм Мангарт** (1831—1880), нямецкі філёляг, этнограф.

[165] Над радком — пытальнікі.

ласьці („з хлапецкага стану ў мужчынскую славу“) — пасьвячэньне вышэйшым сілам. Перашкоды — умыканьне, тое-ж — змаганьне падчас выкупу касы. Слупавая песьня — культ прадзедаў — ахвяра хатнім багом. Кажух — магічная дзея. Зерне — ратайск.[ая] магія. Мёд — улюблёная ‘хвяра багом, ці — узмацненьне організму („мядовы месяц“). Фата — мітолёгі — хмары, што закрываюць сонца, Шрадэр[166] — умыканьне, Доўнар-Запольскі[167] — культ фаллоса. Пасьля вянца — звычай цэнзуры абычайнасьці (устанаўленьне цноты) — радавы быт, Зеленін — магічная ‘снова (песьня з Сураскага павету; цнота — магічны спосаб, які спрыяе гасп.[адарчаму] дабрабыту). Песьні — а) міт.[алягічна]-гіст.[арычна]-культ.[урныя], б) рэальна-бытавыя, в) псыхол.[ёгічныя], г) гумарыст.[ычныя] — а) пар.[аўнаньне] з ястрабам і шэрай вуціцай, прыезд сватоў // налёт хіжацкіх птухаў (коршуны), пусканьне каляное стралы. Песьні пінчукоў, песьні выкупу касы; ідэялізацыя маладых, б) пасьля царквы — дзякаваньне за танны шлюб, вялічаньне — гаспадары, в) перажываньні маладое — ростань, песьні дзявочніку, аплакваньне долі сіраты, г) кпінкі з сватоў і іншага пэрсоналю. Форма — сымболічны і псыхолёгічны паралелізм. С[ымболік]а — з імкненьня выявіць дачыненьні маладых, с[ымбол]і з сьвету прыроды — расьцін.[нага] і жывёльн.[ага], радзей — з астрономічнага сьвету (праца Зямкевіча[168]) — Ак.[адэмік] Весялоўскі — „вясельле — вольная містэрыя“ [шырыня]. — Працы пра вясельле — Сумцов — „О свадебных обрядах“[169], Д.[оўнар]-Запольскі — „Бел.[орусская] свадьба“[170], Р. Земкевич — Сумцоў — падвойнасьць — нар.[одныя] абрады з стара-славянскага адзінага быту (гіст.[арычна]-культ.[урны]), — запазычаньні з антычнага (ас.[абліва] рымскага) рытуалу — 19 пунктаў дотыку — нацяжкі (частаваньне) — Д.[оўнар]-Запольскі — гіст.[арычна]-культ.[урны] і пар.[аўнальны] мэтод — гісторыя сям’і, паралелі, дужа разгорнутыя — каравай // ант.[ычнасьць] Зеленін — уплыў 3-х фактараў — 1) перажыткі даўнай пары шлюбу 2) запазыч.[аныя] з антычнасьці моманты

166 **Ота Шрадэр** (1855—1919), нямецкі філёляг.

167 **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867—1934), этнограф, гісторык, фальклярыст і літаратуразнаўца.

168 Так у рукапісе. Маецца на ўвазе **Рамуальд Зянкевіч** (1811—1868), беларускі фальклярыст, этнограф, археоляг, краязнаўца й пэдагог.

169 Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Сумцов, Н. О свадебных обрядах, преимущественно русских. Харьков, 1881. — 218 с.

170 Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Довнар-Запольский, М. Белорусская свадьба и свадебные песни: Этнографический очерк. Киев, 1888. — 38 с.

(праз Бізантыю — каравай, дрэва, абход навокал яго), 3) прыстасаваньне папярэдніх момантаў да рэальна-бытавых умоў жыцьця, вялікарусы праяўляюць тут найбольш практыцызму і рацыяналізму. Пласты: — 1) далёгічны — магічны, 2) гіст.[арычна]-культ.[урныя] водгукі гісторыі сям'і. Гетэрызм — абрадавыя скокі з кожным, хапаньне за руку — адзнака ўласнасьці. Матрыярхат — роля брата. Умыканьне (найшырэй) — позны прыход сватоў, дружына і яе трыманьне на заручынах, перашкоды, фата, вянкі, сымболі ў песьнях. Купляньне — продаж — формулы сватаньня, куніцы, продаж касы, выкуп маладое, песьні. Дабрахвотная згода (найвузей) — моманты песень 3) анімізм — культ прадзедаў — умыканьне маладое пад час сватаньня (печ, калупаньне), слупавая песьня, пострыгі. — Сынкрэтызм — драма — змаганьне, як элемэнт інтрыгі (дзея і контр-дзея паводле Волькенштэйна[171]), тэатральная бутафорыя (каравай), рэквізыт (ручнік, вянкі, фата), дыялёг у гаворках і песьнях, драматызацыя ў песьнях (доля сіраты).

Хаўтуры. Пры агоніі — сьвечкі, адчыняньне адтулін, шклянка з вадой. Дамавіна — майстраваньне, падушка, рэчы, націсканьне павек грашмі, грошы ў магілу. Дачыненьне да каня, кіданьне зямлі, рукі да печы пры прыходзе назад, вячэра[172]. Агонія на саломе ці кажусе, нельга з пер'я, калі агонія доўга — чалавек злы, нядо[б]рае жыцьцё; ламаньне вільчака, дзірка ў сьцяне. Труна, цьвікі. Ачышчаньне хаты. Адылі — усё гэта варыяцыі. Пласты — маг.[ічныя] дзеяньні — паліваньне вадою, звычай разьвітаньня з жывёлай, круг, біялёгічныя — страх смерці — вынас дамавіны, выхад цяжарных, культ продкаў — сьвечкі [хрысьціянскія] — трупаспаленьне — прадстаўленьне аб душы, як агнёвай стыхіі, шклянка вады, рушнік, адчыненьне адтулін — матар'ял.[льнае] уяўленьне душы, уяўленьне пра той сьвет — рэчы [і грошы] ў дамавіну, — выкуп, вопратка, кіпці. Прычытаньні — заплачкі. Старадаўнасьць. Профэсыяналізм. Цяжкасьць запісу — Шэйн, Раманаў — рас.[ійцы] — Барсаў — „Причитания северного края“[173]. Мотывы — 1) бытавыя, 2) сацыяльныя, 3) псыхолёгічныя — а) ідэёвыя і б) эмоцыянальныя, 4) мо-

---

[171] **Уладзімер Валькенштэйн** (1893—1974), расейскі паэт, драматург, тэатральны крытык і сцэнарыст.

[172] Над радком — маргіналія, якая ня мае беспасярэдняга дачыненьня да тэксту лекцый: *з 28-га*.

[173] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: [Барсов, Е.] Причитания Северного края, собранные Е. В. Барсовым. Ч. 1—2. Москва, 1872—1882; Ч. 3, ЧОИДР, 1885. Кн. 3. Отд. II. С. 1—160; Кн. 4. Отд. II. С. 161—256.

тывы рэальнага жыцьця — ратайская праца, нявестка па сьвякрусе — адмоўныя мотывы, 2) норавы прыгоннай працы 3а) — пагляды на душу, замагільнае існаваньне, народная мітолёгія, ашчуповыя ўяўленьні пра душу, — вырай, дамавіна, б) — адценьні смутку. Тоны прычытаньня — самы эмоцыянальны жанр. Форма — багацьце эпітэталёгіі — перавага памяншальных і пяшчотных, багатая сымболіка — сьмерць — вясельле — жніво; удава — зязюля. [Э]моцыянальная насычанасьць. Абр[адавая] поэзія. Цэнтральнасьць яе ў фольклёры (як у расійцаў былявы эпос). Соцыялёгічнае знач.[аньне] (праца Нідэрле[174] ). Лавецтва, жывёлагадоўля і ратайства. У магіі ўсё гэта — жывёлагадоўля больш за ратайства.

Бытавая лірыка. Цэнтр.[альная] тэма — доля жанкі. Каханьне — цэнтральная псыхолёгічная тэма.

Weisrussische Folkskunde.
Беларускі фольклёр.

*рэзіньяцыя*[175] .

25/XII. Дзявочае жыцьцё ў сьветлых танох. У цэнтры — каханьне. Тон — аж да трагічнага патосу. Доля замужкі — прычыны — заўчасны шлюб, няроўнасьць, узросту, тэма адюльтэру — жаноцкай зрады, мужыкова п’янства, мотыў чужбіны, ~~краіны~~, суб’ект.[ыўныя] прычыны — п’янства, кокецтва. Рады з бацькамі. Рэкруцкія песьні — несправядлівасьць, праводзіны. Задушэўнасьць. Мужчына, як муж — сем’янін — об’ектывізм. Песьні з соц.[ыяльным] зьместам — аканом, эмоц.[ыянальная] ахварбоўка. Адчайныя настроі — калыханкі, некат.[орыя] — наяўн.[асьць] рэвол.[юцыйных] эмоцый.

Жанравыя зарысоўкі (ас.[абліва] сямейнага быту) — быт. Соц.[ыяльныя] мотывы. Псыхолёгічныя — навакол эмоцыі каханьня, эмоцыі суму (салд.[ацкія] песьні — пераажыв.[аньні] жанчыны), бадзёрасьць.

Гумарыстычныя песьні. Бэрсон[176] — проблема сьмеху, як рэакцыі жыцьця на ўсё інэртнае. Жыцьцё — быт — дзейныя асобы — птушкі.

Гіст.[арычны] эпос — расклад. Прыпеўкі — продукт раскладаньня лір.[ычнае] песьні, надзённасьць. Тэматыка — сувязь з старымі песьнямі — тэма каханьня, прыгону (аканом). Поэтыка — сувязь з музыкаю (гармонік).

---

[174] **Любар Нідэрле** (1865—1944), чэскі археоляг, этнограф і гісторык-славіст.

[175] Ад лац. *resignatio* ‘зьнішчэньне’. Замірэньне з лёсам, пакора, нечыненьне.

[176] Так у рукапісе. **Анры Бэргсан** (1859—1941), францускі філёзаф, псыхоляг, пісьменьнік.

Народная баляда. Тэма — злая сьвякруха. „Сын Даніла“, атручаньне нявесткі і сына, разбойнік — муж, брат і сястра — быліна пра Алёшу Паповіча. Генэтыка баляды — вандроўныя мотывы найбольш. Поэтыка — сьцісласьць зьместу, лірызм — перапынкі і прорвы ў разьвіцьці сюжэту [лірычны беспарадак], дыялёг часам.

27/XII. Казка. Тэрмінолёгія — байка, басьня — навейшы тэрмін — казка: О.[рэст] Мілер — лірычныя, жывёльныя, былінныя, сатырычныя і г. д. Марозаў[177] — наяўн.[асьць] чудоўнага элем.[энту] — міт.[олёгічныя], бытав.[ыя], пра нябожчыкаў і жывёльныя. Тое-ж і Порфір'еў[178]. У пар.[аўнаньні] да быліны казка розьніцца формальна, у пар.[аўнаньні] да легенды (lego — чытаю) — царк.[оўна]-рэліг.[ійны] характар, у пар.[аўнаньні] да сагі (ад „sagen“) — дапасаваньне да месца, народу і асобы — гіст.[арычная] і геогр.[афічная] акрэсьленасьць, да анэкдоту (ἀνέκδοτον — ня выданае) — эл.[емэнт] комічнага, гумару і амаральносьць, кароткасьць.

Казка — азн.[ачэньне] Сумцовага — слоўныя творы апав.[ядальнага] характ[ару], створаныя ў мэтах дыд.[актычных], забавы, або бяз мэт, як выраз нар.[однае] патрэбы літ.[аратурнае], Галаваскага[179] — уплываньне на фантазыю [мэта], выдуманасьць падзей, ~~або~~ якая дзівіць непраўдападобнасьцю ці комізмам. Багацьце зьместам. Зьбіраньне казкі — Баршчэўскі, Глінскі[180], Шпілеўскі[181], экспэдыцыя Чубінскага і Максімовіча[182] (Украіна і Беларусь), Раманаў — III в. (151 к.[азка]), IV в., VI в. (57)[183], Дабравольскі, Шэйн — II т., Нікіфароўскі — Jan Karłowicz

[177] **Мікалай Марозаў** (1854—1946), расейскі рэвалюцыянэр-народнік, вучоны-энцыякляпэдыст.

[178] **Іван Парфір'еў** (1823—1890), расейскі гісторык літаратуры.

[179] Так у рукапісе. **Якаў Галавацкі** (1814—1888), украінскі лінгвіст, этнограф, фальклярыст, гісторык, паэт, пэдагог, грамадзкі дзеяч.

[180] **Антоні Глінскі** (1817—1866) — польскі байкапісца.

[181] **Павал Шпілеўскі** (1823—1861), этнограф, фальклярыст, празаік, драматург, публіцыст, тэатральны крытык.

[182] **Павал Чубінскі** (1839—1884), украінскі этноляг, фальклярыст, паэт, грамадзкі дзеяч; **Сяргей Максімаў** (1831—1901), расейскі пісьменьнік, этнограф.

[183] Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Романов, Е. Белорусский сборник. Вып. 3: Сказки. Витебск, 1887. — 443 с.; Вып. 4: Сказки космогонические и культурные. Витебск, 1891. — 220 с.; Вып. 6: Сказки. Могилев, 1901. — 527 с.

(84) — Zbiór Wiadomości, t. XI—XII[184]., Wł.[adysław] Weryha[185] (33 к.[азкі]) — фолькл.[ёрныя] паралелі, Klich[186] (60) — Federowski — Сержпутоўскі. Крыніцы казкі — мітолёгі — разгарненьне міту, запазычнікі — невядомае паходжаньне, антрополёгі. Адмыслова — казачныя тэорыі — гіст.[арычна]-геагр.[афічная] фінская школа. Вундт[187] — спроба першаб.[ытнага] чалавека адказаць на філёз.[офскія] пыт.[аньні], Лейен[188] — гіпнотычная тэорыя, Фройд[189] — сэксуальная тэорыя — эрот[ычная] фантазыя, форм.[альна]-мастацкі кірунак. Казачная камісыя ў Ленінградзе — спосаб Антыарнэ[190], працы Волкавага і Проппа[191].

Асоба казачніка — Дынько[192], Сакалоў Ю. М.

Клясыфікацыя — мітолёгі — лірычныя, бытавыя, жывёльныя і легенды. Вундт — мітолёгічныя, казкі-байкі, жывёльныя, біялёгічныя, жартаўлівыя. Найб.[ольш] папулярная сыстэма Антааарнэ: жывёльныя, уласна-казкі (фантаст.[ычныя]), казкі-анэкдоты, пра дурнога чорта, разгалінаваныя да падгруп і прадметаў, якія занумэрованы. — Фант.[астычныя] казкі (чароўныя, як рознавід — жывёльныя), бытавыя (новэлі) і легенды.

<u>Поэтыка</u> — традыцыя і індывідуальнасьць. Асн.[оўныя] мэтоды — сьмешнасьць — дынаміка.

<u>Фантастычныя</u> — фант.[астычныя] пэрсонажы — (+ жывёліны і неаж.[ыўленыя] прадметы) і дзеяньні (перакідніцтва). Крыніцы — соц.[ыяльна]-быт.[авая], асоцыяцыя паводле процілежнасьці (адхі-

---

184 Поўнае бібліяграфічнае апісаньне: Karłowicz, J. Podania i bajki, zebrane na Litwie // Zbior wiadomosci do antropologii krajowej. Wydawany staraniem Komisyi antropologicznoj Akademii Umiejetnosci w Krakowie, 1887—1888. T. XI—XII.

185 **Уладыслаў Вярыга** (1868—1916), філёзаф, этнограф, зьбіральнік беларускага фальклёру.

186 **Эдвард Кліх** (1878—1939), польскі славіст.

187 **Вільгэльм Вунт** (1832—1920), нямецкі мэдык, фізыёляг і псыхоляг.

188 **Фрыдрых фон дэр Леен** (1873—1966), нямецкі філёляг, фальклярыст.

189 **Зыгмунд Фройд** (1856—1939), аўстрыйскі псыхоляг, псыхіятар і нэўроляг, заснавальнік псыхааналізу.

190 Так у рукапісе. **Анці Аматус Аарнэ** (1867—1925), фінскі дасьледнік фальклёру, сыстэматызатар сюжэтаў.

191 **Раман Волкаў** (1885—1959), расейскі савецкі літаратуразнаўца; **Уладзімер Проп** (1895—1970), расейскі й савецкі вучоны, філёляг-фальклярыст.

192 Асоба ня высьветлена.

леньне ад будзённасьці). Лейен — казкі пра зданьні. Літ.[аратурныя] крыніцы — Б[аршчэўскі].

Жывёльныя — хітры ліс, мядзьведзь, воўк — непасярэднасьць (як людзі), адсутн.[асьць] дыдактызму.

Соц.[ыяльна]-быт.[авыя] — прыгон, — духоўнікі.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Вячаслава Мартысюка й Ціхана Чарнякевіча*

***Яўгенія Гальперына***

# МЭТОДАЛЁГІЯ[1] (канспэкт лекцыяў, зроблены Антонам Адамовічам)

### Структура мастацкага твору

1. Як праяўляюцца розныя разуменьні суб'екту і об'екту ў разуменьні структуры мастацкага твору?

2. Паняцьце сытуацыі. Сытуацыя, як стасунак клясавых сіл; Сытуацыя, як растаноўка пэрсонажаў. Гістарычныя зьмены сытуацыі ў розных стылях. Як праяўляецца сытуацыя ў заняпадных стылях. Як клясавы конфлікт праяўляецца ў лірыцы, у фантастычных творах. Ці могуць жыць пазагістарычныя законы пабудовы мастацкіх твораў.

3. Паняцьце сюжэту. Сюжэт, як сытуацыя ў дынаміцы. Тры моманты сюжэту, як выражэньне клясавага конфлікту. Ці заўсёды сюжэт дае клясавы конфлікт у аголеным выглядзе, і ў якіх іншых формах. У якіх стылях сюжэт, як конфлікт, пераносіцца ў псыхолёгічны плян. Ці супадае разьвіцьцё сюжэту з разьвіцьцём асноўнага пэрсонажу заўсёды, ці ў некаторых стылях, і ў якіх.

4. Паняцьце фабулі. Як сюжэт праяўляецца ў фабуле. Фабуля і выпадковае ў творы. Ці можна казаць у дачыненьні да цэлага клясавага стылю пра ягоную сюжэтыку — і пра ягоную фабулю. Якое месца займае сюжэт у сыстэме Пераверзевага[2] і нашай. Якое месца займае фабуля.

5. Які стасунак паміж сыстэмай пэрсонажаў, сытуацыяй і сюжэтам. Што з іх вызначальнае?

---

[1] Дапісана збоку „дамскага шчасьця". Відавочна, тут адсылка да апошніх запісаў у канспэкце, дзе Яўгенія Гальперына надыктоўвала назвы раманаў Эміля Заля, сярод якіх — „Дамскае шчасьце".

[2] **Валяр'ян Пераверзеў** (1882—1968), рускі філёляг, адзін з заснавальнікаў сацыялягічнай плыні ў расейскай тэорыі літаратуры.

6. Проблема ідэі. Якія асноўныя разуменьні ідэі твору. Як разумее ідэю Пераверзеў. Даць крытыку яго. Ці можна разумець ідэю, як ідэялёгію пэрсонажаў, у сатырычных творах. Ці можна пад ідэяй разумець сьвядомую ацэнку мастаком сваіх пэрсонажаў. Ці заўсёды ідэя твору усьвядомлена мастаком. Як разумее ідэю Шчукін („Под Зн.[аменем] Маркс.[изма]“, № 1—30). Чаму нельга разумець ідэю, як абстрактную ідэю, выражаную ў паняцьцях. Ці ёсьць тыя нечым, што ўносіць крытык або пісьменьнік, ці яна палягае ў самым творы. Ці даецца ідэя твору ў простым аголеным выглядзе. Ці можа яна так давацца, у якіх творах. Як правільна азначыць ідэю, крытыкуючы і Пераверзева, і Шчукінага. Як праяўляецца ідэя ў сытуацыі, у сюжэце, у разьвязцы яго.

Беспалов — Стиль, как закономерность (р. VIII, V і VI)[3].

22/V. Кoмпозыцыя і компонэнты. Зьліцьцё проблемы композыцыі з пробл.[емай] рэчай, пэйзажаў (Перав.[ерзеў], Пасп.[елаў][4], Беспал.[аў]). Композ.[ыцыя] — спосаб, якім уводзяцца гэтыя рэчы ў вобраз („Стыль, як композыц. прынцып“ — Бесп.[алаў]). Адылі, хоць не патрэбна толькі для разгортаньня пэрсонажу, а зьяўл.[яецца] толькі часткаю рэпродукцыі рэчаіснасьці. Гістарычна ўсё-ж заўважаецца панаваньне пэрсонажаў — стылі, дзе пануюць прырода ці рэчы ўзглядна рэдкія. Композыц.[ыя], як разгортаньне сюжэту, спосаб увядзеньня розных компонэнтаў у сыстэму разгортаньня сюжэту. Аднясеньне композыцыі да сьветаадчуваньня, настраёвасьці дадзенае клясавае групы

---

[3] **Іван Бяспалаў** (1900—1937), расейскі журналіст, літаратуразнаўца. У другой палове 1920-х намесьнік дырэктара Інстытуту чырвонай прафэсуры, у 1929—1931 гг. — намесьнік рэдактара часопісу „Печать и революция“, рэдактар часопісу „Красная новь“. Выказваў ідэі, сугучныя школе Пераверзева. Ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў. Маецца на ўвазе праца: Беспалов, И. Стиль как закономерность. (Методическое введение в литературный анализ) // Литература и марксизм. 1929. Кн. III. С. 3—65. Разьдзелы працы: *„Стиль как целое. — Стиль как общественное отношение. — Стиль как объективированное сознание. — Стиль. как противоречие. — Стиль как стержневой образ. — Стиль как логика образов. — Стиль как композиционный принцип. — Стиль как сюжет. — Стиль как словесная система“.*

[4] **Генадзь Пасьпелаў** (1899—1992), расейскі літаратуразнаўца, тэарэтык літаратуры, аднакурсьнік Яўгеніі Гальперынай па факультэце грамадзкіх навук Маскоўскага ўнівэрсытэту й асьпірантуры Інстытуту мовы й літаратуры. Вучань Валяр’яна Пераверзева.

(Пасьпелаў) — пэйзаж, рэч як момант пэрсонажу. Пэйзаж ці рэч — клясавая рэчаіснасьць, некая трэцяя абстаноўка, у якой праходзіць быцьцё свае клясы (Пераверзеў) — тоесамасьць суб[‘екта]-об.[‘екта], уясьненьне магчымасьці сьвядомаснага пераламленьня ці скажэньня; кампоз[ыцыя], як момант трыманьня кляс.[авай] групы. Зразумець пэрсонаж у сыст.[эме] рэчаісн[асьці].

„Выяўленчы плян“ твору і партрэт, адрыванньне партрэту ад пэрсонажу.

Пэйзаж як дэкарацыйнасьць (рыц.[арскі] роман, Уальдавы казкі). Адмоўная рэпродукцыя рэчаіснасьці — у фантаст.[ычным] і дэкарац.[ыйным]. Тут сапраўды пэйзаж адл.[юстроўвае] настроі.

Композыцыя ў шырокім сэнсе — пабудова, у вузкім — спосаб разгортаньня сюжэту. Сувязь композыцыі і жанру, і рознасьць іх. Композыц[ыя] і абумоўленасьць яе асноўнай накіраванасьцю, падыходам, дачыненьнем клясы да рэчаіснасьці (бытавы падыход — „Дон Кіхот“). Лірычныя адыходы[5]. Характэрны для стылю, для якога характэрна наогул лірыка, як жанр — лірычны падыход да рэчаіснасьці

## Структура мастацкага твору

I. Вобразы рэчай, прыроды, быту ў сыстэме стылю.

1. Якое месца ў стылі займаюць гэтыя вобразы з пункту гледжаньня Пераверзевага і ў чым памылка яго (артык. у зб. „Литературов[едение]“[6] і Бяспалаў — „Стиль, как...“ р. VII).

2. Чаму нельга разгледаць гэтыя вобразы як момант пэрсонажаў?

3. Які прынцып зьяўленьня ў стылі гэтых вобразаў? Ці зьяўляюцца яны таму, што наяўны ў быцьці клясы, якая выяўляе?

4. Ці можа быць скажаным аднаўленьне гэтых вобразаў?

5. Ці заўсёды зьяўляюцца ў стылі вобразы рэчай, прыроды і г. д., з якімі стыкаецца кляс у сваёй дзейнасьці?

6. Які прынцып выяўленьня гэтых вобразаў, калі яны бяруцца з атачэньня іншых кляс?

[5] У сучаснай тэрміналёгіі распаўсюджана калька з расейскай мовы: лірычныя адступленьні.

[6] Маецца на ўвазе калектыўная манаграфія, якой заяўляла пра сябе школа Валяр’яна Пераверзева: Литературоведение. Сборник статей под ред. В.Ф. Переверзева. (Труды ГАХН. Социологический разряд. Вып. 1). Москва, 1928. — 347 с.

7. Ці могуць быць у вадным творы вобразы рэчай і прыроды, істотна адрозныя адзін ад аднаго? Як іх тады выўчаць?

8. Да чаго стасаваць гэтыя вобразы ў процэсе выўчэньня маст.[ацкага] твору?

9. Якія тыпы пэйзажу льга нужчыць? Які асноўны, найбольш часты, тып пэйзажу?

10. Якую ролю адыгрывае пэйзаж фантастычны, дэкорацыйны. Ці можа быць пэйзаж не як выяўленьне рэчаіснасьці, а як чыстая об'ектывацыя перажываньняў

11. У якіх творах вобразы рэчай, прыроды адыгрываюць домінантную ролю ў сыстэме?

12. Ці льга сказаць, што гэтыя вобразы выступаюць у Сыстэме, характарызуючы людзкую дзейнасьць?

13. Якую ролю адыгрывае вобраз рэчы ці прыроды, калі ён набывае сымболічнага характару?

<u>II. Портрэт</u> (урыўкі з арт. Пасьпелава. [„]Литератур.[оведение“][7])

1. У чым памылка ўключэньня портрэту ў „выяўленчы плян“?

2. У чым памылка разуменьня портрэту і псыхолёгіі вобразу, як „формы і зьместу“?

3. У якой сувязі трэба выўчаць портрэт пэрсонажаў?

4. Ці магчыма супярэчнасьць портрэту і псыхікі пэрсонажаў, калі гэта бывае і чым тлумачыцца?

III. Композыцыя

1. Якую ролю адыгрываюць у стылі г. зв. „аўтарскія адыходы“ — лірычныя, філёзофскія, публіцыстычныя і г. д. Якія тут ёсьць магчымасьці?

2. Як гэтыя адыходы зьвязаны з пэрсонажамі і якую композыцыйную ролю яны адыгрываюць?

3. Як вызначаецца композыцыя твору. Стасунак композыцыі і сюжэту?

4. Чым вызначаецца прынцып композыцыі ў дадзеным стылі?

5. Прывесьці прыклады дынамічнай і статычнай композыцыі.

6. Способы композыцыі — апісаньне, дыялёг, аўтарская характарыстыка. Чым абумоўлены выбар гэтых сродкаў композыцыі?

---

[7] Маецца на ўвазе праца: Поспелов, Г. К методике историко-литературного исследования. 1. Проблема теоретической поэтики. 2. Теория статического исследования поэтического стиля // Литературоведение. Сб. ст. / под ред. В.Ф. Переверзева. Москва, ГАХН, 1928. С. 39—104.

7. Прывесьці прыклады розных тыпаў кампазыцыі, соцыёлёгічна зразуметых.

Рыбникова — По вопросу композиции.

Цейтлин[8] — Время в романах Достоевского ([„]Родн.[ой] яз.[ык] в шк[оле“], 1927 г., № 5)

Перад гэтым было заданьне

Сыстэма пэрсонажаў

1. У чым адзінства сыстэмы пэрсонажаў у творы і ў стылі ў цэлым?

2. У чым асноўнае процістаўленьне пэрсонажаў твору і што адлюстроўваецца ў дыялектыцы пэрсонажаў у сыстэме?

II. Пэрсонажы свае клясы

1. Які вобраз назваць асноўным вобразам свае клясы.

2. Ці заўсёды ён будзе супярэчлівым і ці заўсёды гэтая супярэчнасьць дадзена ўнутры аднаго пэрсонажу.

3. Якія ёсьць тыпы супярэчлівых вобразаў?

4. У якіх стылях сустракаюцца вобразы з неразьвязальнымі супярэчнасьцямі?

5. Што гэта супярэчнасьці росту?

6. Як зьдзяйсьняецца ў стылі дыялектыка вобразаў свае клясы і што яна адлюстроўвае?

7. Чаму адбываецца рашчапленьне вобразу на некалькі пэрсонажаў і ці бывае гэта?

8. Як праяўляюцца ў сыстэме пэрсонажаў розныя этапы разьвіцьця дадзенае клясы?

9. Як праяўляецца ў сыстэме пэрсонажаў розныя бакі быцьця дадзенае клясы?

10. Ці можа быць скажанае выяўленьне свае клясы?

11. Як праяўляецца адзінства суб’екта і об’екта ў асноўным вобразе свае клясы? Ці няма ў ім тоесамасьці суб’екта і об’екта?

12. У якіх стылях сыстэма вобразаў замыкаецца ў пэрсонажах свае клясы?

13. Як зьвязваецца дыялектыка вобразаў свае клясы з дыялектыкаю сюжэту?

---

[8] **Аляксандар Цэйтлін** (1901—1962), расейскі літаратуразнаўца, бібліёграф. Адзін з рэдактараў даваеннай „Літаратурнай энцыкляпэдыі“. У дыскусіях 1920-х гг. быў прыхільнікам сацыялягічнай школы.

14. У чым асноўныя памылкі ў трактаваньні сыстэмы пэрсонажаў у Пераверзевага („Лит[ература] и марк.[сизм]“ № 2—29 г.[9]) і ў Пасьпелавага („Литературовед[ение]“)?

15. Якое месца займае ў мэтодыцы дасьледаваньня асноўны пэрсонаж свае клясы?

16. Ці можна казаць пра большуюісьціннасьць псыхолёгічнага боку пэрсонажу ў параўнаньні да портрэтыкі

III. Выяўленьне іншых кляс.

1. Ці можа быць аб'ектыўнае выяўленьне чужых кляс і ў якіх стылях?

2. Ці можна выяўляць псыхіку чужых кляс (у вадрознасьць ад ідэялёгіі). Як выяўляецца псыхічны процэс чужых кляс.

3. Як адбываецца скажаньне вобразаў чужых кляс — ці ўкладаюцца ў іх свае псыхічныя рысы?

4. Ці могуць быць выпадкі „пераапранаьня“ вобразаў? У якіх стылях гэта здараецца часьцей? У чым супярэчнасьць „пераапраненых“ вобразаў? Ці ёсьць гэта супярэчнасьць псыхічнага і портрэтнага бакоў?

5. Ці ёсьць адзінства суб'екту і об'екту ў пэрсонажах чужых кляс у „пераапраненых“ вобразах? Якава ў асноўным мэтодыка выўчэньня сыстэмы пэрсонажаў у стылі.

Бяспалаў — адведн.[ы] разьдзел.
„Литературоведение“ — у конкр.[этным] стылі (Пасьпелаў)
Эльсберг[10] — О классовой природе... ([„]На Лит.[ературном] посту[“])

I/VI. <u>Моўная структура</u> <u>— стылістыка.</u> Роля пераверзеўскай школы. Спроба зразумець моўную структуру, як адзінае. Адзінства хоць і існуе, але не праяўляецца як аднастайнасьць. Шпіцэр — псыхолёгічны моніста, які адыходзіць ад моністычнага дасьледаваньня асобы пісьменьніка, у ўнутр.[аным] сьвеце якога — моўная домінанта, якая дае моўную аднастайнасьць. Адылі, тут адчуваецца славуты „псыхолёгічны комплекс“. Тут сьціраецца многастайнасьць мовы, якая перадае многастайнасьць рэчаіснасьці, што падаецца ў мове; тут адзінства толькі ў існасьці мэтанакіраванасьці (мова розных пэрсонажаў, мова аўтара ў дачыненьні да розных об'ектаў выяўленьня). — Мова і форма. Выяўленьне

---

[9] Маецца на ўвазе артыкул: Переверзев, В. „Социологический метод“ формалистов // Литература и марксизм. 1929. № 2. С. 3—26.

[10] **Якаў Эльсбэрг** (1901—1976), расейскі літаратуразнаўца, крытык. Прыхільнік „вульгарнага сацыялягізму“ пры канцы 1920-х гг.

стылістыкі, як дробнага компонэнту і — як праверка вынікаў дасьледаваньня большых компонэнтаў (паколькі ў мове непасярэдня і падаюцца гэтыя компонэнты — яны паўтараюць у драбнейшых праявах галоўнейшыя асаблівасьці).

Лексыка і сынтакс (композыцыя мовы). Падыход да функцыі моўнага факту ў творы — спробы соцыёлёгізаваць формалістыку, замяніць марксыцкую каўзальнасьць тэлеолёгічнасьцю. Самаіснае ролі стылістычна компонэнты ня маюць — у кожным іншым стылі знадворна тоесамыя компонэнты маюць іншы зьмест (а ня функцыю — каляровыя эпітэты ў Золі — колькаснае радаснае нарастаньне, у дэкадэнтаў — вышуканасьць), адсюль памылкі — уяўная немень розьніцы між імпрэсыянізмам і экспрэсыянізмам — фрагмэнтарны сынтакс — нанізваньне ўражаньняў і ўнутраная разарванасьць — экспрэсыя) — Увязка з большымі компонэнтамі (пэйзаж і мова яго) — Статыстычны падрахунак у формалістых (гэта выплывае з разуменьня адзінства мовы, як аднастайнасьці) — які дае часам зусім процілеглыя вынікі (дасьледаваньне Флёбэра), што цяжка вытлумачыць формалістым, паколькі мова цесна ўнутрана зьвязана з вобразам.

Лексычная дамінанта (у лірыцы) — з паўтаральнасьці прадстаўленьняў цэлымі комплексамі (Гофмансталь[11] — сьпеласьць, стомленасьць, сон, сьмерць, восень, завяданьне і да т. п.). Гэта дужа важна ў лірыцы — яна дае магчымасьць ускрыць вобраз сьвядомасьці, дамінанту сьветадчуваньня, што даецца ў лірыцы (у Лермантавага — адзіноцтва, гордасьць, адчай; далёкія зоры, кінжал). У лірыцы мы й маем аднастайнасьць мовы. Гэта ж мы маем і ў стылях, сусяроджаных на заглыбленьні ў асобу, псыхолёгію (гэта ці набліжэньне да гэтага) — Жюль Ромэн[12] (біялёгічная спроба выйсьця за межы сябе — уключэньне адзінкі ў масу і наадварот — вылучыць, назваць — досьледы Шпіцэра[13]). Асобныя факты мовы (дзеяслоў — назоўнік і прыметнік, дробныя злучныя слоўцы) маюць пэўны сэнс у сыстэме стылю (дынамічнасьць і статычнасьць стылю).

Якасьць. Тропы, дробныя вобразы, эпітэты — ацэнка рэчаіснасьці клясаю. Абстрактнасьць і конкрэтнасьць — ступень накіраванасьці кляс на рэчаіснасьць, накіраванасьць на рэальнасьць ці адпіханьне ад яе. —

[11] **Гуга фон Гофмансталь** (1874—1929), аўстрыйскі пісьменьнік, паэт, драматург, тэарэтык дэкадэнцтва.

[12] **Жюль Рамэн** (1885—1972), францускі пісьменьнік, паэт, драматург.

[13] **Леа Шпіцэр** (1887—1960), аўстрыйскі філёляг.

Дробныя вобразы (мэтафоры). Параўнаньне як аб'ясьненьне (Потэбня) — адылі, у сапраўднасьці гэта ня так (у стылях груп, што адпіхаюцца ад рэчаіснасьці). Другая тэза — об'ект, для якога параўноўваецца — афэктыўна-ахварбаваны. Параўнаньне адбываецца паводля пэўных ацэначных рыс, якія паўстаюць у дзейнасьці клясавае групы, як асноўныя — толькі ў дробн.[ых] вобр.[азах], у вадрознасьці ад буйных вобр.[азаў] (прынцып там той-жа), яны падаюццца не непасяр.[эдне], а праз пасяр.[эдніцтва] другога об'екту (об'екту параўнаньня) — экзотычнасьць мовы (Усев.[алад] Іванаў[14]). — Немень (ці мінімальнасьць) дробных вобразаў — зьвязанасьць з нявылучанасьцю (неабмалёванасьць) буйных.

Сынтакс. Дамінанта тут — асноўны композыцыйны прынцып мовы (прыкл.[ад] — сынтакс Пруста[15] — устаноўка на ўспаміны, ланцуг успамінаў > нанізваньне, награмаджэньне фразы, сынтакс Дастаеўскага[16] — няроўнасьць, нэрвовасьць).

Мова пэрсонажаў. Аднастайнасьць тут у Пераверзевага, што зводзіць гэтую проблему да нуля. Параўноўваньне мовы аўтара з моваю пэрсонажаў — праверка. — Мова пэрсонажаў чужых кляс — пазнаваньне пераапраненых вобразаў — праверка (сяляне ў зах.[одняй] народніцкай літаратуры — саладжавасьць, сяляне ў натуралізьме — вульгарнасьць, грубасьць).

Сказ — неаўтэнтычная, дэформаваная мова — расказваньне ўсяго твору з пункту гледжаньня чужое клясы ці свае — [нрзб] ці наагул б.м. аддаленае. Адрозьненьне тут — іронічнасьць ці комічнасьць.

13/VI Мэтодыка дасьл.[едаваньня] маст.[ацкага] твору

Структура як форма (унутраная). Форма праяўленьня.

Абстрактны мэтод Маркса[17]. Магчымасьці — ад конкрэтнага да глыб[ока] абстрактнага — індукцыйна. Адбудова ад дуаліст[ычнага]. Аналіз — ці можна сапастаўляць (там хаос зьяў, тут адна зьява). Аналіз — індукцыя і сынтэз — дэдукцыі. Об'ект у пачатку і ў канцы дасьледаваньня (хаос і законамернасьць).

Абст[рактнасьць] наагул, і ў дач[ыненьні] да канкр[этнага] грамадзтва — [нрзб] (схаваная форма стыхійнага процэсу — таму дужа

[14] **Усевалад Іванаў** (1895—1963), расейскі празаік, удзельнік групы „Серапіёнавы браты“, вельмі папулярны ў 1920-х гг.

[15] **Марсэль Пруст** (1871—1922), францускі пісьменьнік, клясык эўрапейскага мадэрнізму, аўтар сямітамовага раману „У пошуках страчанага часу“.

[16] **Фёдар Дастаеўскі** (1821—1881), празаік, клясык расейскай літаратуры.

[17] **Карл Маркс** (1818—1883), эканаміст, філёзаф.

войстрая абстракцыя). Раскрыцьцё асноўнага моманту, што ўсё тлумачыць (не пераклад, а перэйманьне) — Мэтод дасьледаваньня і мэтод выкладаньня — апошні, як адбудова толькі. — Гістарызм — ці можа быць адзіны рэцэпт. Структура мяняецца, а спэцыфікум не? Поэтыка стылю. Абстрактны мэтод і мэтодыка. — Яе асн.[оўныя] спружыны (у Маркса так і вартасьць). 1. Мэтодыка Пасьпелавага — давер'е ў яго да пэўных элем.[энтаў] структуры (адыход ад псыхолёгіі орг.[анічнага] вобразу, — вытлумачыць соц[ыяльна]-псыхол[ёгічны] комплекс, праверка на канкр.[этных] момантах — давер'е да псыхол.[ёгічнага] компл.[ексу], недавер'е да момантаў рэчаіснасьці, адсутн[асьць] праблемы мэтода дасьледаваньня і выкладаньня (мэтод дасьледаваньня пачынаецца з абстрактн[ага]). 2. Адыход ад буйных [форм?]. 3. Асн.[оўны] момант — асноўны конфлікт у стылі — Адыход ад конкрэтызацыі поэт.[ычнай] структуры — з асн.[оўнага] конфлікту і вобразу, хоць можна браць і іншае, што падаецца ў вочы. Дачыненьне да рэчаіснасьці, а не псыхолёгічны комплекс (соц[ыяльна]-псых[олёгічнае] дачыненьне, як яго моманту) але дачыненьня да рэчаіснасьці ня можа быць без рэчаіснасьці (яе аднаўленьне). Дачыненьне да рэчаіснасьці і выражаецца ў аднаўленьні яе — менавіта гэтай і менавіта гэтак, таму ў асноўным моманце трэба браць рэаіснасьць, а не абстрагав.[аную] псыхол[ёгію] (хоць бывае і псыхол.[ёгічны] конфлікт у пэўных стылях. Ці тут толькі пачынаецца вытлумачэньне[нрзб]. Па Вазьнясенскаму[18] — адлучэньне і вытлумачэньне. Але структура не існуе зьне соц.[ыяльнай] абумоўленасьці. Стаўленьне ў сувязь — ужо ёсьць вытлумачэньне. — З эпохі ці з твору? Вывучаць эпоху і да дасьл.[едаваньня], і пасьля, пачынаць і з таго, і з таго. — Пасьля знаходжаньня конфлікту — соцыял[ёгічнае] вытлумачэньне найбольш глбыокае. Далей: сыстэма пэронажаў, сюжэт, композыцыя, стылістыка — ужо ў вытлумачэньні, — праверка і поўнае вытлумачэньне.

— Плеханаўскія антыкрытыкі (ідэя — соц.[ыялёгічнага] эквівал.[енту] — маст.[ацкі] сынтэз). У Бялінск.[ага][19] — ідэя — ідэю выяўл[яе] саму сабою — праверка маст.[ацкіх] вартасьцей — абстр.[ктны] мэтод у гегелеўскім разуменьні — паняцьце мастацкасьці.

Заданьне — „Стылістыка“

1. Стылістыка і паняцьці формы, зьместу і інш.

[18] **Аляксандр Вазьнясенскі** (1888—1966), расейскі філёляг, адзін з заснавальнікаў акадэмічнай тэорыі літаратуры ў Беларусі. Выкладчык (1921—1930) і прафэсар БДУ (1927—1930).

[19] **Вісарыён Бялінскі** (1811—1848), расейскі крытык, філёзаф, журналіст.

2. Стылістыка і яе месца ў вывучэньні маст.[ацкага] твору.

3. Стылёвае адзінства моўнае структуры твору і пытаньне пра аднастайнасьць.

4. Крытыка псыхолёгічнага трактаваньня стылістыкі (Шпіцэр, Пасьпелаў)

5. Гістарычнасьць элемэнтаў мовы ў стылях. Рознасьць зьместу адных элемэнтаў мовы ў розных клясавых стылях (прыклады).

6. Ці магчыма статыстычнае вывучэньне мовы праз падрахунак элемэнтаў мовы?

7. Асноўны прынцып стылю і праяўленьне яго ў мове (прыклады).

8. Як выявіцца ў стылістыцы супярэчлівасьць сьветаадчуваньня дадзенае клясавае групы?

9. Асноўная дамінанта стылістыкі ў лексыцы і кампазыцыі.

10. Афэктыўна ахварбаваны комплекс прадстаўленьняў. Паўтаральнасьць яго. Ягоная роля ў лірыцы і эпіцы. Прыклады.

11. Асноўны кампазыцыйны прынцып мовы. Прыклады.

12. Чым абумоўлена перавага ў дадзенай стылістыцы пэўных часьцін мовы. Прыклады.

13. Чым абумоўлена наяўнасьць ці немень вобразнасьці ў стылістыцы.

14. Якія найбольш характэрныя элемэнты мовы.

15. Структура стылістычнага вобразу, параўнаньня, мэтафоры.

16. Стасунак якасьці стылістычных вобразаў і вялікіх вобразаў твору.

17. Дыфэрэнцыяцыя мовы ў гаворцы пэрсонажаў. Стасунак яе з сыстэмаю пэрсонажаў.

18. Прыраўнаваньне мовы пэрсонажу да мовы аўтара.

20. Паняцьце сказу ў стылістыцы і вывучэньне яго.

Літаратура

X Беспалов — Стиль, как законом[ерность] — р. IX

X Пераверзеў — Гогаль і Дастаеўскі[20] (разьдзел пра стылістыку)

„Литературоведение“ — дасьл.[едаваньне] стылістыкі ў артыкулах.

X Л. Шпіцэр — артык.[ул] у зб.[орніку] „Проблемы лит.[ературной] формы“[21].

Виноградов — Проблема сказа („Поэтика“. № 1—26 г. Ленінград)[22]

---

[20] Маюцца на ўвазе дзьве кнігі В. Пераверзева: *„Творчество Достоевского“* (1912) і *„Творчество Гоголя“* (1914).

[21] Гл.: Шпитцер, Л. Словесное искусство и наука о языке // Проблемы литературной формы: Сб. статей, перев. под ред. и с предисл. В. Жирмунского. Ленинград: Academia, 1928. С. 191—223.

Полторацький. До питанняпро образовість поезії (Марксівська аналіза тропів). — „Життя й Революція“ 1927 № 2

Х Эльсберг — Сравнения и метафоры — „Октябрь“, студзень 1927 г.

Зад.[аньне] — „Мэтод дасьледаваньня мастацкага твору

I. Абстрактны Марксаў мэтод

1. Якая роля абстракцыі ў Марксавым мэтодзе?

2. Што гэта аналіз і сынтэз, як яны спалучаюцца ў Маркс.[авым] мэтодзе?

3. Якія 2 этапы ёсьць у дыялек[тычна]-маркс[ысцкім] мэтодзе.

4. Што значыць „аднаўленьне конкрэтнасьці“. У чым розьніца конкрэтнага ў пачатку і ў канцы дасьледаваньня?

5. Як дадзены Марксаў мэтод у „Капітале“?

II. Мэтод выкладаньня і мэтод дасьледаваньня

1. Ці супадае мэтод выкладаньня з мэтодам дасьледаваньня?

2. Якую частку дасьледаваньня паўтарае выкладаньне?

3. Як прыстасаваць гэта да літаратурных фактаў?

Літ.[аратура] Х 1. Маркс — Введение к критике полит.[ической] экономии. Р.3 — Метод полит.[ической] экономии (асабл.[іва]пачатак)

Х 2. Маркс — Послесловие к II изданию „Капитала“ (I т.)

3. Разумовский. — Ист.[орический] Мат.[ериализм][23] Р.[азьдзелы] пра абстр.[актны] мэтод, аналіз, сынтэз.

III. Прыстасаваньне абстр. мэтоду да літ.[аратурных] фактаў

1. Агульны працэс дасьледаваньня літ.[аратурнага] факту .

2. З якіх момантаў прынцыпова можна пачынаць дасьледаваньне і якія зручней.

3. Дзе трэба шукаць асноўных катэгорый стылю?

4. У чым памылка мэтодыкі Пасьпелав.[ага] і наагул „Литерат[уроведения“].

5. У чым памылка ў паняцьці „соц[ыялёгічна]-псых[олёгічнае] дачыненьне“?

6. Ці можна разлучыць апісаньне і тлумачэньне?

7. Працэс дасьледаваньня літ.[аратурнага] факту і мэтод выклад.[аньня] яго.

---

[22] Виноградов, В. Проблема сказа в стилистике // Поэтика. Временник Отдела словесных искусств. Т. I. Ленинград, 1926. С. 24—40

[23] Маецца на ўвазе кніга **Ісака Разумоўскага** (1893 — ?): Курс теории исторического материализма. Москва — Ленинград, 1924 (3-е выд. 1928).

Літ.[аратура] Пасьпелаў — К методике і конкр.[этны] арт.[ыкул] у „Литерат[уроведении“].

IV. Два акты марксысцкае крытыкі (Плеханаў)

1. Што агульнае і ў чым розьніца 2 актаў навук.[овай] крытыкі Бялінскага і Плеханавага.

2. Як зьвязаць 2 акты крытыкі ў Плех.[анавага] з абстрактным мэтодам.

3. Якое месца займае ў гэтым працэсе мастацкая ацэнка.

4. Якое месца займае ў ім публіцыстычная ацэнка?

Літ.[аратура] X Плеханов — Прадмова да „За 20 лет“ — Т. XIV, бал.[ёнка] 183.

— X Беспалов — „Плеханов как лит.[ературный] критик“ — Рев.[олюция] и Культ.[ура]. 1928 № 10 і 13 — адпав.[едныя] месцы пра 2 акты.

Лелевіч[24] — „О принципах маркс[истской] лит[ературной] критики“ 1925 г. (пра 2 акты).

Маркс, Капітал

Дасьледав[аньне] — матарыял,аналіз форм разьвіцьця, яе ўнутр[аная] сувязь

Выклад.[аньне] сапраўдн.[ага] руху — ідэяльнае адлюстр.[аваньне] жыцьця матарыялу (як-бы апрычонасьць)

Разумоўскі

1. Назір.[аньне] (практыка) — выбар умоў яго (унутранага элем[энта]) — Экспэрымэнт — калі магчыма — для чыстаты.

2. У грам[адзкіх] зьявах — абстракцыя. Абстракцыя — высоўваньне агульнага, фіксаваньне яго — каб не паўтарацца. Але агульнае адно тады, калі вядомы элементы. — I. Аг.[ульныя] элемэнты — сталасьці — законы. II. Факты, як праява гэтых уласц.[івасьцяў] і заканам.[ернасьцяў], як багетная сугучна вызначэньняў і дачыненьняў — конкрэтн[ая] рэчаісн[асьць], але ператвораная і ўзбагачаная мысьленьнем.

Конкрэтнае — многасьць вызначэньняў, адзінства ў многаснасьці. У мысьленьні яно — вынік. У рэчаіснасьці — адыходны пункт. Абстрактнае — аднаўленьне конкрэтнага праз мысьленьне.

3. Параўнаньне — чыста тэхн[ічнае], дапаможн[ае].

[24] **Г. Лелевіч** (сапр. **Лаборы Калмансон**, 1901—1945), расейскі крытык. Адзін з тэарэтыкаў „напостаўскай“ групы ў расейскай літаратуры 1920-х гг., адзін з кіраўнікоў УАПП.

4. Навядзеньне — індукцыя — параўнаньне, аналёгія — агульныя адро[зьненьні].

5. Аналіз: а) параўн[аньне] і навядзеньне б) — разгляд розных магчымых таноў, рашчапленьне конкрэтнага, в) ізоляваньне ас[обных] элем[энтаў] і абстрагаваньне, г) процэс у чыстым выглядзе, д) фіксаваньне найб[ольш] агульнай катэгорыі (дачыненьня), дэдукцыя ад яе да менш аг.[ульнага] — уплыў акалічнасьцяў на законы, е) дасьлед.[аваньне] разьвіцьця і выяўленьня ў конкрэтн.[ых] формах, якія паступова ўскр.[ываюцца] (уздоўжны разрэз) — сынтэтычны, разьвіцьцё аналізу.

Прасьцейшая (абстр.[актная]) катэгорыя — неразьвітае конкрэтнае цэлае (знаходзіцца пазьней у апошні у чарн.[авым] выглядзе), адсюль — дасьледав.[аньне] з найбольш разьвітых форм — адпаведнасьць гіст.[арычнага] разьвіцьця і лёгічн[ага] разьв.[іцьця] думкі. — раней за цэлае, але поўна — толькі ў ім, найб.[ольш] абстракцый — дзе адзін элемэнт — агульны [нрзб] зьяў — дзе больш конкрэтнасьці.

Плеханаў. — Які бок грамадзкае (ці клясавае) сьвядомасьці выражаецца ў творы? — Соц.[ыялёгічны] эквів.[алент]. Не плакаць, не сьмяяцца, а разумець. С.[оцыялёгічны] экв.[івалент], як грамадзкі настрой. — 2 акт. — ідэя маст.[ацкага] твору ў конкрэтным праяўленьні, у вобразах — цэлае і адзінае — у частковым.

Абыякавасьць да пэўнага віду < разьвіцьця і суцэльная сукупнасьць сапраўдных відаў, з якіх ніводзін не першынствуе.

Гегель

— мяса — учынак — цыбуліна.

— чым багацей прадмет, чым болей бакоў ён прадстаўляе разгляду, тым больш разнаст[айныя] яго вызначэньні (жыцьцё, дзяржава) — геомэтрыя.

— не паказваюць канечнасьці —

Цэлае — тое, што мае часткі, але калі яно паложана так, дык перастае быць цэлым. — Ёсьць рэчы, якія адпавядаюць гэтаму — дрэнная дзяржава, хворае цела. Захав[анасьці]і мэханічнага мала — орг.[анічнае] жыцьцё — духоўнае жыцьцё.

Дачыненьне — ісьціна ўсякага існаваньня — дзякуючы яму ісціннае не абстрактна, не стаіць само па сабе, а ёсьць у другім, як стасунак з сабою і стасунак з другім (у вадзінстве)

Мысьленьне — знаходжаньне ўсеагульнага ў адзіночным (праз асаблівае).

Параўнаньне — выйсьце за межы сувязі з інш[ымі] рэчамі — дачыненьне.

На лета

I. Мастацкасьць літ.[аратурнага]твору

Літ.[аратура] X Плеханов — Генрик Ибсен[25]

X Плеханов — Иск.[усство] и общ.[ественная] жизнь (ас.[абліва] б.[алонкі] 137, 147-153 і 180)

А. Гурштейн — К спорам вокруг... (На лит.[ературном] посту, 1929 № 13)

Плеханов — История русск.[ой] общ.[ественной] мысли, ч.III (том 21, б.[алонкі] 208-9)

Поспелов — К вопросу и приемах научной критики П.[ечать] и Р.[еволюция], 1928 № 1

Лелевич — О принципах маркс.[истской] критики (бал.[ёнка] 30)

Узяць увагу на наступныя пытаньні:

1. Розьніца між мастацкай <u>ацэнкаю</u> і <u>об’ектыўнай</u> мастацкасьцю твору

2. Хібная ідэя ў Плеханавым.

3. Адзінства формы і зьместу ў паняцьці мастацкасьці.

II. Стыль і жанр. III. Стыль пролет.[арскай] літаратуры

М.Ю(х)нович — Проблема жанра (Р.[одной] яз.[ык] в школе, 1930 № ?)

Творческие пути пролет.[рской] литературы, зборн.[ік] II, 1929.

Палеміка пра творчы мэтод у Літ.[аратурнай] Газэце за 1929-30 г.

Асноўныя пытаньні:

1. „Віды“ літаратуры.

2. Жанр як зьява стылю.

3. Стыль пролет.[арскай] літаратуры і дыфэрэнцыяцыя яго на жанры.

IV. Проблема „нацыянальнае формы“.

1. Сталін — Нац.[ыянальнае] пытаньне[26]

2. Дубоўка — І пурпуровых ветразей узьвівы[27]

V. Творчасьць Золя[28] .

---

[25] Гл.: Плеханов, Г. Генрик Ибсен. Санкт-Петербург, 1906. — 46 с.

[26] Відаць, маецца на ўвазе праца І. Сталіна „Марксизм и национальный вопрос“ (1913—1914), якую належала закансьпектаваць.

[27] Паэма **Ўладзімера Дубоўкі** (1900—1976), паэта, філёляга, празаіка, фактычнага кіраўніка літаратурнага аб’яднаньня „Ўзвышша“ (1926—1930).

[28] **Эміль Заля** (1840—1902), францускі пісьменьнік школы натуралізму.

Золя — Кар'ера Ругонаў; Чэрава Парыжа; Дамскае шчасьце; Грошы; Здабыча; Праца[29].

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Вячаслава Мартысюка й Ціхана Чарнякевіча*

[29] Раманы Эміля Заля.

***Браніслаў Даніловіч***

# ЛІСТ З ЛАТВІІ Ў РЭДАКЦЫЮ ВІЛЕНСКАГА ЧАСОПІСА „ШЛЯХ МОЛАДЗІ“



Браніслаў Даніловіч

*Браніслаў Даніловіч (20.11.1908 — 29.09.2003) — актыўны дзеяч беларускай паваеннай эміграцыі ў ЗША. Быў сябрам Рады БНР, БАЗА, вэтэранскіх арганізацый, удзельнічаў у выданьні газэты „Беларус“, падтрымліваў беларускія выдавецкія праекты. А яшчэ ён ведамы, як удзельнік „Першага беларускага штурмовага зьвязу“, дывэрсыйнага аддзелу, падрыхтаванага нямецкай вайсковай выведкай увесну 1941 г. Менавіта Даніловіч у той час напісаў маршавую песьню „Гэта йдзе першы зьвяз наш штурмовы...“[1].*

*Ведама, што Браніслаў Даніловіч, настаўнік з Ашмяншчыны, патрапіў у Нямеччыну з Латвіі, дзе ён у канцы 1930-х быў на заробках. Дарэчы, там, паводле ўспамінаў Антона Шукелойця, ён пазнаёміўся з баронам Энгельгартам[2], які цікавіўся беларускай гісторыяй (разам яны й выехалі ў Нямеччыну).*

---

[1] Шукелойць, Антон, Запруднік, Янка. Браніслаў Даніловіч (20.XI.1908 — 29.IX.2003). Служыў беларускай справе // Беларус. № 489. Кастрычнік 2003; Грыбоўскі, Юры. Першы беларускі штурмовы зьвяз. Да гісторыі стварэньня й дзейнасьці беларускіх камандас у гады Другой сусьветнай вайны // Беларускі рэзыстанс. № 1 (2). 2005. С. 3—23.

[2] **Аўген фон Энгельгарт** (1899—1948), нараджэнец Латвіі. Падчас Першай сусьветнай вайны служыў пры аддзеле культуры штабу 10-й нямецкай арміі ў Менску й Воршы, быў дарадцам па беларускіх пытаньнях. Ад канца ⇨



Mucznieks 6.V.37 r.
Pawažany Hram. Redaktar!
Pišmo hetaja pišu da Vas až...
z Łatwiji, kudy los mianie zahnaŭ
na letnija raboty. Pra usio da-
kładna možna budzie napisać wia-
likuju karespandencyju, ale siahod-
nia budzie tolki woś hetaja pišma.
Bo na rabotu jechali z nami ra-
zam znaŭcca z Bielarusami, Litoŭ-
cy taksama, z Świancianskaha paw.
Dziarwienskaj wołaści, a taksama
i Palaki z Mtaŭskaha pawietu.
Ja jak pabudu dalej dyk
apišu usiu hetuju padoroż
jak pamiž saboj adnosilisia
usie hetyja ludzi katoryja je-
duć u małuju Łatwiju kab
znajści jaki kawałak chleba
a taksama i zarabić jakuju
załatoŭku.



Ciapier ja budu prasić wysłać
na moj adrys u Łatwiju
woś takija hazety: „Biel. Kryni-
ca" Chryścijanskaja Dumka"
„Kałośsie" „Šlach Moładzi"
a ja jak zarablu to pryšlu
na „Bielpres" niekalki łataŭ.
Bo biez hazety u čužoj stara-
nie nia možna abyjścisia
nia čujučy swajej rodnaj mo-
wy, a tolki łamanaju rasijs-
kuju i łatyšskuju. Jašče pra-
šu, kali woś nia budzie wia-
likaha kłopatu pieradać moj ad-
ras u red. „Беларускі Летапіс" i ~~„Бе-
ларускі фронт"~~. Hazety prašu wysłać
ad pačatku maja. Dumaju što maju
prawa spounicca. Bo tut josć našych
bolš rabotnikaŭ i miž ich treba
pašyrać świedamaść.
Z pašanaj
Branisłaŭ Daniłowicz

Ліст Б. Даніловіча

*З выяўленага намі ліста Браніслава Даніловіча*[3] *ў рэдакцыю беларускага віленскага часопісу „Шлях моладзі“*[4] *вынікае, што ён паехаў „на летнія работы“ ў Латвію ў 1937 г. Верагодна, там затры-*

⇨ 1930-х гг. зноў стаў *„экспэртам у беларускіх справах“*, супрацоўнічаў з Абвэрам. Летам — восеньню 1944 г. быў адным з кіраўнікоў разьведвальна-дывэрсійнай школы Абвэру ў Дальвіцы (Усходняя Прусія), дзе праходзілі падрыхтоўку беларусы. Аўтар кнігі, прысьвечанай гісторыі Беларусі (Engelhardt von E. Weissruthenien. Volk und Land. Berlin-Amsterdam-Prag-Wien, 1943. — 358 s.), а таксама перакладаў на нямецкую твораў Максіма Багдановіча (Bahdanovič, Maksim. Weissruthenische Heimat-Lyrik / In Deutsch übertragen von Eugen Freiherrn von Englehardt. Hildesheim: August Lax, Verlagsbuchhandlung, 1949. — 12 s.).

[3] Ліст захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва (БДАМЛМ). Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 116. Арк. 40, 40 адг.

[4] **„Шлях моладзі“** — моладзевы грамадзка-палітычны й літаратурна-мастацкі часопіс, што выдаваўся ў Вільні ў 1929—1939 гг.

*маўся да пачатку Другой сусьветнай вайны*[5]*. Ліст гэты быў прыватны, у часопісе не друкаваўся. Няведама, ці адказала рэдакцыя Даніловічу, як і няма зьвестак, ці атрымаў ён беларускія выданьні.*

*На той час Браніслаў Даніловіч быў нацыянальна сьведамым беларусам. Несумненна, што станоўча паўплываў на яго й „Шлях моладзі“. Часопіс ён выпісваў ад 1929 г.*[6] *А ў адным з нумароў за 1935 г. быў такі адказ рэдакцыі на запытаньне:*

*„Бр. Даніловічу. Беларускія газэты ў Амэрыцы ня выходзяць. Просьбу споўнілі, за добрыя пажаданьні падзяка“*[7]*.*

*Дзеяч ня мог тады ўявіць, што празь нейкі час ён сам паўдзельнічае ў выданьні беларускай газэты ў ЗША.*

*Murznieros*[8] 6.V.[19]37 г.

Паважаны Грам[адзянін] Рэдактар!

Пісьмо гэтая пішу да Вас аж... з Латвіі, куды лёс мяне загнаў на летнія работы. Пра ўсю дарогу можна будзя напісаць вялікаю карэспэндэнцыю, але сягоньня будзе толькі вось гэтае пісьмо. Бо на работу ехалі з намі разам, значыцца з Беларусамі, Літоўцы таксама, з Ашмянскага пав[ету] Дзявенішкай воласьці[9], а таксама і Палякі з Млаўскага павету[10].

Я, як пабуду далей, дык апішу усю гэтаю падарож, як паміж сабой адносіліся ўсе гэтыя людзі, каторыя едуць у малую Латвію, каб знайсьці які кавалак хлеба, а таксама і зарабіць якую залатоўку.

Цяпер я буду прасіць выслаць на мой адрыс у Латвію вось такія газэты: „Бел[аруская] Крыніца“[11], „Хрысьціянская Думка“[12], „Калосьсе“[13],

---

[5] Ёсьць зьвесткі пра 40 тысяч беларусаў, якія штогод выяжджалі на сэзонныя працы ў Латвію. І некаторыя там заставаліся на 5—6 гадоў, альбо й назаўсёды. Гл.: Kor-t. Biełaruskija sezonnyja rabotniki viartajucca u Zachodniuju Białaruś // Krynica. № 12 (708). 29.12.1939. S. 2.

[6] Паштовая скрынка // Шлях моладзі. № 3. Травень 1929. С. 4 (вокладкі).

[7] Паштовая скрынка // Шлях моладзі. № 4. Красавік 1935. С. 4 (вокладкі).

[8] Магчыма, вёска ў тагачаснай Латвіі. Ідэнтыфікаваць не ўдалося.

[9] Дзевянішская воласьць мела цалкам летувіскія вёскі. У 1940 г. савецкія ўлады перадалі яе Летувіскай ССР.

[10] Млаўскі павет знаходзіцца ў Мазавецкім ваяводзтве Польшчы.

[11] **„Беларуская крыніца“** (да 1925 г. — „Крыніца“) — газэта Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Выдавалася ў Вільні.

[12] **„Хрысьціянская думка“** — часопіс беларусаў-каталікоў, які выходзіў у Вільні ў 1928—1939 гг.

[13] **„Калосьсе“** — літаратурна-навуковы часопіс, што выдаваўся ў Вільні ў 1935—1939 гг.

„Шлях Моладзі“, а я як зараблю, то прышлю на „Белпрэс“ некулькі латаў. Бо бяз газэты у чужой старане ня можна абыйсьціся, ня чуючы сваей роднай мовы, а толькі ламанаю расейшчыну і латыскаю. Яшчэ прасіў бы, калі вам ня будзя вялікага клопату, перадаць мой адрас у рэд[акцыю] „Беларускі Летапіс“[14] і „Беларускі Фронт“[15]. Газэты прашу выслаць ад пачатку мая. Думаю, што маю просьбу споўніця. Бо тут ёсьць нашых больш работнікаў і між іх трэба пашыраць сьведамасьць.

З павагай
Браніслаў Даніловіч

*Прадмова й падрыхтоўка да друку Сяргея Ярша*

---

[14] **„Беларускі летапіс“** (да сьнежня 1936 г. — „Летапіс Таварыства беларускай школы“) — культурна-грамадзкі й літаратурны часопіс, які выходзіў у Вільні ў 1933—1939 гг.

[15] **„Беларускі фронт“** — газэта, што выдавалася ў Вільні ў 1936—1939 гг. пад рэдакцыяй В. Гадлеўскага. Назва выданьня ў лісьце Даніловіча была перакрэсьленая алоўкам, магчыма, кімсьці з рэдакцыі, бо з выданьнем ксяндза В. Гадлеўскага ў „Шляху моладзі“ ішла вельмі гарачая палеміка.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ЭМІГРАЦЫЯЗНАЎЧАЯ СЭКЦЫЯ IV КАНГРЭСУ ДАСЬЛЕДНІКАЎ БЕЛАРУСІ

3—5 кастрычніка 2014 г. у Коўна праходзіў Чацьверты Кангрэс дасьледнікаў Беларусі. Паводле афіцыйных зьвестак, у Кангрэсе ўдзельнічала каля 450 чалавек, працавалі пятнаццаць сэкцыяў. Даволі значнай паводле колькасьці ўдзельнікаў была сэкцыя „Беларускае замежжа й памежжа ў гісторыі й сучаснасьці“. Яна стала вынікам злучэньня трох тэматычных напрамкаў: „Беларускае памежжа“, „Беларускае замежжа“ й „Беларусы ў Польшчы“. Усяго на сэкцыі былі заплянаваныя выступы 31 навукоўца з 8 краінаў (Беларусь, Польшча, Летува, Украіна, Вялікабрытанія, Расія, Італія й Нямеччына). Што праўда, ня ўсе прыехалі на Кангрэс, але пераважная большасьць заяўленых дакладаў прагучала й праца атрымалася вельмі цікавай.

Перш, чым перайсьці ўласна да сэкцыі, варта згадаць адкрыцьцё на Кангрэсе цікавай выставы, прысьвечанай Віленскай беларускай гімназіі. Арганізавалі яе Томаш Блашчак і Людвіка Кардзіс. Цікавыя фатаздымкі, дакумэнты, сшыткі, падручнікі, вышыванкі ды іншае, зьвязанае з гэтай навучальнай установай і яе вучнямі, маглі ўбачыць удзельнікі форуму.

Першая панэль сэкцыі, якая пачала працу ў пятніцу, 3 кастрычніка, была прысьвечаная пытаньням межаў і памежжа. На пачатку беларускі навуковец зь Беластоку **Алег Латышонак** распавёў пра розныя бачаньні цывілізацыйнай прыналежнасьці Беларусі й прыйшоў да высновы, што найбольш ягонаму ўяўленьню адпавядае канцэпцыя Фэлікса Канечнага й аднясеньне беларусаў да прадстаўнікоў туранскай цывілізацыі.

Сьледам **Дарота Міхалюк** з Унівэрсытэту М. Каперніка разгледзела больш вузкае пытаньне, зьвязанае з мапай БНР 1918 г., яе паходжаньнем і аўтарствам. Паводле яе, адным з найбольш верагодных аў-



Частка ўдзельнікаў сэкцыі. У першым шэрагу зьлева направа: Андрэй Буча, Вольга Зубко, Ганна Запартыка; у другім шэрагу зьлева направа: Мікола Трус, Натальля Гардзіенка, Лена Глагоўская, Ірына Багдановіч; стаіць Вольга Ямкова. Коўна, 2014 г.

тараў можа быць немец Вальтэр Егер, хоць гэта яшчэ, хутчэй, гіпотэза, якая патрабуе пацьверджаньня.

У працяг тэмы **Вольга Масьцяніца** з Інстытуту гісторыі Летувы прадставіла варыянты разуменьня Беларусі, беларускай тэрыторыі на пачатку XX ст. у розных беларускіх выданьнях.

Надзвычай цікавы даклад прадставіла **Вольга Ляўчук** з Варшаўскага ўнівэрсытэту. За інтрыгуючай назвай „Непаўторны сьвет чалавека памежжа“ хаваліся вынікі палявых досьледаў, зробленых на Пастаўшчыне. Тут закраналіся пытаньні нацыянальнай і рэлігійнай ідэнтыфікацыі насельніцтва, падмацаваныя зьвесткамі, атрыманымі ў ходзе запісу інтэрвію зь мясцовымі жыхарамі.

Апошні выступ на тэму межаў і памежжа зрабіў адзін з арганізатараў сэкцыі й Кангрэсу **Томаш Блашчак** з Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага ў Коўна. Ён распавёў пра абставіны й асаблівасьці вызначэньня беларуска-летувіскай мяжы ў 1939 г.

Пасьля перапынку на каву пачала працу панэль „Беларускае замежжа: крыніцы й інтэрпрэтацыі. Тут дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва **Ганна Запартыка** расказала пра гісторыю зьяўленьня фондаў беларускай эміграцыі ў згаданым архіве, іх асаблівасьці й сучасны стан апрацоўкі. Былі згаданыя цікавыя акалічнасьці перадачы ў архіў дакумэнтаў Міхася Забэйды-Суміцкага, Масея Сяднёва, Антона Адамовіча, Алеся Алехніка, Вітаўта Кіпеля, Янкі Запрудніка.

Далей **Зьміцер Матвейчык** з Нацыянальнага гістарычнага архіву Беларусі распавёў пра Міхала Валовіча й ягонае эсэ, прысьвечанае партызанскай барацьбе, знойдзенае ў зборах Польскага інстытуту ў Парыжы. На жаль, Зьміцер быў адзіным спэцыялістам па эміграцыі XIX ст., які змог прыехаць на Кангрэс. Аднак ягоны даклад выклікаў ва ўсіх прысутных на паседжаньні вялікую цікавасьць.

**Мікола Пачкаеў**, старшыня Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, прадставіў даклад на тэму „Падыходы да традыцыі беларускай дзяржаўнасьці ў эміграцыі: статус Рады БНР як палітычнай інстытуцыі й як суб’екта гісторыі з гледзішча сучасных дасьледнікаў“. Ён зьвярнуў увагу на тое, што Раду БНР нельга прадстаўляць як проста адну з эміграцыйных арганізацый, яна мае спэцыфічны статус дзяржаўнага прадстаўніцтва.

**Ільля Дзяменцьеў** з Балтыйскага фэдэральнага ўнівэрсытэту імя І. Канта ў Калінінградзе распавёў пра беларускую прысутнасьць у Калінінградзкай вобласьці Расеі ды магчымыя спосабы яе камэмарацыі. Калінінградзкая вобласьць зьяўляецца самым беларускім рэгіёнам Расеі, адзіным, дзе беларусы складаюць другую паводле колькасьці (пасьля расейцаў) нацыянальную групу (каля 10%). Думаецца, што вывучэньне іх вопыту й актыўнасьці можа быць пэрспэктыўнай тэмай.

На жаль, не прыехала на Кангрэс **Вольга Іванова** зь Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту й прысутныя не змаглі паслухаць даклад, прысьвечаны вусным успамінам прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Аднак тэкст гэтага дакладу прапануецца чытачам у гэтым выпуску „Запісаў БІНіМ“, і ўсе зацікаўленыя могуць зь ім пазнаёміцца.

Другі дзень Кангрэсу пачаўся з працы панэлі, прысьвечанай праблемам беларускага замежжа ў міжваенны пэрыяд. Першай слова мела **Вольга Ямкова** з Кіеўскага нацыянальнага ўнівэрсытэту імя Т. Шаўчэнкі, якая расказала пра беларускае студэнцтва ў чэскіх навучальных установах у 1920-х — 1930-х гг. Яна, сярод іншага, прывяла цікавыя статыстычныя зьвесткі й архіўныя матэрыялы пра беларускіх студэнтаў у Брно.

Зьмяніў заяўленую ад пачатку тэму **Андрэй Буча** зь Менску, які расказаў пра Беларускі кабінэт ва Ўкраінскім інстытуце грамадазнаўства ў Празе, што дзейнічаў у 1920-х гг. на чале з Тамашам Грыбам. У якасьці супрацоўнікаў кабінэту выступалі таксама Сяргей Бусел, Мікола Ільляшэвіч, Мікола Чарнецкі, Ігнат Сланеўскі. Беларускі кабінэт зьбіраў бібліятэку, архіў, займаўся беларусазнаўчымі дасьледаваньнямі. Фактычна, гэта была першая беларуская дасьледная ўстанова на эміграцыі.

У працэсе дыскусіі высьветлілася, што ў Вольгі Ямковай і Андрэя Бучы супольныя інтарэсы ў агучанай тэме, і яны дамовіліся зрабіць агульную публікацыю, параўнаўшы тыя дакумэнты, на якія кожны зь іх абапіраецца ў сваіх дасьледаваньнях.

На жаль, з прычыны страты голасу, не змагла прадставіць свой даклад на Кангрэсе прысутная **Вольга Зубко** зь Віньніцкага нацыянальнага аграрнага ўнівэрсытэту. Аднак і яе тэкст, прысьвечаны беларускім пражанам, таксама публікуецца ў „Запісах БІНіМ“.

Суіскальніца зь Міжнароднай акадэміі кіраваньня пэрсаналам у горадзе Хмельніцкім **Алена Барабаш** прадставіла даклад на тэму „Беларусы ў эміграцыі як фактар нацыянальнай ідэнтыфікацыі, Прага 1920-я гг.“ паспрабавала ацаніць наяўнасьць пашпартоў БНР у беларускіх студэнтаў у Чэхаславачыне як фактар нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Гэтая тэза выклікала ажыўленую дыскусію ў прысутных.

На жаль, не дабралася да Кангрэсу **Вольга Коваль** зь Беларускага дзяржаўнага тэхналягічнага ўнівэрсытэту. Прысутныя зь цікавасьцю чакалі дакладу пра беларуска-украінскія ўзаемасувязі ў міжваенны час.

Своеасаблівую чэхаславацкую тэму працягнуў **Мікола Трус** зь Беларускага дзяржаўнага тэхналягічнага ўнівэрсытэту, які расказаў пра Браціслаўскі архіў Людмілы Краскоўскай, ягоныя ўкраінскія й беларускія зборы. Ведамы славацкі археоляг, дачка беларускага дзеяча Івана Краскоўскага Людміла зьберагла для нашчадкаў надзвычай цікавыя дакумэнты зь міжваеннага й паваеннага часу. Частку ліставаньня з гэтага архіву (лісты Міхася Каберца, Уладзімера Жылкі, Антона Луцкевіча й некаторых іншых) мы публікавалі ў мінулых „Запісах БІНіМ“.

**Уладзімер Калупаеў** з дасьледнага цэнтру *„Russia Cristiana“* з італьянскага мястэчка Сэрыята займаецца вывучэньнем расейскай эміграцыі. Аднак на Кангрэсе ён прадставіў даклад на тэму „Беларускія місіянэры ў Харбіне (1928—1949)“, у якім распавёў пра дзейнасьць беларускіх айцоў-марыянаў і найбольш а. Язэпа Германовіча, а таксама пра тое, дзе ў якіх архівах можна шукаць матэрыялы ў гэтай тэме.

У працяг тэмы **Ірына Багдановіч** зь Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту зьвярнулася ў сваім выступе да творчасьці таго самага

Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага), найперш ягонай паэзіі. У дакладзе прагучалі ўрыўкі з твораў, прысьвечаных праблемам беларусізацыі касьцёлу.

Дасьледніца **Лена Глагоўская** з Польшчы прадставіла даклад, прысьвечаны дзейнасьці й творчасьці Хведара Ільляшэвіча ў апошні „нямецкі“ пэрыяд ягонага жыцьця. Выступоўца сканцэнтравалася на апісаньні самога працэсу збору матэрыялаў пра гэтага дзеяча. Хочацца спадзявацца, што падрыхтаваная аўтаркай кніга пра Хведара Ільляшэвіча ўсё ж пабачыць сьвет.

Пасьля перапынку на абед пачала працу новая панэль „Беларускае замежжа: асэнсаваньне інтэлектуальнай спадчыны“.

Першым свой даклад агучыў **Ціхан Чарнякевіч** як прадстаўнік Выдавецкага дому „Зьвязда“. Ён расказаў пра ўспаміны Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага) „Чутае. Бачанае. Перажытае“, якія зараз рыхтуюцца да друку й зьяўляюцца важнай крыніцай у беларускай гісторыі міжваеннага, ваеннага й паваеннага часу.

Далей ішоў наш даклад пра ўспаміны сям'і Стагановічаў, дзе распавядалася пра ўнікальны выпадак у айчыннай эміграцыйнай мэмуарыстыцы, а мо й ня толькі эміграцыйнай, калі чатыры члены сям'і: бацькі Аляксандар і Марыя Стагановічы, ды дзеці Леў і Тамара напісалі ў розны час кожны свае ўспаміны. Тэксты істотна адрозьніваюцца адзін ад аднаго сваімі акцэнтамі, і разам ствараюць надзвычай цікавую гісторыю аднае сям'і ў XX ст.

Пасьля выступала **Ганна Кісьліцына** з Цэнтру дасьледаваньня праблемаў культуры, мовы й літаратуры НАН Беларусі, якая расказала пра вобраз „Беларускага калябаранта“, створаны на старонках „Запісак эмігранта“ Лявона Савёнка ды „Дзёньніка“ Дзьмітрыя Сямёнава. Аўтар зьвярнула ўвагу на тыповыя рысы калябаранта, якія ў пэўнай меры выглядаюць як рысы нацыянальнага характару беларусаў.

Апошні даклад на гэтай панэлі прачытаў **Сяргей Шабельцаў** зь Беларускага дзяржаўнага мэдыцынскага ўнівэрсытэту. Ён распавёў пра друкаваны орган беларусаў у Аргентыне „Новую газету“, што выдавалася ў Буэнас-Айрэсе ў 1936—1941 гг. і мела пракамуністычную скіраванасьць. Аказваецца, і па адным знойдзеным нумары гэтай газэты можна шмат даведацца пра беларускую прысутнасьць у згаданай паўднёваамэрыканскай краіне.

Апошнім заплянаваным на панэлі выступоўцам мелася быць **Марына Чарнякевіч** зь Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя М. Танка. Аднак па сямейных прычынах яна не змагла пры-



Натальля Гардзіенка прэзэнтуе „Запісы БІНіМ“

сутнічаць і тэма асаблівасьцяў рэлігійнай лексікі ў беларускіх замежных пэрыядычных выданьнях так і засталася ў нас нераскрытаю.

Пасьля заканчэньня панэлі адбылася яшчэ прэзэнтацыя „Запісаў БІНіМ“ і дыску беларускіх эміграцыйных калекцыяў, а таксама ўручэньне прэміяў Кангрэсу за найлепшыя навуковыя публікацыі году.

Апошняя панэль „Беларуска-польскія дачыненьні ў XX ст.“ працавала зранку 5 кастрычніка. Аднак з заяўленых шасьці дакладаў былі агучаныя толькі два: незалежнага дасьледніка зь Беларусі **Аляксандра Пагарэлага** „Вясковы дыскурс, мова палітыкі і палітычная сацыялізацыя ў Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд“ ды **Ганны Васілевіч** з Эўрапейскага цэнтру па пытаньнях меншасьцяў (Фленсбург) „Меншасьці пасьля „халоднай вайны“: беларуска-польскае памежжа“. Апошні даклад прадставіла не сама аўтарка, а дасьледнік **Кірыл Касьцян**. Заплянаваны на Кангрэс даклад **Юрыя Грыбоўскага** з Варшаўскага ўнівэрсытэту, прысьвечаны беларуска-польскім перамовам на эміграцыі ў 1945—1950 гг. таксама зьмешчаны ў сёлетніх „Запісах БІНіМ“.

Такім чынам, пераважная большасьць агучаных на сэкцыі дакладаў былі прысьвечаныя праблемам беларускай эміграцыі. Іх аўтары атрымалі прапанову апублікаваць тэксты на старонках сёлетніх „Запісаў БІНіМ“. І хоць далёка ня ўсе скарысталіся прадстаўленай магчымасьцю, тым ня менш, у нумары зьявілася адмысловая рубрыка, якая ў пэўнай ступені адлюстроўвае стан сучасных эміграцыязнаўчых дасьледаваньняў.

*Эміграцыязнаўчая сэкцыя*
*IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі*


***Вольга Зубко***
*Віньніца*


# ШТОДЗЁННАЕ (ПОБЫТАВАЕ) ЖЫЦЬЦЁ БЕЛАРУСКІХ ПРАЖАНАЎ У 1920-Х—1930-Х ГГ.

*„Я на жизнь взираю из-под столика,*
*Век двадцатый — век необычайный:*
*Чем он интересней для историка,*
*Тем для современника печальней“.*
Николай Глазков

Як ведама, беларуская дыяспара ў Чэхаславаччыне 1920-х гг. была нешматлікая. Як студэнцка-сялянская па сваёй сацыяльнай сутнасьці яна тым ня менш сканцэнтравала сваю дзейнасьць у фарватэры палітычным, чым і стала своеасаблівай на фоне іншых нацыянальных дыяспараў гэтай краіны. Менавіта тады на палітычным, гістарычным і міжнародным даляглядах сталі ведамыя імёны Вацлава Ластоўскага, Тамаша Грыба, Янкі Станкевіча, Пётры Крэчэўскага ды іншых лідараў беларускіх пражанаў. (Горад Прага быў ўсё ж галоўным месцам дысьлякацыі беларусаў, што эміргравалі ў 1920-х гг. з тых або іншых прычынаў).

Паводле сьведчаньняў Тамаша Грыба, у агульнай масе студэнтаў з былой Расейскай імпэрыі выхадцы зь Беларусі складалі каля 300 чалавек. Умоўна яны падзяляліся на дзьве катэгорыі: „касмапаліты“ або „асобы рускай нацыянальнасьці“ й „народнікі“ — эліта беларускай эміграцыі[1].

---

[1] Ляховский, В. Общественно-культурная деятельность белорусской диаспоры в Чехословакии в 1921-1938гг. // Есть на карте место... Общественно-культурная жизнь белорусской и российской эмиграции в Чехословакии. 1921—1938. Каталог. Выставка в Национальном музее истории и культуры Беларуси с 27 мая по 3 июля 2002 г. Минск, 2002.

„Народнікі“ пакінулі значныя інтэлектуальныя й культурна-грамадзкія сьляды ня толькі ў Празе, але і ў Брно, Браціславе ды Пшыбраме, пра што сьведчаць шматлікія архівы й навуковыя дасьледаваньні як беларускіх навукоўцаў (Уладзімера Ляхоўскага, Андрэя Чарнякевіча, Алеся Смаленчука, Валянціны Лебедзевай, Андрэя Бучы, Вольгі Коваль і іншых), так і ўкраінскіх (у прыватнасці, аўтар гэтага дакладу абараніла дысэртацыйнае дасьледаваньне па тэме гісторыі й дзейнасьці Украінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту імя М. Драгаманава ў Празе ў 1923—1933 гг., на базе якога існавала першая за мяжой катэдра беларусазнаўства пад кіраўніцтвам Янкі Станкевіча). Разам з тым, па-за ўвагай большасьці беларуска-ўкраінскіх дасьледнікаў застаюцца пытаньні штодзённага жыцьця беларускіх пражанаў.

Безумоўна, побытавыя патрэбы беларускіх эмігрантаў у Празе былі занадта разнастайныя, таму задача вывучэньня іх ва ўсёй паўнаце выходзіць за рамкі нашага дакладу. На дадзеным этапе мы абмежаваліся толькі разглядам таго, як беларускія пражане рэалізоўвалі свае базавыя біялягічныя й сацыяльныя патрэбы — у харчаваньні, адзежы, жытле й вольным часе.

***Адзеньне.*** Уласна, беларускі эмігрант сам „выбіраў“ што й калі яму апрануць з таго, што ён меў. Пры гэтым ён падсьвядома імкнуўся зрабіць больш-менш выразнымі тыя ці іншыя рысы характару, свае псыхалягічныя й сацыяльныя якасьці. Гэтак жа падсьвядома ён дэкараваў вопратку. Элемэнты адзеньня былі перш за ўсё знакамі ягонай групавой прыналежнасьці. Беларускія пражане разумелі й тое, што ацэнка стылю адзеньня несьвядома пераносілася на ацэнку асобы. У гэтым выпадку гаворка ідзе пра „эфект арэолу“ — пабуджэньне чалавека з дапамогай адзеньня прыпісваць іншаму тыя якасьці, якія адзеньне ня выявіла, але якія асацыююцца з адпаведнай сацыяльнай роляй. Адсюль, напрыклад, наяўнасьць практычна ў кожнага зь беларускіх мужчынаў-эмігрантаў традыцыйнага ў 1920-х гарнітуру-смокінгу, а ў жанчынаў — даўгой сукенкі без рукавоў з глыбокім выразам на сьпіне. Іншымі словамі, мовай сучасьнікаў: праскі беларус у тагачасным далёка не зайздросным становішчы быў здольны з дапамогай адзеньня адчайна „пантаваць“.

Для таго каб адказаць на пытаньне, што, уласна, з адзеньня насіла беларуская эміграцыя ў Чэхаславаччыне, трэба разгледзець модныя эўрапейскія тэндэнцыі 1920-х гг.

Мода, як ведама, фармуецца пад уплывам грамадзтва й падзеяў, якія ў ім адбываюцца.



Тамаш Грыб. Прага, 1925 г.



Васіль Захарка. Прага, 1921 г.

Таму мужчынскі модны эталон 1920-х: цыліндар, кацялок або кепі незвычайнай шырыні; гарнітур-смокінг; кіёк; твідавы пінжак з воўны з абавязковымі накладнымі кішэнямі; нязьменны фасон мужчынскіх кашуляў узору 1910 г. (каўнер-стоечка, запанкі); гальштук і, як на дзіва, брыджы, падвернутыя ўнутр ніжэй за калені. А з актыўным укараненьнем у жыцьцё чалавека аўтамабіляў і самалётаў у мужчынскую моду ўвайшлі скураныя курткі.

У клясыку беларускага эміграцкага мужчынскага эталёну ў Чэхаславаччыне 1920-х выдатна „ўпісаліся“ Васіль Захарка й Тамаш Грыб, пра што сьведчаць архіўныя фатаздымкі[2] . Васіль Захарка (1877—1943), „пражанін“ ад 1923 г., кіраўнік Беларускай Рады ад 1925 г. і Прэзыдэнт Рады БНР ад 1928 г., на фатаздымку — у „закрытай паставе“ (са скрыжаванымі рукамі), якая, відавочна, гаворыць пра тое, што ўсё „сказанае“ яму варта перагледзець, значна даўжэй абдумаць. Псыхолягі сьцьвярджаюць, што „закрытая пастава“ — гэта падсьвядомы адказ ча-

[2] Васіль Захарка. Прага, 1921. Фатаграфія. Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музэі Рэспублікі Беларусь; Тамаш Грыб. Прага, 1925. Фатаграфія. Арыгінал захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва (БДАМЛМ).




Беларускія студэнты ў Чэхаславаччыне. 1921—1929 гг.

лавека на магчымыя пагрозы й канфліктныя сытуацыі. Гарнітур-смокінг ды кашуля з каўняром-стоечкой, шырокімі манжэтамі яе (кашулі) рукавоў, запанкамі, акуратна завязаны гальштук, нахіленая ўбок галава й дапытлівы уважлівы погляд толькі падкрэсьліваюць недавер былога міністра фінансаў БНР. „Паўтарае“ Васіля Захарку й лідар, галоўны ідэоляг партыі беларускіх эсэраў Тамаш Грыб (1895—1938) — тая ж „закрытая пастава“ (са скрыжаванымі рукамі), тыя ж атрыбуты адзеньня й тойсамы насьцярожаны ўважлівы погляд. Адрозьненьні паміж фатаздымкамі ўсяго толькі ў дробных дэталях: у датах і ў відах здымкаў (Захарка здымаўся стоячы, а Грыб — седзячы).

Зрэшты, варта дадаць, што гарнітуры-смокінгі, кашулі з каўнярамі-стоечкамі й запанкамі на манжэтах ды гальштукі мелі гэтак жа практычна ўсе студэнты з Падэбрадзкай Украінскай сельскагаспадарчай акадэміі й Украінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту імя М. Дра-

гаманава ў Празе, у чым ужо пераконваюць выпускныя фатаздымкі на віньетках[3] .

Не чужыя беларускім студэнтам былі й скуранкі. У 1925—1927 гг. на базе Ўкраінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту актыўна функцыянавалі аўтатрактарныя курсы, сучасным аналягам якіх ёсьць курсы падрыхтоўкі кіроўцаў розных катэгорыяў. Наяўнасьць у 1920-х скураной курткі й пасьведчаньня кіроўцы ў прамысловай Чэхіі й аграрнай Славаччыне гарантавалі працу, а значыць — выжываньне.

Жаночы модны эталён 1920-х гг.: гарнітуры са штанамі; стрыжкі „Паж“, „Гарсон“, „Кароткі Боб“; мужчынскі, але нядбайна завязаны гальштук; муштук; сукенкі featured рознай даўжыні (як кароткія, гэтак і доўгія „у падлогу“) вольнага крою з станам на сьцёгнах; адсутнасьць рукавоў у сукенках і наяўнасьць глыбокага выразу на сьпіне; футравы антураж-дадатак (гаржэткі, шалікі-баа); доўгая нітка пэрлінаў і шаўковыя панчохі; капялюш „Клош“; туфлі-лодачкі й туфлі з зашпількай-перапонкай. Вельмі часта, на туфлі-лодачкі або туфлі з зашпількаю ў восеньскую непагадзь надзяваліся спэцыяльныя чаравічкі. (Трэба адзначыць, што Прага ў 1920-х лічылася абутковай сталіцай Эўропы. Чэскі абутковы гігант — прадпрыемства Томаша Баці выпускала на год 22 500 000 параў featured рознага жаночага й мужчынскага абутку (туфлі, чаравікі, боты)). Пра тое, што беларускія пражанкі не былі чужыя модным тэндэнцыям, сьведчыць архіўнае фота, дзе адлюстраваныя прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Празе падчас урачыстага вечару, прысьвечанага 40-й гадавіне з дня сьмерці пісьменьніка й драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў 1924 г.[4] На фатаздымку ў прыватнасьці — Іван Краскоўскі, украінска-беларускі дыплямат, кіраўнік Украінскай дыпляматычнай місіі УНР на Каўказе ў 1919—1920-х гг., Васіль і Паліна Захаркі, Ніна й Пётра Крэчэўскія, Янка Станкевіч — філёляг, гісторык і пэдагог, Ігнат Дварчанін — старшыня Беларускага студэнцкага гуртка імя Ф. Скарыны, кіраўнік Згуртаваньня беларускага прагрэсіўнага студэнцтва. На Паліне Захарцы й Ніне Крэчэўскай — прыгожыя сукенкі „у падлогу“ зь незаўважнымі даўгімі ніткамі пэрлінаў; на нагах Паліны — туфлі-лодачкі, Ніна ж абутая ў чаравічкі. Характэрная дэталь і гэтага фатаздым-

[3] Беларускія студэнты ў Чэхаславаччыне. 1921—1929. Віньетка. Арыгінал захоўваецца ў БДАМЛМ.

[4] Удзельнікі беларускай „вечарыны“ ў Празе з нагоды 40-й гадавіны з дня сьмерці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. 30 сьнежня 1924 г. Фатаграфія. Арыгінал захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 138. Арк. 1.



Удзельнікі беларускай „вечарыны“ ў Празе. 30 сьнежня 1924 г.

ку: „закрытая пастава“ са скрыжаванымі рукамі ва ўсіх тых, што сядзяць у першым шэрагу, у тым ліку і ў жанчынаў.

Трэба ўлічваць і той факт, што на моду беларускіх пражанаў наогул значны ўплыў рабіла таксама „нямое“ кіно й спорт. У Чэхаславаччыне 1920-х гг. — пік „нямога“ чорна-белага кіно прыпаў на 1929 г. Менавіта тады ў краіне адбылася прэм’ера зьнятай раней Альфрэдам Хічкокам кінастужкі „Штаны“. Ну а для „Беларускага сокала“ — моладзевай спартовай арганізацыі — значнай падзеяй было ўзьняцьце ў 1920 г. у Антвэрпэне Алімпійскага сьцягу.

***Харчаваньне.*** Знаходжаньне беларусаў у Чэхаславаччыне спрыяла таму, што, не забываючы пра ўласныя традыцыйныя нацыянальныя прысмакі, яны вельмі хутка пазнаёміліся зь мясцовай кухняй. Казаць аб тым, што сілкаваліся „выгнаньнікі“ спажыўна, рэгулярна й карысна, не прыходзіцца (фактычна людзі жылі надгаладзь), але ўсё ж знаёмыя былі з такімі нацыянальнымі чэскімі стравамі, як: бульбяны суп (*bramboracka*), сьвіная адбіўная з кнэдлікамі й квашанай капустай (*veprove knedliky a zeli*), кнэдлікі з садавіной, вяршкамі й асаблівым гатункам сыру (*ovocne knedliky*), яблычны штрудзель (*jablecny zavin*).

Але больш за ўсё ў „гасподах“ (чэскіх пабах) беларускія пражане выпівалі піва. Піва, варта адзначыць, у той час для Чэхаславацкай Рэс-

публікі мела тое ж значэньне, што нафта для ўсяго астатняга сьвету. Калі б на адзін дзень у краіне ў 1920-х перасталі варыць гэты прадукт, то ня выключана, што гэта прывяло б да канчатковага краху эканомікі. Пачынаючы ад 1922 г. і фактычна да 1938 г. трывалую нішу ў Чэхаславаччыне займаў ведамы гатунак піва *„Staropramen“*. Менавіта гэтае піва стала ўлюбёным для ўсіх без выняткаў выхадцаў з былой Расейскай імпэрыі. Але галоўная вартасьць была не ў самым напоі, а ў душэўных вячорках за куфлем піва. Гэта значыць, у той псыхатэрапіі, якая дапамагала забыцца на некаторы час пра горыч эмігранцкага хлебу[5].

***Жытло***. Для беларускай эміграцыі ў Празе пытаньне „хатняга ачагу“ стаяла вельмі востра, побач з іншымі праблемамі, што патрабавалі неадкладнага вырашэньня. І гэта было не таму, што існаваў дэфіцыт жыльля, а ў самім трагізме сытуацыі ўцекачоў: паняцьце „хатні ачаг“ было аўтаматычна замененае паняцьцем „жыльлёвае пытаньне“. І хоць Чэхаславаччына была адной краінаў, што спрабавала вырашыць праблему ўцекачоў па лініі Лігі Нацыяў і нават фінансавала бежанцаў з Расеі („Руская дапаможная акцыя“), „жыльлёвае пытаньне“ так і не было вырашанае ні часткова, ні цалкам. Так, эмігранты атрымлівалі інтэрнаты, пераабсталяваныя з казармаў або багадзельняў, але часьцей за ўсё ім даводзілася здымаць пакоі або кватэры. Паколькі арэнда жыльля ў чэхаславацкай сталіцы была вельмі дарагая, беларускія пражане часта жылі ў прыгарадзе (Падэбрады, Марджаны). Па магчымасьці беларусы (як нацыя, спрадвечныя карані якой глыбока ў зямлі, нацыя аграрыяў) стараліся зьняць пакой або кватэру з агародчыкам ці агародам. Кветнік і агарод былі ня толькі дапамогай у харчаваньні, але яшчэ такой самай псыхатэрапіяй, як і келіх піва *„Staropramen“*. Кветнік і агарод дапамагалі ў пэўнай ступені вырвацца *„зь ненавіснага смуроду цывілізацыі“*.

Яшчэ адной балючай праблемай у эмігранцкім „жыльлёвым пытаньні“ была „камунізацыі здымнага жыльля“. Але ў гэтым выпадку супольнае жыцьцё не было новай мадэльлю чалавечых узаемаадносінаў, зьвязанай з пераарыентацыяй побыту ад сямейнага да грамадзкага, як у Савецкім Саюзе. „Камунізацыі здымнага жыльля“ была зьвязаная зь фінансамі, так проста было таньней. У некаторых выпадках пакой ці кватэру здымалі як мужчыны, так і жанчыны разам. Пры гэтым, пытаньне пра „распусту“ здымалася само сабой. Многія эмігранты ў пошуках кавалку хлебу падзараблялі на некалькіх працах, і ў выніку, проста не перасякаліся па часе ў пакоі або кватэры.

[5] Зубко, О. „Лучше водки хуже нет!“. Гл.: www. istpravda.ru/bel/research/9201.

***Вольны час.*** У 1920-х гг. беларускае грамадзтва, што выйшла з дзьвюх войнаў (скончанай Першай сусьветнай і працяглай нацыянальна-вызваленчай), адчувала вострую неабходнасьць у фізычным і духоўным адпачынку. Аднак зьмененыя ўмовы прывялі да істотнай трансфармацыі уяўленьняў пра адпачынак і вольны час. Адной з галоўных тэндэнцыяў у зьмене гэтых уяўленьняў стала вымушаная калектыўная форма адпачынку, бо масавасьць мерапрыемстваў спрыяла рытуалізацыі грамадзкай сьвядомасьці. Эмігранты наведвалі: вечары пытаньняў і адказаў, музычныя канцэрты, выставы й спэктаклі, сэкцыі й гурткі, імкнуліся правесьці вечар у парку адпачынку. Шырокае распаўсюджаньне атрымалі публічныя лекцыі на розныя тэмы, наведваньне бібліятэкаў, хат-чытальняў і народных дамоў. Разам з тым, патрэба ў рэлаксацыі вяла да пашырэньня ў эмігранцкім асяродзьдзі розных формаў дэвіянтных паводзінаў. Гэта значыць, у 1920-х гг. адначасова суіснавалі дзьве тэндэнцыі ў сфэры эмігранцкага адпачынку й вольнага часу: ўзаконеная (афіцыйная, дазволеная) — і ценявая: п'янства, наркаманія (марфіністы) і прастытуцыя, што тлумачылася фэномэнам „сацыяльнай самакампэнсацыі“ — адчайнай барацьбой за *„сваё месца пад сонцам“*. Казаць пра масавасьць адхіленьняў у асяродзьдзі беларускіх пражанаў не дазваляюць дакумэнты, але разам з тым яны ж (дакумэнты) не дазваляюць і ігнараваць гэтае пытаньне.

Так, напрыклад, у 1923 г. гарэлка справакавала на роўным месцы велізарны ўкраінска-беларускі студэнцкі канфлікт у Празе й Падэбрадах. На імя дырэкцыі Ўкраінскай сельскагаспадарчай акадэміі (Украінскай вышэйшай тэхнічнай школы, заснаванай у 1922 г. Украінскім народным камітэтам у Чэхаславаччыне на чале зь Мікітам Шапавалам пры фінансавай дапамозе Міністэрства замежных справаў ЧСР) у Падэбрадах (курортным гарадку Палабскай нізіны на беразе ракі Эльбы за 50 км ад Прагі) паступілі дзьве заявы. Першая:

*„16 червня 1923 року в реставрації готелю „Централь“ стався слідуючий випадок: о 20.30 вечора, ми, нижче підписані, прийшли до реставрації випить пива. За півгодини туди прийшла компанія чехів. Між ними був місцевий кравець Куберт. Незабаром до них приєдналися студенти-білоруси Мамонько*[6] *і Бусел*[7]*, обидва напідпитку.*

[6] **Язэп Мамонька** (1889—1937), сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, створанай у 1918 г. на базе левага народніцкага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады.

[7] **Сяргей Бусел** (1901 — ?) быў на той час студэнтам каапэратыўнага факультэту Ўкраінскай сельскагаспадарчай акадэміі.

*Студент Мамонько ще до нас тримався демонстративно, а студент Бусел напівголос радив чехам припинити з нами балачки, бо, мовляв, ми монархісти німецької орієнтації та ще щось, чого ми вже не чули. З боку чехів після того почалися ворожі випади у наш бік і, коли залишали ми реставрацію, нас випроваджували співом „Deutschland, Deutschland über alles!". На вулиці ми вирішили викликати студента Бусла до нас для з'ясування його поведінки в реставрації, що і зробили.*

*Студент Бусел вийшов до нас, але пояснення не дав. Повертаючись до реставрації, він вигукував щось про зле відношення українців до білорусів. Ми вирішили чекати його і зробити з ним те, що роблять з провокаторами.*

*До першої години ночі ми чули співи московських пісень, які галакали п'яні Мамонько та Бусел. Нарешті вони вийшли. Ми дали їм відійти від реставрації й тоді вже розділалися з Буслом у відповідний спосіб. Мамонька не чіпали з огляду на його благання й запевняння, що він битися з товаришами українцями не хоче. А коли наблизились якісь чехи, Мамонько став кричать істеричним голосом, що українські бандіти ізбивають білорусів. На цьому ми їх залишили. Студенти: Ковердинський, Ржевуцький, Кузнєцов, Чирський. Липень 1923 року"*[8].

Другая заява:

*„Украінскаму Грамадзкаму Камітэту*<br>
*студэнта эканамічнага атдзела*<br>
*УСГА ў Падэбрадах*<br>
*Язэпа Мамонькі.*

*Заява*

*Гэтым маю [гонар] прасіць Украінскі Грамадзскі Камітэт звярнуць сваю грамадзскую увагу на тое насільства, якое робіцца украінскімі хлебаробамі-манархістамі над беларускім паступовым студэнтствам у Акадэміі і прашу узять нас пад сваю апеку.*

*У дадаток майго вуснага дакладу аб пастанове Сената Акадэміі, каб я падав заяву аб выхадзе з Акадэміі, при гэтым прыкладаю ўсе адпаведныя дакумэнты, якія высветляюць гэтую справу.*

*Язэп Мамонька*

*Прага, 11. VII. 1923 г."*[9].

---

[8] Центральний державний архів вищих органів влади та управління України (ЦДАВОУ). Ф. 3801. Воп. 1. Спр. 288. Арк. 24.

[9] ЦДАВОУ. Ф. 3801. Воп. 1. Спр. 288. Арк. 23.

Падобную заяву Язэп Мамонька напісаў і ў падэбрадзкую паліцыю. Праваахоўнікі „заклікалі“ ўдзельнікаў канфлікту вырашыць пытаньні „палюбоўна“. 19 ліпеня 1923 г. адбыўся таварыскі суд „беларускіх пражанаў“, а ўкраінцы засядалі днём раней.

Украінскі таварыскі суд і адміністрацыя УСГА пастанавілі пакараць усіх без выключэньня ўдзельнікаў канфлікту: Кавердынскага, Ржэвуцкага, Кузьняцова й Чырскага — *„до найвищої міри кари“* (іх публічна пакаралі). А вось студэнтаў-беларусаў, Бусла й Мамоньку, з увагі на іх непрызнаньне віны й тое, што яны вынесьлі канфлікт за межы ВНУ, пастанавілі выключыць са студэнцкага акадэмічнага складу.

„Беларуская грамада“, ня згодная з рашэньнем „украінскага таварыскага суду“, пастанавіла:

*„...1. Зьвярнуцца да УСГА с пратэстам супраць ганебных учынкаў 4 членаў грамады над беларускім студэнтам, недастойных годнасьці студента, і прасіць адпаведнага рашэньня. 2. Зьвярнуцца да Сэнату Акадэміі з прозьбаю пра адпаведнае распараджэньне, каб запабегчы падобныя выпадкі і прасіць пра наложэньне на віновных кары. 3. Паведаміць Кубанскае Землячества пры Акадэміі, пра наступную заяву галавы УСГА: „Киньте ви, чоловіки, гратися у Білорусь. І я вам кажу, якщо ви будете роздувати цю справу, то ми теж будемо роздувати і лише вам буде гірше“. Так заявіў галава Ак. Грамады УСГА т. Мамоньку на заяву астатнэга, што незалежна ад украінскай грамады, гэту справу буде разьбераць і Бел. Студэнства.... Пры негатыўным вырашэньні справы — далейшае паступаваньне, аж да публічнай апініі.*

*Старшыня Сходу беларускіх студэнтаў — Васіль Русак“*[10] .

Такім чынам, шматаблічнасьць і шматвэктарнасьць штодзённасьці беларускай дыяспары ў Празе ў 1920-х гг. даказвае: людзі не аднолькава рухаюцца па адной і той жа каляіне, а таму індуктыўны шлях — шлях да зразуменьня агульнага (уяўленьняў пра сьвет некаторай групы людзей або ўсяго грамадзтва) праз асобнае (жыцьці, „штодзённасьці“ асобных людзей) — вельмі прадуктыўны шлях аднаўленьня карціны мінулага стагодзьдзя, ранейшага часу.

*Пераклад з расейскай Натальлі Гардзіенкі*

[10] ЦДАВОУ. Ф. 3801. Воп. 1. Спр. 288. Арк. 28—29.

***Мікола Трус***
*Менск*

# БРАЦІСЛАЎСКІ АРХІЎ ЛЮДМІЛЫ КРАСКОЎСКАЙ: БЕЛАРУСКІЯ І ЎКРАІНСКІЯ ЗБОРЫ ДАКУМЭНТАЎ

У гісторыі беларускай і ўкраінскай эміграцыі ХХ ст. міжваенны пэрыяд займае адметнае месца, зьвязанае з новым узроўнем культурнай ідэнтыфікацыі, супрацоўніцтва, актуалізаваных у многіх эўрапейскіх народаў працэсаў уласнай дзяржаватворчасьці.

Адным са сьведкаў гэтых маштабных і разнастайных падзеяў стала гісторык Людміла Краскоўская (укр. *Людмила Красковська*, славацк. *Ľudmila Kraskovská*; 1904, Вільня — 1999, Браціслава), якая праз складаныя дзесяцігодзьдзі зьберагла памяць пра час і людзей ня толькі ва ўспамінах, зафіксаваных на паперы, але й у шматлікіх дакумэнтальных сьведчаньнях. Працяглае жыцьцё гэтага чалавека зьвязанае зь некалькімі краінамі, у якіх праходзілі этапы атрыманьня адукацыі, навуковага сталеньня. Амаль 60 гадоў было прысьвечана Славацкаму нацыянальнаму музэю ў Браціславе, дзе Людміла Краскоўская сьцьвердзілася як прызнаны спэцыяліст у галіне археалёгіі, нумізматыкі, музэйнай справы.

Сямейнае выхаваньне Людмілы Краскоўскай сумяшчала беларускія й украінскія нацыянальныя традыцыі: бацька Іван Краскоўскі, ведамы беларускі й украінскі грамадзка-палітычны дзеяч; маці Валянціна Сакальская, украінка, ахвяравала сваёй кар’ерай дзеля мужа й дзяцей[1].

Людміла Краскоўская вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі, скончыла Дзьвінскую дзяржаўную беларускую гімназію (1923; Даўгаўпілс, Латвія), заснаваную яе бацькам. Атрыманьне наступных ступеняў адукацыі адбывалася ў Празе адначасова ў дзвюх установах: Кар-

[1] Трус, Мікола. З гісторыі роду Краскоўскіх // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 163—171.

лавым унівэрсытэце (1924—1929) і Ўкраінскім вышэйшым пэдагагічным інстытуце імя М. Драгаманава (1924—1927). У 1924 г. Людміла Краскоўская была запісаная „звычайным слухачом“ Украінскага вольнага ўнівэрсытэту.

Прага — тагачасная „славянская Мекка“, сталіца маладой Чэхаславацкай рэспублікі (ЧСР) — адзін з эміграцыйных цэнтраў прадстаўнікоў розных народаў колішняй Расейскай імпэрыі. Украінская грамадзка-культурная чыннасьць у краіне з дынамічным разьвіцьцём вызначалася наяўнасьцю вялікай колькасьці грамадзкіх інстытутаў, культурных арганізацый, існаваньнем рознаўзроўневай сыстэмы нацыянальнай адукацыі з урадавым фінансаваньнем. Украінскую эміграцыйную хвалю пачатку 1920-х гг. прадстаўлялі розныя пакаленьні, асобныя прадстаўнікі якіх маглі дэманстраваць шматвэктарныя палітычныя погляды, але пры гэтым трымацца цьвёрдай нацыянальнай плятформы, плённа працаваць на ніве культуры й асьветы.

Беларуская прысутнасьць у ЧСР у 1920-х — першай палове 1930-х гг., прадстаўленая ў асноўным студэнцкай масай, вельмі часта была ў залежнасьці ад украінскіх структураў, што бралі на сябе арганізацыйнае й фінансавае пасрэдніцтва ў адносінах з афіцыйнымі ўладамі. Беларуска-ўкраінскае супрацоўніцтва гэтага часу пазначанае падобнымі нацыянальнымі клопатамі й асабістымі кантактамі, засьведчанае шэрагам ініцыятываў, сумесных мерапрыемстваў, якія, даводзіцца канстатаваць, закраналіся навукоўцамі фрагмэнтарна, а таму належным чынам не апісаныя й не сыстэматызаваныя. Працу дасьледнікаў вельмі моцна ўскладнілі глябальныя падзеі Другой сусьветнай вайны й пасьляваенных дзесяцігодзьдзяў, у час якіх многія культурныя памяткі былі страчаныя, а цэнтры нацыянальных дыяспараў перамясьціліся з Эўропы ў заакіянскія краіны.

У 1920 — 1930-х гг. Людміла Краскоўская падтрымоўвала цесныя сувязі з прадстаўнікамі розных пакаленьняў дзеячаў нацыянальнай інтэлігенцыі. Імёны многіх добрых знаёмых і сяброў „славацкай Нестаркі“ (Сяргей Панізьнік) упісаныя ў слаўныя й трагічныя старонкі маладой Беларусі й Украіны: Антон Луцкевіч, Уладзімер Жылка, Міхась Каберац, Лявон Рыдлеўскі, а таксама Дзьмітро Дарашэнка (укр. *Дмитро Дорошенко*), Аляксандар Алесь (укр. *Олександр Олесь*), Мікола Бітынскі (укр. *Микола Битинський*), Алег Ольжыч (укр. *Олег Ольжич*), Аксана Лятурынская (укр. *Оксана Лятуринська*), Леанід Мосендз (укр. *Леонид Мосендз*) ды інш.




Афiцыйны дакумэнт Людмiлы Краскоўскай, студэнткi Ўкраiнскага вышэйшага пэдагагiчнага iнстытуту iмя М. Драгаманава. Прага, 1924 г.

Дакумэнты мiжваеннага пэрыяду (часткова ўласныя, сямейныя; часткова давераныя iншымi людзьмi) Людмiла Краскоўская шмат дзесяцiгодзьдзяў зь вялiкай рызыкай палiтычнага перасьледу захоўвала ў асабiстым архiве[2] . Дзякуючы гэтым зборам сёньня ёсьць магчымасьць лiквiдаваць некаторыя „белыя плямы“ гiсторыi, у жывых эмоцыях i клопатах прадставiць нацыянальнае жыцьцё, адарванае ад культуры-мэтраполii.

Парадаксальна, але справе захаваньня дакумэнтаў паспрыялi абставiны доўгай побытавай неўладкаванасьцi Людмiлы Краскоўскай, якая нават у пэнсiйным узросьце мела толькi службовае жыльлё — невялiкi пакой у самiм будынку Славацкага нацыянальнага музэю ў Брацiславе.

Асобны корпус дакумэнтаў датаваны 1960—1990 гг. Успамiны, эпiсталярныя матэрыялы гэтага часу прадстаўляюць гiсторыю праўдзiвага ўзнаўленьня прыватнага жыцьця й грамадзка-культурнай чыннасьцi беларусаў i ўкраiнцаў Чэхаславаччыны мiжваеннага часу.

[2] Трус, Мiкола. Старонкi жыцьця й архiўныя зборы Людмiлы Краскоўскай // Запiсы БIНiМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 172—180.

Частка збораў была разьмеркаваная й перададзеная дзяржаўным архівам Беларусі, Украіны, Славаччыны яшчэ пры жыцьці Людмілы Краскоўскай. Некаторыя матэрыялы сёньня знаходзяцца ў прыватных калекцыях розных краінаў. Назавем ведамыя найбольш буйныя зборы:

- Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі — асобны фонд Івана Краскоўскага;
- Славацкі нацыянальны музэй (Браціслава, Славакія) — асобны фонд Людмілы Краскоўскай;
- Музэй украінскай культуры ў Сьвідніку (Славакія);
- Інстытут літаратуры імя Т. Шаўчэнкі НАН Украіны;
- Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва;
- Літаратурны музэй Максіма Багдановіча;
- прыватныя зборы Міколы Мушынкі (славацк. *Mikuláš Mušinka*; Славакія), Міколы Труса (Беларусь).

Аўтар гэтых радкоў ужо колькі гадоў сыстэмна займаецца апрацоўкай, публікацыяй адшуканых і перавезеных у Беларусь матэрыялаў, якія зь вялікай верагоднасьцю маглі быць страчаныя, паколькі родных і спадчыньнікаў у Людмілы Краскоўскай у Браціславе не засталося, найбольш цесныя сувязі яна праз усё жыцьцё падтрымлівага зь сем'ямі сваіх сяброўак студэнцкіх гадоў — Бучынскіх і Мезенцавых.

Кожная падборка дакумэнтаў — гэта гісторыя жыцьця, грамадзка-палітычнай дзейнасьці, творчасьці канкрэтнай асобы, а таксама фактаграфічны падмурак для шырокіх навуковых дасьледаваньняў.

Дзеля ілюстратыўнасьці мы спынімся на адной асобе й адным дакумэньце.

Мікола Бітынскі (укр. *Микола Битинський*; 1893, Літын на Падольлі — 1972, Таронта) — адзін з выбітных прадстаўнікоў украінскай эміграцыі. Апалягет тэмы нацыянальнага змаганьня, зафіксаванай з-пад яго мастакоўскай рукі ў гербах, узнагародах, эмблематыцы. Аўтар іконаў, жывапісных працаў, кніжных ілюстрацыяў.

Гісторыкамі ўкраінскага мастацтва каталягізаваныя 108 працаў Міколы Бітынскага[3]. Спэцыялісты канстатуюць: *„Значная частка твораў страчана, найбольшым зборам гэтага мастака за межамі Ўкраіны валодае Славянская бібліятэка ў Празе“*[4].

3 Пеленська, Олена. Український портрет на тлі Праги: українське мистецьке середовище в міжвоєнній Чехо-Словаччині. Нью Йорк — Прага, 2005. С. 123—128.

4 Пеленська, Олена. Український портрет на тлі Праги... С. 122.

Некалькі ведамых сёньня працаў украінскага мастака прысьвечаныя беларускай грамадзка-культурнай чыннасьці ў Чэхаславаччыне міжваеннага пэрыяду: надмагільны помнік старшыні Рады БНР на эміграцыі Пётры Крэчэўскага (1879—1928) на Альшанскіх могілках у Празе; нагрудны знак сябраў Грамады ўкраінскіх і беларускіх студэнтаў-лесаводаў Праскага політэхнічнага інстытуту (1930).

Літаратурны абсяг творчай рэалізацыі пісьменьніка Міколы Аверкавіча (укр. *Оверкович*; за псэўданім узятае сапраўднае імя па бацьку) прадстаўлены ў паэзіі, прозе, мэмуарыстыцы, сугучных з ідэйнымі перакананьнямі, гісторыясофскімі поглядамі ведамых прадстаўнікоў „Праскай школы“ ўкраінскай літаратуры (Алег Ольжыч, Леанід Мосендз, Аксана Лятурынская ды інш.).

Тэма змаганьня ў творчасьці пісьменьніка й мастака мела аўтабіяграфічную аснову. Мікола Бітынскі быў удзельнікам Першай сусьветнай вайны: ад шэрагоўца пяхотнага палку расейскай арміі даслужыўся да прапаршчыка, начальніка сапёрнай каманды; за баявыя заслугі ўзнагароджаны ордэнам Сьв. Ганны IV ступені. Ад 1919 г. у арміі Ўкраінскай Народнай Рэспублікі — паручнік, сотнік. Ад канца 1920 г. знаходзіўся ў польскіх лягерах інтэрнаваных вайскоўцаў УНР, адкуль у 1923 г. перабраўся ў Прагу, працягнуў адукацыю. У 1924 г. стаў студэнтам гісторыка-літаратурнага аддзяленьня Ўкраінскага пэдагагічнага інстытуту імя М. Драгаманава, пасьля пасьпяховага заканчэньня якога ў 1929 г. Міколу Бітынскаму было прысвоена званьне *„пэдагога сярэдніх школ з правам выкладаць гісторыю, гісторыю мастацтва й археалёгію ва ўсіх клясах школ сярэдняга тыпу з украінскай мовай навучаньня“*.

Падагульненьнем усяе літаратурнай творчасьці Міколы Аверкавіча стаў зборнік „Кенатаф“ („Кенотаф“. Таронта, 1963), куды ўвайшла нізка вершаў „У громе й буры“ (*„В громі і бурі“*), паэмы „На браме Ўкраіны“ (*„На брамі України“*) і „Анёл помсты“ (*„Ангел помсти“*), балада „Сузор’е рыцараў“ (*„Сузір’я лицарів“*) і іншыя творы, прасякнутыя культам барацьбы, пазначаныя рэквіемнай памяцьцю па загінулых у змаганьні за незалежнасьць Украіны.

У архіве Славацкага нацыянальнага музэю намі быў выяўлены віншавальны адрас Міколы Аверкавіча з нагоды абароны дактарату Людмілы Краскоўскай у 1930 г. Адрас напісаны вершам, па-мастацку аформлены; тэкставае рашэньне пададзенае ў адмысловым каліграфічным выкананьні. Такім чынам, ужо на візуальным этапе ўспрыманьня перад намі паўстае арыгінальны твор, які дэманструе розныя грані таленту, асноўныя стылёвыя прыкметы аўтара — мастака й паэ-






Високодостойний
Пане Доктор!

Я радуюсь, як Марса ярий син,
В цей день святочний довгожданий,
Що в ряд когорт залізних ще один
Вбійшов борець-товариш світлосяйний.

Хоч жінка Ви й не носите меча,
Хоч зброю іншую взяли дівочі руки,
І хоч будьте Ви відшукувать ключа
Не смерти, а життя і світла, і науки-

Вітаю Вас: бо ж дружно ми підем
(Ви по безкровному, я по кривавім полі)
В борні важкій ламать ганьбі ярем
І рвати ланцюги омани і сваволі...

Вітаю Вас! без страху ідіть
У вир життя сумний, стомлений і сірий,
Хай чоло Ваше сяйвом осінить
Дух мужности і гордости валькирій.

Вперед! Вам стелиться новий широкий шлях,
Хоч вкритий, правда, терном і журбою,
Та хай мина навсе сумнів і страх
Ваш дух живий окрилений... До бою!

М. Оверкович
Прага. 1930.

Вокладка й тэкставая старонка віншавальнага адрасу
Міколы Бітынскага Людміле Краскоўскай. Прага, 1930 г.

та. Верш-віншаваньне, хоць і адрасаваны канкрэтнай асобе й з пэўнай нагоды, паказвае, наколькі „прыватныя“ падзеі ў жыцьці чалавека таго часу й таго нацыянальнага асяродзьдзя былі неаддзельныя ад агульнанародных.

Мікола Аверкавіч зафіксаваў настроі й памкненьні цэлага пакаленьня, якое культывавала нязломнасьць духу, сілу й моц змаганьня — каштоўнасьці, уласьцівыя паэтам-рамантыкам. Пра гэта кідка гаворыць шэраг лексычных дамінантаў (жалезныя кагорты, баец-таварыш, зброя, меч ды інш.), заклікавы характар сказаў, супрацьпастаўленьне віру жыцьця (сумнага, халоднага, шэрага) і духу мужнасьці, бою за свае ідэалы.

Перад намі твор, які ўзбагачае бачаньне мастацкай спадчыны ня толькі аднаго аўтара, але і ўкраінскай літаратуры й культуры міжваеннага пэрыяду наагул. І гэта толькі адзін прыклад з архіву Людмілы Краскоўскай — з шэрагу яскравых і важкіх сьведчаньняў эпохі.

Микола ОВЕРКОВИЧ

*Людмілі Красковській в день іменування*
*її доктором присвячується.*

*Високодостойний Пане Докторе!*
*Я радуюсь, як Марса ярий син,*
*В цей день святочний довгожданий,*
*Що в ряд когорт залізних ще один*
*Ввійшов боець-товариш світлосяйний.*

*Хоч жінка Ви й не носите меча,*
*Хоч зброю инщую взяли дівочі руки,*
*І хоч будете Ви відшукувать ключа*
*Не смерти, а життя і світла, і науки ?*

*Вітаю Вас: бож дружно ми підем*
*(Ви по безкровному, я по кровавім полі)*
*В борні важкій ламать ганьбу ярем*
*І рвати ланцюги омани і сваволі...*

*Вітаю Вас! Без остраху ідіть*
*У вир життя сумний, студний і сірий;*
*Хай чоло Ваше сяйвом осінить*
*Дух мужности і гордости валькирій.*

*Вперед! Вам стелиться новий широкий шлях*
*Хоч вкритий, правда, терном і журбою,*
*Тай хай мина навсе сумнів і страх*
*Ваш дух живий окрилений... До бою!*

*М. Оверкович*
*Прага, 1930.*

*Эміграцыязнаўчая сэкцыя*
*IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі*

***Уладзімер Калупаеў***
*Сэрыятэ (Італія)*

# БЕЛАРУСКІЯ МІСІЯНЭРЫ Ў КІТАІ

Узбагачэньню гістарычнай навукі, што займаецца вывучэньнем і асэнсаваньнем інтэлектуальнай спадчыны беларускага замежжа XX ст., садзейнічае ўвядзеньне ў навуковы зварот зьвестак пра прысутнасьць беларускіх інтэлектуалаў у эміграцыйнай прасторы Кітаю. Каталіцкія сьвятары й манахі-місіянэры ордэну марыянаў (*Congregatio Clericorum Marianorum sub titulo Immaculatae Conceptionis Beatae Virginis Mariae*) арганізавалі й кіравалі Місіяй у моўным і інтэлектуальна-культурным асяродзьдзі эмігрантаў, што пакінулі Расейскую імпэрыю пасьля падзеяў рэвалюцыі 1917 г. і Грамадзянскай вайны. У нацыянальным пляне гэта былі расейцы, палякі, летувісы, украінцы, беларусы, татары, армяне, грузіны, габрэі й г. д., што знайшлі прытулак у Маньчжурыі, вакол інфраструктуры Кітайска-усходняй чыгункі з цэнтрам у горадзе Харбін.

Раскрыцьцю згаданай тэмы садзейнічаюць разнастайныя крыніцы. Найперш гэта пэрыёдыка, публікацыі ў праваслаўным і каталіцкім рускамоўным друку. Нас у першую чаргу цікавяць часопісы самой Місіі: *„Сим победиши“* (1922—1923), *„Единство“* (1925), штомесячнік *„Крестный путь“* (1927—1928) і *„Католический вестник Русской епархии Византийско-Славянского обряда в Маньчжурии“* (1931—1941). Акрамя таго, матэрыялы пра жыцьцё абшчынаў у Харбіне й Шанхаі сустракаюцца ў іншых каталіцкіх выданьнях, такіх як газэта *„Русская мысль“* (*Париж*). Варта таксама адзначыць складзены ў Харбіне ў 1935 г. прат. Аляксандрам Рыгоравічам Сіпягіным (1875—1941) *„Каталог католической литературы на русском языке“*. Беларускі рэлігійны часопіс „Да злучэньня“ зьмясьціў у 1934 г. артыкул а. Яна Ўрбана „Праца для уніі ў Маньджу-Дзі-Го“[1].

[1] Да злучэньня. № 9. Альбэртын: Выдавецтва Таварыства Ісусавага, 1934. С. 6—12.

Важнымі крыніцамі ёсьць і кнігі навукоўцаў, спэцыялістаў у эміграцыйнай праблематыцы на Далёкім Усходзе, такіх як прафэсар А. Хісамутдынаў *„Российская эмиграция в Азиатско-Тихоокеанском регионе и Южной Америке“* (*Владивосток, 2000*) і *„Российская эмиграция в Китае“* (*Владивосток, 2002*). Асобнае месца займае праца праваслаўнага палеміста, юрысконсульта Сыноду Праваслаўнай царквы ў Польшчы Канстанціна Мікалаевіча Нікалаева (1884—1965) *„Восточный обряд“* (*Париж, 1950*), дзе аўтар падае зьвесткі ў тым ліку й пра Кітай.

Нельга прамінуць і мэмуары беларускіх аўтараў, сярод якіх: ведамы беларускі асьветнк Язэп Станіслававіч Германовіч (1890—1978), што займаў пасаду дырэктара ліцэю ў Харбіне. Ён быў арыштаваны кітайскай міліцыяй і выдадзены СССР, сядзеў у лягерах да 1955 г., потым выехаў у Польшчу, далей у Рым, дзе напісаў кароткую гісторыю Харбінскай місіі, пазьней пераведзены ў Лёндан, дзе служыў у беларускай місіі *Marian House*. У эміграцыі Германовіч рэдагаваў беларускі каталіцкі часопіс „Божым шляхам“. Свае лягерныя ўспаміны сьвятар выклаў у кнізе „Кітай—Сібір—Масква (успаміны)“ (Мюнхен, 1962)[2] . Да іх дапасоўваюцца *„Воспоминания студента Духовной академии в Риме 1939—1947 гг.“* (кн. 1. Б. г.) архім. Георгія Бранчанінава (нар. 1919), вучня й прадаўжальніка справы беларускіх марыянаў у Аўстраліі. Гэты сьлед пакуль недастаткова асьветлены ў беларусістыцы.

Унікальнае ліставаньне, сьведчаньне сувязяў з заходнеўкраінскімі грэка-каталікамі, занепакоенымі лёсамі сваіх суайчыньнікаў і адзінаверцаў у Кітаі, утрымліваецца ў кнізе *„Митрополит Андрей Шептицький: Життя і Діяльність: Церква і церковна єдність“* (*Т. І. Львів, 1995*). Асобна трэба адзначыць і кнігу *„Лицей Святого Николая, 1929—1949 гг. в г. Харбине“* (*Австралия, б. г.*).

Зьяўленьню беларускіх сьвятароў на працы ў Харбіне папярэднічаў зварот да Каталіцкай царквы двух праваслаўных пратаярэяў Канстанціна й Іаана Кароніных. Сярод расейскай інтэлігенцыі зьявілася ініцыятыўная група, адным зь сябраў якой быў палкоўнік Віктар Усеваладавіч Уласаў фон Вальдэнбэрг, пазьней дэпартаваны ў СССР, дзе й загінуў у ГУЛАГу. У 1925 г. у Харбіне быў заснаваны грэка-каталіцкі прыход у гонар сьв. кн. Уладзімера. Тут некаторы час служыў часовы сьвятар, скіраваны з Пэкіну, якога замяніў далучаны з праваслаўных а. Захарый Кавалёў. У траўні 1928 г. Праваслаўную царкву пакінулі таксама

[2] Другое выданьне: Менск — Санкт-Пецярбург, 2003. — 100 с. Расейскае выданьне: Китай, Сибирь, Москва. Мельбурн, 1997.

дыякан Георгі Гіц ды архімандрыт Мікалай Аляксееў (1869—1952), ведамы місіянэр у Карэі, Японіі й на Камчатцы.

Справы, зьвязаныя з зваротам расейцаў, былі даручаныя Камісіі *„Pro Russia“*, якая, вывучыўшы наяўныя зьвесткі, прыняла рашэньне аб заснаваньні асобнай структуры. 31 сакавіка 1928 г. у Харбін быў прызначаны апостальскі адміністратар Фабіян Абрантовіч (1884—1942). Афіцыйны ватыканскі статыстычны штогоднік *„Annuario Pontificio“* паведамляў: *„Harbin (20 maggio 1928), Cina. Ordinario per i Russi di rito bizantino slavo e per tutti i fedeli di rito orientale: Monsig. Fabiano Abrantowicz, dei Chierici Regolari Mariani; nom. 31 magg. 1928 (Residenza: Harbin, Staro-Harbinskoech., 78 (97); Matsia-kou)“*[3].

Пасьля арышту ў 1939 г. асобнай нарадай Калегіі НКУС Фабіян Абрантовіч быў прысуджаны да 10 гадоў лягераў і памёр у Бутырскай турме. На ягонае месца быў скіраваны архімандрыт Андрэй Цікота (1891—1952), які да таго часу працаваў у Беларусі, а потым ад 1933 г. быў абраны на пасаду генэрала ордэну марыянаў. Праз амаль дзесяць гадоў працы ў Кітаі, 22 сьнежня 1948 г. ён быў арыштаваны кітайскай міліцыяй і перададзены НКУС.

Ад 1929 г. у Харбіне працаваў сьвятар Дыядор Калпінскі (1892—1932), ад 1927 г. ён выкладаў багаслоўе у Любліне, адкуль быў скіраваны ў Харбін, дзе стаў першым дэканам ліцэю, а ад 1931 г. пераехаў у Шанхай.

Ад восені 1935 г. у Кітаі служыў Уладзімер Мажонас, выпускнік „Русікуму“, разам зь якім прыехаў Казімір Найловіч, выкладчык у ліцэі. У 1938 г. прыбылі Станіслаў Баговіч, Станіслаў Зарэмба й Антон Аніськовіч. У 1940 г. апошні зьехаў у Францыю, дзе запісаўся добраахвотнікам у польскую армію, каб ваяваць супраць гітлераўскай Нямеччыны.

Вынікам працы місіі ў пэрыяд ад 1928 да 1949 гг. было стварэньне наступных структураў: Царкоўнае ўпраўленьне (курыя), храм сьв. Уладзімера, дамовы храм у гонар Уваскрасеньня Хрыстовага пры Ліцэі сьв. Мікалая, навіцыят і кляштар марыянаў у Харбіне. Па стане на 1935 г. кліры складаўся з: 5 ярэяў і ераманахаў, 1 ерадыякана, 4 манахаў, 4 паслушнікаў, 12 манашак ордэну урсулінак, 14 манашак ордэну францысканак. Сёстры-манашкі апекаваліся дзяўчынкамі ў інтэрнаце й выкладалі ў школе сьв. Уршулі.

У 1932 г. у часе японскай акупацыі юрысдыкцыя ардынарыта была абмежаваная тэрыторыяй Манчжурыі. У 1939 г. адбылася рэструктуры-

[3] Annuario Pontificio. Cittadel Vaticano. 1933. P. 523.

зацыя й перайменаваньне ў Экзархат (*Esarcato Apostolico*) для расейцаў візантыйска-славянскага абраду й усіх вернікаў усходняга абраду ў Кітаі.

Як не замкнёныя ў этнічных межах асобы сьвятары бачылі магчымасьць місіі сярод мясцовага насельніцтва: *„Китайская душа с ее богатой подоплекой весьма близка к христианству... И обряды, и церемонии весьма хорошо подходят к китайскому укладу жизни, ее стилю — только бы не имели места ни малейшее неуважение и ненужная торопливость. Думаю, что наш восточный обряд мог бы иметь в Китае большой успех, при условии, что он согласовался бы только с китайскими мелодикой и стилем“*[4], — пісаў Язэп Германовіч.

Сярод унікальных помнікаў гісторыі кніжнай культуры ў эміграцыі, зьвязаных зь Місіяй, можна адзначыць творы ведамага езуіта графа Станіслава Тышкевіча (1887—1962), нашчадка магнацкага роду. Ягоныя кнігі, надрукаваныя ў Харбіне: *„Католический катехизис“* (1935); *„Краткий католический катехизис“* (1936) і *„Что в православии приемлемо для католиков“* (1937). Яму ж належыць шэраг твораў, апублікаваных пад псэўданімам *„Спектатор“*: *„Католичество, православие, коммунизм“* (1930—1931), *„Коммунизм о Ватикане“* (1930), *„Ватикан и СССР“* (1931), *„Великий князь Владимир Святой и крещение Руси“* (1931), *„Католичество и революция“* (1931), *„Масонство, всемирная революция и католичество“* (1931), *„Непогрешимость Папы и его первосвященство“* (1931), *„Христианский брак и нерасторжимость его“* (1932).

Па-за Харбінам юрысдыкцыя экзархату распаўсюджвалася й на Шанхай, дзе для дзяўчынак быў адчынены прытулак сьв. Сафіі, а хлопчыкі навучаліся ў школе сьв. архістратыга Міхаіла.

Пасьля прыходу да ўлады Мао Цзэдуна й стварэньня ў 1949 г. Кітайскай Народнай Рэспублікі, жыцьцё грамады стала заціхаць, пачаліся рэпрэсіі. Але і ў гэтых умовах беларускія марыяне працягвалі сваё ахвярнае служэньне, праводзілі заняткі, знаходзілі сродкі для ўтрыманьня дзяцей, дапамагалі сіратам, кармілі галодных. З пачаткам дэпартацыі ў СССР і масавай эвакуацыі, частка эмігрантаў перабралася ў іншыя краіны. Так узьніклі абшчыны каталікоў расейскай традыцыі ў Сан-Францыска, Буэнас-Айрэсе, Сан-Паўлё й Мэльбурне.

Падсумоўваючы працу беларускіх марыянаў, дазволім сабе адзначыць іх харытатыўную дзейнасьць па дапамозе дзецям эмігрантаў і

[4] Цыт. паводле: Германович, И. Китай, Сибирь, Москва. Мельбурн, 1997. С. 3—4.

сіротам, вырашэньне праблемаў выхаваньня й адукацыі, сацыяльную працу й дабрачыннасьць, душпастырства, катэхізацыю, літургіку й асьветніцтва, ахвярны подзьвіг у імя веры й дапамогі бліжняму, а таксама інтэлектуальную працу, уключна з уласнымі выдавецкімі праектамі. Згаданы досьвед міжцаркоўнага, міжэтнічнага й шматкультурнага дыялёгу важны як з пункту гледжаньня лякальнай гісторыі хрысьціянства ў Паўднёва-Усходняй Азіі, гэтак і ў якасьці прыкладу спалучэньня каталіцкага ўнівэрсалізму з багатай спадчынай беларускай традыцыі й культуры на фоне падзеяў сусьветнай гісторыі.

*Пераклад з расейскай Натальлі Гардзіенкі*

***Ірына Багдановіч***
*Менск*

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ПАРАДЫГМА ПАЭТЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ ВІНЦУКА АДВАЖНАГА

Вінцук Адважны — літаратурны псэўданім беларускага сьвятара, манаха-марыяніна Язэпа Германовіча (1890—1978). Ён нарадзіўся ў Гальшанах Ашмянскага павету, скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю, у 1913 г. быў пасьвечаны ў сьвятары, ў 1924 г. уступіў у ордэн айцоў-марыянаў у Друі. Ён актыўна спрычыніўся да беларускага духоўнага й нацыянальнага адраджэньня. У 1930-х гг. яго адарвалі ад чыннай працы на Бацькаўшчыне й як місіянэра скіравалі на Далёкі Ўсход — у Харбін. Там а. Язэп Германовіч у 1948 г. быў арыштаваны кітайскімі камуністамі, выдадзены савецкім органам бясьпекі й асуджаны на 25 гадоў лягераў. Пасьля вызваленьня ў 1955 г. дэпартаваны ў Польшчу, затым выехаў у Рым, а адтуль у Лёндан, дзе працягваў плённа займацца сьвятарскай і літаратурнай дзейнасьцю, рэдагаваў часопіс „Божым шляхам“, напісаў і апублікаваў успаміны зь лягернага жыцьця „Кітай — Сібір — Масква“ (Мюнхен, 1962), што былі перакладзеныя на розныя мовы й сталіся вядомымі ў сьвеце.

Паэзія складае значную й па-мастацку адметную частку творчай спадчыны Вінцука Адважнага, аднак зусім мала дасьледаваную. Найвыразьней у ёй прысутнічаюць тры ідэйна-тэматычныя складнікі, якія дапамагаюць убачыць жыцьцё чалавека й беларускага народу на фоне эпохі: патрыятычна-адраджэнскі, сатырычна-гумарыстычны й рэлігійна-біблійны. Першы найбольш ярка ўвасобіўся ў зборніку паэзіі „Беларускія цымбалы“ (Вільня, 1933), вершы якога пазначаныя выразным уплывам Францішка Багушэвіча й адраджэнскімі настроямі. У жанры байкі вельмі яскрава раскрыўся талент Адважнага як гумарыста й са-

тырыка. У жартоўнай, а часам зьедліва-выкрывальнай форме паэт зьвяртаў увагу на заганы й недасканаласьць чалавечай натуры й грамадзтва, а таксама выказаў адкрытую крытыку савецкай сыстэмы. Прасякнутасьць хрысьціянскім духам была ўласьцівая ўсёй творчасьці Вінцука Адважнага ад пачатку. Аднак рэлігійна-біблійная плынь сама па сабе складваецца менавіта ў эміграцкі пэрыяд, калі на старонках часопісу „Божым шляхам“ у 1970-х гг. былі зьмешчаны цыклі вершаў, прысьвечаныя беспасярэдне старазапаветнай і новазапаветнай тэматыцы. Можна сказаць, што сьвятар-паэт стварыў такім чынам своеасаблівую Біблію ў вершах.

Жыцьцёвая й творчая біяграфія а. Язэпа Германовіча выразна падзяляецца на тры пэрыяды. Першы — заходнебеларускі, калі ягоная дзейнасьць, сьвятарская й літаратурная, была скіраваная на справу нацыянальнага адраджэньня. Ён служыў сьвятаром у вёсках Лапеніца, Луконіца, дзе актыўна спрычыніўся да справы беларусізацыі касьцёлу; затым як айцец-марыянін шчыра аддаўся сьвятарскаму служэньню ў Друйскім кляштары, а таксама ў Вільні. Другі пэрыяд зьвязаны з прымусовым ад’ездам а. Язэпа Германовіча ў 1932 г. на місію ў далёкі Харбін, дзе ён мусіў працаваць сярод рускага насельніцтва. Місія ўспрымалася хутчэй як высылка з радзімы — падалей ад нацыянальна-адраджэнскай працы на рэлігійнай ніве, супраць якой былі варожа настроеныя афіцыйныя каталіцкія ўлады ў тагачаснай Заходняй Беларусі. З Харбіну, як вядома, у канцы 1948 г. сьвятар трапіў у сталінскі лягер, адкуль вызваліўся ў 1955 г. Гэта быў цяжкі пэрыяд выпрабаваньняў і цярпеньняў, час адарванасьці ад радзімы й выжываньня ў нялюдзкіх умовах лягернага жыцьця. Духоўная моц і глыбокая вера айца Язэпа дазволілі яму выжыць і не зламацца ў той рэчаіснасьці. Трэці пэрыяд — эміграцыйны, які доўжыўся ад 1955 г. да канца ягонага жыцьця. Пабыўшы непрацяглы час у Польшчы, куды быў дэпартаваны пасьля лягеру, ён знайшоў магчымасьць выехаць у Рым, а затым стала пасяліўся у Вялікабрытаніі, у лёнданскім беларускім доме айцоў-марыянаў. Гэта быў ізноў надзвычай плённы пэрыяд як у сьвятарскай (малітоўнай і выхаваўчай) працы, гэтак і ў літаратурна-творчай дзейнасьці.

Беларуская культурная парадыгма творчасьці Вінцука Адважнага заснаваная прынамсі на чатырох найгалоўнейшых чыньніках: 1) Айчына, найменьне якой Беларусь; 2) ідэнтычнасьць (чалавек), што вызначаецца сьвядомасна як „я — беларус“, „мы — беларусы“ (не літвіны, не рускія, не палякі); 3) мова — беларуская; 4) рэлігійнае жыцьцё — беларускае. Замацаваньне гэтых духоўных і нацыянальных прыярытэтаў

фармуе асобу чалавека на фоне эпохі ў творчасьці Адважнага, асобу, якая можа ўспрымацца як народны нацыянальны тып. Гэты чалавек, па-першае, носьбіт нацыянальнай беларускай сьвядомасьці, які імкнецца пашыраць яе ў сваім асяродзьдзі, і, па-другое, носьбіт хрысьціянскай духоўнасьці, практыкуючы вернік, для якога сьвятымі ёсьць Божыя запаведзі й які таксама пашырае вакол сябе сьвятло Божай любові й веры. У вобразе такога чалавека актуалізуюцца лепшыя рысы беларускага народу, а сам гэты народ паўстае ў каардынатах гісторыі, часта супярэчлівых і варожых для ягонага існаваньня й разьвіцьця .

Уся творчасьць Вінцука Адважнага зьвязаная зь лёсам і гістарычнымі шляхамі беларускага народу. Пачынаючы ад раньняй палымянай публіцыстыкі 1919—1920 гг., дзе ён у духу й стылі „Мужыцкай праўды“ Кастуся Каліноўскага тлумачыў суайчыньнікам, што яны — беларусы, асобны народ са сваёй гісторыяй, мовай, традыцыямі („Мы беларусы“, „Наша імя — беларусы“, „Зямля наша — беларуская“, „Дарагія браты беларусы“ ды інш.), ён і надалей, у паэзіі й прозе заходнебеларускага пэрыяду, рабіў акцэнт на праблеме нацыянальнага самаўсьведамленьня беларускага народу як галоўным чыньніку ягонага адраджэньня (аповесьць „Хлапец“ ды інш.). Апрача публіцыстыкі Кастуся Каліноўскага традыцыяй, на якую ён абапіраўся, была творчасьць Францішка Багушэвіча, а асабліва ягоная прадмова да паэтычнага зборніка „Дудка беларуская“ (1891). Уплыў гэты адчувальны ў вершах зборніка Вінцука Адважнага „Беларускія цымбалы“ (Вільня, 1933), сама назва якога насьледуе „музычную“ традыцыю „Дудкі...“. Да таго ж аўтар неаднойчы ў сваіх творах (напрыклад, у аўтабіяграфічнай аповесьці „Хлапец“) падкрэсьліваў, што на станаўленьне ягонай нацыянальнай сьвядомасьці паўплывала менавіта „Дудка беларуская“, якую распаўсюджваў мясцовы каталіцкі сьвятар падчас навучаньня будучага пісьменьніка ў гарадзкой школе ў Ашмянах. Гэты факт згадвае ва ўспамінах пра Вінцука Адважнага й ягоны вучань біскуп Часлаў Сіповіч[1] .

Уплыў Францішка Багушэвіча на паэтычную творчасьць Адважнага адчувальны найперш у выяўленьні патрыятычна-адраджэнскага пафасу й адпаведных матываў. Паэт і край, мова, народ становяцца прычынай паэтычнага роздуму. Верш „Беларускія цымбалы“, якім адкрываецца зборнік, можна лічыць праграмным у гэтым дачыненьні. У ім адчуваецца ня толькі ўплыў верша Францішка Багушэвіча „Мая дудка“, але таксама ўплыў яшчэ аднаго славутага папярэдніка — Уладзіслава

[1] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2011. С. 567.

Сыракомлі й ягонага верша „Лірнік вясковы“. Па сутнасьці ўсе тры вершы ёсьць роздумам на тэму пра ролю паэта й паэзіі ў жыцьці грамадзтва, у гістарычным лёсе народу. У вершы „Беларускія цымбалы“ Вінцук Адважны стварае вобраз паэта, які на жывых струнах агучвае *„ноты жыццём напісаны“*. Ён добра ведае жыцьцё народа, бо злучаны зь ім сваім лёсам, хоча дайсьці да сэрца кожнага, але ня ўсе радыя песьняру, ня ўсе адгукаюцца сэрцам на ягоныя струны. Яго вітае грамада сялянаў („сярмяжна-працоўны люд“), „мілыя вёскі“, але не прымае мястэчка зь велізарным кірмашом, дзе яго *„Дражнілі і чуць не пабілі — / за песню, за родну, за нашу...“* Як бачна, прычынаю непрыняцьця ёсьць родная беларуская мова, захаваная пераважна на вёсках, ад якой адмаўляліся гарадзкія жыхары. Цымбалы ж хочуць гучаць толькі роднай мэлёдыяй, чужая — ім варожая. Пясьняр ізноў вяртаецца на вёску, дзе знаходзіць паразуменьне:

*„Цяпер не баюся нікога:*
*Братоў сваіх родненькіх знаю,*
*Ім праўды зярно адкрываю,*
*Вяду да любові, да Бога“*[2].

Верш „На 25 Сакавіка“ прысьвечаны сьвяту абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ў 1918 г. У яго строфіцы адчувальныя рытмы купалаўскага гімну „А хто там ідзе?“. Цэнтральны ў вершы вобраз „сходу“, на які сьпяшаецца народ, што „ўстаў“ і ідзе будаваць сваю Айчыну:

*„Заселі ўсе.*
*Тут кожны рад —*
*Адзін народ, друг другу брат;*
*Усе свае,*
*Свая тут браць:*
*Прыйшлі Айчыну будаваць“*[3].

Аднак вораг-сусед жадае адабраць волю, „замуціў ваду“ і ў ёй *„расставіў сетачкі свае“*, праз што *„Народ зблудзіў, / Аслеп, змадзеў, / Сябе забыў і абгалеў...“* У апошняй страфе верша гучаць заклікі да волі, асаблівая экспрэсіўнасьць радкоў дасягаецца пры дапамозе энэргічных ямбаў з ужываньнем дзеясловаў загаднага ладу й клічнікаў:

[2] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы... С. 20.
[3] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы... С. 21.

*„Устань, устань!*
*Скарэй, скарэй!!*
*Раўнуйся на другіх людзей.*
*На сонца глянь,*
*Крылом удар —*
*Пазнай свабоды, волі чар!“*[4]

Верш „Прарок“ працягвае тэму служэньня паэта й паэзіі народу. Гэта асаблівае пакліканьне й на гэтую справу кліча сам Бог. Ён жа ўмацоўвае духоўна песьняра, калі той адчувае сябе слабым для такога пакліканьня, адчувае сорам за сваю штодзённую засьлепленасьць: *„…я быў немы, неразумны, // Як мой народ — тупы, задумны…“*, — прамаўляе ён, стоячы перад Богам, *„узнесены на вышыні“*. Менавіта тут Вінцук Адважны акцэнтуе ідэю богапасланьніцтва паэта, які мусіць быць вешчуном, правадыром для народу, выконваючы такі чынам Божую волю й становячыся выразьнікам Божай праўды:

*„„Ідзі! — мне кажа. — Пасылаю;*
*Я тваю слабасць добра знаю:*
*Ты маёй сілай будзеш сільны,*
*Ты маёй праўдай — непамыльны…“ —*
*Сказаў мне Бог — сьвяты навекі!“*[5]

Паэт выконвае Божы загад і ідзе зьдзяйсьняць сваю місію: *„Іду. […] // … казаць я праўду буду // Да цвёрдых сэрцаў свайго люду“*. Як можна заўважыць, раскрываючы тэму служэньня паэта свайму народу, Вінцук Адважны застаецца ў межах рамантычнай эстэтыкі, для якой быў менавіта характэрны вобраз паэта-прарока, успрыняты як актуальны й для беларускай рэчаіснасьці 1930-х гг.

У вершы „Народ беларускі“, зьмешчаным у віленскім „Беларускім календары“ на 1933 г. гучыць патрыятычная роспач з прычыны глыбокай народнай летаргіі й спадзяваньне на Божы провід у справе адраджэньня Беларусі. Верш пачынаецца й заканчваецца радкамі:

*„Народ беларускі ўсё чэзне, гібее…*
*Прыйдзі, Хрысце Божа, Ты наша надзея!“*[6]

Актуальнай у тагачаснай рэчаіснасьці была драматызаваная сцэнка ў вершах „Спрэчка пад касьцёлам“, надрукаваная ў зборніку „Беларус-

[4] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы… С. 22.
[5] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы… С. 23.
[6] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы… С. 42—43.

кія цымбалы“. Праблема, вакол якой вядзецца палеміка, — пытаньне мовы ў касьцёле, стварэньне й адраджэньне нацыянальнай царквы. Твор складаецца з чатырох частак. Першая й трэцяя — дыялёгі беларускага сьвядомага селяніна Сымона з панамі Яцэнтым і Валентым. Паны пагарджаюць беларускай мовай і настроены супраць мясцовага ксяндза, які мае беларускую нацыянальную сьвядомасьць і праводзіць адпаведную працу ў касьцёле. Бясспрэчна, чуецца тут водгук асабістай сьвятарскай дзейнасьці аўтара й ягоных сяброў беларускіх ксяндзоў-адраджэнцаў. Сам Вінцук Адважны згадваў, як, будучы пробашчам у Ваўкавыскім павеце ў в. Вялікая Лапеніца, запрасіў да сябе на вакацыю сябра й паэта Казіміра Сваяка (кс. Канстанціна Стэповіча) і папрасіў яго прамовіць падчас набажэнства казаньне у беларускай мове. На той час гэта быў „крымінал“, і ваўкавыскі ксёнз-дэкан забараніў гаварыць у касьцёле па-беларуску[7]. Нягледзячы на перашкоды, якія чынілі гэтай справе мясцовыя апалячаныя падпанкі, пішучы розныя скаргі, і вышэйшае духавенства, якое забараняла беларускую дзейнасьць у касьцёлах, усё ж энтузіязмам многіх сьвятароў справа беларусізацыі шырылася й знаходзіла водгук у сэрцах парафіянаў.

У востра палемічным вершы Вінцука Адважнага менавіта просты парафіянін Сымон становіцца выразьнікам аўтарскай патрыятычнай пазыцыі. Ён хваліць ксяндза, падкрэсьліваючы, што той *„даступны і вясёлы“*, шмат робіць для людзей, вучыць дзяцей у нядзельнай школцы, любіць Бога й родную мову. Пан Яцэнты пярэчыць:

*„Хоць вы хлопы, ды палякі,*
*А тэн ксёндз тут … нейкі, такі,*
*Цо он гэта … проста мова,*
*Навет хамске у ёй слова,*
*Зочол мувіць на амбоні…“*[8].

Паны пішуць данос на ксяндза дэкану, каб таго забралі ад іх. Гэтую паперу нясе пан Валенты, якога таксама сустракае Сымон. Яму ўдаецца вырваць паперыну з рук суразмоўцы й парваць яе. Такі ягоны пратэст. Сымон — чалавек глыбокай веры й сьвядомы патрыёт, які адстойвае сваё права размаўляць на роднай мове ўсюды, у тым ліку ў касьцёле, выслаўляць на ёй Бога, шанаваць родную мову як дадзеную Богам *„апратку душы“*. Гэты сьвядомы „просты беларус“ ведае таксама й

7 Германовіч, Язэп. Мае прыяцелі // Сваяк, Казімір. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2010. С. 409.

8 Адважны, Вінцук. Выбраныя творы… С. 28.

айчынную гісторыю, нагадваючы яе хворым на гістарычную амнэзію „панам“. У сваім дыялёгу з панам Яцэнтым, які пагарджаў беларушчынай, ён даводзіць, што ў даўнія часы беларуская мова была *„шляхоцка і князёва“* ды што на ёй размаўляла ўся арыстакратыя краю: *„Ў ёй гаварылі Радзівілы, / І князь Сапега, і вяльможы, / І шляхта ўся, і народ Божы“*.

Другая й чацьвертая часткі твора — маналягічныя, гучаць як патрыятычныя гімны, прызнаньні ў любові да Бацькаўшчыны вуснамі галоўнага героя Сымона. Сымону ўласьцівая й гіранічнасьць. Так, пасьля першай размовы з панам Яцэнтым ён падсумоўвае вынікі яе прымаўкай і высновай у духу колішніх народных інтэрмэдыяў: *„Гавары з кабылай пацеры!.. / Што тут памогуць аргументы, / Калі дурны сам пан Яцэнты!“*. Ад інтэрмэдыйнага мужыка аднак Сымон адрозьніваецца сваёй сьвядомасьцю й роздумам пра лёс Айчыны. Ён задумваецца над пытаньнем, у чым прычына непарадку й нядолі, чаму мы, беларусы, *„Як тыя скваркі — з'есці з кашай / Даёмся, навет і не спорым“*, чаму нас *„…б'юць па носе, колькі ўлезе…“*? Пошукі адказу прыводзяць яго да балючага ўсьведамленьня: *„Ўсё проціў нас… а дзе прычына?.. / Ты, Беларусь — мая Айчына!“*. А потым зь ягоных вуснаў гучаць словы гарачай сыноўскай прысягі:

*„Цябе, цябе у сэрцы маю,*
*Табе я вернасць прысягаю!*
*Не марны толькі дам я словы,*
*Але жыццё аддаць гатовы!*
*Ты — Беларусь, Айчына, Маці,*
*Прымі прысягу ад дзіцяці!“*[9]

Заключная, чацьвертая, частка — ідэйнае рэзюмэ ўсяго твору — таксама гучыць паэтычным прызнаньнем, формулай патрыятызму:

*„Айчына, дарагая!*
*Ты для нас святая:*
*І наша мова родна,*
*І справа тож народна“*[10].

Зьвяртае на сябе ўвагу багацьце мастацкай мовы й інтанацыяў у гэтым творы, стылізацыя мовы ў духу народнай гутаркі, ужываньне беларуска-польскай трасянкі ў мове паноў, а таксама патрыятычны

[9] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы… С. 36.

[10] Адважны, Вінцук. Выбраныя творы… С. 42.

патас, які выводзіць твор з вонкавай інтэрмэдыйнай формы й далучае да высокіх узораў рамантызму.

Праблема нацыянальнай самаідэнтыфікацыі закранутая таксама ў вершы „Перапіс у в. Луконіцы 1921 г.“, які тэматычна перагукаецца зь вершам „Хрэсьбіны Мацюка“ Францішка Багушэвіча:

*„Раньняю вясною,*
*Вольнаю парою,*
*Зноў сьпісок рабілі,*
*Ў палякі хрысьцілі“*[11].

Вынік атрымаўся сумнавядомы: *„Луконіца — вёска / Праз ноч стала polska“*. У аснову верша пакладзена рэальнае здарэньне, што адбылося падчас сьвятарскай працы кс. Язэпа Германовіча ў гэтай вёсцы ў Слонімскім павеце.

Адметную частку паэтычнай спадчыны Вінцука Адважнага складаюць сатырычна-гумарыстычныя творы, прадстаўленыя пераважна жанрамі байкі й вершаванага рэпартажу. Любоў да жанру байкі й гумарыстычны кірунак таленту вызначыліся яшчэ ў зборніку „Беларускія цымбалы“. Напрыклад, там быў зьмешчаны гіранічны верш „Вучань Ікс ігрыкавіч“, у якім высьмейваўся нядбайны вучань, які мае мінус па ўсіх прадметах, а ў касьцёл на імшу прыходзіць, калі ўжо сьпяваецца *„Agnus Dei...“* („Баранку Божы...“), — гэта значыць пад самы канец набажэнства. Была там зьмешчаная й арыгінальная байка „Пястун“ пра запешчанае птушанё, якое ленавалася вучыцца лётаць, самому лавіць спажыўных мушак. У выніку яно вывалілася з гнязда проста *„кату ў зубы“*.

Вярнуўшыся пасьля першай высылкі ў Харбін, а. Язэп Германовіч непрацяглы час (1936—1938) жыў на радзіме, як сьвятар працаваў у Вільні кіраўніком беларускага марыянскага Дому студэнтаў, як літаратар супрацоўнічаў з часопісамі „Шлях моладзі“, „Калосьсе“, „Хрысьціянская думка“, друкаваў там вершы й байкі, а таксама вершаваныя сатырычныя памфлеты й рэпартажы. Цяпер апрача свайго сталага псэўданіму ён падпісваўся таксама прозьвішчам Лявон Ветрагон. Менавіта пад такім прозьвішчам у часопісе „Хрысьціянская думка“ зьявілася рубрыка „І дзіўна, і страшна“, дзе зьмяшчаліся вершаваныя сатырычныя „агляды“ сусьветных палітычных падзеяў, газэтнай палемікі, дзейнасьці ведамых асобаў. Гэта была актуальная вершаваная крытыка

[11] W.A. Biełaruskija Cymbały. Wilnia: Wyd. Bieł Instytutu Haspadarki i Kultury, 1933. S. 55.

шматлікіх бакоў тагачаснага грамадзка-палітычнага жыцьця ня толькі ў Беларусі, але й ва ўсім сьвеце. У якасьці ілюстрацыі пакажам, як у 1937 г. Лявон Ветрагон ставіўся да „волі“ й „калгасаў“ у „Саветах“:

*„У Саветах — поўна воля,*
*А ў калгасах — сьвішча поля.*
*Мужык — пан! Ён толькі знае,*
*Што машыну падганяе.*
*А машына, хай Бог крые,*
*Аж пацее — зямлю рые!*
*Растуць дыні, як падушкі;*
*На вярбе — чырвоны грушкі…*
*Адным словам, ўсё як трэба:*
*Не хапае толькі… хлеба“*[12].

Байкапісная творчасьць Вінцука Адважнага надзвычай абсяжная. Яго сатырычны й гумарыстычны талент працягваў квітнець у эміграцыйны пэрыяд. Ён амаль штонумар друкаваў свае байкі ў лёнданскім часопісе „Божым шляхам“, рэдактарам якога зьяўляўся ў 1960—1970-х гг. Асобнымі выданьнямі выйшлі „Байкі і іншыя вершы“ (Лёндан, 1973), а таксама сатырычная *„сучасная казка“* ў вершах „Князь і Лапаць“ (1964), дзе аўтар крытыкаваў савецкую рэчаіснасьць зь яе несвабодаю думкі й дыктатам над чалавекам. Як рэдактар часопіса „Божым шляхам“ Вінцук Адважны часта ў гумарыстычнай форме пісаў вершаваныя рэклямныя звароты „Да паважаных чытачоў“, заклікаючы іх да падпіскі. Сам рэдактар пры гэтым выглядаў часам як трагікамічны пэрсанаж. Адзін з такіх вершаў-зваротаў „Наш часапіс“ (1965) быў напісаны ў жанры байкі й заканчваўся наступным чынам:

*„Рэдактар еў з парожняй міскі —*
*Чакаем В А Ш А Е п а д п і с к і“*[13].

У жанры байкі працягваюць гучаць і тэмы, якія хвалявалі Вінцука Адважнага ў міжваеным часе: чалавек у адносінах да Бацькаўшчыны й роднай мовы, чалавеак як ахвяра несвабоды і ўціску, матэрыялістычная прапаганда й духоўныя хрысьціянскія каштоўнасьці. Байкі, як і належыць жанру, маюць алегарычны сэнс, пад вобразамі жывёлаў маюцца на ўвазе людзкія праблемы й стасункі, высьмейваюцца заганы, узьнімаюцца маральна-выхаваўчыя праблемы. Высьмейваюцца такса-

[12] Chryścijanskaja Dumka. №19. 1937. S. 7.
[13] Божым шляхам. №1. 1965. С. 21.

ма маральныя заганы ў прыродзе самога чалавека (гультайства, пахвальба ды інш.), залішняе пеставаньне дзяцей і як вынік іх далейшая непрыстасаванасьць да жыцьця. Байкі Вінцука Адважнага часта будуюцца на прыёмах кантрасту, антыномій, супрацьпастаўленьняў. Напрыклад, матэрыяліст са сваімі прыземленымі спажывецкімі „ідэаламі“ супрацьпастаўляецца творцу — „артысту“; бязбожнік — хрысьціяніну; чыстата — сьвінству. Так, у байцы „Дзяцел і крот“ (1962) дзяцел зьяўляецца прадстаўніком неба, высокай красы. Інтарэсы крата зусім іншыя: *„Былі б чэрві, што там неба?! / Больш нічога нам ня трэба!“* Як дзяцел ні хваліў „неба“ (нават панёс у дзюбе туды крата, каб паказаць яму ўсё хараство далягляду), крот усё адно застаўся пры сваім прынцыпе й поглядзе на шчасьце:

*„Бо мы толькі ў зямлі*
*Рай чарвіны свой знайшлі,*
*І ў нас шчасьце, як на дзіва,*
*Скрозь рэальнае-праўдзіва“*[14].

Зразумела, што мараль байкі скіраваная супраць такога спажывецкага практыцызму, за якім не відаць духоўныя каштоўнасьці: *„Ці вы ўсе, матэр'ялісты, / Толькі есьці-піць артысты?“*

У байцы „Жучок за граніцай“ (1964) крытыка спажывецтва як ідэалу жыцьця спалучаецца з праблемай адносінаў да Бацькаўшчыны. Жучок абвяшчае свой погляд на гэтыя рэчы:

*„Мая ўся радасьць — піць ды есьці. —*
*Бо для мяне — Радзіма сьвежа,*
*Дзе вольна піць, дзе смачна ежа!“*[15]

Так бадзяючыся ў пошуку „смачнай ежы“ па „чужым месьце“, жучок заблукаў у музэй. Але там не было нічога спажыўнага, адно кошык з аб'едкамі ў сенях, дзе ён і наеўся, а пасьля паўдня праспаў у старой газэце. Нечаканая прыгода напаткала яго далей: вылезшы, ён *„трапіў на іголку“*. У якасьці музэйнага экспаната яго, даўшы панюхаць газу, прышпілілі ў вітрыне пад шклом *„...з запіскай па лаціне: / Жучок палескі цёмна-сіні“*. Мараль гэтай байкі, як бачна, скіраваная ў нацыянальную сфэру, кранае пытаньне выжываньня беларусаў у сьвеце, іх выбару паміж бяздумным жывёльным спажывецтвам і сьвядомай нацыянальнай арыентацыяй:

---

[14] Адважны, Вінцук. Байкі і іншыя вершы. Лёндан, 1973. С. 58—59.

[15] Адважны, Вінцук. Байкі і іншыя вершы... С. 65.

*„Так гістарычныя падзеі*
*Сапхнуць нас хочуць у музэі:*
*Сьмяцьцё чужое, ах, спакуса*
*Для самадура-беларуса“*[16] .

Не абмінае ў байках Вінцук Адважны й праблему роднай мовы як прыкметы самастойнасьці й годнасьці чалавека й народу, іх свабоднага разьвіцьця. Так, у байцы „Сабачая мова“ (1968) ён выступае ня проста супраць іншай мовы, але супраць гвалту, прымусу, калі іншая мова, як і чужыя парадкі, навязваецца гвалтам. У байцы распавядаецца пра тое, як *„Запанавалі цюцькі ў лесе...“* і ўсім загадалі *„...брахаць сабачай мовай — / Культурнай, ганаровай...“*, а тых, *„Хто не брахаў, сабакі-камандзеры / Лупілі па каўнеры: Закон сабачай тройкі / Рашучы быў і бойкі“*. Так замест лясной рознагалосай гармоніі, піша паэт, утварылася какафонія, аж пакуль сабак саміх не прагналі. Мараль байкі алегарычна была скіравана на тагачасную савецкую рэчаіснасьць зь яе палітыкай дыктату, афіцыйным курсам да зьліцьця нацыяў і народнасьцяў (у тым ліку да паступовага выштурхоўваньня з ужытку нацыянальных моваў) у адзіны безаблічны савецкі народ, нівеляваньнем нацыянальных адметнасьцяў, разбурэньнем векавых традыцыяў:

*„Чужая мова, ня іначай,*
*Нам — злосны брэх сабачы,*
*Калі нахабная апека*
*Муштруе чалавека!“*[17]

Трэба з жалем зазначыць, што для Беларусі мараль гэтай байкі актуальна гучыць і сёньня.

Моўную праблему закранаў паэт і ў байцы „Індык і куры“ (1960), але тут яна раскрываецца як тэма нацыянальнага рэнегацтва. Індык зьявіўся з самой Індыі (ня дзіва, што й назва ў яго адпаведная), балбатаў па-індыйску ў куратніку й куры пачалі хваліць тую мову — замежную, панскую, а ня простую, свойскую. Такімі паводзінамі абурыўся самавіты мясцовы *„певень-беларус“*, сказаўшы легкадумным курам:

*„Індык хай будзе вашым мужам;*
*А з намі скончаны хаўрус,*
*Бо сам я — певень беларус!“*[18]

---

[16] Адважны, Вінцук. Байкі і іншыя вершы... С. 66.
[17] Адважны, Вінцук. Байкі і іншыя вершы... С. 28.
[18] Адважны, Вінцук. Байкі і іншыя вершы... С. 51.

На заканчэньні байкі гучыць хутчэй не маральная выснова, а гімн роднай мове ў духу заключнай часткі верша „Спрэчка пад касьцёлам“:

*„О, родна мова — дарагая —*
*Свая, народная, сьвятая!“*[19]

Яшчэ варта згадаць адну адметную байку „Салавей, варона і певень“, якая закранае праблему свабоды творчасьці й ідэалягічнага кантролю над ёй. Тэма раскрываецца праз вобразы творцы (салавей) і яго вульгарна-сацыялягізатарскіх крытыкаў (варона, певень), якія жадаюць унесьці свае карэктывы ў сьпеў салаўя:

*„... Каб яшчэ больш было прыгожа,*
*Сам певень салаўю паможа.*
*Каб песьня больш была натхнёна,*
*Падмазаць салаўя ў чырвона!“*[20]

Мараль байкі, напісанай у крывавым 1937 г., гучала як водгук на рэпрэсіі ў тагачаснай Савецкай Беларусі й апэлявала да канкрэтнай падзеі — спробы самагубства Янкі Купалы ў лістападзе 1930 г.: *„Такія крытыкі, як выжлы, / Купалу аж да смерці згрызлі“.*

У эміграцыйны пэрыяд шырока прысутнічае ў паэтычнай творчасьці Вінцука Адважнага біблійная тэматыка, вершы на рэлігійныя сюжэты й вобразы. Ён фактычна пераказвае Біблію вершамі, папулярызуючы яе й адаптуючы для ўспрыняцьця самымі рознымі людзьмі, многім зь якіх не заўсёды бывала зразумелай зашыфраваная біблейская сымболіка, сэнс эвангельскіх прыпавесьцяў. Тут прыдаўся, бясспрэчна, вопыт сьвятара й глыбокае веданьне кніг Сьвятога Пісаньня, якія ён пераказваў блізкім да народнага сьветаразуменьня гутарковым стылем, насьледуючы ў пэўнай меры даўнюю традыцыю духоўных народных вершаў. Вылучаюцца два асноўныя біблійныя цыклі вершаў. Першы — гэта вершы на важныя, калі не сказаць галоўныя, падзеі Кнігі Быцьця, зь якой пачынаецца Стары Запавет. Сюды ўваходзяць такія вершы, як „Рай — першыя людзі“ ў дзьвюх частках („Ева і Люцыпар“ і „Далоў з Раю“), „Каін і Абэль“, „Сім, Хам і Яфет“, „Вавілонская вежа“, „Садома і Гамора“. Другі цыкль складаюць „Прыповесьці паводле Эвангельля Матэя — Марка — Лукі — Яна“, якія былі надрукаваныя ў асобным нумары часопісу „Божым шляхам“ (1970. №4).

Сапраўдным шэдэўрам стаў цыкль вершаваных перакладаў малітваў Кірылы Тураўскага „Малітва да Божае Маці“, „Малебны канон у 9-

[19] Адважны, Вінцук. Байкі і іншыя вершы... С.52.

[20] Адважны, Вінцук. Байкі і іншыя вершы... С.50.

ці песьнях“, „Малітва да сьв. Тройцы“. Апошні верш стаў шырокавядомай рэлігійнай песьняй „Дай, добры Божа“, музыку да якой напісаў Гай Пікарда й якая паўсюдна выконваецца ў сучасных беларускіх касьцёлах.

Таксама адгукаўся а. Язэп Германовіч вершамі на найважнейшыя эвангельскія падзеі й сьвяты: Божае Нараджэньне (Каляды), Вялікдзень, Дабравешчаньне. Нярэдка гаворка на рэлігійную тэматыку спалучалася ў яго з патрыятычным роздумам над лёсам Бацькаўшчыны. Напрыклад, у вершы „Вялікдзень“ (1971) гісторыя ўваскрасеньня Езуса Хрыста зьвязваецца з надзеяй на гістарычнае ўваскрашэньне Беларусі:

*„І БЕЛАРУСЬ з магілы ўстане:*
*Нам сонца яснае прагляне*
*На тым чырвоным, грозным Ўсходзе, —*
*Мы засьпяваем у свабодзе:*
*„Хрыстос наш Родны Край мілуе —*
АЛЛЕЛЮЯ!““[21]

На жаль, у такім невялікім аглядзе немагчыма было даць больш падрабязнай характарыстыкі вельмі багатай літаратурнай спадчыны ведамага сьвятара й пісьменьніка Вінцука Адважнага. Аднак тое, што ўдалося прадставіць, на нашую думку, адлюстроўвае ключавыя ідэйна-тэматычны кірункі й жанрава-стылёвыя асаблівасьці ягонай паэзіі, а таксама красамоўна характарызуе ягоную грамадзянскую пазыцыю, служэньне высокім хрысьціянскім ідэалам Праўды, Любові, Хараства дзеля дабра й адраджэньня Айчыны-Беларусі, а таксама ўзаемапаразуменьня людзей усяго сьвету.

[21] Божым шляхам. № 2 (125). 1971. С. 2.

***Сяргей Шабельцаў***
*Менск*

# „НОВАЯ ГАЗЕТА“ ЯК ДРУКАВАНЫ ВОРГАН БЕЛАРУСКІХ ЭМІГРАНТАЎ У АРГЕНТЫНЕ

Беларускія эмігранты з Другой Рэчы Паспалітай ў другой палове 1930-х гг. стварылі ў Аргентыне свае нацыянальныя таварыствы ды такія друкаваныя ворганы, як „Белорусский иллюстрированный календарь“ („БИК“) і „Новая газета“. Апошняя выходзіла ў Буэнас-Айрэсе ад лета 1936 г. да пачатку 1941 г. двойчы на месяц. Пра яе ідэалягічную арыентацыю можна меркаваць паводле ўспамінаў беларусаў, што рээміґравалі ў СССР, зацемак у „БИК“, а таксама паводле адзінага нумару (ад 29 кастрычніка 1939 г.), які захаваўся ў Цэнтральным дзяржаўным архіве найвышэйшых ворганаў улады й кіраваньня Ўкраіны (Кіеў).

Рэдактарам і адміністатарам „Новой газеты“ ў 1939 г. (згодна з захаваным нумарам) быў Л. Гузіч. Рээміґрант П. Казіол таксама называе Гузіча побач з П. Ільляшэвічам як кіраўніком „Новой газеты“, і дадае, што яны абодва былі сябрамі Кампартыі Аргентыны (КПА). Пры гэтым Ільляшэвіч на радзіме быў сябрам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі[1]. З увагі на сяброўства ў КПА кіраўніцтва „Новой газеты“ ня дзіўны й прасавецкі ды пракамуністычны характар яе публікацыяў. Гэткую заангажаванасьць беларускага выданьня падкрэсьліваў і расейскі белаэміґранцкі друк: у зьедлівым артыкуле „Русского в Аргентине“, прысьвечаным „Новой газете“, сьцьвярджаецца, што *„вся демократичность полупочтенного листка состоит в том, что он подсовывает своим немногочисленным читателям отжившие идеи коммунизма, времен Троцкого“*[2].

[1] Козиол, П. // Руденко, А. Общественно-политическая и культурная деятельность прогрессивных белорусских иммигрантов в Аргентине (1925—1955 гг.). Москва, 1975. С. 154.

[2] Как дурачат темных людей // Русский в Аргентине. 19 августа 1939.

Дыскусія паміж згаданымі двума рускамоўнымі выданьнямі ў Буэнас-Айрэсе найлепей адлюстроўвае грамадзкую пазыцыю кожнага зь іх. У нумары за 29 кастрычніка 1939 г. зьмешчаныя пяць артыкулаў-адказаў „Русскому в Аргентине“. Зьмест тэкстаў дазваляе ў пэўнай ступені высьветліць, што менавіта выклікала скрайне негатыўную рэакцыю „Новой газеты“. „Русский в Аргентине“ ў сваіх матэрыялах, як выглядае, ліў *„крокодиловы слезы, будто бы из сожаления к «малограмотным простакам» белоруссам и даже к белорусским культурно-просветительным организациям, которые попались на удочку и продолжают культивировать пренебрежительное отношение к интеллигенции и образованным“*[3]. „Русский в Аргентине“ таксама сьцьвярджаў, што кіруюць беларускімі таварыствамі зьбеглыя з СССР трацкісты, якія на нарабаваныя ў „буржуяў“ грошы заснавалі ў Аргентыне фабрыкі й гандлёвыя прадпрыемствы[4].

У адказ на гэта „Новая газета“ зьмясьціла фотаздымак кіраўнікоў Беларускай фэдэрацыі, друкаваным ворганам якой зьяўлялася, і запатрабавала ад „Русского в Аргентине“ назваць зь іх хоць аднаго фабрыканта. Беларуская газэта таксама дыскрэдытавала ў вачах чытачоў „белагвардзейцаў“: *„Ваша цель не просвещать белорусов, а затемнить… Пролетели ваши славные денечки. Уже двадцать лет как пролетели“*[5]; *„Знаем мы вашу «аполитичность», не по словам, а по делам… И так братья белорусы, в ответ на вылазки врага мы должны теснее сплотиться. Кто еще не является подписчиком „Н.Г.“ должен стать таковым. Это будет лучший отпор врагу“*[6].

Адначасова, у адказ на абвінавачаньні ў трацкізме, аўтары артыкулаў рабілі акцэнт не на тым, што яны ня ёсьць левымі камуністамі (абвінавачаньні складаліся менавіта з гэтага), а на тым, што яны не выступаюць супраць савецкага ладу, як Троцкі: *„Эти „образованные“ господа думают, что белорусы не понимают сущности троцкизма. Нам очень хорошо известна вредительская работа троцкистов, которые делали подрыв социалистическому строительству в Советском Союзе. За свое вредительство они подверглись суровому наказанию. Но нам также хорошо известно и ваше грязное прошлое, кото-*

---

[3] Шишка, В. Крокодиловы слезы // Новая Газета. 29 октября 1939.

[4] Федеративное Правление. Требуем доказательства // Новая Газета. 29 октября 1939.

[5] Шишка, В. Крокодиловы слезы…

[6] Костах, М. Нас не проведете // Новая Газета. 29 октября 1939.

*рое вы хотите скрыть от белорусской трудовой эмиграции. Навязывая троцкизм другим, вы, господа, этим самым, стараетесь показать, что вы ни в чем не погрешимы. Вы хотите подмазаться к белорусской эмиграции. Лучше не суйте, господа, своей морды в наши белорусские дела“*[7].

Згаданая палеміка дае магчымасьць зразуменьня некаторых аспэктаў дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у Аргентыне. Па-першае, створаныя беларускія таварыствы былі дакладна прасавецкі арыентаваныя: ні ў адным артыкуле не ставіцца пад пытаньне слушнасьць палітыкі СССР, больш за тое, выказваецца поўная яе падтрымка. Па-другое, эмігранты-камуністы ўплывалі на працу беларускіх арганізацыяў і не дазвалялі ўступаць туды расейскім белаэмігрантам.

Прасавецкую й пракамуністычную скіраванасьць „Новая газета“ з усёй відавочнасьцю выявіла ў 1939 г. Тады ўлетку яна апублікавала артыкулы ў падтрымку Польшчы. „Русский в Аргентине“ 19 жніўня 1939 г. сьцьвярджаў: *„...дельцы из „Новой Газеты“ не брезгуют и другими „доходными статьями“, куда прежде всего относится и доставка „пушечного мяса“ для иностранных армий. У всех еще жива в памяти их пропаганда в пользу Испании... В данный момент „Новая Газета“ проводит новую, доходную для себя компанию. Целые статьи она посвящает призывам жертвовать „одно, десять, сто песо, — сколько каждый может“ в пользу ... **польской армии**! Очевидно „демократичность“ „Новой Газеты“ вполне вяжется с фашизмом польских панов. Интересно, — что на этот раз скажут постоянные и покорные жертвователи, в большинстве своем бежавшие в Америку именно от „сладкой“ жизни в Польше“*[8].

Адзначаная пазыцыя „Новой газеты“ ў 1939 г. зразумелая: напад Нямеччыны на Польшчу успрымаўся праз прызму таго, што родныя гарады й вёскі, адкуль беларусы выехалі за акіян, сталі аб’ектам агрэсіі з боку заваёўнікаў. Ва ўсіх на радзіме засталіся родныя й сваякі, лёс якіх быў неабыякавы эмігрантам. Аднак пасьля 17 верасьня 1939 г., калі на тэрыторыю Заходняй Беларусі ўвайшла Чырвоная Армія, „Новая газета“ ўжо не публікавала прапольскія артыкулы. Далучэньне былых „усходніх крэсаў“ да БССР выклікала станоўчую рэакцыю беларускіх пэрыёдыкаў у Аргентыне. У нумары за 29 кастрычніка 1939 г. не было ніводнага добрага слова пра Польшчу, а ўз’яднаньне Беларусі рэпрэзэнтавалася як акты гістарычнай справядлівасьці.

---

[7] Костах, М. Нас не проведете...

[8] Как дурачат темных людей // Русский в Аргентине. 19 августа 1939.

Карэнныя зьмены ў жыцьці далучаных да БССР тэрыторыяў на старонках беларускага друку Аргентыны падаваліся толькі з дадатнага боку. У артыкуле „Что происходит в Западной Белоруссии?“ распавядаецца пра абраньне 22 кастрычніка 1939 г. *„подлинно народного правительства“* працоўнымі, і адмаўляюцца закіды заходняй прэсы пра галасаваньне *„под штыками“*, бунты й пашырэньне хваробаў: *„…все наемные писаки реакционной печати эти сведения фабрикуют с определенной целью. Они стараются убедить трудящихся в том, что в полуфашистской Польше белоруссам жилось гораздо лучше, нежели при советской власти и что вообще никакого освобождения не произошло… Общеизвестно, что реакционная печать всегда пишет только то, что является выгодным в интересах привилегированной верхушки“*. Далей ў артыкуле падаюцца ўрыўкі з савецкай „Праўды“ пра забесьпячэньне насельніцтва харчамі, пераводзе адукацыі на беларускую мову, рэгістрацыі маёмасьці паноў сялянскімі камітэтамі, працы па разгрузцы вагонаў добраахвотнікамі зь мясцовага насельніцтва. Як выснова гучыць: *„Многострадальческий и свободолюбивый народ Зап. Белоруссии очень доволен и много благодарен своим братьям за то, что они освободили из-под варварского гнета панской Польши“*[9].

Гэткія публікацыі выразна адлюстроўваюць прасавецкую й пракамуністычную пазыцыю „Новой газеты“. Аднак ў Беларускай фэдэрацыі на мяжы 1930-х — 1940-х гг. існавалі рознагалосьсі, што выклікалі востры крызіс і закрыцьцё пэрыёдыка. Гэта, магчыма, адбылося ў першай палове 1941 г.: тады беларускае таварыства „Белавеж“ зрабіла справаздачу, што ў часе чарговай кампаніі яно зарэгістравала: *„73 подписчиков на „Новую Газету“ и собрано 160 пезо в пользу ея“*[10]. І пасьля гэтага ніякіх згадак пра газэту ў беларускім друку няма. А калі б яна выходзіла ў чэрвені 1941 г., то, безумоўна, зрэагавала б на пачатак нямецка-савецкай вайны, пра што засталіся б згадкі ў іншых крыніцах. Але такіх згадак не захавалася.

Падзеі вакол „Новой газеты“ апісваюцца й ва ўспамінах беларускіх рээмігрантаў. *„К началу 40-х годов общества „Культура“ и „Библиотека им. И.Луцкевича“ стали постепенно отходить от других белорусских организаций, обвиняя последних в том, что они слишком*

[9] Что происходит в Западной Белоруссии? // Новая Газета. 29 октября 1939.

[10] Гвай, И. Общество „Беловеж“ // Белорусский иллюстрированный календарь на 1941 г. Буэнос-Айрес, 1940. С. 58.

*много занимаются политикой. Они были против того, чтобы коммунисты „вмешивались“ в жизнь иммигрантских организаций. „Новая Газета“, орган Белорусской федерации, также стала скатываться на „культурнические“ позиции. В одном из номеров этой газеты появилась статья некого В. Елица, в которой он требовал отказаться от сотрудничества с украинскими прогрессивными обществами и выступил против участия украинцев в работе белорусских обществ. Подобная позиция газеты, естественно, не способствовала единству прогрессивных иммигрантов. Абсолютно верным было решение партийной организации Федерации исключить из рядов КПА В. Елица, а также редактора газеты П. Ильяшевича и администратора Л. Гузича, которые подпали под влияние обществ „Культура“ и „Библиотека им. И. Луцкевича“. Газета также прекратила свое существование“*[11].

Такім чынам, зроблены аналіз „Новой газеты“ сьведчыць пра цесную сувязь Беларускай фэдэрацыі й КПА: кіраўнікі „Новой газеты“ (друкаванага воргану фэдэрацыі) былі камуністамі, сябры КПА ўмешваліся ў працу беларускіх арганізацыяў. Прычым усё гэта не было таямніцай: прадстаўнікі двух таварystваў — „Культура“ й „Беларуская бібліятэка імя Івана Луцкевіча“ — адкрыта пра тое казалі й прапаноўвалі пазьбягаць ўмяшальніцтва ў палітыку. Аднак камуністы пайшлі на абвастрэньне канфлікту, паколькі не жадалі дапусьціць аслабленьня сваіх пазыцыяў у беларускіх таварыствах. У выніку зацятасьці бакоў дзейнасьць „Новой газеты“ стала немагчымая, і яна была зачыненая.

*Пераклад з расейскай Натальлі Гардзіенкі*

[11] Литвинчук, Л. // Руденко, А. Общественно-политическая и культурная деятельность прогрессивных белорусских иммигрантов в Аргентине (1925—1955 гг.)... С. 162.

***Ганна Кісьліцына***
*Менск*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯБАРАНТ НА СТАРОНКАХ „ДЗЁНЬНІКА 1943—1947“ ДЗЬМІТРЫЯ СЯМЁНАВА Й „ЗАПІСАК ЭМІГРАНТА“ („ДЗЁНЬНІКА ІВ. ІВ. ЧУЖАНІНАВА“) ЛЯВОНА САВЁНКА

„Беларускі калябарант“ — знаёмы незнаёмец… Рэч у тым, што тэма асьвятленьня калябарацыянізму ў айчынным пісьменстве цалкам новая для нашага літаратуразнаўства.

І гэта пры тым, што барацьба савецкіх падпольшчыкаў і партызан з калябарантамі доўгія дзесяцігодзьдзі заставалася ўлюбёнай тэмай мастацкага асэнсаваньня ў літаратуры, кіно й нават знайшла сваё адлюстраваньне ў фальклёры. Гэтаму ёсьць адзінае тлумачэньне — супрацоўніцтва грамадзянаў са структурамі Трэцяга Рэйху ўяўляе сабой узор навуковай тэмы, якая, на жаль, зьяўляецца актуальнай ня толькі з акадэмічнага пункту гледжаньня, але ў першую чаргу выклікае грамадзка-палітычную цікавасьць, тую цікавасьць, якой беларускія „тулягі“ ад літаратуразнаўства відавочна пазьбягаюць.

Не сакрэт, у СССР да ўсіх, хто ў той ці іншай ступені супрацоўнічаў з нацысцкай Нямеччынай, ставіліся вельмі негатыўна, як на ўзроўні навукова-гістарычнай думкі, так і на ўзроўні масавай сьвядомасьці. Інэрцыя такога мысьленьня моцная й цяпер, хіба з той папраўкай, што сёньня яе часткова ўраўнаважвае супрацьлеглая апінія, пра існаваньне якой беларусы змаглі даведацца галоўным чынам у выніку вяртаньня на Беларусь творчасьці пісьменьнікаў-эмігрантаў. Аднак, ведаючы асаблівасьці працяканьня сёньняшняга літаратурнага працэсу, было б

вялікай ілюзіяй спадзявацца, што гэтыя цікавыя, хоць і нешматлікія сьведчаньні, змаглі істотна паўплываць на чытацкую аўдыторыю, не гаворачы ўжо пра ўсё насельніцтва Беларусі.

Як і большасьць жыхароў постсавецкай прасторы, беларусы, асабліва старэйшага веку, па-ранейшаму ўспрымаюць праблему калябарацыі надта эмацыйна, асабліва цяпер, калі ўкраінскія падзеі ўзрушылі, здавалася б, рудымэнтарныя ўяўленьні савецкай пары. Дастаткова нагадаць, як імкліва пашыраецца ў Беларусі зьмест паняцьця „бандэравец“, набываючы адценьні, да якіх нават савецкая прапаганда не магла дадумацца.

Аднак, нягледзячы на відавочную рызыкоўнасьць тэмы, у апошні час можна адзначыць усплёск цікавасьці да праблемы, што выяўляецца ў выданьні шматлікіх гістарычных дасьледаваньняў рознай ступені навуковасьці.

Як заўважыў аднойчы адзін з самых вядомых на сёньня дасьледнікаў беларускага калябарацыяналізму Алег Раманько, у такіх працах галоўнае — не паддацца эмоцыям, не ператварыцца ў судзьдзю ці адваката, а застацца на баку гістарычнай аб’ектыўнасьці. Аднак парадокс у тым, што ўсьведамленьне праблемы ня ёсьць гарантам пазбаўленьня ад яе... І ў гэтым пляне кніга самога Алега Раманько *„Белорусские коллаборационисты. Сотрудничество с оккупантами на территории Белоруссии, 1941—1945“*[1] — клясычны ўзор тэндэнцыйнага дасьледаваньня, што выяўляецца ўжо зь першых раздзелаў кнігі, дзе сьцьвярджаецца, што ў Беларусі ніколі не было нацыяналізму, Кастусь Каліноўскі выўляецца фацэтам, а пра існаваньне „Нашай Нівы“ нібыта ніхто ня ведаў. Пасьля такой інтэрпрэтацыі нацыянальнага жыцьця Беларусі страчваецца жаданьне знаёміцца непасрэдна з дасьледаваньнем падзеяў, зьвязаных са стварэньнем і выкарыстаньнем ўзброеных фармаваньняў зь ліку савецкіх грамадзянаў.

Можна назваць і іншыя цікавыя кнігі па гэтай праблеме. Напрыклад, „Нацыянальна-культурнае жыццё на Беларусі ў часы вайны (1941—1944 гг.)“ Леаніда Лыча[2], дзе згадваюцца, перш за ўсё падзеі й асобы культурнага жыцьця пад акупацыяй.

[1] Романько, Олег. Белорусские коллаборационисты. Сотрудничество с оккупантами на территории Белоруссии, 1941—1945. М.: Центрполиграф, 2013. — 479 с.

[2] Лыч, Леанід. Нацыянальна-культурнае жыццё на Беларусі ў часы вайны (1941—1944 гг.). Вільня: Наша будучыня, 2011. — 332 с. — (Неизвестная история).

З ранейшых працаў варта назваць „Акупацыю Беларусі (1941—1944): Пытанні супраціву і калабарацыі“ Аляксея Літвіна[3], які апісвае галоўным чынам ваенныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі. Цяжка прамінуць „Беларусь пад нямецкай акупацыяй“ Юрыя Туронка[4], якая мела шырокі розгалас. У меншай ступені ведамыя „Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускае Моладзі“ Лявона Юрэвіча[5] й праца Бэрнгарда К'яры „Штодзённасьць за лініяй фронту: Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941—1944 гг.)“[6].

Што звяртае на сябе ўвагу пры чытаньні навукова-гістарычнай літаратуры па праблеме калябарацыянізму, акрамя ўжо адзначанай ацэначнасьці?

Па-першае, той факт, што ўсплёск цікавасьці да праблемы супаў з наступнымі ваеннымі дзеяньнямі ва Ўкраіне. Гэтая сувязь можа й не была б заўважаная, каб ня той факт, што згаданы вышэй Алег Раманько — ня толькі ведамы спэцыяліст у тэме калябарацыі, але й адмыслоўца ў *крымалёгіі*.

Па-другое, на вытлумачэньне фактаў відавочна ўплывае геаграфія — дасьледнікі з постсавецкіх краінаў маюць ня толькі горшы доступ да дакумэнтаў, але й горшыя ўмовы для камунікацыі з калегамі. Гэта відавочна адбіваецца на іх меркаваньнях, дакладней, на іх тэндэнцыйнасьці.

Але найбольш цікавую асаблівасьць заўважыў Аўген Міровіч у сваёй рэцэнзіі на кнігу Аляксея Літвіна „Акупацыя Беларусі“, калі напісаў, што цытаты з дакумэнтаў у некаторых фрагмэнтах пераважаюць над інтэрпрэтацыяй падзеяў, а вобраз акупаванай краіны стварае не аўтар, а той страх за жыцьцё, які адчуваецца ў крыніцах[7].

Гэтая заўвага наводзіць на думку — калі ўжо ўсё роўна няма магчымасьці атрымаць хоць бы больш-менш аб'ектыўную карціну мінулага (бо на практыцы ўсё што мы маем — гэта вобраз, сатканы са страхаў і прыватных адчуваньняў, скандэнсаваных у дакумэнтах), то было б лягічна адразу зьвяртацца менавіта да мастацкіх вобразаў, то бок да

[3] Літвін, Аляксей. Акупацыя Беларусі (1941—1944): Пытанні супраціву і калабарацыі. Мінск, 2000. — 288 с.

[4] Туронак, Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мінск, 1993. — 236 с.

[5] Юрэвіч, Лявон. Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускае Моладзі. Мінск, 2001. — 214 с.

[6] К'яры, Бернгард. Штодзённасьць за лініяй фронту: Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941—1944 гг.). Мінск: БГА, 2005. — 390 с.

[7] Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 15. Białystok, 2001. S. 241.

літаратуры *non-fiction*, створанай альбо непасрэдна падчас акупацыі, альбо ў недалёкай часавай адлегласьці.

Ад пачатку перабудовы беларускі чытач ужо неаднойчы атрымоўваў магчымасьць стварыць для сябе больш-менш ясны вобраз такіх зьяваў як калябарацыя й калябаранты. Прычым, трэба ўдакладніць, што для беларусаў пад калябарацыяй трэба разумець ня толькі супрацоўніцтва з акупацыйнай уладай Нямеччыны, але й з савецкай уладай. Таму, называючы творы, якія б раскрывалі гэтую тэму, відавочна варта пачынаць з „Тутэйшых“ Янкі Купалы й „Запісак Самсона Самасуя“ Андрэя Мрыя, дзе калябарант паўстае прыстасавальнікам і камфармістам. Аднак прыкладна ў той жа час адкрываюцца для чытача і ўспаміны дзеячаў эміграцыі Яўхіма Кіпеля, Натальлі Арсеньневай, Леаніда Галяка, дзе існуе дыямэтральна супрацьлеглы вобраз калябаранта — нацыянальна-сьведамага змагара, ідэаліста й, перадусім, чалавека эўрапейскай культуры. Паўстае пытаньне — ці можа ў такім выпадку наагул існаваць нейкі аб’яднаны вобраз беларускага калябаранта?

Адказ быў бы адмоўным, калі б ня рэдкая літаратуразнаўчая ўдача: у 2013 г. пабачылі сьвет два выданьні, якія ня проста зьяўляюцца дакумэнтамі часу й літаратурнымі помнікамі, а ў пэўным сэньсе генэруюць гэты самы вобраз на перакрыжаваньні дакумэнтальнага й мастацкага, нутранога й староньняга погляду. Гаворка ідзе пра „Дзёньнік 1943—1947“ Дзьмітрыя Сямёнава[8] й „Запіскі эмігранта“ („Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава“) Лявона Савёнка[9] .

У чым асаблівасьць поглядаў аўтараў на падзеі Другой сусьветнай вайны, сьведкамі якіх ім давялося быць? Перш за ўсё ў тым, што, пішучы пра вайну, яны ня ставілі перад сабой задачу абяліць сябе ці сваіх паплечнікаў у вачах былых суайчыньнікаў.

Дзьмітрый Сямёнаў у прынцыпе ствараў не мастацкую рэч, а пісаў дзёньнік у рэальным ваенным часе (адчуйце розьніцу з успамінамі, якія пісаліся празь некалькі дзесяцігодзьдзяў пасьля Другой сусьветнай). Яго складана вызначыць як калябаранта. Вучоба ў фэльчарскай школе й падпрацоўка ў Краязнаўчым (гістрычным) музэі хоць і зьяўляюцца *de facto* супрацай зь нямецкім акупацыйным рэжымам, але, відавочна, на справе з рэальнымі немцамі ён нават не камунікаваў. Гэтая „су-

[8] Сямёнаў, Дзмітры. Дзённік. 1943—1947. Мінск: Медысонт, 2012. — 334 с. (Бібліятэка часопіса „Беларускі Гістарычны Агляд“, 23).

[9] Савёнак, Лявон. Творы / уклад. Ц. Чарнякевіча і Л. Юрэвіча. Мінск: Лімарыус, 2012. — 352 с. — (Галасы Айчыны).

праца“ не была вынікам сьвядомага выбару, хаця б з прычыны ягонага ўзросту. Дарэчы, такім жа акупацыйным рэжымам для Сямёнава выглядаюць і „бальшавікі“, пра што ён сам згадвае.

У Лявона Савёнка ўсё было больш складана. Супраца ў акупацыйнай „Беларускай газэце“ была вынікам многіх абставінаў, але, безумоўна, у першую чаргу сьледзтвам пяцігадовай высылкі ў савецкія канцлягеры спачатку ў Паўднёвай Сібіры, а пазьней у Алтайскім краі. Разам з тым менавіта чалавек, несправядліва пакрыўджаны Саветамі, Савёнак піша „Дзёньнік Ів.Ів. Чужанінава“, дзе стварае бліскучы аб'ёмны вобраз „шкурніка“. Як быццам бы спэцыяльна на замову савецкіх гістарыёграфаў, якія, так выглядае, старанна зьбіралі ўсе віды прыстасаванцаў і кар'ерыстаў, абмінаючы ўвагай рамантыкаў і нацыяналістаў.

Аднак парадокс у тым, што сам аўтар-калябарант відавочна грэбуе ўчынкамі сваіх „герояў“ — практычна ўсе вобразы „Дзёньніка“ пададзеныя ў сатырычным ключы, і пра гэта ня варта забываць, як і пра той факт, што дзёньнік друкаваўся падчас вайны ў падвалах усё той жа „Беларускай газэты“. То бок уражаньні аўтара, як і ўражаньні Сямёнава, былі найсьвяжайшымі! Як і Сямёнаў, Савёнак ня меў сэнтымэнту — ні да савецкай улады, ні да акупацыйнай, бо, як ведама, улетку 1941 г., адразу пасьля акупацыі, ён быў інтэрнаваны й некалькі тыдняў прасядзеў на Камароўскіх балотах пад Менскам, што, відавочна, не дадало яму любові да немцаў.

Лявон Юрэвіч, які рыхтаваў гэтыя выданьні да публікацыі, слушна адзначае дзіўныя супадзеньні — нават на стылёвым узроўні „Дзёньнік 1943—1947“ Дзьмітрыя Сямёнава й „Запіскі эмігранта“ („Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава“) Лявона Савёнка вельмі падобныя. Сам дасьледнік часткова вытлумачвае гэта тым, што падзённае запісваньне падзеяў было характэрна для культуры таго часу. Але гэтае кідкае вонкавае падабенства выклікае пастаяннае жаданьне параўноўваць постаці аўтараў (Гэта выглядала б дзіўным, каб ня той факт, што асабістыя дзёньнікі тады стваралі ў тым ліку й для чужых вачэй. Іх давалі пачытаць, іх абмяркоўвалі, у іх нават зьвярталіся да патэнцыйнага чытача).

Дык вось адмыслова „прыхарошаны“ аўтапартрэт Сямёнава значна саступае па сваіх маральна-этычных якасьцях вобразу аўтара ў творы Савёнка — зьедлівага крытыкана, які асуджае ўсё і ўсіх. Калі першы пры ўсёй сваёй „залакіраванасьці“ выглядае нарцысам, цынікам, чалавекам з халодным сэрцам, які зь лёгкасьцю кідае бацькоў і нядаўніх сяброў, то другі гіранічна, але пасьлядоўна адстойвае чалавечыя каш-

тоўнасьці. Пры гэтым карыстаецца прыёмам сьцьвярджэньня ад супрацьлеглага, па-сьвіфтаўску даводзячы нейкія моманты да абсурду. Напрыклад, тады, калі пачынае ўдаваць чалавечыя хібы за норму, а нешматлікіх праведнікаў — за вар'ятаў.

Аўтары абодвух твораў, так выглядае, у жыцьці былі далёка ня блізкімі паводле памкненьняў. Аднак аб'ядноўвае іх тэксты ня толькі той факт, што яны раскрываюць акалічнасьці жыцьця аднаго гораду ў прыкладна адзін і той жа адрэзак часу. Аб'ядноўвае іх агульны тып калябаранта, які, што важна, не супадае з рэальнымі асобамі, якія яго стварылі.

Кідаецца ў вочы, што вобраз калябаранта (а гэта ня толькі тыя, хто супрацоўнічаў зь нямецкімі акупантамі, але й з савецкімі, „партыйнымі“, як яны называюцца ў творах) неяк міжвольна атаясамляецца з вобразам беларуса, адлюстроўваючы тыя рысы характару, якія беларусы ў сабе ня надта любяць падкрэсьліваць. Асабліва яскрава вымалёўваецца гэты вобраз са старонак „Запісак эмігранта“ Лявона Савёнка, дзе створаная, не пабаімся сказаць, энцыкляпэдыя калябаранцкага жыцьця. Падкрэсьлім, не акупацыйнага, а менавіта жыцьця тых, хто ўхітраўся ў гэты час дастаткова спакойна есьці, спаць, хадзіць на працу, рабіць бізнэс, наведваць тэатры й паэтычныя вечарыны і нават купляць цацкі на навагоднюю ялінку! Сам пералік гэтых магчымасьцяў выглядае неверагодным як для тых, хто ведае вайну па падручніках, гэтак і для большасьці тых, хто ведае яе па партызанскіх зямлянках ці яўрэйскім гета.

У Лявона Савёнка выдатна раскрываюцца тэмы, якія проста немагчыма адшукаць дзе-небудзь яшчэ. Ні адна лічба статыстыкі пра гэта ня скажа. Напрыклад, калябаранты й культура, калябаранты й погляды на вайну, калябаранты й рэлігія, калябаранты й навука, калябаранты й шлюб, калябаранты й пачуцьцё гумару, калябаранты й злачынства, калябаранты й варажбіткі. Апошняя тэма некалькі разоў, што цікава, падымаецца і ў дзёньніку Дзьмітрыя Сямёнава, што толькі пацьвярджае важнасьць гэтай прафэсіі — варажбіткі — ва ўмовах акупаванай краіны!

Тэмы гэтыя апісаныя ў Лявона Савёнка з розных бакоў, але заўсёды бліскуча, гратэскна. Карыкатуры на паўсядзённае жыцьцё акупаванага Менску й на самых прыстасаваных яго жыхароў вылучаюць у іх самыя яркія, самыя характэрныя рысы. Пры гэтым мова аўтара-фэльетаніста трапная, ляканічная, у многім нават афарыстычная.

Напрыклад, тэма калябарантаў і культуры добра раскрываецца праз афарыстычную заўвагу такога пэрсанажа, як Фэцкі: *„Гандаль —*

*асноўнае, што цяпер трэба чалавеку, бо гандаль — рухавік усяе культуры“*[10].

Тэма каханьня пад акупацыяй раскрываецца праз уздых-заўвагу жанчынаў: *„Ах, якое ж каханне ў іх было, любачкі, проста даваеннай якасці каханне!“*[11]. У іншым месцы — у запісе ад 1 верасьня — можам даведацца, што было „ня так“ з акупацыйным каханьнем, калі чытаем гісторыю пра мужчыну, які пайшоў узяць свае ўласныя рэчы да былой жонкі, а яму нічога не аддалі. Без маёмасьці яго й новая жонка не прыняла. Таму даводзіцца яму хадзіць і скардзіцца па суседзях на жаночы мэркантылізм, бо мала таго, што жанчына напрамкі зьвязвае каханьне з маёмасьцю, дык яшчэ й *„цвыркае“*.

Тэма палітычных перакананьняў відавочна перагукаецца з тым, як яна раскрывалася ў п’есе Янкі Купалы „Тутэйшыя“. Здаецца, каб зразумець, пра што ідзе гаворка, хопіць адно заўвагі: *„Калі падумаць, колькі людзей пакалечыла сябе за так званыя палітычныя пераконанні, дык ажно страх бярэ. Іншы мяняў іх за гэтыя дваццаць пяць гадоў па дзесяць разоў і не заўсёды без аварыі“*[12].

Цікава, што ў „Запісках эмігранта“ неаднойчы згадваецца добра знаёмая сучасьнікам ідэалягема *„чаркі і скваркі“*. Можа падацца дзіўным, але *„чарка і скварка“* — адзін з тых фразеалягізмаў, якія былі папулярным вытлумачэньнем мэнтальнага складу тутэйшых жыхароў у 1940-х гг. Да прыкладу, адзін з герояў „Запісак“ Лявона Савёнка, Сымон, які нагадвае гашэкаўскага Швэйка бясконцымі „апавяданьнямі да выпадку“, успамінае: *„Парцейныя, ну, гэта ўсе такія, ён хоць штодня пераапранацца будзе, абы яму скварку давай. Быў у нас такі пры Акадэміі якійсьці Мікалаеў. Дык вось, заклікалі яго неяк у галаву ды і кажуць: „Выдавай, — кажуць, — усю сваю кантору, хто супроць...“ Ну, ён і нагаварыў: пяцёх сваіх найлепшых таварышаў пасадзіў. А сам у іх чарку піў і часцяком іх баб гладзіў“*[13].

Але й людзі, якія быццам павінны прытрымлівацца поглядаў, супрацьлеглых поглядам *„парцейных“*, не нашмат ад апошніх адрозьніваюцца. Так, дабрабыт другога „зачэпістага“ пэрсанажу, які, наадварот, нешта не пагадзіў з бальшавікамі й уцёк на Захад, а ў вайну вярнуўся, каб мець прыбытак, адпаведны сваёй натуры, таксама характарызуецца

[10] Савёнак, Лявон. Творы... С. 271.

[11] Савёнак, Лявон. Творы... С. 274.

[12] Савёнак, Лявон. Творы... С. 267.

[13] Савёнак, Лявон. Творы... С. 214.

праз *„чарку і скварку“:„Сёння меў неспадзяваную сустрэчу. Бачыў свайго старога знаёмага — Выпівоніч-Ецкага. Ведаў яго шчэ за царом. Быў ён тады абшарнікам, меў маёнтак, ну і жыў нядрэнна: скварку і чарку меў штодня“*[14].

Зьяўленьне гэтага пэрсанажа дало героям „Запісак“ штуршок пагаварыць пра ролю галавы й жывата ў жыцьці чалавека. І тут погляд калябаранта зноў выказваецца вуснамі схільнага да філязофстваваньня Сымона, якога аўтар відавочна надзяліў тыповымі меркаваньнямі тутэйшага люду, падкрэсьліваючы адначасова самастойнасьць і адносную трываласьць ягоных поглядаў.

Сымон згадвае свайго знаёмага доктара, які „рэзаў выключна жываты“, і тлумачыў гэта наступным чынам: *„А што ў галаве калупаць? Мазгі — гэта дрэнь, густы кісель і больш нічога. І галава патрэбна чалавеку хіба як пакрыўка для тулава, каб у жывот лішняя вада не зацякала, бо сам бачыш, што кажны чалавек жыватом наперад ходзе, а не наадварот, а значыцца, і ўсё чалавецтва жыватом наперад рушыць...“*[15]

Кансэрватар Сымон, ці ня цалкам пазбаўлены рамантызму, нават за навагоднім сталом чуць ня хоча пра шчасьце, пра лепшую будучыню, пра спадзяваньні й мроі. За сталом — у акупаваным горадзе, калі вы не забылі! — ён абураецца: *„Вось тут я чуў, што гаварылі пра новае шчасце. А на які мне хрэн гэтае вашае шчасце? Мне што трэба на гэты год? Марцыпаны? Мне патрэбная спакойная праца, а ў выніку яе — скварка і чарка. І каб ніякі чорт не мяшаўся ў маё жыццё. Вось і ўся мая палітычная крэйда“*[16].

Аднак малапрывабнымі выглядаюць і „сьведамыя беларусы“, якія, як высьвятляецца, ужо семдзесят гадоў таму любілі паразважаць пра тое, што вакол іх бязьдзейснае балота, але пры гэтым, паводле назіраньня Лявона Савёнка, *„больш гаваруны, чымсьці дзейнікі“*. Іх размовы зводзяцца да таго, што самі ж яны й вінаватыя ў сваіх праблемах: *„Мы стаімо на месцы! Мы спімо! Там, дзе трэба дзеяць дружна, мы гуляем у выперадкі...“*[17]. Цікавай здаецца заўвага аўтара — зробленая яшчэ калі! — пра тое, што ў сьведамых беларусаў гэтак жа й *„надалей будзе: як кажуць, што шапка, то і розум“*[18].

---

[14] Савёнак, Лявон. Творы... С. 230.

[15] Савёнак, Лявон. Творы... С. 231.

[16] Савёнак, Лявон. Творы... С. 257—258.

[17] Савёнак, Лявон. Творы... С. 237.

[18] Савёнак, Лявон. Творы... С. 237.

Тэма сьведамых беларусаў — а менавіта да такіх адносіў, заўважым, сябе й сам аўтар — гучыць ў творы Лявона Савёнка ўвесь час, неістотна зьмяняючыся ў ацэнцы. Іншым разам яна набывае больш камэдыйнае адценьне. Напрыклад, у запісе ад 26 сакавіка (удакладненьне істотнае) чытаем: *„Учора ў беларусаў было свята. Спраўлялі гадавіну сваёй колішняй незалежнасці. З гэтай прычыны наладзілі ў тэатры вялікі сход і пачалі гаварыць. Гаварылі шмат пра тое, як калісь змагаліся, як былі незалежныя, як усё ў іх было, і што цяпер таксама... Увечары пасля сходу ладзілі „гарбатку“, куды я, на жаль, не трапіў. Напачатку ўсе адзін аднаго хвалілі, а пасля, калі выпілі па трэцяй чарцы, пачалі сварыцца: і таго не зрабілі, і гэтага не дарабілі, і той вінаваты, і гэты не дагледзеў, і наагул ніхто нічога не робіць. А як падлілі яшчэ, стала зусім весела, бо загаманілі ўсе разам“*[19] .

А іншым разам згаданая тэма гучыць больш глыбока й трагічна, як у запісе ад 30 кастрычніка.

*„Хто я такі? Дзіўна. Такога пытання я сабе яшчэ ніколі не ставіў. А сяння ў Арыентацкага адзін нейкі тып (клічуць яго Юрэц Бладук) прычапіўся да мяне:*

*— Хто вы такі? — пытаецца.*

*— Як хто? Чалавек.*

*— Чалавек? Гэта на сяння ніяк не гучыць. Мы ўсе людзі. І чалавек на сяння — дрэнь, пустое месца, словам — міф і больш нічога.*

*— Але ж выбачайце...*

*— Нічога не выбачу. Я ў вас пытаюся — хто вы паводле нацыі?*

*— Дзівак. А што мне да нацыі?*

*— Ну, сяння я, скажам, беларус.*

*— А заўтра?*

*— Скуль жа я ведаю, што заўтра будзе? Я не прарок, я — дыялектык.*

*— Ах, так? То вы, крычыць, балота, вы гніллё, вы не патрэбны для нас тып! Вы...*

*І панёс. Я ўжо ўзяўся быў за шапку, каб уцякаць, але Арыентацкі заспакоіў:*

*— Плюй, — кажа, — ён толькі гаворыць, а зрабіць нічога не можа. У іхняй хеўры ўсе такія, але народ спакойны“*[20] .

Гіранічна ставіцца Лявон Савёнак і да беларусізацыі пад акупацыяй, калі вуснамі свайго героя-прыстасаванца разважае: *„Пачынаю бе-*

---

[19] Савёнак, Лявон. Творы... С. 280.

[20] Савёнак, Лявон. Творы... С. 245.

*ларусізацыю. Купіў беларускі правапіс нейкага Тарашкевіча. Два рублі не грошы, а ў спрытных руках ды з галавою яго можна абярнуць у капітал“*[21].

Няма сумневу, што Лявон Савёнак, ствараючы тыпажы калябарантаў, моцна ўтрыраваў вобразы сваіх сучасьнікаў. Чаго вартыя адно прозьвішчы, якія даў аўтар сваім героям — Мімікрыйскі, Арыентацкі, Выпівонец-Ецкі, Юрэц Бладук, Хамовіч... Аднак, дастаткова ўзяць у рукі цалкам дакумэнтальны „Дзёньнік“ Дзьмітрыя Сямёнава, каб пабачыць, што рэальныя людзі няшмат адышлі ад сатырычных пэрсанажаў — на паўразбураных вуліцах Менску яны дбалі ня толькі пра жывот, але й пра тое, дзе раздабыць кружэлкі й патэфон для танцаў.

Аднак праблема ня ў тым, як беларусы выглядалі ў вайну. Праблема ў тым, што калябарацыянізм як самаразбуральная схільнасьць да супрацы з ворагам дастаўся ў спадчыну й сучасьнікам. Надзённая актуальнасьць „Дзёньніка 1943—1947“ Дзьмітрыя Сямёнава й „Запісак эмігранта“ Лявона Савёнка ня можа не бянтэжыць, асабліва ў трывожных умовах сёньняшніх ваенных канфліктаў між былымі краінамі-суседкамі.

[21] Савёнак, Лявон. Творы... С. 243.

***Вольга Іванова***
*Менск*

# ВУСНЫЯ ЎСПАМІНЫ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА Ў БЕЛАРУСКІМ АРХІВЕ ВУСНАЙ ГІСТОРЫІ ЯК КРЫНІЦА ПА ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ[1]

Інтэрнэт-сховішча „Беларускі архіў вуснай гісторыі“ (БАВГ), што пачало збор вусных успамінаў у 2011 г., на сёньняшні дзень налічвае пэўную колькасьць успамінаў беларусаў замежжа. Іх колькасная й якасная ацэнка, а таксама аналіз і фармулёўка пэўных дасьледніцкіх пытаньняў могуць стварыць магчымасьць для пошуку шляхоў далейшага папаўненьня калекцыяў БАВГ і пашырэньня вуснагістарычнай дасьледніцкай праблематыкі. Для аналізу былі выбраныя некалькі пытаньняў, зьвязаных з Другой сусьветнай вайной — зваротнай кропкай у лёсе значнай часткі жыхароў Беларусі. Сёньня мы маем шэраг пунктаў гледжаньня на гэтыя падзеі, дзе, на жаль, амаль адсутнічае голас тых, хто ўжо не жыве ў Беларусі, тых, каго гэтыя падзеі пакінулі па-за межамі радзімы.

Праект „Беларускі архіў вуснай гісторыі“ (БАВГ) спэцыялізуецца ў асноўным на зьбіраньні й захоўваньні ўспамінаў жыхароў Беларусі, шэраговых сьведкаў падзеяў XX ст. Большасьць успамінаў запісвалася й запісваецца на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Тым ня менш тэрмін „беларускі“ у назове праекту вымагае прысутнасьці тут голасу сьведкаў, якія ў той ці іншы час, з тых ці іншых прычынаў апынуліся за межамі сучаснай Беларусі. Трэба адзначыць, што гэта ня толькі й ня столькі

[1] Паняцьці „беларускае замежжа“, „дыяспара“, „эміграцыя“ выкарыстоўваюцца тут у значэньні, прапанаваным у выданьні: Гардзіенка, Н. Беларусы ў Аўстраліі. Мінск: Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына“, 2004. С. 7—8.

шараговыя сьведкі падзеяў, але й асобы, якія згулялі значную ролю ў грамадзка-палітычным і культурным жыцьці Беларусі. У БАВГ прадстаўленыя ўспаміны асобаў, якія ў пасьляваенны час выехалі ў Аўстралію, Вялікабрытанію, Канаду, ЗША, Нямеччыну, Расею ці апынуліся за межамі Беларусі ў выніку адміністрацыйна-тэрытарыяльных зьменаў (успаміны віленскіх беларусаў).

Першай у БАВГ у 2012 г. паступіла калекцыя запісаў на аўдыёкасэтах, зробленых беларускім архівістам з ЗША Лявонам Юрэвічам і перададзеная гісторыкам Натальляй Гардзіенкай. Калекцыя невялікая, складаецца з 6 інтэрвію, агульнай працягласьцю каля 9 гадзінаў. Успаміны зьбіраліся Лявонам Юрэвічам у Канадзе (Таронта, Лёндане), ЗША (Дэтройце) у 1998 г., з мэтай дасьледаваньня пытаньняў арганізацыі й дзейнасьці Саюзу беларускай моладзі, створанага ў Менску ў 1943 г. Рэспандэнтамі зьяўляліся асобы, зьвязаныя з арганізацыяй дзейнасьці СБМ, у тым ліку Мікола Ганько, Валер Навіцкі. Успаміны часткова надрукаваныя ў працы „Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі“ (Менск, 2001). Таксама ў калекцыі прадстаўленыя ўспаміны Арона Купэрштока, выкарыстаныя пры публікацыі працы „Літаратурны рух на эміграцыі“ (2002), Васіля Плескача й Барыса Рагулі, запісаныя для працы „Жыцьцё пад агнём. (Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі)“ (Менск, 1999). Запісы ўспамінаў носяць, такім чынам, у першую чаргу мэмарыяльны характар, бо дадзеныя асобы зьяўляюцца выбітнымі дзеячамі Беларусі і ўжо пайшлі з жыцьця. Успаміны хаця й запісваліся пераважна для вырашэньня канкрэтнай дасьледніцкай задачы, тым ня менш могуць выкарыстоўвацца для асьвятленьня грамадзкага й культурнага руху ў Беларусі ў міжваенны й ваенны пэрыяд, а таксама лёсаў беларускай эміграцыі пасьля вайны.

У гэты ж час у БАВГ на мінікасэтах былі перададзеныя калекцыі ўспамінаў беларускіх эмігрантаў Аўстраліі й Вялікабрытаніі, сабраныя самой Натальляй Гардзіенкай для напісаньня працаў „Беларусы ў Аўстраліі“ (Менск, 2004) і „Беларусы ў Вялікабрытаніі“ (Менск, 2010). Першая калекцыя складаецца з 20 успамінаў, агульнай працягласьцю 16 гадзінаў, другая — з 18 успамінаў, агульнай працягласьцю больш за 17 гадзінаў. У вышэйзгаданых кнігах у літаратурнай апрацоўцы былі апублікаваныя ўспаміны беларусаў Аўстраліі: Вольгі Бурнос, Акуліны Хаванскай, Галіны Падгайскай, Марыі Супрунчык, Лізы Бакуновіч, Ганны Ролсан, Яўгеніі Юршы, Тамары Грыцук, Тамары Субач, Марыі Алехна, Веры Шайпак, Яўгеніі Сідлярэвіч, Веры Калесьніковіч, Валян-

ціны Антух, сястры Ядзвігі, Вольгі Русак, Аўгена Грыцука, Міхася Лужынскага. Успаміны Эвы Парэцкай, Тэафіліі Гуз, Варвары Грыцук, Алега Шнэка былі занатаваны толькі ў пісьмовым выглядзе.

Успаміны з калекцыі беларускіх эмігрантаў Вялікабрытаніі не былі апублікаваныя. Самае працяглае інтэрвію з гэтай калекцыі запісана з а. Аляксандрам Надсанам. Пераважна пытаньні, на якія адказваюць рэспандэнты, тычацца шляхоў трапляньня ў эміграцыю, жыцьця ў эміграцыі, гісторыі беларускіх эмігранцкіх арганізацыяў, якія раскрываюцца ў кантэксьце біяграфіі асобы, закранаючы ў большай ці меншай ступені даваеннае жыцьцё й асабліва Другую сусьветную вайну. У „аўстралійскай“ калекцыі ў адказах на пытаньні значнымі ёсьць і аспэкты гендэрнай (жаночай) гісторыі: замужжа, выхаваньне дзяцей, побыт, гатаваньне страваў, разьмеркаваньне абавязкаў у сям'і, удзел жанчын у беларускіх арганізацыях.

Некалькі ўспамінаў віленскіх беларусаў, што захоўваюцца ў БАВГ, запісаныя Алесем Смаленчуком. Першы ўспамін — у пачатку 2007 г. з дачкой Зоські Верас і жонкай Лявона Луцкевіча Галінай Сівіцкай. Інтэрв'ю запісвалася працягам двух дзён з мэтай дасьледаваньня біяграфіі братоў Луцкевічаў. Агульная пацягласьць інтэрвію больш за тры гадзіны. Аповед утрымлівае шмат інфармацыі пра жыцьцё міжваеннай Вільні, функцыянаваньне Беларускага музэю імя І. Луцкевіча, беларускіх дзеячаў Вільні, у тым ліку братоў Луцкевічаў. Цікавыя развагі пра беларускую сьвядомасьць і беларускую мову. Другое інтэрвію зь Сяржуком Вітушкам запісвалася ў ліпені 2008 г. для дасьледаваньня вытокаў беларускай сьвядомасьці. Інтэрвію працягласьцю больш за тры гадзіны, утрымлівае аповед пра вытокі беларускага адраджэньня 1990-х гг., грамадзкае аб'яднаньне „Талака“, грэка-каталіцкую царкву ды інш. Біяграфічнае інтэрвію з Хведарам Нюнькам запісвалася ў верасьні 2013 г. у межах збору калекцыі БАВГ па гісторыі беларускага замежжа. У інтэрвію грунтоўна прадстаўленыя пытаньні пра жыцьцё Заходняй Беларусі, 1939 год і ваенны час, а таксама беларускую грамадзкую дзейнасьць у Вільні ў 1980—1990-х гг., даюцца разгорнутыя ацэнкі гістарычнай і сучаснай сытуацыі праз прызму канкрэтнага лёсу.

Яшчэ адно асобнае інтэрвію было запісана Ірынай Кашталян у 2011 г. у Бэрліне з народжанай у Вільні дачкой Антона Антановіча Ганнай Канэ. Аповед уключае сюжэты з жыцьця міжваеннай і ваеннай Вільні, штодзённасьці, лёсу беларускіх дзеячаў, гісторыі беларускага школьніцтва, а таксама эміграцыю й жыцьцё ў Нямеччыне. Агульная працягласьць інтэрвію — 6,5 гадзіны.

Калекцыя БАВГ „Беларускае замежжа“ пачала ствараецца падчас VI Зьезду беларусаў сьвету ў 2013 г. у Менску. Успаміны запісваліся паводле біяграфічнага апытальніка, з удакладненьнем пэўных тэматычных аспэктаў. Адным з крытэраў выбару рэспандэнтаў ёсьць іх актыўная грамадзкая пазыцыя й удзел у дзейнасьці беларускіх арганізацыяў за мяжой. Калекцыя адкрытая да папаўненьня. Падчас Кангрэсу запісаныя ўспаміны з Эвай Парэцкай з Канбэры, Валерыем Барташам зь Севастопалю. Пытаньні тычыліся жыцьця Беларусі ў міжваенны перыяд, захаваньня й фармаваньня беларускай самасьвядомасьці, дзейнасьці беларускіх арганізацыяў за мяжой.

У калекцыю таксама ўключаюцца іншыя паадзінкавыя ўспаміны, што былі запісаныя ў розныя часы, але не складаюць асобных калекцыяў. На сёньняшні дзень гэта ўспаміны Антона Шукелойця, запісаныя Валянцінай Трыгубовіч ў 1994 г. і перагнаныя з аналягавых носьбітаў. Гаворка тут пераважна ішла пра беларускія грамадзкія арганізацыі падчас Другой сусьветнай вайны.

У якасьці прыкладу магчымасьцяў вуснагістарычнага аналізу захаваных у БАВГ успамінаў была абраная праблематыка зьменаў, якія адбыліся ў жыцьці тых беларусаў, што апынуліся за межамі Беларусі[2] з пачаткам Другой сусьветнай вайны. Першае пытаньне тычыцца тлумачэньня прычынаў вывазаў, як з прыходам г. зв. „першых Саветаў“ ці „другіх Саветаў“, гэтак і немцаў, з боку саміх выехалых і вывезеных. На пытаньні „каго высылалі“ найбольш распаўсюджаныя адказы — гэта: „асаднікаў“, „паноў“, „лесьнікоў“ — тых, хто быў зьвязаны з польскай уладай. Ацэнка гэтых падзеяў, як правіла, нэгатыўная.

Яўгенія Юрша, 1926 г. н., Адэляйда, Аўстралія (нар. у в. Трыбушкі (Мірная), Слонімскі р-н, Гарадзенская вобл.):

*„Тыя успаміны калі вывозілі сем'і ужо арыштаваных бацькоў, асаднікаў, которые з Польшчы пасяліліся ў Заходняй Беларусі, калі гэтых нявінных людзей, жанчын і дзяцей вывозілі ў Сыбір“*[3].

Бакуновіч Ліза, 1936 г. н., Сыднэй, Аўстралія (нар. у в. М. Сьцяблевічы, Жыткавіцкі р-н, Гомельская вобл.):

*„Як прыйшлі да нас рускія, яго [бацьку] забралі у турму [...] Таму што тата зямлі замнога меў. Кулак. Яго хацелі раскулачыць, але не маглі, бо прычын не было. Але потым, яго ўзялі, таму што ён быў*

[2] Маецца на ўвазе сучасная тэрыторыя Беларусі.

[3] БАВГ. 25(10)— 468—1441. #00:00:00-0#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

*солтысам у вёсцы. Яго забралі ў Брэст, каб прызнаўся нібыта шпіён. Польскі. Мы ж праваслаўныя! І куды!? Нам было тое самае, ці маскаль, ці паляк*"[4] .

Міхась Лужынскі (1926—2011), Сыднэй, Аўстралія (нар. у в. Зоранька (былыя Кабылкі), Маладэчанскі р-н, Менская вобл.).:

*„Адразу пасьля прыходу савецкай улады пачалі арыштоўваць, папершае, усіх паліцыянтаў, людзей, якія працавалі ў самаўрадзе, і старшынёў раёнаў, і старшынёў валасьцей арыштоўвалі, арыштоўвалі ўсіх лесьнікоў. Пасьля, пад канец саракавога году, на пачатку сорак першага пачалі вывозіць сем'і тых арыштаваных. Іх вывозілі ў Казахстан пераважна, у Сібір. [...] становішча было няпэўнае: людзі баяліся ўсякага міліцыянта, усякага чалавека ў вайсковай форме, бо арыштоўвалі без прычыны й безь ніякіх доказаў праступства*"[5] .

Паводле наяўных сьведчаньняў, вывозілі ня толькі „палякаў", але й беларусаў, якія мелі пэўны дастатак, але не былі заможнымі, а таксама беларускую інтэлігенцыю.

Эва Парэцкая, 1933 г. н., Канбэра Аўстралія (нар. у в. Даўгінава, Вялейскі р-н, Менская вобл.).:

*„Э. П.:І это вельмі скоро, а пасьля ў гэтым часе я не помню, не магу сказаць калі, пачалі вывозіць: вот этых асаднікoв напачатку вывозілі. [...] І много нашых із нашых беларусоў вывозілі*

*В.І: А беларусаў чаму вывозілі?*

*Э.П.: Ну можа асьвета лепшая, багацейшыя...*

*В.І: Шмат вывезьлі?*

*Е.П.: Ну думаю, што шмат вывезьлі. Яны нават адну вёску за тое..., але я была малая, я только помню, што дома было рабілі сухары. І стаялі у мяшках сухары прыгатоўленыя, што будуць вывозіць на Сібір, каб было што есьці. Таму што забіралі ноччу*"[6] .

Буткевіч Сільвэстар, 1924 г.н., Ковэнтры, Вялікабрытанія:

*„У саракавым годзе кожны баяўся. Кожны быў пад страхам. І вось каб немцы не прыйшлі ў сорак першым годзе, то і мы... Бацька потым знайшоў у сельсавеце ліст, дзе наша прозьвішча. [...] Палітыка Саветаў была зьнішчыць сьведамую інтэлегенцыю, беларускаю і замяніць яе*"[7] .

---

[4] БАВГ. 25(10)—472—1445. #00:08:54-8#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

[5] БАВГ 25(10)—478—1455. #00:05:39-8#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

[6] БАВГ. 42(1)—721—2642. #00:28:30-7#. Інтэрвіюер: Вольга Іванова.

[7] БАВГ. 24(10)—494—1483. #00:03:14-9#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

Сенька Мікола, 1924—2008, Лёндан, Вялікабрытанія (нар. у в. Новы Сьвержань, Стаўпецкі р-н, Менская вобл.)

*„Нас тут падчас вайны выехала многа адтуль. Вся інтэлегенцыя...“*[8]

Важным пытаньнем, якое раскрываецца амаль ва ўсіх успамінах эмігрантаў, ёсьць непасрэдныя прычыны, якія падштурхнулі сем'і ці асобаў да самастойнага выезду. Найбольш вялікім быў страх перад новай уладай і вывазамі падчас „першых“ ці „другіх“ Саветаў (Марыя Супрунчык, Ліза Бакуновіч, Галіна Падгайская), перад пагрозай фізычнага зьнішчэньня савецкімі партызанамі (Акуліна Хаванская, Параскева Чарнагалан), польскімі (Армія Краёва) (Хведар Нюнька). У пошуках лепшага жыцьця пераяжджалі таксама да родных, якія засталіся ў Польшчы; ці, калі тычылася жанчын, — за мужам (Вера Шайпак, Тамара Субач, Вера Калесьніковіч, Вольга Русак). Значная частка выехаўшых рэспандэнтаў адзначае тым ня менш, што прыходу савецкай улады чакалі, віталі, але хутка стаўленьне зьмянілася й яны мусілі выяжджаць.

Акуліна Хаванская, 1924 г. н., Сыднэй, Аўстралія (нар. у в. Моталь, Іванаўскі р-н, Берасьцейская вобл.):

*„А ў 1939 року, як немец ударыў, бо оны подзялілі польскую половіну. Забралі Западную Польшчу немцы забралі, а в всходнюю часць прыйшлі таварышы. Я гэта добра помню: „О свае ідуць, свае ідуць. То будзе то...“ — людзі іх віталі. І сталы выносілі на уліцу, і хлеб, і соль, і ўсё. Я тоже помню особісто нарвала кветак у огародзе і на коніку ехаў аддала яму. А потом дойшло да таго, што мы мусілі уцякаць. Ото найбольш докучылі нам партызаны“*[9].

Міхась Лужынскі (1926—2011), Сыднэй, Аўстралія (нар. у в. Зоранька (былыя Кабылкі), Маладэчанскі р-н, Менская вобл.):

*„Польская ўлада кончылася 17 верасьня 1939 году, нас вызвалілі бальшавікі. Ужо зімой таго ж 1939 году яны пачыналі сабіраць з нас падаткі. Падаткі былі ў натуры: трэба было здаваць яйцы, малако, мяса, за гэта выдавалі талоны на цукар, на соль. Калгасаў у Маладэчанскім павеце, здаецца нідзе не паспелі зарганізаваць. Хаця стараліся загнаць людзей у гэту няволю“*[10].

---

[8] БАВГ. 24 (10)—480—1463. #00:00:00-0#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

[9] БАВГ. 25(10)—475—1448. #00:01:00-4#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

[10] БАВГ. 25(10)—478—1455. #00:03:02-8#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

Іскрыцкі Міхась, 1923 г. н., Манчэстэр, Вялікабрытанія (нар. у в. Пухічын, сёньня Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.):

*„Пачалася вайна. Немцаў не было. Партызанская зона. [...] Брат паступіў у паліцыю. І наша сям'я аказалася у супрацоўніцтве зь немцамі. Поэтому нам патрэбна было ўцякаць. Нас ждаў расстрэл ад партызанаў“*[11].

Нюнька Хведар, 1928 г. н., Вільнюс, Летува (нар. у в. Алешавічы, Мастоўскі р-н, Гарадзенская вобл.):

*„У 39-м годзе ў верасьні месяцы савецкія войскі перайшлі мяжу. Ну, і так называлася вызваленьне, ці аб'яднаньне Заходняй і Ўсходняй Беларусі, вот. Мы ўспрынімалі, мая сям'я ўспрымала гэта ну вельмі пазітыўна*[12].

*Па вестках ад мясцовых жыхароў мы ведалі, што рыхтуецца забіць бацьку і мяне, і таму пераехалі мы ў Вільню. Бо ў Вільнюс была, лягчэй у Вільню было з'ехаць, чым у Гародню была. Гародня аднасілася ўжо як бы да, да тэрыторыі Рэйху“*[13].

Неаднолькавым і неадназначным быў працэс захаваньня выехалымі беларускай самасьвядомасьці. Той, хто выехаў з бацькамі яшчэ дзіцём і перажыў пэрыяд свайго ўласнага фармаваньня па-за межамі Беларусі, сёньня адчувае сябе жыхаром той краіны, у якую выехаў (Ліза Бакуновіч, Марыя Супрунчык), часам лічыць сваёй Радзімай краіну, дзе выгадаваўся (Марыя Алехна). Гэта ж тычыцца й дзяцей сьвядомых беларусаў, якія звычайна ведаюць ці разумеюць беларускую мову, часам цікавяцца беларускай культурай, але ня лічаць сябе ўласна беларусамі.

Некаторыя выехалыя ў свой час мусілі прайсьці этап выхаваньня беларускай сьвядомасьці, знаходзячыся па-за межамі Беларусі: гэта адбывалася праз удзел у беларускіх арганізацыях (Эва Парэцкая, Ганна Ролсан, Тамара Грыцук, Вера Шайпак ды інш.) ці іх стварэньне (Хведар Нюнька, Міхась Лужынскі й інш.). Настальгічныя перажываньні выехалых змаглі атрымаць выйсьце дзесьці ад пачатку 1990-х гг., калі зьявілася магчымасьць наведаць Беларусь. Адных Радзіма сустрэла гасьцінна: для Эвы Парэцкай былі добрым знакам беларускамоўныя аб'явы ў транспарце, Яўгенія Юрша заўважыла значныя зьмены ў сацыяльна-эканамічным жыцьці, побыце й у духоўным жыцьці. Але

[11] БАВГ. 24(10)—487—1474. #00:01:09-9#. Інтэрвіюер: Натальля Гардзіенка.

[12] БАВГ. 27(1)—719—2639. #00:31:03-4#. Інтэрвіюер: Алесь Смалянчук.

[13] БАВГ. 27(1)—719—2641. #00:00:00-0#. Інтэрвіюер: Алесь Смалянчук.

невыключныя й расчараваньні: напрыклад, Ліза Бакуновіч, паводле яе словаў, *„ехала шукаць Беларусі, а знайшла Маскву“*.

У некаторых рэспандэнтаў у пэўны пэрыяд назіралася адмоўнае стаўленьне да беларусаў і беларускасьці. Так, напрыклад, Яўгенія Юрша ў сваіх успамінах адзначае, што пэўны час пасьля вайны не размаўляла па-беларуску, бо была непрыемна ўражаная паводзінамі беларусаў падчас і пасьля вайны.

Значным дасьледніцкім пытаньнем ёсьць параўнаньне поглядаў вывезеных і высланых з поглядамі тых людзей, што засталіся ў Беларусі. Гэтае пытаньне вымушае крыху выйсьці за межы заяўленага прадмету й пашырыць яго за кошт выкарыстаньня ўспамінаў сучасных насельнікаў Беларусі, што захаваліся ў БАВГ. Памяць пра вывезеных і выехалых найбольш захавалася ў Заходняй Беларусі, асабліва калі гэтыя працэсы тычыліся родных, блізкіх ці добрых знаёмых. Іх лёсам цікавіліся, тлумачылі, спачувалі, часам дапамагалі, але ўсё гэта звычайна не пераходзіла мяжы, за якой самі „спачуваючыя“ маглі апынуцца ў тым самым становішчы.

Талочка Гэлена, 1931 г. н., в. Дубровіца, Наваградзкі р-н, Гарадзенская вобл.:

*„А людзі такія багатэрэ былі ў вёсцы ў нас, багатыя, мелі многа зямлі. Яны хазяева рабочыя, трудзягі былі. Яны зямлі мелі, яны скаціны мелі, будынкі харошыя мелі. Ну, работалі. Павывозілі на Сібір. Учыцеля — павывозілі. Учыцельніца за Польшчай была, такая харошая ўчыцельніца“*[14].

У некаторых успамінах утрымліваецца спроба апраўданьня, думка аб неабходнасьці „рэабілітаваньня“, ачышчэньня праз служэньне новай уладзе і ўпісаньня іх дзейнасьці ў „правільны“ ідэалягічны кантэкст.

Міхаіл К., 1930 г. н., в. Любча, Наваградзкі р-н, Гарадзенская вобл.:

*„Д.С.: А за што іх арыштоўвалі?*

*М.К.: [...] Вот такіх людзей вельмі многа. Каторые вродзе пастрадалі па какім-то прычынам. А як в трудную мінуту, значыць, вот іх прызвалі. І многіх эціх, каторые былі, ані папалі ў польскую армію. Но польская армія тожэ прынімала ўдзел у вызваленні Беларусі“*[15].

---

[14] БАВГ. 1(1)—31—86. #00-19-00#. Інтэрвіюеры: Юрась Бачышча й Дар’я Сьцяпанчанка.

[15] БАВГ. 1(1)—17—48. #01-19-00#. Інтэрвіюеры: Дар’я Сьцяпанчанка й Ягор Сурскі.

Выразна праглядаецца й пошук вінаватых ці ў канкрэтных выпадках вывазаў, ці ў сытуацыі агулам.

Мягчыла Яўген, 1931 г. н., в. Слуховічы, Наваградзкі р-н, Гарадзенская вобл.:

*„Коля [стрыечны брат] да, на Сібір выслалі. Яўрэй прадаў яго... Быў начальнікам. [...] І паўгода ніхто не знаў дзе ён дзеўся. Ніхто не знаў. Патом прысылае пісьмо да мамы [...]"Цёця Марыя, прышлі мне хоць што-небудзь. Я балею беркулёзам. Давялі. Галадаў. Стаў беркулёз". І так мама пасылкі слала ўсё"*[16] .

У асобных вёсках Беларусі захаваліся дастаткова багатыя ўспаміны пра выехалых і вывезеных, што тлумачыцца, пэўна, падтрыманьнем ці ўзнаўленьнем кантактаў у сучаснасьці.

Чыжова Валянціна, 1928 г. н., в. Цімашэвічы, Жыткавіцкі р-н, Гомельская вобл.:

*„Тут выселілі пару семей. Хто былі лесьнікамі, то оні. Одна сем'я [...] хорошые людзі былі, то оні ў Польшчы осталісь посьле этого. [...] Там во на хуторы Боровецкі лесьніком быў. Вяліка сем'я была. Оні там жылі. [...] Католікі тут этые поехалі ў Польшчу. Мілевіч тут быў Антось і Броня жонка. То недаўна яго сынаў зяць прыязджаў [...] Ну, і там яшчэ на хуторы Романоўскіе. Это ўсе нашы родственьнікі"*[17] .

Зь іншага боку, ёсьць значны працэнт рэспандэнтаў з сучаснай тэрыторыі Беларусі, якія ніколі не задумваліся над прычынамі вывазаў ці выездаў, што адбываліся навокал, ці абыякава ставіліся да далейшага лёсу вывезеных. Часам гэта тлумачыцца недастаткова сьвядомым узростам рэспандэнтаў, але таксама зайздрасьцю ці жаданьнем адмежавацца ад гэтых падзеяў, маўляў, *„вывезьлі й вывезьлі, выехалі й добра, мяне гэта не закранула"*.

Пётр П., 1927 г. н., в. Моталь, Іванаўскі р-н, Берасьцейская вобл.:

*„Ну, в 39-м — 40-м году богатых людей совецкая власть вывозила в Сібір, в Казахстан. Што богатые, вот, мы вас раскулачваем, в таком духе, вывозім. Несколько семей еврэйских тоже попало в эти богатые. Значыць, вывезьлі іх в Казахстан, они там войну пережылі, осталісь в жывых. І после войны прыезжали сюда [...] А больше я не*

---

[16] БАВГ. 1(1)— 24—67. #01-13-00#. Інтэрвіюер: Алесь Смалянчук.

[17] БАВГ. 20(1)—455—1261. #00-11-00#. Інтэрвіюеры: Сьвятлана Чакушка й Вольга Іванова.

*помню, я […] Какой-то ешчо там этой парыкмахер где-то тожэ говорылі спасся, но он в Амерыку уехал, і так мы его і не відели, і не знаем*“[18].

Нюнька Хведар, 1928 г. н., Вільня, Летува (нар. у в. Алешавічы, Мастоўскі р-н, Гарадзенская вобл.):

*„На жаль, вот наш народ, ён вот так вот глядзіць, ты ўяўляеш, ты можаш цяпер толькі прадставіць сабе, што скажам, вот, калі вывозілі, раскулачвалі людзей. Ты думаеш, суседзі там шкадавалі? А, не, халера зь ім, ён жа ж мне, трэба было пазычыць грошы, ён жа ж мне не пазычыў. Так яму й трэба. Добра, што яго забіраюць, вот*“[19].

Камплектаваньне БАВГ успамінамі беларусаў замежжа знаходзіцца на пачатковай стадыі й мае значныя пэрспэктывы для працягу. Што тычыцца магчымасьцяў аналізу ўжо захаваных успамінаў, то яны пераважна абмяжоўваюцца тэматыкай апытальніка, скіраванага на вырашэньне канкрэтнай дасьледніцкай задачы. Яе пашырэньне адбываецца ў асноўным за кошт уключэньня ў інтэрвію біяграфічнага аповеду. Для далейшых пэрспэктываў працы з сабранымі ўспамінамі самай значнай праблемай зьяўляецца іх рэпрэзэнтацыйнасьць. Прыняты ў БАВГ комплекс інтэрвію беларусаў замежжа носіць дастаткова фрагмэнтарны, тэматычны характар, не дае шырокай магчымасьці комплекснага й глыбокага вуснагістарычнага аналізу. Тым ня менш згаданыя ўспаміны выконваюць мэмарыяльную функцыю, даюць пэўны матэрыял для біяграфічных дасьледаваньняў. А зробленая спроба пастаноўкі новых пытаньняў і іх аналізу з дапамогай інтэрвію, даюць падставы сьцьвярджаць, што яны закранаюць значныя гістарычныя аспэкты лёсаў беларусаў і Беларусі ў найбольш паваротны й трагічны момант яе гісторыі XX ст., грунтоўнае вуснагістарычнае вывучэньне якіх, у сваю чаргу, патрабуе дадатковага мэтанакіраванага збору ўспамінаў паводле агульнай мэтодыкі.

[18] БАВГ. 3(3)—106—378. #00-40-00#. Інтэрвіюер: Алесь Смалянчук.

[19] БАВГ. 27(1)—719—2639. #01:37:00-4#. Інтэрвіюер: Алесь Смалянчук.

# *Эміграцыязнаўчая сэкцыя IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі*

***Лена Глагоўская***
*Гданьск*

## ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ У БЕЛАРУСКІМ ЭМІГРАНЦКІМ АСЯРОДЗЬДЗІ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ (1944—1948): ТВОРЧАСЬЦЬ, ДЗЕЙНАСЬЦЬ, ПАМЯЦЬ

Хведар Ільляшэвіч належаў да пакаленьня беларускіх нацыянальных дзеячаў, народжанага перад Першай сусьветнай вайной, якое беларускую нацыянальную актыўнасьць пачынала ў сярэдзіне міжваеннага дваццацігодзьдзя. Вялікі ўплыў на ягоную беларускую сьвядомасьць мела навука ў Віленскай беларускай гімназіі й дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у Другой Рэчы Паспалітай. Неажыцьцёўленая беларуская дзяржаўная ідэя знаходзіла сваё адлюстраваньне ў дзейнасьці беларускіх палітычных партыяў і друку. Савецкая прапаганда *„адзінага беларускага дому“* ў Менску за ўсходняй мяжой радыкалізавала погляды маладых беларусаў, што змагаліся за свае правы на г. зв. Крэсах Усходніх. Адным зь іх быў Хведар Ільляшэвіч[1] .

[1] Głogowska, H. Teodor Iljaszewicz // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 11. 1999. S. 165—178; Głogowska, H. Działalność kulturalno-oświatowa i twórczość literacka Teodora Iljaszewicza na emigracji w Niemczech (1944—1948) // Беларуская думка. № 63. Саўт-Рывэр, 2010. С. 19—28; Głogowska, H. Działalność kulturalno-oświatowa i twórczość literacka Teodora Iljaszewicza na emigracji w Niemczech (1944—1948) // Słowianie wschodni na emigracji: literatura — kultura — język / Pod red. B. Kodzisa i M. Giej. Opole, 2010. S. 151—161; Głogowska, H. Białostocczyzna w życiu i twórczości Teodora Iljaszewicza // Acta Albaruthenica. № 10. Warszawa, 2010. S. 79—112; Głogowska, H. Wileński okres życia i twórczości Teodora Iljaszewicza na tle białoruskiego ruchu narodowego i życia literackiego (dzieciństwo i młodość) // Studia Białorutenictyczne. № 6. 2012. S. 27—42.

Нарадзіўся ён 17 лютага 1910 г. у Вільні ў праваслаўнай сям'і Яна й Марыі зь Нічыпаровічаў. Паходзілі яны зь мястэчка Пружаны. Бацька быў паштаром. У Хведара былі старэйшыя брат Мікола (1903—1934) і сястра Ніна (1907—2004)[2]. Бацькі пасяліліся ў Вільні ў 1903 г. У 1914 г. бацьку эвакуявалі ў Маскву, а маці зь дзецьмі трапіла ў бежанства ў Скапін Разанскай губэрні. Там дзеці Ільляшэвічаў пачалі вучыцца ў рускай школе[3].

У 1919 г. сям'я Ільляшэвічаў вярнулася зь бежанства ў Вільню — жылі на вуліцы Паплаўскай, 10. Дзеці вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі, што дзейнічала ад 1 лютага 1919 г. Гуртавалася там беларуская інтэлігенцыя, сярод якой былі: Браніслаў Тарашкевіч, Антон Нэканда-Трэпка, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Максім Гарэцкі. Настаўнікі, што адначасова былі дзеячамі беларускага нацыянальнага руху, фармавалі ў моладзі беларускую нацыянальную сьвядомасьць. Хведар Ільляшэвіч ужо на эміграцыі ўзгадваў: *„Мімаволі тое, чым жылі старэйшыя вучні, пранікала і да нас. На перапынках мы падслухоўвалі іхныя гутаркі, хоць часта нас адганялі, з зайздрасьцю слухалі іхныя дружныя сьпевы, і мы стараліся іх насьледаваць у ва ўсім, як гэта робяць звычайна дзеці. Мы збіраліся ў грамаду асобна і з важнымі мінамі пачыналі сьпяваць. [...] І мы спрабавалі выдаць свой часапіс. Выдаць у друкарні мы не маглі, дык пачалі на сьпіраграфе. Памятаю, як мы друкавалі яго да позняй ночы. [...] А назаўтра, як пярун з яснога неба, усіх нас аглушыла забарона і канфіската нашага часапісу. Аказалася, што перадавіца ў ім была замоцна напісана, і інспэктар, выклікаўшы ўсіх маладых выдаўцоў прачытаў нам натацыю: Палітыкай пачалі займацца, малакасосы! Мы выйшлі з канцэлярыі як пабітыя. Мы чуліся пакрыўджаныя. Нашыя спробы не ўдаваліся, нас ніхто, здавалася не разумей. А мы рваліся па дзіцячаму да працы“*[4]. У гімназіі ў розных гадах моладзь выдавала газэткі „Рэха“, „Пралескі“[5].

[2] **Мікола Ільляшэвіч**, брат Хведара, нарадзіўся ў 1903 г. у Пружанах, скончыў беларускую гімназію у Вільні (1923), Праскі ўнівэрсытэт (1928), быў настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі. Памёр у 1934 г.

**Ніна Жэра**, сястра Хведара, нарадзілася ў 1906 г., скончыла Віленскую беларускую гімназію й школу для мэдсёстраў у Вільні, жыла й працавала ў Бельску Падляскім, дзе й памерла ў 2004 г.

[3] Жэра, Н. Успаміны. Рукапіс. Копія захоўваецца ў зборах аўтара дакладу.

[4] Стары Скаўт, Успамінаюцца мне дні // Skaut. № 3. 21.04.1946.

[5] Бібліятэка Акадэміі навук Летувы. Аддзел рукапісаў. Ф. 21982 (Віленская беларуская гімназія). Арк. 5, 6, 70а, 71, 72.

Узорам для Хведара Ільляшэвіча быў ягоны старэйшы брат Мікола, які скончыў Віленскую беларускую гімназію ў 1923 г. Хведар згадваў: *„Вось да майго старэйшага брата часта прыходзілі ягоныя сябры, і яны, зачыніўшыся ў пакоі, доўга аб нечым гутарылі. Я ўкрадкам падслуховаў праз дзірачку ад замка іх гутарку. Шмат я ня мог зразумець, але даведаўшыся, што гутарка важная і гавораць аб нейкіх тайных справах. Часам брат зь сябрамі кудысьці йшоў. Я бег за імі, а мяне гналі йсьці да хаты. Я спачатку ня слухаўся і ўпіраўся, але пасьля з глыбокай крыўдай ў сэрцы, ішоў дамоў з вачамі поўнымі сьлёз. Чаму яны ня хочуць узяць мяне — думаў я з жалем. Я ж нікому нічога не сказаў бы, а каб трэба было што зрабіць, я зрабіў бы гэта лепш як дарослы. І я доўга плакаў, забіўшыся недзе ў куток двара. Але я сам прыдумаў, што зрабіць. Аднойчы за сцэнай у гімназіі я сабраў чалавек пяць сяброў — аднакласьнікаў. Я гаварыў шэптам, азіраючыся, ці хто ня слухае нас, што мы павінны быць сапраўднымі беларусамі, як дарослыя, а ня так сабе. Мы пакляліся да сьмерці быць беларусамі і за Беларусь памерці. Каб клятва была моцнай кожны з нас пракалоў палец іголкай і крывёй паставіў знак на паперы. Аб гэтай клятве нехта з нас вычытаў у нейкай кнізе. Таму і мы зрабілі таксама. Паперу перахоўваў я пад страхой складзіка на нашым панадворку“*[6].

Падчас навукі ў гімназіі Хведар Ільляшэвіч дэбютаваў як паэт. Ад сярэдзіны 1920-х гг. публікаваў вершы ў розных беларускіх віленскіх выданьнях. За спробу арганізаваць школьны страйк у 1927/1928 навучальным годзе, яго арыштавалі й пасадзілі ў турму на Лукішках. Пісаў там вершы, падрыхтаваў да друку паэтычны зборнік „Веснапесьні“, які быў выдадзены ў 1929 г. 7 кастрычніка 1928 г. Хведар Ільляшэвіч пісаў з Лукішак: *„Я думаю вобразамі, дзеля гэтага ў маіх вершах шмат недасказанага. [...] Яшчэ шукаю пераважна ў галіне формы. Старое не падабаецца. У беларускай поэзіі (зусім зразумела) пераважалі сумныя, нявыразныя матывы і ідэалы. Новае пакаленьне, вырасшае на грунце адраджэнскага ўздыму, нясе з сабой выразнасьць і бадзёрасьць“*[7]. Малады творца экстэрнам здаў матуру й распачаў вучыцца ў Віленскім унівэрсытэце. У 1930—1932 гг. ён быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, удзельнічаў таксама ў Таварыстве прыяцеляў беларусаведы (у 1930—1935 гг. быў у яго кіраўніцтве)[8]. Акрамя таго Хведар

[6] Стары Скаўт. Успамінаюцца мне дні...

[7] Ільляшэвіч, Хведар. Веснапесьні. Вільня, 1929. С. 3.

[8] Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ // Kałośsie. 1935. Кн. 1. С.71; Al. S. Pożyteczna placówka // Przegląd Wileński. 1933. № 5. S. 6—7.

Ільляшэвіч быў сябрам Беларускага навуковага таварыства, дасьледаваў жыцьцё й творчасьць Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага)[9] .

Хведар Ільляшэвіч быў здольным студэнтам гісторыі: *„Ягоныя прафэсары прадсказвалі яму навуковую кар'еру — меў выразныя схільнасьці і ўсе прыкметы будучага навукоўца“*[10] . Магістэрскую працу пра друкарню Мамонічаў напісаў пад кіраўніцтвам прафэсара Станіслава Касьцялкоўскага. Выйшла яна друкам ў Вільні ў 1938 г. пад назвай *„Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622)“*[11] .

Пасьля сьмерці брата Міколы, настаўніка Віленскай беларускай гімназіі й праваслаўнай духоўнай сэмінарыі, Хведар Ільляшэвіч стаў выкладаць там беларускую мову. У 1935 г. ажаніўся з Надзеяй Алексяюк з Тапалянаў на Беласточчыне. У 1936 г. у іх нарадзілася дачка Марыя, а ў 1938 г. — сын Юры.

17 красавіка 1936 г. Хведар Ільляшэвіч атрымаў дыплём магістра філязофіі ў галіне гісторыі, а 5 чэрвеня 1937 г. — дыплём настаўніка сярэдніх школ, на падставе якога мог навучаць гісторыі[12] .

Гэтага аднак не хапала, каб далей працаваць на пасадзе настаўніка ў беларускай гімназіі. У 1937 г. дзеяч быў звольнены з працы й выехаў зь сям'ёй у маёнтак Тапаляны. Там засяродзіліся на зьбіраньні зёлак, якія потым пастаўляліся ў Вільню[13] .

У 1930—1939 гг. Хведар Ільляшэвіч займаўся таксама літаратурнай творчасьцю. Пісаў вершы й апавяданьні, якія публікаваліся ў розных беларускіх выданьнях: „Студэнская думка“, „Беларуская крыніца“, „Родныя гоні“, „Новая варта“, „Калосьсе“, „Шлях моладзі“. Падпісваўся літаратурнымі псэўданімамі: М. Дальны, Л. Іскра, Малады ды крыптанімамі: І-ч, Хв. І., Х. У 1930-х гг. выйшлі друкам зборнікі ягоных вершаў: „Зорным шляхам“ (1932) і „Захварбаваныя вершы“ (1936)[14] . Літаратурная крытыка прыпісвала яго да маладога пакаленьня літаратараў

---

[9] Ільяшэвіч, Х. Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Жыцьцё і літэратурная творчасьць. Вільня, 1933.

[10] Пецюкевіч, М. У пошуках зачараваных скарбаў, Вільня 1998. С. 57.

[11] Глядзі таксама: Ільяшэвіч, Х. З гісторыі друкарства // Гадавік Беларускага навуковага таварыства. № 1. 1933; Ільяшэвіч, Х. Канец існаваньня друкарні дому Мамонічаў // Запісы Беларускага навуковага таварыства. № 1. 1938. С. 9—16.

[12] Dyplom nauczyciela szkół średnich T. Iljaszewicza Захоўваецца ў зборах М. Марліч.

[13] Kozłowska, H. Za Białorusią świata nie widział // Czasopis. № 3. 1999. S. 19.

[14] Ліс, А. Лірыка Хведара Ільляшэвіча // Полымя. № 11. 1998. С. 241.

Заходняй Беларусі[15]. У 1939 г. Хведар Ільляшэвіч падрыхтаваў працу пра Антона Грушэцкага — мастака й манаха з Супрасьля.

У 1939 г. пасьля далучэньня Беласточчыны да Савецкай Беларусі Хведар Ільляшэвіч зь сям'ёй выехаў у Беласток, дзе стаў працаваць у інспэктараце асьветы й займаўся арганізацыяй беларускіх школаў. У 1941 г. з прыходам немцаў Хведар Ільляшэвіч актыўна ўключыўся ў беларускі рух. Тады ў Беластоку быў заснаваны Беларускі камітэт. Заангажаваньне Ільляшэвіча ў дзейнасьць Камітэту вынікала з патрэбы выкарыстаньня нямецкай акупацыі для разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху на Беласточчыне: *„Ён гаварыў, што трэба выкарыстаць абставіны, рабіць усё, што карыснае беларускай справе, не выпускаючы з вока галоўную мэту — вызваленьне Беларусі і адбудову свае нацыянальнае незалежнае дзяржавы ў межах нашых земляў. Мы мусім паказаць усяму сьвету, што мы жывём, маем сілу ды змагаемся за сваю Бацькаўшчыну. Калі мы ня будзем мець сваіх ідэалаў, сваёй мэты жыцьця і змаганьня, дык сільныя раздушаць нас, як таго чарвяка на дарозе, раздушыць нас гісторыя сваім колам. Каб гэтага ня сталася, мы мусім даць адпор, паказаць сваю сілу. Тады будзе меней ахвяраў, бо цяпер нас душаць маскалі, немцы і палякі — страляюць па нас з-за вугла. Нам трэба быць арганізаванымі, бо толькі тады мы будзем мець сваю сілу. Немцы глядзяць на нас, як на „унтэрмэншаў“. А калі мы пакажам сваю сілу, свае здольнасьці працаваць і змагацца, тады яны іншым вокам глянуць на нас, папусьцяць нам. Мы апынуліся ў такіх абставінах, што змушаны працаваць з немцамі. Прыйшлі-б да нас ангельцы, французы ці амэрыканцы, — мы працавалі-б з імі. Мо' тады лягчэй было-б працаваць, але заўсёды мы мусім трымацца разам, трымацца галоўнае нашае мэты — вызваленьне Беларусі і адбудова свае дзяржавы“*[16].

Пры Камітэце існавалі: беларуская школа, хор і балет. Увесну 1943 г. Камітэт перайменаваўся ў Беларускае аб'еднаньне[17]. Хведар Ільляшэвіч як старшыня часта выяжджаў на правінцыю, сустракаўся зь людзьмі й пераконваў іх далучацца да дзейнасьці на карысьць беларускага адраджэньня. 14 і 15 сьнежня 1943 г. у Беластоку адбыўся зьезд прадстаўнікоў 29 аддзелаў Аб'еднаньня[18].

---

[15] На шляху разьвіцьця беларускай літаратуры // Шлях моладзі. № 6. 1937. С. 11—12.

[16] Жывіца, Юры. Рэха мінулых гадоў // Беларуская думка. №№ 16—17. Саўт-Рывэр, 1973—1974. С. 12—13.

[17] Новая дарога. № 10. 01.04.1943. С. 3.

[18] Новая дарога. № 48. 19.12.1943. С. 1.

Ад 29 сакавіка 1942 г. Хведар Ільляшэвіч выдаваў ў Беластоку газэту „Новая дарога“[19]. 27 чэрвеня 1944 г. удзельнічаў разам з дэлегацыяй зь Беласточчыны (17 чалавек) у Другім Усебеларускім кангрэсе ў Менску.

У ліпені 1944 г. Хведар Ільляшэвіч падаўся на Захад. Жонка зь дзецьмі засталася на Беласточчыне. Дзеяч затрымаўся ў Бэрліне, дзе працаваў у рэдакцыі беларускай газэты „Раніца“. Займаўся таксама выдаваньнем беларускіх кнігаў. Да траўня 1945 г. выдаў 7 кніг з сэрыі „Народная бібліятэчка“: Юркі Віцьбіча „Нацыянальныя сьвятыні і Вяліскія паўстаньні“, „Гендзікаўскія змагары“, Уладзімера Глыбіннага „Смаленшчына — адвечная беларуская зямля“, А. Музыкі „Прыгоды Панаса і Тараса“, Л. Радзіміча „Адам і Эва“, „Чабор“, Міколы Шчаглова „Беларуская музычная культура“ ды зборнік апавяданьняў Вацлава Ластоўскага, Максіма Гарэцкага, А. Савіцкай, Ядвігіна Ш., А. Падгорнага й С. Палескага — „Дудар“[20]. Паводле Юрыя Туронка, першыя шэсьць былі выдадзеныя як дадатак да газэты „Раніца“, апошнюю выдала *„Vineta“*[21].

У Нямеччыне ў сувязі з эвакуацыяй зь Беларусі й вывазамі на прымусовыя працы апынулася ў той час шмат беларусаў. Пасьля вайны тэрыторыя была падзеленая на акупацыйныя зоны, дзе паўставалі лягеры для перамешчаных асобаў. Адным з такіх лягераў быў Ватэнштэт у брытанскай акупацыйнай зоне. Ён быў заснаваны ўлетку 1945 г., ініцыятарам, арганізатарам і камэндантам быў Сьвятаслаў Коўш. 30 ліпеня 1945 г. у лягер пераехала першая група беларусаў — 48 чалавек[22]. Хутка лік перасяленцаў пабольшаў, стала разьвівацца грамадзка-культурнае жыцьцё. У Ватэнштэце пасяліўся таксама Хведар Ільляшэвіч і актыўна ўключыўся ў вір лягернага жыцьця. У сярэдзіне сьнежня 1945 г. у Браўншвайгу адбыўся зьезд беларускіх дзеячаў брытанскай зоны. Стварылі яны Беларускі дапамаговы камітэт, заснавальнікамі якога былі Анатоль Шкутка, Аляксей Васіленя, Сьвятаслаў Коўш, Хведар Ільляшэвіч, а. Аўген. Сурвіла й Леанід Галяк. Хведар Ільляшэвіч увайшоў у праўленьне, а старшынём быў абраны Анатоль Шкутка[23].

---

[19] Сяднёў, Масей. Беластоцкі сшытак. Артыкул чацьверты. С. 2. Машынапіс, які захоўваецца ў зборах аўтара дакладу.

[20] Туронак, Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. Мінск, 2002. С. 65.

[21] Туронак, Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. Мінск, 2002. С. 65.

[22] Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі лягер у Ватэнштэт. Альбом-Гістарычная даведка. New Jersey, 1981. С. 5—7.

[23] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох, Лёс Анджэлес, 1968 — Менск, 1994. С.160.

Хведар Ільляшэвіч выкладаў беларускую мову й лаціну ў Беларускай гімназіі імя М. Багдановіча[24], заангажаваўся ў рух скаўтаў. Як „стары скаўт“ быў духовым бацькам гэтай скаўцкай арганізацыі, ніколі не адмаўляў у дапамозе малодшым, быў іх сябрам. Заўсёды знаходзіў час на заняткі са скаўтамі ў іх гульнях, экскурсіях і міжнародных сустрэчах, ствараў ідэалёгію беларускага скаўтынгу й далучаў да яго моладзь. Хведар Ільляшэвіч заснаваў таксама ў лягеры беларускую арганізацыю *YMCA*, у якой дзейнічалі сэкцыі фізкультурныя й мастацкія. Дзеяч лічыў, што асаблівай увагі вымагае маральнае, духоўнае й фізычнае выхаваньне моладзі ў нацыянальным напрамку[25]. Моладзь яго любіла, называла яго „дзядзя Федзя“, „дзядзька Хведар“[26]. Ільляшэвіч арганізоўваў у лягеры тэатральныя пастаноўкі, да якіх сам пісаў тэксты[27]. Быў аўтарам п’есаў з жыцьця „Шэрыя дні“, „Навагоднія запросіны“[28]. У 1946 (?) г. доктар Мікалай Мінкевіч апрацаваў і выдаў вершы для дзяцей Хведара Ільляшэвіча (пад псэўданімам С. Залужны) „Як жыць, каб здаровым быць“:

*„У розных ямах, розным брудзе —*
*Дзе сабака той не будзе?*
*Дык сабаку цалаваць —*
*Гэта бруд у рот прыймаць.*
*Трэба-ж ведаць усім людзям,*
*Што заразкі ёсьць у брудзе!“*[29]

Ад 1946 г. Хведар Ільляшэвіч выдаваў лягерныя пэрыёдыкі „Шляхам жыцьця“ (25 нумароў на 745 старонках) і „Апошнія весткі“ (37 нумароў), куды таксама пісаў артыкулы. Рыхтаваў друкарскія матрыцы школьных падручнікаў: чытанак „Родны край“, „Наша краіна“, „Малюнкі мінулага“[30]. Шточацьвер у памешканьні *YMCA* ў Ватэнштэце

[24] Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945—1950. Нью-Ёрк—Беласток, 1994. С. 39; Гатковіч, Алесь. Ватэнштат — „беларуская вёска“ // Голас Радзімы. № 46. 13.11.1997. С. 7.

[25] Гатковіч, Алесь. Ватэнштат — „беларуская вёска“... С. 7.

[26] Гатковіч, Алесь. Ватэнштат — „беларуская вёска“... С. 7; Залескі, А. Дзядзька Хведар // Бацькаўшчына. № 43 (429). 09.11.1958.

[27] А. Г. Хведар Ільяшэвіч // Да мэты. № 1. 1948. С. 9.

[28] Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі лягер у Ватэнштэт... С. 24, 102.

[29] Мінкевіч, Мікалай. Як жыць каб здаровым быць. [Ватэнштэт], 1947. — [Б. п.]

[30] Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне... С. 197—198.

чыталіся „Жывыя газэткі“, падрыхтаваныя Хведарам Ільляшэвічам, у якіх прадстаўляліся падзеі ў Беларусі, апавяданьні й вершы. Творца арганізаваў т. зв. „літаратурныя суды“ — дыскусіі над паводзінамі літаратурных герояў[31].

9 красавіка 1946 г. у Рэгэнсбургу адбыўся арганізацыйны сход Беларускага літаратурнага згуртаваньня „Шыпшына“. Заснавальнікамі яго былі: Хведар Ільляшэвіч, Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Мікола Вярба, Янка Золак, Аўген Кавалеўскі, Уладзімер Клішэвіч, Алесь Салавей, Масей Сяднёў, Уладзімер Сядура, Анатоль Чэслаўскі (Мікола Целеш)[32]. У дэклярацыі запісалі наступныя мэты дзейнасьці: *„1. Згуртаваць беларускіх актыўных і творча дасьпелых пісьменьнікаў-бэлетрыстых, паэтаў драматургаў і крытыкаў, што знаходзяцца на эміграцыі; 2. Працаваць над стварэньнем вялікай літаратуры, годнай нашага вялікага народу. „Шыпшына“ стаіць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў, але для ейных сяброў зьяўляецца абавязковым крытэры высокае мастацкасьці літаратурнага твору, імкненьне да насычанасьці і арыгінальнасьці, глыбокая пашана да нашае літаратурнае спадчыны і пачуцьцё спадкаемства да ўсяго лепшага ў ёй, узаемная пашана да творчасьці адзін аднаго, а ў галіне ідэёвай — самаахвярная адданасьць Найвышэйшаму Ідэалу нашага Народу. „Шыпшына“ заклікае братоў-пісьменьнікаў далучыцца да яе, каб супольна тварыць на карысьць нашае Маці-Беларусі“*[33]. Выдаваўся часопіс „Шыпшына“, дзе Хведар Ільляшэвіч публікаваў вершы й апавяданьні пад псэўданімам Сьвятаслаў Залужны. Вершы апублікаваныя ў „Шыпшыне“ й „Шляхам Жыцьця“ прасякнутыя тугой па сям'і ды бацькаўшчыне. Дамінуе ў іх сумны, асеньні настрой, як напрыклад, у вершы „Нехта стаў за вакном і маўчыць“:

*„За вакном дробны дождж шалясьціць.*
*І здаецца, што з клёнаў і ліпаў*
*ападаюць з журбою лісты*
*пад акорды асеньніх іскрыпак.*

[31] Гатковіч, Алесь. Ватэнштат — „беларуская вёска“… С. 7.

[32] Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне… С. 68.

[33] Дэклярацыя беларускага літаратурнага згуртаваньня „Шыпшына“ // Шыпшына. № 2. 1946. С. 45.

*Так ня хочацца верыць чамусь,*
*што сярпы ў палёх адзьвінелі,*
*і жніўнёвая ўжо Беларусь*
*адцьвіла ў кустох счырванелых…*

*Мо' каму абарваўся напеў,*
*і журбою туманяцца вочы…*
*Недаканчаны верш аб вясьне —*
недасьнёныя сны апаўночы…“[34]

У апавяданьні „Сон“ Хведар Ільляшэвіч прадстаўляе двух герояў — Сьцяпана й Ягора. Першы, пасьля высылкі ў капальні золата, і другі — паляшук, які марыць пра золата на Палесьсі, сустрэліся на прымусовых працах у Нямеччыне. Дасьведчаны жыцьцём Сьцяпан выказвае мудрую думку: *„— Ня золата, братка, — кажа ён Ягору. — Праца, праца. Працай і Палесьсе зробім залатое. Вось, каб тут працу, што мы кладзём на нямецкіх бауэраў, ды на родныя палеткі… Ня трэба і золата“*[35].

4 траўня 1947 г. адбыўся зьезд прадстаўнікоў беларускіх лягераў і асяродкаў брытанскай акупацыйнай зоны Нямеччыны. Старшынём зоннага камітэту быў абраны Вітаўт Тумаш, а сябрамі — Хведар Ільляшэвіч, Леанід Галяк і Мікола Панькоў[36]. 10 красавіка 1948 г. быў скліканы надзычайны зьезд у сувязі з падзелам на „беларусаў“ і „крывічоў“.

Хведар Ільляшэвіч быў таксама старшынёй канспірацыйнай Беларускай незалежніцкай партыі на эміграцыі[37].

Пасьля сьмерці Хведара Ільляшэвіча засталася „чорная кніга“ з рукапісамі ягоных твораў. Пісаў пра яе Юрка Віцьбіч: *„Перад намі маленькая чорная кніжка. Яна складаецца з пачатых, але ня скончаных вершаў. І яны ніколі ня будуць скончаныя. Ужо два гады, як нечакана адыйшоў у нябыт іхні аўтар — слаўны беларускі паэта. Дагэтуль балюча адчуваецца ягоная страта. Таму асьцярожна бярэш у рукі чорную кніжку, паціху перагортваеш ейныя кволыя старонкі. І раптам пераконваешся, што магчыма, зусім не выпадкова гэтая кніжка*

[34] Жывіца, Юры.Недапетая песьня: Жыцьцё і літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча. Пірмасэнс, 1981. С. 83.

[35] Ільляшэвіч, Хведар. Сон // Шыпшына. № 9. 1950. С. 8.

[36] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне…

[37] Ліст А. Гатковіча да аўтара дакладу ад 06.01.1999. С. 4 (захоўваецца ў зборах аўтара); Ёрш, С. Вяртаньне БНП. Мінск, 1998.

*чорная. У ёй столькі суму, роспачы, яна ўся жалобная, хаўтурная. Як спалучыць гэтую творчасьць з заўсёды жыцьцярадасным, поўным энэргіі, нязломным змагаром Хведарам Ільляшэвічам? Можа ў ёй знайшлі адбітак толькі вузка асабістыя душэўныя перажываньні, на якія не мае права жаўнер, што змагаецца за Волю і Незалежнасьць сваё Бацькаўшчыны? А можа часам сваё асабістае гора здаецца маленькім і ня вартым агульнае ўвагі ў параўнаньні з бязмежна вялізарным горам свайго Народу, за шчасьце якога мусіш змагацца? Так! Толькі так — адказвае паэта ў сваім пасьмяротным няскончаным вершы. Ён няскончаны гэты верш, але нечаканая канцоўка надае яму высокамастацкі характар, уласьцівы Хведару Ільляшэвічу, вялікаму паэту і змагару“*[38]. У ёй знайшоўся таксама верш „Сябром“:

*„Асеньні шторм. Чужы мне лістапад.*
*Лісьцё мяце паўночны вецер.*
*Маўкліва я сяджу.*
*Каб глянуў хто —*
*Ахінуты ў анучыны жабрак.*
..............................................
*Дзе вы, сябры?*
*Я Вам, няведамым сябрам,*
*Даўно пішу, складаю гэты верш,*
*Складаю днямі і начамі.*
............................................
*Ніхто рукі ня сьцісьне, ня скажа*
*слова пацехі.*
*Ці згіну дзе ў дарозе —*
*Ці замерзну як сабака,*
*завыўшы ў зорнасьць неба?*
*...Пуста і холадна.*
*Дождж і вецер.*
*Ці чуеце Вы мой голас?*
*Ціха. Ноч. Паўночны шторм.*
.................................................

[38] Ю. В. [Заўвага] // Шыпшына. № 9. 1950. С. 9. [Зьмест „чорнай кніжкі“ Хведара Ільляшэвіча быў апублікаваны Лявонам Юрэвічам у „Архіўнай кнізе“ (Нью-Ёрк, 1996. С. 147—163). Арыгінал захоўваецца цяпер у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў Менску. — Заўвага **Рэд.**]

> *Але я упарты,*
> *але я сьмяюся —*
> *усё для лепшай долі*
> *нашай Беларусі“*[39] .

У 1948 г. быў выдадзены пасьмяротны зборнік эміgranцкіх апавяданьняў Хведара Ільляшэвіча[40] . Ва ўступе да яго пазначана: *„Жыцьцёвы шлях Ільляшэвіча, гэта шлях змагара за незалежнасьць Беларусі. Гэты шлях вёў праз матарыяльныя нястачы і астрог. Ільляшэвіч належаў да тых моцных, каго не палохаюць цяжкасьці. Ён разумеў, што барацьба за незалежнасьць беларускага народу вымагае шмат ахвяраў і быў сьведамай ахвярай для Беларусі. Суровы лёс загартаваў Ільляшэвіча, зрабіў з яго волата, багатыра духа, які сваёй упэўненасьцю, верай ў справядлівасьць справы за якую змагаўся натхняў іншых, заахвочываў да чыну, падтрымоўваў тых, што зьнясіленыя барацьбою пачыналі паддавацца роспачы. Ільляшэвіч, гэта паэт і палітычны дзеяч. [...] Жыве ў сваіх творах, як тып беларускага патрыёта-рэвалюцыянера ў эпоху двох усесьветных войнаў. [...] Другая усясьветная вайна ашукала чаканьні шматлікіх. Да іх належаў Ільляшэвіч. Заміж вызваленьня, яна прынясла беларускаму народу гітлероўскую і бальшавіцкую тыраніі, руіну і безьліч магілаў, пад якімі пахаваны найлепшыя жаданьні тых, хто змагаўся за Беларусь. Ільляшэвіч пайшоў у эміграцыю. У кахаючым Беларусь сэрцы ён нёс запаветы I і II Усебеларускіх Кангрэсаў. На эміграцкім шляху гучэў ягоны голас, які клікаў да барацьбы з тыранам народаў. Наўсуперак перашкодам, на злосьць ворагам ён клікаў нясьці імя Беларусі і паказаць яе скрываўленую, змагаючуюся ў лясох, пагвалчаную бальшавіцкім ботам, але ўпэўненую ў перамозе. Гэта быў голас чалавечага сумленьня, ішоўшы ад народных гушчаў. Ён ішоў нязьведанымі эміграцкімі шляхамі туды, дзе да яго ўсьміхалася васільковая Беларусь, якую ён высьніў у юнацкіх снох, якая сьмяялася сонечным усьмехам ягоных вуснаў, а за імі ішлі*

> *„...з тварамі сур’ёзнымі*
> *У распаленую песьняй звонкай даль —*

[39] Ільляшэвіч, Хведар. Сябром // Шыпшына. № 9. 1950. С. 9.

[40] Ільяшэвіч, Хведар (Залужны, Сьвятаслаў). Апавяданьні. Пасьмертнае выданьне. Ватэнштэт, 1948. — 41 с.

*Ішлі па тое, каб*
*...разьвесіць сонца над кожнаю бярозаю,*
*раззваніць струны аж да сьнежных Альп".*
*(„Цымбалы")*

*Энэргічны, заўсёды жыцьцярадасны і поўны веры, зь дзяцьмі дзіця, з старымі стары, юнак з юнакамі нёс цяжар, які несьці можа толькі той, каго натхніла вышэйшая любоў да людзей. Ён быў настаўнікам Беларускай Гімназіі ў Ватэнштэт, узначальваў Беларускую групу YMCA, выдаваў часапісы „Шляхам жыцьця" і „Апошнія весткі", дапамагаў у працы беларускім скаўтам, быў сябрам ураду Камітэту Лягеру АБЦ у Ватэнштэт. Безь ягонага ведама ня прымалася ніводная пастанова тутэйшай грамадзкасьцю. У восеньскія і зімовыя ночы, аж да сьвітаньня, цеплілася лямпа ў ягоным акне, а неразлучная яго сяброўка — пішучая машынка, выбівала манатонны такт у рытм сплываючых з бараковага даху кропляў дажджу. У гэтым манатонным рытме асеньніх ночаў нараджаліся сьветлыя малюнкі Радзімы, далёкае, але блізкае ягонаму вялікаму сэрцу. Спакойна мог спаць беларускі Ватэнштэт: на яго варце стаяў чалавек, якімі скупіцца лёс і якіх забірае тагды, калі яны найбольш патрэбны"*[41].

Жыцьцё на эміграцыі Хведар Ільляшэвіч прысьвяціў беларускай культурна-асьветніцкай і літаратурнай дзейнасьці. Па-за пэдагагічнай, грамадзкай і выдавецкай працай падрыхтаваў да выданьня зборнік вершаў „Нязжатая радасьць". Працу над ім перарвала трагічная сьмерць у аўтакастрофе 6 лістапада 1948 г. Пахаваньне Хведара Ільляшэвіча адбылося 10 лістапада на могілках у Галендорфе, недалёка ад Браўншвайгу ў Нямеччыне. Зьехалася на яго шмат прадстаўнікаў беларускай эміграцыі зь лягераў *DP*, сярод іншых з украінскага лягеру імя Лысенкі з Гановэру з украінцамі й беларусамі прыехаў Уладзімер Брылеўскі. Ён асабіста пазнаёміўся з Хведарам Ільляшэвічам улетку 1947 г., калі разам з Барысам Кітом і Аляксандрам Калодкам наведалі Ватэнштэт: *„Адразу, зь першага пагляду, Хведар Ільляшэвіч паказаўся мне вельмі сымпатычным, шчырым і сяброўскім чалавекам. [...] Вечарам таго-ж дня я быў у лягернай залі на „жывой газэтцы", якую вёў Хведар Ільляшэвіч з удзелам вучняў мясцовай беларускай гімназіі, у якой*

[41] Уводнае слова да зборніка Хведара Ільляшэвіча „Апавяданьні" // Жывіца, Юры. Недапетая песьня... С. 22—23.

*быў настаўнікам беларускай мовы й літаратуры. „Газэтка“ была прысьвечаная найвялікшаму беларускаму пясьняру й нацыянальнаму Прароку Янку Купалу, бо якраз тады прыпадалі 5-ыя ўгодкі ад ягонай трагічнай сьмерці й таму мела характар сьвяткаваньня гэтых угодкаў. Хведар Ільляшэвіч быў вельмі актыўным у грамадзкім жыцьці лягеру. Ён быў ня толькі настаўнікам у гімназіі, але й рэдагаваў яшчэ месячны часапіс „Шляхам Жыцьця“ й бюлетэнь „Апошнія Весткі“. Шмат працаваў з моладзяй, якую ўзгадоўваў у беларускім нацыянальна-патрыятычным духу. Ня толькі моладзь, але й усе жыхары лягеру яго вельмі любілі, бо быў ён чалавекам сьціплым, лагодным, заўсёды зь мілай усьмешкай на твары, добразычлівым, для ўсіх даступным. Жывучы далёка ад беларускіх асяродкаў, я адчуваў голад беларускага друкаванага слова. Дык і папрасіў тады яго, каб даў мне крыху якой-небудзь беларускай літаратуры. Позна вечарам, калі я ўжо лёг спаць у прызначанай мне кватэры, ён прынёс мне цэлае бярэмя беларускіх ратататарных часапісаў, ня толькі ім рэдагаваных, але й з амэрыканскай зоны, назоваў якіх ужо сёньня не памятаю“*[42] .

Хведар Ільляшэвіч захаваўся ў памяці знаёмых эмігрантаў як надзвычай працавіты й адначасова сьціплы, добразычлівы, лагодны, заўсёды з усьмешкай на твары[43] . Чарговыя гадавіны ягонай сьмерці сталі нагодай для ўспамінаў пра яго ў беларускай эмігранцкай прэсе[44] . На падставе іх паўстае вобраз выдатнага беларускага дзеяча беларускай эміграцыі. Юрка Віцьбіч, адзін з найбліжэйшых ягоных эміграцкіх сябраў, з нагоды пятых угодкаў сьмерці паэта, успамінаў: *„Пяць гадоў таму сьляпая сьмерць перадчасна абарвала жыцьцё Хведара Ільляшэвіча. Мы дагэтуль балюча вычуваем ягоную страту і нам бракуе слоў, каб выказаць свой жаль. Мы дагэтуль не даем веры, што яго няма паміж намі, і ў гэтай нашай бязьверыцы ёсьць слушнасьць. Калі памірае сейбіт, дык усё роўна з раскіданага ім насеньня закрасуецца рунь. [...] Калі адыходзіць у нябыт паэта, дык усё роўна створаныя ім вершы пануюць у людзкіх душах. Таму, калі ў гадавіну сьмерці Хведара Ільляшэвіча наш розум пераносіць нас на ягоную магілку на адных*

[42] Брылеўскі, Уладзімер. Мая сустрэча з Хведарам Ільляшэвічам // Беларус. №№ 271—271. 1979. С. 3.

[43] Брылеўскі, Уладзімер. Мая сустрэча з Хведарам Ільляшэвічам...

[44] А. Г. Хведар Ільяшэвіч...; Віцьбіч, Юрка. Памяці паэта і змагара // Беларуская трыбуна. № 3. 1953. С. 3; Залескі, А. Дзядзька Хведар...; Жывіца, Юры. Рэха мінулых гадоў...; Брылеўскі, Уладзімер. Мая сустрэча з Хведарам Ільляшэвічам...; Гатковіч, Алесь. Ватэнштат — „беларуская вёска“...

*з шматлікіх могільнікаў Нямеччыны, дык усё роўна сэрцам сваім мы заўсёды вітаем яго, як жывога“*[45] .

Юрка Віцьбіч захаваў спадчыну Хведара Ільляшэвіча, якую характарызаваў наступнымі словамі: *„Жменька ўжо крыху пажоўклых ад часу лістоў, вершы, апавяданьні, маленькі сшытак у чорнай вокладцы — гэта ўсё рэчовае, матар'яльнае, што засталося ў мяне ад Хведара Ільляшэвіча. Пяшчотна пераглядаю лісты і не заўважваю ў іх аніякіх скаргаў на асабістае. Але затое кідаецца ў вочы: „Будзьце ласкавы, напішэце аднаму хвораму беларусу. Ён прыслаў мне аповесьць, я яе выпраўляю (грунтоўна) выйдзе, магчыма, нядрэнная рэч“. У іншым лісьце чытаю: „Я пасылаю Вам ноты беларускага вальсу „Успаміны“, які напісаў адзін малады наш кампазытар. Я горача прашу Вас перадаць гэтыя ноты (далей ідзе імя слыннага нашага кампазытара. Ю. В.), каб ён распрацаваў аранжыроўку“. І гэтак скрозь. Усё аб суродзічах і пасьля гэтага крыху між іншым аб сабе. Але-ж гэта лісты, а ня вершы, дзе бяз сумніву мае адбіцца асабістае. [...] Вось верш — „Жонцы“, — які канчаецца радком — „Дзе ты, сяброўка, мая?“ Можа, ніхто гэтак не сумаваў па сваёй сям'і, але застаючыся толькі сам-на-сам з чорным сшыткам, як Хведар Ільляшэвіч. І як спалучыць творчасьць з чорнага сшытку з заўсёды жыцьцярадасным, энэргічным Хведарам Ільляшэвічам“*[46] . Юрка Віцьбіч знаходзіць адказ такой падвойнасьці ў адным з нясконачаных вершаў Хведара Ільляшэвіча:

*„...Пуста і холадна,*
*Дождж і вецер.*
*Ці чуеце Вы мой голас?*
*Ціха. Ноч. Паўночны шторм.*
.........................................
*Але я ўпарты,*
*Але я сьмяюся —*
*Усё для лепшай долі*
*Нашай Беларусі“*[47] .

Юрка Віцьбіч, успамінаючы пахаваньне, пісаў, што над магілай Хведара Ільляшэвіча было сказана шмат добрых чульлівых словаў ад

---

[45] Віцьбіч, Юрка. Памяці паэта і змагара...
[46] Віцьбіч, Юрка. Памяці паэта і змагара...
[47] Віцьбіч, Юрка. Памяці паэта і змагара...

шчырага сэрца. Успомніў найбольш кранальную рэакцыю дзяцей: *„Аднак, усё-ж ні адзін з прамоўцаў ня ўзрушыў гэтак сэрцы прысутных і ня прысутных, як маленькія беларусы і беларускі, што беглі за дамавінай з плачам і крыкам: — Дзядзя Хведзя!... Дзядзя Хведзя!..“*[48] Юрка Віцьбіч напісаў кароткую біяграму Хведара Ільляшэвіча ў выдадзеным у 1955 г. беларускім літаратурным альманаху, у якім знайшліся таксама ягоныя вершы[49].

12 лістапада 1948 г. паэт Міхась Кавыль напісаў верш „Вышэй помніка“, прысьвечаны Хведару Ільляшэвічу й апублікаваны ў „Царкоўным сьветачы“ з нагоды 30-х угодкаў сьмерці паэта[50]. У 1951 г. таксама прысьвяціў Ільляшэвічу верш, у якім пісаў:

*„Сьпі пад суворым небам,*
*Небам ня родным, чужым.*
*Сьлёзаў няма — ня трэба.*
*Ты сярод нас — жывы“*[51].

*„Ён быў адным з першых, які ледзь прыладзіўшся ў лягерным бараку, распачаў беларускую пэрыядычную й іншую выдавецкую працу. Ён ня ўмеў сядзець. І заўсёды з тэй-жа жывой размашыстай паходкай ён увіхаўся на лягерным двары, у канцылярыях, у клюбе, у гімназіі як выкладчык беларускае мовы і літаратуры. А калі Ільляшэвіч сядзеў — дык толькі пры пішучай машынцы, пры якой ён праседжваў часамі цэлыя ночы. Не закідаў ён і свае літаратурнае дзейнасьці. У лягерных выданьнях, якія пераважна ён сам рэдагаваў, зьмяшчаліся ягоныя вершы і апавяданьні. Апрача таго, Хведара Ільяшэвіча можна было сустрэць на розных беларускіх грамадзка-арганізацыйных зьездах і нарадах, дзе ён вызначаўся тактам і ўраўнаважанасьцяй“*[52].

Хведара Ільляшэвіча любілі ўсе пакаленьні перасяленцаў: *„Яго любілі дзеці й старыя. З кожным ён умеў знайсьці супольную мову, парадзіць, паспачуваць. Сваю ўласную трагедыю — растаньне зь сям’ёю — ён глыбоко перажываў сваім чулым паэтычным сэрцам, і магчыма таму ў яго знаходзілася столькі зразуменьня і спачуцьця да чужога няшчасьця“*[53].

---

[48] Віцьбіч, Юрка. Памяці паэта і змагара.

[49] Ля чужых берагоў. Мюнхэн, 1955. С. 163—165.

[50] Царкоўны сьветач. 1978. С. 14.

[51] Кавыль, Міхась. Хведару Ільляшэвічу // Беларуская трыбуна. № 3. 1953. С. 3.

[52] Залескі, А. Дзядзька Хведар...

[53] Залескі, А. Дзядзька Хведар...

Сьвятаслаў Коўш, аўтар успамінаў пра лягер Ватэнштэт, пісаў пра літаратара й дзеяча: *„Духовым бацькам скаўтаў зьяўляўся Хведар Ільяшэвіч — Стары Скаўт. Гэта ён фармуляваў ідэалёгію беларускага скаўцкага руху, ён умеў пагадзіць тэорыю скаўтынгу з лягернай практыкай, ён не дазваляў адхіляцца ад мэты — Бог і Бацькаўшчына і яму запаветна верыла моладзь. Ягоны ўплыў на скаўтаў і наагул на моладзь перажыў ягонае фізычнае жыцьцё без пары і трагічна абарваўшаеся. Гэты чалавек зь бязьмежнай самаадданасьцю служыў справе як пісьменьнік, палітык, настаўнік, дарадчык, кіраўнік і пацяшыцель. Зь ягонай думкай лічыліся ды ягоныя рады пыталіся тыя, каму было дадзена займаць адказныя становішчы ў лягеры, і ён быў зьвяном, якое спалучала беларусаў у ангельскае зоне акупацыі Нямеччыны (Ватэнштэт, Госьляр, Гановэр, Білефэльд) зь беларусамі амэрыканскае і француское зонаў. Гэты чалавек мог-бы паўтарыць словы песьняра старажытнасьці — я стварыў помнік трывалейшы ад часу. Хведар Ільяшэвіч быў душою і рэдактарам часапісу „Шляхам жыцьця“, а пазьней „Апошніх вестак“*[54].

Аляксандр Гатковіч, які ў лагеры жыў з Хведарам Ільяшэвічам у адным пакоі, нагледзячы на вялікую розьніцу гадоў, лічыў яго вялікім сваім сябрам: *„Мне тады было 20 гадоў, а Хведару Ільяшэвічу 35, але мы падружылі з першага дня і дзяліліся, чым маглі. [...] Са мной ён быў як сябра, брат, а няраз — бацька. Бывала, зьбіраўся на танцы ці ў кіно, дык ён вымаў з сваёй шафы новую кашулю ці сьвітэр і гаварыў: „Адзявай гэта“. І дадаваў паўжартам: „Мо лепш спадабаешся дзяўчатам“*[55].

У 1991 г. беларускі эмігрант, супрацоўнік Хведара Ільяшэвіча зь Беластоку падчас вайны, Юры Попка (Юры Жывіца) выдаў прысьвечаную яму кнігу „Недапетая песьня“ — пра жыцьцё й літаратурную спадчыну паэта.

У 1979 г. лёсам бацькі пацікавілася Мар’я Марліч, якая пражывае ў Шчэціне. Праз парыскае выданьне Ежы Гедройца „Kultura“ яна навязала сувязь з Уладзімерам Брылеўскім у ЗША. Ад яго даведалася пра акалічнасьці сьмерці бацькі. Мар’я Марліч дзякуючы Ўладзімеру Брылеўскаму пісала: *„Хвалюючая й рэвалюцыйная вестка кладзе канец шматгадоваму губляньню ў дагадках што да ягонае долі і зьдзівіць сям’ю, што не на ўсходзе, а ў Нямеччыне спаткала яго сьмерць“*[56].

---

54 Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі лягер у Ватэнштэт… С. 16.

55 Гатковіч, Алесь. Ватэнштат — „беларуская вёска“…

56 Брылеўскі, Уладзімер. Мая сустрэча з Хведарам Ільляшэвічам…

У 1990-х гг. памяць пра Хведара Ільяшэвіча пачала вяртацца ў Беларусь. Пачалі друкавацца прысьвечаныя яму артыкулы[57], а ягоныя вершы зьявіліся ў зборніках беларускай эміграцыйнай паэзіі[58].

[57] Ліс, Арсень. Паэзія Хведара Ільляшэвіча // Культура беларускага замежжа. Т. 2. Мінск, 1993. С. 27—52; Ліс, А. Лірыка Хведара Ільляшэвіча...; Савік, Лідзія. „Дык здабудзем кветку шчасьця“ // Голас Радзімы. № 50. 15.12.1994. С. 1, 6; № 51. 22.12.1994. С. 6.

[58] Туга па радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі / пад рэд. Б. Сачанкі. Мінск, 1992. С. 209—220.

*Эміграцыязнаўчая сэкцыя*
*IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі*

***Юры Грыбоўскі***
***Мажэна Грыбоўская***
*Варшава*

# УЗАЕМАДАЧЫНЕНЬНІ ПАМІЖ ПОЛЬСКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЧНЫМІ ЭМІГРАЦЫЯМІ (1945—1956)

Пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны на Захадзе апынулася значная колькасьць як польскіх, так і беларускіх антыкамуністаў. Паваенная польская палітычная эміграцыя складалася з прадстаўнікоў ураду РП на эміграцыі, членаў вайсковых рэгулярных (Польскія ўзброеныя сілы на Захадзе — ПУЗС) і нерэгулярных (Армія Краёва ды інш.) фармаваньняў. Тым часам, беларускі палітычны лягер на эміграцыі быў пераважна прадстаўлены былымі жаўнерамі ПУЗС, а таксама ваеннымі ўцекачамі. Ад самага пачатку паміж польскай і беларускай эміграцыямі на Захадзе існавала вялікая розьніца. Да лета 1945 г. урад РП на эміграцыі быў прызнаваны на міжнароднай арэне. Адрозьнівалася таксама колькасная вага эмігрантаў. Польская эміграцыя налічвала некалькі сот тысячаў чалавек. У тойсамы час, лічба беларусаў, якія бралі ўдзел у грамадзка-палітычным жыцьці на чужыне, складала ня больш за некалькі тысячаў асобаў. Нягледзячы на значную розьніцу й дыспрапорцыі паміж польскай і беларускай дыяспарамі, кантакты паміж прадстаўнікамі палітычных элітаў абодвух эміграцыйных лягераў былі непазьбежныя. Як адны, гэтак і другія апынуліся ў аналягічным становішчы, якое абумоўлівалася паваеннымі палітычнымі рэаліямі ялцінскага ладу.

У абліччы новай міжнароднай сытуацыі актуальнасьць набыла справа супрацоўніцтва паміж палітычнымі рэпрэзэнтацыямі народаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. У залежнасьці ад інтэнсіўнасьці, палітычныя ўзаемадачыненьні польскага эміграцыйнага ўраду з краінамі

рэгіёну падзяляліся на дзьве групы. Да першае належылі адносіны з краінамі, якія пасьля вайны апынуліся ў г. зв. сацыялістычным лягеры, але фармальна захавалі свой сувэрэнітэт. Да другой групы залічаліся народы, якія былі пазбаўленыя ўласнай дзяржаўнасьці й функцыянавалі як частка СССР. У новай рэчаіснасьці адбываўся перагляд ранейшай нацыянальнай палітыкі. Пра зьмены на карысьць адыходу ад даваеннага погляду на нацыянальныя справы сьведчыць, між іншага, нататка кіраўніка Аддзелу нацыянальнасьцяў Міністэрства нацыянальнай абароны ўраду РП на эміграцыі, у якой чытаем: *„Мы выразна ўсьведамляем, што няма вяртаньня да нацыянальнай палітыкі з пэрыяду незалежнасьці й што мы мусім імкнуцца да пошуку новых формаў супольнага жыцьця з украінцамі, беларусамі й літоўцамі. Якія гэта будуць формы сужыцьця — складана цяпер прадбачыць. Вырашыцца гэта ў будучыні. Мы на эміграцыі мусім зрабіць усё, што ў нашай моцы. Належыць лічыцца з тым, што будзе шмат неспадзяванак“*[1].

Грамадзка-палітычная дзейнасьць беларускіх эмігрантаў ад самага пачатку выклікала цікавасьць польскай палітычнай эміграцыі. І хоць некаторыя польскія назіральнікі лічылі, што беларускі незалежніцкі лягер на Захадзе не пазбаўлены *„маладога нацыяналізу й экстрэмізму“*, агульныя ацэнкі для беларускага незалежніцкага лягеру былі станоўчыя. Лічылася, што ўсе „адмоўныя“ рысы беларускіх дзеячоў кампэнсоўваліся іх выразным антысавецкім і антыкамуністычным настроем[2].

У пачатку 1947 г. эмісары польскага эміграцыйнага ўраду ў Заходняй Нямеччыне падрыхтавалі грунтоўны рапарт „Беларуская незалежніцкая эміграцыя“, дзе прыводзіліся досыць падрабязныя зьвесткі пра колькасны й арганізацыйны стан беларускай эміграцыі. Колькасьць беларусаў у лягерах *DP*, паводле гэтага дакладу, складала 30 тыс. чалавек, зь якіх каля 20 тыс. мелі пачуцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці й бралі ўдзел у беларускім арганізацыйным жыцьці[3].

---

[1] Instytut Polski i Muzeum im. gen. Sikorskiego (IPMS). Sygn.: KOL. 465/35. Notatka pt. „Kościół prawosławny w Polsce oraz Kościoły ukraińskie: autonomiczny i autokefaliczny oraz stosunki wewnętrzne w Kościele prawosławnym na emigracji w W. Brytanii“. IX 1947 r.

[2] IPMS. Sygn. A.11E.873. Ref. „Naczelne organizacje polityczne wśród emigracji z krajów ŚrodkowoWschodniej Europy“.

[3] Не зусім зразумела, на падставе якіх крыніцаў польскі аглядальнік рабіў высновы пра колькасны склад беларускіх уцекачоў. Таму гэтыя зьвесткі належыць разглядаць як вельмі ўмоўныя. IPMS. Sygn.: A.11E.1110. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe.

Асаблівая ўвага зьвярталася на польска-беларускія адносіны. Падкрэсьлівалася, што шмат беларусаў месьцілася ў польскіх лягерах *DP*, аднак ў пэўны момант пачалося масавае перасяленьне іх ва ўласныя лягеры. У прыватнасьці, у разгляданым дакладзе адзначаецца беларускі лягер у Ватэнштэце[4].

У згаданым вышэй дакумэнце знаходзім інфармацыю пра дзейнасьць савецкіх агентаў, якія схілялі беларускіх выгнанцаў выехаць у СССР. Апроч таго, адзначалася, што ва ўмовах паступовай ліквідацыі лягераў *DP* многія беларусы намагаліся трапіць „за акіян“, тым часам як эміграцыйныя лідары жадалі, каб як мага большая колькасьць суродзічаў засталася ў Эўропе. Для прыкладу прыводзіўся ўрывак з газэты „Беларускія навіны“ за студзень 1947 г. з заклікам да суайчыньнікаў не шукаць шчасьця за акіянам, а застацца жыць у Францыі. Аўтар дакладу адзначаў, што многія польскія грамадзяне беларускай нацыянальнасьці ўжо знайшлі сабе працу ў сельскай гаспадарцы на поўначы Францыі. Асаблівая ўвага зьвярталася на настроі, якія панавалі сярод беларускіх эмігрантаў. Аўтар пісаў, што, нягледзячы на складаную матэрыяльную сытуацыю, беларусы годна змагаюцца за сваё існаваньне: *„Моц беларускай эміграцыі ў Нямеччыне й Францыі ў тым, што яна гатовая да любой працы й бярэцца за любую працу“*[5]. Разам з тым, далей адзначалася, што яе *„слабасьць [...] — у кепскім веданьні замежных моваў“*[6].

Аналізаваны даклад адсочваў падзеі, што адбываліся ў арганізацыях беларускіх эмігрантаў у Францыі, Нямеччыне й Вялікабрытаніі. Так, гаворачы пра беларусаў у Францыі, аўтар згадвае дзейнасьць рэдакцыі газэты „Беларускія навіны“, якая выдавалася ў Парыжы. Многа ўвагі надавалася асьвятленьню дзейнасьці Аб’еднаньню беларускай рабочай эміграцыі ў Францыі й яе студэнцкай сэкцыі, што налічвала 17 студэнтаў. Апроч таго, аналізавалася становішча Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ), якое выдавала часопіс „На шляху“. Аўтар вялікую ўвагу надаваў пастанове кіраўніцтва ЗБВБ адносна запісу польскіх жаўнераў беларускага паходжаньня ў Польскі корпус прыстасаваньня й размяшчэньня[7].

---

[4] Лягер Ватэнштэт паўстаў у ліпені 1945 г. і праіснаваў да лютага 1950 г. Агульным лікам празь яго прайшло каля 1,5 тыс. жыхароў.

[5] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe.

[6] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe.

[7] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe. Гаворка ішла пра камунікат ЗБВБ № 10 ад 22 верасьня 1946 г., дзе быў надрукаваны ⇨

Агульныя высновы польскага эмісара былі надзвычай прыхільныя да беларускай эміграцыі. У прыватнасьці, палітычныя перакананьні беларускіх выгнанцаў ацэньваліся як высокаідэйныя, адзначалася іх адданасьць справе. Варта зацытаваць урывак з гэтага дакумэнту: *„Кіраўніцтва (урад Беларускай народнай рэспублікі на чужыне й зьвязаныя зь ім дзеячы) зьяўляецца групай сур'ёзных і ідэйных людзей, адданых свайму народу. Арганізуемая беларуская эміграцыя можа стацца ў будучыні сур'ёзным чыньнікам у адбудове вольнай Беларусі і ў фармаваньні яе палітычнага аблічча. Беларускі незалежніцкі рух на эміграцыі ў значнай ступені як мага найлепш ставіцца да ідэі хаўрусу з іншымі народамі Міжмор'я. Не адносіцца адмоўна да Польшчы. Можна сьцвердзіць, што найбольш выбітныя яго ўдзельнікі хочуць шчыльнага саюзу з польскім народам. Не маюць нэгатыўнага стаўленьня да гістарычнай польска-літоўска-рускай уніі. Могуць стаць вельмі істотным чыньнікам, які зробіць магчымым шырэйшае польска-літоўска-беларуска-ўкраінскае паразуменьне й будзе лагодзіць украінскі й літоўскі шавінізм. Праз шчырае й сумленнае супрацоўніцтва зь беларусамі, палякі могуць аказаць рашучы ўплыў на фармаваньне поглядаў беларускіх палітыкаў і ўзрастаючую беларускую нацыянальную сьвядомасьць“*[8]. Вялікі шанец паразуменьня зь беларусамі прывёў аўтараў дакладу да высновы, што неабходна падтрымліваць беларускае жыцьцё, пачынаючы з практычнага супрацоўніцтва з ЗБВБ. Перш за ўсё, прапанавалася наладзіць кантакты паміж Галоўным камандаваньнем Польскіх узброеных сілаў на Захадзе й гэтай беларускай арганізацыяй. За бясспрэчны аўтарытэт пры гэтым лічыўся тагачасны старшыня ЗБВБ Вінцэнт Жук-Грышкевіч. На думку польскага эмісара, менавіта яго трэба было прыцягнуць да дзейнасьці клюбу фэдэралістаў у Лёндане[9].

У вачах польскіх эмігрантаў узаемаадносіны зь беларусамі выглядалі як значна лягчэйшыя й менш эмацыянальныя чым, напрыклад, з украінцамі альбо летувісамі[10].

---

⇨ заклік да беларусаў, што служылі ў Польскіх узброеных сілах на Захадзе, каб тыя ўступалі ў Польскі корпус прыстасаваньня й разьмяшчэньня, што быў часткай брытанскіх узброеных сілаў. Гл.: Grzybowski, J. Białorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918—1945. Warszawa, 2007. S. 303.

[8] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe.

[9] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe.

[10] Старшыня Міжнароднага камітэту палітычных бежанцаў і высяленцаў *DP* М. Грабскі пісаў наступнае: *„Назіраецца вялікая паправа ў адносінах зь* ⇨

Польская эміграцыя брала чынны ўдзел у фармаваньні й разьвіцьці інтэграцыйных праектаў, шукаючы аднадумцаў і хаўрусьнікаў сярод антыкамуністаў-эмігрантаў з іншых краінаў рэгіёну, у тым ліку й беларусаў. У першыя паваенныя гады значнае распаўсюджаньне сярод польскіх эміграцыйных дзеячаў набыў рух „Міжмор'я“, у якім прадугледжваўся, таксама, удзел беларускіх дзеячоў. У гэтым руху ўвасабляліся ідэі стварэньня ў будучыні фэдэрацыі краінаў разьмешчаных паміж Балтыйскім, Чорным і Адрыятычным марамі. Заангажаваньне беларусаў у дзейнасьць „Міжмор'я“ адбывался праз запрашэньне паасобных прадстаўнікоў да ўдзелу ў працы міжнародных фэдэра–лістычных клюбаў „Міжмор'я“. Клюбы паўставалі ў розных краінах, дзе знаходзіліся эмігранты з Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Так, Станіслаў Станкевіч дзейнічаў у мюнхенскім клюбе, а. Часлаў Сіповіч — у рымскім, Вінцэнт Жук-Грышкевіч — у лёнданскім. У кастрычніку 1946 г. быў створаны клюб у Парыжы, у якім ад беларусаў засядаў Мікола Абрамчык.

Рух „Міжмор'я“ ня быў нічым новым для беларускіх эмігрантаў-антыкамуністаў. Беларускія дзеячы ўжо мелі пэўны досьвед працы ў міжнародных арганізацыях, якія ствараліся сярод эмігрантаў на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны. Так, 29 сакавіка 1947 г. на тэрыторыі брытанскай зоны акупацыі было заключана пагадненьне польскай, беларускай, югаслаўскай, летувіскай, латыскай і ўкраінскай групаў палітычных бежанцаў і высяленцаў *DP*. Была створаная Рада, у якую ўвайшлі па адным прадстаўніку ад кожнай нацыянальнай групы. Пагадненьне мела не мэце абарону правоў уцекачоў, супрацоўніцтва ў галіне сацыяльнай і культурніцкай апекі, а таксама абмен інфармацыяй. Пагадненьне мела, аднак, непалітычны характар[11] . У паседжаньнях згаданай Рады беларускі бок прадстаўлялі Аляксей Калодка, Алесь Вініцкі, Станіслаў Станкевіч, Вітаўт Тумаш, Мікалай Кунцэвіч. У хуткім часе зьявілася патрэба стварэньня арганізацыі, якая зрабіла б магчымым выпрацаваньне супольнай палітычнай платформы. 27 чэрвеня 1947 г. у Квакенбруку адбыўся першы сход нацыянальных групаў. Беларуская дэлегацыя складалася зь В. Тумаша й Л. Столяра. 8 сьнежня 1947 г. у

⇨ *беларусамі, якія адыходзяць ад украінцаў у іх барацьбе за прызнаньне этнічнага прынцыпу пры вырашэньні памежных справаў“.* IPMS. Sygn. A.11.1158. M. Grabski, Udział grupy polskiej we współpracy międzynarodowej DP w Niemczech w 1948 r.

[11] IPMS. Sygn. A.11E.1472. Porozumienie grup narodowych (uchodźców politycznych i wysiedleńców) w strefie brytyjskiej Niemiec.

Мюнхене быў створаны Міжнародны камітэт палітычных уцекачоў *DP* у Нямеччыне, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі 13 нацыянальных груп. Старшынём быў абраны польскі прадстаўнік М. Грабіньскі. Беларускі бок браў актыўны ўдзел у працы арганізацыі[12].

Трэба адцеміць, што сярод беларускіх дзеячаў вышэйзгаданы рух „Міжмор'я" ацэньваўся па-featureрознаму. Канцэпцыя „Міжмор'я" была прадметам дыскусіі ў асяродзьдзі беларускай інтэлігенцыі. На старонках газэты „Беларус на чужыне" выйшаў артыкул „Каму гэта патрэбна?" Аўтар ставіў пытаньне, ці магчымая фэдэрацыя карысная беларусам, ці не? Адказ быў наступны: рашуча — так. Выказвалася меркаваньне, што толькі ў супольным высілку народы Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы здолеюць абараніць свае інтарэсы. Аўтар бачыў у руху фэдэрацыйным магчымасьць вырашэньня лякальных спрэчак і непаразуменьняў[13]. Часам на старонках эміграцыйнае прэсы выказваўся наступны погляд: адным зь некарысных для беларусаў момантаў новае канцэпцыі ёсьць тое, што асноўнае вастрыё „міжморскай" палітыкі накіравана супраць нямецкай дамінацыі ў рэгіёне. Для Беларусі як дзяржавы, якая ня мае супольнае мяжы зь Нямеччынай, такая сытуацыя не зусім камфортная, бо для яе незалежнага палітычнага існаваньня найвялікшая пагроза зыходзіла зь іншага боку. Зьвярталася ўвага на тое, што неабходна, каб канцэпцыя прадугледжвала ўдзел у новай фэдэрацыі народаў, якія знаходзіліся на ўсход ад Беларусі й Украіны (Каўказ, народы Ўралу)[14].

Рух „Міжмор'я" быў толькі адной з платформаў супрацоўніцтва паміж польскімі й беларускімі эміграцыйнымі дзеячамі. Сярод беларусаў да пасьлядоўных прыхільнікаў польска-беларускага зьбліжэньня належыў Мікола Абрамчык. Пра гэта сьведчыць той факт, што Прэзыдэнт БНР няраз у сваіх працах казаў пра важкасьць польска-беларускіх кантактаў, падкрэсьліваючы супольнасьць палітычных і эканамічных мэтаў абодвух народаў. У прыватнасьці, пра гэта ён узгадваў у рэфэраце „Польска-беларускія адносіны ў мінулым і ў цяперашні час", прысьвечаным паваеннаму польска-беларускаму супрацоўніцтву. Абрамчык

[12] 17 чэрвеня 1948 г. з ініцыятывы беларускіх дэлегатаў у склад арганізацыі была прынятая як самастойная група харвацкая рэпрэзэнтацыя, якая дагэтуль уваходзіла ў склад югаслаўскай дэлегацыі. Ініцытыва была падтрыманая ўкранцамі, казакамі, славакамі й баўгарамі. IPMS. Sygn. A.11E.1158. Protokół posiedzenia Międzynarodowego Komitetu Uchodźców Politycznych i DP w Niemczech, z 17 czerwca 1948 r.

[13] Kamu heta patrebna // Biełarus na čužynie. №9. 1949. S. 1—3.

[14] Бацькаўшчына. 3 кастрычніка 1948.

лічыў, што цеснае польска-беларускае ўзаемадзеяньне павінна стаць апорай для незалежніцкіх рухаў народаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы й супрацьвагай у адносінах да ўплываў расейскай эміграцыі. Ён быў перакананы, што пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны настаў час пагаджэньня палякаў і беларусаў. Прэзыдэнт БНР плянаваў распачаць польска-беларускія перамовы, якія мусілі стаць зыходным пунктам для новых адносінаў паміж народамі. На думку Абрамчыка, чыньнікі, якія дзейнічалі супраць супрацоўніцтва Беларусі й Польшчы, былі мізэрнымі ў параўнаньні з тым, чаго можна было дасягнуць пры ўзаемадзеяньні абодвух народаў. Прэзыдэнт БНР меркаваў, што беларусы дэкляруюць сваю волю да паразуменьня й зараз рашэньне належыць польскаму боку, які павінен прыняць альбо аспрэчыць беларускія прапановы[15]. У адным з інтэрвію Мікола Абрамчык, між іншага, казаў: *„Сярод польскіх палітычных дзеячаў сустракаецца ўжо нямала асобаў, якія ня толькі не пярэчаць нашаму законнаму праву на дзяржаўную незалежнасьць у нашых этнаграфічных межах, але нават бачаць у гэтым большую гарантыю незалежнасьці й свайго народу. На жаль, людзі гэтыя яшчэ складаюць меншасьць сярод сваіх суграмадзянаў. Беларуская дыпляматыя павінная дапамагчы ім стаць большасьцю“*[16].

Упершыню да спробаў польска-беларускіх перамоваў дайшло ўжо ў 1946 г. Мікола Абрамчык паспрабаваў дамовіцца пра пачатак перамоваў з эмісарамі польскага эміграцыйнага ўраду ў Францыі. Беларускі дзеяч не хаваў свайго расчараваньня тым, што яму не ўдалося ўсталяваць кантактаў з прадстаўнікамі польскага эміграцыйнага ўраду. У выніку ён вырашыў накіраваць мэмарыял у Лёндан, які не адразу быў заўважаны. У траўні 1947 г. у Парыжы міністр замежных справаў ва ўрадзе РП на эміграцыі Адам Тарноўскі сустрэўся зь Міколам Абрамчыкам. 27 траўня 1947 г. абодва бакі ўзгаднілі праект супольнай польска-беларускай дэклярацыі. Згодна з прапановай польскага боку, у дакумэнце не закраналася тэрытарыяльнае пытаньне. Дэклярацыя ўтрымлівала запіс, што дадзеная справа будзе вырашаная мірнымі сродкамі, калі абедзьве краіны будуць незалежнымі[17].

---

[15] Машынапіс артыкула Міколы Абрамчыка пад назвай „Польска-беларускія адносіны ў мінулым і ў цяперашні час“ (арыгінал па-расейску) знаходзіцца ў зборах Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку (БІНіМ); копія — у зборах аўтара.

[16] Інтэрв'ю М. Абрамчыка // Бацькаўшчына. 1950. № 1 (61). С. 3.

[17] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Deklaracja polsko-białoruska z 27 maja 1947 r. (projekt).

Перамовы мелі свой працяг у чэрвені 1947 г. у Парыжы. Зь Міколам Абрамчыкам сустрэўся прадстаўнік ураду Ф. Крулікоўскі. Як потым узгадвалі самі ўдзельнікі, размовы адбываліся ў атмасферы сяброўства й даверу. Беларускі палітык растлумачыў свайму польскаму калегу, што ён намагаецца ўсімі сродкамі ня браць удзелу ў акцыях, якія могуць неяк зашкодзіць польскаму боку, альбо ў акцыях, якія не скардынаваныя з палякамі. Адначасна Мікола Абрамчык зазначыў, што з польскага боку адсутнічаюць канкрэтныя прапановы адносна супольнай польска-беларускай палітычнай акцыі. Беларускі дзеяч таксама зьвярнуў увагу на аслабленьне супрацоўніцтва празь лякальныя спрэчкі паміж польскімі й беларускімі дзеячамі. Паводле словаў Прэзыдэнта БНР, нішто гэтак не раздражняе ягоных паплечнікаў, як маўчаньне й поўнае ігнараваньне беларускага пытаньня з боку польскай эміграцыйнай прэсы[18].

Падчас парыскіх перамоваў Адама Тарноўскага й Ф. Крулікоўскага зь Міколам Абрамчыкам вымаляваўся шэраг супольных праблемаў, якія можна было абмяркоўваць, а менавіта: 1) справа прэсавага паразуменьня; 2) справа беларускай выдавецкай дзейнасьці; 3) справа амэрыканцаў беларускага паходжаньня. Абрамчык і Крулікоўскі зрабілі выснову, што трэба імкнуцца да польска-беларускага паразуменьня, выкарыстоўвачы польскі й беларускі друк на эміграцыі. Патрэбныя былі ўзаемнае інфармаваньне пра ўсе зьмены й рухі нутранога жыцьця эмігрантаў, запабяганьне магчымым спробам пасварыць бакі, а таксама прапаганда на старонках газэтаў патрэбы як мага больш шчыльнага супрацоўніцтва. Прэзыдэнт БНР прапанаваў, каб польская прэса дасылала сваім беларускім калегам зьвесткі пра польскае жыцьцё на эміграцыі, бо беларускі бок ня мае магчымасьці падпіскі на ўсе польскія выданьні. Узамен Мікола Абрамчык абяцаў даслаць Крулікоўскаму два артыкулы для польскай прэсы, якія тычыліся стану беларускага незалежніцкага лягеру на эміграцыі. Ф. Крулікоўскі ў прысутнасьці Прэзыдэнта БНР меў таксама размову з рэдактарам газэты „Беларускія навіны“ Лявонам Рыдлеўскім. Нагодаю да гэтай сустрэчы быў пэўны артыкул, аўтар якога займаў досыць непрыхільнае стаўленьне да палякаў. Крулікоўскі жадаў тлумачэньня на гэты конт, падкрэсьліваючы, што публікацыя выйшла ў той час, калі польска-беларускія адносіны пачалі наладжвацца. У сваю чаргу Лявон Рыдлеўскі патлумачыў, што згада-

[18] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Notatka F. Królikowskiego o rozmowach z M. Abramczykiem, z 19 czerwca 1947 r.

ную публікацыю належыць разглядаць як рэакцыю на ігнараваньне польскай прэсай беларускай справы. Адначасова рэдактар запэўніў польскага калегу, што ў далейшым будзе намагацца друкаваць матэрыялы, якія адпавядалі б духу польска-беларускага супрацоўніцтва. Падчас чарговай размовы паміж Крулікоўскім і Абрамчыкам, беларускі лідар заявіў, што ён адчувае сур'ёзную патрэбу выданьня пяці кніжак па беларускай гісторыі, літаратуры й мовазнаўстве, у тым ліку, граматыкі й чытанкі. У сувязі з гэтым ён зьвярнуўся з просьбай да Крулікоўскага, каб той паспрыяў атрыманьню адпаведнай пазыкі ад польскага боку. Пры гэтым Абрамчык выказаў меркаваньне, што продаж гэтай літаратуры цалкам рэкампэнсуе выдавецкія выдаткі. Пасьля шэрагу сустрэчаў з Прэзыдэнтам БНР, Крулікоўскі зрабіў спробу ўсталяваць сувязь зь беларускімі эмігрантамі ў ЗША. Мэтай гэтай акцыі было недапушчэньне савецкіх уплываў на беларускае эміграцыйнае асяродзьдзе[19].

Польска-беларускія перамовы мелі свой працяг улетку 1947 г. у Лёндане. Пасьля ўступных размоваў з прадстаўнікамі польскага ўраду ў Парыжы, Прэзыдэнт БНР вырашыў наведаць Брытанскія выспы, каб асабіста сустрэцца з польскімі палітыкамі. Мікола Абрамчык разьлічваў на тое, што перамовы спрычыняцца да пачатку шчыльнага супрацоўніцтва паміж польскім і беларускім незалежніцкімі лягерамі. Візыт у Лёндан праходзіў у пэрыяд з 10 ліпеня да 6 жніўня 1947 г. У гэтым часе адбыўся шэраг афіцыйных і неафіцыйных сустрэчаў з польскімі эміграцыйнымі палітыкамі, у тым ліку зь міністрам Адамам Тарноўскім, генэральным сакратаром МЗС Тадэвушам Гвяздоўскім, міністрам веравызнаньняў і народнай асьветы Ўладыславам Фалькерскім, міністрам унутраных справаў Сігізмундам Беразоўскім, а таксама іншымі дзеячамі (Станіславам Строньскім і Станіславам Папроцкім). Асабліва важнай была размова са старшынём Рады міністраў ген. Тадэвушам Бур-Камароўскім, ген. Станіславам Капаньскім, ген. Уладыславам Андэрсам і ген. Казімежам Вісьнёўскім[20]. Падчас некаторых сустрэчаў з польскімі дзеячамі Міколу Абрамчыка суправаджалі таксама Вінцэнт Жук-Грышкевіч і а. Часлаў Сіповіч. Беларускі бок прасіў аказаць матэрыяльную дапамогу беларускім уцекачам у Нямеччыне. У выніку міністар Сігізмунд Беразоўскі згадзіўся прызнаць беларусам

[19] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Notatka F. Krylikowskiego o rozmowach z M. Abramczykiem, z 19 czerwca 1947 r.

[20] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Notatka z pobytu Prezydenta BRL Mikoiaja Abramczyka w Londynie od 10 lipca 1947 do 6 sierpnia 1947 r.

крэдыт у памеры 350—400 брытанскіх фунтаў, які павінен быць выплачаны ў Лёндане ці Парыжы. Апрача таго, польскі бок абавязаўся перадаць беларускім камітэтам у Нямеччыне 30 тыс. папяросаў. Складана меркаваць, ці гэтыя дамоўленасьці былі выкананыя ў поўнай меры. Ведама, што ў лістападзе 1947 г. Мікола Абрамчык сапраўды атрымаў 350 фунтаў. Тым часам, пытаньне перадачы беларускім *DP* 30 тыс. папяросаў была прадметам дыскусіі на паседжаньні Камітэту па нямецкіх справах пры Радзе міністраў, якое адбылося 20 красавіка 1948 г. Акрамя таго, пытаньне разглядалася падчас паседжаньня Рады міністраў 23 ліпеня 1948 г., але канктрэтнае рашэньне не было тады прынятае. Ёсьць зьвесткі, што польскі эміграцыйны ўрад перадаў 10 тыс. папяросаў генэральнаму консулу ў Мюнхене, але зь нявысьветленых прычынаў яны не былі выкарыстаныя згодна з прызначэньнем[21].

Вяртаючыся да вышэйзгаданага візыту Міколы Абрамчыка ў Лёндан, неабходна адзначыць, што падчас разьвітальнай сустрэчы 8 жніўня міністар Адам Тарноўскі ўручыў яму ліст, дзе выказваў надзею на ўдалы працяг супрацоўніцтва[22]. У сваю чаргу, Прэзыдэнт БНР таксама перадаў

---

[21] IPMS. Sygn. A.11E.1110. Notatka w sprawie 30000 papierosyw dla organizacji białoruskich w Niemczech, z 29 września 1948 r.

[22] У гэтым лісьце чытаем: *„Ваша знаходжаньне тут зрабіла магчымым працяг перамоваў, якія былі намі распачатыя ў траўні мінулага году ў Парыжы. Мне здаецца, што яны могуць мець значэньне дзеля пасьпяховасьці разьвіцьця будучых адносінаў паміж Польшчай і Беларусьсю. Падчас гэтых перамоваў мы зрабілі выснову, што лёсы абодвух нашых народаў вельмі шчыльна зьвязаныя паміж сабою, а таксама нямецкі й маскоўскі імпэрыялізмы ствараюць пастаянную пагрозу для іх незалежнасьці. Мы верым, што без вольнай Польшча немагчыма існаваньне незалежнай беларускай дзяржавы, а без вольнай Беларусі — бясьпека Польшчы заўсёды будзе знаходзіцца пад пагрозай. Нашыя перамовы ўмацавалі нас у перакананьні, што ў імкненьні да волі і ў нашым змаганні за незалежнасьць мы павінны па-братэрску падтрымоўваць адзін аднаго і ў адносінах да іншых народаў сьвету, мы павінны пастаянна выступаць разам і салідарна. Мы згаджаемся таксама ў тым, што будзем з усіх сілаў намагацца, каб стварыць шчыльны палітычны, гаспадарчы й культурны саюз паміж краінамі Цэнтральна-Усходняй Эўропы. Я магу запэўніць вас, што ўрад Польшчы, кіруючыся сфармаванымі вышэй меркаваньнямі, будзе па меры сваіх магчымасьцяў падтрымоўваць беларускую незалежніцкую акцыю, кіраваную спадаром Прэзыдэнтам, і супрацоўнічаць з адпаведнымі беларускімі арганізацыямі ў справе абароны матэрыяльных умоваў жыцьця, а таксама палітычных і культурніцкіх* ⇨

польскаму калегу ліст, у якім было спадзяваньне, што гэтае супрацоўніцтва прынясе свае карысныя вынікі для абодвух бакоў і распачатыя перамовы стануць у будучыні гарантыяй добрасуседзкіх адносінаў ды дапамогуць выпрацаваць супольную пазыцыю на міжнароднай арэне[23].

Трэба, аднак, сказаць, што пагадненьне не было вельмі выніковым. Нягледзячы на тое, што адыбыўся абмен лістамі, гэтыя дзеяньні мелі пераважна сымбалічны характар. Міністар Адам Тарноўскі, які лічыў неабходным падтрымоўваць шчыльныя кантакты зь беларускімі незалежнікамі, ня меў шырокай падтрымкі сярод польскіх эміграцыйных палітыкаў. Частка міністраў вельмі адмоўна паставілася да зьместу ліста Тарноўскага й адкрыта выказвалася супраць таго, што ён уручыў яго ад імя ўраду, хоць, на іх думку, гэты дакумэнт адлюстроўваў толькі ўласныя погляды міністра. Перамовы зь Міколам Абрамчыкам зрабілі рознае ўражаньне на асобных членаў ураду. Далёка ня ўсе падзялялі пункт гледжаньня Адама Тарноўскага, уважаючы яго занадта аптымістычным. Так, напрыклад, міністар грамадзкай адміністрацыі Станіслаў Сапоцкі сьцьвярджаў пра неабходнасьць зазначаць у такога кшталту дакумэнтах, што польскі ўрад не прызнае ніякіх зьменаў, у першую чаргу тэрытарыяльных, якія адбыліся ў выніку вайны. Таксама міністар веравызнаньняў і асьветы Уладыслаў Фалькерскі разглядаў беларускае пытаньне выключна як нутраную справу Польшчы й таму скептычна

⇨ *інтарэсаў беларускай эміграцыі, асабліва на тэрыторыі міжнародных дапамогавых установаў“* (IPMS. Sygn. A.11E.1110. List ministra A. Tarnowskiego do prezydenta BRL M. Abramcyzka, z 6 sierpnia 1947 r.).

[23] У лісьце Мікола Абрамчык пісаў: *„Я перакананы, што шчыльны саюз вольнай і моцнай Беларусі з вольнай і моцнай Польшчай будзе стрыжнем іх самастойнага быту й змусіць суседзяў да шанаваньня іх правоў. Гісторыя сьведчыць, што нямецкі й расійскі імпэрыялізм у адносінах да нашых суседзяў старанна выкарыстоўваў усялякія непаразуменьні паміж намі. Я вельмі рады, што ўрад Польшчы гатовы аказаць дапамогу беларускай незалежніцкай акцыі й супрацоўнічаць зь беларускімі арганізацыямі на чужыне. Несумненна, што гэта спрычыніцца да большага ўзаемнага зразуменьня й сяброўства. Я перакананы, што вынікі, якіх нам удалося дасягнуць падчас перамоваў і якія тычацца канкрэтнага супрацоўніцтва будуць прынятыя з задавальненьнем Урадам і Радай Беларускай Народнай Рэспублікі й будуць разгледжаныя як першы этап беларуска-польскага зьбліжэньня. Са свайго боку зраблю ўсё, што будзе ў маёй моцы, каб гэтае супрацоўніцтва пашыралася й паглыблялася“* (IPMS. Sygn. A.11E.1110. List prezydenta BRL M. Abramczyka do ministra A. Tarnowskiego, z 6 sierpnia 1947 r.).

ставіўся да наданьня перамовам зь Міколам Абрамчыкам міжнароднага характару. Ён лічыў рэччу вельмі непажаданай *„убіваньне ў галовы“* беларусам незалежніцкіх лёзунгаў і зьвяртаў увагу на небясьпеку тэрытарыяльных прэтэнзіяў зь іхняга боку. На яго думку, падкрэсьліваньне гатоўнасьці да разьбіцьця СССР на нацыянальныя дзяржавы не дапаможа польскаму боку ў стасунках зь іншымі краінамі[24].

На характар польска-беларукіх узаемадачыненьняў на чужыне паўплываў раскол на „крывічоў“ і „зарубежнікаў“, што адбыўся ў асяродзьдзі беларускай эміграцыі ў 1947—1948 гг. За ходам расколу й ягонымі наступствамі сачылі многія польскія палітычныя дзеячы. Трэба падкрэсьліць, што польскія эмігранты глядзелі на нутраныя спрэчкі беларусаў выключна праз прызму інтарэсаў Рады БНР. Прэса й друк бэнээраўцаў былі, бадай, асноўнай крыніцай, зь якой польскія эміграцыйныя дзеячы атрымоўвалі зьвесткі пра сутнасьць і зьмест палітычнага расколу беларускага замежжа. Уяўленьне польскіх дзеячоў пра погляды й дзейнасьць палітычных апанэнтаў Міколы Абрамчыка фармавалася пад уплывам інфармацыі, якую падавала бээнэраўская прэса. Гэты факт не павінен зьдзіўляць, бо менавіта лягер Рады БНР, а не БЦР, падтрымоўваў шчыльныя стасункі з польскай эміграцыяй. У справаздачах і рапартах польскіх дзеячаў нярэдка можна знайсьці цэлыя фрагмэнты з выданьняў прыхільнікаў Міколы Абрамчыка — газэтаў „Беларускія навіны“ (Парыж), „Беларус на чужыне“ (Лёндан), „Бацькаўшчына“ (Мюнхен). Пры гэтым пазыцыя Радаслава Астроўскага й ягоных паплечнікаў цалкам адсутнічала. Польскі прадстаўнік, які браў удзел у паседжаньні Міжнароднага камітэту выгнанцаў лягераў *DP* (6 чэрвеня 1948 г.), паведамляў наступнае: *„Беларуская група вядзе цяжкую ўнутраную барацьбу з русафільскай дывэрсіяй, якой кіруюць былы нямецкі калябарант Астроўскі, віленскі дырэктар гімназіі [...] Прыхільнікі гэтага руху здолелі ў некаторых беларускіх лягерах ахапіць сваім уплывам да 30% насельнікаў. Прэзыдэнт „Беларускай Нацыянальнай Рады“ М. Абрамчык, які знаходзіцца пад польскім уплывам, назваў гэтую зьяву пераходнай, але, тым ня менш, зьвяртаецца да палякаў з просьбаю пра ўзаемадзеяньне й дапамогу ў польскіх лягерах, дзе жывуць і беларусы“*[25]. Падобнае стаўленьне польскіх

[24] Tarka, K. Emigracyjna dyplomacja. Polityka zagraniczna Rządu RP na Uchodźstwie, 1945—1990. Warszawa 2003. S. 105—106.

[25] IPMS. Sygn. A.11.E.1158. Raport z posiedzenia Międzynarodowego komitetu uchodźców politycznych i DP w Niemczech z 6 czerwca 1948 r.

палітыкаў да канфлікту паміж „крывічамі“ й „зарубежнікамі“ назіралася ня толькі ў Эўропе, але і ў Паўночнай Амэрыцы. Прадстаўнік польскага эміграцыйнага ўраду ў ЗША ў 1951 г. паведамляў: *„Сярод беларусаў адбываецца барацьба паміж урадамі Абрамчыка й Астроўскага. Гэты нутраны раскол беларусаў прывёў да таго, што паездка Абрамчыка ў 1950 г. у ЗША, у арганізацыйным пляне зусім не безвыніковая, не прынесла большага плёну, паколькі амэрыканскія літоўцы падтрымліваюць кантакт з Астроўскім“*[26].

Прыхільнікі Рады БНР па зразумелых прычынах падчас перамоваў з польскім бокам спрабавалі прадставіць польскім калегам фігуру Радаслава Астроўскага й БЦР у як мага найгоршым сьвятле. Прадстаўнікі Рады БНР, жадаючы выглядаць у вачах міжнароднай думкі адзіным законным беларускім палітычным прадстаўніцтвам у эміграцыі, ствaралі вобраз сваёй арганізацыі як сілы, якая супрацьстаіць дзеяньням *„расейскіх дывэрсантаў і камуністычных агентаў“*, накіраваным супраць цэласнасьці беларускага руху ў эміграцыі. Пад уплывам зьвестак, якія польскі бок атрымоўваў з крыніцаў Рады БНР, у палякаў склалася думка пра БЦР як пра *„зацяты антыпольскі элемэнт“*, *„беларускіх квісьлінгаў“* і *„калябарантаў зь нямецкімі ўладамі“*[27]. Нярэдка можна сустрэць таксама меркаваньне пра БЦР як пра дывэрсію на карысьць чырвоных і белых расейцаў. У якасьці доказу дзейнасьці „астроўшчыкаў“ на карысьць расейцаў найчасьцей прыводзіўся прыклад, што БЦР не хацела падтрымаць рэактывацыю на чужыне Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, якая ўзьнікла пры дапамозе прыхільнікаў Рады БНР[28]. Пад уплывам Міколы Абрамчыка ў сьвядомасьці польскіх эміграцыйных дзеячоў умацавалася пераканаНьне, што Радаслаў Астроўскі — гэта *„русафільскі дывэрсант“*, які імкнецца да беларуска-расейскага зьбліжэньня[29]. Адначасова не найлепшую рэпутацыю ў вачох польскіх дзеячаў мелі й найбліжэйшыя паплечнікі Прэзыдэн-

[26] IPMS. Sygn. A.11.E.1174. Ref. „Zagadnienie Środkowo-Wschodniej Europy na Emigracji (wrzesień 1949—kwiecień 1951)“.

[27] IPMS. Sygn. A.11.E.873. Ref. „Naczelne organizacje polityczne wśród emigracji z krajów Środkowo-Wschodniej Europy“.

[28] IPMS. Sygn. A.11.E.1110. Sprawozdanie S. Paprockiego z przebiegu rozmów z M. Abramczykiem w Paryżu z 12 траўн˙ 1948 r.

[29] IPMS. Sygn. A.11.E. M. Grabińskiego do Ambasady RP w Paryżu z dn. 20 listopada 1948 r.; IPMS. Sygn. A.11.E.1110. Sprawozdanie S. Paprockiego z przebiegu rozmów z M. Abramczykiem w Paryżu z 12 maja 1948 r.

та БЦР, а перадусім Юры Сабалеўскі й Васіль Рагуля[30] . Трэба прызнаць, што вышэйзгаданыя абвінавачаньні былі значным перабольшваньнем. Радаславу Астроўскаму й ягоным прыхільнікам не былі ўласьцівыя прарасейскія настроі. Па сутнасьці прадстаўнікі Рады БНР сьвядома ўводзілі ў зман сваіх польскіх партнёраў па перамовах, прыпісваючы дзеячам БЦР прарасейскія погляды й дэструктыўныя намеры. Побач з выразна адмоўнай ацэнкай Радаслава Астроўскага ў польскіх рапартах, аднак, адзначалася, што гэты палітык карыстаецца падтрымкай часткі эмігрантаў, асабліва моладзі, якая перакананая, што падчас адступленьня нямецкіх войскаў зь Беларусі ўлетку 1944 г. менавіта ён здолеў вывесьці на Захад беларускія вайсковыя фармаваньні й тым самым спрычыніўся да выратаваньня тысячаў беларусаў ад сталінскай няволі[31] .

У адрозьненьне ад палітыкаў, засяроджаных вакол Рады БНР, кіраўнікі БЦР не рабілі спробаў наладжваньня супрацоўніцтва з польскай палітычнай эміграцыяй. Варта задаць пытаньне: чаму Радаслаў Астроўскі ня здолеў атрымаць давер польскай эміграцыі на Захадзе? Здаецца, што прэзыдэнт БЦР і ягонае акружэньне ня бачылі патрэбы ў кантактах з польскім урадам у эміграцыі. Квінтэсэнцыяй замежнай палітыкі лягера БЦР стала нежаданьне перамоваў з польскім бокам. Прыхільнікі Радаслава Астроўскага з пагардай ставіліся да праектаў „Міжмор'я", называючы іх *„папяровымі"*. Жэсты некаторых польскіх палітыкаў на эміграцыі ў адносінах да беларусаў успрымаліся імі выключна як своеасаблівы наркоз, які павінен быў усыпіць чуйнасьць і пільнасьць беларускага боку. Адным з галоўных бэцээраўскіх абвінавачаньняў на адрас Рады БНР была прыпісваная камандзе Міколы Абрамчыка падатлівасьць і памяркоўнасьцьперад польскім эміграцыйным урадам. Прыхільнікі Астроўскага лічылі, што пагадненьне Рады БНР з палякамі магчымае толькі коштам беларускіх інтарэсаў. Таму прапаганда БЦР кпіла з палітыкі Міколы Абрамчыка, накіраванай на паразуменьне з польскай эміграцыяй, а сам Прэзыдэнт БНР разглядаўся як пешка ў чужой гульні. Любыя кантакты яго з прадстаўнікамі польскага боку ўспрымаліся БЦР як здрада беларускім дзяржаўным інтарэсам. У колах „астроўшчыкаў" хадзіла нават плётка, якая

---

[30] IPMS. Sygn. A.11.E.1110. List S. Poprockiego do MSZ w sprawie rozmowy z M. Abramczykiem z dn. 12 maja 1948 r.

[31] IPMS. Sygn. A.11.E.1110. Sprawozdanie S. Poprockiego z odbytych 22 i 26 kwietnia 1948 r. rozmów z M. Abramczykiem, 12 maja 1948 r.

прыпісвала Прэзыдэнту БНР выказваньне, быццам ён *„не збіраецца змагацца з палякамі за два ці тры беларускія паветы“*.

9 траўня 1948 г. БЦР прыняла рэзалюцыю, якая тычылася кантактаў Міколы Абрамчыка з польскай эміграцыяй. Імкненьне дзеяча да паразуменьня з палякамі акрэсьлівалася як вынік палянізацыйнай палітыкі сярод беларусаў[32]. У адозьве чатырох прабэцээраўскіх партыяў да беларускай эміграцыі 23 красавіка 1949 г. хапала закідаў пад адрасам „крывічоў“. У дакумэнце падкрэсьлівалася, што польскі эміграцыйны ўрад імкнецца да разьбіцця адзінства беларускага лягеру, выкарыстоўваючы для гэтага *„крывіцкіх агентаў“*. Аўтар артыкулу, зьмешчанага ў „Беларускай волі“ пераконваў, што Прэзыдэнт БНР дарэмна шукае падтрымкі сярод польскіх эмігрантаў[33]. Закіды бэцээраўцаў, нібыта Мікола Абрамчык жадае далучыць беларускія землі да польскай дзяржавы, былі настолькі гучныя, што прыхільнікі Рады БНР мусілі тлумачыцца на старонках сваёй прэсы[34].

Што сталася прычынай такога адмоўнага стаўлення лідара БЦР да польска-беларускага супрацоўніцтва? Рызыкнем выказаць меркаваньне, што такая пазыцыя ў пэўнай ступені тлумачылася непрыемным досьведам Прэзыдэнта БЦР з ранейшага супрацоўніцтва з польскім бокам. Усе ягоныя спробы перамоваў як у міжваенны пэрыяд, гэтак і падчас Другой сусьветнай вайны скончыліся нічым. У многіх польскіх дзеячаў прозьвішча Радаслава Астроўскага й яго паплечнікаў небеспадстаўна атаясамлялася зь бясслаўнымі палітычнымі авантурамі міжваеннага часу. З пункту гледжаньня некаторых польскіх эмігрантаў, дзеяч не заслугоўваў даверу, бопаказаў сябе як бальшавіцкі, а потым нямецкі калябарант[35]. Радаслаў Астроўскі разумеў, што ня мае добрай рэпутацыі ў лягеры польскай палітычнай эміграцыі, а таму палічыў за лепшае не рабіць спробаў паразумецца зь ёю. Апрача таго, на стаўленьне БЦР да польскіх дзеячоў паўплывала й тое, што Мікола Абрамчык першы пачаў супрацоўнічаць з польскімі эмігрантамі й для Астроўскага на гэтым полі ўжо не было месца.

У той час, калі прыхільнікі БЦР былі крытыкаваныя польскімі эмігрантамі, чальцы Рады БНР разглядаліся як патэнцыйныя хаў-

---

[32] Змаганьне. 05.08.1948. С. 8—9.

[33] Беларуская Воля. 28.10.1948.

[34] Змаганьне. 05.08.1948. С. 10.

[35] IPMS. Sygn. A.9.V.18. Referat oficera — kierownika ekspozytury wileńskiego oddziału II generalnego (głównego) sztabu WP, marzec 1944 r.

русьнікі. З карэспандэнцыі польскіх эміграцыйных дзеячаў у ЗША вынікае, што добрую рэпутацыю сярод іх меў Станіслаў Станкевіч. Падкрэсьліваліся ягоныя інтэлектуальныя й палітычныя якасьці. У асобе Станкевіча некаторыя дзеячы амэрыканскай палёніі адкрывалі цалкам новы вобраз беларускай незалежніцкай эміграцыі й інтэлектуальнай эліты. Напрыклад, Ю. Вшэлякі пісаў: *„гэта першы сапраўдны беларус у Амэрыцы [...] з фармальнага пункту гледжаньня Станкевіч належыць да польскай групы інтэлектуалістаў у Амэрыцы“*[36]. Дзякуючы кс. Друцкаму-Любэцкаму, Станкевіч усталяваў кантакты зь мясцовым уплывовым каталіцкім духавенствам.

Разам з тым сур'ёзныя засьцярогі польскіх эміграцыйных палітыкаў выклікалі кантакты Рады БНР зь дзеячамі АУН-Бандэры. Беларусы мелі сваіх прадстаўнікоў у Антыбальшавіцкім блёку народаў (АБН), які быў створаны пад эгідай АУН-Бандэры. Лічылася неабходным адвесьці беларускі лягер ад шчыльных кантактаў з гэтай украінскай групай[37]. Зрэшты, сам Мікола Абрамчык ня квапіўся на супрацоўніцтва з АУН-Б, лічыў тых палітыкаў за *„публіку мала салідную“*[38]. Як вынікае з прыватнага ліставаньня Прэзыдэнта БНР, ён лічыў менавіта польскі эміграцыйны ўрад за адзінага верагоднага партнёра. Ягоныя сымпатыі тлумачыліся таксама й тым, што польскі бок пасьлядоўна прызнаваў Раду БНР за адзіную правамоцную беларускую палітычную рэпрэзэнтацыю на эміграцыі й адмаўляўся ад ўсялякіх кантактаў з „астроўшчыкамі“[39].

Нягледзячы на досыць удалы пачатак перамоваў у Парыжы й Лёндане, яны ня сталіся значным імпульсам да актыўнага супрацоўніцтва. У 1950 і 1952 гг. Мікола Абрамчык зноўку наведаў Лёндан. Сустрэчы з польскімі палітыкамі не прынесьлі, аднак, пераломy. Паміж польскімі й беларускімі эмігрантамі хапала палітычных разыходжаньняў. На думку некаторых польскіх эміграцыных дзеячаў, справа шчыльнага паразуменьня зь беларускім незалежніцкім лягерам была справай вельмі складанай, таму што ўтварэньне незалежнай беларускай дзяржавы магло адбыцца выключна праз распад СССР на нацыянальныя дзяржавы, а ўдзел у гэтым працэсе Польшчы разглядаўся імі як не-

[36] IPMS. Sygn. A.11E.1110. List J. Wszelakiego, z 15 sierpnia 1949 r.

[37] IPMS. Sygn. A.11E.874. Zasięg współpracy polityki polskiej z narodami Europy Środkowo-Wschodniej, brak daty.

[38] Гардзіенка Наталля; Юрэвіч Лявон. Рада БНР (1947 — 1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. С. 465.

[39] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947 — 1970)... С. 453.

пажаданы[40]. Да найбольш спрэчных момантаў ва ўзаемадачыненьнях належыла пытаньне дзяржаўнай прыналежнасьці паўночна-ўсходніх земляў даваеннай польскай дзяржавы.

Восеньню 1948 г. Станіслаў Станкевіч на паседжаньні клюбу „Міжмор'я" ў Мюнхене закрануў пытаньне будучай польска-беларускай мяжы, што было з насьцярогай успрынята польскімі дэлегатамі. Гэты ж дзеяч на старонках газэты „Бацькаўшчына" часта зьвяртаўся да праблематыкі межаў. У адным са сваіх артыкулаў ён намагаўся аспрэчыць праўна-міжнародныя й гістарычныя аргумэнты польскага боку. Падагульняючы дыскусію аўтар адзначаў: *„Мы здаём сабе дакладна справу зь неабходнае патрэбнасьці ўпарадкаваньня беларуска-польскіх узаемадачыненьняў, што ляжыць ня толькі ў нашых інтарэсах, але і ў рознай меры і ў інтарэсах польскага народу. Бясспрэчным ёсьць факт, што разьвязаньне ў будучыні пытаньня гаспадарстваўскай незалежнасьці і ўлажэньня мэтазгодных міжгаспадарстваўскіх дачыненьняў народаў сярэдня-усходняй Эўропы будзе ў вялікай меры залежыць ад таго, як уложацца беларуска-польскія ўзаемадачыненьні. Мы не замыкаем вачэй на ўсе цяжкасьці гэтае праблемы, разумеем аднак, што яны для дабра двух суседніх народаў, якія маюць і будуць мець многа супольных інтарэсаў, мусяць быць пераможаныя. Нашае становішча ў гэтай справе зьяўляецца ясным. Мы імкнёмся да вольнай і незалежнай Беларусі на нашых этнаграфічных землях, бо гэта ёсьць нашым агульнанародным імкненьнем і нашым незапярэчным правам, згодным з усімі дэмакратычнымі прынцыпамі й з міжнароднымі пастановамі аб пашанаваньні волі чалавека й народаў. Хочам таксама, каб і палякі выявілі сваё становішча ў гэтай справе ў духу тых-жа самых прынцыпаў і ідэяў"*[41]. У сувязі з вострымі выступамі беларускага дзеяча, Станіслаў Папроцкі накіраваў ліст да Міністэрства замежных справаў, у якім пісаў: *„Вельмі непрыемную пазыцыю займаюць беларусы, а найбольш Станкевіч, які падымае шырокі розгалас вакол этнічнага прынцыпу, акрамя таго, ён хлусьліва заявіў у „Бацькаўшчыне", быццам бы дэклярацыя Мюнхенскага клюбу не была прынятая аднагалосна й зь ягонай згоды, а другая частка дэклярацыі была адтэрмінаваная. Я напісаў яму наконт гэтага ліст, але ня ведаю, чаму ён такі зацяты"*[42].

---

[40] Akcja niepodległościowa na terenie międzynarodowym 1945—1990. Londyn, 1999. S. 197—198.

[41] Каранеўскі, Я. Нашае становішча яснае // Бацькаўшчына. 14.11.1948.

[42] IPMS. Sygn. A.11.E.873. List S. Paprockiego do MSZ z dn. 13 października 1948 r.

Можна меркаваць, што трывалае паразуменьне паміж эмігрантамі было рэальнае толькі пры ўмове незакрананьня справы дзяржаўнай прыналежнасьці земляў, якія лічыліся спрэчнымі тэрыторыямі. Для абодвух бакоў было гэта вельмі балючае й далікатнае пытаньне. Прыхільнікі супрацоўніцтва з абодвух лягераў дзеля агульнага добра намагаліся асьцярожна абмінаць гэтую справу падчас перамоваў. Яскрава сьведчыць пра гэта нават вышэйзгаданая польска-беларуская дэклярацыя 1947 г., дзе пытаньне мяжы практычна не ўздымалася. Разам з тым як адны, так і другія, цудоўна разумелі, што раней ці пазьней патрэбна будзе вярнуцца да балючага пытаньня. Польскі эміграцыйны ўрад непахісна стаяў на пазыцыі захаваньня Рыскай мяжы. Гэта азначала, што выключалася якая-колечы магчымасьць перагляду тэрытарыяльнага пытаньня[43]. У сваю чаргу, для беларускіх дзеячаў такі падыход быў недапушчальны. Як адны, так і другія не ўяўлялі сваіх дзяржаваў без разгляданых тэрыторыяў.

У сувязі з згаданымі разыходжаньнямі не павінен зьдзіўляць факт, што як адны, так і другія на бачынах сваёй прэсы нярэдка вельмі востра рэагавалі на разнастайныя праявы дзейнасьці, якія тычыліся тэрытарыяльнага пытаньня. Хваляваньні й эмоцыі з абодвух бакоў часамі маглі выклікаць нават найдрабнейшыя рэчы. Так, напрыклад, у сакавіку 1950 г. беларускі сьвятар а. Леў Гарошка скіраваў да польскай рэдакцыі французскага радыё ліст, у якім выказваў сваё незадавальненьне з нагоды таго, што ў адной зь перадачаў прагучала інфармацыя пра Вільню як польскі горад[44]. Беларускія эмігранты асабліва крытыкавалі выданьні *„Wilno i Lwyw“* і *„Муњl Polska“*. Дзеячы падкрэсьлівалі, што Рыскі мір для беларусаў зьяўляецца тым, чым для польскага боку пакт Рыбэнтропа — Молатава. Зь гледзішча беларускіх эмігрантаў, у пазыцыі польскага эміграцыйнага лягеру існавала спрэчнасьць, бо імкненьне да стварэньня цэнтральна-ўсходняй фэдэрацыі й імкненне захаваць Рыскую мяжу, на іх думку, былі ўзаемнавыключальныя. Таму нярэдка ставілася пад сумнеў шчырасьць польскіх калегаў у жаданьні пасьпяховага разьвязаньня польска-беларускіх спрэчных пытаньняў. Беларускія

[43] Danel, J. Stanowisko władz Rzeczypospolitej Polskiej na uchodźstwie w Londynie, wobec problemów Kresów Wschodnich i porozumienia polsko-ukraińskiego w latach 1976—1989 // Przeszłość, teraźniejszość i przyszłość Polaków na Wschodzie. Gorzów Wlkp., 2001. S. 541.

[44] Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны (ББФС). Калекцыя а. Л. Гарошкі (Парыж).1. Ліст а. Л. Гарошкі да рэдактара польскай сэкцыі французскага радыё ад 02.03.1950.

дзеячы лічылі, што польскі бок паводзіць сябе непасьлядоўна абараняючы захаваньне Рыскай мяжы й адначасова падтрымоўваючы ўстанаўленьне новай мяжы на захадзе[45].

У сваю чаргу тэрытарыяльныя амбіцыі беларускіх незалежнікаў таксама не маглі не раздражняць польскі бок[46]. Гучным рэхам сярод польскай эміграцыі адбілася рэзалюцыя Рады БНР, прынятая ў чэрвені 1948 г., пра тое, што беларускі бок ня толькі не выступае супраць далучэньня „забужаньскіх“ тэрыторыяў да Савецкай Беларусі, але яшчэ лічыць патрэбным далучэньне Кёнігсбэргу да БССР у якасьці рэкампэнсацыі за панесеныя беларускім народам падчас вайны страты. У гэтым жа дакумэньце адзначалася, што дзяржаўныя межы беларускай дзяржавы мусяць вызначацца на падставе этнічнага характару тэрыторыі. Гэты крок быў успрыняты некаторымі польскімі палітыкамі на эміграцыі як пачатак зьменаў да горшага ў польска-беларускіх стасунках. Каб не выклікаць вэрхалу, прыхільнікі супрацоўніцтва зь беларускім лягерам пастанавілі не агучваць гэтае падзеі ў польскай прэсе, але грунтоўна паразмаўляць зь Міколам Абрамчыкам і пераканаць яго ў тым, што падобныя інцыдэнты могуць адмоўна адбіцца на польска-беларускіх узаемадачыненьнях, а пагаршэньне стасункаў перадусім не адпавядае інтарэсам беларускага боку. Таксама рабіліся захады, каб у польскай эміграцыйнай прэсе не зьяўляліся артыкулы, якія б раздражнялі беларускіх дзеячаў[47]. Прыхільнікі фэдэрацыйнай канцэпцыі ў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе цанілі высілкі Абрамчыка, які імкнуўся да польска-беларускага зьбліжэньня. У сувязі з гэтым апэлявалі да іншых палітыч-

---

[45] Каранеўскі, Я. Імпэрыялістычныя пасяганьні палякаў // Бацькаўшчына. 03.02.1952.

[46] Сярод польскіх палітыкаў на эміграцыі абмяркоўваўся артыкул „Чаго ж Вам, панове, захацелася“, які быў апублікаваны ў чэрвені 1948 г. у газэце „Беларус на чужыне“. Аўтар публікацыі сьцвярджаў, што польскі эміграцыйны ўрад мусіць займацца змаганьнем з бальшавізмам, які паняволіў ягоную краіну, а ня марыць пра далучэньне „чужых земляў“. Ініцыятывы крэсавых дзеячаў называліся *„акцыяй асаднікаў і абшарнікаў“*. Дэкляравалася, што толькі ўрад БНР і беларускі народ самі вырашаць лёс сваёй зямлі й абароняць іх перад іншаземцамі. Аўтар выказваў таксама меркаваньне, што іншыя народы рэгіёну падтрымаюць імкненьне беларускіх незалежнікаў да абароны тых земляў. IPMS. Sygn. A.11E.1110. Tłum. z jęz. białorus. art. pt. „Czegóż to się Wam zachciело, Panowie“; „Biełarus na čużynie“ 1948, nr 11.

[47] IPMS. Sygn. A.11E.1110. List Cz. Kukiela do W. Grzybowskiego, z 25 sierpnia 1948 r.

ных сілаў на эміграцыі, каб яны ўстрымаліся ад непатрэбных дэклярацыяў і акцыяў, якія б маглі папсаваць польска-беларускія кантакты[48].

Заслугоўвае ўвагі яшчэ адзін выпадак. 25 сакавіка 1954 г. у 36-ю гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці БНР Прэзыдэнт Мікола Абрамчык даў інтэрвію газэце *„The Daily Telegraph"*, у якім становіча ацаніў палітыку лёрда Керзана ў пытаньні дзяржаўнай мяжы з Польшчай. Рэакцыя польскіх эміграцыйных дзеячаў ня змусіла сябе доўга чакаць. 27 сакавіка 1954 г. у лёнданскай газэце *„Dziennik Polski i Dziennik Żołnierza"* выйшаў артыкул аўтарства Станіслава Дыгата —своесаблівы адказ на выступ Міколы Абрамчыка. Польскі аўтар крытычна ацаніў заяву Прэзыдэнта БНР, сьцьвярджаючы, што беларускае стаўленьне да лёрда Керзана цалкам неабгрунтаванае, бо, вызначаючы сваю лінію, брытанскі палітык перадусім бачыў у ёй польска-расейскую мяжу, а пра існаваньне беларусаў нічога нават і ня ведаў[49].

Некаторыя дасьледнікі лічаць прычынай таго, што польскі эміграцыйны ўрад не выказваў вялікага зацікаўленьня актыўнымі кантактамі зь беларускай палітычнай рэпрэзэнтацыяй на чале зь Міколам Абрамчыкам, ціск з боку эміграцыйных грамадзка-палітычных цэнтраў, у першую чаргу прадстаўнікоў інтэлігенцыі, што былі аб'яднаныя ў Саюзе ўсходніх земляў[50]. Характэрнай рысай гэтай групы дзеячаў была бескампрамісовасьць у пытаньнях непарушальнасьці Рыскай мяжы. Дзеячы Саюзу зь вялікай увагай сачылі за ходам перамоваў урадавых колаў зь беларускімі прадстаўнікамі, якія адкрыта альбо ўскосна выказвалі свае прэтэнзіі да гэтых абшараў. Сярод сябраў Саюзу існаваў непакой, што ў імкненьні ўраду да пошуку кампрамісу зь беларускімі дзеячамі можа быць пастаўленая пад удар тэрытарыяльная цэласнасьць краіны. У 1948 г. дзеячы Саюзу выступілі з прапановай стварэньня Фонду абароны ўсходніх земляў, а год раней была зробленая спроба дамагчыся ад ураду стварэньня Міністэрства адарваных земляў. Са згаданых вышэй прычынаў гэта выклікала адмоўную рэакцыю беларускага лягеру[51]. Дзеячы Саюзу добра разумелі: нават калі беларускі бок

[48] IPMS. Sygn. A.11E.874. Zasięg współpracy polityki polskiej z narodami Europy Środkowo-Wschodniej, brak daty.

[49] IPMS. Sygn. A.11.E.1110. Artykuł St. Dygata „Czyja granica" z dn. 27 marca 1954 r.

[50] Gotowiecki, P. Polskie emigracyjne środowiska kresowe wobec Białorusinów i problemu białoruskiego (1941—1954) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. №39. 2013. S. 227.

[51] Gotowicki, P. O Polskę z Wilnem i Lwowem. Związek Ziem Północno-Wschodnich RP (1942—1955). Warszawa, 2012. S. 145, 167.

намагаецца падчас размоваў з палякамі далікатна абмінуць тэрытарыяльныя справы, гэта зусім не азначае, што дзячы Рады БНР пагодзяцца на саступкі ў гэтым пытаньні.

Саюз усходніх земляў пасьлядоўна трымаў сваю лінію, не азіраючыся на магчымыя наступствы[52]. Дзеячы Саюзу лічылі канцэпцыю „Міжмор'я“ палітычным міражом перадусім з прычыны невырашэньня тэрытарыяльнага пытаньня. Яны выступалі супраць наданьня беларускай справе міжнароднага характару. Таму ўсялякія супольныя зь беларускімі дзеячамі захады на міжнароднай арэне разглядаліся як шкодныя й неабгрунтаваныя. Сьведчыць пра гэта дэкларацыя, выдадзеная Саюзам 24 лютага 1950 г. у Лёндане. У гэтым дакумэнце рэзка крытыкавалася падпісаньне міністрам замежных справаў Мечыславам Сакалоўскім, намесьнікам старшыні Нацыянальнай рады Юліушам Лукасевічам і прадстаўнікамі ўкраінскай і беларускай эміграцыі (Мікола Абрамчык, Лявон Рыдлеўскі) супольнай дэкларацыі. Сябры Саюза разглядалі гэты крок як здраду дзяржаўным інтарэсам і пагрозу для тэрытарыяльнай цэласнасьці Польшчы[53]. 28 сакавіка 1953 г. падчас паседжаньня Нацыянальнай рады Станіслаў Цат-Мацкевіч скрытыкаваў перамовы ўраду з рэпрэзэнтацыяй Рады БНР і дамагаўся, каб яму растлумачылі, на якой падставе ўрадавыя чыньнікі лічаць Міколу Абрамчыка легальным прадстаўніком беларускага народу, у той час, калі з гэтым чалавекам большасьць беларусаў ня лічыцца. Скептыцызм даваеннага рэдактара віленскага кансэрватыўнага „Слова“ падзяляў таксама граф Стэфан Тышкевіч. Апошні выказаў меркаваньне, што незалежная беларуская дзяржава можа ня быць зацікаўленая саюзам з Польшчай, а толькі далучэньнем да сябе ўсходніх земляў Другой Рэчы Паспалітай[54].

Нягледзячы на вышэйзгаданыя разыходжаньні й непаразуменьні, нам здаецца, што падкрэсьліваньне польскім бокам неаспрэчнасьці Рыскай мяжы, а беларускімі дзеячамі этнічнага прынцыпу падчас вызначэньня дзяржаўнай мяжы мела характар больш сымбалічны й прэстыжовы, чым рэальны. Абодва бакі не маглі афіцыйна адмовіцца ад пастулатаў, якія вырасьлі да рангу ўсталяваных канонаў. Насамрэч, як польскія, гэтак і беларускія эміграцыйныя дзеячы цудоўна разумелі

[52] Gotowiecki, P. Polskie emigracyjne środowiska kresowe wobec Białorusinów i problemu białoruskiego (1941—1954)... S. 227.

[53] IPMS. Sygn. A. 11E.1174. Deklaracja Związku Ziem Południowo-Wschodnich z dn. 24 lutego 1950 r.

[54] Gotowiecki, P. Polskie emigracyjne środowiska kresowe wobec Białorusinów i problemu białoruskiego (1941—1954)... S. 228.

невыканальнасьць тых пастулятаў. З пэўных прычынаў яны, аднак, не жадалі гэтага агучваць. Бачна гэта на прыкладзе Міколы Абрамчыка, які займаў вельмі памяркоўную палітыку ў згаданым пытаньні. Можна з упэўненасьцю сказаць, што пасьпяховасьць польска-беларускага супрацоўніцтва для яго была справай значна важнейшай, чым імглістыя й нерэальныя пастуляты наконт этнічных межаў. У жніўні 1950 г. ён даў інтэрвію газэце „Беларускі эмігрант", дзе падкрэсьліў, што справу мяжы лічыць цяпер неактуальнаю, бо яна будзе вызначаная толькі пасьля стварэньня беларускай незалежнай дзяржавы[55].

Палітыкі, што падзялялі погляды Прэзыдэнта БНР, здолелі перадолець у сабе гістарычныя й палітычныя стэрэатыпы й бачылі істотную карысьць польска-беларускага супрацоўніцтва ў будучыні. Неабходна таксама заўважыць, што для беларускага эміграцыйнага лягеру адносіны з палякамі не былі надзвычай складанымі й цяжкімі, калі параўнаць іх з узаемадачыненьнямі з прадстаўнікамі эміграцыйных палітычных цэнтраў іншых народаў рэгіёну. Так, напрыклад, вельмі цяжка адбываліся перамовы зь летувісамі (праблема Вільні й Віленшчыны) і расейцамі. Вельмі часта неадназначны й супярэчлівы характар насілі таксама стасункі з украінскімі эмігрантамі[56].

Разыходжаньні ў тэрытарыяльных пытаньнях не выключалі пэўнага супрацоўніцтва. І хоць польска-беларускія перамовы пасьля 1950 г. ня мелі працягу, у наступныя гады даходзіла да афіцыйных кантактаў паміж урадам БНР і польскім эміграцыйным урадам. Так, напрыклад, у 1954 г. Мікола Абрамчык згадзіўся падтрымаць адну з ініцыятываў ураду РП на эміграцыі, а менавіта — падпісаў дэклярацыю паняволеных народаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы, скіраваную да міністраў замежных справаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі — удзельнікаў міжнароднай канфэрэнцыі ў Жэневе[57]. Кіраўнік МЗС Аляксадар Завіша на паседжаньні Нацыянальнай рады 28 студзеня 1956 г.

---

55 IPMS. Sygn. A.11E.1110. List S. Poprockiego do MSZ, z 29 września 1950 r.

56 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947 — 1970)... С. 465, 468, 476, 485.

57 Акрамя Міколы Абрамчыка й польскага міністра замежных справаў Станіслава Янікоўскага, дакумэнт падпісалі таксама прадстаўнікі балгарскай, чэхаславацкай, вугорскай, украінскай і югаслаўскай палітычных рэпрэзэнтацыяў на эміграцыі. IPMS. Sygn. A.11.E.1147. Telegram sent on 30th April, 1954, to the Secretaries of State of Great Britain and the United States and to the Minister for Foreign Affairs of France, at Geneva, by the Representatives in Europe of Eastern and Central European countries.

сьцьвердзіў: *„Што тычыцца ўсіх тых краінаў, якія знаходзяцца на ўсход ад Польшчы й якія разам зь ёй зносяць расейскае ярмо, дык хачу з гэтага месца падкрэсьліць, што польскі народ заўсёды ставіўся й ставіцца з поўным зразуменьнем і сымпатыяй да народаў, якія жадаюць вяртаньня сваіх слушных правоў і якія змагаюцца за сваю волю й незалежнасьць. Польскі народ заўсёды па меры сваіх рэальных магчымасцяў гатовы дапамагчы ў іх высілках“*[58] . Падобныя перакананьні былі ўласьцівыя ня толькі палітыкам, засяроджаным вакол эміграцыйнага ўраду. У 1954 г. у Лёндане была створаная Часовая рада нацыянальнага адзінства. Новую арганізацыю ўтварылі палітычныя партыі й сілы, якія апынуліся ў апазыцыі да тагачаснага Прэзыдэнта Аўгуста Залескага. У 1956 г. выканаўчы орган Рады ўхваліў канцэпцыю аднаго зь лідараў гэтага лягеру Адама Цёлкоша, што прадугледжвала стварэнне на ўсход ад Польшчы нэўтральнай паласы, якая б уключала й Беларусь[59] .

Ад сярэдзіны 1950-х г. паміж польскімі й беларускімі палітыкамі паступова зьнікала ўзаемнае зацікаўленьне. Гэты працэс быў выкліканы агульнай міжнароднай сытуацыяй: надзея на хуткае вяртаньне на радзіму стала прывіднай. У роспачы многія эмігранты адыходзілі ад актыўнай палітычнай дзейнасьці, а пляны пра будучыню пасьля вызваленьня Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы ад камунізму рабіліся неактуальнымі. Адпаведна, паступова гублялася цікавасьць да таго, што адбывалася ў лягеры суседзяў. Беларуская праблематыка па сутнасьці зьнікла з поля зроку польскай эміграцыйнай прэсы. Пра адсутнасьць актыўных польска-беларускіх кантактаў на чужыне сьведчыць факт, што ў 1960-х гг. у Лёндане былі запачаткаваныя Таварыства польска-ўкраінскага сяброўства й Польска-літоўскае таварыства, у той час як польска-беларускі адпаведнік ніколі ня быў створаны.

Разам з тым не перапыніліся кантакты, што мелі апалітычны й прыватны характар. Сярод прадстаўнікоў польскай эміграцыі да ліку пасьлядоўных прыхільнікаў шчыльнейшых адносінаў зь беларусамі трэба залічыць праф. Станіслава Сьвяневіча. Шматразова на бачынах эміграцыйнай прэсы гэты дзеяч выказваўся наконт будучага супрацоўніцтва зь беларускім бокам. Неаднойчы таксама зьвяртаў увагу на па-

---

[58] IPMS. Sygn. A.5.102. Przemowa A. Zawiszy, wygłoszona w Radzie Narodowej 28 stycznia 1956 r.

[59] Głogowska, H. Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku. Od Imperium Rosyjskiego do Unii Europejskiej. Białystok, 2012. S. 333.

мылкі й пралікі даваеннай палітыкі ў дачыненьні да беларусаў. Сьвяневіч лічыўся адным з найбуйнейшых аўтарытэтных спэцыялістаў у беларускіх справах. Значную цікавасьць да беларускіх справаў, у тым ліку стану дыяспары, выяўляла парыская „Культура“, якую выдаваў Ежы Гедройц. Гэты дзеяч намагаўся выпрацаваць якасна новую мадэль узаемаадносінаў зь іншымі народамі былой Рэчы Паспалітай. Ягоны падыход характарызаваўся моцным жаданьнем да пераасэнсаваньня спрэчных момантаў ва ўзаемадачыненьнях. Беларускія справы на бачынах „Культуры“ асьвятлялі такія дзеячы, як Юзаф Лабадоўскі, Юзаф Маеўскі й Віктар Сукеньніцкі. Абмяркоўваліся справы гістарычныя й культурніцкія, палітычныя й зьвязаныя з пытаньнем нацыянальнай сьвядомасьці. Скіраваны да беларускіх эмігрантаў заклік Гедройца да пошуку канструктыўнага дыялёгу шляхам абмену думкамі трапіў на добры грунт. У выніку некаторыя эмігранты-беларусы супрацоўнічалі з „Культурай“. На старонках выданьня прысутнічала рубрыка „Беларуская хроніка“, якую ў 1973—1986 гг. вёў амэрыканскі беларус Уладзімер Брылеўскі[60] . Праблематыка польска-беларускіх кантактаў на чужыне ў згаданы пэрыяд заслугоўвае, аднак, асобнага дасьледаваньня.

[60] Głogowska, H. Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku... S. 330, 353—361.

# *Эміграцыязнаўчая сэкцыя IV Кангрэсу дасьледнікаў Беларусі*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

## ЧАТЫРЫ ГІСТОРЫІ АДНАЕ СЯМ'І: МЭМУАРЫ СТАГАНОВІЧАЎ

Цягам апошніх гадоў у беларускай мэмуарыстыцы зьявіліся чатыры тэксты ўспамінаў, што належаць членам аднае сям'і. Гэта дзьве кнігі, што пабачылі сьвет у 2011 і 2012 гг. у сэрыі „Беларуская мэмуарная бібліятэка“: „Успаміны пасла“ Аляксандра Стагановіча й „Мае ўспаміны“ Марыі Стагановіч, а таксама рукапісы іх дзяцей: Льва й Тамары.

Згаданыя мэмуары цікавыя зь некалькіх гледзішчаў. Па-першае, гэта ўнікальны выпадак у беларускай культурнай прасторы, калі столькі мэмуарных тэкстаў створана ў адной сям'і. Пры гэтым яны розныя паводле зьместу, характару, нават пэрыяду, на якім зроблены асноўны акцэнт.

Аляксандар Стагановіч у сваіх „Успамінах пасла“ засяродзіўся на падзеях грамадзкага жыцьця, у якіх браў удзел, пачынаючы ад Першай сусьветнай вайны. Ён даволі падрабязна апісвае свае вайсковыя вандроўкі па Эўропе часоў вайны яшчэ ў царскай арміі, палітычныя падзеі ў Беларусі ў міжваенны час, калі ён быў абраны паслом у Польскі сойм, а потым зьняволены на шэсьць гадоў польскімі ўладамі. Далей ідзе аповед пра падзеі Другой сусьветнай, грамадзкую працу на Наваградчыне, удзел у БКА, уцёкі на Захад, грамадзкае жыцьцё на эміграцыі. Між іншага, Аляксандар Стагановіч бадай адзіны з эміграцыйных мэмуарыстаў, што сьведчыць пра падрыхтоўку да аднаўленьня Рады БНР ужо ў 1946 г.

Гэтыя ўспаміны пісаліся грамадзкім дзеячам для грамадзкіх патрэбаў. Магчыма, яны былі вынікам тых дыскусіяў адносна беларускага міжваеннага нацыянальнага руху, што разгарнуліся на старонках эміграцыйнай прэсы ў 1950-х гг. Менавіта таму ў тэксьце Аляксандра Стагановіча амаль не прысутнічае ягоная сям'я, вельмі мала зьвестак пра

бацькоў, жонку й дзяцей, пры тым, што, паводле згадак сваякоў, ён быў вельмі прывязаны да сям'і.

„Мае ўспаміны“ Марыі Стагановіч, наадварот, канцэнтруюцца менавіта на сямейнай гісторыі. Аўтарка мела невялікую адукацыю й на просьбу дачкі Тамары ўжо ў даволі сталым веку стала запісваць свае аповеды *„як было раней“*. У гэтым тэксьце можна знайсьці апісаньні сямейных адносінаў, сваяцкіх сувязяў, пачынаючы ад прадзедаў і дзядоў, побыту сям'і ўпраўляючага маёнткаў Храптовічаў (кім быў бацька Марыі). Жанчына шмат і падрабязна распавядае пра традыцыйныя народныя абрады: вясельле, паховіны, зажынкі, дажынкі, Вялікдзень, Каляды. Апісаньні суправаджаюцца запісамі па памяці народных песень. Аповеды Марыі — каштоўная крыніца для этнографаў. Дадаткамі да асноўнага тэксту тут ідуць рэцэпты традыцыйных страваў, што гаталіся ў сям'і, зьвесткі пра лекавыя зёлкі, апісаньне традыцыйных абрадаў каляндарнага цыклю. У тэксьце прысутнічае ня толькі родная Наваградчына, але й Менск пачатку XX ст., дзе дзяўчына вучылася нядоўгі час, і Смаленшчына, дзе былі ў бежанстве.

Ва ўспамінах Марыі Стагановіч няшмат датаў, гістарычнага кантэксту. За выключэньнем выпадку, калі гэты кантэкст істотна паўплываў на жыцьцё бацькоўскай сям'і — маецца на ўвазе Першая сусьветная вайна. У той час сям'я выправілася ў Смаленшчыну, і апісаньне гэтых падзеяў таксама мае вялікую цікавасьць. У адрозьненьне ад ведамых нам успамінаў пра бежанства тых часоў, дзе аповед ідзе пераважна пра жыцьцё ў расейскіх гарадах, Марыя расказвае пра жыцьцё ў вёсцы ў Смаленскай губэрні, зьвяртаючы ўвагу на выразныя адрозьненьні ў вядзеньні гаспадаркі мясцовымі жыхарамі ў параўнаньні з гаспадараньнем суродзічаў на Наваградчыне.

Храналягічна ўспаміны Марыі Стагановіч закранаюць невялікі час, перапыняючыся на падзеях 1917 г. Аўтарка ня скончыла іх, але каштоўнасьць тэксту ад гэтага не зьмяншаецца.

Успаміны сына папярэдніх аўтараў Льва Стагановіча маюць ад пачатку толькі ўмоўна самастойны характар. Яны складаюць 47 старонак рукапісу й былі напісаныя ў якасьці своеасаблівай прадмовы да ўспамінаў бацькі. Аднак з розных прычынаў гэты тэкст ня быў ні дапісаны, ні апублікаваны ў якасьці прадмовы. З увагі на няпэўныя пэрспэктывы публікацыі гэтых ўспамінаў, спынімся тут на іх больш падрабязна.

Аўтар ад самага пачатку вызначае пра бацькавы ўспаміны: *„Успаміны былі прызначаныя выключна сям'і. Пасьля Др. В. Кіпель пераканӑў нас, асабліва сястру, што ўспаміны трэба апублікаваць. Я ўва-*

*жаю, што ўспаміны павінны быць у арыгінале, хоць могуць быць прабелы аўтара. Аднак пастараюся ўспомніць эпізоды з нашага жыцьця, якія адлюструюць характар нашага бацькі“*. Такім чанам, успаміны Льва Стагановіча — гэта найперш аповед пра бацьку. Значную частку тэксту займае пераказ мэмуараў Аляксандра Стагановіча, пераважна ў значна больш скарочаным выглядзе. Аднак Леў выкарыстоўвае ня толькі зафіксаваныя бацькам сюжэты, але й пераказвае некаторыя факты ды пачуцьці, якія, відавочна, агучваліся ў сям'і. Прыкладам, згадваецца выпадак, калі Аляксандар Стагановіч езьдзіў у Баранавічы да генэрала, што быў дараднікам пры Генштабе польскай арміі, каб *„злажыць пратэст за марадзёрства некаторых аддзелаў польскіх легіёнаў“*.

Найбольш цікавыя ўспаміны Льва Стагановіча, калі ён да пачутага ў сям'і ды прачытанага ў бацькавым тэксьце далучае ўласныя ўражаньні дзяцінства. Так, аўтар згадвае, як яны ўсёй сям'ёй адведвалі бацьку ў вязьніцы: *„Я вельмі плакаў і перажываў, намерваўся быць адвакатам, каб бараніць людзей“*.

Прыкладна ад 1939 г. успаміны Льва Стагановіча робяцца ўсё больш самастойнымі. Ён згадвае ўласнае навучаньне ў Наваградзкай беларускай дзесяцігодцы, зь якой ён сышоў у 1940 г. у школу ў Косы-Двор, бо *„тут усё беларускае, мала саветчыны“*. У часе нямецкай акупацыі, калі пачала працу Наваградзкая настаўніцкая сэмінарыя, у 1942 г. Леў паступіў туды й ва ўспамінах згадвае сваіх пэдагогаў: *„Пачатак навукі ў верасьні. Вучаць выдатныя пэдагогі: Скрабец, Орсы, Плескачы, Радзевіч, Гоцко, А. Анішчык, Казеко, Рагуля Б., Рытар і іншыя“*.

З успамінаў Льва даведваемся, што да Аляксандра Стагановіча, які займаўся і справамі Беларускай самапомачы ў часе вайны, зьвярталіся партызаны з Налібоцкай пушчы, што пакутвалі ад маразоў узімку 1943 г., і нават меркавалі здацца й далучыцца да рагулеўскага эскадрону. Аднак нічога з гэтага не атрымалася.

Аповеды Льва Стагановіча поўныя згадак пра жорсткасьць немцаў, пра тое, як бацька спрабуе дапамагаць розным сваякам і знаёмым, вызваляючы або ад прымусовых вывазаў, або ад пакараньняў. У тэксьце ёсьць цікавы эпізод:

*„З Куравіч прыбягае чалавек у роспачы, што яго сын арыштаваны. Сын у бойцы за дзяўчыну, зарэзаў сына савецкага актывіста, пагражае кара сьмерці, або конц-лягер. Выхад незвычайны, асабліва бацьку, які любіць закон. Селянін прывозіць гатовую тушу парсюка,*

*разрэзаную напалам. Палавіна — шэфу паліцыі, а палавіна — каманданту мясцовай паліцыі"*. Праўда, так і няведама, чым гэтая справа скончылася. Ня змог уратаваць ад канцлягеру Стагановіч і свайго старэйшага сына Аляксандра, што апынуўся ў Дахаў.

Пасьля стварэньня БКА Аляксандар Стагановіч быў прызначаны камэндантам. *„Варта ўспомніць такое здарэньне. Бацька ідзе з казармаў у горад. Едзе чалавек, а на паездцы (воз, або сані — не памятаю) будучыя кадэты. Бацька пытае ў селяніна, ці яны пыталіся ў яго дазволу пад'ехаць. Селянін кажа, што не. Бацька дае загад, каб яны зьлезьлі. Стараецца трымаць дысцыпліну сярод маладых кадэтаў"*.

Такім чынам, Леў Стагановіч паступова ў сваіх успамінах стварае вобраз бацькі ў штодзённым жыцьці, чаго вельмі не стае ўспамінам самога галавы сям'і. Зразумела, сын бачыць яго найлепшым: *„быў заўсёды аддданы сям'і і мы ніколі не сумняваліся ў ягонай аддданасьці"*; *„Яго характар — справядлівасьць, ідэйнасьць, пашана да людзей"* і г. д.

Важную частку ўспамінаў Льва Стагановіча займаюць падзеі выезду зь Беларусі ў 1944 г. і туляньняў ваеннаю і паваеннаю Нямеччынай, вызваленьне брата з концлягеру. І гэта ўжо менавіта ўласныя ўражаньні аўтара, якія выдатна дапаўняюць успаміны бацькі. Леў Стагановіч у Нямеччыне вучыўся ва Ўкраінскай гімназіі, потым ва ўнівэрсытэце ў Марбургу. Пераехаўшы з бацькамі, братам і сястрой у ЗША, стаў, фактычна, адзіным працаўніком у сям'і, часта зьмяняў працу, пакуль ня быў пакліканы ў сярэдзіне 1950-х гг. у амэрыканскае войска. На аповедзе пра службу ўспаміны й спыняюцца. Пры канцы зробленая пазнака, што працяг будзе, але, відаць, тэкст так і ня быў дапісаны — у 2008 г. аўтар памёр.

Успаміны Льва Стагановіча заслугоўваюць увагі як тэкст, створаны прадстаўніком маладога пакаленьня эмігрантаў, чыё асноўнае сьвядомае жыцьцё прайшло на чужыне. Пры гэтым ён ня быў моцна заангажаваны ў грамадзкую дзейнасьць эмігрантаў, хоць і меў выразную нацыянальную самасьвядомасьць, а таксама выхаваную, відаць, бацькоўскім прыкладам, аддданасьць сям'і.

Успаміны Тамары Стагановіч — найвялікшыя з усіх папярэдніх і яшчэ ня скончаныя, пішуцца зь веданьнем тэкстаў бацькоў і брата ды ўяўляюць сабою самастойны аповед.

Тамара Стагановіч нібыта піша працяг гісторыі, якую расказвала маці. Вельмі падобны стыль і сямейныя акцэнты тэксту. У яе ўспамінах багата зьвестак пра дзіцячыя гады, пра маці й бацьку, сямейныя справы. Тут шмат наіўнага-дзіцячага. Найбольш эмацыйныя часткі даты-

чаць падзеяў часоў Другой сусьветнай вайны й першых гадоў паваеннага часу. Вельмі падрабязна яна апісвае выезд зь Беларусі, праблемы з харчаваньнем, складанасьці пераездаў. Часам з натуралістычнымі й драматычнымі падрабязнасьцямі.

Прыкладам, распавядае яна пра тое, як уцекачоў зь Беларусі перад перасадкаю на цягнікі ў Граева адправілі ў лазьню:

*„Сказалі нам (жанчынам) ісьці ў лазьню. Паскідалі мы ўсё адзеньне — яны будуць яго нечым спырскваць, каб забіць вошы, і блохі, і гніды. Шмат дзяцей вельмі плача, як і некаторыя жанчыны, якія мелі свой час. Пакой вялікі, з паталка тырчаць галоўкі водаспырсканьня. Чакаем на ваду, калі яна пачне пырскаць.*

*Раптам мне стукае думка: а што будзе, калі замест вады яны нам пусьцяць газ. Пачынаю дрыжаць ад думкі пра сьмерць. Гляджу на Маму й на Юрачку [маленькага брата — **Н.Г.**]. Ён-жа такі харошанькі гэты мой маленькі брацік, ды-ж ягонае жыцьцё толькі пачынаецца. Неапісаная паніка й страх. Сэрца чуць не вырываецца з грудзей, Божа, няўжо гэта праўда, што яны так душаць людзей? Хочацца плакаць, крычаць — я не магу. Душыць у горле. Пачынае не хватаць паветра. Божа, што калі Мама на мяне цяпер будзе глядзець, яна пабачыць, што тут нешта нядобрае. Я рашаю Маме пра гэта не казаць. Раптам пырскае цёплая вада. Стаю й ня веру, што гэта вада гарачая, што гэта ня газ. Дык страх адыходзіць памаленьку“.*

Шмат месца прысьвечана туляньням па Нямеччыне, працы на нямецкага гаспадара — нацыста. Тамара, што нягледзячы на малы ўзрост мелася таксама працаваць, піша:

*„Мы былі для нацыстаў рабамі. Я ня помню, каб сам Ганс Осбэргэр да мяне хоць раз што-небудзь сказаў ці запытаўся. А яна, „Brunhilda“ [жонка гаспадара — **Н.Г.**], толькі давала прыказ, што мне рабіць, напрыклад мыць падлогу ў калідоры, або чысьціць іхнія бацінкі, або ламаць галузьзе ад вінаградніка ды сунуць у печку, дзе чэшка-кухарка варыла есьці ім. Гэта было маё „гуляньне“ з іхняй дачушкай. Гэта ўсё адбілася на маёй сэнзытыўнай душы. Кожная абраза пранікала кінжалам у сэрца“.*

Потым было вызваленьне брата Аляксандра з канцлягеру, прыход амэрыканцаў, навучаньне ў тойсамай украінскай гімназіі, дзе вучыўся й Леў…

Успаміны Тамары адметныя, бо ў жаночай эміграцыйнай мэмуарыстыцы пераважаюць мэмуары жонак пра мужоў — выбітных дзеячаў. Тут жа жанчына канцэнтруецца на сямейнай гісторыі, штодзён-

ным жыцьці і даволі скрупулёзна аднаўляе побытавыя дэталі ды ўласныя эмоцыі.

Тамара Стагановіч яшчэ працягвае сёньня пісаньне ўспамінаў, а пасьля сканчэньня яны, мяркуецца, будуць апублікаваныя.

Такім чынам, успаміны кожнага зь сям'і Стагановічаў маюць свае адметнасьці, выступаюць як асобная гістарычная крыніца, і пры гэтым яны распавядаюць агульную гісторыю сям'і, ад пачатку да другой паловы XX ст., бачаную вачыма некалькіх яе пакаленьняў.

Варта адзначыць, што зьяўленьне ўсіх гэтых успамінаў у айчыннай гістарыяграфіі — вынік узьдзеяньня вонкавых фактараў. Пра ўспаміны Аляксандра й Марыі доўгі час ведалі толькі дзеці. Тыя тэксты маглі ніколі не быць апублікаваныя, калі б не настойлівыя пераконваньні прадстаўнікоў БІНіМу. Шлях успамінаў да друку — асобная, вартая аповеду гісторыя. Але ў выніку пад уплывам ўражаньня ад надрукаваных бацькоўскіх мэмуараў Тамара Стагановіч на прапанову Лявона Юрэвіча пачала пісаць уласныя успаміны. І гэтая сытуацыя сьведчыць пра неабходнасьць больш актыўных, часам нават культурна агрэсіўных дзеяньняў на шляху здабыцьця мэмуарных сьведчаньняў.

Тэксты сям'і Стагановічаў, што адлюстроўваюць жыцьцё беларусаў у розныя гістарычныя пэрыяды й розных краінах, патрабуюць адмысловага асэнсаваньня й ўключэньня ў гістарычны дыскурс мэтраполіі.

***Ганна Запартыка***
*Менск*

# ДАКУМЭНТЫ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў ФОНДАХ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА АРХІВУ-МУЗЭЮ ЛІТАРАТУРЫ Й МАСТАЦТВА

Першы фонд, зьвязаны зь гісторыяй беларускай эміграцыі, у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва (БДАМЛМ) быў створаны ў 1985 г. дзякуючы паступленьню асабістага архіву аднаго з самых ведамых яе прадстаўнікоў Міхася Забэйды-Суміцкага. За апошняе дваццацігодзьдзе ў архіў-музэй паступілі дакумэнты, выданьні, музэйныя рэліквіі зь Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, ад Вітаўта Кіпеля й Янкі Запрудніка, якія, акрамя сваіх уласных матэрыялаў, перадалі часткі асабістых архіваў Натальлі Арсеньневай, Юркі Віцьбіча, Міколы Куліковіча-Шчаглова, Антона Адамовіча й многіх іншых. Значнае месца ў складзе збораў архіву-музэю займаюць фонды Алеся Алехніка (Аўстралія), Міхася Швэдзюка (Вялікабрытанія), Масея Сяднёва (ЗША), Данчыка (Багдана Андрусішына, ЗША) ды інш. Кожны з гэтых фондаў утрымлівае дакумэнты як пра жыццё й дзейнасьць сваіх стваральнікаў, так і пра гісторыю беларускай эміграцыі.

Зьяўленне ў 1985 г. у БДАМЛМ архіўнага фонду Міхася Забэйды-Суміцкага стала вялікай сэнсацыяй і выклікала нечуваныя дасьледніцкія зацікаўленьні. Удакумэнтаваная гісторыя паступленьня ў Беларусь асабістага архіву сьпевака налічвае больш за дваццаць гадоў. Пра першыя захады Міхася Забэйды перадаць сваю спадчыну на радзіму сьведчыць ліст загадчыка аддзелу камплектаваньня Галоўнага архіўнага ўпраўленьня пры Савеце міністраў СССР да яго ад 10 чэрвеня 1964 г. наступнага зьместу:

*„ЧССР, Прага 2-Винограда Польска 12 тов. М. Забейде-Сумицкому.*

*Уважаемый товарищ Забейда, по сообщению Архивного управления Белорусской ССР во время своих гастролей в Минске в 1963 году Вы выразили желание передать свой личный архив Центральному государственному архиву литературы и искусства Белоруссии. Учитывая это, мы были бы признательны за присылку нам подробной описи материалов архива и сообщение условий, на которых Вы согласны передать его в Государственный архив СССР. С уважением начальник отдела Коленкина*“[1] .

Ці адказаў Міхась Забэйда на ліст чыноўніцы Галоўархіва СССР, цяпер сказаць цяжка. Але, мяркую, што тым самым было надоўга стрымана памкненьне сьпевака перадаць свой архіў на радзіму: па-першае, яго магла бянтэжыць прапанова скласьці падрабязны вопіс; па-другое, просьба зыходзіла не ад тых, каму ён выказаў сваё жаданьне патрыёта-беларуса, а з Масквы. Відавочна тое, што беларусы былі пазбаўлены права вырашаць гэта пытаньне самастойна, нават наўпрост ліставацца з уласьнікам архіву за мяжой. Тым ня менш Міхася Забэйду не пакідала думка перадаць сваю архіўную спадчыну на радзіму. Для яго гэта было раўназначным фізычнаму вяртаньню. І ён прыняў адзіна правільнае на той час рашэньне: 22 лістапада 1965 г. склаў завяшчаньне, у якім адным з спадчыньнікаў пазначыў *„Дзяржаўны беларускі мастацкі архіў“* (так у афіцыйным пасьведчаньні на чэскай мове), што *атрымліваў у спадчыну „мастацкія прадметы-ноты, кружэлкі, магнітафонныя стужкі, кнігі, карэспандэнцыю, магнітафон, піяніна*“[2] . Забэйда-Суміцкі памёр 21 сьнежня 1981 г. Вельмі хутка інюркалегія ЧССР пачала росшук пазначанага ў завяшчаньні архіву. У сувязі з тым, што назва была пададзеная не зусім дакладна, узьніклі пэўныя праблемы й першы ліст з Прагі ад 18 лютага 1982 г. адрасат проста не атрымаў. Наступны ліст прадстаўніком інюркалегіі д-рам Бартавай быў напісаны 2 ліпеня таго ж году. Менавіта адказ на названы ліст кіраўніка архіву-музэю літаратуры й мастацтва Ганны Сурмач тлумачыць некаторыя акалічнасьці гэтай гісторыі:

*„Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі выконвае функцыі па збору і захаванні дакументаў і экспанатаў выдатных дзеячаў беларускай літаратуры і мастацтва. Іншага дзяржаўнага архіва з аналагічнымі функцыямі ў рэспубліцы не існуе. У сувязі з гэтым мы маем права меркаваць, што спадчына*

[1] БДАМЛМ.Ф. 293. Воп. 1. Адз. зах. 356. Арк. 13.

[2] БДАМЛМ.Ф. 293. Воп. 1. Адз. зах. 359. Арк. 4.

*вядомага спевака, актыўнага папулярызатара беларускай нацыянальнай музыкі за мяжой Міхася Забэйды пакінута менавіта нашай установе, нягледзячы на разыходжанне ў назвах. Адказваючы на ваша пытанне, мы паведамляем аб сваёй згодзе на прыняцце спадчыны Міхася Забэйды. Прабачаемся за затрымку з адказам на Вашы лісты. Аднак не можам лічыць цалкам сябе вінаватымі, так як названы Вамі ліст ад 18.2.1982 мы не атрымлівалі*“[3].

Больш за паўтара году пайшло на афармленьне правоў насьледаваньня й толькі 13 сакавіка 1984 г. Міністэрства замежных спраў БССР паведаміла ў Галоўархіў БССР аб тым, што дзяржаўны натарыят ЧССР 14 лютага 1984 г. давёў да ведама Амбасады СССР ў ЧССР аб тым, што 29 лістапада 1983 г. уступіла ў законную сілу дамоўленасьць аб спадчыне Міхася Забэйды. Ад таго часу распачалася актыўная праца па арганізацыі яе дастаўкі ў Беларусь, якая была пасьпяхова завершаная толькі ў чэрвені 1985 г. Зразумела, што зьяўленьне ў архіве-музэі асабістага архіву Міхася Забэйды прыцягнула ўвагу многіх дасьледнікаў. Але першым, хто ўзяў на сябе абавязак „вывучыць“ зьмест спадчыны сьпевака, быў Аддзел прапаганды й агітацыі ЦК КПБ. Справа даручалася *„товарищу Н.С. Сташкевичу“* й на падставе пасьведчаньня, выдадзенага яму ЦК КПБ 1 чэрвеня 1987 г., ён прыступіў да працы. Заўважу, што адбылося гэта толькі праз два гады пасьля атрыманьня архіву. Гэта азначае, што спэцыялісты архіву-музэю не маглі распачаць працу навукова-тэхнічнай апрацоўкі дакумэнтаў раней, чым пачне й завершыць сваё „вывучэньне“ аддзел прапаганды. У красавіку 1992 г. была пастаўлена апошняя кропка ў справе апрацоўкі архіўнай спадчыны Міхася Забэйды-Суміцкага. І хаця гэтая праца так моцна расьцягнулася ў часе, трэба прызнаць, што якраз гэта выратавала фонд ад складаньня двух вопісаў, справы ў адным зь якіх былі б з паметай „сакрэтна“ й закрытыя для шырокага доступу. У 1991—1992 гг., калі апрацоўваўся архіў сьпевака, мы жылі ўжо ў іншай краіне й ранейшыя абавязковыя правілы страцілі сваю актуальнасьць.

Архіўны фонд Міхася Забэйды-Суміцкага № 293 налічвае чатырыста пяцьдзясят дзьве адзінкі захоўваньня, што ўтвараюць сем раздзелаў. Значную частку фонду складаюць творчыя дакумэнты. Да іх адносяцца матэрыялы канцэртнага рэпэртуару сьпевака: рукапісы й друкаваныя выданьні, у тым ліку з паметамі Міхася Забэйды, арыяў з опэраў, рамансаў, сэрэнадаў, песень. Асаблівае месца сярод іх займаюць бела-

[3] БДАМЛМ.Ф. 293. Воп. 1. Адз. зах. 357. Арк. 1.

рускія народныя песьні, песьні кампазытараў Мікалая Аладава, Уладзімера Алоўнікава, Анатоля Багатырова, Канстанціна Галкоўскага, Аляксея Туранкова, Міколы Куліковіча-Шчаглова й іншых на словы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Адама Русака, Максіма Танка. Разьдзел вопісу „Творчыя матэрыялы М. Забэйды" пацьвярджае шматграннасьць ягонага таленту, шырыню творчых памкненьняў і славу сьпевака сусьветнага роўню. Сярод выкананых ім опэрных партыяў і асобных песенных нумароў — творы П.І. Чайкоўскага, М.А. Рымскага-Корсакава, С. Манюшкі, Ж. Маснэ, В.А. Моцарта, Ш. Гуно, А.С. Даргамыскага, Дз.Дз. Шастаковіча ды іншых, а таксама балгарскія, нямецкія, польскія, чэскія, італьянскія, рускія, украінскія народныя песьні. Творчы разьдзел вопісу выдатна ілюструюць фотаздымкі Міхася Забэйды ў ролях і сцэнах са спэктакляў зь ягоным удзелам: Герцага („Рыгалета" Дж. Вэрдзі), Сінадала („Дэман" А. Рубінштэйна) ды інш., сыграных у Харбінскім опэрным тэатры ў 1929—1932 гг.; Бальмонта („Выкраданьне з сэралю" Моцарта), Цітуса („Юлі Цэзар" Гэндэля), Ленскага („Яўгені Анегін" П.І. Чайкоўскага), сыграных у Познаньскім опэрным тэатры ў 1935—1936 гг. ды інш., а таксама фатаздымкі, зробленыя падчас канцэртаў і рэпэтыцыяў.

Невялікую частку фонду складаюць рукапісы Міхася Забэйды: артыкул на чэскай мове ў суаўтарстве з Юзэфам Урбанам „Беларускія народныя песьні", успаміны „Мастацтва за мір" і „Дзе я нарадзіўся", якія друкаваліся ў 1960-х гг. у розных газэтах.

Унікальная частка архіву сьпевака — ягонае ліставаньне зь дзеячамі мастацтва, літаратуры, культуры многіх краінаў сьвету. Яму пісалі з Англіі, Балгарыі, Вугоршчыны, Нямеччыны, Італіі, Канады, Югаславіі й іншых краін. Але найбольшую частку эпісталярыя складаюць лісты зь Беларусі й дзечаў беларускай культуры за яе межамі. Захаваліся лісты Сьцяпана Александровіча, Алеся Бажко, Зоські Верас, Аляксея Гардзіцкага, Ніла Гілевіча, Сяргея Грахоўскага, Уладзімера Караткевіча, Аляксея Карпюка, Алега Лойкі, Сяргея Новіка-Пяюна, Сяргея Панізьніка, Янкі Саламевіча, Пётры Сергіевіча, Максіма Танка, Янкі Хвораста, Івана Цішчанкі, Янкі Шутовіча, Міколы Куліковіча-Шчаглова, Рыгора Шырмы, Яўгеніі Янішчыц ды іншых. Пра высокую запатрабаванасьць Міхася Забэйды як сьпевака й грамадзкага дзеяча сьведчаць шматлікія лісты, звароты, запрашэньні, падзякі ад Праскай акадэміі музычнага мастацтва, Чэхаславацкай акадэміі навук, Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Беластоку, Клюбу савецкіх грамадзянаў у ЧССР, Таварыства чэхаславацка-савецкай дружбы, Чэска-

га музычнага фонду, Міністэрства культуры ЧССР, а таксама многіх выданьняў, краязнаўчых музэяў ды інш. аб правядзеньні канцэртаў і творчым супрацоўніцтве.

Захавалася значная колькасьць асабістых дакумэнтаў Міхася Забэйды, якія дазваляюць удакладніць і дэталізаваць многія факты ягонай біяграфіі. Да прыкладу, у фондзе можна знайсьці выпіс з мэтрычнай кнігі Сядзельніцкай царквы аб нараджэньні й хросьце будучага сьпевака, пасьведчаньне пра заканчэньне Маладзечанскай настаўніцкай сэмінарыі, пасьведчаньне пра заканчэньне пэдагагічных курсаў у Харбіне, дыплём, заліковая кніжка, студэнцкі білет, экзаменацыйны ліст з часоў навучаньня на юрыдычным факультэце Харбінскага ўнівэрсытэту, від на жыхарства ў Мілане, дакумэнты аб зьмене польскага грамадзянства на чэскае ды іншыя. Актыўную канцэртную дзейнасьць адлюстроўваюць афішы й праграмы.

Апошнюю й вельмі багатую частку архіўнага фонду Міхася Забэйды складаюць фатаздымкі ад 1918 да 1980-х гг. Сярод іх вылучаюцца яго здымкі з часоў вучобы ў Маладзечанскай настаўніцкай сэмінарыі, індывідуальныя здымкі розных пэрыяды жыцьця, пасьля канцэртаў, разам з вядомымі кампазытарамі, артыстамі, музыкантамі, а таксама з Р. Шырмам, У. Караткевічам, М. Танкам, С. Панізьнікам, Л. Александроўскай, Н. Гілевічам, В. Рагойшам ды інш.

Архіўную частку фонду М. Забэйды выдатна дапаўняюць кніжныя й нотныя зборы, якія налічваюць каля пяцісот асобнікаў, у тым ліку з дароўнымі надпісамі, а таксама музэйныя рэчы. На вялікі жаль, улучаны ў сьпіс спадчыны раяль „Шолзэ“ не дазволілі вывезьці.

Наступным паводле часу паступленьня ў БДАМЛМ быў архіўны фонд пісьменьніка Масея Сяднёва. Першае ягонае наведаньне Радзімы пасьля амаль пяцідзесяцігадовага перапынку адбылося ў 1990 г. Знаёмства з дырэктарам архіву-музэю Ганнай Сурмач мела месца менавіта тады. Аб гэтым можна меркаваць зь яе ліста да пісьменьніка ад 18 жніўня 1991 г.:

*„Атрымаўшы ад Алеся Баркоўскага дазвол напісаць Вам ліст, з радасцю раблю гэта. Тым больш, што ёсць нагода перадаць Вам яго з беларусамі з Кліўленда, якія зараз гасцююць ў Менску. Прызнаюся, што мне вельмі хацелася напісаць Вам. Памятаю першую сустрэчу з Вамі ў выдавецтве „Мастацкая літаратура“, дзе нас пазнаёміў Барыс Сачанка. Ён паабяцаў разам з Вамі зайсці ў наш архіў-музей літаратуры і мастацтва. Але, на жаль, у Вас было мала часу і больш грунтоўнае знаёмства не адбылося. Вельмі шкадую. Але пасля мела*

*магчымасць прысутнічаць на сустрэчы ў доме літаратара і была вельмі ўражана. Жывучы так далёка ад роднага краю, Вы захавалі вострае пачуццё радзімы. Здавалася, што Вы нікуды не адʼязджалі… Я цешуся, што мы тут ужо можам вольна чытаць тое, што створана талентам беларусаў па-за межамі Бацькаўшчыны. Ваша творчасць — гэта каштоўны здабытак літаратуры. Мы ўжо маем многія Вашы зборнікі. Але хацелася б каб тут, на Беларусі, былі і Вашы рукапісы, фатаздымкі, пісьмы ды іншыя матэрыялы… Чакаю разумення і спагады ў справе папаўнення беларускіх архіваў дакументамі тых людзей, хто жыве па-за межамі…“*[4]

У хуткім часе, а дакладна — 21 кастрычніка 1991 г., Масей Сяднёў напісаў ліст, дзе ёсьць такія радкі: *„…У наступны мой прыезд не пайду нікуды больш, як толькі ў Ваш архіў-музэй. Ахвотна буду дасылаць Вам тое, што ёсьць у маім архіве. На пачатку асьмелюся Вам паслаць некалькі сваіх рукапісаў, часьцінку свае душы, дарагую мне настолькі, што зь ёй цяжка разьвітацца. Ёсьць у мяне і фатаграфіі — свае і іншых асобаў. Ёсьць шмат лістоў як ад сваіх літаратараў, гэтак і ад літаратараў-чужынцаў… Карацей, я гатовы пераслаць Вам з майго архіву ўсё, што можа мець тую ці іншую вартасьць для Вас, для нашай культуры, гісторыі, літаратуры. Прызнацца, я ня раз думаў над пытаньнем, куды б гэта можна было накіраваць свой архіў, дзе б ён уцалеў, захаваўся, аж во Вашая просьба якраз і разьвязвае гэтае пытаньне… Спадзяюся, Вы ня спыніце са мною кантактаў…“*[5]

Так быў пакладзены пачатак камплектаваньню асабістага фонду Масея Сяднёва ў БДАМЛМ. Далей, як пісьменьнік, так і архіў-музэй, выкарыстоўвалі любую нагоду, каб перадаць ці пераслаць матэрыялы. Наступнае падарожжа ў Беларусь дзеяч ажыцьцявіў у верасьні 1992 г. Першае спатканьне з калектывам БДАМЛМ і першае паступленьне дакумэнтаў непасрэдна з рук іх гаспадара адбылося 14 верасьня. А ўжо ў кастрычніку таго ж году была завершаная навукова-тэхнічная апрацоўка атрыманых з часу першай дасылкі матэрыялаў і складзены вопіс, які ўключыў сто трыццаць тры адзінкі захоўваньня. У яго ўвайшлі рукапісы Масея Сяднёва: зборнік вершаў „Ад сына твайго, Беларусь“, паэмы „Вечнае выгнаньне“, „Забраны Менск“, „Цень Янкі Купалы“, „Паэма пра бацькаўшчыну“, вершы розных гадоў, публіцыстычныя творы,

[4] БДАМЛМ. Ф. 363. Воп. 1. Адз. зах. 85. Арк. 2.

[5] БДАМЛМ. Ф. 363. Воп. 1. Адз. зах. 45. Арк. 1.

успаміны, а таксама пераклады ягоных твораў на нямецкую, польскую, украінскую мовы. Самую значную частку дадзенага вопісу складае эпісталярый. Тут варта заўважыць, што раздзелы архіўных вопісаў фонду Масея Сяднёва ў БДАМЛМ пад назвамі „Лісты М.Л. Сяднёва“ й „Лісты М.Л. Сяднёву“ былі цалкам апублікаваны Ціханам Чарнякевічам[6] і спыняцца на іх апісаньні ў дадзеным артыкуле ня мае сэнсу. Вельмі цікавую частку дакумэнтаў першага вопісу складаюць біяграфічныя матэрыялы пісьменьніка, нарысы, рэцэнзіі, артыкулы Янкі Золака, Барыса Сачанкі, Лідыі Савік, Андрэя Клёнава ды інш. пра Масея Сяднёва, ягоныя інтэрв'ю газэце „ЛіМ“, „Настаўніцкай газэце“, часопісу „Беларусь“ ды інш., а таксама дваццаць тры здымкі: індывідуальныя, зь сям'ёй, сябрамі, зь беларускімі літаратарамі падчас яго наведаньняў Бацькаўшчыны.

Другі вопіс фонду Масея Сяднёва фарміраваўся на працягу 1995—2002 гг. У лістападзе 1995 г. пісьменьнік выслаў на адрас БДАМЛМ рукапіс кнігі „На споведзі перад Айчынай“ і адначасова ліст, у якім тлумачыў: *„...сваю новую кнігу, якую вось і высылаю Вам і якую прашу прыняць у Ваш архіў-музей... Ні ў якае з нашых выдавецтваў гэтую кнігу я не пасылаў“*[7]. Далей, упэўніўшыся ў акуратнасьці пошты, хоць трэба заўважыць, што была пэўная доля рызыкі, дакумэнты ад Масея Сяднёва паступалі менавіта такім шляхам. Кожная з такіх пасылак суправаджалася лістом і цяпер можна з дакладнасьцю назваць даты іх адпраўленьня. Толькі ў 1997 г. мы атрымалі ад пісьменьніка чатыры пакункі дакумэнтаў. Апошняй ягонай весткай да аўтара гэтага артыкулу была віншавальная паштоўка З Новым 2001 годам, а апошняе паступленьне ў ягоны фонд адбылося ў 2002 г.: Сьвятлана Сачанка перадала ў архіў-музэй трыццаць дзевяць лістоў Масея Сяднёва да яе за 1992—2000 гг. Як і першы вопіс, вопіс №2 склалі рукапісы пісьменьніка, эпісталярый, артыкулы пра яго, інтэрвію, дзевяць фатаздымкаў.

Вялікую заслугу ў справе камплектаваньня БДАМЛМ дакумэнтамі дзеячаў беларускай эміграцыі маюць спсп. Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік. Дзякуючы іх намаганьням стала магчымым стварэньне іх асабістых фондаў, а таксама фондаў Юліяны Вітан-Дубейкаўскай, Натальлі Арсеньневай, Юркі Віцьбіча, Алеся Салаўя, Уладзімера Дудзіцкага, Міхася Кавыля, Міколы Куліковіча-Шчаглова, а таксама фонду

[6] Чарнякевіч, Ціхан. Эпісталярны архіў Масея Сяднёва // Запісы БІНіМ. № 35. Нью-Ёрк — Менск, 2012. С. 258—265.

[7] БДАМЛМ. Ф. 363. Воп. 2. Адз. зах. 11. Арк. 2.

Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Сярод дакумэнтаў названых фондаў рукапісы, біяграфічныя дакумэнты, ліставаньне, выяўленчыя й іншыя матэрыялы пра жыцьцё й дзейнасьць як уласна фондаўтваральнікаў, гэтак і з гісторыі беларускай эміграцыі наагул. Асаблівую ўвагу ў гэтых фондах прыцягваюць навуковыя працы Зоры і Вітаўта Кіпеляў, калекцыя беларусаведных матэрыялаў з пэрыядычных выданьняў сьвету ад 1950-х да пачатку 2000-х гг., створаная Янкам Запруднікам, дакумэнты аб дзейнасьці БІНіМу (анкеты й сьпісы сябраў, праграмы, звароты, паштоўкі, маркі, выдадзеныя інстытутам ды інш.), а таксама фрагмэнты асабістых архіваў Яўхіма й Марыі Кіпеляў, Лявона й Апалёніі Савёнкаў, Вітаўта Тумаша (Сымона Брагі), Вацлава Пануцэвіча, Аляксандра Ружанец-Ружанцова, Пётры Татарыновіча, Янкі Юхнаўца, Аўгена Кавалеўскага, Янкі Золака ды інш. Раўназначнымі паводле колькасьці й навуковай важкасьці зьяўляюцца кніжныя калекцыі, забясьпечаныя архіву-музэю Вітаўтам Кіпелем і Янкам Запруднікам. Сярод іх рэдкія эміграцыйныя выданьні розных гадоў, зборы твораў Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Уладзімера Дудзіцкага, Міхася Кавыля й інш., поўны камплект „Запісаў БІНіМ“, часопісу „Конадні“, беларуская эміграцыйная пэрыёдыка другой паловы XX ст. ды іншае.

У красавіку 2014 г. адбылася падзея, якая мела шырокі розгалас у грамадзтве: у БДАМЛМ паступіла ўнікальная калекцыя рарытэтаў, сабраная БІНіМам. Сярод матэрыялаў гэтай калекцыі рукапісы й асабістыя дакумэнты вядомых дзеячаў беларускай эміграцыі, збор беларускіх паштовак, значкаў ды іншае. Калекцыя сфармавалася з матэрыялаў, дасланых у Менск архівістам зь Нью-Ёрку Лявонам Юрэвічам гісторыку Натальлі Гардзіенцы для навуковай апрацоўкі й апісаньня. Пасьля падрыхтоўкі навуковай працы „Матэрыяльная спадчына эміграцыі: асноўныя калекцыі“ й выхаду ў 2013 г. 36-га тома „Запісаў БІНіМ“, дзе яна была апублікаваная, з ініцыятывы яе аўтаркі й са згоды Вітаўта Кіпеля калекцыя была перададзеная ў архіў-музэй. На дадзены момант праводзіцца яе архіўная апрацоўка й яна будзе далучаная да фонду Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

У шэрагу фондаў дзеячаў беларускай эміграцыі вельмі цікавую гісторыю камплектаваньня мае фонд Антона Адамовіча. Ён складаецца з двух паступленняў: з дакумэнтаў, якія ніколі не пакідалі Менск, і з дакумэнтаў, што паступілі са зборамі БІНіМу. Менавіта на гісторыі першага, які й запачаткаваў асабісты фонд Антона Адамовіча ў БДАМЛМ, варта спыніцца асобна.

У 1951 г. у час апрацоўкі архіўнага фонду Генэральнага камісарыяту Беларусі[8] ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі й сацыялістычнага будаўніцтва БССР[9] былі выяўленыя дакумэнты *„беларускага буржуазнага нацыяналіста“* Антона Адамовіча. Акт аб абнаружэньні ад 20 ліпеня 1951 г. зафіксаваў, што яны складаюць два кіляграмы россыпу, а таксама распараджэньне начальніка архіву: *„Выдзеліць і ўлічыць як самастойны фонд“*. 27 жніўня 1951 г. дакумэнты Антона Адамовіча былі ўлічаны як новы самастойны фонд № 118 с/р. 569. У хуткім часе з двух кіляграмаў россыпу было сфармавана шэсьць адзінак захоўваньня, куды ўвайшлі асабістыя лісты жонкі Антона Адамовіча Натальлі Шыляевай, лісты Язэпа Найдзюка, Янкі Станкевіча, Францішка Аляхновіча, Вітаўта Тумаша, Анатоля Шкуткі, а таксама паштоўкі, білеты БНС, запрашэньні, пропускі, некалькі здымкаў Н. і А. Шыляевых, Кастуся Езавітава з дароўным надпісам ды інш. 2 сьнежня 1963 г. у фонд Антона Адамовіча паступіла яшчэ адна адзінка пад назвай „Аўтабіяграфія А.Е. Адамовіча (жыццё і дзейнасьць, апісаная самім Адамовічам)“ — 1935 г. на 96 старонках. Уліковыя дакумэнты „справы фонда“ не зафіксавалі, адкуль паступіла „аўтабіяграфія“ й хто перадаў яе ў асабісты фонд Антона Адамовіча. У канцы вопісу гэтая адзінка прыпісана чарнілам блакітнага колеру й гэтым жа зьменены выніковы запіс. Фонд Антона Адамовіча, як і многіх з падобным лёсам асобаў, быў далучаны да сакрэтных і выкарыстаньне яго было моцна абмежаванае. Толькі адзіны раз, у ліпені 1955 г., справы № 4, 5 і 6 былі выдадзеныя ў часовае карыстаньне *„прадстаўніку КДБ т. Іванову“* на адзін месяц. Паводле адзінак, узятых у часовае карыстаньне, можна здагадвацца й пра „практычныя мэты“ гэтае замовы.

У 1995 г. фонд Антона Адамовіча быў уключаны ў сьпіс фондаў для разгляду камісіі Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь „Аб рассакрэчванні дакументаў і аднясенні іх да катэгорыі абмежаванага допуску“. 18 студзеня 1996 г. камісія пастанавіла: *„Прагледзеўшы 7 спраў па вопісу № 1 фонда № 569 „Асабісты архіў беларускага буржуазнага нацыяналіста Адамовіча А.Е.“ адабрала для рассакрэчвання наступныя матэрыялы: аўтабіяграфія Адамовіча А.Е.; лісты А.Е. Адамовічу ад нацыяналістаў з г. Берліна і г. Вільні; лісты жонкі А.Е. Адамовіча; пропускі, пасведчанні і даведкі А.Е. Адамовіча, фатаграфіі свая-*

[8] Фонд № 370 у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

[9] Сучасны Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

*коў і знаёмых. Усяго рассакрэчана і пераведзена на агульны рэжым захоўвання сем спраў*“[10] .

Праз пэўны час БДАМЛМ пачаў рабіць захады перад НАРБ на перадачу яму гэтага фонду як профільнага. 23 лютага 2005 г. пытаньне перадачы было разгледжана на паседжаньні Экспэртна-мэтадычнай камісіі НАРБ. Усе экспэрты падтрымалі просьбу перадаць фонд Антона Адамовіча ў архіў-музэй. 11 кастрычніка 2005 г. рашэньне ЭМК НАРБ было замацаванае дазволам Белкамархіву, а 12 кастрычніка дакумэнты паступілі ў БДАМЛМ, дзе маюць № 459 і назву „Асабісты фонд А.Е. Адамовіча, літаратуразнаўца, крытыка, празаіка“. Далейшае папаўненьне названага фонду стала магчымым дзякуючы зборам БІНіМу.

У 2000 г. стараньнямі прафэсара Адама Мальдзіса БДАМЛМ атрымаў унікальны дар з далёкай Аўстраліі — прыватны архіў грамадзка-палітычнага й культурнага дзеяча беларускай эміграцыі Алеся Алехніка. Пра абставіны нялёгкіх шляхоў вяртаньня гэтага архіву на Бацькаўшчыну вядома толькі Адаму Мальдзісу й толькі яму належыць права пра тое распавесьці. Навукова-тэхнічная апрацоўка дакумэнтаў фонду Алеся Алехніка была завершаная ў 2006 г. Ягоны вопіс налічвае чатырыста пяцьдзясят тры адзінкі захоўваньня, якія ўключаюць амаль сем тысяч дакумэнтаў: рукапісы, лісты дзеяча ў Сусьветную антыкамуністычную лігу (*WACL*) і яе рэгіянальныя аддзяленьні, у Антыкамуністычную лігу народаў Азіі (*APACL*) і яе рэгіянальныя аддзяленьні, у арганізацыі Антыкамуністычнага блёку народаў (АБН), у міжнародныя грамадзкія арганізацыі, прэзідэнтам краінаў сьвету, дзеячам міжнароднага руху, дзеячам беларускай эміграцыі, у рэдакцыі беларускіх газэтаў, часопісаў ды інш., лісты Алесю Алехніку ад родных, дзеячаў беларускай эміграцыі, дзеячаў міжнароднага руху, грамадзкіх установаў Рэспублікі Беларусь, беларускіх дзеячаў Летувы, Польшчы, Расеі, Эстоніі, дакумэнты грамадзкай і культурніцкай дзейнасьці, а таксама дакумэнты пра жыцьцё беларускай эміграцыі, пра Беларусь ды інш., сабраныя Алехнікам, фатаграфіі, біяграфічныя ды іншыя матэрыялы.

Нельга абысьці ўвагай і архіўны збор Міхася Швэдзюка, які паступіў у архіў-музэй зь Вялікабрытаніі. Гэта рукапісы дзеяча, у тым ліку й ягоныя ўспаміны, ксэракопіі артыкулаў з замежнай пэрыёдыкі, фатаграфіі й інш. Некалькі паступленьняў для гэтага фонду адбылося праз спрыяньне гуманітарных арганізацыяў, зь якімі падтрымліваў

[10] БДАМЛМ. Справа фонду Антона Адамовіча. Арк. 9.

сувязь Міхась Швэдзюк, значную частку дакумэнтаў перадаў Алег Трусаў, які атрымаў іх ад самога ўладальніка.

Сёньня БДАМЛМ адкрыты для камплектаваньня фондаў асабістага паходжаньня дзеячаў беларускай эміграцыі й фондаў беларускіх арганізацый за мяжой. У траўні 2014 г. пры архіве-музэі створаная і ўжо распачала працу навукова-творчая ініцыятыва „Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа". Асноўныя задачы Цэнтру: выяўленьне беларускіх дакумэнтаў у замежных архівах, музэях і бібліятэках, а таксама прыватных асобаў, арганізацыя камплектаваньня й стварэньне архіўных фондаў, навуковае апісаньне дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа, садзейнічаньне яе захаваньню й вывучэньню, а таксама папулярызацыя ведаў пра дзейнасьць беларускіх арганізацый за мяжой і выдатных асобаў беларускага паходжаньня ў беларускім грамадзтве.

Пададзеныя ў гэтым артыкуле станоўчыя прыклады фармаваньня архіўных фондаў ведамых дзеячаў беларускага замежжа й факт стварэньня згаданага Цэнтру даюць падставы спадзявацца на актывізацыю супрацы як зь беларускімі арганізацыямі, так і з уладальнікамі асабістых архіўных збораў беларускага замежжа.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*
***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ЗГАДВАЮЧЫ ЯЗЭПА ПУШЧУ

*Хацелі народ мой чужынцы зьняславіць*
*І сэрца скрывавіць на раны.*
*Бэнгаліі гордасьць, Бэнгаліі слава!*
*О, гэні народаў забраных!*

„Рабіндранату Тагору“

У 1964 г., пяцьдзясят гадоў таму, памёр Язэп Пушча, першы з тых пісьменьнікаў, што былі рэпрэсаваныя, але выжылі й вярнуліся. Якім згадвалі яго, пра што пісалі на эміграцыі?

Зрэшты, пісаць пра яго пачалі на дваццаць гадоў раней: у 1944 г. у Беластоку выйшла кніжачка Масея Сяднёва „Ахвяры бальшавізму“, у якой расказвалася пра забітых, рэпрэсаваных пісьменьнікаў: Міхася Зарэцкага, Тодара Кляшторнага, Алеся Дудара, Аляксандра Цьвікевіча, Сымона Баранавых. Асобны нарыс прысьвячаўся й Язэпу Пушчу: як і ў выпадку з Ларысай Генію́ш, яго памылкова лічылі загінулым. Праўда, гэта ня быў успамін — аўтар прызнаваўся, што ня ведаў асабіста паэту: *„У Менску, куды я прыехаў зь вялікімі надзеямі на будучае і агнём у сэрцы, Пушчы ўжо ня было — ён быў высланы ў Сібір. Мне не прыйшлося бачыць гэтага чалавека. Ён назаўсёды застаўся для мяне нейкай загадкаю“*[1]. Тэкст — гэта хутчэй эсэ пра любоў да паэзіі Пушчы, пра ейную ролю ў жыцьці Сяднёва.

Блізкі да Сяднёўскага „ўспамін“ Рыгора Крушыны, напісаны ў 1964 г. як водгук на паведамленьне пра сьмерць паэты: тут таксама

[1] Сяднёў, Масей. Масеева кніга. Мінск, 1994. С. 248.



Язэп Пушча

ідзецца пра ролю вершаў Язэпа Пушчы ў жыцьці маладога хлапца, але й робіцца спроба прэтэнзіі на асабістае знаёмства. Спроба, трэба сказаць, ня надта пераканаўчая: *„Памятаю, на вуліцах цьвілі каштаны. У рэдакцыі слуцкай газэты сабраліся паэты-маладнякоўцы Паўлюк Шукайла, Янка Пірат і эксцэнтрычная Іда Чырвань. Сярод іх быў і я, іхны прыяцель, у той час аматар паэзіі. Мы сустракалі гасьцей. Прыехалі два пісьменьнікі зь Менску — Кузьма Чорны і Язэп Пушча. Абодва яны былі маладыя хлопцы. Але нам, тагачасным правінцыялам, ды яшчэ ў зялёным веку, менскія госьці здаваліся паважнымі старымі дзецюкамі. Найбольшую ўвагу мы сканцэнтравалі на Язэпа Пушчу. Ягоны аднагадовы літаратурны стаж і ягонае ўжо ведамае на Беларусі імя выклікалі ў слуцкіх песьняроў пашану й спадзяваньні.*

*І як-жа не спадзявацца, калі сам рэдактар Шукайла верыў і запэўніваў: „У нас на Случчыне паэты растуць, як грыбы. Хутка альманах выдадзім“.*

*— Ну, а як ты, Язэп? — зьвярнуўся ён да Пушчы. — Можа, зборнік рыхтуеш?*

*Мы пачалі пытацца пра навіны ў Менску. Завязалася гутарка аб паэзіі. Язэп Пушча выказаў думкі аб імажынізьме, аб сістэме вобразаў, эмацыянальнасьці верша. Голас у яго быў спакойны, мэлядычны, з выразнымі інтанацыямі. Словы „паэт“ і „паэзія“ ён вымаўляў неяк натхнёна, імпульсыўна, з падвойным націскам, захоўваючы ў першым складзе гук „о“. Гэтую асаблівасьць я пасьля заўважыў на літаратурным вечары, калі ён выступаў з дакладам аб творчай працы „Маладняка“.*

*Сустрэча слуцкай моладзі зь менскімі пісьменьнікамі адбылася ў будынку школы. Паўнюткая заля хвалявалася і цярпліва чакала, каб пачуць беларускае мастацкае слова.*

*Іда Чырвань прыйшла з сваёй прыяцелькай Стасяй“*[2].

Не дазваляе да канца паверыць аўтару ў асабістае знаёмства з Пушчам адсутнасьць хоць якіх дробных дэталяў у аповедзе, ёсьць толькі адно Шукайлава пытаньне (якое мусіць стварыць эфэкт прысутнасьці Крушыны пры гаворцы) пра зборнік — як можна зразумець з кантэксту, першы паэтавы зборнік. Але сустрэча адбылася ў верасьні 1925 г., калі кніга „Раніца рыкае“ (1925) ужо прыйшла да чытача.

Хутчэй за ўсё Рыгор Крушына проста быў у залі слуцкага Дому культуры, на згаданым ім самім творчым вечары, дзе сапраўды выступалі Паўлюк Шукайла, Кузьма Чорны, Язэп Пушча й пра які пазьней напісала Станіслава Плашчынская, паэтава жонка[3].

На самую сьмерць паэта ў газэце „Беларус“ быў зьмешчаны нэкралёг „Памёр Язэп Пушча“:

*„Да нас дайшла сумная вестка, што нядаўна памёр у Менску выдатны беларускі паэта Язэп Пушча (запраўднае прозьвішча — Плашчынскі).*

*Пушча нарадзіўся ў 1902 годзе ў сялянскай сям'і ў вёсцы Каралішчавічы Менскага раёну. Вучыўся на філялягічным факультэце Менскага ўнівэрсытэту, пасьлей у Ленінградзкім унівэрсытэце, які скончыў у 1929 годзе. Першыя свае вершы пачаў друкаваць у 1922 годзе.*

*Ён быў адным з заснавальнікаў і найбольш актыўным, пасьля Уладзімера Дубоўкі, літаратурным дзеячом і ідэйным кіраўніком Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня „Ўзвышша“. За свой гарачы патрыятызм і паважны супраціў саветызацыі Пушча, разам зь іншымі ўзвышэнцамі, быў у 1930-м годзе арыштаваны як нацыянал-дэмакрат і высланы на пяць год на Ўрал, у Шадрынск. Пасьля адбыцьця тэрміну вярнуцца ў родную Беларусь яму не дазволілі, і ён жыў у розных мясцовасьцях на поўдні Савецкага Саюзу, будучы поўнасьцяй адсунутым ад беларускага літаратурнага жыцьця.*

*Да часу свайго арышту Пушча выдаў наступныя зборнікі сваіх твораў: „Раніца рыкае“ (1925), „Vita“ (1926), „Дні вясны“ (1927), „Песьні на руінах“ (1929), а ў 1930 годзе паэму „Крывавы плякат“.*

*У 1956 годзе, у пэрыяд пасьлясталінскай „адлегі“ быў Пушча рэгабілітаваны й вярнуўся ў Менск, дзе й узнавіў сваю літаратурную дзейнасьць. Ды далёка ня ўсе ягоныя ранейшыя творы былі рэгабілітаваныя. У выдадзеным у 1960 годзе зборніку ягоных выбраных твораў была*

[2] Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. Мінск, 2005. С. 306—307.

[3] Пушча, Язэп. Збор твораў у двух тамах. Т. 2. Мінск, 1994. С. 382—384.

*зьмешчаная адно маленькая частка таго, што Пушча напісаў і апублікаваў да 1930 году. У 1963 годзе выйшаў новы ягоны зборнік „Пачатак лягэнды“, які зьмяшчаў вершы парэгабілітацыйных гадоў.*

*Усе беларускія рэгабілітаваныя паэты й пісьменьнікі годна працягваюць у сваіх цяперашніх творах нацыянальныя традыцыі сваей творчасьці з пэрыяду перад іхным арыштам і высылкай, хаця й змушаныя аддаваць неабходную даніну гэтак званай „пабудове камунізму“. Спасярод іх Пушча вырозьніваўся тым, што гэтай даніны ў ягоных парэгабілітацыйных творах было найменш.*

*Гэта й сталася прычынай, што Пушча ня меў ласкі ў афіцыйных савецкіх дзейнікаў. Гэтак калі ягоны найбліжэйшы сябра з „Узвышша“ Ўладзімер Дубоўка першы і адзіны з рэгабілітаваных паэтаў атрымаў за свой новы зборнік „Палеская рапсодыя“ рэспубліканскую літаратурную прэмію імя Янкі Купалы за 1962 год, дык Пушчаў зборнік „Пачатак лягэнды“ ня быў навет прадстаўлены да такой прэміі за 1963 г. У выдадзеным у 1963 годзе аўтабіяграфічным зборніку „Пяцьдзесят чатыры дарогі“ знайшлося месца навет для некаторых пачынаючых пісьменьнікаў. Але не знайшлося месца для Пушчы.*

*Пушча быў адным з тых беларускіх паэтаў, што найбольш бараніліся ад камуністычнай казёншчыны ў сваіх творах. І быў адным з тых, што ўсёй сваёй душой і сэрцам любілі Беларусь.*

*Дык няхай-жа будзе яму лёгкай родная беларуская зямля!*“[4].

Студзеньскі нумар гэтае ж газэты паведамляў пра вечар памяці паэты:

*„Улетку сёлета ў менскай газэце „Літаратура і Мастацтва“ зьявілася была ляканічная вестка: памёр паэта Язэп Пушча. Дзе, калі і зь якое прычыны — у газэце не пісалася. Ня пісалася таксама нічога і аб тым, дзе й калі паэта пахаваны.*

*Гэтак адзначыла скон аднаго з буйнейшых паэтаў Беларусі, узвышэнца Язэпа Пушчы — зьняволенага, засуджанага й высланага зь Менску ў 1930-м годзе ды рэгабілітаванага адно чвэрць веку пасьлей — савецкая прэса.*

*Зусім інакш, із глыбокім жалем ды абурэньнем, адчула гэтую балючую страту беларуская эміграцыя ў вольным сьвеце. Сьмерць аўтара „Лістоў да сабакі“, „Ценю Консула“ ды іншых выдатных твораў была адзначаная на балонках беларускае эміграцыйнае прэсы. А 20-га сьнежня сёлета Галоўная і Акруговая Ўправы Беларуска-Амэ-*

[4] Беларус. № 90. Верасень 1964. С. 3.

*рыканскага Задзіночаньня ў ЗША зладзілі былі ў Нью-Ёрку прысьвечаную Язэпу Пушчу жалобную акадэмію.*

*Акадэмія адбылася ў залі Ўкраінскага Літаратурна-Мастацкага Клюбу. Яна пачалася ўступным словам старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА др. Ст. Станкевіча. Пасьля ўшанаваньня памяці памерлага паэты ўставаньнем і часінаю цішы, праф. Эльза Зубковіч выканала на фартап'яне жалобны Марш Бэтговэна. Рэфэрат, прысьвечаны жыцьцю й творчасьці Язэпа Пушчы, меў праф. А. Адамовіч. Прааналізаваўшы творчасьць Язэпа Пушчы (зь якім ён быў вельмі блізкі ў 20-х гадох) ад самых пачаткаў, дакладчык прыйшоў да высноваў, што Язэп Пушча быў праз усё сваё жыцьцё верны двум ідэалам — бацькаўшчыне і красе*“[5].

Пра няўвагу, фактычнае ігнараваньне Пушчы ў сьмерці й пасьля сьмерці з боку беларускае інтэлігенцыі гаварылася і ў артыкуле Станіслава Станкевіча „На ўгодкі Язэпа Пушчы“: *„Ані тая-ж „Літаратура і Мастацтва“, ані які-небудзь іншы часапіс ці газэта ня прысьвяцілі памерламу паэце ніводнага большага артыкулу. Характэрна, што ні словам не адзначылі ягонай сьмерці й часапісы „Полымя“ й „Маладосьць“, у якіх друкаваліся бадай што ўсе парэгабілітацыйныя вершы Язэпа Пушчы.*

*Ні словам ня былі адзначаныя ў беларускім савецкім друку й першыя ўгодкі Пушчавай сьмерці. А ў выдадзеным у 1964 годзе першым томе „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры“ творчасьці Пушчы прысьвечаныя ўсяго два сказы ў розных месцах гэтае кнігі. У гэтых сказах падчыркнутыя адно „ўпадніцкія матывы“ ды „буржуазны нацыяналізм“ у творах паэты дваццатых гадоў.*

*[...] Язэп Пушча верна служыў бацькаўшчыне-Беларусі ад самага пачатку сваёй паэтычнай творчасьці ў 1922 годзе і аж да свайго арышту й высылкі ў 1930 годзе. У сваіх творах гэнага часу Пушча разглядаў савецкую ўладу як варожую чужацкую акупацыю, а Беларусь як укрыжаваную акупантамі. „На ростані ўсходня-заходніх дарог цябе, дарагая, яны ўкрыжавалі“, — скардзіўся паэта ў вадным сваім вершы. „Хто з крыжа краіну расьпятую здыме? Узываю, малюся я ў грэшнай істоце“, — непакоіўся ён у іншым сваім вершы*“[6].

30 кастрычніка таго ж 1965 году новы сэзон літаратурна-навуковых вечароў распачаўся праслухоўваньнем стужак з праграмамі Радыё

[5] Беларус. № 94. Студзень 1965. С. 6.

[6] Беларус. № 103. Кастрычнік 1965. С. 3.

„Свабода“, прысьвечаных творчасьці Язэпа Пушчы, аўтарства Антона Адамовіча й Станіслава Станкевіча. На вечары былі выказаныя прапановы пра збор грошай на выданьне збору твораў паэты[7].

У газэце „Беларус“ друкаваліся матэрыялы Станіслава Станкевіча да пятых угодкаў сьмерці паэта[8], дзясятых[9] і да адзначэньня 75-х угодкаў ад нараджэньня, дзе, у прыватнасьці, пісалася наступнае: *„Зьдзіўляе вялікая паэтычная плённасьць паэты ў парэгабілітацыйным пэрыядзе. І гэта не зважаючы на працяжную хваробу, набытую ў высылцы, з прычыны якой ён і памёр прадчасна ў 1964 годзе на 62-м годзе жыцьця. Ніводзін зь іншых рэгабілітаваных беларускіх паэтаў не патрапіў выявіць у сваіх творах гэткай непахіснай веры сваім ранейшым нацыянальным ідэалам, як Язэп Пушча. У ягоных парэгабілітацыйных творах прагучэлі з гэткай-жа, як і раней, моцай беларускія нацыянальныя матывы пры амаль поўнай няўвазе да накіданых згары савецкіх матываў. Больш таго, у ягоным вершы 1960 году „Валуны“ ў алегарычным вобразе валуноў, што з поўначы спаўзьлі на Беларусь, паэта глыбака асэнсаваў паднявольнае палажэньне Беларусі. [...]*

*Не зважаючы на ажыўленую творчую актыўнасьць Язэпа Пушчы ў парэгабілітацыйным часе, у выдадзеным 1966 годзе другім томе „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры“, што абыймае паваенны пэрыяд, пра парэгабілітацыйную творчасьць ягоную ня сказана ўжо нічога“*[10].

А на 80-я паэтавы ўгодкі быў зьмешчаны вялікі зьмястоўны матэрыял пад назовам „Двойчы на выгнаньні“, дзе пра яго гаварылася як пра *„асуджанага валадарамі савецкае Беларусі на творчае забыцьцё“*: *„Пушчу не прынялі ў жаданыя. Другім выгнаньнем ягонай творчасьці абярнулася тая ўмоўная рэгабілітацыя“*[11].

Паралельна з публікацыяй артыкулаў памяці Пушчы на старонках „Бацькаўшчыны“ (яшчэ да сьмерці) і „Беларуса“ друкаваліся й ягоныя вершы[12].

---

[7] Беларус. № 104—105. Лістапад—сьнежань 1965. С. 8.

[8] Беларус. № 149. Верасень 1969. С. 4.

[9] Беларус. № 209. Верасень 1974. С. 3.

[10] Беларус. № 242. Чырвень 1977. С. 7—8.

[11] Беларус. № 300. Травень 1982. С 1—2, 4.

[12] Вершы: 1. „Высіцца, высіцца арка...“, 2. „Затрасьліся у лесе асіны...“ // Бацькаўшчына. № 24 (306). 10 чырвеня 1956. С. 3—4; „Сілы марна не растрачаны, пакідаю песьню ў спадчыну“ (У вянок на сьвежую магілу Язэпа Пушчы).⇨

Гаворачы пра публікацыі, прысьвечаныя паэту, трэба асобна спыніцца на кнізе Ўладзімера Глыбіннага (Сядуры) „Паэта з Божае ласкі: успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу“, выдадзенай коштам аўтара ў 1979 г. у Нью-Ёрку. Па сёньняшні дзень гэта адзіная пазыцыя, якую выдаюць каталёгі амэрыканскіх бібліятэкаў на запыт *„кнігі пра Пушчу“.*

Кніга, сапраўды, складаецца з роздумаў аўтара над вершамі паэты і ўспамінамі, але ўспамінамі найперш і галоўным чынам пра сябе самога, што добра дэманструюць назовы разьдзелаў: „Калі ўпершыню я пачуў тое імя“, „Набываю Пушчавы зборнікі“, „Я чытаю „Дні вясны““, „Я ўпяршыню слухаю голас Язэпа Пушчы“, „Нарэшце я бачу самога Язэпа Пушчу“. Успаміны — пра час навучаньня ў Менскім пэдагагічным тэхнікуме імя Ўсевалада Ігнатоўскага — блізкія да ўспамінаў Язэпа Лешчанкі (Міхася Кавыля) „Казённы дом і казённая дарога“[13], што й зразумела: тая-ж самая навучальная ўстанова, тоесамае кола сяброў і знаёмых, паэма „Бэнгалія“. З папраўкаю на пазнавальную манэру Глыбіннага.

Аўтар, як і Рыгор Крушына, бачыў Пушчу з залі, але „згадаў“ пра тое так: *„У першым шэрагу зьлева сядзеў малады чарнявы чалавек у чорным гарнітуры. Уся ягоная постаць неак адразу выдавала чалавека сьціплага, што ня лезе без патрэбы з сваім меркаваньнем і ня выкрыквае свайго „я“. Калі іншыя па колькі разоў бралі слова, выказваліся ў розных пытаньнях, рабілі прапановы, дык той малады чалавек адно спакойна выслухоўваў чужыя прамовы і калі трэ' было, падымаў руку за тую ці іншую прапанову. Відаць, што быў сябрам згуртаваньня. Адно час-па-часе аглядаўся на аўдыторыю, нібыта дзівячыся, што народу ў залі было небагата, дарма, што аб сходзе было апавешчана ў друку. І гэткім сьвятлом прывабнае сьціпласьці тады сьвяціліся ягоныя вочы, што мне ня трэба было доўга гадаць, хто гэта быў. Яшчэ пры першым маім зьяўленьні ў тэй залі, акінуўшы вачыма сьпіны прысутных, я ўжо здагадаўся, дзе шуканы мною паэ-*

⇨ Нізка вершаў Язэпа Пушчы: 1. На ростані, 2. ...О Беларусь! Тваё мінулае..., 3. Асеньнія песьні, 4. Як люба тут..., 5. Рабіндранату Тагору, 6. Бальзам жывой вады, 7. Лета, 8. Буду жыць, 9. Равесьнікам, 10. Валуны, 11. Дарогі юнацтва, 12. ...Па-над вёскамі і сёламі... // Беларус. № 91. Кастрычнік 1964. С. 3; З паэтычнай спадчыны: 1. Лісты да сабакі, 2. Ліст ад сабакі // Беларус. № 92—93. Лістапад — сьнежань 1964. С. 7—8.; Валуны // Беларус. № 149. Верасень 1969. С. 4; Зь „недасланых лістоў“ // Беларус. № 300. Травень 1982. С. 2. (Вершы, напісаныя ў ссылцы).

[13] Запісы БІНіМ. № 20. 1992. С. 65—101.

*та. Але сустрэча паглядаў, калі ён аглянуўся быў яшчэ першы раз пры мне, акінуў беглым зіркам прысутных і неяк асабліва лагодна затрымаўся на момант на маім твары, нібыта таксама цікуючы, хто-ж я такі тут, адразу-ж і канчальна раскрыла мне тую тайну і пакончыла з няпэўнасьцяй. Паэтаў зрок неяк, мне здалося, крышачку, адным краем павека, міргнуў мне, а вусны ўсяго на адзін мірг ухмыльнуліся. Я-ж ня ведаў, што рабіць, і неяк зьбянтэжана ўраз адвярнуў твар да трыбуны. Хто яго ведае, што тэю ўхмылкаю хацеў паэта сказаць намнога маладзейшаму яму хлопцу, якога ён упяршыню пабачыў ды яшчэ на такім паважным зборышчы. Можа адно зьдзіўленьне, што такі бязвусы юнак, які напэўна ў літаратуры разумее ні больш чымся парася ў апэльсінах, а ўжо прышоў пацікавіцца асобамі літаратурнага сьвету. Адылі ціхая, поўная ласкавай даравальнасьці і лагоднай прыязьні ўсьмешка гаварыла: нічога, хлопец, будзе і ў тваёй хаце вясельле. Падрасьцеш, пазнаеш, зь якім ліхам тая літаратура купляецца. А наразе праходзь тое першапачатнае выпрабаваньне з высака ўзьнятай галавой. Паэтава ўхмылка мяне падбадзёрвала. Пасьля я чакаў ужо, каб ён зноў павярнуўся да залі. Хацелася яшчэ раз выпрабаваць тую чароўную, незабыўную, лагоднa-чалавечую ўхмылку, якой ненарокам абдарыў мяне паэта. Аднак, прышлося доўга чакаць. Неўзабаве сход прыступіў да выслухоўваньня Бабарэкавага дакладу аб узвышэнскай паэзіі. Я ўглыбіўся ў слуханьне цікавых для мяне думак. Дакладчык гаварыў аб асаблівасьцях паэзіі ўзвышэнскай школы, ілюстраваў свае думкі вытрымкамі зь вершаў Дубоўкі і Пушчы, Лужаніна і Дарожнага, Жылкі й Глебкі, зьвяртаў увагу на кантраставасьць вобразаў паэтаў-узвышэнцаў. Ня ўсё адразу ўваходзіла ў галаву, калі тая ўсё яшчэ трымала сьвежы абраз такое ўразьлівае і памятлівае ўхмылкі, відаць, добрага сэрцам і спагадлівага душою чалавека.*

*Аж раптам чую, што Адам Бабарэка загаварыў пра водгукі друку, адзначыў кампанію паклёпнікаў тыпу Бэндэ, Глыбоцкага, Гародні, а пасьля спаслаўся на дадатныя водгукі. І вось чую я сваімі собскімі вушамі, як Бабарэка ўдзячліва называе й мой водгук пра „Ўзвышша“ ў „Савецкай Беларусі“.*

*О, гэта быў ужо другі ў той дзень надзвычайны падарунак удзячлівага лёсу ў дачыненьні да нязнанага тут юнака ў маёй асобе. Які радасны гэта момант быў не адно тады, у той цёплы сонечны травеньскі дзень, але, цяпер аглядаючыся, магу напэўна сказаць, што і ўва ўсім маім літаратурным жыцьці. Пазьней ніводзін посьпех, ні*

*выхад колькіх кніжок, ні вызнаньне нават у шырокім сьвеце, ні што іншае гэтак не ўзрушыла і ня радавала, як тое тады Бабарэкава згадваньне невядомага яму ў твар аўтара*“[14].

Развагі Ўладзімера Глыбіннага над Пушчавымі вершамі й паэмамі, неадназначныя й няроўныя, тым ня менш мала чым саступаюць тэкстам акадэмічных гісторый літаратуры, а ў чымсьці маюць і ўнікальнае значэньне: *„Асаблівае сатырычнае сілы набыў Пушчаў талент, калі ён пісаў сваю паэму „Сады вятроў“ у 1930 г. Перад ягонымі вачыма тады паўстаў быў поўны абраз чалавечае слабасьці, здольнасьці да кампраміса з сваім сумленьнем, адмовы ад сьветлых ідэалаў пад ціскам чорных сілаў на чалавека. Гэта быў год, калі наступ на „Ўзвышша“ гэтулькі ўзмацніўся, што ў гэтым літаратурным згуртаваньні адбываецца раскол, інсьпіраваны партыяй. [...] Тыя, хто паддаліся на партыйную дэмагогію, такія асобы, як К. Крапіва, П. Глебка, З. Бядуля, асуджалі ўпартасьць Бабарэкі, Дубоўкі, Пушчы. Адзінага ўзвышэнца-партыйца, які пасьлядоўна абараняў „Узвышша“ ад усіх наскокаў з боку бальшавіцкае крытыкі, Фелікса Купцэвіча, ужо ня было там. Ён быў вылучаны яшчэ раней, , пасьля выступленьня газэты „Зьвязда“ з артыкулам, у якім выкрыла Купцэвіча як носьбіта антысэмітызму на падставе ягоных-жа лістоў, у якіх ён выказваўся супраць жыда Бядулі.*

*Але, якраз паводзіны Бядулі на тых сходах і навялі Пушчу на сатырычны вобраз Мярохі ў паэме „Сады вятроў“. Як старэйшы і больш абазнаны з мэтадамі тэрарыстычнага перасьледу ўсіх, хто думаў ня згодна з бальшавікамі, сьведка гадоў тэрору, Зьмітрок Бядуля на тых сходках папярэджваў хлопцаў, каб былі асьцеражнейшыя, ня вытыркалі свае рэвалюцыйнасьці ды непаслухмянасьці што да палітыкі партыі. Асобна ён папярэджваў Язэпа Пушчу, зьвяртаючы ўвагу [на пагрозу]*[15] *„Ўзвышшу“ за надрукаваньне „Лістоў да сабакі“ ды іншых твораў, якія сталіся сталымі аб’ектамі нападу г. зв. марксыстоўскае партыйнае крытыкі. Язэп Пушча ў Бядулевых вачох быў асабліва нявыгаднай для рэпутацыі „Ўзвышша“ фігурай. „Хлопцы, будзе кепска! О, гэты Язэп Пушча! „Лісты да сабакі“! Дабра не чакайце! Папярэджваю, можа адбыцца нешта страшное! Лепш*

[14] Глыбінны, Уладзімер. Паэта з Божае ласкі: успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу. Нью Ёрк, 1979. С. 46—49.

[15] У некалькіх асобніках кнігі Ўладзімер Глыбінны зрабіў праўкі асадкаю, дадаючы прапушчаныя словы й выпраўляючы памылкі.

*адумайцеся, хлопцы, пакуль ня позна! Будзе кепска, кажу вам я, стары чалавек“ – папярэджваў і ня бяз рацыі, як пазьней спраўдзілася, асьцярожны й палахлівы Бядуля. Пэўна-ж, тады ніхто з тых абвінавачаных ува ўсіх ухілах узвышэнцаў і не ўяўляў, што зь імі можа стацца праз некаторы час. Ім выдавалася Бядулева папярэджаньне нічым іншым, як выяўленьнем залішняй палахлівасьці і здрабненьня чалавечае душы. Купцэвічавы засьцярогі і папярэджаньні адносна З. Бядулі набывалі цяпер новае рацыі. У вачох адважнага аўтара „Лістоў да сабакі“, што даў зарок „сьпяваць мяцежныя гімны“ і „несьці запаленую ліхтарню“ свабоды ў цемры савецкае начы (верш „Прыяцелям-паэтам“ 1926 г.), такія паводзіны З. Бядулі штурхнулі да стварэньня новага сатырычнага характара“*[16].

Разьдзел дванаццаты кнігі Ўладзімера Глыбіннага называецца „У вянок гэнію „народаў забраных““: *„Цэлую чвэрць стагодзьдзя з гакам Язэп Пушча быў выкрэсьлены зь ліку не адно існуючых, але і існаваўшых у беларускай літаратуры. Ягонае імя нават ня згадвалася ў кнігах па беларускай савецкай літаратуры. Адно за мяжой, у вольным сьвеце, і можна было памянуць добрым словам імя таго, хто быў праз усе дваццатыя гады гонарам і надзеяй маладой паэзіі. Пра Пушчу пісаў у кнізе „Апазыцыя саветызацыі ў беларускай літаратуры“ (на ангельскай мове) Антон Адамовіч. Неаднаразова давала месца Пушчавым вершам газэта „Бацькаўшчына“, а таксама нью-ёрская газэта „Беларус“. А ў красавіку 1961 году Язэп Пушча стаўся фактарам шырокіх міжнародных культурных кантактаў. На сустрэчы студэнтаў і сяброў факультэту політэхнічнага інстытуту ў амэрыканскім горадзе Трой у штаце Нью Ёрк зь ведамым індыйскім філёзафам, палітыкам, паэтам, навукоўцам і гуманістым, доктарам Амія Чакраварты, колішнім сакратаром Рабіндраната Тагора, яму быў перададзены пераклад у ангельскую мову разам з арыгіналам Язэпа Пушчы „Рабіндранату Тагору“. [...]*

*Гэты дарунак зрабіў на д-ра Чакраварты вялікае ўражаньне яшчэ й дзеля таго, што ён сам удзельнічаў у якасьці асабістага сакратара Тагора ў часе вандраваньняў апошняга па ўсяму сьвету ў гадох 1926—1933 і памятае той намер Тагора адведаць Беларусь як краіну, што ў сілу свайго паняволеньня мела асаблівую нагоду цікавіцца творчасьцяй выдатнага змагара з усялякімі каляніяльнымі ёрмамі на шляху свабодалюбівых народаў. Дзеля перашкод з боку*

[16] Глыбінны, Уладзімер. Паэта з Божае ласкі... С. 82—85.

*ўладаў Тагору тады не давялося адведаць Беларусь. Але паэтычны верш Язэпа Пушчы і на сёньня гучыць магутным зваротам да сусьветных аўтарытэтаў вызвольнае ідэялёгіі, да ўсяго сьвету з напамінам аб няпрыглядным лёсе „забраных краінаў“, Беларусі асобна.*

*Пазьней, натхнёны Язэпам Пушчаю, малады Сяргей Астрэйка створыць сваю паэму „Бэнгалія“, у якой пад выглядам апісаньня Брытанскае калёніі Бэнгаліі даваўся фактычна шырокі абраз каляніяльных парадкаў на Беларусі. Але менавіта Язэп Пушча распачаў аналёгію, што да супольнасьці лёсу і імкненьняў да вызваленьня Бэнгаліі і Беларусі. Таму і Рабіндранат Тагор, гонар і слава Бэнгаліі, вызнаецца імі і за гэнія ўсіх „паняволеных народаў“, а вынікі чыноў акупантаў на Беларусі ўцелаўляюцца ў вобразе „кветак крыві“. Пушча ў сваім вершы выказаў гэтулькі глыбокага пачуцьця ўдзячнасьці, пашаны да Рабіндраната Тагора і ягонае бацькаўшчыны і народу Бэнгаліі, што д-р Чакраварты адразу зразумеў ягоную высокародную ідэю і пры гэтым выявіў добрае запазнаньне з становішчам Беларусі і ейнымі вызвольнымі імкненьнямі.*

*На разьвітаньне  д-р Чакраварты шчыра дзякаваў У. Глыбіннага за каштоўны для тагоразнаўства дакумант як сьведчаньне жывучасьці і няўмірučасьці супольных ідэяў свабоды народаў. Д-р Чакраварты абяцаў неадкладна паслаць арыгінальны тэкст і пераклад Пушчавага верша ў Калькуту (Бэнгалію) у Музэй і Архіў Рабіндраната Тагора, каб зрабіць іх аб’ектамі вывучэньня для бібліёграфаў, біёграфаў і літаратуразнаўцаў, што вывучаюць Тагораву літаратурную спадчыну і жыцьцё. Гэтак Пушчава творчасьць служыць справе азнаямленьня сьвету з нашымі нацыянальнымі здабыткамі і мэтамі і спрыяе культурным кантактам на сусьветным узроўні“*[17] .

Сёлета, ушаноўваючы памяць выбітнага паэты, які сышоў пяцьдзясят гадоў таму, „Запісы“ публікуюць лісты Язэпа Пушчы да дачкі Ўладзімера Жылкі, арыгіналы якіх захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў фондзе Ўладзімера Калесьніка.

[17] Глыбінны, Уладзімер. Паэта з Божае ласкі.. С. 120—124.

* * *

*7 лютага 1961 г.*
*Мінск*

*Дарагая Наталля Уладзіміраўна*[18] *!*

*Сёння я, Язэп Пушча, зайшоў у Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР, і ў мяне старшыня секцыі паэзіі, паэт Русецкі, запытаўся, ці ведаў я Ўладзіміра Жылку, г. з. Вашага папу. Я ахвотна сказаў, што ведаў і нават вельмі добра, і сёе-тое расказаў пра яго. Тады т. Русецкі пазнаёміў мяне з лістом, які Вы прыслалі ў саюз пісьменнікаў. З гэтага ліста я і даведаўся пра Ваш адрас і вырашыў, разам з жонкай Стасяй, напісаць Вам невялічкі ліст. Я назваў Вам імя жонкі — Стася. Вядома, яно Вам незнаёма, але калі жыве Ваша мама Рыма, то яна яго павінна памятаць. Стася добра памятае Вас маленькай. Напрыклад, у памяці захаваўся такі эпізод: аднойчы, а гэта аднойчы было ў Мінску, бадай што ў 1930 годзе, калі яна зайшла да Вашай маці, дык маленькая Атачка, гэтак Вас тады звалі, ляжала на пасцельцы і дрыгала ножкамі ў такт музыцы на піяніне, на якім іграла Ваша мама.*

*У нас аж да гэтага часу захавалася памятнае ялцінскае фота Вашых бацькоў. Мы добра іх ведалі.*

*З намі ў 1930 годзе здарылася тое ж, што і з імі. Пісаць пра гэта не будзем, няхай раскажа Вам мама.*

*Вярнуліся мы ў Мінск у 1958 годзе, праз паўгода атрымалі невялічкую кватэру, у якой жывем і зараз.*

*У 1960 годзе ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве выйшлі дзве кніжкі Язэпа. Але пра сябе пісаць годзе.*

*Пару слоў пра Вашага папу. Перш за ўсё, ці рэабілітаваны ён? Пра гэта ў Саюзе пісьменнікаў дакладна не ведаюць. Калі рэабілітаваны, то Вы маеце права атрымаць за бацьку двухмесячную кампенсацыю, прапісацца ў Мінску і атрымаць кватэру.*

*Зараз рыхтуецца да выдання анталогія беларускай літаратуры, і мне сказалі ўкладальнікі анталогіі, што ў плане ёсць імя і Вашага бацькі, і калі ён рэабілітаваны, то яго творы будуць змешчаны.*

*Нам вельмі цікава ведаць, дзе жыве Ваша мама, як яе здароўе?*

*Калі давядзецца Вам пабываць у Мінску, дык просім наведаць нас. Будзем рады Вас сустрэць.*

[18] **Натальля Ўладзімераўна Лазарава** — дачка Ўладзімера Жылкі.

*З сардэчным прывітаннем да Вас і Вашай мамы*

*Пушчы Язэп і Стася.*

*Наш адрас: Мінск, Нававіленскі завулак, д. 10, кв. 23.*

*Дарагая Ната Ўладзіміраўна!*

*Прабачце мне, што я трохі затрымаўся з адказам на Ваш ліст, які мяне глыбока ўзрушыў. Справа ў тым, што мне крыху не павязло: захварэў і дзесяць дзён праляжаў у пасцелі. Але зараз акрыяў і пішу Вам ліст.*

*Не чакаў я, што Рыма гэтак непачалавечаму, здзекліва аднясецца да свайго мужа, а Вашага папы*[19] *. Заслужыла яна пагарду, калі не больш. Проста цяжка паверыць, як яна магла так хутка страціць пачуццё і жонкі, і маці, сумленне і чалавечую годнасць сваю. Жахліва!*

*Я ўспамінаю, з якім замілаваннем Ваш папа адносіўся да мамы. Ды ён як чалавек надзвычай гуманны і інтэлігентны і не мог па іншаму адносіцца. І за ўсё гэта якая „ўзнагарода“? Як шкада, што папа Ваш гэтак памыліўся ў сваёй „сяброўцы“.*

*Але пра гэта годзе. Не буду болей варушыць балючых Вашых ран. Даруйце мне, калі дазволіў я сабе што-небудзь лішняе.*

*Паведамляю Вам, што газета „Літаратура і Мастацтва“ збіралася надрукаваць некалькі вершаў Вашага папы, але, на вялікі жаль, як сказаў мне адзін з супрацоўнікаў газеты, нават у Ленінскай бібліятэцы нічога не захавалася з яго твораў.*

*Такім чынам, калі Вы маеце тэксты папіных твораў, дык лепшыя з іх перапішыце, нічога не змяняючы ў іх, і пашліце ў газету, магчыма, надрукуюць.*

*Я рад за Вас, што Вы знайшлі ў жыцці свой светлы шлях, сталі патрэбным і карысным чалавекам для нашага грамадства.*

*Мне вельмі блізка настаўніцкая праца, аддаў ёй я трыццаць гадоў свайго жыцця, з якіх апошніх дваццаць гадоў быў дырэктарам сярэдняй школы.*

*Шчыра дзякуем за Ваша запрашэнне наведаць Вас. Пакуль што абяцаць не абяцаю, а калі давядзецца пабываць у Вашых краях, дык не абміну і Вашае хаты, абавязкова зайду.*

*Пасылаю Вам на памяць сваю кніжку „Вершы і паэмы“, а для Вашых дачушак казку „На Бабрыцы“.*

[19] Жонка Рыма кінула хворага Ўладзімера Жылку ў высылцы, а дачку аддала на выхаваньне маці паэта.

*Вось, бадай, і ўсё, пра што хацелася напісаць Вам у лісце.*

*З сардэчным прывітаннем да Вас Язэп Пушча.*

*5 сакавіка 1961 года*

*Мінск*

*Добры дзень, дарагая Наташа Ўладзіміраўна!*

*Ваш сардэчны ліст атрымаў, за які мая Вам шчырая падзяка.*

*Як шкада, што Вы да гэтага часу не ведаеце, ці рэабілітаваны Ваш папа. Вы пытаецеся, куды Вам напісаць, каб даведацца...*

*Я чалавек у гэтым мала спрактыкаваны, бо сам пра сябе нікуды і нічога не пісаў, і толькі вясной 1958 г., па настаянню сяброў, зайшоў у канцылярыю пракурора рэспублікі, дзе мне і сказалі, што я рэабілітаваны яшчэ ў студзені 1956 года.*

*Ну, а што ж параіць Вам? Мне здаецца, пішыце заяву на імя пракурора рэспублікі. У заяве напішыце, што Вы дачка і просіце, каб Вам паведамілі, ці рэабілітаваны Ваш бацька Ўладзімір Жылка, які быў арыштаваны ў 1930 годзе па так званай справе беларускіх нацыянал-дэмакратаў і быў высланы ў Уржум, дзе ў 1932 годзе і памёр ад сухот. Калі ж яшчэ да гэтага часу не рэабілітаваны, то прасіце, каб разгледзелі яго справу і аб выніках паведамілі Вас. А можа ці не лепш было б, каб Вы асабіста самі наведалі пракурора рэспублікі і пагутарылі з ім? Ці так, ці гэтак, але хутчэй рабіце захады, бо ад рэабілітацыі залежыць і ўсё іншае...*

*Таксама шкада, што не маеце Вы амаль нічога з літаратурнай спадчыны свайго папы. Пішыце, можа што-небудзь захавалася ў Дубоўкі ці ў Александровіча*[20] *. Дубоўкі я не бачыў, бо ён жыве ў Маскве, а ў Александровіча нічога няма.*

*Затое гэтымі днямі з Ленінграда ў Мінск прыязджаў нехта Бэнда*[21] *. Можа і чулі калі-небудзь пра яго? Хоць гэты чалавек у дваццатыя-трыццатыя гады адыграў і ганебную ролю ў лёсе многіх беларускіх пісьменнікаў, але ён захаваў у сябе багаты архіўны літаратурны матар'ял нашых пісьменнікаў.*

*Ён мне сказаў, што ў яго захаваліся творы і Вашага папы. Я папрасіў, каб ён зрабіў такую ласку і прыслаў іх у Мінск, калі не назусім, дык хоць на некаторы час, каб можна было выкарыстаць у друку як*

[20] Маецца на ўвазе **Андрэй Александровіч** (1906—1963), паэт, дзіцячы пісьменьнік, крытык.

[21] Маецца на ўвазе **Лукаш Бэндэ** (1903—1961), літаратуразнаўца й крытык. Ад 1934 г. жыў у Ленінградзе.

*літаратурную спадчыну. Паабяцаўся выслаць, а ці зробіць, хто яго ведае. Калі доўгі час не будзе высылаць, дык я даведаюся яго ленінградскі адрас, прышлю Вам і Вы ўжо самі напішыце яму адпаведны ліст.*

*Сардэчна вітаю Вас і Вашу сям'ю.*

*Язэп Пушча.*

*7 красавіка 1961 г.*

*Мінск*

*Дзень добры, дарагая Наталля Ўладзіміраўна!*

*Толькі што атрымаў ад Вас ліст і адразу пішу адказ. Можа Вас крыху здзівіла тое, што даўгі час я не пісаў Вам? Справа ў тым, што я меў надзею сустрэцца з Вамі ў Полацку, але не адбылася гэта сустрэча. 10—11 мая я разам з другімі пісьменнікамі быў у Полацку на ўшанаванні Янкі Журбы ў сувязі з яго васьмідзесяцігоддзем з дня нараджэння. Хацеў даехаць да Вас, але мне сказалі, што далёка: сорак кіламетраў. Не ўдалось, не пабачыўся і вельмі шкадую. 11 мая на самалёце вярнуўся ў Мінск, і вірусны грып зваліў мяне ў пасцель. Усё яшчэ не ачуняў як мае быць, але ліст Вам пішу.*

*Мы ўсёй сваёй сям'ёй разам з Вамі, дарагая Наташа, падзяляем Вашу вялікую радасць. Ваш папа рэабілітаваны — так яно і павінна быць, бо ня меў жа ён ніякай віны перад народам сваім і радзімай.*

*У сувязі з рэабілітацыяй Вашага папы я хачу зрабіць Вам некаторыя парады:*

*1. Знiміце копій шэсць — дзесяць з дакумэнта аб рэабілітацыі, які Вам прыслаў Вярхоўны суд БССР. Натарыяльная кантора гэтыя копіі завярае без грошай. Копіі Вам спатрэбяцца, а аўтэнтык беражыце, бо другі раз ён не выдаецца.*

*2. Калі не маеце дакумэнта аб смерці папы, то запрасіце яго з Уржумскага загса, ён Вам патрэбны.*

*3. Таксама Вам юрыдычна трэба ўзаконіць, што Вы з'яўляецеся адзінай наследніцай свайго папы, бо без гэтага дакумэнта Вам не выдадуць ні двухмесячнай кампенсацыі па апошнему месцы працы папы, а яна павінна быць указана ў даведцы Вярхоўнага суда, ні ганарару, калі будуць надрукаваны папіны творы.*

*Вось што трэба Вам зрабіць у першую чаргу, і з гэтым не марудзьце. Чым хутчэй, тым лепш.*

*Зараз пра выданне лепшае з літаратурнай спадчыны Вашага папы.*

*Рыхтуецца выданне анталогіі беларускай паэзіі, якая выйдзе ў канцы гэтага году, творы Вашага папы запланаваны, толькі трэба падабраць іх.*

*Відавочна, часопіс „Полымя“ змесціць падборку вершаў.*

*Што да выдання ў выдавецтве выбраных твораў асобным выданнем, то перш за ўсё трэба сабраць творы, а, на жаль, да гэтага часу Бэндэ нічога не прыслаў і не напісаў. Давядзецца Вам як дачцы звярнуцца да яго з просьбай. Калі творы будуць сабраны, тады прэзыдыум Саюза пісьменнікаў прыме належную пастанову аб іх выданні. Па гэтаму пытанню 26 мая буду я гутарыць з старшынёй Саюза т. Броўкам*[22] *.*

*Аднак, каб усе справы зрушыць з месца, варта Вам у бліжэйшы час прыехаць у Мінск. Мы рады будзем Вас прыняць у сваёй сям'і. Неўзабаве канікулы, прыязджайце, чакаем.*

*З сардэчным прывітаннем да Вас*

*Пушча*

*24 мая 1961*
*Мінск*

[22] Маецца на ўвазе **Пятрусь Броўка** (1905—1980), пісьменьнік і грамадзкі дзеяч, які ў 1948—1967 гг. быў старшынём праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР.

# ДА 10-Х УГОДКАЎ СЬМЕРЦІ ЯНКІ ЮХНАЎЦА



Янка Юхнавец

*Янка Юхнавец памёр у 2004 г. На сёньня выдадзены бадай поўны збор ягоных вершаў[1], драмы[2], „Запіскі й зацемкі“[3] (дзёньнік, унікальны для эміграцыі; ён не кранае палітычныя падзеі, не занатоўвае штодзённасьць, якой-бы актыўнаю тая ні была; Юхнаўцовы дзёньнік — гэта развагі й назіраньні, думкі пра казкі й Беларусь, пра кнігі й мастацтва, пра творчасьць уласную ды іншых пісьменьнікаў, ня толькі беларускіх), раман „Яно“[4] й аўтарскія камэнтары: „Да „Яно“ ад сябе, аўтара“[5] — так, як зрабіў Томас Ман з „Доктарам Фаўстусам“ да Юхнаўца ды Умбэрта Эка зь „Імем Ружы“ — пасьля.*

*Толькі мала што зьмянілася ў пасьмяротным лёсе гэтага „непа-*

[1] Юхнавец, Янка. Паэзія. Мінск, 2012. — 616 с.

[2] Юхнавец, Янка. Успаміны (сцэнічны начырк), Урачыстасьць у садзе (драматычны начырк), Адам і Ева, Мітусьня (драматычны начырк) // Урачыстасьць у садзе. Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя. Мінск, 2007. С. 311—489.

[3] Запісы БІНіМ. №27. 2004. С. 299—390; Запісы БІНіМ. № 28. 2005. С. 351—447.

[4] Юхнавец, Я. Яно // Каханы горад. Зборнік эміграцыйнае ваеннае прозы. Мінск, 2006. С. 149—369.

[5] Запісы БІНіМ. № 30. 2006. С. 288—305.

*раўнальнага“, па вызначэньні Яна Чыквіна, пісьменьніка. Лянівае, інэртнае літаратуразнаўства, напэўна, і цяпер ня ведае, што зь ім рабіць, куды ўпісаць. Пры ўмове, што наагул прачытала кнігі.*

*Малая проза, раскіданая па газэтах ды часапісах, — „Бацькаўшчына“, „Беларускі час“, „Беларуская думка“, „Конадні“, „Беларуская моладзь“, „Прыйсьце“ — яшчэ чакае зьбіральніка й выдаўца[6] . Захаваліся й рукапісы асобных неапублікаваных апавяданьняў, адно зь якіх друкуецца ніжэй[7] .*

***Янка Юхнавец***

## Пасьля гутаркі

У тым месцы, дзе яны былі й гутарылі, ляжала цяжкая цішыня. Гэтакая цішыня, якая й мусіць быць у запраўднасьці. У ейнай судзары цемрацъ летняга паветра здавала разьдзялілася на самыя драбнюсенькія пухаркі й сунімна, суладна-ж падымалася ад зямлі ў суздром вышыняў. Але ад сутулай хаты, дзе яны мелі ў тую ноч прыстанішча, досыць адлегла, у заходнім кірунку, гарызонт быў ледзь-ледзь зацьмелым. Там ішла бойка. Гарматы мэталічным агнём прашылі долы, калічылі й зьнішчалі ўсё жывое й няжывое, якое трымалася яшчэ з наўмерам супраціву. А тут пакуль што шчасьлівілася ім. Іхную дывізію з поўным вайсковым ладункам адвезьлі далей у глыбінь Смаленшчыны. І спадкаемцам „смалу ліць“ успаміналася мінулая слава, і адначас клікалі ізноў агнём і смалой абараняцца ад захопнікаў. Бо-ж знаёмае пачуцьцё перасьцярогі: каб не згубіць сваю свабоду, бязвольных шлюць абараняць яе!

...Ад моманту, калі прыйшоў Ладыга, лейтэнант радыёсувязі кондывізіі, да капітана другога рангу Асіповіча, прайшло ўжо некалькі гадзінаў. Ладыга быў вельмі прыстойны з выгляду мужчына гадоў каля 30, із шэрымі, бадзцулятымі, як гэта кажуць, вачыма, з чорнымі, назад прычасанымі ажно гладка валасамі. Але аблічча, неяк у адмену суладнасьці чалавечае прыгажосьці, праціналася зьбялеласьцю. І гэты колер (напэўна, не адна дзяўчына сказала) папсаваў усю ягоную красу. Сам ён па нараджэньню паходзіў із Случчыны, а навет болей таго: із самага гораду Слуцку.

---

[6] Юхнавец, Янка. Летні адпачынак // Запісы БІНіМ. № 26. 2003. С. 169—207; Юхнавец, Янка. Знаёмства. Ідучы да ракі. Спатканьня // Эквівалент: зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы. Мінск, 2005. С. 141—164.

[7] Тэкст перахоўваецца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча.

— Таварыш капітан, але дазвольце называць па-сяброўску, як называлі калісьці дома: Алесям... Усё-такі дармо, што ты перасігнуў празь колькі кубікаў вышэй за мяне, зьяўляесься ва ўсіх ступенях да мяне сябрам.

І быццам не жадаючы гутарыць аб гэтым далей, спытаўся: — Скажы, калі ласка, ці давядзецца ізноў дацеляпацца да радзімых месцаў? Ня ведаеш напэўна? Ня ведаеш? Скуль ведаць аб гэтым?

Ён спыніў свой позірк на абліччы капітана й прагна чакаў ад яго адказу.

— Ветразі чакаюць доўга, доўга на вецер; але, адпраўляючыся да свайго берагу, заўсёды думаюць: даімкнуць да яго ці зьгінуць бязьсьледна ў хвалях акіяну. А наагул, не тапі сябе ў гэткай зьняверцы, бо жонкі ня маеш, дзяцей тым больш, ну, бацькі толькі, дык ім, бедным, заўсёды прыходзіцца на схіле гадоў гэтак. Нічога ня зробіш! Трэба цярпець!

— Яно, бязумоўна, так, Алесь. Але каб яно правалілася скрозь зямлю ўсё! Ты зразумей: я вельмі не паважаю вайну, салдатчыну, што проста, прызнацца табе, пра ўсё разам змагу сказаць самыя паганыя словы... Хоць ты і наўмеран мне адказаць, што барацьба ёсьць жыцьцё, дык напярэймы табе я жадаю па-свойму выкласьці значэньне гэтых двух абгрызкаў, якія сваім розумам нацягваю да аксіёмы двух супроцьлеглых, а менавіта (ты толькі ня сьмейся, бо ў запраўднасьці й знаходзіцца ў падобным выяве): барацьба, братка, гэта падцягваньне да жыцьця, але ня жыцьцё, а сьмерць, нястрымная сьмерць!

Асіповіч амаль усьміхнуўся.

— Ты ўрэшце, Алесь, дарэмна насьміхаесься. Калі застанёмся жывымі, я прыеду ў Капыль, забяру цябе й на свае сродкі абвязу па ўсім сьвеце з намерам паказаць табе, што значыць цяга да новага.

— Ну й што? Я сам загадзя ведаю, што перада мной гурмы развалу, празьмерная колькасьць бязногіх і бязрукіх, просячых ахвяраваньняў у паўзходзячых. Вось і па ўсім гэтым я й прачытаю маю цягу да новага жыцьця. А, па-другое, ці дазволяць яшчэ нам езьдзіць з табой за мяжу? Такія лятуценьні ты найлепш кінь пад услон ды ідзі спаць.

— О, я ведаю, што гэткія размовы табе не па сярэдзіне! Але, братка, не сьпяшайся не на сваю ніву! Наадварот, ты яшчэ будзеш пясьціць прыемна, бачыць хоць-бы пень, і будзеш каля яго праходзіць, маўляў, маладуха із сваім каханым каля амвоя, баючыся навет парушыць ягоную цішыню. Бо я ведаю падобных табе блох: адзін рубель дай лішні, усчапіцца адзін трыпутнік болей на каўнер, дык па ўсім тады Эва пад печ, а Адам на печ! Але пачакай, не перашкаджай мне: ты бачыш, я

яшчэ не давёў да канца маю думку. Па ўсіх тваіх развагах я заўважаю ў тваім нутры захопніка, які, як ведама, хоча пакорваць другія народы. Каб зрабіць гэта, ты, бязумоўна, цісьнеш свой народ і трымаеш яго пры дамавіннай пілоўцы. А народ, у такім выпадку, галодны й змучаны, прагне захопу чужога дабра, спадзяючыся паправіць сваё становішча. Аб собскай-жа выгадзе й дабру ён ня будзе думаць, бо гэтага ў яго няма. Ну, няма!

Ладыга ўсхвалявана махнуў рукой у бок Асіповіча, крутнуўся на забруджаным, абтаптаным доўгай дарогай абцасе й падышоў да вакна, за якім было надалей суцішна й па-летняму лагодна.

— Слухай, Сяргею, найпершае, размаўляй троху цішэй, а ў наступным — навошта табе нэрвавацца ад дурнотаў? Пакідай нэрвы дзеля будучыні, бо ведай: іх прыдзецца расходваць дзе-небудзь у іншым месцы, дарэчы кажучы, — на фроньце, а напасьледак запамятай, Сяргею: усялякая на першы нагляд ідэя, прабач мне, я жадаю крыху адрынуць ад папярэдняй гутаркі, адно-ж гэтымі словамі толькі папоўніцца твая развага, а яна вось якая: як я ўжо казаў, усялякая ідэя, ці сацыяльная, ці якая там іншая, ёсьць разбурэньне, і разбурэньне ня толькі ўсяго таго, што перад тым даведзена, а наагул разбурэньне, зьнішчэньне й сьмерць — расада сьмерці! Прыемнасьць чалавека ў разбурэньні, Сяргею. Гэтакая прыемнасьць, як маломy дзіцяняці загачваць шпаркі бег ручайка, а потым гатку раскідваць і глядзець на шпаркі плын вады, што вырвала із стрымаў. Але, із свайго боку, прашу мне не перашкодзіць, я мушу сказаць табе й толькі табе... Можа, гэта будзе крыху ў паэтычных выразах, Сяргею... але забываюцца прысады й прапалотыя лехі й навет усё, усё, што было дарага, — ідзеш на новы кліч, які разгутатаў увесь народ, і ў гэты час адчуваеш страх бойкі, аднак ведаеш, што як тэй двароўцы хочацца пагаўкаць з-пад варот, так табе гэнай бойкі! Можа, цябе й дзівіць маё параўнаньне, але ня дзівіся, бо толькі ў змаганьні ажыцьцяўляюцца сьвятыя парывы, якія парасьлі між пакутаў атожылкамі, а атожыльле ў сваю чаргу жадае собскіх карэньняў. Разумееш? Кажучы ў лоб — собскага жыцьця!

— Што за атожыльле? Не разумею! Мо ты пра тыя старыя часы ў Менску? Калі толькі гэна, дык ты, братка, памыляесься.

Ладыга паморшчыўся, кароткую часіну падумаў, глянуў у вочы Алесю-капітану другога рангу, і дадаў: — Ня зьбіраюся сябе называць адросткам! Хутчэй хто будзе іншы паходзіць альбо адрос ад маіх каранёў!

Ладыга хацеў гутарыць далей, але раптоўна, у сулад апошняму гуку, зазьвінеў тэлефонны званок і перарваў ягоны гутар. Сьпярша думаў

чакаць, пакуль скончыць капітан тэлефонную размову, але, бачучы па выразу ягонага твару, што яна можа зацягнуцца, бяз слоў махнуў яму рукой і выйшаў да знадворку. Да раньняшняга пад'ёму заставалася каля аднае гадзіны. Сон адляцеў. Ладыга вырашыў прайсьціся ўздоўж вуліцы й паглядзець, як трымаюць варту ягоныя салдаты на радыёстанцыі, а разам з гэтым пераглядзець найнавейшыя тэлеграмы.

Не прайшоў яшчэ паўз колькі хат, як насустрач яму із двара напаткаўся салдат з ускіненай стрэльбай. Той, не спадзяючыся сустрэць афіцэра, ад нечаканасьці разгубіўся, але й з аддачай пашаны не пасьпяшыўся. У цьмяным сьвятле падраньня салдат утаропіўся ў яго вачыма й засьмяяўся: — Аааа. вашаму зіхаценьню, таварыш лейтэнант, пашана! Як трымаецеся, Ладыга? Як? Ты толькі, ня дай Бог, не пакарай мяне за неадпаведнасьць перад табой ды, галоўна, перад камандзерам.

Салдат яшчэ больш разьсьмяяўся залівістым сьмехам і падыйшоў спазірнець да Ладыгі: — Сам бачыш, па рэгляману я дык і ня мушу перад табой зьгінацца ў 180 градусаў, бо маю толькі нейкую вашую брудную гімнасьцёрку ды даверaную стрэльбу, а ўсё астатняе маё, собскае. А ў барсунях, паведаміць табе, ляпей адчуваецца ў маршы, чымсьці ў растаптаных чаравіках альбо ботах. Выпаўзеш з мярлогі, накруціш анучак, а потым аборкамі абматаеш, і гатова: і мякка, і лёгка.

Ладызе сьпярша жадалася загадаць яму стаць на „сьмірна“, але сьцерпна бачыў і моўкна слухаў свайго земляка.

— Ну, дык што, братка, маўчыш? Апавядай, як паводзіцца. Бо-ж каля якіх год трох ня бачыліся. Ты ўжо крыху патаўсьцеў і асунуўся, ці можа мне тое чубіцца гэтак? Я, праўду кажучы, ніколі цябе й ня думаў сустрэць тут, лічыў, што ты дзесьці ўжо вылупіўся ў наркомы й тлееш за чырвонымі сталамі...

— Ты, Антон, яшчэ, бачу, не забыўся шабуніць.. Але скажы ты мне лепш, дзе блукаўся апошнія гады?

— Гы-ым! Што за пытаньне? Пад сонцам, братка! Даіў авечак і рабіў бзу для вас, вось і ўсё, але сам ня еў яе, хоць быў досыць галаднаваты. Хай праваліцца! А тут, мабыць, давядзецца яе есьці да самае сьмерці.

— Прабач, Антон, мы з табой яшчэ сустрэнемся і пагутарым пра ўсё. Бывай.

Жартаўлівая размова Антона толькі прынесла Ладыгу смутак, і ён пабарзьдзіў разстацца зь ім. І ў раздум'і выйшаў за вёску. Невялікая зарослая хмызьняком абшара, што тут зараз-жа падбягала да апошняй хаты каля выгану, пачынала дыміцца ранішняй куравой. А Боскі дыямэнт — дзяньніца пераліўна й зырка мільгацела на ўсходзе. Ужо гну-

савіў бэкас, і разьдзіраўся на ўсё горла дзяргач, намагаючыся глушыць свайго спадарожніка. А ў бок ад хмызьняку, на ўскрайку маладога сасоньніка, не зварачаючы ўвагі на спрэчку ня вельмі пацешных сьпевакоў, разносілася лагоднае й прываблівае цыўканьне лясных птушак. Ладыга паглядзеў на гадзіньнік, да пад'ёму заставалася каля 30 хвілінаў. Успомніў на нядаўні замер пракантраляваць радыю, але ў наплыўшай лядайкасьці адкінуў яго. Абапёрся нагой на падарожны камень, закурыў і, заміж намеру, яму прыпомніўся Антон, зь якім ён жыў у адным горадзе й на аднэй вуліцы. Будучы шкалярамі, яны сядзелі навет на аднэй парце, а потым разам вучыліся ў настаўніцкім інстытуце ў Менску, дзе ні адзін, ні другі ня скончылі вучобу. Антон вярнуўся дадому, бо ня меў за што вучыцца, а ён пайшоў вучыцца ў вайсковую школу. Ладыгу прыпомніліся самыя наймізэрныя драбкі калішняга дзяцінства. Ён навет разьсьмяяўся, калі прыпомніў прыгоду Антона із сваім айчымам-латышом, якому за тое, што зьдзекваўся над ім па сьмерці мацеры, адпомсьціўся ледзь не сьмяротна. І дагэтуль перад кажным жыхаром іхнай мясцовасьці стаіць таямнічасьць: хто рабіў замах? Можа-б, і Ладыга ня ведаў пра тое, але Антон вельмі сябраваў зь ім і давяраў яму ўсё, што толькі думаў і жадаў зрабіць. Была на гэта й прычына: Антон тады залежаў ад яго поўнасьцю: Ладыга краў цэлымі пірагамі хлеб і кавалкі сала ад мацеры, каб накарміць яго. Антона паважалі ўсе. Яго так і клікалі: „чмут“ або „чума“. Дзяўчаты дык паважалі яшчэ больш, чым гэта можна выказаць словамі, бо за 20 капеек кажнай рашаў задачы й перапісваў лекцыі з граматыкі.

Ва ўяве Ладыгі неадлучна стаяў выгляд нядаўна спатканага Антона ў забруджанай кашулі, з неабголенымі і ўцягнутымі ў аблічча шчокамі, напалову растаптаныя барсуні. А побач у памяці вымаляваўся ягоны выгляд, калі паклікаў паглядзець на прадзелку з айчымам. Той, прыйшоўшы з работы ўлетку, сеў пасядзець каля расчыненага вакна, за якім расла высокая, з густым лісьцем, ліпа. Якраз таго дня бацьку іхняга трэцяга неадлучнага сябры па школе заарыштавалі. І за гэта, і за асабістыя крыўды Антон вырашыў адпомсьціць свайму айчыму, бо той быў кіраўніком аддзелу асокі пры раённай міліцыі. І як толькі сьцямнелася, Антон з двума кускамі цагліны узьлез на ліпу й стуль, амаль у галаву, бацнуў айчыма.

Ні крыку, ні гаму. Апамятаўся толькі ў лякарні.

Ладыгу яшчэ больш разьсьмяшыў із гадоў студэнцкіх, калі Антон зь цёмнага кутка, у 1936 годзе, на ягоную пахвалу праэкту Канстытуцыі, пракрычэў:

*Вось бачыце: новы „дэмакрат“*
*і да іксу рад,*
*што будзе ажно з-за крат*
*паветрам вольным дыхаць!*

Прысутныя так разгаманіліся, што давялося спыніць сходку. І яго-ж ніхто ня выдаў уладам. Паважалі й там, пачынаючы ад прафэсараў і канчаючы прыбіральшчыцамі інстытуту.

Пакуль Ладыга апушчаўся ўсё глыбей і глыбей ва ўспаміны, у небе завуркацелі самалёты. Па кірунку грукату матораў Ладыга азначыў, што яны прастуюць да вёскі, дзе разьмясьціўся ўвесь штаб іхнае дывізыі. Але вартавыя штабу не аб'яўлялі чамусьці трывогу. Ладыга пабег да сялібы, а ў гэтым часе, на нізкім лёце, з-за лесу, адкуль ён нядаўна чуў сьпеў птушак, вырваўся нямецкі самалёт і пачаў страляць з кулямётаў. З хатаў выбягалі салдаты, хто апрануты, хто паўапрануты, і, як спалоханыя зайцы, беглі да хмызьняку. Ладыга бачыў, як з ускрыкам павалілася некалькі салдат, як бег Антон.

— Лажыся, лажыся, Антон, і не варушыся, — закрычэў яму Ладыга, але сам працягваў бегчы да хат. Вёска зьвінела ў летнім раньні крыкамі й плачам дзяцей і жанок, а сярод іх губляліся нікім няслуханыя каманды камандзераў: — Да кулямётаў, да кулямётаў...

Тым часам на дапамогу аднаму самалёту прыляцела яшчэ колькі другіх, і ўся вёска захуталася яшчэ большымі крыкамі ратунку, полымем і густым едкім дымам.

— Куды-ы-ы... Лажыся сам! Куды бяжыш!? — гэтым разам Ладыгу папярэджваў апамятаны Антон.

І Ладыга, нібы згаджаючыся зь ім, нібы жадаючы схавацца толькі каля яго, прасьцягнуў наўперад далоні з надзеяй абаперціся імі аб зямлю. Яны затрымалі ягонае тулава й, крыху супраціўляючыся, паволі апусьцілі тварам на ральлю. Маленькія чырвоныя струмянкі крыві стрымнулі з патыліцы й з падбародзьдзя. Антон адным паўзком апынуўся каля яго.

— Ты паранены, Сяргей, ці што?

Працягнуў руку да крывявачых ранаў. На мізэрную часіну шкуматнуў ён Ладыгу і ў гэты-ж час забыўся пра яго. Раптоўны боль у собскіх грудзёх усхапіў Антона на калені, узгорыў галаву, як-бы да апошняй просьбы паратунку, і кінуў у цемру.

# „РАДА БНР (1947–1970): ПАДЗЕІ. ДАКУМЕНТЫ. АСОБЫ“: ЧАТЫРЫ РЭЦЭНЗІІ

*Чатыры рэцэнзіі — Міколы Пачкаева, Сяргея Ярша, Юрыя Грыбоўскага, Томаша Блашчака — на адну кнігу, выдрукаваныя разам ў гэтай новай рубрыцы, маюць на мэце спрыяць як мага больш рознабаковаму разгляду як самога фэномэну паваеннай Рады БНР, гэтак і першай манаграфіі, ёй прысьвечанай.*

*Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 648 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 22).*

***Мікола Пачкаеў***[1]
*Лёндан*

Аснову прапанаванай для падтрымкі ЗБВБ публікацыі кнігі Н. Гардзіенкі й Л. Юрэвіча „Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы“ складаюць 400 старонак дакумэнтаў дзейнасьці Рады БНР эпохі М. Абрамчыка, сабраныя аўтарамі на працягу многіх гадоў у некалькіх архівах беларускага замежжа. Гэта само па сабе — вынік вялікай працы, першая такая сыстэматычная публікацыя й, безумоўна, важны, арыгінальны ўнёсак у беларускую гістарычную навуку. Заяўленая аўтарамі ва ўводзінах мэта „першага прыступку“, *„каб нарэшце запачаткаваць напісаньне гісторыі Рады“* ў гэткай публікацыі неаспрэчна мае вельмі паважнае ўвасабленьне.

[1] Рэцэнзія была напісаная для разгляду Ўправай Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі й зьмешчаная на сайце Згуртаваньня беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“: (http://zbsb.org/node/8667) хутка пасьля выхаду кнігі.

У частцы апублікаваньня саміх архіўных дакумэнтаў мабыць не патрабуецца падрабязнага разгляду й рэцэнзаваньня. Можна выказаць шкадаваньне, што аўтары, прапанаваўшы чытачу пратаколы паседжаньняў, не ўключылі ў публікацыю выніковыя пастановы Рады, нават такія, на якія спасылаецца сам уводны аўтарскі нарыс яе гісторыі: напрыклад, згадваецца пастанова Рады ад 07.04.1949 (с. 5), тэксту якой у зборніку аднак не знаходзім. З другога боку, трэба зазначыць, што вялікую каштоўнасьць для чытача мае падрыхтаваны аўтарамі апарат біяграфічных і іншых даведкавых камэнтароў, што дае падрабязнае ўяўленьне пра кантэкст, акалічнасьці падзеяў, якіх датычацца дакумэнты Рады, а таксама зьвесткі пра пэрсаналіі.

Тром разьдзелам дакумэнтаў папярэднічае даволі падрабязны нарыс ад аўтараў (с. 7—99), дзе яны кажуць пра разнастайнасьць магчымых ацэнак і прапануюць свае погляды. Шмат увагі прысьвечана цікаваму абмеркаваньню такіх пытаньняў, якія ня маюць дакладнага асьвятленьня ў дакумэнтах ды пэўная рэканструкцыя якіх можа быць прапанавана толькі з крыніцаў ускоснага характару. Тут аўтары зрабілі вялікую працу прафэсійных гісторыкаў па гэткай рэканструкцыі, абапіраючыся на ўвесь шырокі спэктар дакумэнтаў, якія былі ў іх распараджэньні.

Такі ўводны аўтарскі агляд цікавы найперш тым, што знаёміць чытача з умовамі дзейнасьці паваеннай Рады БНР: у кантэксьце агульных палітычных падзеяў „халоднай вайны“, шырэйшага палітычнага жыцьця беларускай дыяспары, дыяспараў і палітычных прадстаўніцтваў іншых народаў з-за „жалезнай заслоны“. Асьвятляецца ня толькі дзейнасьць Рады па ўнутраным згуртаваньні паваеннай беларускай дыяспары на прынцыпах вернасьці ідэалам БНР ды шматгадовая рэпрэзэнтацыя дзяржаўнасьці несавецкай Беларусі-БНР у вонкавых кантактах на Захадзе, але й менш ведамыя аспэкты — роля Рады ва ўстановах, якія беларусам ўласна не належалі: такіх, як беларуская служба радыё „Свабода“, Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР (Мюнхен), беларуская рэдакцыя Гішпанскага радыё — дзе, аднак, патрабавалася ініцыятыва Рады дзеля забесьпячэньня беларускіх інтарэсаў ды потым іх адстойваньня перад амэрыканскімі й іншымі гаспадарамі такіх установаў.

Гэтая частка кнігі ёсьць, натуральна, найбольш спрэчнай. Аўтары нават злёгку пакрытыкавалі саму Раду: *„Сама сучасная Рада БНР, на жаль, таксама не парупілася, каб укласці гісторыю хоць бы сваёй дзейнасці на эміграцыі“* (с. 3). З аднаго боку, можна бы прызнаць такі закід аб’ектыўна заслужаным: у тым сэнсе, што Рада як установа

сапраўды ніколі не выдавала сваёй вычарпальнай афіцыйнай гісторыі. Ды сучасная Рада БНР, як і Рада пры М. Абрамчыку ніколі ня ставіла сабе задачаў сама-мэмарыялізацыі, таксама бо не разглядаючы сябе ў якасьці найперш „гісторыі“. З другога боку, крыху дзіўна чуць гэткі закід ад прафэсійных гісторыкаў. Адказ відавочна ў тым, што гісторыю беларускай дзяржаўнай установы на выгнаньні павінны пісаць найлепш незалежныя прафэсійныя гісторыкі, чые публікацыі будуць успрымацца грамадзкасьцю й навуковай супольнасьцю з большым даверам, чым якія-колечы афіцыйныя выданьні з боку самога прадмету такога гістарычнага разгляду.

У тэксьце ўводнага аўтарскага нарысу, на жаль, можна сустрэць шэраг месцаў, дзе знаходзім або некарэктную фармулёўку факту, альбо прынамсі недасканала расстаўленыя акцэнты.

Напрыклад, на с. 7 чытаем, што *„частка радных на чале з старшынёй Пётрам Крэчэўскім не прызнала самароспуск 1925 г. і працягвала дзейнічаць у Празе...“* На жаль, тут „прапушчана“ крытычна важная акалічнасьць: ідзецца аб самаліквідацыі ў 1925 г., са здачай мандатаў на карысьць БССР, Ураду БНР, а не самой Рады БНР як установы. Старшыня Пётра Крэчэўскі й Васіль Захарка маглі працягваць сваю дзейнасьць дзеля таго, што Рада заставалася нераспушчанай, бо паўнамоцна рэпрэзэнтаваная Прэзыдыюмам, які й мог прызначаць Урады па меры неабходнасьці. Замест удакладненьняў аўтары, ні на што не спасылаючыся, згадваюць „факт“ нібыта „самароспуску“ проста мімаходзь. Так, мы бярэм пад увагу іх словы (с. 5), што ўвага кнігі прысьвечана дзейнасьці Рады БНР часоў Абрамчыка — 1947—1970 гг, аднак належна патлумачыць гэтую акалічнасьць было, на наш погляд, вельмі важна: бо ў самім аўтарскім нарысе далей згадваецца пра варожыя закіды супраць Рады, з боку прыхільнікаў Радаслава Астроўскага на працягу 1940-х і 1950-х гг., пра нібыта яе самароспуск яшчэ ў 1925. Аўтары паведамляюць пра такі закід, на жаль, не знаёмячы чытача з адказам на яго.

Можна скрытыкаваць і некаторыя іншыя акцэнты. Месцамі пра Раду не зусім дарэчна згадваецца, між іншага, як пра „арганізацыю“ (с. 94). Гучыць гэта не зусім карэктна з увагі на тое, што такім азначэньнем Радзе тут нібы надаецца аднолькавы ровень і статус з усім мноствам беларускіх грамадзкіх арганізацыяў замежжа. З аднаго боку, безумоўна, свайго роду „арганізацыяй“ Рада таксама ёсьць. І можна пагадзіцца, што ўмовы існаваньня Рады на выгнаньні былі аналягічныя ўсім эміграцкім арганізацыям (с. 99). Аднак у гэтым кантэксьце такое азначэньне кепска дапасавана да ўсяго, што ў самім нарысе распавяда-

ецца пра адметны характар дзейнасьці Рады БНР як працяг агульнай рэпрэзэнтацыі беларускай незалежнай дзяржаўнай традыцыі на выгнаньні. Гэткая дзейнасьць, статус і кантакты навонкі, менавіта ў такой якасьці, выразна ставяць Раду асобна ад усіх *„іншых беларускіх арганізацыяў на Захадзе“*.

Іншым прыкладам, дзе аўтарская фармулёўка магла быць больш дасканалай, ёсьць згадкі пра савецкі фільм „Людзі з чорнымі душамі“ (с. 8, 362) як пра „дакумэнтальны“. Больш дакладна трэба было назваць яго прапагандовым — самых найцямнейшых адценьняў.

Лічым слушнай выснову, што, хоць пэўныя моманты сфармуляваны, на наш погляд, некарэктна, аднак некарэктнасьць назіраем толькі ў некаторых „дарэчы“ згаданых акалічнасьцях: ня йдзецца аб нейкім наўмысным сьцвярджэньні наўпрост няслушных тэзаў або паведамленьні несапраўдных фактаў. Трэба ўзяць таксама пад увагу, што месцаў, якія заслугоўваюць крытыкі, сапраўды мала ды што ўступны нарыс не зьяўляецца галоўнай часткай гэтай публікацыі.

Нагадаем, што аўтары бачаць гэтую кнігу як першы ўнёсак ва ўкладаньне гісторыі Рады БНР. Трэба прызнаць належнае: гэткае глыбокае знаёмства аўтараў з падрабязнасьцямі гісторыі беларускай эміграцыі, гэткая іх надзвычайная абазнанасьць у дакумэнтальных крыніцах ды сам вялізны абсяг працы, укладзенай у гэтую кнігу, ставіць плянку для любых будучых публікацыяў пра гісторыю Рады БНР вельмі высока. Каштоўнасьць гэтага дакумэнтальнага выданьня агулам будзе нашмат пераважаць моманты, якія могуць выклікаць крытыку, а недасканаласьць акцэнтаў у фармулёўках застанецца на адказнасьці аўтараў і павінна заахвоціць да працы будучых гісторыкаў у пошуках справядлівасьці, дакладнасьці й аб'ектыўнасьці.

* * *

***Сяргей Ёрш***

*Менск*

Гісторыя паваеннай беларускай палітычнай эміграцыі па-ранейшаму мае нямала „белых плямаў“. Аднак яны паступова зьнікаюць: цаглінка за цаглінкай зьяўляюцца працы беларускіх дасьледнікаў. Прыгожы томік „Рады БНР...“ стаў сапраўдным падарункам для ўсіх, хто цікавіцца ня толькі гісторыяй эміграцыі, але й паваеннага антысавецкага Супраціву. Аўтары-ўкладальнікі здолелі сабраць пад адну вокладку амаль усе даступныя на сёньняшні дзень дакумэнты, у якіх

асьвятляецца дзейнасьць Рады і Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі ды Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка.

Праца зробленая вялікая, грунтоўная, таму ня хочацца зьвяртаць увагу на дробныя хібы. Напэўна, найбольшым „праколам“ стала зьмяшчэньне фота нейкага беларускага дзеяча з Аргентыны, якое было памылкова падпісанае „Кастусь Мерляк“...

Перачытваючы пратаколы шматлікіх паседжаньняў эмігрантаў, бачыш, якой кволай была тагачасная арганізаваная дзейнасьць. Некаторыя „міністры“ й „міністэрствы“ нічога не рабілі, усё трымалася на асобных людзях, сярод якіх вылучаўся Мікола Абрамчык. Зьмешчаных у „Радзе БНР...“ дакумэнтаў малавата, каб скласьці нейкі цэльны яго партрэт. Аднак відавочна, што ён часам быў і „дыктатарам“, і „цынічным палітыкам“. У лісьце да Аўгена Каханоўскага піша пра беларускага дзеяча ў Канадзе Сяргея Хмару, як пра „ненармальнага“, разважае, калі будзе зручны момант, каб яго звольніць[2]. Часам за такімі „звальненьнямі“ былі спробы пазбавіцца ад палітычных апанэнтаў, людзей актыўных, і гэта не ўзмацняла Раду, а аслабляла яе.

На жаль, Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч не змаглі да канца разгадаць таямніцу так званай „нелегальнай дзейнасьці“ Ўраду й Рады БНР у 1946—1947 гг. Імі не была выяўленая каштоўная публікацыя Ўладзімера Снапкоўскага, прысьвечаная паваеннай беларускай палітычнай эміграцыі[3]. Быў праігнараваны й даведнік „Антысавецкія рухі ў Беларусі“, адзін з артыкулаў у якім пра Раду БНР часткова грунтаваўся якраз на згаданай публікацыі[4].

Спынімся на гэтым больш падрабязна. Н. Гардзіенка і Л. Юрэвіч адзначаюць, што *„ў сакавіку 1946 г. адбылося фармаванне пашыранага ўраду БНР на чале з Міколам Абрамчыкам, хоць ніякіх звестак пра яго склад не знойдзена“*[5]. Давайце паглядзім, што пісаў яшчэ ў 1997 годзе Ў. Снапкоўскі: *„У сакавіку 1946 года М. Абрамчык склікаў у Рэгенсбургу сход актывістаў беларускай палітычнай эміграцыі, на якім было прынята да ведама завяшчанне В. Захаркі аб перадачы паўнамоцтваў М. Абрамчыку, папоўнена Рада і выбраны ўрад БНР, стар-*

---

[2] Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы... С. 464.

[3] Снапкоўскі, Уладзімір. Беларуская палітычная эміграцыя (1945—1990 гг.) // Полымя. №2. 1997. С. 201—239.

[4] Ёрш, Сяргей. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі // Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944—1956 гг. Даведнік. Менск: Архіў найноўшае гісторыі, 1999. С. 143—144.

[5] Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы... С. 12.

*шынёй якога таксама стаў М. Абрамчык“*[6]. Згадка важная. Праўда, Снапкоўскі не падае крыніцу інфармацыі.

Н. Гардзіенка й Л. Юрэвіч дзівяцца, чаму сэсія Рады БНР у чэрвені 1948 г. лічылася 3-й, бо ведама, што адзіная папярэдняя прайшла ў сьнежні 1947 году[7]. Аднак Ул. Снапкоўскі піша, што сход сакавіка 1946-га *„паклаў пачатак правядзенню сесій Рады БНР“*[8]. Г. зн, што тады і прайшла 1-я сэсія. Атрымліваецца, што й назва кнігі не зусім дакладная, бо больш лягічна было б замяніць 1947-ты год 1946-м.

На жаль, праз абмежаванасьць крыніцаў аўтары не змаглі скласьці сьпісы сябраў Рады БНР. З пратаколаў мы даведваемся толькі невялікую частку прозьвішчаў, пераважна найбольш ведамых дзеячоў. У той жа час нямала людзей застаецца „ў ценю“.

Дарэчы, сябры Рады БНР былі і за „жалезнай заслонай“. *„Паводле некаторых крыніц, трэцяя частка сяброў Рады трымалася ў сакрэце. Гэта былі беларускія дзеячы, якія пражывалі ў БССР. Падчас сесій Рады галасамі гэтай часткі распараджаўся прэзідэнт“*, — піша Ўладзімер Снапкоўскі (і зноў не падае крыніцу інфармацыі)[9]. Гэты аспэкт аўтарамі-ўкладальнікамі „Рады БНР…“ ня быў вывучаны. Відаць, яны не зьвярнулі належнай увагі й на інтэрвію М. Абрамчыка, якое ён даў у кастрычніку 1949 г. адной з бэльгійскіх газэтаў і якое перадрукавала „Бацькаўшчына“[10]. Абрамчык заявіў, што *„парлямэнт на выгнаньні налічвае цяпер 158 асоб, расьсеяных на ўсім сьвеце… Паміж іх толькі 30 засталіся на Беларусі“*[11].

Кім маглі быць гэтыя людзі? Безумоўна, Ларыса Геніюш[12], некаторыя іншыя беларускія дзеячы, якія прайшлі праз савецкія канцлягеры й турмы. Сябрамі Рады БНР лічыліся й некаторыя камандзіры беларускага антысавецкага партызанскага руху.

---

[6] Снапкоўскі, Уладзімір. Беларуская палітычная эміграцыя (1945—1990 гг.)… С. 203—204.

[7] Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы… С. 26.

[8] Снапкоўскі, Уладзімір. Беларуская палітычная эміграцыя (1945—1990 гг.)… С. 204.

[9] Снапкоўскі, Уладзімір. Беларуская палітычная эміграцыя (1945—1990 гг.)… С. 210.

[10] Інтэрв’ю М. Абрамчыка // Бацькаўшчына. № 1 (61). 01.01.1950; у кнізе „Рада БНР…“ гэтая публікацыя згадваецца на с. 613.

[11] Інтэрв’ю М. Абрамчыка…

[12] *„Яна [Ларыса Геніюш] сябе адчувала, па-мойму, хоць яе ніколі і не выбіралі, — прэзідэнткай Беларускай Народнай Рэспублікі“*, — пісала паэтка Данута Бічэль. Гл.: У яе вершах — ані слова боязі // Пагоня. № 3 (499).⇨

Аўтары-ўкладальнікі адзначаюць, што *„адным з напрамкаў дзейнасці Рады БНР, які не асабліва афішаваўся, была падтрымка, а нават і арганізацыя антысавецкага падполля“*[13]. У пратаколах і ліставаньні згадак пра гэта мала. У кнізе зьмешчаны дэкрэт М. Абрамчыка ад 7 чэрвеня 1950 г. аб узнагароджаньні „маёра „Ноч“ (наданьні яму рангі генэрал-маёра, прызначэньні віцэ-старшынёй Ураду БНР) і іншых камандзіраў беларускага партызанскага руху. Як выглядае, зьвесткі пра кіроўны склад партызанаў Рада БНР атрымала ад свайго пасланца за „жалезную заслону“ Антона Дуды (Моніча, Станіслава Мацiеўскага)[14]. Праўда, існуюць сумневы наконт праўдзівасьці ягонага аповеду, магчыма, ён патрапіў пад савецкі кантроль ды быў уключаны ў апэратыўную камбінацыю спэцслужбаў СССР[15].

Н. Гардзіенка й Л. Юрэвіч слушна пішуць, што *„гэты напрамак дзейнасці Міколы Абрамчыка патрабуе дадатковага вывучэння“*[16]. Дзеля гэтага варта пашукаць разнастайныя дакумэнты, якія складаліся М. Абрамчыкам і ягоным канкурэнтам, Прэзыдэнтам БЦР Р. Астроўскім для розных заходніх установаў. Некаторыя зь іх цалкам былі прысьвечаныя беларускаму антысавецкаму партызанскаму руху й спробам навязаньня зь ім сувязі праз Польшчу.

*„БНР, як і БЦР, прэтэндавала на падтрыманне эфектыўных кантактаў з падпольнымі групамі на Беларусі, якія працягвалі супраціўленне савецкай уладзе да сярэдзіны 50-х гадоў“,* — пісаў Уладзімер Снапкоўскі[17]. А Ігар Лялькоў выказаў меркаваньне, што *„большасьць удзельнікаў антысавецкага беларускага супраціву канца 40-х — пачатку 50-х была прыхільная хутчэй да БЦР, чым да БНР“*[18].

---

⇨ 18.01.2001. Зянон Пазьняк упершыню сустрэўся з Ларысай Антонаўнай у 1978 г. у Зэльве. Яна яму паказвала „дакуманты Рады БНР“. *„Во, ніхто не здагадваецца, што яны ў мяне ёсьць“*, — гаварыла Геніюш. Гл.: Пазьняк, Зянон. Там, далёка, дзе спачывае душа // Пагоня. № 3 (499). 18.01.2001.

[13] Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы... С. 38.

[14] Да гісторыі беларускай нацыянальнай партызанкі // Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005, С. 261—272.

[15] Крытычны аналіз справаздачы А. Дуды гл. тут: Ёрш, Сяргей; Горбік, Сяргей. Беларускі Супраціў. Львоў, 2006. С. 316—338.

[16] Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы... С. 38.

[17] Снапкоўскі, Уладзімір. Беларуская палітычная эміграцыя (1945 — 1990 гг.)... С. 209.

[18] Лялькоў, Ігар. Адвечная песьня. Аб адной няўдалай спробе аб’яднаньня паваеннай беларускай эміграцыі // Наша ніва. № 26. 25.06.2001.

Калі б камусьці ўдалося дакапацца да ісьціны, атрымалася б яшчэ адна цікавая кніга, з захапляльнымі сюжэтамі[19] , новымі пэрсаналіямі. Пачакаем яе зьяўленьня.

* * *

***Юры Грыбоўскі***[20]

*Варшава*

У 2013 г. у выдавецтве „Кнігазбор“ у сэрыі „Бібліятэка Бацькаўшчыны“, якая выдаецца Згуртаваньнем беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“ разам зь Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку, выйшла манаграфія Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча пад назвай „Рада БНР (1947—1970). Падзеі. Дакументы. Асобы“. Гэта ўжо дваццаць другое выданьне, якое ўбачыла сьвет у такой аўтарытэтнай у навуковых колах выдавецкай сэрыі.

Аўтарамі манаграфіі зьяўляюцца Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч — дасьледнікі, што займаюцца справамі беларускай эміграцыі ХХ ст. Яны маюць сур’ёзны навуковы даробак у галіне эмігранцкай праблематыкі. Абое добра ведамыя па шматлікіх працах, датычных беларускай эміграцыі ў асобных дзяржавах сьвету. Прыкладам, Н. Гардзіенка мае на сваім рахунку вельмі сур’ёзныя манаграфіі, прысьвечаныя дыяспары ў Аўстраліі й Вялікабрытаніі. У сваіх ранейшых працах аўтары ў значнай ступені акцэнтавалі ўвагу на грамадзкіх, культурна-асьветніцкіх і рэлігійных праблемах. Гэтым разам у цэнтры ўвагі дасьледнікаў — пытаньні палітычнага характару.

Рэцэнзаваная праца прысьвечаная вывучэньню Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у выгнаньні ў 1947—1970 гг. І працу гэтую варта прызнаць за наватарскую, бо закранутыя тэмы належаць да найменш дасьледаваных у гістарыяграфіі. Асобныя аспэкты названай праблемы раней былі прадметам зацікаўленьня гісторыкаў. Некаторыя аўтары ў сваіх працах закраналі праблемы паваеннай беларускай палітычнай эміграцыі на Захадзе, але рабілася гэта між іншым, не было галоўнай тэмай. Таму востра не хапала цэласнага і ўсебаковага разгляду дадзенай праблемы.

[19] Адзін такі сюжэт ужо быў адшуканы ў архіве СБУ Ўкраіны: Клявец, Раман. Украінскія кур’еры для сувязі зь беларускай канспірацыяй у Баранавічах, 1947 год // Беларускі Рэзыстанс. № 2 (7). 2009. С. 117—121.

[20] Рэцэнзія была апублікаваная ў: Acta Albaruthenica. Т. 14. 2014. С. 364—372.…

Рэанімаваная пасьля Другой сусьветнай вайны Рада БНР выконвала ролю ўлады ў выгнаньні, ствараючы аснову беларускага незалежніцкага лягеру ў Вольным сьвеце. Аб’яднаныя вакол гэтай структуры дзеячы ўздымалі на чужыне ідэю беларускага незалежнага дэмакратычнага жыцьця ў той час, як на Радзіме панаваў таталітарны савецкі лад.

Аўтары невыпадкова абралі 1947—1970 гг. прадметам свайго дасьледаваньня. Наколькі абраны за ніжні пункт адліку 1947 г. не выклікае ніякіх сумненьняў (аднаўленьне арганізацыі на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны), настолькі храналягічна верхняя кропка — 1970-ы год — патрабуе пэўных тлумачэньняў. З фактычнага боку, названы пэрыяд ахоплівае кадэнцыю старшыні Рады й Прэзадэнта БНР Мікалая Абрамчыка. Якраз зь ягонай сьмерцю ў 1970 г. скончыўся першы этап паваеннай гісторыі БНР.

Галоўная частка працы складаецца з уступу й сямі вялікіх разьдзелаў. У манаграфіі ёсьць фотаўстаўкі, якія рэпрэзэнтуюць фатаздымкі й дакумэнты, значная частка каторых упершыню ўведзена ў навуковы ўжытак. Пры больш дэталёвым азнаямленьні, аднак, аказваецца, што працу насамрэч можна падзяліць на дзьве часткі. Першы разьдзел, названы „*Рада БНР Міколая Абрамчыка*“, мае характар гістарычнага апісаньня Рады БНР адпаведнага пэрыяду. Аўтары раскрываюць чытачам розныя аспэкты дзейнасьці арганізацыі з падрабязным разглядам нутранага жыцьця й актыўнасьці на міжнароднай арэне. Не абмінулі й такога раней малаведамага факту, як удзел беларускіх эміграцыйных асяродкаў у дзейнасьці радыёстанцыі „Вызваленьне“ ці таксама заангажаваньне ў працу Інстытута вывучэньня СССР у Мюнхене. Не засталося таксама па-за ўвагай дасьледнікаў супрацоўніцтва беларускіх дзеячаў з прадстаўнікамі палітычных арганізацыяў іншых народаў.

У кнізе падрабязна асьветлены працэс фармаваньня структураў Рады БНР. Цікавай бачыцца высновa аўтараў пра існаваньне „падпольнага“ ўраду БНР (кабінет міністраў М. Абрамчыка) у 1943—1947 гг. У выдаванай да гэтага часу адпаведнай літаратуры панавала пераканаьне, што сьмерць Васіля Захаркі ў 1943 г. выклікала „перапынак“ у дзейнасьці ворганаў БНР аж да моманту аднаўленьня Рады ў сьнежні 1947 г. у мястэчку Остэргофэн (амэрыканская зона акупацыі Нямеччыны), калі была прынятая адпаведная дэклярацыя й сфармаваны ўрад. Аўтары пераканаўча даказваюць існаваньне пераемнасьці структураў БНР і трактуюць зьезд у Остэргофэне толькі як пачатак палітычнай акцыі больш шырокага маштабу, мэтай якой было ажыцьцяўленьне пляну „выхаду з падпольля“ ворганаў БНР.

Наступныя шэсьць разьдзелаў адлюстроўваюць крыніцазнаўчую частку манаграфіі. Асабліва важным варта прызнаць другі разьдзел, які ўтрымлівае пратаколы паседжаньняў Прэзыдыуму Рады БНР у акрэсьлены пэрыяд. Вельмі цікавым лічу таксама трэці разьдзел, дзе падаюцца дакумэнты, падпісаныя беларускімі дзеячамі, нягледзячы на тое, што сустракаюцца й дакументы, каторыя выйшлі з-пад пяра польскіх і расейскіх эмігрантаў. Гэта палітычныя дэкларацыі ў сувязі з аднаўленьнем Рады; статут арганізацыі; інструкцыі, выдадзеныя ўрадам БНР, якімі забясьпечвалі дэлегатаў і эмісараў у асобных краінах; дакумэнты, што пацьвярджаюць актыўнасьць на міжнароднай арэне.

Чацьвёрты разьдзел утрымлівае рэдкую карэспандэнцыю Прэзыдэнта М. Абрамчыка й чатырох іншых чальцоў Рады (Аўгена Каханоўскага, Янкі Ліманоўскага, Аляксандра Махноўскага, Янкі Сурвілы). Пяты разьдзел зьмяшчае бібліяграфію матэрыялаў на тэму Рады БНР на старонках беларускай прэсы, а таксама сьпіс выданьняў арганізацыі.

Шосты разьдзел („Асобы“) прысьвечаны асобным знакамітым беларускім дзеячам на эміграцыі. Працу завяршае сёмы разьдзел, які рэпрэзэнтуе хроніку найважнейшых падзеяў у дзейнасьці Рады БНР у 1946—1970 гг.

З вышэйпададзенага агляду вынікае, што аснову працы складае збор дакумэнтаў і матэрыялаў, а не аўтарскіх тэкстаў. Чытачу можа нават падацца, што ён мае справу са зборам дакумэнтаў і матэрыялаў, а не зь іх апрацоўкай.

Асобнага абмеркаваньня заслугоўвае пытаньне крыніцаў, выкарыстаных пры напісаньні кнігі. Трэба прызнаць, што аўтарам давялося сутыкнуцца зь вельмі складанай задачай, зьвязанай зь недахопам неабходных крыніцаў. Справа ў тым, што львіная доля іх не была раней апублікаваная. Такое становішча тлумачыцца тым, што архіў БНР да гэтага часу ня быў апрацаваны. Акрамя гэтага, крыніцы параскіданыя па розных месцах. Варта дадаць, што гэтыя архіўныя матэрыялы не аформленыя належным чынам у архівах і неінвэнтарызаваныя. І трэба сказаць, што аўтары пасьпяхова справіліся з заданьнем, што ня можа не выклікаць павагі й прызнаньня. Абсалютная большасьць зьмешчаных у працы дакумэнтаў упершыню ўведзеная ў навуковы ўжытак. У першую чаргу гэта датычыць пратаколаў паседжаньняў, якія былі перададзеныя Беларускаму інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку былым прэм’ерам БНР Аўгенам Каханоўскім. Асобную катэгорыю матэрыялаў складаюць прыватныя зборы эмігрантаў (у прыватнасьці, Янкі Запрудніка). Астатнія дакумэнты зьяўляюцца вынікам росшукаў

ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане, а таксама ў архівах і бібліятэках у Атаве (Канада). Не выклікае сумненьня, што аўтары сутыкнуліся зь вялікімі цяжкасьцямі й мусілі перарабіць сапраўды карпатлівую працу, каб сабраць і ўпарадкаваць раскіданыя па ўсім сьвеце сьведчаньні дзейнасьці Рады БНР. Найвялікшую навуковую й пазнавальную вартасьць маюць гэтыя сапраўды ўнікальныя дакумэнты, важнасьць якіх нельга пераацаніць. Яны праліваюць новае сьвятло на дагэтуль маладасьледаваныя праблемы, зьвязаныя зь дзейнасьцю незалежніцкіх палітыкаў у выгнаньні. На маю думку, менавіта публікацыя гэтых каштоўных крыніц зьяўляецца найбольшай вартасьцю й безумоўным дасягненьнем гэтай кнігі. Неабходна падкрэсьліць, што колькасна найбольшая група крыніцаў належыць да саракавых і пяцідзясятых гадоў. Гэта падкрэсьлівае меркаваньне, што ў той час эмігранты дзейнічалі найбольш энэргічна, тады як пасьля 1956 г. у новых хутказьменных умовах міжнароднай сытуацыі актыўнасьць антыкамуністаў значна зьмяншаецца.

Шматлікія пратаколы, інструкцыі, нататкі, лісты паказваюць нам дастаткова поўны вобраз пасьляваеннага беларускага незалежніцкага лягеру на Захадзе. Пасьля сур’ёзнага азнаямленьня чытач без цяжкасьцяў зробіць высновы адносна найважнейшых справаў і клопатаў дзеячаў БНР, праблемаў, зь якімі яны сутыкаліся ў рэальнасьці, якія іх акружалі. Можна толькі захапляцца людзьмі, якія ў выключна цяжкіх пабытавых і матэрыяльных умовах з такой рашучасьцю й адданасьцю намагаліся ўкараняць на чужыне ідэю незалежнай беларускай дзяржавы.

Паседжаньні Прэзыдыюму Рады й камунікаты ўладаў у выгнаньні паказваюць, што адной з найбольшых праблемаў, зь якімі сутыкнулася палітычная эміграцыя БНР, быў пастаянны й трывалы недахоп матэрыяльных сродкаў. Дадатковым чыньнікам, што абцяжарваў эфэктыўную дзейнасьць, былі палітычныя рознагалосьсі ў беларускім незалежніцкім лягеры на Захадзе прыхільнікаў Рады БНР і Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР), да якіх дайшло напрыканцы саракавых гадоў і якія былі актуальныя яшчэ пэўны час. Акрамя таго, лягер Прэзыдэнта М. Абрамчыка быў пастаянна ўзрушаны нутранымі варагаваньнямі й непаразуменьнямі. Антаганізм і нутраныя звады забіралі шмат сілы й энэргіі, неабходных для барацьбы са зьнешнім ворагам.

На падставе скрупулёзнага аналізу дакумэнтаў (пратаколы Прэзыдыюму Рады БНР, камунікаты, інструкцыі, лісты) можна зрабіць выснову, што дзеячы БНР вялікую ўвагу надавалі міжнароднай дзейнасьці. Яны былі нястомныя ў сваіх намаганьнях здабыць прыхіль-

насьць сусьветных дзяржаваў. Рабіліся спробы атрымаць падтрымку беларускай справе ў Лёндане, Парыжы, Вашынгтоне й Ватыкане. Палітыкі Рады БНР выканалі надзвычай вялікую працу па ўключэньні пытаньня беларускай дзяржаўнасьці ў парадак дня міжнароднай палітыкі. Прэзыдэнт М. Абрамчык меў розныя міжнародныя кантакты як у Эўропе, гэтак і за акіянам. Наладжваньню міжнародных адносінаў спрыялі частыя выезды Прэзыдэнта ў асобныя краіны, дзе была шырока прадстаўленая беларуская дыяспара (Вялікабрытанія, Бэльгія, Нямеччына, Швэцыя, Канада, Злучаныя Штаты). Існуюць падставы для меркаваньня, што актыўнасьць эміграцыйных дзеячаў у гэты пэрыяд мела эфэкт. Варта цалкам пагадзіцца са сьцьвярджэньнем аўтараў, што праз дзейнасьць Рады БНР беларускае пытаньне на міжнароднай арэне перастала ўспрымацца не зусім сур'ёзна, як гэта было ў міжваенны пэрыяд.

Прыярытэтнай была таксама справа ўсталяваньня добрых адносінаў з суседзямі. У сьвятле прыведзеных у кнізе дакумэнтаў мае права на жыцьцё сьцьвярджэньне, што найбольш прыязныя адносіны складваліся з латышамі. Затое не заўсёды былі вольнымі ад супярэчнасьцяў дачыненьні з украінскімі антыкамуністамі. У сувязі са спрэчкамі наконт Вільні сур'ёзныя цяжкасьці былі ў перамовах зь летувісамі. Узаемныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі абцяжарвалі таксама кантакты з палякамі. Безумоўна, не былі лёгкімі адносіны з расейскай эміграцыяй. Нельга пазьбегнуць уражаньня, што ўлады БНР шмат увагі надавалі рэлігійным справам эмігрантаў. Многія дакумэнты сьведчаць таксама, што ўлады БНР намагаліся запабегчы расьсейваньню эмігрантаў і спыненьню імі кантактаў зь беларускімі арганізацыямі. Такія перасьцярогі ўзмацняў ад'езд зь Нямеччыны большасьці беларусаў на мяжы саракавых — пяцідзясятых гадоў і іх пасяленьне ў іншых краінах, у тым ліку й за акіянам. Увесь цяжар аб'яднаньня эмігрантаў вакол асяродкаў беларускага жыцьця ляжаў на плячах дэлегатаў і прадстаўнікоў Рады БНР.

Пэўным недахопам працы зьяўляецца невыкарыстаньне шэрагу польскамоўных матэрыялаў, якія, несумненна, узбагацілі б яе навуковую вартасьць. Хачу, аднак, заўважыць, што папярэдняя заўвага ні ў якім разе не зьніжае каштоўнасьці працы і верагодна, можа быць улічаная пры чарговых рэдагаваньнях кнігі.

Падсумоўваючы сказанае, неабходна падкрэсьліць, што манаграфія Н. Гардзіенкі й Л. Юрэвіча ўяўляе надзвычай цікавае дасьледаваньне. Яна дадае шмат новых фактаў да ўжо ведамых, што датычаць вывучэньня беларускай эміграцыі. Зьяўленьне працы, прысьвечанай Радзе

БНР, паказвае фактычны стан вывучэньня праблемаў беларускай эміграцыі. Нягледзячы на тое, што на працягу апошніх гадоў згаданая тэматыка карыстаецца вялікай папулярнасьцю, якая не зьмяншаецца, яна па-ранейшаму ўяўляе неапрацаванае дасьледніцкае поле.

Са зразумелых прычынаў кніга не дае адказаў на ўсе пытаньні, зьвязаныя зь дзейнасьцю Рады БНР у эміграцыі. Шмат закранутых у манаграфіі праблемаў патрабуюць больш шырокага разгляду. Надалей „белай плямай“ застаецца сувязь эміграцыйных асяродкаў з пытаньнем узброенага антыкамуністычнага падпольля ў БССР. Паўстае таксама неабходнасьць падобнага дасьледаваньня „канкурэнцыйнай“ у адносінах да БНР фракцыі ў беларускім эміграцыйным лягеры — БЦР. Але гэта не зьмяняе факту, што рэцэнзаваная праца, без сумневу, зьяўляецца важным унёскам у вывучэньне гісторыі пасьляваеннай беларускай эміграцыі. Таксама не выклікае сумневаў, што манаграфія запоўніць істотную лакуну ў гістарыяграфіі. Факты й ацэнкі, якія ўтрымліваюцца ў кнізе, вельмі прадуманыя й доказныя. Варта таксама ў поўнай ступені ацаніць грандыёзнасьць працы й намаганьняў аўтараў, што робіць магчымым выкарыстаньне дагэтуль недаступных крыніцаў шырокім колам дасьледнікаў. Ёсьць надзея, што ў хуткім часе можна чакаць чарговых прац Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча, прысьвечаных гэтай праблематыцы.

*Пераклад з польскай Юрася Бабіча*

* * *

**_Томаш Блашчак_**[21]

*Коўна*

Напрыканцы 2013 г. выйшла даўно чаканая кніга. Гэта падрыхтаваны беларускімі гісторыкамі Натальляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам зь Нью-Ёрку зборнік дакумэнтаў „Рада БНР (1947—1970): Падзеі, Дакументы, Асобы“. Праўда гэтую публікацыю цяжка назваць зборнікам дакумэнтаў, бо зьмест кнігі выходзіць за звычайныя для такіх выданьняў межы — сюды ўключаныя як дакумэнты, так і пратаколы, карэспандэнцыя, хроніка, біяграфічныя артыкулы, а таксама вялікі аналітычны артыкул, у якім раскрываецца дзейнасьць Рады БНР у першыя

[21] Рэцэнзія была апублікаваная: Nauja knyga apie baltarusiř egzilinę vyriausybę // Oikos: lietuviř migracijos ir diasporos studijos. № 1 (17). 2014. P. 161—163.

паваенныя дзесяцігодзьдзі. Аднак значную частку кнігі (амаль 400 з 648 старонак) можна лічыць зборнікам крыніцаў.

Гэтая публікацыя — 22 кніга ў сэрыі „Бібліятэка Бацкаўшчыны“, заснаванай Згуртаваньнем беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“. У гэтай сэрыі публікуюцца дасьледаваньні й крыніцы, зьвязаныя зь беларускай эміграцыяй. Кніга пабачыла сьвет на 110-я ўгодкі з дня нараджэньня Міколы Абрамчыка (1903—1970). Менавіта з гэтай асобай зьвязаныя храналягічныя межы кнігі, з пэрыядам калі Мікола Абрамчык займаў пасаду Старшыні (Прэзыдэнта) Рады БНР.

Жыцьцёвы шлях Міколы Абрамчыка не шараговы, ён не падобны да лёсу іншых беларускіх дзеячаў. Будучы Прэзыдэнт Рады БНР, як і многія ягоныя равесьнікі, якім давялося атрымліваць вышэйшую адукацыю ў першай палове 1920-х гг., выехаў з Заходняй Беларусі ў Чэхаславаччыну, дзе скончыў Украінскую сельскагаспадарчую акадэмію ў Падэбрадах. З Чэхаславаччыны пераехаў у Парыж, дзе стварыў першыя беларускія арганізацыі, выдаваў часопісы. У часе вайны працаваў у Беларускім камітэце самапомачы, а ў 1943 г. вярнуўся ў Парыж.

Гэтая кніга выключная зь некалькіх прычынаў. Па-першае, гэта вяртаньне самой БНР у беларускую гістарыяграфію. Пасьля вельмі вялікага зацікаўленьня гэтай тэматыкай у пэрыяд нацыянальнага адраджэньня: напярэдадні і ў першыя гады пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, гэтая тэма была выштурхнутая з асноўных кірункаў гістарыяграфіі й больш цікавіла замежных дасьледнікаў (гл. напр. працу Дароты Махалюк „Беларуская Народная Рэспубліка. 1918—1920. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасьці“). Па-другое, менавіта арыентацыя на паваенны пэрыяд, які па гэты момант практычна не вывучаўся або дасьледваўся даволі павярхоўна.

Зборнік крыніцаў зьяўляецца другім выданьнем пра БНР такога тыпу. Першым быў том „Архівы БНР“, укладзены Сяргеем Шупам, які пабачыў сьвет у 1998 г. з ініцыятывы Ньюёрскага Інстытуту навукі й мастацтва[22] . Хоць гэтае выданьне плянавалася працягваць далей, аднак па сёньняшні дзень выйшлі толькі першыя тамы. У выданьні былі апублікаваныя дакумэнты, якія захоўваюцца ў 582 фондзе Цэнтральна-

[22] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі = Archives of the Belarusian Democratic Republic: фонд № 582. Дзяржаўнага Архіву Літвы („Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі„) / уклад.: Сяргей Шупа. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва — Таварыства Беларускага Пісьменства — Наша Ніва, 1998.

га Дзяржаўнага архіву Літоўскай Рэспублікі (Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі), і яно ахоплівала пэрыяд 1918—1925 гг.[23] Раўналежна, у Менску, у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца матэрыялы з таго самага пэрыяду, якія дапаўняюць віленскую калекцыю. Можна сьцьвярджаць, што гэтыя два фонды складаюць поўны архіў БНР за першыя гады існаваньня дзяржаўных інстытуцыяў. На жаль, матэрыялы, якія захоўваюцца ў Менску апублікаваныя не былі. Публікацыю Натальлі Гадзіенкі й Лявона Юрэвіча можна было б лічыць працягам выданьня Сяргея Шупы, шкада, што кніга выйшла ўжо ў іншай сэрыі.

Кніга складаецца зь сямі частак. У першай — даволі вялікі (амаль на сто старонак) уводны артыкул „Рада БНР у часы Міколы Абрамчыка. Гістарычны агляд“. Сам артыкул падзелены на чатыры часткі. На пачатку лякацічна апісаная перадгісторыя Рады БНР. Нам застаецца толькі пашкадаваць, што мала ўвагі прысьвечана даваеннай гісторыі БНР, хоць гэта й не асноўная тэма кнігі, але некаторыя яе ключавыя моманты мелі немалы ўплыў на далейшыя дзеяньні Рады ў выгнаньні й яе пакручастую гісторыю, асабліва калі гаворка ідзе пра ковенскі й праскі пэрыяды ды аналіз бэрлінскіх падзеяў 1925 г. І прачытаўшы слова „перадгісторыя“ хочацца пазнаёміцца й з гэтай інфармацыяй.

У другой частцы апісаныя акалічнасьці аднаўленьня Рады БНР пасьля Другой сусьветнай вайны. Трэцяя частка прысьвечана дзейнасьці Рады БНР у Нямеччыне (1948—1950). Апрача арганізацыйных структураў прадстаўлена нутраная й зьнешняя палітыка. У апошняй (найбольшай) частцы апісаная разнастайная дзейнасьць Рады БНР ў Злучаных Штатах Амэрыкі й лёс яе архіваў. Твор вельмі салідны: нязначна дапоўнены й пашыраны, ён можа стаць асобнай кнігай.

Ва ўступным артыкуле ў вочы кідаецца адна ня вельмі зразумелая зьява — уключэньне ў тэкст вельмі даўгіх цытатаў (ледзь ня поўныя дакумэнты), частку якіх не знаходзім сярод апублікаваных матэрыялаў падобнага тыпу (напрыклад, лісты А. Каханоўскага). Гэта парушае аднароднасьць збору. Таксама ў прадмове пададзеныя спасылкі на архіўныя дакумэнты, якія ў зборніку не апублікаваныя (напрыклад, рашэньне Рады за 7 красавіка 1949 г. (с. 5)). Можа, іх ўсё ж варта было апублікаваць?

Дакумэнты, апублікаваныя ў асноўнай частцы кнігі (гэта амаль 400 старонак), аўтары зьбіралі не адзін і ня два гады. Асноўная частка

[23] У 2012 г. фонд папоўнілі новыя 34 справы.

дакумэнтаў паходзіць з Нью-ёрскай публічнай бібліятэкі (*New York Public Library*), дзе захоўваецца пакуль не спарадкаваны ды чытачам недаступны архіў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Іншыя дакумэнты зьберагаюцца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане, у беларускай калекцыі Бібліятэкі й архіву Канады (*Library and Archives Canada*) ды ў розных прыватных калекцыях (напрыклад, архівы Янкі Запрудніка й Тамары Стагановіч)

Вялікі недахоп гэтага збору — адсутнасьць дэталёвай архіўнай інфармацыі, хоць у прадмове да другога раздзелу пазначана, што *„прадстаўленыя [...] пратаколы, за выключэннем некалькіх адмыслова пазначаных, узятыя са збораў Беларускага інстытута навукі і мастацтва“*, немагчыма даведацца, дзе на самай справе ў той бібліятэцы захоўваюцца дакумэнты. Ведама, на такое аўтарскае рашэньне паўплывала тое, што архіў БІНіМ не спарадкаваны, але архівы, якія захоўваюцца ў іншых фондах каталягізаваныя й даступныя чытачам. Аднак на фоне аграмаднай працы па апрацоўцы й падрыхтоўцы да публікацыі дакумэнтаў, гэты недахоп даволі дробны. Укладальнікаў трэба пахваліць за цудоўныя камэнтары, асабліва біяграфічнага характару, у якіх падаецца інфармацыя ня толькі пра беларускіх, але ўкраінскіх, расейскіх, польскіх ды іншых нацыянальных дзеячаў.

Вяртаючыся да самой структуры кнігі — дакумэнты падзеленыя на тры часткі. У першай сабраныя ўсе пратаколы Рады БНР за пэрыяд 1947—1970 гг., якія ўкладальнікам удалося выявіць у розных калекцыях і ў першую чаргу ў архіве БІНіМу. Другую частку складаюць разнастайныя дакумэнты: статуты, улёткі, інструкцыі. Апошняя частка — карэспандэнцыя дзеячаў Рады БНР (Міколы Абрамчыка, Аўгена Кахаsuccessfullyноўскага, Янкі Ліманоўскага, Аляксандра Махноўскага, Янкі Сурвілы.

Пяты разьдзел кнігі бібліяграфічны. Яго складаюць тры бібліяграфіі: выданьні й пэрыёдыкі Рады БНР, а таксама крыніцы пра гісторыю гэтай арганізацыі, апублікаваныя ў газэтах „Бацькаўшчына“ й „Беларус“. У наступным разьдзеле зьмешчаныя біяграфічныя артыкулы пра Міколу Абрамчыка, Язэпа Варонку, Антона Адамовіча, Раісу й Вінцэнта Жук-Грышкевічаў, Янку Ліманоўскага, Ізыдара Плашчынскага, Міколу Панькова, Лявона Савёнка, Аўгена Каханоўскага, Вітаўта Тумаша й Натальлю Арсеньеву. Усе тэксты публікаваліся раней. Магчыма, у зьмесьце, у пераліку біяграфічных тэкстаў было б таксама дарэчы адзначыць аўтараў паасобных артыкулаў, тым больш, што адзін зь іх напісалі не ўкладальнікі, а Лявон Рыдлеўскі (1909—1953). Гэты біяграфічны нарыс зьявіўся ў 1952 г. і прысьвечаны Міколу Абрамчыку.

Апошні разьдзел кнігі складае хроніка Рады БНР за 1946—1970 гады, створаная на падставе даўняй працы Міколы Панькова „Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945—1984)“. Кнігу завяршае вельмі важны іменны паказьнік.

Трэба прызнаць, што, хоць аўтарам-укладальнікам не ўдалося пазьбегнуць дробных памылак (што натуральна для такой аб'ёмнай працы), яны збольшага маюць тэхнічны характар, а сама публікацыя вельмі каштоўная й раскрывае кампэтэнцыю аўтараў у гэтай тэме. Выданьне знаёміць з практычна недасьледаваным пэрыядам беларускай эміграцыі й адчыняе дзьверы іншым дасьледнікам, у першую чаргу тым, якія маюць намер заняцца параўнальнымі досьледамі гісторыі эміграцыі ды вывучаць глыбей стасункі беларусаў зь іншымі эмігранцкімі арганізацыямі. І гэтае выданьне — адзіная магчымасьць пазнаёміцца хоць з малой часткай гэтай калекцыі.

*Пераклад зь летувіскай Андрэя Антонава*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# „САКАВІК“ — „КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ“




Інтэрнэт-старонка „Сакавік: культура, нацыя“

У сакавіку 2013 г. у інтэрнэт-прасторы нарадзілася новае выданьне — *„незалежны перыядычны on-line часопіс у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці „Сакавік“*“. У першым нумары было пазначана, што часопіс заснаваны яшчэ ў сьнежні 2012 г., выдаецца ў Атаве (Канада), а заснавальнікам і рэдактарам яго зьяўляецца актыўны дзеяч сучаснай беларускай дыяспары ў Канадзе Пётра Мурзёнак. Да верасьня 2014 г. пабачылі сьвет ужо сем выпускаў гэтага пэрыёдыка, і ён

паступова заваёўвае сваё адметнае месца ў інтэлектуальнай прасторы ня толькі ўласна беларускага замежжа. Праўда, у чэрвені 2014 г. часопіс зьмяніў назву на „Сакавік: культура, нацыя“, а ў верасьні 2014 г. выйшаў ужо як проста „Культура, нацыя“.

Пачынаючы выданьне, Пётра Мурзёнак адзначыў: *„Хацелася б, каб часопіс стаў яшчэ адной платформай для абмеркаваньня сучасных праблем беларускай культуры як прадстаўнікамі беларускай нацыі, так і ўсімі зацікаўленымі асобамі“*[1]. І колькасьць аўтараў ды тэматычны дыяпазон матэрыялаў выданьня з часам сапраўды пашыраецца. Зразумела, што найбольш актыўным аўтарам зьяўляецца сам рэдактар, чые тэксты складаюць асноўны зьмест кожнага нумара. Так, першы зь іх, „Шляхі да нацыянальнай дзяржавы“, разглядаў *„мадэлі будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, суадносіны з суседнімі краінамі, умовы і мадэлі існаваньня мовы і неабходнасьць асьветы насельніцтва для рэалізацыі беларускай ідэі“*[2]. Вялікі тэкст у другім нумары часопіса меў назву „Ці быў Рурык у Полацку? Гісторыя сучаснай Беларусі і краіны як вынік сутыкненьня ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый“ і абгрунтоўваў *„існаваньне асобнай усходне-славянскай еўрапейскай цывілізацыі на сучасных тэрыторыях Беларусі і Украіны“*[3]. Далей у нумарах можна знайсьці артыкулы Пётры Мурзёнка „Беларускасьць і ментальнасьць цывілізаваных краін“, „Нацыя і свабода“, „Русский язык супраць нацыяналізму беларусаў і украінцаў“, „Беларусь не Еўразія, або нацыянальная ідэя сёньня“ ды іншыя. Усе тэксты, заснаваныя на вывучэньні багатых разнамоўных публікацыяў ды выкарыстаньні разнастайнай цікавай статыстыкі, аб’яднаныя агульным памкненьне абгрунтаваць месца беларусаў і Беларусі ў гісторыі цывілізацыяў і ў сучасным сьвеце. Менавіта таму, напэўна, у артыкулах Пётры Мурзёнка багата параўнаньняў беларусаў з суседзямі.

Асобна варта спыніцца на тэксьце, зьмешчаным у № 3 часопіса „Сакавік“ — „Беларусь. 2013. Спатканьне з Радзімай“, што стаў вынікам адведваньня Пётрам Мурзёнкам бацькаўшчыны пасьля пятнаццацігадо-

---

[1] Мурзёнак, Пётра. Слова да чытачоў // Сакавік. № 1. Сакавік 2013. С. 3. Нумары часопісу гл.: http://sakavik.net/

[2] Мурзёнак, Пётра. Шляхі да нацыянальнай дзяржавы // Сакавік. № 1. Сакавік 2013. С. 4.

[3] Мурзёнак, Пётра. Ці быў Рурык у Полацку? Гісторыя сучаснай Беларусі і Украіны як вынік сутыкненьня ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый // Сакавік. № 2. Чэрвень 2013. С. 3.

вай адсутнасьці[4] . Аўтар пасьлядоўна выкладае свае ўражаньні ад вёсак, мястэчак, гарадоў, якія ён пасьпеў адведаць, спыняючыся на фіксацыі заўважаных зьменаў. Ягоныя нататкі часам нагадваюць рэфлексіі паваенных беларусаў, што на пачатку 1990-х гг. прыяжджалі ў Беларусь. І хоць дыяпазон зьменаў для тых „старых“ эмігрантаў пасьля амаль паўвекавой эміграцыі, і для Пётры Мурзёнка ўсё ж адрозьніваецца, шмат што ў аб’ектах ацэньваньня ды заўвагах вельмі падобнае. Меркаваньні канадыйскага беларуса даволі ўзважаныя, аўтар фіксуе пазытыўныя й нэгатыўныя зьявы, асобна спыняючыся на пытаньні мовы, важным для ўсёй ягонай творчасьці. Наогул, гэткія беларускія травэлёгі сучасных эмігрантаў вартыя адмысловага дасьледаваньня.

Нягледзячы на тое, што часопіс выходзіць у замежжы, да апошніх нумароў матэрыялаў, прысьвечаных самому замежжу на ягоных старонках амаль не было. І толькі ад № 6 праблемам эміграцыі стала аддавацца належнае месца. Тут былі зьмешчаныя адразу два артыкулы Пётры Мурзёнка „Колькі беларусаў жыве ў цэлым сьвеце“ ды „Міграцыя беларусаў у Канаду ў параўнаньні з краінамі-суседзямі“. Выкарыстоўваючы найноўшыя статыстычныя зьвесткі аўтар даказвае, што па-за межамі Беларусі сёньня жыве каля паўтара мільёна беларусаў, а ня тры мільёны, як прынята лічыць[5] . Што праўда, мэтодыка падлікаў дастаткова арыгінальная й можа выклікаць пэўныя пытаньні, аднак вынікі выглядаюць даволі адэкватнымі.

Надзвычай цікавы аналіз зрабіў Пётра Мурзёнак паводле статыстыкі беларускай эміграцыі апошніх дзесяцігодзьдзяў у Канаду на фоне эміграцыі іншых прадстаўнікоў Усходняй Эўропы. Так, у параўнаньні з палякамі, летувісамі, латышамі, расейцамі, украінцамі й эстонцамі, прырост беларусаў у адсоткавым вымярэньні ў Канадзе аказаўся найбольшым — ад 2830 (1991) да 15 565 (2011), што склала 550%[6] . Аднак аўтар пералічвае гэты прырост на агульную колькасьць насельніцтва Беларусі й атрымоўваецца, што толькі 134 беларусы на 100 тысяч жыхароў мэтраполіі выехалі ў Канаду, што зьяўляецца найменшым паказьнікам з прааналізаваных народаў-суседзяў. Аднак не зусім карэктным выглядае пры гэтым імкненьне Пётра Мурзёнка зрабіць на гэтай

[4] Мурзёнак, Пётра. Беларусь. 2013. Спатканьне з Радзімай // Сакавік. № 3. Верасень 2013. С. 2—23.

[5] Мурзёнак, Пётра. Колькі беларусаў жыве ў цэлым сьвеце // Сакавік: Культура, нацыя. № 6. Чэрвень 2014. С. 25—29.

[6] Мурзёнак, Пётра. Міграцыя беларусаў у Канаду ў параўнаньні з краінамі-суседзямі // Сакавік: Культура, нацыя. № 6. Чэрвень 2014. С. 31.

падставе выснову пра міграцыйную пасіўнасьць беларусаў[7]. Зразумела, што дынаміка прыросту беларусаў будзе адрозьніваецца ў залежнасьці ад краіны й агульная колькасьць эмігрантаў-беларусаў у суадносінах з жыхарамі мэтраполіі будзе іншай (асабліва, калі ўлічыць даволі актыўную сучасную нелегальную эміграцыю найперш у Расею). Але атрыманы паказчык па выезьдзе беларусаў у Канаду, меншы ў параўнаньні з суседзямі, можа тлумачыцца тым, што суседзі, прыкладам, палякі, латышы й летувісы, чые паказчыкі прыросту ў суадносінах да жыхароў мэтраполіі найбольшыя, маюць лепшыя магчымасьці для ўезду ў Канаду праз значнае спрашчэньне візавага рэжыму. Што ж датычыць паказчыкаў па ўкраінцах, то рост іх колькасьці ў Канадзе цягам 20 гадоў на 19% пры тым, што дыяспара складае больш за мільён чалавек, у значнай ступені можа адлюстроўваць натуральны прырост. Такім чынам, можна казаць, што, нягледзячы на складанасьці атрыманьня для беларусаў канадыйскай візы, Канада аказалася надзвычай прывабнай для нашых суайчыньнікаў краінай, калі колькасьць іх цягам 20 гадоў тут узрасла больш, чым ў пяць разоў.

Яшчэ адным матэрыялам, прысьвечаным міграцыйным працэсам, ёсьць зьмешчаны ў № 7 тэкст прадмовы аўстралійскага беларуса Віктара Кавалеўскага да сваёй кнігі „А хто там ідзе?“ пад назвай „Ідэялагічныя утопіі, сакрэтныя дамовы, войны і міграцыя насельніцтва“. Тут аўтар разважае пра падставы беларускай эміграцыі ў Аўстралію пасьля Другой сусьветнай вайны, неадпаведнасьць характарыстыкі „калябарант“ і г. д.[8]

Варта адзначыць, што на працягу існаваньня часопісу „Сакавік“ („Культура, нацыя“) колькасьць ягоных аўтараў відавочна пашырылася. Калі першы нумар акрамя тэкстаў Пётры Мурзёнка быў прадстаўлены артыкуламі чатырох аўтараў: двое зь іх — Галіна Туміловіч і Вікторыя Казлова — цяпер пазначаюцца як сябры рэдакцыі, то ў наступных паступова сталі зьяўляцца новыя прозьвішчы. На старонках часопісу можна спаткаць тэксты Паўла Севярынца, Міколы Крукоўскага, Паўла Згерскіса, Тадэвуша Стружэцкага. Пры гэтым публікуюцца ня толькі арыгінальныя й ня толькі беларускамоўныя тэксты, але й пераклады англамоўных аўтараў на беларускую, або нават беларусаў на расейскую

[7] Мурзёнак, Пётра. Міграцыя беларусаў у Канаду ў параўнаньні з краінамі-суседзямі // Сакавік: Культура, нацыя. № 6. Чэрвень 2014. С. 30.

[8] Кавалеўскі, Віктар. Ідэялагічныя утопіі, сакрэтныя дамовы, войны і міграцыя насельніцтва // Культура, нацыя. № 7. Верасень 2014. С. 5—10.

мову, як тэкст Вацлава Ластоўскага „Что нужно знать каждому беларусу?“, зьмешчаны ў № 7 часопіса.

Адметнасьцю выданьня зьяўляецца ягоны беларускі правапіс: які ёсьць своеасаблівым сынтэзам „наркамаўкі“ й „тарашкевіцы“, дзе да прынцыпаў першай дададзенае пазначэньне мяккасьці зычных з апошняй.

Агульная культуралягічная тэматыка — скразная для ўсіх нумароў часопіса, бо ягоныя выдаўцы мяркуюць, што *„менавіта праз культуру магчыма рабіць ўплыў на сьвядомасьць насельніцтва Беларусі, фармаваць і ўзмацняць нацыю“*[9].

Сёньня інтэрнэт-праект „Сакавік: Культура, нацыя“ ўяўляе сабой параўнальна новую зьяву ў культуры беларускага замежжа. Акрамя ўласна часопісу, які выходзіць з заяўленай ад пачатку пэрыядычнасьцю штотрымесяцы ужо амаль цягам двух гадоў, апошнім часам актывізаваўся ўвесь вэб-сайт http://sakavik.net/, дзе зьмяшчаюцца матэрыялы, прысьвечаныя сучаснай Беларусі, запазычаныя зь іншых крыніцаў. Можна меркаваць, што пры захаваньні сёньняшняга ўзроўню актыўнасьці стваральнікаў праекту, ён можа мець цікавыя пэрспэктывы.

[9] Культура, нацыя. № 7. Верасень 2014. С. 3.

# *Кніжная паліца*

***Іна Соркіна***
*Горадня*

## „Маё мястэчка“ Васіля Стомы

*Стома, Васіль. Маё мястэчка / прадмова Лявона Юрэвіча; падрыхтоўка тэксту і моўная рэдактура Змітра Саўкі; каментары Змітра Саўкі і Наталлі Гардзіенка. Мінск: Лімарыус, 2014. — 292 с.: іл. — (Беларуская мемуарная бібліятэка).*




Беларускае мястэчка, шырока пашыраны колісь тып паселішча — цэлая эпоха ў гісторыі нашай краіны. Мястэчка — гэта ня проста пераходны паміж вёскай і горадам населены пункт, дзе арганічна спалучаліся ўклад вясковага й гарадзкога жыцьця, побыт селяніна й гараджаніна, гэта — самадастатковая адметная зьява грамадзкага, побытавага й культурнага жыцьця Беларусі. Сацыяльная й этнаканфэсійная стракатасьць насельніцтва мястэчак пры іх невялікіх памерах і адсутнасьці ананімнасьці вялікага гораду, павольнасьць штодзённага жыцьця ва ўмовах традыцыйнага грамадзтва, своеасаблівы эканамічны й культурна-побытавы лад гэтых паселішчаў стваралі непаўторную атмасфэру мястэчка, адрозную як ад гораду, так і ад вёскі.

Асаблівую цікавасьць і каштоўнасьць для спробы гістарычнай рэканструкцыі страчанага чароўнага сьвету беларускага мястэчка ўяўляюць мэмуары Васіля Стомы-Сініцы „Маё мястэчка“, прысьвечаныя ягоным родным Лужкам, што былі для аўтара, паводле ўласнага вызна-

чэньня, *„найпрыгажэйшым, найчысцейшым і найвесялейшым мястэчкам пад сонцам“*.

Безумоўна, такія якасьці твору, як незвычайныя цеплыня й любоў, зь якімі Васіль Стома апісвае сваё роднае мястэчка й яго жыхароў, настальгічныя перажываньні аўтара, узмоцненыя фактарам пісаньня ў замежжы, у далечыні ад радзімы. На чужыне, без апірышча роднай зямлі, ідэал далёкае Бацькаўшчыны робіцца выключна ўзьнёслым й сьветлым. Такім узнёслым і сьветлым паўстае вобраз дарагіх для аўтара Лужак.

На характары твору адбілася таксама й тое, што аўтар распавядае пра гады свайго дзяцінства й юнацтва, калі ўсё ўспрымаецца яскрава й пакідае глыбокі сьлед у сьвядомасьці. Стома падкрэсьліў, што ўсе местачкоўцы, пра якіх ён напісаў, бяз розьніцы нацыянальнасьцяў і веравызнаньня будуць яму дарагімі да канца ягонага жыцьця, бо сярод іх прайшлі найпрыгажэйшыя, хоць часамі й нялёгкія гады.

Чытач мэмуараў разам з аўтарам зьдзяйсьняе захапляльнае падарожжа ў Лужкі міжваеннага пэрыяду, зь цікавасьцю аглядае Рынак і вуліцы мястэчка, шчыра радуецца сустрэчы з жывымі, па-майстэрску намаляванымі вобразамі жыхароў, зь неаслабнай увагай назірае за дэталёва апісанымі камічнымі й трагічнымі, а часам трагікамічнымі бакамі жыцьця мястэчка, ягонымі сьвятамі й буднямі. З кожнай старонкай твору Васіля Стомы перад намі паўстае сапраўдная Атлянтыда — чароўны сьвет мястэчка са сваёй непаўторнай атмасфэрай, непаўторным калярытам, назаўсёды страчаным ў віхуры гісторыі.

У апісаньні агульнага выгляду мястэчка, ягонай планіроўкі й забудовы, рынку й вуліцаў аўтар умела знаходзіць вельмі трапныя характарыстыкі, няўлоўныя для вонкавага позірку. Так, праўдзівай аздобай Рынку й вартай заўвагі дэтальлю для Васіля была агромністая лужына, якая амаль ніколі не высыхала і дзе зранку да вечара купаліся падсьвінкі, на якіх па-філязофску паглядалі козы. І тут адразу прыгадваецца карціна Егуды Пэна „Каза і сьвіньня (сымбалічны эцюд)“ як адна з формаў мастацкага адлюстраваньня характэрнага для колішніх мястэчак суседзтва габрэйскага й негабрэйскага сусьветаў.

Сярод вуліц тагачасных Лужак — *Гарманаўская, Дзісьненская, Касьцельная, Млынская, Маставая, Жынгялёва вулка, Тумалёнкава вулка* — зьвяртаюць на сябе ўвагу дзьве апошнія, якія атрымалі назвы ад прозьвішча (Жынгялі) і мянушкі (Тумалёнак) сваіх жыхароў, што было выключна местачковай зьявай, нехарактэрнай для гарадоў. Адміністрацыя безвынікова спрабавала перайменаваць *Жынгялёву* вул-

ку ў *Вейскую* (*Вясковую*), але гэты назоў ніяк не прыжыўся: жыхары мястэчка па-ранейшаму называлі яе *Жынгялёвай*. На вялікі жаль, сёньня пераважная большасьць былых мястэчак згубіла, апроч іншага, і старадаўнія назвы сваіх вуліц.

Кожнае мястэчка жыло сваімі традыцыямі, сваім укладам, сваімі байкамі, кепікамі, нязлоснымі анэкдотамі пра дзівакаватыя ўчынкі, а ў кожнага местачкоўца была дасьціпная мянушка, і яна пераходзіла з пакаленьня ў пакаленьне. Ствараючы галерэю вобразаў людзей, што жылі ў Лужках, Васіль Стома-Сініца абавязкова пісаў мянушкі. Паходжаньне амаль усіх мянушак ён імкнуўся растлумачыць. Напрыклад, жыхар мястэчка Бэрка (мясцовы барон Мюнхгаўзэн) быў празваны *Беламордым* з прычыны сваёй белай як сьнег барады, якая насуперак усім габрэйскім правілам была заўсёды старанна расчасаная й падстрыжаная *a la* Мікалай ІІ. Мянушкі былі й больш складанымі — у некалькі словаў — як, напрыклад, наступныя: Воўка Баравік (пажарнік) пад клічкай *Друя-гарыць-зарыва-на-Маргі,* Антось *Неяк-жа-будзе,* Віленскі Мяцеліца *Тры-пуды-з-чвэрцю-галава*.

Незабыўныя ўражаньні пакідаюць апісаныя Васілём Стомам надзвычай цікавыя й каларытныя постаці местачкоўцаў — доктар Усевалад Шыран, дзед Ярох, Ігнат па мянушчы *Буры*, Бляхарыха, цётка Юлька, Янкель Каплан і іншыя — кожны са сваім характарам і лёсам, адмысловай рольлю ў жыцьці мястэчка. Ёсьць сярод прадстаўленых на старонках мэмуараў Васіля Стомы й асобы, знакавыя для Беларусі. Гэта ведамыя беларускія грамадзкія й рэлігійныя дзеячы: айцец Язэп Гармановіч (Германовіч) — літаратар (псэўданім Вінцук Адважны), а таксама айцец Янка (Іван) Кушнер, удзельнік абвяшчэньня Аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы ў 1942 г. Згадваюцца ва ўспамінах жонка й сыны славутага генэрала Станіслава Булак-Балаховіча.

На старонках „Майго мястэчка“ прыводзяцца тэксты валачобных песьняў, што выконвалі грамады валачобнікаў у мястэчку; байкі, якія распавядала Васілю ягоная бабка Крыстына (па словах аўтара — *„скарбніца народнага фальклору“*).

Акрамя ўсяго іншага цікавая таксама й мова ўспамінаў Васіля Стомы. У прадмове да іх першага ў Беларусі выданьня на старонках часопісу „Полымя“ Лявон Юрэвіч і Зьміцер Саўка падкрэсьлілі, што яны не асьмеліліся рэдагаваць, правіць, габляваць мову аўтара, *„каб не парушыць, не разбурыць яе непаўторнага рэльефу, тонкай, натуральнай фактуры. Польскае слова, расейскае, габрэйскае… нібы ніткачкі, што лёгка ўплятаюцца ў яркую незабыўную тканіну, з якое сшыта моў-*

*ная адзежына твора, — помнік шматмоўнай мястэчковай Беларусі“*[1].

Як і для іншых мястэчак Беларусі, для Лужак была характэрная поліэтнічнасьць і поліканфэсійнасьць насельніцтва. Паводле зьвестак на 1921 г. тут налічвалася 212 будынкаў, 1362 жыхары (634 мужчын, 728 жанчын); у канфэсійным пляне: рыма-каталікаў — 562 чал., праваслаўных — 345, юдэяў — 442, іншых канфэсіяў — 13; нацыянальны склад: палякі (672), беларусы (347), яўрэі (326), іншых (17)[2]. Ва ўспамінах Васіля Стомы сярод лужкаўцаў узгадваюцца *маскалі-стараверы,* а таксама дзьве сям'і *татараў-магаметанаў*.

Як жа складваліся міжэтнічныя й міжканфэсійныя ўзаемадачыненьні ў мястэчку? Паводле сьведчаньняў Стомы, было шмат фактаў сапраўднага сяброўства паміж габрэямі й беларусамі, як, напрыклад, паміж самім аўтарам і габрэйскім хлопчыкам Абай Казьлінерам. Васіль Стома-Сініца ўспамінае, як ён і Аба часта хадзілі адзін да аднаго ў госьці. Пры гэтым Аба ніколі не адмаўляўся ад *„трэфных“* (непрыдатных да ўжываньня юдэямі згодна з галахічнымі правіламі) страваў, і асабліва любіў вэнджаную кілбасу й дранікі з салам. А Васіль у сваю чаргу каштаваў габрэйскія стравы.

Сяброўства паміж вучнямі рознай нацыянальнасьці (беларусамі, габрэямі, палякамі) яскрава выявілася й тады, калі дырэктар школы, што, як адзначае аўтар, у сваёй нянавісьці да ўсяго беларускага ня ведаў меры, спрабаваў высьветліць, хто ў раскладзе лекцыяў ягонае імя *Ўладыслаў* замяніў на *Ўладзюк,* і дзеля гэтага загадваў настаўніку фізычнага выхаваньня ганяць усіх хлапцоў па школьным пляцы, а дзяўчатаў ставіў на калені тварам да сьцяны. Пры гэтым дырэктар выдатна ведаў, што гэта зрабілі беларусы, аднак караў таксама палякаў і габрэяў, якія ў імя сяброўства цярпліва гэта пераносілі.

Здараліся ў мястэчку часам любоўныя раманы й нават шлюбы паміж габрэямі й негабрэямі (як, напрыклад, паміж заможным шляхцічам Людвігам Скальскім і беднай габрэйскай дзяўчынай Малтай, дачкой мясцовага капэльмайстра Бэйнуса).

На старонках успамінаў Васіля Стомы знайшлі адлюстраваньне і ўнікальныя аспэкты міжканфэсійных адносінаў у мястэчках. Так, аўтар згадвае, што праваслаўныя практыкавалі маленьне па кантычках —

---

[1] Стома-Сініца, В. Маё мястэчка // Полымя. №9. 1998. С. 181.

[2] Skorowidz miejscowosci Rzeczypospolitej Polskiej. Województwo Nowogródskie: nakladem głownego urzędu statystyczhego. T. 7. Cz. 1. Warszawa, 1923. S. 56.

каталіцкіх малітоўніках. Праваслаўны дзед Ярох увогуле не рабіў розьніцы паміж праваслаўнымі й каталіцкімі малітвамі. Каталічка цётка Юлька (так называла яе ўсё мястэчка) шанавала й праваслаўныя сьвяты. Усімі паважаны ў мястэчку быў ксёндз айцец Язэп Германовіч. Да яго зьвярталіся па дапамогу ня толькі каталікі, але й праваслаўныя, і нават габрэі.

Карціна ўзаемадачыненьняў паміж рознымі этнаканфэсійнымі групамі насельніцтва ў мястэчку была б няпоўнай і аднабаковай, калі б Васіль Стома не згадаў пра наяўнасьць пэўных забабонаў і стэрэатыпаў, адчужанасьць і падазронасьць ды нават варожасьць, без чаго не абыходзіліся штодзённыя кантакты паміж прадстаўнікамі розных этнасаў. Так, трывалымі аказаліся страхі й забабоны, зьвязаныя з так званым *„крывавым нагаворам“*. Стома піша пра тое, што ў дзяцінстве ён адважваўся выходзіць да рынкавай плошчы, нягледзячы на страшаньні бабулі, нібыта там яго габрэі схопяць „на мацу“. Згадвае аўтар і пра свой страх перад габрэйскімі могілкамі, адзначаючы, што ён ня быў у гэтым пачуцьці адзінокім, і тлумачачы гэта тым, што ў разуменьні многіх жыхароў Лужак там былі пахаваныя людзі адменнага ад іх гатунку — *нехрысьці*.

Адносіны з палякамі ўскладняліся палітыкай нацыянальнай асыміляцыі беларусаў, якую пасьлядоўна праводзілі ўлады. *„Шалёны наступ на ўсё беларускае“* Васіль Стома назіраў найперш у школе.

Акрамя дырэктара школы „беларусажэрамі“ выступаюць таксама ксёндз Станіслаў Астаневіч, камэндант паліцыі Лукоўскі ды іншыя. Непрыязныя адносіны іх да беларушчыны й да ўсіх тых, хто яе ўвасабляў, выяўляліся ў прыцягненьні да судовага разьбіральніцтва доктара Ўсевалада Шырана, звальненьні са школы настаўніка Кэйзіка, а таксама ў тым, што *„мясцовыя ўрадаўцы, панкі і падпанкі і іх падпявалы“* выходзілі з касьцёлу, калі а. Язэп пачынаў беларускае казаньне.

Пра міжнацыянальныя ўзаемадачыненьні ў мястэчку сьведчыць і наступны фрагмэнт з успамінаў Васіля Стомы. Апісваючы свайго прыяцеля Мотку Цэпелевіча, аўтар адзначае, што ён, ня ў прыклад сваім адзінаверцам, ня быў русафілам, але наадварот ягоныя сымпатыі былі на баку беларусаў, якімі *маскалі* таксама пагарджалі.

Такім поліфанічным выглядае сьвет мястэчка Лужкі міжваеннага часу ў люстэрку ўспамінаў Васіля Стомы. Як бачым, міжэтнічныя ўзаемадачыненьні ў мястэчках не былі адназначнымі. Мелі месца праявы ўсіх тыпаў гэтых стасункаў: сяброўскіх, нэўтральных, няроўных, непрыязных.

Што падзяляла й што аб’ядноўвала прадстаўнікоў розных этнасаў у мястэчках? Падзяляла, перш за ўсё, рэлігія. У нязначнай ступені, мела месца эканамічная канкурэнцыя. Пэўны нэгатыўны адбітак накладваў дзяржаўны антысэмітызм міжваеннай Польшчы. Адмоўна паўплывала на ўзаемаадносіны беларусаў і палякаў палітыка польскіх уладаў, скіраваная на асыміляцыю беларускага насельніцтва. Аб’ядноўвала, галоўным чынам, суседзтва, вынікам якога зьяўляліся сталыя й шматлікія кантакты ў штодзённым жыцьці.

Заканамерным наступствам супольнага жыцьця ў мястэчках прадстаўнікоў розных этнасаў стала ўзаемапранікненьне іх культураў і найперш моваў. Словы, як тыя птушкі, пералятталі з-пад аднае страхі пад другую. Габрэі й беларусы ня толькі навучыліся разумець адно аднаго. Вопыт зносінаў прывёў да ўтварэньня новага слоўнікавага запасу, зваротаў і выразаў, прыказак і прымавак, якія адлюстроўвалі ўвесь спэктар іх узаемадачыненьняў. Нормы й фанэтыка беларускай мовы былі выкарыстаныя Мэндэле Мойхэр-Сфорымам[3] зь мястэчка Капыль і Эліэзэрам Бэн-Егудам[4] зь мястэчка Лужкі для адраджэньня іўрыту, каб надаць ягонай кніжнай вэрсіі размоўны характар і ўдыхнуць у яго новае жыцьцё.

Пасьля Другой сусьветнай вайны былыя мястэчкі ператварыліся ў звычайныя паселішчы зь незвычайным гістарычным мінулым.

Успаміны Васіля Стомы-Сініцы „Маё мястэчка“ — адзін з найлепшых твораў мэмуарнай літаратуры Беларусі — дазваляюць, як на машыне часу, перанесьціся ў заходнебеларускае мястэчка, каб адчуць ягоную непаўторную атмасфэру, унікальны, стагодзьдзямі складзены побыт, шчырыя адносіны сумленьня й даверу, яскравы калярыт мудрых і прыгожых традыцыяў.

---

3 **Мэндэле Мойхер-Сфорым** (1835—1917), ураджэнец Капыля (Слуцкі пав. Менскай губ.), выбітны габрэйскі пісьменьнік, клясік літаратуры на ідыш і на іўрыце.

4 **Эліэзэр Бэн-Егуда (сапр. імя — Лейзэр Пэрэльман)** (1858 —1922), ураджэнец Лужак, адзін зь піянэраў адраджэньня іўрыту, аўтар першага слоўніку гэтай мовы.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# КНІГА ЯК НАГОДА

*Сяднёў, Масей. Выбраныя творы / укладанне Лідзіі Савік і Кастуся Цвіркі; прадмова і каментар Лідзіі Савік. Мінск, 2014. — 603 с., [4] л. іл. . — Наклад 1000 ас.*

У „Беларускім кнігазборы“ пасьля зборнікаў Натальлі Арсеньневай, Рыгора Крушыны й Вінцука Адважнага выйшаў том яшчэ аднаго эмігранта — Масея Сяднёва. Ягоны пісьменьніцкі лёс пры ўсіх жыцьцёвых варунках можна назваць шчасьлівым: у Нямеччыне й ЗША выйшла нямала кнігаў паэзіі й прозы, ён пасьпеў дачакацца зьменаў на бацькаўшчыне, патрымаць у руках выдрукаваныя там два аўтарскія зборнікі й перадаць свой архіў у БДАМЛМ.

Укладаньне кнігі, калі тое ня поўны збор твораў, справа творчая, і тут наўрад ці можна закідаць штосьці пра ўлучэньне ці неўлучэньне, асабліва пры такім памеры спадчыны, пакінутай Масеем Сяднёвым. Можна хіба задаваць пытаньні.

Напрыклад, ці варта было зьмяшчаць раман „Патушаныя зоры“, бо ён быў перадрукаваны ў Менску ў 1992 годзе (а не ў 1991, як пазначана ў „Камэнтарах“, да якіх яшчэ вернемся)? Мо лепей было б цалкам выдрукаваць „Раман Карзюк“, які і ў „Полымі“ ў 1995 г., і тут чытачу прапаноўваецца адно ў скароце?

Напэўна, хацелася б пабачыць болей вершаў і паэмаў: усё ж аўтар у першую чаргу менавіта паэт. Нечаканай таксама сталася адсутнасьць разьдзелу „Пераклады“ — важнай для Масея Сяднёва дзялянкі.

У разьдзеле „Успаміны, эсэ“ найперш прыцягваюць увагу нарысы пра пісьменьнікаў, якіх Масей Сяднёў ведаў у даваенныя часы. Цікава, што ў гутарцы з Барысам Сачанкам (якая сама па сабе вартая таго, каб быць таксама ў гэтым томе) кажа: *„А артыкулы зьявіліся толькі дзякуючы Ільляшэвічу. Ён у мяне іх проста выціскаў. Я не любіў іх пісаць,*

*бо гэта не маё. Сёньня я лічу тыя артыкулы інфантыльнымі. Але Ільляшэвіч пасля нават аб'яднаў гэтыя артыкульчыкі пад назвай „Ахвяры бальшавізму*“[1]. Праўда, нягледзячы на такую самаацэнку, Сяднёў улучыў тыя артыкулы ў менскі зборнік „Масеева кніга“ (1994). Іншая рэч, што ставіцца да тэкстаў як успамінаў, гістарычных крыніцаў трэба зь немалой засьцярогаю[2].

Ад разьдзелу „Успаміны, эсэ“, як ад ніякага іншага, чакалася большага, бо выхад падобнага кшталту тому — надзвычайная нагода для публікацыі малаведамых ці наогул недрукаваных рэчаў. Укладальнікі ж, на жаль, вырашылі пайсьці самым простым шляхам, дазволіўшы сабе не перагарнуць нават падшыўкі газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“, дзе зьмешчана нямала артыкулаў пісьменьніка, важных як для разуменьня літаратурнай сытуацыі на эміграцыі, гэтак і асобы самога аўтара.

Надта дзіўным выглядае й эпісталярны разьдзел. Там зьмешчана толькі 14 лістоў пісьменьніка — два з паваеннага часу да будучай жонкі й дваннаццаць — з часоў найноўшых, 1989—2000. І гэта пры тым, што дзякуючы публікацыі ў „Запісах БІНіМ“, ведама, што ў БДАМЛМ захоўваецца цікавы эпісталярны архіў Масея Сяднёва[3].

Прадмова да тому Лідзіі Савік — гэта, фактычна, скарочаны перадрук адпаведнага разьдзелу зь яе кнігі „Пакліканыя“[4]. Тут, зноў-жа, аўтарская воля: карыстаць стары тэкст ці пісаць новы, справа густу й стылю. Але асобныя месцы ў тэксьце, факталягічныя, насьцярожваюць.

Гэтак, аўтарка кажа: *„Вершы амаль не пісаліся, і толькі адзін невялікі зборнік быў выдадзены паэтам за гэтае першае дзесяцігоддзе — „Ля ціхай брамы“ (1955)“*[5]. Дзесяцігодзьдзе, трэба разумець, гэта 1945–1955? А як быць з зборнікамі і паэмамі (некаторыя зь іх варта было перадрукаваць таксама) „На край сьвятла: паэма“, „Спадзяваньні: вершы“, „Цень Янкі Купалы: паэма“, „У акіяне ночы“ — усе 1947 году?!

Ці такое: *„[…] выбраныя пераклады твораў украінскіх паэтаў на беларускую мову (Эдмантан, 1989)“*[6]. Больш красамоўна сьцьвердзіць,

[1] На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі. Мінск, 1994. С. 236.

[2] Пра вольныя інтэпрэтацыі падзей Масеем Сяднёвым гл.: Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск, 2012. С. 354—379.

[3] Чарнякевіч, Ціхан. Эпісталярны архіў Масея Сяднёва // Запісы БІНіМ. № 35. Нью-Ёрк — Менск, 2012. С. 258—265.

[4] Савік, Лідзія. Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мінск, 2001. С. 415—473.

[5] Сяднёў, Масей. Выбраныя творы. Мінск, 2014. С. 12.

[6] Сяднёў, Масей. Выбраныя творы… С. 13—14.

што аўтарка ня ведае, пра што піша, і кнігу ў вочы ня бачыла, напэўна, нельга. Бо ў 1989 г. у Эдмантане было выдадзена выбранае толькі *аднаго* ўкраінскага паэты — Яра Славутыча!

Хацелася б быць пачутым: гэта ня дробязі. Калі сэрыя, што прэтэндуе быць залатым фондам нашае літаратуры, выдае кнігу, не заснаваную на архіўных пошуках, на расчытваньні й публікацыі пісьменьніцкай спадчыны, а выключна на зборы-выбарцы ды перадруку гатовых матэрыялаў, яна неадменна мусіць суправадзіць гэта камэнтарамі — дакладнымі, прафэсійнымі, вычарпальнымі. У „Выбраных творах“ Масея Сяднёва разьдзел „Камэнтары“ ёсьць, але камэнтароў як такіх — няма.

Калі адкінуць спасылкі кшталту *„друкуецца паводле...“* ды — напэўна, зь нейкай тэхнічнай памылкі — камэнтар *„друкуецца паводле выд.: Vixi: тры апошнія аповесці“* (як ведама, тое кніга Алеся Адамовіча), у згаданым разьдзеле „камэнтуюцца“ наступныя імёны: Вольгі Пазьняк, Барыса Кіта, Леаніда Пранчака, Васіля Хомчанкі, Аляксандра Баркоўскага, Янкі Брыля, Галіны Тычкі, Анатоля Кудраўца, Лідзіі Савік. І ўсё!

Ах, не, прабачце, яшчэ расшыфроўваецца крыптанім „М. С.“ — аказваецца, гэта не Мікола Сільвановіч, не Мацей Смаршчок і не Міхась Саўка, а Масей Сяднёў. Вось цяпер сапраўды ўсё.

І гэта ў кнізе, дзе толькі ў перадрукаваных „Ахвярах бальшавізму“ й „Беластоцкім сшытку“ — дзясяткі імёнаў, назоваў твораў, згадак падзеяў... Падобны „камэнтар“ — ня проста халтура, а абкраданьне чытача, якому дадзены тэкст без кантэксту. Прывяду прыклад.

У лісьце да Лідзіі Савік Масей Сяднёў піша: *„Шанцуе мне на Свіркаў і Цвіркаў. Адзін, таксама Цвірка, у Мюнхене рэзаўся са мною, дапякаў. Але гэта між іншым. Я не наракаю. Не маю права“*[7].

А маецца на ўвазе Ўладзімер Цьвірка (1928—1992), адзін з знакамітай „Дванаццаткі’, быў супрацоўнікам радыё „Вызваленьне“, куды пазьней уладкаваўся працаваць і Масей Сяднёў.

Дзейнасьць Сяднёва на радыё падчас узначальваньня ім беларускай сэкцыі — тэма маласмачная, асабліва на фоне словаў пра *„песні любові і адданасці Бацькаўшчыне, народу, Усявышняму“*[8]. Але паколькі зь песьні словаў ня выкінеш, то й яна патрабуе агучваньня. Тут жа, у межах кароткага водгуку на кнігу, дазволю сабе толькі зацытаваць урыўкі зь лістоў іншага супрацоўніка радыё Юркі Сянькоўскага да Янкі Запрудніка:

---

[7] Сяднёў, Масей. Выбраныя творы... С. 592.

[8] Сяднёў, Масей. Выбраныя творы... С. 26.

*„18.II.1969.*

*„Пра „палітычную лінію“ Сяднёва можаш меркаваць з ягоных скрыптаў да 50-годзьдзя БССР. Кругалевіч напісаў добры артыкул у „Полымі“ пра стварэньне БССР. Добры для чытача ў БССР. Але перадаваць яго як найбольшае дасягненьне беларускай навукі ў гэтай галіне праз нашае радыё — гэта скандал. Там усе беларускія некамуністычныя сілы Сяднёў паставіў у адзін шэраг з „ворагамі беларускага народу“ — кайзэраўскай „Германіяй“, польскімі легіянерамі і так далей. А Сяднёва ўласны юбілейны твор — пра „сацыялістычную дзяржаўнасьць“! Ня ведаючы, што сказаць на гэтую тэму — ён „вывязаўся“ з заданьнем падхалімствам перад „старэйшым братам“, чаго ўнікаюць ужо нават у БССР“*[9] .

*„[недатаваны]*

*Нашы магчымасьці абмежаваныя. Калі ходзіць пра пытаньні мовы, дык тут пануе абсалютная дыктатура напоўграматнага русыфікатара Сяднёва. Мала таго, што дыктатура — дык і тэрор. Казаку*[10] *ён ужо даваў „апошняе папярэджаньне“, што калі той будзе далей пярэчыць ягонаму моўнаму русыфікатарству і вытыкаць няпісьменнасьць Сяднёва, дык Сяднёў яго звольніць. Я Сяднёву заявіў, што я супраць ягонага русыфікатарства і што супраць гэтага русыфікатарства буду змагацца далей. Але пакуль яму прызначаныя дыктатарскія правы — нічога нельга зрабіць [...]*

*Сяднёў апошнім часам стаў проста на шлях нацыянальнай дывэрсіі: у сувязі з моўнай праблемай пачаў адкрыта прапагаваць падзел беларусаў на ўсходнікаў і заходнікаў, да таго-ж у прысутнасьці ўкраінцаў цьвердзіць, што „заходнікі“ хочуць палянізаваць мову, а ён, „усходнік“, як быццам абараняе яе чысьціню. Да таго-ж ён уважае (так ён казаў Казаку), што беларусы павінны арыентавацца на Расею і расейскую культуру“*[11] .

*„5.XII.70.*

*[...] Удушлівая атмасфэра, якая пануе тут у нас, ня спрыяе нават перапісцы. Затое прайдзісьветы, якіх у нас хапае, становяцца*

[9] Ліст захоўваецца ў асабістым архіве Я. Запрудніка.

[10] Маецца на ўвазе Рыгор Крушына

[11] Ліст захоўваецца ў асабістым архіве Я. Запрудніка.

*ўсё больш нахабнымі. Гэтым разам спынюся на адным зь іх — Сяднёву. Што-б Вы там у Нью Ёрку пра яго ня думалі, якія-б вы ні мелі пляны адносна яго, але ён, браткі, не на сваім месцы. Ідэйна гэты чалавек нам ня толькі чужы, але й варожы. У гэтым я, Казак і Бортнік*[12] *(нават) пераконваемся кожны дзень нанова. Беларусы для яго ня нацыя, у кожным выпадку нейкая няпоўнавартасная, да нічога няздольная, якая складаецца з людзей прапольскай і прарасейскай арыентацыі. У лягеры прарасейскім, паводля яго, стаіць ён і ўвесь народ, а ў прапольскім – мы і ўсё, што думае нацыянальнымі катэгорыямі. Вось некалькі ягоных апошніх выказваньняў: закрануць (у нэгатыўным сэньсе) расейца гэта значыць абразіць беларуса; Купала як прадстаўнік нацыянальнага лягеру быў прапольскі, гаварыў дома з сваёй жонкай па-польску, гэта ён, Сяднёў, чуў сам, калі яго Купала запрашаў да сябе“*[13].

Цытаты (і факты) можна доўжыць і доўжыць. Зразумела, яны не адмаўляюць творчасьці Масея Сяднёва як беларускага пісьменьніка, але змушаюць да сур’ёзнага, а не па-шкалярску патэтычнага разгляду яе.

Бо да гэтага вымушае кантэкст.

[12] Маецца на ўвазе Ўладзімер Бортнік

[13] Ліст захоўваецца ў асабістым архіве Я. Запрудніка.

***Натальля Гардзіенка***
***Яна Славіна***

# КНІЖНЫ АГЛЯД

*Мурзёнак, Пётра. Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам. Вершы, інтэрв'ю, артыкулы. Аттава, 2012. — 314 с.*




У Канадзе цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў сфармавалася адметная беларуская грамада з прадстаўнікоў постсавецкай, ці „незалежніцкай“, эміграцыі. Сярод яе ўдзельнікаў багата людзей з добрай адукацыяй і актыўнай грамадзянскай пазыцыяй, што складаюць сёньня аснову жыцьця беларускай дыяспары. Адным зь іх ёсьць Пётра Мурзёнак (нар. 1951), колішні старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады, заснавальнік і выдавец інтэрнэт-часопісу „Культура, нацыя“, аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў („Быліна мая, Беларусь“ (Атава, 2000), „Крыніца“ (Менск, 2011)). У 2012 г. у Атаве пабачыла сьвет чарговая ягоная кніга, якую гэтым разам склалі ня толькі паэтычныя творы, але й інтэрвію ды артыкулы на розныя тэмы.

У паэтычную частку зборніка „Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам“ увайшлі цыклі вершаў „Будзьма разам“ ды „Сьпелая восень“, паэмы, сярод якіх прысьвечаны Ўладзімеру Някляеву й падзеям сьнежня 2010 г. твор пад назвай „Дзевятнаццаць“, а таксама вялікая нізка „Вершаванак“.

Другая частка кнігі складаецца з інтэрвію, што Пётра Мурзёнак даваў з розных нагодаў: газэце „Русский экспресс“ пра Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта ў 2004 г., радыё „Свабода“ пра беларускую школку ў Атаве ў 2006 г. (у інтэрвію ўдзельнічалі й бацькі Пётра Мурзёнка — прафэсійныя настаўнікі), а таксама біяграфічнае інтэрвію, апублікаванае ў газэце „Новы час“ ў 2011 г. Усе зьмешчаныя тут тэксты цікавыя ня толькі падаванай у іх інфармацыяй пра падзеі беларускага жыцьця ў Канадзе, але й адлюстраваньнем уласнага бачаньня дзеячам сябе, беларускай эміграцыі, падзеяў у мэтраполіі ды інш.

У апошнюю частку кнігі сабраныя артыкулы й „запісы“, як пісаныя яшчэ ў Беларусі ў 1990-х і публікаваныя ў „Зьвязьдзе“, гэтак і створаныя ўжо на эміграцыі, што зьяўляліся на старонках газэтаў „Беларус“ ды „Беларускае слова“. Усе прадстаўленыя тут тэксты можна падзяліць на дзьве групы: першую складаюць прысьвечаныя праблемам беларускай культуры, мовы ды нацыянальнай ідэнтычнасьці, а другую — значна большую — паведамленьні пра падзеі беларускага жыцьця ў Канадзе ў XXI ст. Найбольш месца займаюць нізкі зацемак „З дзёньніка жыцьця беларусаў Аттавы“ за розныя гады, а таксама артыкулы пра Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, сьвяткаваньні 25 Сакавіка ды іншыя падзеі й асобаў беларускай дыяспары. Гэтую частку кнігі, багата аздобленую фатаздымкамі, можна лічыць своеасаблівай хронікай жыцьця беларусаў Атавы, у якім Пётра Мурзёнак адыгрывае ці не найгалоўнейшую ролю. Прычым гэтая роля, як выглядае, ня толькі ініцыятара ці арганізатара саміх мерапрыемстваў, але й, традыцыйна для дыяспары, іх летапісца.

Зборнік Пётры Мурзёнка „Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам“ зьяўляецца чарговым сьведчаньнем творчай і грамадзкай актыўнасьці канадыйскіх беларусаў, а таксама выдатнай крыніцай для дасьледнікаў гісторыі й сучаснасьці беларускага замежжа.

*Н.Г.*

*Белорусы Москвы. XVII век / сост. О.Д. Баженова, Т.В. Белова. Минск: Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2013. — 472 с.: іл.— (Энциклопедия раритетов). — Наклад 3000 ас.*

У 2013 г. у менскім выдавецтве „Беларуская энцыкляпедыя“ ў сэрыі „Энцыкляпэдыя рарытэтаў“ пабачыў сьвет унікальны альбом, які зьвярнуў на сябе ўвагу якасьцю ня толькі паліграфіі, але й зьместу. Дый тэма, якую, бадай, у Беларусі не асабліва закраналі ад часоў працы




яшчэ Лаўрэнція Абэцэдарскага[1], — беларусы ў Маскве — у рэчышчы сучасных беларуска-расейскіх дачыненьняў выглядае надзвычай актуальнай. Аднак вартасьць альбому вызначаецца не ягонай уяўнай ідэалягічнай адпаведнасьцю сёньняшняй геапалітычнай сытуацыі — маўляў, пісаць пра беларусаў у Расеі цяпер больш выгадна, чым пра беларусаў у ЗША. Сапраўдная каштоўнасьць — зьмест выданьня, зроблены спэцыялістамі.

Першая частка альбому — мастацка-выяўленчая — утрымлівае выявы аздабленьня храмаў Масквы й яе ваколіцаў, зробленага беларускімі майстрамі XVII ст. Тут можна ўбачыць і саборы Крамля, і Навадзевічы манастыр, куды перабраліся манашкі з аршанскага Куцеінскага манастыра, і царскі палац у Каломенскім, і Новаерусалімскі манастыр. Колькасьць помнікаў вылічваецца дзясяткамі. Цытаты-камэнтары да выяваў дапамагаюць зразумець, што менавіта ў тым ці іншым будынку рабілі беларускія майстры.

Другая частка выданьня — дасьледная — складаецца з аўтарскіх тэкстаў, што рэпрэзэнтуюць вынікі вывучэньня беларускай прысутнасьці ў маскоўскай культуры XVII ст. Тэкст О. Бажэнавай „Першае эўрапейскае вызнаньне беларускай культуры эпохі барока“ пачынаецца з адзначэньня важнасьці асобы Сімяона Полацкага для расейскай культуры. Далей ідзе аповед пра тое, што ўяўляла сабой беларускае мастацтва XVII ст., агляд уплыву заходнеэўрапейскіх майстроў, перавагаў цэхавай структуры ды інш. Аўтарка адзначае, што праз войны й нядбайствы стагодзьдзяў беларускае мастацтва таго пэрыяду, у першую чаргу, дэкаратыўна-прыкладное, лепш захавалася якраз не ў Беларусі, а ў Маскве, куды былі вывезеныя, ці самі выехалі ў часе вайны 1654—1667 гг. рамесьнікі з Магілёўшчыны, Віцебшчыны, Меншчыны, Віленшчыны. У тэксьце сьцьвярджаецца: *„Белорусские мастера были преж-*

[1] Абецедарский, Л. Белорусы в Москве XVII в. Из истории русско-белорусских связей. Минск: БГУ, 1957. — 62 с.

*де всего ремесленниками, хорошо знавшими свое дело и материалы, которыми до них не пользовались в России, а не художниками, творчество которых ломает старые устои искусства. Обстоятельства сделали их новаторами и „утвердителями“ новых стилистических форм в русской культуре. Иными словами, белорусские мастера в России оказались репрезентантами возможностей европейской культуры, новых форм и стилей, нового понимания пространства, декора, нового настроения и нового ощущения времени в искусстве“*[2]. Такім чынам беларускія майстры выконвалі своеасаблівую цывілізацыйную ролю ў расейскім мастацтве, прыносячы туды заходнеэўрапейскія ўплывы.

Другі тэкст выданьня распавядае пра беларускія слабоды Масквы. Аўтар Г. Прыбытка згадвае пра адмысловыя селішчы выхадцаў зь Вялікага Княства Літоўскага, што сталі зьяўляцца ў Маскве ад пачатку XVI ст. У тэксьце сьцьвярджаецца: *„Среди белорусов, решившихся покинуть свою родину и искать счастье на востоке, были мастера, стремящиеся получить больший доход от своего ремесла, были православные священники, которые шли к своим единоверцам со словом Божьим, были беженцы, которых судьба вынудила покинуть родину, переселялись в Московию и воины дружин князей, перешедших к московскому государю…“*[3]

Пры гэтым выхадцы з ВКЛ у Маскве ўспрымаліся як „іншаземцы“ (іншыя паводле веры ці дзяржаўнай прыналежнасьці), тыя слабоды, дзе яны сяліліся, як і іншыя іншаземныя селішчы, мелі на мэце мінімізацыю кантактаў зь мясцовым насельніцтвам, што ставілася да чужакоў даволі насьцярожана. Пры гэтым іншаземныя слабоды мелі пэўныя прывілеі.

Першая беларуская слабада ў Маскве ў XVI ст. мела назву Наліўкі, складалася з ваяроў, што былі ў ахове Васіля III, але праіснавала адносна нядоўга. У XVII ст. зьявілася Старапанская, або Іназемская слабада, былі таксама Літоўскі пасольскі двор, Літоўскі купецкі двор. Найвялікшае маскоўскае селішча беларусаў — Мяшчанская слабада (наогул найвялікшая з слабодаў). Яна стала вынікам таго, што з ВКЛ у часе вайны

[2] Баженова, О. Первое европейское признание белорусской культуры эпохи барокко // Белорусы Москвы. XVII век. Минск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2013. С. 159.

[3] Прибытко, Г. Белорусские слободы Москвы // Белорусы Москвы. XVII век… С. 200.

1654—1667 гг. адмыслова вывозіліся насельнікі, каб засяліць вынішчаную чумою Маскву. У выніку, усіх вывезеных зь беларускіх земляў рамесьнікаў і іншых пасялілі ў адмыслова створанай Мяшчанскай слабадзе (мяшчанамі тады называлі толькі гараджанаў Рэчы Паспалітай). Большасьць насельніцтва гэтай слабады паходзіла з Шклоўшчыны, Смаленшчыны, Дубровеншчыны й іншых усходніх рэгіёнаў ВКЛ. Жыхары слабады зрабілі вялікі ўплыў ня толькі на матэрыяльную культуру Масквы, але й на духоўную. Ад іх пачалося стварэньне расейскага тэатру (бо раней маскоўская праваслаўная царква змагалася з усімі праявамі *„бесовского действа“*). Жыхары Мяшчанскай слабады былі больш пісьменнымі й жылі больш заможна, чым карэнныя масквічы. Аднак да сярэдзіны XVIII ст. жыхары гэтага селішча былі цалкам асіміляваныя.

Наступны тэкст ў выданьні належыць М. Чысьцяковай і распавядае пра беларускіх манашак у Маскве. Так, у часе вайны 1654—1667 гг. шмат якія манахі праваслаўных манастыроў перасяляліся ў Масковію. Сярод іх былі манашкі Ўсьпенскага Куцеінскага манастыру, што апынуліся ў Навадзевічым манастыры. У 1656 г. тут зьявілася першая ігуменьня-беларуска — Меланьня. Цягам наступных амаль 50 гадоў манастыром кіравалі ігуменьні з Куцейна. Такім чынам, у маскоўскім манастыры быў своеасаблівы беларускі пэрыяд у гісторыі. Беларусамі тут былі й духоўнікі, і большая частка насельнікаў манастыра. Дзякуючы выхадцам з Куцейна, манастырская бібліятэка значна ўзбагацілася рознымі каштоўнымі выданьнямі[4].

Разам з манашкамі Куцеінскага манастыра зьявіўся ў Маскве абраз Божай Маці Рудненскай і стаў даволі папулярным, пра што піша А. Ярашэвіч[5]. А зь беларускімі рамесьнікамі ў расейскім дэкаратыўна-прыкладным мастацтве заняла пачэснае месца „беларуская рэзь“. Ёй прысьвечаныя цэлыя тры тэксты мастацтвазнаўцы І. Бусевай-Давыдавай. Аўтарка апавядае пра зьяўленьне беларускіх разьбяроў у Маскве ў часы вайны Масковіі з Рэччу Паспалітай, тое майстэрства, якое яны прывезьлі, і як паўплывалі на разьвіцьцё расейскага мастацтва. Пры гэтым зроблены разбор канкрэтных помнікаў гэтага мастацтва (цэркваў Маскоўскага Крамля, іканастасаў у Навадзевічым і Данскім мана-

[4] Чистякова, М. Монахини с „Белой Роси“ // Белорусы Москвы. XVII век... С. 216—230.

[5] Ярошевич, А. Богоматерь Рудненская. Чудотворный образ защитницы народов // Белорусы Москвы. XVII век... С. 230—237.

стырах) і адметных беларускіх ягоных рысаў. Зьвяртаецца ўвага на адрозьненьні беларускага мастацтва ад нямецкага, польскага ці ўкраінскага. Аўтарка прыходзіць да высновы, што *„именно в „белорусской рези“, произросшей из белорусских корней на русской почве, искусство России последней четверти XVII в. не только встало на один уровень с европейским, но и выработало оригинальный и художественный вариант общеевропейского стиля“*[6] . І яшчэ: *„Кремлевские интерьеры заметно преобразились благодаря белорусским мастерам. Использование резьбы в храмах и хоромах царского семейства делало ее особенно престижной и способствовало повсеместному распространению новых форм на террирории России. Несомненно, впрочем, что внедрение „белорусской рези“ не в меньшей, если не в большей степени объяснялось ее исключительной красотой и художественным совершенством“*[7] .

Акрамя разьбяроў, адметны сьлед на маскоўскай архітэктуры пакінулі й майстры беларускай кафлі. С. Баранава ў сваіх тэкстах распавядае пра зьяўленьне ў Масковіі кафлі разам з майстрамі зь беларускіх земляў у часе вайны сярэдзіны XVII ст. Спэцыялісты прыбылі, напрыклад, разам з манахамі мужчынскага Куцеінскага манастыру. Сярод іх быў майстар Арсені, які потым узначаліў Прыказ разных і сталярных справаў[8] . Акрамя агульнай гісторыі зьяўленьня кафлі ў Маскве, дасьледніца распавядае пра палац у Каломенскім, што быў гэтаю кафляй аздоблены[9] .

Дасьледнік Л. Беляеў у сваім тэксьце распавёў пра вывучэньне Новаерусалімскага манастыра на Істры й уплыў беларускіх майстроў на яго аздабленьне[10] . С. Арленка, згадваючы пра каля 90 майстроў па вырабе зброі, што былі прывезеныя ў Маскву зь Вялікага Княства Літоўскага, адзначае: *„Белорусские специалисты-„навотчики“ по*

[6] Бусева-Давыдова И., Николаева М. „Белорусская резь“: „высочайшая степень совершенства“ // Белорусы Москвы. XVII век… С. 247.

[7] Бусева-Давыдова, И. „Белорусская резь“ в украшении церквей Московского Кремля // Белорусы Москвы. XVII век… С. 256.

[8] Баранова, С. „Поднос образцовых кафель“. Изразцы и изразцовых дел мастера-ценинники // Белорусы Москвы. XVII век… С. 266—291.

[9] Баранова, С. Дворец в Коломенском // Белорусы Москвы. XVII век… С. 292—307.

[10] Беляев, Л. Воскресенский Новоиерусалимский монастырь. „Венец устроительной и архитектурной идеи…“ // Белорусы Москвы. XVII век… С. 308—319.

*уровню мастерства вполне соответствовали высоким требованиям администрации Оружейной палаты. Приезжие специалисты обладали собственным выраженным прфессиональным почерком и сумели привнести в работу московской придворной мастерской существенный элемент стилистической новизны“*[11] . Б. Віткаўскенэ ў аповедзе пра разьвіцьцё ювелірнага мастацтва ў Вялікім Княстве Літоўскім і вываз майстроў у Маскву, зважае на спэцыфічныя ўмовы іх працы на новым месцы, значна меншую, чым на радзіме, свабоду творчасьці[12] .

Важным дадаткам да навуковых артыкулаў ёсьць складзеныя М. Нікалаевай матэрыялы да біяграфічнага даведніку разьбяроў, цесьляроў ды іншых майстроў Аружэйнай палаты Прыказу Вялікага палацу. Тут можна знайсьці зьвесткі пра 65 майстроў-беларусаў з дакладным цытаваньнем крыніцаў[13] .

Выданьне атрымалася вельмі інфармацыйна насычаным. Хоць аўтары ў тэкстаў розныя, але агульны навуковы ровень іх сапраўды значны. Аднак трэба заўважыць, што сярод згаданых аўтараў фактычна няма беларусаў. Відаць, вывучэньнем беларускай прысутнасьці ў Маскве ў XVII ст. сёньня займаюцца пераважна замежнікі.

*Н.Г.*

*Каўка, Аляксей. Мае беларусы: сустрэчы-ростані, допісы, прысвячэнні. Москва: Альтекс, 2013. — 352 с. — (Наклад 50 ас.)*

Адзін з найбольш ведамых маскоўскіх беларусаў Аляксей Каўка выдаў у 2013 г. зборнік „Мае беларусы“, куды ўвайшлі ўспаміны, інтэрвію, рэцэнзіі, вершы ды іншыя тэксты.

Прысьвечаная памяці маці Галіны Маркаўны Атрашэўскай, якой Аляксей Каўка ня памятае, кніга ўтрымлівае значную частку ўспамінаў пра дзяцінства й маладосьць, сваякоў ды калегаў. Кранальныя ўспаміны пра вайну й паваенны час паступова пераходзяць у артыкулы-прысьвячэньні знакавым для беларускай гісторыі й культуры асобам, зь якімі аўтар быў асабіста знаёмы. Тут можна знайсьці аповед пра наведваньне Зоські Верас і пераказ яе ўспамінаў, згадкі пра спатканьні

[11] Орленко, С. Белорусские мастера „наводного дела“ в Оружейной палате // Белорусы Москвы. XVII век... С. 329.

[12] Виткаускене, Б. Золотых и серебряных дел мастера // Белорусы Москвы. XVII век... С. 332—363.

[13] Николаева, М. Материалы к словарю резчиков, токарей и столяров Оружейной палаты и приказа Большого дворца // Белорусы Москвы. XVII век... С. 364—396.




з Канстанцыяй Буйло, Міколам Гайдуком, Юрыем Туронкам, Аляксандрай Бергман, Міколам Ермаловічам, Генадзем Каханоўскім, Віталём Скалабанам ды іншымі. У зборніку зьмешчаныя непублікаваныя раней згадкі пра Міколу Ўлашчыка, лісты Масея Сяднёва й багата іншых цікавых матэрыялаў, каштоўных зьвестак да біяграфіяў беларускіх дзеячаў розных краінаў, але найперш — для жыцьцяпісу самога Аляксей Каўкі.

Так, напрыклад, з тэксту, прысьвечанага Юрыю Туронку, даведваемся падрабязнасьці гісторыі зь перапраўкай на Захад і выданьнем там „Письма русскому другу", аўтарства якога доўгія гады не маглі высьветліць зацікаўленыя савецкія структуры. Апошнім не магло прыйсьці ў галаву, што „дэсідэнт" мае дыпляматычны пашпарт і працуе радцам амбасады СССР у Польшчы. А між тым напісаны Аляксеем Каўкам тэкст быў выдадзены на некалькіх мовах, і адзін асобнік нават падараваны Рымскаму папу Яну Паўлу II.

Ва ўспамінах, прысьвечаных Міколу Ўлашчыку, можна знайсьці сюжэт, зьвязаны з спробай уцёкаў апошняга з высылкі й успамінамі пра гэта Яўхіма Кіпеля ў згадках ягонага сына Вітаўта.

Аднак не аднымі біяграфічнымі ўспамінамі цікавы зборнік Аляксея Каўкі. „Мае беларусы", як адзначыў у прадмове Віктар Чайчыц, прысьвечаныя ўгодкам заснаваньня ў 1988 г. маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны. У гэтым кантэксьце зразумелае ўключэньне ў зьмест кнігі некаторых матэрыялаў канца 1980-х, зьвязаных з заснаваньнем самога таварыства.

Важным зьяўляецца й тэкст „Беларуская Масква", дзе зробленая спроба агляду асноўных момантаў гісторыі беларускай прысутнасьці ў расейскай сталіцы. Ад XIV ст. да сучаснасьці, ад колішняга князя Андрэя Альгердавіча, што ў 1377 г. уцёк у Маскву, да Міколы Ўлашчыка ды іншых беларускіх навукоўцаў, чый лёс быў зьвязаны ў другой палове XX ст. з сталіцай СССР. Згадваюцца й беларускія арганізацыі ў Маскве апошніх дзесяцігодзьдзяў, а таксама тыя сапраўдныя нацыянальныя

скарбы, што сёньня зьберагаюцца ў мясцовых бібліятэках і архівах. Здаецца, канцэпцыя асэнсаваньня беларускай гісторыі расейскай сталіцы вымалёўваецца ў тэксьце досыць яскрава й зможа нарэшце ператварыцца ў грунтоўную дасьледную працу, кшталту „Беларускага Пецярбургу“ Міколы Нікалаева. Гэткая праца, прысьвечаная Маскве, даўно мае быць выдадзеная.

Спэцыяльны разьдзел кнігі Аляксея Каўкі ўтрымлівае вершаваныя прысьвячэньні асобам ды месцам, знакавым для аўтара. Шмат што й хто з згаданага адлюстраваныя на зьмешчаных на ўклейцы фатаздымках — своеасаблівай фатахроніцы жыцьця й спатканьняў.

Кніга Аляксея Каўкі й сапраўды распавядае пра беларусаў, бачаных вачыма беларуса, які не шкадуе пра тое, як склаўся ягоны лёс, але, асэнсоўваючы перажытае, гаворыць: *„Ведаеце, мусіць трэба чалавеку апынуцца ў іншых абставінах, у чужым асяродку, каб усвядоміць сябе беларусам. Калі не чуеш мацярынскай гаворкі, роднае песні, міжволі сталець пачынаеш. І, хоць мройліва, — вяртацца на сваю, ад Бога, бацькоўскую сцежку. Цяпер памкнешся — як вярнуцца дадому? Толькі позна ўжо“.*

*Н. Г.*

*Крэпак, Барыс. Вяртанне імёнаў: Нарысы пра мастакоў. У 2 кн. Кн. 1. Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 413 с.; Кн. 2. Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 382 с. — (Наклад 1000 ас.).*

Цягам апошніх гадоў пабачыла сьвет двухтамовае выданьне „нарысаў пра мастакоў“ мастацтвазнаўцы Барыса Крэпака. „Вяртаньне






імёнаў“ працягвае тэндэнцыю ўключэньня ў беларускую культурную прастору аўтараў, чые творы з розных прычынаў (найчасьцей, праз эміграцыю) былі зь яе выключаныя.

У аснову кнігі пакладзеныя нарысы, друкаваныя на старонках газэты „Культура“ цягам апошняга дзесяцігодзьдзя. У прадмове „Прыйшоў час „збіраць камяні““ адлюстроўваная аўтарская канцэпцыя:

*„Літаральна пра кожнага персанажа гэтай кнігі і пра дзясяткі іншых асоб можна напісаць асобную кнігу. Пра некаторых мастакоў шыкоўныя альбомы і каталогі даўно існуюць, праўда, выдадзеныя, у асноўным, не на іх радзіме. Але час „раскідваць камяні“ — у мінулым, зараз прыйшоў час „збіраць камяні“ — вяртаць гэтыя імёны.*

*Прыйшла, у рэшце рэшт, пара не толькі цікавасці да іх, але і разуменне таго, што яны — наш патэнцыял. Такіх „спрэчных“ імёнаў у нас шмат. Ужо час ўсё ставіць на сваё месца. І зараз мы вяртаемся да спадчыны тых ураджэнцаў нашай шматнацыянальнай зямлі, да чыіх твораў у розных краінах свету заўсёдны піетэт і нястомная цікавасць. Трэба ўсвядоміць рэальную іх колькасць, гэта значыць — адкрыць для сябе з’яву вялікай цэласнай школы ў Беларусі, насуперак геаграфічнай разгалінаванасці, стракатасці, індывідуальнасці іхніх мастакоўскіх густаў і почыркаў“*[14] .

Той самы „наш патэнцыял“ Барыс Крэпак разумее даволі шырока, уключаючы ў сьпіс сваіх герояў, народжаных ня толькі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ды выехалых за мяжу, але й тых, хто зьявіўся на сьвет у Маскве. Рызе, Санкт-Пецярбургу, творцаў, чый лёс на пэўным (плённым у творчым пляне) этапе быў зьвязаны зь беларускімі землямі. Так, можна знайсьці ў „Вяртаньні імёнаў“ народжанага й памерлага ў Маскве Робэрта Фалька (1886—1958), пецярбуржца Мікалая Атрыганьева (1823—1891), яшчэ аднаго „масквіча“ Міколу Шчакаціхіна ды іншых. Таксама не абмяжоўваецца аўтар менавіта мастакамі. У двухтамовіку можна прачытаць пра Станіслава Богуш-Сестранцэвіча (1869—1927), Каруся Каганца (1868—1918), Зыгмунта Мінейку (1840—1925).

Болей за паўсотні нарысаў, напісаных Барысам Крэпакам, распавядаюць цікавыя гісторыі пра лёсы выхадцаў зь беларускіх земляў, закінутых у розныя краіны сьвету. Зразумела, што вялікая частка імёнаў, якія „вяртае“ аўтар, добра вядомыя чытачу: Ян Дамель, Валенцій Ваньковіч, Альфрэд Ромэр, Фэрдынанд Рушчыц, Мсьціслаў Дабужынскі,

[14] Крэпак, Барыс. Вяртанне імёнаў: Нарысы пра мастакоў. У 2 кн. Кн. 1. Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. С. 6.

Леў Бакст, Хаім Суцін, Мішэль (Міхаіл) Кікоін, Уладыслаў Стрэміньскі, Пётра Сергіевіч, Надзея Хадасевіч-Лежэ ды іншыя. Разам з тым тут можна спаткаць гісторыю практычна забытага ў паваеннай Беларусі мастака Мікалая Пашкевіча, што апынуўся на эміграцыі ў ЗША й даволі пасьпяхова там працаваў. Зь іншага тэксту даведваемся пра аўтара росьпісу Троіца-Сергіева падворку ў Парыжы — народжанага ў Берасьці Дзьмітрыя Стрэлецкага. Геаграфія творчасьці суайчыньнікаў таксама шырокая. Так, мастак Канстанцін Геда (1891—1977), што некалі жыў і працаваў у Магілёве, пасьля Другой сусьветнай вайны знайшоў сваё месца ў мастацкіх колах Аргентыны, а нараджэнец Вільні Лазар Сегал (1891—1957) рэалізаваўся ў Бразыліі, дзе былі ведамыя ня толькі ягоныя працы, але й жонка — зорка тэатру й кіно Беатрыс дэ Таледа.

Нарысы Барыса Крэпака прыцягальныя ўзважанасьцю ў асьвятленьні жыцьцёвых калізіяў і ацэнцы творчасьці герояў. Тут выкарыстоўваюцца матэрыялы ўспамінаў, дзёньнікаў, інтэрвію саміх герояў ці прысьвечаных ім. Што праўда, папулярны характар першапачатковых газэтных публікацыяў не патрабаваў наяўнасьці спасылак на першакрыніцы, якія былі б карысныя іншым дасьледнікам. Тым ня менш праца Барыса Крэпака зьяўляецца добрым унёскам у тойсамы працэс ліквідацыі „белых плямаў“, „вяртаньня“ ў Беларусь імёнаў забытых суайчыньнікаў, а таксама падставай для працягу грамадзкай дыскусіі з гэтай нагоды.

*Н. Г.*

*Мальдис, А. Соотечественники: очерки о белорусах и уроженцах Беларуси, обогативших мировую культуру. Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 336 с. — (Беларусь вчера и сегодня). — Наклад 1100 ас.*

Прафэсар Адам Мальдзіс зьяўляецца ці не найбольшым знаўцам беларускага замежжа ў мэтраполіі. На ягоным рахунку сотні публікацыяў, прысьвечаных тым ці іншым асобам, зьвязаным зь Беларусьсю, што сталі вядомыя за яе межамі. Новая кніга мэтра беларусазнаўства аб’яднала пад адной вокладкай артыкулы, якія друкаваліся цягам 2007—2011 гг. на старонках газэты „СБ. Беларусь сегодня“.

Аўтар прадмовы да кнігі Алесь Карлюкевіч так вызначае герояў кнігі: *„Все они несут в себе печать, пример стараний ради Отечества, хотя многие свои замечательные деяния совершили за пределами родной Беларуси. [...] Герои — общественные деятели, художники, композиторы, писатели, другие неординарные личности, чей вклад в*

*мировую историю и культуру останется в памяти, пожалуй, всех последующих столетий“*[15].




У кнізе пяць разьдзелаў, кожны зь якіх прысьвечаны асобам пэўнага стагодзьдзя: XV, XVI, XVIII, XIX, XX. Пры гэтым у першых разьдзелах па адной асобе, у апошнім — больш за дзясятак. Тэксты, пісаныя для газэты, часта маюць прывязку да той ці іншай актуальнай на момант стварэньня падзеі, найчасьцей, юбілею таго ці іншага дзеяча. Адметнасьцю аўтарскага стылю зьяўляецца тое, што Адам Мальдзіс ня толькі падае ведамыя ці малаведамыя факты біяграфіі суайчыньніка, але й распавядае пра ўласныя пошукі тых біяграфічных зьвестак, падзеі, што былі зьвязаныя з асобай у жыцьці самога аўтара. Спыняецца ён і на спрэчных момантах у біяграфіях сваіх герояў. Што праўда, высновы самога мэтра часта таксама могуць выклікаць пярэчаньні. Так, у першым разьдзеле кнігі „XV ст.“ ідзе аповед пра жонку Ягайлы Соф’ю Гальшанскую як *„адзіную каралеву-беларуску“*. На зададзенае самому сабе пытаньне пра Барбару Радзівіл аўтар адказвае: *„Ну не поднимается у меня рука приписать Барбару к белорускам“*. У раздзеле, прысьвечаным XVI ст., у адзіным аповедзе пра Францыска Скарыну Адам Мальдзіс у аргумэнтаваньні першага імя першадрукара Георгі абапіраецца на досьледы Ўладзімера Агіевіча, спрэчнасьць і нават памылковасьць якіх была пераканаўча даведзеная а. Аляксандрам Надсанам[16]. Пры гэтым працы эміграцыйных скарыназнаўцаў аўтар наогул ніяк ня згадвае. Тым ня менш пададзеная ў артыкуле інфармацыя пра спадкаемцаў Скарыны заслугоўвае ўвагі й дадатковага вывучэньня.

---

[15] Мальдис, А. Соотечественники: очерки о белорусах и уроженцах Беларуси, обогативших мировую культуру. Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. С. 5.

[16] Надсан, Аляксандар. Скарына і ананасы // Arche-Скарына. № 3. 2001. Гл.: http://arche.bymedia.net/2001-3/nadsa301.html

У героях XVIII ст. у Адама Мальдзіса можна ўбачыць падарожніцу Саламею Русецкую, магната-мэцэната Міхала Казіміра Агінскага, караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, а таксама паплечніка Касьцюшкі Юльяна Ўрсына Нямцэвіча. Матэрыял пра апошняга, напісаны яшчэ ў 2007 г., утрымлівае пры канцы спадзяваньне, што будзе створаны музэй у сядзібе Скокі, дзе дзеяч нарадзіўся. Магчыма, зварот аўтара быў пачуты, бо ад 2012 г. пасьля рэстаўрацыі ўжо працуе сядзібна-паркавы комплекс Нямцэвічаў Скокі. На жаль, у кнізе тое ня згадваецца. І гэта прыклад таго, што пісаныя раней тэксты пры передруку павінны ўсё ж мець нейкія камэнтары для сувязі з сучаснасьцю.

Разьдзел, прысьвечаны XIX ст. пачынаецца асобай Адама Міцкевіча. Тут аўтар распавядае пра ўласныя жыцьцёвыя й творчыя падзеі, зьвязаныя з гэтым дзеячам, вывучэньнем ягонай спадчыны, а таксама робіць выснову пра прыналежнасьць Міцкевіча ня толькі палякам, але й беларусам, і літоўцам. Цікавыя аповеды можна знайсьці ў тым самым разьдзеле, прысьвечаныя Ігнату Дамейку, Адольфу Янушкевічу, Бэнэдыкту Дыбоўскаму й іншым. Амаль паўсюль падымаецца пытаньне пра годнае ўшанаваньне памяці герояў на радзіме. Сярод асобаў, на якіх спыняецца Адам Мальдзіс, ёсьць і менш ведамыя, адкрыцьцё імёнаў якіх належыць яму асабіста. Так, асобны артыкул прысьвечаны аўтарцы „Гаспадыні Літоўскай" Ганьне Цюньдзявіцкай. Сярод герояў XX ст. таксама ёсьць гэткія ж. Прыкладам, аўтар ці ня першага для ўсходніх славянаў апісаньня Новай Зэляндыі, рэвалюцыянэр з-пад Смаргоні Іван Сініца, або мастак Мар'ян Богуш-Шышка. Трэба адзначыць, што апошні разьдзел кнігі, прысьвечаны XX ст., наогул даволі няроўны. У адным шэрагу тут стаяць пісьменьнік Казімір Сваяк, мастак Аляксандар Ахола-Вало ды арыстакрат Анджэй Цеханавецкі, а таксама мастачкі Вольга Дзёмкіна з Ліёну ды Ірына Котава, чыя выстава ў Парыжы адбылася ў 2010—2011 гг.

Апошнія тэксты датычаць ужо нават ня столькі асобаў, колькі кніг пра іх. Адам Мальдзіс піша пра выданьні, прысьвечаныя беларусам Сыбіры, працу Міколы Нікалаева „Беларускі Пецярбург", працы Рыгора Андрэеўца „Дзьве радзімы" ды Міколы Сьцепаненкі й Міколы Кузьміча „Нашы землякі ў далёкім і блізкім замежжы". Гэткі агляд дае магчымасьць Адаму Мальдзісу сфармуляваць пэўныя прынцыпы складаньня даведнікаў пра беларусаў замежжа, якія гучаць наступным чынам:

*„Во-первых, надо точнее определить, кого мы можем (имеем право) причислить к соотечественникам, диаспоре. Мне кажется, толь-*

*ко выходцев из Беларусі в первом поколении и тех из их потомков, кто засвидетельствовал „белорусскость“ каким-либо образом, лучше всего письменным (художественные произведения, мемуары, корреспонденция). При таком выборе в энциклопедии не попадают Федор Достоевский или Генри Форд.*

*Во-вторых, будет правильным учитывать в основном территорию нынешней Беларуси. Еще, по моему убеждению, Вильно до 1939 года нельзя рассматривать как зарубежье, поскольку тогда оно было общественно-культурным центром Белоруссии, особенно Западной.*

*В-третьих, нужно установить разумную планку отбора — включать в будущую энциклопедию только яркие, заслуженные имена. Но никаких „запретов на профессии“ также не должно существовать. Мне вспоминается обыкновенный белорус — рабочий из Ростова, имевший десятки патентов на знаковые изобретения.*

*И последнее. Обязательна энциклопедическая точность в определении даты и места рождения. Хорошо бы исключить туманные определения типа „с Вітебщины“, „с Мінщины“ или „из белорусских земель“, ибо они рождают недоразумения и даже потенциальные конфликты, чего допускать никак нельзя. Ибо цель ставится совсем иная — укрепить связи и взаимопонимание между странами, народами и людьми“.*

Безумоўна, унёсак Адама Мальдзіса ў складаньне энцыкляпэдычных даведнікаў па беларусах замежжа нельга не ацаніць. І сфармуляваныя ім прынцыпы вартыя ўвагі, хоць яны далёка не вычарпальныя й пакідаюць будучым энцыкляпэдыстам шэраг адкрытых пытаньняў.

Кніга „Соотечественники“ можа разглядацца ня толькі як аповед пра заслужаных асобаў, але і ў пэўным сэнсе як мэмуары, як аповед аўтара пра сябе, сваю працу па вяртаньні ў Беларусь некалі забытых імёнаў. Пры даволі значным па сёньняшнім часе накладзе ў 1100 асобнікаў, шкада ўсё ж, што кніга выйшла не ў беларускай мове, а цалкам паўтарыла расейскамоўныя ж газэтныя публікацыі.

*Н. Г.*

*Русецкий, Аркадий; Русецкий, Юрий. Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья: монография. Витебск: ВГУ имени П.М. Машерова, 2013. — 292 с. — (Наклад 50 ас.).*

Цягам апошніх гадоў віцебскія аўтары надзвычай актыўна займаюцца папулярызацыяй імёнаў сваіх суайчыньнікаў, што зрабілі знач-




ны ўнёсак у культуру іншых краінаў. У мінулым выпуску „Запісаў БІНіМ“ мы разглядалі кнігу Міхаіла Кузьміча й Міколы Сьцепаненкі „Імёны, асобы, лёсы: Ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы“, а цяпер маем зьвярнуць увагу на выданьне Аркадзя й Юрыя Русецкіх.

Кніга „Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья“ пабачыла сьвет у 2013 г. і пазначаная як манаграфія (навуковае выданьне). Апошняе адрозьнівае яе ад афіцыйна „даведачнага“ выданьня папярэднікаў ня толькі значна меншай колькасьцю прадстаўленых асобаў — абраныя толькі 30, але й, паводле вызначэньня, больш грунтоўным падыходам да разгляду біяграфіяў ды творчасьцяў сваіх герояў.

Аркадзь ды Юры Русецкія ў прадмове да сваёй працы даволі сьмела акрэсьлілі спэцыфіку свайго мэтаду: *„Существует мнение, что историки в своих исследованиях апеллируют к разуму и памяти, писатели — к сердцу. Мы же в своих суждениях и ассоциациях, очерках и эссе попытались, использовав так называемый „синтетический жанр“, соединить исторические сведения и художественно-эстетическое начало, выйдя на достигнутый нами уровень исторической достоверности и правдивости в отражении жизнетворчества того или другого персонажа“*[17].

Выданьне складаецца з шасьці разьдзелаў: „Літаратура й літаратуразнаўства“ (найбольшы), „Выяўленчае мастацтва“, „Кінамастацтва“, „Музычнае мастацтва“, „На стыку мастацтваў“ ды „Этнаграфія. Фальклор. Мовазнаўства“. Зразумела, што значная частка імёнаў перагукаецца ў новай кнізе з разгляданай намі раней: Ян Гушча, Франц Дамброўскі, Лазар Лагін, Пётра Сергіевіч, Надзея Хадасевіч-Лежэ й шмат

[17] Русецкий, Аркадий; Русецкий, Юрий. Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья: монография. Витебск: ВГУ имени П.М. Машерова, 2013. С. 7.

іншых. Разам з тым ёсьць цэлы шэраг „новых“ імёнаў: Геранім Гедронік, Рыгор Баброўскі, Якаў Чэрняк і г. д. Нібыта пачуўшы нашыя заўвагі да кнігі Міхаіла Кузьміча ды Міколы Сьцепаненкі, аўтары новай уключылі ў свой разгляд Кастуся Акулу ды Янку Юхнаўца. Праўда, калі разгляд творчасьці апошняга атрымаўся даволі цікавым, то да тэксту пра першага ёсьць сур'ёзныя пытаньні. Так, А. і Ю. Русецкія чамусьці наўпрост атаясамліваюць героя раману „Змагарныя дарогі“ з аўтарам, хоць, нягледзячы на пазначэньне твору як „дакумэнтальнага“, гэта зусім ня правільна. Так, Кастусь Акула абапіраўся пры працы над раманам на сьведчаньні сапраўдных удзельнікаў падзеяў, сярод іншых і таго самага, паводле словаў віцебскіх аўтараў, *„предавшего свой народ“*, *„печально известного майора Кушеля“*. Аднак цалкам атаясамляць Сымона Спарыша з Кастусём Акулам нельга.

А. і Ю. Русецкія адзначаюць: галоўная каштоўнасьць „Змагарных дарог“ палягае ў тым, што *„современному читателю начала XXI столетия надо было (хотел автор этого или не хотел!) признаться в коллаборационистской политике небольшой части белорусов, откровенно сотрудничавших с оккупантами“*[18]. І далей яшчэ больш ацэначныя высновы: *„По К. Акуле, оказывается, можно было, вооружившись через вермахт, сражаться за свободу. От кого? Значит от тех, кто за освобождение Беларуси от фашистских захватчиков, положил свои жизни на ее полях, в лесах и гестаповских застенках! Нам не удалось установить, кто из деятелей белорусской художественной культуры в ближнем и дальнем зарубежье так откровенно бы признавался в ненависти к своему народу“*[19]. Уласна, пасьля гэтага нарыс можна не чытаць.

Цікава, што сьледам за *„ненавісьнікам беларускага народу“*, які змагаўся з фашыстамі ў шэрагах Арміі Андэрса ў Італіі, а апынуўшыся ў далёкай Канадзе, праз усё сваё жыцьцё пісаў па-беларуску, выдаваў беларускія пэрыёдыкі, захоўваў сваю нацыянальную самасьвядомасьць, у кнізе А. і Ю. Русецкіх ідзе матэрыял, прысьвечаны Юзафу Буйноўскаму, які таксама ваяваў у Арміі Андэрса ў Італіі, на эміграцыі жыў у Лёндане, пісаў свае творы выключна па-польску, ня меў ніякіх кантактаў з брытанскімі беларускімі арганізацыямі й пра сваю беларус-

[18] Русецкий, Аркадий; Русецкий, Юрий. Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья... С. 12.

[19] Русецкий, Аркадий; Русецкий, Юрий. Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья... С. 12.

касьць ня згадваў. І гэты апошні ацэньваецца аўтарамі значна больш станоўча, як чалавек, які *„через всю свою непростую жизнь пронес любовь к родной земле“*[20] .

Зразумела, што Кастуся Акулу як пісьменьніка можна ацэньваць па-рознаму, аднак А. і Ю. Русецкі ў сваім нарысе, прысьвечаным гэтаму дзеячу, нібыта рэанімавалі яшчэ савецкіх часоў падыход, згодна зь якім людзі з антыкамуністычным сьветапоглядам аўтаматычна залічваліся ў шэрагі здраднікаў Радзімы. Сёньня ж з пазыцыяў уласнабеларускіх, такімі ж „калябарантамі“ выглядаюць і тыя, хто супрацоўнічаў з савецкай уладай, што гэтаксама бязьлітасна, як і нямецкая, зьнішчала беларусаў.

Магчыма, больш адэкватнаму разуменьню аўтарамі кнігі Кастуся Акулы й ягонай творчасьці ды наогул сытуацыі эміграцыі паспрыяла б знаёмства з кнігай Лявона Юрэвіча „Шматгалосы эпісталярыум“, дзе вялікі разьдзел заснаваны на карэспандэнцыі канадыйскага беларуса.

Магчыма, значна больш „бяскрыўднае“ ваеннае мінулае Янкі Юх-наўца дазволіла А. і Ю. Русецкім неперадузята ацэньваць ягоную даволі складаную творчасьць. Праўда, засяроджаныя аўтары перадусім на паэтычнай спадчыне амэрыканскага беларуса й, відавочна, прапусьцілі даволі важныя для разуменьня ягонай творчасьці „Запіскі й зацемкі“, што друкаваліся на старонках „Запісаў БІНіМ“.

На дзіва, сур’ёзныя складанасьці мелі аўтары кнігі з адэкватным перакладам назваў беларускіх эміграцыйных выданьняў на расейскую мову (гэтыя назвы падаюцца побач зь беларускімі арыгіналамі). Кур’ёзна выглядае пераклад назвы тэксту Янкі Юхнаўца „Зацемкі“ як „Затемнение“ або пэрыёдыка „Зважай“ (які, між іншага, зусім ня быў газэтай) як „Уважай“. Яшчэ горш справа з дакладнымі беларускімі назвамі твораў Янкі Юхнаўца (і гэта пры тым, што ў сьпісе крыніцаў прыводзіцца найпаўнейшы на сёньня збор паэзіі аўтара). У выніку ў кнізе зьявіліся „Шорах маўклівасці“ (замест „Шорах моўкнасьці“), „Усцеж ночаў“ (замест „Усьцяж ночаў“), „Калюмба“ (замест „Калюмбы“), „І з тэмаў старых“ (замест „Із тэмаў старых“) і г. д., а першы мэтрапольны зборнік пісьменьніка, аказваецца, называўся „Сны на чужбіне“ (а ня „Сны на чужыне“). Дзіўныя моўныя недарэчнасьці й недакладнасьці істотна псуюць ураджаньне ад тэкстаў.

Зразумела, што артыкулы, прысьвечаныя Кастусю Акулу й Янку Юхнаўцу, складаюць нязначную частку кнігі А. і Ю. Русецкіх. Больш за

[20] Русецкий, Аркадий; Русецкий, Юрий. Уроженцы Витебщины в художественной культуре стран близкого и дальнего зарубежья... С. 17.

тое, гэтыя асобы, бадай, адзіныя згаданыя ў „манаграфіі“ прадстаўнікі паваеннай палітычнай эміграцыі на Захадзе, што засталіся часткай менавіта беларускай культуры. Пераважная большасьць іншых герояў кнігі наогул дзейнічалі на прасторах СССР. Тым ня менш, само ўключэньне Кастуся Акулы й Янкі Юхнаўца ў пералік знакавых нараджэнцаў Віцебшчыны — варта вітаць, бо гэта ўжо ёсьць неабходным крокам на шляху да адэкватнай ацэнкі іх творчасьці ў мэтраполіі.

*Н. Г.*

*Stosunki polsko-białoruskie: Historia i współczesność / pod redakcją Doroty Michaliuk. Kraków: Avalon, 2013. — 298 s.*




У польскай сэрыі *„Białoruś: polityka—historia—kultura“* пабачыў сьвет другі том, прысьвечаны гэтым разам пераважна асаблівасьцям беларуска-польскіх дачыненьняў. Укладальніца тома Дарота Міхалюк у прадмове выказала спадзяваньне, што выдадзены зборнік дапаможа чытачу болей даведацца й лепш зразумець тыя стасункі.

Выданьне рэпрэзэнтуе працы як польскіх, гэтак і беларускіх дасьледнікаў. Так, пачынаецца зборнік артыкулам Алега Латышонка, які даказвае, што працэс рэканструкцыі беларускай гісторыі з уключэньнем у яе Полацкага княства пачаўся толькі ад часоў падзелаў Рэчы Паспалітай. Далей Язэп Янушкевіч аналізуе зьвесткі пра палітычную дзейнасьць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, ягонае дачыненьне да паўстаньня 1863—1864 гг.

Пераважная ж большасьць тэкстаў зборніку прысьвечаная праблемам і падзеям XX ст. Антаніна Казырская з Торуні дасьледуе ўжываньне беларускай мовы ў рыма-каталіцкім касьцёле на беларускіх землях пачатку XX ст. Дарота Міхалюк выяўляе спэцыфіку ўзаемадачыненьняў кіроўных колаў БНР з Польшчай, што выклікалі ўзьнікненьне двух урадаў: на чале з Антонам Луцкевічам (скіраваны на кантакты з палякамі) і на чале з Вацлавам Ластоўскім (з крытычным стаўленьнем да

супрацы з заходнімі суседзямі). Рыгор Лазько зь Менску аналізуе ўдзел штучна створанай Літоўска-Беларускай ССР у польска-савецкіх перамовах 1919 г. Мікалай Мязга з Гомелю дасьледуе беларускі фактар у геапалітычнай барацьбе Польшчы й СССР цягам 1921—1926 гг. Войцех Матэрскі з Варшавы зьвяртае адмысловую ўвагу на маладасьледаваныя дачыненьні Польшчы з БССР на пачатку 1920-х гг. Аўген Мірановіч і Войцех Сьлезыньскі зь Беластоку ў сваіх артыкулах з розных бакоў аналізуюць стаўленьне польскіх уладаў да беларусаў у міжваенны пэрыяд. Таго самага часу датычаць і тэксты Антрэя Чарнякевіча, Андрэя Вашкевіча й Сяргея Токця з Горадні. Мянчук Анатоль Вялікі рэпрэзэнтуе вынікі дасьледаваньня перасяленчых працэсаў на беларускіх і польскіх тэрыторыях у 1940—1950-х гг. Храналягічна больш шырокі матэрыял (XIX—XX стст.) закранае сацыялягічны аналіз беларуска-польскіх дачыненьняў, зроблены Рышардам Радзікам, высновы датычаць і сучаснай сытуацыі. Зрэшты, розным аспэктам стасункаў ужо Рэспублікі Беларусь і Польшчы прысьвечаныя адмысловыя артыкулы Міхала Ерэнца з Познані, Лены Глагоўскай зь Беластоку, Алесі Цяцерскай з Торуні.

Такім чынам, храналягічна прадстаўленыя ў кракаўскім зборніку тэксты закранаюць пераважна падзеі XX ст., і ў цэнтры ўвагі знаходзяцца найбольш пытаньні дыпляматыі, рэлігійнай, нацыянальнай, эканамічнай палітыкі. Пры гэтым амаль не закранаюцца праблемы культуры, становішча беларускай грамады ў Польшчы ў другой палове XX—XXI стст. Тым ня менш апублікаваныя ў выданьні тэксты адлюстроўваюць стан дасьледаваньняў беларуска-польскіх дачыненьняў у абедзьвюх краінах ды сапраўды шмат дадаюць да разуменьня асаблівасьцяў гэтых стасункаў як у міжваенны пэрыяд, гэтак і ў сучаснасьці.

*Н. Г.*

*Традиционная культура белорусов во времени и пространстве / под. ред. А.В. Титовца. Мінск: Беларуская навука, 2013. — 579 с.: іл. — (Наклад 1000 ас.).*

У дасьледаваньнях беларускага замежжа тэматыка „ўсходняга“ кірунку — асабліва беларускай прысутнасьці ў Расеі — з часам займае ўсё больш трывалае месца. Важным дасягненьнем тут можна лічыць кнігу, выдадзеную ў Менску ў 2013 г. з зусім не „эміграцыязнаўчай“ назвай „Традыцыйная культура беларусаў у часе і прасторы“ (*„Традиционная культура белорусов во времени и пространстве“)*. Гэтая кніга зьяўляецца плёнам працы айчынных і расейскіх навукоўцаў, і значны акцэнт у ёй зроблены на вывучэньне традыцыйнай культуры




беларусаў Сыбіры. Праўда, трэба заўважыць, што гэтаму выданьню папярэднічала іншае: „Беларусы ў Сыбіры: захаваньне і трансфармацыі этнічнай культуры“ (*„Белорусы в Сибири: сохранение и трансформация этнической культуры“*), што пабачыла сьвет у Новасыбірску ў 2011 г. Беларускае ж выданьне дапоўненае новымі разьдзеламі й значна больш поўнае. Прадмову да яго напісаў ганаровы консул Рэспублікі Беларусь у Цюменскай вобласьці, старшыня Цюменскай абласной грамадзкай арганізацыі „Саюз-інтэграцыя братэрскіх народаў“ Уладзімер Шугля. Аўтар адзначыў, што паводле прыблізных падлікаў ад 1885 да 1915 гг. у Сыбір перасялілася больш за 600 тысячаў беларусаў, якія прынесьлі на новыя месцы жыхарства сваю культуру, фальклёр, спэцыфіку гаспадараньня[21]. Пазьней, ужо ў савецкі час, у Сыбір прыяжджалі беларусы для асваеньня новых земляў, працу на нафтараспрацоўках і г. д. у выніку чаго таксама сталі зьяўляцца беларускія паселішчы. Сёньня толькі ў Цюменскай вобласьці жыве каля пяцідзесяці тысячаў беларусаў, што робяць свой адметны ўнёсак у разьвіцьцё рэгіёну[22]. Усё гэта гаворыць пра вялікую актуальнасьць дасьледаваньня беларускай прысутнасьці ў Сыбіры.

Галоўны рэдактар кнігі Аляксандар Цітавец ва ўводзінах тлумачыць акцэнт, зроблены менавіта на традыцыйнай народнай культуры глябальнымі падставамі: *„Именно традиционные народные культуры (ТНК) являют собой пример сохранения и стабильного функционирования общества и государства. В этом контексте предлагаемая книга представляется чрезвычайно актуальной и важной в плане осмысления и понимания фундаментальных (базисных) основ традиционного жизненного уклада и поиска решений насущных и злободневных*

[21] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве / под. ред. А.В. Титовца. Мінск: Беларуская навука, 2013. С. 4.

[22] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве… С. 9.

*проблем развития современной цивилизации в частности и в целом“*[23]. І далей: *„Исследование традиционной народной культуры в условиях статики и динамики этнокультурных процессов в зоне этнического и экстерриториального проживания белорусов не только будет способствовать её осмыслению, но и даст возможность планировать и моделировать их долгосрочное и краткосрочное развитие. Решение поставленной проблемы позволит прямо и косвенно влиять на современное развитие не только отдельных обществ и государств (включая восточнославянские), но и мировой цивилизации в целом“*[24].

Пры гэтым традыцыйнымі галоўны рэдактар вызначае тыя народныя культуры, якія *„не только сохраняются, но и воспроизводятся (разумеется, с определенными допустимыми изменениями), тем самым сохраняя и гарантируя стабильное и довольно долгосрочное функционирование определенного (конкретного) общества, а значит, и государства“*[25].

Зрэшты, пасьля досыць глябальных уводзінаў у кнізе ідзе вельмі канкрэтны, заснаваны на сур'ёзных, у тым ліку й палявых, дасьледаваньнях зьмест. Першы разьдзел мае пераважна гістарычны характар. Ён прысьвечаны беларусам-перасяленцам у Сыбіры ад XVII да пачатку XX стст. Распачынае яго тэкст Валянціна Цітова, што разглядае праблему рэпрэзэнтаванасьці ў гістарыяграфіі беларусаў і палякаў у Сыбіры ды пэўную блытаніну ў зьвязку з гэтым, бо палякамі часта называлі перасяленцаў зь беларускіх земляў каталіцкага веравызнаньня[26]. У наступным тэксьце адмыслова разгледжаныя гістарычныя зьвесткі пра беларусаў, што апынуліся ў Сыбіры ў XVII ст. Аўтарка А. Люцыдарская гаворыць пра ўдзел у „асваеньні“ сыбірскіх земляў „літвінаў“ — выхадцаў зь беларускай тэрыторыі — жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. Асобны артыкул прысьвечаны „панцырным баярам“ ў Заходняй Сыбіры. Да гэтай катэгорыі адносіліся дзяржаўныя сяляне, пераселеныя на сыбірскія прасторы паводле рэформы П. Кісялёва ў 1850—1860 гг. пераважна зь Віцебскай губэрні. У выніку на тэрыторыі сучасных Курганскай, Новасыбірскай абласьцей Алтайскага краю Расеі зьявіліся вялікія партыі беларускіх пасяленцаў, якіх называлі

[23] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве… С. 13.

[24] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве… С. 16.

[25] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве… С. 16.

[26] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве… С. 20.

„кісялёўцамі“, а пазьней — „самаходамі“. Нашчадкі гэтых нараджэнцаў беларускіх земляў захоўвалі адметнасьць нацыянальнай кухні, планіроўкі двароў, а таксама традыцыі гаспадараньня. Прыкладам, яны прынесьлі ў Сыбір традыцыі ільнагадоўлі. Сытуацыя з сучаснай самаідэнтыфікацыяй нашчадкаў тых панцырных баяраў выглядае, паводле аўтаркі артыкулу, наступным чынам: *„С одной стороны, эти люди считают себя полноправными сибиряками, старожилами мест, в которых живут. При этом в архетипах самосознания этих локальных сообществ сохраняются элементы инаковости, выраженные в противопоставлении себя культуре и образу жизни потомков сибирских старожилов — чалдонов и старообрядцев“*[27].

Ведама, што найбольш масавыя перасяленьні зь беларускіх тэрыторыяў у Расею адбываліся ў гады правядзеньня Сталыпінскай аграрнай рэформы 1906—1910 гг. У выніку на сыбірскіх прасторах зьявілася вялікая колькасьць беларусаў і нават адмысловыя беларускія вёскі. Аналіз зьвестак Агульнарасейскага перапісу 1917 г. ды гаспадарчых кніг 1920-х гг., дапоўнены вынікамі палявых дасьледаваньняў, адлюстроўвае адметную прысутнасьць нашых суайчыньнікаў у розных рэгіёнах Сыбіры ў выніку тых перасяленьняў. Пры гэтым беларускія сем'і вылучаліся на фоне таксама немалых мясцовых вялікай колькасьцю дзяцей[28].

Запісы інтэрвію зь перасяленцамі й іх нашчадкамі дазволілі аўтарам другога разьдзелу кнігі даволі падрабязна вывучыць асаблівасьці традыцыйнай беларускай культуры ў Сыбіры. Так асобныя артыкулы прысьвечаны абрадам вясельля, пахаваньня, гульням, фальклёрна-этнаграфічным традыцыям, каляндарным звычаям і г. д. Прычым ахопліваюцца часта зьвесткі пра розныя пэрыяды жыцьця беларускіх перасяленцаў ад канца XIX ст. да пачатку XXI ст. Адна зь лягічных высноваў аўтараў гэтага разьдзелу заключаецца ў тым, што найлепш захоўвалася этнакультурная спэцыфіка беларусаў у кампактных пасяленьнях Усходняй Сыбіры, дзе было меней кантактаў са старажыламі. Тым ня менш *„где бы ни поселились белорусские переселенцы в компактном или рассеянном состоянии, их влияние на старожилов и переселенцев из других регионов России непременно ощущалось“*[29].

Трэці разьдзел кнігі прысьвечаны працэсам трансфармацыі традыцыйнай матэрыяльнай культуры народаў Беларусі й Сыбіры ў XIX —

[27] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве... С. 47.
[28] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве... С. 56.
[29] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве... С. 246.

пачатку XXI стст. Тры тэксты з чатырох тут разглядаюць пераважна этнічную тэрыторыю Беларусі (асаблівасьці ідэнтыфікацыі жылых і гаспадарчых збудаваньняў, традыцыі харчаваньня ды мужчынскага касьцюму). Апошні ж артыкул акцэнтуе ўвагу на мэханізмах ідэнтычнасьці й трансфармацыяў традыцыйнай культуры беларускіх перасяленцаў у Заходняй Сыбіры. Аўтар тут робіць выснову пра тое, што інтэграцыя ў мясцовае грамадзтва істотна садзейнічала асыміляцыі, хоць адметнасьці матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў можна сустрэць яшчэ сёньня ў заснаваных імі некалі паселішчах. Аднак у сучасных умовах адцёку моладзі з расейскіх вёсак, разбурэньня пераемнасьці пакаленьняў ўзьдзеяньне асыміляцыйных працэсаў на нашчадкаў беларусаў у Сыбіры значна ўзмацняецца[30] .

Апошні чацьверты разьдзел кнігі канцэнтруецца на працэсах міжкультурнага ўзаемадзеяньня як у самой Беларусі, гэтак і ў Сыбіры. Тут асобна разглядаюцца традыцыі народнай культуры расейцаў у Беларусі, міжкультурнае ўзаемадзеяньне ўсходнеславянскіх народаў поўдню Заходняй Сыбіры, рэпрэзэнтаванасьць гісторыка-этнаграфічных асаблівасьцяў жыцьця беларускіх перасяленцаў на сыбірскіх прасторах у літаратурных крыніцах.

Асаблівую ўвагу зьвяртае на сябе тэкст, прысьвечаны беларускім перасяленцам у Прыбайкальлі. Тут прадстаўленыя матэрыялы дасьледаваньняў беларускіх вёсак (Лідзінску (ад г. Ліда), Тургенеўка ды інш.) у Баядаеўскім раёне Іркуцкай вобласьці, заснаваных выхадцамі з Гарадзенскай і Магілёўскай губэрняў. Дасьледнік Р. Фёдараў зьвяртае ўвагу на тое, што беларускія перасяленцы пераважна жылі тут абасоблена ад мясцовага бурацкага насельніцтва, ня зьмешваючыся зь ім, што спрыяла захаваньню нацыянальнай адметнасьці. Так, сёньня вёска Тургенеўка адзіная ў Сыбіры мае на ўезьдзе беларускамоўную шыльду „Беларуская вёска Тургенеўка“, тут адчынены гістарычна-этнаграфічны музэй, прысьвечаны культуры беларускіх перасяленцаў, а ў школе праводзяцца факультатыўныя заняткі беларускай мовы. Дзякуючы актыўнай дзейнасьці Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя І. Чэрскага, мясцовая моладзь валодае выразнай беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьцю й цікавіцца традыцыйнай культурай продкаў.

У дадатку да кнігі зьмешчаныя разнастайныя статыстычныя зьвесткі пра беларускую прысутнасьць ў Сыбіры, а таксама матэрыялы інтэрвію, сабраных пераважна на тэрыторыі этнічнай Беларусі.

[30] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве… С. 378.

Варта адзначыць высокі навуковы ровень зборніка, сур’ёзнасьць і ўзважанасьць падачы матэрыялу. Безумоўна, тэма беларускай прысутнасьці ў Сыбіры разгляданай кнігай не вычэрпваецца. Можна толькі пагадзіцца з аўтарам прадмовы ў ягоным перакананьні: *„Сколько неизвестного и неизведанного хранится в памяти белорусских диаспор по всему миру, можно только догадываться. На этом пути исследователей ждет немало интересных открытий. Однако иначе и быть не может. Ведь традиционная народная культура хотя и аккумулирует в себе опыт, знания, умения многих и многих поколений, свои тайны и скрытые за пеленой тысячелетий смысло-содержательные константы, уровни не открывает сразу, а лишь приоткрывает постепенно по мере проникновения и погружения в нее пытливых исследователей. И дело это кропотливое, нередко непонятное широким массам, однако же благодарное и с надеждой на перспективу“*[31] .

На жаль, аналягічныя дасьледаваньні амаль не праводзяцца сёньня ў іншых рэгіёнах беларускага замежжа (акрамя тэрыторыі ўласна памежжа), а таму захаванасьць элемэнтаў беларускай традыцыйнай культуры, прыкладам, у далёкім замежжы застаецца сёньня ня вывучанай, а яе носьбіты імкліва адыходзяць.

*Н. Г.*

*У беларускасці наш паратунак... Мікола Гайдук (1931—1998) — асоба і справа. Міхалова — Бельск-Падляскі — Беласток, 2013. — 250 с.*

У 2013 г. споўнілася 15 гадоў з дня сьмерці ведамага беларускага дзеяча Беласточчыны, пэдагога, публіцыста, літаратара, зьбіральніка фальклёру Міколы Гайдука. Калегі й вучні вырашылі ўшанаваць памяць дзеяча правядзеньнем шэрагу мерапрыемстваў, а таксама выданьнем прысьвечанай яму кнігі.

Укладзены намаганьнямі дасьледніцы Лены Глагоўскай зборнік мае абшырны ўступ, дзе распавядаецца пра зьяўленьне й працэс рэалізацыі ідэі ўшанаваньня памяці Міколы Гайдука, з усімі складанасьцямі й посьпехамі. Асноўны зьмест выданьня падзелены на шэсьць разьдзелаў. У першым зь іх зьмешчаныя артыкулы, прысьвечаныя асэнсаваньню жыцьцёвага шляху й творчай спадчыны дзеяча ў розных яе аспэктах. Тут сярод іншага згадваецца ня толькі пра этнаграфічную зьбіральніцкую дзейнасьць Міколы Гайдука, але й пра ягоную працу ў газэце „Ніва“, супрацоўніцтва зь іншымі пэрыёдыкамі.

---

[31] Традиционная культура белорусов во времени и пространстве... С. 18.




Другі разьдзел кнігі складаецца з успамінаў пра Міколу Гайдука, напісаных больш як двума дзясяткамі аўтараў як зь Беласточчыны, гэтак і зь Беларусі ды з далёкага замежжа. Сярод апошніх — Юрка Рапэцкі й Надзея Запруднік. Працягам успамінаў ёсьць сабраныя ў асобны разьдзел прысьвячэньні Міколу Гайдуку, зробленыя Віктарам Швэдам, Сяргеем Панізьнікам ды іншымі.

Асаблівую цікавасьць уяўляе частка, дзе зьмешчаныя асобныя дакумэнты з эпісталярнай спадчыны беластоцкага беларуса. Тут сярод іншага можна знайсьці лісты і ўжо згаданых Надзеі Запруднік (тады Кудасавай) ды Юркі Рапэцкага, і аўстралійскага беларуса Міхася Раецкага, і канадыйскай Валянціны Пашкевіч, і амэрыканскага Пётры Кажуры, і нямецкага Юрыя Попкі. Ліст апошняга, між іншага, раскрывае некаторыя асаблівасьці зьбіраньня экспанатаў для беларускага музэю ў Ляймэне, у сваю чаргу адказ Міколы Гайдука ўтрымлівае цікавыя падрабязнасьці сьмерці Юркі Геніюша. Лісты з 1980-х — 1990-х гг. розныя паводле гучаньня й сюжэтаў, даволі гаваркія ў дачыненьні да адрасатаў і абставінаў іх жыцьця й дзейнасьці. Паводле іх можна зразумець некаторыя асаблівасьці дачыненьняў беластоцкіх беларусаў з суродзічамі з замежжа, што мо некалі стануць асобнай тэмай для вывучэньня. Можна толькі пашкадаваць, што частка з эпісталярнай спадчынай у выданьні вельмі невялікая.

Пяты разьдзел кнігі мае назву „З рукапіснай і машынапіснай спадчыны“ й выглядае даволі сьціпла: чатыры невялікія тэксты, якія толькі дадаткова сьведчаць пра неабходнасьць больш пільнай увагі да вывучэньня творчай спадчыны Міколы Гайдука.

Апошняя частка „Альбом“ складаецца з разнастайных здымкаў героя кнігі. У якасьці пасьлямовы выступае слова ад дачок Міколы Гайдука.

Сабраныя пад адной вокладкай розныя матэрыялы выконваюць ня толькі мэмарыяльную функцыю, але й прызначаныя зацікавіць дась-

леднікаў вывучэньнем даробку Міколы Гайдука, архіў якога захоўваецца ў Гайнаўскім музэі. Гэтай жа мэце, відавочна, служыць і выдадзены адначасова з кнігай дыск „Песні мае, песні...“ (Песні Беласточчыны), прысьвечаны памяці гэтага рупліўца беларушчыны на Беласточчыне.

*Н. Г.*

*Беларус: літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа. Нью-Ёрк: Выдавецтва „Беларус“, 2014. — 298 с.*




Намаганьнямі рэдактара і ўкладальніка ў Нью-Ёрку пабачыў сьвет восьмы па ліку выпуск літаратурнага альманаха „Беларус“. Як адзначана ў прадмове Натальлі Гардзіенкі, гэтае выданьне, што працягвае традыцыі ранейшых „Шыпшыны“, „Сакавіка“ ды „Конадняў“, *„адлюстроўвае адметнасьці сучаснай літаратурнай сытуацыі замежжа, радыкальна адрознай ад той, што была ў 1940—1960-х... Адрозьненьні і ў геаграфіі аўтараў, што ўключае, умоўна кажучы, ня толькі Захад, але й Усход: беларусаў ЗША, Канады, Аўстраліі, Чэхіі побач з суайчыньнікамі зь Летувы, Украіны, Расеі... Калі раней у эміграцыйных творах было больш Беларусі, то ў публікаваных сёньня значна больш самога замежжа: індзейцаў, амэрыканскіх і эўрапейскіх гарадоў, рэфлексіяў жыцьця па-за мэтраполіяй“*[32].

Сёлетні нумар, традыцыйна разнастайны геаграфічна, што адлюстроўвае асаблівасьці беларускай прысутнасьці ў сучасным сьвеце, утрымлівае й розныя паводле тэматыкі й жанру творы. Тут можна знайсьці паэтычныя творы Лявона Баравога (ЗША), Сяржука Вітушкі (Літва), Зьмітра Давыдзенкі (Вялікабрытанія), Віталя Зайкі (ЗША), Марыны Кражовай (ЗША), Пётры Мурзёнка (Канада), Алега Рудакова

[32] Гардзіенка, Натальля. Функцыя захаваньня // Беларус: Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа. Нью-Ёрк, 2014. С. 7.

(Расея), Іны Снарскай (Украіна) ды Юрыя Шамецькі (Канада), прозу Ірыны Варабей (Канада), Віталя Воранава (Польшча), Віктара Кавалеўскага (Аўстралія), Цімоха Ліякумовіча (ЗША), Эмігідзіюша Рыжага (ЗША), Сержука Сокалава-Воюша (ЗША), Макса Шчура (Чэхія) ды інш., драму Алега Мінкіна (Летува), успаміны Валянціна Стэха (Латвія), Дзьмітрыя Шатыловіча (Польшча), Валянціны Трыгубовіч (ЗША).

Зразумела, што тэксты адрозьніваюцца ня толькі ў тэматычна-жанравым сэнсе, але й ўзроўнем, мастацкай вартасьцю. Аднак гэта справа літаратуразнаўцаў — вывучаць і ацэньваць літаратуру беларускага замежжа. Для чытачоў жа й аўтараў важна, што існуе такі пэрыёдык, дзе свае творы могуць апублікаваць зусім розныя творцы. Як заўважае ўкладальнік і выдавец Марат Клакоцкі, *„як і ў папярэднія гады, у будучым друк літаратурнага альманаху „Беларус“ будзе абумоўлены двума чыньнікамі: прысутнасьцю ў замежжы беларускіх літаратараў, што хацелі б надрукаваць свае творы ў нашым выданьні, а таксама зацікаўленасьцю і падтрымкаю чытачоў“*[33]. Хочацца спадзявацца, што выданьне сапраўды будзе мець працяг.

*Я. С.*

*Мікалай Махнач. Доўгая дарога да свабоды / укладанне і літаратурная апрацоўка М. Чарняўскі. Мінск: Тэхналогія, 2014. —135 с. — (Наклад 300 ас.).*

Часта, вывучаючы статыстыку эміграцыі суайчыньнікаў у тую ці іншую краіну й параўноўваючы яе з колькаснымі зьвесткамі сяброўства ў беларускіх арганізацыях, задаесься пытаньнем, куды ж дзяваюцца тыя тысячы й дзясяткі тысячаў беларусаў? Як адбываецца, што яны так хутка зьнікаюць у іншанацыянальным моры? Нававыдадзеная ў выдавецтве „Тэхналёгія“ кніга ўспамінаў Мікалая Махнача ў нечым дапамагае адказаць на тыя пытаньні.

Аўтар „Доўгай дарогі да свабоды“ нарадзіўся ў 1923 г. у Валожыне, вучыўся ў польскай школе. Як і для шматлікіх іншых маладзёнаў з Заходняй Беларусі, лёсавызначальным для Мікалая Махнача стаў 1939 г. Прыход саветаў прынес прымусовае разьмеркаваньне на працу на лесанарыхтоўках ў Карэліі, адкуль надзвычай складана было выбрацца нават з пачаткам нямецка-савецкай вайны. Аднак праз нягоды й хваробы малады чалавек усё ж здолеў скарыстаць зь перавагаў свайго нараджэньня ў Рэчы Паспалітай і дабраўся да Ўзбэкістану, дзе фармава-

[33] Беларус: Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа... С. 5.

лася Армія генэрала Андэрса. У сапёрным плютоне гэтага вайсковага фармаваньня ён прайшоў праз вайсковыя дзеяньні ў Італіі, у тым ліку й славутую бітву за Монтэ-Касына, і ў паваенны час апынуўся ў Вялікабрытаніі. На Туманным Альбіёне знайшоў сабе жонку-палячку, разам зь якой выехаў на сталае жыцьцё ў ЗША, дзе жыве й да сёньня.




Тут можна казаць пра ў чымсьці тыповы лёс беларускага эмігранта, асабліва „андэрсаўца“. У сваіх успамінах аўтар зь цікавымі падрабязнасьцямі распавядае пра валожынскае дзяцінства, працу ў Карэліі, уцёкі адтуль і туляньні ў пошуках магчымасьці дабрацца да месца фармаваньня Арміі Андэрса, вайсковую службу, паваенную Брытанію, працаўладкаваньне ў ЗША. Ва ўмовах неабходнасьці станавіцца на ногі з нуля ў чужой краіне, для эмігрантаў заўсёды важная была праца й таму амаль ва ўсіх успамінах паваеннага часу можна знайсьці дакладныя зьвесткі пра заробкі й іх зьмены (зразумела, у большы бок). Цікава, што Махнач змог яшчэ ў савецкія паваенныя часы прыяжджаць у Польшчу й сустракацца са сваякамі, у тым ліку й з маці. А пры канцы 1980-х ён разам з жонкай нават вырашыў пасяліцца ў Польшчы назусім, аднак здолеў пратрымацца толькі некалькі гадоў і вярнуўся зноў у ЗША.

Нягледзячы на тое, што ў арыгінале ўспаміны былі напісаныя папольску, аўтар паўсюль падкрэсьлівае, што ён беларус, у кнізе сустракаюцца й імёны ягоных землякоў беларусаў, але... Будучы ў Арміі Андэрса, дзе служылі тысячы беларусаў, жывучы ў Вялікабрытаніі, дзе ўжо ў 1946 г. было заснаванае Згуртаваньне беларусаў, у ЗША, дзе была адна з найбольш актыўных беларускіх дыяспараў, Мікалай Махнач нідзе не трапляў у кола прыцягненьня беларускіх арганізацыяў, нічога ня ведаў пра беларускія пэрыёдыкі. Ён ўдзельнічаў у польскіх арганізацыях і, здаецца, нават не спрабаваў шукаць сваіх. Чаму? Ды відаць, так складвалася жыцьцё. У Брытаніі ён апынуўся ў Валіі, далекавата ад „беларускіх“ Лёндану, Манчэстэру, Брадфарду. У сьпісах сябраў ЗБВБ фак-

тычна не было беларусаў, што жылі ў тым рэгіёне, што й Махнач. У ЗША ён пасяліўся ў Масачусэтсе, дзе таксама не было багата актыўных беларусаў. Але галоўнае, што на першым пляне ў звычайнага эмігранта заўсёды былі пытаньні ўладкаваньня жыцьця: праца, хата. Іншае адыходзіла на другі, трэці... І відавочна, што якраз гэта найбольш тыповы для беларуса шлях на эміграцыі. „Выбіцца ў людзі", „дбаць пра сваё", „стаць чалавекам" — і на радзіме, і на чужыне гэта натуральна й заканамерна.

„Доўгая дарога да свабоды" дае магчымасьць зірнуць на сьвет вачыма звычайнага, грамадзкі не заангажаванага беларуса, і гэта, відаць, найбольшая каштоўнасьць тэксту. Успаміны Мікалая Махнача ў пэўным сэнсе — помнік беларускаму гісторыку Міхасю Чарняўскаму, які ня толькі скантактаваўся з аўтарам, але й рыхтаваў тэкст да выданьня ў апошнія месяцы й дні свайго жыцьця. Да тэксту зробленыя, што праўда, даволі сьціплыя камэнтары Юрыем Грыбоўскім, дададзеныя польскамоўныя лісты Мікалая Махнача, фатаздымкі. Найбольш каштоўным дадаткам, які мог бы стаць самастойным творам, ёсьць успаміны сястры аўтара Валянціны Махнач-Слабодчыкавай. Тут адлюстравана, як жылося ў савецкія часы сваякам эмігрантаў, зь якімі складанасьцямі ў навучаньні, працаўладкаваньні даводзілася сустракацца. Менавіта празь пільную ўвагу органаў да яе як да сястры эмігранта Валянціне давялося зьехаць зь Беларусі й пасяліцца настала ў Малдове.

Успаміны Мікалая Махнача й ягонай сястры могуць стаць выдатным матэрыялам для дасьледаваньня дачыненьняў дыяспары й мэтраполіі, адлюстраваных у лёсах канкрэтных асобаў. Наогул жа „Доўгая дарога да свабоды" каштоўная сваёй нетыповасьцю ў параўнаньні зь вядомай на сёньня беларускай эміграцыйнай мэмуарыстыкай і разам з тым лёсу аўтара, тыповага для тысячаў суайчыньнікаў паваеннай хвалі на Захадзе.

*Н. Г.*

*Надсан, Аляксандр. Выбранае / уклад. і каментары І. Багдановіч; прадм. Л. Савік. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 208 с. (Наклад 1000 ас.).*

У сэрыі „Беларускі кнігазбор", якая на сёньня налічвае ўжо больш за сем дзясяткаў кніг, тамы, прысьвечаныя эміграцыйным аўтарам можна пералічыць на пальцах. Таму кожнае новае „эміграцыйнае" выданьне тут становіцца важнай падзеяй. Сёлета сьледам за зборам твораў Масея Сяднёва пабачыла сьвет і кніга „Выбранае" айца Аляксандра Надсана, укладзеная літаратуразнаўцам Ірынай Багдановіч.




Прадмова, зьмешчаная ў гэтым выданьні, была напісаная Лідзіяй Савік яшчэ колькі гадоў таму для юбілейнага зборніка ў гонар Аляксандра Надсана, што пабачыў сьвет ў 2009 г. Передрук яе ў Кнігазбораўскім томе можна патлумачыць, напэўна, невялікім накладам таго папярэдняга выданьня, хоць пэўнае рэдагаваньне тэксту зрабіць было варта.

Бібліяграфія а. Аляксандра Надсана складаецца з каля двух дзясяткаў кніг, блізу дзьвюх соцень артыкулаў, каля сарака перакладаў літургічных тэкстаў ды іншых публікацыяў. Таму задача ўкладальніка зрабіць адэкватную выбарку для публікацыі ў ведамай сэрыі была даволі складанай. У выніку „Выбранае" а. Аляксандра было разьмеркаванае па шасьці разьдзелах. У першым — „Беларускае рэлігійнае пісьменства: творы і пастаці" зьмешчаныя тэксты „Сьвяты Кірыла Тураўскі", „Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства XV ст.", „Лаўрын Зізаній", „Заходняя літаратура на Беларусі ў XV—XVII стст.", „Малітоўнік Мамоніча 1601 г." ды „Беларускі рэлігійны твор канца XVII ст.". Усе іх аб'ядноўвае цікавасьць аўтара-дасьледніка да беларускага рэлігійнага пісьменства.

У другім разьдзеле „Скарыназнаўства" прадстаўленыя бадай найбольш значныя артыкулы аўтара ў гэтай галіне: „Кніга Скарыны ў Капенгагене", „Падручнік Фёдарава і Скарына", „Малітвы Скарыны" й надзвычай актуальны сёньня „Міф, якому не даюць памерці", дзе пераканаўча даводзіцца неабргунтаванасьць спэкуляцыяў на тэму імя Георгій, прыпісанага Францыску Скарыну.

Трэці разьдзел „Беларуская кніжная культура, кнігазнаўства", зрэшты, як і першыя два, сьведчыць пра айца Аляксандра як пра „кніжнага чалавека". Нездарма ягонае жыцьцё зьвязанае з захаваньнем, папаўненьнем і дасьледаваньнем бібліятэчных скарбаў. Гэтая дзейнасьць і адлюстраваная ў тэкстах: „Еўеўскі „Буквар" 1618 г.", „Беларускія буквары XVII ст.", „Новыя набыткі Беларускай бібліятэкі" ды „Пяць гадоў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны".

Эклектычным атрымаўся чацьверты разьдзел „Выбранага“, які мае назву „Беларускае рэлігійнае і культурнае жыцьцё: гісторыя і асобы“, што магла б аб’яднаць і артыкулы з папярэдніх разьдзелаў, дый наогул пераважную частку творчасьці а. Аляксандра Надсана. У Кнігазбораўскім томе ж пад гэтай назвай зьмешчаныя як тэксты, што выходзілі ў кніжным фармаце, „Княгіня Радзівіл і справа адраджэньня Уніі ў Беларусі“ або *„Pro patria aliena“*, гэтак і дасьледныя ці прынагодныя артыкулы „Грэцкая калегія ў Рыме і беларусы“, „Пяць гадоў школы сьв. Кірылы“, „400 гадоў Берасьцейскай уніі“ ды іншыя. Да гэтых тэкстаў дадаюцца выбраныя часткі з кнігі „Біскуп Часлаў Сіповіч: сьвятар і беларус“. Зьмяшчэньне апошніх выклікае пэўныя сумневы, бо ўсё ж кніга а. Аляксандра Надсана зьяўляецца не літаратурным творам, а гістарычным дасьледаваньнем, выбарная публікацыя частак якога парушае агульную лёгіку аповеду, адпаведна, гэта мала што дае шараговаму чытачу й зусім ня можа выкарыстоўвацца спэцыялістамі.

Айцец Аляксандар Надсан ведамы сваімі казанямі й духоўнымі разважаньнямі. Таму цалкам зразумелая наяўнасьць і гэткага разьдзелу ў „Выбраным“. Некалькі дзясяткаў пастырскіх пасланьняў, зваротаў, казаняў і г. д., сабраныя разам, сапраўды зьяўляюцца каштоўнай часткай спадчыны аўтара. Гэткай жа важнай ёсьць і перакладніцкая дзейнасьць айца Аляксандра. У адпаведным разьдзеле пададзеная толькі невялікая частка зробленых аўтарам перакладаў: малітвы Скарыны ды Псалтыр Давіда.

У якасьці дадатку да кнігі выступаюць тэксты розных аўтараў ад 1976 г. да 2006 г., прысьвечаныя самому а. Аляксандру Надсану, а таксама шэраг фатаздымкаў.

Ацэньваючы цалкам том „Выбранага“ можна пагадзіцца, што ён адлюстроўвае асноўныя напрамкі творчай і дасьледнай дзейнасьці айца Аляксандра. Па-за ўвагай укладальніцы засталіся хіба што шматлікія цікавыя рэцэнзіі, зьмест значнай часткі якіх ня толькі застаецца актуальным і сёньня, але й мог бы стаць прыкладам грунтоўнага навуковага рэцэнзаваньня для сучасьнікаў.

Пэўным недахопам выданьня можна назваць практыку перадруку тэкстаў паводле першапублікацыі нават у выпадках, калі маюцца пазьнейшыя публікацыі з аўтарскімі выпраўленьнямі. Так, цэлы шэраг тэкстаў, зьмешчаных у Кнігазбораўскім томе, быў апублікаваны ў 2006 г. у „Запісах БІНіМ“, і сам айцец Аляксандар уносіў некаторыя, няхай нязначныя, але праўкі ў гэтыя тэксты. У „Выбраным“, напэўна, варта было б улічыць гэтыя пазьнейшыя вэрсіі ці, прынамсі, пазначыць іх

наяўнасьць у камэнтарах. Зрэшты, камэнтары ў зборніку носяць выключна бібліяграфічны характар, пазначаючы толькі паходжаньне тэкстаў, што наогул нельга лічыць уласна камэнтарамі. Адсутнасьць апошніх зьяўляецца таксама сур’ёзным недахопам выданьня. Відавочна, што скарыназнаўчыя ды кнігазнаўчыя тэксты а. Аляксандра, напісаныя два й болей дзесяцігодзьдзі таму, могуць быць камэнтаваныя з пазыцыяў сучасных навуковых дасягненьняў або дыскусіяў. Гэтаксама й казані ды пасланьні, дзе часам прысутнічае апэляцыя да пэўных канкрэтных падзеяў (як тая ж варта ў Курапатах у 2002 г.) ці асобаў (Казімір Сваяк, Язэп Руцкі, Рафаэль Корсак, Антон Сялява ды інш.), безумоўна, патрабуюць тлумачэньня.

Разам з тым можна парадавацца ня толькі зьяўленьню новай „эміграцыйнай“ пазыцыі ў „Беларускім кнігазборы“, але й таму, што яно адлюстроўвае ўзровень сёньняшняй павагі да айца Аляксандра на бацькаўшчыне.

*Н. Г.*

# ПЕРАДАЧА КАЛЕКЦЫЯЎ БІНІМУ Ў БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЭЙ ЛІТАРАТУРЫ Й МАСТАЦТВА

**9 красавіка 2014 г.** у Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва ў Менску былі ўрачыста перададзеныя архіўныя матэрыялы й музэйныя экспанаты ад імя Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку.

Гэтыя матэрыялы зьбіраліся ў БІНіМе цягам дзесяцігодзьдзяў. Сябра Інстытуту архівіст Лявон Юрэвіч паступова перадаваў іх у Беларусь гісторыку Натальлі Гардзіенцы для вывучэньня й публікацыі. Аднак, з тае прычыны, што калекцыяў дакумэнтаў і матэрыялаў назапасілася даволі шмат, пастанавілі перадаць іх у спэцыялізаваную ўстанову, каб даць магчымасьць доступу большай колькасьці навукоўцаў.

Пры перадачы матэрыялаў Натальля Гардзіенка адзначыла: *„БІНІМ стварайся з ідэяй гуртаваньня беларускіх інтэлектуалаў у эміграцыі. І з ідэяй зьбіраньня ўсяго беларускага, што знаходзілася за мяжой. Калекцыя БІНІМу — гэта ня толькі ліставаньне, гэта й розныя архівы пісьменьнікаў, мастакоў, калекцыі паштовак, марак, значкаў, мэдалёў, блянкаў зь беларускай сымболікай — усё, што выдавалася ў беларускіх асяродках: у Канадзе, ЗША, Аўстраліі, Вялікабрытаніі... Ідэя сёньняшняга кіраўніка БІНІМу Вітаўта Кіпеля ў тым, што беларускія скарбы павінны захоўвацца ў Беларусі й быць даступныя для дасьледнікаў“.*

Дырэктар БДАМЛМ Ганна Запартыка адзначыла, што ў архіў і раней паступалі матэрыялы пра беларусаў з-за мяжы. Так былі створаныя фонды Міхася Забэйды-Суміцкага, Масея Сяднёва, Алеся Алехніка ды іншыя. Шмат перадавалі ўжо ад 1990-х гг. і Вітаўт Кіпель ды Янка Запруднік.

Гэтым разам у найбуйнейшай калекцыі перададзеных БІНіМам матэрыялаў можна знайсьці сапраўдныя рарытэты. Гэта й аўтографы беларускіх літаратараў 1920-х гг., што вучыліся разам з Антонам Ада-

мовічам (прыкладам, Паўлюк Трус, Тодар Кляшторны ды інш.). Тут і рукапісны варыянт кнігі Алеся Салаўя, які ён рабіў у Аўстрыі ў канцы 1940-х. Сяброўскія анкеты-аўтографы дзеячаў БІНіМу — больш за пяць дзясяткаў (Кастусь Акула, Мікола Равенскі, Натальля Арсеньнева, Масей Сяднёў ды інш.). Фрагмэнты архіваў Натальлі Арсеньневай, Антона Адамовіча, Юркі Віцьбіча... Паштоўкі ад пачатку ХХ ст. да пачатку ХХІ ст. беларускай тэматыкі. Маркі, мэдалі, значкі, капэрты, блянкі, улёткі й г. д. Нацыянальны строй Раісы Жук-Грышкевіч, саматканыя паясы. Усяго перададзена шэсьць скрыняў матэрыялаў.

Падчас перадачы артэфактаў быў прэзэнтаваны чарговы выпуск альманаху „Запісы БІНіМ“, дзе, у тым ліку, расказваецца пра перададзеныя калекцыі. Да альманаху дадаецца дыск, на якім у электронным выглядзе можна знайсьці некаторыя матэрыялы.

БІНіМ гатовы й надалей перадаваць архіўныя дакумэнты й беларускія артэфакты на Бацькаўшчыну, патрэбна толькі знайсьці прыдатныя для гэтага шляхі.

Інфармацыю пра падзею гл.: http://nn.by/?c=ar&i=126344.

# ЗАСНАВАНЬНЕ ЦЭНТРУ КАМПЛЕКТАВАНЬНЯ Й ВЫВУЧЭНЬНЯ ДАКУМЭНТАЛЬНАЙ СПАДЧЫНЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

**16 чэрвеня 2014 г.** на базе Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва ў Менску была заснаваная навукова-творчая ініцыятыва ***„Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа“*** — архіўная кансультацыйная й дасьледная структура, прызначаная спрыяць выяўленьню, захаваньню, апісаньню, вывучэньню й папулярызацыі дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа

Стварэньне Цэнтру зьвязана зь неабходнасьцю сыстэматычнага зьбіраньня дакумэнтаў, друкаў, артэфактаў, што ствараліся й ствараюцца беларусамі па-за межамі мэтраполіі. Калі раней функцыі такога зьбіраньня ў пэўнай ступені выконвалі эміграцыйныя ўстановы на Захадзе, як, прыкладам, Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане або Цэнтар Ф. Скарыны ў Менску, дык цяпер, з пашырэньнем геаграфіі беларускіх дыяспараў, сыстэматычнага мэтанакіраванага зьбіраньня даробку замежных суайчыньнікаў не вядзецца. У выніку, каштоўная частка беларускай культурнай спадчыны губляецца для сучасных і будучых дасьледнікаў.

На працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў у БДАМЛМ ужо ішло паступовае зьбіраньне замежнай беларусікі. Свае архіўныя зборы сюды перадалі ведамыя дзеячы замежжа Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель. У красавіку 2014 г. у архіў была перададзеная вялікая калекцыя дакумэнтаў БІНіМу. Такім чынам, наваствораны Цэнтар мае добрую базу для сваёй дзейнасьці.

Асноўнымі задачамі Цэнтру зьяўляюцца:

1. Выяўленьне беларускіх дакумэнтаў у замежных архівах, музэях і бібліятэках, зборах арганізацыяў беларускага замежжа, а таксама прыватных асобаў.

2. Арганізацыя камплектаваньня й стварэньне архіўных фондаў беларускіх грамадзка-культурных арганізацыяў замежжа й дзечаў беларускіх дыяспараў у складзе Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва.

3. Навуковае апісаньне дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа ў межах Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва.

4. Садзейнічаньне захаваньню дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа.

5. Спрыяньне навуковаму вывучэньню дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа.

6. Папулярызацыя ведаў пра дзейнасьць беларускіх арганізацыяў за мяжой, выдатных асобаў беларускага паходжаньня ў беларускім грамадзтве.

Сёньня надзвычай важным ёсьць зьбіраньне дакумэнтаў і друкаў дзейных арганізацыяў і суполак, а таксама захаваньне архіваў дзеячаў далёкага і блізкага замежжа. Таму Цэнтар запрашае да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых асобаў і арганізацыі як за мяжой, гэтак і ў Беларусі, каб ня даць зьнікнуць багатай спадчыне беларускага замежжа.

Інфармацыю пра дзейнасьць цэнтру можна знайсьці на сайце архіву: http://bdamlm.by/centr-kamplektavannya-i-vyvuchennya-dakumentalnay-spadchyny-belaruskaga-zamezhzha.

У справе супрацоўніцтва ў пытаньнях, зьвязаных з захаваньнем і вывучэньнем замежнай беларусікі, можна зьвяртацца да дырэктара БДАМЛМ Ганны Запартыкі або да старшыні Цэнтру Натальлі Гардзіенкі.

Кантакты:
Адрас: Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва.
Менск, вул. Кірыла і Мяфодзія, 4.
Тэл.: +375 (17) 327-47-81, +375 (17) 327-11-88.
Факс: +375 (17) 327-25-00.
E-mail: bdamlim@tut.by або nhardzijenka@gmail.com.

# УДЗЯЧНАСЬЦЬ БІНІМУ — МОВАЗНАЎЦУ ЗЬМІТРУ САЎКУ

**2 жніўня 2014 г.** падчас прэзэнтацыі кнігі Васіля Стомы „Маё мястэчка“ ў вёсцы Лужкі Шаркаўшчынскага раёну Віцебскай вобласьці была абвешчаная „Удзячнасьць БІНіМу“ мовазнаўцу Зьмітру Саўку.

Створаны на пачатку 1950-х гадоў у Нью-Ёрку Беларускі інстытут навукі й мастацтва ад пачатку быў установай, што аб’ядноўвала беларускіх інтэлектуалаў на Захадзе. Пісьменьнікі, навукоўцы, мастакі, музыкі, што апынуліся на эміграцыі, мелі магчымасьць удзельнічаць у імпрэзах, выставах, канфэрэнцыях, ладжаных Інстытутам, друкавацца ў ягоных пэрыёдыках. Сёньня БІНіМ актыўна займаецца папулярызацыяй ведаў пра беларускую эміграцыю й падтрымоўвае дасьледнікаў і навукоўцаў, што дапамагаюць Інстытуту ў гэтай справе.

Так, у 2013 г. Удзячнасьць БІНіМу атрымаў гісторык Алесь Пашкевіч, а сёлета ўжо традыцыйная талерка з эмблемай Інстытуту ды невялікае грашовае ўзнагароджаньне было ўручанае прадстаўніцай БІНіМу гісторыкам Натальляй Гардзіенкай мовазнаўцу Зьмітру Саўку. Дасьледнік цягам апошніх трох гадоў рыхтаваў да выданьня ўспаміны эміграцыйных дзеячаў: Васіля Стомы „Маё мястэчка“ ды Яўхіма Кіпеля „Эпізоды“, што пабачылі сьвет у сэрыі „Беларуская мэмуарная бібліятэка“ выдавецтва „Лімарыус“. Ён жа падрыхтаваў для публікацыі не друкаваныя раней успаміны Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага), што таксама чакаюць выданьня.

# ПЕРАДАЧА АЎТОГРАФАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ І ЎЛАДЗІМЕРА ЖЫЛКІ ЗЬ БІНІМУ Ў БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЭЙ ЛІТАРАТУРЫ Й МАСТАЦТВА

**6 кастрычніка 2014 г.** у межах XII Архіўных чытаньняў адбылася перадача аўтографаў Янкі Купалы і Ўладзімера Жылкі зь Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва.

Прадстаўніца БІНіМу ў Беларусі кандыдат гістарычных навук і кіраўніца нядаўна створанага Цэнтру камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа Натальля Гардзіенка распавяла прысутным на чытаньнях гісторыю перадаваных рарытэтаў:

*„Вядома, што нямецкія акупацыйныя ўлады мэтаскіравана вывозілі каштоўныя калекцыі з розных краінаў. Зь Беларусі Апэратыўны штаб Розэнбэрга скіроўваў у Нямеччыну зборы Гістарычнага музэю ў Менску, архіўныя й бібліятэчныя скарбы. Вітаўт Кіпель згадваў: „Немцы рабавалі бібліятэкі, але на складох, дзе яны рыхтавалі кнігі да вывазу, дазвалялі мінакам „корпацца“. Прыкладам, у адным з корпусаў БДУ ў раёне Чырвонага касьцёлу быў такі склад, і людзі кнігі забіралі сабе“*[1]*. Пры канцы вайны нарабаванае было складзенае ў сховішчы ў польскім Рацібory, дзе цягам паўтара году працаваў Цэнтар вывучэньня бальшавізму. Больш за тры сотні ягоных супрацоўнікаў займаліся дасьледаваньнем прывезеных з розных краінаў збораў. Але акрамя штатных супрацоўнікаў, да разбору папераў, далейшы лёс якіх з увагі на ваенныя падзеі выглядаў цьмяна, немцы прыцягнулі працаўнікоў зь ліку уцекачоў. Так, сярод тых, хто ўдзельнічаў у „папяровых“ працах у Рацібory былі аўтар „Дзёньніка“ Дзьмітры Сямёнаў ды ягоны апякун Антон Шукелойць, а таксама Апалёнія й Зора Савёнкі. Вітаўт Кіпель згадваў: „У нейкім часе ўба-*

[1] Кіпель, Вітаўт. Горад чытае // Каханы горад. Мінск, 2006. С. 4.

*чыўшы ў тых купах Купалавы манускрыпты, як і некаторыя іншыя, нехта з тае групы беларускіх працаўнікоў вынес іх, і яны апынуліся ў сям'і Савёнкаў“*[2]*. Тыя каштоўныя аўтографы, разам зь сям'ёй Савёнкаў з паваеннай Нямеччыны пераехалі ў ЗША і пазьней апынуліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Частка на пачатку 1970-х праз біскупа Часлава Сіповіча была перададзеная на захаваньне ў Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Некаторыя ў 1988 г. Янка Запруднік перадаў у Дзяржаўны літаратурны музэй Янкі Купалы ў Менску. А рукапіс часткі паэмы „Безназоўнае“ застаўся ў БІНіМе і мусіў быць перададзены разам зь іншымі дакумэнтамі Інстытуту ў Нью-Ёрскую публічную бібліятэку. Аднак перакананьне, што беларускія каштоўнасьці мусяць захоўвацца ў Беларусі, перамагло, і гэты рукапіс з ініцыятывы Вітаўта Кіпеля й Лявона Юрэвіча цяпер вяртаецца на радзіму — у фонды Беларускага дзяржаўнага архіва-музэю літаратуры й мастацтва.*

*Куды б трапілі тыя рукапісы, калі б не былі ўратаваныя ўцекачамі-беларусамі, сказаць складана. Рацібор у 1945 г. быў захоплены Савецкім войскам, аднак далёка ня ўсё з тых дакумэнтаў вярнулася на радзіму. Некаторыя зборы, прыкладам, Смаленскі архіў, дзе былі й некаторыя беларускія матэрыялы, апынуўся ў Нацыянальным архіве ў Вашынгтоне*[3]*. А знойдзенае й вынесенае з тых сховішчаў беларусамі пры канцы вайны было, відавочна, ўратаванае, захаванае для беларускай культуры. Рукапісы выкарыстоўваліся для падрыхтоўкі выданьняў беларускіх пісьменьнікаў, што выходзілі на эміграцыі, або для публікацыяў у пэрыёдыках, як драма Каруся Каганца „Сын Даніла“, што была выдрукаваная Антонам Адамовічам у часопісе „Сакавік“ у паваеннай Нямеччыне.*

*Вядомы прыклад, калі ратаваць каштоўныя рукапісы даводзілася ня толькі ад немцаў, але й ад НКВД. Так было з аўтографам „Тэстамэнту“ Ўладзімера Жылкі, які быў перададзены Яўхіму Кіпелю незадоўга да сьмерці паэта ў высылцы. Праз гады пасяленьняў і вобшукі сям'я Кіпеляў здолела захаваць гэты дакумэнт і, вярнуўшыся ў часе вайны ў Менск, Яўхім Кіпель адразу зь цягніку ськіраваўся ў рэдакцыю „Беларускай газэты“, каб даць тэкст для публікацыі*[4]*. І далей аўтограф прайшоў разам са сваімі ратавальнікамі праз выпраба-*

[2] Юрэвіч, Лявон. БІНІМаўская Купаліяна // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 437.

[3] Юрэвіч, Лявон. Прадмова // Сямёнаў, Дз. Дзённік 1943—1947. Мінск, 2012. С. 11.

[4] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Мінск, 2013. С. 202.

*ваньні ў паваеннай Нямеччыне, калі галоўным клопатам быў пошук харчаваньня, і трапіў у ЗША, дзе таксама быў перададзены ў БІНіМ. Можна толькі схіліць галаву перад тымі людзьмі, што ў ліхія часы дбалі, каб уратаваць і захаваць ня ўласнае майно й каштоўнасьці, а гэткія рукапісы. Дзякуючы ахвярнасьці сям'і Кіпеляў мы сёньня маем і гэты дакумэнт вернутым на радзіму, у Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва.*

*Дзякуючы дзеячам эміграцыі былі ўратаваныя ня толькі аўтографы, але й некаторыя рэчы. Так, перадаецца ў БДАМЛМ і г. зв. „Купалавы нож“. Ён быў перададзены ў БІНіМ паэтам Міхасём Кавылём у якасьці ўдзячнасьці за выданьне збору ягоных твораў. У сваю чаргу паэт атрымаў той нож ад грамадзкага дзеяча Юрыя Сабалеўскага, які, апынуўшыся ў часе нямецкай акупацыі ў Менску, пайшоў на папялішча Купалавай хаты[5]. Там ён і знайшоў нож, пра які менскія інтэлігенты сказалі, што бачылі гэткі на стале Купалавага кабінэту. Больш за тое, нехта выказаў вэрсію, што менавіта гэтым нажом для паперы Купала спрабаваў зьдзейсьніць самагубства. Зразумела, што дакладна сказаць, ці гэта тойсамы нож, пакуль немагчыма. Але ёсьць і такая верагоднасьць. Трэба праца спэцыялістаў, каб высьвятліць праўду. Але каб было што дасьледаваць, трэба, каб яно было захавана. Разам зь Юрыем Сабалеўскім Купалавы нож апынуўся на Захадзе, а цяпер вяртаецца ў Беларусь“.*

Дырэктар БДАМЛМ Ганна Запартыка падзякавала БІНіМу за каштоўныя падарункі, а прысутны на чытаньнях Радзім Гарэцкі згадаў пра вялікую ролю Вітаўта Кіпеля й Янкі Запрудніка ў зьберажэньні каштоўных беларускіх архіваў на Захадзе.

Зразумела, гэта толькі невялікая частка беларускіх каштоўнасьцяў, што апынуліся ў часе вайны па-за межамі Беларусі разам з эмігрантамі й былі ўратаваныя дзякуючы ім. У створаны пры БДАМЛМ Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа перадаюцца й каштоўныя матэрыялы, зьвязаныя зь дзейнасьцю саміх эмігрантаў. Так, нядаўна былі атрыманыя дакумэнты Антона Адамовіча з даваеннага часу, артэфакты з жыцьця беларусаў у лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне (напрыклад, захаваныя пісьменьнікам Лявонам Савёнкам шахматы й карты зь лягераў *DP*) ды іншыя рарытэты. Усё гэта можна было ўбачыць на невялікай выставе, ладжанай адмыслова для Архіўных чытаньняў.

---

[5] Юрэвіч, Лявон. Людзкая памяць, архівы свае й чужыя ды Купалаў сьцізорык // Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 325—326.

